# галасы з-за небакраю

Міхась Скобла

АНТАЛОГІЯ

ПАЭЗІІ СВЕТУ

Ў БЕЛАРУСКІХ ПЕРАКЛАДАХ

XX

СТАГОДДЗЯ

# *небакраю*

Міхась Скобла

## АНТАЛОГІЯ ПАЭЗІІ СВЕТУ Ў БЕЛАРУСКІХ ПЕРАКЛАДАХ XX СТАГОДДЗЯ



Мінск «Лімарыус» 2008

УДК 821 (1-87)
ББК 84(0)
Г15

Навуковы рэдактар
кандыдат філалагічных навук Лявон Баршчэўскі

Г15 **Галасы з-за небакраю:** анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX ст. / склад. М. Скобла; уступны артыкул Е. Лявонавай, навук. рэд. Л. Баршчэўскі. — Мінск.: Лімарыус, 2008. — 896 с. [24]с.: іл.

ISBN 978-985-6740-83-4.

Анталогія «Галасы з-за небакраю» — унікальны культурніцкі праект у гісторыі айчыннага кнігавыдання. З «варштатам Скарыны» сустрэлася кніга, у якой 658 аўтараў, — пачынаючы ад легендарнага Гамера. Змешчаныя ў анталогіі шэдэўры сусветнай паэзіі цягам усяго XX стагоддзя з 57-ці моваў на беларускую пераклалі 198 перакладчыкаў.
Выданне прызначаецца для выкладчыкаў замежнай літаратуры і студэнтаў, а таксама для ўсіх аматараў прыгожага пісьменства. Кніга ілюстраваная рэдкімі архіўнымі фотаздымкамі і ўтрымлівае кароткія біяграфічныя звесткі пра ўсіх перакладчыкаў.

**УДК 821 (1-87)**
**ББК 84(0)**

ISBN 978-985-6740-83-4

# «АД МОВЫ ДА МОВЫ МАСЦІЛАСЯ КЛАДКА...»

*Адыходжу, застаючыся, —*
*як усё ў гэтым свеце.*
*Фернанда Песоа*

У незвычайны, найдзіўнейшы час мы жывём — на сумежжы не толькі стагоддзяў, але і тысячагоддзяў. Узгадайма сказанае ў Эклезіясце: «Усё мае свой час, і гадзіна кожнае дзеі — пад небам» (3:1); і калі так, то ці не сёння насамрэч і ў мастацтве «час збіраць камяні», падводзіць вынікі зробленага? Якраз з такой мэтай і стваралася анталогія сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах XX ст. «Галасы з-за небакраю». Анталогія гэтая аўтарская, над яе складаннем працаваў адзін чалавек, паэт Міхась Скобла, і яна, безумоўна, адлюстроўвае яго асабістыя мастакоўскія схільнасці, яго эстэтычны густ. Аднак наўрад ці ўзяўся б ён за такую справу, калі б, адчуваючы ўсю адказнасць, не імкнуўся даць максімальна поўнае ўяўленне пра прыналежных розным часам і розным народам паэтаў, чые імёны былі адкрыты беларускаму чытачу айчыннымі перакладчыкамі.

Такім чынам, гэтая кніга — і ўвасобленая ў мастацкай практыцы стогадовая гісторыя станаўлення і развіцця беларускага перакладу, і своеасаблівы, я сказала б, эмпірычны падручнік па сусветнай літаратуры ў дынаміцы яе эпохаў і мастацкіх метадаў, кірункаў і школаў, жанраў і стыляў, і, калі хочаце, свайго роду даведнік, праваднік па ўласна гісторыі свету, бо за канкрэтнымі літаратурнымі эпохамі, за творчасцю паэтаў яўна ці прыхавана паўстаюць і канкрэтныя гістарычныя падзеі — ад Траянскай вайны, што знайшла адлюстраванне ў гамераўскай «Іліядзе», да Другой сусветнай і пазнейшых, якія прыйшліся на мяжу XX—XXI стст. і ўпарта не жадаюць станавіцца мінуўшчынай. І не толькі войны — шматлікія іншыя падзеі, найвялікшыя дасягненні і незваротныя страты, узлёты думкі і духу, драмы падзення, зорныя імгненні чалавецтва і яго глабальныя катастрофы адбіліся на змесце твораў, апублікаваных у «Галасах з-за небакраю». Больш за тое, калі ўдумацца, гэтая кніга ёсць своеасаблівым гіперінтэркантэкстам для нашай беларускай літаратуры, у якім яна здаўна мусіла асвойвацца і які — поруч з нацыянальнай гісторыяй, нацыянальнай мастацкай традыцыяй — задаваў ёй шматстайныя тэмы для роздуму, спрыяў абнаўленню яе паэтыкі, паглыбленню філасофскай сутнасці. Нарэшце, гэтая анталогія ўяўляе з сябе незвычайную паэтычную карту свету, на якой знайшлі месца розныя кантыненты, розныя краіны — накрайсветныя і блізкія, вялікія і малыя. Праўда, апошнія два паняткі ў дадзеным выпадку даволі адносныя, бо, як заўважыў у свой час ангельскі пісьменнік Томас Карлайль, толькі тая краіна можа лічыцца малой, якая не мае вялікага паэта.

Цалкам відавочна, што беларускія перакладчыкі цягам XX ст. адгукаліся на самыя розныя мастацкія з'явы, праблемы і тэмы, выкарыстоўваючы самыя розныя паэтычныя віды, жанры і жанравыя формы. Лірыка грамадзянская, інтэлектуальна-філасофская, пейзажная пад іх пяром суседнічала з інтымна-камернай, сугестыўнай, медытацыйнай; рубаі, газель, танка, айрэн — з санетам, гімнам, элегіяй, одай, баладай, эпіграмай; традыцыйныя

формы верша, якія ў большасці сваёй узыходзяць да сярэднявечнай літаратуры, — са свабодным вершам, або верлібрам, што бярэ пачатак у еўрапейскай і амерыканскай паэзіі сярэдзіны XIX ст. Надзвычай яскрава, як, можа, рэдка калі, усведамляеш пераемнасць літаратурнага працэсу, цэласнасць мастацтва слова ад старажытнасці да сучаснасці, заканамернасць з'яўлення і глыбокі сэнс панятка «сусветная літаратура» (Weltliteratur), уведзенага ва ўжытак вялікім Гётэ.

Агульнавядома, што кожны від і кожны жанр паэзіі прадугледжваюць у многім сваю мастацкую мову, кожная нацыянальная літаратура, з паэзіяй улучна, мае свае традыцыі, свае абставіны развіцця, шмат у чым адрозныя ад уласцівых іншым літаратурам спосабы мастацкага засваення рэчаіснасці, але ж і кожны талент ёсць бясспрэчнай індывідуальнасцю, цэлым непаўторным светам. Невыпадкова расейскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Іосіф Бродскі, чые вершы чытач таксама знойдзе ў «Галасах з-за небакраю», у адным з эсэ пісаў: «Сапраўдныя біяграфіі паэтаў падобныя на птушыныя, амаль тоесныя: іх сапраўдныя факты ў гучанні голаса. Біяграфіі паэта — у яго галосных і зычных, у яго метрах, рыфмах і метафарах... У паэтаў выбар словаў гаворыць больш за сюжэт...» Дык вось, у анталогіі — шэсцьсот пяцьдзесят восем своеасаблівых біяграфій паэтаў, на пяцідзесяці сямі мовах свету іх галасамі да нас прамаўляе вечнасць, праз іх творы на нашых вачах і з нашым душэўна-духоўным удзелам адбываецца няспынны дыялог мастацтва з часам, папярэднікаў з наступнікамі, з намі сённяшнімі. А яшчэ і дыялог паэтаў паміж сабою, талентаў — з талентамі, мастакоў — з мастакамі, многія з якіх маглі б сказаць пра сябе словамі трынідадскага паэта і драматурга, нобелеўскага лаўрэата Дэрэка Уолката: «Ці я — ніхто, ці я — нацыя». Здзейснілі гэты дыялог, зрабілі яго мажлівым сто дзевяноста восем беларускіх паэтаў-перакладчыкаў.

Як мне — не перакладчыку і не тэарэтыку перакладу, а ўсяго толькі цягам трох дзесяцігоддзяў даследчыку, а пасля і выкладчыку сусветнай літаратуры — падаецца, менавіта ў XX ст. у нас асабліва востра стаяла пытанне: *што перакладаць*? І большую частку стагоддзя праблема адбору кнігі або асобнага твора для перакладу часцей вырашалася не перакладчыкам, а за перакладчыка; пры гэтым выпрабаванне вівісекцыяй нярэдка ўдавалася вытрымаць не так самаму лепшаму ў мастацкіх адносінах, як самаму лаяльнаму, «правільнаму», «прагрэсіўнаму». Савецкія перакладчыкі павінны былі кіравацца жорстка акрэсленымі метадалагічнымі ўстаноўкамі, марксісцкай гнасеалогіяй і ленінскай тэорыяй адлюстравання рэчаіснасці. Эстэтычны ўзровень арыгінальнага твора, яго мастацкія якасці непазбежна адсоўваліся на другі план, ад перакладчыка патрабаваліся не так культура, эрудыцыя, майстэрства, як уменне захаваць (а пры неабходнасці — узмацніць, а то і прыўнесці) сацыяльна-палітычны пафас. Гэтае патрабаванне магло мець сілу і ў сітуацыях з безумоўна таленавітымі творамі, пры перакладзе якіх стэрылізавалася мова, многае гублялі і змест, і форма. У выніку твор часта станавіўся малачытэльным, выклікаў адчуванне ўнутранага супраціву самога арыгінальнага матэрыялу свайму іншамоўнаму ўвасабленню.

Калі параўноўваць цяперашні дзень у перакладчыцкай справе, умоўна кажучы, з учарашнім, відавочным становіцца парадокс: магчымасцяў выдаваць пераклады раней было болей (узгадайма альманахі «Далягляды», «Братэрства», «Ветразь», серыі «Кніга перакладчыка», «Паэзія народаў свету», «Паэзія народаў СССР» ды інш.), магчымасцяў выявіць свой мастацкі густ, свае творчыя памкненні і індывідуальнасць — нашмат меней.

Не вітаўся зварот да творцаў са своеасаблівым, суб'ектыўным поглядам на чалавека і свет, схільных да дзёрзкага эксперыменту, да мастацкага іншадумства, бо апошняе атаясамлівалася з іншадумствам ідэалагічным, а то і

наўпрост з антыгуманізмам. Прыгадваю эпізод, што меў месца не так і даўно, у сярэдзіне 90-х гг. прамінулага ўжо стагоддзя. У Музеі Максіма Багдановіча адбывалася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская літаратура на паваротах гісторыі». Пятро Васючэнка расказваў пра жанрава-стылёвыя пошукі маладых беларускіх літаратараў, абумоўленыя ў пэўнай ступені і ўплывам іншанацыянальнага эстэтычнага досведу. І тут адзін з удзельнікаў канферэнцыі (доктар навук, праўда, не філалагічных, а філасофскіх) не ўстрымаўся: «Навошта нам той іншанацыянальны досвед, у нас сваё ёсць!» — «І што ж у нас ёсць гэткае сваё, што нам нічога ўжо болей не трэба?» — папытаўся дакладчык. «Гуманізм!» — безапеляцыйна прагучала ў адказ. Не ведаю, як самому П. Васючэнку, а мне гэтая гісторыя запомнілася сваёй паказальнасцю: чарговым разам і дастаткова агрэсіўна дала пра сябе знаць да болю знаёмая прэтэнзія на манаполію нават чалавечнасці, чалавекалюбства. Лічылася, што ўсялякі адыход ад зместавых і фармальных канонаў шкодзіць і мастацтву, і дзяржаве, і чытачу.

Самым непасрэдным чынам гэта адбілася і на перакладчыцкай практыцы. Адсюль — шматлікія лакуны ў перакладной літаратуры, датычныя і многіх асобных постацяў, і цэлых літаратурных кірункаў. Адсюль — пры ўсёй бязмежнай павазе да зробленага беларускімі перакладчыкамі (і не толькі таго, што трапіла ў гэтую кнігу, бо ніякая анталогія ў прынцыпе не можа змясціць вылучна ўсе высокамастацкія пераклады) — і шчыра сумнае: уражвае не толькі тое, колькі насуперак аб'ектыўным цяжкасцям перакладзена, але і тое, колькі не перакладзена, колькі значных, адметных мастакоў слова яшчэ чакаюць свайго беларускага лёсу. І з вельмі аддаленай па часе паэтычнай спадчыны, і з таго ж авангардызму, многае з якога грунтоўна ўкаранілася ў сусветную мастацкую традыцыю, даўно набыло статус класікі ды і на беларускую паэзію займела ўплыў.

Справядлівасці дзеля трэба, аднак, сказаць: у самыя змрочныя перыяды XX ст. тварылі (і было іх нямала) перакладчыкі, якія разам з пісьменнікамі спрыялі, калі казаць словамі аднаго іх расейскага калегі, «душэўнаму здароўю публікі пры блакаднай разумовай пайцы». Ці ўпісваліся ў якія нормы і схемы Райнэр Марыя Рыльке, Георг Тракль, Тэадар Крамер з іх невымернай роспаччу, з іх болем за духоўную запусцеласць і душэўнае жабрацтва «маўклівага чалавецтва»? Рытарычнае пытанне. Тым не менш і сярод беларусаў яны знайшлі сваіх удзячных чытачоў. Як і знакамітыя «праклятыя» — ад Франсуа Віёна да Шарля Бадлера, Поля Верлена (беларускае жыццё якога запачаткаваў М. Багдановіч), Арцюра Рэмбо, Оскара Уайльда і іншых. Нядаўна давялося пачуць аповед Алега Лойкі пра тое, як у 1967 г., пасля вяртання з Францыі, ён выйграў паядынак з мытнікамі аэрапорта «Шарамецьева», ахвяраваўшы стосікам «Фігаро» дзеля выратавання прыхаваных томікаў Верлена. У выніку на свет з'явілася жаданае дзіця — кніга адмысловых перакладаў «У месяцавым ззянні» А. Лойкі. Мусіць, нямала такіх гісторый, датычных у тым ліку пранікнення перакладаў у друк, маглі б распавесці і Ніл Гілевіч, і Рыгор Барадулін, і Васіль Сёмуха, і Сяргей Панізнік, і Лявон Баршчэўскі, і многія-многія іншыя. Але колькі яшчэ творцаў і твораў застаюцца для беларускага чытача за сямю пячаткамі...

Між тым пытанне, што перакладаць, заўсёды суправаджалася іншым: *як перакладаць*? Пытанне гэтае прадугледжвае два ўзаемазвязаныя аспекты — этычны і творчы. Невыпадкова амерыканскі практык і тэарэтык перакладу Дж. Леві назваў сваю вядомую працу «Пераклад — як працэс прыняцця рашэнняў».

Паводле аднаго з меркаванняў, абавязковай якасцю перакладчыка павінна быць асабістая сціпласць; не пра ўзурпацыю месца аўтара, не пра

спадужніцтва з ім павінен ён клапаціцца, а пра тое, каб дасягнуць гранічнай адэкватнасці, сродкамі сваёй мовы ўзнавіць уласцівыя арыгіналу змест, вобразнасць, рытміку. Бескампрамісным выразнікам такой пазіцыі быў Вісарыён Бялінскі: «У перакладзе з Гётэ мы хочам бачыць Гётэ, а не яго перакладчыка; калі б сам Пушкін узяўся перакладаць Гётэ, мы і ад яго патрабавалі б, каб ён паказаў нам Гётэ, а не сябе».

З часавай дыстанцыі, праз паўтара стагоддзя, вядомы расейскі перакладчык Яўген Віткоўскі іранізуе: для таго, каб «бачыць Гётэ, дастаткова было б вывучыць нямецкую мову і прачытаць арыгінал. Але нямецкай (ды і ўвогуле, здаецца, ніякай) Бялінскі не вывучыў і таму быў асабліва схільны даваць парады перакладчыкам». Гэта ўжо пазіцыя іншая; яна, праўда, не такая катэгарычная, як колішнія патрабаванні французскіх класіцыстаў выпраўляць арыгінал у адпаведнасці з новымі эстэтычнымі ўстаноўкамі. Такія меркаванні і пазней выказваліся неаднойчы: маўляў, пераклад у прынцыпе немагчымы, магчымая толькі замена арыгінала, бо каб адэкватна ўзнавіць на іншай мове паэзію Мацуа Басё або Дантэ Аліг'еры, трэба вакол яе ўзвесці адпаведна японскія горныя храмы XVII ст. і вулкі сярэднявечнай Фларэнцыі.

Васіль Сёмуха — дзякуй Богу, далёкі ад крайнасцяў — бачыць у перакладчыку не Пратэя з яго зменлівым абліччам, не пасярэдніка паміж аўтарам і яго іншамоўным чытачом, а найперш творчую індывідуальнасць: «Акторы — тыя ж перакладчыкі. Кожны з іх "перакладае" — іграе кожнага героя па-свойму... Актор выходзіць на першы план, і гэта цалкам нармальна. Я б хацеў, каб мяне пазнавалі ў маіх перакладах». Бясспрэчна, аднак, і тое, што ў Сёмухавых перакладах пазнаюцца і Гётэ, і Рыльке, і Крамер, і Райніс, і Візма Бэлшавіца... Думка В. Сёмухі ў чымсьці блізкая да меркавання мексіканскага паэта Актавіа Паса: «...кожны пераклад з'яўляецца ў пэўнай ступені выдумкай і ў гэтай якасці ёсць унікальным тэкстам».

Перакладчык, думаецца, заўсёды балансуе на мяжы самавыяўлення і самаабмежавання. Што да прыгажосці і дакладнасці, то ўсё ж, па-мойму, іх узаемасумяшчальнасць (хто не памятае вядомага параўнання перакладу з жанчынай: калі прыгожая, то няверная, калі верная, то непрыгожая) магчымая. Іншая справа, што спалучэнне гэтых якасцяў магчымае толькі ў тым выпадку, калі перакладчык — сам таленавіты паэт, незалежна ад таго, рэалізуе ён свой талент яшчэ і ў арыгінальнай творчасці ці цалкам ахвяруе яго на перастварэнне чужога. Інакш наўрад ці ўдасца яму пераклад, які будзе пакідаць уражанне сэнсавай невычарпальнасці, чароўна-магічнай пераканальнасці жывога слова, яго энергетыкі, а не бляклага адбітку, не пасмяротнай маскі, не імітацыі першакрыніцы, з якой вынішчана жывая душа. Пераклад, па словах вялікага яго знаўцы прафесара Вячаслава Рагойшы, «плод любові, а не разліку»; як і кожны іншы від літаратурнай дзейнасці, ён ёсць мастацтвам, неад'емнай часткай той літаратуры, на мове якой загучаў, і яго ўзровень — сведчанне здольнасцяў не толькі аўтара, але і перакладчыка, больш за тое, сталасці, гнуткасці, багацця мовы і яе магчымасцяў. Таму і ацэньвацца пераклад павінен паводле эстэтычных крытэраў.

У «Галасах з-за небакраю» знайшлі адлюстраванне розныя перакладчыцкія ракурсы. Адны перакладчыкі абыходзяцца з арыгіналам дастаткова вольна, «пераймаюць» або «спадкуюць» яго. Іншыя імкнуцца зрабіць тэкст больш ёмістым, свядома падсілкоўваюць яго пэўнымі кантэкставымі складнікамі, у чым арыгінал нібы і не мае патрэбы: чытач паэзіі на роднай мове дыхае імі, яны жывуць у яго генетычнай памяці, рассыпаныя, так бы мовіць, у паветры. Праблема ў тым, каб у перакладзе згарманізаваць тэкст з яго кантэкстам і, апроч таго, час аўтара — з часам перакладчыка, нацыянальнае для аўтара — з

беларускім, каб «беларускага» Верлена не пазбавіць французскага духу, «беларускага» Юсцінаса Марцінкявічуса — літоўскага, «беларускага» Іва Андрыча — сербскага...

Ва ўсялякім выпадку меў рацыю Карлас Шэрман, сцвярджаючы, што «пераклад паэзіі — гэта кампенсаторная сістэма, у структуры якой мы маем непазбежныя страты і таленавітыя знаходкі». І тое, і іншае абумоўлена асаблівасцямі і менталітэтаў, якія не могуць цалкам ідэнтыфікавацца, і, вядома ж, моваў, і светабачанняў аўтара і перакладчыка. «На тое і дадзены Панам Богам розныя мовы, каб кожны народ перакладаў сусветную ўсядумку па-свойму, каб раднейшай, сваейшай думка рабілася... — лічыць Рыгор Барадулін. — Пераклад з мовы на мову — справа творчая і вылучна індывідуальная... Асоба перакладчыка значыць шмат, калі не ўсё. Перакладчык — слуга і пан, патуранец і надзвычайны і паўнамоцны пасол сваёй мовы, спрычыннік глыбіннасці каранёў народа... Пераклад — зорная асалода і падзольная праца».

І тыя з перакладчыкаў, у каго больш інтэрпрэтавання, і тыя, хто карпатліва ўзнаўляе нюансы аўтарскай манеры, мусяць тварыць, у тым ліку — словатварыць. Тым больш, як пазбегнуць словатворчасці, лексічных, стылёвых, фанетычных эксперыментаў, калі для аўтара яны маюць прынцыповы характар, нярэдка з'яўляюцца сэнсаносьбітамі? Найперш гэта тычыцца паэтаў-авангардыстаў, у чыіх творах няма дакладна прапісаных ісцінаў, выразнага падзелу на дабро і зло. А мы ж гэтак доўга жылі ў эпоху «гатовага слова» і «гатовага сэнсу»...

Тут нельга абысці ўвагай Янку Юхнаўца. Мне і раней даводзілася пісаць пра тое, што арыгінальнасць яго мастацкага свету не ў апошнюю чаргу ўзнікае праз словатворчасць, якая часта набывае значэнне сэнсатворчасці. Гэтая якасць яго таленту выразна дае пра сябе знаць і ў перакладах. Складальнік анталогіі Міхась Скобла гаворыць пра Я. Юхнаўца як пра «самага словатворчага беларускага паэта, наступніка У. Дубоўкі і паслядоўніка В. Хлебнікава». Зазначу, што і сам Юхнавец займеў наступнікаў у беларускай паэзіі, да прыкладу Алеся Разанава, у перакладчыцкім набытку якога, дарэчы, і Хлебнікаў, а да апошняга звяртацца, не валодаючы майстэрствам словатворчасці, — справа безнадзейная. Што ж да Я. Юхнаўца, дык я ў свой час у часопісе «Крыніца» выказала меркаванне пра яго філасофска-эстэтычную блізкасць з ангельска-амерыканскімі паэтамі Эзрам Паўндам і Томасам Стэрнзам Эліятам. Пазней пачула, што гэтых паэтаў ён перакладаў; і вось, нарэшце, адбылося спатканне з яго Паўндам, здабытым М. Скоблам са старонак мюнхенскай газеты «Бацькаўшчына».

Трэба аддаць належнае Эдзі Агняцвет, якая многае пераклала з паэзіі безумоўнага авангардыста Гіёма Апалінэра. Няпроста перакладаць яго творы з іх алюзійнасцю, насычанасцю сюррэалісцкімі, ашаламляльна-нечаканымі метафарамі, з іх сімультаннасцю, нязвыклай рытмікай і незвычайным дынамізмам, сінтэзаваннем слова, музыкі, жывапісу. Як вядома, у працэсе падрыхтоўкі кнігі «Алкаголі» да друку паэт адмовіўся ад пунктуацыі, патлумачыўшы гэта тым, што «сам рытм і разбіўка вершаў паўзамі і ёсць сапраўднай пунктуацыяй», што самі словы нясуць у сабе не толькі сэнс, але і рытм і што, нарэшце, чытач мае права на ўласныя інтанацыі, на суаўтарства, сутворчасць. Відавочна, гэта якраз той выпадак, калі адсутнасць знакаў прыпынку гаворыць пра тое, што ў іншых выпадках знакамі прыпынку (і не толькі імі) акцэнтуецца. Свае правілы дыктуе перакладчыку і свабодны верш, якому аддаваў перавагу Г. Апалінэр (як і прадстаўленыя ў анталогіі Уолт Уітман, Вітэзслаў Незвал, Райнэр Марыя Рыльке, Леапольд Стаф, Поль Элюар, Томас Стэрнз Эліят і многія іншыя). Паводле знаўцаў французскага авангардызму, некаторыя пераклады Э. Агняцвет з Г. Апалінэра па эстэтычным узроўні пераўзыходзяць

іншыя славянскія перастварэнні яго паэзіі. Мусіць, Э. Агняцвет мела права і на такі эксперымент наадварот, як аднаўленне пунктуацыі ў вершах Апалінэра. Даволі дзіўным падаецца толькі тлумачэнне перакладчыцай такога кроку: «Але гэта неўласціва расейскай, беларускай і наогул славянскай паэзіі. У беларускім перакладзе неабходна было ставіць знакі прыпынку, уважліва прыслухоўвацца да інтанацый апалінэраўскага верша». Па-першае, узнікае пытанне: а французскай мове адсутнасць знакаў прыпынку ўласцівая? Затое яна ўласцівая паэзіі Апалінэра, ёсць у пэўным сэнсе яго фірмовым знакам, на яе, як і на іншыя элементы паэтыкі, ён ускладаў мастакоўскія спадзяванні. Па-другое, як паказала XX ст., сярод беларускіх і расейскіх (а не толькі заходніх) паэтаў знайшлося нямала тых, хто ў працяг апалінэраўскай традыцыі (ці безадносна да яе) таксама адмовіўся ад пунктуацыйнага афармлення сваіх твораў. Ды і ў гэтай анталогіі ёсць пераклады, у якіх згодна з аўтарскай воляй адсутнічае пунктуацыя (паэзія Вілема Завады, Луі Арагона, Ежы Плютовіча, Альда Севярыні, Паўля Цэлана, Норберта Гумэльта, Тадэвуша Ружэвіча і многіх іншых).

Анталогія месціць у сабе мноства паэтычных удачаў і нават шэдэўраў — як правіла, у выніку сустрэчаў значных аўтараў са значнымі асобамі беларускіх перакладчыкаў. Часам гэта сустрэчы мастакоў кангеніяльных, як, напрыклад, у выпадку з М. Багдановічам і П. Верленам:

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні, шэра-ружаваты...

Чытаеш гэтыя радкі (як і многае іншае ў анталогіі) і ловіш сябе на думцы, што не такой ужо і бясспрэчнай сентэнцыяй падзяліўся калісьці А. Твардоўскі: «Усё ж паэтычны арыгінал — свежы зялёны луг, з расою, кветкамі і травамі, а пераклад — у лепшым выпадку нарыхтаванае з гэтай травы сена». Дарэчы, ці не ў пацвярджэнне меркавання, што перакладаць паэтаў могуць толькі паэты, сярод беларускіх перакладчыкаў абсалютная большасць — менавіта яны, прычым многія — паэты з ласкі Божай.

Увагу перакладчыкаў прыцягвалі самыя розныя літаратурныя эпохі, што далі чалавецтву выдатных творцаў. Назаву толькі некаторых з іх. Антычнасць звяртаецца да нас паэзіяй вялікіх старажытных грэкаў (фрагменты з «Іліяды» і «Адысеі» Гамера, лірыка Сапфо, позneaнтычныя перайманні з Анакрэонта — «анакрэонтыка») і рымлянаў (Гарацый, Авідзій, Катул, Вергілій, Марцыял). Эпоха Адраджэння прамаўляе да нас творчасцю італьянцаў Дантэ Аліг'еры і Франчэска Петраркі, французаў Франсуа Віёна і П'ера дэ Рансара, партугальца Луіса дэ Камоэнса, іспанца Мігеля дэ Сервантэса, ангельца Уільяма Шэкспіра, паляка Яна Каханоўскага, лацінскай паэмай «Песня пра зубра» нараджэнца Беларусі Міколы Гусоўскага... XVII—XVIII стагоддзі, калі атрымалі развіццё такія магутныя мастацкія з'явы, як класіцызм, барока, Асветніцтва, паўстаюць са старонак твораў ангельскага паэта Джона Дона, іспанскага — Луіса дэ Гонгары, нямецкіх — Готхальда Эфраіма Лесінга, Ёгана Вольфганга Гётэ, Фрыдрыха Шылера, шатландскага — Роберта Бёрнса, польскага — Францішка Карпіньскага... (Мушу агаварыцца: жыццё шэрагу мастакоў слова прыпадае на скрыжаванні XVI—XVII або XVIII—XIX стст., і іх творчасць нярэдка мае пераходны, «рухомы» характар, не ўпісваецца ў пракруставую лажніцу адной эстэтычнай сістэмы. Зразумела, тое самае будзе мець месца і пазней.)

Досыць багатай і разнастайнай выглядае ў беларускіх перакладах сусветная паэзія рамантызму: вершы нямецкіх рамантыкаў Наваліса, Клеменса Брэнтана, Адэльберта Шаміса, Гайнрыха Гайнэ, Ёзэфа фон Айхендорфа, Людвіга Уланда, Фрыдрыха Гёльдэрліна, ангельскіх — Уільяма Блэйка, Джорджа Гордана Байрана, Персі Бішы Шэлі, Джона Кітса, французскіх — Альфрэда дэ Мюсэ,

Віктора Гюго, венгерскага — Шандара Пецёфі, фінска-шведскага — Ёхана Рунеберга, амерыканскага — Эдгара Алана По... Годна прадстаўлены ў анталогіі Адам Міцкевіч (вершы, фрагменты з паэм «Дзяды», «Конрад Валенрод», «Пан Тадэвуш»), змешчаны пераклады вершаў Юльюша Славацкага, Цыпрыяна Каміля Норвіда...

На сумежжы XIX—XX стст. у працяг эстэтычных запаветаў Тэафіля Гацье і Шарля Бадлера тварылі сімвалісты, імпрэсіяністы, эстэты (часта спалучаючы ў сваёй вобразна-стылёвай структуры элементы розных ці амаль усіх мастацкіх кірункаў) — французскія паэты Поль Верлен, Арцюр Рэмбо, Стэфан Малармэ, бельгійскія — Эміль Верхарн і Марыс Метэрлінк, ангельскі — Оскар Уайльд, аўстрыйскі — Райнэр Марыя Рыльке, расейскія — Інакенцій Аненскі, Андрэй Белы, Аляксандр Блок... Рэпрэзентаваны ў анталогіі і неарамантызм, да прыкладу — творчасцю ангельскага паэта Рад'ярда Кіплінга. Належнае месца ў кнізе адведзена, вядома, рэалістам.

Найбольш адлюстраванае ў анталогіі ўласна XX стагоддзе, асабліва паэзія народаў Савецкага Саюза і краінаў, якія яшчэ не так даўно называліся «краінамі народнай дэмакратыі». І не шукайце ў маіх словах іроніі: там было што перакладаць, і нямала перакладзена добра.

Трэба адзначыць, што «Галасы з-за небакраю» ў пэўным сэнсе дапаўняюць і працягваюць складзеную Міхасём Скоблам і выдадзеную ў 2003 г. паэтычную анталогію «Краса і сіла». Прыкладна траціна імёнаў беларускіх паэтаў фігуруюць у абедзвюх кнігах. У абедзвюх пад адною вокладкай сабраныя і творцы — прадстаўнікі метраполіі і паэты беларускай эміграцыі. Дарэчы, апошняя акалічнасць дазваляе закрануць праблему школы / школаў беларускага перакладу. Ці ёсць яна / яны — гэтае пытанне час ад часу ўзнімаецца і даследчыкамі, і самімі перакладчыкамі. На мой погляд, можна гаварыць пра дзве перакладчыцкія школы — у самой Беларусі і на эміграцыі. Усё ж перакладчыцкая дзейнасць паэтаў-эмігрантаў была бесцэнзурная і, у выніку, больш разняволеная — як адносна выбару творцаў і твораў для перакладу, так і адносна іх беларускага «прачытання».

Увогуле ж гаварыць пра школу беларускага перакладу можна досыць умоўна. У нас няма нават спецыялізаванага выдання, вакол якога перакладчыкі маглі б кансалідавацца, дзе малодшыя з іх маглі б браць урокі ў спрактыкаваных майстроў: што было — панішчана, часопіс кшталту расейскай «Иностранной литературы» ці ўкраінскага «Всесвіту» так і застаецца нязздзейсненай марай. Зрэшты, размова ж не пра ўстанову, а пра мастацтва, што, як і арыгінальная творчасць, усё роўна будзе з'явай індывідуальнай; галоўнае, каб былі перакладчыкі, якія ўжо самі па сабе — цэлыя школы. А яны былі і ёсць, цудоўныя мастакі слова, і гэта ці не адзінае сведчанне на карысць таго, што «на Беларусі Бог жыве». Той жа Язэп Семяжон пераклаў творы з літаратураў на трыццаці чатырох мовах свету. Дык ён — у школе ці ён сам — школа? І такіх працаўнікоў на ніве перакладу ў нас нямала.

Ёсць у анталогіі вершы асаблівыя — гэта паэтычныя тэксты са славутай працы Фрыдрыха Ніцшэ «Так сказаў Заратустра», праз якую аўтар, філосаф і лірык у адной асобе, меў намер «давесці нямецкую мову да дасканаласці», зрабіць у нямецкім мастацтве слова наступны крок пасля Лютэра і Гётэ («Песня чарадзея»), і з рамана нобелеўскага лаўрэата Германа Гесэ «Гульня шкляных перлаў» («Апошні майстар гульні шкляных перлаў», «Служэнне»). І філасофская паэма Ніцшэ, пад знакам уплыву якога адбывалася развіццё сусветнай літаратуры XX ст., і утопія Гесэ цалкам перакладзеныя на беларускую мову В. Сёмухам. Безумоўна, у кантэксце твораў іх паэтычныя ўлучэнні пранізаныя дадатковымі токамі, выконваюць найважнейшыя зместавыя і

кампазіцыйныя функцыі, але і пададзеныя аўтаномна, яны нясуць у сабе глыбокі этычна-філасофскі сэнс.

Айчыннымі і замежнымі тэарэтыкамі перакладу шмат сказана пра яго значэнне і функцыі — ад азнаямляльна-камунікацыйнай да мова- і культуратворчай. Пераклад рассоўвае духоўныя гарызонты, узбагачае наша светабачанне, праз несмяротнае агульналюдское ўзвышае і выхоўвае нашы душы, збліжае краіны і народы. Прыгожа і трапна напісаў пра гэта Рыгор Барадулін у своеасаблівым мастацкім маніфесце паэта-перакладчыка:

Ад мовы да мовы масцілася кладка,
Мяняліся прымаўкі, звычкі, апратка,
Але гаварыла душа з душою...

Пераклад актывізуе мастацкія пошукі айчынных пісьменнікаў; уявіць Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Уладзіміра Жылку, Уладзіміра Караткевіча ды многіх іншых беларускіх паэтаў без іх «суразмоўцаў»-еўрапейцаў, без іх сусветнага літаратурнага і культурнага атачэння — ад Бібліі і Гамера да сучасных аўтараў — папросту немагчыма. Нарэшце, я ўпэўненая: вартасныя пераклады высокамастацкіх твораў вымагаюць аб'ектыўнасці і ў ацэнцы ўласнага прыгожага пісьменства, не дазваляюць заніжаць планку яго мастацкасці. Але ў такой сваёй функцыянальна-эстэтычнай шматмернасці яны толькі тады выявяцца, калі на іх знойдзецца яшчэ і адпаведны чытач — тонкі, чулы, глыбакадумны. Чытач, які ўспрыме гэтую анталогію не толькі як кнігу-абагульненне, кнігу-вынік, але і як прадчуванне новых сустрэчаў з сусветнай паэзіяй, што будуць дзейсніцца ў беларускай культурнай прасторы і на беларускай мове.

*Ева ЛЯВОНАВА,*
*кандыдат філалагічных навук*

## КОСМАС ПАЭЗІІ

Пра тое, што чалавечая гаспода ў Сусвеце — планета Зямля — збеларушаная ад полюса да полюса, ад Антарктыды да мыса Горн, я даведаўся адносна нядаўна. У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі ўбачыў я глобус, усе тапонімы і гідронімы на якім былі напісаныя па-беларуску: Магеланава пратока, Новы Ёрк, Вільня... «Адзіны ў свеце беларускі глобус», — з гонарам за свой музей пахваліўся мне яго заснавальнік і дырэктар Алесь Белакоз.

І сапраўды — мы аглядалі рарытэт, выраблены саветамі ў 1939 г., перад іх паходам у Заходнюю Беларусь. З трох тысячаў падобных глобусаў (такі наклад) застаўся адзін. І вось нонсэнс: за часы незалежнасці Рэспубліка Беларусь актыўна пашырыла сваю прысутнасць у свеце, заснавала ў розных краінах дзесяткі амбасадаў, стала сябрам розных міжнародных арганізацый, а вось беларускіх глобусаў у школах так і не з'явілася. У выніку школьны прадмет геаграфія апынаецца пад вялікім сумневам. Бо калі вучань не чуе, як *гучыць* свет па-беларуску, калі ён не ўспрымае гэты свет з *беларусацэнтрысцкіх* пазіцый, то грош цана такой школе, і наўрад ці яна зможа забяспечыць будучыню краіны. Але даволі нараканняў, ёсць як мінімум два выйсці: альбо вазіць дзяцей з усёй Беларусі ў Гудзевічы, альбо растыражаваць нарэшце музейны экспанат, каб вучні *чыталі* сваю планету на роднай мове. Бо сусветная тапаніміка нагадвае барочную паэму, якую павінен прачытаць кожны адукаваны чалавек.

Запеўка пра гудзевіцкі глобус апынулася тут невыпадкова, і ў музеі мы яшчэ трохі затрымаемся. У суседняй залі на сценах вісяць унікальныя падвойныя дываны — цуд беларускага народнага ткацтва. Падвойныя, бо асновы ў іх дзве, адрозніваюцца колерамі, а ўзоры на іх — з абодвух бакоў арыгінальныя, вытканыя паводле адмысловай ткацкай тэхналогіі. Вось жа і паэтычны пераклад нагадвае мне падвойны дыван, павярні яго любым бокам і ўбачыш твор мастацтва — яркі, каларытны і натхнёна-непаўторны, бо ж *тчэ, забыўшыся, рука...* А ўсе развагі пра пераклад як гербарый ці пацалунак праз шыбу пакінем для іншых анталогій. «Галасы з-за небакраю» складаліся без аглядкі на іх.

Не маю за мэту ў сціслай прадмове паказаць гісторыю беларускага перакладу. Дзеля таго нехта напіша кнігу, роўную аб'ёмам нашай анталогіі (спадзяюся, яна дапаможа будучаму даследчыку ў ягонай нялёгкай працы). Але пункцірна пазначыць шлях айчыннага перакладу паспрабую.

Пачаўся гэты шлях у жніўні—верасні 1517 г. у Празе, калі Францішак Скарына з трапятаннем сэрца ўзяў у рукі свежавыдрукаваную кнігу, на вокладцы якой было пазначана: «Книга светого Иова починается, еже словеть Иов, зуполне выложена доктором Франциском Скориною с Полоцка». Такім чынам, гісторыя беларускага перакладу налічвае без малога паўтысячы гадоў, а першым айчынным перакладчыкам з'яўляецца «доктор Скоринич Францискус», як часам падпісваўся вялікі палачанін. Перакладам Бібліі запачаткаваўся беларускі пераклад як жанр, і ўжо адно гэта да многага абавязвала наступныя пакаленні перакладчыкаў. Толькі, на жаль, чакаць на іх давядзецца доўга —

так ужо распарадзілася матухна-гісторыя. Часцей потым даводзілася не беларусам перакладаць замежнікаў, а саміх беларусаў перакладаць на беларускую мову — у нашай анталогіі вы знойдзеце таму безліч прыкладаў, ад славутай «Carmen de bisontis» Міколы Гусоўскага пачынаючы.

Дарэчы, складальнік доўга вагаўся: што рабіць з тым жа Гусоўскім, з Адамам Міцкевічам, з Янам Чачотам, з іншымі прадстаўнікамі «філаматска-філарэцкага» пакалення, з Уладзіславам Сыракомлем урэшце? Бо калі першыя два, будучы беларусамі з паходжання, пісалі — першы на лаціне, а другі па-польску, то астатнія тварылі і па-беларуску, а значыць, улучаць іх у «замежную» анталогію як бы не выпадала. Але той жа Чачот найлепшыя творы напісаў па-польску, а беларускія засноўваў пераважна на народных песнях «з над-Нёмна і Дзвіны». І калі ягоны беларускамоўны верш «На прыезд Адама Міцкевіча» заслужана друкуецца ў хрэстаматыях па беларускай літаратуры, то чаму ягоныя ж напісаныя па-польску «Спевы пра даўніх ліцвінаў» у добрых перакладах Кастуся Цвіркі не вартыя нашай анталогіі? Абмінуўшы іх, мы самі сябе збяднілі б. Дык навошта займацца тым, чым падступна займаюцца нашы незычліўцы (а яны на «беларускім бітым шляху» не-не ды і сустракаюцца)?

Шмат у чым лёсавызначальнае для Беларусі XIX стагоддзе не было спрыяльным для засвойвання іншамоўных тэкстаў. Прычыны агульнавядомыя. Тагачасныя пераклады можна пералічыць літаральна на пальцах абедзвюх рук: санеты А. Міцкевіча ў перакладах А. Ельскага, «Пан Тадэвуш» таго ж аўтара, пераствораны В. Дуніным-Марцінкевічам, пераклады з нямецкай і французскай класікі А. Абуховіча-Бандынэлі, з расейскай і ўкраінскай — А. Гурыновіча, пераклады Ф. Багушэвіча, які вывучаў лаціну, ведаў нямецкую, французскую, а ў адным з лістоў да паэта Яна Врхліцкага шчыра прызнаваўся: «Люблю чэхаў»... Да таго ж бальшыня тагачасных тэкстаў, як арыгінальных, так і перакладных, даўно і безнадзейна згубленыя. Якасны і колькасны зрух у нашай перакладной літаратуры адбыўся толькі ў першай чвэрці XX ст. Гэта і не дзіўна, бо, як трапна зазначыў латышскі пісьменнік Талрыд Руліс, «перакладчык — расліна шматгадовая». А дастасоўна да беларускіх умоваў — яшчэ і непераборлівая, як кактус. Бо ў заходне-ўсходнім міжагнёўі, без пажыўной вільгаці культуры нялёгка было ўзгадаваць і ўласную кветку, не тое што перасадзіць на родны палетак чужую.

Амаль усе паэты — аўтары «Нашай Нівы» — перакладалі. І тут вылучная роля належыць Максіму Багдановічу, які з далёкага Яраслаўля слаў у Вільню пераклады з антычнай і французскай класікі (не яго віна, што часам пераклады тыя губляліся ў рэдакцыйным кошыку). Астатнія перакладалі пераважна з блізкамоўных літаратур — з таго ж Міцкевіча, з Марыі Канапніцкай, з Тараса Шаўчэнкі; Янка Купала дабраўся, праўда, да паэзіі Германа Гесэ. Нават Максім Гарэцкі, які ніколі не пісаў вершаў (што праўда, шанаваў лірычную прозу), і той апублікаваў у газеце «Беларусь» «Спробу перарробак і вольных перакладаў песеннага матэрыялу для пяяння яго па-беларуску». Але ён займаўся, хутчэй, харавым рэпертуарам, а не ўласна паэзіяй.

У 1920-я гг. разам з росквітам усёй айчыннай літаратуры перажывае рэнесанс і жанр перакладу. У рэдкалегіі беларускіх часопісаў уваходзяць заходнееўрапейскія пісьменнікі, узвышаўцы запрашаюць на свае літаратурныя вечарыны творцаў ажно з Японіі. З'яўляюцца таленавітыя перакладчыкі-прафесійнікі. У 1928 г. выходзіць у свет першая айчынная перакладная анталогія — «Кветкі з чужых палёў» Юркі Гаўрука. Упершыню беларускі чытач меў магчымасць чытаць заходнееўрапейскую паэзію не прыхапкам у перыёдыцы, а ў густоўным падборы і нядрэнных перакладах — у анталогію патрапілі Байран, Бадлер, Гайнэ, Петрарка, Шылер, Лангфэла, Шэлі...

Праўда, пазней перакладчык палічыў патрэбным па-новаму адрэдагаваць асобныя пераклады, а некаторыя (прыкладам, вершы Шэлі) перапісаць нанава. Поплеч з Гаўруком працуе выпускнік маскоўскага Брусаўскага інстытута Уладзімір Дубоўка, які да перакладу ставіўся надзвычай патрабавальна — вывучыў ангельскую, практыкаваўся ў літоўскай, цікавіўся ўсходнімі мовамі. Да сваіх перакладаў на старонках «Узвышша» дадаваў падрабязныя каментары, у якіх тлумачыў малаўцямныя для беларускага чытача словы і з'явы.

Увогуле, прыканцы 1920 — на пачатку 1930-х гг. беларускі чытач не мог скардзіцца на недахоп замежных літаратурных навінак. Паводле статыстыкі, 1931 год стаўся ці не рэкордным у айчыннай перакладной практыцы — беларускія выдавецтвы выпусцілі ў свет 124 перакладныя кнігі: амаль столькі ж, колькі і арыгінальных. Іншая рэч, што тагачасным перакладам нярэдка бракавала якасці. Пры ўсім жаданні выбраць што-небудзь для нашай анталогіі з «беларускага» Антала Гідаша ўзору 1933 г. аказалася немагчымым. А праз год-два любая сувязь з замежжам (у тым ліку і пераклады) магла каштаваць перакладчыку свабоды, а то і жыцця. Дазвалялася перакладаць творы ідэалагічна беззаганныя, накшталт пісьма грузінскага народа вялікаму Сталіну (у 1936-м ішло на дзве паласы ў «Звяздзе»). Дарэчы, паэтычнае віншаванне ад беларускага народа таму ж адрасату таксама перакладалася, зразумела ж, на расейскую мову. Прычым хацелі спачатку паслаць па-беларуску, але ў апошні момант самыя пільныя таварышы спахапіліся: *ад беларускага народа* — як гэта будзе зразумета па-расейску?! З-за аднаго прыназоўніка пераклалі ўвесь шматстаронкавы твор, каб толькі «бацька народаў» не западозрыў, крый Божа, у нелаяльнасці два мільёны беларускіх працоўных (столькі пад лістом значылася падпісчыкаў).

Пераклад у жахотныя трыццатыя быў не толькі літаратурным жанрам, ён стаўся адзіна магчымым спосабам выказацца на табуяваныя ўладай, то і крамольныя тэмы. Чужымі словамі можна было агучыць уласныя думкі. Думаецца, невыпадкова ў 1937-м Янка Купала бярэцца за пераклад пушкінскага «Меднага конніка» — прыхаванай апалагетыкі дзяржаўнага аўтарытарызму. Начныя ўцёкі «беднага Яўгена» ад Меднага конніка наводзілі чытача на роздум пра рэаліі савецкага жыцця, хоць «чорны воран», у адрозненне ад пятроўскага каня, ездзіў без лішняга шуму. Купала, па натуры сваёй паэтычнай няздольны пісаць панегірыкі правадыру (уся ягоная сталінская гімнаграфія пра гэта сведчыць), у хвіліны смуты душэўнай сядаў і скрушліва ўздыхаў над радкамі Тараса Шаўчэнкі:

Свет мой ясны! Свет спакойны!
Не апужаны, свет вольны!
За што ж цябе, свет мой браце,
Ў сваёй добрай цёплай хаце
Закулі, абмуравалі...

Зрэшты, і оды Сталіну, бывала, прачытваліся неадназначна. У 1939-м у «ЛіМе» за подпісамі Я. Коласа, К. Крапівы, А. Куляшова, М. Клімковіча і Э. Агняцвет была надрукаваная паэма з гэткімі запеўнымі радкамі: «Ты нам растлумачыў законы галечы, дзікунства і гвалту, мы шлем ім праклён...». За такія «растлумачэнні» можна было лёгка трапіць на лесапавал і, падперазаўшыся пілой, гадоў дзесяць блукаць па неабсяжных таежных прасторах «родины чудесной». Многія і блукалі. Прычым часам даходзіла да кур'ёзаў. Юрку Гаўрука арыштавалі ў 1935-м, у тым жа годзе выйшла друкам перакладзеная ім «Трагічная гісторыя пра Гамлета, прынца Дацкага». Пасля таго як прозвішча перакладчыка з кнігі тэрмінова прыбралі, атрымалася, што Шэкспір пісаў адразу па-беларуску.

Не лепшым чынам ішлі справы і ў Заходняй Беларусі. Польскі рэжым меў свае гулагі. І хоць Бяроза-Картузская маштабам не магла дараўняцца да якога-небудзь Бамлага, яе вязням жылося не лягчэй. Амаль усе заходнебеларускія пісьменнікі прайшлі праз турмы. Пятро Бітэль, шчасліва абмінуўшы вязніцу польскую, у савецкую-такі трапіў, а там цішком, хаваючыся ад наглядчыкаў, пераклаў «Пана Тадэвуша». А калі Браніслава Тарашкевіча на судзе польскі пракурор назваў барбарам, адвакат запярэчыў: ці ж можна называць барбарам чалавека, які пераклаў на мову свайго народа Гамера і Міцкевіча?

Паваенная «жалезная заслона» амаль наглуха адгарадзіла беларускую літаратуру ад сусветнай. «Пятнаццаць рэспублік, пятнаццаць сясцёр» жвава абменьваліся пісьменніцкімі дэлегацыямі, непарушная дружба народаў спараджала гэткую самую непарушную дружбу літаратур, якая ў сваю чаргу яшчэ ў 1930-я гады вывела на свет белы новую пароду паэтаў-джамбулаў. («Джамбуле, баяне, шчаслівы акын сягонняшніх Сталінскіх цудаў, былін», — дасылаў вершаванае прывітанне акыну казахскаму акын беларускі.) Джамбулы завяліся ў кожнай рэспубліцы, спявалі па адных нотах, хіба што музычны інструмент у руках змяняўся ў залежнасці ад нацыянальнай прыналежнасці песняра.

І тут не выпадае забыцца на тых творцаў, якія з розных прычынаў падчас Другой сусветнай вайны пакінулі Беларусь. Часова асеўшы ў лагерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне і Аўстрыі, яны не гублялі дарэмна часу, вывучалі мовы, актыўна кантактавалі з замежнымі паэтамі. Уладзімір Клішэвіч перакладаў Шылера і Метэрлінка, Масей Сяднёў пачаў сур'ёзна цікавіцца Гайнэ і Мёрыке, пасябраваў з украінскімі калегамі. Зрэшты, дамо слова яму самому: «Рэгенсбург. Лагер для перамешчаных асобаў (ДП-лагер). Антон Адамовіч просіць мяне пачытаць новыя вершы на сустрэчы з адным вялікім украінскім паэтам, які цікавіцца беларускай паэзіяй. “Глядзі не падкачай”. Пытаюся, хто ён такі? “Скажу, дык ты яшчэ спужаешся”. Знаёмства адбылося — Яўген Маланюк просіць чытаць. Я сыпаў і сыпаў, задаволены, што госць слухае ўважліва... Потым я пазнаёміўся з Ярам Славутычам, Леанідам Палтавай, пачалося беларуска-ўкраінскае супрацоўніцтва ў галіне перакладніцтва».

Дадамо ад сябе, што Яр Славутыч тады працаваў над беларускай анталогіяй. Пройдзе час, і беларусы не застануцца ў даўгу — у Эдмантане (Канада) убачыць свет выбранае ўкраінскага паэта ў перакладах і з прадмовай М. Сяднёва. І гэта толькі адна старонка літаратурнага жыцця на чужыне.

Два паваенныя дзесяцігоддзі амаль не пакінулі следу ў нашай анталогіі. Паэты-перакладчыкі, вярнуўшыся хто з фронту, хто з калымскіх лесапавалаў, вымушаныя былі зважаць на цэнзуру, а часцей — на ўнутранага рэдактара, звыкла асцерагаючыся публічна дэманстраваць сваё іншадумства. Але радкамі якога-небудзь усходняга класіка можна было выказаць набалелае. Як тое і зрабіў Уладзімір Дубоўка ў пераствараннях з Ду Фу:

Жуду слабейшым тыгр прыносіць люты,
але і ён трапляе ўсё ж ткі ў клямар:

закручаны ўжо лапы ў моцных путах —
ён марна ушчынае грозны лямант.

Пад ногі ляжа шкура нежывая,
шкляныя вочы не пабачаць свету.

З людзьмі, дарэчы, горшае бывае:
няхай тыраны ведаюць пра гэта!

Напішы пра тыранаў сам Дубоўка, цэнзура не прапусціла б, а «бажавольнаму п'янтосу» Ду Фу падобнае дазвалялася. Увогуле, за савецкім часам існаваў пэўны культ усходняй паэзіі — з-за яе ўяўнай бяскрыўднасці. І таму сярэднявечных Нізамі ці Наваі чытачы ведалі лепш, чым сучаснікаў-набілянтаў — іспанца Хіменэса ці француза Сэн-Жона Пэрса. «Ах, усходнія пераклады, як баліць ад вас галава!» — публічна прызнаваўся расейскі паэт Арсеній Таркоўскі. Выкажам спадзяванне, што светлай паэтавай галаве лягчэла, калі ён сядаў за пераклады з нашых Ф. Багушэвіча ды У. Хадыкі (а зрабіў ён іх бліскуча).

Новы якасны зрух у мастацтве перакладу азначыўся ў 1970-я гады, калі з'явіліся спецыялізаваныя выданні, што заўважна стымулявала працу перакладчыкаў. Выдавецтва «Беларусь» у 1971 г. запачаткавала дзве паэтычныя серыі — «Паэзія народаў свету» і «Паэзія народаў СССР». Штогод чытач атрымліваў зграбныя томікі замежнай класікі, і гэта было як прыток свежага паветра ў наглуха зачыненую хату з закітаванымі вокнамі. З абсягаў свету па-беларуску загаварылі Г. Апалінэр і П. Верлен, П. Элюар і Ф. Г. Лорка, Ш. Пецёфі і П. Нэруда, Р. М. Рыльке і Н. Гільен, В. Незвал і С. Вальеха, В. Шымборска і Л. Стаф, Г. Містраль і Н. Ленаў... У другую серыю, на жаль, трапіла нямала паэтычнай пацярухі, але і тут чытача чакалі сустрэчы з паэзіяй В. Бэлшавіцы, І. Драча, С. Нярыс, Ю. Марцінкявічуса, А. Вазнясенскага...

У 1975 г. аматары замежнага прыгожага пісьменства атрымалі яшчэ адзін падарунак — убачыў свет першы выпуск штогадовіка «Далягляды». У прадмове вызначалася галоўная мэта выдання: «знаёміць грамадскасць рэспублікі з лепшымі творамі літаратур братніх савецкіх народаў, краінаў сацыялістычнай садружнасці і прагрэсіўных пісьменнікаў свету». Невядома, паводле якіх крытэраў рэдкалегія правярала пісьменнікаў на «прагрэсіўнасць», але «Далягляды» выглядалі даволі ліберальным выданнем, на старонках якога яшчэ задоўга да галоснасці побач з вершамі прэзідэнта сацыялістычнай Анголы Агасціньё Нэта знайшлося месца творам і Ф. Кафкі, і Т. С. Эліята, і Г. Г. Маркеса, і нават сакратаркі Пілсудскага Казіміры Ілаковіч.

З 1982-га пачаў выходзіць альманах «Братэрства», закліканы мацаваць і так непарушную дружбу савецкіх народаў. На яго старонках поруч з рыфмаванкамі старшыні Вярхоўнага Савета Чачэна-Інгушскай АССР Раісы Ахматавай суседнічала і другая Ахматава, Ганна, і ўжо адна яе прысутнасць дысцыплінавала і магнетызавала «братэрскую» паэтычную прастору.

Друкаваныя на старонках прыгаданых і іншых перыядычных выданняў творы з цягам часу назапашваліся. Адна за адной пачалі з'яўляцца розныя паводле якасці ды аб'ёму перакладныя анталогіі, складальнікі якіх у меру сваіх сілаў стараліся панарамна паказаць паэзію таго ці іншага народа. Думаецца, тут дарэчы будзе назваць некаторыя з кніг. Такім чынам, па-беларуску выйшлі: «Сучасная польская паэзія» (1955), «Пярэднія выйшлі ў заўтра: З нямецкай паэзіі» (1968), «Там, дзе Шпрэвя шуміць: Паэзія лужыцкіх сербаў» (1969), «Ад вежаў Ферары: З сучаснай італьянскай паэзіі» (1974), «Украінская савецкая паэзія» (1975), «Татры пяюць: Вершы сучасных славацкіх паэтаў» (1976), «Літоўская савецкая паэзія» (1977), «Сучасная венгерская паэзія» (1977), «Высокае неба: З чэшскай паэзіі» (1980), «Латышская савецкая паэзія» (1984), «Тытунёвая кветка: Анталогія сучаснай кубінскай паэзіі» (1986), «Гняздоўе вятроў: Эстонская паэзія» (1986), «Анталогія грузінскай паэзіі» (1989), «Сербская паэзія» (1989), «Славацкая паэзія» (1990), «Анталогія малдаўскай паэзіі» (2003)... Некаторыя з пералічаных анталогій, як грузінская, латышская ці польская, уяўлялі з сябе дыхтоўныя двухтомавікі, некаторыя выходзілі двойчы і болей — як украінская, літоўская ці малдаўская.

Асобна варта згадаць аўтарскія анталогіі: «Ад стром балканскіх» (1965), «Хай зорыць дзень» (1973), «Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень» (1978; усе — балгарскія) Ніла Гілевіча, яго ж югаслаўскую анталогію «Па камянях, як па зорках» (1981) і славенскую — «Маці мая, Славенія» (1976); кашубскую «За далягладам край Сталемаў» (1980) ды ўкраінскую «Імем няўмольным Свабоды» (2003) Алеся Траяноўскага; французскую «Багаславі сустрэчу мне: Выбраная лірыка Плеяды» Ніны Мацяш (2002); двухтомавік «Сучасная польская паэзія» (2004), дзе прадстаўлена 180 паэтаў у перакладах Алега Лойкі; яго ж анталогію нямецкай класічнай паэзіі XIX ст. «Маланкай жагнаныя» (2004), зборнік нямецкіх рамантыкаў «Закаханы вандроўнік» Уладзіміра Папковіча (1989)... Як бачым, сусветны Парнас за нейкія тры дзесяткі гадоў быў няблага-такі збеларушаны.

Перакладалі беларусы — перакладалі і беларусаў. Вера Рыч (між іншым, аўтарка «Галасоў з-за небакраю») зрабіла і выдала ў Лондане дзве анталогіі беларускай паэзіі па-ангельску. Доктар Будана Хінгамірэ ў Дарвадзе (Індыя) выдаў анталогію нашай паэзіі для індыйскага чытача. Неаднаразова беларуская паэзія ў выглядзе анталогій выдавалася ва Украіне, Польшчы ды Расеі. Зрэшты, тут складальнік не валодае дакладнай статыстыкай, ды і тэма гэтая ў «Галасах з-за небакраю» можа разглядацца хіба як кантэкстастваральная.

Паэтычны пераклад дапамагае зазірнуць у іншыя эпохі, падлучыць беларускую літаратуру да сілавога поля сусветнай культуры. Часам пераклады аднаго і таго твора дапаўняюць і працягваюць адзін аднаго, як цыбравіны ў калодзежы — чым далей, тым глыбей, тым вада смачней. Зайздросна — напіцца з першакрыніцаў, але не кожнаму дадзена. А таму трэба заўдзячыць тым, хто глыток падняў з глыбіняў і паднёс у кубку да нашых вуснаў. Чытаючы славутую «Вандроўнікаву начную песню» Гётэ (упершыню напісаную, дарэчы, на дзвярах паляўнічай хаткі) у інтэрпрэтацыі нашага сучасніка Алеся Каско, мы міжволі згадваем лермантаўскія «Горные вершины...». Але ж і гётэўскі «першатэкст» «Wanderers Nachtlied» — своеасаблівы пераклад са старажытнагрэцкага паэта Алкмана! Такім чынам беларускае XX стагоддзе «начной песняй» перагукваецца з расейскім XIX, а тое ў сваю чаргу з нямецкім XVIII, а тое — ажно з грэцкім XII ст. да Нараджэння Хрыстовага!

Альбо другі прыклад. Ніна Мацяш разам з іншымі творамі паэтаў французскай Плеяды бліскуча пераклала і верш П'ера дэ Рансара (1524—1585):

Ніко, Прырода ўзброіць кожнага змагла:
Быка — рагамі, дужакрыласцю — арла,
Каня — ягонымі цяжкімі капытамі,
А зайца — шпаркасцю, а рыбу — плаўнікамі,
Змяі дастаўся зуб з атрутай унутры,
І льву Яна дала і пашчу, й кіпцюры,
Мужчыну мудраю развагай надзяліла,
А больш развагі не знайшлося, не хапіла,
Каб і жанчыне даць, як меч, як дзіду, — й вось
Тады ўручыла ёй Прырода прыгажосць.
І мы палоннікі красы жаночай сталі:
Яна мацней людзей, багоў, агню і сталі.

Але ж гэта Анакрэонт — данашаэрнае VI стагоддзе! Такім чынам ланцужок Мацяш — Рансар — Анакрэонт, як нітка Арыядны, вядзе нас у далёкія краіны і эпохі. Рансар з Мацяш аздобілі-аперылі радкі рыфмай (Анакрэонт пра яе і ведаць не ведаў) — і верш праз стагоддзі даляцеў да нас.

Гісторыя цягам стагоддзяў не была літасцівай да беларусаў. Дамоклавы мячы паланізацыі ды русіфікацыі неаднойчы скрыжоўваліся ў беларускім небе. У часы Рэчы Паспалітай над нашай мовай глуміліся паланізатары, у часы Расейскай і савецкай імперый — русіфікатары. Мове, не раўнуючы як міралюбнай чарапасе, увесьчасна патрабаваўся ахоўны панцыр. Надзейным панцырам спрадвеку былі фальклор і памяць народная, якія збераглі мову нават тады, калі яе абвясцілі па-за законам. Высакародных і смелых людзей, якія прыносілі беларускія кнігі з-за мяжы, затрымлівалі на кардоне, як злачынцаў (пра тое цудоўнае апавяданне У. Караткевіча «Кнiганошы»). Ахоўным панцырам для мовы стала ў XIX ст. новая беларуская літаратура. Ад часу з'яўлення «Тараса на Парнасе» ўвідочнілася, што мова, на якой напісаны гэты шэдэўр, не знікне. З таго часу на самую пачэсную варту, на айчынны пост № 1 пры нацыянальным скарбе — мове — сталі не дзяржаўныя палітыкі (іх яшчэ не было), а пісьменнікі В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А. Абуховіч, Я. Лучына, А. Гурыновіч, Цётка, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч... І бясспрэчную рацыю меў вялікі польскі паэт Каміль Цыпрыян Норвід, напісаўшы: «Не меч і шчыт бароняць мову, а дасканалы твор!».

А таму сёння на варце нашай культурнай незалежнасці (без якой пра ўсю астатнюю незалежнасць і гаварыць не выпадае) стаяць ангельцы Шэкспір і Байран, французы Бадлер і Верлен, немцы Гётэ і Шылер, палякі Галчыньскі і Стаф, іспанцы Сервантэс і Лорка, японец Басё, італьянец Дантэ, партугалец Камоэнс, кітаец Ду Фу, амерыканец Уітман, шатландзец Бёрнс, аўстрыяк Рыльке, індус Тагор, украінка Кастэнка, балгарын Радзеўскі, латыш Райніс, грэк Рыцас, чэх Незвал, літовец Межэлайціс, латышка Бэлшавіца, грузін Бараташвілі... Гэткі «легіён несмяротных» на вечнай і бескарыслівай службе краіне, якая сама не раз выпраўляла сваіх сыноў на бітву за чужыя інтарэсы. Так, чужаземныя паэты слугуюць і нам, бо, атрымаўшы яшчэ адно жыццё ў беларускіх перакладах, яны становяцца часткай і беларускай культуры. А яна і ўтварае ахоўны парасон-панцыр — гуманітарную аўру нацыі.

На вялікі жаль, на мяжы XX і XXI стст. сітуацыя з перакладной літаратурай у Беларусі выглядае далёка не найлепшым чынам. Выданне і «Даляглядаў», і «Братэрства», і замежных выдавецкіх серый прыпыненае, а на іх месцы нічога новага не з'явілася. Эпізадычныя публікацыі перакладаў у перыёдыцы становішча не ратуюць. Дзякуй Богу, падрасло новае пакаленне інтэрнэтных перакладчыкаў, якім варштат Скарыны непатрэбен, як прапелер рэактыўнаму самалёту, бо можа толькі запаволіць палёт. Дзякуючы Інтэрнэту, знікла праблема не толькі публікацыі, але і пошуку арыгінальных тэкстаў — у сеціве ёсць усё.

Перакладчыка прозы называюць рабом, перакладчыка паэзіі — спаборнікам. Мабыць, так яно і ёсць: паэт, пераствараючы тэкст, адстварaючы яго ў іншай моўнай стыхіі, заўсёды мае магчымасць паспаборнічаць з аўтарам. Зрэдку ён нават выходзіць з гэтага спаборніцтва пераможцам. І ўсё ж перакладчыку лягчэй. Яго мастацкі разец нацэльваецца на ўжо апрацаваны камень, тэрыконы лішняй пароды яму не перашкаджаюць. Паэт Міхась Стральцоў перакладаў мала, але пакінуў нам надзіва трапную характарыстыку: «Перакладчык — і служка, і творца, і спаборнік адначасова, хоць і абмінае тую першапачатковую рэчаіснасць, той першапачатковы яе хаос, з якім звычайна мае справу арыгінальны творца». Але, дадамо, варта неасцярожна крануць дасканалы першатвор, і ён абрынецца на перакладчыка ўсім сваім цяжарам, утвараючы новае бязладдзе, новы хаос, і змагацца з ім бессэнсоўна.

Цяпер колькі словаў аб прынцыпах адбору твораў для «Галасоў з-за небакраю». Для складальніка найпершае значэнне меў выніковы прадукт.

Бо перакладзены з любой мовы твор прэтэндуе на месца ў беларускай літаратуры. Можна сказаць, што замежныя класікі, трапляючы ці не трапляючы ў анталогію, з дапамогай перакладчыкаў па кожным сваім творы мусілі здаваць асобны іспыт. Пэўна ж, не заўсёды прымальнік таго іспыту быў аб'ектыўны, хоць і стараўся.

Хацелася, прызнаюся шчыра, залучыць да нашай анталогіі як мага больш імёнаў. Хоць існавала спакуса прадставіць, прыкладам, Васіля Сёмуху вылучна перастварэннямі з нямецкамоўнай класікі, дзе мэтр айчыннага перакладу мае мо найбольш плённыя наробкі. Але ж ён — адзіны ў Беларусі перакладчык латышкі В. Бэлшавіцы, без якой анталогія выглядала б няпоўнай. Лявон Баршчэўскі — адмысловы знаўца скандынаўскай паэзіі, але ён жа хросны бацька «беларускага» Ф. Петраркі, выдаў асобнымі зборнікамі паэзію Б. Брэхта і Н. Ленаў. Андрэй Хадановіч кангеніяльна пераклаў Ш. Бадлера, але ён жа адкрыў для беларускага чытача пакаленне саракагадовых украінскіх паэтаў... І працягваць падобны пералік можна было б бясконца. Таму загадзя выбачаюся перад чытачамі за пэўны эклектызм на старонках кнігі, аўтарамі якой з'яўляюцца 658 паэтаў з сарака дзвюх краінаў свету.

Пераканаготы, што ў «Галасах з-за небакраю» чытачоў чакаюць прыемныя неспадзяванкі. Майстар лірычнай прозы Янка Брыль выступіў тут як перакладчык паэзіі Міцкевіча і Буніна. Архівіст і скарыназнаўца Аляксей Каўка даў яшчэ адно беларускае жыццё знакамітаму цютчаўскаму вершу «Silentium!». Крытык і гісторык літаратуры Анатоль Сідарэвіч віртуозна пераклаў гімнаграфічныя грузінскія акравершы. А адзін з пачынальнікаў айчыннага тэатра Фларыян Ждановіч у «Галасы...» трапіў як перакладчык і містыфікатар адначасова, «адшукаўшы» і выдаўшы на суд беларускага чытача «невядомы эратычны фрагмент» з «Пана Тадэвуша»... У іпастасі паэтаў выступаюць у анталогіі асобы духоўныя — кардынал Караль Вайтыла (будучы Рымскі Папа Ян Павел II), тыбецкі далай-лама Рыгдзін Цаньян Джамцо, ксёндз Ян Твардоўскі, праваслаўны манах брат Мікалай (Зніч)... Ёсць у кнізе і вершы японскага імператара Муцухіта, чыім дэвізам быў лозунг «*Мэйдзі — Асвечанае кіраванне*», хоць, як відаць з гісторыі, дзяржаўны скіпетр і паэзія — рэчы амаль несумяшчальныя.

А закончыць хочацца прыватнай згадкай. У 1992 г., на Вадохрышча, я зайшоў у менскі Свята-Духаў сабор. Пасля развалу савецкай імперыі і бясслаўнага канца эпохі ваяўнічага бязбожжа людзі кінуліся ў храмы замольваць грахі — да споведзі стаяла даўжэзная чарга. Раптам з бакавых дзвярэй выйшаў святар, нечакана ўзяў мяне за руку і павёў у алтар. Там ляжалі стосікі папяровых аркушаў з напісанымі на іх імёнамі — для малітваў. Тут жа я быў дабраслаўлёны мітрапалітам Філарэтам як паслушнік, у чые часовыя абавязкі ўваходзіла агучванне спісаў. Бо неназванае імя не будзе пачутае на нябёсах. Я чытаў старанна, хоць у мяне, паслушніка з вуліцы, атрымлівалася нашмат горш, чымся ў чатырох святароў, якія пералічвалі імёны добра пастаўленымі ў семінарыі галасамі. Але — справіўся, і гэта было самае запамінальнае ў маім жыцці чытанне.

Перад вамі кніга, у якой каля дзевяці сотняў імёнаў паэтаў і перакладчыкаў, паўтары тысячы твораў. Гэта своеасаблівая паэтасфера Зямлі, насычаная галасамі, мовамі, інтанацыямі і глабальна збеларушаная, як той глобус у Гудзевіцкім музеі. Метафары свецяць, як зоркі. Чытайце — каб было *пачута*, бо верш — таксама малітва. Чытаючы «Галасы з-за небакраю», вы адчуеце, як прамаўляе да нас неабсяжны Космас Паэзіі.

*Міхась СКОБЛА*

## ЗОФ'Я МАНЬКОЎСКАЯ

**(1847, м-ка Дарагавіца Слуцкага пав. — 1911, тамсама)**

Пісала пераважна па-польску і друкавалася пад псеўданімам Адам М-скі. У пятнаццацігадовым узросце, будучы навучэнкай аднаго з прыватных пансіёнаў у Вільні, атрымала ад свайго далёкага сваяка У. Сыракомлі верш з прысвячэннем і наказам «спяваць пасля мяне на сіратлівай Літве». Была замужам за афіцэрам расейскай арміі, жыла з ім у Разанскай губерні і Ноўгарадзе, апошнія гады жыцця правяла ў фамільным маёнтку на радзіме. Перастварала па-польску сусветную класіку: Л. дэ Камоэнса, Дж. Г. Байрана, Ш. Бадлера, Ф. Містраля; як перакладчыцу яе найбольш і ведалі ў польскай літаратуры. Але З. Манькоўская пісала і на сваёй роднай мове, перакладала з польскай на беларускую творы паэтаў, творча і жыццёва звязаных з Беларуссю. Паэтка, як і яе вялікі папярэднік А. Міцкевіч, як і яе сучаснікі У. Сыракомля, В. Каратынскі, Я. Лучына, была гарачай прыхільніцай нацыянальнага адраджэння Краю, што раскінуўся на прасторах летапіснай Літвы. У лісце да аднаго з сяброў Манькоўская пісала: «Прышлю вам яшчэ пару беларускіх перакладаў. Нядаўна ў "Штогодніках" пісалі: калі б выдалі "Пана Тадэвуша" па-беларуску, мужыкі не чыталі б. А ці мужыкі — карэнныя палякі чытаюць яго па-польску? Беларуская песня мела б велізарны ўплыў — я ў гэтым перакананая. Друкаваць не дазволяць, але моладзь магла б несці яе па хатах. Калі вярнуся, займуся гэтым стала». І ў другім лісце: «Столькі гадоў пражыўшы на чужыне, скажу табе незвычайную рэч: размаўляю чыста па-беларуску...» Постаць і роля З. Манькоўскай у станаўленні беларускай літаратуры (у тым ліку перакладной) увідочніліся пасля выхаду ў свет яе збору твораў «Dzisiaj i na wieki» («Сёння і назаўсёды») — у арыгінале і ў беларускіх перакладах І. Багдановіч і У. Мархеля. Nota bene: З. Манькоўская прысутнічае ў нашай анталогіі адразу ў дзвюх іпастасях — як паэтка і як перакладчыца.

*ТЭАФІЛЬ ЛЕНАРТОВІЧ*
*(1822—1893)*

### КАЛІНА

Расла каліна буйна, шырока
Па-над крыніцай, па-над глыбокай.
Дождык піла і расу збірала,
Вясною ў сонцы лісці купала.
Як бы дзяўчына ў ясну пагоду,
Нібы ў люстэрка, глядзела ў воду.

Гулялі ветры з буйной касою,
А вочы мыла белай расою.

Каля крыніцы, каля каліны
Круціў наш Яська дудкі з вярбіны:
Іграў ён з плачам, як сіраціна,
Дзе над крыніцай расце каліна,
Спяваў штодня ён ранняй парою,
І голас доўга плыў над расою.

Каліна лепшу сукенку брала
І, як дзяўчына, ў гаі чакала.

А калі ўвосень труну збівалі
І пад крыж чорны Яську хавалі, —
Відно, каліна яго любіла,
Бо ўсе лісточкі з жалю згубіла.
Пацеркі красны ў воду скідала —
Уся каліны краса прапала.

## АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ

**(1875, Менск — 1951, Курск, Расея)**

Адукацыю меў невялікую — закончыў чатырохкласную гарадскую вучэльню, усё жыццё працаваў бухгалтарам. Але ў сям'і Паўловіча панавала любоў да мастацтва і ведаў: сам паэт маляваў алейныя пейзажы, меў у сваім кнігазборы дзевяностатомавую энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, а ягоная дачка грала на піяніна вальсы Шапэна, калі ў госці заходзіў Янка Купала. З 1907 г. Паўловіч — сталы аўтар «Нашай Нівы», дзе выступаў з вершамі і перакладамі. Пазней крытыкі не знаходзілі ў ягоных творах «рэвалюцыйнага пафасу», што ў эпоху падрыхтоўкі да сусветнай рэвалюцыі выглядала падазроным. Ратуючыся ад камуністычнага тэрору, паэт у 1932 г. з'ехаў у Маскву, дзе пражыў дзесяць гадоў, пасля вайны асеў у Курску. Пры жыцці выдаў толькі адзін зборнік «Снапок» (1910). Пасля яго выхаду да перакладаў амаль не звяртаўся, ды і вершы пісаў пераважна гумарыстычныя. Перакладзеная Паўловічам польская паэтка М. Канапніцкая за савецкім часам таксама магла трапіць у нядобранадзейныя — і яе вершы «бяспафасныя», да таго ж звернутыя да Бога.

*МАРЫЯ КАНАПНІЦКАЯ*
*(1842–1910)*

* * *

Мой Божа мілы, Твая воля
Была — прыбраць лугі і поле
Такімі пекнымі цвятамі,
Дзе ліўся пот наш са слязамі.
Нашто ж яны, к чаму іх многа,
Калі жыццё цяжэй астрога?!
У вечнай працы Твае людзі
Рвуць для кавалка хлеба грудзі;
Нашто ж нам птушка так спявае,
Калі нас радасць абмінае?
Апроч бяды і злой напасці
Другога мы не бачым шчасця!
Не песня — стогн чуваць у полі, —
Нашто ж нам сонца у нядолі?
Нашто краса зімы і лета —
Ад смутку не пазбавіць гэта.
Шмат ёсць людзей — не маюць хлеба,
Нашто ж ім свет без краю неба?
Што бляск зары чырвонай зранку,
Пах канюшыны ці румянку?
Ні лес, ні сенажаць, ні паша
Ў нудзе не цешаць сэрца наша;
Што вечар ціхі, ясна зорка,
Калі жывецца цяжка й горка?!

# ЮЛЬЯН ДРЭЙЗІН

**(1879, Днепрапятроўск — 1942, Масква)**

Выпускнік Маскоўскага універсітэта (1908). Выкладаў грэцкую і лацінскую мовы ў гімназіях, пасля пераезду на Беларусь — гісторыю музыкі ў Беларускім музычным тэхнікуме. Выкладчык таго ж тэхнікума У. Жылка ў 1928 г. пісаў на старонках «Звязды»: «Патэтык і энтузіяст беларускае музыкі Юльян Мікалаевіч Дрэйзін бярэ французскі арыгінал лібрэта "Фаўст" і перакладае на беларускую мову. "Ведаеце, — кажа ён (сам маленькі, галава закінута, вочы крыху ўверх), — расейскі пераклад такі далёкі ад першатвора. Я дбаў аб дакладнасці і блізкасці..."». «Фаўст» Ш. Гуно быў з поспехам пастаўлены сіламі навучэнцаў і выкладчыкаў музтэхнікума. Увогуле, Дрэйзін, валодаючы замежнымі мовамі, меў і каласальную працаздольнасць, ён забяспечваў рэпертуарам не толькі музтэхнікум. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва зберагаюцца канцылярскія кнігі з сотнямі ягоных перакладаў — опернымі арыямі, рамансамі, гімнамі, песнямі — ад вядомага і цяпер «Інтэрнацыянала» да безнадзейна забытай «Песні пра сустрэчны прамфінплан». А яшчэ там можна адшукаць збеларушаныя тэксты... Сэн-Санса, Гендэля, Шуберта. А дрэйзінаўскія пераклады з Пушкіна можна хоць сёння змяшчаць у акадэмічных выданнях (як узор падаем у нашай анталогіі «Вязня»). Калі ў Беларусі пачаўся антыбеларускі тэрор, Дрэйзін з'ехаў у Маскву, у свой родны універсітэт. Беларусі засталіся яго багаты архіў, слоўнік «Музычныя тэрміны» (1926) і незакончаныя пераклады з антычных аўтараў.

*ГАМЕР*

## ІЛІЯДА

*Фрагмент*

...Гектар, выйшаўшы борзда з палаца,
Шляхам ранейшым пайшоў па брукованых вуліцах Троі.
А як да брамы наблізіўся, горад вялікі прайшоўшы,
Скейскае брамы, адкуль на раўніну павінен быў выйсці,
Тут, бегучы напярэймы, сустрэла яго Андрамаха,
Жонка з багатым пасагам, дачка Гетыёна-героя.
Той Гетыён жыў калісьці пад Плякам, гарою лясістай,
Ў Тэбе Плякійскай, і быў ўладаром кілікійцаў адважных.
Вось жа з дачкой яго Гектар пабраўся мядзяна-шаломны.
Мужа яна тут сустрэла, і разам ішла з ёю служка
І да грудзей прытуляла пяшчотна дзіцятка малое,
Гектара любага сына. Бы зорка, прыгожы быў хлопчык.
Бацька Скамандрам яго называў, а ўсе іншыя звалі
Астыянаксам, бо Гектар адным абаронцам быў Троі.
Моўчкі глядзеў на сыночка з усмешкаю ласкавай бацька.
А Андрамаха бліжэй падышла, праліваючы слёзы,
Мужа ўзяла за руку і гэткае слова сказала:
«Мужнасць загубіць цябе, мой гаротны. Бо ты не шкадуеш
Сына-дзіцяткі і жонкі бяздольнае. Хутка ўдавою
Буду тваёй я, бо хутка цябе ўжо заб'юць там ахейцы,
Разам напаўшы усе. А калі мець цябе я не буду,
Легчы ў магілу мне лепей тады, бо не будзе мне болей
Шчасця ў жыцці, як смяротнаму лёсу ты пойдзеш насустрач,
Горанька ж толькі. Не маю я бацькі, не маю і маткі.
Бацьку майго Ахілес багароўны забіў, кілікійцаў
Горад прыгожы і людны калі зруйнаваў ён дашчэнту,

Высакабрамную Тэбу. Ды, Гетыёна забіўшы,
Зброі з яго ён не зняў, бо ў душы да яго меў пашану,
Але спаліў яго цела са зброяю пышнаю разам.
Потым насыпаў курган. А навокал вязоў насадзілі
Горныя німфы, Зеўса-эгідатрымальніка дочкі.
Родных было у мяне сем братоў у палацы вялікім,
Разам сышлі ўсе яны ў дзень адзіны у Гадэс падземны,
Разам усіх шпарканогі забіў Ахілес багароўны
Ў полі паміж крываходных быкоў і авец беларунных.
Матку ж, якая калісь панавала пад Плякам лясістым,
Разам з дабычаю іншай сюды ён спачатку прывёў быў,
Але дамоў адпусціў неўзабаве за выкуп бязмерны.
Ў бацькавым доме забіла яе Артэміда стралою.
Гектар, ты ж бацька цяпер мой, а разам і маці-ўладарка,
Разам і родны браток, ды разам і муж мой прыгожы.
Дык пашкадуй ты мяне і застанься са мною на вежы,
Каб не зрабіць сіратою сыночка, а жонку ўдавою.
Войска сваё ты пастаў ля смакоўніцы, дзе найлягчэйшы
Подступ да горада ёсць, на сцяну найлягчэй дзе узлезці,
Тройчы ў тым месцы ўзысці спрабавалі найлепшыя воі,
Што за Аянтамі тымі, за ўслаўленым Ідаменэем,
І за Атрыдамі йшлі, і за сынам магутным Тыдэя.
Мо варажбіт паказаў ім які-небудзь гэтае месца,
Ці накіроўвала ўласнае сэрца туды іх і гнала».
І адказаў ёй Гектар вялікі ў бліскучым шаломе:
«Жонка, турбуе таксама й мяне гэта ўсё, але сорам
Перад траянцамі мне і траянкамі ў вопратках доўгіх
Так уцякаць ад баёў, як той баязлівы няздара.
Сэрца мне так не дазволіць, бо смелым я быць прывучыўся
Ўсюды і ў бойках з траянцамі першымі біцца супольна,
Бацьку свайму дый самому сабе набываючы славу.
Добра я ведаю гэта і думкай сваёю, і сэрцам:
Прыйдзе ўжо ж некалі дзень, і загіне магутная Троя,
З ёю загіне Прыям і народ дзіданосца Прыяма.
Але не столькі клапоціць мяне лёс наступны траянцаў,
Лёс нават маці Гекубы і бацькі Прыяма старога,
Як і адважных братоў ўсіх маіх, што, у ліку вялікім,
Мёртвыя ў прах упадуць пад мячамі ваякаў варожых,
Колькі сама ты, якую ахеец у броні мядзянай
Ў злую няволю пагоніць, ты ж ліць будзеш горкія слёзы,
Будзеш ты ў Аргасе ткаці на кроснах для іншай жанчыны,
Будзеш ваду ты насіці з Месіса ці з Гіперэі,
Волі насупраць сваёй, але злая няволя прымусіць.
Скажа хто-небудзь тады, як убачыць, што плачаш ты горка:
"Жонка вунь Гектара. Быў ён найлепшы між коннікаў Трої
Ў бойках зацятых, што некалі йшлі навакол Іліёну".
Скажа вось гэтак і ў сэрцы тваім павялічыць цярпенне,
Гора аб мужы адважным, што вызваліць мог бы з няволі.
Але раней хай памру я, курган перш мяне хай накрые,
Чымся пачую твой енк, як цябе у няволю пацягнуць».
Скончыў і рукі свае да сыночка працягвае Гектар.
Але сынок да грудзей прыгожа апранутай мамкі

З крыкам адкінуўся ўзад, бо спалохаўся выгляду бацькі.
Медзі бліскучай жахаўся дзіцёнак і конскае грывы,
Што над шаломам страшэнна хісталася бацькі-героя.
І усміхнуліся бацька каханы і родная маці.
Зняў безадкладна шалом з галавы свае Гектар бліскучы,
І на зямлю палажыў той шалом, і ззянне з шалома лілося.
Любага потым цалуе сынка, на руках калыхае
І да Зевеса і іншых багоў ён з малітваю кажа:
«Зеўс і багі несмяротныя, дайце, каб гэты мой хлопчык,
Роўна як бацька яго, найслаўнейшы з траянцаў зрабіўся,
Каб ён магутны узрос і ўжо цвёрда у Троі ўладарыў.
Хай жа гавораць аб ім, як ісці будзе з бою дадому:
"Бацьку ён шмат перавысіў". Хай ворага броню, крывёю
Ўсю залітую, нясе ён, і маці хай цешыцца сэрцам».
Так загадаўшы, аддаў ён на рукі каханае жонкі
Сына свайго, а яна да грудзей прытуліла дзіцятка
І усміхнулася ў слёзах. Шкада жонкі Гектару стала.
Жонку рукой прыгалубіў і гэткае слова прамовіў:
«Сэрцам, гаротная, ты не сумуй так занадта балюча,
Лёсу насупраць смяротны мяне не пагоніць у Гадэс,
Лёсу ж свайго не унікнуў, кажу я, ніводны з смяротных —
Ні палахлівы, ні смелы, ледзь толькі на свет нарадзіўся.
Але да хаты ідзі ўжо і справы жаночыя ведай,
Кросны і прасніцу, разам і служкам дамовым загадвай,
Працу сваю каб рабілі. Вайна ж будзе клопатам цяжкім
Ўсім нам мужчынам, найболей жа мне, ў Іліёне раджоным».
Гэтак сказаў ён, і з конскаю грывай шалом свой на голаў
Гектар бліскучы ўзлажыў. І дадому пайшла яго жонка,
Ўсё азіралася з жалем, а слёзы струменем ліліся.

*АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799—1837)*

**ВЯЗЕНЬ**

Сяджу па-за кратамі ў цемры сырой.
Арол малады, вольны птах, за сцяной,
Мой сумны таварыш, махае крылом,
Крывавую ежу клюе пад вакном.

Клюе і кідае, глядзіць у вакно,
Як быццам са мною задумаў адно.
Заве і узрокам, і крыкам сваім
І вымавіць хоча: «Давай паляцім!

Мы вольныя птахі; пара, брат, пара
Туды, дзе за хмарай бялее гара,
Дзе сіняе мора, радзіма мая,
Дзе волі прасторы, дзе вецер... ды я!..»

## ЯНКА КУПАЛА

**(1882, фальварак Вязынка Менскага пав. — 1942, Масква)**

Купалаўскія «Творы» (1930) дэманстрацыйна пачыналіся пераклічкай верша «Паўстань» з перакладам «Інтэрнацыянала». Чытачам як бы падказвалася: нават спяваючы міжнародны пралетарскі гімн, не забывайцеся на сваё, беларускае. Матыў, раней выказаны ў вядомых радках: «Мне бацькаўшчынай цэлы свет, / Ад родных ніў я адвярнуўся... / Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед: / Мне сняцца сны аб Беларусі!». Падказка была зразуметая правільна не толькі чытачамі, але і крытыкамі пароды Бэндэ: амаль увесь наклад кнігі пусцілі пад нож. 1930 год увогуле быў страшны для Купалы: пад раскулачванне трапілі маці і сястра, самога паэта, афіцыйна абвешчанага ідэолагам «буржуазнага нацыянал-адраджанізму», спрабавалі паставіць на чале сфабрыкаванага ГПУ Саюза вызвалення Беларусі; у тым самым годзе ён спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, а пасля няўдачы ў больнічнай падканвойнай палаце вымушаны быў пісаць «пакаяльны ліст» у «Звязду». У час, калі кожнае Купалава слова разглядалася вульгарнай крытыкай пад мікраскопам, паэт быў вымушаны хавацца ў пераклады. Як перакладчык, ён актывізуецца менавіта ў 1930-я гады, у часы «Нашай Нівы» і пазней да гэтага жанру звяртаўся вельмі рэдка, перакладаў па адным-два вершы ў год, пераважна з польскай. Купала ў іншамоўных класікаў вышукваў радкі, пісаныя эзопавай мовай, чужымі вуснамі гаварыў тое, што набалела самому. У 1937-м асобным выданнем па-беларуску выходзіць «Медны коннік» А. Пушкіна — паэма, дзе ў іншасказальнай форме выкрываўся таталітарызм, пераслед асобы дзяржавай (прыгадаем уцёкі Яўгена ад Меднага конніка). Асабліва шмат у той час паэт перакладаў з Т. Шаўчэнкі. Вершы абіраліся невыпадковыя, з падтэкстам. У перакладах Купала больш сачыў за духам, а не літарай першатвора. Здавалася б, радок М. Някрасава «Поздняя осень. Грачи улетели» не патрабуе ніякіх перакладчыцкіх вымогаў. А ў Купалы замест гракоў — «буслы адляцелі»: прыўнесены нацыянальны каларыт, верш стаў беларускаму чытачу бліжэй. Праўда, часам замены знакавых словаў шкодзілі адэкватнаму ўспрыманню арыгінала. У трэцяй страфе «Трох Будрысаў» А. Міцкевіча радок «Niech litewskie prowadzą was bogi» па волі перакладчыка прагучаў як «На вайне не шкадуйце ўспамогі». Але вядома, з якой пашанотай ужываў Міцкевіч словы *Літва, ліцвін, літоўскі* (у яго нават мядзведзь-ліцвін належыць да найвышэйшай мядзведжай касты). І апека літоўскіх багоў у Міцкевіча, зразумела, — як найбольшая ступень абароны... З іншажанравых купалаўскіх перакладаў варта назваць драму Е. Жулаўскага «Эрас і Псыха», а таксама перастварэнне «Слова аб палку Ігаравым», высока ацэненае акадэмікам Я. Карскім.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798–1855)*

### КОНРАД ВАЛЕНРОД

*Фрагмент*

Сто лет мінала крыжацкай навале,
Як кроў з паўночных смактала паганаў.
Прусы ўжо шыі ў аковы згіналі
Або ўцякалі з радзімых палянаў;
Немец за ўцёкшым пускаўся ўдагонкі,
Нішчыў да самай літоўскай старонкі.

Літвінаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
З аднаго боку льсняць стрэхі святыняў,
І лесу — схову багоў — чуваць гоман;
З другога — ўбіты на ўзгорку пустыні

Крыж, знак нямецкі, рад к небу сягнуці,
Грозна пільнуе літоўскіх загонаў,
Як бы ўсю чыста зямлю Палямона
Хацеў бы зверху здушыць, загарнуці.

Тутка літоўскай сям'я маладзежы
Ў шапках бабровых, у світках мядзвежых,
З лукам праз плечы, з страламі пры боку
Снуе і сочыць за немцам здалёку;
А там — няскратна, ў збраенні каваным
Немец сядзіць на кані асядланым,
К землям уставіў нязабраным вочы,
Стрэльбу набіў і ружанцам ляскоча.

Пільнуюць тыя і гэтыя броду.
Так Нёман, з даўнай гасціннасці рупны,
Дзяржавы лучачы братніх народаў,
Стаўся граніцай для ўсіх недаступнай,
І той мог толькі прайсці яе смела,
Каму на волі жыццё надаела.
Толькі галінка літоўскага хмелю,
Наджана топалю прускага красай,
Пнецца па вербах і цінавым зеллі,
К любаму пнецца, як з даўнага часу:
След кіне ў рэчцы вяночкам нявілым
І на чужыне ўжо лучыцца з мілым.
Ды салавейкі пад Коўнай з дубровы
Са сваякамі гары Запушчанскай
Свае літоўскія баюць размовы,
Дзеляцца спольна і дружбай, і ласкай,
Як бы граніцы не знаючы новай.

А людзі?.. Людзі ўпіліся бітвою;
Даўная Прусаў з Літвою зажыласць
Пайшла ў няпамяць; падчас толькі міласць
І людзей годзіць... Я знаў людзей двое...

Гэй, Нёман! Хутка к тваім сумным водам
Рынуць навалы нясці зніштажэнне,
І ў бераг, з вечных галоцячы ценяў,
Тапор чужынца бязлітасна ўесца;
Стрэл салавейкаў разгоне ў гародах.
Што ў жыцці светлага неслі прадвесні,
Парве ўсё чыста нянавісць народаў,
Парве ўсё чыста... Каханкаў жа сэрцы
У Вайдэлотавых злучацца песнях.

*ТАРАС ШАЎЧЭНКА*
*(1814–1861)*

* * *

Свет мой ясны! Свет спакойны!
Не апужаны, свет вольны!
За што ж цябе, свет мой браце,
Ў сваёй добрай цёплай хаце
Закулі, абмуравалі,
Прамудрага ашукалі,
Баграніцамі закрылі
І распяццямі дабілі?

*

Не дабілі! Страпяніся!
Ды над намі прасвяціся,
Прасвяціся!.. Будзем, браце,
З баграніц анучы драці,
З кадзіл люлькі запаляці,
Печ *явленними* тапіці,
А крапілам будзем, браце,
Нову хату падмятаці!

*УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ*
*(1823–1862)*

**ГРУГАН**

З па-над лесаў, з па-над хмараў
Груган вылятае,
Сеў пад вёскай на папары,
Груганят склікае.

На вялікай, знаць, быў згубе
Ў далёкіх старонках:
Рука правая у дзюбе
З залатым пярсцёнкам.

— Эй, скажы, груган нязнаны,
Скуль ты прыбываеш?
Скуль пярсцёнак пазлачаны
І руку скуль маеш?

— За гарамі, ой, дзяўчына,
Страшны бой вядзецца;
Кроў ліецца ручаінай,
Труп на труп кладзецца.

Зарывае люд рабочы
Ссечаны галовы,
На малойцаў грудзі, вочы
Сыплюць наспы новы.

На курганах на бядачых
Воўчы рык чуваці;
Не адна галосіць, плача
Сірата і маці.

Слязьмі горка залілася
Бедная дзяўчына:
Вось калі я дажылася
Няшчаснай часіны!

Ой, руку я ўжо пазнала!
Той, чыя, — не ўстане:
Гэты персцень даравала
Міламу ў расстанні...

*МАРЫЯ КАНАПНІЦКАЯ*
*(1842—1910)*

## ЯК КАРОЛЬ Ў ПАХОД ВЫХОДЗІЎ...

Як кароль ў паход выходзіў,
Голас зычных труб праводзіў,
Залацісты сурмы йгралі
На пабеду ў добрай хвале.

А як Стах пайшоў на бітвы,
Зашаптаў яму малітвы
Цёмны лес ды жыта ў полі
На нудоту, на нядолю.

На вайне ўсцяж кулі свішчуць,
Як касою, людцаў нішчаць,
Каралі найлепей б'юцца,
Мужыкі ж найбольш кладуцца.

Шалясцяць сцягі шаўковы,
Недзе крыж скрыпіць вясковы;
Стах ад раны уміpae,
А кароль здароў вяртае.

У вароты як уехаў,
Выйшла зорка на пацеху,
I усе зайгралі звоны
На ўсе светавы староны.

Як дол мужыку капалі,
Зашумелі дрэвы ў далі,
Зашумелі праз дубровы
Толькі кветачкі ліллёвы.

*ГЕРМАН ГЕСЭ*
*(1877–1962)*

**У ІМГЛЕ**
**(АДЗІНОТА)**

Маркотна хаджу па зямлі ў тумане.
Расліны й каменні так смутна далёкі,
І дрэвы не бачаць друг дружкі ў імгле,
І ўсе адзінокі.

Калісьці шмат другаў, шмат другаў я меў.
П'янеў я ад сонца ясноты гарачай,
Сягоння скрозь ночак асенніх туман
Другаў не бачу.

Хоць раз хто спаткаўся ў жыцці з цемнатой,
Папраўдзе той мудр, той ведаў, той знае,
Як цемра ад свету бязмежнай сцяной
Яго аддзяляе.

Маркотна хаджу я ў імгле, ў тумане.
Ўсе людзі так дзіўна маркотна далёкі,
Не знае друг дружкі ніводзін нідзе,
І ўсе адзінокі.

## ЯКУБ КОЛАС

**(1882, засценак Акінчыцы Менскага пав. — 1956, Менск)**

Гераіня вядомай аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця» Аленка атрымлівае ад настаўніцы ў падарунак «Кабзара». І гэта, думаецца, невыпадкова: з усіх нешматлікіх коласаўскіх перакладаў найбольш удалыя — паэмы Шаўчэнкі. Усяго ж Коласам перакладзена 17 твораў песняра-пабраціма, і зробленыя яны «не па разліку, а з любоўю», што неаднаразова падкрэслена ў манаграфіі прафесара В. Рагойшы «Пераклаў Якуб Колас» (1972). Астатнія пераклады (а эпік-рэаліст Колас браўся пераважна чамусьці за лірыку рамантыкаў Міцкевіча, Пушкіна, Лермантава) наўрад ці можна залічыць у даўгавечныя творчыя набыткі. Так, лермантаўскі «Дэман» у Коласа атрымаўся лепшым, чымся ў М. Краўцова ў 1926 г., але прыйшоў час, і ў 1969-м Коласа «палепшыў» А. Куляшоў — бясспрэчны класік айчыннага перакладу.

*ТАРАС ШАЎЧЭНКА*
*(1814–1861)*

## ЕРЭТЫК
*Фрагменты*

*Камень, егоже небрегоша*
*зиждущий, сей бысть во главу*
*угла: от Господа бысть сей,*
*и есть дивен во очесех наших.*
*Псалом 117, стих 22*

«Кругом няпраўда і няволя,
Народ замучаны маўчыць.
І на апостальскім прастоле
Чарнец адкормлены сядзіць.
Крывёй гандлюе пад'ярэмных
І рай у наймы аддае!
Цару нябесны! Надарэмны
Твой суд і царствіе твае.

Разбойнікі, людаеды
Праўду пабаролі,
Асмяялі тваю славу,
І сілу, і волю.
У кайданах зямля плача,
Як па дзецях маці.
Няма каму раскаваці,
Аднадушна стаці
За евангелле той праўды,
Якой прагнуць людзі!
Няма каму! Божа, Божа!
Ці ж так яно й будзе?
Не! Настане час вялікі
Нябеснае кары!
Ці разломім тры кароны
На гордай ціары?
Так, разломім! Багаславі
На помсту, на мукі,
Багаславі мае, Божа,
Няцвёрдыя рукі!»

Вось так у келейцы праўдзіва
Ян Гус надумваў разарваць
Аковы пеклавы!.. І дзіва,
Святое дзіва паказаць
Вачам сляпым. «Далоў прымус!..
Са мною Бог!.. Задумам збыцца!»
І ў Віфлеемскую капліцу
Пайшоў маліцца добры Гус.
..........................................

«За што закрыў ім, Божа, вочы
І вольны розум акаваў
Кайданамі ліхое ночы?
Празрыце, людзі, — дзень настаў!
Распраўце рукі, мрок аблуды
Развейце, чэхі, будзьце людзі,
А не пасмешышча папам!
Забойцы, каты у ціарах
Усё стапталі, ўсё ўзялі,
Як у Маскоўшчыне татары,
І нам, сляпым, перадалі
Свае дагматы!.. Кроў, пажары,
І зло на свеце, і ўсе кары,
Пякельных мук бясконцы рад...
І поўны Рым байстрат!
Вось іх і догматы, і слава!
То слава ў яве!.. А цяпер
Так загадана тым канклавам:
Без булы хто святой памёр —
У пекла пойдзе! Будзе ж плата
За булу двойчы — рэж хоць брата,
Апроч папа і чарняца,
І ў рай ідзі! Канец канцам!
І злодзея ж зладзей акрадзе,
Нат у царкве. От, гады, гады!
Ці напіліся вы ці не
Людской крыві?.. І хіба мне,
Вялікі Госпадзе, маломý,
Судзіці дзеянні твае?
Бо кары праведнай свае
Ты без віны не шлеш нікому».
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І плакаў Гус у тым маленні,
І цяжка плакаў... Люд маўчаў
І моўчкі думаў у здзіўленні:
Супроць каго руку падняў?

«Глядзіце, людзі! Вось дзе була,
Што я чытаў!» — і паказаў
Народу. Боязь агарнула,
Як Ян Гус булу разарваў!
І з Віфлеемскае капліцы
Аж да сусветнае сталіцы
Пагудка шумная пайшла.
Манахі ў страху... Нібы кара,
Канклаў пагудка затрасла, —
І пахілілася ціяра!
. . . . . . . . . . . .

Зазванілі у Канстанцы
Рана ва ўсе звоны.
Тлум сабраўся кардыналаў
Гладкіх і чырвоных,
Як бугаёў на папасе,
І натоўп прэлатаў,
І тры папы, і баронства,
І князёў багата.
Сабраліся, як Іуды
На суд няпраўдзівы
Супроць Хрыста. Сваркі, гоман —
То раве, то вые,
Нібы нейкі дзікі табар
Ці кагал у школе...
І — ўсім разам як зарвала!..

Як кедр сярод поля
Ліванскага, — у кайданах
Стаў Гус перад імі.
І акінуў непачцівых
Орлімі вачыма.
Затрасліся, пабялелі,
Моўчкі азіралі
Мучаніка. «Што ж вы мяне —
На дыспут пазвалі?
Ці каб глядзець на кайданы?»
«Маўчы, чэх бязверы...» —
Гадзюкамі зашыпелі,
Зараўлі, як зверы.
«Ты ерэтык! Ты ерэтык!
Ты сееш расколы!
І нязгоды пашыраеш,
Найсвяцейшай волі
Не прымаеш!.. Адно слова! —
Ты Богам пракляты!
Ты ерэтык! Ты ерэтык!..» —
Крычалі прэлаты.
«Ты ракольнік!.. Адно слова —
Ты ўсімі пракляты!..»
Паглядзеў Гус на прэлатаў
Ды пайшоў з палаца.
«Пабаролі! Пабаролі!..»
Нібы звар'яцелі.
«Аўтадафе! Аўтадафе!..» —
Гуртам заравелі.

І ноч усю банкетавалі
Папы, бароны... І пілі,
І сп'яну Гуса праклiналі,
Аж покі звоны загулі.

І дзень настаў... Ідуць маліцца
Ксяндзы за Гуса. З-за гары
Выходзіць сонца, аж гарыць:
І сонца хоча падзівіцца,
Што будуць з праведным тварыць?!

Зазванілі ва ўсе звоны,
Пацягнулі Гуса
На Галгофу у кайданах...
І не пахіснуўся
Над агнішчам. На агні стаў
І моліцца Богу.
«О Госпадзе міласэрны!
Што зрабіў я злога
Гэтым людзям, тваім людзям?
За што мяне судзяць?
За што мяне распінаюць?
О людзі вы, людзі!
Маліцеся! Вы — нявінны!
І з вамі так будзе!
Маліцеся! Злыя звяры
Прыйшлі ў воўчых скурах
Кіпцюры параспускалі...
Ні горы, ні муры
Не схаваюць. Разальецца
Чырвонае мора
Крыві — крыві дзяцей вашых...
О гора! о гора!
Унь яны ў адзежах ясных.
Іх лютыя вочы
Крыві прагнуць...»
«Палі! Палі!»
«Крыві! Крыві хочуць!
Крыві вашае!..» І дымам
Праведнага ўкрыла.
«Маліцеся! маліцеся!
Госпадзе, памілуй,
Даруй ты ім — не ведаюць...»

Ды нячутна стала.
Вакол агню, як сабакі,
Манахі пасталі.
Пагас агонь; дзьмухнуў вецер
І попел развеяў.
І бачылі на ціяры
Чырвонага змея
Людзі простыя. Манахі
Te deum спявалі.
Разышліся па хаўтурах
І хаўтуравалі
І дзень, і ноч, аж папухлі.

Малою сям'ёю
Прыйшлі чэхі, зямлі ўзяўшы
З таго кастра, з ёю
Пайшлі ў Прагу. Гэтак Гуса
Ксяндзы асудзілі
І спалілі... Ды Божага
Слова не спалілі.
. . . . . . . . . . . .

Дык няхай ім! Разбрыліся,
Як тыя вароны,
З крывавага таго свята
Манахі, бароны,
Парасселіся ў будынках,
Клопату не маюць;
Банкетуюць, час ад часу
Te deum спяваюць.
Ўсё зрабілі... Ды чакайце!
Унь над галавою
Стары Жыжка з Табарова
Махнуў булавою.

*РАБІНДРАНАТ ТАГОР*
*(1861—1941)*

* * *

Шапнуў ён: «Мілая, ну, глянь, хоць разік глянь!»
Яму з дакорам я прамовіла: «Адстань!»
А ён са мной астаўся.

За рукі ўзяў мяне, у вочы мне зірнуў.
«Пакінь!» — сказала я. Ён вокам не зміргнуў
І толькі пасміхаўся.

Да вуха мне прыпаў, крануўшыся шчакі.
Абурана сказала я: «Ах, стыд які!»
Ды стыд яму не стаўся.

Ён кветачкаю мне аздобіў валасы.
«Якая ж мне карысць ад гэтае красы?»
І тут ён не крануўся.

І, зняўшы мой вянок, пайшоў паныла проч.
Я плачу, думаю аб ім і дзень і ноч —
Ах, хай бы ён вярнуўся!

## ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

**(1883, засценак Калеснікава Дзісенскага пав. — 1938, Саратаў)**

Сын земляроба, унук каваля і праўнук бортніка, у 1919-м стаў прэм'ер-міністрам Рады БНР, а ў 1928-м — адным з першых беларускіх акадэмікаў. У сваім дыпламатычным статусе наведаў многія краіны, у тым ліку Нямеччыну, Італію, Францыю, Бельгію, Швейцарыю, Чэхаславакію, Ватыкан. Як палітык, паводзіў сябе небяспахібна, скажам, спрычыніўся да перадачы Вільні літоўцам. Як навуковец, пакінуў па сабе каштоўны плён — найперш варта назваць «Расейска-крыўскі слоўнік» (1924) і «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» (1926). Пісаў прозу, перакладаў апавяданні Р. Кіплінга, казкі Х. К. Андэрсэна, п'есы Э. Ажэшкі. Верш А. Талстога адшукаўся ў часопісе «Крывіч» (1923, № 6), які рэдагаваў сам перакладчык.

*АЛЯКСЕЙ ТАЛСТОЙ*
*(1817—1875)*

### ЧУЖОЕ ГОРА

Імчыцца стралой паўночнай парой
Муж знатны ў багатым уборы —
Магутнае сілы, у зброі цяжкой,
Гукае бяспечна ў глушы лесавой:
— Якое ж мне можа быць гора?!

Так едзе ён рыссю, гудзіць глушыня,
Тутняць аб карэнні капыты.
Аж з дуба, няўзнак, хтосьці — скок на каня:
— Гэй, хто там, што за насланнё-чартаўня?
Мяне сцеражыся і — квіта!

Намацвае войнік свае павужы,
Шукае у кожнай аборы.
Аж чуе ў адказ: — І я тут не чужы!
З мінуўшчынай, братка, ты лепей дружы —
Вязеш бо Ўсяслававa гора.

— Ну, едзь сабе, — кажа, — ды ў зманы не ўлазь,
Папраўдзе, было б гэта дзіва!
Якая твая з Усяславам тым звязь?
Ў Сафійскім саборы крывіцкі спіць князь,
А гора нібыта йшчэ жыва?!

І далей ён едзе, чакаючы дня,
З заплечнікам борздка па боры.
Аж зноў да яго хтосьці — скок на каня
І шэпча на вуха: — Той мне не раўня:
Я, вою, Маскоўскае гора.

— Ох, бачна, не ў добры я выехаў час!
Бач, на́пасць якая бывае?!

Што шышак яловых тут сыплецца вас! —
Так думае войнік, хмурнейшы штораз,
А конь ужо крокам ступае.

І конскую сілу знурыла цягло,
Пачаў спатыкацца конь скора.
А раптам ізноў хтосьці — скок за сядло.
— Якога там беса яшчэ прынясло?!
— Я, брацейка, Ляшскае гора!

— Далоў! Вам не месца ў мяне за сядлом! —
Бунтуецца войнік паныла.
— Не, вою, як селі, далоў не зыдзём!
І едуць яны на кані ўсе гуртом,
І меншае конская сіла.

— Эх, — думае войнік, — каб з лесу ды вон,
Ды ў поле, памчацца ў прасторы!
І як я патрапіў без бою ў палон?
Я гора чужое вязу, як праклён,
Чужое мінуўшчыны гора!

## ФЛАРЫЯН ЖДАНОВІЧ

**(1884, Менск — 1937, Валагодская вобл., Расея)**

Адзін з першых айчынных тэатральных рэжысёраў, арганізатар і мастацкі кіраўнік Першага беларускага дзяржаўнага тэатра (сённяшні Купалаўскі). Закончыў Варшаўскую драматычную школу, шмат перакладаў для сцэны (п'есы Э. Ажэшкі, М. Старыцкага, І. Катлярэўскага). Меў і неардынарны акторскі талент — у ягоным рэпертуары і камічная роля пана Быкоўскага ў купалаўскай «Паўлінцы», і драматычная — князя Шуйскага ў пушкінскім «Барысе Гадунове». Зрэшты, апошнюю ролю Ждановіч выконваў ужо будучы ссыльным — у калгасна-саўгасным тэатры г. Сокал Валагодскай вобласці, перад гэтым тры гады адпрацаваўшы на Беламорканале. У год стагоддзя з дня смерці Пушкіна (яно шырока адзначалася ў СССР) Ждановіча-Шуйскага ледзь не на сцэне арыштавалі паўторна і неўзабаве расстралялі, як і яго паплечніка па тэатры У. Галубка. Змешчаны тут тэкст адшуканы (з падказкі дасведчанага Аляксея Каўкі, дзякуй яму) у танкаўскім фондзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. На машынапісе пазначаны аўтар — Адам Міцкевіч, але ў кананічным тэксце «Пана Тадэвуша» гэтай яскравай эратычнай сцэны няма. Пераклад ахапляе дзве страфы кананічнага тэксту: Тэлімэна бароніцца ад мурашак, Тадэвуш ёй дапамагае — «oczyszcząc sukenke, aż do nog się zniżył...», і раптам — «ich przebudził dzwonek z Soplicowa — haslo wieczerzy: pora powracać do domu». Так што фрывольная сцэна сама на пяро напрошвалася. Толькі каму? Містыфікатару ці ўсё ж Міцкевічу? Сам паэт вырашыў пасвавольнічаць і падражніць цнатлівую (свецкую і — асабліва — каталіцкую) цэнзуру, ці нехта адважыўся дапісаць за яго паэму — доўгі час у айчынным міцкевічазнаўстве заставалася невядомым. Кропку ў гэтай справе паставіў Уладзімір Мархель, назваўшы імя аўтара-містыфікатара — Антоні Арлоўскі, варшаўскі жуналіст і гумарыст, які падпісваўся псеўданімам Крагулец. Але незалежна ад аўтара першатвора «Тадэвуш і Тэлімэна» пад пяром Ф. Ждановіча нагадалі беларускім паэтам, закліканым на той час пісаць і перакладаць рэвалюцыйна-надзённае, пра вечныя (і сардэчныя) тэмы.

*АНТОНІ АРЛОЎСКІ*
*(1869 — ?)*

## ТАДЭВУШ І ТЭЛІМЭНА

*У скароце*

З месца Тэлімэна ўзнялася раптоўна
І наўцёкі бегчы, ў вачах страху поўна.
Валасы ў развоі, рукі распрастала,
Крычыць, лямантуе і нарэшце ўпала.
Падняцца не можа і кусае рукі —
Незямныя, пэўна, яна церпіць мукі.
Рве сабе ганебна і шматуе цела.
Падбег к ёй Тадэвуш, думаў — звар'яцела
Альбо, можа, падучка. Але там прычына
Была зусім іншай — дзе ўпала жанчына,
Спрадвек быў мурашнік, і род велізарны
Навокал па лесе бегаў, гаспадарны.
Ад свае сталіцы, што была у гаю,
Праклаў сабе дарогу ажно да ручаю.
Тэлімэна ж прысела сярод той дарожкі.
Пабачылі мурашкі белыя панчошкі,
Паналезлі густа й пачалі кусацца;
Тэлімэна наўцёкі, крычаць, атрасацца,
Пасля села на зямлю і мурашак ловіць,
Ці ў помачы мог ёй Тадэвуш адмовіць?

Трос ён ёй сукенку, да ног нагінаўся,
Да пэўнага месца рукой дакранаўся.
«Што пан робіць? Так нельга. Нейкі звычай новы,
Пан адно да флірту заўсёды гатовы.
Мяне ж тнуць мурашкі!» — «Дзе?» — «Каля калена!»
Тадэвуш пад сукню — дрыжыць Тэлімэна
І ледзь чутна шэпча, што мурашкі смела
Запаўзаюць вышай. Пад каленкі белы
Руку далей суне наш герой шчаслівы,
Адчувае ў целе шал крыві юрлівы.
І залез Тадэвуш, ад вачэй дзе скрыты
Параслі валасочкі, ў пярсцёнкі павіты.
Тэлімэна ўздрыгнула, на траву упала,
На сабе мурашак болей не шукала.
Тадэвуш яе моцна да сябе прыціснуў,
І агонь таемны ў вачах яго бліснуў.

Здзівілася Тэлімэна з адважнага чыну,
Перш прагнаць хацела юнака-хлапчыну,
Ды сілаў не стала і паволі млела —
Палкі шал кахання агніў яе цела.
Глянуўшы на хлопца пажадна і міла,
Здалася й між ногі яго упусціла.
Адкінуўшы фальбоны адным смелым рухам,
Як той клін, у дрэва загнаны абухам,

Так Тадэвуш смела, без рук дапамогі
Убіўся ў спакусу, што жыве між ногі.
Адчуўшы, што грудзі ейныя хвалююць
І кроў нестрымана у жылах бунтуюць,
Спяшыць наш Тадэвуш гвалтоўна і нема
Да месца, што завецца брамаю Эдэма.
Як той конь, якому ткнуць у бок астрогу,
Раптоўна імкнецца быстра на дарогу,
Таксама й Тэлімэна, як астрогай цята,
Рынула наперад палка і заўзята.
Рукі Тэлімэны — нібы дзве вужакі,
Адначасна ногі — як клешнямі ракі,
Абвілі так хлопца, і здавацца мела,
Што яны абое адно твораць цела.

Не скупіў Тадэвуш палкасці і сілы,
Здавалася — за плячыма выраслі крылы.
Ногі Тэлімэны ціснулі, як клешчы,
А вусны шапталі: «Тадэвушка, ешчэ!»
Пачаў над ёй глуміцца, як певень над курай,
Ажно раптам маланка бліснула пад скурай,
Паветра не хапіла і, зрэзыгнаваны*,
Даў нырца яшчэ раз пад белы фальбаны,
Знерухомеў хлопец на белым улонні,
На грудзях яе скрыўшы гарачыя скроні.
Ад гэтага Тэлімэна ледзь не ашалела,
Але апроч практыкі спрыт і розум мела.
Губамі дражніла Тадэвуша губкі,
Шаптала пяшчотна каханку праз зубкі:
«Адно ты меў прыемнасць, што мне ў гэтым разе?
Ты ж мяне таксама, хлопча, май на ўвазе».
Пачала яго песціць, колькі мела змогі,
Каб хаця Тадэвуш не сышоў з дарогі.
Прасіла, каб раскошы не псаваў паспехам:
«Бо хіба ж ноч — не заяц, — казала з усмехам, —
Дык не ўцячэ. Ці ж праўда, маё ты каханне?»
Як жа быць не чулым на яе ўзыванне?
Як маскаль, калі ўчуе «Божа, цара храні»,
Затрымцеў наш Тадэвуш. Тэлімэна ў агні
Піла паўторна з палам прыемнасці чару.
Калі б зараз граф надышоў на хвіль пару,
Меў бы для рысунку натуру — дай Божа:
Пад лясною шатай двух каханкаў ложа,
Апантана, пад фальбоны лёгкія, як мары,
Пан Тадэвуш ырае, нібы ў белай хмары,
Пад ім Тэлімэна, як вужака, ўецца,
А сонца залатое шчасліва смяецца.

Першы ўстаў Тадэвуш, уборы паправіў,
Яшчэ хвілінку вока Тэлімэны бавіў,

* Ад *zrezygnować* (польск.) — адмовіцца, адступіцца.

А яна зняможана з травы выглядала,
Ледзь з яго падмогай на калені ўстала.
Паправіла сукенку, стужкі і фальбоны,
Бачыць, што Тадэвуш крыху задумёны,
Без гневу, лагодна прамаўляе словы:
«Думаю, пра гэта не будзе размовы.
Каб так абысціся з жанчынай пачцівай,
Хай крыху залётнай, чулай і ўражлівай, —
Непрыстойна, пане... Аднак, твае годы,
Сонца, лес, мурашкі, мкненне да свабоды
Шмат што выбачаюць, іх бяру на ўвагу —
Прабачаю пана... Дзякуй за адвагу,
Той, хто яе мае да жанчын аж столькі,
У мяне не вінны, а ў пашане толькі».
Калі ж яе Тадэвуш абняў ніжэй стана,
Тэлімэна шапнула: «Ой, шэльма з васпана».

## ВІНЦУК АДВАЖНЫ

**(1890, м-ка Гальшаны Ашмянскага пав. — 1978, Лондан)**

Сапраўднае прозвішча Язэп Германовіч. Пасля заканчэння Віленскай духоўнай семінарыі (1913) быў высвечаны ў святары, займаўся душпастырскай дзейнасцю на Беласточчыне. За ўжыванне ў касцёле беларускай мовы праследаваўся польскімі ўладамі, пераехаў у Друю, дзе ў мясцовай гімназіі выкладаў лаціну і багаслоўскія прадметы. У 1932 г. выехаў у Харбін, праз чатыры гады вярнуўся, жыў у Вільні, апекаваўся беларускім студэнцкім інтэрнатам. Зноў падпаў пад польскія рэпрэсіі, быў высланы ў цэнтральную Польшчу, адкуль уцёк назад у Харбін, дапамагаў там беспрытульным дзецям. Арыштаваны кітайскай паліцыяй, быў дэпартаваны ў Савецкі Саюз і прыгавораны да 25 гадоў лагераў. Вызваліўся ў 1955-м і прадбачліва падаўся на Захад. Жыў у Італіі, пасля ў Вялікай Брытаніі, дзе рэдагаваў часопіс «Божым шляхам». Выдаў мемуары «Кітай — Сібір — Масква» (некалькі выданняў, апошняе 2003). Пісаў і друкаваў у эміграцыйных выданнях антысавецкія байкі, перакладаў з польскай і расейскай моваў. «Элегія» Ю. Славацкага ў перакладзе В. Адважнага знайшлася ў часопісе «Chryścijanskaja dumka» (1932, № 7-8).

*ЮЛЬЮШ СЛАВАЦКІ*
*(1809—1849)*

### ЭЛЕГІЯ

Сумна мне, Божа! Хоць пагода красна,
Зямелька ўвосень багацее дужа,
На небе сонца яшчэ свеціць ясна —
    Прыходзе і служа...
Мяне ўсё гэта пацешыць не можа.
    Сумна мне, Божа!

Вунь брат пакінуў брата ў нядолі,
Вунь сіраціна тужыць пад парогам,
Вунь бедныя ўдовы, што без хлеба-солі
    Плачуць прад Богам.

Што злосць людская яшчэ беды множа,
Сумна мне, Божа!

Той для багацця, той для інтарэсу,
А той для славы працаваў бы вечна;
І безраздумна прадаюцца бесу,
Жывуць бяспечна.
Нішто, я бачу, ім не дапаможа,
Сумна мне, Божа!

Як воўк галодны, што ламае косці
Ваўку другому... Людзі горш ад быдла —
Бо нават сытыя, ад сквапнасці-злосці
Жаруць абрыдла.
Што жывуць людзі між сабой нягожа,
Сумна мне, Божа!

Увосень бачу, як бусел-сірота
Па полі ходзіць, грамадой пакінен:
Яму ў вырай замкнёны вароты...
Хто яму вінен?
Пакуль хто праўду мне ў сэрца паложа,
Сумна мне, Божа!

Знаць не знаю і не буду ведаць,
Скуль тыя смехі ў людзей бяруцца,
Што так вясёла сядаюць абедаць —
Сыта нажруцца?..
Мяне не цешаць ні абед, ні ложа:
Сумна мне, Божа!

О, Край наш родны! Хоць не маеш сілы,
Ты — наша маці, Беларусь святая!
Табе капае сырую магілу
Подласць людская.
Што наша слабасць ворагаў не зможа,
Сумна мне, Божа!

Мы — адзінокія, як колас у полі:
Як збожжа зжалі — ён астаўся сумны.
Другія здружыліся ў пошуках долі —
Яны разумны!
Мы ж разлучыліся, хто нам паможа?
Сумна мне, Божа!

Але нястрашнай будзе злосць людская,
Калі мы станем дружна ў абароне
І нам паможа Добрасць Тры-Святая —
Бог на Сіёне.
Пакуль мы не ўладкуем свет прыгожа,
Сумна мне, Божа!

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

**(1891, Менск — 1917, Ялта)**

У аўтарскім праекце зборніка паэта «Вянок» (1913) знаходзім цэлы раздзел «З чужой глебы», дзе ўпершыню па-беларуску прагучаў П. Верлен — 22 вершы. Багдановіч быў першым беларускім перакладчыкам Авідзія, Гарацыя, Г. Гайнэ, Ф. Шылера, Э. Верхарна — далучаў айчынную літаратуру да «сілавога поля» еўрапейскага пісьменства (выраз Алеся Адамовіча). Ведаючы лацінскую, нямецкую, французскую, польскую мовы, мог працаваць без падрадкоўніка, а на ўкраінскай мове, паводле прызнання бацькі, нават пісаў вершы. Выпісваючы сабе ў нататнік нямецкую прыказку ў расейскім пераказе: «Переводы стихов — словно женщины: если красивы — то неверны; если верны — то некрасивы», Багдановіч наўрад ці пагаджаўся з ёю. Паколькі мэтай кожнага перакладчыка ёсць паяднанне прыгажосці і дакладнасці. Чаго дамагаўся і сам аўтар «Вянка», зрэдку дазваляючы сабе «трошкі абгладжваць, але памятаваў добра, што перакладчык — не рэдактар». Цікава, што выраслае на «чужой глебе» Багдановіч часам ставіў вышэй за ўласныя вершы. У 1912 г. ён пісаў у рэдакцыю «Нашай Нівы»: «Пераклады з Верлена больш вартыя друку, чым трафарэты, да ліку якіх трэба прыпісаць і верш "Шмат у нашым жыцці ёсць дарог..."». Культурна асвечаны і начытаны (аддамо належнае бацьку паэта, які з гонарам гаварыў сыну: усё, што трэба, ты знойдзеш у нашай хатняй бібліятэцы), Багдановіч разглядаў беларускую літаратуру ў кантэксце сусветнай, пісаў сур'ёзныя літаратуразнаўчыя працы пра ўкраінскіх і расейскіх паэтаў. А В. Брусаву нават аргументавана падказаў генеалогію пушкінскага вобраза «арэха-спарыша» ў вершы «Наследаванне арабскаму» — на думку Багдановіча, Пушкін пазычыў яго ў паэта XIII ст. Саадзі Шыразскага. Да ўласных перакладаў М. Багдановіч ставіўся надзвычай патрабавальна. Скажам, з шасці перакладзеных вершаў Гайнэ пры жыцці перакладчыка апублікаваны быў толькі адзін, астатнія чакалі на дапрацоўку. Асобна варта абмовіцца пра вольныя пераклады народных песняў: пераствараючы іх, Багдановіч заадно засвойваў новыя вершаваныя формы. Так, для ўкраінскай песні ён абраў форму каламыйкі, для расейскай — частушкі, для японскай — танку. Змітрок Бядуля, які даў прытулак паэту ў сваёй менскай кватэры ў 1916 г., пазней згадваў: «Памятаю — чытаў ён тады вершы з японскай паэзіі, якія сваёй арыгінальнай формай вельмі зграбна выходзілі на беларускай мове». Перакладаў паэт і з фінскай мовы, хутчэй за ўсё, з дапамогай расейскай, але, як паведамляла газета «Савецкая Беларусь» за 25 ліпеня 1923 г., «вядомыя нам адрыўкі сведчаць аб незвычайным чуццi М. Багдановіча да арыгінала». Разумеючы патрэбу культурнага ўзаемапранікнення, Максім-кніжнік не толькі перасаджваў на родную глебу чужыя парасткі, але і настойліва шукаў дзверы ў шырокі свет для беларускага паэтычнага слова. Прыкладам, перакладаў на расейскую мову вершы Я. Купалы, Я. Коласа, Я. Лучыны, што было жыццёва неабходна для маладой беларускай літаратуры.

*КВІНТ ГАРАЦЫЙ ФЛАК*
*(65—8 гг. да н. э.)*

### ПАМЯТНІК

Лепшы медзі сабе памятнік справіў я,
Болей ўсіх пірамід царскіх падняўся ён;
Не зруйнуе яго сівер, ні едкі дождж,
Ні гадоў чарада, вечнага часу рух.
Не саўсім я памру, лепшая часць мяне
Не зазнае хаўтур; слава мая ўвесь час
Між патомкаў расці будзе, пакуль ўсхадзіць
Зможа з дзевай удвух на Капітолі жрэц.
Аба мне гаварыць будуць: «Раджоны там,
Дзе шумлівы Аўфід шпарка ў палях імкне,
Дзе царыць над людзьмі бедны вадой Танай, —

Ён да славы дайшоў, хоць і не панам быў».
Першы стаў я складаць на эолійскі лад
Ў нашым родным краю песні пад лірны звон.
Ўсе заслугі мае, Муза, з пашанай зліч
І лаўровым вянком мне валасы пакрый.

*ПУБЛІЙ АВІДЗІЙ НАЗОН*
*(43 г. да н. э. — каля 18 г. н. э.)*

## ГРАМАДА ЗОРАК «КАРОНА»

Бог Апалон з галавы зняў карону і кінуў у неба.
Ў светлым паветры яна пралятае; агнямі малымі
Робяцца ў ёй на ляту ўсе каменні каштоўныя. Ў небе
Быццам карона паміж на каленях стаячага Нікса
І паміж Цмока яна, затрымаўшыся, блешча на месцы.

## ІКАР І ДЗЕДАЛ

Дзедал пачаў чарадой прыладжываць пер'і. Насамперш
Дробныя, дальш падаўжэй, і думаць бы можна, што быццам
Пер'і на кочцы растуць. Складалася так жа патроху
З розных няроўных кускоў чароту жалейка пастушша.
Далей ён ніткай звязаў сярэднія пер'і, а рэшту
Воскам зляпіў на канцах. Скрапіўшы такой працай скрыдлы,
Дзедал іх трохі сагнуў, каб да птушачых сталі падобны.
Ікар, сын адзіны яго, не ведаўшы, што ён бярэцца
Ў час той за згубу сваю, — ад ветру лятаўшыя пер'і
Спрытна лавіў, жоўты воск мяў рукамі сваімі і шкодзіў
Дзіўнай рабоце айца гульнёй... Калі майстар закончыў
Працу сваю, дык тады прывязаў сам к плячам сваім скрыдлы
І, размахнуўшыся, ўраз падняўся ў паветра. «О, Ікар!»
Дзедал прамовіў сынку, каб яго навучыць: «Умаляю,
Каб пасярэдзіне ты паляцеў; калі ніжай, чым трэба,
Будзеш імкнуць, дык вада твае скрыдлы памочыць. Калі ж
Вышай у неба ўзляціш, — іх сонца пякучае спаліць.
Лепей ляці між вадой і між сонцам. Прашу цябе далей,
Кінь на Геліку глядзець, на Арыёна меч, на Баота.
Але за мной павандруй». Тут жа сына лятаць навучыў ён
І прывязаў да плячэй яго скрыдлы, нязвычныя людзям...
Ў час, калі Ікара так навучаў заклапочаны бацька,
Слёзы ў старога цяклі і дрыжалі айцоўскія рукі.
Цмокнуў ён сына свайго, у апошні раз цмокнуў і ў неба
Ўзвіўся на скрыдлах сваіх, у паветры паперадзе мчыцца.
Страшыцца ён за дзіця, як з гнязда паляцеўшая птушка
З пцэнчыкам кволым сваім лякаецца ў вышы. І просіць
Дзедал сынка не адстаць, небяспечнай умеласці вучыць,
Скрыдлы варушыць свае, пільнуе сыноўскія. Ў неба
Рыбу лавіўшы вудой рыбакі, пастух, што абпёрся
Кіем, араты з сахой, — кожны з іх, здзіваваўшыся, ў неба
Пільна глядзеў, пазіраў на Дзедала з сынам і лічыў
Іх за багоў, бо адны яны могуць лятаць у паветры.

*ГАЙНРЫХ ГАЙНЭ*
*(1797–1856)*

* * *

Ў паўночным краю на кургане
Сасна адзінока стаіць,
Абкутаўшысь лёдам і снегам,
Як белай адзежынай, спіць.

І бачыць у сне яна пальму,
Што ў дальняй паўдзённай зямле
Самотна стаіць і нудзьгуе
На спаленай сонцам скале.

**ГЕНРЫХ**

У Каносе, перад замкам,
Ноччу цёмнай і дажджлівай,
На дварэ стаіць цар Генрых,
Босы, у адной кашулі.
На яго ў акно хтось двое
Пазіраюць... Месяц глянуў,
Асвяціў Рыгора папы
Брыты чэрап і Мацільду.
Пабялеўшымі губамі
Генрых «Ойча наш» шапоча,
Але злуе яго сэрца,
Нешта іншае гаворыць:
«Там далёка, ў краю родным,
Горы цвёрдыя паднялісь;
У глыбі тых гор жалеза
Пахавана на сякеру.
Там далёка, ў краю родным,
Ёсць лясы з дубоў вялізных:
З самага старога дуба
Для сякеры выйдзе ручка.
Край мой родны! Край мой верны!
Зродзіш, край, ты чалавека,
Што змяю майго мучэння
Ўраз заб'е сякерай вострай».

*ЁХАН ЛЮДВІГ РУНЕБЕРГ*
*(1804–1877)*

**ПАВО**

Блізка горнай рэчкі Сарыярві
Жыў сабе ды гаспадарыў Паво.
Меў ён жонку і дзяцей з асьміну,
Разам з імі і араў і сеяў,
А пасля еў хлеб запрацаваны.

Толькі ж раз вясной дажджы як лінуць,
Скрозь руччы, узяўся снег вадою —
І палову руні з поля змыла;
Ўлетку каласы пабіла градам,
Рэшту — ўвосень маразы згубілі.
Аж галосіць гаспадыня Паво:
«Прыйдзецца нам з торбай пацягацца,
Пад ваконнем сораму набрацца,
Паміраці або жабраваці».
І тады прамовіў жонцы Паво:
«Памяшай муку з карой таўчонай;
Загару глыбей я нашу ніву, —
Перабудзем так да ураджаю».
І яна муку з карой змяшала,
Загараў глыбей сваю ён ніву,
Накупіў сямян, прадаўшы оўцы.
Вось растануў снег вясной на полі,
Але руні болей не пашкодзіў.
Ўлетку бура з градам праняслася,
Але не пабіла збожжа Паво.
Маразы ізноў былі пад восень,
Толькі ж ніва Паво ўжо наспела.
І сказала, жыта зжаўшы, жонка:
«Вось калі мы пажывём выгодна.
Годзе нам мяшаць муку з карою, —
Можна чыстага пад'есці хлеба».
І тады прамовіў жонцы Паво:
«Зноў змяшай муку з карой таўчонай,
Бо памёрзла ніва у суседа».

*АЛЕКСІС ФЕЛІКС АРВЕР*
*(1806—1850)*

## САНЕТ

Я тайну ў глыбіні душы хаваю,
Ў жыцці мінутным — вечную любоў.
Няма у ёй надзей, няма і слоў,
Аб ёй не чула тая, што кахаю.

Уваг яе к сабе я не звяртаю;
Я ўсцяж адзін, хаця б і з ёй ішоў;
І я нічога да канца гадоў,
Не смеючы прасіць, не атрымаю.

І хоць ласкавасць Бог узычыў ёй,
Яна прастуе сцежкаю сваёй
І шэпт маёй любві не вычувае.

Калі ж, душою строгая, спаткне
Верш гэты, ёю поўны, то шапне:
«Жанчына тая хто?» — і не ўгадае.

## *АПАЛОН МАЙКАЎ*
*(1821—1897)*

* * *

«Золата, золата падае з неба!» —
Дзеці крычаць і бягуць за дажджом...
Досыць вам, дзеці, яго мы збяром,
Толькі збяром залацістым зярном
У свірнах, што поўны пахучага хлеба.

## *ПОЛЬ ВЕРЛЕН*
*(1844—1896)*

* * *

Покуль, зорка, ўранку твой
Бледны блеск яшчэ зіяе
(Між травой
Перапёлак цьма спявае),

Абярніся, глянь ка мне
Ў вочы, поўныя кахання
(К небу мкне
Стая жаваранкаў зрання),

Кінь пагляд, што ледзь відаць,
Бо нябёсы ззяюць сіне
(Шум чуваць,
Гул вясёлы у даліне)!

І кахання думкі ў даль
Унясі на светле шпарка
(Быццам сталь,
Траў раса блішчае ярка),

К мілай, што салодка сніць,
Іх прымчы цераз аконца
(Трэ спяшыць,
Бо вось-вось заззяе сонца)!

* * *

*Son joyeux importun, d'un clavecin sonoe.*
*Пэтру Барэль*

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні, шэра-ружаваты;
І на крылах, цішэй ад вецярка,
Ў паветры мяккім, пекным паплыла ты
Пужліва, песня, і срэдзь комнат хаты
Шчэ доўга веяў пах, як ад цвятка.

Што за калыска ціха так гайдае
Стамлёнага, бяздольнага мяне?

Чаго, як жэўжык, песня вымагае?
І што ў канцы яе прыпеў жадае,
Каторы гэтак хутка у акне,
Адчыненым на садзік, замірае?

* * *

У полі дзікім і апусцелым
Праходзяць ноччу дзве мары ў белым.

Мяртвы іх вочы, блядны іх чолы,
Іх словы з вуснаў злятаюць кволы.

У полі дзікім і апусцелым
Аб прошлым шэпчуць дзве мары ў белым.

«Ты наша шчасце ці ўспамінаеш?» —
«К чаму ж ты гэта цяпер жадаеш?» —

«Ці б'ецца сэрца, хоць проці волі,
Пачуўшы імя маё?» — «Ніколі». —

«Вясёла, моцна і так прыгожа
Кіпела наша любоў». — «Быць можа». —

«Сінела неба, расла надзея...» —
«Надзей няма ўжо, і свет цямнее».

Так шэпчуць мары, ўкруг — дол аўсовы,
І чуе толькі ноч тыя словы.

## МЛОСНАСЦЬ

*Жоржу Куртэліну*

Я — падупаўшы Рым, каторы пазірае
На белых варвараў, на бушаванне іх,
І стылем залатым ляніва акрасціх,
У блеску сонечным, стаміўшыся, складае.

Ў самотным сэрцы — зло, ў душы — нуда густая.
І бітвы чуючы, каторых шум не сціх,
Не можа, кволы, ён дайсці жадань сваіх,
Не хоча рушыцца, жыцця не аздабляе!

Не можа, кволы, ён, не хоча нат сканаць!
Ўсё зведана! Баціл, ты скончыш смех? Даволі!
Ўсё зведана! Няма чаго прамовіць болі!

Адно ёсць — вершыкі, што ўжо ў агні гараць,
Адно ёсць — п'яны раб, што вас не паважае,
Адно ёсць — пусткі сум, што сэрца уражае.

*МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ*
*(1868–1946)*

* * *

Ўжо зноў не спаткаюцца тыя шляхі,
Якімі ў жыццё мы выходзілі зрання,
Мы ўсе пакляліся, маўляў жаніхі,
Да смерці адзінае меці каханне.
А як разышліся — пакінулі нас
Заходы і думкі высокія ўраз:
На іншыя сцежкі жыццё нас звяртае,
Па-своему кожны свой век пражывае,
У кожнага неба і сонца свае,
Супольная ж праўды крыніца не б'е.

*АГАФАНГЕЛ КРЫМСКІ*
*(1871–1942)*

* * *

Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну,
Бог зрасіў вадою высахшую гліну.
Але чорт падкраўся: выціснуўшы воду,
Падмяшаў ён слёзы ў нашую прыроду.

Нудзяць нас праз тое цягам смуткі, жалі,
І адзін ратунак, каб яны маўчалі, —
Выплакаць іх шчыра, галасна ці ціха,
Каб з слязамі разам вылілася ліха.

Ох, мне з гэтым лекам ачуняці трудна,
Слёзаў я не маю, а ў душы так нудна,
Ўжо яна згарэла, а не плачуць вочы,
Ўжо самлела сэрца, а плакаць не хоча.

*АЛЯКСАНДР ОЛЕСЬ*
*(1878–1944)*

**АСТРЫ**

У поўначы астры ў саду расцвілі,
Убраліся ў росы, вянкі заплялі
І сталі ружовага ранку чакаць,
Ў вясёлку калёраў жыццё убіраць.
І марылі астры ў цудоўнаму сне
Аб зёлках шаўковых, аб сонечным дне.
І казачны край падымаўся з іх сна,
Дзе кветы не вянуць, дзе вечна вясна...
Так марылі ў шэрую восень яны,
Так марылі астры і ждалі вясны.
А ранак спаткаў іх халодным дажджом,
І вецер стагнаў у саду за кустом.

І ўбачылі астры, што ўкруг іх — турма,
Убачылі астры, што жыць ім — дарма.
І ўмерлі яны. Але тут, як на смех,
Паднялася сонца, цалуючы ўсіх.

## ЮСІФ СІМАНОЎСКІ

**(1892, Бабруйск — 1967, Менск)**

Адзін з самых дасведчаных у колішнім СССР бібліёграфаў. Закончыў ажно два замежныя універсітэты — Бернскі і Сарбону. Вярнуўшыся з Францыі, усё жыццё працаваў дырэктарам бібліятэк: Бабруйскай гарадской, Навуковай медыцынскай, Дзяржаўнай імя Леніна. Галоўным кнігасховішчам Беларусі загадваў з 1944 да 1961 г. Пераклады з Гайнэ адшукаліся ў старэнькім, 1950-х гадоў, выданні. Здаецца, пазней выдаўцы на іх не звярталі ўвагі.

### *ГАЙНРЫХ ГАЙНЭ*
*(1797—1856)*

* * *

Скацілася зорка з неба,
З бліскучай сваёй вышыні!
Яшчэ адна знічка кахання
Рассыпалася ў агні.

Пялёсткі злятаюць з яблынь,
Падаюць ціха ў сад,
А іх у сумёты вецер
Змятае каля прысад.

Пяе над затокай лебедзь,
З вялікай пяе тугой,
І з песняй смяротнай знікае
Ў блакітнай магіле сваёй.

Як ціха навокал і цёмна!
Лісты ападаюць з дрэў.
Скацілася зорка кахання,
Заціх лебядзіны спеў.

* * *

Твой ліст, мая дарагая,
Мяне не забіў, як гром.
Мяне ты не кахаеш,
А споведзі — цэлы том.

Дванаццаць старонак, роўна
Запоўненых з краю ў край...
Ці ж пішуць так мнагаслоўна,
Калі гавораць «бывай»?!

## ЧАЙЛЬД ГАРОЛЬД

Непакорны човен чорны
Рассякае мора гладзь,
Нерухомыя, нямыя
Вартавыя ў ім сядзяць.

Пабялелы, анямелы
У труне ляжыць паэт.
Твар адкрыты, праз блакіты
Зрокам мерае сусвет.

А ў прадонні хтосьці стогне
Несуцешнаю ўдавой.
На жалобны плач падобны
Ўсхліпы хваляў за кармой.

# БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ

**(1892, засценак Мацюлішкі Віленскага пав. — 1938, Менск)**

Вучань акадэміка А. Шахматава, класічную адукацыю атрымаў на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага універсітэта (1916). Год адпрацаваў там прыват-дацэнтам па грэцкай і лацінскай мовах і, нягледзячы на просьбы акадэміка застацца, вярнуўся на радзіму. Зрэшты, у Пецярбург Тарашкевіч накіроўваўся як перспектыўны аўтар граматыкі беларускай мовы, і ён яе напісаў — першае выданне выйшла ў Вільні ў 1918 г. Актыўна займаўся стварэннем у Заходняй Беларусі асветніцкіх, грамадскіх і палітычных арганізацый, выкладаў грэцкую мову ў Менскім педінстытуце, быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. абраны паслом польскага Сейма, з трыбуны якога бараніў правы беларускай нацыянальнай меншыні ў Польшчы. У 1927-м Тарашкевіч быў арыштаваны польскімі ўладамі і правёў у вязніцах амаль шэсць гадоў. На адным з судовых працэсаў пракурор назваў яго «паўночным барбарам». Адвакат запярэчыў: «Падсудны ў зняволенні пераклаў "Іліяду", а цяпер перакладае на беларускую мову "Пана Тадэвуша". Дзеля чаго называць "барбарам" чалавека, які прышчапляе беларускай культуры шэдэўр польскай паэзіі?» У 1933-м саветы выменялі Б. Тарашкевіча на Ф. Аляхновіча і вывезлі былога пасла ў Маскву, а ў 1938-м вярнулі ў Менск, каб «гуманна» расстраляць на радзіме ў засценках НКУС. «Пана Тадэвуша» перакладчык паспеў перадаць з турэмных казематаў на волю — ён выйшаў асобным выданнем у Менску (1981) і Ольштыне (1984). Ад «Іліяды» ацалелі толькі фрагменты, апублікаваныя ў 1920—1930-я гг. Ці захаваўся астатні тэкст — невядома.

*ГАМЕР*

## ІЛІЯДА
*Фрагмент*

Ускрыкнуў старэнькі Прыям, ухапіўся рукамі за голаў.
К небу далоні падняў і, галосячы, дай жа прасіці
Гектара, мілага сына. А той, перад брамаю стаўшы,
З месца не рухаўся: так зажадалася біцца з Ахілам.
Выцягнуў рукі стары і прамовіў такімі славамі:
«Мілы мой, родны мой Гектар, пакінь, не чакай ты Ахіла
Ў полі адзін без другіх, каб цябе не спаткала пагібель
З рук Ахілеса, бо ён за цябе шмат сільнейшы, страшэнны.

Ах, каб багам неўміручым, як мне вось, ён гэтак быў мілы,
То скора яго груганы і сабакі бы з'елі
І спала б мне з сэрца цяжкая бяда і згрызота:
Колькі сыноў маладых і магутных ён мне абязвечыў,
Пазабіваўшы ці на астравы запрадаўшы далёка.
Вось і цяпер Лікаона няма, ды няма й Палідора,
Іх я не бачу вярнуўшыхся паміж траянцамі ўсімі,
Мілых сыноў, што радзіла жанчына з жанчын Лаафея;
Але, калі яны ў стане жывым, то выкупіць зможам,
Даўшы і медзі, і золата, многа бо гэтага маем,
Многа пасагу мне даў за дачкой стары Альт знамяніты;
Ну, а калі ўжо памёршы й абое пайшлі да Аіда,
Гора і матцы, і мне, што радзілі на смерць іх бяздольных.
Але народу траянскаму меншае гора было б,
Толькі каб ты не загінуў бы, здужаны сілай Ахіла.
Ну дык, сыночку ты мой, увайдзі за муры ўжо, бо мусіш
Быць абаронцам траян і траянак, каб славы не даці
Сыну Пелея ды мілай душы і жыцця не згубіці.
Урэшце падумай і злітуйся хоць нада мной, над няшчасным
Бацькам, якога змушае Зявес на парозе магілы
Вынесці столькі згрызот і пабачыці гэтулькі гора:
Як забіваюць сыноў і як цягнуць дачок у няволю,
Апусташаюць каморы і дзетак маленькіх нявінных
Вобзем кідаюць і б'юць, азвярэлыя ў лютым змаганні;
Бачыць, як цягнуць сыноў маіх дзікія воі ахеян.
Сам я апошні паду, і мяне на парозе сабакі
Жадныя там разарвуць, калі нехта вастрэннаю меддзю
Тне ці прапора мяне і з суставаў мне выжане духа;
Тыя сабакі прыдзверныя, што пры бяседах карміў іх.
Піць маю кроў яны будуць, а после, напіўшыся, лягуць
З сумнай душою у сенях. Прыгожа ляжаць маладому,
Нават забітаму востраю меддзю ў баі-ваяванні:
Хораша ўсё ў яго, на што толькі вачмі не паглянеш;
Але сівую калі галаву, бараду й срамаценне
Ў мужа забітага злыя сабакі крамсаюць і бэсцяць,
То ўжо за гэтае горай і ў марных людзей не бывае».
Гэтак стары гаварыў і, схапіўшы рукамі за голаў,
Рваў валасы, але просьбамі Гектара не перайначыў.
Маці і тая таксама давай галасіць-прымаўляці,
Грудзі яна расхіснула, рукою ўзяўшы адну з іх,
Плачучы слёзна, казала такія крылатыя словы:
«Гектар, дзіцятка маё! Ушануй ты хоць гэта, май літасць
Хоць нада мной, што грудзьмі ціхамірыла плач твой дзіцячы,
Мілы сыночку, успомні ты й гані Ахілеса
Згэтуль, схаваўшыся ў горад, не йдзі на яго адзінокі,
Бо як заб'е ён, шалёны, цябе, то не ўдасца й аплакаць
Мілую родную краску на марах ні мне, ані жонцы
Дужа пасажнай: ад нас, ад абедзвюх няшчасных, далёка
Пры караблях пры ахейскіх з'ядуць цябе злыя сабакі».
Гэтак абое яны прамаўлялі да мілага сына
Й вельмі прасілі, а не перайначылі Гектара духа:
Стойка стаяў і чакаў ён на бой Ахілеса страшнога.

Так, як дракон, што ў горнай нары чалавека чакае,
Зелля благога нажоршыся, з ярасцю й злосцю страшною,
Ўецца ў логаве толькі й страшэнна ў бакі паглядае, —
Гэтак і Гектар у злосці нястрымнай трымаўся на месцы:
Шчыт абапёршы бліскучы аб выступ высокае вежы
І уздыхнуўшы, прамовіў сабе да душы да адважнай:
«Гора ж маё! каб схавацца цяпер мне за браму, за сцены.
Першы тады Пулідам мяне лаяць і ганіць пачаў бы,
Бо і казаў жа ён мне, каб траянцаў у горад увесці
Ў тую праклятую ноч, як Ахіл ваяваці ўзняўся;
Я не паслухаў тады, а было бы ўсім куды лепей,
Ну, а цяпер я шаленствам дурным загубіў увесь горад.
Сорамна мне ад траянцаў і доўгападолых траянак,
Каб не сказаў аба мне і найгоршы які грамадзянін:
"Гектар народ загубіў, на сваю спадзяваўшыся сілу!"
Гэтак і скажуць. Дык мне куды лепей паспрабаваць будзе
Процістаяць і, Ахіла забіўшы, дахаты вярнуцца,
А калі не, то самому хоць слаўна памерці за горад».

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798–1855)*

**ПАН ТАДЭВУШ**
*Фрагмент*

Літоўскіх вялікіх князёў вы равеснікі, дрэвы
Панар, Белавежы і Свіцязі, і Кушалева!
У вашым цяньку спачывалі каронны галовы
І грознага Вітаўта й воя страшнога Міндовы.
І князь Гедымін на Панарскай гары неаднойчы
На скуры мядзведжай ляжаў пры агні сярод ночы,
Ляжаў ён заслуханы ў песнях вяшчальных Ліздзейкі,
А відам Вяллі і ўсыпляючым шумам Вялейкі
Ухутаны, сніў аб ваўку аб жалезным прарочa;
Прачнуўшыся, выканаў Божы загады ахвоча:
Паставіў тут Вільню, якая сядзіць між лясамі,
Як воўк між зубрамі, дзікамі і між ведзмядзямі.
З той Вільні, як з рымскай ваўчыцы, бы з маткі,
Пайшлі і Кяйстут, і Альгерд, і Альгерда нашчадкі,
Вялікія роўна лаўцы, як і рыцары слаўны,
І сцігаваць ворага й звера аднолькава спраўны.
Лавецкі той сон адкрыў тайну нам прошлых часоў,
Што трэба Літве заўсягды і жалеза й лясоў.

О пушчы! Апошні да вас прыязджаў на уловы
Апошні кароль, што насіў шчэ каўпак Вітаўтовы,
Апошні, што быў з Ягелонаў ваяка шчаслівы,
Апошні ў Літве і манарх, і лавец прамыслівы.
Радзімыя дрэвы мае, мае другі старыя!
Як неба дазволіць вярнуцца да вас, дарагія,
Ці там вас знайду я яшчэ? Ці дагэтуль вы жывы?
Я ж поўзаў калісьці між вас у маленстве, шчаслівы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А колькі жа вінен і я вам, радзімыя дрэвы!
Стралец я няўдалы, ўнікаючы смеху калегаў
За хібленне, колькі між вашых зялёных пялехаў
Я дум спаляваў, у зацішнай глушы заблудзіўшы,
Прысеўшы на купіну й зараз пра ловы забыўшы,
Наўкола мяне серабрыўся там мох барадаты,
Памятай чарніцы крывёю абліт, сіваваты;
А там чырванеліся верасу яркія ўзгоркі,
На іх жа — буйныя брушніцы, караляў пацёркі.
Кругом было цёмна, а зверху галіны густыя
Звісалі, як хмары зялёныя, дужа нізкія;
Віхор толькі дзесь над скляпеннем шумеў нерухомым
Выццём сваім, шумамі, енкамі, ляскатам, громам.
Дзіўны, ап'яняючы гоман! Аж сэрца шчымела,
Нібы нада мною вісячае мора шумела.

У доле ж — як места разваліны: выварат дуба
З зямлі вытыркаецца відам вялікага зруба:
На ім абапёршыся, як паламаны калоны,
Камлі сукаватыя й згніўшыя ў моху калоды,
Травой абгароджаны; глянуць у звалішчы тыя
Ўсярэдзіну страшна, бо гаспадары там лясныя:
Дзікі, ведзмядзі і ваўкі; паабгрызваны косці
Ляжаць пры варотах; ахвярай — няўважныя госці.
Падчас вымыкаюцца з гэтае траваў зялені,
Як два вадапырскі фантана — рагі два аленні
Й мігне паміж дрэвамі жоўтаю звер паласою,
Як сонца, бліснуўшы у лес залацістай касою.

І ціха ізноў. Толькі дзяцел з гары на яліне
Пастукае злёгку, далей адлятае і гіне;
Схаваўся, а дзюбай пастукваць усё не кідае,
Як тое схавана дзіцё, што шукаць заклікае.
Вунь села вавёрка, гарэхі у лапах лузгоча,
Грызуха, кітою завесіла хвост на узвочча,
І, як кірасір той пяром над шаломам махае,
Хоць так засланіўшыся, але кругом спазірае;
Пабачыць гасця й пераскаквае, лесу скакуха,
Із дрэва на дрэва: мігне, як маланка-бліскуха;
Пасля ў патайным невідочным дупле прападае —
Ну нібы у роднай стыхіі дрыяда якая.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хто ж зведаў бяздонныя краі літоўскіх тых пушчаў
Да самай сярэдзіны, аж да ядра іхных гушчаў?
Весць толькі ці казка нам кажа пра іхныя чары.
Папробуй, прайдзі праз бары і падшыты гушчары.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Галоўнае княства звяроў і раслінаў сталіца,
Дзе зложана дрэваў і зелля ўсякага семя,
З якога на свет разрастаецца кожнае племя;

У ёй, як у Ноевай скрыні, з усякага роду
Хаваецца пара, прынамсі адна, для расплоду.
Чувацца, што маюць двары усярэдзіне гушчаў
І тур стары й зубр, і вядзмедзь — імператары пушчаў.
Ля іх жа, на дрэвах, там рысь загнязджаецца быстра,
За ёй расамаха, яны — як чуйныя міністры.
А далей, як бы падуладны васальны паняты,
Жывуць там дзікі і ваўкі, і ласі расахаты.
А над галавой сакалы і арлы там дзікія,
Жывучыя з панскіх сталоў, як нахабнікі тыя.
Галоўныя й патрыярхальныя гэтыя пары
Для свету нявідныя. Скрытыя ў самым гушчары,
Дзяцей сваіх шлюць на сяліну за лесу граніцы,
А самі ўжываюць свабоднага часу ў сталіцы;
Не гінуць ніколі аружжам ні сечным, ні пальным,
А толькі, старыя, ўміраюць канцом натуральным.
І могілкі маюць свае, дзе ўжо, блізкія смерці,
Кладуць свае перыйкі птушкі, звяры — свае шэрсці.
Вядзмедзь — калі зубы ўжо з'еўшы, не пераЖавае,
Алень — як згрыбеўшы, старэнькі, ледзь ногі сувае,
І заяц — калі яму кроў ужо ў жылах закрэпне,
Крумчкач — калі ўжо пасівее, сакол — як аслепне,
Арол — калі дзюбу старую у лук гэтак скрыве,
Што болей адкрыць не здалее і горла не жыве, —
На могілкі йдуць; нават меншы той звер, калі з ранай
Ці хворы, стараецца быць пры бацьках пахаваны.
Таму між даступнага лесу, дзе людзі як госці,
Ніколі не знойдуцца мёртвы звярыныя косці.
Чувацца, што ў пушчах старых між звярамі
Звычаі нягоршы, кіруюць сабою бо самі.
Прагрэсам людскім зверына там не сапсавана,
Не знае праў собства, каторым наш век збусаваны.
Ані паядынкаў, ніякай ваеннае штукі,
Бацькі — як у раі жылі, так жывуць і унукі,
Дзікія і свойскія разам у міласці, згодзе.
Адзін не бадзе, не кусае другога, не шкодзе.

## ІГНАТ КАНЧЭЎСКІ

**(1896, Вільня — 1923, тамсама)**

Самы вядомы твор Канчэўскага — філасофскі нарыс «Адвечным шляхам: Даследзіны беларускага светагляду» (1921), які быў апублікаваны ў Вільні пад псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч. На пачатку 1990-х нарыс быў перавыдадзены й засланіў сабою ўвесь астатні наробак гэтага таленавітага, рана памерлага ад сухотаў літаратара. А ён выступаў як публіцыст, празаік, перакладчык, паэт — рукапіс зборніка «Паэзія» так і застаўся ляжаць у віленскім, цяпер замежным, архіве. Пераклад з польскай паэткі З. Вайнароўскай (гады жыцця, на жаль, высветліць не ўдалося) пад псеўданімам Ганна Галубянка публікаваўся ў 1922 г. на старонках газеты «Наша будучыня».

*ЗОФ'Я ВАЙНАРОЎСКАЯ*

## GLORIA

I
Хадзіў Спас цёмнай ночай па полі,
па ўсіх вёсках, па местах шумлівых...

І угледзелі хлопца малога
пастухі па дарозе дахаты:
у зіхценні вянка залатога
ён ішоў напрасткі, без дарогі,
за ракой, дзе жыў мельнік багаты.

Выпадкова убачылі людзі —
рабачаі, пакінуўшы працу,
як кабета з дзіцёнкам пры грудзях
бегла босая ў вулічным брудзе,
потым знікла за рогам палацу.

Апаўночы між дум невясёлых
арыштанты праз краты астрога
назіралі — у небе анёлы
абсыпалі падножжа Прастолу
пылам зорак, дажджу залатога.

І згубіўшыя радасць дзяўчыны
мелі ў цёмных завулках спатканне:
нехта пекны, святы і нявінны
асвяціў сэрц збалелых глыбіны
чараўнічым праменнем кахання.

Хадзіў Спас цёмнай ночай па полі,
па ўсіх вёсках, па местах шумлівых
і казаў ў залатым арэоле:
«Чаму Госця прыняць не маглі вы?»

II
Хадзіў Спас па заснежаных нівах,
прыглядаўся да мукаў і боляў...
Святары ж уважалі,
што Яго пахавалі
у царкве, у касцёле
сярод золата й камняў фальшывых.

Прытуліў Збаўцу хтосьці,
запрасіў нехта ў госці.
І спяваў люлі-люлі
над дзіцёначкам босай кабеты.
У шумным месце не чулі
ў беспрабудным разгуллі,
што маліўся за горад Ён гэты,
які так і не ведаў,
што ўсе зоркі на небе —
гэта слёзы дзяўчын з вулак брудных.

Хадзіў Спас па заснежанай глебе,
па шляхах, бездарожжах бязлюдных,
па лясах, па раўнінах, па долах...
Святары ж уважалі,
што Хрыста затрымалі
у халодных царквах і касцёлах.

III
Запрасіў да сябе Збаўцу нехта,
пасадзіў за вячэру,
і суседзі пачулі,
як спяваў люлі-люлі.

IV
Не стаіць больш на рогу праспекта
з дзіцянёткам кабета пры скверы
ў лёгкай вопратцы, босай на лёдзе,
хлопчык знік паміж дрэваў і стрэхаў.

Столькі рожаў і квітнучых вішняў,
Столькі ліліяў!.. Зоркі, бы рэхам,
Адзываюцца ім у сваім карагодзе:
Gloria in excelsis Deo — Слава ў вышніх...

## МІХАСЬ ДУБРОЎСКІ

**(1897, в. Казелле Чэрыкаўскага пав. — 1983, Горадня)**

У юнацтве працаваў паштаром, служыў у царскай арміі і бальшавіцкіх вайсковых аддзелах, што ўсталёўвалі савецкую ўладу на Чарнігаўшчыне. У 1926—1941 гадах жыў у Маскве, дзе закончыў Брусаўскі інстытут і аспірантуру Інстытута філасофіі, літаратуры і гісторыі (ІФЛІ). У Беларускім клубе на Арбаце М. Дуброўскі выкладаў родную мову для аселых у Маскве суайчыннікаў і агітаваў апошніх уступаць у беларускую секцыю расейскага літаратурнага згуртавання «Кузница» (за лідэрства ў апошняй спаборнічаў з П. Шукайлам). Паваяваў усяго некалькі месяцаў, быў дэмабілізаваны па стане здароўя і настаўнічаў у Падмаскоўі. Пасля вайны вярнуўся на радзіму і працаваў у Берасцейскім і Гарадзенскім педінстытутах. Друкаваўся з 1920-х гадоў, апрача «Кузницы» ўваходзіў у беларускі «Маладняк». Пераклаў «Баладу Рэдынгскае турмы» О. Уайльда (выйшла асобным выданнем у 1926-м). Пераклады з У. Шэкспіра і Ф. Петраркі прыносіў у «Гродзенскую праўду», дзе яны і публікаваліся з лёгкай рукі літкансультанта Васіля Быкава.

*ФРАНЧЭСКА ПЕТРАРКА*
*(1304—1374)*

* * *

Дабраславёны дні і сінь начэй,
І год, і час, і дзіўнае імгненне,
І край той ціхі, і нябёс квітненне,
Калі я йду ў палон тваіх вачэй.

Дабраславёна тайна абуджэння
На кліч, які за золата званчэй,

І стрэл, што за маланку гарачэй,
І ранаў сэрца прагнае тамленне.

Дабраславёны ўпарты голас мой,
Які ўстае й кладзецца з імем донны,
І сум, і ўздыхі, і жаданні.

Дабраславёны ўсе вершаскладанні
У гонар донны й думка — друг штодзённы, —
Што кажа мне аб ёй, аб ёй адной.

*УІЛЬЯМ ШЭКСПІР*
*(1564–1616)*

## САНЕТ 7

Калі світанне з ложка падымае
Сваю палаючую галаву,
Жыхар зямлі паклоны пасылае
Насустрач велічнаму бажаству.

Калі ў красе сваёй у час паўдзённы
Праходзіць сонца ў вышыні крутой,
Глядзяць захопленых вачэй мільёны
На шэсце калясніцы залатой.

Калі ж свяціла схіліцца ў бок ночы
Ды ў зморы апускаецца у змрок,
Паклоннікаў і слуг ягоных вочы
Накіраваны ў адваротны бок.

Пакінь жа сына ў час свайго квітнення,
Ён сонца заўтрашняга дня сустрэне.

## САНЕТ 94

Хто злом валодае й не чыніць зла,
Не карыстаючыся ўладай поўнай,
Хто іншых перамог, а сам — скала,
Душою цвёрды, непахісны, роўны, —

Таму нясуць нябёсы шчасце ў дар,
Зямля яго, як роднага, вітае,
Ён велічы сапраўдны гаспадар,
А веліч славіць іншым выпадае.

Прырода дорыць кветцы аганёк,
Хоць кветка, узгарэўшыся, завяне.
А як загана знойдзе ў ёй куток,
Больш вартым і прыветным лопух стане.

Палын і саладзей нам і мілей
Ад водару атручаных лілей.

## УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

**(1900, в. Агароднікі Вілейскага пав. — 1976, Масква)**

Першы перакладчыцкі досвед займеў у 1922—1925 гг., падчас працы ў прадстаўніцтве Савецкай Беларусі пры ўрадзе СССР, дзе пературмачваў па-беларуску саюзныя законы. Будучы выпускніком маскоўскага Літаратурна-мастацкага інстытута, перакладаў вершы свайго былога настаўніка Валерыя Брусава, чыё імя насіў інстытут. Дарэчы, сярод іншых перакладаў і брусаўскі верш «Муляр», сюжэтам якога пазней пакарыстаўся А. Гарун (гарунназнаўцы гэтага факта пакуль не заўважылі). У 1930 г. быў арыштаваны, паводле ўспамінаў Антона Адамовіча, у турме пераклаў «Шыльёнскага вязня» Байрана. Да Байрана Дубоўка меў даўнюю сімпатыю і ў сваю забароненую савецкай цэнзурай паэму «Штурмуйце будучыні аванпосты» ўключыў гэткі невыпадковы зварот: «Лорд Байран! Каб ведалі вы / Пра нашай краіны нядолю — / Здратаваныя паплавы / І ў корань стаптанае поле, / Вы, пэўна, пайшлі б бараніць / Яе, а не грэцкія міты... / Парвалася прошласці ніць, / І мы ланцугамі спавіты». А ў паэму «Кругі» Дубоўка смела ўключаў радкі расстралянага незадоўга перад гэтым М. Гумілёва, прычым у арыгінале, рызыкуючы нарвацца на абазнанага ў паэзіі цэнзара. Дзякуй Богу, цэнзара такога не знайшлося... Сур'ёзна і мэтанакіравана Дубоўка заняўся перакладамі пасля вяртання з трыццацігадовай высылкі. Зрэшты, вяртанне тут можна разглядаць умоўна, паколькі паэту, колішняму лідэру суполкі «Узвышша», нават і пасля рэабілітацыі (1957) у Менск вярнуцца настала не ўдалося, давялося пасяліцца ў Маскве. «Трохи мені не зрозуміло: чому ти, билоруський поэт, добровільно живеш у Москві? Поясни мені, любий друже, ■ чім річ?» — пытаўся ў лісце да Дубоўкі ў 1959 г. украінскі паэт Уладзімір Сасюра. А рэч была ў тым, што пасля прыезду Дубоўкі з Краснаярскага краю ў беларускую сталіцу, літчыноўнікі пасялілі яго ў гатэлі, вокны якога выходзілі на турму, дзе паэт сядзеў у 1930 г. У такіх «камфортных умовах» нязломны Дубоўка вытрымаў каля дзевяці месяцаў, потым быў вымушаны з'ехаць у Маскву. Вяршыня перакладчыцкага майстэрства паэта — 154 санеты Шэкспіра, выдадзеныя ў 1964 г. з ілюстрацыямі Б. Заборава. Нягледзячы на тое, што Дубоўка перакладаў з арыгінала, «шэкспіраўскі агонь» яму даваўся нялёгка (прызнанне ў лісце да рэдактара кнігі В. Нікіфаровіча). Даводзілася рабіць па некалькі варыянтаў. «Уся цяжкасць у тым, — пісаў перакладчык, — што ангельская мова вельмі лаканічная. У паэме можна было б некалькі радкоў дадаць, каб перадаць думку аўтара. А ў санеце ніяк не выкруцішся». І ўсё ж «выкруціўся» паэт так, што вось ужо паўстагоддзя палепшыць шэкспіраўскія санеты ў беларускіх перакладчыкаў рука не падымаецца. Апрача Шэкспіра не выпадае абмінуць пераклады Дубоўкі з Байрана (асабліва паэму «Шыльёнскі вязень»), эпізадычныя, але прафесійныя перастварэнні вершаў літоўца Ю. Янопіса, армяніна Е. Чарэнца, украінца У. Сасюры, палякаў Ю. Славацкага і У. Бранеўскага.

*ДУ ФУ*
*(712—770)*

### ПРА ТЫГРА

Жуду слабейшым тыгр прыносіць люты,
але і ён трапляе ўсё ж ткі ў клямар:

закручаны ўжо лапы ў моцных путах —
ён марна ушчынае грозны лямант.

Пад ногі ляжа шкура нежывая,
шкляныя вочы не пабачаць свету.

З людзьмі, дарэчы, горшае бывае:
няхай тыраны ведаюць пра гэта!

## ЦВЫРКУН

Такі маленькі цвыркунок,
Што ледзьве бачыць яго зрок,
Але кранае сэрца ўсім
Журботным голасам сваім.
Ён у траве звініць удзень,
А ноччу ў хату забрыдзе,
Засядзе дзе пад ложкам там,
Пачне тайком спяваць людзям.
І я, без роднае зямлі,
Тут захлынаюся слязьмі:
Згадаў я жонку і дзяцей,
Зноў не самкне яна вачэй.
Рыданне струн і флейты стогн
Нас не расчуляць так, як ён,
Як галасочак, што для нас
Цвырчыць і ў самы позні час.

## ВЕРШ ПРА ТОЕ, ЯК АСЕННІ ВЕЦЕР РАЗБУРЫЎ ТРЫСНІКОВУЮ СТРАХУ МАЁЙ ХАЦІНЫ

Асенні вецер дзьме усё мацней,
не пакідаючы сваіх разбойных дзей.

Ён са страхі маёй хацінкі змёў
чатыры рэдзі трысніку далоў.

Адну, узняўшы сілаю сваёй,
параскідаў ён недзе за ракой.

Шпурнуў другую, колькі змогі меў.
Яна засела ў верхавінах дрэў.

А рэшткі ў сажалку пагнаў праз тын.
І знікла ўся страха мая, як дым.

Прыбеглі з вёсак бліжніх хлапчукі.
Ім, як для кпін, увесь разбур такі.

Яны сабралі рэшткі па зямлі
і, як зладзюжкі, ў лес павалаклі,

чым і даканчылі ўвесь гэты глум.
А мне пакінулі тугу адну.

Засмаглі вусны, і запёкся рот.
Я перастаў крычаць, смяшыць народ.

На кій старэцкі я успёрся свой
і праз акно гляджу перад сабой.

А хмары сталі чорныя, як туш,
сабой закрылі неба пекнату.

І самі утапіліся у змрок.
Кладуся я пад коўдру ў свой куток.

Хоць вецер змоўк і стала зацішней,
не грэе коўдра мне старых касцей.

Зусім страпаў яе сыночак мой,
калі варочаўся, сплючы, пад ёй.

А дождж не тое каб шумеў здаля,
ён мне пачаў на ложку назаляць.

Цурочкі цягне, як з кудзелі ніць,
ніяк не хоча гэты здзек спыніць.

Я без таго знясілены вайной,
а тут і дождж ліе на ложак мой.

Ён сон у хворага мяне адняў.
Як перабуду гэту ноч да дня?

О, каб такі пабудаваў хто гмах,
на ім каб быў адзін вялізны дах,

каб міліён пакояў ён узнёс
для беднякоў, якіх пакрыўдзіў лёс.

Каб не баяўся ліўняў і вятроў,
трывалы, як гара, у вышыню ішоў.

І калі б дзе на свеце ўбачыць мог
у яве, у жыцці сваім яго —

тады дом мой хай скрышыцца на тло,
замерзну я, абы вось так было.

*УІЛЬЯМ ШЭКСПІР*
*(1564—1616)*

## САНЕТ 3

У люстра глянь на вобраз дзіўны свой,
Скажы яму стварыць такі ж, як гэты.
Абразіш свет, спазніўшыся сяўбой,
Благаславіць не здолеўшы кабеты.

Якой красуні люба не было б,
Каб ты ўзараў нявораныя гоні?

Які б дзівак на звод павёў свой род,
Любоў ва ўласным пахаваўшы лоне?

Ты адлюстровак матчыным вачам,
Яе прадвесні успамін дзівосны.
Ты ўцеху знойдзеш некалі і сам,
Праз вокны старасці пабачыш вёсны.

Як не пакінеш памяці такой,
Ты сам памрэш і вобраз твой з табой.

## САНЕТ 29

Зняслаўлены людской няпраўдай, лёсам,
У неба шлю я смутак горкі мой.
Але мой лямант не кране нябёсы
З іх абыякасцю, да слёз глухой.

Бывае зайздрасць горш самога ката,
На ўласны скарб забыцца з ёй гатоў.
Зайздрошчу ўсім, надзеямі багатым,
На таленты шчаслівым, на сяброў.

Калі ж цябе, у той хвіліне самай,
Згадаю я, дык стану ўраз другім.
Нібы жаўрук перад нябеснай брамай,
Мая душа табе спявае гімн.

За успаміны пра тваю любоў
Не ўзяў бы я багацці каралёў.

## САНЕТ 45

Агонь з паветрам — розныя стыхіі:
У першай — палкасць, думка — у другой.
Яны лятуць, нястрымныя такія,
У непарушнай еднасці сваёй.

Калі яны, як пасланцы кахання,
К табе кіруюць вольны свой палёт,
Зямлі й вады наступіць панаванне,
А ў ім так многа смутку і турбот.

Сумую я аж да тае часіны,
Пакуль пасольства прыляціць назад
І скажа мне, што любы мой адзіны
Жывы, здаровы, прывітанням рад.

Якое шчасце! Але без адкладу
Зноў мкнуць яны табе маю спагаду.

## САНЕТ 66

Стамлёны ўсім, я лепш сустрэў бы смерць,
Чым занядбаных бачыць жабраванне,
І здзек пустапарожнасці цярпець,
І найчысцейшай праўды зневажанне,

І бачыць пыху ў залатых страях,
І цноту, згвалчаную хіжай сілай,
І для бязглуздасці пачэсны шлях,
І моц, якую немач паланіла,

І мастакоў нізкапаклонны зброд,
І недарэк мастацтвазнаўцаў з імі,
І ісціну, якой затулен рот,
І зло, што верхаводзіць над усімі.

Стамлёны ўсім, сумую па труне.
Ды як жа друг мой будзе без мяне?

## САНЕТ 119

Пітвом з сірэніных пякельных слёз
Я упіваўся, мабыць, неаднойчы.
На страты мне журбу прыносіў лёс,
Над выйгрышам з арбіты лезлі вочы.

Якіх памылак не было ў той час,
Калі я чуўся на вяршыні шчасця:
То, як у трасцы, жар апошні гас,
То зноў палаў агнём шалёнай страсці.

Дабра ў благім тады я не знайшоў:
Нядоля робіць добрае найлепшым.
Калі з разлукі вернецца любоў,
Яна намнога стане трывалейшай.

Так пасля страты зноў знаходзіў я
Сваё багацце большым утрая.

## САНЕТ 144

На радасць мне і на пакуту мне
Ва мне жывуць адразу два каханні.
Адно — кабеціна, за ноч цямней,
Другое — друг у ангельскім убранні.

Каб месца даць у пекле мне хутчэй,
Дык ангела ўсё спакушае д'ябал:
Імкнецца аддаліць з маіх вачэй,
Змусціць яго агнём сваіх паглядаў.

Не знаю, хто каго адолеў там,
Але не ангел, мабыць, як здаецца.
Пайшлі, пасябраваўшы, бачыў сам,
Дык ангел трапіў пэўна ў тое месца.

Ці так, ці не — дазнаемся ў той час,
Калі ён з пекла вернецца да нас.

### САНЕТ 148

Якія вочы мне дало каханне,
Як праўду блытае з хлуснёй пагляд!
Ці, можа, розуму прыйшло згасанне
І ён у блытаніне вінават?

Калі ўсё добра, што ім даспадобы,
Чаму ж не згодны свет і людзі з тым?
А калі не, дык ці не лепш было бы
Прызнаць, што праўды ў іх няма зусім?

І што сказалі б вочы аб прыгожым,
Калі сляза бяссоння крые зрок?
Нам сонца нават пасвяціць не можа,
Калі на небе покрыва з аблок.

Любоў сумысля слёзы шле на вочы:
Схаваць за імі ўсе заганы хоча.

### САНЕТ 154

Знянацку задрамаў кахання бог.
Паходня ля яго з агнём юрлівым.
Прыбеглі німфы. Сон ім дапамог:
Адна ўхапіла той агонь імклівы.

Застаўся абяззброены ўладар,
Які спаліў багата палкіх сэрцаў.
А скрадніца агонь — нябесны дар
Вадою заліла ў крынічнай рэчцы.

Агнём нагрэтая, з часіны той
Гаючай стала для мужчын крыніца.
І я хадзіў, каб лекавай вадой
Мне ад сваёй хваробы палячыцца.

Нагрэць ваду любоў дапамагла,
Згасіць любоў крыніца не змагла.

*ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*
*(1749—1832)*

* * *

Калі сажалку закаваў лёд,
жабы схаваліся ў твань балот.

Крумкаць, скакаць больш не жадалі,
а, засынаючы, дакляравалі,

што як узнімуцца зноў напрадвесні,
будуць спяваць салаўіныя песні.

Вясна прыйшла. Стаяў той лёд.
Жабы ўзняліся з твані балот.

Селі яны ля тых берагоў
і закрумкалі...
як жабы ізноў...

*ДЖОРДЖ ГОРДАН БАЙРАН*
*(1788—1824)*

**СХМУРНЕЎ МОЙ ДУХ**

Схмурнеў мой дух... Зайграй, пясняр, зайграй,
Каб струны пелі і рыдалі,
Каб смутак мой, душы маёй адчай
На хвалях песень калыхалі.

Калі ў грудзях надзеі жар не счах,
Яе ізноў абудзяць гукі.
Калі хаваецца сляза ў вачах,
З ёй прыназемяцца і мукі.

Навошта сэрцу весялосць твая?
Няхай туга са струн ліецца!
Кажу табе, павінен плакаць я,
Інакш — і сэрца разарвецца.

Яно ў пакуце ўсё жыццё было,
Смылела ў цішыні бяссоння.
Цяпер — альбо пакрышыцца на тло,
Альбо тугу слязою згоніць.

*УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ*
*(1823—1862)*

**ДА А. П.**

«Пан вялікі, — пішуць у газеце, —
З сваім грэшным целам развітаўся».

Далібог, не чуў я, што на свеце
Жыў той пан і ў нашым нават часе.
Шмат паноў і ясных, і вяльможных
Адыходзіць у нябыт навекі.
Мне ж здаецца, хоць я незаможны, —
Можна жыць па смерці чалавеку.
Хоць нядоўга — перабуду згубу
І уладзе часу не паддамся:
Або ў сэрцы друга жыць я буду,
Або ў песні у сваёй, прынамсі,
Не надхмарныя ж мае надзеі!
Мы аднолькавымі станем потым:
І вяльможныя ўсе дабрадзеі,
І хто ніву аблівае потам,
І хто дні марнуе ў весялосці,
Пехатою хто, а хто ў карэце —
На адным сустрэнуцца пагосце,
На адной з'яднаюцца ўсе мэце.
Трывалейшы — знойдзе узгалоўе
Спаміж чатырох дасок яловых,
А каму пад карак квола-нежны
Прывязуць здаля эбен замежны.
Мармур пышны над аднымі стане,
А другім паложаць просты камень.
Каля хвоі ляжа камень просты,
Мармур кіпарысамі аточаць.
Покуль мохам парасце убоства,
Мармур пышны час на жвір здрузгоча.

*САІД ШЫРВАНІ*
*(1835—1888)*

## ГАЗЕЛІ

I

Дзе тыя ласкі з каханаю зоркай у гэтыя ночы,
нашы спатканні, хмялёвасць гаворак у гэтыя ночы?

Чорныя косы, як святасць Каабы, свае рассыпала,
сон навяваючы засцілай чорнай у гэтыя ночы.

Келіху хва́лу аддаўшы з сваёй улюбёнай,
разам пілі з ёй, фіялкава кволай, у гэтыя ночы.

Полымем сэрца й душу агартае, калі я згадаю
палкасць кахання, якім я быў повен у гэтыя ночы.

Быццам залева, дайшоўшы да мора, ўшчуваецца ў хвалях,
каля каханай сябе супакойваў я ў гэтыя ночы.

Ператвараўся у слых, о Саід, я усёю істотай,
голас пачуўшы салодкагаворнай у гэтыя ночы.

II
Што ты заўсёды сядзіш на цыноўках нязрушна, ваіз*?
богам тваім прысягаю, што гэта дзвюдушнасць, ваіз!

Вельмі прыемны твой заклік да чцівага здзейснянння спраў,
сам жа не маеш ніводнае, гэта няслушнасць, ваіз.

Плачаш ты ў кожнай хвіліне, пра пекла гаворачы нам,
гэта ўдаванне навошта, навошта ты хлусіш, ваіз?

Погляд вачэй сваіх ты прышываеш да скарбаў сірот,
праўдай прыдбаць свой пражытак сябе не прымусіш, ваіз?

Звестак не маеш адносна Каабы, о, яраў** ты твар,
словы без смаку твае не ўваходзяць у вушы, ваіз.

Ты спадзяешся на справы свае, што зрабіў мо калі, —
«боскую літасць» чакаем на нашыя душы, ваіз.

А, каб Саід стаў хаваць ад цябе, што ён любіць віно,
быў бы, напэўна, тады ён такім жа дзвюдушным, ваіз!

III
Сэрца, ты шлях у карчму, а не да малельні — трымай,
сэрца, не пацеркі чорных загідаў, а келіх трымай.

Сэрца, не мкніся ў мячэць да загіда***, па ўсім не шкадуй,
хіжым загідам з мячэццю — «руіна» — найменне трымай.

Сэрца, мо надзвыш аддана ты косам красунь, —
вінна ў вар'яцтве, ланцуг да стамлення трымай.

Можа, зыскоўная зорка расчэсваць захоча касу, —
сонца, трымай ты люстэрка, а месячык грэбень — трымай.

Я зганьбаваўся — глядзі як! — каханнем сваім да красунь,
слова пра Мэджнун і Фэрхад ты казкай няпэўнай трымай.

Сэрца, шляхоў дасканалых шукаеш — адзін табе дам:
шлях матылька на агонь — ты узорам сумленна трымай.

Сэрца, аддаўшы душу улюбёнай, імкніся згарэць:
палкасць каханай агорне, атуліць праменнем — трымай.

Хай у мячэць палахлівы з загідам на модлы ідзе,
ты, о Саід, лепш сядзі у карчме і свой келіх трымай.

* Ваіз — прапаведнік.
** Яр — каханая.
*** Загід — манах-пустэльнік.

*МАКСІМ РЫЛЬСКІ*
*(1895—1964)*

## МОВА

*...Трэба даглядаць наш сад.*
*Вальтэр*

Як параст вінаграднае лазы,
Мілуйце мову. Пільна й неадкладна
Бур'ян паліце. Каб чысцей слязы
Яна была. Надзейна і дакладна
Яна заўжды хай служыць вам усім,
Хоць і жыве жыццём сваім жывым.

Паслухайце, як акіян спявае —
Народ гаворыць. З шумам морскіх вод
Любоў і гнеў. На свеце не бывае
Настаўнікаў мудрэйшых, чым народ.
Тут што ні слова — перлаў зіхаценне,
І чалавек, і праца, і натхненне.

Збірайце плён, як рупны гаспадар
Плады збірае ў дагляданым садзе.
Народны слоўнік — гэта пышны яр,
Цудоўны скарб ён дасць вам пры даглядзе.
Не майце гневу да маіх парад
І не лянуйцеся вы свой дагледзець сад.

*УЛАДЗІМІР САСЮРА*
*(1898—1965)*

* * *

Дыханне восені ужо на кветкі пала.
У зелянiне дрэў сумуе дзе-нідзе
пажоўклы ліст. Празрыста, ціха стала,
блакітны халадок прысадамі брыдзе.

Так і ў крыві маёй я чую ціхі голас,
што восень і праз дні мае ідзе-брыдзе...
І хоць яшчэ густы і чорны маю волас,
яго кранула восень срэбрам дзе-нідзе.

Дакуль хаджу зямлёю мілай гэтай,
дыханнем дум маіх і песень веснавых
ад ветру затулю душы маёй я кветкі,
каб сцюжа восені не загубіла іх.

Ім старасці няма. Любоў іх да радзімы
ім маладосць дае пад поглядам тваім.
Затым і восень радасна сустрэну з імі
і да канца жыцця ўсё буду маладым.

## УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

**(1900, в. Макашы Наваградскага пав. — 1933, Уржум Кіраўскай вобл., Расея)**

Перакладаць пачаў у Празе, дзе вучыўся на філасофскім факультэце Карлавага універсітэта (1923—1926). Свае пераклады друкаваў (пад псеўданімам Л. Макашэвіч) у студэнцкім часопісе «Прамень», які сам і рэдагаваў. Тыя ж рукапісы, якія размінуліся з варштатам Скарыны, бясследна прапалі. А што гэткія былі, і нямала, сведчаць лісты паэта да А. Луцкевіча ў Вільню. У 1924 г. Жылка паведамляў пра сваю аповесць з віленскага жыцця, а таксама пра пераклады з украінскай паэзіі: «Маю да друку паэму Франка "Майсей". Сама рэч высакавартасная і для адраджэнцаў жыватрапечучая. Магчыма, што гэта самае каштоўнае з усяго таго, што з'явілася ў вершы пасля Шаўчэнкі на Украіне. Рэкамендавалася б чытаць яе нашым землякам». У якіх архівах пакрываецца пылам «Масей» — невядома. Прайшло амаль семдзесят гадоў, і паэма ўсё ж пабачыла свет у беларускім перакладзе В. Зуёнка, што яшчэ раз пацвердзіла даўнюю выснову пра «высакавартаснасць» твора. Жылка выдатна ведаў заходнееўрапейскую паэзію, чытаў па-французску, па-нямецку і па-польску, даводзіў Луцкевічу, што «верхавіны французскае лірыкі, безумоўна, не ў Беранжэ, а ў Бадлеры». На жаль, пасля вяртання ў Менск паэту, як літаратурнаму аглядальніку «Звязды», давялося займацца пераважна мясцовымі беранжэ і ім падобнымі, што без закліку «гэй, наперад» (асабліва нялюбага Жылку) свайго вершатворства не ўяўлялі. Калі пераклад паэмы Б. Ясенскага «Слова пра Якуба Шэлю» ў 1932 г. выходзіў асобным выданнем, перакладчык, хворы на сухоты, ужо дажываў свой кароткі век у высылцы ў далёкім Уржуме... Складаючы «Творы» У. Жылкі для «Беларускага кнігазбора» (выйшлі ў 1998-м), я, зразумела, давяраўся дасведчанаму жылказнаўцу У. Калесніку і не ўсе вершы зверыў з першакрыніцамі. І быў пасаромлены, калі супрацоўніца пражскай Нацыянальнай бібліятэкі Ф. Сокалава даслала мне тэкст на чэшскай мове «U roentgenu», які пачынаўся падазрона знаёма: «To neni Faustova jizba...». Гэта быў верш І. Волькера, двойчы апублікаваны ў Беларусі як Жылкаў! Пасыпаю галаву попелам, вяртаю чэшскаму паэту аўтарства, а заадно адводжу ад Жылкі цень плагіятара.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

### АКЕРМАНСКІЯ СТЭПЫ

Ўязджаю на прастор сухога акіяну.
Воз гіне ў зелені, як чайка на вадзе;
У хвалях шумных траў, між кветкамі брыдзе,
Мінаючы кусты калючага бур'яну.

Змяркаецца. Не знаць ні шляху, ні кургану.
Гляджу на небасхіл: мо зорка блісне дзе...
Вось хмарка там — на ёй свет водблiскі кладзе:
То за Днястром маяк мігціць ля Акерману.

Спыніліся. Плыве крык жураваў у цішы,
А іх і сокала не згледзіць быстры зрок.
Чутно, калі матыль сцяблінкі траў калыша,

Як слізкі вуж паўзе і крыецца у змрок.
Таю спакой, што, каб паклікаў хто ў Літве,
Пачуў бы я... Дарма! — Ніхто не пазаве.

*ШАРЛЬ БАДЛЕР*
*(1821—1867)*

## ЧАЛАВЕК І МОРА

О вольны чалавек, заўжды любіцьмеш мора.
Яно — адбітак твой; твая душа — паглянь! —
Разгортваецца хваль бясконцая прастора,
І розум твой — не менш тужлівая атхлань.

Ты любіш патанаць ў яго туманныя дарогі,
Ахопліваць яго істотаю сваёй
І сэрца ўласнага рассейваеш трывогі
Пад гэты гук жальбы, няскорнай і дзікой.

Абодва хітрыя, вы так маўкліва-стрыманы.
О, чалавек, ніхто не змераў глыб тваю!
О, мора, не злічыў ніхто твой скарб інтымны!
Так тайну ўкрылі вы зайздросліва сваю!

А вось між тым вякі, вякі без падзялення,
Зацята йдзе ваш бой бязлітасна-люты.
Так закаханыя вы ў бойку і знішчэнне,
О, вечна змагары й нягодныя браты!

*ГЕНРЫК ІБСЕН*
*(1828—1906)*

* * *

Я ветразь свой у свет вялікі
Пакіраваў і, як арол,
Ляту, і мора б'е наўкол,
І чаек ўслед чуцён крык дзікі.

Развага тут і асцярожнасць
Мне не патрэбны паміж хваль,
І хоць гатуе мелі даль,
Ляту я... покі можна!

*ІРЖЫ ВОЛЬКЕР*
*(1900—1924)*

## ПАКОРА

Зраблюся меншым, яшчэ найменшым,
каб стаць найменшым на цэлым свеце.
    Ранкам, на лузе, ў леце
    да квета схілюся найменшым.
    Шапну, калі з ім абдымуся:
    «Хлопчыку босы,
    нябёсы далонь аб цябе абаперлі
    кропелькай роснай,
    каб не упасці».

## ВЕЧАР

Жанчына кінутая можа плакаць,
але пакінуты хлапец ніколі.
Увечары найбольш баляць нявыплаканыя болі
        і каханне,
калі сем гор яно сустрэне,
сем гор ды з цвёрдага камення.
        Я маю два малых акны,
        я маю два вялікіх вока,
але не маю жаднага ліста,
які на мой бы стол спусціўся ў змроку,
падобна беламу аблоку,
і мовіў бы:
— Людцы кахаюцца,
мой чалавеча.

## ПРЫ ROENTGEN
*Фрагмент*

Не Фаўстава гэта хата,
Душа з праклёнам тут не ўваходзе,
Не, гэта Рэнтгена прылада
Ў магічным харастве XX стагоддзя.
Ультраліловыя коскі працінаюць тут мяса.
Людское цела тут адчыняецца, як ліст зашыфраваны.
Пане доктар, неякава мне,
Бы ў грудзях маіх волава й гадзіна тне.
Прасвяціце мне грудзі вы коскамі тымі
І скажыце, што бачна між імі.

*БРУНА ЯСЕНСКІ*
*(1901—1941)*

## СЛОВА ПРА ЯКУБА ШЭЛЮ
*Фрагменты*

*

Танцавалі хата, стол,
Танцавалі коні, вол
І каровы у аборах,
Як няхват было танцорак.

Танцавалі хата, зруб —
Як бяда — дык, гэй, пад шлюб!
З коньмі — вёдры, з людзьмі — кубкі,
У танок ішлі залюбкі!

Танцавалі бас, кларнет,
Белы шлях у ясны свет
Выкідаў бярозаў ногі
На гасцінцы на аблогім.

Танцавалі хата, вёска —
Як бяда — дык кожны цёзка!

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Зацярушваў шыбкі.
Завадзілі, лабузілі
Ў цеснай хаце скрыпкі:

— Ой, Марылька, да чаго та,
Што ў вачах тваіх маркота,
Што сляза збягае з вочак,
Слова вымавіць не хочаш?

Ці ўраклі цябе, нябожа,
Ці шкадуеш сваіх ножак,
Што не скачаш, як другая?
Сёння шлюб твой, маладая!

*

Грай жа, Іцка, грай жа, Бэрка!
Вось гарэлкі паўкватэрка!
Вось гарэлкі цэла кварта, —
Шлюб чацвёрты — выпіць варта!

Гэй, Марылька, йдзі ў таночак.
Мне тваіх не ўкрадуць вочак,
Ўжо са мной твой кожны подых,
Ўжо мая ты назаўсёды.

Стаяць вербы паўз плот Шэлін, —
Прыйшлі глянуць на вяселле.
Йдзі, Марылька, кліч у хату —
Пітва-ежы ў нас дастатак.

*

Па-над полем узвіхраных грыў дым
Кропіць мжой, як з вымя, там уверсе.
Мае смак перапаленай крыўды
О, зямля, малако тваё персі.

Дзе напала на тлустыя скібы,
Апляла амяла цябе густа.
Накарміла, зямля, ты усіх бы
Свае глебы разоваю лустай.

Але шалі дрыжацімуць, покі
Руху к мэце стаяць перашкоды:
Вісне двор, як павук шклянавокі,
Ў павуціне разлогаў выгоды.

Роніць чорныя слёзы ажына,
Плачуць гонейкі жальбаю горкай, —

Закруціліся ў нітках пуцінаў
Мухі нэндзных сялянскіх падворкаў.

Прыйдзе серп, заскрыгоча саломай,
Тваіх сокаў удоем іскрыстым.
Заглынулася жытняя строма
Кропляй зерня твайго залацістай.

Зноў на спелую постаць ледзь золак
Вылезь з возам, з сярпом, чалавеча.
Зложыць сноп свой пакутніцкі голаў
На мужычыя рукі, на плечы.

Ўлетку цела счарнее і скволіць,
Ногі спекае прысак загонаў.
Мяккай ранаю ятрыцца поле,
Здрасаванае лапай баронаў.

Ціша лубіны лушчыць з лушпінаў
І ў вантробах, зямля, табе коле.
Згоркла ў фасках убогіх хацінак
Сыракваша твае меланхолі.

Ноччу вечнасць спаляецца ў людзях,
Штось іх цягне за далі, ў імгліцы.
Сеў на месяцы д'ябал і юдзіць,
Чарвяка ўніз спускае на нітцы.

Водзіць з зазубнем ніць над зямлёю,
Нізка так, што зубамі хапіў бы.
Ў кожным з нас з глыбіні дзесь гурбою
Усплываюць бліскучыя рыбы.

Месяц гноем смярдзіць з абораў,
Дрэмлюць коні ў зацішку стаень,
Сівым лесам, вільготным борам
З кожным днём дзень павольней світае.

Дзень паўзе з кожным днём больш аслабла,
Хутка ж змрок, і наш скон ці ж не бліжай?
На мільгаючай вудзе д'ябла
Сэрца ў муках зівіваецца сліжам.

## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

**(1903, Баку — 1997, Рочэстэр, ЗША)**

У юнацтве, як і М. Багдановіч, жыла ў Яраслаўлі, як і аўтар «Вянка», пачынала вершаваць пасейску. Віленская Вострая Брама натхніла Багдановіча на славутую «Пагоню», Вільня, дакладней, Віленская беларуская гімназія зрабіла з Арсенневай беларускую паэтку. Пасля верасня 1939 г. савецкая ўлада паспрабавала далучыць да даўно загітаваных Кампартыяй

песняроў М. Танка і М. Машары Арсенневу — яе прозвішча нават стаяла спачатку пад адным з рыфмаваных лістоў «працоўных Заходняй Беларусі вялікаму Сталіну». Праўда, потым знікла, як знікла і сама паэтка, сасланая ў 1940-м у Казахстан. Тым самым годам датаваны і яе верш, прысвечаны правадыру: «...люблю цябе, Сталін, і ■ невымоўна» («Літаратура і мастацтва», 3 сакавіка 1940 г.). «Прызнанне ў любові», а таксама заступніцтва кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў дапамагло — паэтку вызвалілі, хоць яна і не пажадала адмовіцца ад мужа Ф. Кушаля, польскага афіцэра, які сядзеў у той час на Лубянцы. Падчас Другой сусветнай вайны жыла ў Менску, працавала ў «Беларускай газэце» і — перакладала для тэатра п'есы Г. Гаўптмана, Г. фон Кляйста, лібрэта класічных операў. А засвоіла Арсеннева перакладны жанр яшчэ ў 1920-я гг., калі на просьбу А. Луцкевіча перастварыла вершы з «Кнігі джунгляў» Р. Кіплінга, а таксама «Дзяды» А. Міцкевіча (не цалкам). У 1926 г. у лісце да «вельміпаважанага пана Луцкевіча» перакладчыца прызналася, што, жадаючы пазбавіцца ад празмернай міцкевічаўскай сентыментальнасці, у адным месцы нарцызы і лілеі замяніла дубком і калінай. Хоць і зрэдку, перакладала Арсеннева і пазней, калі выехала ў ЗША. Варта згадаць «Песню пра зубра» М. Гусоўскага, над якой паэтка працавала ўжо ў 1970-я, прычым працавала адказна, параўноўваючы варыянты, вывучаючы адпаведную літаратуру. Крытычнае стаўленне Арсенневай да працы аднаго з папярэднікаў відаць з яе ліста да В. Тумаша: «Пераклад Семяжона прачытала пару разоў. Ён добры з аднаго боку, але немагчымы — з іншых. Першае: ён цалкам супярэчыць асведчанням аўтара "Песні". У адным месцы сам Гусоўскі кажа, што ён стараецца ўжываць толькі гэткія словы й выразы, якія будуць даспадобы ягонаму апекуну й працадаўцу біскупу Эразму Плоцкаму і «ў згодзе із станам святарскім». А ў Семяжона раз-пораз гэткія выразы, як "нагой у азадак", "здрэйфіў", "адвальваў не скупа" (гэта Вітаўт — святарству!). Гэтаксама ў яго поўная супярэчнасць з аўтарам у паглядзе на князя Вітаўта. Для Гусоўскага Вітаўт — ідэал, якім ён захоплены, а ў Семяжона Вітаўт —"князь-вар'ят", із "шалёнай прыхамацяй", "факельшчык войнаў са слабым, ■ з дужым — анёл-міратворца". Калі я скончыла чытаць, у мяне застаўся вялікі нясмак, ну й пратэст. У расейскім перакладзе нічога гэткага няма. Пераклад гэты спакойны, у меру паэтычны і амаль заўсёды ў згодзе з аўтарам "Песні". Вітаўта Я. Парэцкі нідзе не лае. Дый мова ягоная скрозь "у згодзе із станам святарскім"»... Не пакідала перакладаць Арсеннева і ў сталым веку, незадоўга да смерці на просьбу суайчыннікаў займалася перастварэннямі рэлігійных песняспеваў. А пасля адыходу паэткі ў лепшы свет Я. Запруднік адшукаў у яе архіве незакончаны пераклад пушкінскага «Яўгенія Анегіна».

## *МІКОЛА ГУСОЎСКІ*
*(1470-я — пасля 1533)*

### ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА
*Фрагмент*

Вось ён стаіць у гушчáры, варожыць, што будзе!
Долі чакае... Яго й апяем мы у песні.
Часта у вершы апісваюць цэлыя сталкі,
Мы ж на адным ім увагу із вамі запынім,
Сілаў не стане сказаць аб усіх бо, ні часу!
Збаю, але аб адным, што, бяды не пачуўшы,
Ў пастцы, ў мяне на ваччу, апынуўся знячэўку:
Выхад старожа замкнула і рынулі стрэлы.
Імі увомірг апераны, ён ірвануўся
Й трапіў на дзіды, што лоўцы сыпнулі з засады,
Шыю, бакі пранізалі. Напаснікаў зрокам
Палячы, волат зароў, раздзімаючы храпы,
І, як віхор, закруціўся, падскочыў, памчаўся.
Коннікі з гіканнем мкнуць наўздагон, пераймаюць,
Тупат да зораў шугае, а зубар, як бура,

Йрве праз паляну, наперадзе — сценка, з разгону
Хоча яе пераскочыць, на жаль, завысока!
Стаў, як укопаны... Як ратавацца? А ў цела
Зноўку ўбілася з сыканнем нечая дзіда.
Лютасць кіпіць, палымнее пагляд і бруіцца
Зыркая кроў із глыбокай гарачае раны...
Дзе ж варагі: ён шукае, гатовы змагацца,
Змяць іх, раструшчыць, і першыя ўдары кіруе
У зграю сабак стогалосых, дзярэ, раскідае,
Потым — імкне на людзей із жахлівым рыканнем.
Людзі — уроссып, наслепа кіруючы коні.
Хрыпам, рыканнем, галёканнем поўніцца пушча!
Лоўцам скакаць напрасткі няма сэнсу й надзеі,
Можна адно ратавацца, адскочыўшы набак:
Гнеў і разбег паўз лаўцоў яго мо перакіне,
Велічы ж гэткай нялёгка звярнуцца у бегу!
Конны ланцуг замыкаецца. Звер мітусіцца:
Цяжка разгон паўстрымаць, пачынаючы наступ.
Целам важкім налятае ён бурна, падскокам,
Бачыш — ўграўся, сапе, а калматая грыва
Б'ецца на ветры, і ўвесь ён — нястрымнае ймкненне!
Доўга яшчэ звер з ровам бушуе ў загоне,
Сочыць, на кім бы памсціцца, гарачку спатоліць,
Зрок яго люты спаліць вокал мог бы ўсё чыста,
Й прыкладам гэта праўдзівым пацверджу я зараз:
Нехта з мушкетам, вядома, не простага роду,
Стрэліць дазволіў сабе ў зверыну — і пацэліў.
Голлем схаваны, бач, песціў дурніца надзею
Выцалець неяк і толькі сачыў із трывогай,
Скуль спадзявацца нападу... Зайгралі сабакі:
Блізка напаснік! Аж, ломячы з трэскам ламачча,
Снег раскідаючы, ў хмарах бялявае пары
Звер аказаўся знянацку, абкружаны зграяй,
І затрымаўся, сабаку адкінуў ды зрокам,
Поўным шалёнай злабы, ўтаропіўся ў хвойнік, дзе ў жаху
Бедны стралец здрыгануўся: няйначай, прыкмеціў!
Хай ад яго быў наш зубар даволі далёка,
Страх чалавека уразіў: бядак із мушкетам
Так, як стаяў, і сканаў з аднаго перапуду!
Дзіву даваліся людзі з канцоў баязліўцы,
Труп небаракі застыглы знайшоўшы назаўтра.
Чулі яны, што забіць можа зрок базіліска,
Ды вось памёр жа бяздольны, някрануты зверам
Гэты юнак, баязлівага нораву й сэрца!
Сам я быў сведкам здарэння, яшчэ не забыўся
Надпісу, што прачытаў на ягонай магіле:
«Тут пахаваны Лаўрук, што забіты не зубрам —
Позіркам толькі ягоным. Ці ж лёс вінаваціць?»

*МІХАЙЛА ДРАЙ-ХМАРА*
*(1889–1939)*

## ЛЕБЕДЗІ

На сонным возеры, дзе крозяць вербалозы
Здаўна згарбелыя, ў дні восені й вясны
То трапяталіся, то плавалі яны
І шыі гнуткія хілілі ўніз, як лозы.

Калі ж пад звон шкляны зыходзілі марозы,
І плёсы змеркнулі, ўрасталі ў бель, у сны —
Згарталі ўраз плыўцы льдзяныя крышаны,
І не лякалі іх зімы глухой пагрозы.

О, звяз няздужаны пяцёрых песняроў!
Грыміць твой спеў паўз снег, паўз бур магутных роў
І разбівае лёд адчайнасці й зняверы.

Шугайце ж, лебедзі! З няволі, з небыцця
Вядзе на ўзвышшы вас сузор'е яснай Леры,
Дзе пеніць акіян нязгаснага жыцця!

*ЮЗАФ ЛАБАДОЎСКІ*
*(1909)*

## ЭРОТЫК

Дзіка ў сцены лбом шалёны вецер б'е,
яскі вокнаў горне ў змрок прадоння.
Як самым, зусім адным сягоння,
з рыз жыцця цвілых нам выблытаць сябе?

Як угрэць магільную нудзьгу
сіл гнілых, крыві, што нат не йрдзіцца,
і напіцца ў гэту ноч агню з крыніцы
срэбных бёдраў і вільготных губ?

Не спрабуй раздзьмуць пажар, што ледзьве тліць,
не сачы ўваччу маім дарэмна шчасця.
Я — пусты, і толькі вецер насціць
мне душу і прагне спапяліць.

Я магу цябе часінай той
знесці ў сцень, дзе ліха, ноч і страхі.
Як ублытаны ў ліхія чары знахар,
навучыць піць моташны настой.

А насякнеш чадзяй чорных дзей
аж па сэрца, што кахала сэрца трупа, —
з-над парогу жменяй шчодрай, рупнай
кінуць попел твой вятрам наўзвей.

*ЛЕАНІД ПАЛТАВА*
*(1921–1990)*

**ВЯСНА 1943**

Стаяць учарнелай градой каміны,
Як варта... Не рупіць ім тое, што ў полі
Зямля дачакалася ветраў, яны —
Знак новага сонца і новае долі.

А ў цёмных бараках, закутых у дрот,
Навінаў ніякіх. Там вогка і цесна.
Адно — хтосьці згледзеў праз шыбу: на ўсход
Ключы журавоў праплывалі над местам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

**(1904, м-ка Капыль — 1981, Менск)**

Сын малазямельных сялянаў, якія зрабілі ўсё магчымае, каб даць адукацыю дзецям (брат М. Хведаровіча Н. Чарнушэвіч — такое іх сапраўднае прозвішча — таксама стаў пісьменнікам). Падчас Першай сусветнай вайны браты знаходзіліся ў бежанстве ў Расеі, вучыліся ў Калузе. Вярнуўшыся на радзіму, у 1920-я гг. Хведаровіч служыў у ваенных частках асаблівага прызначэння (страхотлівы ЧОН), быў камісарам Слуцкага ваенкамата, потым атрымаў накіраванне на літаратурны фронт. Працаваў у партыйным друку, сакратарыў у часопісе «Полымя рэвалюцыі». Але ваяўнічыя лозунгі бязбожніцкай эпохі не выветрылі з душы паэта традыцыйных хрысціянскіх каштоўнасцяў — у аўтабіяграфіі ён не забыўся ўдакладніць, што нарадзіўся на Дабравешчанне. У 1935 г. разам з пісьменніцкай дэлегацыяй наведаў Грузію. Паездка сталася невыпадковай — праз трыццаць гадоў М. Хведаровіч разам з А. Звонакам перакладуць «Віцязя ў тыгравай шкуры». У 1938 г. колішні чонавец стаў савецкім зэкам і амаль два дзесяткі гадоў правёў у Карэліі, Комі АССР, Краснаярскім краі. Вярнуўся ў 1956-м — падчас вялікага рэабілітансу, іранічна пісаў пра афіцыйна прапагандаваны «росквіт» тагачаснай паэзіі: «Нішто, паэзія жыве, / грашыць дарма няможна, / стаяць Пегасы у хляве, / з іх выезджаны кожны...». Пакінуў цікавую мемуарную кнігу «Памятныя сустрэчы» (1960), у тым самым годзе склаў зборнік «Паэты сонечнай Малдовы», з якога, на жаль, у «Галасы з-за небакраю» не трапіла ніводнага верша. Найбольшым перакладчыцкім дасягненнем М. Хведаровіча можна лічыць зборнік Ш. Пецёфі «Ліра і меч» (1971), за які, а таксама за складанне анталогіі «Сучасная венгерская паэзія» (1977) ён быў ганараваны прэміяй агенцтва «Артысіус».

*ШАНДАР ПЕЦЁФІ*
*(1823–1849)*

**ШМАТ Я ВІШАНЕК З ГАЛІНКІ ЗНЯЎ...**

Шмат я вішанек з галінкі
　　Зняў,
Але ў хату адну жонку
　　Ўзяў.
Досыць і адну такую
　　Мець,
Каб з табой пасябравала
　　Смерць.

Бог стварыў яе нядобрай,
Злой,
Аж дрыжу я перад ёю,
Ой!
Што зраблю — усё не гэтак,
Крык,
Як у дошку забівае
Цвік.

Думаў, можа ёй лупцоўкі
Даць,
Але што з старое бабы
Ўзяць?
Як зірне лупатым вокам —
Жах!
Апануе маё сэрца
Страх.

Колькі раз яна канала, колькі
Раз,
О, які я быў шчаслівы ў гэты
Час.
Д'ябал, можа, ўзяць такую б
Змог?
Але д'ябла папярэдзіў Бог.

## КОЎЗКІ СНЯЖОК

Коўзкі сняжок. Санкі імчаць.
Дзяўчыну з нялюбым павезлі вянчаць.
Не любіць яна кавалера свайго,
Ад сэрца яе адарвалі майго.

Каб я снегам зрабіцца мог,
Дык бы пад санкі вось гэтыя лёг.
І ў гурбу на ўхабе кульнуўшы іх,
Красуню ў абдымках сціскаў бы сваіх.

І цалаваў бы асмяглы рот,
У сэрцы пакут растапіўшыўшы лёд.
І слодыч кахання адчуў бы я,
А там — хай бы смерць надышла мая.

* * *

Віснуць хмары над зямлёй,
Дрэвы ліст губляюць свой.
Дождж асенні зноў ліе,
А салоўка ўсё пяе.

Надыходзіць ночы ціш...
Што ж, красуня, ты не спіш?

Можа, слухаеш, як я,
Сумны голас салаўя?

Не сціхае дождж, ліе,
А салоўка ўсё пяе,
Песні гэтай кволы сум
Нараджае многа дум.

Ці ты спіш, краса мая?
Чуеш голас салаўя?
Будзь удзячна салаўю, —
Гэта я табе пяю.

*АЛЬБІНАС ЖУКАЎСКАС*
*(1912)*

## ВАРТАЎНІК

Калі буду ўжо нічога не варты,
Пайду ў невядомасць, насустрач ночы,
Берагам майго літоўскага мора,
Куды вочы глядзяць
Альбо ногі крочаць.
А сілы не стане —
На бераг прысяду,
І лашчыць прыбой мае ногі будзе.
Вось так сядзецьму,
Пакуль скамянеюць
Люлька і дым,
Маё сэрца і грудзі.
На беразе самым высокім,
Як ідал каменны,
Стану ў знямозе,
Каб наглядаў за імклівым часам
Гады і стагоддзі
Каменны мой позірк.
Я — вартаўнік з каменнымі думкамі,
З люлькай каменнай —
Ля мора стаяцьму
У задуменні.
Будуць хвастаць мяне бурныя хвалі
І рассыпацца ў пеністых пырсках.
Нязрушна стаяцьму ў золкім тумане
Каменнай вартай
На сонечнай выспе.

## ШЫБЕНІЦА САБЕ

Вецер разносіць лукішскі пыл,
Дрэмле Якуб за мурамі.
Ставяць віленскія цесляры слупы,
Сваю шыбеніцу будуюць самі.

Стукаюць сякеры, трэскі лятуць
У рытме дзікага танца.
Накідваюць вяроўку, вяжуць пятлю
На шыі паўстанца.

Святы Якуб задаволена рад:
Шыбеніца — абарона яго веж.
Вешаюць, вядома, не яго і не цара,
Каліноўскага вешаюць — сябе ж.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## АЛЕСЬ ДУДАР

**(1904, в. Навасёлкі Мазырскага пав. — 1937, Менск)**

Адзін са стваральнікаў і самых актыўных удзельнікаў літаб'яднання «Маладняк». Закончанай вышэйшай адукацыі не атрымаў, паколькі ў 1928 г. разам з М. Зарэцкім і А. Александровічам пакінуў педфак БДУ, пратэстуючы супраць зняважлівых адносінаў да пісьменнікаў-студэнтаў з боку універсітэцкай адміністрацыі. У тым самым 1928-м быў арыштаваны органамі дзяржбяспекі за антысавецкі верш «Пасеклі Край наш папалам...». Вярнуўшыся праз пару гадоў у Менск, Дудар пачаў перакладаць «Яўгенія Анегіна» — рыхтаваўся пушкінскі юбілей. У «ЛіМе» ў 1936 г. паспеў апублікаваць 54 чатырнаццацірадковых «анегінскіх» строфаў, але працу не завяршыў — адбыўся новы арышт, а роўна праз год і расстрэл, верагодней за ўсё, у Курапатах. Засталося шмат недапісанага і недаканчанага, асабліва з перакладаў. Апрача «Анегіна» Дудар падступаўся да паэмы «Германія» Гайнэ і нават да «Фаўста» Гётэ. Зрэшты, асобнымі выданнямі ўсё ж паспелі выйсці «Вільгельм Тэль» Шылера і «Жаніцьба Фігаро» Бамаршэ, а таксама выбраныя вершы польскага паэта С. Стандэ, залішне «пралетарскага» для нашай анталогіі. Затое А. дэ Мюсэ, які дзіўнавата глядзеўся на дарэшты «забурапененых» старонках «Маладняка» (1926, № 2), будзе не лішнім і ў нас.

*АЛЬФРЭД ДЭ МЮСЭ*
*(1810—1857)*

### ЗОРКА

Зорка вечару ясная, з даляў пасланая,
што з фіранак заходу тварам ясным блішчыш...
Што ўбачыла ты сярод нашых лагчын
з палацаў блакітнатканых?

Бура змоўкла, і ветры лунаць перасталі.
Лес дрыжыць і на верас раняе слёзкі.
Залатая начніца ўзлётам лёгкім
праз пахкі луг пралятае.

Што шукаеш ты на зямлі анямелай?
Але бачу — спяшыш апусціцца да гор.
Адлятаеш з усмешкай задумна-пакорнай,
і трапяткі твой погляд цямнее.

Зорцы з высі зялёнай спускацца,
з крылляў ночы слязой срэбна-кволай мігцець

і глядзець, як пастух па дарозе ідзе,
і як следам за ім яго цягнецца статак.

Дык чаго ж спяшыш у бяздонную ноч ты?
Ці прыпынку шукаеш сабе ў трысці,
можа, згубу ў прадонні хочаш знайсці
у гадзіну маўклівай дрымоты?

Ах, калі мусіш згінуць, неба акраса,
і ў моры залатыя абмыць валасы,
не хавай так раптоўна сваёй красы
і на небе на хвілю хаця затрымайся.

## ЮРКА ГАЎРУК

**(1905, Слуцк — 1979, Менск)**

Мовы пачаў вывучаць у Слуцкай польскай гімназіі імя Ю. Славацкага і ўжо пятнаццацігадовым падлеткам прачытаў у арыгінале «Сабор парыжскай Божай Маці» В. Гюго. У 1925 г. з парады У. Дубоўкі закончыў аддзяленне перакладу брусаўскага Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута, тады ж упершыню замахнуўся на класіку — пераклаў для беларускай тэатральнай студыі ў Маскве камедыю Шэкспіра «Сон у летнюю ноч». Выдаў першую ў Беларусі перакладную анталогію «Кветкі з чужых палёў» (1928), куды ўвайшлі творы Байрана, Бадлера, Гайнэ, Петраркі, Шылера, Лангфэла, Шэлі. Адрасуючы сваю працу «рабочаму класу», перакладчык у прадмове хітра скардзіўся: «Немагчыма было дастаць добрых замежных навінак, прыходзілася карыстацца тым, што ёсць». І добра, што Гаўруку ніхто не падсунуў тых «навінак», а то чытаў бы рабочы клас паэтаў парыжскай Камуны і лічыў іх вершы за ўзоры сапраўднай паэзіі. Праўда, сам перакладчык пад канец жыцця заўважыў, што ягоныя «кветкі прывялі, а некаторыя зусім пасохлі», і зрабіў новыя варыянты перакладаў для кнігі «Агні ў прасторах» (1975). Калі ў 1935 г. дацэнта Магілёўскага педінстытута Ю. Гаўрука арыштавалі, «Гамлет» выйшаў у свет без прозвішча перакладчыка, быццам Шэкспір пісаў адразу па-беларуску. У лагеры і на высылцы Гаўрук правёў ажно 21 год (дарэчы, цікавы факт: яму, «ворагу народа», ліст са словамі падтрымкі ў 1947 г. даслаў Я. Колас). У 1945 г. у Інцінскім лагеры напісаў паэму «Развітанне з самім сабой», дзе з вялікай мастацкай сілай апісаў кругі гулагаўскага пекла: «Дзіравы неацеплены барак. / Лясныя людзі каля печы труцца, / падсушваюць авёс, пякуць бурак, / як цені ў пекле, сварацца і б'юцца. / Халодная была мая пасцель. / Хацеў я спаць, а думы ў голаў лезлі: / мне сніліся Рэмбрант і Рафаэль, / і валасы мае [illegible] сцяне прымерзлі». Пасля рэабілітацыі Гаўрук працаваў у Купалаўскім тэатры, дзе навучыў бездакорнаму беларускаму вымаўленню карэннага русака, будучага народнага артыста Беларусі П. Кармуніна. Перакладаў улюбёную паэтычную класіку, а таксама драматургію і прозу (Ж. Б. Мальера, Э. Хэмінгуэя, А. Маруа).

*УІЛЬЯМ ШЭКСПІР*
*(1564—1616)*

### САНЕТ 65

Калі бяссільны смерць перамагчы
Граніт, і бронза, і зямля, і мора,
Як хараство ад змен уберагчы,
Што, нібы кветка, вяне вельмі скора?

Ці ж выстаіць перад навалай дзён
Мядовы подых сонечнага лета?
Скрозь — разбурэнне. Смерць збірае плён,
Блукаючы у вобразе шкілета.

О горкі роздум! Дзе знайсці той сховў,
Каб скарбы часу ўратаваць ад часу?
Як затрымаць мне рух гадзін, гадоў,
Вярнуць назад майго жыцця акрасу?

І усё ж кажу: ёсць вечнае на свеце!
Сваю любоў я выяўлю ў санеце.

*ФРЫДРЫХ ШЫЛЕР*
*(1759—1805)*

**ВЕЧАР**

Сонечны бог, адпачні! Пасохла поле
Без жыватворнай расы, прытаміліся людзі.
    Коні ступаюць павольна —
    Уніз калясніцу спускай!

Глянь, хто гэта між хваль у моры блакітным
Весела так кіўнуў! Пазнала сэрца?
    Коні хутчэй пабеглі,
    Кліча Тэфіда* цябе.

Шпарка саскочыў юнак са сваёй калясніцы
К ёй у абдымкі, лейцы схапіў Купідон.
    Коні, нагнуўшы галовы,
    Вільгаць халодную п'юць.

Крокам лёгкім духмяная ўсходзіць на неба
Ноч, салодкае следам за ёю каханне.
    Людзі, жадаю вам шчасця!
    Феб закаханы заснуў.

*ДЖОРДЖ ГОРДАН БАЙРАН*
*(1788—1824)*

**МАЯ ДУША ЯК НОЧ**

Мая душа як ноч. Больш не магу!
    Іграй, пясняр! Хай арфа звоніць!
Няхай па струнах пальцы прабягуць,
    Тугу мелодыяй разгоняць!
Калі яшчэ надзея сэрцу трэба —
Агонь у сэрцы гукі зноў разбудзяць;

---

* Тэфіда — німфа, каханка бога сонца.

Калі ўваччу слязы набракла срэбра —
Яно пральецца, зрок паліць не будзе.

Няхай бунтуе музыка твая!
Даволі радасці, даволі!
Кажу, пясняр, павінен плакаць я, —
Цярпець не маю сілы болей.
Пазнала сэрца горкую абразу,
Яму ў грудзях, стамлёных смуткам, цесна, —
Цяпер альбо расколецца адразу,
Альбо утопіцца у моры песень.

*ПЕРСІ БІШЫ ШЭЛІ*
*(1792–1822)*

## МУЗЫКА

Хочацца музыкі, музыкі мне,
Сэрца змарнела ў пакутах пякучых, —
Дай акунуцца ў чароўным віне
Гукаў салодкіх, гукаў пявучых.
Як поле сухое, душа мая смагне,
Музыкі просіць, музыкі прагне.

Гармоніяй гукаў хачу упіцца...
Іграй жа, іграй жа, мастак-чарадзей!
Хай, як дождж веснавы, хараства навальніца
Змые клопатаў горыч з маіх грудзей!
Мелодыя светлая льецца і льецца,
І сэрца ў суладдзі з мелодыяй б'ецца.

Я чую фіялкі водар пяшчотны,
Што пры возеры вырасла і расцвіла,
Загубіў, засушыў яе поўдзень спякотны,
Без дажджу і расы яна жыць не магла.
І блакітная кветка ляжыць, павядае,
А вецер на возеры хвалі гайдае.

Так і я: з невычэрпнай крыніцы жыцця
Піць жадаю красы шумнапеністы трунак —
І каханне абудзіць мяне з небыцця,
І развее тугу маю твой пацалунак.

*ШАРЛЬ ЛЕКОНТ ДЭ ЛІЛЬ*
*(1818–1894)*

## ЯГУАР

Льюцца водбліскі захаду хвалямі леннай
Пад заслонай высокаю цёмных гор,
Ціха калышацца ў свежасці вячэрняй
Пампасаў пахмурны прастор.

Балоты ў пічаціне траў калючых,
Скалы, пяскі, лабірынты лясоў густых
Уздымаюць з глыбінь таямнічых, дрымучых,
Абуджаны змрокам жалобны ўздых.

Спляценне галін і ліян разарвана,
Свеціць месяц, паблісквае срэбрам вада.
Ля ракі на булькотнай твані
Кракадзілаў вялізных кішыць чарада:

Паўзуць, растапырыўшы ногі крывыя,
І ад голаду сківіцамі ляскацяць
Альбо, разявіўшы пашчы худыя,
Як калоды упокат ляжаць.

На разгатым акажу*, звіўшыся змеем,
Прытоеным вокам пазіраючы ўніз,
Драпежнік ловіць подых легкавейны —
У паветры пах мяса жывога павіс;

Пацягнуўся, падняўся, камусьці рыхтуе
Вострыя кіпці і зубы на смерць,
Ліжа морду сваю крутую,
Ільсніцца гладкая шэрсць;

Скруціў спружынаю хвост, падрапаў
Кіпцямі дрэва, кару саскроб.
Пасля галаву палажыў на лапы
І, нібыта заснуўшы, захроп;

Але раптам змоўк і, выгнуўшы спіну,
Нерухома між вецця прылёг.
Бык пампаскі выйшаў на лугавіну —
Дымныя ноздры, шырокі рог;

Зрабіў тры крокі і прырос прыцяты:
З разvіліны дрэва пільна глядзеў
Вокам залатым, чырвоным, агатавым
На яго ягуар. Бык пахаладзеў,

Бяссільна ўбок пахіснуўся,
Прагучаў пранэзлівы крык...
Ягуар стралою ўзмятнуўся —
Задрыжаў пад кіпцямі бык,

Падаўся, зямлю рагамі рэжа,
Яго перамог нечаканы ўдар,
Панёсся, раз'юшаны, па пампасах бязмежных,
У шыю ўпіўся ягуар.

---

* Акажу — чырвонае дрэва.

Зыбкія выдмы пясок качаюць,
То багна, то камень, то куст, то сук...
Імчацца наперад адчайна,
Адзін аслеп ад крыві, другі ад мук.

І прапалі ў абшарах змрочных
Паранены бык і драпежнік ліхі.
Пад велічным покрывам ночы
Заціхае тупат глухі.

*ПАЎЛО ТЫЧЫНА*
*(1891–1967)*

* * *

Трохі не даспіш,
Трохі не даясі —
І вершы добрыя пішуцца.
Мараль: калі хочаш
Быць паэтам, —
Не спі улежна,
Не еш уежна.
Старайся быць тонкім,
Каб хмель паэзіі
Вакол цябе
Віўся.

*МАКСІМ РЫЛЬСКІ*
*(1895–1964)*

## ВОСЕНЬ ХОДЗІЦЬ

Восень ходзіць, поўная пяшчоты.
Я прыехаў у нязнаны край.
— Чужаземка маладая, хто ты?
— Адгадай.

— Чужаземка, пачакай хвіліну!
— Дай вады. — Мая вада п'яніць.
Пачапіў я стрэльбу на галіну.
Конь мой каля явара стаіць.

Глянуў ёй у вочы. І турботы
Падаюць на дол, як з дрэў лісцё.
Повен гай асенняй пазалоты,
І ў знямозе хіліцца трысцё.

# АРКАДЗЬ МАРДВІЛКА

**(1905, в. Языль Бабруйскага пав. — 1986, Ташкент)**

Сын святара, меў вялікую ахвоту да навукі. Варта пералічыць Мардвілкавы «універсітэты»: Слуцкая гімназія, Фанетычныя курсы ў Ленінградзе, педфак БДУ, Вышэйшыя курсы новых моваў пры II Маскоўскім універсітэце, Сярэднеазіяцкі універсітэт (Ташкент). У 1930-я гг. выкладаў ангельскую мову ў Беларускім аўтадарожным інстытуце, адкуль і быў забраны пад канвоем супрацоўнікаў НКУС. Пасля вызвалення на радзіму не вярнуўся, а, як і С. Ліхадзіеўскі, асеў у Ташкенце, дзе ў дадатак да ангельскай вывучыў нямецкую і выкладаў гэтыя дзве мовы ў тамтэйшых ВНУ. Быў сярод заснавальнікаў «Маладняка». Даследчыца І. Багдановіч пісала: «Актыўная дзейнасць А. Мардвілкі на ніве беларускай літаратуры працягвалася да 1932 г., калі ён атрымаў разгромны водгук Л. Бэндэ на празаічны рукапіс "Маланчына смерць" (зберагаецца ў БДАМЛіМ)». Арышт і падзеі 1930-х гг. у Беларусі зрабілі сваю справу — да беларускага пісьменства Мардвілка больш ніколі не вярнуўся, хоць зрэдку і прыязджаў у Менск. Апошнія дзесяць гадоў у ташкенцкім Інстытуце расейскай мовы і літаратуры займаўся ангельскай і расейскай лінгвістыкай. Змешчаныя ніжэй пераклады знойдзеныя ў старых часопісах: «Маладняку», «Росквіце», «Аршанскім маладняку».

*УОЛТ УІТМАН*
*(1819—1892)*

## ПЕСНЯ ПРА ВОЛЬНЫ ШЛЯХ

*Фрагменты*

Паветра, дыханнем якога я гавару!
Прадметы, што склікаюць мае рассеяныя думкі
  і даюць ім вобраз!
Святло, што ахутвае мяне і ўсе рэчы нялічанымі
  пяшчотнымі стужкамі!
Сцежкі, што дзіўна перавіліся ў лагчыне ля прысадаў!
Мне здаецца, вы схаваліся ў таемным існаванні,
  вы такія дарагія для мяне.
Тарцовыя пуціны гораду!
Пераходы! дошкі і слупы набярэжнай!
Заваленыя лесам берагі! далёкія караблі!
Рады дамоў! прастромленыя вокнамі фасады! дахі!
Парталы і ўваходы!
Вокны, празрыстыя шыбы якіх могуць шмат чаго выявіць!
Дзверы, парогі, прыступкі! Аркі!
Шэрыя камяні безупыннага бруку! Вытаптаныя растапцы!
Вы злучылі з сабою частку ўсяго, што вас кранула,
І я спадзяюся, што цяпер непрыкметна злучыце з вамі й мяне.
На вашым нячулым абліччы адбіліся жыццё і смерць,
І мне іхні воблік будзе прыхільным і ясным.

*

Allons![*] Хто б ты ні быў, ідзі вандраваць са мною!
Ісці са мною табе ніколі не надакучыць.
Зямля ніколі не надакучыць.

---

[*] Allons — хадземце (франц.).

Зямля жорсткая, маўклівая, незразумелая спачатку,
Прырода таксама жорсткая і спачатку незразумелая.
Але не бойся, ідзі далей, тут будуць дзіўныя з'явы.
Клянуся табе, тут будуць такія прыгожыя, дзіўныя з'явы,
Што нельга выказаць словам.

Allons! Мы не павінны тут спыняцца.
Хаця тут і багатыя крамы і раскошныя памяшканні,
мы не можам застацца тут,
Хаця гэты порт і добра хавае, хаця гэтыя воды спакойныя,
мы не можам тут выкінуць якар.
Хаця нас абкружаюць гасціннасць і ветлівасць,
Мы можам карыстацца імі толькі нядоўгі час.

*

Allons!
Мы паплывём па недасяжных і дзікіх марах.
Мы паплывём там, дзе веюць вятры, дзе б'юцца хвалі
І кліпэр янкі ляціць на ўсіх парусах.

Allons! магутна, вольна, стыхійна, сусветна!
Allons! але ведайце зараней,
Мой спадарожнік павінен быць палкім, цярплівым і моцным, —
Толькі адважны й здаровы можа чаго-небудзь дамагацца;
Не йдзі сюды, калі ты згубіў свае лепшыя сілы,
Хай толькі той ідзе, хто ідзе рашуча і смела, —
Ні хваравітых, ні п'яных тут быць не павінна
(Мы не пераконваем спрэчкамі, параўнаннямі, вершамі —
Мы пераконваем сваім існаваннем).

*

Allons! За вялікімі таварышамі і разам з імі.
Яны таксама на шляху — імпэтныя, магутныя мужчыны
і найвялікшыя жанкі.
Ім даюць асалоду марская цішыня і навальніца,
Яны плавалі шмат на караблях, выхадзілі па зямлі многа міляў,
жылі ў закінутых хатах.
Назіральнікі гарадоў, непрыкметныя працаўнікі,
Якія танцуюць на вяселлях, цалуюць маладых,
выхоўваюць дзяцей,
Салдаты паўстання, што стаяць над разяўленымі магіламі,
апускаючы труну ў зямлю,
Падзёншчыкі на ўсе поры года, на цэлы год, на доўгі рад гадоў,
што ідуць адзін за адным,
Падзёншчыкі, як і іхнія таварышы, разнастайнага выгляду.
Яны ідуць так з часу марна загінулых дзён дзяцінства,
Вясёлыя падзёншчыкі ў часе маладосці, барадатыя ў
сталыя дні мужчынства,
Замужныя падзёншчыцы, падзёншчыкі з паважнай старасцю,
Старасцю спакойнай, павольнай, шырокай, як задорлівая
шырыня сусвету,
Старасцю вольнай, бо да яе набліжаецца вызваленне
смерці.

*

Allons! Да бязмежнага і беспачатнага...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Заўсёды імпэтна, заўсёды далей —
Вялікомныя, паважныя, засмучаныя, задорлівыя, зганьбаваныя,
шалёныя, бунтоўныя, змораныя, незадаволеныя,
Адважныя, гордыя, закаханыя, хворыя, прынятыя людзьмі,
адкінутыя людзьмі,
Яны ідуць! Яны ідуць! Я ведаю, што ідуць яны, толькі не ведаю
куды,
Але ведаю я, што яны йдуць да лепшага — яны ідуць да
чагосьці вялікага.

Хто б ты ні быў, выходзь! Мужык ці жанчына — выходзь!
Вы не павінны спаць у шапку і марудзіць там у хатах.
Хаця б вы іх збудавалі альбо яны збудаваны для вас.
Выходзьце са змрочнай цямніцы! Выходзьце з свайго прытулку!

*

Allons! Праз барацьбу і войны!
Ад вызначанай мэты нельга адысці!

Ці мела поспех ранейшае змаганне?
Хто перамог? Вы? Ваша нацыя? Прырода?
Цяпер добра зразумейце мяне — гэта выходзіць
з самай сутнасці рэчаў: кожнае дасягненне ці поспех
вымагаюць вялікай барацьбы.
Мой покліч — покліч барацьбы, я выхоўваю дзейнае паўстанне;
Той, хто ідзе са мною, павінен быць добра ўзброены,
Той, хто ідзе са мною, часта не мае чаго есці, цярпіць нястачу,
пакінуты між злосных ворагаў.

*

Allons! Шлях перад намі!
Ён надзейны — я спрабаваў яго — мае ўласныя ногі
добра зведалі яго, — не марудзьце!

Хай застанецца недапісанай папера на стале і кніга
неадчыненай на паліцы!
Хай снасць ляжыць у майстэрні!
Хай застануцца незаробленымі грошы!
Хай школа пусцее! Не зважай на голас настаўніка!
Хай прамоўца гаворыць на трыбуне!
Хай адвакат даводзіць на судзе,
Хай суддзя тлумачыць законы.

Таварыш, я даю табе руку!
Даю табе сваю любоў, якая даражэй за грошы,
Даю табе сябе, не патрабуючы нічога, —
Ці аддасі ты мне сябе? Ці пойдзеш ты разам са мною?
Ці будзем ісці неразлучна ўсё наша жыццё?

*РАБІНДРАНАТ ТАГОР*
*(1861—1941)*

## ГІТАНДЖАЛІ
*Фрагменты*

Дзе стаіш ты, мой любы, схаваўшыся ў ценю?
Яны дакучаюць табе, праходзячы міма
па пыльнай дарозе, яны не лічацца з табою.
Я чакаю цябе доўгімі нуднымі гадзінамі і раскладаю табе падарункі,
але падарожнікі бяруць мае краскі адна за адною,
і мой кошык амаль пусты. Мінула раніца і поўдзень. У вячэрнім ценю
мае вочы засцілаюцца сном. Людзі, ідучы дахаты,
пазіраюць на мяне і ўсміхаюцца, [redacted] я чырванею ад сораму.
Я сяджу, як дзяўчына-жабрачка, закрыўшы кашуляю твар,
і калі пытаюць мяне, чаго [redacted] хачу, [redacted] вочы схіляю долу і не адказваю ім.
Ой, дапраўды, як магу я сказаць ім, што чакаю цябе
і што ты абяцаў прыйсці. Як [redacted] магла назваць гэтую беднасць
сваім пасагам. Ах, гэтую славу я захавала ў патаемнасці свайго сэрца.
Я сяджу на траве, пазіраючы ў неба, і мару, якім бліскучым будзе
твой раптоўны прыход — усё ззяе вакол, залатыя штандары
развяваюцца над тваім возам; людзі, раззявіўшы раты,
стаяць на прысадах гасцінцу і глядзяць,
што ты зышоў, каб узняць мяне з пылу і пасадзіць побач
з сабою, гэтую абадраную дзяўчыну-жабрачку, што дрыжыць
ад сораму і славы, нібы гібкі стан расліны на летнім ветры.
Але праходзіць час і не чуваць гулу колаў тваёй каляснiцы.
Грамады людзей праходзяць шумліва з крыкамі славы.
Толькі ты маўклiва стаіш у цяньку па-за ўсімі. І толькі я чакаю і плачу,
і сэрца марную ў дарэмным жаданні.

*

На адхоне адзінокае рэчкі, між высокай травы я запытаў яе:
— Дзяўчынка, куды ты прыйшла, ахутаўшы вопраткай свой каганец?
У маёй хаце цёмна і пуста — пазыч мне агню!
Яна на хвіліну ўзняла свае чорныя вочы і праз цемень зірнула мне ў твар.
— Я на рэчку прыйшла, — адказала яна, — каб пусціць каганец на ваду,
калі святло дня знікне на захадзе.
Я стаяў адзінока між высокай травы і сачыў за нясмелым полымем
яе каганца, што без ніякай карысці плыў па вадзе.
У маўклівасці блізкае ночы я запытаў яе:
— Дзяўчынка, твае агні запалены ўсюды, — куды ты прыйшла
са сваім каганцом? У маёй хаце цёмна і пуста — пазыч мне агню.
Яна зірнула мне ў твар сваімі чорнымі вачыма і стаяла ў роздуме.
— Я прыйшла, — нарэшце сказала яна, — каб асвятліць неба гэтым агнём.
Я стаяў і глядзеў на яе каганец, што без ніякай карысці гарэў у пустэчы.
У змроку цёмнае поўначы я запытаў яе:
— Дзяўчынка, чаго ты хочаш, трымаючы агонь ля сэрца?
У маёй хаце цёмна і пуста, пазыч мне агню.
Яна стаяла ў роздуме і пазірала праз цемень мне ў твар.
— Я прынесла агонь, — адказала яна, — каб і ён гарэў у карагодзе агнёў.
Я стаяў і глядзеў на маленькі яе каганец, што без ніякай карысці
загінуў між іншых агнёў.

*

Млявасць ахапіла тваё сэрца і дрымота яшчэ на тваіх вачах.
Хіба ты ніколі не чуў, што прыгожая кветка красуе між дзідаў?
Прачніся, хто спіць! Хай не праходзіць дарэмна час!
У канцы камяністае сцежкі, у краіне самотнасці
мой друг сядзіць адзінокім. Не падмані яго.
Прачніся, хто спіць!
Што з таго, што неба палае і дрыжыць ад гарачыні паўдзённага сонца,
што з таго, што распалены пясок распасцірае посцілку смагі.
Хіба няма радасці ў глыбіні твайго сэрца?
Хіба не адгукаецца арфа дарогі прыемнай музыкай смутку
кожны раз, калі твае ногі кранаюць яе?

## АЛЕСЬ ЗВОНАК

**(1907, Менск — 1996, тамсама)**

Першы зборнік «Пунсовае ранне» (1926) выдаў разам з паплечнікамі па «Маладняку» Я. Бобрыкам і Я. Туміловічам. Закончыў педфак БДУ; неўтаймоўная прага да ведаў прывяла на літаратурны факультэт Маскоўскага універсітэта. Гуртаваў у Маскве землякоў, дзе на той час нават выходзіў беларускі альманах «Наступ». Потым трапіў у Ленінград, у Акадэмію мастацтвазнаўства. У горадзе над Нявой тады размяшчалася Беларуская кінафабрыка, і Звонак разам з кампазітарам І. Дунаеўскім пісаў песні для першых айчынных фільмаў. З абедзвюх расейскіх сталіцаў у Менск прывёз дзве манаграфіі пра тэатры Меерхольда і Галубка, але рукапісы згінулі пасля арышту ў 1936-м. Запраторылі паэта ажно ў Магаданскую вобласць, у золатавышукальныя шахты. (Невыпадкова, што Звонак потым перакладзе пушкінскае пасланне «У Сібір».) Напісаныя ў лагеры чатыры кнігі таксама зберагчы не ўдалося. Вярнуўся на радзіму ў 1955-м, пісаў санеты і нават перакладаў Шэкспіра для Купалаўскага тэатра. Самая значная перакладчыцкая праца — «Віцязь у тыгравай шкуры» Ш. Руставелі, — зробленая разам з М. Хведаровічам, убачыла свет у 1966 г. «Аднаасобная» перакладчыцкая кніга ў А. Звонака толькі адна — лірыка Д. Кугульцінава «Святло жанчыны» (1975).

*ШАТА РУСТАВЕЛІ*
*(XII ст.)*

### ВІЦЯЗЬ У ТЫГРАВАЙ ШКУРЫ

*Фрагмент*

#### ЦАР РАСТЭВАН І АЎТАНДЗІЛ НА ПАЛЯВАННІ

Віцязь зграбны, як лілея, ў царскі двор прыехаў рана.
Як рубін, гарэлі вусны, крышталём свяціўся твар.
У адзенні пурпуровым, у парчы залататканай,
На кані сняжыста-белым ён чакаў, каб выйшаў цар.

Неўзабаве цар са світай прыскакалі ў стэп квяцісты,
Ачапілі ўсю прастору паляўнічыя наўкруг, —
Гон пачаўся урачысты з крыкам, гіканнем і свістам,
Паляцелі шпарка стрэлы у спалоханых звяруг.

Выбраў цар дванаццаць лоўчых, быць пры ім сказаў сярдзіта:
«Падавайце лукі, стрэлы, каб не траціў час дарма,
І сачыце пільным зрокам, колькі звера кім забіта».
Паляўнічыя тым часам панагналі звера шмат.

Назбягалася ад страху безліч рознае дзічыны —
Лані, сарны і алені, і куланаў табунок.
Цар і віцязь пасылалі стрэлы шпаркія няспынна,
Не стамляліся ў іх рукі, не слабеў арліны зрок.

Пыл, падняты капытамі, захінуў нябёсы хмарай,
Кроў гарачая лілася ў здратаваным мурагу,
Слугі стрэлы падавалі, зноў валіліся ахвяры,
Звер падбіты ратаваўся у прырэчным трыснягу.

Праімчаліся праз поле і дзічыну разагналі,
Прагнявілі Бога ў небе, арасіўшы кроўю дол.
Крыкі радасці будзілі устрывожаныя далі, —
Райскім дрэвам Аўтандзіла называлі ўсе вакол.

Поле скончылася. Скалы прыпынілі гон шалёны
Там, дзе беглі па каменні хвалі шпаркае ракі,
Дзе змаглі звяры схавацца, што ўцалелі ад пагоні,
Дзе спыніліся ў знямозе два спаборнікі-стралкі.

Выхваляліся з усмешкай, паўтаралі: «Я адолеў!»,
Побач ехалі павольна, жартавалі хто як мог.
Слуг паклікалі нарэшце, паслухмяных царскай волі.
«Вы скажыце, — цар спытаўся, — хто каго з вас перамог?»

«Уладар! — сказалі слугі. — Слухай праўды наша слова:
Аўтандзіл — адважны віцязь — пераможца твой цяпер.
Тут нічым мы не паможам, хоць карай ты нас сурова:
Ад яго дакладных стрэлаў не ўцалеў ніводзін звер!

Сто разоў па дваццаць вамі рознай зверыны забіта,
Ды забітай Аўтандзілам больш на дваццаць штук было.
Без прамашкі віцязь цэліў, а тваіх — не будзь сярдзітым! —
Стрэл нямала неслухмяных на зямлю дарма лягло!»

Весткай гэтай быў усцешан цар, нібы гульнёй у нарды,
Перамозе выхаванца ад душы быў рады ён,
Бо любіў яго, як ружу салавей у час прынадны;
І з вачэй нядаўні смутак ён развеяў, быццам сон.

Злезлі з коней, селі ў засень, дзе шапталі ціха травы,
Пачало збірацца войска, быццам безліч каласоў,
І прыйшлі дванаццаць лоўчых, самых спрытных, самых жвавых,
І ўглядаліся на рэчку і на сіні цень лясоў.

*ГРЫГОЛ АРБЕЛІЯНІ*
*(1804–1883)*

## МУХАБХАЗІ

Не частуй віном — я п'яны без яго тваёй красой,
Бо язык мой здрадзіць мне і раскажа свету,
Як у сэрцы я хаваў таямніцу гэту:
Пра каханне да цябе марнай мары мэту,
Слёзы, стогны і пакут горкія прыкметы,
І вар'яцтва, што ўзяло ў кіпці ясны розум мой...
Не частуй віном — я п'яны без яго тваёй красой!

Толькі розум даў бы мне глянуць праўдзе ў вочы,
Ды пазбавіць і яго, бачу я, ты хочаш!
Забярэш яго ў палон хараством дзявочым,
Ветлым позіркам вачэй, што чарней ад ночы.
Ты ўсё бачыш ды падносіш мне з усмешкай келіх свой.
Не частуй віном — я п'яны без яго тваёй красой!

На згібенне, як відаць, ты мне ў падарунак
Ружу кінула, рвучы майго сэрца струны:
Падары не ружу мне — палкі пацалунак,
І тады — захочаш ты — вып'ю смерці трунак.
Што віно? Перад табою я раблюся сам не свой.
Не частуй віном — я п'яны без яго тваёй красой!

На цябе зірну няўрокам — і гару ў запале,
Зацвітае твар твой ясны кветкаю міндаля,
І бунтуе ў маіх жылах кроў гарачай хваляй.
Я кахання не зракуся, хоць гібею ў жалю.
Ты зірні: я вар'яцею, будзь спагадлівай са мной...
Не частуй віном — я п'яны без яго тваёй красой!

*ДАВІД КУГУЛЬЦІНАЎ*
*(1922)*

## ЧЫНГІС

Трымаючы у страху каганат,
Рашыў Чынгіс палёгку даць падданым:
Ён усміхацца ім аддаў загад
Цалюткі дзень — і вечарам, і рана.
Таму ж, чыя сляза ўпадзе з вачэй,
Кат галаву адразу адсячэ.

І заўсміхаўся ўвесь Чынгісаў край,
І дэспат хлусіў на ўвесь свет шырокі,
Што ў ханстве ён стварыў сапраўдны рай...
А людзі ў смутку, прычакаўшы змроку,
Ішлі у стэп, дзе змучаны бядак
Наплакацца сам-насам мог усмак.

*АЙВАРС НЭЙБАРТС*
*(1939)*

## ВОСЕНЬСКАЯ ФРЭСКА

А ветрык, нібыта той коцік гуллівы,
скідае да долу запознены жнівень,
як поўную вазу вяргіняў, што звонка
ушчэнт разбіваецца на чарапкі.
У верасень
яблыні жвава кідаюць гнілушкі,
нібыта у тэнара,
голас што страціў даўно,
а сцэну пакінуць не хоча.
Вунь шэры павук дажджавы
выпаўзае з зацішку
і нецярпліва пытаецца:
«Хто тут апошні, мо вы?»
У вогнішчах дрэў пагасае змярцвелае лісце,
і журыцца сад у самоце,
нібыта пакінуты дом:
шпакі
паўцякалі даўно ўжо адгэтуль;
і толькі ляныя каровы ў хлявах
перажоўваюць млява
мінулае лета.
Я восеньскі холад зганяю з вачэй
і позіркам цёплым сваім заўважаю,
як зноў у пупышкавых жыватах
хаваюцца будучых яблыкаў дзеткі.

## СЯРГЕЙ ДЗЯРГАЙ

**(1907, Менск — 1980, тамсама)**

З маладых гадоў цяжка хварэў, з-за хваробы не змог вучыцца. Але для органаў дзяржбяспекі быў здаровы — паэта двойчы, у 1935-м і 1939-м, арыштоўвалі і высылалі ў Казахстан. Падчас Другой сусветнай вайны перабіваўся выпадковымі заробкамі, вучыў дзяцей у падпольнай школцы. Пасля вайны яму, фактычна самавуку, даверылі аддзел паэзіі часопіса «Полымя», пазней — літаратурны аддзел «Вожыка». Пісаў няшмат, часам у год па некалькі вершаў, затое — высокага кшталту. Найбольш поўны паэтычны збор — «Чатыры стыхіі» (1988). Перакладаў з украінскай і расейскай, з польскай — на пару з А. Вялюгіным. Іх сумесная кніжка «Падарунак дзецям» Ю. Тувіма (выйшла ў 1954-м) свежа чытаецца і праз паўстагоддзя.

*МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ*
*(1814—1841)*

* * *

Калі хвалюецца, паціху жоўкне ніва,
І лес пад ветрыкам шуміць і ўноч і ўдзень,
І ў садзе жнівеньскім малінавая сліва
Хаваецца ў лісця́ зялёны цень;

Калі мне ландыш у цішы паляны,
Апырсканы празрыстаю расой,
Ці ранкам залатым, ці вечарам румяным
Ківае з-пад куста ласкава галавой;

Калі ручай, утаймаваўшы смагу,
Мысль акунаючы у нейкі дзіўны сон,
Апавядае таямніча сагу
Пра мірны край, адкуль імчыцца ён, —

Тады сціхае на душы маёй трывога,
У ціхай радасці тады святлее твар,
Я на зямлі прымаю шчасце ў дар,
І я ў нябёсах бачу Бога!..

*ЯН РАЙНІС*
*(1865—1929)*

## ПАСЛЯАБЕДЗЕННЫ ЧАС У ЧОЎНЕ

Ільсніцца возера шкляная гладзь.
Каля ўзбярэжных хат — адбітак ззяння.
Пульсуе сэрца віру, і чуваць
Струменяў кволы шэпт і трапятанне.
Нябёс блакіт люструецца ў вадзе, —
Пакуль не рушыць хваля ў чорнай злосці
З віроў і на блакіт не упадзе, —
Струмені мкнуцца, скардзяцца на штосьці,
І сэрцам хілішся да прыгажосці.

## ПАЗАДДЗЕ СМЕРЦІ

Як мука́, ляціць жыццё па ветры,
Размажджэрыла жабрацтва ў жорнах
Твае косткі, і душу, і сэрца.

Што табе зямля дасць, — возьме вораг.
Дзе ты раз адзін араў і сеяў,
Тройчы вораг ураджай збірае,
Каб не засталося нават зерня
Пракарміць тваіх дзяцей галодных.
Знішчыць люд — у ворага задача.

Крочыць Лёс цяпер па гонях нашых
З рэштам, а ў ім — пакуты, мукі,
Пыл нягод на голаў высявае.
Шэры і цяжкі, траву навокал
Пакрывае пыл, нібы іржою,
Попелу халоднаму падобны.
Нікнуць, сохнуць свежыя галінкі,
Разам з імі душы і галовы.
Гэтак Лёс, паразвяваўшы гора,
Смецце, што на донцы засталося,
На латышскія кідае нівы —
Смерцю чэраватае пазаддзе.
Пашча Лёсу злосна вывяргае
Пару смерці па-над нашым полем,
І на сотнях ніў пасохла семя,
Долу падае асвялы колас.
Неба чорнае, час цьмяны, цьмяны,
Судны дзень пярун вакол прарочыць,
І крывавыя даходзяць весткі
Аб учынках гэтага пазаддзя
Да радні, што на Няве ўладарыць.

*УЛАДЗІСЛАЎ БРАНЕЎСКІ*
*(1897—1962)*

## ЯК ПРЫЙДЗЕ ГАДЗІНА СМЕРЦІ

Як прыйдзе гадзіна смерці,
Настане мой час паміраць, —
Патраплю я сам памерці,
Не будзь ты пры мне і не радзь.
Хачу я памерці паўжартам,
Каб зброю трымала далонь,
Каб вочы глядзелі ўпарта,
Каб высака ўзнеслася скронь.
Каб вецер з палёў не з плачам,
А з водарам ніў завітаў,
Каб Віслу я, Татры ўбачыў
І ўсё, што любіў, апяяў.
Мне хопіць кароткай пашаны,
Кароткім хай будзе плач.
Хай прыйдуць сябры мае рана,
Накінуць салдацкі плашч.
Зарыюць мяне хай скромна
Там, дзе я лягу ў баю,
Салдата-мяне хай успомняць
І вольную песню маю.
Пасля хай ідуць у поле
Праліць за айчыну кроў —
Такая мая воля,
І песня мая, і любоў.

*УЛАДЗІМІР САСЮРА*
*(1898—1965)*

* * *

Глянь у стэп: чужынцаў коні
на крыжах шляхоў.
Край раняе квет чырвоны
ды на бель снягоў.

Груганнё ў даліне крача,
з лесу сыч — пу-гу!
То не цвет, — крыві гарачай
кроплі на снягу.

Гром грыміць на абалонні,
паўстае ўвесь край.
Гэй, сядлай жа, хлопцы, коні
і шаблі вымай!

* * *

Зноў я ў садочку з табою.
Вечар, што стаў над сялом,
яблыні вымыў расою,
сінім накрыў рукавом.

Як пераліць мне у словы
шчырасць маю і любоў?
Так бы й сядзець без размовы,
моўчкі... не трэба размоў.

Соладка чэзнуць імгненні,
сэрца ірвецца з грудзей.
Мовы вачэй не заменіць
бедная мова людзей.

## РЫГОР КРУШЫНА

**(1907, в. Бязверхавічы Слуцкага пав. — 1979, Вашынгтон, ЗША)**

Першымі сваімі кнігамі, выдадзенымі на пачатку 1930-х гг., паэт наўрад ці ганарыўся. Паэтычны хранометр Р. Крушыны вядзе адлік часу ад 1947-га, калі ў беларускім выдавецтве «Пагоня» ў Германіі выйшаў у свет зборнік «Лебедзь чорная». Падчас нямецкай акупацыі Р. Крушына жыў у Слуцку, зрэдку друкаваўся ў «Беларускай газэце» і «Раніцы». Пасля вайны ўсё жыццё пражыў у ЗША і Нямеччыне, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» і выдаў восем кніг. Асаблівая сярод іх — «Сны і мары» (1975); у ёй паэт змясціў эксперыменты ў галіне формы: так з'явіліся на свет першыя беларускія паліндромы, туюгі, канцоны... Пераклады з польскамоўных паэтаў Заходняй Беларусі Р. Крушына апублікаваў яшчэ ў сярэдзіне 1930-х пад сваім сапраўдным прозвішчам Казак. Але яго цягнула да ўжо ўзважаней на шалях вечнасці класікі, і ён пераствараў санеты і балады А. Міцкевіча, вершы Л. Украінкі, дапамог загаварыць па-беларуску сваім знакамітым сучаснікам — У. Маякоўскаму і Б. Пастарнаку. Выбар апошніх невыпадковы. Пастарнак прыязджаў у Менск на Усесаюзны літаратурны пленум, бараніў ад літаратурных касталомаў далікатнага Уладзіміра Хадыку,

цытаваў яго вершы ў арыгінале. А Маякоўскі пасля паездкі па Беларусі засведчыў сваю любоў да беларускай мовы ў крылатым чатырохрадкоўі: «Я немало слов придумал вам, / взвешивая их, одно хочу лишь: / чтобы стали всех моих стихов слова / полновесными, как слово "чуеш"». За гэткія рэверансы варта было аддзячыцца... Вершаваны пераклад знакамітай біблійнай Песні Песням, да стварэння якое нібыта меў дачыненне ізраільска-юдэйскі цар Саламон, Р. Крушына зрабіў у 1947 г. у DP-лагеры ў Нямеччыне і змясціў у сваім выбраным чамусьці без спасылкі на першатэкст.

## ПЕСНЯ ПЕСНЯМ САЛАМОНА

### РАЗДЗЕЛ I

Ён мяне цалуе палка
пацалункам сваіх вуснаў!
Твае ласкі ап'яняюць
за віно мацней і лепей.
Ад тваіх памастаў пахкіх
тхне імя тваё алеем;
і цябе дзяўчаты любяць.
Ты цягні мяне, прынаджвай,
пабяжым мы за табою —
цар павёў мяне ў харомы,
будзем шчасна захапляцца,
будзем цешыцца табою
больш за віны дарагія;
шчыра й годна цябе любяць!
Дочухны Ерусаліму!
Хай я чорная, як ночка,
а прыгожая, як зорка,
як узор шатроў Кідарскіх,
як завесы Саламона.
На мяне вы не глядзіце,
што я смуглая такая;
апаліла мяне сонца.
А сыны мае матулі
на мяне крычалі гнеўна,
вінаграднікі чужыя
пільнаваць мне наказалі, —
я свайго не пільнавала.
Адкажы мне, ты, якога
сніць душа мая ў каханні:
дзе пасеш ты? Дзе заўсёды
у паўдзён адпачываеш?
Мне навошта быць бадзяжкай
ля тваіх сяброўскіх статкаў?
Як не ведаеш аб гэтым,
найпрыгожая з жанчынаў,
дык ідзі сабе па полі,
па слядах авец атарных
і пасі сваіх казлятак
ля прытулкаў пастуховых.

Прыпадобніў кабыліцы
ў калясніцы фараона
я цябе, мая каханка.
Як прыгожа твае скроні
выглядаюць з-пад падвескаў,
твая шыя у маністах;
мы падвескі залатыя
зробім з блішчыкамі срэбра,
і табе іх падаруем.
Цар пакуль быў у застоллі,
нард мой веяў сваю вохнасць.
Як ладанка з мірай — любы
ля грудзей маіх красуе.
Нібы кіперава гронка —
мой каханы у нявесты
ў вінаградніках Энгедскіх.
О, ты любая красуня,
ты прыгожая, бы мара!
Твае вочы галубовы.
О, ты любы мой, прыгожы,
і прыветны! Наша ложа —
зяляніна ў буйным цвеце.
Стрэхі хатаў — нашы кедры,
столі нашы — кіпарысы.

## РАЗДЗЕЛ II

Я — жывы нарцыс Саронскі,
залатых далін лілея!
Як між цёрнамі лілея,
так і ты, мая каханка,
між дзяўчатамі красуеш.
Як між дрэвамі лясными —
яблыня, так — мой каханы
між хлапцамі маладымі.
У цяньку пад ейным веццем
я люблю сядзець і мроіць,
і пладоў крамяных солад
лашчыць свежа маё горла.
Ён павёў мяне ў дом балю,
нада мною сцяг ягоны —
незгасальнае каханне.
Падмацуйце мяне сокам,
хмельным сокам вінаграду,
супакойце маю смагу
спелым яблыкам, бо сёння
знемагаюся ў каханні.
Пясць рукі ягонай левай
у мяне пад галавою,
а мяне самую правай
моцна-палка абдымае.
Вас, дачок Ерусаліму,

заклінаю ланяй, сарнай:
не будзіце, не трывожце
ціхі сон маёй каханай.
Голас любага я чую!
Ён ідзе, бяжыць па горах,
скача-мчыцца па узгорках.
Сябра мой падобны сарне
і аленю маладому.
Вось стаіць ён за сцяною,
зазірае нам у вокны
і мільгае ён праз краты.
Мой каханы мне гаворыць:
ўстань, мая каханка-любка,
ты, мая красуня, выйдзі!
Вось зіма ўжо прамінула,
дождж таксама сціх, не кропіць;
на зямлі пышнеюць краскі,
надыходзіць час спявання,
голас горліцы вясновай
чуем мы ў краіне нашай;
распусцілі смоквы наквець
і на сонцы водар цвету
вінагронкаў павявае.
Ўстань, мая каханка-любка,
да мяне, красуня, выйдзі!
Пад шатром маім галубка
у расшчэпе скальным горным!
Пакажы мне, любка, твар свой,
дай адчуць твой звонкі голас,
бо твой голас мне салодкі
і ў красе твой твар прыемны.
Нам злавіце шкодных лісаў
і маленькіх лісянятак, —
вінаграднікі псуюць нам,
а яны у нас у цвеце.
Мне належыць мой каханы,
я каханаму належу;
ён пасе сярод лілеяў.
Покуль вее прахалода
і збягаюць долу сцені,
да мяне барджджэй вярніся,
будзь падобны ты да сарны
ці аленя маладога
на распадзінах узгор'я.

## РАЗДЗЕЛ III

Я шукала ў маім ложы
уначы таго, якога
сніць душа мая ў каханні;
я дарма яго шукала,
не знайшла яго ў пасцелі.

Ўстану ж я, пайду у горад,
там па вуліцах і плошчах,
па бязлюдных, цёмных буду
я шукаць таго, якога
сніць душа мая ў каханні;
я дарма яго шукала,
не знайшла яго ў завулках.
І тады мяне сустрэлі
гарадскія вартавыя:
ці не бачылі таго вы,
што душа мая кахае?
Але толькі адышлася
я ад іх, маўклівых, строгіх,
як знайшла таго, якога
сніць душа мая ў каханні;
ухапілася за рукі
і яго не адпусціла,
прывяла яго суцешна
ў хату маёй роднай маці,
у матуліну святліцу.
Вас, дачок Ерусаліму,
заклінаю ланяй, сарнай:
не будзіце, не трывожце
ціхі сон маёй каханай.
Хто ж усходзіць над пустыняй,
як слупы густога дыму,
ўся акураная міраў
і цім'янам, вохным зеллем?
Вось лажніца Саламона:
шэсцьдзесят наўкола мужных,
дужых, станістых мужчынаў:
у руках мячы трымаюць,
што ў баях апрабаваны;
кожны мае меч пры боку
дзеля страху проці ночы.
Ты зрабіў, цар Саламоне,
для сябе паланкін лёгкі
з найцвярдзейшых дрэў ліванскіх;
а на ім слупцы із срэбра,
падлакотні залатыя,
а ягонае сядала
з пурпуровае тканіны;
і нутро у ім прыбрана —
выйшла ў любасці аздоба
з рук дачок Ерусаліму.
Дочкі слаўнага Сіёна,
вы пайдзіце, паглядзіце
на цара на Саламона
у вянцы, што у дзень шлюбу,
дзень, найрадасны для сэрца,
маці сына увянчала.

## РАЗДЗЕЛ IV

О ты, любая красуня,
ты прыгожая, бы мроя!
З-пад кудзеркаў твае вочы
галубовыя смяюцца;
валасы твае — як быццам
стада дзікіх коз сыходзіць
з гор, з вяршыні Галаадскай;
твае зубы — як атара
гладка стрыжаных авечак,
што выходзяць із купальні
і па два ягняці ў кожнай,
і няма між іх бясплоднай;
як пунсовая істужка —
твае вусны, з вуснаў — ветласць,
а пад кудзеркамі шчокі —
спеласць яблык гранатовых;
твая шыя — слуп Давідаў,
што пастаўлены для зброі
і абвешаны шчытамі,
а шчыты ўсе з царства дужых;
два смачкі твае — як двойні
маладой трапёткай сарны,
што ў папасцы між лілеяў.
Покуль вее прахалода
і збягаюць долу сцені,
я пайду на ўзвышша міры
і на ўзгорак ціміяну.
Ты прыгожая, бясспрэчна,
мая любая княгіня,
на табе — ніводнай плямы.
Дык са мной з Лівана, любка!
ты са мной ідзі з Лівана!
Паспяшай з вяршынь Аманы,
з гор Сеніра і Хермона,
ад лаговішчаў ільвіных
і ад барсавых узгор'яў.
Паланіла маё сэрца,
о, сястра, мая княгіня!
Паланіла маё сэрца
лёгкім позіркам прыветным
і адным сваім маністам
на тваёй пяшчотнай шыі.
О, сястра, мая княгіня,
як прыемны твае ласкі!
За віно яны найлепей.
Дзіўны пах тваіх памастаў —
над усё найлепшы водар.
Сыта мёду з тваіх вуснаў
густа капае, княгіня;
малако і мёд размовы,

пах тваёй адзежы белай
роўны з водарам Лівана.
Ты, сястра, мая княгіня,
сад зачынены, замкнёны,
загароджаная студня,
мураваная крыніца;
гадунцы твае сягоння —
сад гранатаў, спелых яблык,
ён прынаджвае пладамі,
дзе і кіперы, і нарды,
цынамон, шафран з аерам,
тонкі пах алою, міры
і найлепшы водар дрэваў;
ты — садовая крыніца,
студня водаў жыватворных
і патокі хваль з Лівана.
Узвей, вецер, ад паўночы,
прынясі свой подых з поўдня,
тхні-павей на сад мой спелы,
і пальецца пах ягоны!
Хай каханы паспытае
ў гэтым садзе плод салодкі.

## РАЗДЗЕЛ V

Я прыйшоў у малады мой
сад, сястра, мая княгіня,
і набраў я міры вохнай,
і паеў я соты з мёдам,
і напіўся я віна там,
з малаком віна хмяльнога.
Ежце вы, сябры, і піце,
ежце, любыя, удосыць!
Я драмлю, а маё сэрца
у чаканні моцна б'ецца;
чую голас, то — мой любы
гулка стукаецца ў дзверы:
адчыні мне, мая любка,
адчыні, мая сястрыца,
мая белая галубка!
Схаладнела маё цела,
галава мая пакрыта
ўся сцюдзёнаю расою,
вогкасць ночы — на кудзерках.
Я ўжо скінула хітон свой —
як жа зноў мне адзявацца?
Я памыла мае ногі —
як жа мне іх зноў забрудзіць?
Мой каханы ў дзверы руку
нецярплівую прасунуў,
і нутро маё раптоўна
ўсхвалявалася, ўзыграла.

Я ўсхапілася з пасцелі
адамкнуць цяжкія дзверы,
з рук маіх сцякала міра,
з пальцаў капала на клямку,
на замок і на завалу.
Расчыніла дзверы насцеж,
а мой мілы павярнуўся
і пайшоў назад у цемру.
Ува мне душы не стала,
калі гутарыў са мною;
я цяпер яго шукала,
не знаходзіла яго я;
з жалем клікала-гукала,
а ён мне не адгукаўся.
І мяне тады мяне сустрэлі
гарадскія вартавыя,
мяне збілі, мне нанеслі
акрываўленыя раны;
і знялі з мяне туніку
людзі, што пільнуюць сцены.
Вас, дачок Ерусаліму,
заклінаю! Пры спатканні
з маім любым — не маўчыце,
вы скажыце, што я сёння
знемагаюся ў каханні.
Чым, скажы, твой любы лепшы
за другіх, за іншых любых,
найпрыгожая з жанчынаў?
Чым, скажы, твой любы лепшы,
што нас гэтак заклінаеш?
Любы мой такі прыгожы,
з твару белы і румяны,
лепшы ён ад тысяч іншых.
Галаву ён мае — злітак
самародку залатога;
хваляй падаюць на плечы
валасы чарней, як воран.
Вочы — быццам галубочкі
ля патоку вод малочных,
дзе купаюцца штодзённа,
і сядзяць у здаваленні;
шчокі — кветнік пышных ружаў,
грады водарных раслінаў;
вусны — ў чырвані лілеі,
з іх цячэ крыніцай міра;
рукі — шулы залатыя,
скрозь тапазамі пакрыты;
і жывот — прыгожай формы, —
як разьба з касці слановай;
ногі — з мармуру калоны
ў залатых ступнях-падножжах;
выгляд велічны, бы ў кедраў;

ён падобны да Лівану;
Вусны — соладзь, і увесь ён —
ветласць. Вось хто мой каханы,
вось хто сябра мой адданы
між дачок Ерусаліму!

## РАЗДЗЕЛ VI

А куды пайшоў твой любы,
найпрыгожая з жанчынаў?
Павярнуў куды твой любы?
Пашукаем мы з табою.
Любы мой пайшоў у сад свой,
каб у пахкіх красках пасвіць
і збіраць між іх лілеі.
Я каханаму належу,
а каханы мне належыць;
ён пасе сярод лілеяў.
Дарагая мая любка,
ты прыгожая, бы Фірца,
твая ветлая усмешка,
бы краса Ерусаліму,
а ты грозная з пагляду,
як палкі на полі бітвы.
Ухілі, прашу ласкава,
ад мяне свае ты вочы,
бо яны мяне хвалююць.
Валасы твае — як статкі
коз бягучых з Галааду;
твае зубы — як атара
гладка стрыжаных авечак,
што выходзяць із купальні
і па два ягняці ў кожнай,
і няма між іх бясплоднай;
а пад кудзеркамі шчокі —
спеласць яблык гранатовых.
Шэсцьдзесят царыц я маю
і на дваццаць больш наложніц,
і пры тым дзяўчат без ліку,
ды адзіная між імі —
мая белая галубка;
і яна адна такая
у сваёй у роднай маці.
Як пабачылі дзяўчаты, —
узняслі яе высока,
і уславілі царыцы,
і наложніцы ўсхвалілі.
Хто такая, бы зарніца,
і прыгожая, бы месяц,
яснасветлая, бы сонца,
але грозная з пагляду,
як палкі на полі бітвы?

Я пайшла у сад-арэшнік
паглядзець на цвет даліны,
паглядзець, ці зелянеюць
вінаградавыя лозы,
ці ў прысадах расцвітае
гранатовых яблынь вецце?
Я не ведаю, не знаю,
як душа мая згарала,
мяне вабіла, цягнула
да славутай калясніцы
ўладароў майго народу.

## РАЗДЗЕЛ VII

Азірніся, Суламіта,
азірніся, азірніся, —
на тваё аблічча глянем.
Для чаго на Суламіту
пазіраць, як на прыгоствы
карагодаў манаімскіх?
О, як хораша ступаюць
твае ногі у сандалях,
знакамітая дачушка!
Акругленне тваіх бёдраў,
як абруч цудоўны майстра,
справа рук тварца мастацтва;
тваё чэрава — бы кубак,
у якім віно заўсёды;
тваё чэрава — акраса,
стог пшаніцы між лілеяў;
два смачкі твае — як быццам
казляняткі, двойня сарны;
твая шыя у маністах —
нібы слуп з касці слановай;
пад брывамі твае вочы —
Есевонскія азерцы
каля брамаў Батрабіму;
нос твой — вежа у Ліване,
павярнутая к Дамаску;
галава твая, красуня, —
як гара Карміл, і ўюцца,
валасы твае, як пурпур.
Цар захоплены тваімі
завітушкамі кудзеркаў
і прыгожым, прамяністым
мілым позіркам прывабным!
Стан твой гнуткі — нібы пальма,
твае грудзі — вінагронкі.
І падумаў я: залезу
я на пальму, ухаплюся
за раскошныя галіны;
смакаваў бы твае грудзі,

нібы гронкі вінаграду;
а дыханне твайго водар —
як ад яблыкаў даспелых;
твае вусны сакаўныя —
як віно з гатункаў лепшых,
што цячэ у рот сяброўскі,
вусны стомленых салодзіць.
Я належу майму сябру,
ён мяне адну жадае.
Ты прыйдзі, прыйдзі, мой любы,
выйдзем мы з табой у поле
і пабудзем сёння ў сёлах;
раніцой з табою, дружа,
ў вінаграднікі мы пойдзем,
паглядзім, ці зелянеюць
вінаградавыя лозы,
ці раскрыліся пупышкі,
ці ў прысадах расцвітае
гранатовых яблынь вецце.
Там я выкажу чулліва
да цябе замілаванне.
Мандрагоры зацвілі ўжо
і пусцілі пах свой вохны,
ля дзвярэй у нас усякіх
ёсць пладоў, старых і новых;
назапасіла я гэта
для цябе, мой улюбёны.

## РАЗДЗЕЛ VIII

О, каб ты маім быў братам,
сынам маёй роднай маці!
Дык на вуліцы цябе я
пры сустрэчах цалавала б,
і мяне не асуджалі б.
Павяла б цябе ў пакоі
ў хаце маёй роднай маці.
Ты мяне ўсяму вучыў бы,
я віном цябе паіла б,
сокам яблык гранатовых.
Пясць рукі ягонай левай
у мяне пад галавою,
а мяне самую правай
моцна-палка абдымае.
Я з мальбою заклінаю
вас, дачок Ерусаліму, —
не будзіце, не трывожце
ціхі сон маёй каханай.
Хто ж ідзе там па пустыні,
абапёршыся ласкава
на свайго каханка-сябра?
Я пад яблыняй цяністай

цябе, любы, пабудзіла:
там цябе пад яснай зоркай
нарадзіла твая маці.
Пакладзі мяне ў каханні,
як пячаць на сваё сэрца,
на руку сваю пярсцёнак,
бо дужэй за смерць каханне
і страшней за пекла зайздрасць.
Стрэлы іхнія з жарніцы —
стрэлы палка-агнявыя;
і само яно, каханне,
зыркім полымем палае.
Не згасіць вялікім водам
паланелы жар кахання,
не заліць яго і рэкам.
Хто ж аддаў бы ўсё багацце
свайго дому за каханне,
той з багаццем быў бы разам
прэч адрынуты з пагардай.
Ёсць у нас сястра малая,
грудачак яна не мае.
Што рабіць з сястрою нашай,
як раптоўна госці прыйдуць
да яе, малой, у сваты?
Каб яна была сцяною,
мы б яе умацавалі
з срэбра моцнымі зубцамі,
каб яна была дзвярыма,
дык яе мы тонкай ліштвай
дошак кедравых аклалі б.
Я — сцяна перад каханым,
грудзі у мяне — як вежы;
і таму ў вачах ягоных
дасягла я паўналецця.
Вінаграднік Саламона
быў красой Ваал-Гамона;
ён аддаў той вінаграднік
вартавым, і мусіў кожны
за плады яму аплачваць
тысячай манетаў срэбных.
А мой спелы вінаграднік —
ён са мной. Хай, Саламоне,
табе тысяча, а дзвесце —
тым, хто ў ім плады пільнуе.
Заспявай, садоў жыхарка!
Голас твой сябры пачуюць,
дай і мне яго паслухаць.
Да мяне бяжы, мой любы!
будзь падобны ты да сарны
ці аленя маладога
на узгор'ях бальзамічных.

## ЯЎГЕНІЯ ПФЛЯЎМБАЎМ

**(1908, Менск — 1996, тамсама)**

Рэдкае прозвішча — ад бацькі-немца, які быў запрошаны ў Беларусь будаваць чыгунку і ажаніўся з беларускай. Закончыла педфак БДУ (1930), брала актыўны ўдзел у літпрацэсе 1920-х гг., уваходзіла ў «Маладняк». З маладнякоўкамі З. Бандарынай і Н. Вішнеўскай у 1926 г. выдала першую кнігу — адну на трох. Наступнай давялося чакаць шэсцьдзесят тры гады: «Сувой жыцця» з прадмовай А. Вярцінскага выйшаў толькі ў 1989-м. Фактычна ўсё жыццё пісала ў шуфляду — ці не адзіны выпадак у беларускай літаратуры. Незразумелымі адносна яе літаратурнага падполля застаюцца паводзіны мужа, паэта М. Лужаніна, які, безумоўна, ведаў цану жончыным вершам. За ім у 1933 г. паэтка ездзіла ў высылку: «Такой зімой у маладосці, / у дваццаць тры мае гады, / патрапіла ў Сібір я ў госці / з усенароднае бяды». Вайну перабыла ў Маскве, дзе працавала ў ваенным выдавецтве. Пасля вяртання ў Менск нідзе не працавала, была хатняй гаспадыняй. Цешылася, калі [redacted] аднойчы прынёс ёй кнігу С. Дубаўца «Практыкаванні» з артыкулам «Тры паэзіі» — пра Л. Геніюш, Н. Арсенневу і Я. Пфляўмбаўм. Шкада, што перакладала паэтка вельмі рэдка, ды і то пераважна выпадковых аўтараў.

*УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ*
*(1823—1862)*

### НАТХНЕННЕ

Ёсць пачуцці ў персях з гліны,
У мазгу ёсць думкі-цацкі,
А бывае, тым спружынам
Штосьці рух надасць знянацку.
Пульс абудзіць ад дрымоты,
Думку выхапіць з цянётаў.
Рэдкі госць той прыйдзе знекуль
І не бавіцца нідзе ён,
Ды пакуль пры чалавеку —
Той бывае цудадзеем.
Памяць траціць ён імгненна
У вандроўцы летуценнай.
Мігацяць кругі прад вокам,
Сэрца б'ецца ледзь не скокам,
Варам кроў бяжыць па жылах,
Твар у сонцы, лоб у поце,
Толькі ўздых лье ў грудзі сілы,
Як вятрыска на спякоце.
Гляне ён тады ў прасторы...
Свет у постаці чароўнай!
Ён спяваў бы, зрушваў горы,
Абдымаў бы ўсіх, як кроўных.
Гэты стан такі салодкі,
Жыць бы ў ім даўгія леты,
Але ў госця час кароткі
У лядзяных веях свету...
Ці хвіліну, ці імгненне —
Быў і згас ён, як праменне.

Халадзеюць думкі, мары;
Сэрца просіць адпачыну,
І агонь знікае з твару,
Чалавек зноў — косць ды гліна.

## АНТОН АДАМОВІЧ

**(1909, Менск — 1998, Нью-Ёрк, ЗША)**

Найбольш вядомы твор Антона Адамовіча, які прынёс яму вядомасць на Захадзе, — ангельскамоўная манаграфія «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры» (1958). Чытаючы яе, прафесары Гарварда і Кембрыджа, мабыць, уяўлялі беларускую літаратуру як суцэльную антысавецкую партызанку на ідэалагічным фронце. Антымаскоўскіх дыверсій у вершах і паэмах розных аўтараў Адамовіч навыяўляў безліч, нават у «Слове пра паход Ігара», напісаным, як вядома, у XII ст. Падчас Другой сусветнай вайны Антон Адамовіч жыў у Менску, працаваў у рэдакцыі «Беларускай газэты», быў актывістам Беларускай народнай самапомачы і нават, як перакладчык, суправаджаў у Нямеччыну дэлегацыю беларускіх сялянаў, што ездзілі туды па баўэрскі досвед. Як вынік усяго гэтага — пасля эміграцыі — у Беларусі за ўсё мінулае стагоддзе выдадзеная адна-адзіная яго кніга пра Паўлюка Труса. А напісаў пісьменьнік за сваё доўгае жыццё (ад «узвышэнскай» маладосці да самотнай старасці ў нью-ёркскім доме для састарэлых) нямала: манаграфічныя даследаванні пра М. Гарэцкага, Н. Арсенневу і А. Салаўя, аповесць «Каханы горад», апавяданні, навелы, прадмовы да мюнхенскіх выданняў Я. Купалы, Я. Коласа, У. Жылкі, А. Мрыя, сотні вострапалітычных «скрыптаў» для радыё «Свабода» (тут Адамовіч быў непрымірымы)... У Нью-Ёрку два гады таму ў «бінімаўскай» серыі ўбачыла свет кніга «патрыёта Крыўскае дзяржавы» (так назваў Адамовіча складальнік кнігі Л. Юрэвіч) — на 760 старонак, нядаўна ў Менску выйшаў том амаль на 1500 (!) старонак (падрыхтаваны В. Булгакавым), — а ў іх толькі літаратуразнаўчыя працы. Чакае на свайго выдаўца мастацкая проза, а пра пераклады, апублікаваныя ў альманаху «Конадні» пад псеўданімам В. Бірыч, па-мойму, увогуле ніхто не згадваў.

*ЮЗАФ ЛАБАДОЎСКІ*
*(1909)*

### БЕЗ НАЗОВУ

За ваконнем калоціцца верб серабро,
Бы хліпцяць, што я гіну і нікну ў сутонах.
Хтось у хату зайшоў і расцягвае змрок
Нада мною жалобнай заслонай.

Сум у думы пралез, сум — свет свету майго,
Больш разлеглы за смерць, лёг над злым і над добрым,
І памалу цікаецца сцень даўніх год,
Засціць зрок мне, як дым ці як воблак.

Думаў — лёгка, як кроў з маладых маіх жыл,
З сэрца кінуць на вусны бунтэжу і згрозу.
Варагоў я касіў, а сягоння без сіл
Лёг глухім, здрузгатаным абозам.

Не збылося нічога з таго вешчаўства,
Дзень вадзіў — не прывёў, прахадзіў толькі ногі.
Цэлым выйшаў з навал, адно пыл захаваў
Тараванай навослеп дарогі.

І ўжо ноч, і ўжо іншых світанню будзіць.
— Што пра іншых, калі і свайго не прысніўшы!..
З усіх дзён і гадзін
Мне застаўся адзін
Рытм, ужо бесцікаўны і лішні.

## *ЯР СЛАВУТЫЧ*
*(1918)*

* * *

Замала дня, а ночы — пагатоў!
Паўкола неба — вузкае азерца!
Хіба ж насыціць просцягам сцягоў
Прадоннае, няўтойманае сэрца?

Ляжаць шляхі, плывуць магуці рэк,
Маўчаць задумай непрабуднай горы.
І толькі ён — маг часу — чалавек
Трывожных зор разгадвае узоры.

* * *

Надзея плыткая — глыбокі сумак:
Хто зрэжа лаўры — ці шайтан, ці Бог?
Я — новы Гамлет, што здурнеў ад думак
І сузірае сутанкі эпох.

І так прынадна дазнавацць, і горна,
Як вослеп б'ецца скуты скрут быцця,
Як бы у моры караблі без сторнаў,
Ні бур, ні ўлеў не знаўшы спачуцця.

Ступі ж, як даўлець, кругаходам, Мойра,
Каб незнікомы троп дацэрабіць.
Увесь сусвет апанавала змора
Навальнай хмарай.
        Быць жа ці не быць?

## МАКСІМ ЛУЖАНІН

**(1909, в. Прусы Слуцкага пав. — 2001, Менск)**

Пачынаў у спрыяльныя для паэзіі 1920-я гг., калі сталічныя рэдакцыі атрымлівалі ад старшыняў выканкамаў суправаджальныя лісты: «Пры гэтым накіроўваецца 30 фунтаў вершаў, напісаных паэтамі з нашай воласці». Лужанін і сам важыў свой паэтычны плён на фунты — у 1930 г., будучы яшчэ студэнтам Белпедтэхнікума, выдаў адразу тры зборнікі, у якіх спрабаваў спадкаваць Маякоўскаму, пераймаў планетарныя вобразы і — абавязкова — «лесвічку»,

па якой, лічылася, прасцей зайсці ў храм паэзіі.У 1933 г. быў арыштаваны і высланы ў Марыінск Кемераўскай вобласці, але ўжо праз два гады апынуўся на волі ды атрымаў працу і прапіску ў Маскве. Факт малаўцямны, асабліва калі прыгадаць, па якіх мядзведжых кутах ганялі былых сяброў Лужаніна па «Узвышшы» — У. Дубоўку і Я. Пушчу... Шкада, што сам ён пра тыя часы пераважна адмоўчваўся. Перакладчыкам Лужанін быў зацятым. Пушкінскага «Сейбіта» збеларушваў, калі даць веры яму самому, 21 год! «Гора ад розуму» А. Грыбаедава пачаў перакладаць у 1945-м, а ў 1978-м пісаў: «Ёсць пэўнасць, што скончу пераклад. З 2436 радкоў засталося каля трох соцень» (скарочаны варыянт камедыі ўсё ж выйшаў у 1949-м). І тут жа Лужанін вызначыў свае патрабаванні да перакладу: «... захаванне сэнсу, сістэмы вобразаў і ўяўленняў, рытму і па магчымасці інструментоўкі. Пастарнак гаворыць праўду: перакласці твор можна толькі зазнаўшы працяглае ўздзеянне арыгіналу». На жаль, перакладчыку не заўсёды ўдавалася дапільнавацца сваіх жа правілаў: рыфмы *бізун* — *бунт* — *табун* яўна не з пушкінскага арсеналу. Не ведаю, ці даравяў бы Пушкін падобныя хібы. А мы давайце даруем — за ўседлівасць.

## *ДЖОРДЖ ГОРДАН БАЙРАН*
*(1788—1824)*

### ЦЕМРА

Мне сніўся сон. Ці праўда ў ім была?
Пагасла сонца яснае, а зоры
Блукалі ў цемры космасу без промняў;
Навослеп зледзянелая зямля
Гайдалася ў бязмесячнай прасторы;
Світальны час ёй не прынёс відна,
І людзі перад страшным насланнём
Зракліся і жаданняў і страсцей, —
Адно святла малілі сэрцы іх;
Жыць пачалі усе каля кастроў:
Пасады венцаносцаў і хаціны,
Палацы, хатні скарб і буданы
Пайшлі ў агонь, палалі гарады;
Натоўпамі пры вогнішчах дамоў
Стаялі людзі, каб яшчэ хоць раз
Зірнуць адзін другому ў вочы, ў твар;
Быў шчасны той, хто пры вулкане жыў,
Дзе вынішчальны лютаваў агонь;
Зман спадзявання — ўсё, што меў сусвет;
Для вогнішчаў павысякалі лес —
Камлі кракталі пад сякерай злой
І гаслі з трэскам, каб сцямнела зноў.
Пры мігатлівым гаснучым святле
Быў непамысным выгляд тых людзей:
Хто падаў доле ў роспачных слязах,
Хто, седзячы, усмешку выціскаў,
Падпёршы скiвіцы рукамі; хто ж
Кідаўся марна паліва шукаць
На свой касцёр хаўтурны і праклён,
Узняўшы вочы, ў неба пасылаў,
Што саванам накрыла ўвесь сусвет,
І ў шале ніцма ў чорны падаў пыл,
Скрыгочучы зубамі, выў, як звер;

На марных крылах кожны дзікі птах
Распасціраўся з крыкам на зямлі;
Прыйшлі звяры з пакорай да людзей;
Згубіўшы джала, гадаўскае племя
Сплялося ў мностве страшным між сабой —
На ежу забіваў іх чалавек!
І барацьба, спыніўшыся на час,
Ашчэрылася трыкраць: кожны еў
Цаной крыві і, сплямлены крывёй,
Бег насычацца воддаль ад людзей;
Любоў іх кінула; а ўся зямля
Імгненнай смерці прагла аднае;
Страшэнны голад раздзіраў нутро:
Каналі людзі ў муках, ды па іх
Не вырастаў пагорак над касцьмі.
Са сквапнасцю худы еў худзізну;
Пёс загрызаў свайго гаспадара,
Адзін з іх толькі верны быў свайму,
Вартуючы ад звера і людзей,
Пакуль раз-пораз пакідала смерць
Падсілкаванне скіВіцам худым;
Сам пёс не еў, скавычучы ў тузе,
Гаспадаровы рукі ён лізаў,
Што не адказвалі на ласку больш...
Людзей дарэшціў голад, толькі два
У горадзе вялікім шчэ жылі,
Два ворагі былыя; звабіў іх
Касцёр астатні на пляцы ахвяр:
Згрувашчаныя, як нікчэмны друз,
«Святыя» рэчы датлявалі там;
Касцістымі рукамі попел з іх
Яны ў гарачцы скрэблі, каб ажыў
Агонь, раздзьмуты стогнамі з грудзей,
Хоць быў ён здзекам з намаганняў іх;
На момант над агніскам тым слабым
Пакрыжавала зіркі іх святло:
Адзін другога ўбачыўшы у твар,
Яны сканалі з крыкамі жуды,
Не ўведаўшы, хто той, каму чало
Пан Голад прыпячатае таўром:
— Ён Вораг; стаў пустыняю Сусвет,
Магутны і населены людзьмі,
Ператварыўся ў друз, у глей, у прах,
Без дрэва, без вясны і без жыцця;
Паснулі рэкі, акіян застыў,
Ніводзін шолах не будзіў цішы,
Ляжалі без матросаў караблі
На моры нерухомым; мачты іх,
На трэскі пашчапаныя, глынуў
Сон бездані, сканалі хвалі ўсе,
Прылівы морскія прыбрала смерць
Услед за Месяцам-уладаром.

Ў паветры стыглым звялі ўсе вятры;
Расталі воблакі, ў іх дапамозе
Не меў патрэбы змрок — ён Космас быў.

## *АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799–1837)*

* * *

*Изыде сеятель сеяти семена своя.*

Свабоды сейбіт адзінотны,
Да золку я пакінуў дах;
Рукою чыстай, пашанотна,
На паняволеных палях
Раскідваў плоднае насенне,
Ды страціў час я ва ўтрапенні
І думкі, што вялі на шлях...

Скубіце выган свой, народы!
Не ўзбудзіць гонар вас на бунт.
Навошта статкам дар свабоды?
На шэрсць, на мяса — іх табун,
А спадкі іх — навек, да зводу —
Ярмо з шамкамі ды бізун.

### Я ВАС КАХАЎ...

Я вас кахаў: быць можа, мімаволі
Кахання жар у сэрцы не пагас;
Няхай яно вас не трывожыць болей;
Я не хачу нічым засмучваць вас.

Я вас кахаў бязмоўна, адзінотна,
То боязь чуў, то рэўнасць зазнаваў;
Я вас кахаў так шчыра, так пяшчотна,
Як дай вам Бог каб іншы пакахаў.

### ДА ***

Я помню дзіўнае імгненне:
Перада мной паўстала ты,
Як пралятаючае сненне,
Як геній чыстай пекнаты.

Праз боль і смутак невымоўны
За безразважнай мітуснёй
Мне чуўся голас твой чароўны
І мілы воблік сніўся твой.

Гады мінalі. Шквал бунтоўны
Развеяў мар даўнейшых рой,

Забыў я голас твой чароўны,
Забыў я твар нябесны твой.

Ў глушы, у змроку зневальнення
Самотна дні мае плылі
Без захаплення, без натхнення,
Без слёз, жыцця і без любві.

Душа зазнала абуджэнне:
І вось ізноў паўстала ты,
Як пралятаючае сненне,
Як геній чыстай пекнаты.

І сэрца ў радасным імкненні,
І для яго ўваскрэслі зноў
І захапленне, і натхненне,
Жыццё, і слёзы, і любоў.

## *ТЫЦЫЯН ТАБІДЗЭ*
*(1893–1937)*

* * *

Не я свой верш пішу. Ён, як аповесць, піша
Мяне, — так жыць пільнуюся найперш...
Што верш? Абвал снягоў. Дыхне. Садзьме — і ціша...
Жывога ў дол сапхне. Вось што такое верш.

З пялёсткавых завей мой красавік пачаты, —
Я нарадзіўся ў дождж, як яблыні цвілі,
Сады ад тых дажджоў слязьмі былі багаты,
І слёзы да вачэй здалёку падплылі.

Я знаю, што памру, ды калі зрок бяссоння
На вершы спыніць хоць які паэт,
Устане на маю, напэўна, абарону,
І не загіну я, мой не сатрэцца след.

Пасведчыць ён, што быў хлапчына нехлямяжы
З арпірскіх берагоў, дзівак — радкі збіраў,
Яны за харч былі на ўсіх шляхах бадзяжных,
І кроку аднаго ад іх не адступаў.

Зямля грузінская і сонца твар агністы
З пакутаю яго вялі за далягляд,
Для іх ахвяраваў ён шчасцем асабістым,
А вершам шчасце даў, хоць, можа, і не шмат.

Не я свой верш пішу. Ён, як аповесць, піша
Мяне, — так жыць пільнуюся найперш...
Што верш? Абвал снягоў. Дыхне. Садзьме — і ціша...
Жывога ў дол сапхне. Вось што такое верш.

## КАЛЯ АНАНУРЫ

Ты не павінна быць тут, а, здаецца,
Пад Ананура бачу вобраз твой.
З Арагві Чорнай Белая ліецца,
Мяне ж хацелі разлучыць з табой.

Не знаў цябе, не сустракаў нідзе я, —
Тамару некалі так Врубель уяўляў —
Ты Модзі-нахе — цытадэль надзеі,
Ты воблак, што плысці ўгары прыстаў.

Пяшчотная мне гэтая прыгадка,
Нібыта дотык дэманавых крыл...
Аленіх ног, як у цябе, дзяўчаткам
Няхай бы лёс паболей падарыў.

Хай іх паэты ўсцешацца таксама,
Гасцінна кліча ў заўтра іх жыццё,
А нашы мары у жалобных рамах —
Ім суджаны паўзмрок і забыццё.

Нібыта стронга, між камення б'юся,
І шчэлепы парваныя ў мяне,
Націснуты курок, і згуба, мусіць,
Мае душы сягоння не міне.

І быў за сведку змрочны Ананура, —
Так паміралі, як стаіць сусвет,
І ў тым, што калышу свае хаўтуры,
Ёсць і цана таго, што я паэт.

*ЮЛЬЯН ТУВІМ*
*(1894—1953)*

## СТАРЭНЬКІЯ

На вуліцу і на сялібы
Мы пазіраем цераз шыбы.

Вады стараемся для кветак,
А зойдуць — расцалуем дзетак.

Жывём, на лёс не наракаем,
З календара лісткі зрываем.

* * *

Жыта маё маладое!
Укрый мяне з галавою,
Каб не было ўжо болей
Меж паміж мной і полем.

Каб сокамі наліваўся,
Гайдаўся і цвіў на ветры
І словам не адлучаўся
Ад свежай, зялёнай нетры.

Каб гаварылі ўсюды,
Дзе мы ні закрасуем:
Ці на абоіх — жыта,
Ці на абоіх — Тувім.

*АЛЯКСАНДР ТВАРДОЎСКІ*
*(1910—1971)*

* * *

Я ведаю, няма на мне віны,
Што не прыйшлі таварышы з вайны,
І тыя, што старэй, і аднагодкі
Там засталіся, не пра гэта сказ,
Што адхіліць не ўмеў, не мог смяротны час,
Сказ не аб тым, а ўсё-ткі, ўсё-ткі, ўсё-ткі...

## УЛАДЗІМІР КОРБАН

**(1910, м-ка Барань Аршанскага пав. — 1971, Менск)**

Прайшоў шлях ад дырэктара цвікавага завода да галоўнага рэдактара часопіса «Вожык». Гадоў сем пражыў у Ленінградзе, куды бацькі выязджалі перад Першай сусветнай вайной. Спрабаваў атрымаць юрыдычную адукацыю, але закончыў толькі два курсы Менскага юрыдычнага інстытута. Ваяваў. Пісаў пераважна байкі, якія склалі аснову 14 ягоных кніг. Перакладаў ахвотней за ўсё таксама байкі — І. Крылова, А. Міцкевіча, С. Міхалкова, але часам браўся і за лірыку.

*ЛЕСЯ УКРАІНКА*
*(1871—1913)*

### ЗАБЫТЫ ЦЕНЬ

Суровы Дант, выгнаннік фларэнтыйскі,
Са змроку паўстае часоў далёкіх,
І спевы у яго, нібы далёкі век.
Ён у містычным лесе адшукаў іх,
Паміж хаосу вычварных прывідаў.
Чый дух адважыўся б ісці за ім блукаць
Па той дуброве, як бы там, між церняў,
Прыгожа, вечна кветкі ні цвілі?
Сабраў спявак мастацкаю рукою
Ўсе тыя кветкі, сплёў іх у вянок,
Абмыў яго вадой таемнай Стыксу,
Расой нябеснай акрапіўшы,
Усклаў вянок на раннюю магілу

Цудоўнай Беатрычэ Парцінары,
Што раз яму ўсміхнулася калісьці,
Наступны ж раз прайшла і не зірнула.
А трэці раз ён бачыў Беатрычэ,
Калі яна ў труне ляжала нерухома.
Была яна для Дантэ нібы сонца,
Што і святло, і радасць, і жыццё дае,
Прытым не ведае, каго так шчодра дорыць.
І хоць зайшло ўжо тое сонца,
Ён не забыў яго ні ў цемры непрагляднай,
Ні каля хатняга агню ў святле прывабным,
Ні на зямлі, ні ў пекле, ані ў раі
Ён не забыў цудоўнай Беатрычэ.
Яна адна жыве ў ягоных спевах,
Бо ў той краіне, дзе ён жыў душою,
Сабе другой ён жонкі не знайшоў.
Ён увянчаў яе такой вялікай славай,
Якой ніводная з жанчын яшчэ не мела.
Да веку разам — Дантэ й Беатрычэ,
І нават смерць не разлучыла іх.
Навошта ж ты, фантазія, упарта
Мне постаць іншую, убогую, малюеш,
Што стала паміж імі, быццам цень,
Нібыта сон цяжкі і невыразны?
Няма на ёй вянца і арэола,
А твар яе закрыты пакрывалам,
Нібы густым туманам. Хто яна?
Ніводзін шчэ спявак яе не ўславіў
І ні адзін мастак яе не маляваў, —
Аж недзе там, на дне гісторыі, глыбока
Аб ёй схаваны успаміны. Хто яна?
А жонка Дантава. Імя жанчыны
Не засталося нам, нібы пры нараджэнні
Ёй не далі уласнага імя.
Яна была не зоркай шляхаводнай,
А быццам верны цень ішла за тым,
Хто быў правадыром «Італіі няшчаснай».
Яна дзяліла з ім выгнання чэрствы хлеб,
Яна агонь распальвала вясёлы
Яму ў чужой хаціне. І не раз
Яго рука, шукаючы апоры,
Лажылася ёй на плячо з надзеяй.
Ёй дарага была паэта слава,
Але рукі яна не працягнула к ёй,
Каб ухапіць хаця прамень адзіны.
Калі пагас агонь у песняра ў вачах,
Яна закрыла іх набожнаю рукой.
Так, верны цень! А дзе ж яе жыццё?
Дзе ўласны лёс, дзе радасці і гора?
Гісторыя маўчыць, ды бачу ў думках я
Нямала дзён самотных, адзінокіх,
Праведзеных трывожна, у чаканні,

Начэй бяссонных, цёмных, як адчай,
І доўгіх, як нястача. Вось і слёзы...
Па тых слязах, як па расе жамчужнай,
Прайшла ў краіну славы Беатрычэ!

## ХВЕДАР ІЛЬЯШЭВІЧ

**(1910, Вільня — 1948, Ватэнштэт, Нямеччына)**

У Заходняй Беларусі да вайны паспеў выдаць тры паэтычныя зборнікі. Пад нямецкай акупацыяй рэдагаваў у Беластоку газету «Новая дарога» і ганарыўся, калі сяляне прыязджалі па яе з навакольных вёсак (па ўспамінах М. Сяднёва). Меў добрую адукацыю — закончыў Віленскую беларускую гімназію і гістфак універсітэта; добра ведаў нямецкую мову — у 1944 г. займаўся кнігавыданнем у Берліне. Быў сябрам літаратурнага згуртавання «Шыпшына», якое паўстала высілкамі беларускіх эмігрантаў у Нямеччыне. У лагеры Ватэнштэт блізка сышоўся з паэткай Вольгай Таполяй — таленавітай, але празмерна экзальтаванай асобай, якая літаральна тэрарызавала паэта сваімі пачуццямі, а ў 1948 г. вярнулася ў СССР (дзе выступала сьведкай на працэсе Л. Геніюш). А неўзабаве ў аўтакатастрофе загінуў Ільяшэвіч; пра яго смерць хадзілі розныя чуткі. Як паведамляе Л. Юрэвіч у «Архіўнай кнізе» (Нью-Ёрк, 1997), «камендант лагера Ватэнштэт С. Коўш быў нават вымушаны надрукаваць адкрыты ліст да беларускае грамадскасці, адкідаючы папрокі і падазрэнні ў гвалтоўнай смерці Ільяшэвіча». На жаль, да гэтай пары спадчына Хв. Ільяшэвіча не сабраная пад адной вокладкай, не перавыдадзеныя ягоныя манаграфіі пра Ядвігіна Ш. і братоў Мамонічаў (апошняя выйшла папольску ў 1938-м). Перакла́даў паэт пакінуў усяго некалькі, адзін з іх будзе не лішнім у «Галасах з-за небакраю».

*ГАЙНРЫХ ГАЙНЭ*
*(1797—1856)*

### ДВА ГРЭНАДЗЕРЫ

З расейскай няволі маркотна ішлі
У Францыю два грэнадзеры.
Дайшоўшы да межаў нямецкай зямлі,
Яны пасмутнелі без меры.

Закраўся у сэрцы бясстрашныя страх —
Іх Францыя мучыцца ў сконе,
Разбіта адважнае войска у прах,
І сам імператар ў палоне.

Заплакалі горка старыя сябры,
Пачуўшы аб той паняверцы.
Прамовіў адзін: «О, як рана гарыць,
І гэтак мне цяжка на сэрцы!»

Другі адказаў: «Не, няма ўжо жыцця,
З табою гатоў я памерці,
Ды ў хаце і жонка, й малое дзіця —
І мне ратаваць іх ад смерці».

«Што ж, жонка з маленькім у свет хай ідзе,
Шукае прытульнае хаты.
Мне сэрца вялікшае гора гняце —
Палонены мой імператар.

Дай слова мне, брат, у хвіліне цяжкой:
Калі я памру на чужыне,
Ты цела у Францыю возьмеш з сабой —
У роднай зямлі хай спачыне.

Адзнаку-заслугу з чырвон-пояску
На сэрца ўрачыста узложыш,
Дасі мне вінтоўку маю у руку
І шпагу прычэпіш прыгожа.

І буду я ціха і чуйна ляжаць
У змрочным магільным сутонні.
А ўчую ізноў, што гарматы грымяць
І скачуць баёвыя коні,

На кліч імператара ўстануць рады,
Мячы зазвіняць, заільсняцца...
І я узнімуся з магілы тады,
Каб верным жаўнерам застацца!»

## АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ

**(1911, м-ка Хоцімск Клімавіцкага пав. — 1987, Менск)**

У маладосці змяніў многа прафесій: быў рабочым на цагельні, сартавальнікам лесу на прыстані, электраманцёрам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У 1932 г. паступіў на нямецкае аддзяленне Маскоўскага інстытута замежных моваў, пасля яго заканчэння быў пакінуты на кафедры асістэнтам (дарэчы, падчас маскоўскага часовага беспрытулля жыў на Арбаце ў Беларускім клубе разам з Ю. Віцьбічам). Восем гадоў праслужыў у савецкім войску — у рэдакцыі дывізійнай газеты, у выведным аддзеле штаба корпуса, у армейскім палітаддзеле. Пасля вайны — на творчай працы. Аўтар шматлікіх зборнікаў, якія я добрасумленна прачытаў, рыхтуючы анталогію «Краса і сіла». На жаль, паэтычных удачаў у Зарыцкага няшмат, куды больш плён чакаў яго на перакладчыцкай ніве, хоць тут амплітуда ягонага густу вагалася даволі размашыста — ад Гётэ да Джамбула. Але ў сусветнай паэтычнай іерархіі перакладчык толк ведаў. Падумаць толькі, каб не Зарыцкі, у «Галасы з-за небакраю» не трапілі б Л. дэ Гонгара, А. Мачада, А. Шаміса — да гэтай пары паэты ў нас «дэфіцытныя». На маю думку, найцікавейшая і найбольш чытаная кніга Зарыцкага — зборнік перакладаў «У свет па песні» (1979). З іншых перакладных кніг можна назваць паэму «Поры года» К. Данелайціса (выдавалася двойчы — у 1961 і 1983 гадах). А яшчэ Зарыцкі — аўтар самага вядомага беларускага перакладу знакамітага чатырохрадкоўя Ф. Віёна.

*ФРАНСУА ВІЁН*
*(1431 — пасля 1463)*

## ЧАТЫРОХРАДКОЎЕ, НАПІСАНАЕ ПАСЛЯ ПРЫСУДУ

Я — Франсуа. Гляджу з-за крат.
Мне, ліхадзею, гора,
Бо колькі мой заважыць зад,
Спазнае шыя скора.

*ЛУІС ДЭ ГОНГАРА*
*(1561—1627)*

* * *

Засмучаны спеў Алкіноеў
Спявае Арфей Гвадыяны,
Што радасць мінае імгненна,
А гора — з табой да магілы.
Бярэ ён пявучую цытру,
Кранаецца струн залатых ён,
І ім адгукаюцца горы,
І долы, і хвалі марскія.
Як услаўляе ён шчасце,
Як апявае надзею!
І слухаюць горы і долы,
І мора ягоную песню:

«Жыццё наша — міг, а надзея — нам вечна апора.
Удача ўцякае ад нас, да нас спяшаецца гора».

Падобнае шчасце на кветку,
На тую, якая на золку
Пялёсткі свае раскрывае,
Але к адвячорку ўжо вяне.
А гора, як дуб векавечны,
Галіны ўздымае магутна;
Ягонай лістоты зялёнай
Ссушыць не пад сілу й стагоддзям.
Жыццё мімалётнае наша
Параненай сарнай імчыцца.
Але не спяшае фартуна:
Паўзе яна ўслед па-слімачы.

«Жыццё наша — міг, а надзея — нам вечна апора.
Удача ўцякае ад нас, да нас спяшаецца гора».

*АДЭЛЬБЕРТ ШАМІСА*
*(1781—1838)*

## ЖАБРАК І ЯГО САБАКА

Тры талеры штрафу за пса плаці!
Не, лепей у пекла жыўцом пайсці!
Панам паліцэйскім карціць пакпіць,
З мяне яны скуру хочуць злупіць.

Я ведаю голад толькі й бяду,
Стары і нядужы, з торбай брыду.
На хлеб зарабіць не магу й граша,
Ліпіць у аслаблым целе душа.

А хто ж не пакінуў мяне ў бядзе,
Хто разам са мной па свеце брыдзе?
Хто ў цяжкі час стаў маім сябруком,
Калі я пайшоў з жабрацкім кійком?

Хто грэў мяне лютай зімой, калі
Я, плачучы, мерз на зімнай зямлі?
Хто холад са мной не раз перанёс
Цярпліва, без скаргі на горкі лёс?

Мой пёс, ты стары і хворы, як я,
Аддзячана будзе вернасць твая:
За бескарыслівасць шчырых паслуг
Цябе загадалі ўтапіць, мой друг.

Але такі лёс не толькі ў сабак,
Нярэдка й з людзьмі здараецца так,
Пракляты загад! Я быў на вайне,
Аднак не рабілі катам мяне.

Ды з каменем, пёс, я іду, з пятлёй,
Вунь вір, што стане магілай тваёй.
Чаму так глядзіш ты? Хадзі сюды.
З абрыва спіхну й бывай назаўжды.

Як толькі пятлю ён узняў над псом,
Лізнуў той руку, вільнуўшы хвастом.
Не выйсці з бяды бедаку ніяк,
Пятлю на сябе накінуў жабрак.

І ў вір галавою кінуўся ён,
Да губ прыкіпеў астатні праклён.
І толькі кругі пайшлі па вадзе,
Няма ані знаку болей нідзе.

Завыў верны пёс, трывожна завыў,
Ён склікаў выццём людзей на абрыў,

Тапельца пад кручай знайшлі ў віры,
Ды позна: не дыхаў гаротнік стары.

Калі ўжо труну паклалі на воз,
Услед за труной пайшоў толькі пёс.
Ён на магілу жабрацкую лёг
І больш не ўставаў. Ён там і падох.

## ВІНСПЕРГСКІЯ ЖАНКІ

На прыступ кідаў Конрад не раз сваіх ваяк,
Але не хоча Вінсперг здавацца аніяк.
Хай герцаг Вельф разбіты, спустошана зямля,
Ды не здаецца горад на літасць караля.

Але пачаўся голад, і горад прыцішэў,
Знайсці хацеў ён літасць, знайшоў ён толькі гнеў.
Сказаў кароль: «Тут лепшых згубіў я ў пекле сеч,
Забудзь пра літасць, Вінсперг, усіх мой знішчыць меч!»

Тады прыйшлі кабеты: «Хоць нас, кароль, пусці,
Мы кроў не пралівалі, дазволь адсюль пайсці».
Зірнуўшы на нявінных, кароль палагаднеў,
Жаль у душу пракраўся, астыў у сэрцы гнеў,

«Ідзіце, — кажа Конрад, — адгэтуль смела ўсе,
Хай кожная кабета свой лепшы скарб нясе.
Ніхто ўжо вас не спыніць, не верне ўжо назад,
Кароль дае вам слова, кароль дае загад!»

Калі ўставала сонца з усходу спакваля,
Прыйшлося ўбачыць дзіва салдатам караля:
З адкрытай брамы крочаць жанчыны чарадой,
Ідуць маўкліва цяжкай павольнаю хадой.

Пад ношаю нялёгкай не разагнуць спіны,
Свой скарб найдаражэйшы — мужоў нясуць яны.
«Не пусцім, — канцлер крыкнуў, — усіх тут пераб'ём!»
«Умова, — лямантуе, — парушана баб'ём».

Ды Конрад усміхнуўся, зірнуўшы на кабет:
«Жанкі зрабілі слушна, спыняць жанок не след.
Калі кароль даў слова, не будзе ён маніць,
Не можа нават канцлер загад яго змяніць».

Вось так карона чыстай засталася тады.
Паслухайце ж паданне пра даўнія гады,
Пра час забытых бітваў і рыцарскіх прыгод,
Калі яшчэ паверыць мог каралю народ.

*НІКАЛАЎС ЛЕНАЎ*
*(1802—1850)*

## ТРЫ ЦЫГАНЫ

Помню, як міма пясчаных палёў
Ехаў рыдван мой паволі.
Раптам я ўбачыў траіх цыганоў
Ля прыдарожнай таполі.

Першы быў повен натхнення і мар,
Цешыўся скрыпкі гучаннем,
Позняга вечару барвы на твар
Леглі прываблівым ззяннем.

Ну, а другі прыглядаўся, як дым
З піпкі плыве аж да неба.
Так ён глядзеў, бы нічога зусім
Болей для шчасця не трэба.

Трэці пад дрэвам ужо засынаў,
Поруч павесіў цымбалы,
Ветрык пявучыя струны кранаў,
Быццам музыка ўдалы.

Беднай была апранаха ў траіх,
Рвань, што не трэба нікому,
Ды ў незалежным выглядзе іх
Выклік быў лёсу зямному.

Тройчы я ўведаў, як трэба мне жыць,
Каб на нядолю забыцца,
Як яе трэба праспаць, пракурыць,
Як перад ёй не хіліцца.

Доўга я ехаў і ехаў яшчэ
Цераз глухія абшары,
Мроіўся бляск мне цыганскіх вачэй,
Смуглыя мужныя твары.

*ЯН НЭРУДА*
*(1834—1891)*

## НА ТРОХ КОЛАХ

Ёза, мельнік закаханы,
Не спяшае выпіць чарку,
На ўдаву ён паглядае,
На прыгожую шынкарку.

— Як відаць, жывецца добра?
Расцвіла, памаладзела.

— Дзе там добра, зноў гарую,
Трэці раз я аўдавела.

— Трэці ўжо?! Але гавораць,
Што мужоў ты шанавала?
— Не кажыце, ледзь сама я
Не змарнела, не прапала.

Першы на калені першым
Стаў, калі ішло вянчанне, —
І асуджаны быў лёсам
На дачаснае скананне.

А другі вадой святою
Перш, чым я, памыўся. Гэта, —
Як старыя людзі кажуць, —
Вельмі кепская прыкмета.

Трэці прыдрамаў на ложку,
Калі я яшчэ не спала.
Вось і ён памёр, нябога,
Так я век прагаравала.

— Не пужай! Я не баюся!
Удава, але — як ружа.
— Не спужалася б таксама
І чацвёртага я мужа.

— Дай руку, чацвёртым буду.
Сцеражыся, удавіца.
— Згодна: не на трох жа колах
К чорту ў пекла мне каціцца!

*ЯКУБ БАРТ-ЦІШЫНСКІ*
*(1856—1909)*

## КАРЛ ПРАПАВЕДУЕ ЛУЖЫЦКІМ СЕРБАМ

*У скароце*

Здолеў сербаў кайзер Карл разбіць
І рашыў з іх хрысціян зрабіць.

Ды багоў нямецкіх серб не хваліць:
Немец гарады і вёскі паліць.

У крыві ён сербскай па калені,
Не нясуць дабра яго маленні.

Карл ад злосці месца не знайшоў,
Грозна кляў упартых сербскіх псоў.

Раіўся з епіскапам ён доўга,
Як паганых ды схіліць да Бога.

Пачалі палоннікаў зганяць.
«У Хрысце братамі час нам стаць!

Дабрыню і ад грахоў збавенне,
І яднанне прынясе хрышчэнне.

Змыйце гразь сваіх старых аблуд,
І душою ачуняе люд!»

Кайзер кажа так прынадна, міла,
А яму адказвае князь Мілаш:

«Крыж для нас — благая дапамога,
Хіба сам ты слухаешся Бога?

Славіш мір, гаворыш пра любоў,
З рук тваіх, аднак, ліецца кроў.

Пана ліжа пёс, стаіўшы злосць, —
Мы не псы, у нас сумленне ёсць.

Мае гордасць серб, ён не халоп!
Ведай, кайзер, гэта, ведай, поп!»

«Хто ж хрысціцца хоча з вас, паганых?!» —
Карл ускрыкнуў, моцна раззлаваны.

«Ёсць дазвол епіскапа і Бога
Не пакінуць з вас жывым нікога.

Дык на шыбеніцу, слугі, шпарка
Кожнага ганіце недаверка!

Вешаць ваявод іх і князёў
Дагары нагамі. Зграі псоў

Хай з галоў ім выгрызаюць злосць,
З сэрцаў бруд грахоў, які там ёсць!

Досыць пра дабро казаў я сам,
Псы гавораць хай паганцам-псам!»

Вылі псы ля шыбеніц шалёна,
Чуліся палоннікаў праклёны.

І кабет гучала галашэнне,
Быццам пахавальнае маленне.

Страшна сонейку глядзець было,
І за хмару сонейка зайшло.

Пан епіскап (ён маліўся ўсмак)
Запісаў у летапісе так:

«Карл у Сербах сек галовы сам
Ad majorum Dei gloriam*».

*РАЙНЭР МАРЫЯ РЫЛЬКЕ*
*(1875—1926)*

* * *

Згасі мой зрок, цябе й сляпы знайду,
Забі мой слых, цябе й глухі пачую,
Без вуснаў шчырай песняй усхвалюю,
Без ног праз апраметны змрок прыйду
К парогу запаветнаму твайму.
Адломіш рукі, сэрцам абдыму,
Табой напоўніўшы яго глыбіні.
Прыпыніш сэрца, мроя ўгрэе скронь.
Калі ж мне мозг абпаліць твой агонь,
Кроў панясе цябе ў сваёй гарачай плыні.

**ПЕСНЯ ПРА АБЕЛОНУ**

Ты, праз якую я плачу і ў сне
Поўначчу сіняй,
Ты, што ў лятунках маіх ува мне
Кожнай часінай.

Ты, што маё паўтараеш імя
Ноччу бяссоннай,
Ведай — твая і мая
Злітыя сёння
Мара й трывога...
Глянь на каханкаў, яны
Шчырасць нясуць, а маны
У словах іх многа...

Я праз цябе самотны. Цябе мне век не забыцца.
Хваляй ты наплываеш, хваляй сплываеш.
Ты быццам
Плюскат, з якім падступае прыбой.
Ах, абдымаў я многіх ды страціў усіх дарэшты,
Ты ж нараджаешся зноў.
А мо для мяне жывеш ты?
Я цябе не кранаў, але я вечна з табой.

---

* У славу вялікага Бога (лац.).

## ЗА ЧЫТАННЕМ

Чытаў я доўга. Я пачаў чытаць,
Калі апоўдні дождж пачаў хвастаць,
Ды я, сябе аддаўшы ўладзе дум,
Не чуў ягоны шум.
Глядзеў я на лісты, нібы на твары,
Што ў роздуме хмурнеюць спакваля.
Здалося — час мае спынілі мары,
І ўбачыў раптам на старонках я,
Што пераблытаў нейкі дзіўны вецер
Злучэнні звыклыя знаёмых слоў,
І змог я толькі — «вечар, вечар, вечар»
У кнізе прачытаць і зноў, і зноў...
Ірвуцца ніці, як кара́лі, фразы
Рассыпаліся ў момант хто куды.
І пакаціліся самохаць сказы
Да захаду, дзе небакрай руды.
Я знаю — гляне сонейка сюды,
Калі пачне хавацца за сады
І затрымаецца на хвілю ў голлі.
Ды цені ночы сунуцца здалёк,
Да купак дрэў пачаў туліцца змрок,
І людзі ўжо збіраюцца ў гурток —
Пагаманіць у вольны час паволі.
І я ад кнігі вочы падыму
І ўсё агледжу аж да небакраю.
Там, звонку, тое ж, што ў сабе я маю,
І там і тут мяжы няма ўсяму.
Памалу даль у сэрца я прыму,
І прыстасую зрок свой да паўзмроку,
І сутнасць рэчаў улаўлю здалёку.
Зямля сябе наўздзіў перарасла —
Нябёсаў дакранаюцца пагоркі,
На небакраі ззянне першай зоркі,
Нібы святло ў хаціне край сяла.

*АНТОНІА МАЧАДА*
*(1875—1930)*

* * *

Ноч на ўзбярэжжы Санлу́кар,
Мора заснула спакойна.
Чую я, нехта спявае:
— Покуль не ўзыдзе поўня.

Покуль не ўзыдзе поўня,
Даль асвятліўшы глыбока,
Мушу табе я два слоўцы
Вымавіць з вока на вока.

Дрэмле салодка Санлу́кар,
Лёгкая летняя змора.

Чую я спеў адзінокі,
Чую ля горкага мора.

Плаўна плыве ён, павольна:
— Нас тут з табою не ўбачаць,
Покуль не ўзыдзе поўня.

## МАЛАДАЯ ІСПАНІЯ

Быў жа час і падману, і п'янага шалу,
Не ставала нядужай Іспаніі сілы
Залячыць свае раны.
Пад шум карнавалу
Кандыбала жабрачкай яна да магілы.

Прадчуваннем нядобрым аддадзена й здрадзе
Ты была ў тыя дні нашай ганьбы і гора.
Ад таго наслання мы нямелі, бы ў чадзе,
Заціхала загнанае бурамі мора.

Мы старую галеру пакінулі: далі
Нас паклікалі. Плысці яшчэ нам ці мала.
Карабель залаты ў нас, і стромыя хвалі
Абмывалі нам ветразі й мачты, бывала.

Ды паўстала праз мары і мроіва ночы,
Мары веку былога, што чэзнуць без славы,
Ззянне золку — і нашы трывожныя вочы
Ўім убачылі праўды свяшчэннай праявы.

Толькі кожны па-свойму з дарогі збіваўся
І, ад пыхі шалеючы, бы ад дурману,
У даспехах блішчастых сваіх выхваляўся:
«Сёння блага, ды заўтра вялікім я стану».

Вось ён, сённяшні дзень, што быў прышлым учора.
Зноў Іспанія ў блазенскім яркім убранні,
У рыззі карнавальным, зноў п'яная з гора,
Зноў няшчасная, бедная, рана на ране.

Маладосць, паглядзі: вунь заблiскала мэта.
Не марудзь, калі ўбачыш дарогу да выйсця, —
Ты ж свяшчэнным святлом абуджэння сагрэта,
Што за ўсе дыяменты ясней і празрысцей.

*БЕРТАЛЬД БРЭХТ*
*(1898–1956)*

## СПАЛЕННЕ КНІГ

Калі загадалі нацысты публічна спаліць
Кнігі са шкодным зместам, калі адусюль

Цягнулі валы да кастроў
Павозкі з кнігамі, адзін
Ганімы паэт, адзін з самых лепшых,
Прачытаўшы спіс спаленых, жахнуўся, чаму яго
Кнігі забыты. Акрылены гневам, ён
Падбег да пісьмовага стала і напісаў ліст
Да тых, у каго ўлада.
«Спаліце мяне! — пісаў ён крылатым пяром. —
Спаліце мяне!
Не зневажайце мяне! У спіс уключыце мяне! Хіба я
У кнігах сваіх не пісаў шчырую праўду? Чаму ж вы
Ставіцеся да мяне, як да лгуна?
Я загадваю вам:
Спаліце мяне!»

## МАСКА ДЭМАНА

На сцяне вісіць твор японскага разьбяра —
Маска злога духа, размаляваная залатым лакам.
Я разглядаю са спачуваннем
Набраклыя вены на лбе, доказ таго,
Як гэта цяжка — быць злым.

*ЯН БЖЭХВА*
*(1900—1966)*

## МЕСЯЦ

Пляткарылі дрэвы ў бары між сабой:
— Пан Месяц, відаць, мае кепскі настрой.
— Пан Месяц сягоння нахмураны штосьці.
— Пан Месяц збялеў, паглядзіце, ад злосці.
— Пан Месяц змаўклівеў зусім ад тугі.
— Пан Месяц устаў, мусіць, з левай нагі.
— Пан Месяц суровы — калець давялося.
— Пан Месяц са злоснымі мухамі ў носе.

І Месяц ад гневу ажно задрыжэў:
— Дурныя! — звярнуўся ён з неба да дрэў, —
Адна ў вас пустая гамонка бясконца,
Заўсёды высока вы цэніце сонца,
А з Месяца кпіце — не варты хвалы:
І бледны, і бляклы, і вельмі малы.
Вам сонца са мной параўноўваць нявєтла,
Такую заўвагу зрабіць вам хачу,
Бо сонца вам свеціць удзень, калі светла,
А я, калі цёмна, я ўночы свячу.

## СЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ

**(1911, в. Баслаўцы Слуцкага пав. — 1979, Ташкент)**

Будучы студэнтам Белпедтэхнікума, друкаваў вершы ў «Звяздзе», дзе загадчыкам літаддзела працаваў нядаўні пражанін У. Жылка. У 1928 г. стаў сябрам «Маладняка», неўзабаве пераўтворанага ў БелАПП. («Сцішыліся РАППы, голасу — ні-ні. Шумныя БелАППы поўны цішыні. Не шуршыць папера пад даклад пусты... Пачакай, нявера, аддыхнеш і ты», — парадыяваў Я. Колас тагачасны літпрацэс на гётэўска-лермантаўскі лад.) За 1931—1932 гг. у Ліхадзіеўскага выйшлі чатыры зборнікі вершаў. Ён сябраваў з Ю. Таўбіным, М. Лужаніным, У. Хадыкам (з двума апошнімі нават пісаў і пад калектыўным псеўданімам Лухалі друкаваў пародыі на «паэтаў-фармалістаў»). У 1933 г. быў арыштаваны і высланы на пасяленне ў Паўднёвы Казахстан, дзе выкладаў у школе літаральна ўсе прадметы, нават казахскую мову. Настаўніцтва сваё апеў у пафасных белых вершах: «І я, юнак бязвусы і прафесар / амаль усіх навук, вядомых школе — / ад мудрай матэматыкі да спеваў, — / як толькі ранне блісне ў мой пакой, / спяшаю рупна да сваёй кагорты, / што весела расселася за партай». З цягам часу Ліхадзіеўскі і насамрэч стаў прафесарам Ташкенцкага універсітэта (а закончыў Томскі), абараніў доктарскую дысертацыю па творчасці А. Франса. Перакладаў узбекаў-сучаснікаў на расейскую, немецкіх і французскіх класікаў — на беларускую. Змешчаныя тут пераклады перадрукоўваюцца з ягоных зборнікаў «Берасцянка жывых трывог» (1962) і «Вянкі камунарам» (1974).

*ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*
*(1749—1832)*

### НАЧНАЯ ПЕСНЯ ВАНДРОЎНІКА

Над гарой любою
Ціш, сон.
Сярод спакою
Ледзь чуцён
Подых крон, галін.
У лесе спяць птушкі ціхутка,
Вычакай, хутка
Знойдзеш спачын.

### МІНЬЁН

Ці знаеш край, дзе стаў лімон цвісці,
Палаюць апельсіны у лісці,
Дзе мяккі ветрык з-пад нябёс імчыць,
Высокі лаўр і ціхі мірт стаіць,
Ці знаеш ты?
Туды! туды
Хадзем з табой, мой любы, назаўжды!

Ці знаеш дом? Калоны ўзносяць дах,
Зіхціцца зала, ярка блешча гмах,
Гурт мармуровых статуй нада мной:
Скажы, дзіця, што сталася з табой?

Ці знаеш ты?
Туды! туды,
Мой абаронца, пойдзем назаўжды!

Ці знаеш горы, між аблокаў шлях?
Дарогу мул шукае ў туманах.
Жыве ў пячорах там драконаў род;
Скала нізрынута наплывам вод,
Ці знаеш ты?
Туды! туды
Абое хочам, татка, назаўжды!

*ТЭАФІЛЬ ГАЦЬЕ*
*(1811—1872)*

## ПЕРШАЯ ЎСМЕШКА ВЯСНЫ

Дождж прабег ледзь адталаю сцежкай,
Абуджаецца ельнік ад сну.
Сакавік малады з усмешкай
Спадцішка рыхтуе вясну.

Для малых палявых маргарытак
(Не спалохаць бы іхні сон),
Ён каўнерыкі гладзіць са спрытам,
Казяльцы вычаканьвае ён.

Як цырульнік, таемны на дзіва,
Перасекшы бязмежную даль,
Ён прыходзіць з чубком лебядзіным
Пудрыць шэранню белай міндаль.

Сном на ложку прырода спавіта.
Ён трапляе ў садовую глуш
І ў зялёны гарсэт аксамітны
Там шнуруе бутоны руж.

Ён сальфеджыю кампануе
І насвіствае ціха драздам.
Ён пралескі лугам даруе
І прыносіць фіялкі лясам.

І на крэс ля крыніцы, дзе ночкай
Насцярожана п'е алень,
Срэбра ландышавых званочкаў
Выбівае тайком штодзень.

І нарэшце — канец клапотам.
Яго царства мінулася хоць,
Ён звяртаецца весела потым:
«Калі ласка, вясна, прыходзь!»

*ШАРЛЬ БАДЛЕР*
*(1821—1867)*

## АЛЬБАТРОС

Часта ловяць сабе на забаву матросы
Там, дзе горкая бездань, ні знаку зямлі,
Белых птахаў, вялізных марскіх альбатросаў,
Што рашыліся суправаджаць караблі.

І як толькі на палубе іх распластаюць,
Сарамлівых, няспрытных блакіту цароў,
Крылы жаласна белыя іх пачынаюць
Валачыцца, як вёслы, з абодвух бакоў.

Падарожнік крылаты, ён — млявы, здранцвелы!
Прыгажун, ён — пачварны цяпер і благі!
Вось адзін люлькай дзюбу птушыную цвеліць,
А кульганне яго імітуе другі!

Нам паэты нагадваюць прынца аблокаў —
З бурай знаецца ён, яму смешны стралок;
На зямлі ж яму шыкаюць, сыплюць папрокі,
І гіганцкія крылы абцяжваюць крок.

*СЮЛІ-ПРУДОМ*
*(1839—1907)*

## РАЗБІТАЯ ВАЗА

*Альберу Дэкрэ*

Вазе, дзе расквітнела вербена,
Веер трэшчынку ціха нанёс,
Дотык лёгкім быў і вокамгненным,
Не было ў ім як быццам пагроз.

Веер лёгкі, лягчэйшы ад пуха.
Скол жа большае, бачна, штодзень,
Непрыкметным, ды ўпэўненым рухам,
Хоць марудна, па крузе ідзе.

З вазы сочыцца вільгаць жывая,
Кветак сок высыхае спаўна,
І ніхто пра няшчасце не знае,
Не чапайце, разбіта яна.

Так рука, дарагая нам, часта
Сэрца крыўдаю можа абвіць,
І само яно рвецца на часткі,
Гіне кветка ягонай любві.

Гора сэрца ніхто не адзначыў.
Толькі сэрцу самому чутно,
Як расце яго рана і плача,
Не чапайце, разбіта яно.

*ПОЛЬ ВЕРЛЕН*
*(1844—1896)*

## ЗАХАД СОНЦА

Паляны і пожні
Зара абліла
Самотай апошніх
Праменняў святла.
Самота мне прошвай
У сэрца ўвайшла,
Люляе ў апошніх
Праменнях святла.
Плывуць летуценні —
Падобны яны
Да светлых праменняў —
І прывіды-сны
Імчаць вокамгненна,
Адзін за адным,
Падобны яны
Да светлых праменняў.

## АСЕННЯЯ ПЕСНЯ

Тугі вястун
Асенніх струн
Енк апантаны
Шле мне ўздагон
Пакутны сон
І ў сэрца раны.

Удушша, жар...
І бледны твар.
Што меў я, трачу.
Душы зрадні
Былыя дні:
Успомню — плачу.

І я іду
Ў самоце дум;
З ног вецер валіць,
Гайдае, гне,
Нясе мяне,
Як ліст завялы.

*ЖАК ПРЭВЕР*
*(1900–1977)*

## У КВЕТАЧНІЦЫ

Да кветачніцы чалавек заходзіць
і выбірае кветкі
кветачніца завінае кветкі
чалавек апускае руку ў кішэню
каб грошы дастаць
грошы каб за кветкі заплаціць
але ў той жа самы час прыціскае ён
раптоўна
руку да сэрца свайго
і падае ён.

У той жа самы час калі падае ён
коцяцца па зямлі грошы
і кветкі падаюць на зямлю
у той жа самы час што й чалавек
у той жа самы час што й грошы
і кветачніца застаецца там
з грашыма што коцяцца пад нагамі
з кветкамі што гінуць на зямлі
з чалавекам які памірае.

Відавочна што ўсё гэта вельмі журботна
і трэба каб штосьці яна зрабіла
прадаўшчыца
але яна не ведае як за гэта ўзяцца
не ведае яна
з якога канца пачаць.
Столькі ўсяго зрабіць трэба
з гэтым чалавекам які памірае
з гэтымі кветкамі што гінуць на зямлі
і з гэтымі грашыма
з гэтымі грашыма што коцяцца бясконца
каціцца не перастаюць.

# ЮЛІ ТАЎБІН

**(1911, г. Астрагожск Варонежскай губ. — 1937)**

Шасцітомавы даведнік «Беларускія пісьменнікі» паведамляе, што Ю. Таўбін пераклаў «асобныя вершы Г. Гайнэ». Насамрэч ён пераклаў іх цэлы зборнік, які ў 1932 г. рыхтаваў да выдання. Але праз год быў арыштаваны, высланы на Урал, адкуль дзіўным чынам змог паўдзельнічаць у расейскай «Анталогіі новай ангельскай паэзіі» М. Гутнера (выйшла ў 1937-м у Ленінградзе). У тым самым годзе таленавіты паэт і перакладчык быў расстраляны. Рукапіс зборніка Гайнэ (70 старонак) лічыўся страчаным, пакуль яго ўжо ў наш час не адшукаў у Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва У. Сакалоўскі. Сябар Ю. Таўбіна па Амсціслаўскім педтэхнікуме А. Куляшоў у 1966 г. прыгадваў: «Таўбін выдатна ведаў расей-

скую паэзію, чытаў Гётэ, Гайнэ, Шэкспіра, Байрана ў арыгінале...» Падобна на тое, што сапраўды пераклады не былі для Таўбіна (аўтара чатырох уласных кніжак) другаснай творчасцю ці спосабам заробку, як для многіх: у вершы «Смерць» (1932) паэт гэтак выказаў сваё апошняе жаданне: «Пачытайце пару Гайнавых сатыр». Г. Гайнэ шмат перакладалі на ўсім абшары былога СССР (з яго біяграфіі, між іншым, пачалася ў 1933 г. славутая серыя «ЖЗЛ»), выходзілі яго «Выбраныя творы» і ў Беларусі — у 1959-м. Таўбінаўскія пераклады туды не трапілі, ■ шкада, бо, па словах таго ж У. Сакалоўскага, «дасканалае веданне нямецкай мовы дало Таўбіну магчымасць пранікнуць у самыя патаемныя думкі і пачуцці Гайнэ. Перакладчык добра разумее і яскрава выяўляе яго падтэкст, яго тонкі гумар і дасціпнасць думкі, яго гнеўную сатыру і бліскучы сарказм». Пераклаў Таўбін і самы знакаміты верш Гайнэ — «Лёрэляй», дарэчы, яго сюжэт — «бадзяжны» — упершыню выкарыстаны паэтам Клеменсам Брэнтана. Па-беларуску ён раней-пазней гучаў у выкананні А. Мардвілкі, Ю. Гаўрука, М. Сяднёва, Ф. Баторына. Але ў адрозненне ад іх, для Таўбіна Гайнэ быў адзінай сапраўднай любоўю.

## *ГАЙНРЫХ ГАЙНЭ*
*(1797–1856)*

### 1649 — 1793 — ?

Брытанцы — непачцівыя. За гэтым
Яны пакончылі з дакучным этыкетам.
Кароль іх Карл правёў прад смерцю ноч без сна
Ў палацы Ўайтгол ля вакна.
За вокнамі кпіў з караля народ
Ды біў цвікі ў ягоны эшафот.

Не ведалі французы этыкету.
На месца кары ў простым экіпажы
Яны даставілі Людовіка Капэта
І ўчынілі з ім не так, як кажа
Нам этыкет стары: павінна голь
Трымацца з тым, каго завуць кароль.

Яшчэ цяжэй Марыі-Антуанеце давялося:
Тая атрымала адны калёсы.
Не капелан, не фрэйліна, — на эшафот
З Антуанетай ехаў санкюлот.
Капэціха была даволі ганарлівай
І губку ніжнюю звяла ўсмешкай кплівай.

Французы ці брытанцы — дык яны
Ад роду нелагодныя. Адны
Лагоднасць маюць немцы. Застануцца
Яны лагоднымі і ў часе рэвалюцый.
З яго вялікасцю, як можна,
Звяртацьмуцца яны набожна.
Запрэжана шасцёркай гофкарэта,
Ўся ў чорным. Коні крэпам прыадзеты.
Пасля на конях з траурнаю пугай
Галосіць кучар, — так калісьці цугам
Аж да кальварыі нямецкага манарха падвязуць
І галаву яму з пашанай адсякуць.

## НЕДАСКАНАЛАСЦЬ

Усё недасканала на зямлі.
Нідзе без дзідаў ружы не цвілі.
Анёлы, мабыць, — Божа мой каханы! —
Таксама маюць нейкія заганы.

Цюльпан не мае паху. Чуў я нек —
Скраў парасё сумленны чалавек.
Лукрэцыя — каб не было кінжала,
Цяпер даўно б дзяцей ужо раджала.

Красуні-павы не без брыдкіх ног.
І нават разумнейшая з жанок
Дакучыць можа, быццам «Генрыяда»
Вальтэра ці Клапштока «Месіяда».

Не ведаюць замежных моў каровы,
Як Масман наш латыні. У Кановы
Венерын зад занадта выйшаў гладкі, —
Як нос у Масмана, зас..., гадкі.

У добрым вершы часта рыфмы брак.
Пчалінае ёсць джала ў мёдзе. Так,
Быў Ахілес і той слабы на пяткі,
І Аляксандр Дзюма — сын каляровай маткі.

Найпрамянісцейшая заранька з нябёс
Да долу падае, калі застудзіць нос.
Найлепшае віно смярдзіць ад бочак,
На сонцы бачаць плямы ўжо, браточак.

Ты, жонка, любая мая, і ты б
Мне не магла б сказаць, што вольная ад хіб...
— «Чаго мне не стае?» — пытаешся сама.
Грудзей, — а ў тых грудзях душы ў цябе няма.

* * *

Дзяўчына спіць у пакоі
Пад маладзіковым святлом...
Мелодыя дзіўнага вальсу
Звініць пад яе акном.

«Я толькі зірну ў ваконца, —
Хто мары парушыў мае...»
Шкілет пад вакном іграе
На скрыпцы і песні пяе.

«Ты танец мне абяцала,
Але танцавала з другім, —
На могілках сёння ігрышча —
Дык пойдзем паскачам на ім».

Захопленая дзяўчына
Ідзе за шкілетам услед.
Спявае і скача шалёна,
І грае на скрыпцы шкілет.

Спявае, іграе, і скача,
Выводзіць дзяўчыну з сяла,
І там рассыпаецца ў тло ён
Ад ранішняга святла.

## ЖАНЧЫНА

Было ў іх каханне без меж, без дна,
Ён злодзеем быў, была шлюхай яна —
Як з поўным вяртаўся ён мехам —
Яна паміpала са смеху.

Нуда не ступала да іх на парог,
Яна засынала ў яго на грудзёх,
А як павялі яе ўцеху —
Яна паміpала са смеху.

Тады перадаў ён: «Прыйдзі да мяне,
Мне горка, мне цяжка ў праклятай турме,
Я клічу цябе, маю ўцеху...»
Яна паміpала са смеху.

А шостай задушаны быў ён пятлёй,
А сёмай засыпаны быў ён зямлёй,
А восьмай за чаркай ягоная ўцеха
Бадай не памерла са смеху.

# ВАСІЛЬ ВІТКА

**(1911, в. Еўлічы Слуцкага пав. — 1996, Менск)**

Першую кнігу «Гартаванне» выдаў у часе вайны, у 1944 г. Тады ж з'явіліся і першыя пераклады, што вытрымалі выпрабаванне часам, — з Я. Райніса. З трох дзесяткаў Віткавых кніг (пераважна дзіцячых, тут паэт меў найбольшыя і бясспрэчныя заслугі) у нашай анталогіі варта згадаць кнігу «Трэція пеўні» (1988), дзве трацінаы якой склалі пераклады. Гартаючы яе, я звярнуў увагу на тое, што Вітка бясстрашна браўся за складаныя тэксты, свядома ідучы на страты. Мне было цікава, які заменнік падшукае паэт неперакладному цютчаўскаму радку «...и лучезарны вечера». Атрымалася — «...і чысцінёй чаруюць вечары». Як бачым, гукапіс нават узбагаціўся, хоць рытмічная хіба навідавоку. Ёсць у амерыканскага паэта Р. Фроста верш «Stopping by Woods on a Snowy Evening» («Прыпыніўшыся на ўзлессі снежным вечарам»), пра які напісаны цэлыя даследаванні. Вось як гаварыў пра яго ў сваіх лекцыях У. Набокаў: «Гэта адзін з найвялікшых у ангельскай літаратуры вершаў, які кожны амерыканскі хлопчык ведае на памяць, — пра зімовы лес, пра панылае сутонне, пра званочкі мяккага дакору ў прыцемненым паветры, верш, які заканчваецца так пакутна і дзівосна: дзве апошнія страфы супадаюць кожным складам, але адна — асабістая і матэрыяльная, другая

ж — ідэальная і сусветная». Як было падступіцца да гэтага «адзінага і сапраўднага прарыву ў метафізіку» (яшчэ адна характарыстыка Фроставага твора)? З усіх нашых паэтаў толькі Вітка і адважыўся, і ўжо адно гэта заслугоўвае павагі. А яшчэ ў яго перакладчыцкай кайстры паэты літоўскія, украінскія, польскія, грузінскія.

*ФЁДАР ЦЮТЧАЎ*
*(1803—1873)*

* * *

Ёсць незабыўны, развітальны
Час восеньскай кароткае пары —
Ўвесь дзень стаіць нібы крыштальны,
І чысцінёй чаруюць вечары...

Дзе завіхаўся серп і падаў колас,
Паціху зрэдку ветрык уздыхне,
І павуціны тонкі волас
Трымціць на позняй баразне.

Спусцеў прастор, замоўкла наваколле,
І хоць далёка да зімовых завірух,
Зямля рупліва ашчаджае цёплы дух —
Адпачываць кладзецца поле...

*ЯН РАЙНІС*
*(1865—1929)*

**ЗЛАМАНЫЯ СОСНЫ**

Зламала бура, распластала на зямлі
Выносістых сасён магутныя камлі;
Яны на кручах ля вады стаялі
І многа год прасторы вартавалі.
Не кланяліся ветру век яны,
Не гнулі перад ім свае спіны.

«Зламала нас бязлітасная сіла,
Але упартасць нашу не скрышыла:
Мы аддалі, што мелі, барацьбе,
Галінкай кожнай помсціцьмем табе...»
Шалее вецер, бераг пенай пляміць,
І сталі сосны ў моры караблямі.
А хвалі злосныя ў барты іх б'юць,
Стараюцца перавярнуць.

«Дарэмна ўсё, бяздумная стыхія,
У нас не рвуцца ветразі тугія.
Раві, свішчы, вядзі свой марны бой,
Мы даплывём да мэты залатой!»

*РОБЕРТ ФРОСТ*
*(1874–1963)*

## ПРЫПЫНІЎШЫСЯ НА ЎЗЛЕССІ СНЕЖНЫМ ВЕЧАРАМ

Я добра ведаю здавён,
Чый лес, каму належыць ён, —
Гаспадара аблогі ўсёй,
Дзе мне і ўзвал, і схіл знаём.

Наўрад хто гэтаю парой
Парушыць хатні свой спакой,
Ля вечаровага цяпла
Успомніць, конік, нас з табой.

Дарога цяжкаю была,
А ўсё ж упарта нас вяла
І праз вясну, і праз зіму,
Нібы зарок сабе дала —

Прайсці нам разам не адну
Вярсту і снежную сцяну,
Пакуль я, стомлены, спачну,
Пакуль, знясілены, засну.

*МІКАЛАЙ ЦІХАНАЎ*
*(1896–1979)*

* * *

Хіба жыць без рускага прастору
Небу з пазалочанай разьбой?
Нада мной, як векавечным борам,
Сіні вырай — воблакаў прыбой.

На далонях закарэў суглінак —
Мой адзіны і надзейны знак:
З году ў год збірае асяніну,
Прагне шчасця палявы батрак.

Пракладзе ён цяжкія барозны,
Выарэ з карэннямі лазы
Бляшаныя, выгнутыя зоры,
Цёмныя крыжы і абразы.

Бегла жытам хваля і знямела,
Спыненая раптам на залом,
Быццам бы па шыі загарэлай
Схопленая песенным вузлом.

Да апошняе неспадзяванкі
Паслужу я сіле кругавой —
Дзе ж збірацца хмарам, біць маланкам,
Калі не над нашай галавой?

*ГРЫГОЛ АБАШЫДЗЭ*
*(1914)*

**ГОРЫ І СКАЛЫ**
*У скароце*

Паглядам не абняць высокіх стром,
Іх недасяжнасць недаступна воку,
Каджэцкай крэпасці зубцом
Іх вежы рэжуць цяжкія аблокі.

Стаяць у гордай велічы сваёй,
Да неба ўзняўшыся з бяздоння,
Накрыўшы хмарнаю чадрой
Галовы, пасівелыя ў бяссонні.

І затаіўшыся на вышыні,
Бывае, ўніз шпурнуць знянацку камень
І доўга слухаюць у цішыні,
Як рэха коціцца вякамі.

*

Я тут яшчэ калісьці хлапчуком
Між камянёў, дзе сівер дзікі свішча,
Навобмацак, а то паўзком
Шукаў даўно патухлыя кастрышчы.

І праз тысячагоддзі высякаў
З акамянелага вуголля
Агонь, які нанова ажываў,
Высвечваючы наваколле.

*

Аблазіў змалку я ўсе кручы
І, нахіліўшыся ў правал,
Крычаў, бывала, гэтак гучна,
Што водгулля каціўся вал,

Бесперапынны ў пералівах,
Наноў адбіты глыбінёй.
І казачным здаваўся дзівам
Слабы дзіцячы голас мой.

Як волат я шпурляў каменні
У прорву з вышыні гары
І ў першым радасным натхненні
Тут вершамі загаварыў.

Падняўшы сівыя галовы,
Стаяла горная радня.
І кожнае паэта слова
Сурова судзіць з таго дня.

Адтуль з-за воблачных вышыняў
Як на далоні ўсё відно:
Зеніт нябёс, крыштальна сіні,
І недасяжнай прорвы дно.

Хай строгі, але справядлівы
Прысуд на ўсе гады і дні —
Без велічы, красы і сілы
Не можа быць і глыбіні.

*ІОСІФ НАНЕШВІЛІ*
*(1918—1981)*

## ЭПІТАФІЯ РЭЗЧЫКУ ПА КАМЕНІ

Я высякаў арнамент Кашуэці,
Сваёй душы апошні запавет,
Па кнізе зор, што свеціцца ў сусвеце
І па якой я вывучаў сусвет,
Каб высекчы арнамент Кашуэці.

Якая таямніца паміж намі,
Між словам, каменем, зямлёй і мной —
Раскажа вам гранітны мой арнамент:
Я хмель і папараць звязаў вузламі
І вінаграднай перавіў лазой.

І хоць яны каменнымі былі,
А пад маім дыханнем ажылі
І доўга штосьці баялі сусвету,
Але майго не выдалі сакрэту.

Прахожы, прыпыніся, як калісьці,
Прыслухайся, калі ты не глухі,
Сам здагадаешся, пра што шапоча лісце,
І мне даруеш цяжкія грахі.

Са мною жорстка абышоўся лёс
За тое, што яму не пакарыўся,
За тое, што на камень перанёс
Сваёй каханай любыя абрысы.

Аблічча Боскай Мацеры святой,
Навекі анямелай і застылай,
Я замяніў абранніцай сваёй —
Жаданаю, жывой, зямной і мілай.

Не дараваў непрымірымы бог
Мае віны да гэтае пары:
«Не думай, што мяне ты перамог,
Блюзнерыў — дык у забыцці памры...»

Спыніся на хвіліну, падарожны —
Даўно забылася маё імя.
Я адышоў, як і адыдзе кожны,
Ды будзе вечна жыць любоў мая.

*МАЦЕЙ ЮЗАФ КАНАНОВІЧ*
*(1912—1986)*

**ВОГНІШЧА**

Толькі кволы агеньчык
перада мною,
толькі люстра рачное,
начное

ды маўчанне —
найлепшая наша размова
без ніводнага гуку,
ніводнага слова.

Не чапае нас вецер,
мы самі яго не чапаем,
не спалохаем рэха —
няхай спачывае.

Спіць адвечная пушча,
спяць прырэчныя дрэвы,
салаўіны алешнік
стаміўся ад спеваў.

Толькі мы на ўзбярэжжу
незабыўнай парою,
твая ціхая ўсмешка
і дагэтуль са мною.

Наш агеньчык гарыць,
і стракоча запознены конік,
а на вёсцы не спіць
закаханы гармонік.

## ПЯТРО БІТЭЛЬ

**(1912, м-ка Радунь Лідскага пав. — 1991, Маладзечна)**

Паручнікам Войска Польскага ў 1939 г. трапіў у савецкі палон і быў этапаваны ў глыбіню Расеі. Аднак здарылася неверагоднае — на адным з паўстанкаў частку палонных, сярод якіх знаходзіўся і Бітэль, канваіры адпусцілі на волю. Потым у польскай газеце ён прачытае прозвішчы астатніх аднапалчанаў, расстраляных у Катыні пад Смаленскам. Падчас Другой сусветнай вайны настаўнічаў — выкладаў беларускую мову, літаратуру і геаграфію ў Вало-

жынскай гандлёвай школе. У 1944 г. разам з сям'ёй быў вывезены ў Нямеччыну, з чарговай няволі зноў выратаваўся цудам: цягнік трапіў у аварыю, удалося ўцячы. Пасля вайны з дапамогай мітрапаліта Піцірыма стаў святаром, за два месяцы закончыўшы паскораныя курсы пры Жыровіцкім манастыры. Меў прыходы на Слонімшчыне, у Докшыцах, дзе ў 1950 г. быў арыштаваны і адпраўлены ў Гулаг у Кемераўскую вобласць Расеі. У лагеры Бітэлю ў рукі выпадкова трапіла кніга А. Міцкевіча, і вязень патайком, робячы запісы на папяровых мяхах з-пад цэменту, пераклаў «Пана Тадэвуша» (выйдзе шыкоўным томам, з паралельнымі тэкстамі па-польску і па-расейску, але — толькі праз паўстагоддзя, калі перакладчыка не стане). Пазней Бітэль успамінаў: «За дзень я пераклаў 26 радкоў — урывак, які знаў на памяць з часоў семінарскіх урокаў літаратуры. Схаваўшы спісаную паперчыну ў халяўку чаравіка, я прынёс яе ў лагерную зону і, улучыўшы адпаведны момант, сказаў сябру: "Слухай, як Міцкевіч гучыць па-беларуску". І прачытаў яму свой пераклад. Сябра стаяў як аслупянелы, маўчаў і толькі міргаў вачыма. А калі я скончыў чытаць, ён вырваў у мяне з рук паперку і выбег з барака. Не мінула і паўгадзіны, як да мяне з'явілася цэлая дэлегацыя беларусаў (С. Хурсік, Ю. Сергіевіч, М. Квятовіч). Усе яны адобрылі мой пераклад і раілі не закідаць гэтай працы. Вечарам у лагернай зоне мы выцягвалі са сховішча кнігу, я перапісваў з яе радкоў 20—30 (заданне на дзень), а на рабоце, выконваючы норму выпрацоўкі, мармытаў сабе пад носам пераклад і, як здаралася магчымасць, ці ў абедзенны перапынак, схаваўшыся ад лішніх вачэй, прыпіраў лісток да сцяны і запісваў». Аднойчы наглядчык сканфіскаваў трыста радкоў перакладу, а перакладчык за тое, што «писал после отбоя какие-то дурацкие стишки», трапіў на трое сутак у карцэр. Але Бітэля гэта не спыніла. Частку перакладаў ён перадаў на волю, у адказ атрымаў ад М. Танка ліст падтрымкі і польскі слоўнік... Усё жыццё Бітэль пісаў гістарычныя паэмы і вершаваныя аповесці, адна з іх, «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», была станоўча зрэцэнзаваная У. Караткевічам. З падобных твораў і скаліся тры арыгінальныя кнігі Бітэля: «Замкі і людзі» (1968), «Паэмы» (1984), «Дзве вайны» (1990). У апошнія дзесяцігоддзі бітэлеўскія пераклады публікаваліся нячаста (кнігамі выйшлі толькі аповесць «Хата за вёскай» Ю. Крашэўскага ды «Залаты асёл» Апулея). Пахаваны П. Бітэль у Вішневе на Валожыншчыне, дзе жыў пасля вяртання са зняволення.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## ДА НЁМАНА

О Нёман, родная рака! Дзе тыя воды,
Што чэрпаў я ў дзіцячыя далоні,
А потым у зацішша плыў па іх улонні
Шукаць для сэрца ўзбуранага ахалоды?

Там часта Лаўра, улюбёніца прыроды,
Любіла плесці косы, квеццем строіць скроні,
Яе там вобраз, намалёваны ў затоне,
Слязой не раз муціў я ў маладыя годы.

О Нёман, родная рака! Дзе тыя плыні,
А з імі тое шчасце, гэтулькі надзеяў?
Дзе радасці з дзіцячых мілых спраў, падзеяў?

Гады мае бурлівыя — ў якой краіне?
Дзе зараз Лаўра? Дзе сябры? Няма нікога!
Мінула ўсё!.. Чаму ж сляза ў вачах не гіне?

## СЯБРАМ МАСКАЛЯМ

Ці помніце мяне вы? Бо калі ахвяры
Сяброў згадаю я, іх смерці, турмы, ссылкі,
Не забываю й вас; чужыя вашы твары
У памяці заўжды ўзнаўляю без памылкі.

Дзе вы цяпер? Высакароднейшы Рылееў,
Які мне быў, як брат, прысудам царскай зграі
Вісіць сярод ганебнай шыбеніц алеі.
Пракляты люд, які прарокаў забівае!

Рука, якую падаваў быў мне Бястужаў,
Паэт-змагар, — аднята ад пяра й ад зброі,
Яна у шахце пад выццё паўночных сцюжаў
Прыкутая да тачкі побач з польскаю рукою.

А іншых мо йшчэ горшая спасцігла кара —
Мо хто з іх ордэнам ці чынам апаганен
І, вольную душу ў палон аддаўшы цараў,
Яму паклоны б'е, забыўшы пра змаганне...

Мо платнай моваю трыумф ягоны славіць
І цешыцца з пакут сяброў сваіх і брацццяў?
А мо маю айчыну мучыць і крывавіць
І ганарыцца нашым ён пракляццем?

Калі да вас праз далячыні прылунае
Птушыны сум маіх сяброўскіх песняў
І адгукнецца зверху над паўночным краем,
Хай волю вам нясе, як жоравы ў час весні.

Пазнаеце мой голас. Покуль быў я скуты
Ды поўз, як вуж, з прыкідліваю мінай,
Я вам адкрыў свае пачуцці і пакуты,
Адносіўся да вас з пяшчотай галубінай.

Я на святло зірну праз келіх свой атрутны,
Пякучая надзвычай гарчыня той мовы.
Бо з слёз, з крыві яна, што лье мой край пакутны,
І хай яна раз'есць не вас, а вашыя аковы!

А хто паскардзіцца з вас, скарга, мне здаецца,
Як брэх сабакі будзе, што няўзнак, міжволі
Прывык да доўгай і цярплівае няволі
І раніць руку, што сарваць ланцуг памкнецца.

## ПАН ТАДЭВУШ
*Фрагменты*

Літва! Радзіма, як здароўе, дарагая!..
Што варта ты, той толькі ўцяміць і спазнае,
Хто цябе страціць. Сёння прыгажосць тваю я
Зноў бачу і апісваю, бо ўсцяж сумую.

Святая Дзева, што бароніш Чанстахову
І ў Вострай Браме свеціш, што ўзяла ў ахову
Наш слаўны Навагрудак з яго верным людам,
Як мне жыццё ў дзяцінстве Ты вярнула цудам
(Калі ў адчаі маці пад Тваю апеку
Мяне здала, і мёртвую я ўзняў павеку
І зразу змог пайсці к тваіх святынь парогу
За вернутыя сілы даць падзяку Богу) —
Так цудам зноў нас вернеш у наш край каханы.

Тым часам перанось мой дух засумаваны
Ў зялёны лес, на сенажаці, на паляны,
Што над блакітным Нёмнам скрозь парассціланы,
Да маляваных ніў, дзе жыта серабрыцца
І залачоная калышацца пшаніца,
Дзе грэчка — быццам снег, свірэпка — як бурштыны,
І дзяцельнік гарыць румянцамі дзяўчыны.
А на мяжы, што стужкай абвіла палеткі,
Маўкліва грушы ціхія паселі зрэдку.

А сонца круг свой да краёў нябёс каціла,
Слабела пакрысе, з апошніх сіл свяціла,
Пачырванеўшы, як здаровае аблічча
Гаспадара, якога пасля працы кліча
Спачынку мілы кут. І вось круг прамяністы
Спускаецца на бор, а шэры змрок імглісты,
Запоўніўшы вяршыні і галлё да краю,
Лес звязвае ў адно, нібы яго злівае.
І бор чарнеў, накшталт няведамага гмаху,
Над ім гарэла сонца, як пажар на даху,
Ды вось апала ўглыб, між дрэў яшчэ іскрыцца,
Як свечка вечарам са шчылін аканіцы,
І пагасае. Ўміг сярпы спыняюць працу,
І граблі ў лузе больш ужо не мітусяцца,
Бо Пан Суддзя здаўна даў гэткае ўказанне,
Каб працу разам з сонцам кідалі сяляне.

*

Няўзнак світанне кралася з сырога змроку,
Дзень без румянца несучы, без свету ў воку.
Хоць дзень настаў, ён ледзь прыкметны праз туманы.
Імгла вісела над зямлёй, як саламяны
Застрэшак над літвіна хатаю. На ўсходзе
Заўважыць можна па святлейшым асяроддзі,

Што сонца ўстала, што ўзнімаецца над нівай,
Але, яшчэ заспанае, ідзе ляніва.

Па прыкладзе нябёсаў і зямля заспала.
Пазней на луг жывёла выйшла, крочыць вяла
І зайцаў спозненых трывожыць пры сняданні.
Звычайна ў гай яны ўжо скачуць на світанні,
А ў сённяшняй імгле то хрумстаюць макрыцу,
То, ў гурт сабраўшыся, ў раллі спрабуюць рыцца
Ці забаўляюцца па-свойму на прасторы.
Спалоханыя, ў лес бягуць уздоўж разоры.

І ў лесе цішыня. Не хочацца птушыне
Пяяць, расу атрэсла, сеўшы на галіне,
Галоўку ўціснула ды жмурыцца ў дрымоце
І ўсё чакае сонца. Дзесьці на балоце
Клякоча бусел і, абмокшыя, ўсё ранне
Працяжна каркаюць вароны у тумане,
Абрыдлыя сялянам, бо варожаць слоту.
Сяляне ўжо даўно ўзяліся за работу.
Пачуўся жнеяў спеў працяглы і маркотны,
Так сумны, аднастайны, як дзень гэты слотны,
І тым сумнейшы, што ў імгле без рэха тоне.
Сярпы хрумсцяць у спелым збожжы на загоне,
І рад касцоў ідзе атаваю ўздоўж гоняў,
Насвістваючы песню. А ў канцы пакосаў
Спыняюцца ўсе, менцяць або клеплюць косы.
Людзей не ўбачыш, толькі чуецца ў тумане
Сярпоў, кос, галасоў сугучнае іграннe.

*

У полі пачынаецца канцэрт вялікі:
Вось строіць інструменты скончылі музыкі,
Азваўся тройчы драч у лузе, і тым часам
Перагукнуўся з ім брыдун з балота басам,
А бекасы, угору вырваўшыся, ўюцца
І бэкаюць, як быццам аб бубенец б'юцца.

А пад фінал тых шумаў, птушых крыкаў, з далі
Падвойным хорам два ставы тут заспявалі,
Нібы каўказскія заклятыя азёры,
Што ўдзень маўчаць, а ўноч вядуць перагаворы.
Адзін стаў, што быў ясны, з берагам пясчаным,
Блакітнай груддзю выдаў тон усхваляваны,
Другі, што з дном быў цёмным і аблiччам мутным,
Яму адказваў крыкам жаласным, магутным.
У тых ставах спявалі жабы зважна,
То сола перарывіста, то ў хор працяжна.
Адзін фарцысіма пяе, другі сціхае,
Той быццам чым абураны, другі ўздыхае.
Так размаўлялі два ставы з сабой праз поле,
Як быццам арфы дзве чароўныя Эола.

А змрок гусцеў, і толькі недзе каля рэчкі
Ў лазе блішчэлі вочы воўчыя, як свечкі;
Далей на краявіда сцесненым палетку
Кастры начлежнікаў там-сям блішчэлі зрэдку.

*ЯН ДВАРЭЦКІ*
*(1812—1847)*

## МАГІЛА ВЫГНАННІКА

Спакой вам, браты, і салодкі сон вечны!
Па вас плачуць маці, льюць слёзы ўдавіцы,
Сляза пранікае ва ўлонне зямліцы,
І цень кіпарысаў вас туліць сардэчна...

Чужая рука мне труну тут пасцеле,
І зрэнкі засыплюць пяском чужаніцы,
Сляза не праб'ецца ў магілы цямніцы, —
Не зможа прайсці праз глыбіні і мелі.

І толькі жаўронак, з радзімы госць мілы,
Запыніцца тут ля мяне й супачыне,
Чуллівую песню на камень ускіне
І ў даль паляціць ад самотнай магілы...

Не ўспомняць мяне тут чужацкаю мовай,
Ніхто не пасадзіць ні кветкі, ні дрэва,
Віхор загудзіць, пранясецца залева,
Пярун наляціць з гаманой адмысловай.

Дык ты, мая зорка, што ў хвілях самоты,
Калі мой зрок доўга блукаў у тумане,
Не раз аглядала маё сумаванне,
Ты, зорка, вартуй тут магілы-сіроты.

*ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ*
*(1831—1891)*

## БРАМІН ПЕРАД СМЕРЦЮ

Дарма лаўлю прамень убогі, —
Жыццё загасне праз хвіліну...
Ці вы не скажаце мне, богі,
Кім буду я, як свет пакіну?
Не быў дабром я знакаміты,
Ды «огм!» шаптаў праз час мінулы...
О Брахма велічны, зрабі ты
З мяне каняку Калігулы!

Паклоннік Месяца і Сонца,
Я голы быў і днём, і ўночы —

Хай вобраць з перлаў і чырвонцаў
На галаве маёй бразгоча.
Хай з каўчуку нашу галёшы,
Начынне б'е ў хрыбет мой чулы,
Зрабі, о Брахма мой харошы,
З мяне каняку Калігулы!

Адно з раслінаў розналістых
Меў я частунак небагаты —
Няхай авёс ем залацісты,
Няхай ем з лотасу салаты.
Вады каб з Ганга хоць нямнога
Маёй гартані не мінула,
Зрабі, прашу я Брахму-бога,
З мяне каняку Калігулы!

Не спляміў Парый пры спатканні —
Ён не крануўся майго стану,
Няхай паны, красуні-пані
Нясуць у жолаб мой пашану.
Няхай шануюць, як вяльможу,
Няхай на сон пяюць мне «люлі»...
Зрабі, о Брахма! мілы божа,
З мяне каняку Калігулы!

Вось бачу... бачу... мне вусцішна...
О бог! Ці будзе мне адхланне?
Тапырыць вусы грозны Вішна:
«Няхай аслом запрэжным стане,
Хто не спрыяў бядняцкай долі,
Хто ў шкарлупе сядзеў сутулы...»
«Зрабіць, о, Брахма, ў тваёй волі
З мяне... каняку... Ка... лі... гу...»

## ПЁТРА СЫЧ

**(1912, в. Батурына Вілейскага пав. — 1964, Мюнхен, Нямеччына)**

Пачынаў пісаць па-польску, друкаваўся ў віленскіх польскамоўных перыёдыках, як жаўнер Войска Польскага трапіў у верасні 1939 г. у Ашмянах у савецкі палон. Альманах «Ля чужых берагоў» (Мюнхен, 1955) паведамляў пра свайго аўтара П. Сыча наступнае: «Друкавацца пачаў у 1932 г. У 1939-м быў арыштаваны НКУС і высланы ў лягер прымусовай працы ў Варкуце, дзе прабыў два гады. Пасьля гэтага ўступіў у армію ген. Андэрса й прыймаў удзел у баёх на тэрыторыі Італіі, у тым ліку й пад Монтэ Касіна. Цяпер жыве ў Нямеччыне». Дададамо, што пра бітву пад Монтэ Касіна паручнік арміі Андэрса Сыч, дарэчы, чацвёрачы паранены ў той бітве, пазней напісаў дакументальную аповесць «Смерць і салаўі». А ў савецкай турме ў Полацку сядзеў разам з будучым прэзідэнтам БНР В. Жуком-Грышкевічам, які і запрасіў яго працаваць на радыё «Вызваленне» (пазней — «Свабода») у 1954-м. Сыч актыўна друкаваўся ў газеце «Бацькаўшчына», адкуль і ўзяты верш польскага паэта К. Вяжыньскага.

*КАЗІМЕЖ ВЯЖЫНЬСКІ*
*(1894–1969)*

### ДА САБАКІ, ШТО ВЫЕ ПАСЯРОД ВУЛІЦЫ

Месяц цябе не пачуе,
бо ён мае вуха у залатой,
бліскучай аўрэолі,
што яму да сабачай долі,
што яму боль твой?

Ён — чараўнік высокі,
ахутаны паэзіяй усякай,
ён на сябе паглядае,
тысячы люстраў мае ў небе.
А ты — толькі бадзяка...

Яму, калі сядзіць на пасадзе
з залатым накрыццём,
іграюць аркестры з кожнай планеты,
вецер сыпле кастаньеты,
а ты з чым да яго —
з выццём?

Ён зачытаны ў зорах,
з календара задыяку
чытае прышласць свету —
астралог, варажбіт, паэта,
куды табе, небараку!

Ён мае вечнасць у прызме,
а ты маеш гіцля з пятлёй;
ніхто ратаваць не будзе,
злупяць скуру людзі...
Дай лапу! Ц-с... Спакой...

Месяц не пачуе, яго вуха
зарасло гарамі усякімі.
Не вый! Не паможа.
Лепей памаліся: Божа,
злітуйся над сабакамі!..

## МАКСІМ ТАНК

**(1912, в. Пількаўшчына Вілейскага пав. — 1995, Менск)**

Калі перачытваеш танкаўскія дзённікі «Лісткі календара», разумееш, што не перакладаць паэт папросту не мог. Міжваенная Вільня, дзе ён у 30-я гады мінулага стагоддзя жыў, уяўляла з сябе літаратурны Бабілон — у горадзе аднaчасова выходзілі беларускія, польскія, літоўскія, расейскія, габрэйскія перыёдыкі. Будаўнікі Бабілонскай вежы не разумелі адзін аднаго зусім, удзельнікі віленскага літпрацэсу — таксама не заўсёды, але перакладалі адзін

аднаго, ладзілі супольныя паэтычныя вечарыны. Беларус М. Танк неаднойчы выступаў перад польскай аўдыторыяй, шмат перакладаў палякаў, з многімі з іх сябраваў (з У. Бранеўскім, Е. Путрамантам). Праз польскую паэзію была магчымасць рэтрансляваць дасягненні заходнееўрапейскай паэзіі ў Беларусь, і Танк паспяхова справіўся з гэтай няпростай задачай. Многія яго вершы ўзніклі з прыслухоўвання да Захаду, хоць паэт часцей быў вымушаны глядзець на Усход. Чытаем у дзённіках паэта: «У "Вымярах" (польскім часопісе. — М. С.) — рэцэнзіі на ўспаміны д'Анунцыя і дужа цікавы артыкул пра выдатнага іспанскага лірыка Рубэна Дарыо. А я, барбар, нічога яго не чытаў!» Можна з пэўнасцю сказаць, што ў тагачасным Менску гэтых паэтаў не толькі не чыталі, але і не чулі пра іх. (А як маглі чуць, калі Габрыэле д'Анунцыя лічыўся афіцыйным песняром рэжыму Мусаліні?) Танк перакладаў з польскай не толькі палякаў, але, напрыклад, і нарвежца К. Гамсуна, хоць падвойны пераклад лічыў злачынствам. Да падрадкоўнікаў ставіўся патрабавальна, і калі яму аднойчы нейкі Д. падсунуў творы А. Суцкевера, запісаў у «Лістках календара»: «Яго падрадкоўнікі нагадвалі разбураныя землетрасеннем бажніцы, пад руінамі якіх загінулі і веруючыя, і сам Іегова». Працавітым і вечна натхнёным Танк заставаўся да канца сваіх дзён — па зборніку «Мой каўчэг» відаць, што нават у васьмідзесяцігадовым узросце паэт пісаў па тры вершы ў дзень. І так гадамі, прычым у любых умовах — ці то плывучы на адным караблі з М. Хрушчовым у ЗША, ці то седзячы ў шматлікіх прэзідыумах, ці то даглядаючы хворую жонку, якая апошнія гады правяла ў інвалідным вазку. У 1965 г. М. Танк у Варшаве ўбачыў карту, на якой былі пазначаныя краіны свету, дзе перакладаліся творы польскіх пісьменнікаў. Уразіла. Прыехаў дамоў і прапанаваў павесіць падобную ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў (старшынёй якога стаў праз два гады). Не ведаю, ці вісела ў СБП карта, але сам Танк збеларушваў сусветную паэзію актыўна — у яго перакладчыцкай кнізе «На зорных шляхах» (1991) сабраныя пераклады са 140 паэтаў з 31 краіны. За пераклады з польскай паэзіі атрымаў прэстыжную прэмію ZAIKS (1969).

## *АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
## *(1799–1837)*

### АНЧАР

Дзе след жыцця ў пустыні знік,
На грунце бедным, амярцвелым,
Анчар, як грозны вартаўнік,
Стаіць адзін на свеце цэлым.

Прырода высахлых пяскоў
Яго ў дзень гневу нарадзіла
І ад карэння да лістоў
Густой атрутай напаіла.

Дыхнуць паўдзённыя вятры —
Атрута капае расіцай,
Пад вечар стыне на кары
Густой, празрыстаю жывіцай.

К яму і птушка не ляціць,
А толькі вецер мімалётны
На дрэва смерці набяжыць —
І прэч імчыцца ўжо смяротны.

Калі ж над спёкаю пяскоў,
Зблукаўшы, воблака заплача,

Атрутны дождж з яго лістоў
Сплывае на пясок гарачы.

Ды чалавека цар паслаў
Да дрэва смерці і пакуты:
І той пайшоў, ледзь змрок апаў,
І раніцой прынёс атруты.

Ён згубную смалу прынёс,
Галіну з вялымі лістамі,
І пот гарчэй ад горкіх слёз
Сцякаў халоднымі цуркамі;

Прынёс — і аслабелы лёг
Пад засень будана, нябога,
І ў той жа міг сканаў ля ног
Уладара свайго ліхога.

А цар атрутай загадаў
Насыціць стрэлы-бліскавіцы,
І разам з імі смерць паслаў
Ён на суседнія граніцы.

*ЮЛЬЯН ТУВІМ*
*(1894—1953)*

## НЕВЯДОМАЕ ДРЭВА

Дзе тое дрэва з вяршыняй думнай,
Што апранула ствол лісцем шумным,
Узнятае ў неба, ўросшае ў глебу,
Дрэва, з якога зробяць труну мне?

Мушу я ведаць, як выглядаеш,
Клікаць усюды ў лесе, па краі:
Дзе ты, з напевам, труннае дрэва?
Твой нарачоны цябе шукае!

Ходзіць у смутку борам, гаeasyою,
Усё не знаходзіць дрэва свайго ён.
Хоць расшуміся ці адгукніся,
Покуль не лёг я разам з табою.

Трэба ж раней нам дагаварыцца
На той апошняй, горнай сцяжынцы,
Дзе нам прыйдзецца шмат раз на свеце
У попел і ў глебу ператварыцца.

Мо прыплывеш ты на хвалі сіняй
Разам з плытамі з дальняй краіны,
І сорам дужы, верны мой дружа,
Што мы не стрэліся перад канчынай!..

А мо расцеш ты ля маёй хаты,
Штодня вітаеш мяне, як брата,
І нехта выцяў нажом між лісця
Мілае імя, сэрца і дату?

Доўга бяседу вёў бы з табою,
Цябе б расчуліў вершам, тугою,
Каб ты, на дзіва трунам маўклівым,
Зямлю прабіўшы, цвіло вясною.

Каб да сябе мяне прышчапіла,
Вырвала з долу таемнай сілай!
Можа, што злучыць нерв мой жывучы
З веццем, і ўстанем зноў над магілай!

Мо ад уздыху зямлі зялёнай,
Зямлі адзінай, зямлі цудоўнай,
Раненай ў сэрца нашаю смерцю,
Вернемся зноў мы з цёмнага лона.

*ЯРАСЛАЎ ІВАШКЕВІЧ*
*(1894–1980)*

**NACHTSTUK**

Пяро ўжо зламанае, хоць яшчэ піша,
І сэрца астыла, хоць б'ецца парою.
Ёсць голас, але навакол яго ціша,
І зоры гараць — нічые — нада мною.

Дарогай праз ноч ідуць змрочныя дрэвы,
Шумяць ліпы, голле абламвае студзень.
Стаю я і слухаю ветра напевы
Аб тым, што было і чаго век не будзе.

Выносіць апошні прысуд яшчэ рана.
Чым быў тут — ніхто не адкажа, не знае,
Галінкай на плыні ракі ўсхваляванай
Ці камнем, што ў тоні на дно ападае.

*АНТОНІ СЛАНІМСКІ*
*(1895–1976)*

**БЛАКНОТ**

Знайшоў я ў блакноце старым
Нумары тэлефонаў
Памерлых сяброў,
Адрасы дамоў спаленых.
Набіраю нумар. Чакаю.

Здаецца, недзе
Хтось падымае тэлефонную трубку.
Цішыня. Чую дыханне.
А мо гэта шэпт агню?

### ПАЭЗІЯ

Паэзія — гэта звон,
Раскалыханы, высокі.
Мужчынскі, бронзавы тон.
Vivos voco,
Mortuos plengo,
Fulgura franqo.

Калісьці
На кожным звоне
Гэты надпіс адлівалі.
І сёння не хлусіць ён.
Калі б'е звон,
Жывых кліча,
Мёртвых суцішае,
Перуны ламае.

## *УЛАДЗІСЛАЎ БРАНЕЎСКІ*
*(1897–1962)*

### ПАЭТ

Вецер хмары камячыць,
гоніць небам суровым,
у тэрмометры скача
ртуць, растуць шал і словы,

месяц сіні і рэзкі
выглядае з-за дому,
кроў, як поезд кур'ерскі,
рассякае свядомасць

і ляціць, і нарэшце —
пульс галопам, галопам! —
верш, як боль або вецер,
цябе раптам падхопіць.

У ім хвалі і косы
ўсіх камет і жанчынаў...
Шторм б'е шыбы, галосіць!
Ртуць з тэрмометра рыне!

Як з раскрытай аорты
кроў тым вершам бруіцца.
Будзе днець а чацвёртай.
Брому! Трэба спыніцца.

Восень пальцамі ліўняў
б'е, ў акно заглядае.
Водар лісцяў — магільны,
вечнасць — пустка глухая.

Неба — золак астылы,
бездань мёртвага царства.
У сусвет гэты вылі
верш, як лыжку лякарства.

*ЯН ЛЕХАНЬ*
*(1899—1956)*

## СМЕРЦЬ МІЦКЕВІЧА

Калі прыйшлі сябры, каля парога
Сустрэлі іх прадвеснікі жалобы:
— Ён памірае. Страшная хвароба.
Не можам да яго пусціць нікога.

Тады яны заплакалі, як дзеці,
Гаворачы: — Шлях перад намі цёмны!
Нат месяц, што па-над Стамбулам свеціць,
Зусім не гэткі, як над нашым Нёмнам.

А хворы думаў у той час: «Як блізка!
Чуць песня, што звінела над калыскай.
Вось бачу Свіцязь, кветкі на паляне.
Яшчэ хвіліна — і рукой дастану».

## СУСТРЭЧА

Бяссоннай ноччу сёння на месяца праменнях,
На подыху чароўным узняўся, ўсхваляваны.
Не знаю сам, як раптам прачнуўся я ў Равэнне
І з прывідам жаданым сустрэўся нечакана.

Хтось за акном адкрытым ледзь чутна граў на флейце,
І вецер пах прыносіў містычных кветак, росаў.
І я ішоў нібыта праз нейкі хмельны квецень
Туды, дзе ззялі зоры пад купалам нябёсаў.

«Прасіце, і напэўна пачуюць вас, гаротных!»
Нібы зачараваны, я апусціў павекі.
І толькі чуў я хваляў шум неспакойны нейкі,
А потым, бачу, Дантэ на мост ідзе, маркотны.

«Ці гэта ты, вялікі, перада мною ззяеш!
Чаму ты бледны, быццам гарыш трывогі жарам?
Прашу, адкрый сваю ты мне таямніцу твару.
Парай мне. Заблудзіў я. Як быць далей, не знаю».

Упаў я перад Дантэ, схапіўшыся за скроні.
І ён сказаў ці, можа, сказалі месяц, хвалі:
«Няма зямлі, і неба, і пекла, і бяздоння,
Ёсць толькі Беатрычэ. Ды і яе не стала».

*ЯН БЖЭХВА*
*(1900–1966)*

## СУЦЯШЭННЕ

Адны засталіся з табою,
І столь вісіць над галавою.
— Які год сягоння на свеце?
— Сёмы са дня нашай стрэчы.

Ах выпі лякарства, выпі,
Каб дыхаць ты мог без скрыпу!
— Не помню, які ж гэта месяц?
— Зарапад...

Пабудзь са мной яшчэ ў згодзе,
Боль гасне, жыццё праходзе.
— Які ў нас дзень сягоння?
— Дзень добры...

Акно адчыніць ужо можна,
Не так дажыць будзе трывожна.
— Якая гадзіна?
— Праз дзесяць мінут апошняя.

*УЛАДЗІМЕЖ СЛАБОДНІК*
*(1900–1991)*

## НАД ВІСЛАЙ

Час летняга змяркання.
Параход засявае Віслу
Зярнятамі агнёў.
Ідзеш са мною побач.
А ў позірку тваім — любоў і Вісла.
Лісты дрэў шэпчуць у змярканні,
Як вусны цёмныя.
Далонь твая ў маёй далоні,
Як птушка цёплая,
Якая калі і адляціць,
Дык толькі ў смерць.

*СТАНІСЛАЎ РЫШАРД ДАБРАВОЛЬСКІ*
*(1907–1985)*

## ПЕЙЗАЖ

*Анджэю Занеўскаму*

Ці ты бачыў лазовы лес?
Месяц над ім, як лямпа са срэбра,
на галіне сава ў задуме.

У дупле — парахня ці золата, можа?
Ні крык, ні нават шолах траў —
нішто не кране шкляное цішы
лунацічнага краявіду.
Ці бачыў калі гэткі лес?

*СТАНІСЛАЎ ЕЖЫ ЛЕЦ*
*(1909–1966)*

## РЭМБЛЁЎ

Быццам нехта хмары выкручвае, так ліе, не спыняецца дождж.
Ішлі партызаны з Рэмблёва рассыпаным строем.
Цяжка маўчанне ў зубах несці ў гэткую ноч
І, як скрыпку, ля сэрца хаваць, каб не змокла, здабытую зброю.

У лесе гарбоўскім ля печы ты ў хаце сушыўся,
Твар выціраў, мокры яшчэ ад падзей,
Прылёг адпачыць на саломе, плашчом атуліўся,
Плашчом, што не раз набракаў у іржавай балотнай вадзе.

Фашысцкую смерць перадавала далоні далонь —
Бліскучыя вальтэры, эф-эны і новыя кольты.
Стоячы нехта заснуў, галаву апусціўшы, як конь,
Нехта на куфар зваліўся і хроп, як той солтыс.

Ты з успамінаў сваіх твары варожыя выкінь,
Нат і таго, хто ляжаў ля разбітага тыну,
Ёгана Кобанга, з фашысцкай дывізіі «Вікінг».
Ён пісаў сваёй матцы пісьмо, што ненавідзіць цябе.
Я падзёр яго успаміны.

Трэба на плечы зброю ускінуць ізноў.
Золак прарэзаў сны і, як хусткі дажджу, яны нізка звісаюць.
Там — забітыя коні, там — рэшткі калёс і вазоў.
Чутна, як кроплі ў цішы з ліста на ліст ападаюць.

Маршамі зрытыя гэтых узгоркаў гарбы,
Быццам кара нашых сэрц. Ні адзін яшчэ спісак
Змыюць і кроў, і дажджы. Глядзім на дубы,
Ці будзем калі мы з іх дугі згібаць для калысак?

## *МАЦЕЙ ЮЗАФ КАНАНОВІЧ (1912–1986)*

### ВЫРАЙ

*Янку Брылю*

Калі набліжаецца восень
Дубы адлятаюць у вырай
Пакідаючы гнёзды з карэння
З пісклянятамі жалудоў
І тады
Грэюць косці свае
Пад каменным скляпеннем каміна
Тады
У пакоях пульсуюць цяплом пазалотай
Ажываючы твары партрэтаў
Гасячы свечак агонь
Тады
Быццам конікі іскры трашчаць
І ўзлятаюць як зоры
Якія ў палёце згасаюць
Тады сінімі стужкамі дыму
Сон варожаць з вачэй
Дубы больш ужо не вяртаюцца
У гай свой
На месца дзе іх пассякалі
А калі і вяртаюцца
Дык толькі на крылах вятроў
Дымам з коміна ці жменяй попелу

Але гэта было ўсё даўно
Калі блочных дамоў
Мы не зналі.

### НА ЗМЯРКАННІ ЛЯ ВАДАПОЮ

Крысо пяску,
Адкінутае хваляй на расісты луг,
Замацоўвае негатывы
Капытоў.
Бярозы, што нясуць свой цень,
Спіхваюць яго з адхону
У вадапой.

Конь праз шкло вады
Цалуе сваю пысу
І з дна азёрнага глядзіць
На стэп нябёс,
На бледна-серабрыстую падкову,
Згубленую пегасам
У галопе.

Крывавае вока сонца,
Прыплюшчанае пагоркам,
Пазірае на распранутых дзяўчат,
Што ў золаце царкоўным
Сыходзяць
У цішыню вады,
У насцярожанасць аеру.

А я
З высокага акна гляджу
На ўсход неонаў гарадскіх,
Мо яны мяне
Да вадапою вернуць,
Каб мог я прагу наталіць
Тым золатам царкоўным.

## ЗМЯРКАННЕ З ДЗЯЦІНСТВА

Пад салодкім наркозам
І аеру, і сена
Западае сяло ў цішыню.
У ставах чутна музыка жаб.
Асіна, якую цікавасць
Завяла на пагорак,
Атрасае з сябе
Залатыя дукаты.
Вострацъ ластаўкі крылы свае
На асялку залочаным хмары.

Ажно цяжка паверыць,
Што гэта я ў памяці змог захаваць,
Трымаючы далонь маткі,
Пахіленай нада мной.

*ЮЗАФ ОЗГА-МІХАЛЬСКІ*
*(1919)*

* * *

Хмару схапіў я
За мокрыя ногі,
Калі яна бегла праз поле,
Свецячы пяткамі кропляў.
Аж у вачах капыты
Заблішчалі маланак,
Што праляцелі галопам
І білі ў зямлю.

*ЭДУАРДАС МЕЖЭЛАЙЦІС*
*(1919)*

## ШЛЕМ І МЯТА

Ля бярозы разбітай,
Дзе зноў мір і спакой,
Шлем забыты, абмыты
Хваляй прэснай, рачной.

Лёд ужо растапіла...
Водар мяты плыве...
Матылёк сінякрылы
Мільгаціць у траве.

Лезе мошка па тонкай
Ветцы на вербалоз...
Адклікаецца звонка
Вырай з сіні нябёс.

Мята з-пад шлема ззяе,
Пагладзь чула яе.
Гэта кветка малая
Спакон веку жыве.

## ВАЛАСЫ

Спытаеш ты, чаму светлаю стала так рана
Мая галава, што калісь была чорнай раллёй?
Ад светлага шчасця, што ў сэрцы суцішыла раны,
Яна стала светлай такой.

Калі ж назаўсёды ўсе беды на свеце рассеюцца,
Маёй сівізны не адценіць ніводная чорная ніць.
Як белая яблыня, выраcту я на аселіцы
І буду стаяць і свяціць.

*ГЕВОРК ЭМІН*
*(1919)*

## ПЕРАД ВЫХАДАМ З ЕГІПТА

О, Маісей!
Дакуль жа нам маўчаць,
Не скідваць фараонава ярмо,
Хлуснёю асабістай прыкрываць
Ганебнае, калючае кляймо?

— Год сорак выцерпець.
Не малы час,
Калі ў ярме не звар'яцеем мы.
А што далей, прарок?

І быў адказ:
За сорак год
Прывыкнеце і да турмы.

*ІГАР СІКІРЫЦКІ*
*(1920)*

**ПІЗАНСКАЯ ВЕЖА**

Гэта вежа са слановай косці
Простая — як грамніца
Пры ўміраючым.
Яна магла б нават замяніць фігуру
На шахматніцы багоў.
То — зямля скрывілася,
Са старасці хіліцца да падзення.
Гэта яна
Рыне на вежу.

*ЮСЦІНАС МАРЦІНКЯВІЧУС*
*(1930)*

**ЗАМЁРЗЛАЕ МОРА**

Мора сцюдзёнае і нежывое —
Быццам твар хворага,
Забінтаваны белай павязкай.

Няма вачэй —
І не відаць яго дум.

Няма губ —
І не чуваць стогну.

І няма твару —
Толькі белая павязка.

На беразе чайкі
Мітусяцца і крычаць,
Што мора памерла,
Што пакінула іх.

*ЭРНЕСТ БРЫЛЬ*
*(1935)*

* * *

Бачыў: сярод сквера з галодных зямных нетраў
Вырасла рука чорная, абветраная,
Нечага вымольваючы і пагражаючы,
Усіх прахожых за крысо хапаючы,
Каб прыпыніліся...
І людзі прыпыняліся.

Перш недаверліва да рукі прыглядаліся.
Потым нехта смялейшы смехам пырснуў
І гэту змерзлую далонь пацiснуў...

Усім спадабалася. Кожны датыкаўся,
Кожны студзіў свае пальцы і хутчэй аддаляўся
І забываў праз нейкую там хвілю
Аб гэтым дзіўным здарэнні ў цэнтры Пікадзілі.

*ЛАЁШ ПАП*
*(1936)*

* * *

Калі сталіца заплюшчыць
свае пільныя вочы,
вось тут і ўзбунтуюцца
адразу ўсе разам фантаны.
Яны пераадолеюць
сваю дугападобнасць
і з шумам ударацць да зор —
і ні дрэвы,
ні мірна заснуўшыя гмахі
тады не ўтрымаюць іх.

І ўсё ж прыцягненне зямное
іх пераможа:
на світанні яны стануць расою,
на сцюдзёных вейках статуй
і на газонах.

*ГАЛІНА КІРПА*
*(1950)*

* * *

Я баюся,
Каб твае вочы не сталі васількамі,
Бо поле захоча цвісці імі.

Я баюся,
Каб твае рукі не сталі вербамі,
Бо пойдуць расці да ляснога возера.

Я баюся,
Каб твае вусны не сталі лёдам,
Бо растануць пры ўсходзе сонца.







1. Янка Купала
2. Юльян Дрэйзін
3. Вінцук Адважны
4. Зоф'я Манькоўская
5. Якуб Колас











1. Максім Багдановіч
2. Браніслаў Тарашкевіч
3. Сцяпан Ліхадзіеўскі
4. Уладзімір Дубоўка і Уладзімір Жылка




1


2


3

1. Мікола Хведаровіч
2. Наталля Арсеннева і Мікола Абрамчык. Нью-Ёрк, 1950-я гг.
3. Максім Лужанін
4. Васіль Вітка
5. Аркадзь Моркаўка


4


5


1


2


3


4


5

1. Аляксей Зарыцкі
2. Рыгор Крушына
3. Максім Танк
4. Юрка Гаўрук
5. Антон Адамовіч











1. Сяргей Грахоўскі
2. Эдзі Агняцвет
3. Пятро Бітэль
4. Абмен аўтографамі: Аркадзь Куляшоў і Эдуардас Межэлайціс (Літва). 1958 г.
5. Масей Сяднёў і Янка Юхнавец. Саўт-Рывэр (ЗША), 1950 г.


1


2


3


4


5

1. Алесь Салавей Адэлаіда, 1949 г.
2. Міхась Кавыль
3. Язэп Семяжон
4. Сустрэча перад расстаннем: Валянцін Таўлай, Сяргей Хмара, Тодар Лебяда, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Уладзімір Сядура, Хведар Ільяшэвіч, Аляксей Анішчык. Менск, 1944 г.
5. Алесь Траяноўскі







1. Хведар Жычка
2. Артур Вольскі на паэтычным свяце ў Вязынцы. 1980-я гг.
3. Еўдакія Лось
4. Сустрэча ў Менску: Сяргей Грахоўскі, Расул Гамзатаў (Дагестан), Ігар Лучанок, Язэп Семяжон, Генадзь Бураўкін. 1972 г.













1. Аляксей Пысін
2. Уладзімір Караткевіч
3. Рыгор Бярозкін
4. Анатоля Вялюгіна латышскія чытачкі разумелі без перакладу. Рыга, 1960 г.
5. Дружба народаў – дружба літаратур: Эдуардас Межэлайціс (Літва), Пятрусь Броўка, Анатоль Вялюгін, Максім Танк. 1960-я гг.

*РАМАН ГАЖЭЛЬСКІ*
*(1951)*

### КАМЕНЬ

Камень ляжыць пры дарозе,
Што пралягла з краю ў край.
Шмат томікаў вершаў.
Камень цярплівы і не пратэстуе,
Калі ім злоўжываюць паэты,
Калі дэспату ставяць помнік,
Калі ім кідаюць у Хрыста,
Калі хаваюць памерлых у вялізных грабніцах,
Калі камянююць чараўніц і грэшніц,
Калі будуюць малітоўны дом ці публічны,
Калі вымуроўваюць кітайскую сцяну ці астрог,
Калі кідаюць ім у бяздомнага пса
Ці бяздомнага чалавека, —
Камень цярплівы і не пратэстуе.
І слушна, напэўна,
Што ён сінонім істоты без сэрца.

## ЯНКА ЗОЛАК

**(1912, в. Лучнікі Слуцкага пав. — 2001, Мільтаўн, ЗША)**

У прадмове да выдадзенага ў Менску ў 1996 г. збору твораў Я. Золак названы самотным і маўклівым чалавекам. Не бяруся аспрэчваць аўтара прадмовы Л. Пранчака, які гасцяваў у паэта ў ЗША і, пэўна, меў усе падставы для гэткай характарыстыкі. Але тут мне згадваецца сустрэча з грамадзянінам ЗША Антонам Даніловічам (Янка Золак — літаратурны псеўданім) у Менску ў 1993 г. падчас ягонага ці не адзінага прыезду на радзіму. Мы прасядзелі з ім паўдня, я запісаў дзве магнітафонныя касеты і спісаў паўнататніка, а «маўклівы» паэт усё не мог спыніцца. Магчыма, язык у яго развязаўся ад сустрэчы з бацькоўскай зямлёй, ад прыемнага ўспаміну пра паэтычную вечарыну ў яго родным Слуцку, ад увагі да яго... У вайну Даніловіч-Золак друкаваўся ў «Газэце Случчыны», у 1944 г. падаўся на Захад, у Нямеччыну, адтуль — у ЗША, дзе ва ўласным доме абсталяваў друкарню і выдаў нямала цікавых кніг (у тым ліку ўласны двухтомавік). Спадкуючы М. Багдановічу, склаў аўтаэпіграму: «Я на чужыне не самотны й крышку, / Жыву спакойна у сваім зацішку, / І ганаруся, седзячы ў спіжарні, / — Я кнігі маю із маёй друкарні!». Я. Золак перакладаў не толькі блізкіх па духу ўкраінскіх паэтаў, сярод якіх брат болей вядомага ў свеце Міколы Зэрава Міхайла Орэст і былы нямецкі жаўнер Освальд Бурхарт (ён жа паэт Юры Клэн), але і біблійныя «псальмы слічныя». А яшчэ на поўным сур'ёзе пісаў... рыфмаваныя танку.

*МІХАЙЛА ОРЭСТ*
*(1901—1963)*

### ДУША

Ваду, закаханую ў неба, злая зямля паланіла;
Па́раю стаўшы, яна ў родныя высі ляціць.
Толькі законаў адвечных ёй самахоць не адолець:
Зноў на зямлю дажджом падае ў смутку яна.

*ЮРЫ КЛЭН*
*(1891–1947)*

**ПАМОЛІМСЯ**

Памолімся за тых, хто у разлуцы
Памруць, із родных вырваныя хат;
За тых, што ў роспачы на волю рвуцца,
Ламаючы пранты жалезных крат,
Што душаць жаль у невымоўнай муцы,
За тых, каго вядзе на згубу кат.
Над імі, Госпадзе, ў нябеснай цвердзі
Раскінь свае далоні міласэрдзя!

Памолімся за тых, хто ў бездарожжы,
Сваю надзею страціўшы і сілы,
Пайсці на пераможны чын не можа,
Каго нядоля у ярмо схіліла;
Хто у няшчасці (злітуйся, о Божа!)
Пакорліва ступае да магілы.
Паэтаў тых, Магутны, не карай,
Хто пекла услаўляе, нібы рай!

Бо лёс іх, можа, самы найцяжэйшы:
Ідзе ў аглоблях іх крылаты конь,
І муза ледзьве дыхае, згавеўшы;
І толькі ўночы вольная далонь
Пялегвае няскораныя вершы
І кідае іх, родных, у агонь.
І кожная балада ці канцона
Галосіць так, што на душы сцюдзёна.

Памолімся за тых, чый яўны грэх,
Каго суворы лёс наш не прыгорне,
Хто не зазнае радасці і ўцех,
Каго на мліва мелюць злыя жорны,
Каму замёр у горле крыкам смех,
Хто ў днях захмараных, як ночы, чорных.
Не пакідай, Гасподзь, у цемры тых,
Багаславі іх на шляхах крутых!

## ЯКУБ ПАРЭЦКІ

**(1913, Кёнігсберг — 1992, Менск)**

Бацькі паходзілі з Беласточчыны, куды сям'я вярнулася неўзабаве пасля нараджэння Якуба. Лацінскую мову вывучыў у сценах Віленскага універсітэта, пасля вайны займаўся самаадукацыяй, экстэрнам закончыў Менскі педінстытут (1948). Атрымаўшы дыплом, больш за трыццаць гадоў выкладаў лаціну ў сталічным педінстытуце замежных моваў. Лацíністу было няпроста адпавядаць запатрабаванням часу, але Парэцкі не разгубіўся і падлічыў усе лацінскія

выразы ў працах У. Леніна. А пасля спакойна сядзеў і пісаў кнігі пра С. Буднага, С. Рысінскага, М. Гусоўскага, М. Карыцкага, Я. Вісліцкага. Пераклаў на расейскую мову «Песню пра зубра», чым істотна павялічыў армію чытачоў славутай «Carmen de bisontis». Сентэнцыі Я. Л. Намыслоўскага перастворанымя Я. Парэцкім разам з Ю. Свіркам.

*ЯН ЛІЦЫНІЙ НАМЫСЛОЎСКІ*
*(1560-я — паміж 1633 і 1636)*

## СЕНТЭНЦЫІ

Голым прыходзіць чалавек на прыстанак — зямельку,
І зноўку адыдзе такім, адплыве ў дамавіне сваёй.

*

Рану наносіць не столькі меч расчахлёны,
Колькі нявінным ядам шкодзіць злачынна язык.

*

Нават нямогламу шкоду ты прычыняць не рашайся —
Помні: учэпістай вельмі бывае помсты рука.

*

Той і разважны і мудры, хто крытыку слухае;
Хто ж пагарджае папрокам — спеліць дурноту ў сабе.

# ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

**(1913, Менск —2001, тамсама)**

Сапраўднае прозвішча — Каган. Закончыла літаратурны факультэт Мінскага педінстытута, працавала на радыё, у рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі», у Дзяржвыдавецтве.
Падчас Другой сусветнай вайны жыла на эвакуацыі ў Ташкенце, дзе пазнаёмілася з узбекскай пясняркай Зульфіёй, якую пазней гадоў дваццаць перакладала. Французскую мову вывучыла спецыяльна для таго, каб чытаць у арыгінале П. Ж. Беранжэ (прынамсі, так засведчыла ў аўтабіяграфіі). Ад Зульфіі да паэзіі Г. Апалінэра і П. Элюара — як ад Ташкента да Парыжа, але так ужо склалася ў творчым лёсе Агняцвет: менавіта ў яе перакладах у серыі «Паэзія народаў свету» ўбачылі свет выбранае Апалінэра «Зямны акіян» (1973) і томік Элюара «З табою» (1980). Nota bene: перакладчыца цалкам праігнаравала думку Апалінэра, які лічыў, што «знакі прыпынку — бескарысныя, бо сапраўдная пунктуацыя — гэта рытм і паўзы верша». У «Зямным акіяне» знакі прыпынку расстаўленыя ў адпаведнасці з правіламі беларускай пунктуацыі, што, безумоўна, аддаляе пераклады ад арыгінала. Э. Агняцвет мела адну цікавую асаблівасць: любіла прысвячаць вершы правадырам. І сярод яе перакладаў знаходзім адпаведны панегірычны жанр: паэму «Сталін» Г. Леанідзэ, оду «Таварышу Молатаву» Джамбула, «Бяссмертнасць» (паэму пра Кірава) М. Бажана... Але і аматараў сапраўднай паэзіі перакладчыца радавала. Так, у паважным ужо веку выдала сімпатычны зборнічак «З французскай і бельгійскай паэзіі» (1993).

*П'ЕР ЖАН БЕРАНЖЭ*
*(1780–1857)*

## МАЯ МАСЛЕНІЦА Ў 1829 ГОДЗЕ

О, мой кароль, любімы богам!
Ваш гнеў узведзены ў закон.
І, згодна з вашай воляй строгай,
Мяне судзіў Брыдуазон.
Святочны тыдзень карнавала,
А я — закуты. Я — на дне.
Аб гэтым дбалі вы нямала, —
Кароль, заплаціце вы мне!

Сваёю троннаю прамовай
Паэта зачапілі вы.
Ах, адказаць бы вострым словам!
Я ж не ўзнімаю галавы.
Калі Парыж смяецца шчыра,
Ў маім самотным сэрцы — боль.
Я зноў імкнуся да сатыры.
Вы мне заплаціце, кароль!

Мае сябры там п'юць-гуляюць,
У танцах кружацца. А я?
Мяне за чаркай забываюць,
Хоць песня там гучыць мая.
І я пад гоман іхні п'яны
Тапіў бы злосць сваю ў віне.
Я стаў бы ціхім і рахманым.
Кароль, заплаціце вы мне!

Хто чуў, як Ліза-шаляніца
Мяне чакала аднаго?
І вось на баль яна імчыцца:
— Ага! Тым горай для яго!
І я пайшоў бы з ёй на свята!
Ды мне на раны сыплюць соль:
Мне Ліза здрадзіла...
Пракляты!
Вы мне заплаціце, кароль!

Хай праз паклёпнікаў зацятых
Пустуе мой калчан стары!
Стралу адну, о Карл Дзесяты,
Збярог я з даўняе пары!
Хай я ў калодках знемагаю,
Хай вартавыя на сцяне!
Я лук навёў. Стралу пускаю!
Кароль, заплаціце вы мне!

*ЛЕСЯ УКРАІНКА*
*(1871—1913)*

## CONTRA SPEM SPERO!*

Прэч вы, думы, асеннія хмары!
Дайце шлях залацістай вясне!
Ці ў галошанні, смутку, без мараў
Маладосці пара прамільгне?

Не, я буду скрозь слёзы смяяцца,
Хай мой спеў сярод ліха гучыць.
Без надзеі пачну спадзявацца.
Думкі сумныя, прэч! Буду жыць!

Я пасею на ўбогім разлозе
Многа кветак барвовых, жывых.
Буду кветкі садзіць на марозе,
Буду ліць свае слёзы на іх.

І ад слёз тых гарачых растане
Ледзяная, тугая кара,
Кветкі ўзыйдуць, і, веру, настане
Для мяне веснавая пара.

Я на горы крутыя, як сцены,
Буду камень цяжкі уздымаць
І, цяжар несучы той страшэнны,
Буду весела песню спяваць.

Ночкай доўгаю, цёмнай і горкай
Не стулю ні на хвілю вачэй,
Адшукаю я светлую зорку —
Уладарку цямнюткіх начэй.

Не дазволю, каб сэрцайка спала,
Хоць нудота і цемра вакол,
Хоць сама адчуваць даўно стала,
Што капае мне смертухна дол.

Смерць наляжа каменнем на грудзі,
Свет засцеле начная імгла,
Але сэрца спыняцца не будзе —
Значыць, смерць я адолець змагла!

Так! Я стану скрозь слёзы смяяцца,
Хай мой спеў сярод ліха гучыць.
Без надзеі пачну спадзявацца.
Думкі сумныя, прэч! Буду жыць!

---

* Без надзеі спадзяюся! (лац.).

*ГІЁМ АПАЛІНЭР*
*(1880–1918)*

## ВІНАГРАДАР З ШАМПАНІ

Набліжаецца полк.
Вёска дрэмле, залітая водарным ззяннем.
Носіць нейкі свяшчэннік салдацкую каску.

Ну а бутля з Шампані —
Артылерыя гэта ці не?

Вінаградныя гронкі звісаюць,
як на грошах хвасты гарнастаяў.

— Прывітанне, салдаты!
Бачыў я, як вы «ножку давалі» ў шарэнгах ля рэчкі.

Прывітанне, салдаты — бутэлькі з Шампані,
ў якіх бродзіць гарачая кроў.

Пэўна, тут вы прабудзеце некалькі дзён,
а пасля: «У шарэнгу па тры —
Станавіся!»,— як кусты ў вінаградніках нашых,
і — на фронт.

Я, куды ні папросяць, віно сваё бутлямі шлю,
Нібы поўныя хмелю снарады.
Сёння поўня, а светлая ноч — гэта вадкасць віна. —
Вінаградар спяваў, услаўляючы свой вінараднік;
Вінаградар бяззубы, амаль што бязроты, спяваў
сам сабе ў глыбіні небасхілу.
Вінаградар, што й сам быў падобны на буталь жывы.
Ён, былы кананір артылерыі, ведаў, што значыць вайна.
Вінаградар з Шампані.

Вечарэе,
чуваць, як ідзе перапалка ў мішэнь.
Хай гуляюць салдаты, ім скора ў акопы на поўнач,
Дзе ўжо артылерыя з трэскам свае адкаркоўвае бутлі.

Бывайце!
Старайцеся, хлопцы, вярнуцца назад,
Хоць Бог толькі ведае,
што з вамі здарыцца можа.

*ГАБДУЛА ТУКАЙ*
*(1886—1913)*

## МАЛЕНЬКІ МУЗЫКА

У цішыні сядзіць, задумаўся паэт,
Забыўся ён на цэлы белы свет.
Рукою часам галаву кране,
Нібы які шукаючы сакрэт.

Маўчыць паэт. Не кіне ён пяра,
Не скажа думкам: адпачыць пара!
Пакуль сядзеў і думаў за сталом —
Пачуў ён гукі рэзкія з двара.

Дудзіць малы музыка. Што рабіць?
Здаецца: котка мяўкае, пішчыць,
Шчанё скавыча ці, нібы ў арбы,
Нязмазанае кола зарыпіць.

Паэт злуецца: «Што за страшны гук?»
Ажно асадка выпадае з рук.
Ён, раззлаваны, адчыніў акно:
«Ідзі адсюль і не шумі, хлапчук!»

Свавольнік хутка з дудачкай уцёк
І дзесьці змоўк, як быццам назнарок.
Паэт заўзята ўзяўся за пяро:
Алаху дзякуй — прыйдзе зноў радок!

Але пакуль набраўся духу ён, —
Зайграла дудка зноўку. О праклён!
Паэт паперу спісаную рве
І — на падлогу! Толькі крык чуцён.

А той дударык увайшоў у смак!
Не бачыць выйсця наш паэт-бядак —
У творчых муках спеўная душа.
І як сабе дапамагчы? Ну як?

Падумаў: — А ўсё ж выйсце я знайду
І праганю з падворка прэч бяду.
Паклікаў ён музыку і сказаў:
«Прадай ты мне, хлапец, сваю дуду!»

*ПОЛЬ ЭЛЮАР*
*(1895–1952)*

## ЛЯНОТА

Я лямпу закінуў у сад,
Каб стала святлей у садзе, і лёг.
Грукат усё ўзбунтаваў навакол.
Спяць мае вушы.
Грукае ў дзверы святло.

## ЗБОРШЧЫЦА ЯЗМІНУ

I
Светлыя грудзі яе ў кусты апускаліся,
Быццам нарогі раніцы яснай,
Быццам крыніца,
Быццам нос карабля.

II
Рукі яе амаль непрыкметна
Да гнуткіх галін дакраналіся.
Яна працавала ў спякоту,
Напаўголая,
Са спрытнасцю звонкіх ільдзінак.

III
За межамі яе сілуэта
Зямля і неба старэлі.

IV
Яна збірала зоры
Там, дзе іх не бывае.
Нястомна яна збірала
Ў вогнішчы пырскі вады.

## ЗАЦЯМНЕННЕ

Чаго вы хочаце? Пад вартаю наш дом.
Чаго вы хочаце? Жылі мы пад замком.
Чаго вы хочаце? Былі мы ў акружэнні.
Чаго вы хочаце? Быў горад у зняменні.
Чаго вы хочаце? Нас голадам душылі.
Чаго вы хочаце? Нас многія забылі.
Чаго вы хочаце? Мы і тады любілі.

## АГОЛЕНЫ КРАЯВІД

Незаслонены свет,
Дзе мне хораша быць,
Дзе пяшчотны луг цеплыні тваёй,

Дзе ў крыніцах грудзей
Адбіваецца дзень,
Дзе па сцежцы вуснаў
Разбягаецца смех,

Дзе ўзнімаюцца ўвысь
Птушкі вейкаў тваіх,
Дзе ні хмаркі няма
На высокім ілбе.

Гэты любы мой свет,
Дзе з прыродай у лад,
Непакрытае цела спявае тваё.

*МАРЫС КАРЭМ*
*(1899—1978)*

## ДРАЎЛЯНЫЯ НОГІ

Калі маеш драўляныя ногі —
Не памчышся!
        Пры чым тут жаданне?
Так гавораць салдаты з трывогай —
Абаронцы усіх панаванняў.

Праўду кажуць:
        калі давядзецца
Пасадзіць сад вішнёвы ў заціппы, —
Можна потым з кожнага дрэўца,
Зняць у ліпені некалькі вішань.

А калі пасадзіць дзеравякі —
Ногі з войнаў, што грукалі брукам,
Мог бы вырасці лес аж пад хмаркі
З салаўямі і з дзятлавым стукам...

Толькі б слёз не хапіла ні ў кога —
Арасіць той падлесак у полі.
І не могуць драўляныя ногі
Прарасці без карэння.
        Ніколі.

## ЖОНКА РЫБАКА

Здалёку рыбак рукою махнуў —
Жонка яшчэ на парозе.
Вечар над шэраю прыстанню дзьмуў,
Лісце круціў у трывозе.

Дзверы яна зачыніла. Чаму ж
Не адбіваецца ў люстры

Адзіны партрэт, дзе ўсміхаецца муж?
Чаму гэта ў люстры пуста?

Яна павярнулася ў страху. Аднак
Партрэт — на сцяне, як бывала:
Сабаку трымаў на руках рыбак,
У рамцы ліловай, трывалай.

Зірнула ў люстэрка — не ўбачыла зноў!
Але размаўляла з жаданым
І чула, як голас далёкі, без слоў,
Адказвае ёй праз туманы.

Зноў на парозе жанчына адна.
Сабака, па чорнай прыкмеце,
Вые ля студні...
Шуміць давідна
Над шэраю прыстанню вецер.

*ЖАК ПРЭВЕР*
*(1900—1977)*

## ДЛЯ ЦЯБЕ, МАЁ КАХАННЕ

Я пайшоў на птушыны кірмаш
і птушак купіў
для цябе,
Каханая.

Я на кветкавы рынак пайшоў
і ружы купіў
для цябе,
Каханая.

Я на рынак старых жалязякаў
пайшоў
і купіў там ланцуг,
самы цяжкі ланцуг,
для цябе,
Каханая.

Там, дзе продаж нявольніц, —
пабываў я пасля
і цябе я шукаў,
ды цябе не знайшоў,
Каханая.

### ВЯЛІКІ ЧАЛАВЕК

У закройшчыка каменя
яго я спаткаў,
стаяў ён, да славы ласы.
Ён прагнуў, каб мерку знімалі з яго
для будучага часу.

## СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

**(1913, м-ка Нобель Пінскага пав. — 2002, Менск)**

Напэўна, цэнзура прыдрамала, калі ў 1965 г. выходзіў зборнік аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Пра час і пра сябе». Бо радкі С. Грахоўскага чыталіся і разумеліся двояка: «У хатах не запальвалі агню, плакалі жанчыны, пачалі некуды знікаць Міцевы равеснікі, людзі сталі рэдка выходзіць на вуліцу, усе гаварылі шэптам. Тады ўпершыню я пачуў слова *бальшавік*». Апісаны нібыта час белапольскай акупацыі, але і атмасфера страхотлівых 1930-х пазнаецца. Першую кнігу Грахоўскі выдаў толькі ў сорак пяць гадоў, у 1958-м, пасля двух адбытых тэрмінаў, прычым другі раз яго арыштавалі абсалютна беспадстаўна, проста была дырэктыва Берыі выслаць усіх ненадзейных. У лагеры пісаў па-расейску п'есы і вершы, якія чытаў на мітынгах. Грахоўскі паспеў пакінуць сведчанне пра гулагаўскія будні: тры ягоныя аповесці — «Такія сінія снягі», «Зона маўчання» і «З воўчым білетам» — напісаныя на дакументальным матэрыяле. І, магчыма, гэта самыя моцныя кнігі пісьменніка, які правёў у няволі доўгія шаснаццаць гадоў. Вызваленне ад страху адбывалася няпроста, Грахоўскі яшчэ заспеў другую «зону маўчання», што пачалася прыканцы 1990-х. Перакладаў ахвотна і многа і «сваім» Блокам (Менск: Мастацкая літаратура, 1980) ганарыўся як ніводнай з уласных кніжак. Хоць рытмічныя збоі ў знакамітых «Паэтах» (як і ў «Непрыгожай дзяўчынцы» М. Забалоцкага) гонару перакладчыку не робяць.

*АБУЛЬХАСАН РУДАКІ*
*(каля 860 — 941)*

### ДВУХРАДКОЎІ

Хай плача воблака вясной, яму хвала:
Зямля ад гэтых слёз, як ружа, расцвіла.

*

Чароўны дзень вясны заўжды падобны раю,
А мне прыемней ноч, калі цябе спаткаю.

*

Кіёк абточаны, бліскучы і прыгожы
Вярбой зялёнаю ніколі стаць не зможа.

*

Няпраўда, што мудрэц вялікі жыве ў наступніках сваіх:
Род прадаўжаецца. А мудрасць? А мудрасць не пяройдзе ў іх.

*АЛЯКСАНДР БЛОК*
*(1880–1921)*

## ПАЭТЫ

На ўскраіне вырас даўгі, як рукаў,
Новы квартал за балотнаю сцежкай.
Жылі там паэты, — і дзень сустракаў
З іх кожны зласлівай усмешкай.

І ранак дарма прамяністы ўставаў
Над гэтым самотным балотам:
Ягоны жыхар кожны дзень аддаваў
Віну і старанным работам.

Тут кляўся ў адданасці кожны п'яны,
Плявузгаў цынічна і груба.
На золку іх рвала, а потым яны
Пісалі зацята і тупа.

Пасля з катухоў выпаўзалі, як псы,
Глядзелі на мора у бляску аправы,
І золатам кожнай сустрэчнай касы
Яны захапляліся з веданнем справы.

Расчулена верылі ў век залаты,
Клялі выдаўцоў сваіх дружна
І плакалі доўга і горка заўжды
Над кветкай і хмаркай жамчужнай.

Жылі так паэты, шаноўны чытач!
Ты думаеш — горай, мой дружа,
За безліч тваіх і патуг, і няўдач,
Тваёй абывательскай лужы?

Не, мілы чытач і мой крытык сляпы!
Усё ж такі ёсць у паэта
І косы, і хмаркі, і век залаты,
Табе ж недаступна ўсё гэта!..

Ты будзеш здаволены жонкай, сабой,
Сваёй канстытуцыяй куцай,
А вось у паэта — сусветны запой,
І мала яму канстытуцый.

Няхай я сканаю пад плотам, як пёс,
Няхай мяне доля ў балота ўтаптала, —
Я веру, — што Бог мяне снегам занёс,
Што замець мяне цалавала!

* * *

О, я жадаю прагна жыць:
Усё жывое ўвекавечыць,
Бяздушнае — ачалавечыць,
Нязбытнае — ажыццявіць.

Няхай жыццёвы сон назолай
Гняце, хай задыхнуся ў сне, —
Магчыма, што юнак вясёлы
Калісьці скажа пра мяне:

Даруем змрочнасць, — не за тое
Яму нялёгка так было.
Увесь ён зліўся з дабрынёю,
Увесь ён — воля і святло.

*ПАОЛА ЯШВІЛІ*
*(1895–1937)*

## ПАЭЗІЯ

Лепш вар'яцтва, чым слоўнае згіне багацце,
Лепш аслепнуць, чым сонца хвалой не сустрэць,
Калі вершы зачахнуць і музыку страцяць,
І самотнае сэрца не змогуць сагрэць.

Ёсць забойства, пажар і нявольніцтва путы,
Ёсць чума, землятрус і вайна на ўвесь свет,
Але ёсць у душы і такія пакуты,
Што не зможа адолець ніводзін паэт.

Побач з іншымі ходзіць маё непрыкметнае цела,
Нехта кажа: «Вось гэты складае у вершы радкі».
А ці ведае хто, як душа у паэта збалела
І ў палаючых скронях звіняць і звіняць малаткі...

Колькі трэба вачэй, каб усіх зразумець і пабачыць,
Колькі сэрцаў патрэбна, каб радасць адчуць і тугу,
Колькі вобразаў страціць, якія адолець няўдачы,
Каб свой верш зберагчы, што пакінуць нашчадкам змагу.

Словы зноў неадступна гудуць да світання, —
Я і раб, і ўладар, і пакутнік адзін.
Ноч мінае, знікаюць трывожныя здані,
Я даўно не істота, адно пра сябе успамін.

Колькі вершаў напісана, спісана столькі з рахунку
Незваротных гадоў, ад жыцця іх майго не адцяць.
Не прашу я ў апошняга верша ратунку, —
Крумкачам яго кіну, што поначы ў двор наляцяць.

*УЛАДЗІМІР САСЮРА*
*(1898—1965)*

**БАБІНА ЛЕТА**

Лета бабіна... Сонца і вецер...
Шапацяць пад нагамі лісты...
Хтосьці клёнаў журботнае вецце
павуціннем аплёў залатым.

Вецер хіліць вяршыні з разгону,
лісце згортвае сцягі свае.
Над красою асенняга скону
зажурыўшыся, сонца ўстае...

Вянуць астры у золкае ранне...
Але радасць і ў восені ёсць!
Залатым павуціннем кахання
ты аблытала сэрца маё.

*ДЗЮЛА ЕШ*
*(1902—1983)*

**НАСТЫЛЫ ДОМ**

Печ вурчыць, захлынаецца дымам,
адсырэлыя дровы пішчаць.
Як здзічэлы агонь прыручаць?
Як з настылым управіцца домам?

Лёд на сценах, у інеі ложак,
стол і крэслы настылі даўно,
печ гудзе, а мароз за акно
выйсці з хаты не хоча, не можа.

Я дрыжу каля печы ад сцюжы,
як бадзяга, няпрошаны госць,
разбірае і крыўда, і злосць,
што трапляюць настылыя душы.

Сілы трачу, мінае жыццё ў барацьбе,
а людзей і не змог абагрэць я.
Час не церпіць, як хрусткае вецце,
на распалку падкіну сябе.

*МІКАЛАЙ ЗАБАЛОЦКІ*
*(1903—1958)*

**НЕПРЫГОЖАЯ ДЗЯЎЧЫНКА**

Сярод дзяцей, захопленых гульнёй,
Яна маленькая, як апалонік,

Кашулька змятая ў гармонік,
Расчэсаны кудзеркі пяцярнёй,
Крывыя зубкі, быццам агароджа,
Вялікі рот і тварык непрыгожы.
Двум хлапчукам, равеснікам яе,
Бацькі купілі па веласіпеду,
І хлапчукі ганяюць без абеду, —
Зважаць на пешых часу не стае,
Яна ж за імі бегае па следу.
Чужая радасць, як свая, прыйшла,
Яна хвалюе і з грудзей ірвецца,
Дзяўчынка бесклапотная смяецца,
Нібыта шчасце і яна знайшла.
Ні зайздрасці або ліхога слова
Яшчэ зусім не ведае яна,
І ўсё на свеце ёй здаецца нова,
Што кожнаму даўно не навіна.
А я гляджу з трывогай, і здаецца,
Што прыйдзе час і плачам захлынецца,
Калі заўважыць, што з усіх яна
Расце і непрыгожай, і нязграбнай,
Хоць крыўда шчокі пабяліла вапнай,
Ды сэрца не парвецца, як струна.
Мне верыць хочацца, што зыркія праменні
Гараць і свецяцца ў яе душы,
Яны растопяць крыўды ледзяшы
І пераплавяць цяжкія каменні.
Няхай яна здаецца непрыгожай,
Не захапляе і не цешыць зрок,
Але й цяпер усіх расчуліць можа
І кожны рух яе, і кожны крок.
А што ж тады такое пекната,
Чаму маліцца ёй гатовы людзі?
Яна сасуд, дзе толькі пустата,
Альбо агонь палаючы ў сасудзе?

*МІХАІЛ ДУДЗІН*
*(1916—1994)*

## СТАРЫ ЖУРАВЕЛЬ

*У часе пералёту ластаўкі*
*адпачываюць на спінах жураўлёў.*

Хто я?
Стары журавель і за выраем ледзь паспяваю.
Вунь на поўнач вясновы далей адлятае касяк.
Там па мяккіх балотах ліняюць снягоў гарнастаі,
І палотны туману на голых галінах вісяць.
Там радзіма мая, там гняздо каля ціхае рэчкі,
Заліўныя лугі і світальнага дыму сляды,
Там высокія зоры дрыжаць і гараць, як парэчкі,
Аднаму мне, напэўна, ніяк не дабрацца туды.

Хто ты?
Лёгкая ластаўка, збітая ноччу з дарогі.
Вострым крылам тваім не адолець вятры і туман,
Абыякава зоры глядзяць на чужыя трывогі,
Шторм пад намі бушуе і ноччу кіпіць акіян.
Б'юцца хвалі і хвошчуць прасоленым пылам,
Будзь ратункам маім, прытуліся, даверся плячу.
Твой давер да аслаблай далучыцца сілы:
Я ўратую цябе і з табой да гнязда далячу.

*СЯРГЕЙ АРЛОЎ*
*(1921—1977)*

* * *

Ён пахаваны ў шар зямны,
Хоць просты быў салдат.
Не дбаючы пра ардэны,
Ён выканаў загад.
Яму, як маўзалей, зямля —
На многія вякі,
І Млечныя Шляхі здаля
Завейваюць бакі.
На стромкіх схілах хмары спяць,
Мяцеліцы мятуць,
Грамы з маланкамі грымяць,
Вятры разгон бяруць.
Замоўклі выбухі вайны...
Сябры пайшлі далей,
Яго паклаўшы ў шар зямны,
Нібыта ў маўзалей.

*ЭНДРЭ РАЖА*
*(1941)*

## КІЗЫЛ КРЫ

Вецер — за тварам,
У вузкіх шчарбатых праходах,
У трубах аргана Корці гудзе і гудзе.
За ветрам — пясчаныя дзюны,
На дзюны, як коннікі, селі
Кусты саксаулу.
Яны рызыкуюць, нібыта джыгіты,
Бо ўнізе, пад імі, імчыцца зямля.

За дзюнамі — студні,
Даверху забітыя смагай,
Што самі ссушылі сябе,
Бо не зналі ні ў чым здавальнення,
І смагай запоўнілі цёмную бездань.

У студнях у вольным падзенні
Застылі карцы і бакалы,
Да іх прысмакталіся прагна
Гліняныя губы,
Збуцвелыя, мабыць, дачасна.
Мінулае знікла у чырвань за ўзгоркамі часу,
Блакітнае неба, як чаша, атрэсла паліву на дол.
З абломкаў, з развалін
Аблічча маё не збярэце,
За дзюнамі — студні,
Даверху забітыя смагай,
У студнях у вольным падзенні
Застылі карцы і бакалы,
І твар — у бясконцым
Імклівым падзенні.
За тварам маім —
Вецер Кізыл Кры
І ўзрывы пякельнае спёкі.
Я
Грамадзянін Еўропы і Азіі.

## УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ

**(1914, в. Краснадворцы Слуцкага пав. — 1978, Лос-Анжэлес, ЗША)**

Пасля вучобы на педагагічных курсах у Слуцку настаўнічаў у вёсцы Божын на Бярозаўшчыне. Паступіў на літфак педінстытута, але на чацвёртым курсе быў арыштаваны НКУС і высланы ў Сібір (разам з М. Сяднёвым і Т. Лебядою). Чатыры перадваенныя гады правёў на Калыме. У ваенныя часы рэдагаваў «Газэту Случчыны», ездзіў у Нямеччыну (падобныя экскурсіі арганізоўваліся немцамі ў прапагандысцкіх мэтах). Наўрад ці ўсё гэта было даспадобы паэту, які жыў і летуцеў іншым: «Песні суму ліюцца далёка, / а каму яны трэба цяпер? / Жыць бы мне лепей вершамі Блока / або слухаць, што скажа Бадлер». У зборніку «Песняры Случчыны» (1943) выступіў не толькі з вершамі, але і з перакладамі з Катула, Хаяма і Мэтэрлінка. У 1948 г. выехаў у ЗША, дзе пражыў трыццаць гадоў, але не прыжыўся — цягнула на радзіму. М. Кавыль іранізаваў у часопісе «Беларуская думка» над настальгіяй Клішэвіча: «І ў палацах Сансу́сі сніць ён сны аб Беларусі». Савецкая ўлада дэманстрацыйна даравала паэту ўсе яговыя «грахі»: Клішэвіча (адзінага з усіх!) прывецілі на айчыне, нават выдалі зборнічак «Сняцца сны мне залатыя» (1973), агітавалі вярнуцца назусім. І паэт нібыта пагаджаўся, нават напісаў прасавецкую паэму «Шлях у светлае», за што быў ярлыкаваны ўчарашнімі сябрамі-эмігрантамі як «здраднік». Невядома, ці ўдалося б паэту прыжыцца ў Савецкім Саюзе, дзе для такіх, як ён, ніколі не бракавала турэмных баракаў. Лёс распарадзіўся інакш — Клішэвіч раптоўна памёр і навекі застаўся на гэтак нямілай яму чужыне.

*САПФО*
*(VII–VI стст. да н. э.)*

* * *

Пекнай Тымесай тое было, што сканала
Перш, чым гожай нявестаю стала.
У жалобныя строі дзяўчаты адзелі
Цела на персафонскай пасцелі.

І сяброўкі Тымесе на свежай магіле
Востры ліст металёвы зрабілі,
А пасля толькі ўсе на магіле яе
Палажылі прыгожыя косы свае.

*ГАЙ ВАЛЕРЫ КАТУЛ*
*(каля 87 — каля 54 гг. да н. э.)*

**ДА ЦЫЦЭРОНА**

Марк Тулій, ты зацямніў прамоўцаў найлепшых,
Патомкаў Ромула цяперашніх, мінуўшых,
Што ў будучыню йдуць. І дзякуе табе,
Б'ючы чалом, Катул — паэта брыдкі,
Нагэтулькі нягодны ён паэта,
Наколькі, Тулій, ты — найлепшых абаронца.

**СТАРАЖЫТНАЙ ГРЭЦКАЙ БАБЕ,
КАЛІ Б ЯНА ДАМАГАЛАСЯ МАЙГО КАХАННЯ**

Адстань, вар'ятка! Ласкі рук тваіх — агіда!
З маршчынаў твару пудра розных відаў,
Як крэйда, сыплецца і падае на грудзі:
Успомні блізкі Стыкс — каханне ты забудзеш!
Казлячым голасам ты не дражні мне слуху!
Замоўкні, Фурыя! Мяне ў адным паслухай:
Ты лысу галаву схавай (бо не да твару бабе!),
Пергамент жоўтых плеч, бо ён мяне не вабіць!
Разуешся, на рукі ўздзень свае сандалі
І ногі пахавай ты куды-небудзь далей!
На попел спаленай, даўно такой паскудзе
Адпачываць пара у глінянай пасудзе.

*ПУБЛІЙ АНІЙ ФЛЁР*
*(I—II стст. н. э.)*

* * *

Дрэўцамі ў садзе яблыню з грушай я пасадзіў,
Імя каханай накрэсліў на мяккай кары. Як на здзіў —
З тое пары без супакою рана слязамі заліта,
Сад мой гусцее, кроў павальнее, цягнецца голле ад літар.

*АМАР ХАЯМ*
*(1040—1123)*

**РУБАІ**

Няма вышэй як верш святы Карана.
Чытаюць як яго? І рэдка, й неаддана.
Цябе ж, бліскаючы ўздоўж кубка верш,
Чытаюць вечарам, і днём, і заўтра рана.

*

Дзяцей алень раджае, і львіца дрэмле там,
Дзе некалі гуляў з сябрамі цар Бахрам.
Заўзяты паляўнічы, па стэпах сеяў смерць;
Ён зараз мірна спіць — ахвяра смерці сам.

*

Хто паміраў, аб тым ужо не чуць.
Ці з іх назад вярнуўся хто-небу́дзь?
Таму ў карчме не пакідай нічога —
Назад не вернешся — пра гэта не забудзь.

*

Ад страху смерці нам ратунку не знайсці,
І старцу, і цару яе не абысці.
Каб з асалодай жыць, жыві для асалоды.
Астатняе усё — турботы у жыцці.

*ФРЫДРЫХ ШЫЛЕР*
*(1759—1805)*

## РАЗВІТАННЕ ГЕКТАРА З АНДРАМАХАЙ

*Андрамаха*

Як жа цябе, Гектар, на расстанне
Выпраўляць туды, дзе пахаванне
Над Патроклам утварыў Ахіл?
Хто тады дзяцей тваіх навучыць
Дрот кідаць і меч трымаць бліскучы,
Калі Орк пазбавіць цябе сіл?

*Гектар*

Жонка мілая! Нам час ужо расстання.
Хутка бой, гарыць агнём жаданне.
Абараняць Пергам заўсёды я гатоў,
За горад родны свой і за айчыну,
Вызвольнік ейны, ў барацьбе загіну,
Каб да Сціксавых вярнуцца берагоў.

*Андрамаха*

Слаўнае аружжа больш не загрыміць,
Меч святочна ў залі прастаіць.
Род Прыямаў пойдзе ў адцвітанне.
Пойдзеш ты ў краіну, дзе спавіта
Мглою ўсё, дзе вечны стогн Кацытаў.
Упадзе у Лету і тваё каханне.

*Гектар*

Усе мае жаданні, ўсе імкненні
У небыццё адправяцца, як цені.
Усё растане, толькі не каханне.
Чую! Ворагі ля сцен з вялікім шумам,
Дай мне меч і развітайся з сумам!
Глыбей Леты Гектара каханне.

*МАРЫС МЕТЭРЛІНК*
*(1862–1949)*

* * *

Паўліны белыя, прыгожыя паўліны,
Паўліны белыя кідалі сумны дзень.
Я бачыў іх праз сонны сёння дзень —
Ўцякалі белыя на сонныя даліны.
Кідалі белыя затомлены свой дзень,
Ішлі да сонных водаў цёмнае раўніны.
Я чуў, як белыя кідалі сумны дзень,
Ішлі да сонных дзён бяссонечнай гадзіны.

## ЯЗЭП СЕМЯЖОН

**(1914, в. Пятровічы Ігуменскага пав. — 1990, Менск)**

З сям'і лесніка. Пасля заканчэння факультэта замежных моваў Менскага педінстытута (1938) трапіў у афіцэрскую школу ў Маскве, служыў перакладчыкам на Фінскім і 3-м Беларускім франтах, у штабе Беларускай вайсковай акругі. Зняўшы пагоны, выкладаў у БДУ. Быў шваграм М. Танка, зрэдку дапамагаў сваяку падрадкоўнікамі. Колькі моваў вывучыў (і дадаў да профільнай ангельскай) у разведшколах і штабах — ваенная таямніца. Але перакладаў з лацінскай, нямецкай, італьянскай, польскай, армянскай, французскай, венгерскай, чэшскай і нават в'етнамскай... Пераклады Семяжона адыгралі не толькі літаратурную, але і гістарычную ролю. Прыкладам, на спадчыну М. Гусоўскага прэтэндавалі ці не ўсе краіны, якія раней уваходзілі ў Вялікае Княства Літоўскае, тым болей, што месца нараджэння паэталацініста да гэтай пары застаецца дарэшты не высветленым. Але да юбілею Гусоўскага выйшла ў свет «Песня пра зубра» (пераклад Я. Семяжона, ілюстрацыі Я. Куліка), і прэтэнзіі нашых суседзяў зняліся самі па сабе. А не парупіліся б беларусы — і «Carmen de bisontis» легла б у падмурак іншай літаратуры, і на другі лад загучаў бы звыклы для нашага вуха гекзаметр: «Неяк у Рыме пры сціжме людзей незлічоных...». З фундаментальных працаў Семяжона нельга забыць і міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша», хоць крытыкі падлічылі, што перакладчык дадаў да арыгіналу «лішніх» 1500 радкоў. Двойчы выходзіў семяжонаўскі Р. Бёрнс (апошняе, кананічнае, выданне — «Вам слова, Джон ячмень!»; 1983). «Бёрнсаўская тэма» нават трапіла ў эпіграму В. Віткі: «Сем жон з усіх сямі старон / дазналіся з газет, / што больш ужо не Сяміжон / законны іх Язэп, / што сее семя славы ён, / што нанава хрышчон / і з восьмай музай заручон / пад імем Семя Джон». У 1972 г. Я. Семяжон стаў удзельнікам міжнароднага скандалу як кансультант беларускай паэтычнай анталогіі па-ангельску «Як вада, як агонь», складзенай і перакладзенай Верай Рыч і выдадзенай пад эгідай UNESKO. Па выхадзе кнігі камісія БССР у справах UNESKO з жахам выявіла, што на супервокладцы — Пагоня, а сярод паэтаў — Н. Арсеннева ды іншыя эмігранты. Анталогію забаранілі да продажу, а кансультант быў вымушаны публічна адхрысціцца ад яе ў друку... Найлепшыя пераклады Язэпа Семяжона сабраныя ў кнізе «Сем цудаў свету» (1977).

*НААПЕТ КУЧАК*
*(XII—XIV стст.)*

## АЙРЭНЫ

*

Дзе была ты, адкуль прыйшла?
Калі ты не пасланніца зла, —
Адпусці мяне, калі ласка!
Ты спаліла мне сэрца датла,
Ты ў душу мне ўтачылася, ласка,
А зваротнай нары не знайшла.
Ты мне ў марах свяціла краскай,
Ты маімі слязьмі цякла.

*

Твае грудзі — два купалы храма,
А смачкі — дзве свячы. Дык, можа,
Возьмеш отрака Аўраама
Святаром у свой храм прыгожы?
— Не прасі. Не вазьму, не хачу.
З маладзёнам адна марока:
Стане ў цацкі гуляць, а свячу
Распаліць а ці здолее ў змроку...

*

Нагавору, паклёпу людскога
Сцеражыся, як можаш!
Каб не знаць іх, Твая дапамога
Патрэбна мне, Божа.
Леў і рысь уцякаюць, хаваюцца,
Калі блізка ад лежбішча галас,
І арол у нябёсы ўздымаецца
Ад «акыш!» з-пад абжытых скалаў.

*ХО СУАН ХЫОНГ*
*(другая палова XVIII ст.)*

## ХРАМ ПРЫ ПАСОЛЬСКІХ ПАЛАТАХ

Храм Куан Шы — дыямент непадробны.
Раскоша такая, што дай табе бог!
А дзе ж настаяцель яго прападобны,
Можа, з бяссоння зусім занямог?
На трапезу сходзяцца без прыганятых,
А болей — што ж болей? Адзіны занятак
Манашкам-чарнушкам шаптаць свае пацеры
На ложках — падушкам, а Богу — на шпацыры.
О, Божа! Калі ж тут пачнуць прачынацца?
Гадзіннік на вежы прабіў дванаццаць,
Аднак і апоўдні нікога не будзе,
Быццам маліцца — патрэбна Будзе.

Ленасць і сытасць на тварах заспаных
У страстацерпцаў тутэйшых румяных.
Добры Буда, ты не п'еш, не ясі —
Усё ім даруеш на небясі!

*УІЛЬЯМ БЛЭЙК*
*(1757—1827)*

**ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ**

У збажыне на полі ратным
Сустрэўся серп з мячом булатным.
— Дзве косткі накрыж — вось мой герб, —
Меч праскрыпеў, як мёрзлы полаз.
— А мой — жыццё, — прамовіў серп
І паказаў на спелы колас.

*РОБЕРТ БЁРНС*
*(1759—1796)*

* * *

Між гор маё сэрца... Вандруе між гор,
Дзе марам раздолле і вольны прастор
Высочваць аленя, зайздросціць арлам...
Між гор маё сэрца. Любоў мая там.

Да стрэчы, Шатландыя! Поўнач, бывай! —
Калыска герояў і мужнасці край.
Куды б ні прыбіў мяне лёсу прыбой,
З табой маё сэрца, навекі з табой!

Бывайце, снягі на вяршынях гарбатых,
Бывайце, лугі па далінах і скатах,
Бывайце, лясныя крыніцы і гаці,
Бывайце, хваёвыя нетры, — бывайце!..

Між гор маё сэрца... Заўсёды між гор,
Дзе думам — раздолле і вольны прастор
Сачыць за аленем, зайздросціць арлам...
Між гор маё сэрца, а ўнізе — я сам.

* * *

Усё як вымерла наўкол,
Не ноч, а віру дно.
— Ты, можа, мне дасі дазвол
Пралезці праз акно?

— Не дам. Прасі хоць давідна,
Калі глынуў вінца!
Дарога ў мой пакой адна —
З царквы, пасля вянца.

## ЭПІТАФІЯ НА МАГІЛЬНЫМ КАМЕНІ СЕЛЬСКАГА БАБНІКА

Бацькі, паплачце! Тут не дзед
Ляжыць. Вы знালі самі:
Упраўны, спраўны ваш сусед
Усім дзяліўся з вамі.

Хай дзеткі вашыя нічым
Не ганьбяць гэту градку.
Той, хто пад ёй знайшоў спачын,
Магчыма, быў іх татка.

*НГУЕН ЗУ*
*(1765–1820)*

* * *

Восьмая поўня.
Нябёсы, як выпуклы ліст неастылага шкла,
І з гэтых чалеснікаў — ветрык
Павевам густога цяпла.
Віруе на стрыжні ў дзяржаўным спакоі рака,
У сне летаргічным гаі бамбуку,
І хрызантэмы
Раняюць пярынкі пялёстак,
Як лебедзі ў ліньку з крыла.

Паклікала з гор
Мяне ў двор вячэра,
І сцежка да ўсходцаў у дом прывяла.
Асеннія колеры зачаравалі
Старога вандроўніка на прывале.
Сутоньваецца. Над зямлёю шэрань,
Зара, туманок, імгла.

*П'ЕР ЖАН БЕРАНЖЭ*
*(1780–1857)*

## МАІМ СЯБРАМ, ШТО СТАЛІ МІНІСТРАМІ

Мне, чыжыку вясковаму, прызнацца,
Не трэба ні пашана, ні хвала.
Чыны, аклады вы бярыце, братцы,
Мне хоць не стаўце пастак і сіла.

Мой ідэал — красуня з мілай мушкай,
Абед з віном краплёным ці сухім,
А на дэсерт — салодкае з пампушкай.
        Найлепшае на свеце — быць нікім.

«Як наг, так благ» — і большага не трэба.
Калі падчас няласкавы мой лёс

І мне на стол пасыпле крошкі хлеба,
Я шчабячу, расчулены да слёз:

— Навошта? Я ж не старац, не машэннік.
Ёсць бедныя, дык ахвяруй ты ім.
Я й сам ім рады ўсё аддаць з кішэні.
Найлепшае — на свеце быць нікім.

Я шчодралюбы і ў замілаванні
Да ўсіх людзей, адрозніць не магу,
Хто там унізе, варты спачування, —
Гатоў абняць і графа і слугу.

Пад лёстачкі сяброў, пад туш літаўраў
Прыходзіць слава, але што мне ў тым?
Славутыя не прагнуць дутых лаўраў, —
І я хачу на свеце быць нікім,

О, стырнавыя ля стырна законаў,
Як запавет я завяшчаю вам:
Не давярайце ветразь ветрагонам,
А трумы — ненажэрным пацукам!

Няхай абрусам сцелецца дарога
Пад ветрам спадарожным і тугім, —
Вам шчасным лёсам выдзелена многа,
А лепш усё ж — на свеце быць нікім!

*ДЖОН КІТС*
*(1795–1821)*

**ВОСЕНЬ**

Пара туманаў і садавіны́,
Ты з познім сонцам радзішся за плотам,
Як гронкі лоз наліць, што са сцяны
Паўзуць на стрэхі, крытыя чаротам.

Як яблыню прыўзняць, што аж на дол
Праз частакол падпорак хіліць голлі,
Скаціць гарбуз набраклы за барозны
І вылузаць арэх лясны, а ў полі —

Расквеціць грэчку познюю для пчол,
Каб ім зрабіўся ранак меданосным.
Сады цвітуць вакол — і круглы год
У смолкіх сотах не астыне мёд.

Твой скарб у свірне, вуллі, на таку.
Хто на гумне не бачыўся з табою,

Спацелай, задрамаўшай у цяньку
Пад толькі што змалочанай тарпою
Ці за сялом, дзе даспявае мак.

Сярпа не кінуўшы, ты спіш усмак
З гадзіну між загонаў недажатых,
А там — у постаць зноў і зноў старацца:
За жменяй жменька і за крокам крок.

Альбо снапоў вязанку ад багатых
Нясеш на галаве па хісткай кладцы,
Ці з яблыкаў гняцеш пахучы сок
І ў стоме лічыш — капачка па капцы.

Дзе песні дзён вясны? Прайшла пара.
Ты не шкадуй, ёсць хараство і ў жніўні.
Калі гарыць вячэрняя зара,
Ў мярэжы лета бабінага хлыне.

Паслухай: звоніць камарыны рой
Над азярцом крыніц, у змроку сонным,
І глухне ў шуме чарады шпакоў,
Што нанач шугануць к дуброве дальняй;

Не абляюць ягняты за гарой,
Зацвыркае цвыркунчык ля стагоў.
І раптам — з ліпавых прысад паўтонам
Рассыпле трэль журботны рэпалоў
І ластаўка — свой шчэбет развітальны.

## КОНІК І ЦВЫРКУН

Спрадвеку б'е і будзе біць крыніца
Паэзіі зямлі. У сухавей,
Калі ад смагі змушаны спыніцца
Хор птушак, дзесьці ў скошанай траве

Не моўкне конік. Ён спяшае ўпіцца
Настоем лета і у хараstве
То затрашчыць, гарэзны шаляніца,
То памаўчыць хвіліну або дзве.

Паэзія зямлі не знае смерці...
Зіма. Пустэча снежнай цаліны.
Але спакою мёртваму не верце;

Цвырчыць цвыркун у шчыліне сцяны,
І нам здаецца — на дакор мятлюзе —
Ў пракосах конікі звіняць на лузе.

## ДА КАСЦЮШКІ

У імені тваім бясцэнны плён
Высокіх дум, як сок у вінаградзе.
Магутны стрэл у гулкай кананадзе,
Ён адгукаецца грамам у тон,

Што спапяляць няволю і прыгон,
І сцягам пераможным на парадзе
Яму ісці ў вяках у першым радзе,
Свяшчэннаму, што ў бой вяло на трон.

Яно — вяшчун таго, што прыйдзе час,
Калі і наш народ дабро спазнае
І ўпоравень з сабой герояў з нас,
Цяперашніх і даўніх, аб'яднае
Ў магутны хор, і гімн іх паплыве
Ў нябёсаў сферы, дзе Тварэц жыве.

## СЛАВА

Дзікунка-слава пазбягае тых,
Што бегаюць за ёю, паслухмяных.
Яна прыхільная да маладых
Альбо славутых, славай сапсаваных.

Ад пыхі ўяўнай годнасці сваёй
Яна пра ўсіх астатніх разважае:
Той, хто яе чакае, сніць аб ёй,
Тым самым ганарліўку зневажае.

Сама ж, як ні прыкінь, як ні круці, —
Круцёлка з маркітантак ар'ергарда.
Паэт-залётнік, ты ёй адплаці
За пагарджанне пачуцця пагардай!

Пачціва развітайся з ёй як след
І ўбачыш — пойдзе за табой услед.

*ЮЛЬЮШ СЛАВАЦКІ*
*(1809—1849)*

## У АЛЬБОМ ЗАФІІ БАБРОВАЙ

Хай Зоська не просіць мой верш для альбома.
Калі яе прыме ў абдымкі айчына,
Ёй далеч палёў, і дарожныя бомы,
І кожная кветка прысвецяць тэрцыны;
Ёй будзе паэтам радзіма сама —
Такога другога на свеце няма.

Блакітная зорка, званочак лілловы
Складуць ёй паэмы, і гімны, і оды.
Бясцэнны свой скарб — першародныя словы
І я сабіраў там у лепшыя годы,
Калі, бесклапотны, ля Іквы-ракі
Ў юнацтве блукаў, як і ўсе юнакі.

Цяпер я ў далёкай чужыне блукаю.
Выгнаннік, закончу свой век беспрытоння.
Хоць водбліск зарніцы з бацькоўскага краю,
Хоць лісцік чабору з падольскіх аблоняў
Прышлі мне адтуль, як надзею, як песню, —
І, можа, мая маладосць уваскрэсне.

*РОБЕРТ БРАЎНІНГ*
*(1812—1889)*

## У АНГЛІІ ВЯСНОЙ

Як цягне ўслед за жураўліным выраем
Туды, дзе ў першыя аблёты выраіў
Пчалу на цвет свой першы красавік, —
У родны край!
Прачнуўся б там, прынік
Да шыб спацелых: стан вярбы імглісты
За ноч акрыўся кволым, смолкім лістам,
І ў вязах перасвіст шпакоў знаёмы —
Там, гэтаю парою дома.
А прыйдзе май з цяплом — аб тую ж пору
Нахлынуць гужам ластаўкі з-за мора,
Перападуць дажджы, і ў поўны рост
Усё пайшло буяць, красуе цветам,
Спявае. Чуеш, як рабіннік-дрозд
Яшчэ спрасонку, тэмбрам нераспетым
Страчыць то ў дзве рулады, то нясмела
Па яблыні, што як нявеста ў белым.

І хоць яшчэ зямля чакае плуга,
А ўжо гарыць каля выжарын луга
Купаўка — першацвет маёй айчыны...
Што перад ёй магноліі чужыны!

*РАБІНДРАНАТ ТАГОР*
*(1861—1941)*

## КХОНІКА
*Фрагменты*

Хто нясе свой ліхтар за плячыма,
Той наперадзе бачыць свой цень.

*

— Чаго чакаеш, кволы Маладзік?
— Усходу Сонца, каб схіліцца й саступіць дарогу.

*

Са зброі сваёй ён стварыў сабе бога,
І бог перамог. А над кім перамога?

*

Пыл мёртвых слоў праняў цябе ўсяго —
Абмый сваю душу маўчаннем.

*

Павуціна прытвараецца, што ловіць расінкі,
А сама ловіць мух.

*

Лук шэпча страле на узводзе:
— Свабода мая — у тваёй свабодзе.

*

Я не клічу цябе ў мой дом.
Прыйдзі ў маю бязмежную адзіноту,
Каханне маё.

*ТОМАС СТЭРНЗ ЭЛІЯТ*
*(1888—1965)*

**МАКАВІЦІ**

Макавіці — не макарон, не мак.
        Вы запытаеце:
«Што ж за асоба? Што за ён — загадкавы Макавіці?»
Ён — кот збрадлівы, і ўсяго — не леў, не леапард.
Таемнай Лапаю яго празваў наш Скотланд-Ярд.
Ён вышук ставіць у тупік, паліцыя сама
Прад ім пасуе — быў і знік, і почату няма!

Макавіці ні ўзяць, ні ўцяць — кот-жываглот Макавіці.
Законы нашы вартаваць такога не паставіце.
Закон такому — цёплы трон: сядай і плюй у столь,
Што караля яму закон, калі ён сам кароль!
Ён неўзаметку падпаўзе, не ўспееш крыкнуць «псік!»,
І што намеціў — панясе з-пад носа таямнік.
Агледзішся — крычы, гукай, збірай хоць сто аблаў,
Па дахах, па кутках шукай — Макавіці прапаў!

Куртаты хвост, як куцаба, а станам — самавіт,
Паглядка толькі спадылба — тыповы кот-бандыт.
На лбе маршчыны ад клапот і — знак благіх манер —
Вусы не чэсаны мо з год, заплямлены каўнер.

Вунь і цяпер, як рыжы ўдаў, скруціўся на страсе.
Зірнуўшы, скажаш — задрамаў, а ён — курэй пасе!
Макавіці — сарамата для ўсіх, дзе ёсць Макавіці,
Ён — чорт у вобразе ката, а чорта не паправіце.

Як ліпку зможа абадраць любога з вас, прытым
Ён будзе ў вочы пазіраць — анёлачак святы.
Па ўсім — мацёры хват-важак і з махляроў махляр.
Адбітка ж лап яго ніяк не зняў наш Скотланд-Ярд.
Але няхай сярод начы быў на шынок налёт,
Кілбас абчысцілі вярчы, сцягнулі з крамы мёд,
Ускрылі сейф і ўсю казну забралі на ўспамін, —
Ён, ён там быў, але ўлізнуў, збег недзе, сучы сын!

Калі ж у міністэрстве каштарыс раптам знік
Альбо ў адміралтэйстве чарцёж укралі — шпік?
І будзе нават след яшчэ ля шаф і на двары —
Злавіць злачынцу не лягчэй, чым вецер на зары.
Макавіці ўбаку, ў цяньку, прынік вады цішэй,
Як быццам бы вядзе падлік нязлоўленых мышэй.
У тайным дэпартаменце паспачуваюць вам:
«Што ж, тут не без Макавіці, ды дзе цяпер ён сам?»

Макавіці, Макавіці, о, наша зло — Макавіці!
Яго вы не спужаеце, за акіян не сплавіце
І не паклічаце на суд, бо нават і ў судзе
Круцелікамі гэты чмут усіх вас правядзе.
Што гаварыць, нямала ў нас разбэшчаных катоў —
Хапуг, разбойнікаў, пралаз ды іншых махляроў.
Адно магу я вам сказаць, шаноўны Скотланд-Ярд,
Што гэта хеўра — драбяза, а лад — іх Банапарт!

## *МАСЕЙ КУЛЬБАК*
*(1896–1937)*

* * *

Ты на пальчыку носіш пярсцёнак вянчальны,
Я ж на сэрцы — скаваны табою ланцуг.

Месца нашых спатканняў ты выпалі вогнішчам,
Я ж — імя тваё з сэрца свайго.

О шпачок пералётны, дарэмна спяшаўся:
Птушка з гэтага дому змяніла гняздо.

Сёстры-ластаўкі,
Вы не ляпіце тут гнёздаў —

Тут у доме нябожчык,
Тут вас не пачуюць.



*ЛЕАНІД МАРТЫНАЎ*
*(1905–1980)*

## ПРАБЛЕМА ПЕРАКЛАДУ

Я ўспомніў іх — і вось яны прыйшлі. Якісьці абадранец смуглатвары быў першы. Нават папскае тыары ён не збаяўся: праўду ў вочы шпарыў дагматыкам схаластыкі ў судзе. (Заўважце: у судзе, не абы-дзе!) І ўрэшце ён не абмінуў пятлі.

Вы здагадаліся ўжо, што за ён быў, візіцёр той? Франсуа Віён.

Не ўспеў справадзіць першага, ідзе другі. Сказаць ідзе — зусім не тое. Яго ў пакой вядуць пад рукі двое, п'яненькага. Якой там быць хадзе!

Праз плач ён мілагучненька вядзе: — Зірні з нябёсаў, матухна прачыстая, якая сцежачка ў мяне цярністая! Ратуй сваё ягнятка прыблуднае: прапіўся ў карчмара, раскіс ад брагі. Зазнаў ад Макса Нордаў здзек знявагі, садраў усё з мяне ў заклад той гад. Я — голы!

Той быў Верлен.

За ім — якісь вясёлы, з разумнымі блакітнымі вачыма юнак, нібы анёл з другой планеты, што чарадзействам слова мог стварыць з чарэп'я срэбра, з лопуху — букеты, з пляўка — алмаз, ды так, што аж гарыць!

Той быў Арцюр Рэмбо.

Па-за плячыма ў гасцей маіх таго-сяго я б распазнаў, у змроку непрыкметных, бо понача ж нязванымі прыйшлі з Эдэма ці з прадоння апраметнай, калі б хацеў, ды не было калі разглядваць: прыкрыя былі бравада паводзін іх і выгляд іх, бадай.

З намерам рызыкнуць сваёй уладай я змераў іх нявётлівым паглядам — маўляў, прыйшлі ж па справе, не іначай, аж чую: нехта з іх загадным ладам гукнуў мне ў твар: — Ты нас перакладай!

А я ў адказ: — Шаноўныя панове, як вам вядома, час цяпер не той: XX век, які ў сваёй аснове — мадэрн і, адпаведна, навізной цікавіцца. І я на заклік часу адказваю з душой, чым сам багат: сучасніку — куплетамі для джазу, патэтыкай — партрэтам важных дат. Так што на вас і часу ў нас няшмат.

Вось вы прыйшлі падкінуць мне нагрузкі, а ўслед за вамі плоймаю ў чаргу пастануць грэкі, рымляне, этрускі і да т. п. Ну ці ж я ўсіх змагу? Ды, так сказаць, яшчэ ці варта будзе аўчынка вырабу?

Вось ты, Віён, там, дома выбіўся, нарэшце, у людзі, а я тут, каб аддаў цябе ў палон фрывольнасцяў у актах і ў кантактах хоць бы адной тваёй мадам Марго, то, прачытаўшы пераклад, рэдактар усклікнуў бы шматзначна: «О-го-го! Ды тут жа секс, прабачце, і распуста!» І выразаў бы кніжны той кастрат паўтэксту. Вось і стала б, мой шаноўны, пуста ў тваёй сатыры без тваіх цытат.

Але ж хто згодзіцца з такой трактоўкай, каб тупасцю бязлітасных нажніц ці «ўкрасамі» рэдактарскай тынкоўкі калечыць скарб гатычных камяніц і жывапіс разбавіць у халтуры?

Што ж да цябе, Рэмбо, то не ўтаю. Зусім нядаўна я ў літаратуры чытаў пра рознае: паэзію тваю і перакладчыкаў тваіх грамілі. Пытанне крытык ставіў рубам: «Як маглі адчуць яны ў распусце смак? На што паперы тоны паглумілі? На даўні хлам і бруд? Дзеля чаго?» І, тыцкаючы пальцам, — больш таго! — з агідаю штурхнуўшы ўбок твой «П'яны карабель», ён, як раз'юшаны ўраган той, кідаў сваё карытца з глыбіні на мель і перакладчыку сваё даводзіў: «Зірні, як тут сараматнік нашкодзіў! У свой прытон на плаве ён каманду сабраў з адных граміл і апівох і разглядаў з усёю тою бандай без тэлескопа космас! Як ён мог? Хлусня, распэцканая на паперы! Ды гэта што? Чытай, чытай далей, як гэты чоп, набраўшыся без меры віна, і брагі, і другой халеры, сваім брандспойтам, быццам

вадалей, зрасіў і Млечны Шлях, і лік Венеры! Што ж — сіла, смеласць! Хто ж бы змог смялей?»

А што ўжо гаварыць нам пра Верлена? Як трэба разумець яго псальмы? Чым выбавіць няшчаснага з турмы дзвюх супрацьлегласцяў — здароўя, тлену, калі ён, як з чачоткі той палена, — не колецца? Старанна ты ці лена, як кажуць, чысціш шолудзі з Хамы — Хама той самы! Лепш хай наша змена адбельвае шалудзьку, а не мы!

Так што, панове, я вам не падрадчык. Ды і не возьмецца мая рука з вас перакласці нават і радка. Я хоць і не прадбачлівы цытатчык, але на спрэчны сэнс, як прагны на калачык, не кінуся, казаў той, з кандачка. Ды і сказаць — які я перакладчык? Хай квапяцца другія на заказ, прыгладжваюць такіх, як вы, і вас.

Але калі б, адкінуўшы ўсе страхі, не згладжваючы вострыя вуглы, я пераклаў вас, як бы нашы магі з крытычных сфер на вастрыё стралы мяне ўздзелі! І якую б кару мне зычылі! Я ўпэўнены: раўлі б, што аб дакладнасці я толькі мару, што я мамзель з раскошы будуару ўсяліў у хлеў — о жах!

І тут жа ўсхліп, што вашы творы поўны ўзнёслых грацый, а ў перакладзе — грубасць і цынізм, што ў выніку бездапаможнай працы — не даўнасць, а вульгарны мадэрнізм!

І гэта так, браточкі чужаземцы. Хоць я не глух да вашых галасоў, падладжвацца ж пад вас, французы, немцы, я ў межах роднай мовы не гатоў. І танцаваць па-вашаму контрдансы то з выкруткай, то ў грацыёзных па, і з рэверансамі ўсе нюансы перадаваць у стылі Рэнесансу, на жаль, не здольная мая ступа. На гэткі поспех я не маю шанцу па той прычыне, — шчыра вам скажу, — што я сваёй паставай даражу.

Я не магу даслоўна, літаральна вас паўтараць, як попка-какаду. Хай вы сваё стварылі геніяльна, а я па-свойму вас перакладу!

Тут на мяне ў штыкі самаахвярна абрынуцца гурмою тлумачы: маўляў, які круцель! Ды ты ж каварна ўсё перайначыў. Кайся і маўчы! Свавольства з класікай падобна здрадзе, тым больш — у вершаваным перакладзе.

Ды раптам голас: — Вы, сляпцы-сычы, цішэй! Паэт на гэта мае права! І сёння, і ў мінулым так было. Ну хто ж свайго ў чужое для прыправы не дадаваў, каб на душу лягло? Набыўшы вопыт, кожны з нас пад старасць не без падстаў падкіне і дадасць у гнеў чужы — сваё кіпенне, лютасць, у халадок чужы — свой жар і страсць.

Калі б рамеснік гэткую ж работу прыдбаў, а так і ёсць тады-сяды, — старанны, ён свайго б накапаў поту; гультай, той проста ўжо — сырой вады.

*ЭЖЭН ГІЛЬВІК*
*(1907—1997)*

## МЕСЦЫ ЖЫХАРСТВА

Давялося аднойчы мне жыць у жаўны,
І цяпер-то я, мабыць, напэўна знаю,
Як жаўтакрылка, страсаючы сны,
Шыйку закіне, пёркі зраўняе

І намагаецца песняю з клёкатам —
Кло-кло-кло-кло!
Выказаць, як закіпае святло
Па-над палянамі — кубкамі з блёкатам,
Па-над узгоркамі ў зараснях дроку
І пад вярбой дуплаватай, у змроку.

Разам з тугім каласком
Я — пастаялец сцябла,
Як скалалаз,
Лез угару да святла.

Разам з азёрнай затокай
На золку, заспаны,
Вобмацкам пяўся абмацаць
Мяккае цела туману.

Жыў у бутоне, у сінім ірысе,
І адчуваў, як шторання праменні,
Лашчачы соню, амаль на каленях
Плакалі росамі, быццам прасілі: раскрыйся!

Жыў я ў пладах,
Ім хацелася спаць да марозу, без спешкі.
Жыў я ў вачах,
Ім хацелася шчаснай усмешкі.

*РАСУЛ ГАМЗАТАЎ*
*(1923)*

## НАДПІС НА КІНЖАЛЕ

Ні роду, ні прыплоду, ні ўраджаю
З мяне няма. Я еўнух-акалот.
Сваіх патомкаў я не нараджаю,
Але пладжу чужых сірот.

*ХАЙНЦ КАЛАЎ*
*(1931)*

## ДЗЕЛЯ ЦЯБЕ

Дзеля цябе
сонечны жар не астыне,
дзеля цябе
горы не сыдуць уніз.
Дзеля цябе
не вырасце гай у пустыні,
бэзам не стане пад вокны,
збегшы з магільніка, ціс.

Дзеля цябе
не захоча да часу падняцца
белы туман з наваколля,
развеяцца мгла.
Дзеля цябе
толькі буду я вечна змяняцца,
каб для мяне
ты нязменна каханай была.

*ЯНІС РОКПЕЛНІС*
*(1945)*

## СУБОТНІ ВЕЧАР

Як пшанічка ў валлі цёмна-шызага голуба,
Рыга спіць дужым сном карапуза.
Стаў тралейбус ля парку, бы конь каля жолаба,
Над музеямі лётаюць музы.

Той тралейбус развёз на прыпынак з прыпынку
Безліч душ і цяпер ужо спачывае.
Абязлюдзелі плошчы, і вецер катрынку
Цёмнай ноччу заводзіць і падвывае.

Вось цяпер самы час, каб і сэрца ў тэрцынах
Штосьці запела хаця б пра сябе дыялектам
Кураслепу спрадвечнага, пчол на вашчынах.

Адчуваю, як ветрам вывейвае стому,
Бачу танцы начных матылькоў, нібы гномаў,
У лістоце, праходзячы ціхім праспектам.

# АНТОН БЯЛЕВІЧ

**(1914, в. Дуброўка Ігуменскага пав. — 1978, Менск)**

Калі А. Бялевіч працаваў у пухавіцкай раёнцы, адзін пільны таварыш апублікаваў у цэнтральнай газеце выкрывальны артыкул, паводле якога выглядала, што прэсу ў Пухавічах захапілі ворагі: рэдактар — трацкіст, літработнік — агент замежнай разведкі, машыністка — дачка генерала, сакратар Бялевіч — нацдэм і кулацкі падпявала. Як і трэба было чакаць — усіх разагналі. Бялевіч спачатку загадваў складам, потым перабраўся ў Менск, дзе ўладкаваўся нарысістам у «Чырвоную змену», потым у «Звязду». У вайну партызаніў. Наперакладаў — горы (напрыклад — паэмы А. Твардоўскага, М. Бажана), але творчыя знаходкі чакалі яго зусім не ў братніх славянскіх літаратурах.

*МАЦВЕЙ ГРУБІЯН*
*(1909—1971)*

## МАЯ ДРУКАРНЯ

Не для таго, каб жарцікам забавіць,
Здзівіць маіх сяброў, маю сям'ю,
Хацеў бы каля мора я паставіць
Друкарню невялікую сваю.

І там, асвойтаўшыся скора,
Зірнуўшы на марскі бунтарны плёс,
Я для набору браў бы толькі зоры —
Праменістыя літары нябёс.

Хай пахне не паперай кніга гэта,
Не клейстарам майстэрні гарадской,
А толькі хваляй, пенаю нагрэтай,
Адною толькі вільгаццю марской.

І ведайце: няма тут хібнасці ні трошкі,
Ну, як жа тое выдумкай лічыць,
Што месяца праменная дарожка
На ўсіх маіх старонках зіхаціць!

Узрадаваны гэтакай манерай,
Прывыкшы да любых цяжкіх работ,
Я з камянёў — падобна Гуліверу —
Зрабіў бы сам для кнігі пераплёт.

І, завяршыўшы ўсё, да самага дасвецця
Сядзеў бы я пад зорачкай малой,
І нашага стагоддзя свежы вецер
Гартаў бы кнігу, створаную мной.

## ВЯСЛО

Дзяўчыне, якую кахаю, —
Вясло выразаю.
Паблісквае нож, як маланка,
Як позірк каханка.

Не мокла вясло шчэ ў вадзе,
А хваляй марскою гудзе
І пахне яно не сасною —
Салёнай вадою.

— Сумуеш ці не ты па гаю? —
Вясло я пытаю,
Вясло суцяшаю:
— Не ный ты драўлянай душою,
Не плач ты смалою.
Лагодны паслухаеш плёскат —
І гай свой забудзеш за вёскай.

Забудзеш ты шчэбет птушыны,
Другія вяршыні, галіны,
Гайдаць будуць птушак у спёку,
А шлях твой
Шырокі,
Далёкі.
І раны пякучыя й гора
Суніме пяшчотнае мора.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вясло маё добрае з гаю,
Цябе я ўмаляю:
Гані ты ад мілай нягоды
І воды,
І буру
Стрымай ты, прашу я.
Ты чуеш,
Вясло маё з гаю?
Табе я гукаю:
Паўсвета залі ты вадою,
А мілую з хваль чарадою
На бераг на мой прынясі.
Прасі
Багатую плату за гэта, —
Аддам я паўсвета.

Калі ж ты дазнаешся, можа,
Што здрада на сэрцы ў прыгожай,
І цёмнаю ноччу
Ці ўранку
Ты ўбачыш каханку,
Як дорыць другому каханне, —
Вясло маё,
Споўні заданне:

Ты човен кульні дном у зоры,
А з хваляю першаю з мора
Плыві ты на бераг адно,
А чоўнава дно
Накрые хай здрадніцы вочы,
Хай мора рагоча!

## АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

**(1914, м-ка Саматэвічы Клімавіцкага пав. — 1978, Нясвіж)**

Вядомая франтавая паэма А. Куляшова «Сцяг брыгады» (Сталінская прэмія 1946 г.) пачыналася лермантаўскім радком «Як ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны...». Што падобнае «пазычанне» не было выпадковым, высветліцца толькі праз два дзесяцігоддзі, калі выйдуць «Выбраныя творы» расейскага класіка ў куляшоўскіх перакладах. (Тут дарэчы будзе згадаць, што яшчэ ў 1920-я гг. у Вільні М. Краўцоў зрабіў спробу перастварыць па-беларуску Лермантава і нават выдрукаваў асобнымі выданнямі паэмы «Мцыры» і «Дэман», але чытаць іх сёння без расчаравання немагчыма.) Шануючы эпічны размах пяра, Куляшоў і перакладаў ахвотней за ўсё эпіку: «Яўгенія Анегіна» А. Пушкіна, «Спеў аб Гаяваце» Г. Лангфэла, «Сказанне пра Белаяніса» А. Парніса, «Энеіду» І. Катляроўскага. Калі браўся за лірыку, то перакладаў цэлымі цыкламі, а то і кнігамі (С. Ясенін, А. Малышка, Р. Гамзатаў, К. Куліеў). Куляшоў сябраваў з А. Твардоўскім, але выйсці з рэдкалегіі «Нового мира» пасля прымусовай адстаўкі яго галоўнага рэдактара не адважыўся. І ўсё ж менавіта ў перакладах Твардоўскага вершы самога Куляшова трапілі ў найбольш амбіцыйны маскоўскі праект — «Строфы века — 2» (складальнік Я. Віткоўскі), дзе ў ліку двюх тысячаў паэтаў свету ажно... тры беларусы.

*АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799—1837)*

## ВОСЕНЬ
*Урывак*

*Чего в мой дремлющий тогда не входит ум?*
*Дзяржавін*

I
Кастрычнік надышоў — і гай ужо страсае
Апошнія лісты з пустых сваіх галін;
Дыхнулі халады — дарога падмярзае.
Булькочучы, бяжыць яшчэ ручай за млын,
Ды ўжо ставок застыў; на ранку выязджае
Сусед мой паляваць сярод лясоў, далін,
І топчуць рунь палёў яго ліхія коні,
І будзіць брэх сабак дубровы ў час пагоні.

II
Цяпер мая пара: мне сумна жыць вясной;
Адлігі не люблю; слата — вясной я хворы;
Бунтуе кроў; пачуцці сціснуты тугой.
Больш даспадобы мне зімовыя прасторы,
Суровыя снягі; як хораша зімой
Імчаць з сяброўкаю, калі іскрацца зоры,
Калі пад собалем, сагрэтая ў вазку,
Яна гарыць, дрыжыць і цісне вам руку!

III
Як люба абуваць жалезам вострым ногі
І коўзацца зімой па люстры роўных рэк!
А свят, зімовых свят, бліскучыя трывогі?..
Ды трэба й меру знаць; паўгода снег ды снег,
Нарэшце гэткае і жыхару бярлогі,
Мядзведзю, збрыдае. Няможна ж цэлы век
Нам ездзіць у вазках з Армідамі сваімі
Альбо ў цяпле гібець за вокнамі двайнымі.

IV
Ох, лета краснае! сябе б я зваў тваім
Каханкам, каб не пыл, не камары ды мухі.
Ты здольнасці душы знішчаеш назусім,
У спёку гінем мы, як поле ад засухі;
Мы марым аб рацэ, аб халадку лясным —
І згадваем зіму-бабульку не без скрухі.
Праводзячы зіму блінамі і віном,
Памінкі ладзім ёй марожаным з ільдом.

V
Дні позняй восені нам зневажаць не дзіва,
Ды я яе люблю, чытач ласкавы мой,

За ціхую красу, што ззяе скрозь маўкліва.
Так да нялюбага дзіцяці ўсёй душой
Цягнуся я. І вам прызнаюся праўдзіва,
Што рады больш за ўсё я восені адной,
У ёй шмат добрага; адданы ёй душою,
Знайшоў прывабнае ў ёй марай я сваёю.

VI
Мне падабаецца даўно яна адна,
Як часам, можа быць, сухотная дзяўчына
Вам падабаецца. Асуджана яна,
Штодзень бліжэй яе смяротная хвіліна.
Усмешка на губах на выцвілых відна;
Не ведае яна, што стацца з ёй павінна;
Як ружа, твар яшчэ гарыць, але дарма.
Хоць сёння і жыве, ды заўтра ўжо няма.

VII
Маркотная пара! вачэй замілаванне!
Прыемны сэрцу бляск расстайнае красы —
Люблю прыроды я ўрачыстае згасанне,
У чырвань з золатам прыбраныя лясы,
Ў іх засені вятроў шумлівых парыванне,
І сонца рэдкае, і зранку маразы,
І тонкаю смугой акрытыя нябёсы,
І ледзь прыкметныя сівой зімы пагрозы.

VIII
І з кожнай восенню я расцвітаю зноў;
Карысны мне такі наш рускі холад ранні;
Да дробязяў быцця зноў чую я любоў:
Прыходзіць пасля сну зноў голад на світанні,
І лёгка, радасна віруе ў сэрцы кроў,
Юнацкія ў маёй душы кіпяць жаданні;
Я поўны зноў жыцця — такі мой арганізм
(Прабач ты мне, чытач, за лішні празаізм).

IX
Падводзяць мне каня; у лёце нечуваным
Ён конніка імчыць да дальніх пушчаў, сёл,
Пад капытом яго, надзейна падкаваным,
Трашчыць бліскучы лёд, звініць замёрзлы дол.
Ды хутка гасне дзень — на камінку цагляным
Агонь ізноў гарыць — ліе святло вакол
Ці тлее ледзь, — а я перад агнём чытаю
Ці ў марах доўгі час, забыўшыся, лунаю.

X
І забываю свет, і так прыемна мне
Аддацца ў цішыні прыемным адчуванням,
Пачуцці светлыя паэзія кране:
Душа сціскаецца лірычным хваляваннем,

Уся трымціць, гучыць і прагне, як у сне,
Нарэшце выліцца натхнёным парываннем —
І да мяне ідзе гасцей нябачны рой,
Сяброў, што мараю народжаны маёй.

XI
І думак не стрымаць, бо смелыя намеры,
І рыфмы лёгкія насустрач ім бягуць,
І пальцы просяцца к пяру, пяро к паперы.
Хвіліна — і радкі натхнёна паплывуць.
Так дрэмле карабель, у змрок схаваны шэры,
Але прыслухайся! — спяшаюцца, паўзуць
Матросы ўгору, ўніз — вось ветразі напялі;
Скрануўся карабель і рассякае хвалі.

XII
Плыве. Куды ж нам плыць?..

*ГЕНРЫ ЛАНГФЭЛА*
*(1807—1882)*

**СПЕЎ АБ ГАЯВАЦЕ**
*Фрагмент*

ПІРОГА ГАЯВАТЫ

«Дай кары мне, о Бяроза!
Дай бяросты мне, Бяроза!
Ты ўзвышаешся ў даліне
Зграбным станам над ракою!
Я з кары тваёй збудую
Човен, шпаркую пірогу,
Паплыве яна ракою,
Быццам жоўты ліст увосень,
Быццам жоўты той гарлачык!

Плашч скідай свой, о Бяроза!
Скінь убор з бяросты белай,
Бо ўжо лета надыходзіць,
Сонца грэе, прыпякае,
І плашча табе не трэба!»

Гаявата так звяртаўся
Да бярозы ў цёмным лесе
Над імклівай Такваміна
На зары, калі ўслаўлялі
Месяц Лісцяў птушкі ў лесе,
І, прадраўшы вочы, сонца
Гаварыла, ўстаўшы: «Вось я!
Сонца я, вялікі Гізіс!»

Дрэва ўсёй сваёю кронай
Зашумела на світанні

І пакорліва ўздыхнула:
«Скінь мой плашч, о Гаявата!»

І нажом акальцаваў ён
Дрэва зверху, дзе галіны,
Знізу, дзе яго карэнні,
Покуль сок з яго не пырснуў;
Па ствале лязом прайшоўся,
Зверху ўніз кару разрэзаў,
Адкарыў драўляным клінам,
З дрэва зняў яе цалюткай.

«Дай, о Кедр, галін мне гнуткіх,
Не шкадуй сукоў мне моцных,
Каб была мая пірога
І надзейнай і трывалай!»

Па шумлівай кроне кедра
Жах прабег і гул нязгоды;
Але ён схіліўся нізка,
Прашаптаў: «О Гаявата,
Ты вазьмі мае галіны!»

Ён адсек галіны кедра,
З двух сукоў зрабіў аснову,
Ёй надаўшы форму лукаў,
Лукаў двух, звязаных разам.

«Дай карэнняў мне, о Тэмрак,
О Лістоўніца, такіх дай,
Каб звязаць я мог пірогу,
Так звязаць канцы з канцамі,
Каб вада не працякала,
Не сачылася ў мой човен!»

І лістоўніца на ранку
Страсянулася ўсім целам,
Да чала яго прыпаўшы,
Уздыхнула безнадзейна:
«Забірай, о Гаявата!»

Вырваў ён з зямлі карэнні,
Павыцягваў валаконцы,
Шчыльна сшыў кару і шчыльна
Змацаваў аснову імі.

«Дай свайго мне соку, Елка,
Дай сваёй смалы гаючай,
Засмалю я шво надзейна,
Каб вада не працякала,
Не сачылася ў пірогу!»

І ва ўборы змрочным елка
Зашумела, быццам галька
На тым беразе пясчаным,
Адказала са слязамі:
«Забірай мой сок гаючы!»

І сабраў ён слёзы елкі,
І яе смалой гаючай
Засмаліў ён шво, пірогу
Ад вады абараніўшы.

«Дай калючак мне, о Вожык!
Дай калючак, каб зрабіў я
Для пірогі-прыгажуні
З іх і пояс, і каралі,
І дзве зоркі ёй на грудзі!»

І зірнуў санліва вожык
На яго і, быццам стрэлы,
Ён з дупла калючкі кінуў,
Мармытнуўшы ў блытаніну
Вусаў: «Вось табе калючкі,
Сабірай іх, Гаявата!»

Ён сабраў з зямлі калючкі,
Што як стрэлы зіхацелі,
Фарбаваў іх жоўтым, сінім
І чырвоным сокам ягад,
Аздабляў пірогу імі:
Стан абвіў — бліпчасты пояс,
Нос — аздобілі каралі,
Грудзі — две малыя зоркі.

Так пірогу Гаявата
Збудаваў у цёмным лесе,
У даліне каля рэчкі;
І лясоў жыццё было ў ёй,
Тайны ўсе і ўсе іх чары,
І бярозы лёгкай зграбнасць
Кедра моц, гаючасць елкі
І лістоўніцы надзейнасць;
І гайдалася пірога
На вадзе, як ліст увосень,
Быццам жоўценькі гарлачык.

Не зрабіў ён толькі вёслаў,
Бо не меў у іх патрэбы:
Думкі вёсламі служылі,
Летуценні кіравалі;
Воля — руль трымала цвёрда,
Шлях — жаданне пракладала.

А пасля на дапамогу
Друга Квазінда паклікаў:
«Трэба рэчышча ачысціць
Ад карчоў, калод і меляў!»

Квазінд, нібы выдра, скочыў
У раку, нырнуў, нібыта
Быў бабром ад нараджэння,
То вада яму па пояс,
То да горла падступала,
З крыкам ён карчы выцягваў,
Затанулыя калоды,
Выграбаў пясок рукамі,
Глей і водарасць — нагамі.

І паплыў мой Гаявата
Па імклівай Такваміна,
Плыў уніз праз крутаверці,
Плыў за Квазіндам, што спрытна
Грэб рукамі, дзе глыбока,
Пераходзіў брод, дзе мелка.

Так уверх і ўніз па хвалях
Праплылі між астраўкамі —
Ад карчоў, калод і жвіру
Дно ачысцілі рачное,
Вілаватую дарогу,
Водны шлях яны праклалі —
Ад яго вытокаў горных
Аж да самых хваль Павэцін,
Да заліва Такваміна.

## *МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ*
*(1814—1841)*

* * *

Я адзін выходжу на дарогу;
Ноч імглой ахутала яе;
Даль прыціхла, молячыся Богу,
Зорка зорцы голас падае.

У нябёсах велічна і згодна!
У блакітным ззянні спіць зямля...
Што ж мне так і цяжка і маркотна?
Што са мной? Чаго шкадую я?

Не шкадую дзён, пражытых мною;
Лепшых мне не бачыць і не чуць;
Я шукаю волі і спакою!
Я б хацеў забыцца і заснуць!

Ды не так, як спяць пад крыжам людзі...
Я б жадаў такія ўбачыць сны,
Каб жыццё мае ўздымала грудзі,
Каб паціху дыхалі яны.

Каб да слыху далятаў з пяшчотай
Спеў кахання, і пад гэты спеў
Нада мной зялёнаю лістотай
Цёмны дуб схіляўся і шумеў.

* * *

Ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны,
У стэп пакаціўся, бязлітаснай бураю гнаны;
Завяў і засох ён ад холаду, спёкі і гора;
І вось дакаціўся нарэшце да Чорнага мора.

Ля Чорнага мора стаіць маладая чынара;
З ёй ветрык дурэе, галін не азмрочвае хмара;
Гайдаюцца райскія птушкі на вецці зялёных,
Марскую царэўну ўслаўляюць у песнях натхнёных.

Вандроўнік прыпаў да карэнняў чынары высокай,
Прытулку шукаючы, гэтак, з тугою глыбокай,
Ён просіць: «Я бедны лісточак з галінкі дубовай,
Да тэрміну выспеў і ўзрос я ў краіне суровай.

Адзін і без мэты даўно я па свеце блукаю,
Без ценю засох я, ні сну, ні спакою не маю.
Прымі ж, прытулі ты чужынца між лісцяў нябёсных,
Нямала я ведаю песень і казак дзівосных».

«Навошта ты мне? — маладая гаворыць чынара. —
Ты жоўты і пыльны — сынам маім свежым не пара.
Ты шмат чаго бачыў — навошта мне байкі ды былі?
Мой слых і без іх ужо райскія птушкі стамілі.

Ідзі, не спыняйся, вандроўнік! Цябе я не знаю!
Любімая сонцам, я тут для яго расцвітаю;
Пад небам галіны раскінула я на прасторы,
Карэнні глыбока ў халодным купаючы моры».

* * *

Пасля разлукі твой партрэт
Я на грудзях маіх нашу;
Як здань былых і зім, і лет,
Ён радуе маю душу.

Аддаўшы сэрца іншым дням,
Я разлюбіць яго не змог:
Так храм пакінуты — ўсё ж храм,
Кумір нізрынуты — ўсё ж бог!

*СЯРГЕЙ ЯСЕНІН*
*(1895—1925)*

* * *

Адгаварыла восень залатая
Вясёлай мовай залатых бяроз.
І выраю, што ўдалеч адлятае,
Ужо нічый не дораг болей лёс.

Чым даражыць? Жыццё, як вандраванне, —
Прайшоў, зайшоў і дом пакінуў свой.
Аб адышоўшых мроіць канаплянне
З шырокім месяцам над заваддзю рачной.

Стаю адзін сярод раўніны голай,
А жураваоў знікае чарада,
Аб маладосці думаю вясёлай,
Ды мне ў былым нічога не шкада.

Мне не шкада ні светлае хвіліны,
Мне не шкада пражытых марна дзён.
Гарыць агонь чырвонае рабіны,
Але нікога не сагрэе ён.

Не абгараць рабінавыя кісці,
Пажоўкласць не загубіць асакі.
Так, як раняе дрэва ціха лісце,
Раняю я маркотныя радкі.

І калі час завеяю суровай,
Як смецце, іх зграбе ў адзін грудок...
Скажыце так... што залатою мовай
Адгаварыў бярозавы лясок.

## ПЕСНЯ

Ёсць адна прыгожая песня салаўіная —
Па маёй галовачцы скарга дамавінная.

Цвіла — бесшабашная, расла — нажавая,
А цяпер схілілася, нібы нежывая.

Думы мае, думы! Насланнё праклятае!
Змарнаваў юнацкія дні свае без ладу я.

Як такое сталася, сам таго не знаю.
Ноччу сэрцам да падушкі жорсткай прыпадаю.

Лі́ся, песня звонкая, скаргай салаўінаю.
Абдымаў, мне снілася, я сваю адзіную.

За акном гармоніка ўсхліп і ззянне месяца.
Знаю, што ніколі ўжо гэтым снам не здзейсніцца.

Эх, любоў-калініца, кроў — зара вішнёвая,
Як гітара даўняя і як песня новая.

З той жа самай любасцю, радасцю і мукамі,
Што дзядамі пелася, зноў пяецца ўнукамі.

Дык балюйце, юныя, дык не схібце, смелыя! —
Адцвіце каханая, як чаромха белая.

Я адцвіў не знаю дзе — нават не пытаюцца
Тыя, што гарнуліся, а цяпер цураюцца.

І аб тым прыгожая песня салаўіная —
Па маёй галовачцы скарга дамавінная.

Цвіла — бестурботная, была — нажавая,
А цяпер схілілася, нібы нежывая.

**САРАКАУСТ**
*Фрагмент*

*А. Марыенгофу*

Ці бачылі вы,
Як імчыць з начы,
У тумане рачным па пояс,
Жалезнай наздрой храпучы,
На лапах чыгунных поезд?

А за ім
Па густой траве,
Як на гонках шалёных, няйначай,
Капыты закідваючы к галаве,
Жарабя танканогае скача?

Ну куды, пацяшаючы ўсіх,
Неразумнае, любае, гоніцца?
Хіба не ведае, што коней жывых
Абагнала стальная конніца?

Хіба не знае, што ў прасторах зялёных
Не абудзіць ягоны бег
Той пары, калі пару красунь палонных
Аддаваў за каня печанег?

Перайначыла доля кірмашамі сучасся
Наш абуджаны скрогатам плёс,
І за тысячы пудоў конскай скуры і мяса
Купляюць цяпер паравоз.

*ПАБЛА НЭРУДА*
*(1904—1973)*

## З «КНІГІ ПЫТАННЯЎ»

Скажы мне, ружа голая стаіць
Альбо ў яе няма сукенкі іншай?

Чаму хаваюць дрэвы
Сваіх карэнняў бляск?

Ці ёсць што-небудзь маркатнейшае на свеце,
Чым нерухомы поезд пад дажджом?

Чаму канчае лісце самагубствам,
Калі пажоўкне?

Чаму такая цвёрдая
Пяшчотнасць сэрца вішні?
Таму, што жыць павінна,
Альбо таму, што згінуць?

Лісце жыве зімою
Тайна, разам з карэннем?
Чаму навучылася дрэва ў зямлі,
Каб весці размову з небам?

Чаму начы самбрэра ўсё ж
Ляціць, хоць і дзіравае, як сіта?

Чаму так плачуць воблакі, калі
Ім з кожным разам весялей бывае?

І каму усміхаецца рыс
Незлічонымі белымі зубамі?

Чаму ў эпохах змрочных
Пішуць нябачнымі чарніламі?

Чаму ў чаканні снегу
Раздзеўся гай?

Чаму ўсе шаўкапрады
Жывуць у лахманах?

Калі салодкія ўсе рэкі,
Адкуль бярэцца ў моры соль?

*АНДРЭЙ МАЛЫШКА*
*(1912—1970)*

## ЯГАДА

На спелай вішні ў садзе маладым
Да долу ягады звісаюць сакаўныя,
Над імі хмарак плаваюць чаўны,
Блакітам маляваныя, начуе
Ноч на падушках чорных, птах сівы,
Ад смачных ягад ахмялеўшы, ходзіць,
Для пірагоў і для вішнёўкі іх
Зрываюць дзеці;
у бутэльках цёмных
Брадзіць пачне пасля шумлівы сок,
Насычаны за лета свежым ветрам
І сонцам.
Толькі ягада адна,
Як жолуд, цвёрдая, падзёўбаная птушкай,
Барвова-чорная, як волава, цяжкая,
Салодкая, да восені вісіць;
Яе ў тым садзе выпадкова людзі
Пакінулі дажджам і маразам.
Ах, як бы песню я хацеў бы скласці
Падобную да ягады вось гэтай,
Каб і яна, дзяўбаная ўначы,
У дождж асенні, у марозны ранак
Таіла сок салодкі, спелы сок,
Забытая людзьмі, перад зімою
Нагадвала другія сэрцу дні,
Траву і лета, сонца і каханне.

*КАЙСЫН КУЛІЕЎ*
*(1917—1985)*

* * *

Я жыцця свайго не перайначу:
Адзінота — горш, чым куля ў лоб.
Калі доўгі час людзей не бачу,
Я стамляюся, як ад хвароб.

Горцу, як ачаг яго астыне,
Жару з ачагу сусед прышле,
Горац спадарожніка не кіне,
Калі той заблудзіць у імгле.

Вось і я, каб мне святлей жылося,
Кожны раз агонь бяру ў людзей.
Цяжка мне з сабой самім аб лёсе
Саймавацца, а з людзьмі — лягчэй.

Знаю, як памру, не ўбачу сонца,
Пад зямлёю — іншы лік гадзін.
Вечны час — ён цягнецца бясконца,
Толькі я — адзін, заўжды адзін.

Не, не ашукаць зямлю сырую, —
Зразумейце ж боль мой і тугу:
Друга там ніколі я не ўчую,
З ворагам схапіцца не змагу!

*РАСУЛ ГАМЗАТАЎ*
*(1923—2003)*

* * *

Як саклю на высокім горным скаце
Я будаваў, з карэннем рваў траву,
Пабудаваў, пажыў, трава ж на хаце
Расце і нібы шэпча: я жыву!

Як ні знішчай траву, яна ўваскрэсне,
Не пад нагамі, дык над галавой.
І я сказаў сваёй любімай песні:
Будзь, мая песня, горнаю травой.

## ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ

**(1914, Баранавічы — 1947, Менск)**

Таленавіты, недаацэнены пры жыцці паэт (першая кніга выйшла ў 1947-м, калі аўтара ўжо не было ў жывых). Таўлаеўскі афарыстычны радок «пілую вершам краты» сімвалізаваў імкненне да свабоды ў заходнебеларускай паэзіі. Нездарма ён у 1984-м апынуўся на вокладцы дбайна складзенага томіка выбраных твораў паэта. Лічылася, што Таўлай перакладчыкам не быў, ягоная бібліяграфія фіксуе ўсяго некалькі надрукаваных перакладаў з польскай і рускай моваў. Але, працуючы ў Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, я нечакана для сябе адшукаў рукапісны школьны сшытак Таўлая з перакладной паэзіяй — пераважна тэкстамі, што сталі вядомымі рамансамі (на муз. М. Глінкі, П. Чайкоўскага ды інш.). Для якіх беларускіх выканаўцаў з дапамогай Таўлая рыхтаваўся рэпертуар — невядома. Пад многімі перакладамі пастаўленая дата — 1943 г.; паэт тады працаваў у Наваградскім аддзеле культуры Беларускай самапомачы.

*МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ*
*(1814—1841)*

* * *

Дзіця, маліся! Бог сусвету,
Заслуханы ў цябе, сцішэў...
Ён злічыць кроплі слёзаў светлых
І вуснаў зразумее шэпт.

Твой апякун анёл, быць можа,
Ўсе слёзы, да найменшай нат,
Сабраўшы, — беражна паложыць
Самому Богу на пасад.

Дзіця, маліся, пройдзе міма
Жыццё, ды споўні запавет —
Такімі ж светлымі вачыма
Глядзі заўжды на Божы свет!

*АЛЯКСЕЙ ТАЛСТОЙ*
*(1817—1875)*

* * *

Багаслаўляю вас, лясы,
Вод глыбіню, бязмежнасць поля,
Цябе багаслаўляю, воля,
І неба сонечную сінь.

Жабрачы кій багаслаўляю
І торбу, і спакойны крок,
Прастор ад краю і да краю,
І сонца бляск, і ночы змрок.

І сцежку, па якой паволі
Я жабраком іду, стары,
І кожную былінку ў полі,
І зорку кожную ўгары.

## МАСЕЙ СЯДНЁЎ

**(1915, в. Мокрае Клімавіцкага пав. — 2001, г. Глен-Коў, ЗША)**

Ледзь не палову адной з апошніх паэтычных кніг М. Сяднёва «А часу больш, чым вечнасць» (1989) займаюць пераклады, у тым ліку з Гётэ, Гайнэ, Мёрыке. Мала хто з паэтаў адважваўся на такое паважнае і шматлікае суседства, паколькі ёсць рызыка — чытаць будуць не цябе, а таго, каго ты пераклаў. Апынуўшыся пасля вайны ў лагеры для перамешчаных асобаў, Сяднёў не губляў часу, шмат пісаў і толькі за два паваенныя гады выдаў 4 кнігі: «На край святла», «Спадзяванні», «У акіяне ночы», «Цень Янкі Купалы». Жывучы за мяжой (у Германіі, пасля ў ЗША), вывучыў нямецкую і ангельскую мовы, ці не першым сярод беларускіх перакладчыкаў падступіўся да санетаў Гётэ. Перакладаў не толькі паэзію, але і афарызмы ды эсэ Наваліса, Г. Гесэ, Ё. Паўля. Асобнай кнігай у Нью-Ёрку ў 1989 г. выйшла ў сяднёўскіх перакладах «Выбранае» ўкраінскага паэта Яра Славутыча. І Сяднёва перакладалі пераважна эмігранты. Так, рэдактар нью-ёркскага расейскага «Нового журнала» В. Крэйд пераствaрыў і выдаў цэлую кнігу Сяднёва «Очищение огнём» (1989) — выпадак рэдкі ў нашай эмігранцкай літаратуры. Пяць крэйдаўскіх перакладаў трапілі ў вядомую анталогію Я. Віткоўскага «Строфы века — 2» — роўна столькі, колькі там вершаў усіх астатніх беларускіх паэтаў. Думаю, Сяднёў ад такой «радасці» толькі б горка пасміхнуўся... Сярод яго перакладных экзотаў асобнае месца займаюць санеты Мікеланджэла, хоць, па ўласным прызнанні перакладчыка, італьянскай мовы ён не ведаў. Але і ж параўнаць творы генія Адраджэння няма з чым — іншых перакладаў у нас папросту няма.

## *МІКЕЛАНДЖЭЛА БУАНАРОЦІ*
## *(1475—1564)*

* * *

Вярні мне час, калі свабодны й смелы,
сляпой я жарсці ход даваў.
Калі на свеце ўсё багаслаўляў
і быў гатоў абняць свет цэлы.

Дай Ты маёй душы і крокам анямелым
той гарт, што я калісьці знаў.
Пашлі мне чар і зваблівасць уяў,
калі я уваскрэсну зноў душой і целам.

Але, Амур, у жарсці тваёй вечнай,
заўжды салодкай, небяспечнай,
дай мары маёй іншай збыцца:

калі на беразе другім я апынуся,
забыўшы ўсе твае спакусы,
паходняй іншага кахання асвяціцца.

* * *

Ужо і смерць падглядвае мяне,
а я атрутай аджыўляю сваё сэрца.
Калі ж грахоў спакуса праміне?
Няўжо я назаўжды застыў у паняверцы?

Не маю ўласных сіл змяніць сябе,
жыццё сваё, і звычай, і каханне.
З сабой і Вышнім у няспыннай барацьбе
не ведаю ўжо болей я адхлання.

Але душа мая ўсё да Цябе імкне,
я прад табой ў заўсёдным утрапенні
і толькі аднаго хацеў бы я, нягодны:

яшчэ прад тым, як Ты смяротнае з мяне
адымеш, дай, прашу я, запэўненне,
што прыйдзе да Цябе душа мая нязводна.

* * *

Пад цяжкасцю грахоў маіх і летаў
стаміўся я і ў жарсці злой застыг.
Смерць наступіць гатова ў кожны міг —
спакутванае сэрца сведчыць мне пра гэта.

І песня лебядзіная мая адпета,
час, негатовага, мяне насціг.
З вышыняў Нейчы голас ловіць слых —
то набліжэння верная прыкмета.

Душу маю Ты йшчэ, як след, не справіў,
яна шчэ не зрабілася яскравай,
хоць і гатовая да вечнага спачынку.

О Божа, каб лягчэй было ёй перабрацца
у ціхасць гойную Тваіх палацаў,
малю я — скараці туды сцяжынку.

*ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*
*(1749—1832)*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Як нашы скончацца апошнія хвіліны
у свеце гэтым нашым пад'ярэмным,
за слова кожнае, сказанае дарэмна,
у судны дзень адказ мы даць павінны.

Што будзе з словамі ўсіма маімі,
што я сказаў табе, каб падабацца?
Хоць, праўда, для цябе — мне сорамна прызнацца —
былі яны ўсяго значэннямі пустымі.

Падумай, любая, хоць на хвілінку ў скрусе,
што будзе на Судзе Страшным са мною
і як магу на ім стрываць пакуты я, нясмелы:

калі б я выбачацца і адказваць мусіў
за ўсё, што дарма балбатаў я прад табою,
цягнуўся б судны дзень — год цэлы.

## РОСТ

Як любае дзіцё, са мной вясной ты
У полі, лузе бегала між кветак.
«Як бацька, збудаваць дачушцы гэткай
Хацеў бы хатку я, залітую яснотай».

Як болей пачала цікавіцца ты светам,
Усім цябе ўпрыгожыў я, аддены.
«Сястрыца любая! Я быў бы ўратаваны:
Скажы, ці верыць я табе магу, як мне ты?»

Стрымаць мы росту нашага не можам —
Пачуў я у грудзях агонь святы кахання.
Ці я абняў яе? Ах, не. Не быў адважным.

Стаіш ты з выглядам прад мною пераможным —
Княгіняй, хоць і без такога звання,
І гнуся я пад позіркам тваім, такім няўважным.

*ЭДУАРД ФРЫДРЫХ МЁРЫКЕ*
*(1804–1875)*

## ДА ЭОЛАВАЙ АРФЫ

Прыйдзі, малю цябе,
народжаная ветрам Муза,
прысядзь каля мяне,
на струнах таямнічых
пачні свой спеў,
зноў адгукніся меладыйнай скаргай.

Вятры, я заклінаю вас, дзьмухніце
з таго узгорку, што быў любы мне.
Дарогай дакранайцеся вясенніх кветак,
іх водар увабраўшы, духмянасцю
маё спатольце сэрца.
Дыхніце ў струны майго смутку —
яны зайдуцца болем ціхім
і скаргаю няспоўненых жаданняў,
хоць ведаю — адразу і замруць
мелодыяй жалобнай.

Ды вось аднойчы ў залатыя струны арфы
няшчадна вецер моцны ўдарыў
і струны, зазвінеўшы ў страху,
маю душу трывогай скаланулі:
бурлівы вецер ружы ў садзе страсянуў —
чуллівыя, яны пялёсткамі
бялюткімі сыпнулі мне пад ногі.

## СУЦЕШНАСЦЬ

Так, шчасце, што служыла мне,
пакінула мяне, нарэшце.
— Так, найбліжэйшыя сябры мае
пакінулі мяне таксама.
Найгорш — і міласэрныя багі,
што памагчы маглі б,
сваю спіну мне паказалі.
Што мне рабіць? Злічыць
майго жыцця панылыя часіны
і папрасіць у служкі нож або атруту?
О, не! Павінен з сэрцам я сваім
дайсці да паразумення!

Да сэрца прамаўляць свайго я стаў:
давай трымацца мы адзін аднога,
бо ж ведаем адзін аднога,
як ластаўкі сваё гняздо,
як цытра — спевака,
як меч і шчыт сябе саміх.

Такую пару хто разлучыць?
Як гэтае я ўсё сказаў — о, Божа! — сэрца
падскочыла ў маіх грудзях,
а напачатку плакала няўцешна.

*РАЙНЭР МАРЫЯ РЫЛЬКЕ*
*(1875–1926)*

### АДЗІНОТА

Адзінота святая мая, беражы
свае скарбы усе, міражы
прамінулых часоў, такіх слаўных!
О, святая мая адзінота, ты
залатыя дзверы свае саматы
замыкай ад усіх цікаўных!

### ЦІШЫНЯ

Звон срэбны, плюскат ручая,
далёка места, пыл, сады.
Галовы дрэваў, як і я,
хістаюцца туды-сюды.

Лес змоўк зусім, і я стаю.
Расквечанасць у сэрцы дня.
Трымае галаву маю
на ўлонні плодным цішыня.

*АЛЕКСА ВЕРАЦЕНЧАНКА*
*(1918–1993)*

* * *

Стомаю палаючы агністаю,
ціха-ціха — ледзь відно —
карабель ля чарнаморскай прыстані
апускаецца на дно.

Вогненныя, бліскаючы ў далечы,
разыходзяцца кругі.
Хвалі, як сяброўкі, жаляцца,
плюскаюць у берагі.

І нідзе не чутна голасу,
і не звоняць якары.
Толькі чайкі плачуць болесна
угары...

У апошні раз шугнуў між скаламі
промень на вячэрнія палі —

дагарэла... канула
сонца нашае зямлі.

*ЯР СЛАВУТЫЧ*
*(1918)*

* * *

Як на свяце — людзі і майданы!
Коле готыка шпілямі сіняву.
Але іншым я зачараваны,
сумную схіляю галаву.

Што з таго, што воіны з пагардай
у граззбе застылі на вякі?
Сцерагуць мой край санлівай вартай,
рукі апусціўшы, ветракі.

Як на свяце — людзі і майданы!
Коле готыка шпілямі сіняву.
Толькі іншым я зачараваны,
гэтай прыгажосцю не жыву.

*ЛЕАНІД ПАЛТАВА*
*(1921—1990)*

**У ІМЯ ЖЫЦЦЯ**

Гарыць Берлін. Гудзе цяжкі агонь.
І дзень і ноч гул бомбаў не сціхае.
Стукоча кроў спалохана у скронь,
бягуць у падзямелле паліцаі.

Злятаюць з цягнікамі хісткія масты,
палацы прагараюць да паркетаў.
Сягоння ты вымольваеш вады,
а ўчора сам тапіў у ёй паўсвета.

Твае арлы, што ззялі ў вышыні,
заплюшчылі ў агні свае павекі.
Нямала й нас загіне ў тым агні,
ды спапялішся й ты у ім навекі.

Няхай сірэны сіпнуць ад выцця
і места сніць аб славе учарашняй.
У гэтым пекле у імя жыцця
багаславіць і смерць нястрашна.

## МІХАСЬ КАВЫЛЬ

**(1915, в. Покаршаў Слуцкага пав.)**

У прадмове да сваёй кнігі «Міжагнёўе» (Нью-Ёрк, 1990) паэт прыгадаў адно з незабыўных уражанняў студэнцкай пары: «На будынку Белпедтэхнікума была прыбітая шыльда, на якой залатымі літарамі свяцілася: "Беларускі Педагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага". Праўда, свяцілася нядоўга, бо ў 1931 г. Ігнатоўскі застрэліўся, дык і шыльду знялі, як казалі, каб пакласці ў дамавіну». Давёўшы акадэміка Ігнатоўскага да самагубства, бальшавікі ўзяліся і за студэнтаў. Кавыль (тады яшчэ Язэп Лешчанка) быў арыштаваны на апошнім курсе і асуджаны за ўдзел у «Саюзе вызвалення Беларусі». У турме спрабаваў скончыць жыццё самагубствам — адратавалі. Завезлі на Далёкі Усход, на Сяданбуд, дзе займаўся «прымусова-папраўчай» працай разам з мужам К. Буйло В. Калечыцам. Вызваліўшыся ў 1935-м, дахаты вярнуцца не змог — Случчына ўваходзіла ў памежную зону. Жыў у Варонежы, Арле, у Менск трапіў толькі пры немцах. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэса, у 1944-м падаўся на эміграцыю. Усе пяць кніг Кавыля выйшлі за мяжой — у Нямеччыне, Англіі, ЗША. У 1993 г. на просьбу выдавецтва «Мастацкая літаратура» я падрыхтаваў том выбранага М. Кавыля для серыі «Галасы беларускага замежжа». З усіх запланаваных там паэтаў-эмігрантаў паспеў выйсці адзін Я. Юхнавец, перад астатнімі, як за савецкім часам, на жаль, зноў быў апушчаны забаронны шлагбаўм. Перакладаў Кавыль зрэдку — Б. Пастарнака, П. Тычыну, М. Рыльскага, з прозы — «Роздумы» Марка Аўрэліюса. Жыве ў ЗША, у горадзе Саўт-Рывэр (штат Нью-Джэрзі). Апошні ліст ад М. Кавыля складальнік гэтай анталогіі атрымаў у 1999 г.; з тае пары з ім няма кантакту ў даследчыкаў ні на эміграцыі, ні ў метраполіі.

*ЛЕАНАРД ПАДГОРСКІ-АКОЛАЎ*
*(1891—1957)*

### БЕЛАРУСЬ

*Фрагмент*

*Калісьці нам Бог з вандроўкі вярнуцца дазволіць*
*І зноў жыць у доме на бацькоўскім полі.*
*Адам Міцкевіч*

Пустка палёў, прастор блакітны,
На пясках панавееньі мох,
Нізкіх вокнаў позірк няспрытны
З-пад капелюшаў жытніх стрэх.

У цвірку зычным сенакосаў —
Нячутная касцоў хада,
І крыкі пастухоў светлавалосых,
І дрэмлючая чарада.

І ўся сяўба, аранні, жніва —
Евангелле ніваў і боль.
Нібыта хто нелітасціва
На раны свежыя сыпле соль.

Ужо святло, кранаючы павекі,
З бяссоннай ноччу выйшла ў бой...
Над сэрцам кружыць край далекі,
Шкада: далекі, блізкі, мой.

*

Пра штосьці думаць не стала сілаў —
Толькі пра тое, толькі пра тое,
Як нам вяртацца будзе міла
Ў гняздо бацькоўскае святое!

Як нас, пакутнікаў у згоне
У парастрэсеных вагонах,
У мяккіх плаўных фаэтонах
Пацягнуць, фыркаючы, коні.

Зноў даль палёў веер распусціць
Усцяж дарог у абрамленні,
І зашыпіць калёс акуцце,
Пясок цалуючы й каменне.

І вецер, сябра падарожжа,
Шпурляючы пясок з ахвотай
Над залацістым цяжкім збожжам,
Запахне смачна конскім потам.

О, падарожныя здарэнні,
Прыгадкай вашай душа дыша:
Млына над рэчкаю гудзенне,
Папас у цені лясной цішы...

А там, за грэбляю, чакаюць
Для сэрца цяжкія хвіліны:
Куст кожны скажа: «Памятаю!»
Паўтораць тое ж каляіны.

А там — буслоў убачым рухі,
На баране іх дом той самы,
І з плачам голасным на рукі
Падхопіць нас старая брама.

## *МАКСІМ РЫЛЬСКІ*
*(1895—1964)*

* * *

На свеце ёсць пявучы Лангедок,
Шампань — квітненне Францыі вясёлай,
Дзе сонца песціць кожны хутарок,
І ў вінаградах патанулі сёлы.

Дзесь ёсць Марсэль і мора п'яны дых,
Дзесь ёсць Парыж, дух генія й гамэна.
Дзесь жыў Дадэ, узнёслы, малады;
Дзесь паляваць любілі Тартарэны.

Дзесь выспа ёсць, што выславіў Шэкспір,
Дзесь Дыкенс усміхаўся праз туманы.

Дзесь ёсць, бы звер раз'юшаны, Сібір;
Плывуць сярод пустыні караваны.

О, свеце мой, далёкі смех дзяўчат,
Што йрвуць бурштын салодкі вінаграду.
Багаславёны будзе вінаград —
Асенні вытвар веснавога чаду.

*ЯР СЛАВУТЫЧ*
*(1918)*

* * *

Не даруй, як прысягу парушу,
Не зважай на распачлівы крык, —
Запалі смаласкопамі душу
І грахоўны мой вырві язык.

А як помсту не ўсыціш у смазе,
Не вагайся — пячы, каб аслеп,
Толькі дай у саромным экстазе
Мне паслухаць, як дыша твой стэп.

О, святая! О, радасць да болю!
Толькі здрадай зняслаўлю цябе,
На сыноў не дзівіся сваволю,
Што ў міжсобнай заўжды барацьбе, —

Пакарай на шырокім бязводдзі,
Дзе відзежы ў хістаннях смугі,
Каб дзяўблі каршуны мае грудзі,
І не знаў я ні ўцех, ні тугі,

Каб — спрамогшы вялікія мукі —
Я не каяўся ў цяжкім баі.
А ўпаду пад баёвыя згукі —
Ты мне раны дажджом загаі.

## ЯНКА БРЫЛЬ

**(1917, Адэса — 2006, Менск)**

Прызнацца, я вельмі здзівіўся, калі ў зборніку «Паэты Ленінграда» напаткаў пераклады Янкі Брыля. А паколькі выходзіў той зборнік у далёкім 1948-м, то і падумалася адпаведна пра ўзроставы поцяг да паэзіі — хто ж у маладосці вершаў не піша... Аказалася не зусім так. Вершы Брыль пісаў, друкаваў у заходнебеларускім часопісе «Шлях моладзі» і нават хацеў уключыць іх у першую сваю кніжку, але рэдактар К. Крапіва адгаварыў. І пэўна ж, меў рацыю — без прозы Брыля сёння немагчыма ўявіць беларускую літаратуру. Але і стаўшы славутым празаікам, незраўнаным майстрам кароткай формы, Брыль не махнуў рукой на паэзію: яна рассыпаная ў ягоных лірычных мініяцюрах, як раса на ранішняй траве. Так што можна сказаць, што ў Брыля дружба з паэзіяй — з'ява пазаўзроставая і пажыццёвая. Ды і

перакладны жанр ён не занядбаў. Што праўда, як і ва ўласнай творчасці, аддаў перавагу прозе (М. Канапніцкая, Э. Ажэшка з польскай, Л. Талстой і К. Паўстоўскі з расейскай). Цікава, як апісваў сам Брыль свае перакладчыцкія перажыванні: «Дайшоў аж да юнацкай радасці — пераклаў і, здаецца, удала, цудоўны верш Буніна "И цветы, и шмели, и трава, и колосья..."». Пераклад ні на кроплю не сапсаваў арыгіналу, наадварот, пазбавіў першатвор некаторых штампаў і стылёвых хібаў («сладостные слёзы», «милосердные колена»). Амаль неверагодны лёс у Брылёвага перакладу гумарыстычнага верша А. Міцкевіча «Голена-стрыжана», які да чытача трапіў кружным шляхам. Ён «не прайшоў» у «Вожыку» ў 1946 г., дзе тады на распараджэнне начальства прыкрылі рубрыку «Смяюцца класікі», і быў апублікаваны тамсама толькі праз... пяцьдзесят тры гады.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## ГОЛЕНА-СТРЫЖАНА

Калі хто крышку нездароў —
Адразу кліча дактароў.
Калі ж папраўдзе зойме дух —
Бягуць па раду да шаптух.
А тыя са сваёй аптэкі
Даюць на ўсе хваробы лекі:
Ад ламотаў і лянотаў,
Ад сухотаў і дурнотаў...
Ды ніводная Дарота,
Ані Зося, ані Марта
Не паможа бабе ўпартай.

Каля Згежа ніштавата
Жыў мазур. І меў ён сучку.
Пад аховай свіран, хата,
Не палезуць хлопцы ў бручку.
Ды аднойчы адвячоркам
Збегла сучка з панадворка.
Цэлы тыдзень ходзіць татка,
З кім не стрэнецца — пытае,
А тут псіна прылятае,
Ды... з аголеным азадкам.

«Ах мае ж вы! Ну й сваволяць!
Проста ўцерпець не магу!
Нават суку вам аголяць!..»
«Не аголяць — астрыгуць, —
Кажа жонка мазуру, —
Ведаю, што гавару!»
«Супакойся, шаляніца! —
Пакруціў мазур свой вус, —
Не вучы мяне галіцца,
Не тлумі мне галаву,
Без тваіх відно малітваў,
Дзе нажніцы, а дзе брытва.
Не скачы, не верашчы!

Што ты мне давесці рвешся?
Вунь у пана, быццам месяц,
Тая лысіна блішчыць.
Можа, скажаш, што і пану
Не галіць, а стрыгчы стануць?»
Але жонка звонкім тонам:
«А што ж носіць пан аконам?
Як ён вусы беражэ?
Можа, скажаш, ён іх голіць?
Ён не голіць, а стрыжэ!»

«Ну іх к чорту, аканомаў,
Разам з імі іх паноў!
Хопіць мне, што сучка дома,
Што спакойна будзе зноў!
Агаліў, пракляты жулік...»
«А я што — не рада? Чулі?
Ты лухты не гавары!..
Толькі хто ж яе астрыг?..»
«Ах, бязглуздыя нажніцы!»
«А ты з брытвай — сам дурніца!»
«Агалілі! Дам — заплачаш!»
«Не, астрыглі, вось пабачыш!..»

Крыку — ну, не разбярэш,
Дзе тут голяць, дзе стрыгуць.
Ледзь не ўвесь сабраўся Згеж,
Дый яшчэ ідуць, бягуць...

«Ой, суседзе, памажыце!..»
«Пане Янкель, вы скажыце!..»
«А мо нам найлепш усё
Растлумачыць пан ці ксёндз?»
Да ксяндза пайшлі клябана.
А адтуль — у двор да пана.
У мужчын быў сказ адзін,
Мазуру якраз у руку —
Агаліў нягоднік суку,
Як на гэта ні глядзі.

Вяртаецца з жонкай дахаты,
Смяецца мазур вусаты:
«Што ж ты маўчыш, не гаворыш?
Можа, ты мне пра сучку паўторыш?..»
Спаткала іх псіна ля плота.
«Ну, аголеная, што ты?..»
А жонка глядзіць ды кажа:
«Астрыглі... Мы ім пакажам!..»

Не стрываў тут нарэшце мазур
На гэтакі бабскі дур —
Проста ў сажалку жонку патурыў.

Прывалок, прыпадняў, панурыў,
Нібы кадзь агуркоў, у ваду.
«А што, — кажа, — цяпер давяду,
Ці стрыжана сука, ці голена,
Праклятая ты гамоліна?!»
Наглыталася баба вадзіцы,
Цяжэй усё ёй ды цяжэй,
А ўсё ж два пальцы — нажніцы —
Падняла і, пакуль утапіцца,
Мужыку над вадой стрыжэ.

І нарэшце яны тады
Разышліся ўжо — хто куды:
Яна мокрая ўподбег дахаты,
А ён у Згеж — у салдаты.

*ІВАН БУНІН*
*(1870—1953)*

* * *

Травы, кветкі, чмялі, каласы не гайдаюцца
І ад спёкі блакіт не зміргне...
Прыйдзе час — добры Бог у бадзягі спытаецца:
«Знаў ты шчасце зямное ці не?»

І пра ўсё я забудуся, толькі пабачу
Палявую дарогу, траву, збажыну —
І душу, анямелую ў слодычы плачу,
Да каленяў Яго прыхіну.

## РЫГОР БЯРОЗКІН

**(1918, Магілёў — 1981, Менск)**

Пасля заканчэння літфака Менскага педінстытута (1938) працаваў у аддзеле крытыкі тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». У красавіку 1941 г. — першы арышт, падчас эвакуацыі турмы разам з іншымі «палітычнымі» ў лесе пад Чэрвенем быў расстраляны нкусаўцамі. Пашчасціла ацалець, выпаўз з-пад яшчэ цёплых целаў нават не параненым. Пайшоў у ваенкамат і папрасіўся на фронт — узялі. Прайшоў усю вайну, даслужыўся да капітана. Паўторна арыштавалі ў 1949-м у Патсдаме, дзе служыў ваенным карэспандэнтам газеты «Советское слово». Франтавыя заслугі не дапамаглі — атрымаў дзесяць гадоў лагераў. Вярнуўшыся ў 1955-м, зарабляў на хлеб надзённы ў рэдакцыях, стаў выдатным крытыкам. У кнізе «некананізаваных успамінаў» «Аратай, які пасвіць аблокі» Р. Барадулін пісаў пра Бярозкіна: «Ён здзіўляў і маладых, і старых выключным веданнем сусветнай паэзіі. Гадзінамі мог чытаць па памяці ад беларускай, расейскай, украінскай да антычнай класікі. Сам пісаў на ідыш, па-расейску, па-беларуску. Віртуозна і пашанліва-дакладна перакладаў паэзію. Ды нічога не сабрана, не захавана». Пераклад з І. Харыка — адзінае, што ўдалося адшукаць.

*ІЗІ ХАРЫК*
*(1898—1937)*

### ВОСЕНЬ

Сёння мне добра, сёння магу я
Слухаць ля ціхіх прысад,
Як абдымае зямлю і цалуе
Бронзавы лістапад.

Сонца на камень — арол альбо рэшка?
Моўчкі кладзецца. А тут
У лісці барвовым чыесьці усмешкі
Светла, цнатліва цвітуць.

Скрозь на бярозах — кароны, кароны,
І ў кожнай кароне — прамень...
Дзень мой празрысты, багаславёны,
Яснае спеласці дзень!

Я гавару сабе: бачыш, у ззянні
Льецца святло цераз край.
Гэту зямлю у святочным убранні
Ты пацалуй — і сканай.

## УЛАДЗІМІР ШАХАВЕЦ

**(1918, в. Кімія Барысаўскага р-на — 1991, Менск)**

Дэбютаваў у 1937 г. вершам пад падазронай назвай «Слаўны Віцязь нас вядзе», але твор прысвячаўся не правадыру, а герою славутай паэмы Ш. Руставелі. Закончыў фізмат БДУ (1946), але фізіку адразу ж па атрыманні дыплома памяняў на лірыку, якую і рэдагаваў усё жыццё ў выдавецтвах. Спіс перакладзеных У. Шахаўцом кніг — пад тры дзесяткі: ад апавяданняў І. Тургенева да малдаўскіх народных казак. Паэтычныя пераклады сабраныя ў зборніку «Пераклічка» (1983).

*ХУТА БЕРУЛАВА*
*(1924)*

### ВЕРШ ЗВЯРТАЕЦЦА ДА ПАЭТА

Мой майстар і дойлід, хто ў свеце паэтам завецца,
Хто даў мне і зрок, і святло, і гарачае сэрца!

О творца мудрэйшы, адвагу тваю праслаўляю,
Без гэтай адвагі жыцця я свайго не ўяўляю.
Ты помніш: аднойчы рыбак з невялікага збана
На волю магутнага джына пусціў нечакана...

Чым думаюць людзі, магчыма, і большы я ростам...
Я ўвесь у задуме, як джын у пасудзіне простай.

## СЛОВА І ЖАНЧЫНА

Падчас не спіш ты запар дзве начы,
Каб два радкі ляглі на ліст паперы.
Ніхто не ў стане тут дапамагчы,
Калі натхненне зачыніла дзверы.

Нібы жанчына, мілая здаўна,
Капрызнічае нечага натхненне, —
Здаецца, што чакае, як яна,
Увагі і ахвярапрынашэння.

*ЮСЦІНАС МАРЦІНКЯВІЧУС*
*(1930)*

* * *
Малю цябе, каб гэты цуд адбыўся.

Ты ўмела адгадаць азёр імёны
яшчэ тады, калі яны лятали*...
Люблю! — гукала, галаву узняўшы,
і клаліся яны ля ног тваіх,
а я адзін у небе заставаўся.

Усё далей-далей з хвілінай кожнай
сплывае, што павінна знікнуць,
калі яго любоў не абароніць.
Ты ў небе бачыш — воблачка-азерца,
што з ціхаю журбой плыве на захад;
пакліч яго па імені, пакліч,
пакуль яшчэ я — не за небасхілам.

## ПАЎЛЮК ПРАНУЗА

**(1918, в. Вылева Добрушскага р-на)**

Выпускныя іспыты ў Гомельскім педінстытуце здаваў пад выбухі нямецкіх бомбаў — разам з М. Сурначовым і К. Кірэенкам. Студэнтам запомнілася, як прафесар І. Гутараў не спяшаўся ў бамбасховішча, кажучы, што на яго яшчэ не адлітая куля. Ваяваў у зенітнай артылерыі, дайшоў да Берліна і пераможна паставіў самы памятны аўтограф на рэйхстагу. Пасля дэмабілізацыі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Нясвіжскай педвучэльні імя Я. Коласа, у мясцовай школе. Шмат друкаваўся як паэт (больш за дзесятак зборнікаў), перакладаў — гады ў рады. Змешчаны тут верш Л. Украінкі адшуканы ў яе выбраным 1957 г.

* Паводле народнай легенды, азёры лятали, пакуль ім не далі назваў.

*ЛЕСЯ УКРАІНКА*
*(1871—1913)*

## FIAM NOX*

«Хай будзе цемра!» — бог зямны сказаў.
Сцямнела, і запанаваў хаос,
Як быццам да стварэння свету. Нават горай
Быў той хаос, блукалі ў ім
Жывыя душы, цемра іх душыла.
Праз міражы з хаосу выныралі
Хваробы злыя, голад, беднасць, жах, —
Жах незвычайны іх душу марозіў:
І жудасна рабілася адважным
Ад стогнаў і галодных енкаў, плачу,
Што выныралі, нібы з дна марскога,
З вялікага натоўпу. І здаваўся
Людскі натоўп часцінкаю хаоса
І голасам яго. Часамі чуўся
У цемры моцны крык: «Святла! Святла!»
Ў адказ яму грымеў магутны голас
Зямнога бога, што сядзеў на троне:
«Хай будзе цемра!» Зноўку быў хаос.

О, не адзін нашчадак Праметэя
Жывую іскру з неба здабываў,
І безліч рук было увысь прасцёрта,
Як да зары, што ўказвае дарогу.
І рассыпалася на іскаркі малыя
Вялікая нягаснучая іскра.
Захоўваў кожны іскарку здаўна
У попеле халодным, нібы скарб;
Яна не гасла, тлела ў той магіле,
Не даючы святла і цеплыні.
А кемлівы нашчадак Праметэя
У спадчыну браў долю свайго продка:
Выгнанне, мукі, ланцугі няволі
І смерць без часу ў адчужэнні дзікім...
І так цяпер, сябры! І цемра зноў!
Гэй, кліч падайце! Страшна у хаосе,
Я чула галасы адважных, вольных,
Яны луналі, нібы рэха ў лесе, —
Цяпер замоўклі. Цішыня страшнейшай
Здаецца мне, чым некалі была.
Браты мае, нашчадкі Праметэя!
Вам не арол драпежны грудзі рваў, —
Гадзюкі ў сэрца лютыя ўпіліся,
Вы не прыкуты да каўказскай стромы,
Той стромы, што вяршыняй снежнай зззяе,
Пра вязня людзям вестку падае.

* Хай будзе цемра! (лац.).

Не, у зямлянках пахаваны вы, адтуль
Не чутна звону кайданоў, і стогнаў,
І непакорных слоў...
Гэй, цемры цар!
Наш люты вораг! Нездарма баішся
Ты музыкі жалезнай ланцугоў!
Баішся гукаў грозных тых, што могуць
Працяць і сэрца моцнае, як камень.
А чым жа ты заглушыш дзікі голас
Хаосу цёмнага, крык голаду, бяды
І покліч роспачы: «Святла! Святла!»
І на яго заўжды, як рэха ў далях,
Адклікнуцца з адвагай галасы.
«Хай будзе цемра!» — ты сказаў. Як мала,
Каб заглушыць хаос і згінуў Праметэй.
Калі такой валодаеш ты сілай,
Апошні дай загад: «Хай будзе смерць!»

## ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА

**(1919, в. Канічы Касцюковіцкага р-на — 1992, Менск)**

Наўрад ці думаў студэнт БДУ В. Хомчанка, седзячы на лаўцы падсудных у 1937-м, што праз пятнаццаць гадоў у пракурорскай форме будзе сам патрабаваць прысудаў. Як наўрад ці ведалі прафесары маскоўскай Ваенна-юрыдычнай акадэміі, што іхні студэнт — у мінулым вязень Ніжне-Амурскага лагера, чатыры гады будаваў чыгунку ды раскарчоўваў тайгу. Але сталася менавіта так: Хомчанка працаваў ваенным пракурорам з 1951 г., а рэабілітацыі прычакаў толькі ў 1969-м. Не дапільнавала савецкая Феміда, дапусціўшы ў кола сваіх служак нядаўняга «ворага народа». Служыў Хомчанка пераважна ў Расеі, выдаваў свае кніжкі ва Уладзіміры (натуральна, па-расейску). Выйшаўшы ў адстаўку, вярнуўся на Беларусь, працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Пісаў прозу. Аднойчы трапіў у Італію, дзе выпадкова пазнаёміўся з будучым вялікім рэжысёрам Пазаліні, тады — малавядомым паэтам. Вынік знаёмства — перад вамі.

*П'ЕР ПАОЛА ПАЗАЛІНІ*
*(1922—1975)*

### НАКЦЮРН

Начныя зоркі, я за вас мацней,
вам не зламаць мяне і не адолець
ні радасцю, ні страхам,
ні цішынёй
нябеснага агню,
і холад ваш іскрысты
не зможа астудзіць жар сэрца.
Бясстрашнай яркай кветкай
гарыць і не рассыплецца на попел шар зямны.
І гэтак жа, як зоркі,
далёка ад мяне Бог, якога я не зведаў
і палюбіць не змог.

## ПЕСНЯ ЗВОНА

Калі ў крыніцах звонкіх тоне вечар,
сцішэлая мая радзіма
змяняе колер.
Я ўдалечы, я ўспамінаю сонны
і сумны трэск цыкад,
і месяца святло.
У кляштары далёкім
глухне звон:
я мёртвы, і звон па мне журботны
стогне.
І я лячу,
лягчэй я ветру.
І ты, чужынец, што прыйшоў сюды,
не бойся:
я дух любові, які здалёк вярнуўся ў родны дом.

## АДСУТНАСЦЬ ПОПЫТУ НА ПАЭЗІЮ

Як хворы раб або дзікі звер,
ішоў па свеце я бязлюдным,
марудлівы, быццам страшыдла
з балот, пяскоў, ці зялёных пушчаў,
валокся на пузе ці ластах,
зусім непатрэбных на зямлі,
ці на перапонках крылаў...
Вакол — са шчэбня насыпы ці грэблі,
а можа, станцыі, застылыя на плошчах
горада мёртвых — сярод вуліц, падземных пераходаў
глыбокай ночы, калі чуваць толькі
шум далёкіх цягнікоў
ды вухканне вады ў прыбіральнях.
І вось, пакуль я поўз, нібы чарвяк,
мяккі і агідны ў сваёй шчырасці,
нешта ўвайшло ў маю душу —
як быццам у ясны дзень патухла сонца.
І да пакутаў параненага звера
дадалася новая пакута, змрочная і роспачная,
і трэснуў свет сноў.
«Ніхто не просіць больш у цябе паэзіі!»
«Час скончыўся быць паэтам...»
«Ты пражыў свае гады!»
«Ты жаўцееш са сваёй паэмай "Прах Грамшы",
і ўсё тваё жывое цяпер баліць,
як незагойная старая рана,
ад якой памрэш».
А кнігі вершаў ляжаць нікому не патрэбныя...

## МІКОЛА АЎРАМЧЫК

**(1920, в. Плёсы Бабруйскага пав.)**

З разбамбаванага ў чэрвені 1941 г. Менска адступаў разам са сваім аднакурснікам па педінстытуце М. Сурначовым, які тады ж напісаў свой славуты верш «Ляжыць ён, як віцязь, у стоптаным жыце...». З Волхаўскага фронту акружэнцам-ваеннапалонным трапіў у нямецкі Рур на шахты, дзе перажыў сапраўднае пекла, апісанае пазней у рамане «У падзямеллі». Вызвалены ангельцамі, быў адпраўлены як нядобранадзейны ў Данбас, у такія самыя падканвойныя шахты. У 1946 г. удалося вярнуцца ў Менск, закончыць вучобу. Ад часу стварэння часопіса «Маладосць» у 1953-м амаль трыццаць гадоў вёў у ім аддзел паэзіі, быў зычлівым настаўнікам для дзесяткаў маладых паэтаў. У 2003 г. Аўрамчык стаў удзельнікам скандалу вакол «Сказа пра Лысую гару», калі адзіным аўтарам паэмы запрэзентаваўся Н. Гілевіч. Ледзь не дайшло да суда, але, падобна на тое, Аўрамчык адмовіўся ад суаўтарства, бо перакапальных доказаў на ганараванне лаўрамі Ведзьмака Лысагорскага не меў. Сярод перакладчыцкіх набыткаў паэта — палова паэтаў Украіны і Адам Міцкевіч, на думку Аўрамчыка, да гэтай пары неадэкватнаператлумачаны ў Беларусі.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798–1855)*

### НАД ВОДНАЙ ПРАСТОРАЙ ЧЫСТАЙ

Над воднай прасторай чыстай
Стаялі скалы-пачвары,
Вада глыбінёй празрыстай
Адбіла аблічча скалаў;

Над воднай прасторай чыстай
Звісалі чорныя хмары,
Вада глыбінёй празрыстай
Абрысы іх адбівала;

Над воднай прасторай чыстай —
Маланка, гром ціха рыкнуў,
Вада глыбінёй празрыстай
Адбіла святло, гук знікнуў.

Вада засталася чыстай,
Такой, як была, празрыстай.

Навокал вады нямала,
І ў ёй я ўсё адбіваю,
І гордыя ілбы скалаў
І бліскавіцы — мінаю.

Пагражаць — скалам-пачварам,
Дажджы перавозіць — хмарам,
Маланкам — грымець і гінуць,
Мне ж — плыць і плыць безупынна.

*ШАНДАР ПЕЦЁФІ*
*(1823—1849)*

**СЭРЦА**

Я вырву сэрца ўласнае, таму
Што абавязаны пакутамі яму.
І пасажу, каб вырас лаўр з зямлі сырой,
Таму ён дастанецца, хто герой.
Хай увянчаецца ім той,
Хто за свабоду пойдзе ў бой.

*ЛЕСЯ УКРАІНКА*
*(1871—1913)*

**ХВІЛІНА РОСПАЧЫ**

О, гора тым, каму на свет з'явіцца
Прыйшлося ў камеры, дзе змрочнае акно!
Турма, як кола злоснай чараўніцы —
Ніколі не раскрыецца яно.

О, гора тым вачам, што звыклі бачыць зроду
Вільготнае каменне, мур цвілы.
Ім шэрым здасца ўсё, як неба ў непагоду,
І свет, нібы турэмны двор, малы.

О, гора тым рукам, што звыклі у няволі
Насіць цяжкія путы-кайданы,
На волю вырвуцца — і брыдкія мазолі
Заўжды ім прыгадаюць, хто яны.

О, гора тым, хто шчыры і праўдзівы!
Калі хто веру ў Бога з іх збярог —
Пачнуць прасіць, наіўныя на дзіва:
«Сумленных ворагаў пашлі нам, Бог!»

О, гора нам! Хай гіне гонар і сумленне,
Каб толькі абвалілася сцяна турмы!
Хай будуць пахаваны пад яе каменнем
І нашы прозвішчы, і самі мы.

*УЛАДЗІМІР БЭЭКМАН*
*(1929)*

**ВАСІЛЁК**

Ад шэрых дажджоў эстонскіх
растуць лебяда і асот,
расце метлюжок прысадзісты
на мурагу для кароў.

На выгаралым полі
самотна ў калоссях жыта
нябеснай кропляй мільгае
нявыцвілы васілёк.

Вечна ратай і пекар
лічаць яго пустазеллем,
дзеля чаго гэта ў збожжы
нейкая кветка расце?
На ім ні зярнят, ні ягад,
і пчолы з яго не п'юць,
ён проста так расцвітае,
выцягвае з глебы сок.

Без жалю яго вырываюць,
бяруць на ўсякі выпадак, —
можа, ў шклянку ці кубак
дома паставіць дзіця.
Ды без гэтай нябеснай кроплі
палі ўсе сталі б сляпымі, —
як можа глядзець на сонца
поле без васілька?

## КУБА ПАЎТАРЖЫЦКІ

**(1920, Смілавічы)**

З беларускіх татараў. З першых дзён Другой сусветнай вайны — на фронце, быў двойчы паранены. Закончыў Саратаўскую ваенную вучэльню (1948), дваццаць пяць гадоў праслужыў вайсковым медыкам, звольніўся ў запас у чыне капітана медслужбы. Працаваў лекарам у паліклініцы ў Менску. Перакладамі з польскай і чэшскай моваў займаецца даўно, але друкаваўся няшмат, ад выпадку да выпадку. На дзевятым дзесятку адважыўся і пераствэрыў па-беларуску эпічную паэму Сватаплука Чэха «Пад засенню ліпы» (2118 радкоў; публікаваліся толькі ўрыўкі). У перыёдыцы 1950-х гг. друкаваў пераклады з К. І. Галчыньскага, У. Бранеўскага, Я. Бжэхвы, Я. Сайфэрта, абеларушваў польскамоўныя вершы Ф. Багушэвіча і У. Сыракомлі. Дасылаючы ў рэдакцыі свае пераклады, Куба Асанавіч у мэтах канспірацыі падпісваўся *К. Паўтаржыцкі* і па волі рэдактараў, якія паленаваліся спраўдзіць імя перакладчыка, стаў *Кастусём*. Нават у аўтарытэтным зборы твораў Ф. Багушэвіча (1991) ён не Куба, а Кастусь Паўтаржыцкі. З прыемнасцю выпраўляем памылку і вяртаем перакладчыку яго сапраўднае імя.

*ЮЛЬЮШ СЛАВАЦКІ*
*(1809—1849)*

### РАЗМОВА З ПІРАМІДАМІ

— Піраміды! Ці знайду я
Саркафаг у вашых сховах,
Каб свой востры меч сталёвы
Там пакласці, і святую
Нашу помсту ў тым булаце
Да дзён лепшых захаваці?

— Што ж, заходзь з мячом, чакаем!
Саркафаг такі мы маем!

— Піраміды! А пад вамі,
Можа, ёсць скляпы спакою,
Каб пакутнікі-героі
Спалі б да пары ў бальзаме,
І ў дзень славы каб хоць трупы
Іх вярнуць у край наш любы?

— Для герояў месца маем,
Прымем іх і захаваем!

— Піраміды! А такая,
Можа, знойдзецца ў вас чаша,
Да якое слёзы нашы,
Што ліліся ў польскім краі,
Зліць бы разам, а астатак
Даліваць слязамі матак!

— Ёсьць слязніца ў нас такая!
Польскіх слёз яна чакае!

— Піраміды! А магіла
Будзе — для душы паэта?
Я й загінуць рад, каб гэта
Нашу Польшчу адрадзіла!

— Стойкім будзь, працуй ахвотна,
Бо народ твой несмяротны!
Целы мы на схоў прымаем,
А для душаў трун не маем.

## *ЛЕАНАРД ПАДГОРСКІ-АКОЛАЎ*
*(1891—1957)*

* * *

Глянь, годна як пагодным летнім раннем
Свае пялёсткі ружа расхінае,
Як гасне бэз на фоне небакраю.
На жаль — кароткі век іх красавання.

Зірні, як дзьмуць вятры, плыве ляніва
За небасхіл флатылія аблокаў,
Як поўня падзалочвае сінь змроку,
Як шлейф туману растае над нівай.

І нам, як кветкам тым — ці раз я думаў —
Спакойна б існаваць на белым свеце,
Не мець надзеі і не знацца б з сумам;
Як ружа ці як бэз — жыць і памерці.

## АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

**(1920, в. Высокі Барок Краснапольскага р-на — 1981, Магілёў)**

Пра Другую сусветную, якую прайшоў ад пачатку да канца, пісаў лаканічна і жорстка: «Стралковая рота сопку ўзяла. ...Пад намі зямля, над намі зямля». Пэўна, такой і павінна быць паэзія пра вайну, якая заўсёды трагедыя для чалавека, нават калі ён вярнуўся дамоў пераможцам. Дэмабілізаваўшыся, працаваў у рэдакцыях, шаснаццаць гадоў — у «Магілёўскай праўдзе». Выдаў каля двух дзесяткаў паэтычных зборнікаў, найлепшыя, на мой погляд, — «Мае мерыдыяны» (1965), «Твае далоні» (1967), «Ёсць на свеце мой алень» (1978). Перакладаў ахвотна, але пераважна другарадных паэтаў — польскіх, украінскіх, расейскіх (і падрасейскіх: чувашскіх, калмыцкіх, татарскіх). Прычым калі пра татарына М. Джаліля ды яго «Маабіцкі сшытак» (перакладзены А. Пысіным на пару з С. Гаўрусёвым) яшчэ можна нешта сказаць, то дзе адшукаў Пысін украінскага паэта Брэжнева, сёння нават у Кіеве не ведаюць. Добра, што перакладаў Пысін яшчэ і былога франтавіка Х. Мальцінскага, і не заўсёды ідэалагічна беззаганных балгараў. На жаль, звестак пра Э. Розіна складальніку адшукаць не ўдалося. Звярніце ўвагу на апошнія радкі ягонага верша: як яны прайшлі ў «Магілёўскай праўдзе» ўзору 1978 г. — незразумела.

*ХАІМ МАЛЬЦІНСКІ*
*(1910—1986)*

* * *

Цяжэй за ўсё падняць свой цень з зямлі,
Хоць сам не баязлівец па натуры,
І крок ступіць між хлопцаў, што ляглі,
Насустрач кулям
З блізкай амбразуры.
Над полем бою ты на поўны рост,
І ўжо самохаць даўся крок наступны,
І ўжо не збочыш, і бяжыш наўпрост,
Нібы ты на вайне адзін прысутны
І ад цябе залежыць лёс зямлі,
Жывых раслін, падмятых траў кіпенне
І слава тых, што мёртвымі ляглі
У гэтым жа імклівым наступленні.

*ЭМІЛ РОЗІН*

### ШЫПКА

Недасяжнаю будзь для таго, хто хліпкі,
заставайся для мужных і смелых гняздом.
Хай мой верш набярэцца сілы й мужнасці ў Шыпкі, —
я гайдуцкаю куляй пішу, не пяром.

Хто пакажа мне ўзгорак апошняй магілы,
дзе апошні сягоння ўзвышаецца крыж?
Я імкнуся к табе пад жалезныя крылы,
апускаюся там, дзе ты, ўзнёсшыся ў неба, стаіш.

Боль зялёны — пад колер сармацкага сцяга,
боль зялёны — як скалы з мурожнай травой.
Снег зімою тут ляжа — маўкліва, зацята,
будзе студзеньскі снег нада мной, нада мной.

Гэта ўнук мой, напэўна, адчуе, як стане
пад крыжамі шукаць тых, хто у жніўні прынёс
на штыку нашу кветку, і сам без дыхання
і без крыку зімою завейнай замёрз.

Жнівень, жнівень ва мне, ён і ў гэтых каменнях,
і гарматы паспелі травой зарасці.
Вызваліцель, малюся табе на каленях,
і к табе на каленях павінен ісці.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ЯНКА ЮХНАВЕЦ

**(1921, в. Забродак Бягомльскага р-на — 2003, Стэйтэн-Існэнд, ЗША)**

«Цікавым, але дзікім» называлі Я. Юхнаўца ў эміграцыйных беларускіх выданнях. Ён і сапраўды рэзка вылучаўся на асноведзі ўсіх астатніх — манерай пісьма, спосабам думання, лексікай. Лексічны актыў паэта заслугоўвае асаблівай гаворкі, дарэмна шукаць у слоўніках гэткія скарыстаныя ім словы, як *сукрасњ, скойма, дасяжыць, долясць, далява, прохань, намітусь, зняveціць, тлён* і безліч іншых. Юхнавец — самы *словатворчы* беларускі паэт, наступнік У. Дубоўкі і далёкі паслядоўнік В. Хлебнікава. Вывезены ў 1944 г. у Нямеччыну, быў вызвалены амерыканскімі войскамі ў Баварыі, потым пераехаў у ЗША. Як паэт цалкам фармаваўся на чужыне і, мабыць, трохі хітраваў, калі заяўляў, што вырас з фальклору. Той моўны хаос, які Юхнавец парадкаваў у вершах, да фальклору меў гэткае самае дачыненне, як ён сам да Броўкі ці да каго з іншых савецкіх класікаў. Друкаваўся паэт у «Шыпшыне» Ю. Віцьбіча, «Беларускай думцы» М. Кавыля, «Полацку» М. Белямука, сам выдаў, літаральна ў некалькіх асобніках, уласны Збор твораў у трох тамах (1989—1990), які даслаў на радзіму. І радзіма яшчэ паспела аддзячыць — у 1994 г. у Менску ўбачыла свет падрыхтаваная А. Бяляцкім кніга Юхнаўца «Сны на чужыне», першая і перадапошняя ў серыі «Галасы беларускага замежжа»... Я не здзівіўся, калі на старонках мюнхенскай «Бацькаўшчыны» і нью-ёркскіх «Запісаў» сустрэў пераклады-інтэрпрэтацыі Я. Юхнаўца з Э. Паўнда — яны суадпаведныя і складам, і ладам сваёй паэзіі.

*ЭЗРА ПАЎНД*
*(1885—1972)*

**THE TREE**

Як дрэва нешумлівае,
я быў між дрэў у лесе
і праўдай рэчаў, раней мне невядомых,
акрыялы я стаў —

пра Дафну між галін лаўровых
й багамі жыўленую старую двойнасць,
расла што ўзвышна ліпай-дубам.

Гэтага не было, пакуль багі дабротныя
не з'явіліся і не прынеслі аж туды

сардэчнасць іхную
у паселішчы сардэчныя;
магчыма, і стварылі — о сведамасць цудоўная!

Адно дрэвам быў я сярод лесу
і шмат значэнняў рэчаў зразумеў,
тое, што раней галаву дурніла.

## SALUTATION

О пакаленне, затуманенае імкненнасцю
і заўсёды няўрымсцінае!
Я бачыў рыбаловаў бязлаберных пад сонцам;
я бачыў іх з сем'ямі неахайнымі;
у іх бываюць усмешкі ненахабныя;
чуў сарамотнае рагатанне іхнае —
шчэрацца тады, у поўны рот, зубамі.

Можа, шчаслівейшыя, чым яны ўсе,
я быў шчаслівым паміж імі.

Але рыба натолілася вадой удоваль
плавае ў вадзе голая,
ёй вопратка не патрэбна.

## ALBA

Салавей спявае, кліча салаўіху,
праз ноч усю спявае няўціхна.

Маё каханне неадступнае
сцерагу між кветак
у альтанцы,
пакуль сторож з недалёкай вежы
крыкне:

— Эй, прыгоднік, выйдзі!
Паглядзі, як светлячкі
ўночы лётаюць.

## ERAT HORA

— Удзячная табе, што будзе і што здарыцца...
А тады ты хутка адышла,
як промень сонца патускнелы
на кветках звялых,
ветрам расхінутыя на ўсе бакі.

О не! Што будзе, што надарыцца
ў адну гадзіну сонца-свету,
калі вядомыя багі,

можа, не пахваляцца
найлепшымі здарэннямі.
Прапілнуй імгненную гадзіну,
як яна мінула.

## АЛЕСЬ САЛАВЕЙ

**(1922, в. Крысава Койданаўскай воласці — 1978, Мельбурн, Аўстралія)**

У жыццяпісе А. Салаўя чытаем: «Мой дзед — былы парабак графа Чапскага; бацька Васіль — спачатку земляроб, потым інтэлігент». Будучы паэт рана асірацеў (бацькі былі рэпрэсаваныя), падлеткам мусіў клапаціцца пра двух малодшых братоў і сястру. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у цывільнай адміністрацыі мястэчка Ілля на Вілейшчыне, у рэдакцыях «Менскай газэты» і часопіса «Новы шлях» (выдаваўся ў Рызе). У 1949 г. разам з сям'ёй выехаў у Аўстралію, дзе жыў пад прозвішчам Альберт Кадняк (многія эмігранты мянялі прозвішчы, баючыся прымусовай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз). Пра сваё тагачаснае аўстралійскае жыццё Салавей-Кадняк пісаў у 1955 г. Антону Адамовічу ў ЗША: «Сем тыдняў працаваў на фабрыцы ўначы. Жыву ж у невялікай будцы. Сям'я немаленькая. Лета, гарачыня. Дзе было да сну ўдзень? Дзе было да вершаў і ліставання? Ангельскую мову крыху ведаю, чытаю, разумею, пішу элементарныя лісты ў палагоджванні якіх-небудзь справаў, гавару з жахлівым акцэнтам. Маю пару перакладаў з Кітса (зрабіў яшчэ ў 1951 г.). Пераклады няўдалыя, але калі Бог дазволіць іх калі-небудзь паправіць — тады прышлю». У паэзіі Салавей быў прыхільнікам класічных формаў; па падліках таго ж Ант. Адамовіча, ён — аўтар 71 санета, яго ж паэма «На хуткіх крыллях вольнага Пегаса» напісаная санетнай страфой. Перакладаў зрэдку, увесь наробак у гэтым жанры — не больш за дзесятак твораў (частка з іх апублікаваная ў альманаху БІНіМа «Конадні»). Праўда, у зборніку «Сіла гневу» (1948) знаходзім вершы «на матыў» Дантэ, Гайнэ. Асталяваўшыся ў Аўстраліі, Салавей марыў усур'ёз заняцца літаратурай, дасканала авалодаць ангельскай мовай, думаў і пра пераклады. У 1969 г. пісаў у Нью-Ёрк, у Беларускі інстытут навукі і мастацтва: «Узяўся за пераклады з аўстралійскіх паэтаў у беларускую мову. Неўзабаве пашлю вам. Калі будзе выходзіць у мяне адзін верш-пераклад у месяц, дык пры жыцці і здароўі, калі дазволіць Бог, праз 10 гадоў збярэцца больш сотні вершаў. І гэта сталася б зборнічкам. Назваў бы яго "Узлёты ў свет: Аўстралійская паэзія па-беларуску"». На жаль, задумку сваю паэт ажыццявіць не паспеў — у яго пасмяротным зборы твораў «Нятускная краса» (1982, Нью-Ёрк — Мельбурн) змешчаныя ўсяго сем перакладаў, у тым ліку толькі адзін з аўстралійскага паэта М. Дуна.

*РАЙНЭР МАРЫЯ РЫЛЬКЕ*
*(1875—1926)*

### ВОСЕНЬ

Спадару Божа, час настаў: пара
сукрыцца ў сценях сонечным гадзінам,
пусціць вятры ў палі красы й дабра.

Дазволь жа йшчэ ў садах даспець пладом,
двума цяплейшымі даруй іх днямі:
няхай нап'юцца вышнімі дарамі —
салодка-цьмяным і густым віном.
Хто страціў дом — таму яго не мець.
Хто сам — самому й знаць тугі абладу:
пісаць лісты, не зводзіць з кніг пагляду,

не спаць, блукаць праз гай, адзеты ў медзь,
пад неспакойным віхрам лістападу.

## МАЛЕНЬКІ ВАЯЎНІК

Я так хачу падобным быць да тых,
што ў ночны час на хуткіх конях мкнуцца,
і на бягу агні паходняў ўюцца,
як плоймы валасоў яскрава-залатых.
Наперадзе усіх хачу я быць,
як сцяг разгорнуты, што ў выш лунае, —
мой шолам залаты ў агнях паходняй ззяе.
І рад ваяўнікоў імчыць за мной,
іх шоламы таксама, як і мой,
то зблякнуць, то ізноў заззяюць,
то бліснуць шклом, а то ізноў знікаюць.
Каля мяне — трубач. І кліча ён
нямую даль, труба яго зіхціць,
змагарны гук над цемраю мігціць,
цераз якую мкнёмся мы, як сон:
дамы за намі валяцца на брук
і вуліцы трымцяць прад сілай небывалай,
пляцы здаюцца ў міласць нашых рук...
А коней нашых бег гудзіць навалай.

## СУСЕД

Нябачная скрыпка, што ўслед мне ідзеш?
І чый гэта сум неадступна нясеш
да суму маіх адзінотных гадзін?

Ці шмат іх сумуюць? Ці толькі адзін?
Ці мала у свеце ёсць гэткіх людзей,
што ў хвалях шукалі здзяйснення надзей,
бо гук твой не ўчулі ў віхуры зямной?
Чаму ж ты ідзеш неадступна за мной?
Чаму я суседам заўсёды у тых,
што абуджаюць у струнах тваіх,
што выказаць хочуць у ночнай цішы
нястрымныя жальбы самотнай душы?

## ПЕСНЯ СТАТУІ

Хто так моцна, бязмежна кахае мяне,
што гатовы на шлях небыцця?..
Той, хто дзеля мяне знойдзе смерць ў глыбіне, —
той зварушыць каменнае сэрца ўва мне,
той абудзіць мяне да жыцця.

Я сумую, бо кроў ува мне не вірліць:
маё цела — маўклівы камень.
Я чакаю жыцця: бо так хораша жыць...

Ці адважных няма, каб мяне аджывіць,
каб падаць абуджэння прамень?

І калі прыйдзе час, што змагу я прыняць
ўсе найлепшыя скарбы быцця, —
зноў пачну сумаваць,
пра камень шкадаваць,
бо крывёю сваёй, што вінож будзе граць,
не змагу я таго з нетраў морскіх узняць,
хто кахаў мяне больш ад жыцця.

## СВЯТАЯ

У полымі вайны народ марнеў ад смагі,
сцюдзёнае вады нат з падарожнай плягі
ён і глытка не меў. Дзяўчына — стройны стан —
пайшла шукаць ваду, лячыць народ ад ран.

Праз спёку, едкі дым малітвы несла Богу,
і, стому зносячы, прасіла ўсім спамогу.
Ды вось пагляд застыг на юнаку адным —
ён быў паранены. На твары маладым —

воскова-жоўты сцень, бяссілля выраз цьмяны.
Схілілася яна, перавязала раны,
прынесла ў прыгаршчах крынічнае вады.
Ящчэ вам доўга жыць, юнацкія гады.

*ЛЕАНІД ПАЛТАВА*
*(1921—1990)*

## У БАЛЬНІЦЫ

Бязмежны свет разгадвалі з запалам
і веліч гораў трушчылі у пыл.
Патройвалі патугу аманалам,
калі сваіх не выстачала сіл.
А чалавек у сонечнай бальніцы
ляжыць на ложку ў болі, у журбе,
ляжыць адна з найбольшых таямніцаў,
што мы па-рабску носім у сабе.
Ляжыць не промень, не руда, не камень,
а свету і зямлі ўладар спакон.
Ды ваш, о добрая сястра, ваш *аман*,
не ведаю, ці ўхіліць вечны сон.
Здабыта ўсё. І ёсць усё ў бальніцы:
і шкло, і ціс, фіранкі, і святло.
Прабач, нябожа, —
нашу таямніцу
спазнаць нам часу нават не было.

## АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН

**(1923, в. Машканы Багушэўскага р-на — 1994, Менск)**

Дэбютаваў у друку адзінаццацігадовым падлеткам, актыўна друкаваўся з канца 1930-х гг., праўда, пераважна як нарысіст на старонках «Звязды». У рэдакцыі газеты сустрэўся з В. Катаевым і У. Лугаўскім, якія параілі ехаць вучыцца ў Маскву. У Літінстытут спазніўся, затое колькі месяцаў перад вайной пабыў вольным слухачом у Інстытуце кінематаграфіі, дзе слухаў лекцыі А. Даўжэнкі. Зерне з сяўні «шчодрага, вечна натхнёнага, магутнага ўкраінскага Гоі» (больш позняе прызнанне слухача з Беларусі) упала не на камень — вялюгінскія кінасцэнары і сёння чытаюцца як самадастатковыя творы, шкада, што не натрапіўся рэжысёр, які змог бы напоўніцу выкарыстаць усё іх вобразнае багацце. Даўжэнка прышчапіў Вялюгіну пажыццёвую любоў да Украіны — перакладзеным украінскім сябрам няма ліку: М. Рыльскі, М. Нагнібеда, П. Воранько, А. Малышка, У. Сасюра, Б. Чалы... Улюбёны ў паэзію пабрацімаў, Вялюгін склаў зборнік «Дзень украінскай паэзіі» (1957), двухтомавую анталогію ўкраінскай паэзіі па-беларуску (1975). Калі загаворваў пра ўкраінскую паэзію, абавязкова цытаваў каго-небудзь у арыгінале; памятаю сваё здзіўленне ад радкоў ніколі раней не чутага вітаіста (ад лацінскага *vita* — жыццё) М. Іягансэна. Калі бяру ў рукі вялюгінскі падарунак — кнігу геніяльнай Ліны Кастэнкі «Вітрила» з надпісам «Анатолю Вялюгіну — дарую шматок своїх вітрил на добру згадку від усього серця», шкадую, што перакладаў пасля гэтага знаёмства не засталося. Дзякуй Богу, застаўся плён ад іншага знаёмства — некалькі вершаў А. Вялюгіна пераклала Г. Ахматава, а М. Забалоцкага ён так і называў — «мой перакладчык». Многа гадоў А. Вялюгін адказваў за паэзію ў часопісе «Полымя», быў хадзячай паэтычнай анталогіяй, шчодра дарыў маладым радкі, назвы кніг (як прыклад — «Рунець, красаваць, налівацца» Р. Барадуліна). Да «паэтычнага донарства» (а пераклады — своеасаблівае пераліванне «культурнай крыві» з аднаго арганізма ў другі) ставіўся сур'ёзна. У эсэ «Пад ветразем у полі» пісаў: «Вельмі важнай для кожнага паэта лічу перакладчыцкую працу. Перакладаць творы сапраўдных майстроў — гэта і павышэнне паэтычнай кваліфікацыі (штодзённая творчая фізкультура), і авалодванне многімі сакрэтамі, якія не заўсёды прыкмеціш і зразумееш пры звычайным чытанні». Апрача сяброў-украінцаў пераствараў Вялюгін расейскіх, літоўскіх, польскіх, чэшскіх паэтаў і свой перакладчыцкі наробак ахвотна далучаў да асноўнага — у абодвух тамах яго «Выбранага» (1984) знайшлося месца і перакладам.

*ЛЕСЯ УКРАІНКА*
*(1871—1913)*

### ХАМСІН

Хамсін* руды ў пустыні разгуляўся.
Ён, смагай палены, імчыць удалеч
І, дыхаючы полымем пякучым,
Пясок кранае крыламі сухімі.
Гулянка дзікая! Нібы жалейка —
Пясок пяе, сарваўшыся знянацку
З уласнай нерухомасці важкое.
Каменьчыкі на бубнах скрозь уторацт.
Хто ж там у жоўтай і густой імгле
Танцуе ў гонар буйнага Хамсіна?
Там хтосьці вее пакрывалам тонкім,
Так жвава-жвава круціцца, танцуе...
Якіясьці гарэзніцы-дзяўчаты,
Пустыні цьмянай і таемнай дзеці!

* Хамсін — гарачы вецер, самум.

«Чужынка, не глядзі! Засыплю вочы!» —
І з зайздрасцю накрыў Хамсін суровы
Крысом кірэі жоўтае гарэзніц.
Ніхто не смее бачыць іх. Араб
Сярод пустыні падае да долу,
Як на малітве. «Так! Маліся ты!
Я даўні бог, ■ той магутны Сет,
Што цела Азарысава, схапіўшы,
Парваў на часткі, кінуў у пустыню.
Ох, як тады Ізіда зарыдала», —
Павесялеў, згадаўшы смерць, Хамсін,
І ўся пустыня узнялася ўгору
І ў неба рынула. На жоўтым небе
Пагасла сонца — вока Азарыса —
І стала так, бы цэлы свет аслеп...

*ЮЛЬЯН ТУВІМ*
*(1894—1953)*

## САЛАВЕЙ СПАЗНІЎСЯ

Плача пані Салаўіха і сабе не верыць:
Пан Салоўка а дзевятай меўся павячэраць,
Распарадку дня заўсёды строга ён трымаўся,
Зараз будзе адзінаццаць, а яго няма ўсё.

Стыне ежа: суп з казюрак на расе мядзвянай,
Мокне ў соусе з фіялак камар надзіманы,
На ражне матыль з прыправай халадка і ценю
Для дэсерту —
Торцік з ветру ў месячным праменні.

Можа, ў лесе валацугі на яго напалі,
Пер'е шэрае абскублі, голас срэбны ўкралі?
Гэта жаўранак зайздросны, жаўранятак зграя!
Пер'е — глупства.
А вось голас? Ён не адрастае.

Ды з'явіўся тут Салоўка, свішча сабе, скача.
— Дзе ты лётаў? Дзе ты пырхаў? —
Дома жонка плача.
— Выбачай, —
Салоўка з ласкай цвіркнуў Салаўісе.
Гэткі вечар... Захацеў я пехатой прайсціся.

## РЫЦАР КРЫКАЛЬСКІ

Жыў рыцар пан Крыкальскі.
Ды хто яго не знае!
Татарына калісьці
Злавіў ён за Дунаем.

— Ура! Ура! — крычаў ён. —
Я паказаў адвагу,
Я паланіў паганца,
Сваю праславіў шпагу.

Адважна я трымаўся
І выйграў бітву гэту.
Ура, ура! Я першы
Сярод герояў свету.

Каму са мной раўняцца
З вяльможнай шляхты роду?
Хай сам кароль прыедзе
І дасць узнагароду!

Хвала мне і пашана,
Я славаю багаты!
Татарына злавіў я,
Здабыў аж тры гарматы!

Яму крычаць: — Давай нам
Татарына-нагая!
А рыцар: — Не магу я,
Бо ён за чуб трымае!

## ПТУШЫНАЕ РАДЫЁ

— Алё, алё! —
Гаворыць радыё з бярозавага гаю. —
Слухайце перадачу
З птушынага краю.
Просім прыёмнік давесці да ладу,
Птаства зляцелася ўсё на нараду:
Першая справа —
Хто гнездзіцца ў травах?
Справа другая —
Дзе рэха блукае?
Трэцяя —
Першым хто ў лесе
Купацца ў расу палезе?
Чацвёртая — як
Пазнаць, хто грак,
Хто сіваграк?
А з пятае па дзесятую
Будуць цокаць, цёхкаць, цікаць,
Сакатаць і пімпілікаць
Птушкі дзюбатыя:
Салавей, удод, юрочак,
Пліска, каня, галубочак,
Дзяцел, сойка, верабейка,
Крук, сініца, канарэйка,

Гіль, сарока, канаплянка,
Слонка, ластаўка, расянка,
Бусел з парай буслянят
Ды і іншых птушак шмат.

Салавей пачаў
З рулад:
— Алё! Ё, алё-лё-лё-лё-лё!
Цёк-цёк-цёк-цёк-цёк-цёк-цёк,
Радыё, радыйё, дыйё, ыйё, ыйё.
Ційо, трыйо, тру-лу, лу-лу-лу,
Піо, піо, рыйо, ло-ло-ло-ло-ло,
Плё-плё-плё-плё-плё-алё!

Верабейка зачырыкаў:
— Ну і песня! Ну й музыка!
Я не ўцямлю салавейкі —
Глянуць трэба ў слоўнік нейкі.
Цвір-цвір-свірк!
Свір-свір-цвірк!
Не тэатр тут
І не цырк!
Бач, наставіў пер'е шэры
І дзярэцца, як цяцера.
Досыць арый, досыць лірык.
Цвір-цвір-чырык,
Чыр-чыр-цвірык!

І пачаў цвырчаць і цвікаць,
Свіргатаць і чырчырыкаць,
Што аж певень-недарэка
Крыкнуў гнеўна: «Кукурэку!»
Тут пачуўся гвалт зязюлі:
— Што ты гукі абагуліў!
Куку-рэку? Куку-рэку?
Не дазволю недарэку!
Забяры ты ўсё, што маю,
А ку-ку — не дазваляю.
Рэ-ку крыкнуць маеш права,
А ку-ку — зязюлі справа!

Закувала ў свет:
Ку-ку...
Дзяцел: стук-стук па суку.
Чайка плача:
— Ты чыя? Ты чыя?
Нічыя здабыча я!
Нічыя! —
Перапёлачка ў самоце
Кліча дзетак піць-палоці.

Загучалі ў лесе звонка
Свергат, посвіст і гамонка:
— Дай мне! Кінь мне! Што?
Пярынку!
Ці зярнятка! Ці галінку!
Я звію, звію гняздзечка,
Пакладу ў дупле яечка!
Дай! Мае! Чыё? Мне дайце!
Для сябе вію! Чакайце!
Не дасі? На бок, сініца! —

І пачалі птушкі біцца.
— Кар-р!.. міліцыя ляціць! —
Варона крача.

Гэтак скончылася
З лесу перадача.

*ІЗІ ХАРЫК*
*(1898—1937)*

## ПОЎДЗЕНЬ

Сонца голае над самай галавой
Люта дыхае: «Вандроўнік, пакарыся...»
Збан, напоўнены да краю цішынёй,
Лёгка я нясу між кіпарысаў.

Толькі я і сонца...
Збан гліняны... Сінь...
Толькі стрэлы кіпарысаў прад вачамі.
І змяіцца сцежка вузкая з вышынь,
І цячэ з-пад ног празрыстае маўчанне.

Засень сіняя, глыбокая трава.
Я застыг, як месяц сярод ночы.
Сонна хіліцца на камень галава...
Закрывае ўсмешка мае вочы...

*ВІТЭЗСЛАЎ НЕЗВАЛ*
*(1900—1958)*

## ШВАБЫ

То цікавыя прыгоды:
Швабы* рушылі ў паходы.
Ля зачыненых варот
Поўзае пракляты зброд.

---

* Швабы (чэшск.) — прусакі.

Ён скрабецца за дзвярыма,
Лезе ў хаты, пад пярыны,
У кладоўкі, у буфет —
Зжэрці хоча цэлы свет.

Рады швабам ці не рады —
Пруць яны ў чужыя склады,
Запаскудзяць светлы дом,
Пагрызуць усё кругом.

Покуль будзе хата ў брудзе,
Зброд агідны поўзаць будзе,
З рабаўнічаю брыдой
Страціш гонар і спакой.

Не было б на свеце дзіва,
Каб, сабраўшыся ля піва,
Швабы ў пене пакрысе
Патапіліся. Усе!

*НАЗЫМ ХІКМЕТ*
*(1902—1963)*

## НЕПРЫПАЛЕНАЯ ПАПЯРОСА

Ён, напэўна, сягоння памрэ.
Душу не сагрэе свінец.
— Бывайце, —
Сказаў на світанні баец, —
Дайце мне папяросу.
— На...
— А запалкі?..
— Прыпалю я ад куль, —
Цвёрды, як сталь,
Халодны, як лёд,
Пайшоў ён туды,
Не прыходзяць адкуль.
Ён, напэўна, ужо ляжыць.
Зрабіў ён сваё на свеце.
Рана ў грудзях...
Папяроса ў зубах...
Вецер...

*ГЕНАДЗЬ ШВЕДЗІК*
*(1914—1942)*

## СПЯВАЮЦЬ ПЕЎНІ

У крыку — слодыч і пакута:
Што можа сэрцу быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?

Яна з сардэчнаю тугою
Гучыць аднекуль з дальніх хат,
Хвалюе снежнай цішынёю
Людзей, аглухлых ад гармат.

Яна мне поўніць шчасцем грудзі.
Пра салаўя — не гавары,
Калі пачуццяў столькі будзіць
Хрыпаты певень на зары!

І сэрца гнеўнае салдата
Цераз агонь варожы мкне
Да беларускай роднай хаты,
Дзе радасна жылося мне.

У крыку — слодыч і пакута:
Што можа сэрцу быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?

*ЛІЯ БРЫДАКА*
*(1932)*

* * *

У засені цвіце грыбная плесня.
Сустрэўшыся з дажджом,
              худзеюць рукі дрэў.
Асенні лес...
              Ён асыпае песню,
Якую вецер з травеня шумеў.

Чаму, пабачыўшы пажар прыгожы,
Стаіш, агорнуты трывожнаю тугой?..
Глядзі: бяроза...
Там, на раздарожжы...
О, колькі полымнай красы, пяшчоты ў ёй!

Лісцё ляціць, халодным жарам бліскае.
І дрэмле радасць новых лісцяў у галлі...
Усё спалі,
Што сэрцу хоць і блізка,
Але ўжо лішнім сталася, —
              спалі!

## АРТУР ВОЛЬСКІ

**(1924, Койданава, цяпер Дзяржынск — 2002, Менск)**

Нарадзіўся ў памежным мястэчку, дзе (працытуем з аўтабіяграфіі) «мы, дзеці, гулялі ўсе разам — і беларусы, і расейцы, і палякі, і яўрэі. І гаварылі на ўсіх чатырох мовах, і ўсе разумелі адзін аднаго». Бацька (пазней — вядомы пісьменнік Віталь Вольскі) служыў у ВЧК, і сыну запомнілася, як той чысціў дома свой чорны наган. Шкада, што Вольскі — аўтар трох дзесяткаў розных кніг — не пакінуў мемуараў, ён мог бы расказаць пра многае. У эвакуацыі ён быў сведкам раптоўнай смерці З. Бядулі на станцыі г. Уральска, калі эшалон нечакана крануўся, і бежанцы на хаду мусілі заскокваць у цяплушкі: «Ва Уральску ішоў снег, а Бядуля ляжаў пад адкрытым небам на пагорку з каменнага вугалю ў сінім гарнітуры, з ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга»... Гадоў пятнаццаць А. Вольскі працаваў у Тэатры юнага гледача, шмат пісаў і перакладаў для дзяцей. Лічыўся дзіцячым паэтам, таму не трапіў у трохтомавую «Анталогію беларускай паэзіі» (1993). «Забыліся на мяне», — скрушна ўсміхаўся ён, падпісваючы мне апошні свой зборнік «След завірухі» (2000).

*БЕСІКІ*
*(1750—1791)*

### З САЛАЎЁМ Я СТАЎ СПРАЧАЦЦА

З салаўём я стаў спрачацца, славячы каханне.
Пра цябе мае ўсе мары з вечара да рання.
Ружа сэрца мне праціяла цернем. Спачуванне
Кожны выказаць гатовы, хто на рану гляне!
Але марна ■ блукаю, прагнучы спаткання.

Ты — як ружа, што ў Эдэме свой бутон раскрыла,
Кветкі іншыя красою ўласнай надзяліла.
Салавей твой траціць розум і губляе сілы.
Не здзіўляйся: без цябе мне белы свет нямілы!
Закаханага ты можаш спапяліць дазвання.

Аддаю табе я сэрца, ты ў адказ — ні слова,
Плачу я і ўдзень і ўночы, у труну гатовы.
Для цябе мае пакуты — радасці аснова.
Што замест жыцця дасі мне, каб ажыў нанова?
Я памру, калі ты будзеш так хаваць маўчанне.

На маім пакутным целе — тваіх дзідаў раны.
Ды такіх, як я, нямала можа быць сабрана,
Доказы тваіх злачынстваў у Кітай пасланы,
Калі ёсць дзе справядлівасць — будзеш пакарана!
Не глядзі ж ты гэтак грозна, маё сэрца вяне.

Ты наставіла мне пастку, а ў вачах — лагода.
Спадзяваўся, што ўсміхацца будзеш мне заўсёды,
А рукою дакрануўся, раны — ўзнагарода.
Як табе сваёй ахвяры — Бесікі — не шкода!
Гора мне, лунаць у марах я ўжо больш не ў стане.

*ЭЦІМ ГУРДЖЫ*
*(1875—1940)*

## КРУЦІЦЦА СВЕТ

Свет ляціць у вечнай крутаверці,
круціцца, нібы ганчарны круг,
не ўцячэ ніяк жыццё ад смерці,
паланіў усіх бязладны рух,
нехта аж заходзіцца са смеху,
нехта стогне, а другі — пяе,
той знаходзіць у раскошы ўцеху,
а ў таго — на саван не стае,
нехта рад багатаму пасагу,
і нявеста зззяе пад фатой,
а другому — хлопцу-бедалагу
век не знацца з радасцю такой.
Хрэсьбіны, вяселле, танцаў пошчак, —
гулям аж да раніцы гусці,
а паблізу ўжо ляжыць нябожчык,
што не еў прысмакаў у жыцці.
Ды ў зямельку ўсе, як ні хітруйся,
Пойдуць, крыж — агульны ўсім вянец.
Эх, Эцім Ґурджы, і ты рыхтуйся,
бо чакае ўсіх адзін канец!

*ВАЛЕРЫЯН ГАПРЫНДАШВІЛІ*
*(1888—1941)*

## СКУЛЬПТУРА БЕТХОВЕНА НА ЛЕВАЙ СЦЯНЕ ТБІЛІСКАЙ КАНСЕРВАТОРЫІ

З сценнае нішы ты паглядаеш —
Вочы, бы ў грыфа, львіная грыва.
Грузіі неба ці ўпадабаеш,
Ці ты прызнаеш долю шчаслівай?

Важка кранаеш клавіш каменны,
Ґукі, як з прашчы, мкнуць у разлогі.
А верабейкі з тлумам нязменным
Смела паселі проста на ногі.

Оперу ўважыў апекаваннем.
Чуючы басу гром і знадворку,
Ты назіраеш поўні ківанне,
Моўчкі цалуеш згаслую зорку.

Спознены, часам спынюся ціхмяна:
Можа, нарэшце скажаш мне што ты.
Ды, не змяніўшы позірк туманны,
Ловіш ты прагна поўначы ноты.

— Слухай праз гукі хвалебнага хору
Раны, што песню ў сэрцы мне спеляць!.. —
Шчыра скажу маўчуну-дырыжору,
Ён, спадзяюся, сум мой раздзеліць.

*ЮСЦІНАС МАРЦІНКЯВІЧУС*
*(1930)*

## БРАТ

Лепей давай памаўчым,
можа, абодва ўбачым:
п'юць ля калодзежа коні,
пысы ўзнімаюць —
падае з вуснаў вада.
А на высокім схіле
іх велізарныя цені.
Гэтак заходзіць сонца.

Бусел на даху.
Як дзень прамінулы.
Стаіць і глядзіць.
Адчынены насцеж вароты —
вяртайцеся ўсе дадому.

Крокі — як дождж —
усмакталіся ў глебу глыбока
і непрыкметнымі жыламі
ў студню прыбеглі.
Вады зачарпні для мяне.
Проста з вядра буду піць —
дзень быў нялёгкі.

Явар у цемры — як палец,
пагрозліва ўзняты.
Не бойся:
нам толькі здаецца,
што вечныя мы.

## АПОШНЯЯ БАЛАДА

Кашаль — як тупы спрадвеку нож.
Сонца
сочыцца ў сардэчкі аканіц.
Сціхла ўсё — каструлі, вёдры, дзверы.

Закрэслена аджытае даўно,
мухамі заседжаным крыжом — акно:
ідзі ўжо, ідзі, жыццё ты маё!
Нашто яшчэ ўпіраешся ў вушак дзвярны,
нашто яшчэ чапляешся за слуп варот?

Вось толькі рукі зараз дзе падзець
з пальцамі, пакурчанымі болем,
з завусеніцамі каля пазногцяў,
вялікія, нязграбныя, аж сорам.

Анёльчыкі — мае унучаняты,
умытыя й святочна апранутыя,
на сцежку да магілак сыплюць кветкі.
Чакайце — пайду сякеру заганю ў цурбак,
каб не згубілася.

Намацваюць пад ложкам ногі доўга
старыя боты ў плямах перагною —
няўжо ісці да Бога басанож?

## АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ

**(1925, леснічоўка Уздымач Слуцкага р-на — 2005, Менск)**

Прадзед А. Траяноўскага за ўдзел у нацыянальна-вызвольным Лістападаўскім паўстанні 1830 г. быў пазбаўлены шляхецкага звання і пераведзены ў аднадворцы. Праўнук, не атрымаўшы ў спадчыну маёнтка, успадчыніў іншае, не менш істотнае, — шляхецкую годнасць і незалежніцкі характар. Чалавекам з непадканвойнай душой называлі Траяноўскага знаёмцы, у яго маленькай кватэрцы на Лагойскім тракце ў «застойныя» часы збіраліся для шчырых гутарак, немагчымых у рэдакцыях. Перакладаць пачаў яшчэ ў 1944-м на 3-м Украінскім фронце, але публікавацца не спяшаўся, з падборкай вершаў лужыцкіх сербаў выступіў толькі ў 1969 г., удзельнічаў у падрыхтоўцы паэтычнага зборніка «Там, дзе Шпрэвя шуміць» гэтых закінутых за Одэр славянаў. На польскім Памор'і «выявіў» яшчэ адзін старажытны, хоць таксама нешматлікі (да 300 000) народ — кашубаў — і адзін зрабіў анталогію кашубскай паэзіі «За даляглядам край Сталемаў» (1980). Дарэчы, падобныя кнігі выйшлі толькі ў Беларусі і Аўстрыі (там пастараўся Ф. Нойрайтэр). Апошняя па часе сур'ёзная праца А. Траяноўскага — украінская анталогія «Імем няўмольным Свабоды» (2002), куды ўвайшлі вершы двух дзесяткаў паэтаў, знішчаных акупантамі альбо асуджаных на эміграцыю. Тамсама ўпершыню ў беларускім друку былі прыведзеныя жахлівыя лічбы і паралелі: 15 снежня 1934 г. на Украіне за адну ноч былі расстраляныя 15 паэтаў — такая самая ноч доўгіх нажоў праз тры гады прыйшла і ў Беларусь: з 29 на 30 кастрычніка 1937 г. былі знішчаныя 20 пісьменнікаў. Нашы «расстраляныя музы» (Я. Славутыч) праз перыскопы крыжоў глядзяць на нас з Бабіных Яроў і Курапатаў. Прыканцы жыцця А. Траяноўскі перакладаў з польскай мовы рэлігійную літаратуру для Каталіцкай царквы, якая ўпершыню за сваю гісторыю мэтанакіравана загаварыла са сваімі парафіянамі па-беларуску. Калі Траяноўскі памёр, адпявалі яго ў менскім касцёле Святых Сымона і Алены па перакладзеным ім самім беларускім службоўніку.

*ІВАН ФРАНКО*
*(1856–1916)*

### ДВА ВЕРШЫ

I
Д'ябал, дэман злы расстання,
Дзікіх мрояў і начэй,
І душэўнага канання,
І няспраўджаных надзей!

Не магу трываць разлукі!
Буду я нявольнік твой,
Сам табе аддамся ў рукі,
Толькі сэрца супакой!

За табою без вагання
Ў пекла я пайсці гатоў.
У мяне адно жаданне —
Дай ты мне яе любоў!

За цалункі, за пяшчотнасць
Тысяч сто гадоў гарэць
Згодны я, аддам ахвотна
Ўсё, што ёсць, што буду мець!

II
І ён з'явіўся мне. Не як злыдух з рагамі, —
Як снілася калісь, — з хвастом і капытамі,
Што серкаю смярдзеў,
А як прыстойны пан з пенснэ і парасонам —
Ці жыд, ці езуіт. Мо ўчора, а мо сёння
Яго я недзе стрэў.

Стаў. Твару не відаць у прыцемках пакоя,
З ухмылкай ляпнуў мне па плячуку рукою.
«Го-го! — стаў рагатаць. —
Вось навіна! Кур'ёз! Пан пекла сабе зычыць!
Пан — рацыяналіст, бязбожнік — чорта кліча!
Душой стаў гандляваць!

Дык вы ж не верыце, васпане мой, у Бога!
Зусім нядаўна тут, за гэтым вось парогам,
Падслухваў я не раз,
Як галасілі вы, нібы той канфіскабель*:
"Ne croyant pas au Dieu je ne croye pas au diale!"**
Што ж падмяніла вас?

Няўжо я — а, pardon, што зразу не назваўся,
Хто я! Ды пан хіба, як бачу, здагадаўся —
Няўжо я бліжай вам
Ці больш даступны за самога Пана Бога?
Ці да нячысціка лягчэйшая дарога,
Чым у нябесны храм?

Я ўдзячны шчыра за давер ваш! Разумею!
У вас турботы ёсць і ні на грош надзеі.
Казалі ж: як бяда,
То чорт табе ўжо брат ці нават жыд. Дык што там,
Што столькі год мяне турылі ўсе ў балота,
Крычалі: чорт — брыда!

* Той, чыя маёмасць падлягае канфіскацыі.
** «Без веры ў Бога я не веру і ў д'ябла!» (франц.).

Вось бачыце, куды вядзе неасцярожнасць!
Уліплі так, што хоць літанні ўзнось набожна
Або — у чорта вер!
Ды і з душой у вас! Ах, з гэтае нагоды
Смяяцца мушу зноў. Бо ці ж не асалода
Чуць пра душу цяпер?

Сто тысяч год гарэць гатовы? Дружа слаўны!
Вось гэта дык размах! Але зусім нядаўна
Ці ж не сказалі вы:
"Душа — нервовы рух"? Калі ж загінуць нервы,
Дык і душы капут? Ці ж гэта ўсё цяпер вы
Турнулі з галавы?

Чаго ж, скажыце мне, афэрта ваша варта?
Яна ў благой гульні — як шулерная карта.
Не сорам — махляваць?
Патрэб нямала ў вас, а больш яшчэ — жаданняў,
А мне за гэта — пшык? Не ўдасца, мой васпане,
Вам чорта ашукаць!

Ды вы, мой галубок, далі афэрту позна!
Бо ваша душачка — карчомка ў дзень завозны, —
Начлег для нас усіх.
Купляць такі кляйнот мо стаў бы бзікаваты,
А я ж вазьму дарма, без непатрэбнай траты
І без дакук дурных.

І ведайце яшчэ. Вось тое, з-за чаго вы
Сябе вярэдзіце, душу прадаць гатовы,
Прыдбалі мы якраз.
Рыхтуйцеся ж, панок, у пекла, як да балю!
Я ўласнаручна там аддам вам вашу кралю.
Au revoir* у нас!»

Зарагатаў, маё плячо крануў далонню
Ды борздзенька пайшоў — відаць, багата сёння
Меў ён важнецкіх спраў.
А я стаяў, як слуп, усё нутро гарэла:
Не тое, што хацеў, па чым душа смылела, —
А дулю я ад чорта атрымаў!

## *АЛЯКСАНДР ОЛЕСЬ*
*(1878–1944)*

* * *

Сінела ноч, мільгалі зоры,
Драмала ў цемрадзі сяло,
І раптам вогненнае мора
Шугнула ўгору, загуло.

---

* Да пабачэння (франц.).

Натужна бухнуў звон спрасонку,
Махнуў абсмаленым крылом,
І быццам птах, адчайна, звонка
Панёс трывогу над сялом.

«Вады! Вады! Ратуйце, людзі! —
Чутно вакол. — Нясі, тушы!»
«Ох, Божа мой, што ж гэта будзе?!
Чаму няма тут ні душы?»

«Падай драбіну, кінь лапату,
Бяжы па лом, разбі акно!..»
«Куды? Куды? Не лезь у хату, —
Палае там усё даўно».

«Вады! Вады! Ратуйце, людзі!»
«Што-небудзь дай страху накрыць!»
«Ох, Божа мой, што ж гэта будзе?!
Гарыць, дашчэнту ўсё згарыць!»

А дзесьці збоку, пры дарозе
Сярод жанок — і плач, і жах,
Там дзеці мерзнуць на марозе
І немаўляты на руках.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гарыць у полымі Ўкраіна...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але на крык, бядой спавіты,
Ніхто з сыноў яе не йдзе,
І звон, чужой рукой разбіты,
Над краем нашым не гудзе.

## *МІХАЙЛА ДРАЙ-ХМАРА*
*(1889—1939)*

* * *

...Гарэлымі сярнічкамі-вуглямі
на шэрых сценах дні свае лічу,
п'ю келіх роспачы, турэмны камень
штодзень удоўж і ўпоперак тапчу.

Хмялею... Коней запрагаю ў шоры,
лячу за тым, што страціў назаўжды,
каб дзесьці у асмужаных прасторах
дагнаць свае юнацкія гады.

«Вярніцеся, — гукаю, — хоць у госці!»
«Не вернемся!» — мне чуецца згары.
Я на калінавым заплакаў мосце
і зноў убачыў шэрыя муры,

і лапік неба сіняга, у кратах,
і вока незадрэмнае ў «ваўчку»...
Не мчацца мне ўжо на гнядых крылатых:
замураваны ў каменным мяшку.

*ПАЎЛО ТЫЧЫНА*
*(1891–1967)*

* * *

Не Зеўс, не Пан, не Голуб-Дух —
А Сонцавы Кларнеты.
У танцы я, рытмічны рух,
У вечнасці — планеты.

Я быў не Я. А мара, сон.
Навокал — звоняць гукі,
І цемры творчае хітон,
І дабравесця рукі.

Ачнуўся я — і я ўжо Ты:
Над мною і пад мною
Бяжыць сусвет — свет нематы
Музычнаю ракою.

І я глядзеў, і я вяснеў:
Акорды шлюць планеты.
Дазнаўся я, што Ты не Гнеў —
А Сонцавы Кларнеты.

*МАРКА БАЯСЛАЎ*
*(1911–1952)*

## ВЯСНОВЫ ВЕЧАР

З бандурай вечар у бары прысеў,
Над полем — карагоды ценяў чорных,
Сярпом срабрыстым месяц зазвінеў,
Спяваюць гучна недзе ў вёсцы жорны.

Рагоча весела ў стаўках вясна.
Ад водару вяснянага я п'яны,
Гляджу — аж там, дзе далеч ледзь відна,
Зямля і неба — нібы акіяны.

Плывуць яны няспешна у прастор,
Варушыць воды плёсаў вецер кволы,
Глядзіцца вечар мройна ў россып зор...
Пад латакамі млынавыя колы
Ґуркочуць громам.

ЛЕАНІД ПАЛТАВА
(1921–1990)

## ШУКАЛЬНІК ЗОЛАТА

Яліны гонкія. І лес прыціхлым зверам
Стаіць над безданню, закованай у лёд.
Дыхнула зноў нямераным Сіберам,
Хоць тут Сіберы не было сто год.
А ў глыбіні, у белай прорве ямы,
Што ўжо забыла пра кландайцкі век,
Ляжыць там з распасцёртымі рукамі
Пад сінім лёдам белы чалавек.

Ляжыць крыжом, у скарчанелай позе,
Зняможаны, спачыў тут пад скалой...
Сто год ён спіць на стыні і марозе,
Увесь пакрыты лёдавай бранёй.
З малітвай адыдзі адсюль, паэце,
Замерзлага не вернеш з небыцця:
Хай пажыве яшчэ тут на планеце —
Без золата, без шчасця, без жыцця.

## ОДА ПАМІДОРУ

*Вже червоніють помідори...*
*Максим Рильський*

Агнішчам сонца не падменіш,
Без якара не з'якарыш.
Прамерзлы хлеб жуеш, як сена,
І — Божа! — памідора сніш.

Прыгожы ён, чырвонашчокі,
І аж свіціцца ў глыбіні!.. —
...Мінае варта. Ціхнуць крокі,
І вые воўк з далечыні.

Зноў сняцца, мрояцца гароды,
Дзе над Данцом ва ўсе гады
Дае нам сонца асалоду —
Чырвонабокія плады!

І тут, аж пад Палярным Колам,
Дзе ў ціш нямую калідор, —
Так пахне украінскім полем,
І сонцам зззяе — памідор!

*ЯН ЗБЖЫЦА*
*(1929)*

## ПЯСНІЦКІ ЎЗГОРАК

Крылом, быццам крэсівам,
Чыркнуў ляляк па вадзе,
Другім узвіхрыў
Пыл на беразе стромым,
Кажаном прамільгнуў
У адвечнай цішы.
Паімкнула за ім
Усё птаства ў пагоню,
Бакас у палёце
Сеяць стаў травы...

Узгоркамі
Праходзяць між вогнішчаў,
Што не згасаюць тут днём і ўначы,
Рады паняверaных і збезнадзеяных,
Каб легчы не ў дамавіны,
А проста ў сырую зямлю.

Тут цвілі верасы яшчэ ўчора,
Сёння ж — ямінаў пашчы, жаўцее пясок.
Чутны дзікія спевы пра «веліч Германіі»,
Ад камлёў бору густога —
Рыкашэт смерці.
Сведка ўтрапелы стрэлы лічыў —
У лесе паблізу дровы ён сек
І думаў: не сарна загінула дзесьці,
А чалавек.
Ды збіўся ён з ліку:
Хто ж рыкашэт можа злічыць?

Крочыш сёння па тых пералесках,
Дзе крывёю аброшаны долы,
І лічыш, як той першы, стрэлы:
Адзін, другі, трэці...
Крыжы над людскімі магіламі.
Пад імі тысячы замардаваных
Спяць у пясчаных пасцелях.

*КІТА ЛОРАНЦ*
*(1938)*

## ВОСЕНЬСКАЯ ЭЛЕГІЯ

Рассыпана жоўтае лісце бяроз у люстэрку
нябеснай блакітнае студні,
дзе на дне ўтравелым ляжаў я
улетку.

А можа, не лісце жаўцее на дне,
а медзякі, якіх хтосьці насыпаў на шчасце.

Полымем жоўтым гарыць, палыхае ужо
дарога ў прысадах праз ельнік зялёны —
гэта рушыла восень з паходняй сваёй
да дубровы, як быццам да міннага поля.
Але я марна чакаю нейкага
выбуху.

І сонца арэ ўжо нарогам тупым
хмараў панурых іржышча густое
ад усходу свайго да заходу
пад снегавую сяўбу.
А што робіць месяц? Ягоны самотны жыхар
малоціць начамі.

І так ці інакш: а спяшацца
я мушу.

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938—1985)*

* * *

Як ціха на зямлі! Як ціха
і як нясцерпна — без нябёс.
Віжуе нас за ліхам ліха,
каб не памёр і не ўваскрос.
Галгофа, што спаслана Богам,
вядзе ў правал, а не да зор,
і цень шыбуе ў той прастор,
брыдзе па схілах з асцярогай.
Навошта, доля ліхаклята,
твая прастрацыя пакор?
І думка, як страла, напята,
і закліканняў хрыплы хор?
Ды зноў муры як задрыжалі,
сказалі змрочна — пачакай,
яшчэ паўстане з горкіх жаляў
твой беспатольна скрушны край.

## ВІКТАР ШВЕД

**(1925, в. Мора Беластоцкага в-ва; цяпер Польшча)**

Вядомы на Беласточчыне як дзіцячы паэт, адзін з найбольш актыўных сяброў літаратурнага згуртавання «Белавежа». Закончыў Акадэмію палітычных навук і два факультэты — журналістыкі і беларускай філалогіі — Варшаўскага універсітэта. Працаваў у беларускім тыднёвіку «Ніва» (Беласток) і польскім выдавецтве «Ксёнжка і ведза» (Варшава). Аўтар сямі вершаваных зборнікаў, пяць з якіх выйшлі ў Беластоку, астатнія — у Менску. Перакладае не

толькі з польскай на беларускую, але і з нямецкай на польскую. Зацемім, што выдатны польскі паэт Е. Плютовіч, які тут склаў кампанію нобелеўскай лаўрэатцы В. Шымборскай, лічыць сябе патрыётам Польшчы і аднгачасова — беларусам і расейцам, з увагі на сямейныя карані.

*ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА*
*(1923)*

**НЕКАТОРЫЯ ЛЮБЯЦЬ ПАЭЗІЮ**

Некаторыя —
вядома што не ўсе.
Нават не большасць усіх, толькі меншасць.
Не лічачы школаў, дзе — абавязак,
і саміх паэтаў,
будзе гэтых асоб хіба дзве на тысячу.

Любяць —
але любім таксама булён з локшынай,
любім кампліменты і блакітны колер,
любім стары шалік,
любім настойваць на сваім,
любім лашчыць сабаку.

Паэзію —
толькі што такое паэзія?
Не адзін хісткі адказ
на гэтае пытанне меў месца.
А я не ведаю і не ведаю і трымаюся гэтага
як выратавальнай поручні.

*ЕЖЫ ПЛЮТОВІЧ*
*(1947)*

**ВУЛІЦА НА ПРАДМЕСЦІ**

Іду, быццам патанаю. Сляпая вулачка.
У адчыненым акне пакрыквае патэфон.

Накармі мяне музыкай. Мелодыяй з дзяцінства,
Што да гэтай пары адбіваецца ў старых люстрах.

Краявід не з вялікай літаратуры.
Гэта ж прадмесце. Прадмесце.

Гэта плот з завостраных дошак. Гэта ж плот.
Уваход у гарод сцеражэ расквітнелая вішня.

Захлынуся цемрай. Абкрадзены ёю,
Дакрануся да тваёй скуры, як шукаючы скарбу.

## ХВЕДАР ЖЫЧКА

**(1927, пас. Марс Жлобінскага р-на)**

Першыя перакладчыцкія спробы студэнта-завочніка Хв. Жычкі падтрымаў выкладчык маскоўскага Літінстытута імя М. Горкага Я. Хелемскі, які сам шмат і няблага перакладаў беларускую паэзію. Праўда, пачынаў Жычка, «марсіянін» паводле месца нараджэння, не з лепшых узораў — перастварыў па-беларуску верш украінскага паэта А. Малышкі, прысвечаны «бацьку народаў» (быў 1952 г.). Потым звярнуўся да праверанай часам класікі — асобным выданнем выйшла драма-феерыя Лесі Украінкі «Лясная песня» (1971). Пісаў дзіцячую прозу, выдаў з дзесятак уласных паэтычных зборнікаў. Чатыры гады (1972—1976) рэдагаваў тыднёвік «Літаратура і мастацтва» і, як сведчаць сучаснікі, быў не горшым рэдактарам. Спецыялізуецца пераважна на чэшскай паэзіі, падараваў беларускаму чытачу паэзію В. Незвала (зборнік «Васількі і гарады», 1986), І. Скалы («Вітаю вас, вокны», 1995). Яшчэ дзве бясспрэчныя заслугі Хв. Жычкі — складзеныя ім паэтычныя анталогіі: чэшская «Высокае неба» (1980) і «Славацкая паэзія» (1990). За перакладчыцкую дзейнасць быў узнагароджаны медалём В. Незвала (Чэхія) і ганаровым знакам Славацкага літфонду. Як няшмат хто з калегаў па перакладным цэху, выдаў кнігу выбраных перакладаў «Вокны ў сад» (1987), ледзь не палову якой, на жаль, склалі творы другарадных расейскіх паэтаў. А найлепшы свой пераклад — «Гарадское каханне» П. Нэруды — перакладчык чамусьці не ўключыў у сваё выбранае.

*ЯН КРАСКА*
*(1876—1958)*

### СТАРЫ РАМАНС

За гарамі, за даламі
мерзла пані маладая;
ёй бы распаліць агеньчык,
ды падпалка ўся сырая.

За гарамі, за даламі
хлопец жыў прыгожы, бравы;
накалоў ён з сэрца трэсак
і расклаў агеньчык жвавы.

Весела гарыць агеньчык,
пані ж: «Зябну! Замярзаю!»
«Грэйся, пані, — кажа хлопец, —
я ў агонь душу кідаю...»

За гарамі, за даламі
пані грэецца заўзята.
А стары гандляр за попел
плаціць ёй штодня дукаты.

*ВІТЭЗСЛАЎ НЕЗВАЛ*
*(1900—1958)*

## БУДУЧАЕ ПАКАЛЕННЕ

Загар грудзей жаночых нагадаў
мне ў тропіках зялёную палянку
дзе белы смачна гладзіў негрыцянку
на мяккім дыване гарачых траў

Жанчыну б гэту я ў муслін прыбраў
і ў прэрыі завёз яе смуглянку
ля возера гуляў бы з ёй да ранку
пяшчотамі пачуцці абуджаў

А потым раздзяваў бы яе ўмела
цалуючы калені грудзі вочы
ад радасці п'янеў нібы ў сне

І зоркамі абсыпаў яе цела
каб неўзабаве ў гонар гэтай ночы
паэта-сына нарадзіла мне

## АДПАЧЫНАК

Прачнуўся я ў гарах глыбокай ноччу
далёка ад крыніц яшчэ далей ад зор
і лёгка мне было па бездаражы крочыць
я зразумеў бадзяг іх родны дом прастор

Нібы пасля хваробы прагна вочы
глядзелі на лясы і на абрысы гор
ішоў я і не мог спыніцца або збочыць
і кулакі сціскаў бы некаму ў дакор

Аддаўся чарам я і толькі піў маўкліва
густы настой высакагорных траў
і чысты ў думках быў мо больш шчаслівы

чым зрынуты кароль які на паланіне
па гуку пастаралі адшукаў
пастушку што калісьці бачыў на карціне

*ПАБЛА НЭРУДА*
*(1904—1973)*

## ГАРАДСКОЕ КАХАННЕ

Студэнцкае шалёнае каханне
з кастрычніцкім агністым ліставеем,
з трамваем, што звініць на скрыжаваннях;

пякучыя, нібы вада, дзяўчаты,
і на прасторах Чылі — снег і гліна,
змяшаныя ў адно святло і цемра,
букеты руж, што ўпалі у пасцель
з раздзетай Розай, Лінай ці Кармэн,
пазбаўленымі, пэўна, сваёй тайны
ці таямнічымі яшчэ, сплялiся
ў абдымкі, ці спіраль, ці ў вежу,
ці ў катаклізм язміну й вуснаў —
учора ці заўтра ўжо? Куды ж ты
сплыла, мая вясна? О рытм
наэлектрызаваных сцёгнаў маладых,
о светлы выстрал спермы
з тунеля цеснага насустрач роду,
крывёю сплылы вечар з нардам
у паўдрымоце, і сярод папер
мае радкі, напісаныя там,
з ферментам чыстым і празрыстай хваляй,
з галубкаю і шоўкам пасмаў светлых.
Каханне адначаснае і страснае,
і прагнае, і сквапнае — ключом у ключ, —
агульнае і ў той жа час прыватнае!
Вось так і ты, паэзія мая,
ніколі не была самоты плодам,
бо нарадзілася ў імгненне тое,
калі зямнымі вуснамі сваімі
я шчокі поўні прагна цалаваў.

*ВІЛЕМ ЗАВАДА*
*(1905—1982)*

## ДРЭВА ЛЯ ДАРОГІ

У чорнай кароне неба
дрыжаць залатыя лісты зор
а ноч распалена марозам

Дрэва ля дарогі
аблепленае інеем
у месяцовым святле ззяе
як крыштальнае люстра з лёду

Пажыццёвы вязень зямлі
прыкуты да яе кандаламі
зімой як жабрак дапамогі просіць
а летам само ўсімі рукамі раздае

З парэпанай карой
і з апухлымі суставамі
крочыць у вясну праз снягі і ваду

і калі адступяць марозы і абсохнуць пагоркі
прачнецца ў ім сок
самая мірная сіла
якая не трушчыць а ўсё ажыўляе

Раскінуўшы голле ва ўсе бакі
адразу ж пасля адлёту пчол
тое чорнае дрэва з зялёным лісцем
кропля за кропляй
пачне кандэнсаваць у плады
салодкую церпкасць зямлі

І ўжо як на кірмашы
вакол вытаптана трава
раскоўзаны канавы
вытаўчана зямля
і голле паломана
бо кожны імкнецца сарваць для сябе
самы першы плод

А самыя салодкія самыя буйныя
налітыя промнямі сонца плады
з макаўкі кроны
збіваюць долу камянямі.

*АНДРЭЙ ПЛАЎКА*
*(1907—1982)*

## ЛІСТАПАД

Што ж, падай, падай, лістапад,
плаці арэнду лету.
Вятры нясуць за далягляд
латунную манету.

Ты падай, падай, лістапад,
сваё мы адспявалі.
Хаджу самотны між прысад,
бы ў апусцелай залі.

Што ж, падай, падай, лістапад,
на чуб мой пасівелы.
І ты спачыць, напэўна, рад
пад снежнай коўдрай белай.

Дык падай, падай, лістапад,
у залатым мігценні,
пакуль не скажа мой пагляд:
я твой ужо, асенні.

*ІВАН СКАЛА*
*(1922)*

## ДЗЕНЬ БЕЗ ЦЯБЕ, ДЗЕНЬ БЕЗ ПАЭЗІІ

Дзень — як віёла без струн і смычка,
дзень — як шчупак, што сарваўся з кручка,
дзень — як пад смеццем і друзам крыніца,
дзень — як без газы і кноту газніца,
дзень — як прабіты білет на трамвай,
дзень — як вароты замкнутыя ў рай,
дзень — як абрэз ненапісанай кніжкі,
дзень — як кашуля без жычкі й манішкі,
дзень — як дзіцяці галоднага плач,
дзень — як на дрэве бязлістым крумкач,
дзень — як на ложку смяротным каханне,
дзень — як загубленых душ пакаянне,
дзень — як узмах перабітым крылом,
дзень — як зімой неацеплены дом,
дзень — як маёнтак, у карты прайграны,
дзень — як у дождж парасонік падраны,
дзень — як пусты і патрэсканы збан,
дзень — як зацемнены кінаэкран,
дзень — як без зорак каляднае неба,
дзень — як вячэра без солі і хлеба,
дзень — як бясконцы, без веснічак, плот,
дзень — як дарога на эшафот.

## НАРЭШЦЕ

Была прыгожая, як шоўкам тканыя пальцы
месячнага святла.
Была прыгожая, як лапкі сіямскіх кацянятак.
Была прыгожая, як грэбень хвалі,
якая пасля спаткання з берагам расплывецца.
Была прыгожая, як рэха,
якое аслабела і само сябе шукае
ў люстэрку паветра.
Была прыгожая. Але было ясна,
што яна толькі паўкаменьчыка
з Клеапатрынай хацінкі.

Сто разоў паўтарала: «Не люблю маліцца
на чужой пасцелі, за чужыя грошы».
Сто разоў падцягвала да горла
карункавы плед
і пералічвала на ім вочкі
тайных мужчынскіх паглядаў,
але не далічылася.

Аднак хапіла аднаго душнага ліпеньскага дня,
каб разбіла ўсе свае люстэркі
і ўбачыла за імі толькі пустэчу.
І тады журботна зашаптала:
«Не хацела я маліцца
на чужой пасцелі і за чужыя грошы.
Але райскі вобраз усё ж праціснуўся
праз дзіравае пакрывала».

*ВЫЦЁ РАКОЎСКІ*
*(1925)*

## КРОПЛЯ

Не хадзі ты на спатканне
Праз залеву і імжу,
Бо прамокнеш і растанеш,
Станеш кропелькай дажджу.

Непрыкметная, заблудзіш
У размытай сіняве
Ці вісець маўкліва будзеш
Завушніцай на траве.

Дзе ж тады цябе я ўгледжу,
Дзе знайду твой лёгкі след,
Калі ў частую мярэжу
Дождж затчэ ўвесь белы свет!

*ЮСЦІНАС МАРЦІНКЯВІЧУС*
*(1930)*

## ВЫСЕЧКА ЛЕСУ

Вырываюць голле з неба,
і застаюцца прагалы.
Ля пня збіраюцца звяры
і па яго кольцах, як з папірусаў,
чытаюць гісторыю лесу.

Гарыць агонь.
Пахне пілавінне.
Акрываўленая сякера.
Журавіны кропля.

Не будзем сячы гэтую асіну —
маё дзяцінства шукае на ёй
гняздо дзікага голуба.

Малочная пена.
Крывавая пена.

Паўзе па моху вуж —
вялікі
ствол абрубленага дрэва.

Вечарам прыляцелі птушкі.
Абнялі голле кіпцюрамі
і трымалі дрэвы,
каб не ўпалі.

*ЛЮБАМІР ФЕЛДЭК*
*(1936)*

## МІЛАВАННЕ НА ЛУЗЕ

Рассцілаю луг пад цябе хаця б на тую хвіліну,
пакуль з лапатак тваіх не пачнуць вырастаць крылы.

Зайчык танцуе ўжо на грудочку
і з вуха на вуха перакідвае зарнічку.

Зламаная кветка ўкленчыла ля тваёй галавы,
чакаючы дазволу запахнуць табе напаследак.

Дрэвы ўжо не чакаюць, пачынаюць кідаць
стоколерныя цені.
Вунь па даляглядзе імчацца
пазелянелыя ад зайздрасці
цэлыя гаі!

Яшчэ мы ўдваіх, і вось нас няма —
хіба толькі па лузе
галопам імчыцца кентаўр!

Напаўконь, напаўжанчына імчыцца галопам.
Напаўмужчына, напаўнявольнік тут б'ецца!
Напаўмужчына, напаўжанчына ляжаць тут
без глузду,
а пад імі
напаўзямля, напаўзаранка пяшчотная.

...І зноў у кожнага з нас свае ногі,
а тваё сэрца не ў маім целе.

*ЯНА МОРАЎЦАВА*
*(1937)*

## НАРАДЖЭННЕ РАНІЦЫ

Ноч — вылузаны каштан —
коціцца па вуліцы,
пакуль у саломе зорак
мокрае,

толькі што народжанае ёю
аслянё-ранак
вучыцца перабіраць устрывожанымі ножкамі, —
гэта ж яму
праз якую хвіліну
трэба выйсці за веснічкі ў горад
і мяккай, вогкай ад расы пысай
зжаваць чартапалох вулічных ліхтароў.

## ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ

**(1929, в. Старына Ушацкага р-на — 1977, Менск)**

Закончыла школьнае аддзяленне Глыбоцкай педвучэльні і Менскі педінстытут (1955). Працавала ў Вучпедвыдавецтве (папярэднік сённяшняй «Народнай асветы»), у рэдакцыях «Звязды» і «Работніцы і сялянкі», два апошнія гады жыцця — галоўным рэдактарам часопіса «Вясёлка». Дзецям адрасаваныя і шэсць яе кніжак (агулам іх было паўтара дзесятка). Бібліяграфія Лось-перакладчыцы ў шасцітомавіку «Беларускія пісьменнікі» ажно стракаціць рознымі *з узбек., з азерб., з тадж., з груз., з арм., з кабардз., з авар., з абхаз.* Але сапраўдных творчых удачаў сярод гэтага сярэднеазіяцкага літаратурнага інтэрнацыяналу мне адшукаць не ўдалося. Затое ў зборніку С. Нярыс «Калі зямля прачынаецца» (1971) і чэшскай анталогіі «Высокае неба» (1980) сёе-тое знайшлося.

*САЛАМЕЯ НЯРЫС*
*(1904—1945)*

### ЯК ПАМРУ

Як памру — дык не спяшайце
На магільніку хаваць.
Лепш агню мяне аддайце,
Буду полымем шугаць!

Хай уздымецца згусцела
Ў паднябессе чорны дым.
Нежывое маё цела
Стане попелам сівым.

Попел хай вятры развеюць,
Птушкі выкрыляць яго.
Хай нясуць, нясуць і сеюць
Песню попелу майго!

### БЛУДНЫ СЫН

Бярэзнік нястромы,
Алеі кляноў.
Жахліва без дому
І без сваякоў!

Па багне нябоскай,
Па бруду сцяжын
Вернецца ў вёску
Блудны той сын.

Шчанюк заскавыча
І кінецца ў плот.
Маці не выйдзе
Страчаць ля варот.

Ты будзеш матулю
Шукаць у быллі.
Грудзі прытуліш
Да голай зямлі.

*ЯН ПІЛАРЖ*
*(1917)*

### СЛАНЕЧНІК

Уверсе гарнастай з цёрнам, балігалову ражок,
уверсе шыпшына і таямнічы почырк траў,
уверсе дрэвы са скурай, пад якой шуміць кроў,
уверсе высокая бяроза, як трапяткі сцяг войска,
уверсе жоўтая, белая, зялёная алхімія,
уверсе гадзіннічкі конікаў, гульня фазаноў.

Унізе, куды цягне цябе, калі чарадзейства знікла,
унізе халодны граніт, сляпы і абветраны,
унізе свет камення, марозны нябыт,
унізе мёртвае поле, без траў і без кветак,
унізе цемра, маўчанне, абыякавасць,
унізе ляскочуць біўнямі скальныя маманты.

Толькі карэньчыкі траў і дрэваў, якімі мы ўчэпіста
трымаемся зямлі, каб не ўпасці,
узрываюць дынамітам
мёртвую падлогу свету, ажно зямля трасецца,
казулі дзіка скачуць ва ўяўным лесе,
і поле перад акном, дзе ўчора нічога не было,
пад раніцу расцвіло
жоўтымі статкамі сланечнікаў.

## УЛАДЗІМІР ШАТОН

**(1929, Рэчыца)**

Мае дзве вышэйшыя адукацыі — закончыў Юрыдычны інстытут (1952) і Інстытут замежных моваў (1962). У апошнім амаль паўстагоддзя выкладаў лаціну і нямецкую мову. Належыць да міжнароднага руху неалаціністаў, якія намагаюцца надаць лацінскай мове статус міжнароднай, праводзяць свае кангрэсы і нават выдаюць у Нямеччыне свой часопіс «Vox

Lacina». Шатон — адзін з ягоных аўтараў. Апрача паэмы М. Гусоўскага пераклаў з лаціны трактат Андрэя Воляна і знакамітую «Пахвалу дурасці» Эразма Ратэрдамскага. «Кананізаваны» нашым літаратуразнаўствам Семяжонаў пераклад «Песні пра зубра» Шатон кваліфікуе як пераказ, які і вымусіў яго самога аднойчы засесці за «Carmen de bisontis». Новы пераклад быў закончаны ў 1987-м і неўзабаве 25-тысячным накладам выйшаў у свет у выдавецтве З. Коласа «Энцыклапедыкс».

## *МІКОЛА ГУСОЎСКІ*
*(1470-я — пасля 1533)*

### ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА
*Фрагменты*

Вітаўт апекаваў тых, каму дазваляў уладарыць,
Воляю князя васал жыў або траціў жыццё.
Быццам нявольнік які, маскавіт яго зваў уладыкам,
Хоць і магутным царом быў сярод многіх цароў.
Турак, мацак і тады, прысылаў дарагія дарункі,
Сведчыў здалёку, што ён князю скарыцца гатоў.
Трое вось гэтых, што жах на цэлы сусвет наганялі,
Моўкнулі ўраз перад ім, рот баючыся адкрыць.
Воі адвагу і спрыт не толькі ў баях здабывалі,
Ўсюды і як толькі мог Вітаўт кагорты вучыў.
Зборні літвінаў калісь ажно віравалі ад войска,
Мірны для ратніка час быў нібы часам вайны.
Каб і страла і кап'ё пацэлілі трапна і моцна,
Воін удзень і ўначы працай сябе гартаваў.
Лукі з тугой цецівой спявалі ў нястрымным харале,
Гэтакі спеў азначаў трапнае вока й руку.
Верхнікі, творачы круг, стралою дзіравілі з ходу
Шапкі-лямцоўкі, што ім шчодра кідалі ўгару.
Часта ляцелі ўгару таксама і шапкі-кучомкі,
Зноў як валіліся ўніз, дзюрак на іх не злічыць.
Ў небе высока стралой крыло жураву падсякалі,
Падаў курлыка з нябёс, іншых не маючы ран.
Птушку ніяк не маглі ўратаваць ні дрэва, ні крылы,
Нават кудысь па вадзе ёй не схавацца было.
Вітаўту дзіч прынясеш, аддзячыць табе, абы толькі
Ты яму птушку здабыў лоўкай, умелай рукой;
Дужа хвалілі таго, хто ловамі стала займаўся, —
Так што ішлі на звяроў цэлыя процьмы ваяк.
Хмарышчы коп'яў і стрэл, галёканне, крыкі і посвіст
Збеглага ў самы гушчар гналі са схову далей.
З восцем жалезным мядзведзь ці нехта другі уцякае,
Зваліцца потым ад ран і застаецца ляжаць.
Лоўчых пялегаваў князь. Але вайскаводцу-літвіну
Больш даспадобы былі гонкі на конях ліхіх.
Скачаш туды, дзе паставілі знак, можа, стадыяў сотню,
Шлях немалы дый к таму надта складаны й цяжкі.
Раці імчалі гурмой, наколькі хапала ім сілы,
Пырхалі коні ў галоп, ноздраў ашчэрыўшы зеў.

Сіўка не выцягне гон паасобку, і з гэтай прычыны
  Разам з канём седака бег табунок запасных.
Жвавы рысак атрымаць найхутчэй сваю ношу імкнуўся,
  Рады, што гаспадару можа падставіць хрыбет.
Хлопцы з калчанамі стрэл на дзіва прыгожа і спрытна
  З коней сягалі адных на седлавіну другіх.
Каб недалуга які выпадкам не стаў пераможцам,
  Гонкі вяліся знарок ноччу, ды што пацямней.
Добрая дзяка затым даставалася самым найлепшым,
  Той жа, хто не перамог, кпіны ды ганьбу цярпеў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзева, маці Хрыста, калі я імя тваё толькі
  Мерыўся быў напісаць, дык затрымцела рука.
Здзіўлены, доўга рашаў, ці замоўкнуць, заціхнуць мне лепей,
  Ці гаварыць і далей, бо і знямелы крычу.
Буду маўчаць, дык жа вартая ты, каб сусвет цябе славіў,
  Каб апявала цябе ўсё, што пад небам жыве.
Буду калі гаварыць, то язык чалавечы і розум
  Не падбярэ нават слоў, велічы годных тваёй.
Знаю, аднак, дабрыню, якою ты перамагаеш,
  Боскае многа вышэй рэчаў нябоскіх, зямных.
Вось я нікчэмны прыйшоў. Даруй, маё сэрца трапеча.
  Кленчу ў цябе каля ног, дзева Марыя. Даруй.
Звонку я брудны увесь, нутром яшчэ болей нячысты,
  Бледныя вусны мае словы малітвы ракуць.
Ды ■ малю не таму, што варты хоць слова прамовіць,
  Смею прасіць, бо якраз ты можаш нам памагчы.
Бог цябе выбраў калісь, шкадуючы лёс чалавечы,
  Нібы свяціла падняў, каб ратавала другіх.
Бегма да маці бяжыць птушанятак бяскрылых чародка,
  Горнеш і ты да сябе смертных існуючы род.
Матка падхопіць дзіця, што раптоўна звалілася долу,
  Гэтак жа робіш і ты, як хто нянацкам падзе.
Кветак дзявочых краса! Прачыстая дзева Марыя!
  Просьбу маю падтрымай боскай малітвай сваёй.
Ты паглядзі на пажары вайны, на кроў, што ліецца,
  Многае воляй нябёс меч дазваляе сабе.
Гіне народ, а яму, з'ядпанаму верай Хрыстовай,
  Трэба, каб мір для жывых запанаваў на зямлі.
Нашым князям, каралям прыдай ты разважную кемнасць,
  Дапамажы зразумець, дзе яны здрадзілі нам.
Ёсць абавязак. Яны ж уладай сваёй злоўжываюць,
  Стражы па назве, а так, сутнасць іх — зграя ваўкоў.
Покуль ачомяцца ўсе, дык ты ўжо за нас заступіся,
  Ворагаў ход запаволь ды прыпыні хоць крыху.
Каб яны бедных людзей не рэзалі, не рабавалі,
  Каб не цягнулі ў ярмо бездапаможны народ.

## ВАЛЯНЦІН ТАРАС

**(1930, Менск)**

Падлеткам пайшоў у партызаны, ведаў лясное жыццё не такім гераічным, якім яго малявалі шматлікія летапісцы пачынаючы ад галоўнага «гісторыка партызанскага руху» Л. Цанавы. У 1950-я гг. працаваў у газеце «Звязда», для якой разам з С. Гаўрусёвым пісаў гэткія перадавіцы, прымеркаваныя да чарговай гадавіны рэвалюцыі: «Без кажуха, ў адной кашулі, / парой сцюдзёнаю ў пургу / дзяды, бывала, дугі гнулі / і самі гнуліся ў дугу». Як ні дзіўна, працытаваны верш быў надрукаваны, хоць падтэкст у апошнім радку відавочны. У 1968-м Тарас быў звольнены з «Нёмана» — за «антысавецкія настроі» ў сувязі з «пражскай вясной». Сябраваў з А. Адамовічам і В. Быкавым, аповесці якога перакладаў на расейскую мову. Самы знакаміты расейскі пераклад Тараса — «Восень патрыярха» Г. Г. Маркеса (зроблены супольна з К. Шэрманам і апублікаваны ў 1977-м). Гэта было першае прышэсце славутага калумбійскага пісьменніка да савецкага чытача. Тарас усё жыццё перакладаў пераважна з беларускай на расейскую — вершы М. Танка, С. Гаўрусёва, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, А. Разанава... І «кніга перакладчыка» ў яго выйшла па-расейску — «Запах мёда» (1986). Першы беларускамоўны зборнік паэт выдаў толькі ў 1987-м, калі ўжо быў аўтарам дзесятка кніг па-расейску. На шчасце, вяртанне да свайго слова, хоць і ў сталым веку, адбылося. «Я вельмі позна зразумеў, што ўсё жыццё пісаў на чужой мове», — прызнаўся неяк Тарас складальніку гэтай анталогіі. Змешчаныя тут пераклады адшуканыя ў двухтомавай «Анталогіі грузінскай паэзіі» (1989).

*ІОСІФ ГРЫШАШВІЛІ*
*(1889—1965)*

### ЦІ ПАСТАРЭЎ?..

Хмара бяды з галавой накрыла,
Зніклі апоры з-пад ног — дзвання!..
Ды змог абапёрціся я на крылы
твайго кахання.

Старэю? Не! І вершы — сведкі,
Радок іх дужы.
Не абляцелі ў сэрцы кветкі —
Кахання ружы!

Хто супакоіць вір ля Метэхі?
Хто верш, на вятрыска падобны, спыніць?
Каханне — гэта жыццё, не ўцехі,
мая багіня!

Што сівізна у маёй чупрыне?
Як дрэва крону, нясу чупрыну!
Калі ж каханне наша загіне —
і я загіну...

Старэю? Не! І вершы — сведкі,
Радок іх дужы.
Не абляцелі ў сэрцы кветкі —
Кахання ружы!

*РЭВАЗ МАРГІЯНІ*
*(1916–1985)*

* * *

А Сванецii горы
бачыў ты ў зеляніне?
Мой маленечкі дворык
на далоні вяршыні?
Ты гумно маё бачыў
даўжынёю ў два крокі?
Ніжэй будкі сабачай
і вышэй за аблокі!
Дуба-волата вежа
ля маленькага дома,
І лунае ў бязмежжы
песня з рокатам грома.
То на чангі зайгралі
сваны на паляванні...
Горных зорак каралі
бачыў ты на світанні?
Бачыў ты калі-небудзь
мурагі на вяршыні?
Ходзяць косы па небе,
сонца спіць ў канюшыне!
Бачыў ты, як па спуску,
па вузенькай сцяжыне,
Крочыць дзеўчына ў хустцы
Далі — нашай багіні?
Хустка з неба пашыта,
залаціцца, як ранак.
Далячынню блакіту
вочы свецяцца ў сванак!
І гняце мяне горад:
і тады я ў гуморы,
Калі ўспомню я, горац,
свае родныя горы!

*МУРМАН ДЖГУБУРЫЯ*
*(1938)*

**ПЯРЭДАДЗЕНЬ ЗІМЫ**

Сівер дыхнуў суровы.
Ляжаць каля плота дровы.

Як дровы згараць у печы,
Будзе і плот дарэчы.

Жорсткім марозным днём
Прыкрые мяне агнём,
Як сёння плячыма — дровы.

Сівер дыхнуў суровы...

*ГРЫГОЛ ДЖУЛУХІДЗЭ*
*(1940)*

## АРЛЕКІНА

I
Хіба ў Грузіі здараўся калі-небудзь час такі,
Каб які грузін бадзяўся, марна мераў бальшакі?
Валацугаю бяздомным шчэ не быў у нас ніхто!
Што ты скажаш мне на гэта, Арлекіна з шапіто?
Ля Крцанісі і Шамкоры стогне памяць аб былым...
Помняць долы, помняць горы, кім ты быў!
　　　　А стаўся кім?!
Над Крцанісі і Шамкоры, дзе народа карані,
Толькі ястрабы лунаюць над гняздом тваім — зірні!
Толькі ястрабы ў прасторы над былым гняздом тваім,
Над Крцанісі і Шамкоры стогне памяць аб былым...

II
На мяне глядзіць з усмешкай Арлекіна-жартаўнік.
Ды не радасць у паглядзе Арлекінавым, а крык.
Болей жоўці той, каторай наглытаўся з пылам ён.
І маўчыць ён, нібы горы,
　　　а маўчанне як праклён!
Твар ягоны пад паўмаскай, слова вусны не кране,
І яго маўчанне цемрай напаўняе вочы мне.
Я гляджу, як ён смяецца, раздзірае смехам рот
І стараецца да ўпаду насмяшыць увесь народ.
Мусіць ён на небараку быць падобным, блазан-чмут,
На пабітага сабаку, што скавыча ад пакут.
На калеку, на пачвару — ён адзін такі, адзін...
Страшна мне, што Арлекіна,
　　　гэты смешны Арлекіна,
　　　　　недарэчны Арлекіна,
Рагатун дурны — грузін!
Насмяшыць, каб розум страціў чалавек — вось гэта смех!
Чортам скача на канаце, шкло грызе, нібы арэх.
Паспрабуй жа Арлекіна не глытаць яго, як тут
Гвалт пачнецца, крыкі, кпіны: «Без падману, чуеш, чмут?!»
І рагоча служка цырку: «Арлекіна хоць бы што,
Калі хто яго за шкірку прэч пацягне з шапіто!»
Нос блішчыць чырвонай гуляй, і на гулі той нажом
Рэжуць добры пук цыбулі —
　　　выбухае смех, як гром!..
А пасля бяруць цагліну, каб разбіць на галаве...
Цырк рагоча з Арлекіна, цырк шалее, цырк раве!
І на вейках — нібы іскры —
　　　слёзы Грузіі усёй, —
Смех слязамі горла сціснуў, паласнуў, нібы касой!
Твар схаваны пад паўмаскай, слова вусны не кране,
І яго маўчанне цемрай напаўняе вочы мне.

III
Ды хіба калі ў грузінаў штось падобнае было?
Скінь жа маску, Арлекіна, запалі ў вачах святло!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

**(1930, Орша — 1984, Менск)**

Пяро Караткевіча, як жазло фрыгійскага цара Мідаса, валодала чарадзейнай уласцівасцю ператвараць усё напісанае ў мастацкія скарбы, будзь то вершы, апавяданні, эсэ, аповесці, раманы, крытыка і публіцыстыка ці лісты. Пераклады таксама былі для пісьменніка гэткім самым спосабам самавыяўлення, як і ўласная творчасць. Першы верш Караткевіч надрукаваў у 1955-м, а праз год пісаў сябрам, што перакладае паэму Г. Гайнэ «Германія» і вершы К. І. Галчыньскага. Даследчык А. Верабей пасля азнаямлення з архівам Караткевіча зазначаў, што той як перакладчык прыглядаўся да Бібліі, Р. Бёрнса, Ц. К. Норвіда, Ф. Г. Лоркі, «Шляхціца Завальні» Я. Баршчэўскага, п'есы «Кар'ера Артура Уі» Б. Брэхта. Усе названыя паэты і творы былі перакладзеныя пазней і іншымі, але наколькі Караткевіч адчуваў іх запатрабаванасць беларускай літаратурай! У 1972 г. пісьменнік пісаў у Зэльву Л. Геніюш: «За гэты год пераклаў вершам п'есу Карыма "У ноч зацьмення месяца" — для купалаўцаў (гэты Карым не башкір, [redacted] ледзь не Шэкспір, так гэта здорава), тэатр хутка яе выпусціць». Тэатр п'есу не выпусціў, але пераклад застаўся. Караткевіч радаваўся кожнай новай перакладной кнізе, захоплена вітаў сёмухаўскага «Фаўста» Гётэ, а ў рэцэнзіі на беларускага Байрана «Будзеш свой сярод чужых» («Полымя», 1963, № 10) выклаў сваё разуменне ролі перакладчыка: «Ці павінен паэт, які перакладае, памерці ў тым, каго ён перакладае? Я ведаю, для моцнай паэтычнай індывідуальнасці гэта цяжка, амаль немагчыма. Дух не хоча змяшчацца ў чужой амфары, няхай нават чароўнай, бунтуе, узламвае яе. Хоча сам для сябе зляпіць форму-ёмішча. І [redacted] не ведаю, што тут лепей: слабы дух у чужой велічнай форме або моцны, які тую форму зламаў. Відаць, у перакладзе, майстэрстве, якое ўсё ж павінна зберагчы чужую амфару, патрэбна трэцяе: захаваўшы сваю магутнасць, усё ж памерці ў другім, аддаць яму сябе самога, стаць яму слугою, як гэта ні цяжка...» Падобную самаахвярнасць рэдка сустрэнеш на парнаскіх схілах. Тым больш каштоўны для нас досвед Караткевіча-перакладчыка. Невыпадкова амаль усе яго паэтычныя пераклады ашчадна сабраныя тым жа А. Вераб'ём і выдадзеныя ў кнізе «Галасы маіх сяброў» (1993).

*ГАЙ ВАЛЕРЫ КАТУЛ*
*(каля 87 — каля 54 да н. э.)*

### КОЛЬКІ ПАЦАЛУНКАЎ

Ты спытаеш, колькі пацалункаў
З мілых вуснаў тваіх мяне насыцяць?
Падлічы пяскі пустынь Лівійскіх
У зыбучай, атручанай Кірэне,
Дзе аракул паўдзённага Амона
І дзе Бата даўняя магіла.
Падлічы вочы зор, што ноччу бачаць
Чалавечыя таемныя абдоймы.
Столькі раз сваім ротам ненасытным
Пацалуй звар'яцелага Катула,
Каб змяшаць зацікаўленае вока,
Каб язык не напляткарыў людскі.



## НЕ РАЗЛЮБІЦЬ

Пэўна, ніводная з жонак такой пахваліцца не можа
Дружбай пяшчотнай, як я быў табе, Лесбія, друг.
Повязяў тых, што калісьці з табою ўдваіх нас вязалі,
Повязяў цёплых такіх у свеце мацней не было.
Зараз жа сэрца маё ты мне няўзнак раскалола.
Лесбія! Страсць і туга сэрца разбілі маё.
Другам не буду табе, хоць стала б ты сціплаю знову,
А разлюбіць не змагу нават злачыннай цябе.

*ДЖОРДЖ ГОРДАН БАЙРАН*
*(1788—1824)*

## ПАРАЖЭННЕ СЕНАХЕРЫБА

Асіры́яне йшлі, як на статак ваўкі,
Ў барве, золаце й срэбры бліпічалі палкі;
І мігцелі магутных ваякаў мячы,
Бы ў вірах галілейскіх планеты ўначы.

Сцягі іхнія рэялі ў сонца агні,
Як лістота лясная у летнія дні,
Але раніцай прыхадні ўсе паляглі,
Быццам звеяны ліст на асенняй зямлі.

Ангел Смерці крыламі накрыў варагоў,
І паснулі яны ад дыхання яго.
Вочы спячых, як смерць, вочы іх, як ільды;
Сэрца ўдар прагучаў і заціх назаўжды.

Конь ляжыць баявы, і ў набраклых наздрах
Адчуваецца смерць, адчуваецца прах;
Стыне белае мыла на персі зямной,
Як халодная пена, што кінуў прыбой.

Вось распластаны коннік; у позірку жах;
Лоб укрыла раса, на кальчузе іржа.
У шатрах цішыня, бо не стала жывых.
Сніцца сеча мячам, трубам — кліч баявы.

Страшна ўдовы Асірыі плачуць з тугі,
Долу зрынуты ў храме Ваала багі;
І не меч паразвейваў паганцаў, як дым,
А Гасподняя слава у бляску сваім.

*МІКОЛА ЗЭРАЎ*
*(1890—1937)*

## ВАЗАВІЦА

Спачынку лепшага няма, ды і не трэба!
Высокі летні дзень узняўся ў яснасць неба
І воўну белых хмар трымае пры зямлі.
Скруцілася папера на стале,
На сонцы жоўтым, і сама паволі жоўкне,
І шапаценне летняе няўмочна
Сплывае з верхавін зялёных груш і ліп.
І ўраз ўрываецца рытмічны роўны рып,
Нібыта рогамі валовымі ўзгайданы,
Ідзе ён грэблямі, лявадамі, садамі
І залатым дажджом прымятага сцябла
Б'е па сухіх тынах паўсоннага сяла.

*ЛАЦА НАВАМЕСКІ*
*(1904—1976)*

## НЕІСНУЮЧЫ ШЫНОК

Мы ў маленькай карчомцы,
ў нядзелю апоўдні,
ў той —
у нас на рагу,
калі там яшчэ пуста,
тут,
пад стромамі пляшак, што выкуліў нехта
на абрус кветаваны.

А зірні, а паглянь, як у шыбах разбітых
ў пырсках тонкіх бягучага павуціння
ногі мух вісяць, як кітайская грамата,
якую не ўцяміць нікому.

У карчмаркі — ўсім ясна — па глотку работы,
белы фартух мільгае
там і тут, як імгла ў абыякавым сонцы.
Дрозд у чорным фраку мне служыць аддана;
мы ніколі аднымі не застаемся
у самоце з нашымі міражамі.
І ў пустыні знойдуць шынок для тулягі.

«Пан галоўны, разлік!»
На абед меў я міску, што поўная сонцам,
на вячэру — Шлях Млечны.

## *МЕЧЫСЛАЎ МІХАЛ ШАРГАН*
*(1933)*

* * *

Будаваў галубятню.
А галубы мае яшчэ светлымі крыламі білі,
нібы незнаёмыя з неба махалі хусцінкамі.
Заганяў я цвікі ў той найменшы дамок, гарадзіў.
Белай вапнай паляпваў па сценках.
Дзверцы памерам з далонь устаўляў проста ў зорку.
Зорка ноччу была тут жалезным кручком.
З іржавай бляшанкі срэбныя ночвы прыдумаў.
Стол з калодачкі змайстраваў.
А на сёмы дзень сеў на падлозе і слухаў,
як яны ў вочы мае лятуць.

## *АЛЯКСАНДР МІЛАНАЎ*
*(1933)*

### НІЧЫЯ ЗЯМЛЯ

Два светы
ў палон яе ўзялі бясплоднымі барознамі,
у два шнары
пасяклі яе драты пагрозныя.
Два подпісы
яе на безуважнасць асудзілі.
Два галасы
пачварным імем — *нічыя* — яе хрысцілі.
Дзве мовы розныя
яе стварылі.
Лістатыя хмызы за ёю сочаць рулямі.
Абстрэльваюць яе і перуны, і кулі,
нямую пад абшарамі шырокімі,
забытую, не ўзбуджаную крокамі.
Над ёю птушкі свішчуць і лунаюць,
але і тым чужое царства гэтае.
Таму што птушкі гнёздаў не звіваюць
на голлі над салдацкімі багнэтамі.
Праз плоць яе, жывую, здратаваную,
праз баразны, што лямантуюць мукай,
паўзуць беспакараныя
хіба адны гадзюкі:
сычыць у звітых кублах гадаў лезіва,
плазуе. І над браткамі і бэзамі
адна пануе мова і сям'я.
...Зямля, у сутнасці, не нічыя...

*УЛАДЗІМІР ЛУЧУК*
*(1934)*

## СТАРЫ МАТЫЎ

Ад лямanту дзяцей і жонкі буркатання,
куслівых мух і слёз, ад дыму з печы
уцёк да клуні ён, узяўшы прычындалле —
калодкі, малаток і іншыя там рэчы.
Ўздыхнуў, і сеў на пень, і забіваў
бярозавыя тэксікі ў падмёткі,
і ў вус таемна песні мармытаў,
калісьці ўголас іх спявалі продкі...
І аж калі за клуняй гасне дзень,
ён кідае спатнелы малаток
і ў ззянні месяца, як смерць, ідзе
і за сталом сядае у куток.
Ён сёрбае застылы посны боршч
і мысліць, ад чаго ўсё так на свеце...
А ў шыбы зорак б'е халодны дождж,
і гасне кнот, і цемра ў міску свеціць.

## ВАДАСПАД

Чуеце грукаты?
Чуеце роў?
Прут пасклізнуўся з абрыву!
Бачыце:
    падае леў у прароў,
грозны, з успененай грывай.
Ў прорву,
    да д'ябла
        па вузкай трубе,
ў роспачы ймкне без утрыму.
А кручы ўсё роўна —
зусім як табе,
калі я праходжу
міма.

*АЛЬФОНСА ГАТА*
*(1909)*

## ЗІМА Ў РЫМЕ

О, якая ў вачах у кемлівых хлопчыкаў
даўжаленная сцюжа-зіма! І яны
устаюць на дыбачкі. І тады расцвітае
у прадонні вачэй іхніх сонца за даляглядам.
Небасхіл. І на фоне яго дзяўчынкі,
адны, валасы адкінуўшы, крочаць
пад налітымі сонцам ніцямі ліўня

з ценем ціхай усмешкі на парэпаных вуснах.
Так, спагады, любові, міласэрнасці словы
ўсе расталі ў вяках. Але йдуць дзяўчынкі,
йдуць у рамках танных сваіх хусцінак,
йдуць адны пад дождж ыкам. З дахаў кроплі
ападаюць на натапыраных птушак.

*ПАОЛА ВАЛЬПОНІ*
*(1924)*

## ДОМ У МАНЛІЁНЕ

Добра, што ўрэшце ўпала
з тых платанаў верхняе лісце,
што раку туман укрывае
найпяшчотным дымам
і што сталі лясы цяжкія,
набрыняўшы дажджамі;

што сеццю чароды перапёлак
у маўчанні лятаюць
на ўскраіне цяністага лесу,
дзе барва іржышчаў і ўрэзаны месяц,
як змяя, што зарэзана вострай касою.

Божа! Як спрадвечна люблю я пагоркі
той зямлі, адкуль маці родам!

Хата ў Манліёне,
найпершай убачу
я цябе на схіле пагорка
ў цені старога арэха.

Сустрэну я людзей сваіх,
што носяць камізэлькі з аксаміту,
камізэлькі,
што пахнуць дымным порахам і махоркай...
Жарабя, што свет нядаўна спазнала,
легкадумна скача цераз плот ля дарогі;
і цвіце ў садзе шалёны ружоўнік
для шматлікіх вяселляў.

Як прычасце, як Божая кроў
на грудзях снегіра, што мерзне
натапыраны на падаконніку.

## АНАТОЛЬ ШАЎНЯ

**(1930, пас. Дарахава Рузскага р-на Маскоўскай вобл., Расея)**

Нарадзіўся ў сям'і беларускага сталяра, які выехаў у Расею на заробкі. Пасля заканчэння 1-га Маскоўскага інстытута замежных моваў вярнуўся на гістарычную радзіму, працаваў у рэдакцыях, на кінастудыі «Беларусьфільм», перакладчыкам з італьянскай мовы на Гарадзенскім азотна-тукавым заводзе. Перакладаў італьянскіх дзіцячых пісьменнікаў, ліставаўся з Дж. Радары. Спрабаваў падступіцца да Дантэ, што засведчана ў эпіграме Р. Барадуліна: «У Дантэ профіль быў Шаўні, і падабенства больш — ані». Складзеная Шаўнёй анталогія італьянскай паэзіі «Ад вежаў Ферары» (1974) хоць і праілюстраваная партрэтамі К. Маркса і (чамусьці) змагароў за незалежнасць В'етнама, але і праз сорак гадоў чытаецца з цікавасцю. Апошнім часам перакладчык, на жаль, занядбаў паэзію і заняўся перастварэннямі прозы.

*ДЖАНІ РАДАРЫ*
*(1920)*

### БРАВЫЯ СІНЬЁРЫ

Адзін сіньёр са Скандзіны
выкідаў каштаны
і жаваў лупіны.

Яго сябар шукаў уцехі
у тым, што еў кедравыя шышкі,
а выкідаў арэхі.

Яго кум з мястэчка Чэркі
еў фальгу і паперу,
а выкідаў цукеркі.

З людзей шмат яшчэ хто робіць так
(а ў гэтым хто не павінен?):
жыццё выкідае, а есць, бядак,
адно шалупінне.

### СІНЬЁР З ТРЫМА ШАПКАМІ

Адзін з Віньёны мой знаёмы
быў акрузе тым вядомы,
што тры шапкі меў здаўна.
Галава ж была — адна.

І калі, бывала, ранкам
выпраўляўся з дому ў шлях,
надзяваў адну вушанку,
нёс астатнія ў руках.

Вось аднойчы ў золь і вецер
сябра стрэціў ён, а той

ні у шапцы, ні ў берэце —
свеціць голай галавой.

— От, — сказаў наш небарака, —
як пабудаваны свет:
у мяне ажно тры шапкі,
а ў цябе хоць бы берэт.

І пайшоў сваёй дарогай,
сапсаваў адно настрой —
так абуран быў, нябога,
недалужнасцю людской.

## КАРНАВАЛ

Мне сустрэўся аднойчы
Капялюш адмысловы:
Карнавальнаю ноччу
Ён ішоў безгаловы.

Не было галавы,
Ані ног, ані цела,
І ўсё ж шапка, як вы,
Пагуляць захацела.

Усхадзіўся народ:
— Ён уцёк з магазіна!
— Злодзей ён, абармот!
— Гнаць сабачага сына!..

— Спакойна, — сказаў капялюш адмысловы, —
Хіба вы самі жартуеце мала?
Мала хіба і між вас безгаловых,
І нават не толькі падчас карнавала?!

*МАРЫЯ БІШЭЦІ*
*(1928)*

## ШТО ТАКОЕ СМЕРЦЬ

Ад чалавека,
што памёр
у суседняй хаце,
не засталося нічога.
Людзі
паставілі грубку
у яго пакоі,
каб смерць
не халадзіла яго
надта скора.

Не засталося
нават ценю
ад сажы чорнай
на белых сценах.
Удава
у жалобным убранні
завіхаецца ў агародзе,
затым дастае
духмяныя боханы
з чырвонай пашчы
гарачай печы.
Прамень сонца
лезе праз зялёную агароджу,
заглядае пад павець
і пытае ў павояў:
што такое — смерць?

## АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ

**(1931, в. Дзямешкава Лепельскага р-на)**

З сялянскай сям'і. Выпускнік аддзялення журналістыкі БДУ (1956), прайшоў шлях ад карэспандэнта давыд-гарадоцкай раёнкі да галоўнага рэдактара «Літаратуры і мастацтва». Прычым ачольваў тыднёвік у няпросты перабудовачны час (1986—1990), калі думаць пра многае ўжо дазвалялася, а друкаваць — яшчэ не. І ўсё ж жахлівую праўду пра Курапаты свет даведаўся з «ЛіМа» часоў Вярцінскага... Цікавы факт з гісторыі беларуска-ўкраінскага творчага пабрацімства: паэма Вярцінскага «Заазер'е» выйшла па-ўкраінску спачатку ў Лондане, а ў 1976 г. у Нью-Ёрку. Прычым, даволі вострую прадмову да яе напісаў сам перакладчык Леанід Палтава, забаронены ў савецкай Украіне. Вярцінскаму тады пашанцавала, і справа скончылася прафілактычнай гутаркай у ЦК КПБ... А сваю замежную кніжку аўтар патрымаў у руках толькі на пачатку 1990-х, раней і ў вочы не бачыў. У 1990—1996 гг. паэт працаваў у Вярхоўным Савеце, удзельнічаў у напісанні Канстытуцыі, абвесціў з трыбуны 27 ліпеня як Дзень Незалежнасці. Перакладаў ад выпадку да выпадку, часцей — у 1980-я, калі ўваходзіў у рэдкалегію гадавіка «Далягляды». Найбольш — А. Германава (для яго кнігі «Касцёр на вяршыні»), А. Чакса і Я. Петэрса (для латышскай анталогіі), В. Джавахадзэ і Г. Гегечкоры (для анталогіі грузінскай). Калі на постсавецкай прасторы чарговым разам усчынаюцца дыскусіі пра «інтэграцыю», я для ўласнага супакаення сам сабе паўтараю словы дэпутата Вярцінскага, сказаныя яшчэ ў 1991 г.: «Беларусы асуджаныя на суверэнітэт».

*ЛАЁШ АПРЫЛІ*
*(1887—1967)*

### НАКАЗ МАЙМУ САБАКУ

Мой чорны, мой лахматы дружа!
Ты ад зімовай, лютай сцюжы
амаль сівы.
І ўсё ж ты, пёс, пры ўсім пры гэтым,
аддадзены мне зімой і летам,
і ты жывы.

Аб кожным новым чалавеку,
аб кожным кроку дрывасекаў
ты знак давай.
Ды ўбачыш вывадак фазана
ці лань, што праімчыцца рана, —
шум не ўзнімай.
Ды справа іншая, як, скажам,
лісу пачуеш ў лесе нашым
або дзіка!
(Павыць табе я дазваляю,
калі убачыш, як заззяе
ражок маладзіка.)
Суседскаму псу-забіяку
дай бог, гані яго, сабаку,
чаго глядзець!
Калі ж залезе злодзей ноччу,
сумей адным скачком, па-воўчу,
яго сустрэць!
А прыйдзе раптам Смерць дачасна,
касою замахае часта, —
будзь пільным тут.
Збяры сабачыя ўсе сілы,
закрэслі ікламі усімі
яе прысуд!
Ды калі прыйдзе Смерць дарэчы,
то будзь гатовы да сустрэчы,
дай ёй прайсці, —
не адганяй сваёю злосцю,
сустрэнь, як і належыць, госцю
і ў дом пусці...

*ХАІМ МАЛЬЦІНСКІ*
*(1910—1986)*

## ПЕРАШКОДА

Я моцна спаў, ды хтосьці разбудзіў.
Аловак, чую, скінуў са стала
І па маіх паперах захадзіў.
Зноў мышаня!
        Трывожна без святла.
Я устаю, запальваю святло.
А пры святле — і сну як не было.
Я зноў тушу. І зноў прыходзіць мыш...
Вось так якую ноч і спіш.
А ты ж разлічваў: добра адпачнеш
І зранку працу новую пачнеш.
Выходзіць, што разлікам — грош цана,
Калі якая мыш адна
Так разбурае план твой, тваю ціш.
І нават мышаня адно, не мыш.

*ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА*
*(1923)*

**ЛУЖЫНА**

З дзяцінства я добра помню той страх.
Я абмінала лужыны,
асабліва свежыя, пасля дажджу.
Адна з іх жа магла быць без дна,
хоць выглядала, як іншыя.

Ступлю і раптам правалюся ўся,
пачну ўзлятаць уніз,
яшчэ глыбей уніз,
у кірунку адбітых хмар,
а можа, і далей.

Потым лужына высахне,
зачыніцца нада мной,
а я назаўсёды злоўленая — дзе —
з неданесеным на паверхню крыкам.

Толькі пазней прыйшло разуменне:
не ўсе дрэнныя прыгоды змяшчаюцца ў законах свету
і, нават калі б хацелі,
не могуць здарыцца.

*АНДРЭЙ ГЕРМАНАЎ*
*(1932—1981)*

**МОСТ**

Я — ваш мост.
Я — ваш мост.
Я — нязменны каменны мост.

Мой пралёт пасівеў ад гадоў,
і спіна мая не спачывае —
ад падэшваў і капытоў,
ад абцасаў і абадоў...
Я — гісторыя ваша жывая.
Усё прыйдзе і ўсё мінецца.
Толькі попел слядоў застанецца.
Падарожнік, ідзі, ты мой госць.
Ты прайшоў.
А я быў і я ёсць.
Я — ваш мост.

Я намошчаны вам пад ногі.
Без мяне вам няма дарогі.
А ў рацэ — мой двайнік капрызны.

Я каменны, а ён безабрысны.
Ды мы з ім утвараем акружнасць.
Цэлы век маё сэрца тужыць:
зззяе ён, а я знемагаю,
я адзін сваю ношу цягаю...
Я — ваш мост, а ён — мана.
Я — сапраўднасць, яго — няма.
Ён прыгожы, а я сівы,
ад работы сваёй ледзь жывы.
І аднойчы я рухну зусім
і сустрэнуся ўнізе з ім —
двайніком падманным маім...
Я — ваш мост.

...А цяпер — я пярсцёнак вясельны
берагоў, што купаюцца ў зелені.
І той бераг, які вы пакінулі,
для вас нешта накшталт ідыліі,
ён для вас ужо як гісторыя.
Вы ідзеце — вам глуха утору я.
Вас чакае бераг другі.
І ўсёй сілай сваёй дугі
пераношу я вас наўпрост.

Я — ваш мост.

## ГОЛАС ДЗІЧКІ

Вы мне прышчэпліваеце высакародныя парасткі,
а мой корань — дзікі.
Я прымаю вашы дзіўныя намаганні,
я гадую вашы высакародныя гатункі.
Так, але мой корань — дзікі.

Чаму вы мне не пакінулі хоць адну галінку,
каб я магла расціць даўкія дзічкі —
салодкія плады на дзікім карані?

Ваша хцівасць вас загубіць, шаноўныя:
хоць вашы гатункі буйныя і бліскучыя,
ды не могуць даць да канца культурны плён.
І ў гэтым мая маленькая помста.

Якая там маленькая —
то для вас смерць!
...Падаюць высакародныя плады ў зямлю,
і з іх насення
пойдзе ў рост
корань дзікі.

*ВАХТАНГ ДЖАВАХАДЗЭ*
*(1932)*

## УСЁ САМ

Як быццам ён скінуў ношу з плячэй
Ці праўду адкрыў нечакана...
Сам ён гадзіннік завёў хутчэй,
Сам кветкі паліў старанна.
Яшчэ сам падмёў таропка пакой.
Дыван сам паслаў у пакоі.
Люстру пачысціў уласнай рукой —
Чаго не рабіў ніколі.
Сам потым праверыў святло і званок.
Зрабіў усё сам непахісна.
Сам дзверы замкнуў і — на курок
Сам пальцам націснуў...

*МАРЦЭЛІЮС МАРЦІНАЙЦІС*
*(1936)*

* * *

Павядзе мяне мой садоўнік
У светлую поўнач чэрвеня,
Па вісячых ажурных мастах
Павядзе мяне яшчэ соннага.

Між зямлёю і месяцам
Закалышуцца воды,
Заквітнеюць зоркі,
Нібы квітнеюць лілеі.

Я ўбачыў, як ідзе дзяўчына, —
Ідзе па лілеях,
З кветкі на кветку,
І як падае на месяц,
Яе цень, празрысты, пяшчотны.

Будзе весці белы садоўнік
Па блакітных вісячых мастах,
Будзе весці далей і вышэй.

Хто ж абудзіць мяне ад сну
У светлую поўнач чэрвеня,
Калі я зайду далёка?
Калі стану для ўсіх нёзнаёмы?

*РАМУНА СКУЧАЙТЭ*
*(1931)*

### ДАМОЎ

Па верасах і мхах — дамоў.
Па шэрых камянях — дамоў.
Скрозь скрып глухі варот — дамоў.
Скрозь цесны строй дзвярэй — дамоў.

Дамоў — ні свет і ні зара.
Дамоў — спіць моцна дзетвара.
Дамоў — на косах свежасць рос.
Дамоў — як птушкі ў сінь нябёс.

Дамоў — не выкажаш душу.
Дамоў — пакуль няма дажджу.
Дамоў — жаўцее збажына.
Дамоў — азяблая, адна.

Дамоў — ў святле і цемнаце.
Дамоў — адзіны шлях вядзе.
Дамоў — дзе белы ткуць сувой,
з якім пайду ў дом вечны свой.

## АЛЕГ ЛОЙКА

**(1931, Слонім)**

Сын фельчара. Падлеткам у Слонімскай прагімназіі вывучаў лаціну і нямецкую мову, тамсама ўступіў у сябры Саюза беларускай моладзі. У 1943 г. чытаў свае вершы перад Н. Арсенневай, якая завітала ў горад над Шчарай на літаратурную сустрэчу. Ад Калымы паэта-пачаткоўца выратаваў юны ўзрост. Пазней, ужо ва універсітэце і аспірантуры, Лойку не-не ды і нагадвалі пра колішнія «грахі». Але навуковую кар'еру рабіць не перашкаджалі: Лойка абараніў доктарскую дысертацыю, узначаліў кафедру, стаў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук. Падтрымліваў цесныя навуковыя і творчыя кантакты з Енскім універсітэтам (Нямеччына), выкладаў ва універсітэце г. Седльцы (Польшча). Выдаў больш за сотню кніг паэзіі, прозы, літаратурнай крытыкі, манаграфічных даследаванняў, мемуараў, перакладаў. Перастварае з лацінскай, французскай, нямецкай, польскай моваў. Давяршыў распачатую М. Багдановічам справу і падараваў беларускаму чытачу выбранае «караля паэтаў» П. Верлена — «У месяцавым ззянні» (1974). Ева Лявонава ў прадмове да нашай анталогіі згадвае, як у 1967 г., вяртаючыся з Францыі, Лойка адцягнуў увагу мытнікаў аэрапорта «Шарамецьева» стосікам «Фігаро», затое засталіся незаўважанымі прыхаваныя томікі Верлена. Сярод наступных перакладных кніг былі «Спатканне іростань» Ё. В. Гётэ (1981), «Улада песняспеву» Ф. Шылера (1997), анталогія нямецкіх рамантыкаў XIX ст. «Маланкай жагнаныя» (2004). Галоўнай сваёй перакладчыцкай працай прафесар лічыць двухтомавую анталогію польскай паэзіі «Напярэймы: ад Буга да Варты» (2004), куды ўвайшлі 180 аўтараў — уся краса і сіла паэзіі нашых суседзяў з-за Буга. Пераклад А. Лойка разумее шырока, акадэмічна: ён «узбагачае нацыянальную літаратуру, далучае яе да скарбніцаў сусветнага пісьменства і праз тое выводзіць яе на сусветную арэну, знітоўвае з літаратурай сусветнай з яе глабальнасцю, мастацкай сілай, эстэтычнай, этычнай і філасофскай непаўторнасцю...». Жыве А. Лойка ў родным Слоніме, у мясцовай друкарні выйшлі і ўсе ягоныя апошнія па часе выдання кнігі.

*ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*
*(1749–1832)*

## ЦЫГАНСКАЯ ПЕСНЯ

Там, дзе туман, дзе снягі па калена,
З дзікага бору, зімовае ночы
Чуў я галодную воўчую звягу,
Чуў галашэнне глушманістых соваў:
Віле, ваў, ваў, ваў!
Віле, во, во, во!
Віта, гу!

Котку аднойчы падбіў я бліз тыну,
Анхен любімую чорную котку.
Ноччу аж сем ваўкалакаў прыпёрла,
Бо сем па сем чараўніц мае вёска.
Віле, ваў, ваў, ваў!
Віле, во, во, во!
Віта, гу!

Ведаю кожную, знаю цудоўна —
Анхен, Уршуля, Кэтхен, Барбара,
Ліза і Ева, і Бэта ў прыдачу,
Наўкола мяне карагодам завылі:
Віле, ваў, ваў, ваў!
Віле, во, во, во!
Віта, гу!

Тут называць стаў я кожную ўголас:
«Ну, чаго хочаш ты, Анхен? Ты, Бэта?..»
Бы ў матыліцы, сталі кружыцца,
Прэч уцякаць, падвываючы толькі:
Віле, ваў, ваў, ваў!
Віле, во, во, во!
Віта, гу!

*НАВАЛІС*
*(1772–1802)*

## Я ПЛАКАЦЬ НЕ ХАЧУ...

Я плакаць не хачу, вясёлы, а не смутны,
Над бегам дзён паўстань, уцехі поўны лад.
Узнагародзь мяне за шлях пакутны —
На міг хоць, Божа, кінь пагляд.

Надзею, пэўнасць, Божа, дай Ты мне:
Баяцца за сябе, а за каханне — не.
Дазволь Цябе хваліць у небясі,
Збавенне вернікам ты і адтуль дасі.

*ЁЗАФ ФОН АЙХЕНДОРФ*
*(1788—1857)*

## ЛЁС ПАЭТА

Для ўсіх табе сум сэрца
У радасць абяртаць
І млець у паняверцы,
І дым з агнём глытаць, —
Квет плён дасць, не аха́юць,
Пад ім і пахаваюць.

## НОЧЧУ

Пад шатамі хвояў вясёлых
Стаю, бы ў жыцця на краі,
Над полем — сутункавы полаг,
Бы срэбны — ручай пры гаі.

Званы загалёкалі зноўку,
Імчацца наўзповерх лясоў,
Казуля пудліва галоўку
Ўзняла, і ўжо дрэмле ізноў.

І лес, як сцяна, замаўкае,
Бы мроі, ля скалаў камлі,
І Бог па-над імі блукае,
Жагнаючы цішу зямлі.

*ПОЛЬ ВЕРЛЕН*
*(1844—1896)*

## У МЕСЯЦАВЫМ ЗЗЯННІ

Твая душа — шыкоўных свят пейзаж,
На ім пад лютняў залатое гранне
Прыгожых масак сунецца кірмаш,
Спанылены ад пераапранання.

Яны ўслаўляюць на сумотны лад
Жыццё, непераможнае каханне,
Ды шчасцем не праменіць іх пагляд,
Зліваючыся з месяцавым ззяннем.

Яго святло і сумная краса
Трывожаць дрэвы, птушак летуценні.
Халодная аплача іх раса,
На мармуры фантанных пырскаў цені.

* * *

*Son joyeux, importun, d'un clavesin sonore...*
*Petrus Borel*

Раяль цалуе тонкая рука,
І ў вечары — ружова-шэрым, цьмяным —
Блішчыць ён, як застылая рака,
Пад гукам, нібы шум крыла, рахманым,
Такім старым, слабым, зачараваным
Парфум дыханнем ад Яе хістка.

І што так ап'яніла, як віно,
Што песціць бедную маю істоту
Гуллівай ласкай, сціха, ледзь чутно?
Чаго ты прагнеш, тонкае руно
Рэфрэна шчырага, канаючы ля плоту,
За прыадчыненае выплыўшы акно?..

* * *

Азвецца ў скрусе на паляне рог,
Сірочай жальбай выплыве з каліны,
Каб ціха паміраць сярод даліны
Пад брэх бадзяжы звілістых дарог.

І воўчая душа слязу ў мурог
Пралье, убачыўшы: крывавым клінам
У сонца уразаецца яліна,
Каб захапляць, каб жах будзіць трывог.

Ды каб суцішыць боль глухі зямлі,
Сняжынкі лёгка лётаць пачалі,
Бялюткія ў густой барвовай стыні;

Дыхнула восень з-за нямых стадол,
І аднатонне цішы цішыць дол,
Што залаціцца золатам пустыні.

*КАЗІМІРА ІЛАКОВІЧ*
*(1892—1983)*

**БОГ, ЁН УСЮДЫ...**

Таго не аб'ехаць: Бог, ён — усюды:
у кожным абрадзе — цудоўным і блудным,
і выклікаюць яго
квет малітвы, кадзіла чад,
шыбеніца, сякера, кат.
Ён жа і ў суддзі, што судзіць крыва,
і ў сведцы, што прысягае фальшыва, —
і няхай тое вас не вельмі пудзіць,
бо калі ў Пятры ён святым, то і ў Юдзе,
бо калі ў габрэі ён, немцам замучаным, нявінным,

то ці ж і не ў немцы?.. І я так павінны
круціцца між праўдай-няпраўдай, карай-зброднняй,
і ў тым, і ў другім Бога знаходзячы штодня.
І таму рукі хачу прасцерці і верша зыкі:
над вінаватым і невінаватым, малым і вялікім
і крычаць, крычаць умольна, з перасцярогай:
судзячы чалавека, не мучце, людзі, Бога!..

*ЯРАСЛАЎ ІВАШКЕВІЧ*
*(1894—1980)*

## ВІТРАЖЫ

На вітражы да Ізольды Трыстан гаварыў:
«Глянь, як кабольды танцуюць... Што за парыў!..
О сонца, бледным тварам нашым дапамажы,
Злучы ў пацалунку мілосным на вітражы!..»

«Не, і сонца — не цалаванняў прычына.
Сетка яго — залатая адно павуціна.
Любоў — не праўдзівая, што намалявана...» —
На вітражы адказвала Ізольда Трыстану.

*ЮЗАФ ВІТЛІН*
*(1896—1976)*

## ЛІТАННЕ

Пра ўсё, што творыцца сёння, маўчу.
Маўчу пра ўніжэнне родных, блізкіх,
Маўчу пра ганебнае іх ганьбаванне,
Пра Польшчу па смерці Маршалка маўчу,
Пра голад галодных, пра святасць святых,
Пра ўсіх, у няроўных бітвах бітых.
Маўчу пра долю сяла, мужыка.
Маўчу пра горад і безработных.
Маўчу пра змрок у душах глуміцеляў.
Маўчу пра змрок у душах прыдушаных.
Маўчу пра нацкоўванне людзей на людзей.
Маўчу пра збіванне слабых, бяспраўных.
Пра існаванне Картузскай Бярозы
І пра кайданы на руках паэта
(І ўжо ж пра цябе, пане цэнзар,
Дык не сканфіскоўвай майго маўчання).

Маўчу пра ўсё, што з майго сумлення
Нячыстую робіць, гнаістую рану.
Маўчу пра ўсё, што горла сціскае.
Маўчу пра змору, што поўнач кладзе мне
На сэрца, поўнае горычы, скрухі.
Са сківаццаў пекла, разяўленых дарэшты,
Душа маўчаннем крычыць.

Маўчу пра ўсе злодні, якія бачу.
Маўчу пра ўзброеных баязліўцаў,
Пра тоны крыві, надарэмна пралітай.
Маўчу пра войны, што ўжо крываточаць,
Маўчу пра войны, што выбухнуць заўтра.
Маўчу пра дзяцей у моргах Мадрыду.
Маўчу пра ласку бомб і іпрыту.
Маўчу пра ўсе працэсы ў Маскве.
Маўчу пра відма, што блудзіць Еўропай.

О Пане, што судзіш учынкі і словы,
Не вельмі карай за маё маўчанне.

*АЛЯКСАНДР ВАТ*
*(1900–1967)*

## З ПЕРСІДСКІХ МАТЫВАЎ

Над вялікай быстрай вадой
на беразе камяністым
чэрап людскі ляжаў
і клікаў, клікаў Алаха.

І было ў тым клічы-крыку
гэтулькі мальбы благальнай,
гэтулькі роспачы,
што спытаўся я ў праведніка:

«А што вымаліць тут можна?..
З-за чаго тут чыніць трывогу?..
Чаго прагнуць больш ад Бога?..»

Ды хваля раптам набегла,
чэрап падхапіла,
раскалыхала,
аб бераг ім грукнула,
чэрап распалавініла.

«Нічога няма канчатковага, —
сказаў мне праведнік, —
і няма дна найгоршаму».

*ЮЛЬЯН ПШЫБАСЬ*
*(1901–1970)*

## СОНЦА З-ЗА ЎЗГОР'Я ГВАЗНІЦЫ

Сонца з-за ўзгор'я ўзышло большым,
краявід падалінеў.
На веснавой, зноў азіральнай зямлі,
асуджанай на расстрэлы,
стаю.

А калі загіну?
Нёс я паэзію, як жаўнер — імя,
у бляшанцы на персях
супраць куляў дзвюх вёснаў.

А толькі ў краіне бацькі,
што жыта дзядзічыць,
хопіць раллі пад слова
апошняе.
Я ж працаваў глыбакаворнай мовай,
сеяў любоў,
а заўжды памятаў — залп грымне,
і навекі
спачну між ратаёў:

хай калыска майго позірку — шчыт Патры
пакладзе мне на вочы свой краявід
магілай.

У небасхіле, што ахінаў маё маленства,
несці зямля мяне будзе ў вечнасць да сонца.

## *МАР'ЯН ПЕХАЛЬ*
*(1905—1989)*

* * *

Магу перакшталціць краявід,
завярнуць рэчку да вытоку,
планаваць вятры і буры,
магу паляцець на Маладзік,
ссінтэзаваць бялок,
збіць з арбіты Зямлю.

Толькі не магу вярнуць да жыцця
растаптаную божую кароўку.

### ЗАКОН ГІСТОРЫІ

Дабро — слабасць,
сіла — сіла Зла...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аднак на Крыжы
слабасць перамагла.

*БОГДАН АСТРАМЭНЦКІ*
*(1911–1979)*

**ELI LAMMA**

Зерне кінутае ў зямлю
не родзіць

фінікавае дрэва
ўсыхае

венцер зануранsocially ў возера
вынырвае пустым

мытнік здалёку абмінае храм
з поўнымі рэзгінамі

сляпы які стаў відушчым вяртаецца ў горад
лаючыся

Лазар праклінае дзень
у які падняўся з труны
толькі Прыгавораны здзяйсняе сваю павіннасць да канца
самотны
валачэ сваё дрэва
на гару

*ЯН ГУШЧА*
*(1917)*

* * *

Не вёў аніводнай бітвы
з тубыльцамі
Не знявечыў нічога дарэшты
не чэрпаў золата жменьмі

Богабаязны
ці абыякавы
не быў пераверценем-дыпламатам

Прывёз у Еўропу
можа ў мяшку з ветразевай палатніны
прасцябанай вятрамі Атлантыкі
можа ў лубянцы
бульбіну —
расліну вынослівую з сям'і Silanacae
было гэта недзе ў XVI стагоддзі

Няма яго прозвішча ў энцыклапедыях
няма яго надмагілля
ў касцёле
ніхто нікога яго іменем не натхняе

Ёсць бульба

*ІГАР СІКІРЫЦКІ*
*(1920)*

**СЛУЧ**

У абпаленых вуснах супрацьлеглых берагоў,
У мёртвым трэску ссохлых чаротаў
Сплаўляем аблокі, выразаныя са сцягоў, —
Лодак пушыстых чароды.

Хлопец — чуб-лён вудачкай плынь гнаў,
Трапяталі ў вачах ластаўкі —
Стрэлы з напятага луку небасхілу.
Белыя далоні далёкіх ветразёў
Змрок заламаў.

Праз скрыжаваных пальцаў сетку
Ты бачыла найкрывавейшы бікфордаў шнур:
Сонца — правадыра аскальпаванага,
Калі чубам у разагрэты пясок
Ударыў вечар, поўны рыбы.

* * *

Ніхто паэзіі ад цела не адвее,
Ні даўняя, ні новая навала, —
Адсеклі галаву Арфею,
Ды і адсечанай яна спявала.

*ЦІМАФЕЮШ КАРПОВІЧ*
*(1921)*

**ЛЕКЦЫЯ ЦІШЫ**

Калі матыль
завельмі гвалтоўна
часам складваў крылцы —
крычалі: прашу цішыні!

І ледзь-ледзь пёрыйка
спалоханай птушкі
зачапілася за прамень —
крычалі: прашу спакою!

Так вучылі
бесшалесна хадзіць
слана на бубне,
чалавека па зямлі.

І ўставалі дрэвы
без шуму над полем
так, як устаюць
валасы ад страху.

*ТАДЭВУШ СЛІВЯК*
*(1928—1994)*

## ЧАРАВІКІ

Вярнуліся з вайны
майго бацькі чаравікі
скура цвёрдая патрэсканая
па швах распоратая

А дзе ж ногі — спытаўся я —
а дзе споднi
дзе анучы паходныя
дзе стук абцасаў

Ды чаравікі маўчалі
вываліўшы язык
дышучы на парозе
злізваючы кроў

*МАЛГАЖАТА ГІЛЯР*
*(1930—1995)*

## МАЛІТВА

Матка Боска ў папяровай кароне
Жыхарка халоднага касцёла
Каралева срэбнай цішы
Уцёкі ад цікаўных позіркаў
Апякунка слоў мяккіх як нарцызы
Патронка нашых пацалункаў
Сведка найпрыгажэйшых прысягаў

Штодзень я да цябе прыходжу
хоць знаю
сумоты не зменшыш
расстання не скароціш

Што ты ведаеш пра каханне
блакітная і гіпсавая
каторая нават свайго сына
зачала непапраўдзе

*ЕЖЫ ГАРАСЫМОВІЧ*
*(1933—1999)*

## ЛЕМКАЎШЧЫНА

Царкоўныя вежы-цыбуліны восень аплаквае нема
Іней заткаў меч Міхала святога і клеці
Холадна голадна беларускім святым ноччу днема
Дзе мышы пішчаць хорам на старацаркоўным дыялекце

Галодныя святыя грызуць аналой грэка-каталіцкімі зубамі
Пазрывалі ўсе яблыкі ў вечназялёным раі
Верны служка Васіль дзеўся куды не ўцяміць
Ніхто спевам святых не поіць ім нічога не раіць

У гушчэрні дзікай цыбуліны цэрквы як каскі
Як Алега паход легендарны дружынны шаломны
У пагроме знішчальным неверагоднай казкай
Рабіны чырвонай сцяг невераломны

*ЯН КУРАВІЦКІ*
*(1943)*

## НА ПЭЎНУЮ АКАЛІЧНАСЦЬ

Каго б тут павесіць?
Спыталася галіна
генеалагічнага дрэва

і гэта ўсё

*КАЗІМЕЖ СВЯГОЦКІ*
*(1943)*

## ВЕЦЕР АД БОГА

Калі Вялікі Птах
устрапянуўся ва мне
крыламі хмар,
снег паваліў
у пустыя мае артэрыі.

Рос я зоркай і зарой палярнай,
а думак маіх лядовыя горы
крышыў у моры
Дух Паўночны,
як благое зерне.

Высокім цёмным небам
цякла мая кроў,
клічучы: «Выйдзі,
вандроўніку, са сваіх берагоў,
бо ж кліча цябе Вялікі Птах
на нязнаную лавітву,
святло згаслых целаў
да бяседнага стала кліча!..»

І я ўзняўся на крылах хмар,
дзе маладзік бесшалесна
піў сваім рогам
маю кроў,
а Бог сабе спаў.

І я даткнуўся да Божага сну,
як да зямлі выратавальнай, —
зорка ж пакацілася ў мой слых
асілкавым плачам.
І я зразумеў: Бог сніць мяне,
я расту на глебе яго сну;
зорка ва мне коціцца і грыміць,
вецер ад Бога сэрца маё калыша.

*ЕВА ЛІПСКА*
*(1945)*

### ДЗЕНЬ ЖЫВЫХ

У Дзень Жывых
памерлыя прыходзяць на іх магілы —
запальваюць дзённае святло
і перакопваюць хрызантэмы антэнаў
на стрэхах шматпавярховых грабніцаў
з цэнтральным ацяпленнем

Пасля
спускаюцца на ліфтах
на сваю штодзённую працу
ў смерці

## СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ

**(1931, в. Нова-Аляксандраўка Дрыбінскага р-на — 1988, Менск)**

Сцяпану Гаўрусёву належыць паэтычная характарыстыка свайго літаратурнага пакалення як выраслага «пад гарматнымі ствваламі». Думаецца, што ён, А. Пысін і П. Панчанка напісалі галоўныя вершы пра вайну. Хоць увядоміўся Гаўрусёў у 1960-я гг. паэмай пра Леніна «Профіль веку» (напісанай, трэба прызнаць, мускулістым і запамінальным радком: «Цунамі звар'яцелымі сланамі / бягуць, бягуць на нашы берагі. / А што за намі — буры з перунамі, / што перад намі — вобраз дарагі»). Перакладаў несістэматычна і, хутчэй за ўсё, дзеля заробку. Выключэнне — абавязковы для кожнай савецкай рэспублікі «Маабіцкі сшытак» М. Джаліля, зроблены на пару з Пысіным. Несумненна, што ў новым стагоддзі Гаўрусёў варты перачытання і перавыдання, а заадно не шкодзіла б пазбавіцца ад чортавага тузіна пры падліку ягоных кніжак — ад 1955-га да 1988-га, года смерці паэта, іх выйшла роўна 13. Нямала, калі ўлічыць, што Гаўрусёў быў беспасадным паэтам, жыў пераважна на ганарары, а за галоўныя рысы характару лічыў шчырасць, сціпласць і цярплівасць.

*АВАНЕС ТУМАНЯН*
*(1869–1923)*

**ПЕРАВАЛ**

З маленства вызначыў кірунак свой:
Пакуль я ў сіле,
Па горным схіле
Іду — з узнятай горда галавой.

Сцяжынка абарвецца пад нагой;
Сіл не шкадую,
Яе знайду я, —
Зноў крочу, апаясаны смугой.

Што я пакінуў ля падножжа, друг?
Чыны і грошы,
І свет варожы —
Усё, што вольны прыніжае дух.

Адчую, аглядзеўшыся ў гарах,
Што ўсё нікчэмна,
І дарэмна
Я некалі цаніў... дарожны прах!

Не страшыць кайстра і бязлюднасць скал,
І мне пацеха —
Палохаць рэха
І весела ісці за перавал.

*МУСА ДЖАЛІЛЬ*
*(1906–1944)*

**ТРУНА**

Дзевяноста год пражыў Фарук,
Зведаўшы і радасць, і нядолю,
І аднойчы паглядзеў наўкруг,
Ажно сэрца сцялася ад болю:

«Я аджыў і — хопіць! Чалавек
Мусіць сорам мець, а мы забылі,
Што жыццё даецца не навек
І падумаць трэба аб магіле.

Час і мне пакінуць назаўжды
І бяду, і радасці зямныя,
І паціху кіраваць туды,
Дзе ад болю сэрца не заные».

І пайшоў стары да трунара
І з усімі ў думках развітаўся,

А трунар той жыў каля двара,
У якім цырульнік завіхаўся.

Толькі на парог ступіў Фарук,
Скалынаючыся хілым целам,
Як усё змянілася наўкруг —
Выйшла да яго дзяўчына ў белым.

Быццам вочы вымыў ён расой
І стрымаць не ў сілах захапленне —
Адступае смерць перад красой,
Старасць гне свае калені.

І спытала з ласкаю яна:
— Што, дзядуля? Ці труна вам трэба?
Стаў стары бялей ад палатна:
— Мне, дачушка, не пара на неба.

Я нядуж, ды гэта праміне,
Праганю бязносую з парогу.
Бачыш: барадой зарос я. Мне
Трэба пагаліць яе хоць троху.

*ПАВЕЛ ВАСІЛЬЕЎ*
*(1910—1937)*

**КІРГІЗІЯ**

Замоўкні і ўслухайся ў тупат табунны —
Па бітых дарогах дасвеццем сырым
У скурах парваных
        бяздомныя гуны
Густой саранчой пралятаюць на Рым!..

Сцяжэлае сонца ў агні і туманах,
Распалены вецер ляціць стрымгалоў,
І горкі палын, як журба паланянак,
Як песні аулаў,
        як крыкі арлоў.

Ні кроплі вады. Але ў поўдзень пральецца
Шафраннага мроіва хмельны падман,
І нас каля студняў старых, як вядзецца,
Вітае гартаннае слова — аман!

Каменне завострана. Цёмны ад сажы
На тварах у ідалаў водбліск душы,
Мартыны і чайкі
        крычаць на Балхашы,
Дзікі пaядаюць чарот у цішы.

Ад юрты да юрты у тлуме базараў
Вярблюджай хадою размераны дні,
Ды тут, на дарогах вятроў і пажараў,
Будоўлі вялікай устануць агні!

Саўгасы Кіргізіі! Травы прымяты.
Вярблюджы працяжна пакорлівы ўсхліп.
Пах алма-ацінскіх садоў п'янаваты,
І першыя рэйкі раскінуў Турксіб.

Зямля набухае, гудзе ды ільсніцца,
Няўрымслівай сілай касматых снапоў
Зялёныя стрэлы ўрунелай пшаніцы
Праколюць вачніцы пустых чарапоў.

Стэп слухае рух наймагутнейшы гэты,
Руда закіпае і зносіць пяскі,
І чуюць ля ўсіх перадгор'яў Саветы —
Зліваюцца статкі, як плыні ракі.

## ВЕРШЫ Ў ГОНАР НАТАЛЛІ

Нам у вокны свеціць летні ранак,
Ды шкада — на іх няма фіранак,
Ветраных, узвейных, трапяткіх.
Як бы яны весела ляталі
Ў вокнах прыадкрытых у Наталлі,
Ў вокнах светла-сонечных тваіх!

І яшчэ такое ў мяне слова —
Ты пашый з пушынак дзьмухаўцовых
Блузку з рукавом найкарацей.
Каб тваё няўрымслівае цела
З ядрамі грудзей пазалацела,
Каб праймала спёка да касцей.

Я цябе кахаю — май ты літасць —
Ад шырокіх броваў і сярдзітых
Да ступні, да ногцікаў люблю,
Плечы, што ад ласкі абяскрыляць,
Вочы, што да сэрца твайго хіляць,
І хаду паважную тваю.

А ўсміхнешся — пазіраў бы вечна,
Як ты ўсміхаешся сардэчна —
Да чаго ж ты слаўная тады!
Робішся даступнай, незачэпа,
Вусны растуляюцца, як неба:
Вось душа хаваецца куды!

А прайсціся выйдзеш, дарагая,
Кожны з цябе цешыцца, ўслаўляе,
І народ здаволена гудзе.
Захапляецца тваёй паставай,
Называе «золаткам» і «павай»:
«Прыгажуня па зямлі ідзе».

Так ідзе, што дрэвы зелянеюць,
Так ідзе, што салаўі шалеюць,
Хмаркі нерухомеюць у рад.
Так ідзе, пшанічная ад сонца,
Ад любові шчасная бясконца,
Ясная ад галавы да пят.

Так ідзе, што ёй даюць дарогу,
Чуючы няўхільную трывогу,
Модніцы з факстротных табуноў,
У якіх фрызуры пахнуць псінай,
Сцёгны свецяць скураю гусінай,
Мазалі на пятах ад абноў.

Лета п'е з вачэй яе, як з чары,
Нам рэпертуар ваш не да твару —
Чортава рагулька, воўча сыць.
Мы яшчэ Някрасава чыталі,
Мы яшчэ «Калінушку» спявалі,
Мы яшчэ не пачыналі жыць.

Чэрвенем — у светлую нядзелю —
Справім мы вясёлае вяселле
Без брыдоты рознай і трухі.
Чуеш — звон узнёслы далятае?
Гэта пецьнявеста пачынае
І гітары строяць жаніхі.

Вечарам гітарам галасіста,
Чым не хлопцы нашы трактарысты?
Сталі мы заможнымі людзьмі.
Нашаму жыццю і шчасцю — слава!
Ты пярсцёнак рук маіх, забава,
Быццам шлюбны залаты, прымі.

Услаўляю светлую Наталлю
І жыццё з усмешліваю даллю,
Услаўляю радасць ейных воч,
Кветкі, што на коўдры не завялі,
Доўгі стогн, кароткі сон Наталлі,
Шлюбную спякотлівую ноч.

*ГАФУР ГУЛЯМ*
*(1919)*

**ЧАРНІЛЬНІЦА**

Хвалу каламу выдаў Алішэр,
А пра чарнільніцу забыў зусім.
О чарнавокая! Ты свецішся, павер,
Люстэркам перад поглядам маім.

Чарнільніца, прымі хвалу вякоў!
Любая кропелька твая — што кроў байца.
Аддаўшы славу для маіх радкоў,
Сама маўчыш з усмешкай мудраца.

Са мной працуеш і ўначы, і ўдзень,
Не дасынаеш, каб паспець я мог.
Хоць чорная — адкінь самоты цень,
Бо думка светлай выйшла за парог.

А ў дні вайны, калі лілася кроў
І акрыляў нас вокліч баявы,
Маўчала пра забойц і ліхвяроў;
«Я не такая чорная, як вы!»

...Закончан верш. Вітаючы зару,
Зямля ірдзіцца алаю каймой.
Табе я сваю кнігу падару,
Чарнільніца мая — суаўтар мой!

## НІЛ ГІЛЕВІЧ

**(1931, в. Слабада Лагойскага р-на)**

Выпускнік філфака БДУ, дзе дваццаць гадоў (1960—1980) працаваў выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры. Заслужаны дзеяч навукі, прафесар, даследаваў паэтыку фальклору, склаў некалькі тамоў беларускіх народных песень. У 1980—1989 гг. быў першым сакратаром Саюза пісьменнікаў (пры старшыні — М. Танку). У Вярхоўным Савеце, які прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, узначальваў пастаянную камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. З першага да шостага выпуску рэдагаваў альманах «Даляглядзы», галоўнай мэтай якога было (цытую прадмову «Ад рэдкалегіі») «знаёміць грамадскасць рэспублікі з лепшымі творамі літаратур братніх савецкіх народаў, краін сацыялістычнай садружнасці і прагрэсіўных пісьменнікаў свету, спрыяць выхаванню новых кадраў перакладчыкаў». Не ведаю, як рэдкалегія правярала пісьменнікаў на «прагрэсіўнасць», але «Даляглядзы» выглядалі даволі ліберальным выданнем, на старонках якога яшчэ задоўга да галоснасці побач з вершамі прэзідэнта сацыялістычнай Анголы Агасціньё Нэта знайшлося месца і творам Ф. Кафкі, Т. С. Эліята, Г. Г. Маркеса і нават сакратаркі Пілсудскага К. Ілаковіч. Згубнай памылкай было закрыццё «Даляглядаў» у 1992-м, сорамна і няёмка перад светам, што за пятнаццаць гадоў незалежнасці альманаху не з'явілася годнага заменніка...

Першыя пераклады Н. Гілевіч апублікаваў яшчэ студэнтам, у 1953-м, тамсама, ва універсітэце, пачаў вывучаць балгарскую мову. Захапленне балгарыстыкай узмоцнілася, калі даведаўся пра цікавы гістарычны факт: аказваецца, сяляне роднай паэтавай вёскі ў 1923 г. на мітынгу пратэставалі супраць усталявання ў Балгарыі фашысцкага рэжыму Цанкава. З той пары Гілевіч пераклаў цэлую славянскую бібліятэку. Варта назваць асноўныя кнігі: тры анталогіі балгарскай паэзіі — «Ад гром балканскіх» (1965), «Хай зорыць дзень!» (1973), «Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень» (1978); «Маці мая Славенія: Старонкі славенскай паэзіі» (1976), «Роднасць: Пераклады са славянскіх паэтаў» (1983), выбранае Н. Вапцарава «Песня пра чалавека» (1982), Г. Джагарава — «Зямля — як чалавечая далонь» (1984), Х. Радзеўскага — «Цвіціце, зёлкі, травы, дрэвы!» (1985), О. Жупанчыча — «У вечным дазоры» (1986), Л. Леўчава — «Мелодыя для флейты» (1990), І. Давыдкава — «Крокі вернасці» (1970, разам з А. Разанавым), П. Яварава — «Апалавы пярсцёнак» (1988, разам з В. Сахарчуком). Не хопіць месца пералічыць як усе выданні балгарскай прозы, сербскіх, славенскіх і македонскіх казак, украінскай дзіцячай паэзіі, так і імёны паэтаў, што ўпершыню загаварылі па-беларуску дзякуючы Н. Гілевічу. У 1965 г. ён, выступаючы на Усесаюзнай канферэнцыі перакладчыкаў, уразіў усіх фактам: аказваецца, Бальзака па-беларуску апошні раз выдавалі ў 1934-м, а Сервантэса — у 1938-м. З той пары прайшло яшчэ сорак гадоў, ■ «Дон Кіхот» па-беларуску так і не з'явіўся (праўда, ходзяць чуткі, што перакладзены ў Фінляндыі Я. Лапаткам). Сумныя рэаліі беларускай культурнай прасторы... За сваю перакладчыцкую дзейнасць Н. Гілевіч узнагароджаны ордэнам Югаслаўскай зоркі са стужкай, украінскім ордэнам Яраслава Мудрага і балгарскім — Кірылы і Мяфодзія, які ўручаў беларускаму паэту намеснік Т. Жыўкава паэт Г. Джагараў. У час падрыхтоўкі гэтай анталогіі выдавецтва «Кніга» распачало выпуск Збору твораў Гілевіча ў 23 тамах, два з якіх аддадзены пад пераклады.

*ІВАН ВАЗАЎ*
*(1850–1921)*

## КОНЬ

Рыссю, рыссю, конь мой,
Конь мой, віхрагон мой!
Ды па роўным полі,
Ды насустрач долі!
Жыва, конь мой, жыва —
Каб па ветры грыва,
Каб ляцелі іскры
З-пад капытаў быстрых!
Недзе ў роднай хаце
Тужыць-плача маці —
Я туды ірвуся,
Маё сэрца ў скрусе.
Цяжка мне ў чужыне,
Не ў сваёй краіне.
Рыссю ж, рыссю, конь мой!
Конь мой, віхрагон мой!

*ОТАН ЖУПАНЧЫЧ*
*(1878–1949)*

## ЯК ШМАТ

Як шмат набожных! Повен — цёмны храм.
І Ён — да крыжа прыгвазданы — там,
і ўсе ў Распятага ўзіраюцца,
задобрыць модламі стараюцца.

«О Збаўца свету, памажы ты нам!
Збаў ад пакут, якія зведаў сам...
Даруй грахі...» — набожна каюцца
і ран Яго святых кранаюцца.

Пасля — выходзяць. Я таксама ўстаў.
Вось да Распятага натоўп памкнуўся
і пацалунак удыхнуў у вусны.

Салодкі, ён яшчэ па вуснах цёк,
а я ішоў і ўкраў яго, украў
і — новы Юда — з ім у цемру ўцёк.

## ДЭВІЗ

Куй, жыццё, душу маю!
Калі крэмень — заіскруся,
калі шкло — на друз паб'юся,
калі сталь — дык запяю!

*МІРАСЛАЎ КРЛЕЖА*
*(1893–1981)*

## АДВЯЧОРКАМ

Позна па полудні.
Крыльцы божых мух бліскаюць, як каметы,
промень сонца пранізвае грудзі голага воблака.
Адвячорак дыхае гарачыней, фасфарысцыруе, свеціцца.

Сіняя зелень лясоў п'е мёртвых воблакаў кроў,
і вогніцца чырванню сонечны меч барвовы.
Дзесьці ў смузе — так, у смузе —
чуецца плач нябачны.

Гэта блізіцца Вечаровая скруха,
нібы змораная прыгожая жанчына,
што небам марудна ідзе
і цалуе воблака раны.

*ДЭСАНКА МАКСІМАВІЧ*
*(1898–1993)*

## ПАТРАБУЮ ПАМІЛАВАННЯ

### У АБАРОНУ ЛЯСНЫХ ЗАКАЗНІКАЎ

Цару Душане,
патрабую памілаваць
лясныя заказнікі,
гнёзды, нанізаныя на галіны,
крылы кобчыка,
яго подзвіг птушыны,
шаленства цецерукоў,
дрэў маўклівую змову –
перад тым, як сонцу садзіцца,
падкаменнай змяі галоўку,
шмыгат яшчаркі на санцапёку,
малако грыбоў,
дзікіх пчол лясныя сядзібы,
светлячкоў і струхлелых пнёў
спадманныя ўночы дзівы,
безыменныя,
ледзьве бачныя ўсе стварэнні,
што высочваюць здабычу,
лесу адвечны звычай,
кроплю дажджу,
збітую куляю паляўнічай,
поўню, што па-над лесам нізка
усплывае мішэнню вялізнай.

### У АБАРОНУ ФАНАБЭРЫСТЫХ

Патрабую памілавання
для фанабэрыстых – для паўлінаў,
з іх арэоламі рэпавымі,
з іх сцюдзёна-зялёнымі пер'ямі,
з іх люстранымі палацамі,
з усходкамі мармуровымі,
з уборамі шматкаляровымі.
Патрабую памілавання
для пыхлівых і ганарлівых,
што бачаць толькі сябе
і любяць сябе асабліва:
іх не датычыць усечалавечы
Божы закон –
покуль птушкі ўюць гнёзды,
покуль жанчыны цяжарныя
выношваюць без нараканняў плод,
покуль гронкі кізілу
набываюць чырвоны колер,
яны множацца
у люстэрках сваіх пакояў.

*ХРЫСТА РАДЗЕЎСКІ*
*(1903)*

* * *

Ці ты прыгожая — не знаю сам
і не збіраюся пытаць ні ў кога.
Я да цябе іду так, як у храм
ідзе набожны з вераю у Бога.

Люблю, як чысты сэрцам чалавек
сваю радзіму любіць —
дом свой родны.
Хваробай гэтай хворы я навек
і выздаравець не хачу, не згодны!

* * *

Асёл рашыў:
закон не без агрэхаў,
і прывілеяў дамагаецца ўсур'ёз —
за тое, што калісь Ісус Хрыстос
на прадзедзе яго ў Ерусалім уехаў.

*СТАНІСЛАЎ РЫШАРД ДАБРАВОЛЬСКІ*
*(1907—1985)*

## ЗАЎВАГА

Некалькі пралесак за два злоты
Могуць ашчасліціць, як каханне.

А ад водару геліятропаў
Задушыцца можна ў царскім садзе.

Гэта ісціны такія відавочныя,
Што іх трэба паўтараць зноў і зноў,
Бясконца.

*ЮРЫ БРЭЗАН*
*(1916)*

## КАЛІ Б СЁННЯ ЗНОЎ ХРЫСТОС З'ЯВІЎСЯ...

Калі б сёння зноў Хрыстос з'явіўся —
зноў былі б яму калыскай-ложам
яслі ў стойле беднага асла,
бо і сёння так, як і калісьці,
беспрытульных не завуць у госці;
пастухі яго віталі б песняй,
каралі ўзнялі б крывавы меч.

Калі б сёння зноў Хрыстос з'явіўся,
памагаў бы зноў людзям і ў свята —
часу нашага лячыў бы раны,
і прыйшлі б спытацца фарысеі,
а чаму, працуючы ў суботу,
ён ганьбуе гэты дзень святы?

Калі б сёння зноў Хрыстос з'явіўся —
ён бы зноў вучыў адной навуцы:
чалавек, будзь чалавеку братам;
і, як некалі, за добрых вучняў
толькі б бедных рыбакоў ён меў.

Калі б сёння зноў Хрыстос з'явіўся —
ён бы зноў у гневе справядлівым
выгнаў з храмаў крывадушных хціўцаў,
што гандлююць словамі яго.

Калі б сёння зноў Хрыстос з'явіўся —
зноў ён быў бы на крыжы распяты:
золата — адвечны кат любві.

*ФРАНЦЭ ФІЛІПІЧ*
*(1919)*

## РАКА, ЯКОЙ УЖО НЯМА

Была рака.
Цяпер мёртвае рэчышча
ляжыць, гвалтоўна аголенае —
з каменнымі грудзямі,
з ілістым жыватом,
вецер-сатыр танцуе над ёю
і свішча ў дуду пустога воблака.

Што з табою зрабілі, рака?
Укралі ўсе твае хвалі,
укралі твае нябёсы,
зялёнай вады крыштальны палац,
адбіткі людзей і зорак
і смех вясла — усё, усё,
што тысячагоддзі стварала
у смелым, свабодным разгоне,
сплятаючы гожы вянок на чало
высокага лета.

Была рака.
Нейкай ноччу, аднак,
вада сюды вернецца, прыйдзе нячутна,

каб людзі не падсцераглі
(толькі на час успамінаў візіт гэты будзе),
парусам месячнага святла ахінуўшыся,
маўкліва яна пераступіць бераг,
над белым каменнем схіліцца,
нібы ў калыску, у рэчышча
пакладзе галаву шчасліва,
і рэчышча зноў забруіцца —
нейкай ноччу, на час успамінаў,
для цябе, калі будзеш стаяць там,
адзінокі, на высахлым дне,
дрыжучы ад начнога холаду,
на выступе горкай самоты,
з сэрцам, поўным замоўклага шуму
украдзеных хваль.

*ІГАР СІКІРЫЦКІ*
*(1920)*

## ПАЛЯНА

Пад кашлатым дубам
на краю паляны
вылупіўся з моху
баравік духмяны.

Скуркаю вільготнай,
нібы пыска сарны,
нюхае ён ранак —
сцішаны і парны.

Перш чым бліcне сонца
па камлях замшэлых,
слухае трывожна
папараці шэпты.

Папараці шэпты,
росаўападанне
і твае глухія
крокі на паляне.

## ПОЎДЗЕНЬ

Ад сланечнікаў — сонца фантаны.
Ссе санліва аер грудзі возера.
А цвыркун — чую, водарам п'яны —
свой гадзіннік накручвае ў стозе.

*БЛАГА ДЗІМІТРОВА*
*(1922)*

## ХУТКАСЦЬ

З такою імчуся хуткасцю,
што кіламетр ператвараецца ў імгненне,
дрэва — ў зялёны вецер,
вецер — ва ўдар па скроні,
а мак прыдарожны — ў іскру.
Хуткасць.
Такая няўрымсная хуткасць,
што здагадка ператвараецца
ва ўзмах рукі,
узмах рукі —
у набліжаную далечыню,
а зара — у румяны, даступны плод.
Хуткасць.
Такая вар'яцкая хуткасць,
што смутак кахання
раздзьмухваецца ў агністую рану.
Хутчэй да цябе!
Да цябе хутчэй!
Дарогі перакрыжоўваюцца на імгненне
і разыходзяцца
з такой хуткасцю,
што сустрэча ператвараецца ў ростань,
усмешка ў слязу, мара — ва ўспамін.
Хуткасць.
Тыя ж дарогі,
на якіх я павінна была расплакацца,
ува мне ператвараюцца
у звонкія песні.
Хуткасць.
Я імчуся цераз прастору,
выхапленая з матэрыі,
раскаваная ад цяжару,
абернутая ў прамень.
Каб дасягнуць зямлі і сагрэць яе
усяго на адно імгненне,
у адным толькі пункце
і там жа згарэць.

*ВЫЦЁ РАКОЎСКІ*
*(1925)*

## ВЯЧЭРНІЯ ДАХІ

*Івану Давыдкаву*

На змерку горад поўніцца імглой,
яго абрысы неяк дзіўна таюць:
вячэрні свет, вячэрніх дахаў строй,

анёлы дня, што ў небе пралятаюць.
Да позна не магу заснуць ніяк.
Скрамсаны ўвесь нажамі сцен і вуліц,
ссыпаю ў чару ўсе турботы дня
і сну свайму падношу: хай атуліць!
І пачынае пасяляцца ў ім
рэальны свет: з сяброўствам, з варажнечай,
з дарогамі, і з клопатам маім,
і з прагаю, якой спатоліць нечым.
Прачнуся ж — бачу толькі змрок начны.
Усё заслана прывідным спакоем:
пусты квартал, дом, дрэвы ля сцяны,
зацiхлы сквер, машына, побач — двое,
разлука (ці разлука гэта ў іх?),
пальто старэнькае і плашчык новы,
і таямніца — толькі для дваіх,
і пацалунак звыклы, выпадковы...
І як да цёмных вокан каштаны
лістамі цягнуцца, нібы вушамі,
каб слухаць гоман дня, што ноччу сны
нячутна напаўняе міражамі, —
так ува мне па міг апошні мой
глыбока будуць жыць і не растаюць:
вячэрні свет, вячэрніх дахаў строй,
анёлы дня, што ў небе пралятаюць.

*ГЕОРГІЙ ДЖАГАРАЎ*
*(1925)*

## ПРАГА

Баюся, што аднойчы на хаду
ці за сталом рабочым сэрца стане,
што не на полі бітвы я ўпаду,
а ў зацішку, на тапчане засланым.

Каля труны, дзе буду я ляжаць,
людзей, сяброў маіх збярэцца мноства,
каб патужыць, засведчыць смутак-жаль
і трохі выпрабаваць красамоўства.

І ўсё!.. Жыцця бясконцая рака
далей памчыць, пакоціць шум свой вечны.
А я ў зямлі, і хустачка ў руках —
нібы маленькі парус недарэчны.

Зноў будуць вёсны зелянець, цвісці,
і без мяне, мяняючы эпохі,
хадой эпічнай будзе час ісці...
Няўжо я не ўзбунтуюся хоць трохі?

Няўжо не трэсну ў века галавой?
Няўжо ў магіле я не абярнуся

і хоць былінкай-зёлкаю якой
зноў да людзей — няўжо я не вярнуся?

*ІВАН ДАВЫДКАЎ*
*(1926)*

**ТАБУН**

Шэрае неба — і белае воблака.
Між мокрых пагоркаў — равы-крутаяры,
пабітыя ржою асенняй папараці.

Дзень адыходзіць.
Блізіцца вечар —
з адрывістым тупатам дзікіх коней.

Чорныя п'юць са светлага броду —
так доўга, што ў рэчцы цямнее вада.
Белыя ржуць так працяжна і звонка —
аж кусты закіпаюць лісцём, як ад ветру.
А чырвоныя — грывы свае падпальваюць,
каб маглі канюхі адшукаць дарогу.

Толькі адно жарабя, што радзілася ўчора,
на ножках, дрыготкіх ад радасці і нецярпення,
імчыцца за крыкамі птушак адлётных,
бяжыць па лагчыне,
змяншаецца
і знікае.

Гэй, там, няўжо вы не бачыце? Запыніце!

Сумнае ржанне кабылы
разносіцца між узгоркаў.
Ды не чуе яго жарабя — высока ў зеніце
яно ўжо зрабілася зоркай.

*НАЙДЗЕН ВЫЛЧАЎ*
*(1927)*

**БАГАРОЎНЫЯ**

Як на карціне на класічнай:
зімовы вечар за сцяной;
гарыць камін; наўзбоч, прывычна —
віно і хлеб; меланхалічна
мы на агонь глядзім з табой.

Што міг? Што даўнасць?
        Келіх поўны
не скажа нам. Сябе саміх —
сівых, слабых, безабаронных —

мы лічым тут за багароўных
перад гурбой грахоў сваіх.

Гэй, вы, хто чысты і бязвінны,
вы, што ўзышлі на шлях круты,
для гэткай ночы ў зімняй стыні
шануйце даўнія каміны —
у іх ёсць попел залаты.

*МІЛДРАГ ПАЎЛАВІЧ*
*(1928)*

**ПАЛЯВАННЕ**

Брата павёў я на паляванне
дасвецщем у лес,
добрыя коні былі ў нас,
і крамянёвыя стрэлы,
і дзічыны было ў лесе поўна.
Але маўклівы мой брат
мову жывёл разумеў:
ваўкі гаварылі пра брацтва,
мядзведзі — пра справядлівасць,
у вепра пачуўся прапрадзеда голас,
птушкамі азываліся сёстры,
удовы, сіроты і ненароджаныя...
Шмат дзён спадзяваліся мы,
што стрэнем сапраўднага звера.

Ды так і вярнуліся ў вёску
галодныя і з пустымі рукамі.
Стараста лаяў нас моцна,
любыя здрадзілі нам і пакінулі,
забраўшы з сабой пажытак,
і ў манастыр не пусцілі нас старцы,
каб даць нам яду і прытулак.

Толькі коні нас верна насілі
з меншай даліны ў большую
ды птушкі лёталі ў нас над галовамі,
размятаючы хмары.

*ДЗМІТРО ПАЎЛЫЧКА*
*(1929)*

**ЖАРАБЯ**

Павольненька ідуць сівыя коні,
Упрэжаныя ў пахавальны воз.
Ім гаспадар счасаў на вочы пасмы,
Каб не запомніўся да могліц шлях.

Яны ўсё ж бачаць трохі і праз пасмы,
Але ўдаюць сляпых — так людзям лепш.
Іх дабрыня не суцяшае ў смутку,
Іх мудрасць не развейвае журбы.

А каля воза жарабя малое.
То скубане люцэрну з-пад труны,
То забяжыць, каб да саскоў далезці,

То заіржэ, то паімчыцца ўскач, —
І дзінькае пад капытом малога
Чыясь павесялелая сляза.

## НЕЦЯРПЛІВАСЦЬ

Пастух хацеў пачуць хвалу ад Бога
У вогненным кусце і запаліў
Маленькі корч сухога ялаўцу.
І полымя шугнула, як з гранаты.

І нетры хвойныя пайшлі агнём,
І стала страшна пастуху на ўзлессі,
Што птушаняты пагараць у гнёздах,
Якіх было нямала навакол.

Ён кінуўся гасіць той ялавец.
Ды позна ўжо было. Усё згарэла.
А Бог маўчаў, бо іншага любіў.

Так вы, не ўчуўшы голасу любові,
Спалілі, цёмныя ілжэпрарокі,
Ад нецярплівасці мільёны крыл.

## МОСТ

Яму рака, няйначай гільяціна,
Сцінала карак крыгай ледзяной.
Яму ламалі таранам ключыцы
У самы шал-разгул вясновых хваль.

Яму пад сэрца клалі дынаміт —
Ён узлятаў, як змей дзіцячы ў неба...
І толькі палі значыліся там,
Як месяца адбіткі пад вадою.

Але ён адраджаўся кожны раз —
Бетонам браліся быкі і бёрны,
З гнілых слядоў яго ўзрастала сталь!

На ім бяссмерця я спасцігнуў тайну:
З распяцця ў неба ўваскрасае мост,
Бо ён — часціна вечнае дарогі.

## ВЯСНА

Як чорны кнот патушанае свечкі,
Край шляху дрэва голае стаіць.
Пажоўкла-шэрыя, нібы дзяды,
Ляжаць снягі з закрытымі вачыма.

Ды ўжо сініца скрыпачку сваю
Настроіла і звонка славіць сонца,
А поверх лёду мутныя патокі
Цякуць, як воўна з брудных бараноў.

Мне лёгка, добра на душы. І я
Смяюся да дзяўчынкі незнаёмай;
Жыццё, відаць, і ёсць вясновы посмех.

А потым я ўзлятаю і буслу,
Што на вярбе гняздо як храм будуе,
Галінкі урачыста падаю.

*ПЕЦЯ ЯРДАНАВА*
*(1931)*

## АНТЫМАЛІТВА

Ты з хаціны маёй у садку
не ўтварай манастырскае келлі.
Я адтуль апаўночы ўцяку,
калі будуць праходзіць алені.
Заспявай мне — каб свет закрычаў,
не падладжвайся песняй пад модлы.
Вочы гордыя бацька мне даў,
каб палёт мой быў смелы і горды.
Па-зямному сустрэнь на зямлі,
крыжам рук не разводзячы сонна.
Ты каханнем мяне абпалі,
як гарачае летняе сонца.
З фотаздымка майго не рабі
абраза Багародзіцы ў раме.
Бурай ты нада мной пратрубі
і рассей уначы над гарамі!
Там я дужая, вольная. Там!
Распылі мяне ў пыл на каменні!
А ў хаціну, што стане як храм,
хай святых пераселяцца цені.

*БОЖЫДАР ЦІМОЦІЕВІЧ*
*(1932)*

## САЛДАТЫ

Горад ляжаў перад імі ў пажары вячэрняга сонца,
доўгі цень адкідала ў раўніну чырвоная вежа-гігант.
Стукаліся ў залатыя вароты,
і падхопліваліся вартаўнікі.
Бразганне зброі, пах конскага поту,
на пляцы гамонка людская.

Уваходзілі брудныя, няголеныя і ў сініх шнарах ад ран,
забіваннем займаліся, як добрым старым рамяством.
У сенцах стаялі жанкі і дзяўчаты гуртамі,
пазіраючы ўпотай на вопытных грубых самцоў.

Уваходзілі ў тоўстыя сцены, як голад, як поўнач,
з прыгожымі тварамі, пануры мі без ласкі жаночай, без сну.
З душ у іх выраслі пустынь прагавітыя кактусы,
з якімі лажыліся ў белыя чыстыя простыні каля жанчын.

*ФРАНЦЭ ФОРСТНЕРЫЧ*
*(1933)*

## Я ІШОЎ ПА ПУСТЫНІ

Я ішоў па пустыні —
змораны і сляпы.
Сонца за мною сачыла агністаю зрэнкай.
Сонца няшчадна паліла ў твар пілігрыма.
І не мог варухнуць я рукамі,
каб сонцу ў вочы
кінуць прыгоршчы пяску.

Крокі за мной заціхалі,
як сцятыя вусны.
Перада мною наўсцяж усыхала дарога.
Я клікаў спагаду з крыві —
ды кроў маю выпіў пясок.
Гордасць клікаў я з белых касцей —
ды косці змалоў пясок.

І зноў я ішоў па пяску
бесцялесны, як смага,
і ўжо не было ў мяне рук,
каб замахнуцца на сонца.

*ЭЎЦІМ ЭЎЦІМАЎ*
*(1933)*

* * *

Хмаркай летняй ты плывеш высока,
я — над хмаркай стану зоркай яснай,
ты ў яе, бы ў люстра, паглядзішся
і маёю зноўку будзеш.

Ты абернешся ракой увечар,
я ў даліне возерам зраблюся,
ты ўвальешся ў возера на золку
і маёй навечна будзеш.

## АСЕННІЯ ЛІСТЫ

Ты і радка не пішаш мне сама,
затое восень,
як паэт натхнёны,
шле безліч пісем ад твайго імя,
на кожным бачу
почырк твой знаёмы,
ў іх шуме крокі мне чутны твае,
тваёй далонькай стукаюцца ў сэрца,
і восень
        іх чытае ўголас мне,
і ты сама прыйшла сюды, здаецца.
Уся зямля святлее ў гэты міг.
І ўжо не страшна мне з зімой спатканне...

Дабраславёныя лісты, ў якіх
яшчэ ёсць лета цёплага дыханне!

*ЮРЫ КОХ*
*(1936)*

## ВЕЧАР У АЎТАМАБІЛІ

Фара ліжа шэрую шашу,
чапае і лес абапал —
чорны, з бруднымі зубамі.
Вожык пераеханы.
У тэрмасе
кава ўжо астылая даўно,
у мокрым лісці
кошкі дзікія,
а з радыё струменіць
інданезійскі шлягер.
Над лесам бліскаўкі-успышкі
электронныя
і дзіўны гром.

Мне зімна.
Раптам:
фара адкусіла свой язык.
На балконе дома
жонка мая вешае пялёнкі —
і ўплёўся ў інданезійскі шлягер
сербскі спеў.

*ЛЮБІША ДЖЫДЗІЧ*
*(1937)*

### СЯЛЯНЕ З КРЫВОЙ РАКІ

З гэтай вёскі сяляне згарэлі жывымі,
ды не ў попел ператварыліся, а ў святло.

Калі цёмна ў Еўропе —
асцярожна мы факелы іх пераносім:
свецім згарэлымі дзецьмі!

Хоць і чуецца плач —
але крык не рассейвае морак начны:
трэба толькі святло!
Святла вам
навекі ў дар,
сяляне з Крывой Ракі!

## ГЕНАДЗЬ КЛЯЎКО

**(1932, в. Воронічы Пухавіцкага р-на — 1979, Менск)**

Выпускнік філфака БДУ (1955); працаваў літрэдактарам у «Калгаснай праўдзе» (ператворанай пазней у расейскамоўную «Сельскую газету»), у «Вожыку», з 1973-га — намеснікам галоўнага рэдактара «Полымя». Аўтар паэтычных зборнікаў «Падкова над парогам» (1979), «Вязьмо» (1984) ды інш. З дапамогай падрадкоўнікаў перакладаў вершапісцаў амаль з усіх «рэспублік-сясцёр», спецыялізаваўся на асецінскай. У серыі «Паэзія народаў СССР» выдаў зборнік заснавальніка асецінскай літаратуры К. Хетагурава і цэлую анталогію яго паслядоўнікаў «Трубіць алень» (1975). І ўсё ж венгерскія паэты атрымліваліся ў Кляўко зграбней.

*ШАНДАР РАКАШ*
*(1921)*

### ГАЛІНКА АБРЫКОСА

Калі цнатлівай да мяне бяглянкаю доўгавалосай
прытулішся, ты — быццам на вятрах галінка абрыкоса.
Усхліп дыхання, ўздрыг плячэй, неасцярожнае памкненне,
збліжэнне конусаў грудзей — і я трымчу тваім трымценнем.
Жамчуг дрыготкі жывата напружаннем высокім пальцы
мне зводзіць — тайны немата, і ў цемнаце яны іскрацца.

Спаднічка — як заслона — ўніз, і свет знікае шматгалосы,
ты зламваешся ў стогне на вятрах, галінка абрыкоса...

*НАФІ ДЖУСОЙТЫ*
*(1925)*

**ВОСЕНЬ**

Светлы ад восені стаў расцяроб,
Цішай самотнаю поўняцца гукі.
У мора ступіўшы,
Нібы вінароб,
Сонца абмыла збарвелыя рукі.

Горы не могуць і дня аднаго
Вытрываць спёкі,
Што летам паліла.
А я не стрываю маўчання твайго,
Я не магу,
Не стае ў мяне сілы.

Плакалі хмары ўсю ноч з нематы,
Вочы праплакалі вокны і горы.
Божа, якая далёкая ты, —
Ні дабрыні ад цябе, ні дакору...

## АЛЕНА КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА

**(1932, м-ка Круглае Талачынскага р-на)**

Дачка драматурга Р. Кобеца, які быў у 1938 г. рэпрэсаваны. Біяграфія бацькі нашкодзіла і Алене — у 1955-м яе, як дачку «ворага народа», не прынялі ў Ленінградскую кансерваторыю. Жыла ў Выбаргу, у Стаўрапалі (Расея). Пасля бацькавай рэабілітацыі паступіла-такі ў кансерваторыю (на гэты раз — у Беларускую) на клас фартэпіяна, выкладала ў дзіцячых музычных школах. Але хоць «музыка вышэй за ўсё» (П. Верлен), вырашыла заняцца літаратурай. Закончыла курсы пры Літінстытуце імя М. Горкага, працавала рэдактарам на «Беларусьфільме», у выдавецтве «Юнацтва». Аўтарка папулярных аповесцяў для падлеткаў. Некалькі гадоў пражыўшы ў Грэцыі, дзе працаваў муж, прыахвоцілася да перакладаў з навагрэцкай мовы і ў 1973 г. выдала зборнік «Гамера XX стагоддзя» Я. Рыцаса «Макронісас».

*ЯНІС РЫЦАС*
*(1909—1990)*

**НАШЫ ДЗЕЦІ**

Гэтыя дзеці апранаюць на голае цела чабор,
па майках іх шпацыруюць вошы зорак,
ноччу ў іх чаравіках ястрабіхі нясуць яйкі.
Кожную нядзелю яны апранаюць два платаны — нагавіцы,
маленькае міндальнае дрэва — кашулю,

хустачка іхняя — мора, а кепка — вецер,
у вачах
гара,
рака,
лес.

Жалудамі зашпільваюць яны пінжакі свае,
сцізорыкамі разразаюць хлеб цішыні,
вячэраюць каменнем,
п'юць неба,
і ходзяць у іх душы
май і снежань поплеч.

У іх мускулістыя рукі,
пануры голас,
упартасць мула. Яны не згінаюцца.
Гэтыя гордыя дзеці.

Яны ведаюць, што такое барацьба.
Яны ведаюць свой абавязак. Дзёрзкія.
Ні на адзін валасок не адступаюць ад свайго абавязку.

Калі ўвечары ружавеюць палаткі,
калі, за цішынёй чуцен першы стрэл вячэрняй зоркі,
яны стаяць, шырока расставіўшы ногі, упёршыся ў камень,
сціскаючы ў кішэнях кулакі,
і плятуцца на вячэрнюю паверку,
валакуць за сабою цень свой, нібыта звязанага льва.

Пазней, калі ўгамоніцца вецер,
пасля вячэрняга пайка,
у час, калі залатыя рыбкі начы
слізгаюць паміж нагамі,
а зоркі бліщчаць, як чаркі на эпірскай паліцы,
яны глядзяць на электрычныя агні Лаўрыёна,
уціскаюць вочы свае, быццам кулі ў патранташ галактыкі
і моўчкі ідуць да палатак сваіх.

Міхаліс спыніўся ля парога.
Ён кінуў позірк у далячынь і сказаў:
«Нашы там ваююць».
Мы маўчалі. Мы запалілі лямпу.

## І УСЁ Ж

Прайшло шмат часу.
О, як жа ўсё, што ўзялі мы з дамоў нашых, зламалася,
знасілася!

Стук дзвярэй, расчыненых у сонечную спёку,
голас у калідоры: «Чаму спазніўся?»

Белы грабянец, якім расчэсваюцца
вечарам перад люстэркам,
цыгарка, што курылі ў акно вясны,
уцягваючы хвост Малой Мядзведзіцы,
цень ад дзвюх рук пад лямпай,
паміж дзвюма талеркамі з садавінай.

Гэта ўсё тое, што ўзялі мы з сабой у клунках нашых, —
і белыя шкарпэткі ўзбярэжжа,
і спартыўныя майкі Красавіка,
яшчэ й нажнічкі, якімі цішыня калісьці
свае пазногці адразала па беражку змроку,
блікі ад шкла, што на руках і шчоках цішыні
трымцелі...

Знікла ўсё, знасілася. Іржой пакрыліся нажнічкі,
абламаліся кончыкі іхнія,
цяпер яны, як мёртвая ластаўка, — там, на камені,
побач з брытвай і мылам мора, —
не звяртаем увагі, — адразаем на нагах нашых пазногці,
мазалі:
гэта, як заржавелы ключ не патрэбны —
замкі зламаныя.

Колькі ўзялі багажу мы разам з клункамі!
Усё зламалася, знасілася. Не засталося нічога.

І ўсё ж
іншы раз вечарамі,
калі Малая Мядзведзіца ліхтарык вешае
перад адкрытай палаткай,
выграбаючы пазногцямі сваімі ямкі ў сухой зямлі,
Васіліс, ці Петрас, ці дзядзька Антоніс
корпаюцца ў сваіх клунках,
шукаюць згубленую лыжку або кварту,
марудзяць рукі іхнія, і рухі ўсё цішэй, цішэй:
бо людзі аддаліся ўспамінам...
І вецер вакол іх стаў круглы, нерухомы,
як у макітрах масла,
І цішыня такая наступае, як пасля шуму жорнаў,
калі спынілася вада.

Тады мы раптам чуем той забыты гук,
быццам нажнічкі напярэдадні Каляд
сурвэткі для буфета выразаюць,
а белы грабянец расчэсвае валасы жанчыны,
быццам на дыбачкі ўстаеш,
каб прыкурыць ад месяца цыгарку.

І тады знаем, што на самым дне ў нашых клунках,
пад бруднымі кашулямі і дзіравымі шкарпэткамі

яшчэ застаўся вышыты маленькі ручнічок,
сатканы з хатняй цішыні,
І гэты цень ад рук,
як два вялізныя сухія вінаградныя лісты.

І дзіўна. І хочацца плакаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ПЯТРУСЬ МАКАЛЬ

**(1932, в. Крушыняны Беластоцкага в-ва, — 1996, Менск)**

Меўся быць будаўніком — два гады адвучыўся ў Гарадзенскім будаўнічым тэхнікуме, які ў 1949 г. перавялі ў Магілёў. І «заходнік» Макаль не паехаў на ўсход, а паступіў у Гарадзенскі педінстытут, які закончыў у 1954-м. Але педагогам не працаваў ні дня, пайшоў у рэдактары (месцы працы: «Гродзенская праўда», «Маладосць», «ЛіМ», «Мастацкая літаратура», Тэатр юнага гледача). Аўтар цікавых кніг, адметных і паэтыкай, і стылем: «Акно» (1967), «Поле» (1978), «Смак яблыка» (1981, Дзяржаўная прэмія Беларусі). У адрозненне ад многіх беспамылкова разумеў узаемаадносіны паміж творцам і ўладай: «Гучыць заўжды аднолькава ўгавор: / калі не ўкленчыш паслухмяна, падай.../ Адных, — да сценкі ставячы, — ва ўпор; / другіх — маруднай доўгаю асадай». Пакінуўшы ў 1983 г. службу, доўгі час знаходзіўся на гэтак званай творчай працы, жыў непрыкметна, крытыка на яго забылася. Было ўражанне, што паэт за гады актыўнай працы вычарпаў свой рэсурс. І сапраўды, Макаль пісаў многа і ў розных жанрах, шчодра расходваў творчую энергію на сябе і на другіх. Скажам, адзін зрабіў анталогію славацкай паэзіі «Татры пяюць» (1976), куды ўвайшлі творы дваццаці паэтаў. Выпусціў і яшчэ дзве аўтарскія перакладныя кнігі: славака М. Валека — «Крылы» і расейца А. Шасцінскага — «Асенняя пошта лістоты» (абедзве 1978). На пару з А. Вольскім перакладаў яўрэйскую лірыку, для тэатра разам з А. Вярцінскім — п'есы Л. дэ Вэгі. Па перыёдыцы і розных зборніках раскідана безліч макалёўскіх перакладаў чэшскіх, польскіх, грузінскіх паэтаў.

*ВАЖА ПШАВЕЛА*
*(1861—1915)*

### АЛЕНЬ

Бядуе ў засені алень,
Ён не пайшоў на пашу ў горы
Да тых, з кім разам кожны дзень
Страчаў зару, праводзіў зоры.
Ён страціў рогі ў барацьбе,
Па іх нясцерпна зараз тужыць.
Ён у адчаі і журбе,
Якіх не ў сіле сам адужаць.
Аленям — родзічам сваім
Яму зірнуць у вочы сорам,
Таму у тумане густым
Хаваецца з няўцешным горам.
Не ведае, няўцямны, ён,
Што рогі вырастуць ізноўку,
Што ў бегу — ветру наўздагон —
Сустрэне ён сваю сяброўку.

*СТАНІСЛАЎ КОСТКА НЭЙМАН*
*(1875—1947)*

## САКАВІЦКІ СНЕГ

Ён, адыходзячы ў нябыт,
Стаў, як манарх старэчы,
Яго счарнелы аксаміт
Сутуліцца ў сінечы.

Хоць можа скрасці ён на час
Кавалак светлай долі
І кайданы надзець на нас
Самадзяржаўнай воляй...

Полк белай гвардыі ляціць —
Зімы апошняй лёкай,
Але яму ўжо не спыніць
Вясны румянашчокай.

Стары, працягваючы бой,
Вадою дол акропіць,
Ды раптам і яго з сабой
Паток вады падхопіць.

*СТАНІСЛАЎ ЧЭРНІК*
*(1899—1969)*

## НАД МАЛАДОЙ ВАДОЙ

Малое — яшчэ ні ручай, ні рачулка,
ну проста нітачка вадзяная...
А як прабіваецца — жвава і гулка,
камені, пятляючы, абмінае.

Але зрабіла пташка
крок.
Падкоп свой цяжка
пратараніў крот.
Птушыным пальцам
спынен кропель бег,
ў кратову ямку
ўпала зерне рэк...

Ах, як шкада
упартага і марнага рыўка —
была такою маладой вада,
але з яе не вырасла рака.

*АНДРЭЙ ПЛАЎКА*
*(1907—1982)*

## СПЕЛАСЦЬ

Ах, і восень — залатое дзіва,
Выспявання дар,
Яблыкам румяным сарамліва
Палымнее твар.
Завітала з гэткай шчодрай ношай
Рана на зары,
Нібы маку, натрусіла грошай —
Паспрабуй збяры.
І здаля цябе зачаравала
Звабнасцю вачэй.
Не марудзь жа, чуеш, часу мала,
Пакаштуй хутчэй.
Кавуны тапырацца з-пад блузкі,
Кроў стукоча ў скронь.
Для арэхаў кошык вельмі вузкі —
Падстаўляй далонь.
Слодыч губ — у гронках вінаграда,
Косы распляла,
Легла ў ложак у зацішку сада
Кропляю святла.

*ПАВАЛ ГОРАЎ*
*(1914—1975)*

## ЗАКАХАНЫЯ ПАД ДАЖДЖОМ

Дажджыць. Гаворыш. Мы ісці павінны.
А я люблю, таму малю: на час
прытулімся з табой, як дзве галіны, —
хай парасоны дрэў схаваюць нас.
І хай дажджыць. Хай кроплі вадаспаду
агонь наш тушаць з рана да цямна,
а усё ж звініць, звініць, як серэнада,
маё каханне ля твайго акна,
бо у ліўнях спее сінява пагоды,
сняць цішыню вясновыя грамы.
Дажджыць трывала, шумна, як заўсёды,
пакуль не сціхне, пачакаем мы.

*ЯН ПІЛАРЖ*
*(1917)*

## КАПАННЕ БУЛЬБЫ

З ворыва шызай ватай
Цёплы дымок струменіць —
На полі бяруць дзяўчаты
Зямное золата ў жмені.

Дзяўчаты вядуць пошук,
Як куркі, у пульхных барознах.
За кошыкам поўніцца кошык,
На бальшаках завозна.

Цэлая вёска на гонях
Збірае падземныя яблыкі,
Грэецца ў цёплых далонях
Да поўначы глеба азяблая.

*ШТЭФАН ЖАРЫ*
*(1918)*

## ГАЛАСЫ

Бягуць па дратах галасы,
ад іх прагінаецца лінія,
а лёгкая пташка, што скача на правадах,
выдзёўбвае з гукаў сумныя словы.
Прасей, паветра, звонкія шыфры,
няхай навіна крумкачова
не скалане раптоўна перапонкі,
дажджы, гваздайце стронцыевы пыл.
Адну антэну я ўздыму для чалавека,
высокую мачту, якая абмацвае хмары, —
горды гімн наваколля
лаўлю прыёмнікам сэрца.

*УЛАДЗІМІР РАЙСЕЛ*
*(1919)*

## НОЧ

Папяроса пахучая пасярод плачу.
А яшчэ пад ім
дым!
З крэсла
рука
злезла.
І цемра ў зацішку
з'ела над ім
успышку.

*МІРАСЛАЎ ВАЛЕК*
*(1927)*

### ДРЭВА

Чорны дуб па лесе ходзіць,
нібы перст адзін,
грукае па грунце,
галавой трасе,
свой спакой згубіў.

Знойдзе мост —
у горад прыйдзе,
топча кветнік,
ломіцца ў сцяну,
валіць гмахі,
захінае вочы,
кліча дапамогу...

Валасы, што ўздыблены,
гавораць:
ці не звар'яцеў
гэты добры дуб?

Гаварыце! Гаварыце!
Ёсць яшчэ другія рэчы,
дабракі!
Як сябе паводзіць чалавек,
выцягнуты з роднай глебы,
у адчаі, нібы перст адзін?
Сваё месца на зямлі шукае?
Страчаны спакой гукае?
Ці нязломную галінку?
Ці сцяблінку
на суглінку?
Чорны дуб па лесе ходзіць —
сцеражыцеся яго!

*ТАДЭВУШ ХРУСЦЯЛЕЎСКІ*
*(1920)*

### ПРА ВЕРНАГА ЛЬВА НА ГАНКУ Ў АПОЛІ

Хто жыў у гэтым доме, які вартуе звер?
Кавалерыст ці шляхціц, замежны кавалер?
Ды дзе там! У мінулым жыхар быў не такоўскі,
У доме на рагу жыў добры пан Грабоўскі.
Ён і аптэкар дбалы, і гаспадар рухавы,
Збіраў, як скарб гаючы, — рамонкі, зёлкі, травы.
А да таго ж і кнігі пісаў не без ахвоты,
Памочнікаў не меў ён, хоць многа меў работы.
Аднойчы пан Грабоўскі ўздыхнуў і ўсклікнуў: — Божа!
Леў драпае у дзверы і рыкае варожа.

У льва затрапятала кудлатай хмарай грыва,
Ён скокнуў за прылавак, на лапах стаў маўкліва.
Так і прыйшла падмога (заместа небяспекі).
Пісаў Грабоўскі кнігі, а звер выпісваў лекі.
Прывыклі з часам людзі — і дзіва ўжо не дзіва:
Леў прадаваў ім лекі, ілбом ківаў пачціва.
Ачуньвалі адныя, другія ж, як і трэба,
Расстаўшыся з зямлёю, ішлі ў абдымкі неба.
Адгаманілі вёсны, адбушавалі сцюжы,
І пасівеў Грабоўскі, а леў застаўся дужы.
Аднойчы ўзяў манаткі садоўнік і, як трэба,
Падаўся ў францішканы, ну а адтуль — на неба.
А леў не вельмі кеміў, таму не знаў, вядома,
Што гаспадар з вандроўкі не вернецца дадому.
Пакуль былі лякарствы, леў працаваў старанна,
На мур ускочыў потым — і там чакае пана.
Бязглузды звер любові меў так у сэрцы многа,
Але гады не песцяць нікога і нічога...
Ты, што нацэліў прагна на звера фотавока,
Пытаешся, ці ж ходзяць у нас ільвы навокал?..
Я адкажу спакойна на гэтае пытанне:
Нас вернасці навучаць і камень, і паданне.

*МІЛАН РУФУС*
*(1928)*

## ВОЗ З СЕНАМ

З грукатам, нібы лёс,
у браму ўязджаў воз.
Духмяную павалоку
цягнуў за сабой здалёку.
Якім ён быў цудам ўсё-ткі:
і горкі, і разам салодкі.
А конскія капыты
з шалам адменным
выстуквалі рытм круты,
нібы на бубне ваенным.
Грымелі такты жалобныя,
на марш пахавальны падобныя.

Але трава,
　　мудрая і пасля смерці,
нікога не дакарала,
прыўстаўшы на дыбках,
з мужнасцю рэдкаю
сама сабе рэквіем
на самых танчэйшых скрыпках
іграла.

І пах, нібы слава свету.

*ПАВАЛ КОЙШ*
*(1932)*

## ДВА САНЕТЫ ПРА КАХАННЕ

I
Як прыходзіць у ліхтар агонь,
я ў цябе прыходжу гэтак з ночы.
Дзень тады збудзіцца неахвочы,
калі позірк твой мне студзіць скронь.
Гэта ты з пяшчотай галубінай
можаш сэрца юнае забраць,
як драпежнік можа цікаваць
за ахвярай дзюбаю арлінай...
Так, у кожным з нас знаходзіць пашу
страшны птах або адчайнасць наша,
нібыта згараем мы ў агні...
Мы баімся ўлады гаспадыні.
Але хто кахае, той на ўздыме
самай недасяжнай вышыні.

II
Чым бліжай да цябе хачу ісці,
тым болей прападаю за табою,
ад пацалункаў — барвы на лісці.
Вясна — пачатак восені з журбою.
Любоў! І ты не можаш вечнай быць,
не выстаіш перад дыханнем смерці.
І ўсё ж, відаць, лягчэй ураз памерці,
чым у жыцці нікога не любіць.
Хіба такое вечнае каханне,
якое адчуваем, як чаканне,
што толькі дзюбкай стукае яшчэ,
як птушанятка тое, што без пёрка,
як дрогкая нязведаная зорка,
што нас пяшчотай заўтра апячэ.

*ЯН ШЫМАНОВІЧ*
*(1939)*

## ТАТРЫ

Віхор на ўзлессі ўкленчыць
і, прыціскаючы каленам,
вяроўкай апярэзвае дубы,
па возеры
раскідвае лісцё,
як карты ваbūражбіт;
а цішыня ў цясніне, нібы сажа,
ні разу ветру рэхам не адкажа;
нібы сялянка,

неба твар наморшчыць,
таропка падбіраючы прыпол хмурынкі,
і ты ўздыхнеш, і зойме дых на міг;
урэшце, плашч пад вокны
кіне нам віхор,
а сам далей шыбуе;
і зашасціць, як сена,
ціхі дождж.

### ЛЕТА

На самым версе ночы,
як на мяшку,
сядзіць маўкліва птушка.
Удалечы —
там недзе косы востраць.
Удалечы —
там недзе певень звонкі
закукарэкаў,
абудзіў зару.
Ноч здрыганулася, як вожык.

Далёка навальніца
кіпцюрыкам скрабе.
А спуджаныя дрэвы
шаптацца ціха
пачалі.
Маланка —
быццам чыркнуў я запалкай.

На самым версе ночы,
як на мяшку,
затрапятала птушка,
залапатаўшы белым крыллем,
над ціхаю далінай
прашумела,
як прадвесце.

## *РАДАМІР АНДРЫЧ*
*(1944)*

### СПЁКА

На падушцы травы з зёлкамі
сонца касца працінае
сваімі іголкамі.

Прамень, што трапеча,
праз лісце тапалі
прабіўся —
залоціць плуг у полі.

На іншай частцы палетка
прамень злавіла кветка
і не пускае —
чырвоная і трапяткая.

## ЮРАСЬ СВІРКА

**(1933, в. Маргавіца Бягомльскага р-на — 2004, Менск)**

На першы зборнік Ю. Свіркі «Шэпчуцца ліўні» (1959) прыхільна адгукнуўся пільнавокі і чуйнавухі крытык (тады яшчэ не паэт) М. Стральцоў. Увогуле на крытыкаў Свірку шанцавала — пра яго пісаў і Р. Бярозкін, і А. Сідарэвіч, і Р. Барадулін, які разрэкламаваў Свіркаў верш пра «першы сказ перад націскам». Доўгі час працаваў у рэдакцыях, на пенсію пайшоў з «ЛіМа», дзе больш за дваццаць гадоў «вёў» паэзію. Перакладаў на некалькі тамоў, пераважна з літаратураў народаў СССР, на жаль, почасту з малавядомых аўтараў. Разам з Ю. Семендэрам склаў чувашскую паэтычную анталогію «Песні волжскага краю» (Менск, 1988) — таксама, канстатую з жалем, небагатую на паэтычныя знаходкі. Нечакана ў старой перыёдыцы мне трапіўся анталагічны верш Я. Смелякова «Помнік», і я зразумеў, што адным гэтым перакладам Ю. Свірка заслужыў на месца ў «Галасах з-за небакраю». Ды і Смеляковў нам не чужы — любіў падчас застолляў пахваліцца пашпартам, дзе ў графе «нацыянальнасць» значылася — «беларус». І ў вершах ягоных беларускія слоўцы пракідаліся, што надавала ім адметнага каларыту: «Укради мне, что за труд, / ржавый ключ острожный. / Ежели поэты врут — / больше жить *няможна*». Чытаеш «Помнік» і яшчэ раз пераконваешся, што меў рацыю Гарацый, напісаўшы: «Exegi monumentum...».

*ЯРАСЛАЎ СМЕЛЯКОЎ*
*(1913—1972)*

### ПОМНІК

Прыснілася, што я чыгунным стаў.
Хадзіць не дазваляе п'едэстал.

Здранцвелаю рукою не крану,
і сэрца б'ецца гулка — з чыгуну.

У памяці радамі — не падняць —
чыгунныя метафары ляжаць.

Цішком сачу за мітуснёй двароў
я з-пад насупленых чыгунных броў.

Вакол мяне дрэў многа негустых,
яшчэ лісцё не вырасла на іх.

Ля ног маіх між пліт расце трава
і поўзае наўколенцах дзятва.

Прыйшоўшы вечарам пад манумент,
пра несмяротнасць думае студэнт.

Калі паснуць пад поўняю сады,
захочацца табе прыйсці сюды.

Той самы лоб і сіні твой пагляд,
той самы рот, як многа год назад.

Як позні промень шле святло акну,
цябе я аглядаю з чыгуну.

І твар, і рукі, і душы парыў —
метал мяне дарэшты паўтарыў.

Усе памкненні, і жыццё, і лёс —
усё у помнік скульптар перанёс.

І я адтуль, дзе зорная бязмеж,
спушчуся на зямлю, дзе ты жывеш.

І рады буду шчасцю я твайму,
рукой чыгуннай ціха абдыму.

На выпуклыя вочы — драбяза —
чыгунная накоціцца сляза.

І ўчуеш ты у парку пад Масквой
чыгунны і пяшчотны голас мой.

## МІКОЛА ГАЙДУК

**(1933, в. Кабылянка Беластоцкага в-ва — 1998, Беласток, Польшча)**

Пачаргова вучыўся ў трох універсітэтах — Растоўскім, Ленінградскім і Беларускім (БДУ). Выкладаў беларускую, расейскую і лацінскую мовы ў Беларускім ліцэі ў Бельску-Падляскім, у 1965—1971 гг. быў яго дырэктарам. Збіраў фальклор, каля 1000 народных песняў апублікаваў у адмысловым зборніку. Актыўна выступаў як журналіст і эсэіст на старонках тыднёвіка «Ніва». Выдаў у Менску дзве кнігі гістарычных нарысаў — «Трызна» і «Паратунак». Пераклад з Е. Плютовіча ўзяты са зборніка «Cisz» (надрукаваны лацінкай у Беластоку, год выдання не пазначаны).

*ЕЖЫ ПЛЮТОВІЧ*
*(1947)*

### РАЗВІТАННЕ

рака сатканая з цішы падляшскіх ніў
там макі самкнулі
пажадлівыя вусны
пясчынкі спелі ў шчылінах
спустошаных клуняў

ды часам
на змярканні
чорныя матылі жыраваць ляцелі

спяваў ужо певень на плоце шолах белых касцей
мох барадаты ўторыў
у кароне асоту і рэзед

з-над ракі іржаў чэрап каня
на калок уваткнуты
і скавытаў апошні сабака раз'еханы возам
драбіністым

былі там дарогі шматкратна зарослыя
і быў Хрыстос прыдарожны з галавою адцятай
снарадам

а ціша як кот мурлыкала
пад заняпалым скляпеннем

## МІХАСЬ ШУШКЕВІЧ

**(1933, в. Ветка Слуцкага р-на)**

Пасля заканчэння філфака БДУ працаваў у Камітэце па кінематаграфіі, у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя», рэдактарам на Беларускім радыё. Піша вершы і песні, сярод якіх папулярная «Ты мне вясною прыснілася» (кампазітар Ю. Семяняка). Пераклад з Ю. Тувіма адшуканы ў штогодніку «Далягляды».

*ЮЛЬЯН ТУВІМ*
*(1894—1953)*

### ГАРБУН

Ах, што за гальштукі — кожны стракаты!
Ды што з таго мне, калі я гарбаты?

Мне быў бы да твару
Той, паласаты,
Ды хто яго ўбачыць
На мне, гарбатым?

Хоць бы ён быў, як вясёлка,
Хоць бы з паўлінавых пёраў, —
Не скажа ніхто: «Што за гальштук!»,
А кожны: «Які страшны горб!»

Я дарагі шалік купіў бы,
І так яго завязаў бы —
Ніхто мяне ў ім
Не пазнаў бы.

«Ах, ах, які горб! — будуць першыя вашы мыслі. —
Але... Нашто ж вы на гальштуку раптам павіслі?»

# КАСТУСЬ ЦВІРКА

**(1934, в. Зялёная Дуброва Старадарожскага р-на)**

У архіве складальніка гэтай анталогіі знайшоўся здымак: у маладым скверы пры БДУ сабраліся студэнты-літаратары Р. Барадулін, А. Клышка, В. Зуёнак, А. Вярцінскі, Г. Бураўкін, Ю. Свірка, М. Арочка, К. Цвірка. 1955 год... Гэта самае трывушчае і працавітае пакаленне ў беларускай літаратуры. Кожнаму з іх быў дадзены талент, ніхто, па вялікім рахунку, не пралайдачыў яго, усе яны, зрэшты, — самавітыя аўтары «Галасоў з-за небакраю». К. Цвірка пасля заканчэння універсітэта настаўнічаў на Капыльшчыне, працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, рэдактарам на Беларускім радыё, доўгі час загадваў аддзелам паэзіі ў часопісе «Полымя». Паэт, празаік, эсэіст, перакладчык, этнограф, ён нечакана для многіх знайшоў сябе і ў выдавецкай справе: з 1996 г. з'яўляецца нязменным старшынёй Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Беларускі кнігазбор», мэта якога — выданне 200-томавай «залатой бібліятэкі» Беларусі. На момант падрыхтоўкі анталогіі ўбачылі свет 42 дыхтоўныя тамы: М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Карскі, В. Ластоўскі, Л. Геніюш, К. Каліноўскі, Ф. Булгарын, Ч. Пяткевіч ды інш. Сярод іх — тры тамы, цалкам падрыхтаваныя Цвіркам (яму належаць прадмовы, складанне, каментары, ■ ў двух першых — яшчэ і ўсе пераклады з польскай): Я. Чачот (1996), «Філаматы і філарэты» (1998) і А. Міцкевіч (2003). Раней падобную работу мог выканаць хіба што Інстытут літаратуры за паруняспешных пяцігадак. Перакладчыцкі стаж Цвіркі — амаль паўвека. З апошніх прац не выпадае не назваць выдадзеныя ў 2001-м «Дзяды» А. Міцкевіча, якога перакладчык неадступна «адваёўвае» ў Польшчы, называючы беларускім польскамоўным паэтам. Рызыкую не дагадзіць прыхільнікам Міцькевіча (так на беларускі манер называў «песняра Літвы» даследчык В. Тумаш), але нацыянальнасць паэта — ягоная мова.

*МІХАЛ РУКЕВІЧ*
*(1795—1841)*

## З ПАГОНЯЙ НАШ СЦЯГ

*У скароце*

Хай звіняць аб чашу чашы —
Будзь жа з намі, весялосць!
Жарт, прыйдзі ў забавы нашы,
Філарэтаў любы госць!

На стале — не сон, а ява —
Чары з сонцам, як адна.
Тым, сябры, хвала і слава,
Хто спарожніць іх да дна!

Не хадзіў наш продак хмуры,
Шчырасць скрозь была ў цане.
Жыгімонты і Батуры
Клёк знаходзілі ў віне.

Браў каліс гумор вясёлы
З чары і Анакрэон.
Весяліў палацы й сёлы,
І таму — вялікі ён!

Гэй, гуляйма, філарэты!
Радасць, нас усіх радні!

Дружбай вернаю сагрэты
Будуць вечна нашы дні!

А тыран, што злосцю п'яны
(На яго жах паглядзець),
Што гняце свой люд падданы,
Хіба ж будзе шчасце мець?

Гэй, браты, гэй, філарэты!
Смех і радасць — зноў пры нас!
Ці ж ужо ўсе песні спеты?
Не мінуў яшчэ наш час!

І калі паклічуць трубы
Нас у сонечны прасцяг,
Дружна ўздымем вольналюбы
Мы з Пагоняй нашай сцяг!

*ЯН ЧАЧОТ*
*(1796—1847)*

## КАРАНАЦЫЯ МІНДОЎГА. 1253 ГОД

Што гэта за паны?
Наваградка званы
    Чаму ім звоняць доўга?
Ах, гэта крыжакі
Ідуць, каталікі,
    Каранаваць Міндоўга!

Усё на іх блішчыць
Ды золатам зіхціць.
    Ад іх наўкол святлее!
Увесь твой строй, крывіч,
Крыве-Крывейтаў зніч
    Прад бляскам тым бляднее.

У князя заўтра хрост.
А нас пашле наўпрост
    Мо крыжакам на яткі?
Ужо, тыран, сваіх
Пляменнікаў дваіх
    Прагнаў з радзімы-маткі.

Міндоўг не верыць, не!
Сваю карысць тут гне —
    Ён сам кіруе лёсам.
Ён будзе каралём!
Тры дні — каталіком...
    Крыжак жа будзе — з носам!

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## АДМАЎЛЕННЕ

Няшчасны той, хто пра ўзаемнасць толькі сніць,
Няшчасны, у каго ў душы — нуда пустэчы.
Ды больш няшчасны той, чые з каханнем стрэчы
Ужо ў мінулым — іх ніколі не забыць!

Аб іх сумуе ён. Не могуць спакусіць
Яго ні смех красунь, ні зманлівыя плечы.
Калі ж кране душу найчысты позірк нечы,
Ля ног анёла ён не стане слёзы ліць.

Да ўсіх халодны ён, усімі пагарджае,
Багіню нават са спакоем абмінае,
З надзеяй светлай развітаўшыся навек.

І сэрца у яго — як храм, што дажывае
Свой век: яму няма ўжо аніякіх лек;
Там жыць не хоча Бог, не хоча чалавек.

## ДЗЯДЫ
*Фрагмент*

### ПОМНІК ПЯТРУ ВЯЛІКАМУ

Увечар на дажджы к плячу плячом
Стаялі двое пад адным плашчом.
Адзін быў з Захаду. Нікім не знаны
Прышэлец, царскім самаўладствам гнаны.
Другі — народа рускага пясняр,
Прарок паўночны, сэрцаў валадар.
Хоць стрэліся абодва толькі днямі,
Ды між сабою сталі ўжо сябрамі.
Луналі душы іх над тлом зямным.
Так дзве скалы абапал бурнай плыні
Страчаюцца ўгары, у небнай сіні
І хіляцца вяршыняй да вяршыні,
І хваляў шум ужо не чутны ім.
Госць аглядаў Пятра ад п'едэсталу,
А бард расейскі так пачаў памалу:

«Найпершаму з цароў — Пятру — як дар
Узнесла гэты помнік Кацярына.
Уссеў навекі медны волат-цар
На буцэфала — хай глядзіць краіна!
Ды не адразу сеў ён на каня.
Хоць перад ім зямля была адкрыта,
Ды не без меж айчыны шырыня.
Таму па глыбу фінскага граніту
За мора шле царыца свой абоз.

І во ў сталіцу ён граніт прывёз
Цару, і коннік медны ў тозе Рыма
Б'е бізуном свайго каня наўкос.
І конь на глыбу, бліснуўшы вачыма,
Ускочыў тут і ногі ўвысь узнёс.
Не, не такі калісьці быў у Рыме
Аўрэлій Марк, любімец землякоў.
Даносчыкаў ён выгнаў і шпікоў
І тым навек сваё праславіў імя.
Пры ім прыціх айчынны марадзёр.
Ён варварам на Рэйне і Пактолі
Рашучы ў сечах жорсткіх даў адпор
І з славаю вярнуўся ў Капітолій.
Шляхетны твар свіціцца дабрынёй
І думкаю пра быт і росквіт краю.
Высока ўверх узнятаю рукой
Ён нібы люд падданы блаславіляе.
Другой рукой нацягвае аброць,
Каб супакоіць жарабковы нораў.
"Вярнуўся цэзар, бацька наш!" — шматкроць
Крычыць, здаецца, верны люд з прастораў.
Паволі едзе між радоў людскіх,
Каб па-бацькоўску павітаць усіх.
Конь грыву ўзняў, агняным водзіць вокам.
Памчаўся б ён, ды знае, што яздок
Ягоны люб усім людзям навокал,
І свой імпэт сціішае жарабок,
Каб кожны з водцам знаўся не здалёк.
Ступае конь між люду ціхім крокам —
Ён завядзе ў бяссмерце, гэты крок!

А Пётр пусціў каня, і той змятае
І топча ў лёце ўсё — людзей, платы.
Знянацку ў шале на скалу ўзлятае
І ўзносіць аж пад неба капыты.
Грызе, няўтрымны, цуглі — во, здаецца,
Сарвецца ўніз і ў друзкі разаб'ецца.
Ды ён застыў у лёце — акурат
Над безданню завіслы вадаспад,
Марозам сіберным зімы скаваны.
Ды блісне волі тут прамень чаканы,
І ажывіць зямлю вясны прыход —
Дзе дзенецца тады тыранства лёд?»

**EXEGI MONUMENTUM AERE PERENNIUS...**
*З Гарацыя*

Вышэй мой помнік за шкляны ў Пулавах дах.
Перажыве й Касцюшкі склеп ён, Паца ў Вільні гмах.
Яго не зможа й бомбай Віртэмберг разбіць
І хціва аўстрыяк нямецкай штукай зрыць,
Бо ад Панарскіх гор і ковенскіх нябёс

Далей за Прыпяць люд імя маё панёс.
Чытаюць дружна Менск, Наваградак мяне,
Мой верш перапісаць юнак не праміне.
Мяне ў фальварку змеціш ты ў руках дзяўчат,
Як лепшых кніг няма — маім маёнтак рад.
На злосць шпікам цара зноў па шляхах глухіх
Жыд праз кардон вязе ў Літву стос кніг маіх.

*АЛЯКСАНДР ХОДЗЬКА*
*(1804–1891)*

**ГЕРБЫ**

I
«З бітвы ў ляшскай краіне
Мчыш ты, рыцар-ліцвіне, —
Меч аголены над галавою.
Конь твой белы, бы з снегу,
Гром абгоніць у бегу —
Іскры толькі ды пыл за табою».

II
«Я — ліцвінаў Пагоня,
Меч сынам нясу ў звоне —
Ён крывёй яшчэ ляшскай дыміцца.
Змалку бітвы хай знаюць,
Да крыві прывыкаюць,
Што я ліў і што зноў будзе ліцца.

III
А ў кургане я лягу —
Хай сыны меч пры сцягу
Мой павесяць з сяброўкай-касою.
Ды па мне хай не плачуць,
Як той меч будуць бачыць —
Пакідаю для славы ім зброю».

IV
«Што ляціш, Орле белы.
Ты з Літвы, ачмурэлы?
Бы кап'ё, твая вострая дзюба.
Грудзі з дзюбаю тою
Ты запэцкаў крывёю.
Сядзь ля Нёмна, змый кроў. Як тут люба!»

V
«Я — арол, птах палякаў,
З племя грозных ваякаў.
На радзіму спяшаю цяпер я.
Чужакам дні і ночы
Дзёўб я грудзі і вочы,
Ды змываць кроў не буду я з пер'я.

VI
Кроў з літоўскае жылы!
Смак крыві гэтай мілы
Арлянятам сваім занясу я.
Хай мая ўся радзіна
Найхутчэй кроў ліцвіна,
Каб маніла на бой, пакаштуе!»

VII
«Досыць, Орле, Пагоня!
Не вастрыце ад сёння
Зброю ўжо двум народам на муку!
Згінуць войны, пажары,
Тыя вечныя свары:
Лях ліцвіну працягвае руку!

VIII
Сёння разам, у згодзе
Мчацца ў бой пры нагодзе,
Як браты, два суседзі праз гоні.
Мільгацяць па абшарах
На шчытах і штандарах
Побач Белы арол і Пагоня».

*АНТОНІ ЭДВАРД АДЫНЕЦ*
*(1804—1885)*

## НАДПІС НА НАДМАГІЛЬНЫМ ПОМНІКУ ЯНУ ЧАЧОТУ Ў РОТНІЦЫ

Сваю маладосць ён аддаў для навукі і цноты,
За век свой ён зведаў і холад, і змрок сутарэння.
Спагада да бліжніх — вось існасць ягонай істоты,
Цяжкое жыццё яго ўсё — гэта шлях да збавення.
Імя яго будзе ў краіне навекі звязана
З Адамам Міцкевічам, з іменем Томаша Зана.
Хто ведаў яго — перад каменем гэтым схіліся,
Пастой, памаўчы і за ўсіх за траіх памаліся.

*КАРЛО КАЛАДЗЭ*
*(1907)*

## ЖАЎРАНАК

*Гімнам сустракае жаўранак*
*узыход сонца.*

Я раскажу аб сутнасці мастацтва...
Я жаўранка падняў — ён на зямлі
Ляжаў без руху: што магло з ім стацца?
Крыло і дзюбка —
У крыві былі.

Зямля наўкол звінела ручаямі,
Ды жаўранак,
Што мёртвы ўпаў між рос,
Застылымі чарнюткімі вачамі
Не на яе глядзеў —
У сінь нябёс.
Я разумеў, што тут было забойства!
Я птаха нёс.
Я ціхі-ціхі быў.
Паўсюль спыняў прахожых я і проста
У іх пытаўся: «Хто яго забіў?»

І мне ля гор і рэк,
Усюды ў краі,
Адказвалі дзяды і юнакі:
«Ці ж у таго страляюць, хто спявае?
Як ты падумаў? Гэта ж грэх такі...»
І толькі расказаў мне дзед з Мухрані,
Што за палёт цана —
Такая смерць,
Што калі птах спяваць пра сонца стане,
Ён будзе да яго
Ляцець, ляцець.

Унізе — дзень раз'яснены, крамяны,
Унізе, на вяршынях, — снегу бель,
А ў небе жаўранак,
Ад шчасця п'яны,
Ад маладосці, сонца і сябе.
У вышыню, расчыненую насцеж,
Ляціць — далей, далей,
У яснату!
Ды, небам захлынуўшыся ад шчасця,
Ён падае і гіне на ляту!

...Цямнела ўжо.
Набрынькалі аблокі.
Зара пераліваласе ў рацэ.
Стаяў я доўга ў роздуме глыбокім
З навек замоўклым птахам у руцэ.
І ведаў я, што калі час мой грымне —
Няхай жыццём за гэта заплачу, —
Да сонца, што ўсміхнецца з-за гары мне,
Я рукі расхіну
І палячу!
Я палячу, назад не азірнуўшыся, —
Вы мне даруйце ўсе, каго люблю, —
Як жаўранак той, сонцам захлынуўшыся,
Памру я ў небе
З песняй пра зямлю!

*СТАНІСЛАЎ РЫШАРД ДАБРАВОЛЬСКІ*
*(1907–1985)*

### ЖАРТОЎНАЕ ПЕРАМАЎЛЕННЕ З ФЕДЭРЫКАМ ГАРСІЯ ЛОРКАМ

Каб сюды яшчэ брынк гітар
І веeры, хоць бы й нямнога,
Што лепшае мне б паказаў ты
За гэты варшаўскі вечар
Кастрычніка залатога?

У вокны Сірэнагроду
Стукае месяц нягулка,
Запальвае ўсюды неоны —
Вартоўны садоў надвіслянскіх
Бурчыць на яго ў завулку.

Каштанаў радасныя кастаньеты
Уторацъ ветравым нотам,
Плашч вышываны светлы
Найшчодрага ў годзе месяца
Шапоча ў мяне пад ботам.

Дык што мне змярканне Севіллі,
Азалія, з песняй пірога,
Калі ёсць вось гэтая мілая,
Поўная звону, хваля
Кастрычніка залатога.

## КАРЛАС ШЭРМАН

**(1934, г. Мантэвідэо, Уругвай — 2005, Крыстыянсанд, Нарвегія)**

Нарадзіўся ў сям'і эмігранта з Заходняй Беларусі, які на пачатку 1920-х гг. выехаў у Паўднёвую Амерыку на заробкі. Універсітэт закончыў у Буэнас-Айрэсе, дзе бацька вадзіў Карласа ў клуб «Беларускі агмень» імя... Бялінскага, наведнікі якога размаўлялі, натуральна, па-расейску. У Аргенціне працаваў у выдавецтве, быў рэдактарам газеты «Mi Pueblo», друкаваўся пад псеўданімам Carlos de la Tierra. У 1956 г. вярнуўся на радзіму бацькі і працаўладкаваўся... токарам на Пінскай запалкавай фабрыцы. Потым працаваў у Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, у Акадэмічнай бібліятэцы, гадоў дзесяць быў віцэ-прэзідэнтам Беларускага ПЭН-цэнтра. Нямала зрабіў, каб увядоміць беларускую паэзію ў іспанамоўным свеце: дзякуючы яму па-іспанску выйшлі кнігі Я. Купалы і Я. Коласа, А. Куляшова, М. Танка, Р. Барадуліна. Аднойчы на кніжным кірмашы ў Буэнас-Айрэсе Ж. Амаду расказаў Шэрману, як набыў зборнік беларускай лірыкі ў ягоным перакладзе і запомніў з яго геніяльны верш «Паязджане». Шэрман — у айчыннай культуры постаць унікальная, ён быў і застаецца беларускім перыскопам над бяскрайнім морам іспанамоўнай літаратуры. І тое, што мы маем кангеніяльныя пераклады Ф. Г. Лоркі, П. Нэруды, Н. Гільена, С. Вальехі, Г. Містраль, — заслуга таксама і Шэрмана, які сам перакладаў, рэдагаваў і кансультаваў сяброў-перакладчыкаў. Як прызнаўся сам Шэрман (кніга «Таямніцы почырку»), «Барадулін прачытаў Гільена маімі вачыма, ведаў пэўныя акалічнасці жыцця і твор-

часці паэта ў маім разуменні». У веданні гэтых самых акалічнасцяў (без чаго перакладчыку лепш не брацца за працу) Шэрману ў Беларусі папросту не было роўні. Памятаю, як ён параўнаў пераклады Лоркавага верша «Сант-Яга дэ Куба ў рытме сона», зробленыя Р. Барадуліным і І. Тынянавай, і выявіў, што аўтарытэтная маскоўская перакладчыца не ведала, што бацька Лоркі любіў паліць кубінскія цыгары і выпісваў іх з Кубы ў скрыначках з маляўнічымі этыкеткамі. Няведанне гэтага факта прывяло да няправільнага разумення першатвора, чаго, на шчасце, не адбылося з перакладчыкам беларускім. Шэрман неаднойчы прадстаўляў Беларусь на розных міжнародных перакладчыцкіх форумах, а сам працэс перакладу разглядаў у філасофска-паэтычнай плашчыні: «Мастацкі пераклад — гэта вынік творчасці, дзе валоданне мовамі, энцыклапедычная эрудыцыя, філасофска-філалагічны талент, індзейскі слых на падтэкставыя плыні... маюць аднолькавую інварыянтную сілу і праяўляюцца ў моманты найвышэйшай гармоніі сферы інтэлекту з тонкім дыяпазонам пачуццёвай сферы — якраз гэтыя моманты прынята называць натхненнем. Выкіньце хоць адзін з названых элементаў — і вы атрымаеце не мастацкі пераклад, а штукарства...». Бяру з паліцы зборнік аргенцінца А. Тэхады Гомеса «Вось ідзе Лукас Рамэра» (1987) у перакладзе К. Шэрмана, і — накрайсветная невядомая краіна дзіўным чынам набліжаецца, выяўляецца ў паэтычных вобразах (пра «нацыянальнасьць метафары» ў свой час пісаў М. Стральцоў). Думаю, што нешта падобнае адчуваюць чытачы дзе-небудзь у Мадрыдзе ці Буэнас-Айрэсе над старонкамі зборніка беларускай лірыкі па-іспанску «Папараць-кветка». Перакладчык той самы. У 2001 г. К. Шэрман выехаў на лекаванне ў Нарвегію. Будучы безнадзейна хворым, ён працягваў жыць літаратурай, праз Інтэрнэт дапамагаў парадамі складальніку гэтай анталогіі. Апошні Шэрманаў ліст я атрымаў у лютым 2005-га. Своечасова падказаўшы, што памылкова ўключаная ў «Галасы з-за небакраю» «Марыянетка» Г. Гарсія Маркеса — містыфікацыя, перакладчык паведамляў: «Я тут накрэмзаў мемуары (надта громка гучыць!) пад назваю "Блуканец", гэта сумная і павучальная гісторыя. У панядзелак вязуць мяне ў клініку на праверку і кансультацыю, а наступная аперацыя — дванаццатая (! — *М. С.*) — мусіць адбыцца недзе праз месяц». З гэтай аперацыі К. Шэрман ужо не вярнуўся. І нарадзіўся, і адышоў у лепшы свет далёка ад Беларусі, а жыў і дыхаў яе мовай і паэзіяй.

## *МІГЕЛЬ ДЭ СЕРВАНТЭС СААВЕДРА (1547—1616)*

* * *

Я марак, любві аддaны,
Па марах плыву кахання,
Толькі ўжо надзею трачу
У жаданы порт прыплысці.

Значыць шлях па бурных хвалях
Мне заўсёды тая зорка,
Што і зырка, і зычліва
З вышыні нябеснай свеціць.

Ды насоўваецца хмара,
Захінаючы нябёсы,
І я ўжо амаль не бачу
Ззяння любага свяціла.

Лішак строгасці й няверы —
Вось якая хмара ўкрыла
Тую зорку, што павінна
Мне належаць, быць маёю.

О праменістая зорка,
Без твайго святла не жыць мне:
Ты загаснеш, і адразу
За табой сканаю я.

*АНТОНІА МАЧАДА*
*(1875—1939)*

* * *

Дыхнула вясна ўсёй істотай,
Прыпаўшы шчакой да галля.
Ужо мне здаецца лістота
Зялёнай смугою здаля.

Гляджу, як пад хмарамі гоні
Пакрыліся ўсходамі зноў,
Як дождж плешча ў далоні,
Тугія далоні лістоў.

Міндальныя дрэвы ў абнове:
На іх ужо цвет маладым.
Я тут маладосць без любові
Калісьці пракляў назаўжды.

Даўно я жыццёвай дарогай
Іду, толькі хочацца мне
Да той маладосці убогай
Вярнуцца, няхай бы і ў сне.

*ЭЎХЕН'Ё ФЛАРЫТ*
*(1903—?)*

**СКРЫПКА**

Каб я ўмеў іграць на скрыпцы...
Ёю можна перадаць
якое хочаш пачуццё.

Піяніна — не. Піяніна намі валодае.
Кажа: «У мяне вось клавіша». І мусіш ёю іграць.
Да таго ж яно нагадвае чорнага матыльска,
склеп могілкавы:
ці не бачыш паліцу пад гукі нумараваныя?

Лепей, кажу, іграць на скрыпцы...

*ДОРА АЛОНСА*
*(1910)*

## ВОПЫТ

Не пад вагою птушкі,
пад вагою песні
нахіляецца галінка.

## ВЯДОМА

Дзякуй дажджу не скажу,
калі ідзе без дай прычыны,
яго не цікавіць людская смага.

## СПАТКАННЕ

Гразкая лужына за плотам
цешыцца копіяй ружы млявай
і люстэркам наіўным
у захапленні
аддае прыгажосць топкай грязі.

## ЦІ МОЖА

Ці можа быць смерць — птушкай?
Чароўнай птушкай?
Нічога не стрымлівае ўяўлення:
адмоўцеся ад чарнаты, ад касы іржавай,
і вы пабачыце блакітную птушку,
якая глядзіць у вочы вам доўга.

*САМУЭЛЬ ФЕЙХОА*
*(1914)*

## ДАЛЁКІ АДВЯЧОРАК

Ён быў
ружова-шэры,
яго ласкавая валовая голаў
засланіла гарызонт.

Стары адвячорак
майго юнацтва;
пяшчотным валовым языком
лізаў узгоркі ды трысняговыя хаты.

Шэры ад навальнічнай хмары,
ружовы ад часу.
Адвячорак дужа стары.
Пад яго крокамі рыпела гара.

Гэта быў ружовы вол,
стомлены і аслеплы.
І прылёг адпачыць.
Адпачыць... далёка... там...

*САЎЛЬ ІБАРГОЕН*
*(1930)*

## КАСТРЫЧНІК

Ружы — гэта вада, колеры
і адчайны рух зямлі:
усё змешваецца да ўзнікнення сэнсу,
які падчас адкрыецца таямніча.
Потым старыя чаравікі з акамянелае скуры,
потым пот плоці ды зелле смерці
у карані пранікаюць,
штурхаюць паветра і водар кастрычніка
у палахлівай цішы пялёсткаў
і ў шэпце пылу,
што топча дробнымі крокамі
апалае лісце.

*ОТА ФЕРНАНДЭС*
*(1934)*

## ПРА ГОЛАД І РЭЧЫ

За плотам бойні,
сцегнавая каровіна костка
нібыта вырасла з-пад вільготнай зямлі
і супакоіла мяне.
Не, не як калыханка,
а як маўклівы вобраз,
не знаю, чаму яшчэ кліча мяне
і кліча.
Калі дакладней,
скажу:
сабакам майго квартала
і мне, прадаўцу касцей,
па тры кіло на адну манетку,
тая костка была,
вось так, без прыметнікаў, —
паэмай.

## ГІТАРА

Ноччу, ноччу гітара
разломвае цішыню,
ноччу нанізвае зоркі
на шыю ціхаму ранку.

Жыць ці сканаць, але
з подыхам мары чыстай,
а гучання ў цішыні,
цішыні просіць гітара.

І жыццё па мне ёсць час,
калі спявае гітара, —
не жыву у цішыні,
калі гітара змаўкае.

*УГА ДЗІТАРАНТА*
*(1936)*

## ПРАЦЭСЫ

### АДАМ

У першы дзень было створана святло.
У другі — нябёсы і толькі нябёсы.
У трэці — Зямля і ўсё зялёнае на Зямлі.
У чацвёрты — Сонца, каб дзень быў,
а зоркі і Месяц, каб ноч была.
У пяты — жывёлы марскія і паветраныя.
У шосты — жывёлы зямныя
і Адам.
І настаў дзень працэсу першага.
Абвінавацілі змяю, Еву і Адама
і выгналі іх з Раю.
А дрэва спазнання не было таму прычынай.
Як быццам Адам сказаў:
— Ты быў адзін і ўсё натварыў, —
заўсёды самота разбуральная.
Недаравальна,
маё жыццё атрымалася ў цябе без маленства.

### ДЖАРДАНА БРУНА

Ён навучыў нас
сумнявацца ўпэўнена.
Не выносіць аўтарытарнасці.
Бо праўду трэба даказваць,
улада ў нас саміх,
а жыццё — бязмежнасць,
і ўсё ў ёй мае месца.
За тыя ўрокі ўчынілі працэс,
і суддзя вымавіў:
— Няхай будзе пакараны
як мага далікатней,
без кровапраліцця.
Джардана адказаў:
— Няёмка вам

абвяшчаць прысуд,
больш, чым мне слухаць яго!
Дзевятага лютага 1600 года
яго спалілі жыўцом,
як мага далікатней.
Sine ulla sanguinus effusione.

ГАЛІЛЕЙ

Быў толькі паслядоўнікам вялікага Каперніка.
Адкрыў толькі маятнік
і закон падзення целаў.
Даказаў, што ў цэнтры Свету —
Сонца. Што Зямля круціцца.
Тады як зразумець Кнігу Ісая?
Прысудзілі яму тры месяцы турмы
і карных псальмаў раз у тыдзень.
Акрамя таго, дапамаглі яму выпаліць вочы,
на ўсялякі выпадак.

## ІСТОТЫ І РЭЧЫ

ГІСТОРЫЯ СМЕРЦІ

I
Што нябожчыкі ад'язджаюць у адно пэўнае месца,
калісьці арыгінальна прыдумалі шумеры.
Усё прыдуманае пазней — неарыгінальна.
І нябожчыкі па-ранейшаму ад'язджаюць
у адным напрамку і ў тое ж самае месца.
Ніхто не вярнуўся, ніхто не чуў, у які бок дарога,
ніхто не ведае нічога ні пра што.
З той пары, як і ўсе старыя шумеры,
нябожчыкі па-ранейшаму ад'язджаюць у адно месца.

II
Потым паявіліся старажытныя грэкі,
тыя мудрыя грэкі,
якія прыдумвалі лепшыя царствы,
куды маглі трапіць толькі лепшыя людзі.
Ахіл дайшоў да Аіда,
але адмовіўся ад трона:
тое царства было жудаснае і змрочнае,
падземнае царства нябожчыкаў,
а ён вельмі любіў жыццё.

III
Потым Сідхарта Гаўтама
стварыў Нірвану, каб збегчы на Захад,
у пошуках заходняга раю Амітаба.
А мы тут, на Захадзе,

толькі ведаем, што Сідхарта Гаўтама —
гэта Буда.
Смерць апярэджвае нас у ведах,
нікому не выдае сваіх сакрэтаў.

### ГАДЗІННІК

Шчасліўцы
ніколі не мерaлі час.
Толькі асобныя, сумныя ды змрочныя манахі
пачалі яго вылічваць
па курсе планет,
па ўласных чытаннях, гэта значыць,
па колькасці алею або стэарыну спаленага.
Аднойчы
Гарун аль-Рашыд
падарыў Карлу Вялікаму
дзіўную, цудоўную машыну.
З той пары чалавек
вымярае час.
Гарун аль-Рашыд зрабіў падарунак
толькі дзеля помсты:
за ўласнае паражэнне.

## *КАРМЭН КАСТЭЛЬЁТЭ*
*(1938)*

### ДЫЯЛОГ СА СФІНКСАМ
*Фрагменты*

IV
Часам думаю: мне належыць золак твой,
Такі блізкі да маёй келлі самотнай,
Што хапіла б дотыку, і ты стаў бы
Лініяй жыцця на далоні маёй сасмяглай.
Вось і жыву табою,
Збіраю профіль твой з рысаў натоўпу,
З промняў, што ляжаць цёплай коткаю
На падаконні, —
Хіба я — не рабыня твая?
І дзе ўва мне жывеш, ці хто скажа?
Я ўвайшла ў жывыя клеткі часу,
У былыя знаходкі твае,
Якія знаходжу раптам,
У твой паспех, марудны для мяне,
У выдумкі твае, якія і я выдумляю.
І ведаю я: глухі, чуеш мяне,
Нямы, гаворыш ты маім голасам ціхім,
І недзе на стромай скале
Застаўся цень твой, які ўва мне дыхае.

V
Цябе вылічаю ў бяссонных раўнаннях,
У раслінах, у голасе ўначэлага гадзінніка,
У рэчах, якія ідуць да цябе
Праз цень да святла вачэй тваіх.
І яшчэ ў звычках, якія паўтараеш,
У тое, што выкідаеш, а вочы мае
Збіраюць бярэмем.
Праз адлегласць нашую без мяжы,
Адсюль, дзе жадаю цябе і прымаю,
Ты ўсё, як і нішто, — мурашка
На руцэ маёй мары
І бог грахоўны мой,
Тады я чую шоргаты жаху.
І ў сэрцы нараджаецца вецер.

VII
Я — вуха за дзвярыма, архіў
Гамонак і дарослых парад,
Блуканне па Бібліі і стомлены подых
Яе старажытных жыхароў,
Скала з першасным малюнкам душы,
Жывёла і чыстае поле,
Угнутасць цёплага крэсла
І шэпт казачніцы-лямпы,
Жах былы і сённяшні, бо льга
Не здзейсніцца,
Не вярнуцца дахаты,
А ў агульную бездань, дзе расці —
Гэта канаць,
Бо льга і не выказаць
І аднаскладовага слова,
Застацца льга знакам
Патаемнага алфавіта навекі.
Дзе карані мае? Настаўнік дзе мой?
Сілы кідаюць мяне, нараджаецца холад.

VIII
І гэты звон барвова-вячэрні,
Як босая сцежка да сэрца,
І агароджа маўчання,
Як краты рабства,
І кветкі, што клічуць знутры,
І формы, якія з'яўляюцца,
Калі ноч не ўспамін,
А цела, што б'ецца і ўздрыгвае,
І гэтая песня, як памытая бялізна,
Песня зорак, якія ўжо ведаюць мора,
І смаўжоў, маленькіх бажкоў неба,
Гэта, кажу, хіба для мяне?

## РЫГОР БАРАДУЛІН

**(1935, в. Верасоўка Ушацкага р-на)**

Першую кнігу «Маладзік над стэпам» выдаў у 1959 г., тады ж апублікаваў і першыя пераклады з латышскай. Мова была абраная невыпадкова — дзед паэта па кудзелі (па матчынай лініі) быў латышом, працаваў у Рызе механікам паравых млыноў. Як паэт, эсэіст, перакладчык Р. Барадулін здзіўляе працаздольнасцю: у чатырохтомавы Збор твораў (1996—2002) трапіла толькі невялікая частка з напрацаванага. Ён шмат вандраваў па свеце, наведаў ЗША, Кубу, Італію, Ізраіль, Францыю, Балгарыю, Чэхію, Швецыю, Фінляндыю, Індыю, Кітай, аб'ездзіў амаль усе рэспублікі былога Савецкага Саюза. Спрыяў перакладчыцкай дзейнасці паэта і той факт, што ён рэдагаваў некалькі выпускаў альманаха «Братэрства». У выніку Барадулін стаў рэкардсменам па колькасці перакладаў з розных моваў — паводле біябібліяграфічнага даведніка «Беларускія пісьменнікі» я налічыў гэтых моваў 37 і не ўпэўнены, што лічба дакладная. Барадулін — не паліглот, звычайна карыстаецца падрадкоўнікам. Але Байрана, Лорку, Райніса і славянскіх паэтаў перакладаў з арыгінала, хоць часам і над імі даводзілася пакарпець: «Чэхаў перакладаю, / замураваны слоўнікамі... / Дыхае тванню bahna, / touha — туга галадае мая, / першаславянствам пахне / фраза неперакладаемая». І тут жа самакрытычнае пакепліванне, з'едліва іранічны пасаж: «Над падрадкоўнікамі зноў / мудруе у зацішку, / з усіх перакладае моў / сабе на ашчадкніжку». Што цікава, усе без выключэння паэты — і вечна натхнёныя сярэднеазіяцкія акыны, і лужыцкія будзіцелі, і шматлікія братнія баяны і баснікі з-пад пяра перакладчыка лёгка ставалі на крыло, шчодра апераныя часам падазрона не ўласцівымі ім ад нараджэння метафарамі. Ніводнага паэта ён не пакінуў у бязвобразных рызманах, апрануў як мог. Збеларушаны Барадуліным паэтычны абсяг велічэзны — ад «Слова пра паход Ігаравы» да гуллівых латышскіх дайнаў, ад Папы Рымскага Яна Паўла II да імама Чачэніі Зелімхана Яндарбіева. Адзін пералік паэтаў заняў бы пару старонак. Але адну акалічнасць не хацелася б пакінуць па-за ўвагай. З асаблівай прыхільнасцю Барадулін перакладае прадстаўнікоў пакрыўджаных народаў, з кім гісторыя абышлася дый працягвае абыходзіцца не дужа літасціва, — сербалужыцкіх, чачэнскіх, талышскіх паэтаў (талышы — народ, які жыве ў Азербайджане). «Няма народаў малых, бываюць малыя паэты» — у гэтым таксама шчодрасць душы і грамадзянская пазіцыя Рыгора Барадуліна. Да месца будзе назваць тут лепшыя кнігі перакладчыка: выбранае Ф. Гарсія Лоркі «Блакітны звон Гранады», «Ветраліст» Г. Містраль, «Гарэла свечка» Б. Пастарнака, «Небам адзіным» А. Вазнясенскага, «Чорныя геральды» С. Вальехі, «Рубаі» А. Хаяма, «Паэзія» М. Шагала, «Мелодыя каліны» І. Драча. Найвартаснае самім перакладчыкам сабранае ў кнізе «Кахаць — гэта значыць...» (1986). За перастварэнні з латышскай Р. Барадулін уганараваны найвышэйшай узнагародай Латвіі — ордэнам Трох зорак.

*АМАР ХАЯМ*
*(1040—1123)*

### РУБАІ

Каб ганчарам, што смела месяць гліну,
Вярнуць здаровы клёк хоць на хвіліну, —
Не білі б, не давалі б аплявух,
Бо гэта прах бацькоў з зямлі ўспаміну.

*

Я хворы, дух мой змучаны да дна,
Калі не п'ю віна, мне смерць відна,
І дзіва, чым я толькі не лячыўся,
Усё мне шкодзіць, апрача віна.

*

Не цешыў чыстага віна арык,
Пакуль да горкай чары я не звык,
На хлеб бяды не сыпаў соль адчаю
І з сэрца са свайго не еў шашлык.

*

Будзь вясёлы, прывыкай да страт,
Зор яшчэ на небе ўзыдзе шмат.
І цагліны з праху твайго рупна
Пакладуць у сцены іншых хат.

*МІГЕЛЬ ДЭ СЕРВАНТЭС СААВЕДРА*
*(1547—1616)*

**САНЕТ**

Вар'ят, што абяссмерціў Манчу славай
(І Крыт Ясонам так не быў апеты),
Хто вызнаў дзёрзкіх подзвігаў сакрэты,
Хоць і часіна не была ласкавай.

Рука, што сябравала з добрай славай,
Вядома ад Катая да Гаэты,
І верш. Суровай музаю сагрэты,
У бронзе зазвінеў жывой праявай;

Той, хто зацьміў сабою Амадзіса,
Узброены каханнем палымяным,
Хто трызніў Дульсінеі імем родным,

Хто рыцарам зрабіў Беліяніса,
Блукаў на Расінанце паслухмяным,
Спіць вечным сном пад каменем халодным.

*ПЕРСІ БІШЫ ШЭЛІ*
*(1792—1822)*

**ОДА ЗАХОДНЯМУ ВЕТРУ**

I
Заходні вецер, восені ўладанні
Твае, дыхнеш — і мёртвыя лісты
Знікаюць, як ад злога духу здані.

У ліхаманцы колер залаты
Згарае, чорным робіцца чырвоны.
Лісты на цёмны сон адвозіш ты,

Былых істот крылатых бачыш сконы —
Цяпер ляжаць, як мерцвякі, яны,
Пакуль сястры вясны ражок натхнёны

Не верне да жыцця абсяг зямны,
Пупышкі поўнячы салодкай скрухай, —
Іх пасвяцца ў паветры табуны.

Дух дзікі, што заручаны з разрухай
І захаванасцю, о, слухай, слухай!

II
Ты на нябесны вэрхал зверху глянуў,
Аблокі, як збуцвелы ліст, далоў
Атрос з галін нябёс і акіянаў,

Анёлы бліскавіц і ўсіх дажджоў
Усталі, азарыўшы хваляў звады,
Як пасмы вогнедыхіх валасоў

На галаве раз'юшанай менады,
Наблізіўшыся, засланіць паспеў
Шторм галавой кудлатай далягляды.

Канае год, і ты хаўтурны спеў
Пяеш, бо стане ноч не павітухай —
Грабніцаю ў раскрыжаванні дрэў,

Дзе пераблытаны, як завірухай,
Агонь, і град, і чорны дождж, о, слухай!

III
Ты, хто збудзіў ад летніх летуценняў
І мора Сяродземнае, яно,
Закалыханае святлом струменяў,

У снах салодкіх бачыла адно:
Ў заліве Байі вежы і палацы,
А хвалі дня хавалі іх на дно,

Каб кветкамі, імхамі любавацца
Няўлоўнымі. Гатова для цябе
Атлантыка на прорвы разарвацца.

Ніцеюць кветкі морскія ў журбе
З лістотай — акіянавай пястухай,
Што просіць соку жыўнага ў мальбе.

Шарэе голас твой, і глухавухай
Жудой расліны нішчацца, о, слухай!

IV
Калі б я быў лістком, які нясеш ты,
Хмурынкай, што смяецца ўслед наўсхліп,
Ці хваляй, скоранай табой дарэшты,

Непадуладна-ўладна, і калі б,
Як у маленстве, змог бы я на волі
З табой ляцець да воблачных сяліб,

Шукаць на небе долі і спатолі,
Цябе адчуць, як прывід, як жуду,
Дык не памкнуўся б да цябе ніколі

Малітвай вымаліць сваю бяду,
О, падымі мяне, як ліст, як хмару,
Сысці крывёй на церні я ўпаду.

Прыгнуты долу ланцугом цяжару,
Я, горды, як і ты, высока мару.

V
Зрабі мяне на лес падобнай лірай,
Каб я дарыў зямлі свае лісты,
Збянтэжанасць гармоній верай шчырай

Здабудзе з нас сугучча нематы
Салодкае, як восені суквецце.
Будзь мною ты, шаленства дух круты.

І думкі мёртвыя мае ў сусвеце,
Як той збуцвелы ліст, нясі далей,
Каб новы плён хутчэй дало налецце,

Пачуўшы верш мой, словы ўсе развей,
Як іскры з камінка, дзе згасла спёка,
Стань вуснамі маімі для людзей,

Стань, вецер, бубнам, голасам прарока.
Прыйшла зіма — вясна не так далёка.

*ДЖОН КІТС*
*(1795—1821)*

## КОНІК І ЦВЫРКУН

Мацней за смерць паэзія зямлі:
Прывянуць птушкі ў засені ад спёкі,
Прачнецца голас радасці далёкі
З пакошы, як з зялёнай араллі, —
Траскоча конік, будзячы палі.
Плывуць стагоў мурожныя аблокі,
Яго тырады слухаюць валокі,
Пакуль не сціхне велічна ў быллі.

Паэзія зямлі не замаўкае,
Зімовым прысмеркам, як цішыню
Куе мароз, з-за печы трапяткая
З цяпла ўзнікае песня цвыркуна.

Здаецца нам, што прыпарнаму дню
У травах скарга коніка чутна.

## *ЭМІЛІ ДЫКІНСАН*
*(1830—1886)*

* * *

Ільвіцу неба пабачыць летам —
Гэта і значыць
Зрабіцца паэтам.
Паэзія ў кнігах —
Памерлыя сны.
Сапраўдныя вершы —
Лятуць яны.

* * *

Пурпур двойчы ў модзе бывае:
Як сезону здакучыць рызман
І калі душа спасцігае
Свой імператарскі стан.

* * *

Як неба не адшукаем унізе,
Уверсе не знойдзем і днём з агнём.
Анёл на кожнае вуліцы
Арандуе суседні дом.

## *РАД'ЯРД КІПЛІНГ*
*(1865—1935)*

### ТОМІ

І я ў карчму зайшоў адмыць салдацкі пыл дарог.
Карчмар мне тут жа паказаў, дзе бог, а дзе парог.
Дзяўчат ля стойкі душыць смех — не грэх і да забаў,
На вуліцу я выйшаў сам і сам сабе сказаў:
І тут і там, і чмут і хам, і «Томі, вон пайшоў»,
Ды «дзякуй, містэр Аткінс»*, ледзь паход затрубяць зноў.
Паход затрубяць зноў, дальбог, паход затрубяць зноў.

Прыйсці цвярозым у тэатр стараўся я дарма,
Цывільным п'яным месца ёсць, а мне яго няма.
Шлюць на галёрку ці туды, дзе счахнеш ад нуды,
А трэба выяваць, тады — у першыя рады.
І Томі сам, і Томі там, за трыдзевяць зямель,
Гатовы Аткінса чакаць асобны карабель.
І Томі ўжо не чмут, дальбог, не чмут і не круцель,
Гатовы Аткінса чакаць асобны карабель.

---

* Аткінс Томі — мянушка ангельскіх салдат з часу напалеонаўскіх войнаў.

Вам кпіць з мундзіраў, што не спяць, пакуль вы ўсе спіцё,
Лацвей, бо за мундзір танней салдацкае жыццё.
Лягчэй смяяцца вам, калі пад чаркаю салдат,
Чым з поўнай выкладкай яму выходзіць па парад.
«Ты, вашапруд, свой ведай кут». «Ты без душы чурбан»,
Але «героя ў строй», калі ударыць барабан,
Ударыць барабан, дальбог, ударыць барабан,
Але ж «герояў строй», калі ударыць барабан,

Мы не герояў строй, аднак не быдла табуны,
Жанчын мы любім хіба ў снах, самотныя паны.
Як нашы ўчынкі вам не ў смак, заўважыць мусім так:
Яшчэ святых з халасцякоў не гадаваў барак.
«Прэч, Томі, Томі, не ўзнікай», «Гэй, Томі, адвалі!»
Ды «Ўперад просім, сэр», калі трывожна на зямлі.
Трывожна на зямлі, дальбог, трывожна на зямлі.
О, «Ўперад просім, сэр», калі трывожна на зямлі.

Талдычыце пра школы нам, пра лепшы харч і час,
Лепш дайце лепшы рацыён, як клёк яшчэ пры вас.
Памый не лійце за спіной і не луздзіце шмат,
Не формай — вашаю маной зняважаны салдат.
«Гэй, разтуды цябе сюды!», «Гэй, Томі, марш назад!».
Збавіцель ад бяды, калі раздасца ўздых гармат.
«Гэй, Томі, прэч! Гэй, Томі, вон!» — ляціць яму ўдагон.
Смяецца Томі з нас якраз, усё шурупіць ён!

*ХАІМ НАХІМ БЯЛІК*
*(1873–1934)*

## ЗАБЛУКАНАЯ ЗОРКА

Зорка-заблуканка, ты глядзіш звысоку,
асвяці мне, зорка, шлях сляпы ад змроку.

Не! Пакут пякельных я ўжо не баюся,
ўшчэнт жыццё стаміла, выпетрыла ў скрусе.

Я — жабрак убогі, ёрмавы вучомнік,
кутнік дому бедных, вечны валачомнік.

Бацька — крык выгнання, маці — чахласць плахі,
кія не баюся, торба мне не ў страхі.

Бо жыццё жахае ў лютасці ва ўладзе
без цяпла надзеі, без святла ў паглядзе.

Ціснуць тлен і мукі — ім не скажаш хопіць,
як свінец цяжкія, лёгка ў цемру топяць.

Быццам той сабака, не ўцячэш галодны,
горам навязаны на ланцуг халодны.

Вызвалі душу мне, зорка, ад адчаю,
ад чужое працы, ад чужога краю.

Дык свяці, каб зніклі змрокавы аковы,
я ісці рашучы, я чакаць гатовы.

Знаць каму, калі ўжо ноч мая прыстане,
колькі Бог паслаў мне цемры ды блукання.

Будзе час — і з ночы гляну небу ў вочы,
каб святло пабачыць і пагляд прарочы.

І пакуль іскрыцца кропля слёз на веі,
напаі святліста цвет маёй надзеі.

Даўнюю іскрынку сэрца захавала —
тое, што не згасла, загарыцца дбала.

Рэштка сілы зноўку запульсуе ў сыне
і яна дарэшты ў барацьбе загіне.

*АВЕЦІК ІСААКЯН*
*(1875—1957)*

* * *

Дзе ён ляжыць,
Шэры камень той,
Што стане маёй
Надмагільнай плітой?

Магчыма, не раз
На шляху маім
У прывідны час
Я сядзеў на ім...

*ХУАН РАМОН ХІМЕНЭС*
*(1881—1958)*

* * *

Салодкая стома долу,
і глухнуць вечара крокі,
чуваць з лугоў недалёкіх
пах сена такі адзінокі.

Сасоннікі спяць казытліва,
пчала прыхавала джала,
неба над валатоўкай
пяшчотна-фіялкавым стала.

Ступаю за спевам следам,
спаткаў яго на сцяжыне,

спеў плача, працяты часам,
ідзе ў слязах па ўспаміне.

Не ведаю, ці па дзіцяці,
ці па вечарах, дзе аблокі
асеняцца, спеў галосіць.
Пах сена такі далёкі.

## НОЧ

Спаць — як ступіць на мост настрою
ракі часін, дзе спіць імша.
А пад мастом, нібыта мроя,
цячэ вада, цячэ душа.

*МАРК ШАГАЛ*
*(1887–1985)*

## ДА ВЫСОКАЙ БРАМЫ

Толькі тая краіна мая,
што жыць у душы маёй не перастае,
як свой, без віз адпаведных,
я ўваходжу ў яе.

Яна бачыць мяне ў бядзе,
у адчаі, ў галечы,
яна мяне спаць кладзе
і духмяным каменем
мае акрывае плечы.

Ува мне зялёныя цвітуць сады.
Кветкі выдуманыя, ўбачаныя ў сне.
Ува мне
мае вуліцы, цягнучыся, крывуляцца,
толькі дамоў не ўбачыш на іх,
яны руінамі сталі
гадоў малечых маіх.

Жыхары ў паветры блукаюць,
як прыбышы,
яны жытла шукаюць,
яны жывуць у маёй душы.
Вось чаму, калі сонца ледзь усміхнецца,
зрэдчас усмешкай мае засвецяцца вочы
альбо я плачу,
як лёгкі дожджык уночы.

Я помню час,
калі меў я дзве галавы...

Гэта было якраз,
калі абедзве галавы
ахіналіся ў вэлюм кахання,
і зніклі галовы, як хмель вясновы,
як водар ружы, дазвання.

Цяпер мне здаецца,
калі я назад скірую хаду,
я ўсё роўна ўперад пайду,
у напрамку высокай брамы,
пад якой за разбуранымі сценамі храмы,
дзе начуюць адны
зламаныя бліскавіцы
і адгрымелыя перуны.

*ГАБРЫЭЛА МІСТРАЛЬ*
*(1889—1957)*

## ПАКУТА

Ужо дваццаць год, як працяў маё цела
кінжалам жахліва
вялікі верш і сядзіць у ім, востры,
з грабянямі прыліву.

Яго вялікасць цела ад стомы ные,
бо прыняло з пакорай.
Як спяваць вусны гэтыя могуць, што часта
ашуквала гора?

Аслаблыя словы людскія не грэюць
крананнем патайным
яго языкатага полымя,
ціхім яго трапятаннем.

Крыві маёй згусткамі корміцца верш мой,
як сын адзіны,
дзе сын яшчэ ёсць, каб крыві столькі выпіў
з грудзей жанчыны.

Жахлівы дар! Мой апёк незагойны,
мой лямант няўчуты!
Хай той, хто працяў маё цела кінжалам,
адпусціць пакуты!

## БЯССОННАЯ

Ноч ідзе, здымае стому,
сонцам спалены астыне;
ён па лесвіцы ступае,
чую ў радасным нахлыне.

Хай ніхто яго не чуе —
у маім ідзе ўспаміне.
Бо нашто чужую бессань
слухаць сцішанай рабыні.

Па маім ступае ўздыху.
Так чакае плуга поле.
То ўгары, то раптам доле
вадаспад ягонай долі,
ля маіх дзвярэй крушына
скрушная дрыжыць ад золі.

Сілуэт ягоны бачу
я ў дакор вачам хлуслівым.
Ноч, як грэшнікам, на момант
нам нясе спакой, шчаслівым;
чую, зноў ён адыходзіць
мора вечнага адлівам.

Адыходзіць і прыходзіць
ноч усю, як дар у змане,
як мядуза, што ўздымае
хвалі ў хліпкім калыханні.
Лежачы дапамагаю
рэшткамі свайго дыхання,
каб навобмацак не йшоў ён
і не выцяўся ў тумане.

З дрэва зглухлага прыступкі
мне звіняць крыштальным звонам.
З тымі, дзе адпачывае,
я вітаюся з паклонам.
Як душа, прыступкі стогнуць,
крокам скардзяцца ягоным,
пазнаю і крок апошні, —
абрываецца адхонам...

Дом баліць ягоным целам,
полымя ўвесь дом акрыла,
адчуваю твар ягоны —
паліць жарам неастыла.
Ад чакання паміраю,
адчуваю шчасця крылы,
і ў агоніі з ягонай
і мая знікае сіла!

Языком, шчакой назаўтра
марна хоць смугу шукаю
на люстэрку немых сходцаў,
стома ўслед за мной ступае.
І ў душу спакой находзіць,
покуль прыйдзе ноч сляпая.

Па люстэрку зданем казкі
валацуга цень праходзіць.
Ледзьве-ледзь ідзе бясплотна,
хоць раней быў з кімсьці ў згодзе,
і пагляд вачэй ягоных
апякае і халодзіць.

Той, хто ўбачыць, не пытайце,
загадайце не вяртацца,
хай засне і хай не зможа
ў памяць да мяне ўздымацца.
Хай заб'юць імя, каб біўся
безымянным ветрам пляца,
хай не зможа ўгледзець дзверы
да майго — ў агні — палаца!

*БАРЫС ПАСТАРНАК*
*(1890–1960)*

## КАЛЯДНАЯ ЗОРКА

Гудзелі вятры
Без канца і пачатку.
І зімна ў пячоры было немаўлятку
На схіле гары.

Яго сагравала дыханне вала.
Жывёла ў пакоры
Стаяла ў пячоры.
Над яслямі цёпла дымінка плыла.

Атросшы даху ад пасцельнай трухі
І зернетак проса,
Глядзелі з надкоса
Спрасонку ў паўночную даль пастухі.

Далей было поле ў снягах і клады,
Магілкі ў самоце,
Аглобля ў сумёце,
Над могіллем неба і зор халады.

Зіхцела нязнаная зорка адна,
Усмешкай газніцы
Ў акне вартаўніцы
Шляхі ў Віфліем асвятляла яна.

Яна палымнела, як стог, у баку
Ад неба і Бога,
Як жар, як трывога,
Бы ў полымі хутар, пажар на таку.

У небе высознай гарэла тарпой
Саломы з прылецця
У цэлым сусвеце,
Стрывожаным новаю зоркай скупой.

І зарыва рдзела над ёй і расло,
І ў смутным настроі
Астролагаў трое
Спяшалі на кліч, дзе трывала святло.

І везлі яшчэ на вярблюдах дары.
І вослікі ў збруі ступалі памалу,
Часцілі, спускаліся пудка з гары.

І дзіўнай праявай наступнай пары
Ўсё тое ўставала, што потым настала.
Ўсе думкі вякоў, навасвеццяя муры,
Наступнасць усіх галерэй і музеяў,
Свавольствы ўсіх феяў, адчай чарадзеяў,
На свеце ўсе елкі, ўсе сны дзетвары.

Усё пазапальваных свечак дасвецце,
Усё хараство колернай мішуры...
...Са стэпу дзьмуў вецер, нібы з апрамецця...
...Ўсе яблыкі, ўсе залатыя шары.

Алешына стаў захінала глухі,
Ды быў ён часцінай відзён ля запруды,
Праз гнёзды гракоў і сухія вярхі.
Ступалі маруды — аслы і вярблюды,
Іх добра разгледзець маглі пастухі.

— Хадземце з усімі, паклонімся цуду, —
Шчытней захінулі свае кажухі.

Ад шоргання снегам зрабілася парка.
Па зыркай паляне лістамі слюды
Вялі басанож за хаціну сляды.
На тыя сляды, як на ўсхліпы агарка,
Гырчалі аўчаркі пад зіркі жуды.

Марозная ноч выдавалася казкай,
І хтось з навіхуранай снежнай грады
У шэрагах іхніх туляўся худы.
Сабакі зубамі стаміліся ляскаць,
Гадзілі падпаску, чакалі бяды.

Па той жа дарозе, бясслоўна, панылa,
У гушчы натоўпу анёлы ішлі.
Нябачнымі іх бесцялеснасць рабіла,
Ды крок адціскаўся на снежнай зямлі.

Ля каменя густа сышлося народу.
Світала. Прадраліся кедраў ствалы.
— А хто вы такія? — спытала Марыя.
— Мы род пастухоўскі і неба паслы,
Узнесці прыйшлі вам абоім хвалы.
— Не разам жа ўсе. Пачакаць ля ўваходу.

Шукалі між шэрай, як попел, імглы
Авечкагадоўцы, пагоншчыкі згоды,
На коннікаў лаяліся пешаходы,
Ля выдзеўбанай вадапойнай калоды
Вярблюды раўлі, задкавалі аслы.

Світала. І золак, як пырскі смалы,
Апошнія зоркі змятаў на пагоду.
Адных вешчуноў з незлічонага зброду
Марыя ўпусціла ў чарэўе скалы.

У ясельках з дубу ён спаў яснакудры,
Як маладзічок у заглыбе дупла.
Яму замянілі аўчыннае футра
Асліныя губы і храпы вала.

У цені стаялі, бы ў прыцемку хлева.
Шапталася сцішаная гамана.
Ды ў поцемках нехта, паціху налева
Ад ясляў рукой адхіліў вешчуна,
І той азірнуўся: з парога на Дзеву
Калядная зорка глядзела адна.

*ВОСІП МАНДЭЛЬШТАМ*
*(1891—1938)*

* * *

Яшчэ ты не памёр, яшчэ ты не адзін,
Пакуль з жабрачкаю-надзеяй
Ты цешышся і веліччу раўнін,
Імглой, і золлю, і завеяй.

У шумнай беднасці, ў жабрацкай цішыні
Жыві спакойны, як дарадца,
Багаслаўёныя ўсе ночы, дні
І з голасам салодкім праца.

Няшчасны той, каго, як цень яго ж,
Пужае брэх і вецер носіць,
І бедны той, хто ледзь жывы, а ўсё ж
У ценя міласціну просіць.

* * *

Маё жыццё сухое
Агонь амаль даеў,

Не каменю затое,
А дрэву ўзношу спеў.
І лёгка ўсё і груба.
І з аднаго бруска
І сарцавіна дуба,
І вёслы рыбака.
Мясіце палям плечы,
Крычыце, малаткі,
Пра рай драўляны — рэчы
Там лёгкія такі.

* * *

О неба, ты мне будзеш сніцца звонка!
Не можа быць, каб ты аслепла зблізку,
І дзень згарэў, як белая старонка:
Панюшка дыму і панюшка прыску!

*СЭСАР ВАЛЬЕХА*
*(1892–1938)*

## АЛЕБАСТР

Наўкола цішыня. Тут уначэла,
спакойна села сонца за кладамі,
і ўжо расце тут плач тысячавокі:
ты не вяртайся, сэрца знікла снамі.
Апранута усё тут у жалобу
і ледзь гарыць, ледзь хліпае глыткамі,
як газ благі, як пал, што тушым самі.

Вясна надыдзе. Заспяваем «Еву»
з пляскатай хвілі, з печы, дзе нявінна
згараць і нарды Эраса, тваё там
загартавацца пакаянне вінна
перад паэтам, каб зрабіцца болем,
як цвік, што зачыняе дамавіну!

Ды... ў ноч лірычную твае аднойчы
і мора ўсё чырвонае, і грудзі
трымценне пройме хваляў-пятнастовак,
калі пабачым, як у перапудзе,
пірацкі карабель маёй няўдзякі.

А потым — яблыневы сад твой будзе
і вусны, дзе апошні раз упіўся,
мілосцю скрывянеюцца ў аблудзе,
Хрыста пакуты ўспомняць па-паганску.

І затрымціць жаноцкасцю, як скруха,
каханая ў душы маёй світальнай,
нібы у саборы кафедральным, глуха.

## ДАВЕДКА

Нарадзіўся я ў гуморы,
Бог якраз тады быў хворы.

Лёс мяне не выцяў пасам.
Ды тады скрануўся лежань —
перайшоў у студзень снежань.
Нарадзіўся самапасам,
Бог якраз хварэў тым часам.

У метафізічным штосьці
подыху маім пустое,
аніхто не ўчуе тое,
гэта келля немай госці,
што агонь узнесла ў тосце.

Слухай жа, паслухай, браце...

Не паддамся на ўгаворы,
снежні не знясу з сабою,
ўбраўшы студзені журбою.
Нарадзіўся ж я ў гуморы,
Бог якраз тады быў хворы.

Ведаюць, што я не ў горы
ўсе... Ды мой не чуюць смутак,
у радках рыпяць чаму так
горкім змрокам дамавіны
пругкія вятры з даліны,
што чамукала пустэльні
развінае Сфінкс пякельны.

І не ведаюць ляныя,
што святло сухоты ўела,
а Цямрэча растаўсцела,
што Містэрыя не ные,
што яна — той горб, якому
ад мяжы да Межаў стому
крокі аддаюць зямныя.
Нарадзіўся ўдзень без зморы,
Бог якраз тады быў хворы,
і цяжка.

*УЛАДЗІМІР МАЯКОЎСКІ*
*(1893—1930)*

## ПАСЛУХАЙЦЕ!

Паслухайце!
Яно як зоркі запальваюць —
значыць — гэта некаму рупіць павінна?

Значыць — нехта хоча, каб яны свяцілі?
Значыць — нехта называе гэтыя выплевачкі
пярлінаю?
І, задыханы,
з мяцеліцай пылу, ў знясіллі
да Бога ўрываецца,
баіцца ўначэць без святла,
плача,
богу жылістую руку цалуе,
просіць —
каб абавязкова зорка была! —
клянецца —
не вытрывае бяззорную горыч цяжкую!
А потым
ходзіць трывожны,
ды з выгляду чынны.
Кажа некаму:
«Ну, як цяпер?
Не страшна
ў цемру з відна?!»
Паслухайце!
Калі ўжо запальваюць
зоркі —
значыць — гэта некаму рупіць павінна?
Значыць — гэта неабходна,
каб штовечар над дахамі
зорка загаралася
хоць адна?!

*ФЕДЭРЫКА ГАРСІЯ ЛОРКА*
*(1898—1936)*

## ПОЎНЯ ЎЗЫХОДЗІЦЬ

Як узыходзіць поўня,
трацяць званы развагу,
сцелюцца патаемна
сцежкі без выйсця з размаху.

Як узыходзіць поўня,
мора зямлю бянтэжыць,
і адчуваецца сэрца
востравам у бязмежжы.

Браць апельсіны нельга
ноччу круглявай поўні,
есці зялёныя можна
толькі плады лядоўні.

Калі ў сто абліччаў поўня
ціха ўзыходзіць над светам,
звонка ў кішэні рыдаюць
сярэбраныя манеты.

## ГАРЭЗЛІВАЯ ПЕСНЯ

Мама,
хачу быць са срэбра.

Сыне,
срэбра стыне.

Мама,
хачу быць з вады.

Сыне,
вадзе сцюдзёна ў даліне.

Мама,
на падушцы тваёй вышый мяне.

Зараз.
Чаму ж не.

## ПРЭЛЮДЫЯ

Таполі ў блакіт ідуць,
ды шлях свой сабою свецяць.

Таполі ў блакіт ідуць,
ды нам пакідаюць вецер.

У саване вецер ляжыць
і марыць аб небе і леце.

Ды вецер нам рэха аддаў,
што будзіць раку на дасвецці.

І памяць ма́е мая
святло светлячкоў на прыкмеце.

І, кволае, на далані
ўзыходзіць сэрца ў суквецці.

## ГАЗЕЛА ПРА ЧАРАДЗЕЙНАЕ КАХАННЕ

Сярод алебастру
лугоў змяіных
ты была асакой кахання, вільготным язмінам.

Сярод ветру паўднёвага і агню
нябёсаў заклятых
у грудзях маіх шэптам снегу была ты.

Нябёсы й лугі
закавалі рукі мае ў ланцугі.

Нябёсы, нябёсы,
паранілі цела маё
вашага гневу восы.

*АНТАЛ ГІДАШ*
*(1899—1980)*

## МАЯКОЎСКАМУ
*Фрагменты*

Такое раз на вяку —
Волата ў сабе валаку.
Адказнасць цяжкая!
Ды ён такі пяшчотны ў журбе,
што сам памагае
яго валачы ў сабе.

*

Зажмурыўся вугольчык так,
нібыта спаць залёг, дзівак,
адно крані, адно дыхні —
і зноўку выб'ецца жаданне,
як kроў пасля укусу, стане
палаць балюча ў цішыні.

*

Астыць табе ў жальбе
я не дазволю, сэрца,
хоць куляй, а прымушу я
цябе
сагрэцца!

*НІКАЛАС ГІЛЬЕН*
*(1902—1989)*

## МАДРЫГАЛ

З рук тваіх ка́паюць
ногці дзесяццю цёмналіловымі вінаградзінамі.

Скура твая, —
плоць дрэва, агнём украдзенага, —
церпіць крушэнне ў затоках люстэрка,
і смуглеюць у ягоных глыбінях
водарасці даверлівыя.

*ПАБЛА НЭРУДА*
*(1904—1973)*

## ЭЛЕГІІ

IX
Галубы наведалі Пушкіна
і здзяўблі ягоную меланхолію:
помнік шэрай бронзы размаўляў з галубамі
з цярплівасцю бронзы:
сучасныя птушкі
не разумеюць яго,
зараз іншая мова ў птушак,
і з саломінкамі Пушкіна
да Маякоўскага адлятаюць.
Здаецца свінцовым ягоны помнік,
здаецца, што зроблены з куляў ён:
не выказалі ягонай пяшчоты,
а яго прыгожае высакамер'е:
калі ён разбуральнік
пяшчот,
як жыць змог
сярод фіялак,
пад святлом месяца
у каханні?

Заўсёды нечага не стае гэтым помнікам,
нерухомым між віратоку часу:
ці пунктуальна працінаюць
паветра вайсковым кінжалам,
ці пакідаюць чалавека ў седні (як Гогаля),
ператворанага ў паркавага турыста,
а іншыя, стомленыя ад свайго каня,
не могуць спешыцца, каб пад'есці.
На самой справе, гаротныя помнікі,
таму што час застаецца
ляжаць над імі іржаўчынай,
і хоць кветкі могуць укрыць
халодныя ногі, кветкі — не пацалункі,
прыходзяць туды таксама для смерці.

Белыя галубы, дзённыя,
і паэты начныя
кружаць наўкол чаравікаў
жалезнага Маякоўскага,
наўкол ягонай жахлівай бронзавай курткі
і ягоных жалезных губ без усмешкі.
Бывала, я позняй ноччу, санлівы,
у горадзе, ідучы ад ракі да гор,
чуў, як падымаюцца вершы, псальмоды,
у рэчытатыўным чытанні.
Уладзімір слухаў?

Чуюць помнікі?
Ён здаўся мне злосным,
жэст ягоны адрынаў усялякія вершы:
мажліва, помнік, ракавіна, ракаўка
з мармуру, бронзы ці каменю,
ракаўка параненай жывёліны, якая знікла
і пакінула гэты след застылы, —
адзін жэст, адзін нерухомы рух,
астанкі душы.

XXV
Паветра Еўропы і паветра Азіі
сустракаюцца, адштурхоўваюцца,
жэняцца, змешваюцца
ў горадзе пагранічным:
прыходзіць вугальны пыл Сілезіі,
Францыі вінаробчы водар,
пах Італіі з цыбуляй смажанай,
дым, кроў, гваздзік Іспаніі, —
усё прыносіць паветра, завея
тундры з завеяй тайгі танцуюць у стэпе,
паветра сібірскае, чыстая сіла,
палявога свяціла вецер,
шырокі вецер, які да Урала
зялёнымі, як малахіт, рукамі
гладзіць сельбішчы і раўніны,
сэрца мае ў грудзях сваіх дажджавое,
нізрынаецца архангеламі снягоў.

*ШАНДАР ЧОРЫ*
*(1930)*

## БУДЗЁННЫ ЗАХОД СОНЦА

Пагасла полымя накідак індыкоў,
заход на момант хоча запыніцца.
Рыпяць вазы з саломай. Стук падкоў.
Імгла заблыталася ў перасмяглых спіцах.

Нацэліўся таполямі пагорак,
нібы ракетамі, ў маладзіковы рог,
раяцца дзеці пад святлом сінюткіх зорак —
зямныя зорачкі прасёлкавых дарог.

Нічога тут не здарылася, спелую пшаніцу
ў час змалацілі, сцішылі машыны, напаілі гавяду,
у студню глянуў я — паспелі воблікі адбіцца! —
пагляд, не замуці начных нябёс ваду!

Нічога тут не здарылася, нехта ў ліўні промняў
аслеп — галюткай любую пабачыў ля ракі
і ў сонечны паўдзён задумаўся і ўспомніў,
як саламінка ўзвейная кранулася шчакі.

Са схілаў вецер дзьмуў, выў у кустах густых.
О трубы ветру, той, хто слухаў іх, паверце,
жыць прагне, не ўступаючы нічога смерці,
і ў сад свой птушак ён завабіць хоча ўсіх.

Нічога тут не здарылася. Зданямі ўспаміны
наўкол раяцца... Сніў яго я, край садоў і ніў.
Куст бэзу высах каля бацькавай хаціны.
Я на яго зірнуў — і мёртвы куст расцвіў.

*АНДРЭЙ ВАЗНЯСЕНСКІ*
*(1933)*

## ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

Апалі берагі па восені.
Не заплываць! Вірыць прадонне.
А летам — паратункам возера
тым, хто смуткуе альбо тоне,

А летам берагі вылечваюць,
як быццам шыны, надзімаюцца
святлом сярэбраным алешыны
і згодна ў берагах гайдаюцца.

Магчыма, гэта мікраклімат.
Вачыма чуеш весніц склыгат,
над студняй жуpавель маўклівы, —
усё чакаеш, што аклікнуць.

І сам я тут жыву для козыра.
На водгук сэрца разрываецца, —
дубовы ліст прыпаў да возера
напамінаннем Страдыварыуса.

## ОДА ДУБУ

Свіцезіянства — світае одум.
Выслоўе меркнецца знячэўна:
«Двайнік-дуб, помнік прыроды
рэспубліканскага значэння».

Міцкевіч з паннаю паглядзіўся.
Сюды ўбягаў.
Яна скупела.
Над імі помнік лістападзіўся,
як роспіс, полымна,
спагадзіста, —
куды Сікстінская капэла!

Маліў: «Пакуль галлё галёкае,
схаваемся, хай дождж значэе,
плячам напружаным, спалоханым
прыдам сусветнае значэнне!»

Рыдалі плечы — лёг з палёгкаю
дубовы ліст віяланчэльны.

Вялікія помнікі Прыроды!
Апрыёры:
екацярынінскія бярозы,
гаі, што гояць шлюбам любых,
аблмора,
в. а. ласося,
аса, жоўтая, як вулка Росі,
у рэстаўрацыі лось і...
Агульнасаюзны заяц!
Ты на вачах
        ператвараешся ў помнік,
                гістарычную рэліквію,
знікаеш, скромнік,
завязаўшы вушы, як вузельчык
        на дарогу вялікую.

Як Рэмбранты, па вопісу
        жывуць не за воблакамі
35 ваўкоў Горкаўскай вобласці.
Абложных хмар жамчуг заные,
бы спрасаваны спрэс рулонамі.
Люблю вас, ліпы абласныя,
і вас люблю, дубы раённыя.

Дзе званні
        ў небасхілаў згоды?
Вытокі — надзел прыроды?
Прырода як прабел гісторыі?

Мы — двайнікі. Мы агентура
падвойная, як ствол дубовы,
паміж прыродай і культурай,
палітыкаю і любоўю.

Лясы. Звісаюць совы матавыя,
заведчаніцамі Баторыя,
як тэлефоны-аўтаматы
надведамаснай катэгорыі.
Душа бянтэжным духам поўніцца,
калі асенне і знічэла
сплываюць на чужыну помнікі
нерастлумачнага значэння...

*воз. Свіцязь*

*ЯЎГЕНІЙ ЕЎТУШЭНКА*
*(1933)*

## КАХАНАЯ, СПІ...

Салёныя пыркі на плоце, як зоры.
Зачынены весніцы ў зморы.
І мора
дыміцца і грукае ў дамбу ў журбе,
салёнае сонца ўсмактаўшы ў сябе.
Каханая, спі...
Маё сэрца не мучай.
І горы, і стэп засынаюць наўкруг.
Сабака кульгавы,
кудлата-дрымучы,
кладзецца і ліжа салёны ланцуг.
І мора — ўсім покатам,
голле — ўсім лопатам,
кудлач сваім вопытам —
толькі не кпі! —
я — шэптам, паўшэптам,
душы сваёй допытам,
я клопатам, моўчкі:
«Каханая, спі...»
Каханая, спі...
На разлад наш хоць сёння
забудзь.
Уяві:
прачынаемся ў звон.
Мы ў сене.
Мы соні.
І моцна мацоні
аднекуль,
са склепа, —
нам дыхае ў сон.
Я ў скрусе,
ўявіць гэта ўсё як прымусіць
цябе, недаверу?
Каханая, спі...
У сне мне ўсміхайся
з былым у хаўрусе,
ты краскі збірай,
давярайся спакусе
і мноства прыгожых сукенак купі.
Зноў шэпчацца?
Крочыцца?
Стомна варочацца?
Ты ў сон загарніся,
ахутайся ім.
Рабіць можна ў сне тое ўсё,
што захочацца,
усё, што нам шэпчацца,
калі не спім.

Не спаць не сур'ёзна,
аблудна-падсудна —
і крык непрабудны
падспудна ўздыхне.
Вачам тваім будна.
У іх мнагалюдна.
Ім будзе лягчэй пад павекамі ў сне.
Каханая, спі...
Што прычына бяссонніцы?
Рык мора?
Альбо старадрэвін мальба?
Чыясь бессаромнасць?
Бяда-безназоўніца?
А ці не чыясьці,
а проста мая?
Каханая, спі...
Усяго не скіруеш,
ды вер, не віноўны я ў гэтай віне.
Даруй мне — ты чуеш? —
кахай мяне — чуеш? —
кахай, уздыхай, хоць у сне, хоць у сне!
Каханая, спі...
Шар зямны кожны міг,
трымаючы нас,
пагражае ўзарвацца, —
і трэба абняцца нам,
каб не сарвацца,
калі ўжо сарвацца —
сарвацца ўдваіх.
Каханая, спі...
Крыўды ў моры тапі.
Хай сонікі ціха ў вачах засяляюцца.
Так цяжка на шары зямным засынаецца,
і ўсё-такі —
чуеш, каханая? —
спі...
І мора — ўсім покатам,
голле — ўсім лопатам,
кудлач сваім вопытам —
толькі не кпі! —
я — шэптам, паўшэптам,
душы сваёй допытам,
я клопатам, моўчкі:
«Каханая, спі...»

## *ІМАНТ ЗІЕДАНІС*
*(1933)*

* * *

Як вялізныя падсвечнікі, дубы
У згалелыя і восені, і вёсны,
Як латгальскія падсвечнікі, дубы.

Поўня лье спаўна ў галлё агонь дзівосны.
Поўня зябкая, далёкі зорны жар,
Вам падсвечнікаў ані вядомы мукі,
Як апоўначы ў счарнелай цішыні
Просяць свечак здзервянелыя іх рукі.
А над імі вечнасць белая цячэ,
Ручаі раку шукаюць Шляхам Млечным.
Як вялізныя падсвечнікі, дубы
Ціха сталі і сваіх чакаюць свечак.

**ПЕРАЛЁТНЫ КАМЕНЬ**

Мы выдзерам гэты склеп з зямлі
і ў паветра ўздымем хаткай для птушак.
Ці возьмем гэты нябесна-блакітны дым
і ператворым у торф зямліста-руды
ці ў журавіны? Хто будзе супраць?

Не вечны камень і не заўсёдны.
Сам бачыў, што камень на вежу ўздзіраецца,
і ўе гняздо паміж чорных галак,
і выседжвае каменьчыкі шэранькія.
Пасля яны вучацца лётаць. Што тут дзіўнага,
калі бачым на небе пералётныя камяні?

О, вясна зялёная, як зялёная мірта,
і, прыйшоўшы толькі што з выраю,
ля шпакоўні, што на бярозе,
пералётны камень пяе.

Пра крылы свае, пра шчаслівыя крылы.

*ОЯРС ВАЦІЕЦІС*
*(1933)*

* * *

Ідзі, сляпы,
я перавяду цябе цераз вуліцу.

Машыны, пэўна, разбегаліся.
Дворнікі, пэўна, разленаваліся.
Асфальт да д’яблікаў слізкі.

Ах, як хлушу я!

Гэта ж мне неабходна
тая малая ўцеха —
сляпога перавёў цераз вуліцу.

Ах, як хлушу я!

Я ж і сам
за гэтым сляпым наважыўся,
я ж і сам і не цямлю,
куды падамся.

Мне павадыр патрэбен.
Найлепей за ўсё сляпы.
Сляпыя ніколі не выйдуць
швэндацца проста так.

*ІВАН ДРАЧ*
*(1936)*

## БАЛАДА ЗАЛАТОЙ ЦЫБУЛІ

*Звычайная цыбуліна —*
*Світанне галодных.*
*Пабла Нэруда*

Яна — багіня залаташчокая рынкаў прадажных —
Маятнікам пагойдваецца ў гроне вянка,
Абняўшы за шыю гарбатую цётку Гарпіну.
Яна — німфа, ўплеценая ў звялыя косы сяброўак.
Мільёнамі ласых вачэй абмацаная,
Прагне пазбыцца сваёй залацістай цноты!
Яна — маленькая макаўка падземных цэркавак —
Дрыжыць за сваю залатую душу набожную
Перад паганскай прагнасцю тупога нажа!
Пачырванеў, працягваючы за яе золата смецце сваіх медзякоў!
Яна ўжо чуе, як млеюць яе залатыя грудзі
У прадчуванні абдымкаў газавых жыгуна Агню.
Яна — каралева красы сельскіх світальных базараў —
Прыціхла сядзіць на гаўптвахце салдацкай кішэні,
Нявінная залатая фея жорсткага Апетыту.
Яна — родная сястра чэрствага жытняга Хлеба
І сястрычка-блізнючка белажупаннага Часныку,
Яна — залатая граната ў ляпе студэнцкага голаду,
Суперніца лютая разваранай рохлі Бульбы,
Сяброўка верная кухоннай сарамяжніцы Солі,
Малая Жанна д'Арк на ўсіх англасаксаў-мікробаў,
Яна — Лаура пяшчотная нейкага кірпатага Пятра Пятраркі
З кіеўскага тэхнічнага вучылішча на Падоле,
Захаваная ў цяпліцы ягонага самаробнага чамадана,
Ці яна — забытая, занядбаная Цыбуліна Папялушка,
Што безыменна сатлее ў страўніку нейкага бонзы,
Яна, залацюсенька-залатая, не ведае, як ёй наканавана памерці.
Ці пашчасціць ёй легчы святымі белымі німбамі
На неразгаданую таямніцу пшанічнай скібкі,
Ці яна мусіць круціць хула-хуп перад крывавым Шашлыком
Пяшчотна-шызымі сакаўнымі колцамі-абручамі
На срэбным целе грузінскага князя Шампура...
Пачынаецца залатая агонія стрыптызу перадсмяротнага:

Яна скідае сваё залацістае футрачка,
Яна скідае свой залацісты ільсняны свэдар,
Яна скідае сваю залацістную далікатную сукню,
Яна скідае сваю залацістую кашульку-лушпінку
І, галютка-белая, плача над згвалтаванай цнотай,
Яна — залатая Цыбулінка з мамінага гарода,
Яна — залатая Вясталка з хорама Таямніцы Быцця,
Сціснутая ў залаты кулачок з перапуду...

*АРВІ СІЙГ*
*(1938)*

* * *

бадзёра гарыць вогнішча
у начным лесе
у святле мігатлівага полымя
выступаюць дугі сукоў ялін
быццам рэбры на рэнтгенаўскім здымку
лес дыхае ледзьве чутна
дрэмле ў сваім сне
без агню чалавек бы ў ім пачуваўся
зусім трывогай прыгнечаны

і ўсё ж мроіцца што
змрокназіркам крадзецца
нястомна трымае вока
на агні і на ягоным ахоўцы
ад гэтага і ты знячэўна ўздрыгваеш
і полымя ўспыхвае нервова

вогнішча нібыта перасаджанае сэрца

*ХРЫСТА БЕКРЫЕЎ*
*(1940)*

**МАРК ШАГАЛ. ВІЦЕБСК, 1909**

Маўчанне. Нябёсы распяты ў спакоі
ад хораў анёльскіх, ад ран, ад хвалы.
Пад імі вісяць і зіхцяць галатою
цыбуліны вымытыя — купалы.

Хацінкі, закутыя ў дрэва, ў дрымоце
гамоняць, адчуўшы адчаю нахлын.
І дойлідам дзён трэба жыць у самоце,
апошнюю торбачку несці на млын...

І дахі — раўнівымі вартаўнікамі
ў забытым бязмежжы сышліся на тук!
Між смецця задворкаў, што сохне вякамі
з уласнаю доляй гуляе хлапчук.

Без пэндзля і літар пачатак на смутак,
распяцце дзіцячага свету на жах.
А дзве аблачынкі, як белы абутак,
паклікаць прыйшлі ў неабсяжны абсяг.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ВАСІЛЬ ЗУЁНАК

**(1935, в. Мачулішча Крупскага р-на)**

У час навучання В. Зуёнка на журфаку БДУ студэнтаў яшчэ лаялі за чытанне забароненых Блока і Ясеніна. Рызыкуючы не патрапіць у нагу з непаэтычным часам, Васіль у студэнцкую пару друкаваўся мала — па два-тры вершы ў год. Пісаў для дзяцей. Дзіцячай кніжкай і дэбютаваў — на год раней за «Крэсіва» (1966), у якім пазнаваўся ўжо цалкам сфармаваны паэт, выйшаў «Вясёлы калаўрот» (дарэчы, першай перакладной кнігай была таксама дзіцячая — «Возера-бульдозера» ўкраінскага паэта У. Лучука). Перакладаў не так і шмат, пераважна паэтаў тагачасных савецкіх рэспублік: падборкі перакладаў Зуёнка знаходзім у зборніках латыша Я. Судрабкална, літоўца Э. Межэлайціса, украінца Р. Лубкіўскага. Да перакладу ставіўся надзвычай патрабавальна, уяўляю, як яму самому было няпроста дамагчыся захавання тае магіі арыгінала, пра якую напісаў у прадмове да сваёй «кнігі перакладчыка» «Знічкі сямі нябёс» (1992): «Чым арыгінальней, чым вышэй талентам паэт, тым недаступней яго паэзія для пераўвасаблення, перастварэння на іншай мове... З'явіцца іншы гук, іншы склад — і ўсё безнадзейна руйнуецца, знікае магія, чароўнасць верша, ■ найперш тое, што вырастае з яго музыкі, святла, што стварае той самы таямнічы паэтычны падтэкст... Знайсці ў сваім родным слове штосьці адпаведнае, наблізіцца да арыгінала — удача з удач...» Падобная патрабавальнасць у адносінах да справы, якую многія паэты лічылі падзёншчынай, заслугоўвае толькі пахвалы.

*ГАЎРЫЛА ДЗЯРЖАВІН*
*(1743—1816)*

### ПРАВІЛА ЖЫЦЬ

Суцеш паклонам ганарліўца,
Зваж аплявухаю сварліўца,
Улашчы маззю скрып варот,
Заткні сабаку скібай рот, —
Іду ў заклад, клянуся шчыра:
Замоўкнуць тут жа ўсе чатыры.

*АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799—1837)*

* * *

*Exegi monumentum**.

Сабе я помнік сам узвёў нерукатворны,
Людская сцежка да яго не зарасце,
Ён над стаўпом Александрыйскім непакорна,
Як покліч неба, узляцеў.

* Я ўзвёў помнік (з лац.).

Не, не памру я ўвесь — у запаветнай ліры
Душа перажыве мой прах, мой тленны свет —
І слынны буду я, пакуль зямным кумірам
Жыць будзе хоць адзін паэт.

І пройдзе розгалас па ўсёй Русі вялікай,
І назаве мяне шматмоўны пераклік —
І горды ўнук славян, і фін, і зараз дзікі
Тунгус, і стэпаў друг калмык.

І любы доўга буду я свайму народу,
Што лірай добрыя пачуцці абуджаў,
Што ў жорсткі, люты век уславіў я свабоду
І грэшным літасці жадаў.

Наказу боскаму, о муза, будзь слухмянай,
Не патрабуй вянка і крыўдзе не ўступай,
Паклёп і пахвалу прымай, як лёс нязваны,
І з дурнем спрэчак не ўчыняй.

*ЯЎГЕНІЙ БАРАТЫНСКІ*
*(1800—1944)*

**ЗНЯВЕРАНАСЦЬ**

Не спакушай мяне вяртаннем
Пяшчотных позіркаў тваіх:
Хто пераэкыў расчараванне,
Душой не ўзвесніць дзён былых!
Не веру больш я абяцанням,
Каханню больш не веру я,
І зноў шукаць душа мая
Тых сноў падманлівых не стане!
Маёй журбы сляпой не множ,
Слоў не растрачвай аб мінулым,
Пакуту, друг мой, што заснула
Ў збалелым сэрцы, не трывож!
Я сплю, — ні слёз, ні хваляванняў, —
Забытых мар не варушы:
Пакутны боль, а не каханне
Разбудзіш ты ў маёй душы.

*ФЁДАР ЦЮТЧАЎ*
*(1803—1873)*

* * *

Пясок жарсцвяны па калені...
Мы едзем — позна — гасне дзень.
І сосен, па дарозе, цені
Ужо ў адзін зліліся цень.

Чарнее хмурна бор глыбокі,
Сумуе за вярстой вярста.
І ноч, нібыта звер ставокі,
Глядзіць з-за кожнага куста!

* * *

Наперад знаць не даў нам лёс,
Як слова наша адгукнецца, —
І спачуванне нам даецца,
Як жыватворны дар нябёс.

*ІНАКЕНЦІЙ АНЕНСКІ*
*(1855—1909)*

## ПАМІЖ СУСВЕТАЎ

Паміж сусветаў і касмічных яў
Імя адзінай Зоркі паўтараю...
І не таму, каб я Яе кахаў,
А проста шчасця з іншымі не знаю.

Калі ж сумненне прыгняце мяне,
Прашу ў Яе адказу, як у неба,
І не таму, што светла ад Яе,
Але таму, што з Ёй святла не трэба.

*РОБЕРТ ФРОСТ*
*(1874—1963)*

## НЕШТА Ж БЫЛО...

Іншыя пасміхаюцца, як я стаю на каленях
Перад крыніцай і доўга гляджу
У люстраную роўнядзь вады,
Дзе бачу адно толькі ўласны адбітак,
Што на фоне нябесным нагадвае бога
У німбе з імхоў і марудлівых аблачын.
Аднойчы, уткнуўшыся ў зруб падбародкам,
Я, здаецца, пабачыў, што там,
За адбіткам маім, нешта цьмяна бялее,
Там, на дне, штосьці тое, якое адразу ж і знікла.
І вада папікнула ваду, залішне празрыстую...
Кропля з моху ўпала, і тое,
Што бялела на дне, затрымцела,
Зніякавела і знікла...
Дык што ж там было на дне?
Ісціна? Белы каменьчык?
Нешта ж такое было...

*ГАННА АХМАТАВА*
*(1889—1966)*

* * *

Навошта мне радкоў адычных веча,
Сантыментальнасць элегічных дзей?
У вершы ўсё быць мае недарэчы,
Не так, як у людзей.

Калі б вы знялі ўсё: з якога смецця
Верш, сорам страціўшы, расце парой,
Як дзьмухавец ля плоту ў пыльным цвеце,
Як лопух з лебядой.

Сярдзіты крык, пах дзёгцю свежы з ботаў,
Загадкавая плесня на сцяне...
І верш ужо гучыць, жывы, пяшчотны,
На радасць вам і мне.

*ГЕОРГІЙ ІВАНАЎ*
*(1894—1958)*

* * *

Пустэльная і доўгая дарога,
А неба больш праменнае, чым рай,
І яхантамі на прыполе ў Бога
Праз дым туману ззяе небакрай.

І там, далёка, дзе вястункай ночы
Ўзлятае зорка птушкаю з гнязда,
На шар зямны глядзяць блакітна вочы,
Гайдаецца сівая барада.

Нібы змарыўся ён ад спраў трывожных,
Спакойны і стары, не чуе Бог,
Як крылы ластавак неасцярожных
Кранаюцца ягоных цяжкіх ног.

*ЭЎЦІМ ЭЎЦІМАЎ*
*(1933)*

**ЖАНЧЫНА НА БАЛКОНЕ**

Жанчына, нібы стройная званіца,
Перад маім паўстала алтаром.
Нашто святым быць і нашто маліцца,
Калі я нарадзіўся званаром?!

Дзе ў свеце знойдзеш гожую такую,
Што пакарае магіяй сваёй?
Як д'ябал, маё сэрца трыумфуе,
Што я ў яго ў закладзе — з галавой!

Які агонь у тых вачах нябесных,
Пяшчоты колькі!.. Я маўчу ў мальбе...
О Божа, дай адну мне гэту песню —
Я з песень пабудую храм табе!..

## ВІННАЯ

Зямны мой і нябесны вінаграднік,
Ты сэрца саграваеш весялосцю,
Да гронак я тваіх прыпасці рады,
Пакуль не абабраў іх іншы хтосьці.

І зноў, і зноў — і цуд, і шал спатканняў:
Я ад тваіх дарункаў зап'янелы, —
У іх бунтуюць градусы кахання,
І слодыч вуснаў, і гарачнасць цела.

У гронках магія жаночая іскрыцца,
Мяне ў абдымках сонечных трымае.
Сапраўднае віно, а не вадзіцу
Я з кубка залатога выпіваю.

Мой лёс цяпер пазначаны: я п'яны,
Табою п'яны, д'яблава парода.
Я ў сэрцы гэтым вінным — госць жаданы,
Яно адкрыта для мяне заўсёды.

*ЛУЧАЗАР ЭЛЕНКАЎ*
*(1937)*

## КАМЕНЬ

Ядром служыў
Машыне сценабітнай
І цэліўся ў праваліны байніц.

Ды ўсё ж цябе як не было зусім.

Ты жорнамі задыхана гудзеў
І гэтак жа пацеў, як мы пацеем,
За хлеб надзённы.

Ды ўсё ж цябе як не было зусім.

Рабіўся ты грудзямі хвалялома
І сунімаў прыбояў дзікі шал,
Пакуль у завадзі забытай не аціх.

Ды ўсё ж цябе як не было зусім.

Аднойчы майстар удыхнуў табе
Жыццё разцом,
І зараз праслаўляюць
Усе
Твайго трыумфу выпадковасць.

*РАМАН ЛУБКІЎСКІ*
*(1941)*

* * *

Калі думаю
Пра Багдановіча,
Часта бачу
Яго хударлявую постаць
На Траецкім прадмесці
Пад ліхтарамі...

Тая ж плошча.
Той самы снег,
Што пазнаў яго, —
Не забыўся!
Бо інакш
Чаму б гэтак прагна
Роем пчол залатых
Прыпадаў да бярэмца
Блакітных валошак,
Сагрэтых
У бронзавай
Цёплай
Далоні
Максіма?

*КАСІЯН МАРЫЯ СПІРЫДОН*
*(1950)*

**ТРАГІЧНАЯ ПАСТЭЛЬ**

на мяжы смерці
ружы па горла ў зямлю закапаныя
нібы выклік зіме
расцвілі

над імі жынчына бялізну развешвае мокрую
праменіцца ў вочы святлынь
а зорка на небе
дарогу вяшчуе халодную

*ГАБРЫЭЛЬ КІФУ*
*(1954)*

**ПЫТАННЕ І АДКАЗ**

ты намерыўся пракласці тунэль
праз сэрца Бога
і Бог маўчыць
паўтараеш пытанні розныя
ды пра што б ні пытаўся маеш
усё той жа маўклівы адказ
і час ад пытання твайго да адказу
гэткі доўгі што можаш скакаць да яго
хоць на самым хуткім стаенніку
конь састарыцца твой і ўпадзе але мэта
недасяжнаю застанецца
як разбіты стары карабель
у гавані між пытаннем тваім і адказам
умяшчаецца цэлы свет
што ахоўваецца бялюткім ягняткам
а Бог маўчыць

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## АНАТОЛЬ КЛЫШКА

**(1935, в. Данейкі Баранавіцкага р-на)**

Выпускнік Наваградскай педвучэльні і філфака БДУ. Ля школьнай дошкі разумнае, добрае, вечнае не сеяў, затое напісаў самую галоўную кнігу для школьнікаў — буквар. Першае выданне з'явілася ў 1969-м і з тае пары выходзіць амаль штогод, агульны наклад перавысіў два мільёны асобнікаў. Можна з пэўнасцю сказаць: Клышкаў буквар — самая тыражная беларускамоўная кніга. Па гэтым буквары вучылася добрая траціна аўтараў нашай анталогіі, у тым ліку і яе складальнік, а таму дазволю сабе ад імя ўсіх выказаць падзяку вялікаму Педагогу Анатолю Клышку. Калі б усе астатнія школьныя падручнікі стваралісяна гэткім самым высокім прафесійным роўні, з гэткім самым адчуваннем бездакорнага літаратурнага густу і з пачуццём патрыятызму — сёння ў Рэспубліцы Беларусь не было б праблемаў з нацыянальнай свядомасцю. Гадоў пятнаццаць Клышка працаваў у часопісе «Полымя», вёў аддзел крытыкі ды навукі і... гумарыстычную рубрыку «Дзядоўнік на Парнасе», для якой складальнік гэтай анталогіі разам з прызнанымі гумарыстамі часам пастаўляў пародыі. Бачылі б вы, як перакладчык Гамера ўмеў захапляцца дасціпнымі радкамі сваіх сучаснікаў! Калі я даведаўся, што Клышка працягвае дасканаліць сваю старажытнагрэцкую, без развагаў падараваў яму двухтомавы «Класічны грэцка-беларускі слоўнік» Я. Пятроўскага, выдадзены ў ЗША. А праз год ці два чытачы ўжо мелі «Пастушыную гісторыю пра Дафніса і Хлою» Лонга па-беларуску, што ўбачыла свет у шматспадзеўнай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры». На жаль, да гэтай пары толькі ў перыёдыцы апублікаваны Клышкаў пераклад Евангелля, як быццам своечасова выдадзеныя аналагічныя пераклады а. У. Чарняўскага і В. Сёмухі знепатрэбілі шматгадовую працу яшчэ аднаго перакладчыка. З яшчэ большай шкадобай даводзіцца канстатаваць, што пачаты яшчэ ў 1970-я Гамер так і не загаварыў па-беларуску на поўны голас.

ГАМЕР

## АДЫСЕЯ
*Фрагменты*

### [СПАТКАННЕ АДЫСЕЯ Ў АІДЗЕ З ЦЕНЕМ ПАМЕРЛАЕ МАЦІ]

Тут да мяне і наблізіўся прывід памерлае маці,
Дух Антыклеі, дачкі Аўталіка, вялікага сэрцам.
Маці жывой пакідаў, калі плыў у святы Іліён я.
Глянуў цяпер на яе і ад жалю заліўся слязамі.
Ды хоць і моцна журыўся, але да крыві* набліжацца
Першай не даў, пакуль у Тэйрэсія ўсё не спытаўся.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я ўсё там быў, чакаў, аж пакуль не прыйшла мая маці,
Чорнай крыві напілася. І, тут жа мяне апазнаўшы,
Загаласіла яна, і казала крылатае слова:
«Сыне мой, як ты патрапіў у гэту падземную цемру,
Быўшы жывым? Бо нялёгка ўсё гэта жывому пабачыць,
Нас падзяляюць магутныя рэкі, жахлівыя плыні,
А сама больш Акіян, — праз яго аніяк перабрацца
Пешы не зможа, хіба толькі мае трывалае судна.
Ці не з-пад Трoi сюды, пасля доўгіх блуканняў на моры,
Разам з сябрамі і суднам дабраўся? І ўсё яшчэ, пэўна,
Ты не даплыў да Ітакі і жонкі ў гаcподзе не бачыў?»
Так да мяне прамаўляла, і я адказаў ёй на гэта:
«Любая маці! Патрэба мяне прывяла да Аіда:
Мусіў пра ўсё распытаць я Тэйрэсія Фіўскага душу.
Бо і яшчэ не даплыў да Ахеі, яшчэ не ступалі
Ногі мае па бацькоўскай зямлі, — у пакутах блукаю
З часу таго, як паплыў на чале з Агамемнанам слаўным
Пад Іліён, што багаты на коней, — з траянцамі біцца.
Ну, а цяпер ты сама раскажы, толькі шчырую праўду:
Кера** якая цябе суняла смуткавейнаю смерцю?
Доўгая немач? Ці гэтая лучніца мо, Артэміда,
Ціха прыйшоўшы, ласкавай стралою цябе загубіла?
І раскажы мне пра бацьку, пра сына, якіх там пакінуў, —
Ці маю ўладу трымаюць? Ці, можа, валодае ёю
Хто-небудзь іншы цяпер, бо ўжо кажуць, што я не вярнуся?
І раскажы мне пра жонку, пра думкі яе і намеры:
Ці ўсё пры хлопцу жыве і надзейна пільнуе набытак,
Ці, можа, замуж яе ўзяў хто-небудзь са знатных ахейцаў?»
Так я прамовіў, і маці шаноўная мне адказала:
«Сэрцам цярплівым чакае цябе і да гэтага часу
Жонка ў гаcподзе тваёй. У няспынным сумоце і горы
Доўгія ночы і дні яе сходзяць у слёзах і жальбах.

---

* Выпіўшы ахвярнай крыві, душа нябожчыка магла пазнаваць жывых і гаварыць з імі.
** Керы — чарнакрылыя багіні смерці, хапаюць людскую душу ў момант, калі яна пакідае цела.

Не пераняў аніхто твае ўлады пачэснай. Спакойна
Там на зямлі Тэлемах уладарыць. І з роўнае долі
Ладзіць застоллі, як годна асобе, што суд учыняе.
І да сябе яго ўсе запрашаюць. А бацька ўсё там жа,
Горад пакінуў, дамуе ў сялібе. Ні добрага ложка,
Ні ў яго коўдры, ні мяккіх падушак, ні ўзорных каберцаў.
Зімняй парою начуе са слугамі разам у доме,
Лёгшы на попел, — бліжэй да агню; лахманы нацягнуўшы.
А як наблізіцца лета, а там і ўрадлівая восень,
У вінаградніку выбера месца на спадзістым схіле,
Кучу апалага лісця сабе награбе на пасцелю.
Сумны ляжыць там, і жаль усё большы прараствае ў сэрцы.
Тужыць па сыне, чакае...»

*МАРК ВАЛЕРЫ МАРЦЫЯЛ*
*(каля 40—100 гг. н. э.)*

## ЭПІГРАМЫ

Ёсць тут і добрыя творы, і так сабе, шмат і слабога
Знойдзеш. А іншых жа кніг і не бывае, Авіт.

*

Тое, што ўслых ты, Фідэнтын, чытаеш, — мая гэта кніга,
А запінацца пачнеш, раптам як стала твая.

*

Змок і разлезся, шынкар, вінаград ад дажджоў несціханых.
Не прадасі, каб хацеў, болей віна без вады.

*

Шэсць я за Левію, сем за Юстыну і пяць п'ю за Ліку,
Ліда — чатыры яшчэ, Іда — зноў кубачкі тры.
Так я, фалерн налiваючы, ўсіх называю сяброўвак,
Ды як не йдзе ні адна, Сон, ты прыйдзі да мяне.

*

Як без закладу ў цябе прасіў грошай, ты кажаш: «Не маю»,
А як у іх за мяне поле паручыцца, — «Ёсць».
Ты — у чым веры не маеш мне, сябру старому, Тэлесін, —
Лёгка ў тым верыш грудку, дрэвам і рэчам маім.
Кар вось данёс на цябе: няхай жа заступіцца поле!
Сябра ў выгнанне з сабой просіш: хай поле ідзе!

*

Тых дык цалуеш, а гэтым руку падаеш адно, Постум.
Скажаш: «На выбар — бяры». Выберу лепей руку.

*

Неяк прасіў я пазычыць мне дваццаць тысяч сестэрцый.
Іх і зусім падарыць нават было б не наўда.

Бо я ж прасіў у старога, багатага сябра:
Скрыня ў яго аж трашчала ад тае сціжмы дабра.
Ён жа мне кажа: «Ты будзеш багаты — ідзі ў адвакаты».
Гай, дай, чаго я прашу, я ж не парады прашу.

*

«Квінт улягае за Таяй». — «Якою?» — «Ды той, слепавокай».
Вока ў Таіды адно, Квінт на абодва аслеп.

*

Лепшай ніводнай жанчыны, чым ты, не было, Лікарыда.
Лепшай жанчыны цяпер, чымся Глікера, няма.
Будзе яна, як і ты, а такой, як яна, ты не будзеш.
Што робіць час?! І яе прагну, як прагнуў цябе.

*

Вось ужо сёмую жонку, Філерас, ты ў полі хаваеш.
Поле, Філерас, табе больш чым каму ўспамагло.

*

Гэткі цнатлівы сабой ты, Сафроне, — душой і гаворкай,
Што нават дзіва бярэ, як жа ты бацькам мог стаць.

*

Ёсць і такія — не хочуць мяне прызнаваць за паэта,
Лічыць паэтам, аднак, той, хто мяне прадае.

*

Дзівішся ты: патыхае смуродам у Марыя з вуха.
Нестар, твая тут віна: шэпчаш на вуха яму.

*

Што ні пачне, аніяк да канца не даводзіць Серторый.
З ім і ў каханні, відаць, дзеўцы такая ж бяда.

*

Хто гэта ўмовіў табе выразаць ноздры каханку?
Месца ж не тое зусім выбраў, каб помсціць за грэх.
Што ж ты вырэзваў, тупіца? Нічога не страціла жонка:
Мае, як меў, Дыяфоб цэлым астатняе ўсё.

*

Як зіхаціць гэта золата ў скіфскім агні самацветаў —
Глянь... Колькі пальцаў заráз келіх такі абабраў.

*ЭЙЖЭНС ВЭВЕРЫС*
*(1899—1976)*

## АГНІСТЫЯ ХВОІ

Кожнага вечара загараюцца хвоі
На дзюнах.

Мора чэрпае воды ўсіх краявідаў.
Тушыць!
Каромыслы стукаюцца аб бераг,
Вада расплюхваецца.
Заўсёды расплюхваецца, заўсёды расплюхваецца
На пясок.
Незатушаны хваёвы агонь перакідваецца
На сухую асаку і воблакі захаду.

Калі маё сэрца пачынае гаснуць
У кроплях халодных слоў,
У тайзе адзіноты, у развітальным ключы жураваў,
Калі толькі чорнае вуголле
Пагражае застацца,
Я збіраю іскры агністых хвояў
І кідаю іх
У сваё сэрца.

Я гару.
Я жыву.

*УОЛТЭР МЭЙ*
*(1912)*

**ШЧАСЦЕ**

Калі я на мора глядзеў, як там хвалі мігцяць,
Я з радасцю слухаў, як дзеці спявалі пра тое,
Што весела ім тут пад сонцам на волі гуляць:
Іх шчасце было маладое.

Вось двое каханых прайшлі. Вецер рваў валасы.
Туліліся постаці — што ім там буры, напасці!
Каханнем звінелі юначыя іх галасы:
Цёплае іх было шчасце.

Спяшаліся двое студэнтаў. Начная імгла
Вось-вось на іх плечы залевай збіралася ўпасці,
Ды спрэчку вучоную іх супыніць не магла:
Халоднае іх было шчасце.

Па беразе пара жанатых прайшла. Уваччу
Мільгнуў іх двайны сілуэт і прапаў за гарою.
Прайшлі яны моўчкі. І слова ад іх не пачуў:
Іх шчасце было старое.

Калі я ў задуме на беразе мора сядзеў
І сэрца мне кроілі хваляў і ветру акорды,
Я думаў аб любай — маёй немінулай бядзе:
І шчасце маё было мёртвае.

*ЯНУШ СКАШКЕВІЧ*
*(1922)*

**АМФАРЫ**

Жанчыны з постацямі амфар
нясуць збаны па галаве,
ступаюць ціха,

ідуць паважна да крыніцы
пад хустаю аблокаў.

Іх рукі, доўгія і зграбныя,
плывуць суладна
ў дрыготкім ад святла паветры.

На целе іх
адпачывае сонца.

Філосаф здзівіцца такой красе,
паэт узнёслы верш напіша,
а мудры
свой спрагнёны рот
да амфары нахіліць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## УЛАДЗІМІР ПАПКОВІЧ

**(1935, в. Дварэц Вілейскага пав.)**

Сялянскі сын. Перад вайной на бацьку нехта з аднавяскоўцаў напісаў данос, і аднойчы яго забраў чорны варанок... Дзесяцігодку будучы паэт і перакладчык закончыў у мястэчку Ілля, дзе падчас Другой сусветнай вайны працаваў у цывільнай адміністрацыі Алесь Салавей. Пасля заканчэння Менскага інстытута замежных моваў (1958) чатыры гады выкладаў у ім нямецкую. Потым дзе толькі ні працаваў: у патэнтным і канструктарскім бюро ў Менску і Віцебску, на сталічным оптыка-механічным заводзе, у інжынерна-радыётэхнічнай вучэльні, у індустрыяльным тэхнікуме, на Віцебскім вытворчым аб'яднанні «Хімпласт». З 1982 г. — выкладчык кафедры замежных моваў Віцебскага дзяржаўнага педінстытута (цяпер — універсітэта). Нямецкіх паэтаў перакладае з канца 70-х гг. мінулага стагоддзя. Асобнымі выданнямі ў серыі «Паэзія народаў свету» выйшлі Ё. Бэхер («Вяртанне да сябе», 1985) і нямецкія рамантыкі («Закаханы вандроўнік», 1989). У. Папковіч — аўтар чатырох паэтычных зборнікаў, апошні мае двухмоўную назву — «На тым стаю — Hier stehe ich» — і змяшчае ў сабе цэлую міні-анталогію нямецкай класічнай паэзіі (24 аўтары). А яшчэ — аўтапераклады на нямецкую мову з пранікліваймпрадмовай: «Liebe deutsche Leser!..» («Дарагі нямецкі чытач!..»). Здаецца, да Папковіча гэтым у нас ніхто не займаўся. А дарма: калі Еўропа не спяшаецца ісці да нас, трэба нам самім шукаць да яе шляхі.

*МАРЦІН ОПІЦ*
*(1597—1639)*

**НАЧЫ І ЗОРКАМ**

Ты — цемень, ноч, ты дзень сабой закрыла,
Прынесла страх і непрабудны змрок.
Ці не адступіш, як з усмешкай мілай
Ружовы ранак зробіць першы крок?
Вы, зорачкі, а вам хто дапаможа
Ў шматлікай мігатлівай грамадзе,
Калі святло Мадонны найпрыгожай
На вас, хоць вы й высока, упадзе?
Адчуеце, што сіл вам не хапае,
А твар яе палае, як пажар...
Аўрора й тая ціха адступае —
Ад сораму зачырванеўся твар.

*ПАЎЛЬ ФЛЕМІНГ*
*(1609—1640)*

**ЯК ЁН ХОЧА ЦАЛАВАЦЦА**

Вусны ў вусны — толькі так,
Самы цымус, самы смак;
Не зашмат і не замала,
Хай язык не будзе вялы.

Не даўжэй, не карацей —
Гэта ж не гульня дзяцей.
Не загучна, не заціха:
Меру знай — не будзе ліха.

Не замякка, не загруба,
Губы хай знаходзяць губы,
Не павольна, не паспешна,
Лепш у месцы, дзе нягрэшна.

Ледзь кусні ці ледзь крані,
Вусны ў вусны — два агні.
Лепшы час — з прыходам змроку,
Каб не быць навідавоку.

*ГОТХАЛЬД ЭФРАІМ ЛЕСІНГ*
*(1729—1781)*

**ТОЙ, ХТО НАД НАМІ**

Ганс Штэфен ледзве датрываў
Да змроку, каб паласавацца шчыра, —
У сад чужы прабраўся ён, праныра,
На яблыню залез і яблыкі там рваў.

Ёган і Ганна не маглі трываць
Да змроку, каб кахацца моцна, шчыра, —
І ён каханую завёў, праныра,
Пад тую ж яблыню, каб цалаваць.
Ганс Штэфен, што ўгары сядзеў
І яблыкі ірваў ды еў,
Суцішыўся ад страху: вось дык трасца,
Заўважаць — і наесціся не ўдасца.
Ды хутка ён забыў — хоць быў у пастцы —
На страх свой і глядзеў уніз,
І яблыкі спакойна грыз.
Кахання як суняць парыў?
Ёган дзяўчыну павалїў.
Крычала: «Кінь... цяпер не час...
Тут мокрая трава якраз».
А ён сям-там рукою — мац:
«Трава пад намі — як матрац!»
Як справа ў іх далей пайшла —
Найлепш у іх саміх спытацца...
Усталі. Ганна злосная была:
«Панок, ты ж прагнуў цалавацца,
А сам пачаў так завіхацца...
А што, як здарыцца са мной...
Калі дзіця... карміць адной?
Што ж нарабілі мы, о Божа!..»
«Ты меркаваць, як хочаш, можаш —
Не ажанюся я з табой.
Той, хто над намі, дапаможа —
Звяртайся, Ганна, да яго!»
Той, хто над намі! Аж затрося
Ганс Штэфен... «А ці мне здалося?
Той, хто над імі! Захацеў чаго!
Не! — крыкнуў. — Кіньце і надзею.
Той, хто над вамі, марыць-сніць
Чужога байструка карміць?!
Я і свайго зрабіць сумею!»
Хто ж у спалоху ламануў праз сад?
Ёган і Ганна. Страху было шмат.
Ці быў садоўніку даклад?
Ды не, я думаю — наўрад.

## МУЖ І ЖОНКА

Услед за жонкай, наўздагон,
Сканаў і муж праз сорак дзён.
Душа яго, як выскачыла з цела,
У рай адразу паляцела.
У брамку стук: — Пан Пётра, адамкні!
— Хто гэта там? — Хрысціянін!
Пасціўся я, пан Пётра, дзень пры дні.
Ад той пары, калі ад немачы зваліўся,
Не еў, не піў — адно маліўся.

Пусці! — Пушчу, пушчу... чаму ж...
Ого, Кларындзін муж!
Заходзьце, сябра, без гамонкі,
Як-небудзь уладкуем вас ля жонкі.
— Як? Жонка тут? Вы гэтую нуду
Пусцілі да святога раю?
Прабачце за турботы. Я пайду
Ды іншага прытулку пашукаю.

*КЛЕМЕНС БРЭНТАНА*
*(1778—1842)*

* * *

Я падаўся ў свет далёкі
Цераз горы і бары.
Неба парасон шырокі
Нада мной плыве ўгары.

Там, на ўзлеску, дзе грымотны
Вадаспад шалее, я
Заначую і — самотны —
Буду слухаць салаўя.

Вечаровай калыханкай
Зачаруе сэрца ён,
І душу маю да ранку
Запалоніць мройны сон.

Зноў пачую: дзесьці льецца
Песня шчасця і нуды.
Зноў адчую: сэрца б'ецца,
Як у даўнія гады.

І са дна ракі, што з горкі
Мкнецца, шэпчацца з травой,
Зноў мяне вітаюць зоркі,
Быццам ім я блізкі, свой.

Рэха панясе на волю
Праз лясы і праз палі
Песню радасці і болю:
Амялея! Амялі!
І зазззяе наваколле:
Амялея! Амялі!

Што хаваецца у ночы?
Што ўзыходзіць пры святле?
Астравы пяшчоты — вочы.
Твар, што асалоду шле.

Паміж месяцам і сонцам,
Нібы ў продані якой,







1. Ніл Гілевіч
2. Алег Лойка
3. Валянцін Тарас
4. Уладзімір Караткевіч, Канстанцыя Буйло, Уладзімір Дубоўка, Рыгор Шырма, Павел Кабзарэўскі (Расія). 1960-я гг.









1. Анатоль Вярцінскі і У Тайчан (Кітай). Пекін, 1988 г.
2. Карлас Шэрман
3. Пятрусь Макаль
4. Ніл Гілевіч, лужыцкі паэт Кіта Лоранц (Нямеччына), Аляксей Зарыцкі. 1964 г.




1


2


3


4


5

1. Куба Паўтаржыцкі
2. Кастусь Цвірка
3. Васіль Зуёнак
4. Анатоль Клышка
5. Уладзімір Папковіч





1. Янка Сіпакоў
2. Генадзь Бураўкін
3. Ніл Гілевіч, Наталка Білацэрківец (Украіна), Іван Давыдкаў (Балгарыя), Святлана Ёвенка (Украіна). 1982 г.
4. Сакрат Яновіч
5. Віктар Ярац і Анатоль Грачанікаў









1



2



3

1. Міхась Стральцоў
2. Рыгор Барадулін
3. Васіль Сёмуха
4. Данута Бічэль
5. Алена Таболіч



4



5



1



2



3

1. Зніч
2. Сяргей Панізнік
3. Уладзімір Мархель
4. Васіль Жуковіч
5. Вадзім Болбас



4



5







1. Вячаслаў Рагойша
2. Уладзімір Скарынкін
3. Рыгор Семашкевіч
4. Мікола Аляхновіч
5. Васіль Сахарчук і Алесь Каско











1. Сяргей Законнікаў
2. Ніна Мацяш
3. Анэля Тулупава
і Яўгенія Янішчыц
4. Якуб Лапатка
5. Юрка Голуб





У чароўным сне бясконцым
Знойдзецца душы спакой.

І адчыняцца глыбіні —
Тайны вечныя зямлі.
І каханне не загіне:
Амялея! Амялі!

*АДЭЛЬБЕРТ ШАМІСА*
*(1781—1838)*

## ХІТРЫ ГАНДАЛЬ

Ад бяседы царскай госцю
Закарцела ў парк, у цішу.
Там да пана раптам хтосьці
З-за куста насустрач выйшаў.
І, памацаўшы за дзягай,
Цягне пісталет з адвагай.
Прыстаўляе да грудзей.

«Ціха, ціха... ані слова...
Я набыць хачу ў вас рэчы.
Іншым неабавязкова
Знаць аб нашае сустрэчы.
Мо гадзіннік з бранзалетам
Прадасцё — за тры манеты?
Дык трымайце, вось яны!»

«Вельмі рады!» — «Наш гадзіннік
Б'е на вежы як папала,
А званар, як імяніннік,
Пыжыцца, ды петрыць мала.
А як свой гадзіннік будзе,
Зажыву і я, як людзі,
Знаючы дакладна час.

А скажыце: без пярсцёнкаў
Не маглі б вы абысціся?
Залатыя цацкі жонка
Вельмі любіць, хоць хрысціся...
А у вас іх шмат надзета...
Прадасцё — за тры манеты?
Дык трымайце, вось яны!»

«Вельмі рады!» — «Як прыемна
Вам падзякаваць нарэшце:
Шчыра, згодна, узаемна
Гандаль мы змаглі правесці.
Каб сябрамі развітацца,
Я хачу ў вас запытацца:
Што б такое вам прадаць?

Вось пярсцёнак, мой уласны —
Дарагі мне не цаною:
Дар каханай, што заўчасна
Разлучылася са мною.
Вам прадам не дзеля грошай —
Дзеля памяці харошай.
Дайце дзесяць залатых!»

«Вельмі рады!» — «Ах, што гэта!
Кашалёк з грашыма, поўны.
Не шкада і пісталета
За кашэль такі шыкоўны.
Зброя — лепшага завода.
З рук у рукі — вось і згода.
Дзякуй вам за кашалёк!»

«Вельмі рады! Ну, браточак,
А цяпер чарга за мною.
Аддавай мой кашалёчак
Ды і ўсё, што ўзяў маною.
Ды хутчэй дабро вярні мне,
А то зараз выстрал грымне:
Як сабаку палажу!»

«Што ж, страляйце... ад героя
Я прыняў бы смерць спакойна,
Каб была з патронам зброя...
Ах, як гэта непрыстойна!
Хай вас пакарае неба.
Гандаль чэсна весці трэба.
Ну, дабранач, я пайшоў».

І, пакпіўшы так, падаўся
Хуткай, лёгкаю хадою
У кусты, дзе і схаваўся
З купленай спажывай тою.
Пан з шыкоўным пісталетам
Засмуціўся вельмі гэтым.
Гордай галавой панік.

*ЛЮДВІГ УЛАНД*
*(1787—1862)*

## ПАТАНУЛЫ КЛЯШТАР

На возеры быў востраў,
Ды ён пайшоў на дно.
І кляштар з ім, і сёстры,
І пастыр заадно.
Русалкі талакою,
Што ў возеры жылі,
Зірнуць (што ж там такое?)
Да кляштара плылі.

Каго ў мурах гукалі,
Забыўшыся на страх?
У хованкі гулялі
У кляштарных кутках.
І пад арган актавы
Выспеўвалі яны,
І для сваёй забавы
Пазвоньвалі ў званы.

На бераг выплывалі,
І бачыла зара,
Як смешна танцавалі
У строях з кляштара.
У палярынах белых,
У чорных армяках
Скакалі ашалела
Са свечкамі ў руках.

А вадзянік-бамбіза,
Нячысцік малады,
Надзеў папову рызу,
Што выцягнуў з вады.
Хацеў распудзіць гулі,
Ашчэрыўся знарок.
Русалкі ж пацягнулі
Яго ў падводны змрок.

## ЗІМОВАЯ ВАНДРОЎКА

Гуляе колкі вецер,
Мароз скаваў ваду.
У апусцелым свеце
Адзін іду-брыду.

Згушчаецца змярканне,
Хоць сонца не зайшло.
Дзе ты, маё каханне?
Нібы і не было...

Па лесе парадзелым
Да вёсачкі спяшу.
Там акрыяю целам.
Як адагрэць душу?

## ЛЕТНІЯ ЗАВЕІ

Празрыста-лёгкія завеі
Ляцяць над нашай стараной.
І павуцінкай — пражай феі —
Ты ўжо павязана са мной.

Каханне добрая прыкмета!
Надзея ў марыве плыве.
Яе тчэ сонечнае лета,
Яе няўлоўны подых рве.

*ЁЗАФ ФОН АЙХЕНДОРФ*
*(1788—1857)*

**ІНТЭРМЕЦЦА**

Твой вобраз незабыўны
У сэрцы я нашу.
Штодня — чароўны, дзіўны —
Ён цешыць мне душу.

Душа мая спявае,
І тая песня ўміг,
Як нітачка жывая,
Злучае нас дваіх.

*ТЭАДОР ШТОРМ*
*(1817—1888)*

**ВЯНОК**

Вянок хлапец з дзяўчынай
Каля мяжы вілі
І незаўважна сэрцы
Свае ў яго ўплялі.

Вянок распаўся з часам,
Але — такой бяды.
Зрасліся непарыўна
Іх сэрцы назаўжды.

*ТЭАДОР ФАНТАНЭ*
*(1819—1898)*

**БЕЗ КРОПЕЛЬКІ КАХАННЯ**

«Ах, Эльза мілая мая, —
Дачцэ гаворыць маці. —
З нялюбым звыкнешся... сям'я
Затое будзе ў хаце.
Здаўна дзяўчаты так ішлі —
Краса з гадамі вяне —
І ў шчасці замужам жылі
Без кропелькі кахання».

Дзяўчына вывучыла ўрок.
Пайшла пад шлюб з нялюбым.
Ёй на чало надзеў вянок
Жаніх з паглядам грубым.
Яго рука яе пякла.
Стаяла без дыхання.
Яму сябе ўсю аддала
Без кропелькі кахання.

Законны муж гуляе, п'е,
Ён чалавек нягодны.
Шалее, лаецца і б'е,
Ды й ноччу не лагодны.
Дзяцей ад страху аж трасе,
Яны не спяць да рання.
Пакуты ўсе яна нясе
Без кропелькі кахання.

Каб смерць... Канец бы усяму...
А дзеці? Вось прычына,
Чаму зноў дагадзіць яму
Стараецца жанчына.
Прытуліцца, а ён — маўчок.
Халодна, злосна гляне.
Яна ж: «Мой любы мужычок...» —
Без кропелькі кахання.

## ЖЫЦЦЁ

Жыццё прайшло, а як я жыў?
Ці часта я шчаслівы быў?

Глядзелі людзі, што раблю.
Адзін: «Нішто!» Другі: «Хвалю!»

«Ты пішаш гожа — любата...»
«Твая паэзія — лухта».

«Твой верш — чароўны, як вясна...»
«Нікчэмнасць, выдумка, мана».

«Ты — Праметэй, што ўкраў агонь».
«Іржэш, нібы стаенны конь!»

Аднымі — любімы.
Другімі — прокляты,
Я жыў, як той Бог,
Быў усім вінаваты.

*ГЕОРГ ВЕЕРТ*
*(1822—1856)*

### РЭЙНСКІЯ ВІНАГРАДАРЫ

На Ары і Мозэлі — гляньце —
Які вінаград гэты год!
Узрадаваліся сяляне:
І мы зажывём без турбот.

Ды тут гандляры — у дзверы.
Адзін, а за ім другі.
«Траціну ўсяго ўраджаю
Мы возьмем за вашы даўгі».

За ім чыноўнікі следам,
Таксама па вінаград.
«Другая траціна — падаткі,
Такі ад улады загад!»

Калі ж упрошвалі Бога
Сяляне ў пакоры з мальбой,
Дык ён градабой наслаў ім
І буркнуў: «Астатак — мой!»

Такога гора і здзекаў
Ніхто і прадбачыць не мог.
Каго не адолее д'ябал,
Таго даканае Бог.

*ГЕРМАН ГЕСЭ*
*(1877—1962)*

### ТАМУ ШТО КАХАЮ...

Кахаю моцна, мусім разам быць,
Ад нецярпення палкага згараю.
А каб мяне ты не магла забыць,
Тваю душу ў палон я забіраю.
Яна са мною — і ўначы, і днём,
Уся, уся — са шчасцем і бядою.
Маё каханне, што пячэ агнём,
Анёлы нават не зальюць вадою.

*ЁГАНЭС РОБЕРТ БЭХЕР*
*(1891—1958)*

### РАЗВІТАННЕ, АЛЬБО СВЕТЛЫ СПЕЎ

Пералічу ўсе страты паслядоўна,
Палову дзён адмінусуйце мне.

О, колькі не знайшоў я слоў цудоўных!
О, колькі здзейсніў подзвігаў — у сне!

О, колькі кніжак добрых нечытана!
О, колькі ненапісана свайго!
Усё, што я прыдбаў і маю, — танна,
Апроч жадання толькі аднаго:

Апошні раз устаць яшчэ да сонца,
Апошні раз руку табе падаць,
Каб развітацца і пайсці ў бясконцасць...

Так я любіў краіны пакідаць —
Паўсюдна там, дзе я пабыць паспеў,
На адыход гучаў мой светлы спеў.

## АСЕННІ МАТЫЎ

Плыве, як дым з кастра,
Туман у лістападзе.
Асенняя пара
З журбою у паглядзе.

Апалі з дрэў трухой
Уборы нежывыя.
Апоўначы глухой
Жалобны вецер вые.

О лета! Ты прайшло,
Нібыта міг адзіны.
У груд адзін змяло
Лістоту і ўспаміны.

Вятры бяруць разбег.
Бялее камень стылы.
І ружай белай снег
Цвіце каля магілы.

# УЛАДЗІМІР ПАЎЛАЎ

**(1935, в. Замошша Любанскага р-на)**

«Чарніла, зробленае з сажы, сшыткі з газет», — прыгадваў У. Паўлаў сваё школьнае маленства. Ён, як і тысячы ягоных раўналеткаў, дзяцей вайны, таксама «вырас пад гарматнымі ствамі» (С. Гаўрусёў). Потым — журфак БДУ, праца ў «Чырвонай змене», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Першая кніжка «Узлётная паласа» (у войску паэт служыў пры самалётах) выйшла ў 1960-м, тады ж пачаў займацца перакладамі. Удзельнічаў у выданні латышскай, літоўскай і малдаўскай анталогій. Найлепшае са зробленага ў гэтым жанры склала зборнік «Пошук рукі» (1991, серыя «Кніга перакладчыка»).

*БАГДАН ІСТРУ*
*(1914)*

**ПРОДКІ ПРАБУДЗІЛІСЯ**

Прыхінуся к зямлі і праз момант кароткі
Чую стук капытоў. Праз туман з усіх ног
Дзесяць коней віхурань і столькі ж эпох —
Са сцягамі ў руках і з паходнямі продкі.

Барадатыя продкі — асілкі з быліны —
Помсту ў зрэнках, магілы нясуць на плячах.
Паквітацца прыйшлі, сябе выдралі з гліны —
Прыгадай, колькі войнаў прыносілі жах!

Уздымайся, наступнік, бо ноч не здалася,
Пераліўшыся ў дзень, а жаданы анёл
І дагэтуль не змог свае скарбы пакласці
У маўклівыя горы твае, у твой дол.

Прабудзіліся продкі, на макаўках — з бурай.
Дамавіна — іх шчыт, а кальчуга — убор...
На табе пазалота павісла панура,
Ты знімі яе, сын мой, як чорны дакор.

*АРВІ СІЙГ*
*(1938)*

* * *

«Нашто пісаць трысцінкай на вадзе...»
А я пішу ў спякотны душны поўдзень:
хай пойдзе дождж.

І сонцу хай вады аддасць рака.
І воблака ўспаруе над ракою.

Пасля — яшчэ. Іх вецер адштурхне,
як светлыя ладдзі ад небакраю.

Надзеі повен, я на іх гляджу,
рукой махаю і крычу: «Плывіце!..»

На нейчыю зямлю яны ўпадуць,
на лоб і на даверлівыя губы

таго, хто, можа быць, не разумее,
нашто пісаць трысцінкай на вадзе...

*ІЛЗЭ БІНДЭ*
*(1941)*

### КАЛЫХАНКА ЗМЯІ

Змяіная мама змеянятка лашчыла, калыхала,
Пра змяіных дзядоў быліны яму адкрывала
І доўгія песні-вілюгі малому спявала:
Спі, змеянятка,
Спі, дзіцятка.
Змяіная мама змеянятка цярпліва вучыла:
Сцеражыся чырвонай буслінай нагі,
Не пакідай родны лес баравы,
Перад дрыгвой не занось галавы.
Спі, змеянятка,
Спі, дзіцятка.
Змяіная мама бласлаўляла яд.
Яд для змяі — гэта бог, не крућень,
Які са змяёю паўсюль, што цень,
Які ашчаджаюць на чорны дзень.
Спі, змеянятка,
Спі, дзіцятка,
Спакойна спі.

## САКРАТ ЯНОВІЧ

**(1936, м-ка Крынкі Беластоцкага в-ва, Польшча)**

Закончыў настаўніцкія курсы ў Беластоку, факультэт польскай і славянскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Каля дваццаці гадоў адпрацаваў у рэдакцыі тыднёвіка «Ніва», дзе дэбютаваў як празаік у 1956 г. Найбольш вядомы беларускі пісьменнік у Польшчы — у перакладзе на польскую выдаў сем кніг; выдаваўся таксама па-італьянску і па-ангельску. Піша і на польскай мове — «Terra incognita: Białoruś» (1993) і др. Памятаю, у кнізе «Доўгая смерць Крынак» Яновіч намаляваў *такую* занядбаную вёску, што захацелася кінуць усё і неадкладна ехаць ратаваць родных беларусаў. Надарыўся выпадак — прыязджаю. Крынкі — чыстае, акуратнае мястэчка, дахі з чырвонай дахоўкі, самаходы бліскучыя на вуліцах. Адшукаў я «Вілу Сакрата» ды й кажу гаспадару: «Дай Бог нам так жыць, як вы паміраеце». У Крынках Яновіч збірае традыцыйныя семінары-трыялогі інтэлектуалаў-беларусістаў, з якімі выдае шматмоўны «Annus Albaruthenicus» — беларускі літаратурны гадавік для Еўропы. Свае пераклады з польскай паэзіі публікаваў пераважна ў беластоцкім тыднёвіку «Ніва», для якога некалькі гадоў рыхтаваў літстаронку «Белавежа».

*ВІКТАР ВАРАШЫЛЬСКІ*
*(1927—1996)*

### ФАШЫСТОЎСКІЯ ДЗЯРЖАВЫ

Неўзабаве пасля вайны 1914—1918 у Еўропе ўзніклі першыя
фашыстоўскія дзяржавы У гэтых дзяржавах
сонца ўзыходзіла і заходзіла ў звычайную пару апраменьваючы
дахі сяліб і ўзгоркаў зялёны схіл У аборах

лагодна рыкала быдла Мацяркі на досвітку
будзілі дзяцей цалуючы іх у лоб Бацькі вярталіся з работы
з радаснай стомай у касцях удыхвалі
дым хатняга агменю а пасля абеду
засыналі ў фатэлі альбо майстравалі ўпарта альбо таксама
з запалам ігралі Дзеці
гулялі ў схованкі ў лапту і ў конікі Малым
дзяўчынкам выраслалі грудзі і дзяўчынкі з дня ў дзень
змяняліся ў вялікіх дзевак поўных шэптаў
шолахаў бы дрэвы ў лесе хіхікання раптоўнага ад якога
хлопцам рабілася суха ў горле Летнімі вечарамі
на заслонках падсветленых знутры зыходзіліся цені
разыходзіліся і зноў зыходзіліся закахана А ўзіму
закаханыя ўдыхвалі вуснамі пару з вуснаў ва ўснежаных гародах
і яшчэ можна ўпамянуць пра катоў што выгібвалі спіну пра вераб'ёў
што ўзляталі над вуліцаю пра старых на захаце пра кветкі
зрэзаныя і ў вазоніках пра медсясцёр
што падавалі хворым градуснік пра людзей з мятлою
што замяталі вуліцы Пра драўніну
што рассыхалася ў баразне набрынялай у полі вецер
у зарасніках І яшчэ можна шмат пералічыць з'яў
якія сведчаць што

Бо ж не было знакаў на небе жалобных камет
вады ў кроў зменёнай палыхаючых кустоў бо ж
жыццё праходзіла звычайна таму сапраўды ў дзяржавах гэтых
шмат было людзей звычайных і людзей добрых і такіх якія
не ведалі ні аб чым і якім
не прыходзіла ў галаву і якія
не адчувалі сябе супольна вінаватымі і якія
не мелі з гэтым нічога і якія нават
не чыталі газет або таксама чыталі нядбайна занятыя
думкамі аб тым што трэба паладзіць
працякаючы дах даць
чаравікі шаўцу пасватацца выпіць
куфаль піва вымяшаць фарбы запаліць свечку і якія
сапраўды не спасцерагалі страху ў вачах суседа не
чулі як дрыжыць голас у пытаючага пра дарогу не
спасцерагалі розніцы не чулі
голасу ў сабе альбо калі
здагадваліся чагосьці не маглі нічога зрабіць і пацяшаліся
кажучы Мы дык хаця
не робім нічога дрэннага жывем як жылі заўжды
Што было праўдаю

А ўсё-такі былі гэта
фашыстоўскія дзяржавы.

*БАГУСЛАЎ ПЭЗОВІЧ*
*(1949)*

**ЧАТЫРЫ ЎВАСАБЛЕННІ КАБ ПАСПРАБАВАЦЬ**

калі ж ветрам быць дык ураганам
і дрэў вываліць больш чым надзеяў
хаця травінкі паслухмяныя захаваюцца бо малыя
ды камень абыякавы заляжа абы як

калі ж вадою быць дык рыбаю нямою
за рухавасць беспатрэбную заплаціць маўчаннем
або цішыню захаборыць рухам
ды загольваць хвалі буйнапеністыя

калі ж канём быць дык толькі галападаю
прастору паламаць вудзіла парваць
ды ў грыву растрывожаную быццам у вока
        імгненне
слязу ўшпіліць расістаранную

ну а птушкаю быць — не іначай як прастораю
сашпільваннем аздобным неба з зямлёю
крыламі засланяць словы заменныя
або шукаць новай зоркі сэнсу

## ЯНКА СІПАКОЎ

**(1936, в. Зубрэвічы Аршанскага р-на)**

У прадмове да кнігі сваіх перакладаў «На волю птушку выпускаю» (1989) Я. Сіпакоў выступіў ледзь не з праграмнай заявай. Грэх было б не працытаваць: «Якая б ні была моцная і развітая літаратура, яна ўсё роўна па часе пачне марнець без перакладаў. Каб быць жывой, перспектыўнай і годнай, любая літаратура павінна мець прыток свежай крыві... Тое, што ўжо створана ў свеце прыгожым пісьменствам, — і яе набытак, як і набытак кожнай краіны і кожнага народа, што паважаюць сябе. Хоць нейкая літаратура, да прыкладу, яшчэ не мае на сваёй мове ўсіх сусветных шэдэўраў, але яна помніць пра іх і чакае іх — у ёй, як у перыядычнай сістэме элементаў Мендзялеева, для гэтых твораў нават пакінуты незапоўненыя ячэйкі». І Сіпакоў старанна запаўняў пустыя ячэйкі — у названай кнізе сабраныя вершы 42 паэтаў, прычым гэта плён толькі аднаго дзесяцігоддзя, а сіпакоўскі перакладчыцкі стаж — гадоў сорак. За гэты час перакладзена шмат, колькі ячэек запоўнена — дакладна падлічыць не бяруся. Але дзве найвядомейшыя ў свеце кнігі — «Лісце травы» (1978) У. Уітмана і «Санеты смутку» (1987) Ф. Прэшарна — у сіпакоўскіх перакладах ёсць у кожным сур'ёзным айчынным кнігазборы. А яшчэ Сіпакоў пазнаёміў беларускага чытача з «Турэмным дзённікам» в'етнамскага лідэра Хо Шы Міна — у запаслівага кнігалюба таксама знойдзецца, як і лірыка К. Маркса, перакладзеная В. Сёмухам. Дарэчы, у творчасці абодвух пракідаюцца паэтычныя залацінкі — аўтарам ці іх таленавітым перакладчыкам дзякаваць, дакладна не ведаю. Сіпакова найперш вабяць паэты-філосафы — згаданы У. Уітман, Р. Тагор, М. Рэрых, В. Хлебнікаў, І. Сарайліч. Сярод іх «бажавольны п'янтос» Ду Фу выглядае выпадковым мінаком, але паглядзіце — якім знаёмым нам клопатам жылі кітайскія паэты больш за тысячу гадоў таму!

*ДУ ФУ*
*(712–770)*

## ПІШУ ПРА ТОЕ, ШТО БАЧЫЎ СА СВАЙГО БУДАНА, НАКРЫТАГА ТРАВОЮ

У закінутай вёсцы
Стаіць мой будан. Зелянее

Ля згароды сасна,
Цішыня і бязлюднасць вакол.

Па рацэ плыве лодка
Пад бясшумным крылом снегавея,

І ад ветру бамбук
Аж кладзецца на ўснежаны дол.

Мерзнуць рыбы ў вадзе.
Да трысця прыціскаюцца ціха,

І ўжо гусі адлётныя
Распачалі выборы свае.

Сычуаньскім віном
Я б развеяў усё сваё ліха —

Ды няма ні капейкі,
А ў доўг мне ніхто не дае.

## ШКАДА

Чаму пялёсткі
Звялі гэтак хутка?

Хачу вярнуць
Вясну, што без імжы.

Шкада мне радасцяў вясенніх.
Нават смутку —

Але ж я маладосць сваю
Пражыў.

Мне выпіць трэба,
Каб прайшла маркота,

Пачуцці выказаць
Мне б вершы памаглі.

Мяне б Цянь Тао[*]
Зразумеў ахвотна,

Ды ў розныя вякі
Мы з ім жылі.

*ФРАНЦЭ ПРЭШАРН*
*(1800—1849)*

### MEMENTO MORI

Жыццё наша кароткае такое!
Колькі знаёмых — у зямельных спратах,
і нам пара збірацца ўжо дахаты,
але калі — не ведаем пра тое.

Ад смерці плачам, крушняй залатою
не адкупіцца бедным і багатым,
яна гвалтоўна прыйдзе і на свята
і забярэ абранага з сабою.

Хай помніць той, хто радасны, шчаслівы
ляціць праз гора і не бачыць гора, —
яго таксама даспявае жніва.

І ён, што весяліцца ў непакоры,
на страшным ложы сціхне палахліва
і ў жаху закрычыць: «Memento mori!»

*УОЛТ УІТМАН*
*(1819—1892)*

### ПЕСНЯ ПРА СЯБЕ
*Фрагменты*

Дзіця спыталася: *«Што такое трава!»* — і прынесла мне поўныя
жмені травінак;
Што я мог адказаць дзіцяці? Я ж ведаю не болей за яго,
што такое трава.

Можа, гэта зялёны сцяг маіх жаданняў, сатканы з разнатраўя надзей?

Ці, можа, гэта хусцінка Бога —
Пахкі падарунак, сумысле кінуты нам на памяць,
На ёй, відаць, ёсць на ражку дзе і ўладальніка імя,
каб мы ўсе ўбачыць маглі
і зразумець: чыя *яна.*
Ці, можа, травінка і сама ёсць дзіця, узгадаванае немаўля вегетацыі,
Ці, можа, гэта іерогліф, які сустракаецца ўсюды — адзін і той жа
для ўсіх,

[*] Цянь Тао (365—427 гг.) — кітайскі паэт.

І, можа, ён нам гаворыць: «Зелянеючы скрозь, дзе давядзецца,
Сярод чарнаскурых і сярод белых народаў,
Канука, такаха, кангрэсмена і негра аднолькава я прымаю і адно
ім і тое ж дарую».

А зараз трава мне здаецца прыгожымі, нястрыжанымі валасамі магіл.

Густая травіца зялёная, цябе буду гладзіць я ласкава.
Можа, расцеш ты з грудзей юнакоў якіх-небудзь,
Можа, я іх, каб ведаў, мог бы нават шчыра любіць,
Можа, ты прабіваешся са старых мужчын і жанчын ці з немаўлят,
што не ў час адарваны ад матчыных лонаў,
А можа, ты, трава, — сама для іх матчына ўлонне.

Гэтая трава такая цёмная, яна не магла вырасці з сівых галоў
старых матак,
Яна цямнейшая ад бясколерных барод дзядоў,
Занадта цёмная, каб расці з бледна-ружовых дзіцячых паднябенняў.

О, [redacted] разумею, нарэшце, — гэта ж языкі, гэта ж так трава размаўляе з намі,
І [redacted] разумею, што недарэмна расце яна з чалавечых вуснаў.

Я адчуваю, што магу перадаць вам яе маўклівыя намёкі
пра юнакоў і дзяўчат, што памерлі.
А таксама пра дзядоў і бабуль, пра немаўлят, адарваных ад матчыных
улонняў.

А дзе, як вы думаеце, падзяваліся старыя і юнакі?
І чым сталі зараз жанчыны і дзеці?
Яны зноў жывуць, і ім хораша зноў,
Бо і самы маленькі парастак сцвярджае, што смерці наогул няма,
А калі яна і ёсць, то выводзіць уперад жыццё — яна не сочыць за ім,
каб яго супыніць назусім,
Яна гіне сама ў той момант, як жыццё нараджаецца новае.

Усё наперад ідзе, разрастаецца ўшыркі, і не гіне нішто,
І памерці — гэта зусім не тое, што мы ўяўляем, гэта намнога прыемней.

*

Я веру: лісцінка травы — такая ж важная, як і праца цяжкая зорак,
І мурашка не менш дасканалая, і пясчынка, і ячка крапіўніцы.
І што звычайная жаба — шэдэўр над усімі шэдэўрамі,
І што сакаўная ажына варта таго, каб упрыгожваць харамы раю,
І што самы маленькі сустаў маіх рук прысароміць можа любую машыну,
І што карова, якая, нагнуўшы галаў, панура хрумстае сенам,
вышэй за любую статую,
І што мышка — вялікі цуд, яна можа здзівіць секстыльёны тых,
хто не верыць.
Я ведаю: ува мне і гнейс, і вугаль, і доўгія пасмы імху, і плады, і карэнне,
прыгоднае ў ежу.
Жывёламі я ўвесь даверху напханы, птушкамі ўвесь я напоўнены,
І хоць я пакінуў іх далёка ззаду сябе,
Але варта мне захацець — я паклікаць магу з іх кожнага.

Дарэмна яны палахліва хаваюцца і ўцякаюць,
Дарэмна вулканы вывяргаюць на мяне свой старажытны попел,
Дарэмна мастадонты знікаюць пад сваімі ж сатлелымі касцямі,
Дарэмна рэчы, якія знаходзяцца за мілю ад мяне, прымаюць
разнастайныя формы.
Дарэмна акіяны знаходзяць сабе спакой ва ўпадзінах, а велізарныя
пачвары кладуцца на самае дно,
Дарэмна коршак жыве, нібы ў доме, высока ў небе,
Дарэмна змяя слізгае, выгінаецца паміж паўзучых раслін,
Дарэмна лось уцякае ў самую гушчэць лесу,
Дарэмна гагарка, у якой дзюба, як брытва, спяшае далёка на поўнач,
на Лабрадор, —
Я лячу за ёй хутка, я ўзнімаюся на вяршыню, і вось я ўжо там, у гняздзе,
што ў расколіне скалы.

## ПЕСНЯ ПРА ТАПОР

*Фрагменты*

I

Моцны, голы, шэра-бледны,
Галаву досталі з нетраў,
Косць — з металу, скура — з дубу, аднарукі, аднагубы,
Жар спяліў той ліст ці мала, ручку — зерне ўзгадавала,
Абапёрся на травіны,
Сам апорай стаць павінен.

Моцныя абрысы і ўласцівасці гэтых абрысаў — мужчынская праца,
якую можна пачуць і ўбачыць,
Сімвал, чарада розных рэчаў, якія складаюць адно цэлае,
наплывы музыкі,
Пальцы арганіста, якія нервова шукаюць мелодыю на клавішах
вялікага аргана.

II

Вітанне ўсім краінам зямлі, кожнай па-свойму,
Вітанне краінам сасны і дуба,
Вітанне краінам лімона і фігі,
Вітанне краінам золата,
Вітанне краінам пшаніцы і маісу, вітанне вінаградным краінам,
Вітанне краінам цукру і рысу,
Вітанне краінам бавоўны, вітанне краінам белай бульбы і салодкай
бульбы,
Вітанне гарам, раўнінам, пяскам, лясам, прэрыям,
Вітанне берагам урадлівых рэк, пласкагор'ям, цяснінам,
Вітанне бязмежным пашам, вітанне плодным землям,
багатым на сады, лён, каноплі, мёд,
Вітанне такое ж гарачае і суровым краінам,
Гэткім жа багатым, як і краіны золата, садавіны, пшаніцы,
Краінам капальняў і рудняў, краінам шурпатых, насычаных руд,
Краінам вугалю, медзі, волава, цынку, свінцу,
Краінам жалеза — краінам, дзе нараджаюцца тапары.

IV
Сіла і смеласць — назаўсёды!
Што ўзвышае жыццё, тое ўзвышае і смерць,
І мёртвыя ідуць наперад, як і жывыя,
І будучыня невядомая нам не болей, чым сучаснасць,
І грубасць зямлі і чалавека месціць у сабе не меней,
чым пяшчотнасць зямлі і чалавека,
І нішто не вечнае, акрамя чалавечай годнасці, што стварае асобу.

Што, вы лічыце, жыве вечна?
Можа, вы думаеце, што вялікі горад вечны?
Ці шматлюдная індустрыяльная дзяржава?
Ці падрыхтаваная канстытуцыя?
Ці як найлепей збудаваныя вялізныя караблі?
Ці атэлі з граніту і жалеза?
Ці якія-небудзь шэдэўры дойлідства,
альбо крэпасці і гарматы?

Кіньце вы — не! Самі па сабе ўсе гэтыя рэчы не маюць каштоўнасці,
Яны толькі запаўняюць свой час — як танцоры, што скачуць,
як музыкі, што граюць для іх,
Спектакль мінае, усё ідзе як мае быць,
Усё ідзе дужа добра, спакойна, пакуль не палыхне непакора.

Горад вялікі — калі ў ім жывуць самыя лепшыя мужчыны і жанчыны,
І хай сабе ў ім толькі некалькі вартых жалю хацін,
ён усё роўна
тады можа стаць найвялікшым горадам ва ўсім свеце.

VII
Бясплодны пейзаж хавае пад сабою руду — ён цудоўны,
нягледзячы
на такі свой несамавіты выгляд.
Вось тут рудня, тут рудакопы,
Тут плавільная печ, закончана плаўка, стаяць кавалі наўзгатове
з молатамі і кляшчамі,
Тое, што служыла заўсёды і служыць заўсёды, — вось яно, пад рукамі.

Нішто не служыла лепей, чым гэта, — тапор служыў хораша ўсім.
Служыў красамоўным, умелым грэкам і служыў задоўга да іх,
Служыў пры ўзвядзенні самых трывалых дыхтоўных будоў, якія
жылі
даўжэй, чымся іншыя,
Служыў іудзеям, персам, старажытным індусам,
Служыў тым, хто насыпаў курганы на Місісіпі, памагаў тым, чые
вялікія руіны, як помнікі, засталіся ў Цэнтральнай Амерыцы,
Служыў альбійскім храмам у лясах і на раўнінах з іх грубаю каланадаю,
служыў друідам.
Служыў для высякання пячораў — вялізных, высокіх і змрочных —
у снежных гарах Скандынавіі,
Служыў тым, хто ў далёкія часы рабіў на гранітных сценах
нязграбныя накіды сонца, месяца, зорак, суднаў, хваль
акіянскіх,

Служыў у дарозе пры нашэсці готаў, служыў плямёнам пастухоў
і намадам,
Служыў старадаўнім кельтам, служыў суровым піратам балтыйскім,
Служыў яшчэ раней, чым ім, старажытным, бяскрыўдным жыхарам
Эфіопіі,
Служыў для вырабу рулёў на вельботы прагулачныя і на тыя, што
для вайны аснашчаюцца,
Служыў пры ўсіх вялікіх работах па сушы і пры ўсіх вялікіх работах на
моры,
Сярэднім вякам і яшчэ больш даўнім, чым сярэднія вякі,
Служыў не толькі жывым, тады і цяпер, але і мёртвым служыў.

VIII
Бачу еўрапейскага ка́та:
Ён стаіць у масцы, апрануты ў чырвонае, на вялізных нагах,
мае дужыя голыя рукі,
І абапіраецца на вельмі цяжкі тапор.

(Хто была твая апошняя ахвяра, кат еўрапейскі?
І чыя гэта кроў на табе, такая ліпкая і яшчэ неабсохлая?)

Бачу, як для пакутнікаў заходзіць сонца,
Бачу прывідаў, якія сыходзяць з эшафота,
Прывідаў мёртвых лордаў, каралёў, з якіх знялі кароны,
абвінавачаных
у здрадзе міністраў, нізрынутых каралёў,
Супернікаў, здраднікаў, атручальнікаў, зняслаўленых правадыроў
і многіх іншых.

Бачу тых, хто ва ўсіх краінах паміраў за справядлівасць,
Засеў іх быў небагаты, але ўраджай будзе бясконцы і невычэрпны
(Запомніце, о чужаземныя каралі, о святары, — ураджай будзе
бясконцы і невычэрпны).

Бачу я, кроў з тапара змытая дачыста,
І лязо, і тапарышча — чыстыя,
З-пад іх не пырскае кроў еўрапейскіх арыстакратаў,
яны не шалеюць
ад радасці, дакранаючыся да шый каралеў.

Бачу, што кат адыходзіць, ён робіцца непатрэбным,
Бачу эшафот, на які ніхто не ўзыходзіць, які ўжо заплеснеў,
на якім не відно нават ніякага тапара,
Бачу магутны сімвал дружбы і сілы маёй уласнай пароды,
новай, вялікай пароды.

## ЛЮБОЎНАЯ ЛАСКА АРЛОЎ

Іду над ракою, узбоч дарогі (гэта мой ранішні шпацыр, мой адпачынак),
І раптам у небе да спазмаў расчулены клёкат і ласка арлоў,
Імклівая, любоўная спохватка ўверсе, на вольным прасторы,
Сашчэплены, сціснуты кіпці — раз'юшана круціцца кола жывое,

Б'юцца ласкава чатыры крылы і дзве дзюбы, вярчэнне ў радасці
злучанай масы,
Кулянне, кіданне, спрытныя выкруты, петлі, падзенне, як камень, уніз,
І вось над ракою павіслі, двое — адно, у млявым, дрымотным зняменні
кахання.
Імгненне нерухомай раўнавагі — і вось расстаюцца яны, і кіпці
слабець пачынаюць,
І ў неба паціху ўзнімаюцца вышэй на крылах вялікіх, таксама аслаблых,
Ляцяць — ён сабе, і яна таксама сабе.

*АКАКІ ЦЭРЭТЭЛІ*
*(1840–1915)*

**КІНЖАЛУ**

Харасанскі мой кінжал,
Дружа мой, люблю цябе я!
Збавіць ад варожых джал —
Ты адзіная надзея.

Я вастру цябе або
Чышчу, каб срабрыўся болей.
Стань жа братам і рабом
Тым, хто ўніжаны няволяй!

Востры, ты гатовы ў бой,
І няма табе заганы.
Ты стальному сэрцу свой
І руцэ стальной адданы.

Слава кавалю таму,
Што цябе скаваў так чынна!
Дружа мой, рыдаць прымусь
Маці ворага па сыне!

Колькі ворагі раней
Выпіць змусілі заразы.
Палячы, кінжал, мяне
Ад прыгнёту і абразы!

Паміж ім і мной жыві,
Выклік кінь ягонай сіле.
Памакну цябе ў крыві,
Быццам бы пяро ў чарніле.

Кроў чырвоная маю
Сівізну няхай акропіць.
Стогн варожы у баю,
Нібы музыка, захопіць.

Я вастру цябе, кінжал,
І вучу блішчаць трывожна.

Хопіць, дружа мой, ляжаць —
Час настаў, выходзь жа з ножнаў!

*РАБІНДРАНАТ ТАГОР*
*(1861—1941)*

* * *

Днём народзін маіх быў заўжды гэты дзень.
Устаў я з першым вітаннем світання
І на ўсход позірк свой скіраваў,
І убачыў я: золак, амавенне зрабіўшы,
Там пунсовым сандалам малюе узор
На крутым, снежна-белым чале Гімалаяў.
Усю бязмежнасць прастораў,
Распасцёртых у сэрцы Сусвету,
Адчуў я, зірнуўшы на трон Валадарніка гор.
Як раўніва хавае са стагоддзя ў стагоддзе
Глыбіня неспазнаная таямніцу нястомна сваю
У паўзмроку вялікага, несхадзімага лесу
І якой недаступнасцю ахалоджвае зрок
Далячынь гэта сіняя, што ў вышыні імкнецца,
Дзе свяціла здзяйсняе свой круг ад усходу да заходу!
У гэты дзень — дзень маіх імянін —
Адчуванне далёкай дарогі ў душы ўсё гусцела маёй.
І як бачыцца лёт даль-далёкае зоркі,
Што ў смузе зіхатлівай ляціць
Па таемнай і вечнай арбіце,
Я самога убачыў сябе ў недаступнай ужо далячыні.
Што ж, вандроўнік я вечны на вечным бясконцым шляху,
І ўжо сёння, у дзень гадавіны маёй,
Усё выразней я чую вандроўніка гэтага крокі
З узбярэжжа пустыннага мора.

*ЯН РАЙНІС*
*(1865—1929)*

## ВОСК У РУЦЭ

Кахай мяне болей, бліжэй прыгарні!
Палае душа мая, сэрца — ў агні.
Мне страшна. Нам разам не быць абаім:
Я ў попел згару у каханні тваім!

«Каханне нас спаліць і зноў узвіне».
Што ты, каханы, зробіш з мяне?

Я воск, што да пальцаў тваіх прыліп,
Я мёд у тваім ласкавым вуллі.
І гасне, як свечка, маё жыццё —
Уся я твая і ўся — небыццё!

Што твае рукі зробяць з мяне?

*АВАНЕС ТУМАНЯН*
*(1869—1923)*

## НАШЫМ ПРОДКАМ

Ах, песняры былыя! Промні міражу
Злавіўшы, вы ўжо гімны ім складалі,
Пакут армянскіх бачылі мяжу,
Армян жывою марай суцяшалі.

Вы пра радзіму вольную тады
Спявалі, хоць яна ў крыві стагнала.
Вы радасцю прыспешвалі гады,
І гэта сэрцы нашы саграваала.

А сёння зноў распятая яна,
І з ёю — сэрца нашага святыні.
А мара — то міраж. Яна — мана.
Не ашукае больш нас у пустыні.

Ледзь мы ўзмужнеем — галава сама
Схіляецца, і ў сэрцы моўкнуць гукі,
Ні песень і ні Бога ў нас няма,
І ліру выпусцілі рукі.

*МІКАЛАЙ РЭРЫХ*
*(1874—1947)*

## У ТАНЦЫ

Бойцеся, калі спакойнае набудзе
рух. Калі пасеяныя вятры
стануць бураю. Калі мова людзей
напоўніцца бессэнсоўнымі словамі.
Непакойцеся, калі ў зямлю, як у могільнікі,
пахаваюць людзі свае багацці.
Бойцеся, калі людзі палічаць,
што скарбы можна зберагчы
толькі на целе сваім. Трывожцеся,
калі побач збяруцца натоўпы.
Калі забудуцца на веды. І з радасцю
разбураць спазнанае раней. І лёгка
спраўдзяць пагрозы. Калі не будзе на чым
запісаць веды вашы. Калі лісты
з напісаным зробяцца нетрывалымі,
а словы злымі. Ах, суседзі мае!
Вы дрэнна ўладкаваліся. Вы ўсё
адмянілі. Ніякой таямніцы
далей цяперашняга! І з торбаю нядолі
вы пайшлі вандраваць і заваёўваць свет.
Ваша вар'яцтва пазвала самую

брыдкую жанчыну: жаданая!
Маленькія хітруны! Вы танцуеце
і гатовы ўтапіць сябе
ў танцы.

*ВЕЛІМІР ХЛЕБНІКАЎ*
*(1885—1922)*

## ЗАКЛЯЦЦЕ СМЕХАМ

О, засмейцеся, смяюны!
О, засмейцеся, смяшліўцы!
Што смяюцца смехунамі, што смяяняцца смяшліва,
О, засмейцеся усмейна!
О, рассмешышч смехатлівых — смех засмейных смеюноў!
О, прысмейся адсмяяльна, смех насмейных смеячоў!
Смехаццё, смеява,
Абсмей, насмей, смеханіна, смешыкі,
Смеяны, смяюнчыкі.
О, рассмейцеся смяюнна!
О, засмейцеся смяхотна!

* * *

Калі паміраюць коні — дыхаюць,
Калі паміраюць травы — сохнуць,
Калі паміраюць сонцы — яны тухнуць,
Калі паміраюць людзі — спяваюць песні.

## ПА-ЛЮДЗІ

Птушка, што імкнецца ўвышыню,
Ляціць да неба,
Паненка, што імкнецца ўвышыню,
Носіць высокія абцасы.
Калі ў мяне няма абутку,
Я іду на кірмаш і купляю яго.
Калі ў каго-кольвек няма носа,
Ён купляе крыху воску.
Калі ў народа няма душы,
Ён ідзе да суседняга
І за плату набывае яе —
Ён, пазбаўлены душы!..

*САЛЬВАТОРЭ КВАЗІМОДА*
*(1901—1968)*

## САЛДАТЫ ПЛАЧУЦЬ УНАЧЫ

І крыжа, і малатка з Галгофы,
і святых дзіцячых успамінаў
мала, каб хрыбет вайне зламаць.

Ноччу, перад самай смерцю
нават моцныя салдаты плачуць
ля падножжа слоў, даўно вядомых,
што павывучылі ў мірныя гады.
Вас, салдаты, многія любілі...
Слёзы — быццам плыні безназоўныя.

## МІЛАН, ЖНІВЕНЬ 1943

Дарэмна, бледная рука, у пыле
шукаеш нешта. Горад твой памёр. Памёр.
Апошні гром прагрукатаў пад сэрцам
Навільё, і забіты салавей
упаў з антэны над манастыром,
дзе пеў яшчэ перад заходам сонца.
Не трэба ў глыбіні двароў капаць калодзежы —
тым, хто жывы застаўся, не да смагі.
Не датыкайцеся да трупаў, хай яны
ляжаць на той зямлі, дзе ў іх былі сялібы.
А горад? Ён памёр. Памёр.

*МІЛАН ДЭДЗІНАЦ*
*(1902—1966)*

## УВОДЗІНЫ

Паўсядзённасць!

Ґвалтоўнік у шоламе са скамянелых смаўжоў.
Злосны на ўсіх. Чубок-пер'яніца гайдаецца
        над пустотай яго галавы.
Ён увесь з паўдзённае пары, чорны ад дыму ўжо,
са срэбра і пены, і яшчэ з марское травы.

Мае паднятае забрала,
але не мае твару.
Не, гэта не здань, што цёмная ноч сабрала.
Гэта страшны і ў сне не снёны
вырадак дзённага кашмару!

Вынырнуў з явы абрыс ягоны —
і на ўсё ўжо гатовы
людажэрца паганы!

Панцыр у яго з рагавіц рака, з чарапашыных
        шкарлупін абнова,
аздоба з каралаў, жамчужын, ён золатам нашпігаваны.
Замест скуры пакрыты ўвесь грубай лускою.

Расставіў ногі, не хаваючыся стаіць ля маіх дзвярэй
        пачварай такою.

І ззянне — пустая забаўка — над плачам Сонцавых труб.
Чакае
...узброены да зубоў, душагуб.

*ГЕВОРК ЭМІН*
*(1919)*

* * *

Па злой Ларыйскай стромай вышыні,
Красою непрыступнаю здзіўлёны,
Я еду ўверх на змучаным кані —
Марудна, цяжка ён ідзе, стамлёны.
І тая прыгажосць, што цепліць сэрца мне,
Не мае радасці для скакуна — о не! —
Баляць бакі,
З-пад ног ляціць каменне:
Ні сілы,
Ні вачэй
Для захаплення.

* * *

Вясенні дождж схваліўшы одай,
Сябры, адкуль я ведаць мог,
Што павядзе сябе прырода,
Як і паэты, далібог.
Ліе, ліе... Няма спачынку!
Ён, дождж, усцешаны хвалой,
Страфу маю, як ручаінку,
Разбавіў плыткаю вадой.

*АРЧЫЛ СУЛАКАУРЫ*
*(1927)*

* * *

Я шукаў цябе дотыкам вуснаў —
Так сляпы ўсё на дотык шукае...
Ты ж мяне абцякала спакусна,
Бы ласкавая хваля якая.

Сонца гасла.
А ў радасным сэрцы
Разрасталася светла трывога.
Я сказаў табе ўсё ўжо, здаецца,
Хоць яшчэ не сказаў анічога.

Што павінен сказаць быў — не помню.
Можа, тое:
Ты — быццам бы мора.
Можа, тое:
Зайздросціў я промням,
Што з табою, як з морам, гавораць.

Рады вуліцы,
Дрэвы
І плошчы —
Я знайшоў тваё ўрэшце дыханне!
Сонца гасне...
Ды промні і ўночы
Астаюцца з табою, каханне.

*ІЗЕТ САРАЙЛІЧ*
*(1930)*

## ПАТРЫЯТЫЗМ ЮГАСЛАЎСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Югаслаўскі неўрапатолаг
паспяхова лечыць псіхічна хворых у Дэтройце.

Югаслаўскі скрыпач
вядзе клас скрыпкі ў кансерваторыі ў Бруселі.

Югаслаўскі дойлід
будуе дамы ў Стакгольме.

Югаслаўскі мастак
з'яўляецца выдатным прадстаўніком французскага жывапісу.

Югаслаўскі футбаліст —
самы моцны правы крайні ў Бундэслізе.

З нашых заўсёдных і часовых чужаземцаў
магло б атрымацца цэлае замежжа.

Усе б прафесіі былі прадстаўлены ў ім,
усе, акрамя нашай, пісьменніцкай.

Югаслаўскі пісьменнік
радуецца югаслаўскімі радасцямі,

смуткуе югаслаўскім смуткам,
святкуе югаслаўскія святы.

Не ведаю, ці адчуваеце вы,
які гэта горды верш!

*АРВІ СІЙГ*
*(1938)*

## СПРОБА РАЗАБРАЦЦА

Што такое сонца?
Дзьмухавец,
які працягвае кожнаму з нас
дзіцячая ручка.

Што такое дождж?
Суцяшэнне.

Што такое вясёлка?
Усмешка
праз слёзы.

*ЁЗАС МАРЦІНКЯВІЧУС*
*(1946)*

## КАЛЁСЫ

Нібы маманты — калёсы,
Дзёгаць з-пад барод цячэ,
Пахнуць грывы лугам росным
І дзяцінствам пахнуць босым,
Летам, пчоламі яшчэ.

У дарозе ўмыты ліўнем,
Як легенду, рып вядуць.
Звечарэе — ўгору біўні,
П'юць суцемкі, як ваду.

Жаль і боль — ну тыя ж восы,
Шкадаванне — як гара:
Нібы маманты, калёсы
Будуць ціха выміраць.

І валяцца па сусвеце
Будуць восі — гэткі лёс.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Мне тады ў цішы дасвецця
Здасца даўні рып калёс.

*АРМАНДА ГВІДУЧЫ*
*(1923)*

## МУЖЧЫНА

Ва ўсім да мяне не падобны... Чужы, грубаваты, нязнаны —
цела не гэткае, сэрца не гэткае, розум таксама інакшы,
голас не мой — ён дваіцца і з раўнавагі,
ён адначасна і вабіць, і неяк трывожна бянтэжыць,
быццам размова нялёгкая, якой да канца ты не ведаеш.
Калі ж крыху збоку зірнуць — мы абое, як блізкія промні,
што сыходзяцца недзе ў вяршыні — адной на дваіх,
і што, як усе процілегласці, сутыкнуўшыся, свецяцца выбухам —
нашым каханнем. А гэта ж вялікае дзіва —
гэтак кахаць мне цябе, жыць за дваіх непадзельна,
і памерці таксама — адзіную маючы смерць на дваіх.

## ЯЎГЕН МІКЛАШЭЎСКІ

**(1936, в. Лыскі Беластоцкага в-ва, Польшча)**

Пасля заканчэння Пінскай педвучэльні настаўнічаў на Палессі. Потым вучыўся ў Менскім педінстытуце замежных моваў, працаваў у рэдакцыях часопісаў «Родная прырода», «Маладосць», «Тэатральная Беларусь». Аўтар рамана пра М. Багдановіча, адзначанага ў 1996 г. Мележаўскай прэміяй. Перакладае разнамоўных аўтараў (як перакладчык пачынаў з прозы Э. Хэмінгуэя і Р. Кіплінга), адзін час вёў у «Настаўніцкай газеце» перакладную рубрыку.

*ФЁДАР ЦЮТЧАЎ*
*(1803–1873)*

* * *

Ёсць хвілі першапачатковай
Бясконца дзіўнай восеньскай пары —
І дзень нібыта крышталёвы,
І залатыя вечары.

Дзе рупны серп гуляў і падаў колас —
Там пуста ўсё, прастора ў тумане.
І павуціны тонкі волас
Здалёк блішчыць на баразне.

Пусцее лес, не бачна птушак болей,
Яшчэ далёка сіверныя дні,
І льецца сінь, як водбліск цеплыні
На затуманенае поле.

*МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ*
*(1814–1841)*

### АНЁЛ

Па небе анёл апаўночы ляцеў,
І ціха гучаў яго спеў.
І месяц, і хмаркі, што ў небе плылі,
Пачуць гэту песню маглі.

Спяваў ён пра ўцеху, святую любоў
Пад шатамі райскіх садоў.
Спяваў ён пра Бога, спяваў — і хвала
Яго непрытворнай была.

Душу маладую ў абдымках ён нёс
У свет засмучэнняў і слёз.
Журба гэтай песні ў душы маладой
Без слоў засталася жывой.

І доўга пакутвала потым яна,
Жадаючы ўцехі здаўна,
І гукаў нябёс замяніць не маглі
Ёй нудныя песні зямлі.

*МІКАЛАЙ ЗАБАЛОЦКІ*
*(1903–1958)*

**ВЯРТАННЕ З ПРАЦЫ**

Вакол блукалі навальніцы,
Непадуладныя багам,
Калі, жахнуўшы, бліскавіцы
Ламалі неба папалам.

Хвастала па зямлі зялёнай
Над зборам велічных бяроз,
Баль электрычнасці шалёнай
Зліваўся з вільгаццю ў хаос.

А мы свяціліся, як мары,
Калі спяшалі праз лугі,
Трызубцамі праця́ўшы хмары,
Як старажытныя багі.

*ПАЎЛ МІХНЯ*
*(1921)*

**РАБ**

*Вымый яму ногі*
*і без агіды выпі ваду.*
*З народнага*

Я вольны і, відаць, усё ж не вольны.
Я раб. Сваёй уласнай песні раб.
Ні вызвалення, ні выратавання.
Як вызваліцца ад сябе самога?
Не ўратавацца мне, калі я раб.

Рабом каханай быць — я разумею.
І зразумець магу — ёй ногі мыць.
І мыць, і піць ваду — я разумею.
Ды песні як, як песні ногі вымыць
Ад пылу зорнага з любоўю мне?

І цалаваць сляды ад ног каханай —
Яшчэ і гэта зразумець магу.
Ды як, ды як, скажыце, калі ласка,
Сляды ад ног пявучых маёй песні,
Што ў свеце зор блукае, цалаваць?

І ўсё ж я раб сваёй уласнай песні.
Ад пылу зор адмыўшы ногі ёй,
П'ю тую вадкасць, у якой іх мыю,
Як зорку ў губы, след яе цалую,
Ад неба ап'янелы... вольны раб!

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН

**(1936, в. Шуляціна Расонскага р-на)**

У студэнцкую пару з бураўкінскіх твораў мяне ці не найбольш уразіла паэма «Хатынскі снег». Здзіўляла, як паэт змог псіхалагічна дакладна перадаць жах чалавека, на якога абвальваецца вогненная страха. Пазней я даведаўся, што ён шасцігадовым хлопчыкам разам з аднавяскоўцамі ледзь не быў спалены фашыстамі ў вясковай лазні. Вызваліў людзей пажылы нямецкі салдат, пакуль паліцаі шукалі газу на падпалку... З такіх біяграфій выраслі паэты-пасляваеннікі. Г. Бураўкін закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ (1959), працаваў у рэдакцыях, чатыры гады быў карэспандэнтам «Праўды» (галоўнай тагачаснай газеты) па Беларусі. Са старонак «Праўды» па службовай лесвіцы можна было ступаць праз прыступку, а то і праз дзве: і Бураўкін стаў галоўным рэдактарам «Маладосці», а з рэдактарскага крэсла перасеў адразу ў міністэрскае — ачоліў Дзяржкамітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Клопатная служба не выклікала творчага крызісу, наадварот, дзве найлепшыя, як на маю думку, кнігі — «Пяшчота» і «Гняздо для птушкі радасці» — выйшлі акурат у гэты перыяд. Падчас абвяшчэння незалежнай Рэспублікі Беларусь працаваў паўнамоцным прадстаўніком у ААН, наладжваў адносіны ў ЗША з беларускай дыяспарай, сустракаўся з Н. Арсенневай, М. Сяднёвым. Пасля вяртання на радзіму пакінуў дзяржаўную службу. У апошнія гады актыўна займаецца публіцыстыкай — пераважна на старонках незалежнай перыёдыкі. З 1960-х гг. перакладаў паэтаў з савецкіх рэспублік (выключэнне складалі хіба балгары). Для серыі «Паэзія народаў СССР» пераклаў зборнік лірыкі ўкраінскага паэта Б. Алейніка «Заклінанне агню» (1979). Найлепшым перакладам знайшлося месца ў двухтомавіку 1986 г.

*ІВАН ДАВЫДКАЎ*
*(1926)*

### БУРШТЫНАВЫЯ КАРАЛІ

На шыі тваёй — каралі з бурштыну.
Лясы ў іх спяваюць, і вёслы, і невады,
і след твой, поўны расы і сіні,
і мокрая прыстань каля самай вады.

Мы, згубленыя навекі, цяпер знайшліся —
дзве бурштынавыя слязы на пустых берагах.
Мы, як старыя літоўскія сосны, памерці разам сышліся,
і балтыйская бездань будзе наш саркафаг.

О растрачаныя пачуцці, вы ўваскрэслі сягоння!
Мора нас абдымае, дзюны моўчкі ўбок адышлі...
Ці засвецімся некалі мы ў рыбацкіх далонях
жменькай бурштыну? Ці станем проста жменькай зямлі?

Ці ўспыхнем мы над плячамі, вылепленымі з пены,
над пацалункам, што прысеў матыльком на белых ґрудзях,
ці нам сокал вячэрні крылом сваім вострым імгненна
перарэжа няпройдзены шлях?

Цячэ Вілія, бярозамі ўкрытая.
Ні голасу, ні дыхання на зямлі і ўгары.
У далонях тваіх, крылом жаўруковым збітая,
ціха літоўская зорка гарыць.

## НАЙДЗЕН ВЫЛЧАЎ
(1927)

### АСЕННЯЕ ГНЯЗДО

*Івану Давыдкаву*

Сінь нябёс імжой замглёна.
Цішыня каля палян.
Апускаецца на клёны
лістападаўскі туман.

Спяць палеткі. І навокал —
задрамаў прасцяг пусты.
Усцілаюць шлях намоклы
пачарнелыя лісты.

Плача клён самотны, голы —
кроплі падаюць па дол.
Беражна трымае голле
апусцелае гняздо.

Птушка ўчора адляцела,
ветрам выдзьмула цяпло.
Ды ў гняздо лісток зжаўцелы
нечакана занясло.

І заціх адразу вецер,
сплыў туман.
Канец нудзе.
Клёну голаму здаецца,
што зноў птушка у гняздзе.

## ДЗМІТРО ПАЎЛЫЧКА
(1929)

* * *

Міргаюць зоркі ў небе чыстым,
Палае сінім лёдам шлях.
Самотным ясенем бязлістым
Стаіць мая душа ў палях.

А як сагрэла шчасцем доля,
Збудзіла пошум трыснягоў, —
Мая душа, нібы таполя,
Зазелянела між снягоў.

Прыйшло каханне ноччу грэшнай,
Акрыла подыхам цяпла,
Мая душа, нібы чарэшня,
Па-над снягамі зацвіла.

Калі ж заззяла з перавала
Сяброўства, што жыве ў гадах,
Мая душа над снегам стала,
Нібыта яблыня ў пладах.

*ДЖАНСУГ ЧАРКВІЯНІ*
*(1931)*

**ВЕЦЕР**

Я добра памятаю той вецер,
Непаслухмяны, несамавіты.
Я адчыняў яму на дасвецці —
І ён гартаў мой раскрыты сшытак.

Даследваў кожны радок заўзята —
Дзе з захапленнем, дзе з недаверам.
Чытаў ён вершы — другі... дзесяты...
І раптам з імі знікаў за дзверы.

І першы верш мой кружляе ў клеці,
Другі — занесены на гарышча,
Ляціць паволі ў нізіне трэці,
І скакуну ўслед чацвёрты свішча.

То супакоіцца, то дурэе,
Паспець усюды спяшае пяты,
І вось павіс на высокім дрэве,
Сярод засохлых галін распяты.

А шосты тунькаецца ў бальніцы.
Загінуў сёмы ў краі далёкім...
Напэўна, трэба ўсё ж зачыніцца,
Каб не застацца мне адзінокім.

Ды чую, восьмы з дзевятым плачуць,
Дзесяты ў Мцхету, у Джвары рвецца...
Узвей жа, вецер, крылом гарачым,
Мае ўсе вершы развей па свеце!

*АТАР ЧАЛІДЗЭ*
*(1933)*

**БАЛАДА ПРА ТЫГРА**

Шумна ў бераг вал прыліва
Тыцнуўся са зморай.
Поўня белая ляніва
Выплыла з-за мора.

У трысці размыла зверху
Шэры морак ночы.

І разбуджанаму зверу
Асляпіла вочы.

Тыгр падкраўся ціхай сапай,
Зарыкаў раптоўна
І падняў цяжкую лапу,
Каб раструшчыць поўню.

Ды свяціла ўжо далёка —
На скалу прысела
І ў раз'юшанае вока
Пазірае смела.

Тыгр маланкай паласатай
Кінуўся ў пагоню.
Ні пра страх, ні пра засаду —
Ні пра што не помніў.

Не бярог у лютай злосці
Маладую сілу
І за поўняй следам нёсся
Па крутому схілу.

За спіной сваёй пакінуў
Рэкі і імшары,
Край спякотны бедуінаў,
Табуны, атары.

Прамінуў і лес, і поле,
Вежы, замкі, скіты.
А злавіць гарэзу-поўню
Не хапіла спрыту.

І світальнаю парою
Ён спыніўся, злосны,
І пабачыў пад сабою
Край, як сон, дзівосны.

З вышыні
        нязваным госцем
Пазіраў нясмела,
Ад нязнанай прыгажосці
Як акамянелы.

Аглядаў сады, палацы
І Арагвы воды.
І надумаў заставацца
Тут ён назаўсёды.

Цішыня і край нязвычны
Так душу кранулі,
Што не ўбачыў паляўнічых
І смяротнай кулі.

Лёг шчаслівым пілігрымам
Пасярод дарогі...
Чары Грузіі любімай
Пагубілі многіх.

*ГРЫГОРЭ ВІЕРУ*
*(1935)*

## КАЛІ Я З ЁЮ

Калі я з ёю,
сон матулі ў полі ціхамірны.
І ў парэпаныя яе далоні
жаваранак
можа пакласці яечка.

Ай-ай,
цень жаваранка ў поўдзень ляжа,
далонь матуліну перавяжа!

Калі я з ёю,
матуліна галава
спачывае
на трапяткім вінаградным лістку.
Гарачае матуліна дыханне
рухае на небе зоркі, месяц...

Ай-ай,
прытуліўся да неба месяц,
як да мамы мая шчака!

## ПЕСНЯ МАЦІ

Не купляй ты мне караляў.
Я для іх даўно старая.

Не дары ты мне хусцінку.
Я яе не ўбачу, сынку.

Не шукай мне сукні белай.
Галава мая ссівела.

Не прывозь мне чаравікаў.
Я да модных не прывыкла.

Хай усё нявестцы будзе,
Каб зайздросцілі ёй людзі.

Я ж, сыночак, не заплачу:
Хто ў зямлі мяне пабачыць?!

*АНТАНАС ДРЫЛІНГА*
*(1935)*

**РАССТАННЕ**

О, навошта адкрыла ты вочы ўначы,
Калі раптам спыніўся час
І цяпло валасоў тваіх абмывала мой твар,
О, навошта адкрыла ты вочы,
Калі спаў пад намі сусвет
І толькі адзін я
Тваю бяссонніцу чуў,
О, навошта адкрыла ты вочы,
Калі твае наструненае цела трымцела ў маіх руках
І зблізку я чуў далёкія ўдары твайго сэрца,
О, навошта адкрыла ты вочы,
У срэбных люстэрках якіх
Я раптам убачыў, як падае мая зорка...

*БАРЫС АЛЕЙНІК*
*(1935)*

* * *

З-за хмар стамлёным турманам ляцеў я па вясне,
Каб быць табой зажураным, ды ты шапнула: «Не».
Стаяў штодня сланечнікам я пры тваім акне,
Свяціў бяссоннай зоркаю, а ты ўсё роўна — «Не».

Тады прыплыў я лебедзем няўцямна, як у сне,
І крылы склаў даверліва, ды ты сказала: «Не».
І я заплакаў рэчкаю ў прагорклым палыне
І перасох ад роспачы, а ты ўсё роўна — «Не».

Тады пакінуў ветру я і роспач, і адчай
І прашаптаў зняверана на цэлы свет: «Бывай!
Лячу я ў неба турманам, каб там змірыцца хоць
І ўпасці сумным каменем».
        А ты ў адказ: «Прыходзь».

*ІВАН ДРАЧ*
*(1936)*

**АКСЕЛЕРАТКА**

Дзе тыя кудзеркі, тыя апраткі?
Доля мая, я няўдалы такі...
Змоўклаю скрыпкаю акселератка
Ціха ўвайшла ў санату ракі.

Як яна павіцца дзікаю паваю,
Як застывае ў святла на мяжы,

Гэткай гарэзнаю, гэткай хупаваю,
Што хоць зажмурся і ў пекла бяжы...

Ёй — як кашуля —
        знямелая рэчка.
Месяц — лампадай. Куінджы і ню.
На беразе часу бязвінная свечка
Чакае агню...

*РАМАН ЛУБКІЎСКІ*
*(1941)*

* * *

Зноў бярэ лістапад паляўнічы чырвоны рог.
Напалохана лісце бяжыць ля прыціхлых дарог,
Каля выстылых рэк, каля сумных аблог...
Затрубіў лістапад у чырвоны ахрыплы рог!

Затрубіў лістапад... У калматай яго барадзе
Прабіваюцца бліскаўкі летніх кастроў дзе-нідзе,
І храпе, і ўскідаецца, быццам агонь,
Яго конь, насцярожаны сцішаны конь...

Затрубіў лістапад... Конь вачамі стрыжэ,
Чуйна цемру астылую конь сцеражэ.
І заціх у дуброве разбуджанай рог —
Пачынаюцца ловы
        ўздоўж ніў і дарог...

*МАТЭЙ ШОПКІН*
*(1936)*

**ДОЖДЖ**

О, гэты спорны апаўночны дождж!

Раскінуў над прыціхлым светам грывы,
ляціць наўскач, імклівы і гуллівы,
на маладым задыханым кані.
Ты чуеш капытоў шалёны цокат,
яму няўцям твой хапатлівы клопат,
што ты з ім бегчы не гатоў ані.

О, гэты добры апаўночны дождж!

Мая душа яго так доўга прагла,
я сніў яго ў бясконцых снах асмяглых,
і вось на самай справе ён ідзе.
І я скідаю потную кашулю,
і стомленае цела раскашуе,
падстаўленае ветру і вадзе.

О, гэты цёплы апаўночны дождж!

Мая душа, нібыта кветка тая,
пад кроплямі буйнымі расцвітае
і кліча бегчы ў поле басанож.
І я спяваю, ад хлусні адмыты,
і я спяваю, чысты і адкрыты,
і я спяваю пра нястрымны дождж.

О, як патрэбен апаўночны дождж!

## МІКОЛА НАВІЦКІ

**(1936, в. Крапужына Лагойскага р-на)**

Сярэднюю школу закончыў у мястэчку Бяларучы, дзе ў свой час вучыўся Я. Купала. Выпускнік Менскага інстытута замежных моваў (цяпер Лінвістычны універсітэт), дзе і працуе з перапынкамі больш за сорак гадоў. З 1976 г. кіраваў кафедрай замежных моваў сталічнай Вышэйшай школы міліцыі, потым вярнуўся ў alma mater. Два гады жыў у Нямеччыне. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па нямецка-беларускіх моўных паралелях. Перакладае прозу і паэзію з нямецкай, ангельскай ды польскай моваў.

*ЁГАНЭС БАБРОЎСКІ*
*(1917—1965)*

### ЛІТОЎСКІ КАЛОДЗЕЖ

Ступаю па пяску. Над вербамі
сінеча вышыні і журавель
калодзежны, высокі,
узляцелы...
Звініць жаўрук у небе
быццам промень,
у песні ён за ястраба вышэйшы.
Заслухаўся ім сейбіт счараваны,
а жнец ужо забыў...

### РАДЗІМА ШАГАЛА

Муры яшчэ дыхаюць
водарам ветру ляснога,
буякоў і чабору.
У воблаках ночы
паволі
хаваецца Віцебск,
глыбейшымі робяцца
гукі.
Усмех, нібы ўздых, —
гэта прашчур крадком
за вяселлем падглядвае
з даху.
Мы ляцім у лятунках.

Ды якою сапраўднаю сілай
заблішчалі сузор'і радзімы!
Нашы бацькі —
старыя анёлы
з рукамі дрыготкімі,
з пералівамі крылаў
пшанічных палёў.
Гэта побач наступнае,
гэта рог, палымнеючы,
трубіць...
Зацякае, плыве,
расхінае аблокі
горад пунсовы.

*КУРТ ШТАЙНІГЕР*
*(1928)*

### ВЯЧЭРА

Сярпок-маладзік
ад паўбохана неба
адкроіў
скібіну чорнага хлеба,
змачыў яе ў лёку марскім
і згроб
з Сусвету са жменю правеяных зорак,
як боб,
падпражыў на сонцы,
усеўся ў кратэр
і кліча свайго спадарожніка-брата:
— Ну што ж, падзелімся?!

## ВАСІЛЬ СЁМУХА

**(1936, хут. Ясянец Кобрынскага пав.)**

Habent sua fata libelli. Кнігі маюць свой лёс. Старажытныя рымляне мелі рацыю. Дадамо ад сябе — і змяняюць лёс аўтараў. Лёс перакладчыка Васіля Сёмухі (а перакладчык у паэзіі, нагадаю, лічыцца спадужнікам аўтара) можа паслужыць тут яскравым прыкладам. У 1967 г. ён, малады супрацоўнік Белдзяржвыдавецтва, выпускнік рамана-германскага аддзялення Маскоўскага універсітэта, пераклаў «Фаўста» Гётэ. Прапанаваў выдаўцам — тыя спасылаліся на недахоп сродкаў. І перакладчыку прыйшла ў галаву неардынарная ідэя: а ці не папрасіць дапамогі ў немцаў — як кампенсацыю за панішчаных у вайну сваякоў, за спаленую сядзібу. Прычым папрасіць роўна столькі, колькі неабходна на выданне беларускага «Фаўста». Звярнуўся з адпаведным запытам у Міністэрства замежных спраў БССР. І адразу ж Сёмуху выклікалі на гутарку ў ЦК КПБ, абвінавацілі ў запабяганні перад Захадам, звольнілі з працы, а неўзабаве ледзь не адзінагалосна выключылі з Саюза пісьменнікаў з фармулёўкай — «за сувязі з замежжам і спробу надрукаваць "Фаўста" ў Мюнхене» (!). Падтрымалі сабрата па пяры толькі сябры рады саюза В. Быкаў і В. Вітка. Сёмуха быў вымушаны працаваць на Трактарным заводзе, у школе... І пазней, прайшоўшы праз выпрабаванні, ён не супакоіўся і заўсёды перакладаў тое, што хацеў: неперавузыдзены гімн каханню — «Найвышэйшую песню Саламона», напісаныя ў свавольным жанры hurenpoesie элегіі Гётэ. Ужо падчас перабу-

довы перастварыў па-беларуску вершы юнага К. Маркса. Выдавецкі начальнік учытаўся ў рукапіс: «У формулах — лічбаў, значкоў стракацізна, / І розум наш — прыклад лічыльнае працы: / Калі бог ёсць кропка — дык бог не ёсць прызма, / Калі дагары вы, — дык вам не сядзіцца на с...». «І вы хочаце сказаць, што гэтую дурноту напісаў вялікі Карл Маркс?!» — прагучала суровае пытанне. Давялося начальніку паказаць арыгінал... Акрамя «Фаўста» В. Сёмуха пераклаў яшчэ адну вечную кнігу — Біблію, што, бясспрэчна, запатрабавала ад перакладчыка надзвычайных высілкаў. Памятаю, я не вытрымаў і запытаўся ў Сёмухі: як так магло стацца, што адна і тая расліна з Евангелля ад Лукі ў розных перакладчыкаў названая па-рознаму: у Чарняўскага шыпшыннікам, у Станкевіча — чупчыннікам, у Міцкевіча — асотам, у Клышкі — ажынай, а ў самога Сёмухі — хмызняком? І мудры Сёмуха адказаў, што разначытанняў пры перакладзе Бібліі пазбегнуць немагчыма; напрыклад слова «логас» у грэцкай мове азначае 27 (!) розных паняткаў, а значыць, на яго месцы («Спачатку было Слова...») могуць узнікнуць дваццаць сем розных лексемаў!.. Цэлую бібліятэку пераклаў Сёмуха з германамоўных, польскіх і латышскіх аўтараў: Р. М. Рыльке (два зборніка: «Санеты Арфею» і «Кніга гадзін»), Г. Гесэ, Ф. Ніцшэ, Г. Фалада, Г. Я. К. фон Грымэльсгаўзэн, П. Зюскінд, Г. Майрынк, Э. Т. А. Гофман, Ф. Дзюрэнмат, Б. Брэхт, Я. Райніс, В. Бэлшавіца, Ю. Крашэўскі, Ю. Тувім, М. Канапніцкая, Т. Ман (за беларускага «Доктара Фаўстуса» перакладчык атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі 1992 г.) ды інш. Найлепшыя паэтычныя пераклады выйшлі асобным выданнем «Прыйдзі, ствāральны дух» (1986). Прыемна, што галерная праца перакладчыка заўважана і за мяжой — В. Сёмуха стаў кавалерам ордэна Трох зорак (Латвія) і ордэна «За заслугі перад Германіяй».

*МАРЫЯ КАНАПНІЦКАЯ*
*(1842—1910)*

## О, ЧАМУ НАШЫ ДУБЫ...

О, чаму нашы дубы ў поўнай сіле
Не перунамі пачэсна пабіты...
О, чаму слаўных карон не зложылі
На магільны курган забыты!

Па лісціначцы бура абскубла
Іх веснавую цудоту з голля.
Мёртвая ціша застыла ў дуплах —
Змоўклі лясы нашы, змоўкла поле...

## І МАГІЛЫ ПАМЕРЦІ МОГУЦЬ...

І магілы памерці могуць.
І смерць таксама
Смерцю забіта быць можа...
Вось каменнае ложа,
Пусты саркафаг, адчынена брама,
Праз якую павеяла, быццам адвеку,
Ціша дыханнем, грукатам грому,
Выдзьмула прах чалавека
З таго, дзе навек пасяліцца збіраўся, — дома.

І магілы ажыць могуць.
І смерць таксама
Быць уваскрошана можа...
Вось кваціастае ложа,

Пусты саркафаг, адчынена брама,
Праз якую павеяла, быццам са змроку,
Ціша дыханнем, грукатам грому,
Жыццёвым пасевам дыхнула здалёку,
К таму, што памечан пячаткаю смерці, — дому.

*ФРЫДРЫХ НІЦШЭ*
*(1844—1900)*

**ПЕСНЯ ЧАРАДЗЕЯ З КНІГІ «ТАК СКАЗАЎ ЗАРАТУСТРА»**
*Фрагмент*

Калі прасвятлее паветра,
І раса суцяшэння
Ападзе на зямлю,
Нябачна, нячутна —
Бо ходзіць у лёгкім абутку,
Як усе пяшчотныя суцешнікі, —
Ці згадваеш ты, ці згадваеш, сэрца гарачае,
Як ты прагнула калісь
Нябеснай расы,
Ты, спрагненае і сасмяглае;
А сонца скоса на цябе пазірала
Праз чорнае плеціва дрэў,
І позіркі гэтыя — прамяні,
Сляпуча пакеплівыя,
Усчыналі вакол цябе злую гульню,
Мільгалі па сцежках, парослых травою,
Залітых золатам распаленага вока?

«Ты Жаніх *ісціны*? — кпілі яны, —
Не! Ты — Паэт!
Ты хітры звер, драпежны, падступны,
Які хлусіць павінен
Умела і па добрай волі
Прагны да ловаў,
Замаскаваны краскамі свету,
Сам — маска
І сам сабе — здабыча,
І *гэта* — Жаніх Ісціны?
Не! Толькі блазен! Толькі паэт!
Стракатамоўны,
Стракатамаскамоўны,
Вялікі майстар будаваць масты
Слоў каляровых
І прывідных вясёлкавых дарог,
Якімі ты блукаеш марна і бязмэтна
Паміж уяўным небам
І прыдуманай цвердзю зямною, —

*Толькі* блазен! *Толькі* Паэт!

І гэта — Ісціны жаніх?
Не халодны, не ціхі, не гладкі,
Не храмавы ідал,
Не! А нецярпімы да выяваў Ісціны,
Да безжыццёвых яе падабенстваў,
Тваё жытло — пустыня, а не храм.
Ты поўны спрыту кашэчага,
Праз кожнае акенца скачаш,
Каб ухапіць Выпадковасць,
Табе казыча ноздры спрадвечны лес
Зазыўным і прывабным пахам,
Калі б ты апынуўся ў гэтым лесе
Сярод звяроў пярэстаскурых,
Калі б ты сам быў зверам,
Магутным, здарова-грэшным
І шчасна-крыважэрным,
Па-боску і па-д'ябальску прыгожым,
Падступным,
Калі б ты фыркаў ад пажады палкай,
Не ведаў грэху ў пагоні за здабычай!

Калі б арлом ты быў,
Які азірае *свае* глыбіні,
Лунаючы над прорвамі,
Пасля раптоўна,
Раз'ятраны ад голаду,
Пажадліва лапочучы крыламі,
Спадае на разбляяных *ягнят*,
Бо жорстка ненавідзіць ён душу авечкі
І тых, чый пагляд, бы ў ягняці, цнатлівы, —
Пушыстых, шэрых і рахманых.

Як у арла, як у пантэры —
Такая прага у паэта,
І палкія *твае* жаданні,
Схаваныя пад тысячаю масак,
Ты — блазен! Ты — Паэт!

Глядзіш згары на чалавека, як на Бога,
І гэтаксама нібы на авечку;
І *раздзіраеш* Бога ў чалавеку,
Нібы авечку ў чалавеку,
І, раздзіраючы, *смяешся*...

І *гэта, гэта* ёсць твая ўзнагарода!
У гэтым радасць і арла, і пантэры,
У гэтым шчасце блазна і паэта!..»

Калі прасвятлее паветра,
У зарыве вячэрняе зары прагляне
Зайздросліва таемны
Зеленаваты серп маладзічка,

Варожы дню, ён крадзецца пад ружамі,
І з кожным крокам месячнай жняі
Ўсё болей блякнуць, нікнуць кветкі
І апускаюцца глыбей, глыбей у цемру...

Калісьці і я так,
Паніклы, стомлены ад будзёншчыны,
Сам хворы ад святла,
Адкінуў дурноту мудрасці
І намыслы, жаданні дня
І апусціўся ў морак,
Апалены адкрытай мне *адной* праўдай:
Ці памятаеш ты, гарачае сэрца маё,
Як некалі цябе грызла прага?
Прага быць адкінутым
Ад праўды ўсякай!
Ты — блазен толькі,
*Ты — толькі Паэт!*

*РАЙНЭР МАРЫЯ РЫЛЬКЕ*
*(1875—1926)*

## НАРОДНЫ НАПЕЎ

Сэрцам тужу,
слухаю і знемагаю:
песня багемскага краю
томіць душу.

Чуецца мне
голас дзіцячы на полі —
ён не змаўкае ніколі,
нават у сне.

Дзе б ты ні меў
потым прытулак на свеце —
вечна успамінам звінецьме
гэты напеў.

## СУР'ЁЗНАЯ ГАДЗІНА

Хто галосіць цяпер недзе ў свеце,
без прычыны галосіць у свеце, —
галосіць па мне.

Хто смяецца цяпер недзе ў свеце,
без прычыны смяецца ў свеце, —
смяецца з мяне.

Хто вандруе цяпер недзе у свеце,
без прычыны вандруе ў свеце, —
ідзе да мяне.

Хто канае цяпер недзе ў свеце,
без прычыны канае ў свеце, —
той бачыць мяне.

## ЦІШЫНЯ

Чуеш, каханая, ўскрыліў я рукі...
Чуеш ты шолахі іх...
Можа, прадметы падслухалі рухі
скрухі ў самотных сэрцах людскіх?
Чуеш, каханая, веек шолах,
у шэлесце іх — ты сама,
чуеш, каханая, чуйны іх сполах...
...толькі цябе тут няма...

Кожнага руху адлюстраванне
ў цішы шаўковай відно; застыў
несакрушальна, навек, на экране
далечы немай — мой кожны парыў.
Подых мой кожны ўздымае, калыша
зоркі.
Водар я п'ю, што прыйшоў з цішынёю.
Бачу я вобраз далёкі —
анёлкі.
Думаю я пра цябе. Толькі
ты не са мною.

## ПАЭТ

Адлятаюць гадзіны і сэрца
крыллем ранілі мне, летучы.
Я адзін: і няма куды дзецца,
часе горкі, ні ўдзень, ні ўначы.

Дзе каханне? Дзе дом? Дзе паэт
адпачне ад ганення людскога?
Я аддаў сябе свету самога,
а цяпер прадае мяне свет.

* * *

Што зробіш, Божа, як што я загіну?
Я кубак твой — а што, як дам шчарбіну?
Я трунак твой — заброснею, застыну?
Тваё адзенне я — яго я скіну;
са мною страціш сэнс ты, Госпадзе.

Не ацалее дом святы твой, дзе
вітаны словам цёплым ты і шчасным,
абутак — я абутак твой атласны —
з тваіх ног, стомай змораных, спадзе.

І доўгі плашч цябе не ахіне.
Ласкавы позірк твой, які шчакою
я чую і, нібы пушынак рою,
яму даю апекавацца мною,
шукацьме марна; з зольнаю зарою
між скал чужых сканае без мяне.

Што зробіш, Божа? Страшна мне з віною.

* * *

Чырвоны барбарыс даспеў, ірдзее,
на летасхіле астраў жухне пах,
і хто цяпер багацця не дасяг,
хваробу той ужо разбагацее.

Не бачыць з-пад апушчаных павек,
якія звонку вобразы, карціны,
і ён, чакаючы начной гадзіны,
каб поначы узвысіцца над імі, —
прапашчы ён, лядашчы чалавек.

Наперадзе нічога, дзень пусты,
усё ілжэ яму, чаго так прагне,
і нават ты, Гасподзь. Бы камень, ты,
які штодня яго ў прадонне цягне.

## САНЕТЫ АРФЕЮ

V
Не стаўце помнікаў. Няхай пяшчота
вясною ружы расхіне бутон.
Яна — Арфей і ёсць. Яго істота
ва ўсім жыве. Не трэба нам імён

ствараць, калі ўжо ёсць імя куміра, —
Арфей у памяці не прападзе,
але і ён памрэ. Затое ліра
даўжэй за ружу гукамі цвіце.

*Памрэ* і ён — як цяжка зразумець!
Але яго нятленнай песні гукі
цялесны тлен паражывуць і смерць.

Ён вас туды з сабой не забірае.
Яму ўжо струнаў дрот не рэжа рукі.
Ён крок зрабіў — і ў вечнасці іграе.

VIII
Вольна ў храме славы пераможнай
толькі Жальбе, німфе слёз. Але
ёй даверыць нашу скруху можна,
каб відна была на той скале,

на якой уцверджана святыня —
брамы велічныя, алтары.
І яна ж, малодшая багіня,
ў сонме юных вяне без пары.

Радасць моўчкі *дружыцца* з Маркотай.
Толькі Жальба, як дзяўчынка, ўпотай
лічыць беды колішнія горка.

А як выльецца за берагі
голас наш, засвеціцца, як зорка,
ёю ўзнесены ў прастор смугі.

IX
Той, хто бярэ ў царства тла
ліру з сабою,
творыць, каб песня была
вечнай хвалою.

Той, хто з мёртвымі еў
мак на бяседзе,
ліры Арфеевай спеў
помніць і ў Леце.

*Вобраз,* адбіты ў вадзе,
зыбка-празрысты,
не забывай.

Толькі тады праўдзе
голас прачысты
за жыццякрай.

**ЦАРЫ**
*Фрагменты*

У той былінны час жылі асілкі,
адвечны бор стагнаў, глухі і дзікі,
і рэкі паўнаводныя цяклі;
паклікалі вандроўныя калікі, —
і ён устаў з нямогласці, вялікі
Ілья, асілак мурамскай зямлі.

Бацькі ўраблялі ляды і выжары,
цягалі з расцяробаў валуны,
а выйшаў сын і разбудзіў абшары,
і разгарнуў аралам дзірваны.
Ён сек дубы, раскідваў камянюкі,
што вартавалі нерушы здаўна,
і з тых камлёў дрыготліва на рукі
карэнішчы спаўзалі, як гадзюкі,
угледзеўшы святло пасля цямна.

Расой падсілкаваўшыся, кабыла
адчула моц і пруткасць у нагах
і радасным іржаннем абвясціла,
што верхаўцу не здрадзіць у баях.
Спасціглі разам: казачная сіла
іх на падзвіжніцкі пазвала шлях.
І скачуць... праз вякі, як праз хвіліны
(а хто сядзеў бязвольна, той спачыў),
бо хто, калі і як той час лічыў,
калі ў суцэльнасці ёсць свет адзіны.
І ёсць сапраўдная на свеце мера,
тысячагоддзе ў ім — не шлях, а крок.

І пойдуць тыя ў далечы наперад,
каго дачасна ўкрыў глыбокі змрок.

II
Яшчэ страшыдлы й вогненныя цмокі
былі на варце вотчын гадаўя,
яшчэ не вырас, не ўзмужнеў Ілья,
а смельчакі ішлі ўжо ў свет шырокі
з мячом і булавой на Салаўя.

Агнездаваўся злыдзень той крывавы
на дзевяці галінах — трох дубах:
ад жудаснага свісту жухлі травы,
і ад яго паганскае забавы,
як пошасць, панаваў усюды страх.

Вясновы досвітак аж коле ў вочы,
злавесна ўсё прымоўкла давідна —
ды тлумяцца навокал патарочы,
і пры́цішак застылы — што мана;
а волаты ідуць праз гэту цемру
дрыготкім поступам у глухамань,
правальваюцца ў вычварную зеўру
бясследна, як у багністую твань.

І толькі найдужэйшыя мужчыны
прайшлі жывыя посвіст салаўіны,
што з горла-жарала па ўсёй зямлі
шугаў і ледзяніў душу. Ішлі
яны ў лясы, сталеючы памалу,
насустрач красавіцкаму прагалу
вясны, цяпла... Яны перамаглі
жывёльны страх і вось ужо на ўзлессі
пабудавалі гарады і весі
і знішчылі свой страх, сваю хімеру.

І давялося ўжо лясному зверу
самому ратавацца ад аблогі:

пакінуць лежні, норы і бярлогі,
скарыць свой нораў і прасіць даверу,
заступніцтва і шчырай дапамогі —
і пакланіцца чалавеку ў ногі.

IV
Вось час, калі аслеплая краіна
у люстры славы ўгледзела свой твар.

Атожылак апошні, званнем цар,
да ушанавання звыклы, да фанфар,
душой трымціць на троне, як трысціна,
і ў той бязвольнасці несамавітай
рука паўзе з пурпурных аксамітаў
у вір ілюзій, голых мар.

Нібыта ўдзельную грызню татары
у кажухах, нацягнугых на латы,
яго маўчанне слухаюць баяры,
і нецярплівасцю гарaць пагляды...
Шаноўнай пыхі — поўныя палаты.

І ўспамінаюць іншага, кашмары
яго буянстваў і суровай кары,
калі ён лобам іх аб мур гваздаў.
І помніцца, як *той*, калі сядаў
на гэты самы аксамітны трон, —
падушкі задам падмінаў ямчэй.

Бо змрочнай *мерай рэчаў* стаўся ён,
і доўга крылася ад іх вачэй,
якога ж колеру ядваб цячэ
з-пад царскай рызы залатой.
І думалі яны, што пышнасці такой
нашчадак не ўтрымае на плячах.
Бо хоць і свечкі ўсе гараць наўкола,
але жамчужны бляск нібы ачах,
і, як таму, быломy, арэолам
не асвятляе царственную голаў
рубінамі абшытая парча, —
ўся веліч голая глядзіцца квола...

Іх памяць не патухла...

Яны лісліва туляцца да трона,
ды блякне, меркне царская карона,
і волю царскую з'ядае ржа;
памазаннік, ён верыць іх паклонам, —
а ў тым халопстве ўжо крыху прымглёна
нібы праблісквае лязо нажа.

*ГЕРМАН ГЕСЭ*
*(1877—1962)*

## АПОШНІ МАЙСТАР ГУЛЬНІ ШКЛЯНЫХ ПЕРЛАЎ

Сядзіць з ружанцам у руцэ стары,
Прыгорблены; а край яго ў віры
Вайны й чумы спустошаны і голы,
Руіны плюшч увіў, здзічэлі пчолы...
Прыглушаныя псалтыр'ёна гукі,
Старэчасць кволая, трасуцца рукі,
Перабіраючы шнурок пярлін:
Блакітны шарык, белы, смаляны,
Малы, вялікі, строга ў лік,
І ўсе кладуцца роўна ў рад шкляны.
Вялікі быў ён сімвалаў уладца,
Магістр мастацтваў многіх абазнаны,
Ў высокіх колах шчыра шанаваны,
Славуты з краю ў край усім дарадца,
У гурце вучняў і калег вучоных.
Цяпер ён, збытнік свету, тут адзін,
Зыскоўцы не шукаюць ласк ягоных —
Ніхто на дыспуты не кліча старца,
Усё ў мінулым: кнігі, ўлады бэрла,
Кастальскіх школ няма... Сярод руін
Руіна сам ён, з нізкай штучных перлаў,
Цяпер яны — стракаценькая цацка.
Рассыпаўся ў старых руках шнурок,
І коцяцца гарошынкі ў пясок.

## СЛУЖЭННЕ

Калісьці на пачатку новай эры
Валадарам свае правы здаў люд —
Спраўляць абрад ахвярны, правіць суд
І захаваць у родзе непарушнасць меры
У ладзе з іншай мераю, якая
Заўсёды яркае жыццё свяціл
На небе у гармоніі трымае,
У раўнавазе неўміручых сіл.
Але даўно ўжо Божы той парадак
Зламаўся, і знябыўся мераў свет,
І чалавек адкінуў запавет,
Жыве без святасці ў нязгодзе з ладам,
Ды не памерла вера ў святасць свету
І нам даручана, прарваўшы заняпад
Праз гульні знакаў, аднавіць той лад
І перадаць далей святыню гэту.
Магчыма, змрок рассеецца дазвання,
І вернецца закон былых эпох,
І закіруе Сонца, быццам Бог,
І прыме з нашых рук ахвяраванне.

*ГЕОРГ ТРАКЛЬ*
*(1887–1914)*

## ВОСЕНЬ САМОТНАГА

Пладамі стылая вяртае восень
Пажоўклы водбліск летняй асалоды,
Выпырскваючы з-пад лупіны просінь.
У вырай, як з падання, мкнуць чароды;
Віно збрадзіла; цішыня даносіць
Разгадкі цёмных таямніц прыроды.

Сям-там самотны крыж глядзіць з узгорка,
Плыве атара цераз бор барвовы,
Па сажалцы вандруе хмар чародка,
І спакваля сціхае рух вясковы,
І ўжо крылом блакітным адвячорка
Акрыліся дамы, палі, дубровы.

Праблісквають у бровах стомы зоркі,
Плыве спакой у выстылыя скіты,
Выходзяць з немаю журбой анёлкі
З вачэй каханых, з горкага блакіту,
Шуміць чарот, і жах чапае золкі,
Як чорная раса з сухой ракіты.

## ГРОДАК

Ад зброі смяротнай звіняць вечарамі
Асеннія пушчы, бары, залатыя лугі
І азёры блакітныя, а па-над імі
Коціцца змрочнае сонца; прымае ноч
Палеглае воінства, дзікую скаргу
З іх акрываўленых вуснаў.
Ціха грувасцяцца над паплавамі
Хмары барвовыя — логвішча гнеўнага бога —
У пралітай крыві, у месячнай стыні;
Дарогі сплываюць у чорную пустку.
Пад залатым голлем ночы і зорак
У моўчы лясной калышуцца цені сясцёр,
Вітаючы дух герояў, крывавыя іх галовы;
І ў чорным чароце цёмныя флейты восені граюць.
О гордая жальба-жалоба! Жалезны алтар!
Гарачае полымя духу наблізіла сёння магутны боль —
Унукаў, што нарадзіцца яшчэ не паспелі.

*АЛЯКСАНДР ЧАКС*
*(1901—1950)*

## КЕПСКА

Кепска:
вось я — латышскі паэт,
пра што мне спяваць?
Сэрца ў мяне ў грудзях
кволае, ссохлае,
быццам на крэсле пацёртая скура.

О, каб я быў негрыцянскі паэт —
я спяваў бы пра губы
цёмныя, цёплыя,
бы ў ліпепі ночы бяззорныя,
спяваў бы я пра дзяўчат
дужых,
карычневых, быццам зямля,
спяваў бы я пра свабоду
недасягальную, як у небе хмурынка, —
о, каб я быў негрыцянскі паэт.

А што я — цяпер?
Чаго варта свабода?
Дзяўчаты — худыя,
губкі свае, як тканіну, фарбуюць,
радыёвежы навокал,
падэшвы гумовыя —
мы ходзім на іх
ціхмяна, як кошкі,
думаем ціха,
адчуваем ціха
і паміраем ціха...

## ЯСНАСЦЬ

Бачу ясна: бліжэе, бліжэе мая хвіліна —
Дарма што не верыце слову майму.
А не ведаю толькі, калі, як халодная шкліна,
Маё сэрца застыне, дзе скон свой прыму.

Мо ў гатэлі, дзе ў моўчу і крык, і дыханне,
Бы ў кішэню, кладзе дывановая поўсць,
Мяне вымуць халоднага з ванны і, як цалаваннем,
Прасцінаю накрыюць нябытную плоць.

Я не ведаю. Я толькі йду і не збочу з дарогі,
Да канца, нюхам чую апошні свой баль.
Хай слабейшы прасмердне жыўцом ды нябогі,
Я ж — не вучаны жабраваць мілажаль.

*ВІЗМА БЭЛШАВІЦА*
*(1931)*

## СЫХОД СТУДНІ

І вось аднойчы раніцай я ўстала
Пустая, як сухая студня. Зруб
Ужо не дыхае вільготным пахам.
Не падымаецца вада са змроку,
З бяздоння гулкага. І журавель
Не гнецца, крэкчучы. Пясок сухі —
Адно, чым шчодрыцца пустая студня.

Ах, не дзівіцеся ў мяне, ні вочы,
Ні вусны дзетак! (Адзінота маці
Пачата не тады, калі сыходзяць,
Падросшы ў злагадзе, з-пад крылаў дзеці,
А з той хвіліны, як няма чаго ім даць.)
Ты, мой харошы, не глядзі! Сябры,
І вам глядзець не трэба! Пустата
Ўва мне палае, нібы горкі сорам
За галізну знявечаную студні.

Дзе прахалода кропель, што спадалі
З вядра цяжкога, плюхаліся ў студню,
На мураву ліліся — піце, травы!
Вы, птушкі, піце, дзюбкі ўверх задраўшы,
Хай льецца у валлё салодкі сок глыбінь!
Бярыце, любыя мае, — і вусны,
І твар у прыгаршчы з вадой туліце,
І дайце людзям, выснаджаным смагай!..
Вады няма, вядро шкрабе па жвіры.
Вы камянееце — з зямлі выходзіць студня,
Замшэлыя вянцы страсае зруб
І прэч ідзе, успёршыся на вочап,
Як старац на кульбаку.

А вам дзіва?
Што па ваду пайшла старая студня?
Чаго разводзіш голлечка, каліна?
Ты, пачапіўшы завушнічкай месяц,
Глядзелася, красунечка, у люстра.
Пайду па люстра. Па ваду табе.
І па жыццё пайду. Альбо вярнуся,
Струменячыся кроплямі, альбо
Памру і не вярнуся. І мой зруб
Сцвіцецца мохам, сточыцца, збуцвее,
І яма зарасце чартапалохам.
Ніхто не ўведае, што на падворку
Жыла тут студня, і адно каліна
Маркоціцца без люстра будзе.

*МАРЫС ЧАКЛАЙС*
*(1940)*

**КРЫЛЫ**

Калі трывожны верасень
У вырай кліча журавоў,
Лебедзям на гарадскім канале
Падразаюць крылы.

Як нам сняцца
Цягнікі і самалёты,
На якіх ляцяць удалеч
Нашы летуценні,
Так сняцца і лебедзям
Крылы.

Зверху —
Беласнежныя,
Знізу —
Мяккі пух, каб дзюбы грэць
У вераснёўскай стыні.
Крылы —
Моцныя, размашыстыя!
Усёадольныя!

У яшчаркі хвост адрасце,
Але карацейшы.
Адрастуць і ў лебедзяў крылы,
Але карацейшыя —
З кожнай восенню,
З кожным ляскам нажніц.

Ці бачылі вы —
Сінявокіх, сардэчных
Мужчын,
Што на гарадскім канале
Падразалі лебедзям крылы?

Прыйдзе вясна.
Выплывуць лебедзі,
Выгнуўшы белыя шыі...
Што гэта?..
Прыгажосць?..
...такою цаною?

*ГЕРД ЭГЕРС*
*(1945)*

* * *

Я часам хачу гонкім дрэвам стаць,
схавацца ў гушчэчы лясной.
Не глядзець бы, не чуць і не адчуваць, —
я хачу быць старою сасной.

Узношуся ў марах я ў хмараў пласты,
на горад гляджу згары.
Міндальнае голле — мае валасы,
кудлачаць іх птушкі, вятры.

І ў мару, і ў сон людзі з пілой
і з тапаром прыйдуць потым.
Прыемна быць ссечаным імі — са мной
падзеляць сняданак пасля работы.

*КЛАЎС ЭЛСБЕРГС*
*(1959—1987)*

* * *

я ў дубулцкім цёмным бары
з яго лёгкім няўпэўненым рухам
вячэраю спехам
утаропіўшы вочы
праз вялікую шыбіну
у завіруху

«ува мне скача сонечны зайка
а на дварэ сцюдзянее зюзя»
вось так сабе маракуючы валакуся
у пакоік
пасвіць сваіх французаў

і сярод душаў нябожчыкаў галаў
мне зрабілася так самотна
як той зорцы
што выліла сэрца
прамянямі ў сусвет незваротна.

## ВАЛЯНЦІН РАБКЕВІЧ

**(1937, в. Аксаміты Капыльскага р-на — 1995, Менск)**

Выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Менскага педінстытута (1959). Настаўнічаў на Браслаўшчыне і Валожыншчыне, працаваў у «Беларускай энцыклапедыі». У 1974 г. трапіў у поле зроку КДБ, быў звінавачаны ў беларускім нацыяналізме, выключаны з партыі і звольнены з працы — разам з М. Прашковічам, М. Чарняўскім, А. Каўрусам і С. Міско (уваходзілі ў гэтак званы акадэмічны асяродак). Аднак функцыянеры з КПБ не былі зацікаўленыя ў з'яўленні іншадумства ў «найбліжэйшай да камунізму» рэспубліцы. Праз паўгода Рабкевіча і Каўруса выклікаў сакратар ЦК па ідэалогіі А. Кузьмін і абвясціў найвышэйшае памілаванне: «Мы решили оставить вас в сфере идеологической работы». Так Рабкевіч апынуўся ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе і працаваў больш за дваццаць гадоў, доўгі час ачольваў рэдакцыю перакладаў замежнай літаратуры, быў там непахісным аўтарытэтам. Пісаў вершы для дзяцей, збіраў фальклор, перакладаў расейскую і украінскую прозу (М. Гогаля, М. Зошчанку, Г. Цюцюнніка). З паэтычных перакладаў найбольш удалымі (хоць і не беспахібнымі) выглядаюць вершы Г. Ахматавай. Ёй і даём месца ў «Галасах з-за небакраю».

*ГАННА АХМАТАВА*
*(1889—1966)*

## ВАРОНЕЖ

*В. М.*

І горад стаў увесь абледзянелы.
Пад шклом нібыта дрэвы, сцены, снег,
Праходжу па крышталі я нясмела.
Узорных санак надта хісткі бег.
І над Пятром варонежскім — вароны,
Ды купал неба ўвесь светла-зялёны
Змутнеў у пыле сонечным, пабляк.
Пра бітву Кулікоўскую гамоніць
Заўжды непераможная зямля...
Таполі, быццам ссунутыя чашы,
Над намі ўмомант зазвіняць мацней,
Як быццам за трыумф, за радасць нашу
П'юць на вяселлі тысячы гасцей.

А у апальнага паэта ў памяшканні
Дзяжураць страх і Муза па чарзе.
І ноч ідзе,
Якая век не ведае світання.

## МУЗА

Чакаючы ўначы яе прыходу,
Жыццё нібы вісіць на валаску.
Што мне пашана, маладосць, свабода!
Вось прыйдзе, ўзяўшы дудачку ў руку.
Заходзіць, адхінуўшы пакрывала,
На мне яе дапытлівы пагляд.
«Ці ты, — пытаю, — Дантэ дыктавала
Старонкі "Пекла"?» Адказала: «Я».

* * *

Птушкі смерці ў зеніце стаяць.
Хто ідзе Ленінград выручаць?

Не крычыце Вы — кроў пульсуе,
Ён жывы яшчэ, і ўсё чуе,

Як на мокрым балтыйскім дне
Стогнуць дзеці-сыны яго ў сне,

Як з глыбінь яго крыкі: «Хлеба!» —
Дасягаюць сёмага неба.

Ды не зжаліцца гэта цвердзь,
І глядзіць з усіх вокан смерць.

* * *

Ты разгадаеш гэта ўсё адзін...
Калі бяссонны змрок вакол клякоча,
Той сонечны, той ландышавы клін
У цемру снежаньскае ўрэзваецца ночы, —
І сцежкай я іду туды, дзе ты,
І ты смяешся бесклапотным смехам,
Ды хвойны лес і ў ставе чараты
Адказваюць мне дзіўным нейкім рэхам,
Як толькі гэтым мёртвага буджу,
Ты мне даруй, я не магу іначай:
Я па табе, як па сваім, тужу,
І я зайздрошчу кожнаму, хто плача.
Хто плакаць можа, калі душыць боль,
Па тых, каго ўзяла навек магіла...
Ды слёз няма, на сэрцы толькі соль,
Вачэй маіх сляза не асвяжыла.

## МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ

**(1937, в. Сычын Слаўгарадскага р-на — 1987, Бараўляны)**

Памятаю, як уразіў мяне стол М. Стральцова — з белага мармуру, ці што. Аднакурсніца сябравала з жонкай паэта і прывяла мяне ў кватэру (ужо без гаспадара). На пачастунак быў нейкі балгарскі напой, а [redacted] ўсё глядзеў на той *стол*. Не ведаю, ці пісаў паэт за ім, але хацелася, каб пісаў. Бо калі проза ягоная ішла ад «сена на асфальце», то паэзія сілкавалася таксама і з міфалогіі, часам здавалася, што ў верш злоўленае рэха, адбітае ад белых каланадаў Акропаля: «Калі сын Феба — Фаэтон / памчаў адзін на калясніцы...». Стральцоў добра ведаў еўрапейскую літаратуру, мастацтва, пра што сведчаць ягоныя эсэ і (асабліва!) лісты да А. Сямёнавай. Увогуле іх перапіска — «сустрэча роднасных сусветаў», духаўздымнае сумоўе, якіх у нашай літаратуры больш і не прыпамінаецца. (Напісанае Сямёнавай паводле таго эпісталярыя эсэ «Бэзавы попел» таксама ўжо стала класікай жанру.) Стральцоў пісаў няшмат, блізкім сябрам любіў цытаваць радкі М. Ушакова: «Чем продолжительней молчанье, / тем удивительнее речь». Ва ўсёй ягонай спадчыне не знойдзем ніводнага фальстарту, кожны твор вынашаны, у кожным прысутнічае «ўдых тварца», як у апошні дзень біблійнага тварэння: «Над словам і над гукам, / даўмеўшыся пары, / спярша на рукі хукай, / пасля ужо твары». «Хукаў на рукі» паэт і сядаючы за пераклады, што адбывалася, на жаль, нячаста. Добра, што нехта даўмеўся прыахвоціць Стральцова да працы над італьянскай анталогіяй «Ад вежаў Ферары» (1974). Перакладаць італьянцаў яму, дальбог, пасавала больш, чым пісаць рэцэнзіі на айчынныя зборнікі «сакратарскай крытыкі». Да італьянцаў дадаўся А. Пушкін з Н. Гільенам — вось бадай і ўвесь набытак Стральцова-перакладчыка. (Калі не лічыць раман Ч. Айтматава «Буранны паўстанак» ды грузінскія апавяданні.) Але ўсцешымся і тым, што маем як яшчэ адну праяву дадзенага Богам таленту.

*АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799—1837)*

### ЗАКЛЁН

О, калі праўда, што ўначы,
Як лягуць на спачын жывыя
І месяц, промні снуючы,
Глядзіць на могілкі сівыя,

О, калі праўда, што тады
Пусцеюць ціхія магілы, —
Я сцень заву яе, Леілы:
Сюды, мой друг, сюды, сюды!

З'явіся, дарагі мне сцень,
Які ты быў перад расстаннем,
Збялелы, як зімовы дзень,
Перад апошнім трапятаннем.
Прыйдзі на міг, не наўсягды,
Як ценькі гук, як подых ночы
Або як прывід той прарочы,
Мне ўсё адно: сюды, сюды!..

Не для таго, каб ты магла
Тых дакараць, чыёю воляй
Цябе забраць магла імгла,
І не пра пекла я, тым болей,
Не для таго, што ўсё ж парой
Гняце сумненне... Не, сумую,
Хачу сказаць: люблю такую,
Якой была. Сюды! Я твой...

*ЭЎЖЭНІА МАНТАЛЕ*
*(1896—1981)*

## ТВОЙ ПАРЫЎ

Водбліскі вогнішча на плячах, на аблічча тваім,
цудадзейны бляск тваіх амулетаў
прадракаюць з'яўленне тваё,
нібы два светы цябе аспрэчваюць
тут, на сцэне лагчыны,
у леках баярышніку.

І адзенне ў шматкі, і кустоўе, і травы,
патаптаныя зноў, не маркоцяцца,
і вірамі прыгод
ноч успенена, і ты сам —
пробліск сам ты у гэтай ночы.
О, міласэрны будзь, не тапчы
палаючыя кастры,
суцяшэннем хай будзе дым
уцалелым!

Бляскі кастроў і пагляд агнявы —
паберажы,
попел яе валасоў, бы попел кастроў, —
паберажы.
Бо спапяліўся сам. Як тады
зможа рука твая
адшукаць між памершых свайго адзінага?

*НІКАЛАС ГІЛЬЕН*
*(1902 — 1989)*

## УСПАМІН

Што ж, памяць аб табе адклейваецца
ад маёй свядомасці, як пажоўклы эстамп.
На абліччы няма вачэй,
і адна рука адрынута,
як на тых пераздымках убогіх,
нікчэмнай спацесе школьнікаў;
пераздымкі ў забытай кнізе —
пляма, не больш таго.

І ведаеш, ніхто шчэ ніколі не бачыў,
каб абдымаў хто саломы куль.
Твой голас з далёкай далечы
ледзь чутны. А можа, не твой?
Пачуцці перагарэлі,
ці, можа, іх выпетраў час?
Цяпер я сябе пытаю:
няўжо ты была каханай,
такой недарэчна-нікчэмнай,
такой анемічна-млявай,
што сёння, на ўгодках любові,
як дым, пра цябе ўспамін?
І блякнеш старым малюнкам,
і адклейваешся ад маёй свядомасці,
як пажоўклы эстамп.

## НОВАЯ МУЗА

Раней паэт меўся быць музыкай:
завіхаючыся перад аркестрам,
бы чараўнік, мог тлумачыць
голас флейты, што нібы ўздых,
голас жабрацкі скрыпкі,
голас басоў, старэчы і хрыплы,
бабаханне барабанаў.
Паэт ап'яняўся гулам
і тлумным жыццём аркестра.
Сёння паэт замураваўся ў самім сабе
і адтуль кіруе сваім аркестрам.

## ДОЖДЖ

Пад пахмурным небам,
ад тугі няйначай,
несуцешны доджджык
плача.

Па дарозе кроплі
паскакалі,
увабрана вецце
у каралі.

Ручаёк знёс масток —
жвавы дужа
(цікава, што затануў муравей
у пялёстках ружы).

**ВЫГНАННЕ**

Сена
такая ўжо цырымонная,
лімфа, цывілізаваная кроў,
прывячае моўчкі,
так, кранууўшыся ледзь капялюша.
А радзіма мая ва ўспамінах,
і я распяты Парыжам,
як нячутны начны кажан.

Хачу, о хачу
ў самалёт,
чатырохматорны,
бесперасадачны!

Чырвань-кроў на грудзях
ад той хмары, што ледзь паўзе
па нізкім і брудным небе.
Хмара ў жалобе. Промні-нажы
раняць яе. Прыпаўзла
аж з Карыбскага мора,
з людаедскага мора піратаў,
з нялюдскага мора аслеплых вачэй
і пашкуматаных мрояў.
З хмарай бы гэтай вярнуцца,
маючы тыя чатыры нажы
ды жалобныя ўборы!

*МАРЫЯ САКРАТЭ*
*(1920)*

**СМОГ**

І блізка вясна. Апускаюцца
акенцы ў машын, і паветра
сунімае ў аўто іх маторныя дрыжыкі.
І мчацца яны па дарогах,
дрогаючы на карэннях
пiній раўнінных, на тых карэннях,
што тут, пад асфальтам.

А вунь на стаянках, пад дрэвамі,
такія ж аўто і таксі
трызняць прыходам цемры,
і вось — гронкай зары вечаровай
першыя стоп-сігналы. І блізка, і блізка ноч.
А ў гэтым сутонні
за трухам сабакі мякка-падманным
крок супакойны гаспадаровы. І блізка,
і блізка да поўнае ночы,
дзе столькі тунэляў-вокнаў,
і ў кожным свой стоп-тэлевізар,
дзе цёмна ідзе над горадам
знясілены шум цягніковы,
затым, каб, дабрыўшы, упасці
на цёплы мурог па-за валам, —
там голас гартанны распусніц
і голас транзістараў гэткі ж
трывожаць аўсоў быгаванне
у сцішаным месячным полі.
А потым настане і ноч, і трывожнае
нараджэнне наступнага заўтра,
невядомага і непазбежнага — так! —
лёсам асуджанага на кругабег. І лініі,
ліловыя ў атручаным тумане,
непазбежнасць прымуць, як смерць, —
з вяршалін іхніх вымкне да неба ўздых
святлолюбівай агоніі смога.

## СЫМОН БЛАТУН

**(1937, в. Каванка Брагінскага р-на — 1970, Менск)**

Атрымаў дыплом журналіста, найдаўжэй працаваў у «Звяздзе» (1959—1964). Шмат бываў у службовых выправах, пісаў праблемныя нарысы. Пры жыцці паспеў выдаць адзіную кнігу «Раўнавага» (1968). Сябраваў з Г. Бураўкіным, В. Зуёнкам, І. Бурсавым, Р. Барадуліным, які пазней прыгадваў: «У шэрай папцы на маланцы, у якой звычайна Сымон насіў дадому рэдакцыйныя матэрыялы, цяпер захоўваецца ўвесь архіў паэта: рукапісы, выразкі, адказы пачаткоўцам, бланкі газеты "Звязда". Трэба бачыць, колькі варыянтаў, колькі рэдакцый мае амаль кожны верш, кожны радок. Пераклады белых вершаў Я. Судрабкална толькі ад рукі перапісаныя тры разы — і кожны раз па-новаму». Фактычна ўсё напісанае і перакладзенае Блатуном увайшло ў кнігу «Чысціня» (1979).

*ЯН СУДРАБКАЛН*
*(1894—1975)*

### ЛЕТУЦЕННІК У БЭЗАВЫМ СУРДУЦЕ

Калі на залатыя ступені выходзіць
Яе Вялікасць Ноч,
Перад ёю Вечар падае ніцма,
Чорны, як слуга-гатэнтот.

Пагойдвае плаўна хвастом ён паўлінавым,
А на блакітным фаянсавым сподачку
Пераліваюцца касякі драбнюткіх зорак, —
Якія потым сыпане ў калодзежы
Захмялелая ад птушыных песень
Ружавашчокая Раніца.
Калі ж расплюшчвае сваё вока,
Вялізнае лімоннае вока
Святейшая Вялікасць Ноч,
Нібыта ў таямнічае блакітнае мроіва
Трапляеш ты...
Дык гэта ж так! Цяпер я ўжо ведаю,
Цяпер я дакладна памятаю:
Як толькі агнём загарэўся захад,
Я зноўку спаткаў яго
Пад бледна-зялёным шатром алеі —
Джэнтльмена ў бэзавым сурдуце,
Таго, што прыходзіў з казкі
Майскімі цёплымі вечарамі
У добры далёкі час...
Крый мяне Божа! А я сабе думаў, што знік ён,
Як войны грымелі і спелі разлады,
Як падалі ніцма званіцы,
Старыя законы і догмы,
Старыя казкі і вершы.
Во, гэта здорава,
Што жывы яшчэ летуценнік
І нават яшчэ не знасіўся
Ягоны бэзавы сурдут.
Ах, гэты Брэмель у бэзавым сурдуце,
З найчысцейшага бэзу,
Такога не ўбачыш нідзе,
І нават на Калькю і Шчюню* яго не знайсці!
З правілаў ён — выключэнне,
Зусім як у той граматыцы
Няправільныя дзеясловы.
Вітанне табе, бэзавы дэндзі,
Герцаг майскага вечара.
Не змогуць забраць у цябе зямлі
ні з падэшву
Ніякія законы.
Падданных тваіх не палохае ссылка —
Для іх яна быццам родная маці,
А той, хто цябе сустрэне, —
Нібыта ўваскрэсне мараю.
Далібог! Ён марыць пачне —
Ён зможа яшчэ закахацца,
Вітанне табе, о блакітны сіньёр,
Толькі ідзі з перасцярогай:

---

* Вуліцы ў старой Рызе.

На небе цяпер шмат трансмісій,
Плывуць яны з грузам сталёвым
У розных кірунках,
А ўсімі кіруе волат адзін — чалавек.
Душу пякуць раны балючыя,
Як быццам на іх насыпалі солі,
Ды не сыходзіць з губ
Салодкі марцыпан летуценняў.
І навошта магічныя лічбы тыя,
Усё новыя тэорыі,
Калі з помаччу іх на новых крыллях
Чалавек зноў не змог бы ўзняцца
На новыя Кардыльеры спадзяванняў,
Адкуль яму дыхнула б у разгарачаны твар
Вечна Нязведаная Даль.
Несмяротны капітан
У бэзавым сурдуце,
Перад табою схіляю калені!
Шчаслівы той, хто цябе сустрэне
Пагодлівым майскім вечарам, —
Той зможа жыць і кахаць,
Той адчуе сябе маладым.

## АЛЯКСЕЙ КАЎКА

**(1937, в. Равіцкі Бор Чэрвеньскага р-на)**

Жыццяпіс А. Каўкі — добры матэрыял для ладнага рамана пра беларускі дысідэнцкі рух, які, спадзяюся, будзе калі-небудзь напісаны. Ён, колішні першы сакратар Чэрвеньскага райкама ЛКСМБ і куратар польскага камсамола ў ЦК ЛКСМБ, выпускнік Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, у 1976 г. піша «Письмо к русскому другу», у якім культурніцкая палітыка камуністычных уладаў у Беларусі называлася асіміляцыйнай. Ліст быў перакладзены на англійскую мову беларусістам Дж. Дынглі, выдадзены ў Лондане, агучаны беларускай і ўкраінскай службамі радыё «Свабода», перадрукаваны многімі эміграцыйнымі выданнямі. А ў 1980-я Каўка, як уладальнік дыпламатычнага пашпарта (працаваў дарадцам у савецкай амбасадзе ў Варшаве), перапраўляў на Захад творы, што не маглі быць апублікаваныя ў Савецкай Беларусі: паштоўку Я. Куліка «1000 гадоў Беларусі», рукапіс кнігі А. Бембеля «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс» ды інш. У 1991-м, стаўшы сведкам трагічных падзей у Вільні, даслаў на імя М. Гарбачова тэлеграму аб сваім выхадзе з «партыі-жандара і ворага нацыянальнага самавызначэння народаў». Неўтаймоўны іншадумец, Каўка і перакладаў «крамолу» — удаступніў для расейскага чытача сатырычныя паэмы небезвядомага Ведзьмака Лысагорскага. А для душы, жывучы ў Маскве, перастварае на роднай мове ўкраінскую і расейскую класіку, у тым ліку Ф. Цютчава — шавініста і апалагета самадзяржаўя, але паэта выдатнага.

*ФЁДАР ЦЮТЧАЎ*
*(1803—1873)*

### SILENTIUM!

Ні перад кім не варушы
Пласты таёмныя душы,

Пакутаў боль, святло надзей
Трымай найдалей ад людзей.
Вунь зоркі свецяцца ўначы —
На іх дзівіся і маўчы.

Як сэрцу выжаліць сябе,
Каб іншы зразумеў цябе?
Табе баліць — чыя віна?
А слова звычнае — мана.
Струмень ціхутка звык цячы,
Ім наталяйся і маўчы.

Бо толькі у табе, браток,
Жыцця спрадвечнага выток
Імкне з глыбіняў светлых дум —
Дык не аддай яго на глум
І пастарайся ўберагчы,
Пільнуйся праўды і маўчы.

* * *

Не мітусіся, не скачы,
Асудзіш ты — цябе асудзяць,
І, раны гоячы ўначы,
Рыхтуйся да таго, што будзе.

Прыстойна маеш пражыць
Маркоту, радасць і трывогу.
Чаго жадаць, аб чым тужыць?
Агоран дзень і — дзякуй Богу.

*ЯЎГЕН МАЛАНЮК*
*(1897–1968)*

## ФОРМУЛА

Баліць? Пячэ? Нічога, горш бывала.
Згадай: Мазепа і Куліш, нягож.
Хай полымем шугае верш трывалы,
І рыфмы раняць — як свяшчэнны нож.
А ты трымціш. Баліць, што не зраслося...
О, той паранены, нясцерпны крок!
А навакол — цвярозай чэзне восень,
А дзесьці шэпчуць: пасланец, прарок.
Гарчаць на вуснах нам радкі, як лекі —
Глыне іх раб савецкі неўпадман,
І — крылы вырастаюць у калекі,
Лжэўладару ўцякае сон з павекаў
І вось — густы — развеяўся туман.
Не-не. Трывай. Спадзе хай смутак долу —
Крылаты дух ляціць за небакрай.
Крыві дай кроплю кожнаму глаголу.
Маліся. Дзейнічай. Цярпі. Трывай.

# ВАЛЕРЫ СТРАЛКО

**(1938, г. Любеч Чарнігаўскай вобласці, Украіна)**

Перш чым стаць літаратарам, меў за плячыма багатую біяграфію: закончыў дзве ВНУ, будаваў караблі ў Херсоне, настаўнічаў, працаваў у Інстытуце ядравай фізікі і гідрадынамікі ў Новасібірскім акадэмгарадку. Прыехаў у Менск, і — захапіла беларуская моўная стыхія. Пачаў з перакладу на расейскую і ўкраінскую двух сатырычных шэдэўраў — «Тараса на Парнасе» і «Сказа пра Лысую гару». А неўзабаве і другі Тарас яшчэ раз абазваўся на мове «сінявокай сястры». У беларуска-ўкраінскім паэтычным акведуку нялішнія і некалькі ажурных канструкцый В. Стралка — зборнікі «На кляновых лістах» (сучасная беларуская паэзія па-ўкраінску) і «Непагасны агонь» (двюхмоўны: украінская класіка па-беларуску, ■ беларуская — па-ўкраінску).

*ТАРАС ШАЎЧЭНКА*
*(1814—1861)*

* * *

Раве ды стогне Днепр шырокі,
Сярдзіты вецер — аж гудзе,
Гне долу вербы, рве аблокі,
Узносіць хвалі на вадзе.
І бледны месяц на прасторы
З-за хмар нясмела выглядаў,
Бы човен срэбны ў сінім моры,
То вынyраў, то прападаў.
Шчэ пеўні трэція маўчалі,
Прачнуцца ранак не паспеў,
Сычы склікаліся з сычамі,
Ды ясень жаласна рыпеў...

*ЛЕСЯ УКРАІНКА*
*(1871—1913)*

* * *

Слова, чаму ты не сталь-бліскавіца,
Тая, якая ў баі так іскрыцца?
Што ж ты не востры, бязлітасны меч:
Міг, і галовы варожыя — з плеч!

Шчырая ты, гартаваная мова,
Я цябе выцягнуць з ножан гатова,
Толькі ты кроў з майго сэрца пральеш,
Ворага ж сэрца клінком не праб'еш...

Вывастру, вытачу я сваю зброю,
Колькі мне хопіць умення, настрою,
Потым яе пачаплю пры сцяне
Іншым на ўцеху, на клопаты мне.

Слова, мая ты адзіная зброя!
Мы не павінны загінуць абое!

Можа, ў руках невядомага брата
Станеш найлепшым ты мечам на ката.

Бразне клінок аб жалеза кайданаў,
Рэха прамчыць па цвярдынях тыранаў,
Стрэнецца з бразгатам іншых мячоў,
З ґукамі пазатурэмных прамоў.

Дужыя мсціўцы сарвуць маю зброю,
Кінуцца з ёю адважна да бою...
Зброя мая, паслужы смельчакам
Лепей, чым служыш ты хворым рукам!

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938—1985)*

* * *

Ад ручаёў да верасня — жыццё.
Шалее сонца і вада віруе,
І рунь блакітнаватасцю чаруе,
І ўвысь ірвецца выстраліць асцё.
Скрыпяць бары, напятыя вятрамі,
Шляхі пыляць, і стэп, нібы пасцель,
І пакаленне, бы трава, расце
Палямі, пералескамі, ярамі.

* * *

Даждзь нам, Божа, днесь! Не заўтра ў жмені —
даждзь нам днесь, мой Божа! Даждзь нам днесь!
Дагараць ўкраінскія агмені,
дагарае украінскі ўвесь
край. Мая дарога дагарае,
смагай карабаціцца душа.
Як Гасподзь нас вокам прамінае,
тады, боль, іграй без кунтуша!

## ПЯТРО МАКАРЭВІЧ

**(1938, в. Шынкі Крупскага р-на)**

Адукацыя — бібліятэчны факультэт Менскага педінстытута (1964). З пасады інструктара райкама КПБ перайшоў на працу ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Праз пяць гадоў не вытрымаў і напісаў заяву на імя старшыні саюзнага Камітэта Ю. Андропава: «Прашу звольніць мяне з органаў, так як агентурна-аператыўная работа не атрымліваецца». Звольнілі, папярэдне пасадзіўшы ў каталажку... Загадваў Лідскай раённай бібліятэкай, каля трыццаці гадоў адпрацаваў у мясцовай газеце. Цяпер — супрацоўнік міжраённай выратавальнай станцыі ў Лідзе. Калі няма трывогі, на начных дзяжурствах піша вершы і перакладае расейскіх паэтаў. Наперакладаў — горы, з класікаў і зусім малавядомых. Прапаноўваў выдавецтвам — не бяруць. Частка перакладаў (Ф. Цютчаў, Б. Пастарнак, Б. Чычыбабін) апублікаваная ў паэтычным зборніку Макарэвіча «Злітак» (1987).

*ІВАН БУНІН*
*(1870–1953)*

## СЛОВА

Маўчаць труніцы, муміі і косці, —
Ты, слова, не маўчыш:
Чутно ты і з цямрэчы на пагосце,
Чутно і звыш.

Другога не было й няма багацця!
І сцюжаю, і ў сквар
Ты слову роднаму маліся, браце,
Яно — наш вечны дар.

*МАРЫНА ЦВЯТАЕВА*
*(1892–1941)*

* * *

*Б. Пастарнаку*

Рас-пасцёрліся: вёрсты, мілі...
Нас рас-ставілі, рас-садзілі,
Каб ціхутка сабе жылі
На палярных канцах зямлі.

Рас-пасцёрліся: вёрсты, далі...
Нас рас-клеілі, рас-паялі,
Развялі ў дзве рукі на крыж,
І не зналі, што мы — спарыш.

Сплаў натхненняў і сухажылляў...
Пасварылі? Не, разгубілі,
Рас-слаілі... Сцяна ды роў.
Рас-сялілі нас, як арлоў —
Архізмоўшчыкаў: вёрсты, далі...

Не рас-строілі — пагублялі.
Па галечах зямных шырот
Разапхалі нас як сірот.

Год і месяц які — не на жарт! —
Разбілі нас, як калоду карт!

*АЛЯКСАНДР ЯШЫН*
*(1913–1968)*

## АРОЛ

...З-за змрочнае скалы, як з-за вугла,
Ледзь не ва ўпор стралялі у арла.

А ён спакойна свой пакінуў камень,
Не азірнуўся нават на стралка,
І, як заўжды, шырокімі кругамі,
Павольна за аблокамі знікаў.

Хіба драбіна дробязнай была —
Для перапёлак, а не для арла?
Ці задрыжэла у стралка рука
І захістаўся ствол драбавіка?

Патрапілі драбіны ў цэль без стратаў,
А сэрца і арлінае без латаў...
Сярод далёкіх гор арол упаў,
Каб вораг перамог не сяткаваў.

## АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

**(1938, в. Шарпілаўка Гомельскага р-на — 1991, Менск)**

З сям'і службоўца. Меў рэдкую для пісьменніка прафесію інжынера чыгуначнага транспарту, але па спецыяльнасці працаваў нядоўга, сышоў у абкам камсамола і ўжо праз пару гадоў кіраваў усімі камсамольцамі Гомеля. Пасля ўдалай камсамольскай кар'еры свяціла і партыйная, але ў 1967 г. Грачанікаў з'ехаў у Маскву на Літаратурныя курсы, а пасля іх заканчэння, падобна, забыўся і на чыгунку, і на камсамол. Праўда, здольнасці лідэра надарэмна не прапалі і ў жыцці спатрэбіліся: Грачанікаў па чарзе рэдагаваў часопісы «Вясёлка», «Бярозка» і «Маладосць». Пісаў спакойныя, роздумныя вершы, зрэдку аздабляючы іх своеасаблівым палескім гумарком. Памятаю, як школьнікам упадабаў яго паэму «Палескі трохкутнік»; яе героя, калгаснага вартаўніка Яўхіма, проста з агурковых градаў выкралі і звезлі ў невядомым кірунку іншапланецяне. Камічна выглядалі касмічны апарат у гуркоўніку і летуценнік-памесяўнік Яўхім, загледжаны ў зоры і разважлівы, як Дыяген у бочцы: «Зорныя тыя ліўні, / што душу ачышчаюць, / бываюць толькі ў жніўні, / толькі ў жніўні бываюць». Перакладаў Грачанікаў пераважна дзіцячую паэзію — у выдавецтве «Юнацтва» выйшлі два зборнікі: «Ватан — значыць Радзіма» (з афганскай) і «Рагатун і рагатуха» (з грузінскай). Але і класікаў наперакладаў нямала. Загінуў позна вечарам на вуліцы пры загадкавых абставінах.

*АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799—1837)*

### ПАЭТ І НАТОЎП

*Prokul este, profani**.

Паэт на ліры гаманлівай
Рукой няўважліва трымцеў.
Спяваў — а змрочны і пыхлівы
Народ з пакораю цярплівай
Няўцямна слухаў той напеў.

* Прэч, недасведчаныя (лац.).

І гаманіла чэрнь тупая:
«Чаму пяе так гучна ён?
Да болю вушы працінае,
Куды нас кліча струнаў звон!
Пра што брынчыць? Чаму нас вучыць?
Навошта сэрцы страхам мучыць,
Нібы відушчы чарадзей?
Як вецер, спеў яго ўзлятае
І, нібы вецер, прападае:
У чым карысць тут для людзей?»

П а э т

Маўчы, знікчэмнены народ,
Падзёншчык, раб нястач, нягод!
Я не выношу лямант рэзкі.
Чарвяк зямлі, не сын нябёс,
Апроч вагі — ты не дарос
Кумір ацэньваць Бельведэрскі.
Ты можаш без яго пражыць,
Хай мармур — бог, аднак, мой дружа,
Пячны гаршчок ты цэніш дужа,
Бо можаш страву ў ім варыць.

Ч э р н ь

Калі ўжо ты нябёс абраннік,
Дар, усявышняга пасланнік,
Свой на карысць нам ужывай:
Братовы сэрцы выпраўляй.
Мы — маладушнікі і хціўцы,
Мы — бессаромнікі, зласліўцы,
Мы — атлусцелыя скапцы,
Паклёпнікі — не мудрацы!
Клубком гняздзяцца ў нас заганы,
І кожны з нас — сам па сабе.
Як жыць далей — вучы старанна,
І мы паслухаем цябе.

П а э т

Ідзіце прэч — якая справа
Паэту мірнаму да вас!
Хай топіць вас распусты лава:
Вас не ажывіць ліры глас!
Душы абрыдлі вы, як труны,
І не для вас натхнення струны!
Для вас, тупіцы, да пары —
Бічы, цямніцы, тапары.
І досыць з вас, рабоў бяздумных!
А побач з вамі, з вуліц шумных
Змятаюць смецце — так жывуць! —

Але, забыўшы на служэнне,
Алтар, ахвярапрынашэнне,
Жрацы ці ў вас мятлу бяруць?
Не для жыццёвага памкнення,
Не для выгод і барацьбы, —
Народжаны мы для натхнення,
Для гукаў шчырае мальбы...

*ГЕВОРК ЭМІН*
*(1919)*

**РАЯЛЬ**

Ён быў стары.
Падобны быў на скрыню,
Старую скрыню
з вопраткай сатлелай.
Замком яго прышчоўкнуў гаспадар,
І, ключ схаваўшы,
Ён паставіў зверху
На ім сланоў
І гіпсавых амураў.
І тое, што было заўжды раялем,
Адразу стала
старажытнай скрыняй.

А у пакоях — шум і гам да рання.
Ажно са сцен
Зрывалася тынкоўка,
Так у экстазе балявалі госці.
Пад гэтымі пыхлівымі сланамі,
Сцяблінкамі,
заціснутымі камнем,
Напружана ўздыхалі фугі Баха,
Журботныя напевы Камітаса,
Адчужана маўчаў глухі Бетховен
І крыкамі аглушаны Шапэн...
Гулялі ў нарды
І далму варылі,
І пенілася піва ў кубках поўных,
Еў гаспадар шашлык,
Былі яны стлусцелыя —
Шашлык і гаспадар.
Ад скокаў і ад балбатні сп'янелай
Усхліпвалі ў раялі ціха струны,
Вызвоньвалі жалобна і журботна.

Тады і я раптоўна страпянуўся...
Сарваўшы крышку пыльную ў імгненне,
Я клавішы халодныя пагладзіў,
І пальцы па дарожцы чорна-белай
Забегалі,

І сем сланоў упалі,
І раскалоўся гіпсавы амур.
Старая скрыня
Зноў раялем стала.
Душа яго ізноўку акрыяла,
Яна стагнала,
Плакала,
Спявала,
Выказваючы крыўды мне свае.

«Што здарылася?» —
Госці закрычалі.
«А, наш паэт!
Зусім ён піць не можа!»
«Ды што вы!
Цацкі ўпалі выпадкова...»
І гаспадар маўкліва на раяль
Замок, нібы наручнікі, накінуў.

Пайшоў дамоў я
З ветрам спадарожным.
Я добра ведаў, што рабіць мне трэба.
Хай шчэрыцца той гіпсавы амур,
І хмурацца букатыя сланы, —
Не плач, раяль,
Цяпер не трэба плакаць...
Я выратую ўсё адно цябе!

*РАСУЛ ГАМЗАТАЎ*
*(1923)*

* * *

Калі раптам металам стану,
Не чаканьце вы манет з мяне,
Каб ніколі не служыць падману,
Дробязна ў кішэнях не звінець.

А наканавана стаць металам,
Зброю скуйце, — запавет вам мой, —
Каб я мог клінком або кінжалам
Спаць у ножнах і ляцець у бой.

*АНДРЭЙ ГЕРМАНАЎ*
*(1932—1981)*

## ЗАКЛІНАННЕ

Я сярод вас — жывы сярод жывых.
А прыйдзе час апошняга спачыну, —
Пякучае вуголле дум сваіх
І цень душы у вершах я пакіну.

Калі ж ты ўпадабаеш томік мой
І схілішся над ім у задуменні, —
Нябачна я узнікну за спіной,
Табой пакліканы да ўваскрашэння.

Пакуль чытаць ты будзеш, я ўлаўлю
Пах кветак і забыты спеў птушыны.
Ізноў мяне ты вернеш на зямлю
Да сонца, кветак, любае дзяўчыны.

Нават слязой, як раптам мільгане
Ад верша, што пісаў я без падману,
Ты небыццё адгоніш ад мяне,
Сярод жывых — ізноў жывым я стану.

*ГРЫГОРЭ ВІЕРУ*
*(1935)*

### КАЛІ Я ПОБАЧ З ЁЮ

Калі я побач з ёю, —
Спіць маці ў полі ціха і спакойна.
У далонях яе параненых
Жаўрук, нібы ў гняздзечку,
Знесці можа яечка.

Ай-ай,
Цень жаўрука апоўдні ляжа
І матчыны далоні перавяжа.

Калі я побач з ёю,
Галава матчына спачывае
На трымценні ліста вінаграднага,
А дыханне яе гарачае
Месяц і зоркі па небе рухае.

Ай-ай,
Прыхінуўся месяц да неба,
Як я да матулі...

## ДАНУТА БІЧЭЛЬ

**(1938, в. Біскупцы Лідскага пав.)**

Паэт і крытык Р. Семашкевіч называў Я. Купалу і Я. Коласа «маршаламі нацыі». У Д. Бічэль паэтам таксама адведзеная ваяўнічая роля: «Сядлайце, паэты, коні, апроч нас няма тут войска». І насамрэч, у гэтых параўнаннях можна ўбачыць пэўную рацыю, асабліва калі азірнуцца і разгледзецца ў двух мінулых стагоддзях. Д. Бічэль пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гарадзенскага педінстытута (1962) выкладала беларускую мову і літа-

ратуру ў школе рабочай моладзі, займалася стварэннем Музея М. Багдановіча ў Горадні, у 1994—1998 гг. была яго дырэктарам. Гадоў дзесяць ачольвала абласную пісьменніцкую арганізацыю. Аўтарка дзесяці паэтычных зборнікаў, апошняе ў XX ст. выбранае — «Снапок» (1998). Перакладае пераважна з польскай і ўкраінскай моваў, перастварыла па-беларуску «Рымскі трыпціх» Яна Паўла II — выданне прысвечанае 25-годдзю пантыфікату Святога Айца.

*МАЦЕЙ ЮЗАФ КАНАНОВІЧ*
*(1912—1986)*

## УРОЦЛАЎСКАЯ ІМПРЭСІЯ, 1952

На вулцы маленькай Уроцлава
вецер на частаколе
старaславянскую песню
грае, нібыта арган.
Дзяўчаты за сонечны вобад
нясуць агністае кола,
на якое з каштанаў пырскае
дрыготкіх ценяў фантан.

Муляр — анёл бяскрылы —
з блакіту працягвае рукі
па новы ладунак цэглы,
даспелай у самы крэс.
Завулак — заступіць шчыглік —
захоплены — што за штукі! —
высіцца шматпавярховы
жалезабетонны лес.

Даходзіць водгук прадмесця,
борзды, шумлівы, іскрысты, —
галасоў маладых і зычных
праз хрыбетнік руін пералёт.
Новыя рытмы ў тых песнях,
узнёслых і дынамічных, —
маладзічок рабрысты
натуе акорды нот.

Заплюшчу вочы ад грому,
што доўга хрыпеў у горле
заіржавелых вулканаў,
аж нібы меч заблішчаў.

За спаленым касцёлам
вырастаў з папялішчаў,
адраджаўся з вуголля
Пястаў арол. І напеў.

*УЛАДЗІМІР ЛУЧУК*
*(1934)*

## КОНІК ЗА ПАЗУХАЙ

— Мне залез за пазуху конік,
вымі...
Акунула вочы ў нябёсы.
Вочы — весняй травы адценні.
Зялёныя вочы — на здраду.
Не бойся
павер'я людское цемры.
Павер'е прымну тваімі плячамі
і вернасць з прадоння зялёнага п'ю.
Конік казычацца — пацярплю,
не клянуся кахаць цябе да адчаю...
— Не люблю цябе, як не любіць вечнасці вокамгненне,
як не любіць брахун, калі спіць, маны,
як не любіць хворы пілюлю збавення,
як не любіць забрында шараваць саганы.

*МАРЭК ВАЎЖКЕВІЧ*
*(1937)*

## ДОЖДЖ

Бачыш, дачушка? Дождж. Бярозы сцякаюць,
вавёрцы ў дупле мокне хвосцік руды.
Выйдзем у дождж. А цябе зацікавіць:
чаго так спяшаецца дождж і куды?..

Сорам. Дакладна не ведаю. Толькі ўяўляю
пра абуджэнне сонца пасля навальнічнай ночы,
пра буйную зелень вясновага гаю,
як росныя кветкі расплюшчваюць вочы.

Шчаслівае птаства купаецца ў лісці,
густая трава — не прайсці да крыніцы.
А помніш, як сена пахла калісьці,
такое духмянае па навальніцы?

Таму і пытанняў сур'ёзных не трэба.
Не бяда, калі часам расплачацца неба.
Бачыш: дождждык ідзе і на нашыя пальцы,
што спляліся, як толькі мы выйшлі на шпацыр.

## АНЭЛЯ ТУЛУПАВА

**(1938, в. Капань Рэчыцкага р-на — 2001, Менск)**

Дачка настаўніка. За жыццё змяніла некалькі прафесій: працавала лекарам, дыктарам на абласным тэлебачанні, інструктарам райкама камсамола, загадчыкам рэпертуарнага аддзела Белдзяржфілармоніі, рэдактарам у «Вожыку». Прыканцы жыцця прыняла таемны пострыг у праваслаўным манастыры пад імем Неаніла. Пісала вершы, казкі для дзяцей. Як перакладчыца (з грузінскай) дэбютавала позна, будучы аўтаркай чатырох уласных кніжак, але ўдала — узоры змешчаныя ў гэтай кнізе. Сярод перакладзеных Тулупавай паэтаў — прыдворны ашуг (Саят-Нова), Герой сацыялістычнай працы (Э. Межэлайціс) і нават прэзідэнт Анголы (А. Нэта). У апошнім прыжыццёвым зборніку Тулупавай «Я чакаю цябе» (1993) чытач знойдзе цэлы раздзел вольных перакладаў з кітайскай паэткі Лі Цынджао.

*ЛІ ЦЫНДЖАО*
*(1084 — 1151?)*

* * *

Хоць немач адступілася, але
Пакінула мне метку — сівізну
Пад колер месяца. Мы з ім сябры,
Люблю ягоны позірк залаты...
Ён не мігне — цяпельца паліць зноў,
Зямлі адагравае галізну.
Я грэю чай з мускатнага арэха,
Каб не астыў.

Другі мой верны сябра — вершаў том,
У галавах заўсёды ён ляжыць.
Мы з ім паразумеліся даўно.
Вазьму яго, раскрыю наўздагад,
Каб з далечы вярнуўся да мяне
Малюнак гор у ростані сцяжын,
Вечназялёны куст мусіхуа,
І верны мой адзіны сябра —
Сад.

*САЯТ-НОВА*
*(1722–1801)*

### МІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ

Між смерцю і жыццём — высокая гара — і гэта праўда.
Між мною і табой — сцяна твайго двара — і гэта праўда.
Квітнеюць ружы — самая пара — і гэта праўда.
Зайздросціць ружам ясная зара — і гэта праўда.
Паўсвета абышоў — дзівос пабачыў шмат — і гэта праўда.

Крануў я ружу ці ажынавую гольку?
Руку ўкалоў ці ў сэрца маё трапіла іголка?
На промень веснавы дыхнула восень золка.
Ад пекнаты тваёй аслеп я, о мая саколка.
Я без цябе — між небам і зямлёй — і гэта праўда.

Навошта сокалу аблезлая лісіца?
Шукай таго, хто джала не баіцца,
А на маіх грудзях змяёй табе не звіцца...
Табе шчэ строма не адна скарыцца!
Я скамянеў, мілей ад ружы камень мне — і гэта праўда.

Кранеш мяне — рассыплюся пяском.
Дзьму на ваду — апёкся малаком.
Валяюся разбітым я збанком.
Навошта я табе? Вярні мне мой спакой.
Я стаў тваім рабом, Гурген-хана, — і гэта праўда.

*ГАННА КАЛАНДАДЗЭ*
*(1924)*

## У ПІТАРЭЦІ

У гэтым старажытным храме вераб'і жывуць,
І штовечар бачаць яны тайную вячэру.
І калі выносіць херувім сваё кадзіла —
Не глядзяць. Знямела вочкі плюшчаць.
Вось прыходзіць з кашальком сярэбранікаў Юда
І за стол садзіцца — раб зямнога праху.
Замаўкаюць, заціхаюць, заміраюць птахі,
Сэрцы верабейкаў разрываюцца ад страху.

У гэтым старажытным храме вераб'і жывуць,
І штовечар бачаць яны тайную вячэру.

## ТУТА

Вось-вось уварвецца дрэва ў мой дом,
Не церпіцца зорнавяршыннаму.
У шыбіне я, нібы пад ільдом,
І тута высаджвае шыбіну.
Не паспяваю шкельцы прыбраць...
— Пішаце ўсё? Пра мяне напішы́це.
О, што яна шэпча! Вушы гараць,
Я ў полымі ўся. Не патушыце.

*АРМАНДС МЭЛНАКСНІС*
*(1943)*

* * *

Клеткі нервовыя гінуць штодня,
Ад хатніх — папрокі і кпіны.
Зерне — на пуд мякіны...
Ні рук, ні вачэй да сонца не ўзняць.

Доўга канаць, не дай бог.
    У — агонь!
Аловак між пальцаў, як кукіш...

Чэрствы паэзіі хлеб, ды яго
За грошы ў краме не купіш.

* * *

Я ў лес хачу. Расці буду ўгару
Ясенем ці чорнай вольхаю.
Хай пад карэннямі капае звер нару,
А над чупрынаю хай птушкі вохкаюць.

Няхай бы хмара на мяне плыла,
Маланкаю бліскучай перамерала...
Ды страшна — сэрца выскачыць з дупла,
Як прыйдуць забіваць мяне сякераю.

Мая душа — мой несмяротны птах —
На пень зляціць і крыкне па-сарочаму,
Зямною мовай будзе лес вітаць
І... дзень, што ўсмешкай сонечнай залочаны.

## УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН

**(1939, Віцебск)**

У чатырохгадовым узросце разам з маці трапіў у нямецкі лагер остарбайтараў, адкуль удалося вызваліцца толькі ў 1945-м. Закончыў Рыжскую вышэйшую інжынерна-авіяцыйную вучэльню (1960), працаваў на Менскай авіяцыйна-тэхнічнай базе, ачольваў аварыйна-выратавальную службу Беларускай управы грамадзянскай авіяцыі. Аўтар шасці паэтычных зборнікаў і выбранага «Лосвіда» (1993). «Ад Скарыны да Скарынкіна» — па-зямляцку зладзіў паверку паэтам Віцебшчыны А. Вялюгін. Як і бакалаўра навук вызваленых, што пераклаў Біблію, колішняга авіяцыйнага інжынера таксама пацягнула да кнігі велічнай — «Боскай камедыі» Дантэ. Паводле прызнання самога перакладчыка, італьянскай мовы ён не ведаў, але карыстаўся невядомым празаічным пераказам, адшуканым у адной з бібліятэк. І, зразумела, меў пад рукой пераклады на даступных яму мовах. «Comedia divina» па-беларуску выйшла ў 1998 г. у серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» і мела надзвычайны поспех. Наклад разышоўся імгненна, крытыкі бачылі толькі вартасці, перакладчык атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі і Нацыянальную прэмію Італіі. Падахвочаны поспехам, Скарынкін засеў за паэмы Дж. Г. Байрана, выдаў іх у той самай серыі і суправадзіў «Заключнай песняй перакладчыка»: «Каб мой народ пра Бога не забыў, / Я прапаведнікамі нашай веры / У меру таленту свайго зрабіў / І праведніка Дантэ Аліг'еры, / І Байрана, што вольніцу любіў, / І радуюся гэтаму без меры. / Што б ні казалі, а цяпер яны / Таксама Бога нашага сыны». Не дзіўна, што на аснаведзі такой сапраўды маштабнай працы выглядаюць менш заўважнымі іншыя дасягненні Скарынкіна-перакладчыка — кнігі «Расейскі агеньчык» М. Рубцова (1986) і «Украінскі прэлюд» М. Вінграноўскага (1999). На стадыі падрыхтоўкі гэтай анталогіі перад складальнікам паўстала праблема, як увідочніць для беларускага чытача гэткую з'яву, як малдаўская паэзія. Аднаго Г. Віеру (паэта, бяссрэчна, выдатнага) было яўна недастаткова. А сціплы зборнік «Паэты сонечнай Малдовы», падрыхтаваны ў 1960 г. М. Хведаровічам, па-першае, за сорак гадоў безнадзейна састарэў, па-другое, катэгарычна не задавальняў мяне мастацкімі якасцямі перакладаў. Выратаванне прыйшло нечакана і вельмі своечасова — у выглядзе двухтомавай «Анталогіі малдаўскай паэзіі» (2003), складзенай У. Скарынкіным і Г. Мазілу і выдадзенай у Кішынёве. Яе змест наўрад ці мог дагадзіць самым патрабавальным густам, але неабходную колькасць «галасоў з-за малдаўскага небакраю» забяспечваў. З астатніх апублікаваных перакладаў Скарынкіна не выпадае не назваць вершы Б. Чычыбабіна — паэта дзівоснага, апальнага ў Савецкай, ды і ў сённяшняй, Расеі. Але ад апальнага да эпахальнага — адзін крок.

*ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ*
*(1265–1321)*

## БОСКАЯ КАМЕДЫЯ
*Фрагмент*

### ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Мой сон глыбокі перарваў раптоўна
Жахлівы гром, і падхапіўся я,
Як чалавек, разбуджаны гвалтоўна.

Дрымота ўраз рассеялася ўся,
І азірацца стаў я недаўменна,
Нібы ў быццё вярнуўся з небыцця.

І быў адразу здзіўлены страшэнна:
На беразе другім ракі пакут
З паэтам апынуўся я імгненна.

Знаходзіцца ўваход у Пекла тут.
Вільготнае, сляпое — пад смугою
Яно хавае рвы свае і бруд.

«У свет, спавіты цемраддзю густою, —
Сказаў збялелы, быццам смерць, паэт, —
Мы спусцімся. Ступай услед за мною».

«Як можна за табой спускацца ўслед, —
Ускрыкнуў я, — калі цябе самога
Палохае дарога ў змрочны свет?»

«Мяне не страшыць, — ён сказаў, — нічога.
Адлюстраваўся ад майго чала
Боль тых, што прорвай пакараны строга.

Хадзем хутчэй!» І сцежка прывяла
Нас у шматлюдны самы і вялікі —
У першы круг падземнага жытла.

Не стогны гучныя, не лямант дзікі —
Спрадвечнае паветра трэслі ў ім
Глыбокія пакутлівыя ўздыхі.

Былі яны народжаны зусім
Не мукамі нябожчыкаў — журбою
Па ісціне, што не вядома ім.

«Табе няўцям, — загаварыў са мною
Мой добры праваднік, — што за народ
Паўстаў у гэты час перад табою.

Не грэшны ён. Жывуць, наадварот,
У Лімбе гараджане і сяляне,
Людзям не шкадаваўшыя шчадрот.

На жаль, былі яны не хрысціяне,
Таму што за Хрыста жылі раней.
За гэты грэх цяжкое пакаранне

Спасцігла добрых, праведных людзей —
Загінуць і на вечную пяшчоту
Вышэйшай Волі не ўскладаць надзей».

Адчуў я засмучэнне і гаркоту,
Калі паэт паведаміў, каго
Бог асудзіў на гэткую гідоту.

«Настаўнік! Назаві хоць аднаго,
Хто пакарання страшнага пазбыўся
Турботамі апекуна свайго,

Які за падапечнага ўступіўся,
Ці ў сілу ўласнай славы і заслуг
Усё ж нябесным жыхаром зрабіўся.

Дапамажы, настаўнік мой і друг,
Мне канчаткова сцвердзіцца ў намеры
Умацаваць свой хрысціянскі дух».

«Калі сышоў ужо я ў морак шэры, —
Сказаў паэт, — сцяг пераможны свой
Унёс у бездань Заснавальнік Веры.

Узяў Адама Валадар з сабой
І Авеля, што сынам быў Адама.
Уратаваны разам з імі Ной.

Узяў Гасподзь з сабою Аўраама
І Якава сям'ю. Рахіль узяў.
Майсея і Давіда ўзяў таксама».

Імёнаў шмат паэт яшчэ назваў.
«Да гэтага ж ніякіх дараванняў
Тут не атрымліваў ніхто», — сказаў.

Такім пачатак нашых вандраванняў
Запомніў я. Праз момант азарыў
Перада мной прамень кагорту зданяў.

Зрабіўшы крокаў некалькі, адкрыў
Я для сябе, што аддаюць пашаны
Ім больш за іншых, — і загаварыў:

«О слаўны творца! Геній апантаны!
Скажы: кім людзі гэтыя былі?
Чаму ўшаноўваюцца як тытаны?»

«Яны прыхільнасць неба набылі, —
Сказаў Вергілій, — дзякуючы славе,
Якую заслужылі на зямлі».

Пачуўся нечы голас неўзабаве:
«Вітанне слаўнаму паэту! Нам
Твой цень прыемна бачыць зноў наяве».

Як толькі ўлёгся прывітальны гам,
Да нас адразу падышлі чацвёра.
Святло не замінала іх вачам.

Дазнаўся ад настаўніка я скора,
Што кожны з іх і сапраўды тытан,
Што кожны з іх — паэзіі апора.

Гамер з мячом свой узначальваў клан,
Услед за ім ішоў да нас Гарацый,
Авідзій — трэці, а за ім — Лукан.

«Я з імі звязаны агульнай працай
І рад, што іхняй славы арэол
Мяне сагрэў, хоць не люблю авацый», —

Сказаў Вергілій. З паэтычных школ
Найлепшую — вялікага сляпога,
Які над намі кружыць, як арол, —

Убачыў я. І песняра жывога
Ўсе прывіталі, а сляпы аэд
Нагаварыў мне шмат чаго такога,

Што ўраз падняўся мой аўтарытэт
Як вершатворца. Рады быў Вергілій,
Што я прызнаны імі як паэт.

Ішлі шасцёра мы і гаварылі,
Ды мне сягоння хочацца ўтаіць,
Што песняпеўцы мне тады адкрылі.

І ўбачыў я: перада мной стаіць
За сценамі сямю прыгожы замак,
Вакол яго жывы ручай бруіць.

Паэты не змянілі свой напрамак —
Па хвалях, а затым праз сем варот
Прайшлі на луг зялёны. Я таксама.

Паважны, строгі, велічны народ
Сур'ёзныя размовы вёў на лузе.
Навек запомніў я свой узыход

У нечакана створаным саюзе
На тую светлую гару, з якой
Відны былі ўсе грэшнікі ў акрузе.

Людзей вялікіх здані прад сабой
Убачыў я тады. Карціна гэта
Дагэтуль узбуджае розум мой.

Былі ў гурме славутая Электра,
Эней — зярнятка з рымскага стала,
Крывавы Цэзар, непахісны Гектар.

Каміла ваяўнічая была,
Пенфесілея і дачка Лаціна.
Лацін стаяў і консул Брут. Звяла

Смерць цэзароўну з жонкай Калаціна,
А Марцыю — з матуляй Гракхаў двух.
Убачыў я паводдаль Саладзіна,

Вядомых мудрацоў, якія ў круг,
Даволі цесны, узялі на схіле
Свайго настаўніка магутны дух.

Сакрат з Платонам разам гаварылі
Штось Арыстоцелю, а Дэмакрыт
З Фалесам фіміям яму курылі.

Анаксагор там быў і Геракліт,
Быў Эмпедокл і Дыяген з Зянонам,
Быў і збіральнік траў Дыяскарыд.

Яшчэ былі Сенека з Цыцэронам,
Музыкі слаўныя Лін і Арфей,
Быў Лівій Ціт, што кіраваў Неронам.

Быў геаметр Еўклід і Пталемей.
Быў Гіпакрат з Галенам, Авіцэнна,
Мудрэц Авераэс, аднак людзей,

Што там знаходзіліся, несумненна,
Апісваць зараз я не буду ўсіх.
Пра геніяў расказваць нельга дрэнна.

Распаўся наш саюз — і мы ўдваіх
З душой таго, хто мне спакой даруе,
Спускацца сталі ў прыцемках густых

Туды, дзе цемра вечная царуе.

*ДЖОРДЖ ГОРДАН БАЙРАН*
*(1788—1824)*

**ПРАРОЦТВА ДАНТЭ**
*Фрагмент*

Сярод міжзорнай векавой смугі
Злых дзеянняў крывавяцца пісьмёны,
Трапечуцца, як райскія сцягі.

Італія! Ты — раны і праклёны
Пакутнай нацыі. І стогн яе
Я чую праз анёльскі спеў натхнёны.

Туды, дзе Ўсемагутны існуе,
Ты ўзнімешся — і арфаю Эола
Народ спакутаваны запяе,

Дзе палымнее серафімаў кола.
Да слёз расчуліць гэты стогн-праклён
Гаспадара свяшчэннага прастола.

Праз вечнасць з тла тваіх нялепшых дзён
Мяне, твайго пакорлівага сына,
Да сэнсу і пакут узніме Ён.

І зведаюць мае душа і спіна
Здзек славалюбца, самадура гнеў
І подых бур. Прабач, мая краіна,

Якой пяю на ліры, як і пеў,
І прысвячаю Божы дар празорцы,
Што над табою мой агонь датлеў.

Твой позірк на тваёй ґаротнай зорцы
Я прыпыню — і знікну назаўжды,
Бо пераджыць не зможа сэрца творцы —

І гэта гонар! — будучай бяды.
Але раней, чым чорных дум узоры
Зноў ткаць пачну, дазволь зірнуць туды,

Дзе ў цемрадзі тваёй заззялі зоры
(На жаль, з іх яркіх некалькі ўсяго)
І бліскаюць (іх безліч) метэоры;

Дзе духі з праху вечнага твайго
Паўсталі ўжо, і помнік Прыгажосці
(Ты, веру, заслугоўваеш яго)

З пашанай шчырай аглядаюць госці.
Тваёй зямлі яшчэ спрыяе лёс
Раджаць сыноў адвагі, весялосці,

Паэзіі і шчодрасці — да слёз
Такіх жа родных для цябе, як родным
Бывае лета для тваіх нябёс.

Іх не спалохаць перашкодам водным,
Імёны іх жывуць у назвах зор,
Але не ўдасца ім, высакародным,

Вярнуць зноў дыядэму — царскі ўбор,
З цябе сарваны варварскай басотай.
Ён увянчае — лёсу насупор —

Ізноў цябе і блісне пазалотай,
Як будзе вернуты табе табой
У час цяжкі народжанай істотай.

Напоўнены жыццёвы ранак твой
Зноў будзе сонечнымі прамянямі —
Не параю з Авернуса, якой

Халопы дыхаюць, перад панамі
Пакорна поўзаючы і ў турме
Зняволіўшы свой розум. Галасамі,

Якія глухлі ў векавой імгле,
Ізноў зямля абудзіцца. Паэты
Шлях, што пракладваць давялося мне,

Пашыраць — і пачуе іх тэрцэты
Пра волю і каханне небасхіл,
Які натхнёна птушкамі апеты.

На жаль, не ўсім паэтам хопіць сіл
Узняцца ўвысь і позіркам арлiным
Зірнуць на сонца з-пад арліных крыл,

Як гэта робіцца царом птушыным.
Ім суджана каля зямлі лятаць
І праслаўляць царкоў ганебным чынам.

Ды выдадуць паэтаў, што прадаць
Сябе імкнуцца, быццам прастытуткі,
Якім на ўласны гонар напляваць,

Язык фальшывы і хрыбетнік гнуткі.
Паэт, што госцем завітае ў дом
Тырана, — раб. І зробяцца праз суткі

Яго ўсе думкі скрадзеным дабром,
Душа, у клетку злоўленая катам,
Аблытаецца цяжкім ланцугом,

А дух паэта зробіцца кастратам.
Так дагаджае бард, якога трон
Да рук прыбраў, гаспадарам багатым.

Ніякіх думак не знаходзіць ён,
Якія б сталі песнямі, бо барду
Дбаць пра адно даводзіцца здавён:

Як задаволіць царскую пагарду?
Пакорліва ён цягне свой хамут
І праявіць свайго не можа гарту.

Баіцца ён, што не знясуць пакут
І, як анёлы — Богу, злой істоце
У мозгу ўчыняць думкі самасуд.

Жыхар Афін з каменьчыкамі ў роце
Так выступаў, што цяжка зразумець
Было яго і старцам, і блазноце.

Ды родзіцца паэт, што будзе пець
Табе не так, як гэтыя паэты.
Ён, роўны мне, пашану будзе мець

Сярод паэтаў, пішучых санеты,
І назавуць яны яго царом.
Засмучаны любоўю, геній гэты

Яе галоўным стане песняром.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адзін такі паэт ёсць у Элады.
Але, на жаль, займець вянец двайны
Перашкаджаюць ёй алімпіяды.

Няўжо такія людзі, як яны,
Іх думкі, што сягалі ўдалеч смела,
Іх кроў надзіва хуткая, іх сны,

Іх мары, што ў прытомленае цела
Душу ўсяляюць, варты, каб суздром
З іх апярэнне яркае зляцела,

Калі завые грозна буралом?
Са шляху збітыя зямною смутай.
Яны, як птушкі райскія, ў свой дом

Вярнуцца прагнуць. Робіцца атрутай
Для іх адчай. Страсцей крывавых раць
Чакае, каб затым са злосцю лютай

Накінуцца на іх і разадраць.
Калі не змогуць да нябёс бязмежных
Іх стомленыя крылы падымаць —

Час наступае крумкачоў драпежных.
Не надта многа знойдзецца такіх,
Ад злосных бур і ўлады не залежных,

Што ў бедах і ў абставінах любых
Спакой і ўласны гонар зберагалі.
Я, спадзяюся, буду ў ліку іх!

Хоць веліч з пыхай іх не прызнавалі,
Яны на даляглядзе праз туман
Альпійскімі вяршынямі блішчалі.

Яны бліжэй да неба, чым вулкан,
Хоць часам і прапальвае аблокі
Агонь, што вывяргае велікан.

Ноч толькі ззяе той агонь высокі
Па-над вяршыняй жудаснай гары,
А потым зноў пускаецца наўцёкі

У пекла, што жыве ў яе ўнутры.

*ДЖОРДЖЭ МЕНЮК*
*(1918—1987)*

## УСПАМІН ПРА ДЗЯЦІНСТВА

Полымем сінім дзяцінства ізноў асвятляе раўніны,
Зноўку запальвае вокны ціхая настальгія.
Як у цясніне, цясняцца ў сэрцы маім успаміны,
І напаўняюць душу шэпты і цені даўгія.

Зноў ажыўляе сцежкі
Ножак дзіцячых бег.
Бачу, нібы ў тумане, спелыя гронкі і ўсмешкі,
Чую, нібы з-пад зямлі, крыкі і звонкі смех.

Дзе вы, мае бацькі?
Сядзьце на дол гарачы.
Гутарыць з вамі будзе сын ваш негаваркі,
Дай жа, Гасподзь, яму шчасця крыху і ўдачы.

...Вецер, маё дзяцінства прынось да мяне на клады,
Быццам каханку, нясі, цалуючы безупынку.
Мо ля мяне, як атара авечак, тады
Ціха яно пастаіць хоць хвілінку.

*БАРЫС ЧЫЧЫБАБІН*
*(1923–1994)*

**ПРАКЛЁН ПЯТРУ**

Я не люблю цара Пятра.
Будзь, імператар Пётр, пракляты!
За боль сучасны перагляды
рабіць мінуламу пара.

Праклён табе, цар-супастат,
крывавы цесля саардамскі,
знішчальнік вер, дагоднік дамскі,
самоты пеўчай грозны кат.

Галіў бароды? Шыі сек!
Праклён табе, хрыстазабойца.
Ты жлукціў прагна, як прапойца,
людскую кроў увесь свой век.

А Русь пайшла з чала зямлі
ў таемнастаўленыя зрубы,
дзе ворагі і душагубы
яе пакрыўдзіць не маглі.

Праклён табе, вой сатаны,
трунар з натураю нясвецкай,
што ад бязглуздзіцы стралецкай
клаў у нямецкія штаны.

Праклён шукальніку прыгод,
што спуску не даваў нікому!
Я клопату служу другому,
а ты мне затыкаеш рот.

Праклён таму, хто Русь пракляў,
пракляў народ сваёй Элады!
І ведай, кат, я быў бы рады,
каб ты мне галаву адцяў.

*МІКОЛА ВІНГРАНОЎСКІ*
*(1936–2004)*

* * *

Я схаваў бы цябе за каня ці магілу,
Ды магіле й каню дзе схавацца самім?
Я схаваў бы цябе за дняпроўскую спіну,
Ды самому Дняпру дзе схавацца, за кім?

Не схаваю нідзе я цябе, як нікога.
Мо за сэрцам схаваць, што гудзе і гудзе?

Я схаваў бы цябе ў небе чорным у бога,
Толькі бог і нябёсы схаваюцца дзе?

* * *

Сеньярыта акацыя, добры вечар.
Я забыў, што забыў быў вас.
Але восень зайшла па плечы,
Восень, вы і асенні час,
Калі стала любіць больш цяжка
І любіць больш салодка зноў...
Сеньярыта, калючае шчасце,
Хто такая яна — любоў?
А здавалася б — адбалела.
І пажарам не шугане.
Так стаптала душу і цела,
Што, здавалася, хопіць мне.
Той ружовы туман адклубіўся,
Адхісталіся кладкі ўсе,
Я, нарэшце, перахрысціўся
І суцешыўся пакрысе.
А калі, як раней, — добры вечар...
Вы адкуль мой пажар? Здаля?..
Сеньярыта, агонь па плечы —
Восень, вы і асенні я...

*МІКАЛАЙ РУБЦОЎ*
*(1936—1971)*

## ПАЛЯЦЕЛА ЛІСЦЕ

Восеньскі халодны ветрадуй
З дрэў сагнаў пажоўклую лістоту.
Не шкадуй ты лісце, не шкадуй,
Лепей пашкадуй маю пяшчоту!

Хай таполі голыя стаяць,
Ты не паддавайся скрусе шчырай!
І нікога ў тым не вінаваць,
Што лістота паляцела ў вырай.

## У СВЯТЛІЦЫ

Поўніцца жытло святлом.
Гэта ад вячэрніх зор.
Матухна ідзе з вядром
Моўчкі па ваду праз двор.

Больш не палымнець зарой
Кветкам у садку маім.
Лодка пад вярбой старой
Скора дагніе зусім.

Дрэмле на маёй сцяне
Кроны кучаравай цень.
Заўтра ля вярбы ў мяне
Будзе клапатлівы дзень!

Кветкі я палью ў журбе,
Сцішаны — вазьму тапор.
Лодку майстраваць сабе
Буду да вячэрніх зор.

## ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ

**(1939, в. Купленка Крупскага р-на)**

Журналіст па прафесіі. Аўтар пятнаццаці кніг вершаў і нарысаў. З 1979 г. працуе на Беларускім радыё, на Чырвонай, 4, адкуль паэты, як Папа Рымскі, чытаюць свае творы urbi et orbi. Хутка ўсе чытачы стануць слухачамі, бо варштат Скарыны паэзію размнажае ўсё радзей і радзей.

*ТАДЭВУШ ХРУСЦЯЛЕЎСКІ*
*(1920)*

### ВЯСНОЙ

Быццам кашулю нацельную,
Скінула снег зямля.
Пад туманом прапацелая
Дыхае ралля.

З гэткім чорным, грыфельным голлем,
Як леташняе вуголле,
Ліпы ў галавах
Чакаюць,
　　каб дол травою запах.

А ноччу душнай слухаю,
Як дыхаюць цяжка ў мяне над вухам
Сырыя, нібыта з лазні, лясы,
Да пахі схаваўшыся ў верасы.

А раніцаю вяснянка,
Калі ударыць гром,
Загляне светлаю маланкай
У кожны дом.

## ЗНІЧ

**(1939, Менск)**

Сапраўднае імя-прозвішча — Алег Бембель; з 1996 г. жыве ў Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыры пад імем Мікалай. Самая знакамітая кніга Алега — «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (Лондан, 1985), за якую аўтар быў звольнены з працы і выключаны з Камуністычнай партыі. А перад гэтым у нью-ёркскай газеце «Беларус» былі надрукаваныя паўтара дзесятка вершаў Бембеля, на той час — аспіранта акадэмічнага Інстытута філасофіі і права. Наўрад ці яму мроіліся лаўры літаратурнага дысідэнта, але на радзіме апублікаваць, скажам, гэткае чатырохрадкоўе, было папросту немагчыма: «Раскрыжаванне кат завершыў, / аблашчыў кужаль кроў жыцця... / Так, плашчаніца — гэта першы / мой бел-чырвона-белы сцяг!..». Чатыры паэтычныя кнігі Зніча выйшлі пачаргова ў Нью-Ёрку, Беластоку, Менску і Слоніме; здаецца, у нью-ёркскай («Рэха малітвы», 1988) напаткаўся мне знаёмы верш: «Маўчаць труніцы, муміі і косці...». «Вядома ж, гэта Бунін, — адразу пагадзіўся са мной брат Мікалай, — вёрсткі я ж не бачыў, а ў рукапісе верш быў пазначаны як пераклад». Мушу супакоіць чытачоў анталогіі: усе змешчаныя тут пераклады, часам вельмі адвольныя, атрыманыя наўпрост з Жыровічаў за ўласнаручным подпісам брата Мікалая.

*АЛЯКСАНДР ПУШКІН*
*(1799—1837)*

* * *

Ты сатварыла узрушэнне...
...і рэхам поўніцца трава —
як лёгкакрылае імгненне,
як геній цноты й хараства...

...Спалілі леты асалоду...
і срэбны бляск пасыпаў скронь...
і я забыў тваю пяшчоту,
твой даўні травеньскі агонь...

У шале змрочнага натхнення
спякоту зменьвалі снягі —
без полымя, без узрушэння,
без хвалявання і тугі...

Але... — ажылі летуценні:
ізноў у яве ўстала ты —
як нечаканае натхненне,
як хваля йскрыстай пекнаты...

Ў душы заззяла абуджэнне,
і ува мне рунеюць зноў
і адкрыццё, і узрушэнне,
і слодыч слёзаў,
і Любоў...

*ФЁДАР ЦЮТЧАЎ*
*(1803—1873)*

## НАШ ВЕК

Не плоць, а дух разбэшчаны цяпер.
Адчайнадушна чалавек сумуе...
Ірвецца да святла з цвілых пячэр,
А у святле — шалее і бунтуе.
Бязвер'ем спалены, глядзіць у скон,
Нясцерпную нуду штодня выносіць.
І ведае сваю пагібель ён,
І прагне веры — ды яе не просіць...
Не скажа ўвек, з малітвай і слязой,
Каб увайсці ў адчыненыя дзверы:
«Прымі мяне... я веру... я з табой...
О, Божа, ацалі маё нявер'е!..»

*МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ*
*(1814—1841)*

## ПРАРОК

Ад той пары, як я набыў
Вышэйшай воляй дар прарочы,
Старонкі злосці і жуды
Адкрылі мне людскія вочы.
Я нёс усім сваю любоў
І праўды чыстыя вучэнні:
Ў мяне й бліжэйшыя з братоў
Шалёна кідалі каменні.
Пасыпаў попелам чало,
Пайшоў ад іх з кійком жабрачым...
І вось — пустэльнае жытло...
Жыву, як птушка, Божым харчам...
Мне ціха ў вочы зазірне
З даверам кожная істотка,
І зоркі слухаюць мяне,
Мігцяць лагодна і дрыготка...
Калі ж праз тлумы й кірмашы,
Бывае, соваюся ў спешцы,
Гавораць дзецям ад душы
Старыя — ў ветлівай усмешцы:
«Глядзіце: прыклад для ўсіх вас!
Ён ганарлівы, нам варожы:
Дурны, хацеў упэўніць нас,
Што ў ім гаворыць голас Божы!
Не адступае ад свайго...
Жыве пануры і балесны.
І кожны з нас — разумны й чэсны —
З пагардай плюне на Яго!»

* * *

Самотны ветразь небакраем,
Як белы парастак, адплыў...
Што ў далячынях ён шукае?
У родным краі што згубіў?

Вірують хвалі — вые вецер,
Слямга і стогне, і рыпіць...
Не шчасце сочыць ён па свеце
І не ад шчасця ён імчыць!

Каля яго блакіт іскрыцца...
І сонца лашчыцца касой...
А ён гукае навальніцу —
Бы ў ёй хаваецца спакой!

*ВІКТАРС АВАТЫНЬШ*
*(1947)*

* * *

твой твар у гэтых лёхах змроку —
нібы ліхтар: не патушы!..
цень, што хістаецца наўзбоку, —
ці не абраз маёй душы?

хто мы з табою тут — дзве долі?
без свету — страцімся ўначы.
наканавана, быццам болю,
мне праз тваё жыццё цячы.

ты шлеш паўсвета мне: ў сутонне
чароды птушак даляцяць...
а птушка, што засне ў далонях,
і ёсць каханне...
    што жадаць

вышэй яго? ад заняпаду
усё ратуецца у ім...
тлен перад вечнасцю — улада,
і скарб набыты — толькі дым.

* * *

Ты — цёплы хлеб, калі выходзіш з хору,
Са слоў выходзіш — востры, быццам соль,
Спяваеш — апынаешся ля зораў,
А голас — незямная столь.

Спявае чалавек — і краты
Руйнуюцца, зіхціць святло ў траве...
Ён сцягвае з рукі пальчатку ката,
Паказвае, што птушка ў ёй жыве.

## ЯН ЧЫКВІН

**(1940, в. Дубічы Царкоўныя Беластоцкай вобл.)**

Нарадзіўся ў БССР — пасля пераможнага маршу ў 1939 г. савецкага войска на захад Беласток стаў абласным цэнтрам, у ім адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі і пачала выходзіць газета «Беластоцкая праўда». Пасля вайны на распараджэнне Сталіна вобласць скасавалі, і беластачане ізноў апынуліся ў складзе Польшчы. Чыквін закончыў расейскае аддзяленне Варшаўскага універсітэта (1964), настаўнічаў у Беластоку. З 1969 г. — выкладчык беластоцкай філіі Варшаўскага універсітэта, якая з цягам часу набыла статус самастойнага універсітэта. Доктар гуманітарных навук, прафесар. Аўтар шасці паэтычных зборнікаў («Іду», «Святая студня», «Светлы міг» і інш.). Склаў анталогію «Беларускія пісьменнікі Польшчы: другая палова XX ст.» (паэзія і проза), выйшла ў Менску ў 2000-м. Шмат гадоў кіруе згуртаваннем беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны «Белавежа», якое выдае сваю бібліятэчку (выйшла каля 30 кніг). Пад № 28 у ёй убачылі свет выбраныя з польскай лірыкі пераклады Чыквіна «Лісце срэбнай таполі» (1999), адкуль і ўзятыя змешчаныя тут вершы.

*ЯРАСЛАЎ ІВАШКЕВІЧ*
*(1894—1980)*

### ДА РАСЕІ

Аб чым я сказаць павінен табе, Расея, ці тое, што
    Пушкін — паэт узлётаў нябесных?
Ці аб тым, што пагардаю сцёбаў мяне Дастаеўскі?

Ці што аддаленая за сцяной ігра мне напамінае
Скляпенне святлістай ночы, здароўе стэпу ды
    Скрабіна дрыжанне?

Ці тое, што па тваім целе калышацца салодкае
    і цяжкае збожжа?
Ці тое, што аддзяляе нас прорва, якой ужо
    нішто не паможа,

Прорва, якая баліць мне і паліць, нібы нажом атрутным
    нанесеная невылечная рана?
Ці сказаць, што я ненавіжу цябе? Ці прызнацца,
    што ты мною каханая?

*СТАНІСЛАЎ ЧЭРНІК*
*(1899—1969)*

### ПАРАБАЛА

Спынілася скаціна ля касцёла.
Рыканнем просіць пастуха:
Вароты адчыні нам,
Не хочам быць за брамай,
Адгароджаныя цяжкімі дзвярыма
Ад прасвітэрыі і алтара.
Хочам быць са святасцю таксама.

Злучаныя з касцёлам гэтым,
Хрышчоныя, мірапамазаныя,
Кананізаваныя, багаслаўлёныя,
Як егіпецкія быкі святыя,
Як святыя індускія каровы.
Адчыні нам брамы.
Не адступім ад свайго намеру.
Будзем рыкаць гучна й набожна,
Покуль нам сам дух божы
Насцеж не адчыніць дзверы.

*ТАДЭВУШ РУЖЭВІЧ*
*(1921)*

## АД НЕЙКАГА ЧАСУ

Ад некалькіх гадоў
працэс абмірання паэзіі
стаўся паскораным

я заўважыў
што новыя вершы
апублікаваныя ў тыднёвіках
пачынаюць распадацца
на працягу двух-трох гадзін

памерлыя паэты
адыходзяць шпарчэй
жывыя
выкідаюць з сябе
у спеху
новыя кніжкі
як бы хацелі заткнуць папераю
дзірку

*ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА*
*(1923)*

## АЎТАТАМІЯ

*Памяці Галіны Пасвятоўскай*

У небяспецы галатурыя дзеліцца надвое:
адну сябе аддае на зжыранне свету,
другой сабою ж уцякае.

Раптоўна дзеліцца на страту і ратунак,
на пакаранне і ўзнагароду, на што было і што будзе.

У палове цела галатурыі ствараецца прорва
з двума імгненна чужымі берагамі.

На адным беразе смерць, на другім жыццё.
Бераг роспачы, бераг надзеі.

Калі б была вага, шалі не хіснуліся б.
Калі справядлівасць ёсць, дык вось яна.

І памірае колькі мус, не перабраўшы меры,
і адрастае колькі трэба з ацалелай рэшты.

Ах, патрапім раздзяляцца, праўда, мы таксама.
Але ж на цела толькі і пошапт абарваны.
На цела і паэзію.

На адным беразе — горла, на другім — усмешка,
лёгкая, хуткапрамінальная.

Тут — цяжкае сэрца, там — non omnis moriar,
толькі тры слоўцы, як тры невагомыя пёркі.

І не разрывае нас прорва.
Прорва нас акружае.

*ТАДЭВУШ НОВАК*
*(1930—1991)*

## ПСАЛОМ ПРА НОЖ У СПІНЕ

Сяджу перад сабою ноччу
я ў цыліндры я босы
а там з вёскі з вяселля
мяне з нажом у спіне выносяць

Ноччу бягу праз горад
я ў цыліндры я босы
каб сном напаіць бярозы
мне блізкаму нябёсам

Нож у плячах зарубцаваўся
сон працёк у разрэз бярозы
нацырканае ў сад з світання
нам вязу малако ад козаў

Дагары ўва сне ляжым абое
я ў цыліндры я босы
і толькі чуем як ноччу
у спіну глыбей нож уваходзіць
і тры шыбіны ў акенцы
усё гучней лапочуць

*АНДЖЭЙ БУРСА*
*(1932–1957)*

## БОГАЎДЗЯЧНАЯ МАЛІТВА З ЗАСЦЯРОГАЙ

Не зрабіў мяне сляпым
Дзякуй табе за гэта Госпадзі

Не зрабіў мяне гарбатым
Дзякуй табе за гэта Госпадзі

Не даў мне бацькоў п'яніц
Дзякуй табе за гэта Госпадзі

Не надзяліў мяне вадзянкаю
Дзякуй табе за гэта Госпадзі

Не зрабіў мяне заікам, кульгавым, карлікам, эпілептыкам,
гермафрадытам, канём, імхом і нічым іншым з флоры і фаўны
Дзякуй табе за гэта Госпадзі

Аднак чаму зрабіў мяне палякам?

*ЕЖЫ ГАРАСЫМОВІЧ*
*(1933–1999)*

## ЛЕМКАЎСКАЯ ЭЛЕГІЯ

Пуста ў царкве тут толькі сонца і месяц
Ляжаць на падлозе крыжам
Дарогай замест багамолаў сёння мурашкі йдуць да святыні
І ў руках святых вырастаюць кветкі жывыя
Восенню дах царквы на буйным ветры
Пазмагаўся і як каршун падняўся
Цяпер струмені слёз льюцца са святых аблíччаў
Калі пасвеціць бліскавіца

Альбо снег іх накрые
Белым гарнастаем
Альбо чаромхі квецце
Іх прыцярушыць ў маі

І дрэмле лемкаў святы як пугач белы
У залатым дупле іконы

Адзінокі як палец ягоны
Угору прыўзняты смела

*СТАНІСЛАЎ ГРАХОВЯК*
*(1934—1976)*

* * *

У закаханых тое ж памкненне, што ў памерлых,
Трэба ўсяго толькі шэсць дошак,
Такая ж колькасць святла прыцямнелага.

У закаханых тыя ж заслугі, што ў памерлых,
Страхам закрыты пакойчык з каханнем,
Дзецям нельга туды ўваходзіць.

У закаханых — пахмурна-вясёлых — тое ж адзенне,
Не паспеюць зачыніцца дзверы,
Не паспее іх зямля засыпаць,
Ападзе дадолу з целаў найцяжэйшая ліўрэя.

*БОГДАН УРБАНКОЎСКІ*
*(1943)*

* * *

Вось Польшча: загорнуты ў светла-чырвонае полымя
велікан ідзе праз свет крокам лунацiка,
спаміж зубоў смярдзяць рэшткі нейкага веравызнання
і гніюць у мёртвых вачах харугвы сатлелыя.

Польшча туберкулёзная, са знішчаным тварам.
Адзетая сёння ў драты калючыя і касцюм блазна.
Польшча, якую чакалі: гэты Хрыстос народаў,
што нарэшце ўваскрэснуў — але ўваскрэснуў трупам.

Вось Польшча... Хто зможа заступіць ёй дарогу,
пакуль, як сляпы, не згіне ў руінах гісторыі?
Хто пахіліцца над мёртвым, да грудзей прытуліць,
каб увапхнуць, як штылет, жывое сэрца — у мёртвыя грудзі?!

*ЕВА ЛІПСКА*
*(1945)*

**ДА МАРЫЯНЫ БЮТРЫХ**

Амаль год намагаюся
напісаць табе ліст.

Але
саранча маіх думак —
неперакладальная.

Неперакладальныя вартавыя,
што сцерагуць мае словы і граматыку.

Неперакладальныя мае гадзіны
на твае гадзіны.

Чорны бэз за вакном.
Расхрыстаныя брамы. Зжаўцелыя акуркі дня.
Мёртвае вока ў турэмным ваўчку,
пад раніцу а шостай.

Неперакладальны Рыльке
Die blatter fallen, fallen...
Wir alle fallen...

Колькі трэба было б табе сказаць,
але
тунэль наязджае
на мой спознены цягнік.

Чуецца працяглы свіст.

Я змучаная, Марыяна,
выязджаю адпачыць
у бермудскі трохкутнік.

*АДАМ ЗАГАЕЎСКІ*
*(1945)*

## РАСЕЯ ЎВАХОДЗІЦЬ У ПОЛЬШЧУ

*Іосіфу Бродскаму*

Скрозь нівы і межы, лясы і мястэчкі,
суне конная армія, пешыя, цокаюць коні,
едуць гарматы, хлопцы ідуць, ваякі старыя, дзеці,
сыплецца пер'е, бягуць харты худыя,
следам сані, кібіткі, фіякры, пабеды,
плывуць караблі, плыты і пантоны,
лодкі і судны, і душагубкі,
аэрастаты ляцяць, ракеты, бомбаскідальнікі,
снарады марціраў свішчуць модныя арыі,
чуваць енкі лупцоўкі, крутасць загадаў,
песні едуць паветрам, як сталёвыя ноты,
цягнуць юрты, палаткі, напінаюць вяроўкі,
дрыжаць угары ільняныя харугвы.
Бягуць колькі духу нежывыя кур'еры,
ляцяць дэпешы, свечы гараць сцямнелым фіялетам,
п'яныя спяць верхаводы ў нябачных карэтах,
шэпчуць малітвы папы́ вернападданыя,
і месяц таксама ідзе ў жалезным паходзе,
танкі ідуць, корцікі, і едуць шаблі,
свішчуць кацюшы, як імгненныя каметы,
іграюць свістулькі, скураныя бубны,
сцёбаюць пугі, цяжка ўздыхаюць
насцілы паромаў, навалы, ідуць сыны стэпу,
вызнаўцы ісламу, смертнікі, прыхільнікі Байрана,
гульцы, нашчадкі Азіі, кульгае Сувораў,

за ім услужлівы таньчыць прыдворак,
цячэ жоўтая Волга, бурляць рэкі Сібіры,
крочаць вярблюды паволі, у задуменні,
нясуць пяскі пустыні і мокрыя відмы,
касавокія крочаць кіргізы, і чорныя
перамяшчаюцца зрэнкі ідалаў уральскіх,
за імі школы, настаўнікі, паэты і мовы,
як леднікі, сунуцца драўляныя сядзібы,
ідуць нямецкія лекары, кампрэсы, пластыры,
раненыя з тварамі алебастравымі;
палкі ідуць, дывізіі, конныя арміі, пешыя,
Расея ўваходзіць у Польшчу, зрываючы
лісце, стужкі бабінага лета і павуцінне,
сухажылле, дамовы, граніцы,
сяброўства, масты, сувязі, ніці,
вяроўкі з прасохлай бялізнаю,
брамы, злучнікі, бінты, аорты,
будучыню і надзею;
Расея ўваходзіць у вёску над Пеліцай
і ў лясы глыбокія Мазовіі,
зрывае афішы і соймы, дратуе дарогі,
кладкі, і згоды, рэчкі, сцяжыны.
Расея ўваходзіць у век васемнаццаты,
у плач і сумленне, у напругу студэнта
і ў шчаснасць няўвагі муроў разагрэтых,
на лугі поўныя зёлак, у лясныя глухія прасекі,
рэзеду топча, браткі, у вільготным
імху пакідае сляды капытоў, гусеніц, шынаў,
валіць коміны, дрэвы, палацы,
гасіць святло, у парках ангельскіх
кастры раскладае, муціць чыстыя воды,
знішчае касцёлы, ратушы і бібліятэкі,
ускідае пад неба штандары пурпуры,
Расея ўваходзіць у маё існаванне,
Расея ўваходзіць у думкі мае,
у вершы мае ўваходзіць Расея.

## АЛЕНА ТАБОЛІЧ

**(1940, в. Горна Зэльвенскага р-на)**

Закончыла Менскі інстытут замежных моваў, дзе і працуе (з 1968-га) на кафедры тэорыі і практыкі ангельскага маўлення. Стажавалася ва універсітэтах Вялікай Брытаніі і ЗША. Выкладала ангельскую мову ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы (Польшча). Адна з аўтарак «Ангельска-беларуска-расейскага слоўніка» (тры выданні — 1989, 1995, 2004). Працяглы час перакладала ангельскамоўную паэзію, прычым толькі «для сябе», не дбаючы пра публікацыі. Нарэшце, праз доўгія ўгаворы складальніка гэтай анталогіі, у 1999 г. выйшла невялікая кніжка «Срэбны дождж», куды ўвайшлі творы 29 паэтаў у арыгінале і па-беларуску — ад Шэкспіра да Эйдрыяна Хенры; затым — двухмоўны зборнік «Ліхтарык глогу». Апошнім часам практыкуе пераклад з беларускай на ангельскую (Р. Барадулін, А. Разанаў, С. Яновіч).

*УОЛТЭР ДЭ ЛЯ МАР*
*(1873—1956)*

**СРЭБРА**

Ціхутка, марудна, па роснай траве
У *срэбных* пантофлях поўня плыве.
Туды і сюды кіне вокам сваім,
І сад ахінецца ў *срэбраны* дым.
А вокны начныя праз *срэбра* фіранак
Хапаюць прамені, бо хутка ўжо ранак.
Адкінуўшы *срэбныя* лапы набок,
У будцы сабачай ляжыць абібок.
А шызай галубцы найлепшым з убораў
Прыснілася футра са *срэбраных* пёраў.
І мышка начная, што тая паненка —
У *срэбры* пазногці і ў *срэбры* сукенка.
І нерухома ў вадзе прамяністай
Рыбка гарыць луской *серабрыстай*.

*ТОМАС ЭРНЭСТ Х'ЮМ*
*(1883—1917)*

**ВОСЕНЬ**

Восень. Ноч. Прымаразкі.
        Выходжу з дому.
Бачу — чырвоная поўня нахілілася над кустамі,
Быццам чырванатвары фермер.
Не спыняючыся, маўчу, толькі ківаю галавою.
А нада мной журботна ўсміхаюцца зоркі —
Бледнатварыя, не раўнуючы
        як гарадскія дзеці.

*ДЫЛАН ТОМАС*
*(1914—1963)*

* * *

Калі ў кастрычніку пачнецца вецер
І ў валасы запусціць пяцярню,
І сонца — крабам выскачыць з агню,
І крабам цень мой выпаўзе на бераг —
Пад гоманы птушыных галасоў
І крумкат варання на голых дрэвах
Пампуе сэрца хутка кроў па жылах,
Кроў з адных ямбаў, без дамешку слоў.

Я паланёны, ды на далягля дзе
Жаночае сукенкі бачу бель —
Яна чакае з мора карабель,
А дзеці бегаюць па ціхім садзе.

А я цябе ствараю з гулкіх букаў,
І з шолаху дуброў, і з каранёў
Калючых глогаў, і з густых бароў,
Ствараю і з марскіх прыбойных гукаў.

Гадзіннік нагадае бомам строгім,
Што ноч на схіле і пачнецца ранак,
І флюгеру пакажа ён напрамак
Пад вецер, нам пасланы Панам Богам.
Ствараю я цябе з аблок, з лугоў,
І з граю груганя, з чужых грахоў.
Трава-прарок праз покрыва снягоў
Праб'ецца зеленню да сонца зноў.

Калі кастрычніцкі пачнецца вецер,
Ствараю я цябе з узгоркаў і з палёў,
Што ў Валіі павук карункамі аплёў.
Малоціць мора бераг на дасвецці,
А я ствараю з бессардэчных слоў
Цябе. Хоць замірае сэрца й кроў
Цячэ як не свая. Але я зноў
Ля мора, між птушыных галасоў.

*ЭЙДРЫЯН ХЕНРЫ*
*(1932)*

## ПОЗНА ПАД ВЕЧАР

Позна пад вечар
Супермаркет распрадасць усё па тры пенсы.
Позна пад вечар
Дзяцей шчаслівых бацькоў павязуць у прытулак.
Сланы будуць расказваць показкі,
Амерыка абвесціць Расеі мір.
Героі Першай сусветнай прадавацьмуць макі
на вуліцах 11 Лістапада.
Расцвіце першы асенні нарцыс,
А лісце вернецца на дрэвы.

Позна пад вечар
Галубы даганяцьмуць катоў па задворках.
Гітлер загадае ваяваць на пляжах і
пасадачных пляцоўках.
Пад Ліверпуль пракладуць падводны тунель.
Над Вултанам будуць лятаць парсюкі-бамбавозы,
А Нэльсану Бог пашле і вока, і руку.
Белыя будуць змагацца за роўныя правы
перад Чорным Домам,
а Монстар створыць наноў
Франкенштэйна.

Дзеўкі ў бікіні загарацьмуць пад поўняй,
Народныя песні спявацьме просты народ,
Музей будзе зачынены для тых, каму пад 20.
Паэзію ўключаць у топ-дваццатку.
Палітыкаў выберуць у вар'ятні.
Працы хопіць усім, ды ніхто яе не захоча.
Цёмныя алеі будуць хаваць днём пацалункі падлеткаў.
На занядбаных могілках памерлыя
будуць хаваць жывых.
І ты
Скажаш мне, што кахаеш
Позна пад вечар.

*ШЭЙМАС ХІНІ*
*(1939)*

## ЛІХТАРЫК ГЛОГУ

Агеньчык глогу хоць і прыпазніўся,
Гарыць зімою у кустах калючых,
Не вельмі слепяць зрок яго узоры,
Ды заклікае кожнага захоўваць
Уласны свой агмень супраціўлення.

Марозным днём клубіцца пара з вуснаў,
І ён часамі набывае вобраз
Вядомага бадзягі Дыягена,
Што днём з агнём вышукваў чалавека.

І ён з цікавасцю глядзіць на вас,
Падняў на кволым дубчыку ліхтарык.
А ў вас дрыготка ад яго пагляду,
Ад той калючкі, што раптоўна з пальца
Вазьме крыві аналіз, ад экрану,
Што вас наскрозь прасвеціць — і прапусціць!

*ВІКІ ФІВЭР*
*(1943)*

## ПАЛІТО

Часам я хацела
Скінуць цябе,
Як цяжкае паліто.

Часам я казала,
Што ты не даеш мне
Ні рухацца, ні дыхаць.

А цяпер я вольная
Выбіраць лёгкую вопратку
Альбо не выбіраць ніякай.

Я адчуваю холад
І ўвесьчасна думаю,
Як раней было цёпла.

---

## ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ

**(1940, в. Забалацце Камянецкага р-на)**

Пасля школы пайшоў працаваць на Берасцейскі будаўнічы завод. Праз два гады паступіў у тамтэйшы педінстытут, дзе займаўся ў літаб'яднанні У. Калесніка. Год папрацаваў на абласной студыі тэлебачання і перабраўся ў сталіцу. Рэдагаваў кнігі ў выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», вёў аддзел паэзіі ў часопісе «Полымя». Першую кнігу «Паклон» выдаў у 1974-м, тады ж звярнуўся да перакладаў. З цягам часу прызвычаіўся да старажытнаўсходняй класікі, ездзіў ва Узбекістан, адкуль прывёз падрадкоўнікі Наваі і жаданне навучыць паэта-эміра з беларускім народам гутарку весці. І навучыў — у 1993 г. газелі ўзбекскага класіка ў стракатай вокладцы ўжо ляжалі на паліцах кнігарняў. Чытаеш іх і думаеш: дарэмна ўсё ж А. Таркоўскі шкадаваў патрачанага на ўсходнія пераклады часу, бо — ex oriente lux (святло з усходу), і святла гэтага часам бракавала змрачнаватай Еўропе. Адна з апошніх па часе выданняў кніг В. Жуковіча «Каханне радасці й пакуты» амаль напалову складаецца з перакладаў — ад Ф. Петраркі да савецкага туркменскага класіка К. Курбаняпесава. Асобным выданнем (мізэрным накладам 150 асобнікаў) выйшлі і пераклады Жуковіча з «песняра Літвы» — «Мой Міцкевіч».

### *АЛІШЭР НАВАІ*
### *(1441—1501)*

* * *

Сугучныя, заўваж, твая краса з маім каханнем,
Такія блізкія яны, як сонца і світанне.

Воч-іншаверцаў я чакаў — караць паабяцалі,
Ды праз сваю красу забыліся на абяцанне,

Што ёсць апроч тых воч? Адно яны ў маёй самоце!
Здалёку лашчаць — і лягчэй даецца ноч расстання.

А сэрца зраненае, што не паддаецца лекам, —
Ад мары твае вусны піць знаходзіць акрыянне.

У мёдзе тваіх вуснаў я сапраўдны мёд спазнаў бы,
Але на гэты рай зямны не маю спадзявання.

Слабеюць ліўні слёз маіх, бо мой агонь кахання
Ссушыў мяне і ў моры слёз — няма выратавання.

І сэрца збегла прэч... Што вернецца, о, не кажыце!
Вар'яцкаму, яму навошта супакой вяртання?

Імкніся аддаліцца ты ад жорсткіх і няверных,
Як адышлі яны ад вернасці, — гартуй трыванне.

Мне ў грудзі холаду здаўна нанеслі многа людзі.
Дай, Наваі, агню віна, — пачуй маё жаданне.

* * *

Не цюльпанавае поле ўсё квітнее з краю ў край —
Ад маіх гарачых стогнаў загарэўся небакрай.

Агнём твару людзей душы, чуў, прапальвае яна.
Чуў, ды й сам я загарэўся, што рабіць цяпер, парай.

Войска ўсё майго цярпення паліць мілы твар да тла,
Караван згарае гэты, — і цярпі, не наракай.

Мне ў душу ўпіліся стрэлы, любая, — і з той пары
Тлеюць вочы, тлее цела, — ўвесь я — што сухі курай.

Можа, ёсць тут здрада неба, — як віхор, ляціць пажар.
Кіпарысу маёй мроі ты, пажар, не забірай.

О, няўжо адкрыла твар ты, каб народ свой спапяліць
І мяне з усімі разам?! Ты адказ на гэта дай,

Наваі, хай нехта кажа: загарэліся лясы,
Ты не вер, бо я згараю, гэта я ў пакутах, знай.

*МАХТУМКУЛІ*
*(каля 1730 — 1780-я)*

## НА ЧУЖЫНЕ

На радзіме ханам быў,
Людзям я Лукманам* быў,
Маладым баянам быў,
Хлебам і дыханнем быў,
Ласкаю, каханнем быў, —
Бедняком цяпер я стаў.

Свету я вядомы быў,
Зрокам я сляпому быў,
Моваю — нямому быў,
Жабраку я домам быў,
Шчодрасцю я дома быў, —
Бедняком цяпер я стаў.

Я, Фрагі, і храмам быў,
Золатачаканам быў,
Лукам і калчанам быў,
У гарах туманам быў,
Шчасным быў, жаданым быў, —
Дымам я самотным стаў.

---

* Лукман — легендарны лекар Усходу, які нібыта пражыў 4400 гадоў.

## НЕ АДРОЗНЮ

З тых пор, як выпіў я Амура чару,
Ці вечар, а ці ранак — не адрозню.
З тых пор, як мной любімая ўладарыць,
Руінаў я ад храма не адрозню.

Чакаючы спаткання, заміраю,
Мяне агонь пакуты забірае,
Я вугалем, я полымем згараю, —
Балючай самай раны не адрозню.

Жытла ў жытле не ўбачыў я прыкметы,
У полі поле я шукаў без мэты,
І мне адкрыўся нейкі свет без свету,
Дзвярэй — хаця б жаданых — не адрозню.

Я не пазбаўлен прагі чалавечай,
Сябе не помнячы, у кожнай рэчы
Прысутнасць мілай бачу я штовечар —
І ўжо ад кніг Карана не адрозню.

Махтумкулі ў тым доме затрымаўся,
Дзе танцамі свет юны забаўляўся,
І вобраз любай там адлюстраваўся,
Цвярозы я ці п'яны — не адрозню.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## ДВА СЛОВЫ

Як сяджу з табой сам-насам,
Як гляджу табе я ў вочы,
На пытанні няма часу —
Думкі я чытаць ахвочы,
Што ў вачах тваіх адчую,
Слоўкі ўсе схапіць хачу я,
Перш чым з вуснаў іх пачую.
І не трэба мне тлумачыць,
*Што* хачу пачуць, *што* ўбачыць,
Цуд і просты, і няновы,
Любая, — тваё два словы:
Мой каханы, мой каханы!

Іншага не трэба цуду,
Як з табой і ў небе буду,
Толькі выраз найжаданы,
Напісаны ў тваім зроку,
Сто разоў адлюстраваны,
Бачыць я хачу навокал;
Музыкі, апроч згаданай,

Не хачу ад ранкаў дзіўных
Ажно да заходу сонца.
Мой каханы, мой каханы!
Досыць песні мне адзінай,
Ў варыяцыях бясконцай.

*АФАНАСІЙ ФЕТ*
*(1820—1892)*

**НІКОЛІ**

Прачнуўся я. Так, века гэта. — Рукі
Выцягваю й гукаю — хто б памог.
Так, прадсмяротныя я помню мукі.
Так, гэта ўсё наяве, о мой Бог!
Без намаганняў, быццам павуціну
Сатлелую раскінуў дамавіну

І ўстаў. Я ў склепе, дзе дзвярэй няма.
Снег на ўваходзе. Як тут сумнявацца? —
Там, на зямлі, святло зімы. Зіма.
Хутчэй дамоў! Вось будуць там здзіўляцца!
Знаёмы парк, з дарогі нельга збіцца, —
А як паспеў увесь перамяніцца!

Бягу па гурбах. Мёртвы лес тырчыць
Застылым голлем. Знак жыцця, ну, дзе ты?
Каб след хоць альбо гук! Усё маўчыць,
Бы ў царстве смерці казачнага свету.
А вось і дом. Ён у зямлю ўрастае. —
І рукі апусціліся ў адчаі.

Спіць селішча пад коўдрай снегавой:
Ні сцежачкі на стэпавай зямліцы.
Ну, так і ёсць — над дальняю гарой
Пазнаў царкву я з друзлаю званіцай.
Як прывід нейкі, ў пыле снегавым
Яна тырчыць, самотная зусім.

Нідзе ні птаха. Зведаўшы тугу,
Я зразумеў: зямля даўно астыла
І вымерла. Каму ж я берагу
Ў грудзях дыханне? Для каго магіла
Мяне вярнула? І мая свядомасць
Навошта мне?.. Глухая невядомасць.

Куды ісці? Няма каго абняць
Там, дзе ў прасторы час людскі згубіўся.
Смерць, конавы цяжар жыцця прыняць,
Майго жыцця — апошняга! — вярніся.
А ты, застылы труп зямлі, ляці,
Нясі мой труп. Няма куды мне йсці.

*ІВАН ФРАНКО*
*(1856–1916)*

## НА СТАРЫЯ ТЭМЫ

*На рекахъ вавилонскихъ,*
*Тамо седохомъ и плакахомъ.*

На рацэ вавілонскай — і я там сядзеў,
На разбіты арган у адчаі глядзеў.

І з мяне вавілонцы глуміліся там:
«Пра Табор, пра Сіён заспявай штосьці нам!»

«Пра Сіён? Пра Табор? Славы іх больш няма:
На Таборы — пустэльня, ў Сіёне — турма!

Не, вам іншую песню цяпер падару:
Я рабом нарадзіўся, рабом і памру!

Прыніжацца прывык з незапамятных год
І ўсміхацца да тых, што катуюць мой род.

Мой настаўнік быў пёс, што на лапы стае,
Што руку ліжа тую, каторая б'е.

Хоць я ўзрос, нібы кедр, што вянчае Ліван,
А душа ў мяне — быццам паўзучы бур'ян.

Хоць і путаў не меў на руках, на нагах,
Але ў сэрцы нашу ўсё нявольніцкі страх.

Хай бы ў мроях пра волю душа ажыла б,
Ды крывёю я — раб! Ды і мозгам я — раб!

Вавілонскія жонкі! Як можна хутчэй,
На мяне не зірнуўшы, сыходзьце з вачэй,

Каб не ўпала пракляцце маё на ваш плод,
Каб рабом надзяліць не прыйшлося народ!

Вавілонскія дзевы! Мінайце мяне,
Хай мой выгляд спагадлівых вас не кране!

Неба каб не азмрочвала потым журба
Над кляцьбой, над бядой: "Пакахала раба!"»

## ЛЕАНІД ДАЙНЕКА

**(1940, в. Змітроўка Другая Клічаўскага р-на)**

Па адукацыі — журналіст. Працаваў на тэлебачанні, у выдавецтве «Мастацкая літаратура», семнаццаць гадоў быў адказным сакратаром часопіса «Маладосць». З 1963 г. друкаваўся як паэт, аднак праславіўся раманамі на гістарычную тэму: «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды». На пачатку 1990-х сышоў у гарэлачны бізнес, дзе таксама практыкуе творчы падыход: вынайдзены ім напой «Крамбамбуля» карыстаецца попытам у нацыянальна свядомай моладзі. Перакладамі ніколі не захапляўся, але зробленая для малдаўскай анталогіі (2003) балада класіка XIX ст. падышла і нам.

*ГЕОРГЕ АСАКІ*
*(1788–1869)*

### ШТЭФАН ВЯЛІКІ ПЕРАД КРЭПАСЦЮ НЯТЦУ

У асмужанай вякамі крэпасці замшэлай,
Дзе ў нябёсы пазірае толькі камень белы,
Дзе і сёння падарожнік моліцца з паклонам,
Гаспадыня-гераіня валодала тронам.
І змагаўся тады і ратай, і пастух,
Каб Малдовы агонь не патух.

У яе быў сын-асілак, Штэфанам названы.
За шчытом яго Радзіма залячыла раны.
Сорак бітваў выйграў Штэфан, але вось аднойчы
Горкім дымам паражэння асляпіла вочы.
Хоць змагаўся тады і ратай, і пастух,
Каб Малдовы агонь не патух.

Панабеглі ў край зялёны зграі людарэзаў.
І старога, і малога нішчыла жалеза.
І дзяўчаты-прыгажуні песень больш не пелі,
Бо на шыях не маністы — ланцугі звінелі.
Ды змагаўся за волю ратай і пастух,
Каб Малдовы агонь не патух.

Пачарнеў ад гневу Штэфан, скрыгануў зубамі,
Зноў пачаў збіраць ён войска біцца з чужакамі.
Будзе бітва! Грымне бітва! Затрашчыць каменне!
І рашыў прасіць у маці ён багаславення.
Бо ён, як і кожны, ў Малдове сваёй
Быў і сын паслухмяны, і вой.

Ён да крэпасці пад'ехаў, стукнуў у вароты.
Са сцяны гаворыць маці: «Незнаёмец, хто ты?
Калі родны сын мой, ведай матчын вырак строгі —
Ты нікому непатрэбен тут без перамогі».
У Малдове была з пракаветных часін
Як са сталі душа — і ў жанчын.

«Сын, што сталася з табою? Збег ты з поля бою.
Помніш, як перамагаў ты праўдаю святою?
Не чакай, бо не адчыняць сёння гэту браму.
Ці са славай з бою пойдзеш, ці ў магілу прама».
У Малдове была з пракаветных часін
Як са сталі душа — і ў жанчын.

«Меч і шчыт вазьмі з сабою і нагу — у стрэмя.
У крывавай грознай бітве ворага сустрэнеш.
Выганяй з палёў радзімых лютага прыблуду.
А калі загінеш, сын мой, жыць і я не буду».
У Малдове была з пракаветных часін
Як са сталі душа — і ў жанчын.

Паімчаў у бітву Штэфан і мячом ударыў,
Быццам гром звонка-гарачы, што страляе з хмараў.
І ніхто не ведаў страху, і не ведаў жалю.
Мёртвай чорнай саранчою ворагі ляжалі,
Бо змагаўся за волю ратай і пастух,
Каб Малдовы агонь не патух.

## УЛАДЗІМІР МАРХЕЛЬ

**(1940, в. Жыгалкі Стаўбцоўскага р-на)**

Калумб адкрыў Амерыку, Магелан — пратоку паміж Амерыкай і Азіяй, а Мархель — цэлы мацярык беларускай польскамоўнай паэзіі XIX ст. 70 паэтаў налічыў ■ ў складзенай ім (і часткова ім жа перакладзенай) кнізе «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай» (1998). У ёй сярод ужо вядомых Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, А. Плуга — безліч імёнаў, раней нечуваных і незнаёмых нават спецыялістам. У кожным стагоддзі — свая атмасфера, кожная эпоха вымагае сваіх падыходаў ды ацэнак, і мае рацыю У. Мархель, гаворачы: «Беларуская польскамоўная паэзія XIX ст. — гэта паэзія надзвычайнай цеплыні і спагады, цнатлівасці і чысціні, паэзія самаспазнання нашых продкаў, без якое няма гістарычнай гарантыі нашага самаспазнання». Пяру даследчыка належаць таксама навуковыя манаграфіі пра У. Сыракомлю, А. Міцкевіча, ён склаў зборы твораў Я. Лучыны і В. Каратынскага. Сярод перакладзенай Мархелем паэзіі звяртаюць увагу вершы... Я. Купалы (будучы класік пачынаў па-польску, як М. Багдановіч — па-расейску; другога, праўда, перакласці ніхто не даўмеўся). Прычым Мархелеў Купала і ў перакладзе заставаўся самім сабой — перакладчык пастараўся выкарыстаць усю купалаўскую лексіку, якую навыпісваў з першых кніг паэта і якая не ўвайшла ў акадэмічныя слоўнікі. Словам, дзейнічаў у адпаведнасці з уласнай дэкларацыяй: «Перакладчык прыстасоўваецца да арыгінала або пераўвасабляецца ў аўтара — інтэрпрэтатар прыстасоўвае арыгінал да сябе». У выніку атрымаліся нават не пераклады, а вершы, напісаныя пад дыктоўку Купалы... Было б памылкай думаць, што паэтычная муза Мархеля паслухмяна слугуе яму толькі на палетках акадэмічнай навукі. Перакладае даследчык і для душы, у чым можна пераканацца, пагартаўшы ягоную кнігу «Водгулле», з якой і трапілі ў нашу шматмоўную сябрыну наступныя паэты.

*ЯН КАХАНОЎСКІ*
*(1530–1584)*

**ЭЛЕГІЯ VIII**
*Фрагмент*

Як гэта стала: не плюшчацца вочы і сон не прыходзіць,
Мне супачынак цяпер штосьці не мілы зусім,
Сонца лянотным здаецца, а ноч падаўжэла намнога,
Цела завяла маё і адранцвела душа?
Я не хварэю пакуль, не калоціць мяне ліхаманка —
Вецер халодны не дзьме, сонца яшчэ не пячэ.
Гэта — пакуты кахання, а ты, дарагая дзяўчына,
Мабыць, пад зоркаю злой — гэткай прыгожай жывеш.
Я размаўляю з табою, адсутнай, і сню цябе часта,
Днём ты — панылась мая, ноччу — мучэнне маё.
Злітуйся ж ты, заклінаю раскошай пачуццяў Венеры,
Лукам і вострай стралой, што ў Купідона ў руках.
Злітуйся ж ты і не дай, каб мой дух, які створан відочна
Славіць цябе да нябёс, ціха ў сумоце марнеў.
Будзь жа зычлівай са мною; я ж, нібы супернік Арфея,
Гэткія вершы, што й звер іх зразумее, складу.
Колісь Арфей пакарыў і дубы, і халодныя скалы, —
Ці ж тваё сэрца заўжды будзе цвярдзейшым за мур?
Ох, і бяда мне! Бо сённяшнім часам куды ні памкніся,
Музы — ў пашане малой, вершы — ў пагардзе зусім;
Тых жа адно паважаюць і любяць сягоння,
Чый увесь розум і спрыт месцяцца ў скрыні з дабром.
Медныя дзверы падвойныя ім адчыняюцца проста,
Іх не турбуе гайня злосных і чуйных сабак.
Мне ж з гучна-галасным Фебам і з Музамі разам маімі
Дзеўка не дасць пастаяць зноў ля замкнёных дзвярэй:
Варта яе і сабака ад дома мяне праганяюць,
А як што-небудзь ім даць — будуць, напэўна, маўчаць.
О, сарамота сваёй прыгажосцю шукаць сабе пана
І аддавацца самой волі ды сіле яго!..

*ФРАНЦІШАК КАРПІНЬСКІ*
*(1741–1825)*

* * *

Каторы ўжо раз сонца ўставала
Бляскам сваім дзень прывеціць,
Толькі маё святло заняпала,
Дагэтуль штосьці не свеціць.

Ужо й збажына быццам гусцее,
Колас гатовы прабіцца;
Поле навокала зелянее —
Маёй не бачна пшаніцы!

Вось і салоўка спеў пачаў весні,
Гай яго спеў паўтарае;

Поўняць зефір птушыныя песні,
Пташка мая не спявае!

Дорыць зямля ўжо гожыя кветы,
Мноства вясною іх родзіць;
Лугі ў розныя краскі адзеты,
А мая кветка не ўсходзіць!

Ці ж так, вясна, прасіў цябе й просіць
Наш гаспадар стурбаваны?
Слязамі зрасіў зямлю я досыць,
Вярні ўраджай мне чаканы!

*ІГНАТ ЛЕГАТОВІЧ*
*(1796—1867)*

## ПРА ЧАС

Здаецца дзень векам
З благім чалавекам,
А вечнасць — хвілінай
З прыгожай дзяўчынай.

* * *

«Харон! Маю нядаўна перавёз ты жонку
Элеанору?» — «Так». — «То дзе ўжо тая ведзьма?»
«На Елісеях». — «А ў якую мне старонку?» —
«Туды ж», — сказаў Харон. — «То лепш у пекла едзьма!»

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## СПАТКАННЕ Ў ГАІ

— Ці ты? І што так позна? — Збілася з дарогі,
Між дрэў пад промнем месяца блукаю;
Ці сумавала ты? — Цябе даўно шукаю,
Спытай, ці думаю яшчэ аб чым хоць трохі!

— Дазволь узяць тваю руку і ўпасці ў ногі,
Дрыжыш! Чаму? — Я тут адна хаджу й не знаю,
Чаму баюся крыку птушак, шуму гаю;
Ах! Вінаватым, мусіць, нельга без трывогі.

— Мне ў твар, у вочы глянь; ніколі не бывала,
Каб зло з трывогаю глядзела гэтак смела.
І ў чым ты вінавата? Мы гаворым мала,

Хоць поруч ты са мной, але далёка села.
З табой, анёл зямны, вяду сябе няўмела,
Нібыта ўжо анёлам ты нябесным стала.

*ЛЕАПОЛЬД СТАФ*
*(1878–1957)*

## РАСКА

*Яну Парандоўскаму*

У старым, занядбаным парку
Я спыніўся над ставам,
Укрытым шчыльным футрам раскі.
Уяўляючы,
Што калісьці была тут вада празрыстая
І цяпер павінна б застацца такая,
Паднятай з зямлі сухою галінай
Пачаў я зялёную ціну згортваць
І адганяць да стоку.

Заспеў мяне за гэтым заняткам мудрэц спакойны
З наморшчаным думкаю лобам
І сказаў з лагодным усмехам
Паблажлівага дакору:
«Не шкада табе часу?
Кожная хвіля — вечнасці кропля,
Жыццё — адно вокамгненне.
Столькі ёсць спраў архіважных».

Я адышоў, прысаромлены,
І дзень увесь думаў
Пра жыццё і пра смерць,
Пра Сакрата
І несмяротнасць духу,
Пра піраміды і пшаніцу егіпецкую,
Пра форум рымскі і месяц,
Пра маманта і Эйфелеву вежу...
Але з гэтага нічога не выйшла.

Я назаўтра вярнуўся на тое самае месца
І ўбачыў над ставам,
Укрытым шчыльным зялёным футрам,
Мудраца з разгладжаным лобам,
Які спакойна тою самай галінай
Згортваў з паверхні вады раску
І адганяў да стоку.

Навокала ціха шумелі дрэвы,
І на галінах спявалі птушкі.

## МАЦІ

Ля акна на змярканні
Маці нагою калыша
Калыску, ў якой спіць дзіцятка.

Ды няма ўжо калыскі,
Ды дзіцяці няма ўжо.
Пайшло яно ў памяць.
Маці сядзіць на змярканні,
Калыша нагою ўспаміны.

## ЧАС

Хачу весяліцца я адзін дзень,
Але дзень найдаўжэйшы у годзе,
І засмучацца адзін толькі дзень,
Найкарацейшы у годзе.

А час якім вымераць метрам ці локцем?
Як будзеш чытаць мае вершы пры лямпе,
Гэтыя словы закрэслі пазногцем.

*СТАНІСЛАЎ РЫШАРД ДАБРАВОЛЬСКІ*
*(1907–1985)*

## ЗЯЛЁНЫ ЗБАНОЧАК

купіла на рынку букецік маргарытак
ідучы па вуліцы абрывала адзін за адным іх пялёсткі
танцуючы
кахае любіць шануе
не хоча не дбае жартуе
кахае
кахае кахае крычала да слёз
цалавала абскубленыя жалосна сцяблінкі
дома ўставіла іх у ваду ў зялёным
гліняным
збаночку

*МАЦЕЙ ЮЗАФ КАНАНОВІЧ*
*(1912–1986)*

## ШУКАЎ Я ГРЫБЫ

*Максіму Танку*

Шукаў я грыбы ў дуброве,
шукаў я грыбы ў дуброве –
сабраў поўныя вочы,
па самы бераг павек:
касак,
гільзаў,
гранатаў,
дотаў,
зямлянак,
акопаў,

крыжоў надмагільных
і зорак,
курганоў безыменных,
чырвонай калінай акропленых,
чырвонай калінай акропленых;
сабраў поўныя вочы,
сабраў ажно цераз край
жалудоў залаціста-зялёных —
дубовы іх выплакаў гай,
што кулямі зранены...
грыбоў не было у дуброве.

*ТАДЭВУШ РУЖЭВІЧ*
*(1921)*

## ЛІРА ЛЕАПОЛЬДА СТАФА

Калі дакранецца
да яе любоў
засвеціцца ўся
імгненна

А калі
незычлівец
яна ператворыцца
ў палена

Калі дзіця
яе зачэпіць
яна адгукнецца
рэхам

А калі хто
атрутай поўны
таго абыдзе
са смехам

## КАЛЫСКА

Зямля
калыска памерлых

поўная імі
як соты мёдам
магіла ля магілы
яны спачылі
ад нас так блізка

адарваныя ад жыцця
нібы вусны

*БОГДАН ДРАЗДОЎСКІ*
*(1931)*

### МЫ

Мы прастору касмічную змерваем
між зоркай адмерлай пад назвай Учора
каметай пад назваю Сёння
і не адкрытай галактыкай Заўтра
Трымаемся толькі двух слоў Геракліта

Астранаўты
мы плоцім за праезд у трамваі
спатнелаю поўняй манеты

### АБ ПАРКЕЦЕ

Паркет
дошчачкі ўсе
падагнаны
укладзены шчыльна
Іншым здаецца
што людзі
як дошчачкі
іх можна ўлажыць
адцыкляваць
каб сталася ўтульна
бліскуча
пахуча

Калі ў дошцы
натрапіцца сук
выкідваюць дошку

а я сукаваты
такі сукаваты

## СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК

**(1942, в. Бабышкі Мёрскага р-на)**

У сяброўскіх аўтографах падае і такое жартоўнае пературмачэнне свайго прозвішча: «Пані-знік». Але бясследна знікнуць не ўдасца — зроблена шмат і «адбітак разца на камні, жалезе і золаце» пакінуты. Асабліва што датычыць беларуска-чэшскіх і беларуска-латышскіх культурных узаемінаў, дзе Панізнікаў плён асабліва прыкметны. Выпускнік Львоўскай ваенна-палітычнай вучэльні, ён, журналіст у лейтэнанцкіх пагонах, у 1969 г. трапіў у Чэхаславакію, адкуль вярнуўся чалавекам далёка не палітрукоўскага светагляду. Падзеі «пражскай вясны», знаёмства з чэшскімі іншадумцамі, кантакты з эмігрантам М. Забэйдам-Суміцкім урэшце спрычыніліся да таго, што Панізніка звольнілі з войска і пазбавілі працы. У той няпросты час ён атрымаў ліст падтрымкі ад колішняй пражанкі Л. Геніюш: «Вершы Вашыя — гэта тое,

што нам сяньня трэба. Вершы патрыёта і сапраўднага мужчыны ў вялікім разуменьні гэтага слова!». Першую кнігу «Кастры Купалля» выдаў у 1967 г., тады ж дэбютаваў і як перакладчык. Разам з М. Абалай склаў двухтомавую анталогію латышскай паэзіі (1984), вынікам беларуска-латышскіх краязнаўчых зацікаўленняў стала кніга «Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі» (2003). Перакладчыцкі наробак сабраны ў зборніку «Сустрэча роднасных сусветаў», куды ўвайшлі перастварэнні з пятнаццаці моваў, у тым ліку вершы ўкраінца І. Франка, чэха Я. Сайферта, латыша А. Веянса, літоўца С. Гяды... У выбраным Я. Райніса (1993, серыя «Скарбы сусветнай літаратуры») — каля 50 перакладаў С. Панізніка. За заслугі перад латышскай культурай ён ганараваны ордэнам Трох зорак.

*ЯН РАЙНІС*
*(1865—1929)*

## БЛУДНЫ СЫН

З дажджом і ветрам дзень завечарэў.
А ён у лахманах і басаногі.
Мяркуеце, ён, блудны, пастарэў,
Аціхлым павяртаецца з дарогі?

Не бачыце, які ў вачах сугрэў?
У позірку няма віны, трывогі,
І вобліск, хоць бадзяжны, не схмурэў.

Ён не рабом ідзе, а горда, прама, —
Ідзе ён правіць суд, вас гнаць далей ад храма.

*ІРЖЫ ВОЛЬКЕР*
*(1900—1924)*

## ЗАКАХАНЫ

Збочыў да вас бядняк:
я гэта быў, так-так.
Што мне з багацця дасі, дзяўчынка:
вуснаў маланкі, грудзей аблачынкі?

Зноўку дажджліва, сэрцу ж — тужліва,
кожны кагосьці павінен любіць,
бо адзінокі між людзей нешчаслівы.

Стаў, як ля прыстані,
слова не выстаю,
каб табе пакласці на далоньку вострую
аддана і проста,
так, як маці талеркі на стол
ставіць штодня.
Бедны багатаму не раўня.

З дзіўнай была касой,
ды са сляпою красой.

Загрозна і вочы свяціліся лірныя,
як вітрыны дзве ювелірныя,
тыя, што туляцца
на жабрацкай і разбойніцкай вуліцы.

*ЯРАСЛАЎ САЙФЕРТ*
*(1901—1986)*

**СТО РАЗОЎ НЕ**

Зноўку зробіць мяне дзіваком
вашая ўсмешка, і паселяцца ўва мне
маці Боль і сяброўка Каханне,
дзве душы ў цішыні.

Зноўку зробіць мяне дзіваком
кліч трубы,
і прапахне ад пораху чуб,
як пайду, нібы скінуты з месяца.

Зноўку зробіць мяне дзіваком
пацалунак; як полымя ў ліхтары
ўстрапянуся,
калі на шчацэ ўзгарыцца.

Ён жа — як вецер ля вуснаў маіх.
І марна на гэты раз
буду імкнуцца рукой злавіць
яго летуценны абраз.

*ІВАН ГНАЦЮК*
*(1929)*

* * *

Скіфы, гуны... Іх мячы і коп'і
у падземнай зніклі глыбіні.
Толькі згадкі тых эпох з раскопак
просяцца нясмела ў нашы дні.
Прагнулі... Надзею мелі... Снілі...
А які фінал знайшлі яны?
І смяюцца чарапы у цвілі
скамянелым смехам даўніны.
Не прыдбаў Прастор і Час граніцы, —
межы іх у існасці маёй:
парасткам да сонца не прабіцца
без карэнняў, злучаных з зямлёй.
Хоць прыв'яне
        майго дрэва сполах, —
не баюся гістарычнай тлі:
з майго сэрца выме археолаг
жменьку цёплай роднае зямлі.

*ЯЗЭПС ОСМАНІС*
*(1932)*

## ДЗВЕ РЫГІ

Нагулялася завейка, —
Снежна, глыбка, рыхла!
Як іскрыначка на вейка —
Скок на бераг Рыга.

Панцыр Даўгавы знямогся,
Стаўбурыцца крыга;
Бантам аблачынку носіць
Харахорка Рыга.

У вірах яе пастава.
Дзе прывабней сёння стала?
Бурштынінкаю ў невадзе,
Ці на сонцы — лебеддзю?

*ЯРАСЛАЎ МАЗАЧ*
*(1934)*

## АСЕЦКАЯ ЗАПРУДА

Грузнае неба чэшацца аб запруду
аж камяні заікаюцца
Змрок не стрымаюць парэнчы
калі кожны твой зык у таполях гайдаецца

Мова адлучаная ад вуснаў і сэрца
вартуе шлях
пачуе і спыніць цябе ў снопе фараў
Бы спадарожніца тая
з вяночкам у валасах

*ІРЖЫ ЖАЧАК*
*(1945)*

## КАХАНЦЫ З ВЯЛІКАГА ГОРАДА

Транзістарныя салаўі
спяваюць у неба заснежжа.
Нясуцца ў сутонне ўзбярэжжа
трамваі, нібыта ў гаі.

Яны, як дзікія быкі,
ўскапыцілі рэйкі змяркання.
...А ты праз неон ракі
нясі мне маўчанне кахання.

Ты песню зачацця зачні,
спявай пра пустэлле маці,
як скальпель руйнуе дні
звялага немаўляці.

Не плач, дарагая, малю:
ў Шэкспіра не так? Ну й годзе!
Цяжка спяваць нам «люблю»
у стронцыевым стагоддзі.

Красуня, каго папрасіць,
каб смерць твае вочы не сцерла?
Ты свеціш мне лямпаю цела,
я ж — кнот, і мяне не згасіць.

Дзе фабрыка сноў? На плячы.
За вокнамі — змора і страхі.
І нашыя цені, бы птахі,
трапечуцца ў сценах начы.

*КАРАЛ СЫС*
*(1946)*

## ПРЫЗЯМЛЕННЕ

Толькі ў марах павінен лятаць чалавек!
...Тут жа лятуць дзвесце чалавек адразу
у вузкім алюмініевым тунелі
Злосна равуць маторы
бы карыятыды
якія вымушаны падпіраць чужыя абыякавыя парталы
Паветра абараняецца
як абараняецца мышца ад іголкі тупой
Кружляем над аэрадромам
Блудныя дзеці якія баяцца пастукацца
...Як я падаў як узлятаў
Потым трап гумовікамі абмацаў узлётную паласу
быццам ахайны госць гаспадарскую лаву...
Добра ўсё ж такі век векаваць
а лятаць асабліва соладка

*МАРА МІСЬНЯ*
*(1949)*

* * *

І зноўку з выраю птушкі з морам зару заручаюць,
курлыкаюць між сабою.
Мяне ж яны не прыкмячаюць.

Праз дожджык промні вясёлкі радасна залачаюць.
Сумуюць аблокі над полем.
Мяне ж яны не прыкмячаюць.

Купаецца сонца ў пырсках роснага малачаю,
жмурыцца ад прыволля.
Мяне ж яно не прыкмячае.

А восень малее, злуецца, кідаецца ў адчаі,
шпурляе жоўтае лісце.
Мяне ж яна не прыкмячае.

На прыбераг ночы вецер з вольнага поля збочыў;
мяне запрашае ў човен,
але не глядзіць мне ў вочы.

Дзе адшукаю брод я: навокал віры і ільдзіны?
Ты не кажы адзінокай
пра тое, што свет адзіны.

Ты бачыш: і сад, і поле звязаны адною віною,
і тое, што здарыцца з імі,
здарыцца і са мною.

*ЛІНДА КІЛЭВІЦЭ*
*(1970)*

* * *

просыпам называецца
вочы заплюшчыць і акунуцца ў відзежу
сэнс прыручэння
ў ловах і вызваленні
выжыве ж той хто ўмее
смерць прапусціць наперад

* * *

дрэвы бяскрылыя
ткуць серэнады падземнаму ветру
там жа блукаюць і нашыя вочы
а як сустрэнуцца камянеюць
боль тваіх шнараў
колецца воглым шыпуллем
твой умакрэлы пагляд
топчацца па загуменні
вусны не растуліўшы камяні
помсна высмейваюць райскія землі

*НАТАЛКА ПАЗНЯК*
*(1972)*

* * *

...А было бажаволле ночы.
Ноч для боскай душы — юдоль.
На тамтаме твайго:
　　— Ты хочаш?
Танцаваў мой самотны боль.

Белым воскам сплывала неба.
Нас агонь да сябе забраў.
За сцяною майго:
— А трэба?
Днела прорва будзённых спраў.

Ноч гайдалася ў летуценнях.
Мы не верылі крозам тым.
Два маўчанні па зорных цернях
Адплывалі небам пустым.

## ВАДЗІМ БОЛБАС

**(1942, в. Казакова Бабруйскага р-на)**

Хімік па адукацыі, больш за дваццаць гадоў адпрацаваў на светлагорскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно». Пазней рабіў на мясцовай ЦЭЦ, адкуль у 57 гадоў быў адпраўлены на датэрміновую пенсію. Многа гадоў ачольвае Светлагорскую філію ТБМ імя Ф. Скарыны, уваходзіць у Беларускую асацыяцыю журналістаў. Аўтар кнігі «Забытыя прывіды мрояў», куды поруч з эсэ і вершамі ўключыў пераклады з улюбёнага К. І. Галчыньскага. А пасля майго званка ў Светлагорск даслаў яшчэ сёе-тое.

*КАНСТАНТЫ ІЛЬДЭФАНС ГАЛЧЫНЬСКІ*
*(1905—1953)*

### У ЛЕСНІЧОЎЦЫ

Там, куды збегліся зоркі
Такой вялікай капэлай,
Бачны здалёк на ўзгорку
Домік з чырвонай цэглы.
То леснічоўка Пране —
Восеньскае прыстанне.

Хмель на рагах аленніх
Высах, лістоту сыпле.
У шыбах — восені цені,
У восені — столькі скрыпак!
Ледзь скрыпкі смык дакранецца —
Жальба плачам зальецца.

За вокнамі лес і поле.
Шэпчацца з ветрам голле,
А калі дзень мінае,
Лямпа ў пакоі палае.
Чыстым святлом праменіць,
Як са стала Шапэна.

У ночы той шмат напеваў,
Спевы гучаць да рання.

Месяц з фрызурай срэбнай
Грае, як Бах на аргане.
Між дубоў і ялінаў
Льецца канцэрт вялікі.
То ў леснічоўцы Пране
Граюць начныя музыкі.

Ходзіць над возерам вецер,
Хістае дубы і грабы.
Зноў надыходзіць вечар.
Зноўку палае лямпа.
О леснічоўка Пране!
Лямпы той бляск, мільганне.
Месяц па сценах гуляе!
Ночы музыка грае!

Едзе фурманка ночы,
Чыста малюнак дзіцячы.
Фурман заплюшчыў вочы,
Конік як быццам плача.
Цені бягуць па сценах,
Коціцца воз той срэбны.
О леснічоўка Пране!
З месяцам вандраванне.

Зорак, як снегу, звонку:
У леснічоўку штоночы
Кожнай шыбаю ў вокнах,
Дражнячы промнем вочы,
Коціцца ў люстра знадворку
Ноч — вялікая зорка.

## ОЛЬШТЫНСКАЯ ХРОНІКА
*Фрагменты*

*І вечнае сонца ў маім*
*Каралеўстве свеціць.*
*У. Шэкспір*

VI
Ты — маё возера, знаю,
Я — тваё сонца шчаслівае.
У святло цябе апранаю,
Шчасце маё шумлівае!
У травах тваіх купаюся.
Сыходжу. І зноў вяртаюся!

Зялёных асокаў руны
Чытаю, о возера-мара!
І вабяць чаротаў струны
Мацней, чым струны гітары!

А ноччу цераз нябёсы
Зоркі — адна, другая! —
Злятаюць табе на косы
Й садзяцца, як папугаі.

XIV
Калі браму заходнюю сонца
Прамінае ў адвечнай гонцы,
Бачу цела тваё праз ваду я,
Нібы статую залатую:

Прыўкраснаю без меры
Красуняю Гамера
Ідзеш, само каханне,
Лягчэйшай ад змяркання
Хадой, адвечнай і юнай,
Дрыжачы, як струна-чараціна.

Месяц помніць: такая дзяўчына
Ёсць у гданьскім фантане з Нептунам.

XV
Псы над возерам брэшуць,
Выдру схапіць жадаюць.
На пяску пішу вершы,
У поўню пяро мачаю.

## РАЗВІТАННЕ З ЛІХТАРНЯМІ

Вы ў гарадах начных свяцілі
На плошчах, вуліцах дасветных,
Заўжды спагадліва дарылі
Ілюмінацыю для бедных.
Зімой на вас абапіраўся
П'янтос, набраўшыся ганебна,
Задраўшы галаву, пытаўся:
«Ці не патрапіў я на неба?»
Бывайце, мілыя ліхтарні!

У мястэчках, дзе ад вас ліліся
Начамі промні чарадзейна;
Або ў Парыжы, дзе калісьці
Кахаў я поўню безнадзейна;
Ці ў сонным Лондане, над Тэмзай,
Які туманамі закуты,
Дзе Т. С. Эліёт накрэмзаў,
Што «ліхтары нясуць пакуты», —
Бывайце, мілыя ліхтарні!

Вы, што спявалі доўгай ноччу,
Ажно Венера з неба збегла;
Вы, пад каторымі аж тройчы

Чытаў я «Рай», «Чысцец» і «Пекла»;
Прыўкрасныя, нібы санеты,
Нікога вы не турбавалі
І, як зычлівыя кабеты,
Людзям і местам даравалі, —
Бывайце, мілыя ліхтарні!

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938—1985)*

* * *

Гарыць сасна — ад нізу да гары.
Гарыць сасна — чырвона-чорна грыва
над лесам высіцца. Ой, нешчасліва
ты, чарнабрыва Галя, чарнабры...
Прывязана за косы да сасны,
што апякае й жарам пекла пыша.
Адно не моўкне моташная ціша —
о свеце, свеце, царства сатаны!
Ґалосіць Галя, моліць адпусціць —
галосіць Галя, крыкам прамаўляе,
а жар-агонь да белых ног сягае,
а Пан-Гасподзь — і дзівіцца, й маўчыць.
Гарыць сасна — ад нізу да гары.
Ідзе залева вогненна-і-чорна,
вось-вось яе, вось-вось яе агорне,
ой, чарнабрыва Галя, чарнабры...
Даруй, даруй мне, што святая ты,
на тым агні, як свечачка, гарэла.
О, як жа бела бель твая балела,
быў боль бялей ад белай белаты.
Гарыць сасна — ад нізу да гары,
сасна палае — ад гары да нізу.
Ідзе Пан-Бог. Цалуй Гасподню рызу,
ой, чарнабрыва Галя, чарнабры...

## ВЯЧАСЛАЎ РАГОЙША

**(1942, м-ка Ракаў Валожынскага р-на)**

Выпускнік філфака БДУ, дзе з невялікімі перапынкамі працуе з 1963 г. Доктар філалогіі, загадчык кафедры тэорыі беларускай літаратуры. Аўтар унікальнага «Паэтычнага слоўніка» (тры выданні — 1979, 1987, 2003), з якім, бы з дасведчаным праваднікам, цікава падарожнічаць па абсягах сусветнай паэзіі. Прагартаўшы яго за ноч, студэнты смела здавалі залікі па паэтычных спецкурсах, нават калі на чытанне праграмных твораў не хапала часу. У слоўніку меліся і патрэбныя цытаты, і цікавыя тлумачэнні безлічы малаўцямных тэрмінаў, а прыклад якой-небудзь «нянаскай» *рэтардацыі* паслужліва прыводзіўся з верша «свайго» В. Зуёнка, а таму лёгка запаміналася. Са слоўніка прафесара Рагойшы мы і сёння можам даведацца, хто быў першым беларускім перакладчыкам, а таксама тое, што паэтычны пераклад — твор, які жыве сваім жыццём, які «стаіць на памежжы дзвюх літаратур — з якой узнік і ў якой пачаў сваё жыццё». Складальнік гэтай анталогіі, як колішні вучань В. Рагойшы, згодзен з працытаваным выказваннем настаўніка, а таму пад творамі, змешчанымі ў «Гала-

сах з-за небакраю», вы не ўбачыце датаў — беларускі «Медны коннік» з'явіўся на свет праз сто гадоў пасля свайго напісання, і з ягоным датаваннем узнікаюць праблемы: каго слухаць — Пушкіна ці Купалу?.. В. Рагойша — адмысловы знаўца беларуска-ўкраінскіх літаратурных дачыненняў, апублікаваў на гэтую тэму шмат працаў. Склаў анталогію аднаго верша «А хто там ідзе?» Я. Купалы на 82 мовах свету. А ідэю анталогіі беларускага паэтычнага перакладу выказваў яшчэ ў 1981 г.

*ЮРЫ ФЯДЗЬКОВІЧ*
*(1834–1888)*

**О РАДУЙСЯ, ПРАЧЫСТАЯ МАРЫЯ!**

У сінім моры сонца ярка тоне,
Крывавыя праменні шле ў прадонне:
На хвілю ўгаманілася стыхія, —
А там царкоўны звон паплыў над вёскай,
А там зацёхкаў салавей па-свойску,
Пад ветрам дрэвы загулі старыя:
О радуйся, прачыстая Марыя...

О радуйся, прачыстая Марыя!
Вунь малады жаўнер на дол зваліўся,
Яго мундзір крывёю арасіўся,
Не змог расстрэльваць, то яго — другія...
Таварышы дамоўку зладавалі
І на спачынак беднага паклалі:
Не скажа, як настане літургія:
О радуйся, прачыстая Марыя...

О радуйся, прачыстая Марыя!
Пад плотам удава гаротна плача,
Аплаквае сябе, свой лёс жабрачы,
Сядзяць і плачуць побач з ёй малыя,
Ды ўрэшце змоўклі, слёз не льюць больш горкіх.
Адны над імі ціха плачуць зоркі,
Званы замоўклі, толькі вецер вые...
О радуйся, прачыстая Марыя!

О радуйся, прачыстая Марыя!
Вунь там блукае гора-сірацінка —
Без таты, мамы, бедная дзяўчынка,
Дачасна голад ёй магілу рые.
Зайсці на хутар хоча, бедалака —
Куркуль спускае на яе сабаку,
Бяжыць, упала, кроў ёй тварык мые...
О радуйся, прачыстая Марыя!

О радуйся, прачыстая Марыя!
Я ж — не магу... Бо ўсё ж душу я маю!
Хіба я боль на радасць памяняю,
Калі пакуты бачу ўсе зямныя?

А як жыцця майго замкнецца кола
Труной, дзе немата, і тлен, і холад,
Дзе ноч не плача, дзе ўсё цемень крые, —
О радуйся, прачыстая Марыя!

*ІВАН ДРАЧ*
*(1936)*

## БАЛАДА ПРА ВЯДРО

Я — форма бляшаная. Мой жа змест — вішні,
Агнёва-барвовыя пыльныя кулі,
Што раніцай зоры пілі на ўзвышшы,
Сарваныя ж — покатам потым паснулі.
Я — форма бляшаная. Мой жа змест — грушы,
Спаборніцы сонца, свяцільні саду,
З рэспублікі сокаў вандроўныя душы,
Якіх падабралі ў ноч грушападу.
Я — зрэзаны конус. А змест мой да скону —
Усё незалежнае, што я ўмяшчаю:
Дыні, ці дулі, ці промень зялёны
Цыбулі, ці лісце пахучае чаю.
Я — форма бляшаная. Мой жа змест розны,
Не мне падуладны, а часу, патрэбам.
Калі ж я часамі бываю парожнім,
Тады я па вечка напоўнена небам.

## ВЯЧЭРНЯЯ АКВАРЭЛЬ

Сядзіць хлопчык на пагорку,
Пасе вечар на руні,
Зоркі пужкаю збівае, насвіствае.
А вечар пасецца, хвастом памахвае.
Ідзе маё золатка, прытанцоўвае,
Нясе мне поўныя неразлітыя вусны,
Нясе мне поўныя неразлітыя персі,
Нясе вішнёвае цела дзявочае
У шоўкавым келіху сіняй сукенкі,
Спяшаецца маё золатка наўздагон свайму сэрцу.
Гэй ты, хлопчык на пагорку,
А прыцёхкні ты пужкаю,
Каб не бавілася маё золатка!

*МАРЦЭЛЮС МАРЦІНАЙЦІС*
*(1936)*

* * *

Ля дальняга лесу ёсць недзе старая хаціна,
У моры штодзённых турбот плыве адзінокая крыга,
Мой дом адпачынку у водары траў і язміну,
Дзе чыстае неба такое,
як музыка Грыга.

Там проста ўсё.
Плот у лішайніку. Лісце на плоце тым петрае.
Богам хаджу там. Купаюся радасна ў ставе.
А вочы людскія блакітныя, быццам паветра.
Ціха.
Здаецца, што ціша імхом абрастае.

Няма там газет. Там пасуцца бязгучныя статкі.
Там моўчкі працуюць. Без стогну раджаюць там маці.
Адзіныя гукі — у садзе стукочуць ападкі.
І сенам прывялым там пахнуць ўначы сенажаці.

Ўладараць дубы там.
        Стаяць у задуме, што ў скрусе.
Там вёсны і восені рэй свой вядуць гэтак чынна.
А ў той цішыні —
        побач з яблыкам нож на абрусе,
На ганку вада ўсё дрыжыць у вядры несупынна.
Няўжо пачалося?.. Няўжо?..
        І каго ў тым зацішку
Ты дазавешся?
Імшаная ціша, самотнасць ялін...
Слухаю, як на паліцы пазвоньваюць лыжкі,
Быццам на свеце на ўсім я застаўся адзін.

## БАЛАДА ПРА ПЯЦЁРА ПАЛОННЫХ

Памерці патрэбна было аднаму.
Хвіліна сышла не скора.
Кат з рэвальверам пацацкаўся: «А ну!
Каторы!..»
Маўчалі пяцёра.

Быў ранак. Ён пах сырадоем і кмінам.
Ля выкапанай магілы сядзеў у задуме салдат.
Стары селянін, ён бачыў, як коні пайшлі канюшынай,
І ведаў, калі ён памрэ, то ніколі не прыйдуць назад.

Другому раптам пачулася: бразгае маці фаеркай,
Убачыў, як кожная жылка ў яе на босых нагах адсвечвае.
І так яму захацелася вярнуцца ў старое, закуранае люстэрка,
Што пахне мышамі і старасвеччынай!

Знаў трэці —
        калі памірае салдат, паміраюць
Дрэвы, жанчыны, воблакі і трава.
Дзіцячыя ручкі ўміраюць, зоркі дагараюць.
Памерці —
        пацішу травой узысці і так увесь век трываць.

Чацвёртага, баязліўца, уява гняла неадчэпна:
Ён бачыў, як тут, на пустэчы, дзе не будзе ні помніка,
        ні магілы,

Плуг сялянскі праз многа гадоў падчэпіць
Чэрап пусты прагнілы.

Пяты ўстаў — наймалодшы. Між чатырма свае рэчы —
Боты, тытунь, шынялёк — раздзяліў.
Здымак на памяць аддаў.
Са здымка дзяўчына ўсміхалася — цяпер зусім недарэчы
Любаму, што сягоння гэты свет пакідаў.

Чацвёра не вытрывалі, падняліся, чакалі хмура, панура,
Калі ён апусціцца ў ноч, дзе ні сырадою, ні кміну —
Ні радасці, ні гора.
. . . . . . . . . . . . .

А пасля ўсяго
Паволі
Рэвальвер свой, яшчэ гарачы, кат зашпіліў у кабуры.
І назад ужо не вярнуліся коні па канюшыне.
Маўчалі пяцёра.

*МІКОЛА РАБЧУК*
*(1953)*

## НЕНАПІСАНЫ ЛІСТ ТУРЭЦКАМУ СУЛТАНУ

Ах, султане, выбач гэтым рагатунам,
яны не ведаюць, што чыняць, яны
думаюць, што ўвесь свет — гэта суцэльная гулянка,
жыццё — забаўка, смерць — забаўка,
драбноцце, абыштоцце;

яны й не знаюць, што заўтра іх пасадзяць на палі ў Бахчысараі,
а паслязаўтра ад іхняй Сечы не застанецца і следу
і іх беспрытульныя стогрэшныя душы засквірчаць у пекле;

ты ўсё гэта ведаеш, султане, і пасміхаешся,
перачытваючы ліст, куплены ў стамбульскім антыкварыяце,
ліст, які з кожным годам становіцца ўсё даражэйшым і даражэйшым.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

# КАЗІМІР КАМЕЙША

**(1943, в. Малыя Навікі Стаўбцоўскага р-на)**

Паходжаннем з сялянаў, родам з-пад Налібоцкай пушчы. Апошнюю акалічнасць не стамляецца падкрэсліваць у творчасці, адну з кніжак так і назваў — «Я з пушчы» (1995). Сябры таксама падтрымліваюць рэнамэ «пушчанца». Пасля заканчэння філфака БДУ працаваў на радыё, у рэдакцыях літаратурных часопісаў, цяпер — у «Полымі». Аўтар пятнаццаці кніг, з іх некалькі дзіцячых. Пераствараў паэтаў ніштаватых і розных (нават прадстаўнікоў славутага княжацкага роду Радзівілаў), а дэбютаваў перакладам з в'етнамскай у 1968-м. Спадзяюся, не закрыўдуе паэт з берагоў Меконгу Тан Хай, калі ўсходні небакрай «агучыць» Абай. Хай.

*ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ*
*(1705—1753)*

## ПЕРАСЦЯРОГА АБ ТЫМ, ШТО МЫ ПАВІННЫ БОЛЬШ ДБАЦЬ ПРА ЖЫЦЦЁ ВЕЧНАЕ, А НЕ ЧАСОВАЕ

Які абсурд — жадаць жыцця зямнога,
Дзе светлага не бачна анічога,
Дзе бясклапотнасць замінае ўсюды,
Наш сумны век наогул поўны блуду.
Што будзе з намі — тое не турбуе,
Абы сягоння радасць мець любую.
Не варта марнае любіць, што згіне,
Падумай лепей — заўтра нас адрыне
Быцця бясконцасць: шчасце там не госцем,
Там не падмануць і не пазайздросцяць,
Там прыгажосць наўкол чаруе вочы,
А вуха спеў дзівосны чуць ахвоча.
Паслухай сэрца, што трывожна б'ецца,
Няхай яно з цянётаў здрады рвецца,
Няхай яно людской шукае згоды
І млее ад духоўнай насалоды.
А хто жыве і пра душу не дбае,
Сумленне й ласку Божую губляе.

*АБАЙ КУНАНБАЕЎ*
*(1845—1904)*

## ВОСЕНЬ

Хмары восенню грузныя, як вярблюды́,
Засцілае прасторы туман густы.
Ні сагрэцца ніяк, халадэча,
Аж бунтуе табун малады.
Нібы спалена ўсё — ні цюльпанаў, ні траў,
Не спявае юнацтва, не бубніць дзетвара.
Дрэвы, нібы старыя дзяды,
Разгубілі ўсё лісце — не пазбіраць.
Час авечую шкуру пакласці ў чан.
Патрапаўся чэкмень,
        панасіўся шапан.
Ніць за ніццю бабулі прадуць і прадуць,
Маладыя ж на юрты латкі кладуць.
Пацягнулі на поўдзень шнуркі жураўлі,
Вярблюдаў караваны услед пабрылі.
Цішыня у аулах, як сон, цішыня,
Цішыня прабіраецца ў нетры зямлі.
Вецер з ліўнем спляліся.
        Не разблытаеш іх.
Гора — восень такая для старых і малых.

Вецер, лівень... Палаюць і гаснуць кастры,
І палююць сабакі на мышэй палявых.
Голы стэп, ні травінкі нідзе ні адной.
Дзень маўклівы, і шэры, і сумны, як ноч.
Каб не ўчадзець, ніхто не распаліць ачаг,
Да зімы павярнулася юрта спіной.

*МУІН БСІСУ*
*(1928)*

## АЛЯКСАНДР МАКЕДОНСКІ

Купілі яе на рынку рабоў,
на насілках унеслі
ў шацёр Аляксандраў,
апусцілі ў шыкоўную ванну
з малака газелі і львіцы.
Нацерлі яшчэ духмяным алеем,
акрапілі духамі
і павялі
да Аляксандра на ложак
пад кудахтанне труб.

Аляксандру яна
прыйшлася да густу,
і ён забаўляўся з ёю ўсю ноч,
а як толькі здаволіўся, ўранку
аддаў яе каралю.
Каралю яна
прыйшлася да густу,
і ён забаўляўся з ёю ўсю ноч,
а як толькі здаволіўся, ўранку
аддаў яе царадворцу.
Царадворац — васалу,
васал — сваёй чэлядзі...
І не паспеў узысці яшчэ месяц,
як келіхам стала рабыня,
з якога п'юць
каралі, чалядзінцы,
вяльможы, салдаты —
усе без разбору...

Вясёлка
гэтай зімой
не абаўе наша неба.
Дзе ж ты,
пунсовы мой колер?
Дзе блакітны, зялёны,
аліўкавы і лімонны?
Толькі свінец і смала,
павуцінне ды гразь...

Рынак рабоў...
А ў Шэхеразады
у краі маім
адрэзаны косы,
вырваны язык.
Яна расказала б вам,
як прынеслі яе,
нібы мяса кавалак,
у шацёр Аляксандраў,
пасля — каралю,
а пасля — царадворцу,
ад ложка да ложка,
да начальніка варты,
якому хутка яна абрыдла,
і ён пусціў яе
шчодра па крузе —
ад салдата і да салдата,
ад салдата і да салдата,
ад салдата і да салдата...

*АРВІ СІЙГ*
*(1938)*

### ХМАРА

На востраў паволі вечар ступае.
І мора пусцее, шарэючы тварам.
І захад, апалены промняў снапамі,
Заносяць шэрым попелам хмары.

Чарнеюць хмары зграяй варонняй,
І сіняя хваля крывавую будзіць.
На беразе тым абдымаюцца коні,
І шчыра, і проста, нібыта людзі.

Дзве адзіноты прымоўклі ў зморы,
А неабдымная хмара — высока.
Ва ўсіх адзіная кропка апоры:
Зірк стылы усёвідушчага вока.

## НІНА МАЦЯШ

**(1943, в. Нівы Бярозаўскага р-на)**

Выпускніца Менскага інстытута замежных моваў (1966), выкладала французскую ў Белаазёрскай прафесійна-тэхнічнай вучэльні. З-за хваробы была вымушаная пакінуць педагогіку і з 1977 г. займаецца творчай працай. Аўтарка семнаццаці паэтычных кніг (першая, «Агонь», выйшла ў 1970-м). У творчасці шчасліва абмінула рамантыку і гeроіку савецкіх будняў, стварыўшы лірычна-далікатны летапіс чалавечых інтымных пачуццяў. Да паэтычных перакладаў звярнулася яшчэ ў студэнцкія гады, была ці не самым маладым перакладчыкам анталогіі нямецкай «дэмакратычнай» паэзіі «Пярэднія выйшлі ў заўтра» (1968). Не цураецца перакла-

ды ўключаць у арыгінальныя зборнікі, прыкладам, ужо ў «Раллі суровай» (1976) знаходзім вершы Ш. Арлеанскага, Л. Арагона, К. дэ Пізан. Перакладчыцкая дзейнасць Ніны Мацяш — прыклад нячастага ў гэтым жанры безагляднага ўжывання ў эпоху арыгінала, калі перакладчык як бы атаясамлівае сябе з перакладаным паэтам. Рыса, характэрная хіба яшчэ для вялікіх актораў. Вось як пра гэта гаворыць сама перакладчыца ў прадмове да зборніка паэтаў французскай Плеяды «Багаславі сустрэчу мне» (2001): «Калі я чытаю плеядаўскі Маніфест паэтычнай творчасці з ягонымі галоўнымі заклікамі: 1) абараніць французскую мову ад яе ахайнікаў; 2) праславіць французскую мову, даць ёй вялікую літаратуру, як гэта патрапілі здзеяць італьянцы, — час для мяне размываецца, узаемапранікае, як бы перастае існаваць наогул, бо ў адным шэрагу ўстаюць і таджыкскі фальклор, і французскі Рэнесанс, і беларускае нацыянальнае Адраджэнне...» Беларускі чытач удзячны Мацяш за лірыку нобелеўскай лаўрэаткі Віславы Шымборскай («Свет варты вяртання», 1991; «Хвіля», 2004), за «Маленькага прынца» Сэнт-Экзюперы. Многія чытачы над старонкамі гэтых жыццялюбных твораў і не падазравалі, што перакладчыца шмат гадоў прыкаваная да інваліднага вазка. Да Н. Мацяш, якая знайшла змогу не зламацца пад жорсткімі ўдарамі лёсу, горнуцца дужыя і моцныя, і для іх у яе шчодрай душы заўсёды знаходзіцца часцінка святла. Для паэткі пераклад — не «пацалунак праз шыбу», як выказаўся невядомы дасціпнік, а «суадпаведнасць і сутворчасць»: «арыгінал павінен адгукнуцца ў маёй душы, і калі ўва мне прысутнічае выказанае на іншай мове, мне проста хочацца маё ўласнае вярнуць у родную плынь, выказаць тое самае па-беларуску» (гутарка са складальнікам гэтай анталогіі). Памятаю, ■ папрасіў яе, знаўцу асноўных еўрапейскіх моваў (французскай, ангельскай, нямецкай, польскай, украінскай), удакладніць рымскага імператара Карла V, які сцвярджаў, што з сябрамі трэба гаварыць па-французску, з ворагамі — па-нямецку, з каханай — па-італьянску. І Мацяш з гумарам адказала, што ўся бяда Карла V была ў тым, што ён не ведаў беларускай мовы. Бо па-беларуску дамовіўся б і з сябрамі, і з ворагамі, і з каханаю.

## *КРЫСЦІНА ДЭ ПІЗАН*
## *(1363—1430)*

### БАЛАДА

У самоце, і прагну застацца ў самоце,
у самоце пакінуў мяне мой каханы,
у самоце, без друга і ягамосці,
у самоце з адчаем, з журбой нечуванай,
у самоце ў цярпенні звыш сіл апантаным,
непапраўнай бязвыхаднасцю здратаваная,
у самоце і немілаваная.

У самоце ля вокан, ля брамы ў самоце,
у самоце на дворышчы, ценем затканым,
у самоце, каб горкай слязою зыходзіць,
у самоце ў маўчанні і енку скаваным,
у самоце з усім, што наканавана,
быць наложніцай сцен чатырох пакараная,
у самоце і немілаваная.

у самоце заўжды, і паўсюдна ў самоце,
у самоце, куды ні пайду, дзе ні стану,
у самоце, дзе з розумам сэрца ў нязгодзе,
у самоце з маркотаю неўтаймаванай,
у самоце з нічым не загойнаю ранай,
занядбаная ўсімі, нідзе не чаканая,
у самоце і немілаваная.

*ШАРЛЬ АРЛЕАНСКІ*
*(1391–1465)*

**РАНДО**

Даўно ўжо сыты мною свет,
Так, як і я даўно ім сыты;
Усё глухой імглой спавіта,
Хаця б дзе кольвечы прасвет.

Дарма... Адны аскалы бед,
Тугі, распусты непрыкрытай.
Даўно ўжо сыты мною свет,
Так, як і я даўно ім сыты.

Душу аддай за веры цвет,
Калючкі ж задарма — і квіты;
Ці ж дзіўна, што так хваравіта
Кладзецца скарга ў запавет;
Даўно ўжо сыты мною свет.

*ЖААШЭН ДЗЮ БЭЛЕ*
*(1522–1560)*

* * *

Шчаслівы той, хто ўладам на дагоду
Не стане праўды існае скажаць,
Пяра свайго не стане зневажаць
Ілганствам у разліку на выгоду!

А на пяры маім — пятля ад роду.
З бяды свой нораў мушу таймаваць.
О, каб змагчы — ці зла не заўважаць,
Ці зняць з душы нявольніцтва калоду!

Мне ж чыняць боль — а я крычаць не смею,
Цярплю пакуты — а прасіць не ўмею
Аб літасці. О крыж адвечны мой!

Няма мацнейшай кары, чым самота,
Няма агню пякельней, чым згрызоты,
Няма тугі чарней тугі нямой.

* * *

Жыць трэба, жыць, мой Горд, усмак юнакаваць!
Старымі быць яшчэ паспеем навучыцца,
Жыццё — дзівосны дар, а час так хутка мчыцца, —
Кароль і той яго бяссільны затрымаць.

Дзень упадае ў ноч, каб ранкам зноў зазззяць,
Мінаецца вясна, каб зноўку паўтарыцца,
У чалавека ж смерць крадзе навек дзянніцу,
Ён вечна пад сырой зямлёю мусіць спаць.

Дык што ж, і людзям жыць — як зёлкам, як жывёлам?
Ну не, далоў адчай! Высока ўскіньма голаў
І павітайма бога радасці свае!

Той сапраўды вар'ят, хто яўнае, зямное
Адпрэчвае ў разліку на быццё другое,
Хто насупор свайму жаданню паўстае.

## *П'ЕР ДЭ РАНСАР*
*(1524—1585)*

* * *

Ніко, Прырода ўзброіць кожнага змагла:
Быка — рагамі, дужакрыласцю — арла,
Каня — ягонымі цяжкімі капытамі,
А зайца — шпаркасцю, а рыбу — плаўнікамі,
Змяі дастаўся зуб з атрутай унутры,
І льву Яна дала і пашчу, й кіпцюры,
Мужчыну мудраю развагай надзяліла,
А больш развагі не знайшлося, не хапіла,
Каб і жанчыне даць, як меч, як дзіду, — й вось
Тады ўручыла ёй Прырода прыгажосць.
І мы палоннікі красы жаночай сталі:
Яна мацней людзей, багоў, агню і сталі.

* * *

Прайшло юнацтва, змаявала,
Былая сіла адбуяла,
І чуб ссівеў, і барада,
Страпаны нервы, змякла цела.
Цячэ па венах схаладзела
Не кроў, а ржавая вада.

Бывайце, гулі без аглядкі,
Бывайце, ліра і дзяўчаткі!
Што зробіш, не мая віна,
Што ўсё мінулася, як сненне,
Што толькі й маю ў суцяшэнне —
Агмень, пасцель, глыток віна.

На век мой выпала даволі
Нягод, хвароб, маркоты, болю, —
Не дзіва нікнуць галавой.
Цяпер — ці ўдома, ці ў дарозе —
Я азіраюся ў трывозе:
Мо смерць ужо прыйшла за мной?

Ласкавая, вось-вось, здаецца,
У вочы гляне, усміхнецца,
І павядзе мяне сама
У змрок, да брамы невядомай,
Заўжды расчыненай любому,
Адкуль вяртання нам няма.

## РЭМІ БЭЛЁ
*(1528—1577)*

* * *

Не стрымлівайце слёз, благаю вас,
О мае вочы, дайце ім праліцца,
Не высыхае мук маіх крыніца, —
Хай выплачуся ўволю я хоць раз!

Ад болю ўжо і голас мой пагас,
І стыне кроў, і мучыць дыхавіца:
Іду туды, дзе жорсткаю дзясніцай
Смерць смерда з каралём раўняе ўраз.

Пячэ ж мяне найбольш ад усяго
Боль-скруха па дарах жыцця майго:
Як я хачу хоць раз яшчэ да мілай

Прыпасці, боскі стан яе абняць,
Ёй рукі, вочы, вусны цалаваць
І так, цалуючы, сысці ў магілу!

## ЭЦЬЕН ЖАДЭЛЬ
*(1532—1573)*

* * *

І страх ва мне, і ўздым, то нікну, то крыляю,
З тла ўваскрасаю і саслепу бачу зноў,
Бо ўладна ты аззяць і ўцемрывіць наноў, —
Так хмара ў буру мрок і сполахі яднае.

За смуткам радасць, а за ўцехай сум хаваю,
Маўчаннем выдаю няведамнасць высноў,
То на нябёсах я, то рухнуць стуль гатоў, —
Ніяк не прыміру ў душы надзей з адчаем.

Я горды цнотай і пажадліва трымчу,
Багомлю і кляну, цураюся й хачу:
І паўжывёліна, й паўбог перад табою.

Адзін прыхільны ці халодны твой пагляд —
А я ўжо сам не свой, а ў сэрцы зноў разлад, —
О жарсць, о пал і лёд, о ўцех і мук двубоі!

## ЖАН АНТУАН ДЭ БАІФ
*(1532—1589)*

* * *

Леў і мядзведзь на знак пасябравання
Рашылі разам весці паляванне.
Дзяльба ж здабычы ў сварку увяла.
Пакуль «сябры» згрызаліся зацята,

Ліса падкралася і ўвесь багаты
Упаляванак іх — як падмяла.

* * *

Арла пераканала чарапаха,
Што можа лётаць і яна без страху —
Адно памог бы ў неба ўзняцца ёй.
Узнёс арол бяскрылую пад хмары,
Пусціў — і вобзем бухнула няздара,
За пахвальбу наклала галавой.

*ЖАН ПАСЭРА*
*(1534–1602)*

## НА СМЕРЦЬ ЦЮЛЕНА, КАРАЛЕЎСКАГА БЛАЗНА

Кароль, Цюлен памёр: я сам быў на хаўтурах,
Але, дальбог, яго вы ў сіле ўваскрасіць, —
Даволі санам блазна паэта надзяліць:
І блазен, і паэт адной, кароль, натуры.

Ні першы, ні другі не дбаюць пра катурны,
Ні першы, ні другі не ўмеюць мудра жыць.
Абодвух лёгка ўгневаць, лёгка рассмяшыць,
Абодва, што наўме, і кажуць тое здуру.

І той — дзіця, дзівак, і гэты па-дзіцячы
Убраны ў свой каўпак двуколерны дзівачы,
Той любіць звон званочкаў, другі — санетаў звон.

Чым, зрэшты, розняцца яны, як брат ад брата,
Дык тым, што, кажуць, лёс прыхільны да вар'ятаў,
А да паэтаў рэдка бывае чулы ён.

*ЖАН ВАКЛЕН ДЭ ЛЯ ФРЭНЭ*
*(1535? — 1606)*

## ПРА КАПРЫЗЫ ФАРТУНЫ

Бядняк хацеў павесіцца на шуле,
Ды нечакана скарб у ім знайшоў.
Усцешаны, чырвонцы ўзяў адтуль ён,
А ў схоў запхнуў вяроўку — і пайшоў.

Багаты ж скнара, як з'явіўся зноўку
Хаваць у шуле золата сваё,
Замест скарбу выявіў вяроўку —
І з роспачы павесіўся на ёй!

*ЖАК ГРЭВЭН*
*(1538–1570)*

* * *

Усёмагутны Бог, дай мне ўвабраць душой
Тваёй вялікаснасці хоць малую долю,
У сэрца мне ўтаўруй Тваю святую волю,
Каб зберагчы агонь духоўнасці маёй!

Не ўгневайся, Гасподзь, што полымнасці той,
Спакутаваны, так прыгаснуць я дазволіў;
Хай лічыш Ты мяне нікчэмнейшым слугой —
Кpaнi мяне, о Божа, дай патолю!

Цялесны цесны склеп разнасцежы, прашу,
І вызвалі з яго збалелую душу,
Прымусь яе паўстаць прад веліччу Тваёю:

Расплюшчы вочы мне, інакш, пакуль жыву,
Я маску Ісціны наяве не сарву
З хлусні, што з лёгкасцю хаваецца пад Ёю!

*АМАДЗІС ЖАМЭН*
*(1538? — 1593)*

**ПРА ТОЕ, ШТО НІХТО НЕ ВОЛЬНЫ**

Любы́, хто б ты ні быў, а ў свеце ты не вольны,
Любы́ жывы ці ў тым, ці ў іншым рабстве тут,
На кожным ланцугі ці ўцехаў, ці пакут,
Залежна ад таго, чаму паддацца здольны.

Хто прагне кашалька тугога неадольна,
Хто цягне барахло ўвесь век ва ўласны кут,
Хто раб у панства, дзе і глум, і самасуд,
Хто плоцевым страсцям слугуе ненатольна.

Адзін усё жыццё жадзён чыноў ды ўлады,
Другі любой гурме пустой прыслужваць рады,
А трэцяга суровы скоўвае закон

Не падпадаць пад звычкі й норавы чужыя.
Нявольнікі мы ўсе, ды з лепшай доляй тыя,
Хто ў сеці харавства патрапіў у палон.

*МЕДА ПУЦІЧ*
*(1821—1882)*

## ЖЫЦЦЁ

Што ёсць жыццё? Дзівосная надзея
На ўсіх дароў нябесных скаштаванне,
На славу, на пашану, на каханне,
Што ззамаладу вабіць нас і грэе.

Што ёсць жыццё? Прыгадкі-смуткавеі
Аб нейкім хваляванні, абяцанні,
Часіне светам гэтым любавання,
Які навечна прывязаць не ўмее.

Што ёсць жыццё? Прыстаначак балесны;
Сярод стыхій раз'ятраных прыроды —
Зямная кветка, матылёк нябесны.

Што ёсць жыццё? Аддышынка скупая,
У час якой душа з любой нагоды
Уздых стваральны Госпаду вяртае.

*ВЕЛЯМІР РАІЧ*
*(1879—1915)*

## ЗАПАВЕТ

Як пamру я — а смерць ужо блізка,
Міг яшчэ — і яна пастукае
У цямніцу майго жыцця
І сарве кайданы жалезныя
З цяжка скутай маёй душы,
І яе з паняволі выбавіць, —
Не скрыжоўвайце рук маіх,
Бо яны й пры жыцці былі звязаныя.

Не нясіце мяне ў царкву,
Бо калі сам маліў я Бога,
Каб памог мне ў бядзе беспрасветнай,
Быў глухі ён да мольбаў маіх.

Занясіце адразу на могілкі,
Закапайце глыбока-глыбока:
Не патрэбна мне, мёртваму, сонца,
Раз жыццё было — зіма лютая, —
Хай зямля ўжо мяне сагрэе.

Ва ўзгалоўі не стаўце крыжа,
Бо йшчэ зажыва быў я распяты,
А насыпце гару камення,

Так высока насыпце — да неба.
І калі настане дзень Судны,
І пачнецца ўставанне мёртвых,
Хай тады ўсе магілы расчыняцца;
А маю — хай заваліць каменне,
Каб устаць я з труны не змог.

На магіле не сейце кветак —
Ружаў ці васількоў духмяных, —
Палыном засадзіце горкім,
Палыном і калючай ажынай:
Калі ўсё жыццё — як палын было,
Дык нашто мне па смерці ружа?

На магіле не сейце кветак —
Ружаў ці васількоў духмяных,
Бо калі закрасуе вясна,
Ружа ўзыдзе калючай ажынай,
Васілёк палыном зацвіце:
Той палын слёзы горкія выйме,
А ажына ўсё сэрца вам зраніць,
Што зрабілі не так, як прасіў я!

*ФРАНСУА МАРЫЯК*
*(1885–1970)*

**СМАРАГД**

Зноў цёплага святла вярнулася пара.
Нарэшце ўладны я над схмаранай душой.
Павесялее ў пальцах вашых і смарагд,
Хоць нежывым яго ўважалі мы зімой.
Больш не люструе ён таемнаю вадой
Спануры позіркаў, якой пазбыўся я.
І бачышся ты мне сярод пакуты ўсёй,
О горкая любоў апошняя мая,
Пяшчотнаю, як ноч, адно пяшчотай той.

**ЦЕНЬ**

У дні, калі упал спыняў усё жыццё,
Калі жарліва сонца на знямоглых нівах
Да сэрца вінаграднік прыгортвала маўклівы,
У час, калі шыхты знясіленых касцоў
Гнялі траву крыжамі целаў нерухлівых,
Адным-адзін у тыя дні пякелля, пылу,
Наўпрост прад сном зямлі прыгнечана-панылым,
Аглушаны цыкадаў незлічоных цвыркаценнем,
Я прагнуў сэрца вашага, як прагнуў ценю.

## РАЎНАДЗЕНСТВА

Ссумнелая вясна цьміць свой агністы ўсплёск.
Як рана, успамін зноў растуліўся ў целе.
Пашлі спачын зімы, спакой халоднай белі
З маркотным водарам схаваных горкіх слёз,
О ноч маіх дзвюх рук самотных на пасцелі!

*УЛАДЗІСЛАЎ БРАНЕЎСКІ*
*(1897—1962)*

## МАРКОТА І ПЕСНЯ

Мо нічога ў жыцці й не засвеціць?
Яшчэ год, яшчэ два, яшчэ ікс...
Маіх думак чорныя лебедзі
адплываюць Віслаю ў Стыкс.

Ведаў я, што мне сэрцам тут грызці,
што за ўдары прыняць мне найперш,
не разлікам, не хцівай карысцю
будаваў я жыццё і верш.

Моц сардэчная ж песні маркотай
пераедзена, быццам іржой, —
цемру ночы здушанай нотаю
толькі крык прашывае мой.

Ды навек юны я ў крыку гэтым!
Перуны? — Што ж, хай б'юць у мяне!
Не паддамся я гэтаму свету,
свету гэтаму крыкну: не!

*ЛУІ АРАГОН*
*(1897—1982)*

## ГІМН ЭЛЬЗЕ

### УВЕРЦЮРА

Даткнуся да цябе і веру і не веру
Што час разлук мінуў што разам мы не ў сне
Ты побач ты са мной і я твая імперыя
        На гора і на шчасце вернае
І ўсё ж здаешся ты такой далёкай мне

Калыша нас нясе ў краіну цудаў слодыч
Але прачнуся я вярнуся з царстваў тых
Маё дыханне ў твар табе нібыта словы
        Нібыта жджэ нас ростань знову
Не варухнешся ты ты ўжо не чуеш іх

Заснула доўга я лаўлю яе маўчанне
І як ігрок які чытае на касцях
Свой пройгрыш да грудзей тулю яе адчайна
Бяссільны перад гэтай тайнай
Неспасцігальнай тайнай быцця і небыцця

А потым новы дзень з адсутнасці таемнай
Цудоўней ад святла яе мне верне зноў
І стане дзень працягам ночы неаб'емнай
Бо з ёю вечна неад'емна
Пяшчота цемнаты як сон найлепшых сноў

Жыццё як спеў п'янкі мільгне мы поўнім чару
О жонка о мой боль мой бог трынаццаць год
Высочваў бы тваё напеўнае маўчанне
Ніколі гэтымі вачамі
Не наталяючы ўжо голаду майго

Трынаццаць хмельных год трынаццаць зім і летаў
Трымцеў бы над табой хімеры цікаваў
Трынаццаць год у страху пяшчотна-горкім гэтым
Калі ўсе небяспекі свету
Прыдуманыя мной набожна б замаўляў

Як мала для каханкаў тысячы і адной ночы
Трынаццаць год як дзень агонь няшчадны той
Што па шматку папеліць хочаш ці не хочаш
Кілім наш па якому крочым
Магічны наш кілім самотнасці святой

*КРЫСЦІНА ЛАВАНТ*
*(1915—1973)*

* * *

Выйдзі з куста крапівы, Арханёле!
Крапіва назапашвае й мёд,
мёд жа — харч для Духа Святога, —
будзе ўдзячны крапіўны куст.
Ах, Арханёле, заззяй ува мне!
Ужывіся ў мяне і аддай мне належнае,
бо калі я йшчэ ў матчыным целе была,
для самое яе ўжо не тлела й іскрынкі;
я — пакой без агменю.
Аніразу не спыніўся б там нанач
Дух Святы, нават поблізу ён не праходзіць:
марна сэрца маё цікуе з падвокання —
не прыпомніць яно такога выпадку.
Маёй матцы не трэба нічога прыгадваць,
выслаўляла яна Дух Святы ўжо й тады,
як стаяла каля агароджы садовай
і на зоркі вячорнае яблык зялёны
так бязбоязна і так гаротна глядзела.

А гарота мая без адвагі ўзрастае:
я баюся й сябе, і зялёнага яблыка,
хоць ён і ружавее ў зары вечаровай,
ды — калі крапіву не пакінеш ты —
не даспеленаю я ўпаду смерці ў рукі.

* * *

Калі ты мяне ўпусціш, перш чым пеўні твае прачнуцца,
буду я слугаваць табе ў доме касцяным,
біць табе ў бубен сэрца, пераводзіць дыханне
і тройчы ружу духоўную паліваць
наранку, апоўдні, увечары.

Калі ты мяне ўпусціш, перш чым вочы мае дагараць,
вольна буду ў іх дзеля цябе растапляць твой адбітак,
і ствару з яго цара над анёламі,
і пакажу яго Богу як воблік ягоны,
поўны веры, надзеі, любові.

Калі ты мяне ўпусціш, перш чым крылы мае надломяцца,
дзевяцікротна я дзеля цябе змея смерці абезгалоўлю,
корань гора выкапаю і сама спажыву яго,
а потым падам табе з авоські сонечнай
хлеб, віно і голуба.

*ВЕСЯЛІН ХАНЧАЎ*
*(1919—1966)*

## ПЯРСЦЁНАК

За ціхі твой прыход нечспадзяваны,
што громам і дасюль гучыць ва мне,
за ўсё, што дадзена і не забрана,
за недакор, з табою я, ці не,
за думкі, што, бывае, ты хаваеш,
за ласку, дзе ашчаднасці няма,
за сілу, што спаўна ў мяне ўліваеш,
калі зусім знясілена й сама,
за тое, што ты імем ахрысціла
маім і шчаснасць, і бяду сваю,
замест пярсцёнка на твой пальчык мілы
табе я палкасць вуснаў аддаю.

*ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА*
*(1923)*

## КАБЕТЫ РУБЕНСА

Багатыркі, жаночая фаўна,
як грукат бочак, галюткія.
Гнездзяцца ў ложах патоптаных,
спяць з для ўцехі раскрытымі вуснамі.

Зрэнкі іх уцяклі ў нутро
і дападаюць да сэрца залозаў,
што праточваюць дрожджы ў кроў.

Горы барока. Пахне цеста ў дзежах,
паруюць лазні, палымнее віно,
тупочуць небам парасяты аблокаў,
трубяць трубы трывогу плоцевую.

О, разбуялыя, о, празмерныя,
і падвоеныя адпрэчваннем шатаў,
і патроеныя парыўнасцю позы,
тлустыя ласункі любові!

Іх худыя сёстры ўсталі раней,
чым развіднела на абразе.
І ніхто не бачыў, як наўсцяж ішлі яны
па незамаляваным баку палатна.

Выгнанніцы стылю. Худыя рэбры,
прырода птушыная далоняў і ступак.
На вострых лапатках спрабуюць палётаць.

Трынаццаты век падарыў бы ім фон залаты.
Дваццаты — аддаў бы экран сярэбраны.
Гэты ж, семнаццаты, пляскатым нічога не мае.

Бо што ж, калі нават і неба пукатае,
і анёлы пукатыя, і пукаты сам бог —
Феб вусаты, які на ўспацелым кані
уязджае ў бурлівы алькоў.

## ПІЕТА

У мястэчку, на радзіме героя
агледзець помнік, здзівіцца — які вялікі,
спудзіць некалькі курыц на ганку музея ціхмянага,
папрасіць адрас маці,
пастукаць, падацца ў рыплівыя дзверы.
Пастава прамая, прычоска гладкая, позірк ясны.
Сказаць, што прыехала з Польшчы.
Прывітацца. Пытацца гучна, выразна.
Так, вельмі яго любіла. Так, заўсёды быў гэткі.
Так, стаяла тады каля мура турэмнага.
Так, чула той залп.
Пашкадаваць, што няма кінакамеры,
магнітафона. Так, ведае прылады гэтыя.
Па радыё чытала ягоны ліст апошні.
Па тэлебачанні спявала калыханкі старасвецкія.
Аднойчы нават здымалася ў кіно, аж слёзы набягалі
ад тых юпітэраў. Так, успаміны хвалююць.
Так, трошкі ўжо стамілася. Так, гэта пройдзе.

Устаць. Падзякаваць. Развітацца. Выйсці,
даўшы ў сенях дарогу чарговым турыстам.

## СЦІНАННЕ

Дэкальтэ паходзіць ад dekollo.
Dekollo азначае «сцінаю галаву».
Каралева Шатландская Марыя Сцюарт
з'явілася на эшафот у адпаведным строі:
кашуля выдэкальтаваная была,
чырвоная, як крываток.

Тым самым часам
у адным з пакояў дальніх
Элізабэт Тудор, каралева Ангельская,
стаяла ля акна у сукні белай.
Сукня была запята пераможна пад самы падбародак
і каўняром крухмальным плоеным завершана.

Абедзве думалі ў адно:
«О Божа, нада мною злітуйся».
«А праўда ўсё-ткі на маім баку».
«Жыць ці ліпець».
«Пры пэўных акалічнасцях сава дачка пекара».
«Гэта не скончыцца ніколі».
«Вось і канец».
«Што тут раблю я, тут, дзе гэтак пуста».

Розніца у строях — толькі і ўсяго.
Дробязь
не можа ўзрушыць.

## БЯЗВІННАСЦЬ

Была зачата на матрасе з чалавечых валасоў.
Эрыка. Герда. Можа, Маргарэта.
Не ведае, пра гэта сапраўды не ведае нічога.
Такія звесткі не прыгодны
ані дзяліцца імі, ані прыняць.
Міфічныя Эрыніі занадта справядлівыя.
Нас раздражняла б сёння іх птушыная заўзятасць.

Ірма, Брыжыта. Можа, Фрэдэрыка.
Гадоў так дваццаць два ці трошкі болей.
Валодае трыма чужымі мовамі, што неабходна ў падарожжах.
Фірма, ў якой працуе, на экспарт пастаўляе
найлепшыя матрасы, цяпер ужо з валокнаў штучных.
Экспарт збліжае народы.

Ульрыка. Берта. Можа, Хільдэгарда.
Не прыгажуня, але высокая і зграбная.

Тварык, шыя, грудкі, ножкі, стан
у самым росквіце якраз, у бляску непаўторнасці.
Гулліва басанож ступае пляжамі Еўропы,
і хваля светлых валасоў яе аж да каленяў ападае.

— Не раю падстрыгаць, — сказаў цырульнік ёй, —
абцятыя, ніколі больш так пышна ўжо не адрастуць.
Паверце.
Гэта праверана ўжо
tausend — und tausendmal*.

## СЛОВА Ў БЮРО ЗНАХОДАК

Страціла некалькі багінь у дарозе з поўдня на поўнач,
а таксама процьму багоў у дарозе з усходу на захад.
Згасла раз-назаўжды для мяне некалькі зорак,
расступіся, неба.
Пайшла пад ваду для мяне ў моры выспа адна
і другая.
Не ведаю нават дакладна, дзе я пазбылася кіпцяў,
хто ходзіць у футры маім, хто жыве ў маёй шкарлупіне.
Не стала радні для мяне, калі выкараскалася на сушу,
і толькі пэўная костка святкуе ўва мне свае ўгодкі.
Вылузвалася са скуры, марнатравіла пазванкі і ногі,
з глузду з'язджала безліч разоў.
Даўно на ўсё гэта заплюшчыла трэцяе вока,
махнула на ўсё плаўнікам, варухнула галінамі.

Прапала, згінула, з вятрамі чатырма пайшло і разышлося.
Сама дзівуюся, як мала тут з мяне ўжо засталося:
адзінкавай асобай у часова чалавечым выглядзе трываю,
якая толькі парасонік свой згубіла ўчора у трамваі.

*ВЛАДЭТА ВУКАВІЧ*
*(1928)*

## ЗВЫЧАЙНАЯ ПЕСНЯ

Хоць ноч наступае — заснуць не дае цішыня:
блукае-варожыць па сіняй далоні дарогі.
Запоўнена ёю вясновых дажджоў марасня,
што пазасыналі, нібы галубы, над парогам.

І срэбныя гукі лістоты, і квет малады,
і мары любосныя нашы ў той цішы, і сцежкі,
і месячны невад, як соты, такі залаты,
і твая непаўторная светлая ўсмешка.

---

* Тысячу і тысячу разоў (ням.).

Зліемся ў абдымках мелодыяй скрыпкі адной,
як неба і мора зліваюцца ў далечы дальняй.
Узыйдзем ціхутка над светам даліны начной —
я — братам зары, ты — сястрою зары світальнай.

Прыгорнешся ты — і аж кругам ідзе галава,
і вусны, як лісце смакоўніцы, устрапянуцца,
і кожная жылка напнецца, нібы цеціва,
і ў смазе нясцерпнай — да млосці — гатоў задыхнуцца.

Пад кронай хмурынкі, празрыстай і лёгкай, як цень,
на шоўку мінушкі здаешся ты ланню лясною.
Сляпы без цябе я ў дарозе юнацтва; з табою
не ўгледжваю я, калі ноч пераходзіць у дзень.

## *ЛІНА КАСТЭНКА (1930)*

* * *

І не мінае, не мінае!
І ўжо, напэўна, не міне.
Душу трывога распінае:
што, як кахаеш не мяне?
    Я па-латыні: amore, amo!
    Няўжо ратунку і тут не маю?
        А мора, мама,
    а мора, мама,
    яно таксама не мінае.
А мора, мама, amore, amo,
amore, amo! А ты адзін.
Я абламаю хвілінам пальцы,
каб не спляліся ў журбу гадзін.
    Былыя храмы — на міліграмы,
    і ўсох калодзеж твой, ягамосць.
    Куды падзецца? Amore, amo...
    Нават на месяцы моры ёсць.
Чмурэе сад ад цвету ўласнага.
Іду, збіваю расу хвашчоў.
Мора Крызісаў.
Мора Яснасці.
Мора Дажджоў.

* * *

Цень чорны крута нізрынае ўніз —
То белы голуб узлятае ўгору.
Праспект птушыны, сонечны карніз —
Каронай строгім лініям сабору.

Стракаты рытм натоўпу і чубы
Абсад, пахілых дахаў старасвецце.
Над горадам гамоняць галубы.
Пра што — не ведаю. Пра ўсё на свеце.

Пра той сабор. Пра свет наш. Пра вайну.
Пра чалавецтва, пра нябёсы й крылы.
А можа, ён галубцы кажа: — Ну,
Калі я лётаў, ты па мне тужыла?

*ГАННА ТАКАРСКА*
*(1946)*

### КАРМЛЕННЕ ПТУШАК

Значыць, Мама — Ты побліз,
калі ранкам зімовым
ля вакна майго гэтулькі птушак галодных.

Калі крошкі ім сыплю,
ёсць і Ты ў гэтым руху,
мной падгледжаным некалі,
а цяпер паўтараным дакладна.

Праўда. Гэта амаль набажэнства,
быццам ютрань птушыная,
да якой склікае востры голаду голас.

Не ведаю, дзе Ты,
калі вырушыла ў вандроўку працяглую
зямлёй і травой, жылкаваннем лістоты.

Не ведаю, дзе Ты,
а быць можаш усюды.
Калі птушак кармлю я —
скуль ведаць мне, Мама,
а мо зараз якраз і была Ты
сярод гэтых галодных вераб'ёў назяблых?

## МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ

**(1943, в. Гутава Драгічынскага р-на — 1997, Менск)**

Пяць гадоў правучыўся ў Маскве, у Літінстытуце. Але ў менскіх літаратурных рэдакцыях не прыжыўся, кансультаваў вясковых паэтаў у «Белорусской ниве», рэдагаваў бюлетэнь «Служба быту Беларусі». З 1976 г. не меў сталай працы, як і на што жыў — невядома, бо і друкаваўся не часта, выдаў чатыры танюткія зборнікі. Першая сур'ёзная перакладчыцкая заяўка — «П'яны карабель» Рэмбо, апублікаваны ў «Дні паэзіі-73». Наўрад ці яго можна назваць узорным, але — як першы беларускі варыянт славутага шэдэўра — змяшчаем у анталогіі. Лягчэй за ўсіх Федзюковіч знаходзіў паразуменне з блізкімі геаграфічна да яго Драгічыншчыны ўкраінцамі. Праўда, перакладаючы В. Сіманенку, недаравальна зміргнуў вока над выдатнымі радкамі: «Тільки часом у многоголоссі, / в суеті поїздів і авто / сполахне твоє біле волоссе, / сірі очі і каре пальто». Гэтае «каре пальто» трэба было зберагаць любым коштам! Федзюковіч надзеў на лірычную гераіню паліто блакітнае. Currente calamo (паспешлівым пяром) — як казалі старажытныя, але цана такой паспешлівасці занадта высокая.

*АРЦЮР РЭМБО*
*(1854–1891)*

## П'ЯНЫ КАРАБЕЛЬ

Я блукаў па цячэнні бязмежнай прасторы.
Ды аднойчы я ўбачыў паўстанне рабоў.
Паганятых сваіх, перш чым кінуць у мора,
прыкавалі яны да пярэстых слупоў.

Я ўцякаў ад каманды, пасланай у цёмнач.
І бавоўну, і збожжа — у прорву, на дно!
Толькі сціхнуў на палубе лямант «на по-мач!» —
лёс мне плыць загадаў, а куды — ўсё адно.

Апантанае мора у схватцы шалёнай
вырастала то справа, то злева сцяной.
Я імчаўся па волі стыхіі салёнай...
Хай вас Бог уратуе ад плыні такой!

Гэта сіла нячыстая ўдарыла ў трубы!
Быццам трэска, матляўся я дзесяць начэй, —
дзе, паводле падання, гайдаюцца трупы,
у баку ад жывых чалавечых вачэй.

Дыхаў кіслым паветрам... Руля не знаходзіў...
Якар струшчаны ўшчэнт, а зямлі не відаць...
Змыла з палубы вінныя плямы стагоддзяў
звар'яцелая хваля... У труме — вада!

Вось тады прада мной і паўстала паэма —
залатая паэма шматзорных глыбінь.
І адкрылася мне недаступная тэма,
аб якой знае толькі тапелец — адзін.

І калі мне абрыдла па моры матляцца,
як імгненне, я тую надзею лавіў,
што гарчэй за гарэлку, вышэй за мастацтва...
Непатольная, вечная прага любві!

Я спазнаў і прыбоі, і шквалы, я знаю,
як аблокі руінамі рушацца ўніз,
як пажарнаю птушкай зара узлятае,
я запомніў ахвярнасць начных навальніц.

Там, дзе згубную слодыч кахання я зведаў,
дзе схавалася сонца за цёмнай гарой,
бушаваў акіян — як з антычных трагедый,
з неўміручых трагедый бунтоўны герой.

Там — завейная ноч. Мне прыснілася ноччу,
што далоні мае цалаваў акіян,

фасфарычныя пыркі сляпілі мне вочы...
Заляйцаў акаянную сілу ўраган!

Я глядзеў месяцамі, як хвалі марскія
наступалі на рыф — нібы статак кароў.
Хто паверыць? — пяшчотныя ногі Марыі
адштурхнулі настырную морду валоў!

Колькі новых Фларыд я адкрыў без патрэбы!
Пераблытаны кветкі з вачамі звяроў.
Сцяганосна шуміць высакоснае неба
над густымі гуртамі ліловых вятроў.

Я глядзеў, як гніе неабдымная туша,
як канае у невадзе Левіяфан,
як раз'юшана хвалі ўгрызаюцца ў сушу,
як паблісквае бельмамі злы акіян.

Ледавік і залівы, сады, вадаспады...
Дзе хоць толькі крыху зачапіцца змаглі, —
там павіслі клубкамі гіганцкія гады,
і грызуць іх клапы ў перагноі зямлі.

...Налавіў бы я дзецям сярэбраных рыбак,
некранутых — што ўмеюць, як мы, размаўляць...
Пена шчасця мой човен шпурляла на рыфы,
у здранцвелым чаканні калела зямля.

Мора, мора, ты ў сне мае рукі лізала
і загойвала раны гаючай вадой,
у сузор'ях медуз, як жанчына, ляжала,
я стаяў на каленях — як перад святой...

Я наяве — я плыў наўздагад, быццам востраў,
і пад шорах разгорнутых велічных крыл
для няшчасных тапельцаў у наледзі вострай,
як гасцініцу, нанач абдымкі адкрыў...

Мы хаваліся ў бухце, глухой і дрымотнай,
ды нарэшце я зноўку пачуў галасы,
што ляцелі ка мне з манітораў грымотных, —
галасы гандляроў старажытнай Ганзы.

Я — п'яны карабель! З небывалым імпэтам
разарваў туманы і завоблачны край
і здабыў — спадабацца павінна паэтам! —
толькі слізкую вільгаць ды сонца лішай.

У дзівосным хаосе агнёў электрычных
я, здаецца, знайшоў і прытулак, і дом,
калі ў бездані звонкай ад выбухаў зычных
ізумруднае неба згарэла суздром...

Захлынаюся у танцах вясельна-трывожных
і на дотык Мальштрэм пазнаю і на слых, —
я, спрадвечных пустэльняў жывы спадарожнік,
так сумую! — па вас, маладых і жывых...

Бачу зорныя архіпелагі, ды зноўку
для сугнея адкрыта азызлая ноч...
О разгорнутасць крылаў, магутных і звонкіх,
дзе рашучасць твая, дзе бліскучы твой нож?

Значыць, праўда: я плакаў? На небе скрыгоча,
нібы кола, гаркавае сонца адно...
Гэта смерці маёй хваля чорная хоча...
Захлынуцца б, упасці на белае дно!

Калі ж гэта Еўропа, дык хай яна будзе —
як самотная лужына ў зорным святле.
Хай жа сумны хлапчук, каб не бачылі людзі,
папяровы караблік запусціць ў яе.

Надакучыла мне ратавацца ад смагі,
надакучылі ветразі, млосныя дні!
Мне абрыдлі гандлёвыя брудныя сцягі
і на катаржных страшных пантонах агні!

*АЛЯКСАНДР БЛОК*
*(1880–1921)*

## ГРУГАН

Груган за кругам робіць круг,
груган над сонным лугам кружыць,
на шэры і пустэльны луг
глядзіць. — Над сынам маці тужыць:
«Нá хлеба, грудзі нá... Расці...
Расці пакорны, крыж нясі».

Стагоддзямі шуміць вайна,
у мяцяжах палаюць сёлы...
А пад крыламі гругана
гавее край мой невясёлы.

Дакуль жа мацеры тужыць?
Дакуль драпежніку кружыць?

*ВАСІЛЬ СІМАНЕНКА*
*(1935–1963)*

* * *

Развялі нас крутыя дарогі,
І няма ні жальбы, ні нуды.
Толькі часам, як промень дрогкі
З-за аблокаў, мільгнеш мне ты.

І парой ажывуць сярод ночы
Ў сумятні цягнікоў і аўто
Косы белыя, шэрыя вочы
І блакітнае паліто...

* * *

Вось і ўсё. Дарога закрычала.
Прамільгнулі нема ліхтары.
Цень твой пахіснуўся ля прычала
І згарэў у полымі зары.
За далёкім сінім небакраем
Ластаўкамі ззяюць дні мае...
Толькі там, дзе цень твой дагарае,
Кожным ранкам сонейка ўстае.

## ЯКУБ ЛАПАТКА

**(1944, в. Аўсюкова Расонскага р-на)**

Выпускнік Менскага інстытута замежных моваў. Выкладаў іспанскую мову ў школах Навапалацка. Перакладае з іспанскай, ангельскай, французскай ды фінскай; апошняя мова заняла покуць Якубавай душы пасля таго, як ён выехаў у Фінляндыю і настала пасяліўся ў Хельсінкі, стаўшы ўвогуле першым беларускім перакладчыкам беспасярэдне з фінскай мовы. У выніку на свет белы з'явілася збеларушаная «Калевала», з якою айчынны чытач да гэтай пары знаёміўся хіба што ў перакладах расейскіх (найбольш распаўсюджаны варыянт Л. Бельскага). Але Я. Лапатка не толькі пераклаў эпічны твор, але шмат у чым і ўдакладніў расейскага перакладчыка: напрыклад, імя Вейнямейнен падаў у правільнай транскрыпцыі — Вяйнямёйнен. З фінскай на беларускую Лапатка пераклаў некалькі раманаў, з іспанскай — славуты «Дон Кіхот» Сервантэса, які, на вялікі жаль, да гэтай пары асобным выданнем свету не ўбачыў, як, зрэшты, і «Калевала». Свой творчы патэнцыял, не запатрабаваны на радзіме, перакладчык вымушаны рэалізоўваць на фінска-расейскім культурным полі, складаючы слоўнікі, размоўнікі і г. д. З паэтаў выдатных і розных, змешчаных у нашай анталогіі, Л. дэ Камоэнс і Г. А. Бэкер пераствораныя Я. Лапаткам на пару з Л. Баршчэўскім.

### *ЛУІС ДЭ КАМОЭНС*
### *(1525—1580)*

* * *

Калі паціху сонца напаўняе
Сваім слабым святлом абшар прыроды,
Іду я па ўзбярэжжы Асалоды,
І мроіцца мне варагіня тая:

Як валасы на галаве ўкладае,
Ці як руку на твар кладзе заўсёды,
Ці як ідзе, як спыніцца з нагоды
Спаткання — ды вясёла размаўляе;

Ці сцішыцца яна, ці ўраз акіне
Мяне то поглядам зусім спакойным,
То позіркам усхваляваным, порсткім:

То радасна, то скрушна варагіні —
Вось гэтак, замаркочаны і мройны,
Іду я па жыцці пустым і жорсткім.

*ГУСТАВА АДОЛЬФА БЭКЕР*
*(1836—1870)*

* * *

Чорная, палкая я — нібы страсці
Сімвал сапраўдны. Палае ўва мне
Прага такіх насалодаў і шчасця...
Ці ты мяне тут шукаеш? — О, не!

Твар мой ружовы, каса залатая:
Хутка забудзешся ты аб журбе;
Скарбы пяшчоты *табе* зберагаю...
Клічаш мяне ты? — Ды не, не цябе!

Я — немажлівая, я — летуценне,
З промняў святла, з туманоў мая плоць;
Я, неўяўляльная ва ўвасабленні,
Не пакахаю цябе...
— О, прыходзь!

*ЭЙНА ЛЕЙНА*
*(1878—1926)*

**РУЖОВЫ СВІТАНАК**

Ружовы світанак у небе лунаў,
дзяўчына плыла праз узлескі.
У росах дрымотных мурожыстых траў
сінелі вачыма пралескі.

Дзяўчына-дзянніца ішла па траве
павольнаю плаўнай хадою.
Ледзь чутна пралескі віталі яе
і ногі ўмывалі расою.

**ГІМН АГНЮ**

Хто сам — агонь, таму агнём палаць,
з зямлі хто выйшаў, будзе ў ёй ляжаць.
Хто ж прагне ў неба ўзнесціся высока —
таму радкі ад песняра-прарока.

Дык што мы? Попел? Пыл з магіл? Ды не:
з тла дух выходзіць і — увысь імкне.
Стаць попелам нам вызначана лёсам.
Пакуль жа ты агнём ляціш к нябёсам.

А што палае? — Існае. Хто змог
яго запальваць? — Толькі Дух, Пан Бог.
Шчаслівы лёс — стаць вугалем каменным;
а нетры засынаюць сном таемным.

Ад сну ўваскрэсні ў працы, ў барацьбе,
стань сонцам, як пакліча Бог цябе
ўвасобіць, здзейсніць мары ўсіх вякоў,
што цьмяна выглядалі для бацькоў.

Кароткі надта наш жыццёвы шлях,
але гарэнне будзе мець працяг,
Палаць давайце ярка, доўга! Глеба
зямное прыме, прыме душу неба.

*КАТРЫ ВАЛА*
*(1901–1944)*

## ЧАРА

Я чара ў тваіх руках,
празрыстая, крохкая чара.
Твае вусны кранаюць мой венчык.
З якой пустэльні
ты прынёс гэту смагу?

Дык выпі мяне! Выпі да кроплі!
Я сабрала з лугоў жыцця
водар сонца і кветак і мёд,
сок дзівосных пладоў,
пошум хвалі далёкай
і квецень сузор'яў,
захапленне і боль,
адзіноту і смерць.

Дык выпі мяне да кроплі!
Усеўладнай рукою жыццё
зноў напоўніць мяне
да берагоў.

## ЗЯМЛЯ

Дзівавідны анёлак Божы
пакінуў светлыя нябёсы,
ступіў на тонкі ражок маладзіка
і адтуль паглядзеў на Зямлю,
той імклівы пераліўны шар.
Там нівы квітнелі й лясы зелянелі,
там спелі плады й жоўкла лісце
і нямыя ахлопкі снегу замяталі сляды жыцця.

А пасярод усяго
нараджаўся, узрастаў, расцвітаў і паміраў
чалавек,
сярод плачу і смеху, нянавісці і кахання.
І плач уздымаўся над смехам,
а нянавісць перамагала любоў.

Але дзівоснай прыгажосцю прамянела Зямля.
Ад вялікіх нябачаных кветак лясных
ўзносіўся чароўны водар
і з ім уздымаліся добрыя духі кахання,
нібы незвядальныя ружы,
а плач звінеў прыгажэй за смех.

І засумаваў анёлак у велічнай прасторы,
яму захацелася стаць пылінкай Зямлі, якая
плача, смяецца, квітнее і памірае.

## ЧОРНЫ АКОРД

Ноч — вялікая чорная кветка,
з пялёсткаў якой асыпаюцца чалавечыя сэрцы,
дрыжачыя перад тваёй усмешкай, о Смерць.

Каго сёння ноччу звязуць твае калясніцы?
Чыё жыццё сёння згасне ад твайго подыху?
Чый смяротны крык абарвецца ў начы,
што калышацца, нібы вялізная чорная кветка?
Нашыя вусны не шэпчуць болей малітваў.
Нашы ўзнятыя рукі даўно апусціліся,
як надломленыя галінкі,
каб падштурхнуць тваю калясніцу.

*АРВА ТУРЦІНАЙНЕН*
*(1904—1980)*

## СОНЕЧНАЯ ФАНТАЗІЯ

Маю майстэрню поўніць змрок,
а за акном на красавіцкім сонцы
яскравіць снег бялей ад хмаркі ў небе,
над ім у вышыні
палае і блакітам слепіць мроіва нябёсаў.
Імчыцца ветразь сонца па неабсяжным моры.
І з агністага дыска шалёнага вецер
на ветразь майго сэрца дзьме.

А сцены змроку разлятаюцца на дробныя асклепкі.

ЛАСІ СІНКАНЕН
(1937—1976)

* * *
Гранітная калона

кубічная гара
празрыстая ўся-ўся

прастора поўная
тунеляў
дзе ластаўкі стрыгуць святло

шліфуецца
і зноў грубее камень
і нават доменная печ згарае

## КАЛЕВАЛА

РУНА ПЕРШАЯ
*Фрагмент*

*Дзева паветра апускаецца на марскія хвалі і, зацяжарыўшы ад ветру і вады, становіцца Маці вады. Качка звівае гняздо на калене Маці вады і адкладвае яйкі.*

Залатых было шэсць яек,
сёмае — было з жалеза.
Пачала выседжваць яйкі,
награваць калена дзевы,
дзень сядзела, два сядзела,
трэці дзень калена грэе.
Маці водаў, дзева неба,
гаспадыня мора чуе,
што агнём гарыць калена,
скура, як агонь, палае;
думае: згарыць калена
і ўсе жылы там растануць.

Так каленам варухнула,
здрыганулася ўсім целам,
што ў ваду зляцелі яйкі,
на марскую хвалю ўпалі
і разбіліся аб воды
на асобныя кавалкі.
Не прапалі яйкі ў твані,
у глыбінях вод кавалкі
выгляд набылі цудоўны
і змяніліся дзівосна:
ніжняя часціна яйка
стала маткаю-зямлёю,
верхняя часціна яйка

небасхілам стромкім стала.
Верхняя жаўтка часціна
сонцам зазіхцела яркім,
верхняя бялка часціна
ясным месяцам заззяла,
што пярэстым было ў яйках —
стала зоркамі на небе,
а цямнейшыя часціны
сталі хмарамі ў паветры.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзевяць год так праляцела,
наступае год дзесяты —
галаву над роўняй мора
узняла дачка паветра
ды ўзялася за стварэнне,
пачала тварыць тварэнні
на марскіх хрыбтах празрыстых,
на абшарах вод адкрытых.

Як рукою дзе кранала —
мыс за мысам узнімаўся,
дзе нагой дно даставала —
ямы рыбныя ўзнікалі,
там, дзе бурбалкі пускала, —
цёмныя віры глыбелі.
Дзе зямлю кранала бокам —
роўны бераг там рабіўся,
а нагой чапляла сушу —
ласасёвыя затокі;
галавой ледзь закранала —
бухты дробныя стварала.

Адплыла ад сушы далей
ды спынілася на хвалях —
пад вадой узніклі скалы,
камяні на дне ўзняліся
караблям ды мараходцам
на раптоўную пагібель.
Выспы вось ужо гатовы,
скалы створаны у моры,
небакрай вятры падпёрлі,
землям дадзены найменні,
знакі на каменнях бачны.
Толькі вечны песняпеўца
Вяйнямёйнен не радзіўся.

Векавечны Вяйнямёйнен
ў цёмным чэраве блукае,
трыццаць летаў там прабыў ён,
гэтулькі ж і зім халодных
на марскіх прасторах светлых,
на марскіх туманных хвалях.

Вось ён думае, гадае,
што ж рабіць яму тут далей
ў цёмным патаемным месцы,
у жытле маленькім цесным,
дзе маладзіка і сонца
ён ніколі не пабачыў.

Ён такія словы мовіў,
ён сказаў такія словы:
«Месяц, сонца залатое,
ты, Мядзведзіца, на небе,
навучыце, памажыце
адчыніць мне тыя дзверы
ды гняздо маё пакінуць,
маю цесную хаціну!
Пакажыце мне дарогу,
шлях да берага дзіцёнку,
каб пабачыць месяц ясны,
сонцам светлым захапляцца,
на Мядзведзіцу дзівіцца,
паглядзець на зоркі ў небе!»

Не пусціў на волю месяц,
сонца шлях не паказала.
Патрываў яшчэ ён крышку,
і жыццё такое ўстыла:
моцныя хіснуў вароты
безыменным сваім пальцам,
адамкнуў замочак з косці
малым пальцам нагі левай,
на лакцях слізгнуў з парога,
з сенцаў на каленях выйшаў.

Ён зваліўся ніц у мора,
паляцеў рукамі ў хвалі,
муж на волю мора здаўся
і герой застаўся ў хвалях.
Пяць гадоў ён там гайдаўся,
пяць і шэсць гадоў спадраду,
сем і восем год праплаваў
ды нарэшце супыніўся
каля мыса без наймення,
ля зямлі зусім бязлеснай.
На калені муж узняўся
ды на локці абапёрся,
ўстаў пабачыць месяц ясны,
сонцам светлым захапляцца,
на Мядзведзіцу дзівіцца,
паглядаць на зоркі ў небе.
Так радзіўся Вяйнямёйнен,
роду мужны песняпеўца,
вынашаны дзевай неба,
Ільматар, дачкой паветра.

## ТАІСА БОНДАР

**(1945, г. п. Рудзенск — 2005, Менск)**

Завочна закончыла Менскі педінстытут замежных моваў. У 1966—1978 гг. жыла ў Малдове, дзе да інстытуцкай ангельскай мовы дадала румынскую (тады яна называлася малдаўскай). Тры гады (з 2002-га) узначальвала рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і Мастацтва», у якой былі аб'яднаныя дзяржаўныя літаратурныя перыёдыкі. Не бяруся вызначаць месца Бондар на пісьменніцкім Алімпе (няхай гэта зробяць прафесійныя крытыкі), проста скажу, што кніга Г. Віеру «Імя тваё» (1986) і паэтычная нізка Э. Сэкстан перакладзеныя ёю таленавіта. І я з задавальненнем прадстаўляю ім месца ў «Галасах з-за небакраю».

*ЭН СЭКСТАН*
*(1928—1974)*

### ЗОРНАЯ НОЧ

*Гэта не ўтрымлівае мяне ад жахлівай*
*патрэбы ў — можна, я скажу гэтае слова? —*
*рэлігіі. Тады я выходжу ў ноч пісаць зоркі.*
*Ван-Гог (З ліста брату.)*

Горад нібыта не існуе.
Адно ўсплывае чорнавалосае дрэва,
падобнае на жанчыну-тапельніцу,
і слізгае ў гарачае неба,
угору.
Прасцяг маўчыць. Ноч кіпіць ад зорак.
О зорная, зорная ноч! Так, нібыта
я хачу памерці.

Ноч у руху. Зоркі — жывыя.
Нават поўня ў аковах сваіх раздаецца,
каб з вока, як бог, выпіхваць дзяцей.
І зоркі глынае
стары і нябачны змей.
О зорная, зорная ноч! Так, нібыта
я хачу памерці.

Знікнуць тым імклівым зверам начы,
якога глытае змей велізарны, —
і адасобіцца ад свайго жыцця,
што не мае ні хваста,
ні страўніка,
ні голасу.

### ЭЛЕГІЯ

Хтосьці памёр.
Гэта ведаюць нават дрэвы,
бедныя старыя танцоры,
што непрыстойна трасуцца, —
шалікі ў зялёны гарох і хрыбетнікі камлёў.

Мне здаецца...
Здаецца, я магла б спыніць іх,
калі б стала гэткай жа цвёрдай, як дрэва,
пасаджанае, каб іншыя, кволыя, зацянілі,
ці заўважыла нахабства шафёра,
што вырваўся з горада,
падмануўшы ўсе святлафоры,
ці калі б пазней, за вячэрай,
вышэй свайго рота трымала сурвэтку.
Мне здаецца, я змагла б...
калі б іншай была,
ці мудрэйшай, ці спакайнейшай,
я змагла б заклясці той стол,
той брудны стол і руку, што здавала карты.
Але гэта ўсё адбылося.
Усё — канчаткова.
І нельга, не варта
абвінавачваць дрэвы, што паадкідвалі
свае тонкія ногі на чэзлы мурог.
Гусі ляцяць на поўнач,
з крыкам уткнуўшы дзюбы ў сакавіцкі вецер,
і неба за імі, як з шэрае замшы спадніца.
На парозе разлеглася кошка,
дыхаючы ў сваё футра блакітнае.
На стале — пустыя талеркі; і сонца,
нязвыклае да нечага іншага,
увесь шлях свой падае ўніз.

*ГРЫГОРЭ ВІЕРУ*
*(1935)*

## ПТУШКА

З кормам
вярнулася да гнязда,
але птушанят не знайшла:
гняздо апусцела,
хоць было
па-ранейшаму
ўкрытае небам.
Шукала доўга,
пакуль крылы не пасівелі,
пакуль у дзюбе яе
з зернятка
парастак не прарос.

* * *

Вусны твае, о мама, —
рана, маўклівая рана,
засыпаная зямлёю
з магілы бацькі майго.

Вусны твае цалавалі
бацькаву гэту магілу
часцей, куды як часцей,
чым самога яго.

Цяпер паясніцу ломіць
і цяжка табе нахіляцца...
Хто ж падыме магілу
да вуснаў засмяглых тваіх?

## ПАД КАМЕННЫМ КРЫЖАМ БАЦЬКА

Вясной магілы гэтыя
з каменнымі крыжамі,
як чорныя распараныя буйвалы,
пакінутыя
ў часе адпачынку,
разбрыдаюцца
па туманнай раллі,
па зямлі,
цоб-цабэ,
аруць мінулае наша буйвалы,
цоб-цабэ.
З глінянымі жбанамі
спускаецца мама
да халоднага святла крыніцы,
цоб-цабэ.
Ад любові,
ад доўгай тугі па маме маёй,
з плугам бацька ідзе
неадступна за ёй,
цоб-цабэ.

*АНДРЫЯН ПАЎНЭСКУ*
*(1943)*

## ВЕЖА СЛЁЗ

Мяне перапаўняюць слёзы,
калі не плачу вершамі,
і я слепну;
таму чытаю, зноў і зноў,
каб бачыць
спакойныя агні паглядаў вашых
над гэтымі балючымі слязьмі...
Няўжо вершы —
толькі наіўная спроба
адным вачам
вярнуць слёзы, выплаканыя
другімі вачыма?

Кожны раз чамусьці
вы пераконваеце мяне ў адваротным,
вы вяртаеце мне маё маўчанне.
Бы ў якойсьці уверцюры
нясмелай,
ва ўступе да оперы,
з'яўляецца сляпы,
і гэты сляпы — я,
як вежа слёз
таго пакалення, што помніць
засухі
і барацьбу з непісьменнасцю.

*МІРЧА ДЫНЭСКУ*
*(1950)*

**СЕМ МАСТАКОЎ**

Адзін.
Яна расчэсвае вечарам валасы.
І воблака электрычных пчол пралятае праз іх:
Шоўкавы стул — і той міг,
Дзе шчаслівы юнак
Будзе асуджаны на смерць праз электракуцыю.

Два.
Карабель тануў, патрэскваў
Пад цяжарам мёртвых матылькоў,
Што прызямліліся на мачты.

Тры.
Даволі толькі мякка паказытаць піраміду —
І мумія выбухае раптоўна
У сваіх пялюшках.

Чатыры.
Суботняю ноччу
Мора расшпільваецца бессаромна.

Пяць.
Нафта, фантан яе, мкнецца ў тайгу,
І падобна вывернутай пальчатцы —
Лямпа,
Перад якой вы змушаны гаварыць.

Шэсць.
Гідрастанцыя ўздзьмулася і выбухнула
Ікрой істэрычнай рыбы.

Сем.
О, калі б займець лёгкую пірогу
Сярод чапляў, і трыснягоў, і туземцаў,

І вазіць зерне і мірт паўз затокі вялікай ракі,
І крычаць: хоа-хоа
На старым дыялекце індзейцаў,
І рэпрадуктары, пастаўленыя ўздоўж берага,
Адказвалі б мне: хоа-хоа.

## УЛАДЗІМІР СВЯЖЫНСКІ

**(1945, в. Турасполле Ушацкага р-на)**

Бацька служыў псаломнікам у царкве, маці — калгасніца. Уладзімір пасля заканчэння БДУ (1971) настаўнічаў у Оршы, потым перабраўся ў сталіцу, уладкаваўся на працу ў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, дзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па польска-беларускіх моўных кантактах старажытнай пары. Потым перайшоў у Інстытут гісторыі, дзе працуе і сёння. Даследуе мову беларускага пісьменства XIV—XVIII стст., напісаў манаграфію «"Гістарычныя запіскі" Ф. Еўлашоўскага», браў удзел у выданні «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», «Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага», «Гербоўніка беларускай шляхты». Публікаваўся ў навуковых часопісах Нямеччыны і Літвы. Валодае шведскай і літоўскай мовамі, апошнюю выкладае на гістарычным факультэце БДУ. Але перакладае чамусьці пераважна з расейскай.

*АНДРЭЙ БЕЛЫ*
*(1880—1934)*

### БІТВА

Ідуць у блакіце натоўпы гігантаў на бітву.
Жахлівы іх выгляд, іх вораг чакае знямелы.

Сурова спяваюць гіганты сівыя малітву,
Кідаюць па ветры чырвона-пурпурныя стрэлы.

Мячы затупіўшы, хапаюць паветра рукамі,
Бяссільна хістаюцца, братняй шукаюць апоры.
Братоў затуліўшы ад стрэл дымавымі плашчамі,
Над імі, над мёртвымі хіляць галовы у горы!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дрыжала ў спалоху зямля ад магутных ударац.
Бароды іх белыя — рыхтык у небе аблокі,
І — зніклі... у полысках зыркіх чырвоных пажараў
Плыве мнагавежавы горад, туманна-далёкі.

*МІКАЛАЙ КЛЮЕЎ*
*(1884—1937)*

* * *

Залатым вераснёвым дзяньком
Бору край цвінтаром выглядае.
Сосны моляцца, кадзяць дымком
Над хацінкай тваёй, што пустая.

Вецер-стражнік сляды даўніны
Шапатлівым лісцём замятае.
Расхінуўшы убранне сасны,
Прамільгні за бярозавым гаем!

Я пазнаю хусцінкі кайму,
Галасок твой і поступ крылаты...
Сосны шэпчуць пра змрок і турму,
Пра паблісканне зорак з-за кратаў.

Пра бразготку ў дарозе цяжкой,
Пра сівыя бурацкія далі...
Мір вам, сосны, бо клопат вы мой,
Як матуля, ураз разгадалі!

Крыж наклаўшы слухмянай рукой,
Пра таемнае ў сына спытайце
І аб той, каму — вечны спакой,
Вестку небу й зямлі перадайце!

* * *

Ахрышчуся абразком магільным,
Накармлю малінавак куццёй
І з кульбакай, з кайстраю за спінай
Знікну у начной імгле густой.

На расстаннях дальніх вандраванняў,
Як пчала мядовую расу,
Я збяру пявучыя паданні
І табе, мой родны, прынясу.

Просты і крывавы, незабыты,
Ты жывеш у глыбіні людской...
Згінулым, апаленым, забітым —
У магіле ўсім адзін спакой.

*ГАННА АХМАТАВА*
*(1889—1966)*

## ПЕСНЯ АПОШНЯЙ СУСТРЭЧЫ

Так бязладна ў грудзях халадзела,
Ды мой крок не зрабіўся цяжкі.
Я на правую руку адзела
Пальчатку з левай рукі.

Падалося — так многа ступеняў,
А раней было толькі тры!
Між прысадаў кляновых асенні
Шэпт пачуўся: «Са мною памры!

Я падмануты апастылай,
Пераменлівай доляй, злой!»

Адказала я: «Мілы, мілы!
Я таксама. Памру з табой...»

Гэта песня апошняй стрэчы.
Я зірнула на цёмны дом.
Толькі ў спальні гарэлі свечы
Абыякава-жоўтым агнём.

## РЫГОР СЕМАШКЕВІЧ

**(1945, в. Дамашы Маладзечанскага р-на — 1982, Менск)**

Рана дэбютаваў як паэт, ледзь не студэнтам выдаў сур'ёзную навуковую манаграфію пра Б. Эпімаха-Шыпілу і абараніў кандыдацкую дысертацыю. Апрача вершаў пісаў крытыку, прозу, перакладаў — пераважна з польскай і літоўскай моваў. Выкладаў на філфаку БДУ, пакінуў па сабе добрую памяць у сэрцах колішніх студэнтаў. Браў удзел у выданні ўкраінскай, латышскай і літоўскай анталогій (усе тры — двухтомавыя), і перакладзеныя ім паэты, думаецца, засталіся б задаволеныя (калі б разумелі беларускую мову). Прынамсі, літовец Сігітас Гяда, калі я на Міжнародным паэтычным фестывалі ў Друскеніках (2003) прачытаў яму страфу з яго ж па-беларуску: «Табун, гарцуючы, гайдае далягляд...», усцешана заўсміхаўся. У пасмяротным выбраным «Лічыла дні зязюля» (1987) Семашкевічу прыпісаны верш польскага паэта Т. Кіёнкі «Гімн руцэ». Наш абавязак — аднавіць гістарычную справядлівасць.

*ЮЗАФ ОЗГА-МІХАЛЬСКІ*
*(1919)*

### СПУСТОШАНАСЦЬ ПАСЛЯ ЦЯБЕ

Люблю спустошанасць пасля цябе,
поступ ветру,
сняжынкі.
Ганак з люстэркам месяца,
дыханне вуснаў
на шыбе.
Студня ночы,
з якой чэрпаем
вёдрамі гадзін.

Сцежкі, якімі
адно толькі след твой ходзіць.
Сшываю дзень з ноччу,
нажом распорваю поўнач.
Шукаю цябе
ў пустым мяшку сутак.

### НІ ПРА ШТО НЕ МАГУ ДУМАЦЬ

Ні пра што не магу ўжо думаць,
засталіся адны памыслоты,

як там з дрэваў злятае лістота,
як вецер зносіць яе да парога,
як сабака на ёй мосціцца доўга,
як паскавытвае ў сне, бядача, —
гэта я яму снюся, няйначай.

Там скажа праўду і камень улежны,
калі не ведае — змоўчыць проста.
Там каса засынае
у сене свежым,
хоць і рэзала травы
у гневе вострым.
Там з дзвярэй прачыненых можна
душу сваю
выпусціць нанач.
Калі ж са мною што здарыцца, можа —
пад акном я
грушаю стану.
Там цябе я
адведаў бы ўпотай,
асцярожна б на пальчыках краўся,
абы вецер суровы,
што гоніць лістоту,
пра цябе не дазнаўся.

*ТАДЭВУШ ХРУСЦЯЛЕЎСКІ*
*(1920)*

## ШАНЦЫ

Месяц — маэстра рэфлексу.
Без памылкі прадбачыць квадры
і сілу насычанасці святла:
калі быць ветахам,
калі — маладзіком,
калі — поўняю,
а калі адуховіць фізіяномію
смугой меланхоліі,
калі быць вялікім,
калі — ніякім.

Сонца залішне верыць
у значнасць бляску свайго,
таму яно хутка заходзіць.

Наколькі ж інтэлігентней
паводзіць сябе сланечнік!

Найболей шанцаў
на ўнутраную аўтаномію мае начны матылёк.
Каб не быў ён толькі такім неразумным
і пазбыўся маніі
пранікнення ў таямніцу святла.

*ПАЎЛЮС ШЫРВІС*
*(1922)*

### ПРЫНЯСІ ТУЮ ПОЎНЮ З КРЫНІЦЫ

Срэбнай наміткай цішу заслала,
Страшыў птушку ў падстрэшшы камар.
Вёдры з поўнямі ў хату нясла ты,
Плёскаў пырскамі зорны пажар.

А у хаце ружанец марудзіў
Пад малітву матулі тваёй.
Ты ішла... І, здавалася, грудзі
Расцвітуць, як лілеі вясной.

Не хацеў я, каб сталася стратай
Гэта ноч, што паўсном абняла.
І такою мне блізкай была ты,
І такою далёкай была.

Сіні ранак назаўтра праводзіў...
А на руту пасыпаўся снег.
Часта-часта у мроях прыходзіш
Тою казкай, што поўню нясе.

Стане месяц бялейшым рабіцца,
Закрычаць уначы жураўлі...
Прынясі тую поўню з крыніцы
І у шклянку мне зорак налі.

*ТАДЭВУШ ГІЦГЕР*
*(1927)*

### КАРЭННІ

Ніколі не мог знайсці сабе месца,
але ў кожнае месца
часткаю сэрца ўрастаў,
вярбовым дубчыкам,
чаранком,
што пускае карэнні.
Так было на пульхным суглінку,
у многіх лясах,
на сухіх мазавецкіх пясках,
на дробных прыморскіх пясках,
на вапняку, горным і цвёрдым...
Аднойчы
на толькі што скошаным лузе
я ўрос у стог сена,
бо знайшоў у ім першых канікулаў пах,
кахання першага пах
і першага глытка сырадою.

Часам думаю сам сабе:
каб злучыць тыя часткі сэрца,
атрымалася б сэрца,
большае, чымся планета Зямля.

Вось вам і новая версія
евангельскае легенды
пра цудоўнае размнажэнне рыб і хлеба.

*СІГІТАС ГЯДА*
*(1943)*

* * *

Табун, гарцуючы, гайдае далягляд,
Струменем жаўранкі у неба б'юць.
Шумяць дубы з вясною ў лад,
Чакае, што маланкі ажывуць,
Старая Поўнач.
І маці незабыўня мая
Сны даўнія, як рукавіцы, вяжа.
Два дрэвы. Возера. Сівая галава —
Так неадлучна ўсё ад гэтага пейзажу.

Узгоркі.
Скрозь сляды ледавіка.
Тут з першай зелянінаю вясною,
Пасля язычніцкай малітвы люд гукаў —
Зганяў у багну мамантаў гурмою.

Дахаты бацька стомлены ідзе з азёраў,
Нібы Давід па водарасцях мора.
Абняўшы светлую прастору веццем,
Скалечаная груша зноў у квеце.

О пачуццё
Адвечнае Айчыны!
Фіялка зноў цвіце
Ў прасторы сінім,
Пялёсткамі зямлю ад ветру туліць,
Каб ты заўжды
Была ў цяпле, —
Мая матуля.

*ЁЗАС МАРЦІНКЯВІЧУС*
*(1946)*

* * *

Перад змярканнем ужо незадоўга
Захад барвовіцца бляскам азёраў.
Нацятай струною звініць дарога.
Неба. Таполі. Прастора.

Зямлю прымарожвае першы іней,
На даляглядзе колеру бронзы
Месяц прарэзаўся светлай шчылінай,
Хоць падглядай у занебную грознасць.

Сіняй празрыстасцю долы займае,
І засынае ноч у спакоі.
Толькі яліна лук напінае,
Цэліцца ў неба стралою.

*ТАДЭВУШ КІЁНКА*
*(1936)*

## ГІМН РУЦЭ

I
Пейзаж рукі нагадвае аповесць.
Скульптура строгая
З кавалкаў вуглю, солі.
Там цёмны дуб крыві,
Як волавам, напоўнен,
Бо першае імя яе завецца —
Болем.

Туга вясла,
Металу,
Кветак весніх
І плёну мускулаў святое прадчуванне.
Лагоднасць палатна,
Што знята з кроснаў песні,
Бо ёсць імя другое —
Ў дотыку кахання.

Зямля, ты ў ранах пульсаносных веку,
З рубцоў тых ран —
Малюнку слова праясняецца.
Рука пчалой залоціць подых кветак.
Праводзь вятры усіх краёў далёкіх,
Рука —
Фрэгат пяці бунтоўных пальцаў.

II
Хто бляск начыння аздабляў рукою?
Хто з дрэва выклікаў аблокаў лодкі?
І хто знайшоў пульс сталі пад зямлёю?
Хлеб удыхнуў у зерне?
У мармур — здзіў палёгкі?
Ты,
Што выкрэсвала з камення
Зародак і агню, і промня.
А кожны ўздрыг — нібы натхненне.

Ты,
Што завеш і помніш.
Над эрай вуглю,
Вапны,
Медзі
Прадспевам мовы — быццам зорны россвіт.
Птах безымяннае далоні свеціць,
Як першае струны акордны росквіт.

III
А калі ў гневе — панцыр кулака,
Калі ў пяшчоце — ліст святла гаючы.
Але найбліжай, калі мёртвая рука
Крычыць
Апошнім бунтам на дратах калючых.

Птах падае тады,
Знямеў палёў абшар.
Вапнёва-мёртвая займаецца дзянніца.
І босыя адходзім у пажар,
Каб дакрануцца зноў да мін
І адрадзіцца.

## ВОЛЬГА ІПАТАВА

**(1945, м-ка Мір Карэліцкага р-на)**

Аўтарка пяці паэтычных кніжак, апошняя па часе выдання —«Задарожжа» (2004). Але працуе пераважна ў жанры гістарычнай прозы, выдала некалькі аповесцяў і раманаў пра дахрысціянскую Беларусь і Вялікае Княства Літоўскае («Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедыміна», «Альгердава дзіда»). Прыканцы 1990-х гг. была намесніцай старшыні Саюза пісьменнікаў У. Някляева, і пасля яго раптоўнага ад'езду за мяжу (спачатку ў Польшчу, потым у Фінляндыю) тры гады кіравала пісьменніцкай арганізацыяй, спрабавала давесці ўладзе, што «гуслям не пішуць законаў». Марна. Перакладала з пачатку 1970-х і, на жаль, вельмі часта другаразрадных кіргізскіх ды ўзбекскіх паэтаў. Выступіла арганізатарам і адным з перакладчыкаў дзвюх прыкметных анталогій сучаснай літоўскай і нямецкай паэзіі. Варта адзначыць асобна: Іпатава адкрыла беларускаму чытачу адметную паэтку Веру Рыч — нястомную папулярызатарку беларускай паэзіі на берагах туманнага Альбіёна.

*ЛІ ЦЫНЧЖАО*
*(1084 — 1151?)*

* * *

Чырвань і жаўцізна.
Вецер у вецці пяе.
Зноў, як штовечар, журба
Дзверы адчыніць мае.
Ціха згасае цяпло —
Свята Чуньян надыйшло.

Новы, на ваце, халат
Я апрану перад сном.

Бутлю дастану хутчэй
З ледзь забуялым віном.
Вецер наўкол,
Цемра наўкол,
Восень наўкол...
Мокры ад слёз прыпол...

Кропляў прыцішаны стук.
Долам клубіцца імгла.
Хмель незаўважна прайшоў,
Толькі туга не прайшла.
Знакам самоты і слёз
Хтосьці пазначыў мой лёс.

Ночы канца не відно —
Як мне яе перажыць?
Над узгалоўем пустым
Цьмяная зорка дрыжыць.

Чуюцца шэпты, а ты
За камяніцамі знік.
Цёран страсае лісты —
Вечнасці вартаўнік...

*РОЗА АЎСЛЕНДЭР*
*(1901—1988)*

## ДУМАЮ

Я думаю
пра бацькоў якія мяне песцілі
пра цацкі й бесперапынныя гульні

пра жарсці і пакуты
свайго першага кахання

пра Венецыю Люцэрн
Рыўеру ды Ізраіль

пра Гёльдэрліна Тракля
Кафку і Цэляна

пра гета пра эшалоны смерці
голад і жах

пра няшчасці
вечнае ложа сяброў
што мяне пакінулі й людзей
якія мне спрыяюць

Я думаю пра нямогласць свайго цела
сілу думкі

пра магію слова
і магічнасць жыцця

Падміргваючы смерць
думае пра мяне

*ЯНІНА ДЗЕГУЦІТЭ*
*(1928)*

## СОСНЫ НЕРЫНГІ

Брыдуць і брыдуць —
Па топкім пяску Нерынгі,
Пахіленыя ад вячэрняга ветру
Высокія, маўклівыя, безгалінныя сосны —
З расхістанымі верхавінамі,
Несучы несціхальныя плёскаты хваляў і стогны чаек.
Як медныя статуі, пазелянелыя ад часу,
Вялізным, маўклівым, стоеным гуртам
Ідуць пахіленыя сосны Нерынгі
Ад мора — грузнучы ў пяску —
Мае сёстры
Высокія.

*МЕДЭЯ КАХІДЗЭ*
*(1933)*

* * *

Без цябе я — вулей парожні,
Салавей, што спяваць не можа,
Сад, што плача галінкай кожнай, —
О, не дай разысціся нам, Божа!
Без цябе ў адчаі старэю...
Без цябе я лаза, якая
Забуяць, расцвісці не ўмее
І цябе, як вясны, чакае!

*ВЕРА РЫЧ*
*(1936)*

## ПЕСНЯ

Маё каханне — маленькае белае гняздзечка,
Крытае шэрымі пёркамі,
Дзе ты можаш спыніцца, спяваючы песню,
        а пасля — пайсці.

Маё каханне — нястрымны лівень вішняцвету,
Які па́дае на нас у ружова-залаты вечар,
Адцэнены барвовай заслонай неба.

Маё каханне — келіх, напоўнены ценямі,
Дзе здані фіялетава-блакітных мадрыгалаў,
І матылькамі-вачмі ўзіраецца
у цябе цішыня.

Маё каханне — як пупышкі бярозы і верасу,
Дзе мільёнамі вырыянтаў выспявае Будучыня.
Маё каханне — кроплі расы,
што падаюць з нябёсаў.

* * *

Мае рукі — падняты келіх,
Што збірае расу з яснай начы, якая
Пакрывае аксамітам невядомыя, дзіўныя сонцы,

Мае вочы не адрываюцца ад люстэркаў,
Дзе белая Аўрора ўзлятае і, адлюстраваўшыся,
Мяняе свой колер і зноў ляціць.

Мае думкі выраслі ў перагонным кубе,
Дзе дыстылююцца
Птушкі-задумкі, азарэнні,
І Вавілонская вежа не перашкаджае
Разумець другіх.

Мае рукі — зялёнае ложа кветкі, дзе сонца
Паэзіі садзіцца, дзе вуда маёй ручкі
Выцягвае на паверхню спакой
І залаты круг масла на сподку.

*УЛЯ ГАН*
*(1945)*

## ЛЁТНІКУ

Калі ты штурхаеш наперад планету
ўсю цалкам нагамі ажно пакуль
не ўздымешся ўвысь то зямля табе здасца
надта дробнай і надта лёгкай адтуль

ты здаля як неба жыхар агледзіш
мерцвякоў мільёны Сізіф Тантал
для якіх ланцугамі сталі абдымкі
што табе іх узаемнай любові жар?

Іх стогны спевам далятуць да вуха
міраж — на скокі Каін Авеля вядзе
і водбліск вечара ўсіх залоціць Духам

зямлю ты ледзь не страціў як мяне
і самалёт вышэй ужо не рухай
бо нас не знойдзеш больш хіба ў сне

## УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ

**(1946, Смаргонь)**

З сям'і службоўца. Закончыў у Менску тэхнікум сувязі й завочна педінстытут (1973),адначасова працуючы ў тэлеатэльє. Пасля — на рэдактарскай працы, каля дзесяці гадоў ачольваў часопіс «Крыніца», старонкі якога ахвотна аддаваліся пад сусветную класіку ў добрых перакладах. Бадлер, Апалінэр, Рыльке, Ґалчыньскі, Мілаш, Паўнд, Бродскі трапілі ў нашу анталогію з той, някляеўскай, «Крыніцы», пазней бясслаўна ператворанай у «Славянскі свет» і неўзабаве канчаткова загубленай. Не знайшоўшы паразумення з уладамі, у статусе старшыні Саюзу пісьменнікаў Някляеў з'ехаў у Польшчу, потым перабраўся ў Фінляндыю, дзе пражыў некалькі гадоў. Вярнуўшыся на радзіму, быў абраны старшынёй Беларускага ПЭН-цэнтра. Яшчэ на зацішнай зямлі Суомі пачаў перакладаць фінскіх паэтаў. А да гэтага апублікаваў з дзесятак перакладаў з літоўскіх і грузінскіх паэтаў. Вось, бадай, і ўсё.

*МУХРАН МАЧАВАРЫЯНІ*
*(1929)*

* * *

Зямля мне пазычыла плоць,
Душу мне пазычыў Гасподзь.
Жыву ў невыносным даўгу —
Нічога аддаць не магу.
Штодня напамінак нябёс
Грамамі хістае зямлю.
Я доўг свой да краю данёс.
Аддам... Пачакайце, малю.

* * *

Як нехта іншы думае — не знаю,
А сам перакананы я ў адным:
Як толькі нас надзея пакідае,
Становіцца душа як горкі дым
І незваротна ў неба адлятае.

* * *

Накінуць песню
　　я на смерць хачу —
Ды марна намагаюся... Маўчу.
Магілы на кладах адкрылі вочы
І плоці моляць косці ўдзень і ўночы.

### ДВА ГЭТЫХ ДНІ

Як зброі перад ворагам не маю,
Як сябра я найлепшага хаваю
І заклінаю некага: «Сцуеш ты!» —
Такі настрой два гэтых дні...
А зрэшты,
Калі спытаеш: «Што з табою, брат?» —
Наўрад ці адказаць змагу... Наўрад...

*АЛЬГІМАНТАС МІКУТА*
*(1943)*

## УРОК МАЛЯВАННЯ

Сягоння будзем маляваць маланкі.
Над яблыневым белым карагодам,
Над вежамі вялікіх гарадоў,
Над вуллямі, прасвечанымі мёдам.

З якіх ён фарбаў, колер бліскавічны?
Сіне-зялёных, жоўтых, залатых.
А можна выбраць колер белым-белы,
Як зубы негра ў прыцемках густых.

На што падобны бліскавіц зігзагі?
На рукі, заламаныя за спіны,
Магчыма, на карэнні ці на нервы,
А болей — на зялёныя галіны.

Дык, калі ласка, дружна папрацуйце,
І ўсе мы ўбачым, пачакаўшы трошкі,
Як зіхаціць яна, на што падобна
Маланка, прыкаваная да дошкі... —

Ці бачылі вы штосьці больш самотнае,
Нявіннае і ўвечары, і ўранку,
Ці бачылі вы штосьці больш спакойнае,
Чым тут намаляваная маланка?

*ЮКА МАЛІНЭН*
*(1950)*

## БЛЮЗ ПЕРАДЗЕЛКІНА

Але і ў надмагіллі Пастарнака
патайна быў схаваны мікрафон,
падключаны калючым дротам; вершы
чыталі тут надрыўна; з асцярогай
маўчалі; маладыя лейтэнанты
дзяжурылі на тым канцы дратоў.

З сюжэтаў тых: мужык чырванатвары
спыняе — з палкай! — дэкламуе: «Слухай!..
Радкі чатыры!..» Заклінальны голас
святлее, бы ў царкве, калі спяваюць,
і неба падключае мікрафоны... —
ад мужыка ратуе інтэрв'ю.

У восені пісьменніцкі пасёлак,
знямелыя бетонныя дарожкі,

і немачны суаўтар «Метраполю»
на слухавы ківае апарат,
а ў горадзе, там, у кальцы Садовым,
тры вершнікі: вайна, чума і смерць.

Звіняць званы — іх звон братва спансуе,
і набеліст гарэлку п'е з гарла, —
Расея!.. Храм. Музей. А лес і поле
не перанесці... Скрозь даты, гадавіны
раялямі расстроенымі, рэхам
славутасцяў уздыхі... Нафталін.

Габрэй самарскі з тварам валявым
спрабуе ўсё ж перакладаць славянам
Ашбера і Паасанена — тых,
што ўсё наконт пагромаў... Вочы Вольгі,
кахання ў дні ганенняў, звершавана,
з анёльскаю нясмеласцю глядзяць.

А з глебы сокі высмактаны... Ранай
асіна барвянее. «У нябёсах,
нібы ў смятане блін, слізгае поўня...»
О Ганс і Грэтэль! Дзеці! Цёмны лес
і непраходны!.. Казак пра яго
бабуля вам дагэтуль не чытала.

## ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН

**(1946, в. Дземяхі Рэчыцкага р-на)**

Першыя вершы надрукавала ва ўкраінскім часопісе «Жовтень», будучы студэнткай Львоўскага універсітэта. Апошні курс давучвалася на расейскім аддзяленні філфака БДУ. Настаўнічала на Астравеччыне, працавала ў «Сельскай газеце», у выдавецтве «Юнацтва», найдаўжэй — у часопісе «Полымя». Аўтарка шасці паэтычных кніг і рамана пра Цётку «Крыж міласэрнасці». Першыя пераклады датуюцца 1970 г.: пераважна з літоўскіх і украінскіх паэтаў. Найбольш заўважны перакладчыцкі плён — «Лірыка» Л. Кастэнкі (1989).

*ЛІНА КАСТЭНКА*
*(1930)*

### ПАСАЖ БОЛЮ

Мала ўсяго — яшчэ й сум гэты воўчы,
і тое людское штодня улюлю!
А мне пацярпець бы, а мне перамоўчаць,
аж покуль не згоркне слова «люблю».
У тых Ніягарах бруду і блуду —
а я перасілю пакуту сваю.

А я пераб'юся і перабуду.
А я пераплачу, перасмяю...
Перачакаю, пераждадаю
і тое спрадвечнае —
　　крыжам на двух.
А гэта — як стрэча з табой чужая,
а гэта, як выбух — слова і рух.
Перанебачу, перанечую.
Перадажджыцца, перабалю.
А я пераднюю, пераначую.
А я неўзабаве пералюблю.
А я ў кашлатыя з'еду Карпаты
і тое каханне у сэрцы здушу.
Зоры-стазоры,
　　ці ж вы тэлепаты?
Навошта глядзіце вось так у душу?!

## ЧУМАЦКІ ШЛЯХ

У Крым далёкі выпраўлялі сына —
нябеснаю дарогай і зямной.
О, як няўцешна маці галасіла...
А жончын плач у памяці — струной.
Стэп завываў. Звінела ў небе птаства.
Валы павольна адмяралі час.
Туды ішлі — вясновым цёплым царствам.
Калі ж назад — марозік браў якраз.
Тапілі сэрцы чумачэнькі ў квартах
ды гапаком разгойдвалі карчму.
Праз стэп ішлі дружынаю чубатай
і везлі соль, тараньку і чуму.
А соль цвіла егіпецкім намістам,
турэцкім срэбрам бліскала ў вачах,
і вараннём, нібыта чорным лістам,
з нябёсаў асыпалася на шлях.
Паабдзіраўшы золата ў харомах,
вятры ў гаях дзялілі барышы.
Перадсмяротная — расла у целе стома.
І перадспеўная — расла туга ў душы.
Яшчэ ж дадому ой як неблізенька.
Праз неба й стэп — ідзі сабе штодня.
Палілі воз. Хавалі чумачэньку,
і галасіла ў памяці радня.
Пасля далей цягнуліся ў знямозе.
Хто азірнуўся — той душою сцерп:
стаіць магіла тут жа, пры дарозе.
Дзядоўнік. Пыл. Пустапарожні стэп.
А прыйдзе ноч — душа ад слёз, як рана.
І душыць цемра, і гарчэе боль.
А той вунь, над галовамі, — да рана
дадому едзе, рассыпае соль.

## СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

**(1946, в. Слабада Бешанковіцкага р-на)**

З настаўніцкай сям'і. Бацька быў дырэктарам школы і краязнаўцам, адшукаў надмагілле аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ф. Тапчэўскага. Пасля заканчэння філфака БДУ (1969) Законнікаў настаўнічаў на Меншчыне, працаваў ва Ўшацкай раёнцы, у сталічных рэдакцыях. З 1978 г. — у ЦК КПБ, сем гадоў загадваў сектарам літаратуры. І, мяркуючы па дзённіках тагачаснага дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Дубянецкага, куратарам быў неблагім, дапамагаў адстойваць перад больш высокім начальствам вартасныя кнігі. Перакладаць пачаў са студэнцкіх гадоў (і добрых паэтаў: А. Блока, Ул. Бранеўскага), але з цягам часу ўсё большую перавагу аддаваў украінцам. Любоў да «нэнькі-Украіны» і руплíўства на беларуска-ўкраінскай літаратурнай ніве ўжо ў часы незалежнасці аддзячацца ордэнам Украіны «За заслугі». Шаснаццаць гадоў (1986—2002) ачольваў часопіс «Полымя». У апошнія гады рэдактарства практыкаваў выпуск «пакраінных» нумароў — нямецкага, балгарскага, югаслаўскага, латышскага, украінскага... Ва ўмовах адсутнасці перакладнога выдання («Далягляды» і «Братэрства» перасталі выходзіць з пачатку 1990-х) гэта хоць неяк ратавала сітуацыю. Паказальна, што галоўны рэдактар нароўні з усімі перакладаў замежную паэзію, і, трэба прызнаць, рабіў тое якасна. Праўда, у арыгінале «Фугі смерці» П. Цэляна — каля трыццаці радкоў, у Законнікава атрымалася сорак шэсць. Дзеля справядлівасці зазначым, што і яшчэ аднаму беларускаму перакладчыку, І. Бабкову, таксама не ўдалося пазбегнуць шматслоўнасці — і ў яго выйшла за сорак радкоў. Але хацеў бы супакоіць нашых чытачоў — у расейца Л. Гінзбурга «Фуга смерці» расцягнулася да ста радкоў. І не дзіўна: твор гэты нагадвае сцюкаваны стог сена, які, каб разгледзець увесь гербарый, трэба расцерушыць па ўсім лузе.

*ЯН БУЛГАК*
*(1876—1950)*

### ВІГІЛІЯ

Вечар. Марозна. Рыпіць снег ля хатаў.
Гоман на кухні я чую праз дзверы:
стукаюць нож там і ступка заўзята,
блізіцца час вігілійнай вячэры.
Дыхае спёкаю печ, нібы пекла,
полымя скача, гудзе ашалела.
Кухар з памочнікам нешта не петраць —
рыба у іх, як на грэх, прыгарэла.

Вось і на стол накрываюць. Матуля,
усё пералічвае-ўспамінае,
сцеле абрус, ён стальніцу атуліць,
сена пад ім прымінае, раўняе.

Шум, гамана поўняць сцены сталовай,
сходзяцца ўсе на вячэру адразу,
шэпчуць малітву кароткую разам.
Снежна бялее наш стол адмысловы.
Маці з аплаткай абходзіць сабраных:
«Каб і праз год дачакацца, дай Божа...» —
і больш нічога прамовіць не зможа,
толькі аплатку нам дзеліць старанна.

Стравы змяняюцца, іх строга лічаць,
быць страў павінна дванаццаць, і толькі,
і не на масле ці тлушчы гатоўка —
поснае есці наказвае звычай.

Я ўрэшце сонна прымружваю вочы,
чую спіной ласку цёплае печы,
бачу туманна і родных, і рэчы,
стол, што пасунуцца некуды хоча.
Думкі мутнеюць і прагнуць спачынку,
і ўсё ж адну не здалела знямога —
заўтра настануць Народзіны Бога,
і ў нашым доме заззяла ялінка!..

Мне не дакончыць думак, што ўюцца,
маці не чую, змыкаю павечкі,
толькі і ў мройлівым сне застаюцца:
цуды — ялінка... прыгожыя свечкі...

*ЭДУАРДАС МЕЖЭЛАЙЦІС*
*(1919)*

## АБУДЖЭННЕ

Укленчыў моўчкі чалавек перад гарой высокай...
Гара прамовіла: скапай каменне, ладзь жытло.
Рака прамовіла: папі вады маёй у спёку —
І смага раптам прападзе, як быццам не было.
І птушка мовіла, што тут па-над гарой кружыла:
Пусці насустрач мне стралу і голад наталі!..
Казуля мовіла: я стаць хачу табе спажывай.
І дрэва мовіла: зрывай, каштуй плады зямлі.
І мовіў буйвал: на мяне надзень ярмо крутое,
Сахой палетак узары — аддзячыць ён заўжды.
Карова мовіла: даі, бач, вымя не пустое.
І апельсін, што цвіў, сказаў: гадуй ля гор сады.
І ружа мовіла: мая краса суцешыць вочы.
І салавей сказаў: цябе парадуе мой спеў.
І мовіў голасна пярун, што бліснуў сярод ночы:
Вазьмі агонь, каб твой ачаг свяціў і дбайна грэў...

Уважна слухаў чалавек жывой прыроды веча:
Мычанне буйвала, шэпт руж, спеў птушак між галля.
Ён вочы даланёй прыкрыў, задумаўся... На плечы
Усім цяжарам немалым націснула зямля...
І ён адчуў, што аднаму такое не пад сілу, —
Ні горы ў камень раскрышыць, ні выпіць воды рэк,
Ні ўсіх пладоў сабраць.
Тады з каменных глыб застылых
Цярпліва ідала пачаў вычэсваць чалавек.
Спяліў, магчыма, у душы ён думку-таямніцу,
Што зможа двайніка стварыць, памочніка сабе,

Каб частку клопатаў аддаць, зямлёю падзяліцца,
Мець сябра вернага плячо ў нялёгкай барацьбе.

Ён доўга цвердзь скалы часаў... І дзіва адбылося —
Пачварна ідал рот скрывіў і паглядзеў наўкол.
І чалавека жах праняў... Ён стаў дары прыносіць,
І рыс, і хлеб, і ружы клаў да ног яго на дол.
Так ідал злосны захапіў зямлі наўсцяж абшары:
Сярэбраныя хвалі рэк, птушыны грай, сады.
А чалавек паклоны біў, ішоў на ўсе ахвяры,
Каб дагадзіць уладару, не выклікаць бяды.
Маліўся шчыра чалавек ля ног свайго стварэння,
За зерне кожнае, за плод яму падзяку слаў.
А ідал радаваўся той пакоры і ўтрапенню,
Ва ўсмешцы рот каменны свой пагрозна раззяўляў.

Але прамовіла гара: глядзі, стаю я цвёрда,
І рэчка мовіла: цяку туды, куды хачу,
І птушка мовіла: лячу я радасна і горда,
І дрэва мовіла: расту, пад ветрам не маўчу.
Казуля мовіла: скачу, свайму жаданню згодна,
І ружа мовіла: цвіту, навошта мне тужыць,
Маланка мовіла: бягу па правадах свабодна,
Зямля сказала: я — твая, працуй — і будзеш жыць.
І абудзіўся чалавек, пачуўшы тыя словы,
Устаў з каленяў на ўвесь рост, не зломлены мальбой.
І жах, які даймаў, душыў, ён строс, нібы аковы,
Прамовіў: ідал, ведай, стаць хачу я сам сабой.
І пакланілася яму прырода ўся дазвання:
Гара, сады, што зацвілі, і сто празрыстых рэк.
І ў ідале убачыў ён сваё адлюстраванне,
Сваё, ды нежывое. Так прачнуўся чалавек.

*ПАЎЛЬ ЦЭЛЯН*
*(1920—1970)*

## ФУГА СМЕРЦІ

Чорнае малако мы п'ём яго ўвечары
мы п'ём яго ўпоўдзень і ўранні мы п'ём яго ўначы
мы п'ём яго і п'ём
мы капаем магілу ў нябёсах ляжаць там не цесна

Чалавек жыве ў доме ён песціць вужак ён піша
ён піша калі змрачнее над Германіяй твае залатыя валасы
Маргарыта
ён піша і выходзіць з дому і блішчаць зоркі ён свішча
сваім аўчаркам
ён свістам склікае сваіх яўрэяў прымушае капаць магілу ў зямлі
ён загадвае нам а ну пачынайце мелодыю танца

Чорнае малако мы п'ём цябе ўначы
мы п'ём цябе ўранні і ўпоўдзень мы п'ём цябе ўвечары
мы п'ём цябе і п'ём

Чалавек жыве ў доме ён песціць вужак ён піша
ён піша калі змрачнее над Германіяй тваё залатыя валасы
Маргарыта
Твае попельныя валасы Суламіф мы капаем магілу
ў нябёсах ляжаць там не цесна

Ён крычыць эй вы капайце глыбей эй вы спявайце і іграйце
ён хапаецца за пісталет ён пагражае у яго блакітныя
бязвінныя вочы
эй вы налягайце на рыдлёўкі эй вы іграйце мелодыю
танца гучней

Чорнае малако мы п'ём цябе ўначы
мы п'ём цябе ўпоўдзень і ўранні мы п'ём цябе ўвечары
мы п'ём цябе і п'ём
чалавек жыве ў доме твае залатыя валасы Маргарыта
твае попельныя валасы Суламіф ён песціць вужак

Ён крычыць іграйце шчымлівей мелодыю смерці
смерць майстра з Германіі
ён крычыць вымайце са скрыпак душу тады вы як дым
узнімецеся ў паветра
тады ў вас будзе магіла ў аблоках ляжаць там не цесна

Чорнае малако мы п'ём цябе ўначы
мы п'ём цябе ўпоўдзень смерць майстра з Германіі
мы п'ём цябе ўвечары і ўранні мы п'ём і п'ём
смерць майстра з Германіі у яго блакітныя
бязвінныя вочы
ён сустрэне цябе свінцоваю куляю ён пацэліць дакладна
чалавек жыве ў доме твае залатыя валасы Маргарыта
ён нацкоўвае сваіх аўчарак на нас ён дорыць
нам магілу ў небе
ён песціць вужак і трызніць смерць майстра з Германіі
твае залатыя валасы Маргарыта
твае попельныя валасы Суламіф

*ЯН ГУРЭЦ-РАСІНЬСКІ*
*(1920)*

## ПЕРШАЯ І НАСТУПНЫЯ

Застанься яшчэ! падоўжы боль
сон уратуй як нябесную пошту
сваім адыходам са мной не ваюй
з каханнем першым і можа апошнім

Рыпенне дзвярэй — як меч як смерць
злосць у вачах папрокаў спазмы
выціскае першая любасць слязу
другая з трэцяй — толькі аргазмы

## FASCINATIO NUGICITATI

Сыпала абяцанні
чаравала лашчыла
усселася зверху
пагнала ліса

Абсунулася сядло
конь устаў дыба
уцёк
ліс у нару

колькі злосці ў вачах
пасля няўдалага
рэйду рыссю!

*ІНГЕБОРГ БАХМАН*
*(1926—1973)*

## МАЯ ПТУШКА

Што толькі ні здараецца: разбураны свет
апускаецца назад, у змрок,
лясы берагуць для цябе напой сну,
а з вежы, якую пакінуў вартаўнік,
бліскаюць спакойна і надзейна вочы савы.

Што толькі ні здараецца: ты ведаеш свой час,
мая птушка, бярэш сваю намітку
і ляціш праз туман да мяне.

Мы будзем углядацца ў цемень з праблiскамі святла.
Ты зразумееш мой знак, рынешся ўніз,
натапырыўшы пер'е і пух, —
мая ільдзяна-шэрая паплечніца, мой абярог,
узброены пяром, маёй адзінай зброяй!
Маё адзінае ўпрыгожанне: намітка і пяро — ад цябе.

Калі ад танца пад дрэвам, на ігліцы,
смыліць мая скура
і невысокі куст
спакушае мяне духмяным пахам лістоты,
калі мае пасмы развяваюцца,
завіваюцца і набракаюць вільгаццю,
зорны пыл падае мне
проста на валасы.

Калі пад шлемам дыму
зноў ведаю, што здарыцца,
мая птушка, мая начная спадарожніца,
калі ахоплена полымем уначы,

у звыклай цемры чуецца трэск,
і я выкрасаю з сябе іскры.

Калі я палаю
і агонь мяне любіць,
пакуль смала не выступіць з камлёў,
не капне на раны,
гоячы зямлю
(а ты, мая птушка вернасці і веры,
выкрадзеш у ночы маё сэрца!),
зусім іншай паўстае тая варта,
якую ў чароўным спакоі
ты абляціш, —
і такое здараецца.

*СТЭФАН ПАПТОНЕЎ*
*(1928)*

**ВЯЧЭРА НА ТРАІХ**

Ты са мною,
каб сэрца пяшчотай і ласкай палоніць,
блаславёная,
        дзякую лёсу,
                што ты такая.

Промні спелага захаду
        падаюць на твае далоні.
Нейкія людзі ля нас праходзяць,
нешта шукаюць.
Хто ідзе — зняверaным, або пераможцам шчаслівым,
або філосафам мудрым, праведным?
Бізнесменам, што мае набытак,
або тым,
чый шлях занавешаны чорным крэпам?

Мы з табой багатыя, бо жывём сваёй праўдаю,
якая,
        па сутнасці,
                нашая
непрыступная крэпасць.

Дзеці выраслі — іх у хаце няма,
восень прыйшла, за ёю будзе зіма.
Не сабралі мільёнаў, ды ёсць жытло,
а больш не трэба нічога.
На траіх ладзь вячэру,
палічы сама:
для цябе,
мяне
і для Бога...

*МАРКА ГАНЧАЎ*
*(1932)*

## РАЎНІВЫ СУЛТАН

Султан скумекаў — трэба змены —
і ладзіць стаў парадак новы,
таму ў глухіх гарэмных сценах
замкнуў ён не жанчын, а словы.

Ён добра ведаў без Карана,
якую слова мае сілу,
чыя паслужлівасць султану
важней, чым ласкі жонак мілых.

Ахоўваў і сачыў заўсёды
за словамі раўніва, строга,
але ніводным не валодаў —
куды там, іх жа столькі многа!

Ты кажаш: мог бы, і дарэмна,
пра гэта ўжо няма размовы,
бо раптам... так... з яго гарэма
на волю паўцякалі словы.

Калі дзе здарыцца такое,
лепш памаўчаць — хто вінаваты?
Султан гарэмныя пакоі
даверыў еўнухам-кастратам.

*ВОЛЬФ БІРМАН*
*(1936)*

## ПАЛІТЫЧНАЯ ЗААЛОГІЯ

Мы зноў устанем на ногі,
— кажуць пацукі

Пакажыце цвёрдасць!
— кажуць чарвякі

Заўтра ўсё стане лепей,
— кажуць мухі-аднадзёнкі

Наперад! Наперад!
— кажуць ракі

Не высоўвайцеся занадта высока!
— кажа страўс

Тут пануе свабода слова,
— кажуць рыбы

Пакажыце свой сапраўдны колер!
— кажа хамелеон

Няхай будзе святло!
— кажуць кажаны

Не забі,
— кажа сцярвятнік

Не падціскайце хвост,
— кажуць сабакі

Мы й мухі не пакрыўдзім,
— кажуць павукі

Толькі без праліцця крыві,
— кажа вампір

Заўжды заставацца чалавекам!
— кажуць свінні

Дружба!
— сказаў казёл
і ўзняў мяне на рогі

*РОБЕРТ ГЕРНГАРТ*
*(1937)*

## СЕМ РАЗОЎ МАЁ ЦЕЛА

Цела маё — тонкая рэч,
я побач з ім, як цень.
Хутаю ў вопратку яго
і кармлю кожны дзень.

Целу майму добра са мной,
мáе хлеб і віно.
Ды бурчыць, што мала, і прэч
выкіне ўсё адно.

Цела маё — неслух заўжды,
крыўдай прагне ўкалоць.
Я люблю слова, фарбу, гук,
цела хвалюе плоць.

Цела маё творыць бруд, пот,
росціць пазногці, шчэць.
Я ж мушу зноў стрыгчы, галіць,
за чысцінёй глядзець.

Цела маё ўзялі ў палон
сквапнасць, лянота, блуд.

Губіць сябе, а я цярплю,
зноў лячу ад пакут.

Цела маё прыносіць боль,
спеліць маю слязу.
Я ж праз горы яго нясу
і на мора вязу.

Цела маё — труцень нямы.
Што яго закране?
Я ўвесь час для яго жыву.
Цела нішчыць мяне.

*ЯЎГЕН ГУЦАЛА*
*(1937–1995)*

* * *

Штогод, штодня без перадыху
жыву, як жыў. Жыву, як жыў.
Душу не закалыхваў пыхай,
сабе куміраў не стварыў.

Не грукаў ні ў якія дзверы,
няпраўдзе я не біў чалом.
Паэзія — мая галера,
дзе давялося стаць рабом.

Я ведаў: раб жыве без права.
Дабра заўжды няма без зла.
Я сам прыкуў сябе да лавы,
сам прыкайданіў да вясла.

Так і жыву цяпер да скону
з вяслом у стомленай руцэ,
бо праўда — пот густы, салёны,
што стыне на маёй шчацэ...

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938–1985)*

* * *

Нада мною сінім вокам неба;
шлаку шэра-чорная труна
сціснула душу. Мо так і трэба:
лопнула апошняя струна,
што была напята верай. Досыць.
Сіл няма. І смерць перадусім
заклінае, павучае, просіць:
згінь, калі нямоглы. Трасца ім,
тым гадам, якія непражыты.
Дык бяры сабе астатні шлюб,
бо не ўзыдзе на каменні жыта
і не ўспыхне лісцем мёртвы дуб.

*ПАСІЯНАРЫЯ СТОЙЧЭСКУ*
*(1946)*

### МОЙ ДАРАГІ НЯБОЖЧЫК

Я спявала б свае вершы
Або чытала іх тым,
Хто стаяў бы і слухаў.
Але хто ў нашым гармідары і дачасніцтве
Можа спыніцца на імгненне?
У старых брудная вата ў вушах,
У маладых — навушнікі,
І ўсе яны хаваюцца,
Абараняючы адзіноту,
Як слімакі ў сваю ракавіну.
А выбару няма —
Пішу паэмы,
Нараджаю свайго дарагога нябожчыка
І моўчкі кладу яго
У белую дамавіну паперы,
Якая кожны дзень даражэе,
Бо яна была некалі дрэвам.
Зараз увесь свет
Кішыць мёртвымі паэмамі,
А дрэў усё меней і меней,
І нікога гэта не клапоціць.

У старых брудная вата ў вушах,
У маладых — навушнікі.

## ЛЮДМІЛА ПЯТРУЛЬ

**(1947, в. Мацвееўцы Ваўкавыскага р-на)**

Прафесійная мастачка. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1971) працавала на баваўняным камбінаце ў Баранавічах, выкладала ў мастацкіх школах, у Беларускай Акадэміі мастацтваў. Займаецца пераважна габеленамі, а таксама роспісам на тканіне, акварэллю, графікай. Вершы публікуе з 1970 г., адна з прыкметных аўтараў калектыўнага зборніка «Сцяжына» (1983). Як перакладчыца выступіла ўсяго некалькі разоў, затое — у «Даляглядах».

*КАЗІМІРА ІЛАКОВІЧ*
*(1892–1983)*

### ЛІХА

Не трэба мяне выганяць, не трэба мяне адпіхаць!
Яблыню абдыму за шыю, пачне яблыня засыхаць,
прайдуся малiннікам, над агрэстам усхліпну,
скруціцца лісце, плямы чорныя да ягад прыліпнуць.

Не трэба мяне выганяць! Сухі шпарагус пагну,
да град цяністых трускавак цётку-рапуху гукну.
У стайні распляту кудлы, зноў закручу дагары,
і прыйдуць з зямлі індыйскай вялізныя, рагатыя шчуры.
Трэба мяне ў дом запрасіць, за дубовы стол пасадзіць,
трэба мяне прылашчыць, халодныя ногі пагладзіць,
а як сон агорне ці слязьмі зальюся —
доўга чало меднае цёплымі цалаваць вуснамі.

## ІОЎ

Той Іоў — немаведама хто: качэўнік, а мо бедуін?! —
пасля стolькіх нягод, як сілач, падняўся з руін:
мноства новых статкаў нажыў,
жонак яго, сыноў аніхто не злічыў,
а з прыяцеляў, служак розных
мог бы выстраіць полк грозны.
І, як некалі, у час панавання былога,
зайздрасць брала лісліўца любога.

Але вось на пытанне, хто з іх самы любы,
ён ківаў галавой, расцягваў загадкава губы.
А рукой, што ад працы адвыкла за стolькі часу,
гладзіў Бурку кудлатага з косткай у пысе бліщчастай —
дварняка, што ішоў з ім дарогай пакут аддана,
што залізваў яму, адзінокаму, гнойныя раны.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

**(1947, в. Сялец Бярозаўскага р-на)**

Сын геолага з Тамбоўшчыны, які перад Другой сусветнай вайной прыехаў у Беларусь з геадэзічнай экспедыцыяй. Маці працавала ў вясковай больніцы. У 1966—1970 гг. вучыўся на філфаках БДУ і Брэсцкага універсітэта (давучыцца ў сталіцы не далі за «нацыяналізм»: студэнты А. Разанаў, В. Ярац і Л. Барташ збіралі подпісы, каб грамадскія навукі на беларускім аддзяленні чыталіся па-беларуску). Атрымаўшы дыплом настаўніка, выкладаў у Камянецкім раёне, адкуль быў змабілізаваны ў савецкае войска (хоць існаваў загад — настаўнікаў не прызываць). З 1972 г. — у сталіцы, працаваў у рэдакцыях, у выдавецтве «Мастацкая літаратура», непрацяглы час рэдагаваў часопіс «Крыніца». Аўтар шматлікіх паэтычных кніг (за зборнік «Вастрыё стралы» — Дзяржаўная прэмія Беларусі 1990 г.). Вынаходца новых паэтычных фомаў — версэтаў, квантэмаў, вершаказаў, зномаў. Вучыўся ў Славістычнай школе ў Чэхаславакіі, самастойна вывучаў нямецкую, ангельскую, літоўскую, сербскахарвацкую мовы. Удзельнічаў у міжнародным конкурсе ЮНЕСКА «Сустрэча роднасных сусветаў», стаў дыпламантам. Пераклаў некалькі камедый У. Шэкспіра, «Гітанджалі» Р. Тагора, зборнік трох літоўскіх паэтаў М. Марцінайціса, С. Гяды і Э. Межэлайціса «Белы замак на гары» (1992), зборнік сучаснай нямецкай паэзіі («кропка кропка працяжнік», 2000). Актыўна ўдзельнічаў у літоўскай (1977) і сербскай (1989) анталогіях, рэдагаваў двухтомавую грузінскую (1989), якая можа служыць узорам падобнага выдання. Перакладаючы «Балады Кукуціса» М. Марцінайціса, Разанаў так увайшоў у вобраз кульгавага, з драўлянаю нагою героя, падобнага да персанажа жэмайцкага фальклору, што сам напісаў сем баладаў (і змясціў іх сярод твораў Марцінайціса!). Пераствaрыў на сучасны лад шэраг твораў старажытнай беларускай літаратуры (Кірылы Тураўскага, Ф. Скарыны, М. Сматрыцкага, К. Транквіліёна-Стаўра-

вецкага ды інш.), запачаткаваўшы, па сутнасці, «жанр у жанры» — узнаўленні. З 2001 г. жыве ў Германіі і Швейцарыі, на радзіме бывае наездамі. Напісаў па-нямецку кнігу «Wortdichte», атрымаў тамтэйшую літаратурную прэмію Ё. Г. Гердэра. І, мабыць, гэта невыпадкова, ці «das ist kein Zufall», як напісаў сам паэт у адным з версэтаў.

*МІКАЛОЮС ЧУРЛЁНІС*
*(1875–1911)*

## САНАТА

*Allegro*

Восень. Самотны сад.
Сіратліва калышуцца дрэвы і цярушаць лісце на сцежкі,
а неба шэрае-шэрае і такое сумнае,
як можа быць сумнай толькі душа.
Па дзірване, па лехах брыдзе чалавек,
трымаючы ў руцэ граблі і мех за плячамі.
Тут красавалі нядаўна кветкі,
а цяпер усё пуста,
цяпер усё роўна.
Восень. Смуткуе душа.
І неба шэрае-шэрае. Далей дарогі няма!
Зацерушыла яе жоўтае лісце, барвовае лісце.
Стаяць і шумяць сіратліва дрэвы.
Самотны сад.

*Andante*

Восень. Імжыць зноў дождж, паволі падае лісце,
кружыцца непрытомна ў паветры,
кладзецца на сцежкі, кусты, траву...
Нежывы адзін ліст,
падаючы, дакрануўся да майго твару,
да рук, а потым лёг мне пад ногі,
і я пераступіў праз яго асцярожна,
каб не стаптаць.
Блукаючы ў садзе, я наступаў на іншыя лісты
і адчуваў іх, калі наступаў.
Так шмат іх, так шмат — немагчыма асцерагчыся.
А шамацяць яны гэтак шорстка, гэтак здранцвела,
быццам кажуць: нам усё роўна ўжо.
У глыбіні саду стаіць пусты дом.
Нядаўна тут людзі жылі,
глядзелі з акон і смяяліся дзеці.
А цяпер пазабіваныя дошкамі вокны,
а дом пусты.

*Scherzo*

Восень. Перастаў ліцца дождж,
і выглянула, рассунуўшы шэрую навісь хмар, сонца.
Якое прыгожае сонца!

Асвятліўся самотны сад,
перасталі шумець сіратлівыя дрэвы,
аднак падае і падае лісце на сцежкі, траву, кусты.
Яму ўсё роўна.

*Finale*

Восень. Смуткуе душа.
І таму, што нядаўна свяцілася сонца, —
яшчэ сумней.
Я сеў на лаўку каля пустога дома
і стаў дзівіцца на вокны, пазабіваныя дошкамі.
І мне здалося, што гэты сад не мае канца,
што ўсю зямлю ён займае сабою...
Дзе-нідзе, паасобку, стаяць у ім пустыя дамы
з невідушчымі вокнамі,
а сцежкі, дарогі засыпала звялае лісце.
На ўсёй зямлі гаспадарыць восень,
а зямля — гэта сумны самотны сад.
Сіратлівыя дрэвы шумяць і плачуць лістамі звялымі,
іх усё больш і больш,
яны зацярушваюць усе дарогі,
усе сцежкі, усё-усё...
На ўсёй зямлі восень, і смутак,
а па дзірване, па лехах брыдзе чалавек,
трымаючы ў руцэ граблі і мех за плячамі,
і дарэмна стукаецца ў дамы,
ідзе далей і зноў стукаецца, усё далей і далей,
і ўсюды дарэмна.
Пустыя дамы, і невідушчыя вокны.
Што з таго, што жылі тут раней людзі,
што глядзелі з акон і смяяліся дзеці.
Цяпер вокны пазабіваны, і нікога ў дамах, і восень.
І неба шэрае-шэрае і такое сумнае,
як можа быць сумнай толькі душа.
Восень.

*ІВА АНДРЫЧ*
*(1892—1975)*

## УСЁ БОЛЬШ, УСЁ БЛІЖЭЙ

Небакрай становіцца ўсё больш тонкі,
быццам святлее,
і ад светлыні — усё больш непразрысты.
Усё хутчэй,
усё хутчэй набліжаецца тое імгненне,
калі не будзе больш небакраю,
бо не будзе больш і вачэй,
якія яго аглядаюць.

*ЯРАСЛАЎ САЙФЕРТ*
*(1901—1986)*

## ЦЯЖАР ЗЯМЛІ

Як паўтараецца крона дрэва
там, пад зямлёю, у глыбіні,
кронай яго карэння,
што доўга яшчэ жыве,
калі ўпадзе само дрэва, —

мо так і ў людзей, як памруць,
аднэпак жыцця застаецца
там, пад нямою зямлёй,
дзе супадаюць канец і пачатак.
Але нічога пра тую ноч
мы ведаць не ведаем:
фарбы, якія адтуль
точацца ў цюбікі кветак,
заўсёды там чорныя,
і ў вады заплюшчаны вочы.

Верыць не верыцца, што маглі б
нябожчыкі нанава ўстаць
і хадзіць у цяжары зямлі.
Але зрэшты!..

Калі адыходзіць буду,
нічога з сабой не давайце,
а дайце кіёк.
І каб ён быў белы.

З той цемры, з якою знаёмы
хіба што адны сляпыя,
я паспрабую як-небудзь
хоць на траве, паказаць вам,
як выглядае смерць, —
вокамгненне,
якога чакаем усё жыццё.

Некалі неяк вуха
я прытуліў да зямлі —
і пачуў ціхі плач: мо гэта
плакала толькі вада,
што студняй цягнулася ўгору,
а ёй не хацелася да людзей.

*СРЭЧКА КОСАВЕЛ*
*(1904—1926)*

## СЕЛЯДЦЫ

Прывандравала ў Любляну
судзіна з селядцамі.
Пыталіся ў іх
аб палітычных перакананнях.
Паведамілі, што яны
паходзяць з Ісландыі.
Кажа
мадэрны паэт
пра згубу.
Былі селядцы
зачынены ў судзіне
тыдзень цэлы
і прасмярдзелі.

*БРАНІСЛАЎ Л. ЛАЗАРАВІЧ*
*(1910)*

## РАССМЕРЧАННЕ

Труны — падземныя хаты: іх
пасля таго, як памруць, нябожчыкі

засяляюць.

Тады запаноўвае
золкі вялізны час,
пакуль не пакліча нябожчыкаў у жыццё

зачацце.

І зноў запаноўвае
золкі вялізны час,
пакуль не пройдуць
нябожчыкі праз

сваё раззачацце.

*ЁЖЭ УДОВІЧ*
*(1912—1986)*

## ГЕРАІЧНЫ КРАЯВІД

Вязні зямлі —
шукаюць
дрэвы адно аднаго
ў навальніцу.

Імкне
неўтаймоўная моц
іх у высі.

З пагорка
гляджу, як яны
разломваюць неба
надвое,
як пагражаюць
аблокам.

*АЛЬБІНАС ЖУКАЎСКАС*
*(1912)*

**НЯТЛЕННАСЦЬ**

Смала скамянела бурштынам калісьці:
Застыў матылёк — растапыраны крылцы ў бакі...
Здаецца, адзінае выйсце
На свеце ўцалець праз вякі.

Карціць не пяском, не травою,
А так: як жывы ля жывых, —
Укінься ў смалу з галавою
І выбудзеш болей за ўсіх.

*ВАСКА ПОПА*
*(1922)*

**ТОЙ СВЕТ**

Брала бабуля дошчачкі
Клала на іх святочныя пірагі
Ставіла на іх запаленыя свечкі

Шаптала над імі пасланні
Жанкам і мужчынам-нябожчыкам з нашага роду
І адпускала плысці па рацэ

Слізгалі дошчачкі па чорнай вадзе
Высвечвалі свечкі суценне
За лукавінай ракі знікалі

Счакаўшы бабуля казала
Што трапілі на той свет
Нашы пасланні

Быў на тым свеце я сам не раз
Там у вярбе зялёнай
На птушак ставіў сілкі

Не ведаў аднак
Што лавіліся ў іх
Родзічы мае з таго свету

МІЛДРАГ ПАЎЛАВІЧ
(1928)

## ПАД ЗЯМЛЁЮ

Жвавы павук
на сцяне
захоплівае ў павуцінне
свой цень

Па спарахнелай драбіне
жоўтая свечка
спускаецца
ў склеп

У склепе
тоіцца цемра
і бездань

Адзіныя дзверы
з зямлі
пад зямлю
некага прапусцілі

Адзіны мураш
нанізе драбіны
убачыўшы чалавека
узняў руку

Ягоных перасцярог
ніхто
ніколі
не чуе

РАМУНА СКУЧАЙТЭ
(1931)

## ЧАС

Крышыцца час няспынна.
(Ем я свой хлеб жытнёвы.)
Палова мяне — ўспаміны.
Ціша — другая палова.
Мёртвага вожыка ў шатах
Гладжу.
        Асенняя госця...
(Людзі былі заняты,
Кавалі нажы і восці.)

Сонца... —
мой бог занядбаны.
Мо ўкленчыць за ўсе н і к о л і!
Але паплавы і паляны
Зямлю напалам раскалолі.
Сцежку пярэймуць крушні,
Возера возьме ў сховы...
Крышыцца хлеб мой скрушны.
Крышыцца мой жытнёвы.
Знябыліся закалоты,
Спрачаецца вецер з імглою.
Учора — са мной лістота,
А заўтра ўжо — нада мною.

## *АНДРЭЙ ГЕРМАНАЎ*
*(1932—1981)*

* * *

У ястраба страляе паляўнічы,
і прэпаруе, й вешае да столі,
каб меціь і напасля яго палёт.

Зрывае ружу вохкую батанік
і звыкла зашчамляе ў прамакаткі —
не пахне хай, трывалая затое.

Сваіх паэтаў забівае свет
і, прэпараваўшы ў бронзу або мармур,
на гарадскія плошчы выстаўляе.

Так вечныя яны
і ўжо
бяспечныя.

Няшчасны бессмяротныя. Яны,
каб быць — заабавязаны памерці...
Ўвайсці туды, выходзячы адгэтуль...

І я збіваю з лёту свае думкі,
у словы цяжкія закоўваю упарта,
хаваю ўпарта ў кнігі-дамавіны.

Кахаючы, разважваю каханне
і забіваю, каб не змарнаваць,
каб меціь яго заўсёды ва ўспамінах.

Шчаслівыя імгненні і пачуцці
я разразаю з вытрымкай хірурга:
абессмярочваю і асмярчаю.

Без смерці
не бывае
бессмяротнасці.

О чучалы маіх пачуццяў,
маіх імгненняў, думак, летуценняў,
што мне раскажаце пра маладосць,
калі
здрухлею?!

*ЗВЕЗДАН ЁВІЧ*
*(1935)*

**РЭКВІЕМ**

*

Імя тваё
пішуць птушкі на аркушы поўні
імя тваё
вымаўляе лета зморшчынамі кары
імя тваё
рассыпаецца жменькай сухога пылу
і я праз імя тваё бачу
пространь мінулага
і сонечнае сяйво

*

Жоўтыя свечкі душы тваёй ззяюць увышыні
жоўтыя птушкі цела твайго
выпраўляюцца ў вырай
зноў успамінаў салёны дождж
вагаецца над урочышчам цемры
адкуль твая памяць бярэ пачатак
празрыстая памяць
чарот
і блакітны вецер
пакладзены мечы смерці ў каўчэг
гэта цяпер усё гэта цяпер
час што кіруецца проці тваёй хады

*

Пад зоркай зялёнай
становяцца на калені
шкілеты нябожчыкаў безыменных
і завучваюць алфавіты смерці
але закрэслены словы
што ззялі як промні і як трава
закаменаваны словы што як агонь шугалі
словы якія ты вымаўляў

*

Глядзіш
а праз голле тваіх касцей
цячэ жвір нябыту
маўчыш
а птушкі ляцяць праз бяскрай твайго цела

стаіш на краі сусвету
адкуль набягаюць шумлівыя хвалі смерці
і зелянее салёны вецер

*

У вачах тваіх
іншае небаззяе
узнікаюць чорныя буры
і выбліскваюць дзіды маланак
смерць забірае ў цябе тваё цела
і аддае зялёнай траве
ты стаў аднолькавы з вечнасцю і спазнаў
мудрасць якую я стану тлумачыць
па лісцях травы

*

Трапечуць
разгортваючыся ў маёй крыві
пялёсткі слоўніка дзе занатоўваліся твае словы
ведаю: ён пачынаецца
і канчаецца словам любоў
божа пасля ўсяго гэтага ты застанешся
пад скурай маёй на маіх касцях
тлумачаны птушкамі
што адлятаюць і зноў прылятаюць
тлумачаны знічкамі-уцякачкамі
і зманлівай светлынёй
пішаш слова любоў замест усіх гэтых слоў
якія дагэтуль былі вядомы

*РОБЕРТАС КЯТУРАКІС*
*(1935)*

## ДЗЯЛЬБА

Я падзялюся ў гэтых прыцемках дажджом
і дрэвамі, якім няма прытулку.
І хмары нізкія абчэпяць шчыльна дом.
шкло выдушаць, заклубяцца між сценаў.
Я знаю, дастаткова адной думкі —
і далягляд адновіцца бяздонны:
ашмёткі хмараў выпадуць праз рамы,
зашкляцца рамы, загамоняць клёны
за шклом ізноў, уціснецца зноў час
у пульс, у зрэнкі, у прахон бетонны...

Якая думка — не спазнаў зусім,
ды адчуваю чыстую, як сненне, —
адну яе я не дзяліў з нікім,
адна яна давала мне натхненне
сабою быць і верыць: мы былі,
мы будзем і мы ёсць тут не часова —

нязменнымі, сапраўднымі, калі
адноснасць перамацвае асновы...

Якая думка? Памяці нямаш...
Пад ёю, быццам сшыліся, сышліся
спакой, і дабрабыт, і слоў кірмаш,
і аскабалкі позіркаў і высяў...
Але няма таксама забыцця —
і прадчуванне тоіцца ў істоце,
яно са мной: смяюся, як дзіця,
і з вечнасці самой, і з бессмяроцця.

Нічога больш не маю: цёмны гром,
усмех твой, хмары шэрыя ў завулку...
Я падзялюся прыцемным дажджом
і дрэвамі, якім няма прытулку.

*РАДАСЛАЎ ЗЛАТАНАВІЧ*
*(1936)*

## ВЕЦЕР

Вецер не ведае дзе давядзецца яму начаваць
дзе сустракаць світанак
насенне кветак і дрэў з якімі ён сябраваў
парассейвалася да Кітая
вырасла лугам
вырасла лесам
свабода здабытая з перашкоды
цалуе яго дыханне
багі
што не могуць своечасова яго ўтаймаваць
трымаюцца за вуздэчку
і сваё багаславенне яму даюць
а ён з арабскай кабылай
імчыцца наперагонкі

*МАРЦЭЛІЮС МАРЦІНАЙЦІС*
*(1936)*

## КУКУЦІС РАСКАЗВАЕ ПРА СВАЮ ХАЦІНУ

Такая ў мяне хаціна —
на два канцы.
Гляджу праз адно акно —
сонца ўзыходзіць,
гляджу праз другое —
заходзіць сонца.

У гэтым канцы —
зацвітаюць сады,

а у тым —
асыпаюцца яблыкі.

Праз адно акно бачу:
выходзяць у поле сеяць,
а праз другое —
усё пажалі.
У гэтым канцы
вянчаюся з маладою,
а ў тым —
са старою сваруся.

У гэтым канцы
зухаватыя скокі,
а ў тым —
выпадаюць зубы.

Такая ў мяне хаціна —
на два канцы:
у адным —
жывы шпацырую,
а ў другім —
памерлы ляжу.

## НЕ ДАЗВОЛІЦЬ!

Не дазволіць,
каб Кукуціс з возам саломы
уехаў у дзверы універсама!
Не дазволіць,
каб на Катэдральны пляц
пазганяў
сваё згаладнелае свінства!

Не дазволіць,
каб з касой на плячы
узняўся па трапе ў самалёт,
што ляціць далей, чым за Жэмайцію,
або —
па тэлевізары каляровым
паказваўся босы,
з курыцаю пад пахай!..

Не дазволіць,
каб у зале нарадаў і пасяджэнняў
наслаў саломы
для цялення пяршачкі,
або —
вяртаючыся разам з палоннымі,
у філармоніі
збудаваў сабе нары!

Не дазволіць, каб у гарадскім скверы
кляпаў касу,
падкоўваў каня
або —
прыходзіў на «Лебядзінае возера»,
падпяразаны пілою!

Не дазволіць,
каб, праязджаючы
ля ювелірнага магазіна,
пакінуў конскія бульбяхі,
у якія б упэцкалася выпадкова
найпрыгажэйшая віленская паненка!

*МІХАІЛ РЭНДЖАЎ*
*(1936)*

## ГРОМ

Усю ноч хаваецца
У поцемным спраце сонца
І сонцавых коней пільнуе

Раніцай выкрадае
Каня і яго асядлаўшы
Вогненным мечам б'е па бяросце

Потым злятае
На купал
Манастыра

Апоўдні ходзіць сярод людзей
І першага каго сустракае
Джаліць у спаміжвочча

З таго каго ён уджаліць
Кажуць
Паэт вырастае

*МІЛАВАН ДАНОЙЛІЧ*
*(1937)*

## АПОШНЯЯ ЛАСКА КРАЯВІДУ

Дзень упрыгожвае пусткі саетамі лета,
ранак па рэках плыве ў тумане, бы ў чаўне.
Страціўшы шлях, сустракаюся раптам са светам,
што нарадзіўся аднойчы са мной і ўва мне.

Ён павядзе па палях пуцявінамі болю
у красаванне світанку, што й зараз не згас:

гэта ўспамін пра наступнасць, і ён не дазволіць,
каб даўніна калі-небудзь састарыла нас.

Сэрца пільнуе свой час, адцураючы стому,
і, пазбягаючы розных дакучлівых драм,
сплю я ў адрыне зялёнага лета, бы дома, —

згодны з ціхмянай травою, сугучны вятрам,
роднасны сонцу старому, чый бурыцца храм,
сам сабе зноў, быццам зменлівы свет, невядомы.

*ЗДРАЎКА КІСЁЎ*
*(1937)*

## РЫСЫ

*

Там, на краёчку даху
два галубкі мілаваліся неспатольна.
Ах, калі нават маеш
крылы — каханне, мабыць,
усё ж саладзейшае над бяздоннем.

*

Вечар. Сланечнікі апускаюць
стомленыя галовы.
А можа, яшчэ ўсё шукаюць сонца,
якое ўжо недзе ўнізе,
у тым паўшар'і зямным.

*

Калісьці, у дзяцінстве,
у кожным дрэўцы
бачыў я мачту заўтрашняга карабля,
цяпер у ім бачу
заўтрашні крыж.

*

Я жыў, як над безданню кветка,
а наваккол
усе заўважалі альбо толькі кветку,
альбо толькі бездань.

*

Такія розныя —
а вось разам!..
Снег, дакранаючыся да яе,
растае,
дождж, дакранаючыся да яго,
становіцца снегам.

*

Змучаны смагай, схіліўся я над крыніцай —
і адхіснуўся назад:
каб свайго аблічча
не выпіць раптам.

*

Кароткія вершы —
яны
пісаліся ў цемры,
пры зломе маланак.

*

Гэткая доля —
па дыме над комінам
узнаўляць
згарэлыя дрэвы.

*АЛЯКСАНДР РЫСТАВІЧ*
*(1938)*

## ПЕРАД ТЫМ

Перад тым як зраблюся зямлёй,
на якой зацвіце твая роспач,
перад тым як з'яднаюся з чымсьці іншым, чым я,
ты будзеш ісці маім полем,
маёй лагчынай,
маім пагоркам,
і наваколле, якое мяне трымала,
будзе цябе трымаць.

Перад тым як зраблюся крывёй,
якую слова твае ўгаворыць,
ці звонам самотным,
ці глуханямою гутаркай дрэў,
цябе абступяць пераапранутыя прадметы,
як у нейкай забытай песні,
да якой вяртаюся ўсё жыццё.

Перад тым як зраблюся сном, прастораю, часам
і дзіцянём, якога бароніць роспачны плач,
будзеш стаяць нерухома, заплюшчыўшы вочы,
і слёзы цябе прымірадь з усім,
што перамагае цябе.

Перад тым як зраблюся воблакам і вадою
і яблыкам, які ты ружовым світанкам сарвеш,
да цябе дакранецца голле дзівоснага дрэва,
да цябе павернецца аголеная святыня.

Перад тым як зраблюся морам, якое мяне вяртае,
перад тым як зраблюся воскам,

атрутаю, крокам унутр,
роспачнай цемрай за разадранай заслонай,
ты будзеш слухаць мой голас,
маю хаду ў берагах.

*АЛЯКСАНДР ПЕТРАЎ*
*(1938)*

## ЧЫНГІСХАН ПЕРАД МІКРАФОНАМ

Добраахвотнікі, што аддаюць
прысягі вадзе і ветру,
чараўнікі экрана,
што грымiруюць, каб іх паказаць, навіны,
чакаюць гаворкі валадара,
які наглядам сваім судзіў
і ў паслухмяныя вушы ўшываў
шэптам свае загады.
Што скажа нарэшце той,
хто раскарачыўся ад Сібіры
да Персіі і Афганістана,
з чыйго аднаго бота ўзыходзіла сонца
і ніцма падала перад другім,
пра каго летапісцы сведчаць,
што ён трымаў
у прыгаршчах свет знямелы,
круціў вакол пальца царствы
і ахалоджваў пятку ў апошнім моры?
Мо зноў дзіву дасца Еўропа —
наіўніца, што падалася неяк
на Ўсход па ядваб і ўсялякія цікавосткі,
а вярнулася з дзвюма Амерыкамі на караблі?
Кажуць: калі яго зараз паклічам,
можа, ён зноўку нам верне наступнасць.
Узняўся з магілы.
Ведае той свет, ведае гэты.
Досыць размоў.

*ХАНДА РУНЭЛЬ*
*(1938)*

* * *

Мы адыходзім. Назад. У спрадвечча —
дзе і дабро мае вобраз, і зло.
Болей не будзе ні стрэчаў, ні спрэчак,
вам застаюцца ўсе званні і рэчы.
Мы адыходзім. Ваша ўзяло.

Мы адыходзім. У вашыя дзверы
страх ваш скрабецца — аблашчаны звер:
бойцеся вашых спраў і намераў,
бойцеся вашай няверы і веры.
Мы адыходзім. Вы самі цяпер.

Мы адыходзім. У пушчы, у рэкі,
ў дрэвы, ў пяскі, ў камяні, ў паплавы.
Сам сабе лекар выпіша лекі,
сам сябе пекар уславіць навекі —
вернемся мы, калі пойдзеце вы.

*ЭЛЬКЕ ЭРБ*
*(1938)*

### ВОДГУК

Ні на імгненне не пакідаў
трывалае глебы,
наадварот: ён яе выстукоўваў (цела)
і выслухоўваў (гук),

а яна
адгукалася штораз прыязней.

*МІЛАН КОМНЕНІЧ*
*(1940)*

### ЗЯМЛЯ ВЫСОКА

Пад воблакам і ў жураўліных чародах
рукамі нявіннымі кормім гады,
якія цякуць угору.
Паміж дзвюма прахонамі зрушаных гор
слова, засыпанае пылам каменаломным,
абудзіцца рунню і скажа:
«Убіце матыкі ў плечы стромістых гор —
зямля высока і перарастае неба».

*АЛЬФАНСАС БУКАНТАС*
*(1941)*

### СМЕРЦЬ ПТУШКІ

Яе знайшоў —
Знаходзяць мёртвых птушак.
Былі на правадах раскрыжаваны,
На чуйных тэлеграфных правадах,
Жалобныя развінутыя крылы.
Яшчэ нядаўна і — ужо — калісьці
Між імі размяшчалася прастора
З блакітным дрэвам буры, на якім
Гайдаліся калматыя аблокі
І гралі меладычныя дажджы.

Цяпер была здранцвелаю прастора —
І я баяўся ўгору пазіраць.

А схіленыя ля апаратаў
У погудзе знаёмым вандравалі
Добрасумленна
Знаўцы тэлеграфа.
Няўжо ніхто, няўжо з іх аніводзін
Сярод сігналаў жвава-нецярплівых
Не ўчуў нямога крыку аб ратунку,
Які адстукала
Прад смерцю сэрца птушкі?!

*СІГІТАС ГЯДА*
*(1943)*

## СЯМІРАДКОЎЕ ПРА БЯЗМОЎНУЮ ПАГІБЕЛЬ

*Франсуа Віёну*

Ніхто ўжо нас не выратуе не
ты белы квет на чорным дзірване
цалуй жа чэрап высмяглы ў труне
смерць і каханне квецяцца ў акне
міне святло а цемра не міне
дарога згубы грае на струне
не бойся смерці а кахай мяне

Ніхто ўжо нас не выратуе не
ці белы квет заквеціцца ў акне
тут чэрап узіраецца ў мяне
тут неба азываецца ў струне
губляецца дарога ў дзірване
святло і цемра мёртвыя ў труне
жыццё мінула смерць яшчэ міне

Ніхто ўжо нас не выратуе не
ніхто той цемры згубнай не міне
для нас дарога мучыцца ў труне
і чэрап цемры свеціцца ў акне
а мы ніхто мы косці ў дзірване
цяпер зайграе пекла на струне
не будзе смерці светлай для мяне

Ніхто ўжо нас не выратуе не
шукалі квет у небе у труне
не згубіцца нічога ў дзірване
мінула шчасце смага не міне
твой пацалунак згубы для мяне
смерць слова белае сугучнае струне
нішто нікому цемра у акне

## СПРАЎДЖАНАЕ НАКАНАВАННЕ

Калряднымі прыцемкамі,
калі
ад трансфарматарнай будкі
віхурыў снег,
я падумаў,
што ўжо збылося
старажытнай шумерскай
багіні Іштар прадказанне:

«Калі і далей так на свеце
тварыцца будзе,
я выпушчу
з-пад зямлі
нябожчыкаў,
і яны
расплодзяцца
і запалоняць зямлю».
. . . . . . . . . . . . . . . .

За свой доўгі век
у Літве
я спаткаў толькі некалькіх —
можна злічыць па пальцах —
жывых людзей.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## РАІСА БАРАВІКОВА

**(1947, в. Пешкі Бярозаўскага р-на)**

Крытыка любіла цытаваць радкі Р. Баравіковай: «Тады ў народа ёсць паэты, / калі ў паэтаў ёсць народ». Думка вартая ўвагі, але для беларускай сітуацыі не бясспрэчная. Калі б пра нешта падобнае думаў, прыкладам, Ф. Багушэвіч, то кінуў бы пісаць, і ні «Дудкі беларускай», ні «Смыка беларускага» мы не прычакалі б. Беларуская літаратура XIX ст. была нацыястваральнай, ды і ў стагоддзі XX «маршаламі нацыі» ўдумлівы даследчык Р. Семашкевіч назваў Я. Купалу і Я. Коласа... Першы зборнік «Рамонкавы бераг» Р. Баравікова выдала ў 1974-м, з тае пары выйшла яшчэ пяць, але толькі ў кнігу «Люстэрка для самотнай» (1992) пракраліся пераклады з Г. Ахматавай. Пра ўсе астатнія паэтка і гаварыць не хоча.

*ГАННА АХМАТАВА*
*(1889—1966)*

### НОЧЧУ

Стаіць на небе месяц ледзь жывы,
Між аблачын у зоркавым бязмежжы,
І ля палаца хмурны вартавы
Глядзіць на стрэлкі сонныя на вежы.

Вяртаецца няверная дамоў,
І твар яе задумлівы і строгі,
А верную ў тугіх абдымках сноў
Нягаснучыя спальваюць трывогі.

Што мне да іх? Сем дзён таму назад,
З «даруй» апошнім адляцела ў вырай,
Ды душна там, і я пранікла ў сад
Зірнуць на зоркі і пакратаць ліру.

* * *

Твой белы дом і сад не ўпанараўлю,
Пакіну іх для іншага цяпла.
Цябе, цябе ў радках сваіх праслаўлю,
Так, як яшчэ жанчына не магла.
І ты сяброўку помніш дарагую,
У створаным для воч яе раю,
А я таварам рэдкасным гандлюю, —
Тваю любоў і ласку прадаю.

## ЮРКА ГОЛУБ

**(1947, в. Горна Зэльвенскага р-на)**

З сям'і краўца, якая жыла на хутары за тры кіламетры ад вёскі. Закончыў філфак БДУ (1970), дзе быў адным з самых адметных паэтаў у літаб'яднанні «Узлёт». Працаваў на гарадзенскім тэлебачанні, у рэдакцыі «Гродненской правды». З 2003 г. ачольвае абласную пісьменніцкую арганізацыю. Яшчэ ў 1960-я гг. ліставаўся з Л. Геніюш, апублікаваў на старонках «Полымя» (пры галоўным рэдактары М. Танку) прысвечаны ёй верш «Белавежа». Ю. Голуб — аўтар дзевяці паэтычных кніг, адна з апошніх па часе выдання — зборнік трыялетаў «Зажураны камень» (2002). Да вершаў Н. Бараташвілі падступаўся гадоў трыццаць і нарэшце пераклаў — адмыслова для «Галасоў з-за небакраю».

*НІКАЛАЗ БАРАТАШВІЛІ*
*(1817—1845)*

### САЛАВЕЙ НАД РУЖАЙ

Пяяў для ружы салавей.
Калі на лісце ўпалі росы,
Казаў ёй: «Сум ты мой развей —
Жадаю твой пабачыць росквіт».

Ён нанач пеў. А ноччу гай
Гайдала зорная калыска.
Замоўк салоўка. Поўні ўскрай
Паплыў бутонаў водар чысты.

Пяюн у стоме задрамаў,
Ды сны адпрэчыла дзянніца,

І ён жахнууся нездарма:
Пялёсткі долу ўпалі ніцма.

У жальбе слёз стрымаць не мог,
Лятаў, нібы над месцам лобным.
Красу, гаротны, не збярог,
Ён клікаў птушак на жалобу:

«Я ружу песціў дзень і ноч,
Ахвяраваў жыццём і песняй.
А квет сышоў раптоўна з воч
І больш не здолее ўваскрэснуць».

## ЧАНГУРЫ

Твае галашэнні — паломнікі суму —
За горла хапаюць няўцешную думу
І ў бездань былога шпурляюць.

Чангуры, скажы, ці змагу калі-небудзь
Пачуць тваю ўцеху пад полагам неба
І сэрца ад болю адвесці?

Ці ўсмешку тваю зноў дарэмна шукаю,
Дзе б радасць твая шалясцела шаўкамі!
Ды скаргі ад струнаў — не знак дабравесця.

## ЗАВУШНІЦА

Відзён на ландышы здалёк:
Гайдае кветку матылёк.
Вось так з настроем завушніца,
Ах, завушніца, нездарма
Не прагне вырвацца з ярма —
З уласным ценем наравіцца.

Той шчасным стане з маладых,
Каму ў тым ценю зойме дых.
Тваім жа ценем завалодаць
Пад ветрыка скразны павеў,
Каб сам таго і не хацеў,
А дакранешся сэрцам лёду.

О завушніца, з неба чар
Хвалюеш, як пчалу нектар.
Хто вусны пад табой спатоліць,
Каб стацца хмельным назнарок,
Ісці з бяссмерцем крок у крок
І выдыхнуць з душы — даволі?

## МАЯ МАЛІТВА

О Божа, як бацька, звярніся да грэшнага сына
І шал яго, злом падбухтораны, сам супыні.
Няўжо так бацькоўскае сэрца без жалю застыне,
Калі небяспека на сына імчыць на шалёным кані?

Заступнік, няўжо ты надзеі маёй адрачыся прымусіш:
Аднойчы нявінны Адам твой завет занядбаў
І раю вабноты аддаў у ахвяру спакусе,
Ды зведаў з таго незвычайную з райскіх забаў.

О сэрца прадвеснік, ягоных глыбіняў
Сягаеш за думку маю ты раней і глыбей.
І што я шаптаць табе болей павінен?
Прымі і маўчанне маё за малітву табе.

## МАГІЛА ЦАРА ІРАКЛІЯ

*Князю М. П-чу Баратаеву*

Укленчу над магілай, слаўны цар!
Слязамі акраплю яе, нібы алтар.
Каб здолеў з-пад аблогі ўстаць твой цень
І глянуць на Картлі — нібы ў тварэння дзень.

Прарочы ты пакінуў запавет,
Дзе наказаў айчыне шлях ад бед.
І думам царавым — цара прасцяг,
І мы, твае сыны, — цябе працяг.

А тыя, што выгнання мелі лёс,
Вяртаюць скарбы да сваіх нябёс.
Нясуць зярнят прыгоршчы ў родны край:
Саспее з іх, няйначай, ураджай.

На поўначы, прамёрзлай навылёт,
Душой гарачай растапілі лёд.
І там, дзе сіла наша падымала меч,
Цяпер атрэслі звягу з вольных плеч.

Прыціх каспійскай хвалі бурны шал,
Не пагражаюць блізка нам за валам вал.
І Чарнамор'е шле таксама поціск свой
Замест прыблудаў, здольных на разбой.

Спакойна спі, дзе свет у бітвах глух,
Іверыі нязломнай цвёрды дух.
Ты нас над Грузіяй усіх узнёс
Каля грабніцы, складзенай са слёз.

*ГЕОРГЕ ВОДЭ*
*(1934)*

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ**

Сцяжынкі, дрэвы з лістом апалым.
Узносіць храм свой святлісты сум.
І цені вечнасці зноў паўсталі
І захінуліся ў хусткі дум.

Жылося неяк, а ўсё ж з нябёсаў
На ваш падворак не сеў анёл,
У вас, о храмы, ізгояў лёсы,
Якіх мячом хрысцілі, агнём!..

Ізноўку восень, лісцё спадае,
І тыя ж храмы азначыў час:
Стаяць, нібыта буслы, ў адчаі,
І аглядаюць самотна нас.

Алтар. І побач нясуць алеі
Жывой вясёлкі жаданы цвет,
І пах дурманны садоў шалее,
І прастывае анёлаў след.

Старэюць храмы, чарнеюць звонку,
Ржавеюць дзверы, апаў замок...
І таюць, таюць, бы свечкі з воску,
Былога цені, як ад замоў.

## ТАІСА МЕЛЬЧАНКА

**(1947, в. Маркавічы Гомельскага р-на)**

Пазнаёміліся з паэткай мы ажно ў Белай Царкве на Кіеўшчыне падчас літаратурнага свята «В сім'і вольній, новій...». На цэнтральным пляцы-майдане ішоў мітынг, бронзавы Тарас паглядваў спадылба на людскі натоўп, які складаўся пераважна з расейскамоўных казакоў у шыракалампасных штанах. Казацкае карэ брала ў аблогу і помнік, і нас, купку літаратараў, якія на падканвойным пляцы адчувалі сябе не зусім утульна. Сустрэча з зямлячкай была дарэчы, тады ж яна пахвалілася «Кабзаром» гомельскага пакрою — кнігай выбраных перакладаў з Шаўчэнкі, сорак асобнікаў якой разышліся сярод удзячных украінцаў тут жа, у Белай Царкве. А неўзабаве, ужо ў Менску, пошта прынесла мне зборнік Мельчанкі «Сябрына» — пераклады з балгарскай, украінскай, расейскай... Кніга выйшла шэсць гадоў таму, але ў сталіцы пра яе нават не чулі.

*СЦЯПАН ПУШЫК*
*(1944)*

**КАЗАК ГУЛЯЕ**

Казак гуляе — шынкарка носіць.
Шынкар пытае: — Чаму не льеш?

— Не пі, казача! — казачка просіць, —
Не пі, казача, каня прап'еш!

Казак смяецца, шынкарка носіць.
Шынкар міргае: — Замала льеш!
— Не пі, казача! — казачка просіць, —
Не пі, казача, мяне прап'еш!

Шынкарка ўвішна гарэлку носіць.
Казацтва — ўпокат, у ножнах меч.
— Не піце, хлопцы! — Ўкраіна просіць, —
Не піце, хлопцы — прапіта Сеч!

А турак плоціць — шынкарка носіць
І лье гарэлкі, і лье віна.
— Не піце, дзеці! — Ўкраіна просіць, —
Не піце, хлопцы! Я ў вас адна.

*НІНА ГНАЦЮК*
*(1947)*

* * *

Высяляюць Народзічы... Высяляюць народ...
Дзе той Ноеў каўчэг — ратаваць ад патопу?
Ад паветра-забойцы, атручаных вод,
Ад расы і травы, ад пятрушкі і кропу?

Аплятае журба, атуляе віна
Над палямі, лясамі, над коранем-плодам.
Грэх нясем у царкву, мо даруе яна...
Страшна сёння назвацца ўкраінскім народам.

Колькі год засталося нам — дзесяць ці пяць?
Напаўняемся цэзіем, стронцыем, ртуццю...
Ты сягоння прыедзь — заўтра душы згараць.
Ты сягоння цалуй — мяне заўтра не будзе.

## ІРЫНА ВАСІЛЕЎКА

**(1947, в. Міжэрычы Зэльвенскага р-на)**

Па прафесіі журналістка. Больш за трыццаць гадоў адпрацавала ў зэльвенскай раённай газеце «Праца», дзе яшчэ да ўсіх перабудоваў на свой страх і рызыку апублікавала некалькі вершаў ва ўсе часы апальнай Ларысы Геніюш. У адказ атрымала зычлівы аўтограф на часопісе «Полымя»: «Мілай Ірыне Васілеўцы з даверам і сімпатыяй. Зэльва, 1981, сакавік». Пайшоўшы са службы ў газеце, І. Васілеўка рэдагавала тыднёвік зэльвенскай рыма-каталіцкай парафіі «Крыніца», з польскай мовы перакладала для касцёла калядныя тэатральныя п'ескі — яселькі. Для патрэбаў найперш духоўных перастварыла і знакаміты «Гімн сонцу» святога Францішка з Асіза — «Cantiko di frate sole o delle creature».

*СВЯТЫ ФРАНЦІШАК АСІЗСКІ*
*(1182–1226)*

## ГІМН СОНЦУ, АЛЬБО ХВАЛАСПЕЎ СТВАРЭННЯМ

Найвышэйшы, усёмагутны, добры Божа!
Табе гонар, і хвала, і пашана,
І ўсялякае дабраславенства.
Толькі Табе, Найвышэйшы, яны належаць,
І ніводзін чалавек не варты нават упамінаць Цябе.

Пахвалёны будзь, Пане мой, з усімі стварэннямі Тваімі,
Асабліва з панам братам сонцам,
Які ўладкоўвае дзень, праз яго даеш нам святло.
Ён цудоўны і прамяністы ў ясным німбе,
Ён Цябе, Найвышэйшы, зразумець дапамагае.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру поўню і за зоркі.
Ты сатварыў іх на небе яснымі, каштоўнымі і прыгожымі.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за братнія абдымкі ветру
І за паветра, пахмурнае і яснае,
Дзякуючы якім існуюць Твае стварэнні.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру ваду,
Якая вельмі карысная, пакорная, каштоўная і чыстая.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за братнія далоні агню,
Якімі ты расхіляеш ноч.
Агонь такі прыгожы і вясёлы, дужы і бясстрашны.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за нашу маці зямлю,
Якая нас носіць, і корміць,
І дае нам смачныя плады, і featured рознакаляровыя кветкі, і мяккую траву.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за тых, хто дзеля Тваёй
Любові прабачае і зносіць хваробы і пакуты.
Дабраславёныя, хто вытрымае ў спакоі,
Бо табой, Найвышэйшы, будуць усцешаныя.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру нашу смерць цялесную,
Якой ніводны жывы чалавек не можа пазбегнуць.
Гора тым, хто памрэ ў грахах смяротных.
Дабраславёныя тыя, каго яна застане ў суладнасці
З Тваімі найсвяцейшымі жаданнямі,
Бо іншая смерць ім ужо не пагражае.

Услаўляйце і дабраслаўляйце майго Бога,
Дзякуйце і служыце Яму з вялікай пакорай.

## ФЕЛІКС БАТОРЫН

**(1948, Менск)**

Карэнны жыхар Менску. Сярод продкаў Ф. Баторына — і член ЦК КПБ, і кантар сінагогі. Па прафесіі Ф. Баторын — лекар. Пасля заканчэння Менскага медыцынскага інстытута (1972) працаваў у Барысаве, потым вярнуўся ў сталіцу. Піша па-беларуску і на ідыш. Аўтар чатырох беларускамоўных зборнікаў, на ідыш напісаў няшмат. Перакладаў прозу Шолам-Алейхема, габрэйскіх паэтаў савецкай эпохі. Друкаваўся ў «Даляглядах» і «Братэрстве», калі іх прыкрылі, многія перакладчыкі апусцілі рукі. Але «талент ёсць даручэнне, і яго неабходна выканаць у любым выпадку» (Я. Баратынскі). А што талентам Баторына Бог не пакрыўдзіў, відаць хоць бы па славутай «Лярэлеі» Гайнэ.

*ГАЙНРЫХ ГАЙНЭ*
*(1794—1856)*

### ЛЯРЭЛЕЯ

Не знаю, з прычыны якое
Трывожаць смутныя сны;
Мне ўсё не дае спакою
Казка сівой даўніны.

Змрок прахалодны гусцее,
І Рэйнавы спяць віры.
Скала сярод хваль ірдзее
Ў дрыготкім святле зары.

Красуня першая ў свеце
Сядзіць над абрывам крутым.
Па золаце строяў ліецца
Агонь валасоў залаты.

Прычэсваецца няспешна,
Спявае пад Рэйнаў звон.
Чароўная тая песня
Душу бярэ у палон.

Рыбак па імклівым цячэнні
На спеў павяртае стырно;
Не бачыць у хвалях камення,
Глядзіць угару адно.

Я ведаю, хваля агорне
Чаўнок — і ён знікне ў вадзе.
Так спевам да згубы чорнай
Яго Лярэлея вядзе.

### З ФРЭСКА-САНЕТАЎ КРЫСЦІЯНУ З.

Хай золатам пакрыты пень прагнілы,
Курыць яму не буду фіміям.

Паклёпніку рукі я не падам,
Што выкапаў употай мне магілу.

Няхай у шлюхі твар прывабна мілы —
За бляск распусты гроша я не дам!
З пагардай плюну ўслед ілжэбагам,
Якіх сляпая чэрнь сабе стварыла.

Не дзіва дубу ў буру паваліцца,
А вось чарот сагнецца ў навальніцу
І ўстане зноўку, як і да таго.

Ды што за шчасце ў гнуткасці яго?
З яго хіба што зробяць франту палку
Альбо слузе на плацце выбівалку!

*ЯКАЎ ПАЛОНСКІ*
*(1819—1898)*

## БЭДА-ПРАПАВЕДНІК

Увечары Бэда-сляпы ў задуменні,
Рыззём ледзь прыкрыты, праз горы ішоў.
Хлапчук-павадыр за руку яго вёў
Па сцежцы, усеянай вострым каменнем.
Навокал пустэльна і глуха было:
Маўклівелі хвоі наўзбоч векавыя,
Каменне замшэлае, скалы сівыя,
Ды рэха ў цяснінах жалобна гуло.

Стаміўся, ці быў мо да ягад ахвочы,
Ці вырашыў старца хлапчук падмануць.
«Стары, — ён сказаў, — трэба мне адпачнуць,
Ты ж казань сваю пачынай, калі хочаш.
Угледзелі з гор нас з табой пастухі,
Вандроўнікі нам заступілі дарогу,
Жанчыны і дзеці... Кажы ім пра Бога —
Як быў ён распяты за нашы грахі».

І твар у старога у тое імгненне
Заззяў, як крыніца, што б'е пад скалой.
І слова высокае хваляй жывой
Цячэ з яго вуснаў у шчырым натхненні.
Без веры прамовам такім не бываць!
Да неба руку ён узняў — і здалося:
Сляпому адкрыліся ў славе нябёсы —
І слёзы ў вачах невідушчых блішчаць.

Ды вось адгарэла зара залатая,
І месяц устаў з-за далёкай гары,
Цясніну напоўніла сырасць начная,
І чуе, гаворачы казань, стары,

Як хлопчык смяецца з яго і штурхае:
«Даволі, нікога няма каля нас!»
І старац замоўк у журбе і адчаі.
Ды толькі замоўк ён — ад краю да краю:
«Амін!» — камяні прагрымелі ў адказ.

*АЎСЕЙ ДРЫЗ*
*(1908–1971)*

**ДОЖДЖ**

Доўгі дождж сеецца,
І вады ўжо лішак.
Стаўлю свечку у акне,
А на стол кілішак.

Хмель віна — самотніку,
Хай свой сум развее.
А святло — вандроўніку,
Хай пагляд сагрэе.

Доўгі дождж сеецца,
І вады ўжо лішак.
Стаўлю свечку у акне,
А на стол кілішак.

* * *

Аж скуль маё неба
па рэчцы плыве,
нашу галубочка я
на галаве.

Хто ведаць не ведаў,
падумае той:
сівы ён, як попел
з саломы сухой.

*ГІРШ РЭЛЕС*
*(1913–2004)*

* * *

Я — нібы тая ластаўка, якая
Блакіт нябёсаў, што ў вадзе бруіцца,
Кранае ненаўмысна — і ўцякае,
І неба ўжо сапраўднага баіцца.

**ВОЧЫ**

Ці пяшчотна, ці пагрозна,
Ці гарэзліва, ці злосна,
Па-кашэчы, ці па-воўчы
На мяне глядзіце, вочы.

Аднаму не буду рады —
Раўнадушнаму пагляду.

## ЛЮБОЎ ФІЛІМОНАВА

**(1948, Менск)**

Закончыла аддзяленне мастацкага перакладу маскоўскага Літаратурнага інстытута (1971) і завочны Інстытут для замежных студэнтаў у Дзебрэцэне (Венгрыя), вывучыла польскую і венгерскую мовы, працавала рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». З 1996 г. займаецца прыватнай выдавецкай дзейнасцю. Аўтарка чатырох вершаваных зборнікаў. З дыпломам перакладчыка ўзбагачаць айчынную літаратуру замежнымі шэдэўрамі не шкодзіла б з большым імпэтам.

*СЭН-ЖОН ПЭРС*
*(1887—1975)*

### ЛУК

Перад ачагом, што шуміць,
змерзнуўшы пад шырокім
плашчом
у кветках, ты глядзіш, як
варушацца пяшчотныя плаўнікі
агню.
Але трэск музычна расколвае
цень: гэта твой лук з гукам цвіка,
што зламаўся; раскрываецца
ён уздоўж сваёй патаемнай
жылы,
як мёртвы струк у руках дрэва
вайны.

### ЗЕРНЕ

У збанку ты яго хаваў, зерне
пунцовае, што знайшоў у сваім
адзенні з казлінай скуры.
Яно не прарасло.

*МАРЫЯ ПАЎЛІКОЎСКА-ЯСНАЖЭЎСКА*
*(1891—1945)*

### ТУЖЛІВЫ ЗАЛІЎ

Дужы, высокі, шчаслівы,
Марак, бясстрашны сілач,
Ты мяне вылавіў з майго плачу,
Як сірэну з заліва тужлівага.

### НАЧНІЦА

Крэсла і кніга. Свечка згарае...
І раптам — крык. Штосьці ўспыхнула ярка.
Гэта начніца ў агні палае,
Як Жана д'Арк.

## *КШЫШТАФ КАМІЛЬ БАЧЫНЬСКІ*
*(1921–1944)*

### АДКРЫЦЦЁ ПЕРАМЕН

Птушанят даслаў мне на золку вырай,
як апераны плод маўчання і неба.
Кім я быў, калі з хмары вырас,
хто цяпер я, чорны, як глеба?

Я штогод адчыняюся, снегам падаю,
зачыняюся — дрэвам штогод паўстаю.
То ўзношу лістоту сваю крылатую,
то ліўнем падаю на зямлю.

Я штогод адчыняюся, у зямлю сон хаваю,
загортваю сэрца ў мяккі асотавы пух.
Бы зялёны яблык адмен маўчу, даспяваю,
бо і ў бурах, і ў нерухомасці я — аднолькава — рух!

### MISERERE

I
Мы на той трагічнай стаім зямлі.
Дым над пабоішчам горка настоены на ўспамінах
і снах зруйнаваных.
Ліпкія каскі крывавым пытаннем
зрываем з галоў зніштаваных.
Ружамі іх прыпінаем да касак другіх пакаленняў.
Бачу: праз час прарастаюць дымоў султаны.
Бачу той час: акропаль, зарослы пушчамі траў
на папялішчах.
Нішчы, апошні каін, апошняга авеля,
нішчы!

II
Вяртаючыся з пахавання апошняга чалавека,
нібы выклік,
выдых свой — як жаваронка — у высокае неба дашлю
і над сусветам выраню — быццам слязу — зямлю.

*МАМЕД СЯІДАЎ*
*(1925—1987)*

* * *

Былінка і платан, гара і зерне —
Вялікае з малым заўжды суседзі.
Ды разбярыся паспрабуй напэўна,
Што важна, што нікчэмна ў гэтым свеце.

Глядзі — малая кропля з ледніка —
У будучым — магутная рака.
Вялікую скалу і дробны камень
Час спрасаваў аднолькава вякамі.

А вось руды маленькі мурашок.
Чакай, яго ты ледзь не растаптаў, —
Ці не стачыў у пыл і парашок
Платан, што кронай дом наш ахінаў?

*МАГДА СЕКЕЙ*
*(1949)*

## ДОЖДЖ

Дождж ліў, як з вядра не ліе,
горад мокнуў пад цёмнымі хмарамі,
ззялі — вечныя — праз імглу
закаханых светлыя твары.

Яны ішлі з пад'езда ў пад'езд,
з лаўкі на лаўку ў мокрых парках,
нібы па небе — тыднямі йшлі
у паліто, набрынялых, як хмаркі.

Усё прамокла: паркі і дахі,
памакрэлі дрэвы, масты,
а вакол — у аціепленых гмахах —
было ўтульна і суха, між тым.

Што — каму. Ім прытулкам сталі
канцавыя гулкія станцыі,
вечны дождж, незамкнутыя паркі
ды скразныя бязлюдныя аркі.

Што цяпло! Астываюць урэшце
душы нашы і наша жытло.
Застаецца адно навечна:
закаханых твараў святло.

## НАВУМ ГАЛЬПЯРОВІЧ

**(1948, Полацк)**

Доўгі час працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё па Віцебскай вобласці. Пасля пераезду ў Менск — у рэдакцыі часопіса «Вожык», у апараце Саюза пісьменнікаў, потым вярнуўся ў звыклую для сябе стыхію і ачоліў радыё «Беларусь», прызначанае даносіць голас радзімы да замежных суайчыннікаў. Аўтар паэтычных зборнікаў «Брама», «Востраў душы», «Святло ў акне» ды інш. Перакладае рэдка, вершы класіка албанскай літаратуры Мідзьені былі змешчаныя ў альманаху «Калоссе» (1998, № 6).

*МІДЗЬЕНІ*
*(1911—1938)*

### БЯССОННАЯ НОЧ

Крыху святла, святла мне, сябар мой,
Святла прашу, калі душа ў пакутах,
Калі прыцісне ўсё імглой начной
І да бяссоння, нібы раб, прыкуты.
Прарок! Герой, які стварае свет,
Крыху святла, бо пашкадуй нямогу!
Пашлі праменьчык у маім акне
І асвятлі праз морак мне дарогу.
Хачу паходні ўбачыць я праз ноч,
Каб у званы агонь грымеў прарочы,
Каб кожны, хто няшчасны, ўстаў са мной
Ды па лязе нажа скакаў уночы.
Але няма паходняў і сяброў.
І я ізноў марнею ў адзіноце.
Маўчы, душа, і ў цемрыве гадоў,
Звіні у сэрцы на пакутнай ноце!
На ранку певень хрыпла пракрычыць —
Ён маніць пра святло ці праўду кажа?
Прыходзіць ранак, значыць, трэба жыць,
З душы здымаць на міг пакуты камень.
Дык прэч пакуты! І сумненні прэч!
Рукамі прагна абхапі падушку.
Прабачце, мары. Сёння насамрэч
Свой адзінокі шал я ноччу гушкаў.

## ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

**(1948, в. Рудка Пінскага р-на — 1988, Менск)**

Першая кніга «Снежныя грамніцы» (1970), напісаная яшчэ ў студэнцкія гады, выклікала больш за дзесятак прыхільных водгукаў у друку, у тым ліку Р. Бярозкіна, Н. Гілевіча, А. Грачанікава. Увогуле, на пачутасць Янішчыц шанцавала, у розны час пра яе пісалі (апрача згаданых) Дз. Бугаёў, У. Калеснік, Р. Семашкевіч, А. Сямёнава — крытыкі высокага палёту і відушчага зроку. Варта пра гэта сказаць, бо ў апошнія гады свайго жыцця паэтка не-не ды і скардзілася на забытасць і непатрэбнасць сваёй паэзіі. Пасля заканчэння філфака БДУ працавала

бібліятэкаркай (як і Купала ў свой час) — спачатку ў ЦК камсамола, потым у вайсковай частцы ў Чэхаславакіі, дзе служыў муж С. Панізнік. Калі яго звольнілі з войска за спачуванні чэхам пасля «пражскай вясны», распалася і сям'я: жонка аказалася больш савецкім чалавекам, чым муж. Нездарма яе праз пэўны час дэлегавалі ад Беларусі ў Нью-Ёрк, на сесію ААН, куды ненадзейных не выпускалі. Але *бел. сав.* (як пісалі ў тагачасных энцыклапедыях) паэткай Янішчыц не стала. Наадварот, у некаторых вершах, адчуваўся прыхаваны пратэст: «Час — вар'ят, шалёнае таксі. / Толькі ўсё ж не мыслю я аб спуску. / Кажаш, што магілы зараслі? / Памаўчы са мной па-беларуску». Як пратэст (толькі перад кім: уладай, глухімі да паэзіі бывачамі? Богам?) успрымалася і яе трагічная смерць зімою 1988-га... Бясспрэчна, найлепшыя пераклады Янішчыц — з Кастэнкі: супалі дзве душы, дзве песні, дзве адзіноты.

*КАЦЯРЫНА ШАВЯЛЁВА*
*(1916)*

## САМОТА

І зноў чалом паклоны б'еш самоце,
Святкуеш той узвышаны настрой,
А ён, як ліст кляновы ў пазалоце,
Пазначаны трывогай і журбой.
Так я цяпер, прымаючы пароўну
Хмель радасці і соль няўдзячных стрэч,
Сваім, чужым каханнем — усё роўна
Прыніжана. Ды не згінаю плеч.
Якая святасць мудрасці асенняй!
Наскрозь цяплом прасвечаны лісты.
Не рукі аплялі мяне, а цені,
А колеры — барвовы, залаты.
І чуеш ты, як чэпка кліча памяць
Ва ўсім убачыць сувязную ніць,
Але не даць самой сабе разжаліць
І радасці зямной не астудзіць.

*ЛІНА КАСТЭНКА*
*(1930)*

* * *

Што ў нас было?
        Каханне й лета.
Каханне й лета без трывог.
Вось і усё. І — песня спета.
І — сцежка выбегла з-пад ног.
І ночы нашы выжне жнівень,
аціхнуць зычныя грамы.
Патушыць наш вясёлы лівень
шклянымі зорамі зімы!
І зноўку чмель раскрыліць кветку,
згуляе лета у лато.
І стан мой возьме на прыкметку
адзіны, блізкі — і Ніхто.

І ў гэтым жа колазвароце,
дзе ўсё прыму, нібы спярша,
самотнай ластаўкай на дроце
спачне стамлёная душа.

* * *

Заваражылі крумкачы світанак.
Не ўсходзіць сонца — толькі кар ды кар.
Разбіты грудзі аб глухі паўстанак —
утравянеў бярозавы Ікар.

Плыве перон за шыбкамі нядрэмны.
Туман... Шлагбаўм... І пераезд наўпрост.
Бы шапкамі закіданыя, дрэвы
стаяць у гронках шчэ парожніх гнёзд.

Прайсці на ранку вуліцамі цішы.
Знайсці гатэлік. Скінуць паліто.
І дзе я, хто я, — а паўстанкаў тысячы, —
хоць дзень, хоць два не будзе знаць ніхто.

І толькі шум далёкага прыбою —
каштаны, людзі, вулкі, берагі...
Прывезці вершаў чамадан з сабою
з таго прытулку цішы і тугі.

## СКІФСКАЯ БАБА

У скіфскай бабы, грузлае нязграбы —
Стэп у нагах, што выгараў датла.
А ці ж ты баба, ну, якая ж баба?!
За сто вякоў дзіця не прывяла!
Былі б у хлопца крэмень-нажаняты,
Лавілі б ручкі вольны дух вятроў.
Чаго смяешся? Космас нежанаты,
А ты адна стаіш між палыноў.
Няўжо-такі ніхто не жаніхаўся?
Вунь у музеях — горды твой партрэт.
Табе казацкі чэрап усміхаўся.
Мінуламу не азірайся ўслед.
Ты помніш — коні, гіканне ды стрэлы,
Нядобры бляск у хана з-пад павек.
Забудзь. Усё сплыло і пасівела.
Паглянь — наўкол гудзе дваццаты век.
А ты стаіш. І выпетралі рукі.
І голас агрубеў твой і ахрып.
А з каменю ў цябе былі б унукі.
Ты разумееш? З каменю былі б!
Прагорклы стэп ці ведае пра свята?
Узняў зямлю на крылах самалёт...
Смяецца баба скіфская аклятая,
Смяецца, ашчаперыўшы жывот.

*ІНЭСЭ ЗАНДЭРЭ*
*(1958)*

**НА ПРЫЛАЎКУ – ВОСЕНЬ**

Я за прылаўкам. З восенню сваёй,
Якую небасхіл прыкрыў былінна.
Ды раптам схамянуся: божа мой,
Чаму яе я прадаваць павінна?

Аддаць за грошы поўню і прамень,
Аддаць за медзь шыкоўны звон лістоты?..
Асенні боль, асенне-сіні дзень
З прыбляклым сумам важкай пазалоты.

Я ў скрусе паміж рэчаў і людзей:
Куды ж цяпер з багаццем мне падзецца?
Ды гэты скарб, ды гэты вось ірдзень —
Як і душа мая, не прадаецца.

О гэтых дрэў вышыннае святло!
А побач – мітусня, прыцэнкі, даўка.
Я – восень, я – апошняе цяпло.
Я прыбіраю цэннікі з прылаўка.

## АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ

**(1948, хутар Доўгі Лес Пінскага р-на)**

Выпускнік гістфака БДУ, належаў да нешматлікай кагорты беларускіх дысідэнтаў 1960-х гг. За крытыку ленінскай палітыкі быў звольнены з рэдакцыі ганцавіцкай раёнкі, за падтрымку чэхаў у 1968-м быў прымусова змешчаны ў псіхіятрычнае аддзяленне менскай 2-й клінічнай лякарні. Выклікаўся на прафілактычныя гутаркі ў КДБ. Доўга не мог знайсці сталай працы. І толькі ў 1981 г. здолеў уладкавацца ў рэдакцыю тыднёвіка «Літаратура і Мастацтва», вёў там аддзел крытыкі. У 1987—1992 гг. загадваў літаддзелам часопіса «Крыніца», пазней чытаў лекцыі ў Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа. Падчас краху камуністычнай аднапартыйнай сістэмы стаў адным з заснавальнікаў адроджанай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), пасля яе колькіразовага расколу — ідэолагам партыі Народная Грамада. Не думаў, што знайду імя Сідарэвіча сярод перакладчыкаў двухтомавай «Анталогіі грузінскай паэзіі» (1989). «Не знайшлося перакладчыка для гімнаграфічных твораў, не ведаюць нашы паэты літургічных канонаў, давялося мне збеларушваць грузінскіх паэтаў-чарнарызцаў», — патлумачыў Сідарэвіч складальніку гэтай анталогіі.

*ЭПРЭМ МЦЫРЭ*
*(XI ст.)*

* * *

Мудрасць кліча цябе, прыйдзі, і дасягні яе,
і пазнай кнігу апостальскую,
у ёй асноваю

дзеяў Хрыстовых апосталаў быў Лука,
і Якаў, і Пётр разам з Іяанам
утвараюць сем святых супольна з Іудам,

а скляпенне яе ўпрыгожвае Павел,
з келлямі золатааздобнымі,
даючы вернікам мір
сваімі чатырнаццаццю пасланнямі.
Усіх, хто гэтыя кнігі прымае,
Божа, прымі і Ты да сябе.

*АРСЕН БЕРЫ*
*(XI–XII стст.)*

## ЦАРУ ДАВІДУ – МАНАХ АРСЕН*

*Фрагмент*

Ах, любіш ты мудрасць філосафаў, цар найяснейшы;
розумам усіх ты цароў пераважыў;
скляпенню нябеснаму пекнасць аблічча твайго дараўнае;
ерасяў розных пазнаў ты падступствы;
нечаканы й зіхоткі, як бліскавіца між воблакаў белых;
прамяністы, як усход сярод усіх бакоў свету;

ружу між кветак нагадваеш ты, о прыгожы;
аблічча Божае, як каханне між розных дабротаў;
каменням ніякім не роўны бляскам фаянс;
непараўнаны, як фінік між дрэваў астатніх;

і, як лета сярод іншых пораў года, салодкі;
гожы, як рай сярод іншых сусветаў;
услаўлены, як дыямент сярод рэчываў усіх непадзельных;
дужы, як леў сярод іншых звяроў;

законы вечныя даў ты, як цар Саламон наймудрэйшы;
ежы духоўнае зведаў ты слодыч;
і, як Самсон сярод суддзяў, ты мужны;
спакойны, як Давід сярод памазаных Богам;
ваяўнічы, як цар македонскі;
як Ахілес сярод элінаў, непераможны;
ты, як Фінез між святароў, Богу заўзята служыш;
храбры ты, як Навін між цароў ханаанскіх;

Аўгуст ты, бо, як і ён, пашыраеш свае ўладанні;
прыродаю Бог ты паміж благаславёных;
Осіі роўны сярод цароў ты, бо помсціш;
смелы, як Пётр сярод вучняў, што меч выняў з похвы;

* Акраверш.

тваё чалавекалюбства з Хрыстовым можа зраўняцца;
а шпаркасцю апостала Паўла нагадваеш ты хрысціянам;
любімы, як Іаан сярод вучняў Хрыста, нашага Спаса;
апірышча праваслаўнае веры, як Канстанцін, якога
ўважаюць вялікім сярод самаўладцаў.

*МІКАЭЛ МАДРЭКІЛІ*
*(X ст.)*

## ДЗЕВЯЦЬ ПЕСНАСПЕВАЎ

Без віны пакараны пакутамі, Хрысце Божа наш,
адкупіў ты, Спасе, заганы свету гэтага,
калі целам узнёсся Ты на крыж,
ніскінуў Ты вышыні ворага
і ўваскрасіў прыроду чалавечую!

Не цялеснай, але боскай прыродаю
нятленны Ты, Хрысце, Слова Божае,
калі паклалі Цябе ў магілу,
спрамог ты смерць, бо несмяротны ў смерці,
і ўваскрасіў мёртвых з магіл іх!

Дзеля непакорлівасці Адамавай памёр Ты,
другі Адаме, Хрысце, Слова Божае!
Калі ж убачыў Ты яго спраможанага няскінутым,
уваскрасіў Ты яго сёння ўваскрасеннем Тваім
і вярнуў яму славу былую!

Уцелясніліся жыватворныя пакуты
цела Твайго, Хрысце, Слова Божае,
калі закалолі ягня ў Егіпце,
каб выратаваць немаўлят, а Ты воляй Айца
Твайго прынесены ў ахвяру, каб выбавіць грэшных.

Невыказнае багацце боскае
Іосіф знайшоў,
калі цела Гасподне паклаў у грабніцу,
як цела мёртвага, несмяротнасць смяротных,
і знайшоў узнагароду.

Засвяціла сёння само свяціла светлае,
непарушнае, Хрыстос, сонца праўды,
якое засланіла пампрока
магілы прыроды цялеснае,
і ўстаў Ён воляю сваёй, бо Бог Ён.

Адзінародны, Хрысце, Слова Божае,
калі ўзнёсся Ты целам на крыж,
невінаватаю крывёю сваёю
Ты асвяціў бажніцу паганых,
нібыта нявесту сваю, несмяротны Гасподзь.

Адзінародны, Хрысце, Слова Божае,
калі пакладзены быў Ты воляй сваёю ў магілу,
ўваскрасіў Ты мёртвых з магіл іх,
бо прыйшоў Ты ў цямніцу душ
і вызваліў замкнутых у ёй.

Адзінародны, Хрысце, Слова Божае,
калі Ты, несмяротны Божа, устаў з магілы Тваёй,
адпрэчыў смерць, развеяў тленне
і даў нам, вернікам, нятленнасць,
і даў нам, смяротным, несмяротнасць!

Прышэсце Тваё, Хрысце, Слова Божае,
між дзвюх жывёлін прарочыў
Авакум, і быў Ты, Спасе, укрыжаваны
між двух разбойнікаў на Галгофе,
і пакуты прыняў Ты за нас на сябе.

Раскрыла пашчу сваю зямля
і прыняла ў сябе кроў цнатлівую
Авеля праведнага і наклікала на сябе праклянцце,
а сёння, прыняўшы ў сябе цела Божае,
атрымала вечнае блаславенне.

Веруем, вернікі Хрыстовы, у Сына адзінага,
спрадвечнага, у дзвюх іпастасях,
у Бога і чалавека, несмяротнага і смяротнага,
які целам памёр і сёння ўваскрос
з ласкі неадольнае Боскае сілы!

Распавёў нам Ісая-прарок,
хто такі валадар славы,
венцаносец вянца цярновага,
абліты крывёю цнатлівай,
які прыняў пакуты і жыццё вечнае даў нам.

Увасобіўся ў чалавеку Бог моцны, уладарны,
валадар і князь вякоў.
Ён збавіцель свету Імануіл,
з намі Бог, ён целам сягоння прыняў пакуты
і неўвярэджаны ў Боскай істоце сваёй.

Спраўдзіліся сёння словы
носьбітаў даброты — прарокаў,
Бог бо несмяротных дзеля смяротных
памёр целам сваім, і пакладзены быў у магілу,
і паўстаў з мёртвых з ласкі Боскае сілы.

Памёр Ты целам, непарушлівы Божа,
пакуты прыняў Ты, непадуладны пакутам,
і поўху прыняў Ты ад рук
рабоў, цяпер анёлаў, Гасподзь,
і спрамог валадарства смерці.

У лона сваё смерць прыняла Цябе,
ласкавы, Бога ўсіх і ўсяго,
і не змагла яна, о нятленны, аддаць Цябе тленню,
і валадарства яе не змагло завалодаць Табой,
валадар несмяротнасці!

Спрамог Ты смерць смерцю сваёй,
о Слова Божае, і на вякі мёртвых
збавіў Ты, Божа, паводле вобраза Іоны
ад звера таго душагуба,
і ўваскрасіў Ты іх уваскрасеннем сваім.

Нязмерная ласка Твая
і найвялікшая слодыч, Хрысце,
падзвігнулі Цябе, ласкавы, на дзеі,
і прыйшоў Ты на мукі дзеля тварэння ласкі,
прыйшоў з крыжам і збавіў нас ад пакут.

Пазналі мы Цябе, бо прыйшоў уцялеснены збавіцелем нашым
ад смерці, як збавіў трох юнакоў
ад вогненнай печы, бо акрапіў Ты нас,
перш чым расою, боскай крывёй і вадою
і тым патушыў пошуг бязбожжа.

Прыйшоў вялікі сапраўдны настаўнік пастыраў
у доме Божым, Ісус, Сын высокага Бога,
Які з уласнае волі прынёс Сябе
у ахвяру Айцу свайму дзеля адкуплення грахоў свету
і ўваскрасіў мёртвых уваскрасеннем сваім.

Арасі, Хрысце, расой жыватворнай
душу маю бясплодную, добры,
і патушы жар грахоў
ручаём вады і крыві,
што з боку Твайго пацёк!

Не схаваю ўчыненую добрасць
даброты Тваёй, Хрысце, Слова Божае,
бо дзеля мяне багатых зрабіў Ты ўбогімі,
і ўбоства маё праславіў, Спасе,
і зрабіў мяне несмяротным Ты,
Хто стаў несмяротны праз смерць!

І вось пячаткі магілы ляжаць
неламаныя, вось праз тры дні
мёртвы і тленны паўстаў нятленным,
знясл аўлена сціжма бязбожнікаў:
несмяротны Бог паўстаў з мёртвых!

Убач, прасвятая, сына Твайго ўкрыжаванага,
без шкоды пакаранага праз цела сваё,
Маці Божая, і спадзявайся цяпер на моц

яго моцную, бо валадар гэты
адпрэчыць смерць і ўваскросіць мёртвых.

Убач, Спасе, распнуты ў целе сваім,
Маці сваю, цнатлівую Дзеву,
Ёй, тужлівай, скажы, велікадушны:
не смуткуй, прасвятая, аб пакутах маіх,
бо ўстану Я з мёртвых, бо Я Гасподзь Бог.

Спяшай да магілы, Божая Маці,
і пабач Сына свайго і нашага Бога,
Які прыняў пакуты і памёр у целе,
паўстаў ён сёння Боскаю сілай
і ўзыдзе на нябёсы ў вечнае валадарства.

Дай нам, Спасе, адпушчэнне грахоў,
і прымі з нягодных вуснаў
нямоглую хвалу боскасці Тваёй,
дай перамогу валадару, які ў цябе, Хрысце, верыць,
і настаў нас на шлях міру!

## АЛЕСЬ КАСКО

**(1951, в. Чудзін Ганцавіцкага р-на)**

Нарадзіўся ў мнагадзетнай сям'і, у якой гадавалася дзесяцёра дзяцей. З-за матэрыяльнай нястачы мусіў перапыняць вучобу ў Берасцейскім педінстытуце і зарабляць на хлеб настаўніцтвам у роднай Чудзінскай школе. Шэсць гадоў працаваў карэспандэнтам раёнкі ў Жабінцы, дзе і асеў на сталае жыццё. Аўтар чатырох паэтычных кніг, дзве з якіх выйшлі ў сталіцы, а дзве — у Берасці. Для нас найперш цікавая — «Трохкроп'е» (2001), дзе поруч з вершамі ды нататнікавымі запісамі змешчаныя пераклады і цэлых восем... партрэтаў аўтара. Што ж, яшчэ Маякоўскі прысвячаў вершы «сабе, любімаму». У той жа кнізе чытаем параду беларускім паэтам, на думку аўтара, «бязвольным, бездапаможным і наіўным, як дзеці», — чытаць Ніцшэ і Шапенгаўэра, каб, значыць, духам палымнець. Добра, што «Так сказаў Заратустра» В. Сёмуха даўно пераклаў, а з Шапенгаўэрам пакуль праблема.

*ЛЕАНІД МАРТЫНАЎ*
*(1905—1980)*

### ВАДА

Вада
ласкавасць мела
ліцца!

Яна
была той чысціні,
калі — ні ўмыцца,
ні напіцца.

І ў гэтым дзіўнага — ані.

Ёй
не хапала
рыб, прычала
і вербалознай гаркаты.

Ёй
твані, глею не хапала
і туманоў — на чараты.

Ёй
не хапала быць бруістай,
ёй не было сваволіць дзе.
Жыцця ёй не хапала —
чыстай,
дысталяванай
той вадзе!

*АРСЕНІЙ ТАРКОЎСКІ*
*(1907–1989)*

## ПЕРШЫЯ СПАТКАННІ

Спатканняў нашых кожнае імгненне
Мы святкавалі, як багаз'яўленне,
Адны на цэлым свеце. Ты была
Смялейшай і лягчэйшай ад крыла
Птушынага; бы галавакружэнне,
Па лесвіцы злятала і вяла
Скрозь бэз вільготны ў сад свой без наймення
На тым баку люстэркавага шкла.

Настала ноч, і ўспыхнула высока
Няведамая зорка, нібы знак
Падаравання, і ў празрыстым змроку
Хілілася павольна галізна.
«Будзь блаславёнай!» — словы Запавету
Шаптаў і ведаў, што бязбожна гэта —
Хацець, каб вечнасцю маёй была:
Цябе крануць сінечаю сусвету
Гусцісты бэз цягнуўся са стала,
І прамяніліся твае павекі
Ад дотыку світальнага святла.

А ў крышталі пагойдваліся рэкі,
Там з гор паднебных падала бруя,
І ты трымала сферу на далоні
Крыштальную, і спала ты на троне,
І — Божа існы! — ты была мая.

Ты прабудзілася й пераўтварыла
Штодзённы слоўнік мой і першы раз
Па горла мову паўнагучнай сілай

Напоўніла, — і слова *ты* адкрыла
Свой новы сэнс і азначала: *князь*.

На свеце ўсё займела сваю вартасць,
І нават рэчы — кубак, таз, — тады
Стаяла паміж намі, як на варце,
Крамянасць непахіснае вады.

Нас павяло богведама куды.
Мы адмыкалі цуда-гарады,
Якіх ніколі не было на карце,
Сама нам мята слалася пад ногі,
І птушкі нам авейвалі дарогі,
І рыбы плынь адольвалі ў рацэ,
І змест быцця нябёсы развіналі...

Калі па следзе лёс ішоў за намі,
Нібы шаленец з брытваю ў руцэ.

*БЛАЖА КОНЕСКІ*
*(1921—1993)*

## ВІЙ

У мроях, бы апоўначы ў царкве,
цябе замкнуў. І свечкай ледзь жывою
ты блякла свецішся, а ўсе святыя
пажадліва цікуюць за табою.
Ты сталася нявольніцай, якую
настойліва, няўтомна заклінаю,
і ўжо здаецца: настае часіна,
калі дзве нашы сутнасці з'ядную.
Я набліжаюся, як грозны Вій,
зямлісты ўвесь, сама зямная прага;
так, страшны я, і што нясу пяшчоту
ў сівых вачах — з таго табе так блага.
За крок я ўжо, пяшчотны Вій, ды раптам
сябе абводзіш рысай кругавою,
і дол за ёю валіцца ў бяздонне,
і рушацца памкненні ўсе за ёю.
Сасмяглы, як пясок, я сам у прорву
кідаюся — і ў прорве той знікаю.
Я, Вій, цябе трымаю моцна ў мроях,
ды, прагны, даступіцца сіл не маю.

*ЛЕАНІД ПАЛТАВА*
*(1921—1990)*

## ЧАЛАВЕК

Па бруку, захінуты ў паліто,
прыгорблены, ідзе няпэўным крокам.

І не ўгадае ў ім ужо ніхто
ні бацькі, ні героя, ні прарока.

Але кажу сабе: пільней зірні,
і ўсмешкай прывітай, і дай дарогу.
Бо ці ж не так у небнай глыбіні
мы бачым хмары — і не бачым Бога?

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938–1985)*

* * *

Як страшна вынявольвацца дабру...
Як страшна прызнавацца ў тым, што людскасць
яшчэ жыве ў нас. Страшаць дні чакання,
калі яна, нявольніца, памрэ
ў цямрэчы, каб употай пахаваць
на могільніку душ і зведаць шчасце,
якога ўжо да ран не прыкладзеш.
Як вабіць ліха, вабіць грэх — бягом
на край зямлі, сябе развеяць з ветрам,
сцурацца нават вобліку свайго,
бы чорта лысага... Кульгавы дзень
у цемру зойдзе, гляне па закутках
і завагаецца. Карпеў ён марна:
вакол агменю племя самаедаў
шчасліва пазяхае. На агні
гатуюць мяса. Кроп у сагане
пагойдваецца. Сёрбаючы юшку,
сягаючы ў глыбіні медытацый,
мазгуюць: а каго б — на смажаніну,
каб на сняданак мець і на абед.
Кульгавы дзень сыходзіць, бо пячорны
ікласты люты змрок не ападзе,
пакуль ажно астатні самаед
не з'есць сябе самога і памрэ
з высновай філасофскаю. Маўляў,
жыццё кароткае, а мяса — мала.

*ЮРЫЙ КУЗНЯЦОЎ*
*(1941–2003)*

**СУСТРЭЧА**

Па-над стромай, дзе двум размінуцца надзеі ніякай,
аднаногага ганса звёў мост з аднаногім палякам.
Ой, вы, ногі мае! Той без левай, а гэты без правай,
той кульгаў Сталінградам, а гэты бажыўся Варшавай.
— Донэрвэтэр! Пся крэў! — так адзін аднаго прывіталі,
ды каб ім размінуцца, яны абняліся братамі.
Ногі параю сталі — сышліся на хвілю дарогі,
каб ізноў разысціся... О людства, твае гэта ногі!

## ІВАН ЧАРОТА

**(1952, в. Лышчыкі Кобрынскага р-на)**

З маленства рос у трохмоўнай стыхіі, чытаў кнігі па-беларуску, па-польску і па-ўкраінску. Пасля заканчэння філфака БДУ (1974) тры гады настаўнічаў у вясковай школе на беларуска-літоўскім памежжы, потым вярнуўся ў alma mater выкладчыкам. Даследуе сербскую, славенскую і іншыя літаратуры колішняй Югаславіі. Абараніў доктарскую дысертацыю, з 1996 г. ачольвае кафедру славянскіх літаратур. Разам з М. Джэркавічам склаў анталогію сербскай паэзіі па-беларуску (1989), дзякуючы якой паэтычнае слова братняга народа годна прадстаўленае ў «Галасах з-за небакраю». Сербскую мову вывучыў настолькі дасканала, што пачаў займацца перакладамі з беларускай; і плён тут таксама заўважны — анталогія «Беларуская паэзія» (Белград, 1993). Як перакладчык, увесьчасна пашырае прастору сваіх літаратурных зацікаўленняў: падступіўся да в'етнамскай і венгерскай паэзіі (змешчаны тут пацешны верш Б. Хамваша пераклаў разам з С. Бабічам). З'яўляецца сакратаром беларускай Біблійнай камісіі, якая з 1998 г. займаецца перакладам Святога Пісьма на беларускую мову і мае на мэце выданне ўсіх тэкстаў, неабходных для багаслужбаў. І трэба сказаць, што справа хоць павольна, але рухаецца — на момант падрыхтоўкі нашай анталогіі чатыры Евангеллі ўжо ўбачылі свет. Праблему ўцаркаўлення беларускай мовы (ці абеларушвання Царквы) разгледзеў (месцамі не без тэндэнцыйнасці) у кнізе «Беларуская мова і Царква» (2000). Склаў двухтомавую анталогію «Насустрач Духу: Беларуская хрысціянская паэзія і проза» (2001—2002). Даўно і паспяхова перакладае сербскую, харвацкую і славенскую прозу (раманы нобелеўскага лаўрэата І. Андрыча, Б. Зупанчыча, Д. Янчара ды інш.). За перакладчыцкую дзейнасць ганараваны некалькімі міжнароднымі прэміямі, узнагароджаны ордэнам Сергія Раданежскага III ступені.

### *ІВА АНДРЫЧ*
### *(1892—1975)*

* * *

Бог выходзіць як святло з кожнай рэчы створанай
і з кожнага жыцця распачатага.

Самотны камень на мелізне мае аўру Ягонага ўздыху,
і не знікае над ім ні ўранку, ні ўвечары флюід ліловы,
ясь нябачнага сонца.

Ён — цяпло дыхання ўсяго жывога.

Ён глухі да гадзіннікаў, што б'юць і дзеляць
тэрміны на кавалкі. Ён сляпы да праяў дня, ночы
і да ўсіх зменаў часу.

Ён — суцяшальная відната і выразная цішыня,
у якой чуецца голас, што Яго кліча.

Ён так няўкорна маўчыць, што здаецца, нібыта
Яго няма.

А Ён — мірнае сэрца ўсіх атамаў.

*БЭЛА ХАМВАШ*
*(1897—1968)*

## УЗНІКНЕННЕ ДЗЯРЖАВЫ

Даліна звужаецца, і падарожнікам з далёкай зямлі
неабходна прайсці па цясніне.
Шмат падарожнікаў, з'яўляюцца
гандляры,
шмат гандляроў, з'яўляюцца
грабежнікі,
шмат грабежнікаў, з'яўляюцца
паліцыянты,
дзеля ўзаконення паліцыянтаў з'яўляюцца
чыноўнікі,
дзеля абароны чыноўнікаў з'яўляюцца
вайскоўцы,
дзе шмат вайскоўцаў, з'яўляюцца
курвы,
дзеля праслаўлення курваў з'яўляюцца
паэты.

*ДЭСАНКА МАКСІМАВІЧ*
*(1898—1993)*

## ЦУД У ЦАРКВЕ

У старажытнай царкве мураванай,
дзе моляцца рыбакі і сяляне,
абат на чужой мове чытае:
«Ave Maria, ave...
Pater noster...»,
а пад каменнымі зводамі
водгулле разносіцца:
«Маці Божая... Ойча наш, Ойча...»
Другі раз абат малітву пачынае
словамі, як нажы, вострымі:
«Pater noster, Pater noster...»,
ды ізноў па храме адгукаецца:
«Уладару, Божа, наш ласкавы Ойча...»
Штодня збіраюцца людзі,
каб стаць сведкамі цуду:
на прамоўленыя словы чужыя
адзываюцца зверху тыя,
што ў святыні адвеку
гучалі тутэйшаму чалавеку.
І трэці раз, гэткі цуд не прымаючы,
«Pater... Pater...» — абат паўтарае,
а скляпенні царквы ўсё роўна
вяртаюць словы, люду родныя.

*РАДЭ НІКАЛІЧ*
*(1928)*

**ЛОРКА**

Калі яму грудзі
накрылі чырвонаю ружай,
дзень завязаў чорную хустку.

На гітары лопнулі ўсе струны,
з яе вылецела птушка,
душа Іспаніі.

Цяпер лунае над пустымі берагамі,
лясамі, дарогамі і рэкамі,
шукае магілу.

*ГАНЕ ТАДАРОЎСКІ*
*(1929)*

**ВЕРШ ПРА РОБАТА**

Шкада мне робата, бо ён сам па сабе
рабом не можа стаць, ані бунтаўніком!

Шкада, бо не праявяцца ў яго
уласныя нядбайства ці дурнота!

Шкада яго, бо не ўвазнае суму
каля рэкламаванай прыгажуні!

Шкада, бо ён не можа апынуцца
ў лякарні венерычнай ці вар'ятні!

Шкада, бо не зняверыцца ў святынях
і ў роспачы не перарэжа венаў!

Шкада, бо ракавай пухліны не баіцца!
Шкада мне робата, што ён заўсёды робат!

*МОМЧЫЛА ДЖЭРКАВІЧ*
*(1930)*

**ПАРАСТАК**

Берагі згортваюцца,
як стомленыя лотасы.

Залатарукія ткаллі
ткуць з белых зор
кашулю дню.

На ростанях
будзем пытацца ў крыніц
пра дарогу далей.

З зерня парастак мілы —
як чало у дзяўчыны.

*ЛЮБАМІР СІМАВІЧ*
*(1935)*

**ПАЛІВАННЕ МАГІЛ**

Накрыж вінам паліваем магілы,
сонца не свеціць нам, а хутчэй за гару ўцякае.

Ці гэта вяртаем у мёртвых герояў кроў?
каб іх ажывіць?
каб сталі побач з намі?
каб пад ударамі ўсё мацнейшымі паміралі зноў?
каб зноў бачылі толькі гэты снег,
які падкрэслівае беллю сваёй
гэтулькі чорных варон?
каб чужых двароў сталі вартаўнікамі,
а на іхніх дварах няхай пустазёл гаспадарыць?

Не варта, героі, цешыцца, што вам тут
насустрач выбежыць дзяўчынка-цуд
з кветкамі ўдзячнасці на грудзях!

Стогаловы дракон вас тут будзе чакаць,
якому вы адсякалі галовы!

Уваскрэсніце лепей на якім іншым свеце,
— хто тут вам у вочы адкрыта глядзець захоча? —
альбо, гаротнікі, і не прачынайцеся
пад крыжамі з віна!

*ВЕЛІМІР ЛУКІЧ*
*(1936)*

**МАТЫЛЁК**

Ты жывеш, а з табою і я
Да апошняга сонечнага промня.
Што нам рабіць у сутонні?

Але ноч нас застала
Жывых, ды непрыстасаваных.
Хто ацэніць узоры твае нечуваныя?

У сутонні і крылаў тваіх не чутно таксама
Да першых сонечных промняў...

*РАДАВАН ПАЎЛОЎСКІ*
*(1937)*

### САВА

Месца жыць табе — на гары
каб аплакваць вяршыні
Што ж табе ў горадзе трэба
Птушка цёмная і фасфарычная з ніадкуль
ты ляціш марудна быццам стагоддзе
якое шукае каралі згубленыя небам
Сухімі крыламі сваімі ўсё ты высушыла
пачуцці растраціла і нязадольна ўжо
ляцець куды кліча твой голас
Калі ж я са сцяблінкай травы
ў горад вяртаюся каб не быць у самоце
сустракаеш мяне з хорам начных соў
Нічога не застаецца нам акрамя як
днём убачанае ўначы аплакваць.

*БРАНІСЛАЎ ПРЭЛЕВІЧ*
*(1941)*

### ХТО БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЗ ПАДМАНУ

Сабраўшы ўсю сілу, неба ўздымаеш
над шматлікімі галовамі.
Ладзіш яго, расцягваеш, чапляеш.
Па краях замацоўваеш за далягляды,
і чуеш, як многія шэпчуць: «Шацёр».
Сыходзяцца ўсмешлівыя і падаюць паперкі,
якія пацвярджаюць іх права на месца пад небам.
Рассаджваюцца і днямі чакаюць відовішча,
якога ніколі не будзе.
Між тым ядуць, п'юць.
А потым паміраюць, каб вызваліць месца
другім, якія прыходзяць
таксама з усмешкамі шчырай надзеі.
Дарэмна ты разводзіш рукамі і гукаеш,
што тут не будзе нічога,
нічога такога, што іх цікавіць.
Не вераць.

Раз'юшаны, выдзіраеш
кліны, забітыя ў краі даляглядаў,
і, камячачы, нябесны шацёр збіраеш.

Усё роўна, кажуць яны,
нехта зноў нешта раскіне над намі.
Хто будзе жыць без падману?

*СРБА ДЖОРДЖАВІЧ*
*(1943)*

## ПАГОНЯ

Пагоня непрыкметна
У сярэдзіне тваёй апынулася.
Падай на грудзі неба,
Як сухажылле анёла, што спатыкнуўся.
Мокрыя губы смокчуць Сонца.
А пагоня твае ўжо аблізвае косці,
І яны падаюць, нібы каменьчыкі
З берага ў плынь запаскуджанай рэчкі.

Можа,
Удасца кусту плюшчоваму
Высмактаць паводку смогу
З гарадоў, разрастанне якіх
Ужо немагчыма спыніць.
І газеты апаражняць будуць зноў
Кішэні атракцыёнамі таннымі,
Прапаноўваючы небаскробы
Як найлепшыя скрыні на пахаванне.

Можа,
І твая душа будзе публічна спалена
У палоне ТБ канцлагера,
Апынецца яна ў душагубцы
Дзеля сквапных будучыні.

Але пагоня з'яўляецца
Ноевым каўчэгам, сэрцы заклікаючы
У сусветы памяці,
Як быццам там недзе, у трапяткім ззянні
На серабрыстых планетах аддаленых,
Яшчэ раз можна ўсё распачаць нанова.

*РАДАМІР АНДРЫЧ*
*(1944)*

## ПАЭТУ, ЯКІ ХОЧА БЫЦЬ НАТУРАЛЬНЫМ

Такім, як ты ёсць, заставайся, —
аслом, што захоплены смачнай травою,
ад якой і за вушы ніхто не адцягне.
Ды паслядоўнасці варта трымацца —
гожы свой хвост выстаў над галавою,
каб і твая ўлада мела сцяг свой.

*ПРЭДРАГ БАГДАНАВІЧ*
*(1944)*

* * *

Александрыйская бібліятэка
палыхае.

Бібліятэкары з полымя
ўголас вычытваюць кнігі.

Я, побач стоячы,
чужую творчасць занатоўваю.

Але і мне давядзецца ў агонь,
добра гэта ўсведамляю.

*РАЙКА ПЕТРАЎ-НОГА*
*(1945)*

### СЛАНЕЧНІК

Большага вар'ята няма...

Скрывілася шыя ад цяжару ўжо даўно —
дзяржак заслабы пад цяжкалобаю галавой,
асляплай ад сонца,
шалёна ў святло ўлюбёнай,
як той манах-астролаг,
што на вежы самотны сканаць згодны
(няхай птушкі гняздзяцца ў яго рукавах),
каб толькі без перашкоды глядзець на зоры.

Нават калі завяне, у журбе знясілены,
сарамліва буйную галаву да сэрца бліжэй нахіліць,
і калі нават вочы з ілба выпадаюць,
ён усё роўна сонца чакае —
нібыта ў маі.

Вар'ята большага няма...

## АЛЕГ МІНКІН

**(1952, в. Чарняўка Хоцімскага р-на)**

Першая прафесія — інжынер-электрык. Пабадзяўся па свеце — жыў і працаваў на нафтавых радовішчах Бурацції і Цюмені. У немаладым ужо веку дэбютаваў дабротнымі, канцэптуальна прадуманымі (што рэдка здараецца ў паэтаў-пачаткоўцаў) зборнікамі «Сурма» і «Расколіна». Крытыка, трошкі павагаўшыся, паставіла Мінкіна ў першы шэраг шматспадзеўнага «тутэйшага» пакалення. На жаль, паэт не знайшоў занятку сваім рукам і галаве ў роднай Беларусі, з'ехаў у Летуву, дзе неўзабаве прыняў расейскае грамадзянства і заняўся бізнесам (у тым ліку і газетна-выдавецкім). Апагей перакладчыцкай дзейнасці Мінкіна прыпадае на пачатак

1990-х, калі ў Вільні выходзіла адноўленая «Наша Ніва». На яе старонках з'явіўся пачатак «Боскай камедыі» Дантэ, перакладзены Алегам. Але працягу чытачы так і не дачакаліся. Затое дачакаліся шыкоўна выдадзенага Норвіда (1993), якога Мінкін пераклаў з такой далікатнасцю і засяроджанасцю, з якой, мабыць, расчытваў норвідаўскія манускрыпты ў венскай бібліятэцы адкрывальнік Норвіда З. Пшасмыцкі. Праз год выйшаў томік Баляслава Лесьмяна, якога беларускі чытач дагэтуль ведаў павярхоўна, і выбранае Леапольда Стафа. Вось і ўсё. Праўда, даходзяць чуткі, што ў газеце віленскіх беларусаў «Рунь», рэдагаванай расейскім грамадзянінам і беларускім паэтам А. Мінкіным, час ад часу пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі з'яўляюцца вершы і пераклады рэдактара. Праўда, праверыць няпроста — іншая краіна ўсё-ткі. Але для Інтэрнэту межаў няма — аднойчы я выявіў у сваёй паштовай скрыні цэлую кнігу санетаў украінца М. Зэрава і ў чарговы раз парадаваўся за Мінкіна-перакладчыка.

*ЭДГАР АЛАН ПО*
*(1809—1849)*

## КРУМКАЧ

Нейк змрочным часам ночы, калі я заплюшчыў вочы,
Разбіраючы прарочы сэнс старых пажоўклых кніг,
Раптам стук пачуў праз стому, ціхі стук у дзверы дому,
Быццам нехта невядомы прыпыніўся каля іх.
«Гэта нейкі госць, — я мовіў, — прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх».

Быў, я помню, снежань слотны, у каміне неахвотна
Гаснуў жар, і цень дрымотны варушыўся ў зборках штор.
І чакаў я час світання, як збавення, бо чытанне
Не прынесла мне адхлання ў смутку вечным па Лінор,
Па святой, якой анёлы кажуць там цяпер «Лінор», —
Безымяннай тут з тых пор.

Неакрэслены, трывожны шолах штор, іх зморшчкі кожнай
Нейкім жахам прыварожным да сябе прыкуў мой слых,
І стаяў я спалатнелы, паўтараючы нясмела:
«Гэта нейкі госць спазнелы там, каля дзвярэй маіх,
Гэта нейкі госць спазнелы прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх».

І сябе пераканаўшы, што там госць, і страх суняўшы,
«Сэр, — я мовіў, — або лэдзі, выбачайце, што на міг
Я заснуў і Вас, як брата, не пусціў адразу ў хату,
Дый пастукаліся надта ціха Вы ў дзвярах маіх...»
Дзверы я штурхнуў... нікога, толькі цемра каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх.

Я ўзіраўся ў прадчуванні немажлівага спаткання
У ахутаны маўчаннем і цямрэчаю прастор,
Ды пачуў у непрабуднай цішы толькі водгук скрутны,
Толькі водгук ледзве чутны слова ціхага «Лінор?»
Гэта я шапнуў, і рэха прашаптала мне «Лінор?»,
Прашаптала, як дакор.

І, гаруючы ад страты, я вярнуўся ў жальбе ў хату,
Як знячэўку стук зацяты зноў пачуўся і аціх.
«Так, — я мовіў, — мне не сніцца: стукнуў нехта ў аканіцу,
Трэба вызнаць таямніцу незвычайных стукаў тых.
Гэта вецер — вось разгадка таямнічых стукаў тых,
Вецер ля акон маіх».

Ды калі акно шырока я разнасцежыў — са змроку
У пакой паважным крокам крук, як прывід дзён сівых,
Увайшоў хадою цвёрдай, і пратупаў з пыхай лорда
Ля мяне ў паставе гордай проста да дзвярэй маіх,
І на бюст Палады ўзбіўся там, каля дзвярэй маіх,
Сеў панура і заціх.

Чапурыстасць і паважнасць чорнай птушкі нехлямяжнай
Змусілі мяне ўсміхнуцца цераз сум: «Хоць і абдзёр
У сутычцы нейкі вораг на тваёй макушцы пёры,
Ты не страціў смелы нораў, змрочны дух начных пячор,
Як Плутон цябе мянуе ў нетрах тых начных пячор?»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

Трапны сказ начнога птаха на душу мне ўпаў, як плаха.
Быў бы дзень — не меў бы страху, а цяпер — які выбор,
Калі ноч і бездарожжа, калі, быццам дух варожы,
Уваходзіць крук нягожы і сядае насупор
На скульптурны ўзгруд Палады, над дзвярыма, насупор,
Крук з мянушкай Nevermore.

А тым часам крук пануры знерухомеў на скульптуры,
Бы душу ўсю ўклаў у слова страшнае, як прыгавор.
«Як сябры мае, — ледзь чутна я шапнуў, — крумкач прыблудны
Знікне заўтра ў каламутным цемрыве начных пячор,
Як мае надзеі, знікне ў цемрыве начных пячор».
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

Напалоханы адказам, я ачуўся не адразу
І прамовіў: «Гэта фраза, несумненна, ёсць паўтор
Скаргі нейкага нябогі, што пад гнётам лёсу злога
Праз усю сваю дарогу паўтараў, нібы дакор,
На хаўтурах мар да скону паўтараў, нібы дакор
Толькі слова "nevermore"».

Так разважыўшы, з усмешкай сеў у крэсла я без спешкі
Тварам да жудлівай птушкі, спінаю да цьмяных штор,
Ля падушкі сеў у крэсла і задумаўся над сэнсам
Слова, што прынёс злавесны змрочны дух начных пячор.
Што паведаміць хацеў мне змрочны дух начных пячор
Гэтым словам «nevermore»?

Так раздумваў я ў маўчанні над прароцтвам незвычайным
Птаха, што, паглядам жорсткі, на мяне глядзеў ва ўпор.
У святле сядзеў нясным каганца ды ненаўмысна

На падушку прыхіліўся — так мяне адолеў змор.
Ах, ніколі на падушку не прыхіліцца Лінор
Ля мяне, о nevermore!

І, здалося, пасмы дыму паплылі перад вачыма,
І за спінай серафімы павыходзілі з-за штор.
«Хлус! — я ўсклікнуў. — Без сумнення, дзіўнае тваё з'яўленне —
Боскі знак майго збавення ад журботы па Лінор!
Дай мне зелля, каб забыцца, каб не помніць пра Лінор!»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

«О вястун, — я ўсклікнуў, — птушка проста ты ці д'яблаў служка!
Хай прыслаў цябе нячысты, хай прынёс цябе віхор
У бязрадны мой закутак, дзе пануе вечны смутак, —
Ці пазбаўлюся пакутаў я ля Галаадскіх гор?
Ці знайду я панацэю там, ля Галаадскіх гор?»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

«О вястун, — я ўсклікнуў, — птушка проста ты ці д'яблаў служка!
Дзеля Бога, што справуе існым ад зямлі да зор,
Адкажы душы гаротнай, ці ўзляціць яна ў зіхотны
Райскі сад да несмяротнай, што завецца там Лінор?
Да святой, якой анёлы кажуць там цяпер "Лінор"?»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

«Хай жа гэта слова стане знакам нашага расстання! —
Крыкнуў я. — Туды вяртайся, скуль прынёс цябе віхор!
І не ўздумай неўзаметку скінуць мне пяро, як сведку
Злой хлусні сваіх адведкаў, і не трэба так ва ўпор
Мне ў душу глядзець, і з бюста прэч нясі свой чорны ўбор!»
Крук пракрумкаў: «Nevermore!»

З той пары крумкач закляты, з бюста бледнага Палады
Не злятаючы ніколі, прымасціўся насупор.
Ён вачыма патарочы соннымі за мною сочыць
І пад лямпай цень свой змрочны на падлозе распасцёр,
І душой я з таго ценю нізашто цяпер да зор
Не ўзлячу, о nevermore!

## УЛЯЛЮМ

Неба шэрым рыззём па-сірочы
Навісала над лісцем сухім —
Над пакурчаным лісцем сухім:
Быў кастрычнік, тужлівы і змрочны,
У няласкавым годзе маім:
Слаўся золкі туман нездароўчы,
Сеяў жудасць у лесе глухім —
Поўз ад возера Обэра ноччу
Па гушчарніку Віра глухім.

Тут, сярод кіпарысаў магутных,
Я аднойчы з Псіхеяй блукаў —
Між Тытанаў з Псіхеяй блукаў.
Я тады, як паток каламутны,
Палкім сэрцам бурліў, клекатаў
І з жаролаў вулканаў раскутых
Ў край сцюдзёны на Полюс сцякаў —
Па адхонах вулканаў раскутых
Ў край бязлюдны на Полюс сцякаў.

Мы хаваліся ў словах сірочых,
Як у выстылым лісці сухім —
У пакурчаным лісці сухім;
І хаця быў Кастрычнік прарочы
У бязлітасным годзе маім
(Ноч Начэй завалодала ўсім!) —
Мы забылі, што гэтаю ноччу
У прыстанішчы зданяў глухім,
Каля возера Обэра ноччу
Вір блукае па лесе глухім.

А тым часам на ранак патрохі
Павярнуў небазорны цалік,
Прыйсця ранку пачаўшы адлік,
І ў канцы нашай мглістай дарогі
У расплывістай далечы ўзнік
І, нібыта паўмесяц двурогі,
Таямнічы паўстаў маладзік —
Як Астарты паўмесяц двурогі,
Чарадзейны заззяў маладзік.

І сказаў я: «Астарта аблiччам
У сатканай з уздыхаў начы,
Не ўступае Дыяне нічым,
Яна ўсе нашы слёзы падлічыць,
Праз уздыхаў эфір летучы,
За сузор'ем Ільва таямнічым.
Яе цёплыя вочы ўначы,
Яе чулыя вочы ўначы
Зіхацяць і ў Нябёсы нас клічуць,
Дзе мы знойдзем нарэшце спачын, —
Там, у Леце, за Львом ваяўнічым
Знойдзем мы забыццё і спачын.

Ды Псіхея сказала: «Не веру
Бледнай зорцы, што ў небе ўстае, —
Здраднай зорцы, што там устае:
Ах не стой жа! Ах, пойдзем наперад!
Ейны бляск забыцця не дае!»
Так Псіхея сказала і ў шэры
Прах занурыла крылы свае —

Спалатнела ад жаху і ў шэры
Прах занурыла крылы свае —
Белапёрыя крылы свае.

Адказаў я: «Твой страх — недарэчны:
Дрогкай зоркі не маніць святло!
Акунемся ў жывое святло!
Гэта ззянне Сівілава сведчыць,
Што ўначы Спадзяванне ўзышло! —
Прывядзе бляск Астарты бясспрэчна
Нас у Неба, што днець пачало, —
Ах, даверыцца можна бясспрэчна,
Каб у Неба нас ззянне вяло,
Дзе ўначы Спадзяванне ўзышло».

Гэтак я супакойваў Псіхею,
Каб развеяць смугу ейных дум,
Ейных горкіх і роспачных дум,
Як упёрлася раптам алея
Ў склеп замшэлы, адкуль веяў сум —
Невыносная жальба і сум,
Мовіў я: «Хто ў тым склепе гібее,
Апавіты ў жалобу і сум?»
Адказала яна: «Улялюм! —
Там магіла тваёй Улялюм!»

Сэрца жалем зайшлося сірочым
І пакрылася лісцем сухім —
Мёртвым, скурчаным лісцем сухім:
Год назад у Кастрычніку змрочным,
Год таму перад склепам нямым
Я ўжо плакаў над горам сваім —
Я ўжо плакаў у змроку глухім
Над няўцешным адчаем сваім!
Ах, якім чараваннем благім
Зноў сюды я завабленым ноччу,
Каб пакутваць у змроку глухім —
Каля возера Обэра ноччу
У прыстанішчы Віра глухім?

У слязах мы сказалі абое:
«Ах, няўжо духі дрэў і вады —
Духі чулыя дрэў і вады —
Каб не даць нам сустрэцца з журбою,
Не хацелі пускаць нас сюды —
Да жудлівага склепу сюды —
І наслалі сваёй варажбою
З пекла зорку граха і бяды —
З нетраў пекла сваёй варажбою
Зіхатлівую зорку бяды?»

*ШАРЛЬ БАДЛЕР*
*(1821—1867)*

## ДА ЧЫТАЧА

Прывыкла ў нас душа і цела без агіды
Прымаць паскудства, грэх, дурноту і крутню.
Мы сыцім без згрызот нам любую гайню,
Як тыя жабракі, што кормяць вошы й гніды.

Вынослівы наш грэх, а каянне, як рыба,
Што гіне без вады, — і кожны з нас бяжыць
У радасці назад, у твань, з надзеяй змыць
Няшчырымі слязьмі заганы нашы й хібы.

Вучоны Трысмэгіст загойвае памалу
На ложы зла й граху ачмураны наш дух,
Аж выпарыў нашчэнт з нас гэты хімік-зух
Усе да аднаго каштоўныя металы.

Так, гэта Д'ябал нас трымае пад апекай!
І звабай гідкае ўсё пляміць назнарок;
Глядзім без жаху мы ў прапахлы серай змрок,
Штодня спускаемся на крок бліжэй да Пекла.

Бы ўбогі рэспуст той, што звялую пахвіну
Старой гетэры ссе й цалуе ўнасалодзь,
Гэтак і мы сабе шукаем слодыч, хоць
Яна ўжо выціснутым стала апельсінам.

Нібы мільён глістоў, у мозгах карагодзіць
Зданнё са світы Сатаны, і неўпрыкмець
У нашы лёгкія з уздыхам кожным Смерць
Ракою цёмнаю са стогнам уваходзіць.

Калі яшчэ штылет, пажар, яд, юр жывёльны
Не вышылі на тле нікчэмных лёсаў свой
Злавесны сілуэт, дык гэтаму віной
Нямогласць нашых душ, ні да чаго не здольных.

Аднак сярод гіен, шакалаў, павіянаў,
Грыфонаў, павукоў, гадзюк, нетапыроў,
Жахлівых монстраў, што выццём халодзяць кроў,
У збрыджаным наскрозь звярынцы ўсіх заганаў, —

Ёсць горшая з пачвар, найбрыдшая з мярзотных!
Хоць лішні жэст і крык не на яе капыл,
Ды ўсю зямлю яна раструшчыла б на пыл
І позяхам адным зглынула б свет ахвотна;

Завуць яе Нуда! — пакурвае цыгару
Няспешліва й глядзіць на эшафот праз дым
Слязлівым вокам. Ты, чытач, мой пабрацім,
Ты знаеш гэтую галантную пачвару!

*ЦЫПРЫЯН КАМІЛЬ НОРВІД*
*(1821—1883)*

**ЧАМУ НЕ Ў ХОРЫ?**

1
Спявае хор абраных
Над люлькай, дзе спіць Бог;
А я — узбег, мярцвяны,
На іх парог...

2
І не хапае духу
Зірнуць туды, назад,
Бо яшчэ ловіць вуха:
«Рэж дзіцянят!»

3
Спявай жа, хор абраных,
Над люлькай, дзе спіць Бог;
Яшчэ мне вуха раніць
Пагоні рог...

4
Спявай, хор найсвяцейшы,
Я? — ўзнёсласць галасоў
Суладных мог бы зменшыць:
Я бачыў *кроў!*

**ПІЛІГРЫМ**

1
Ёсць *найвышэйшы* чын між чыноў,
Як над дахамі места вежа
 У небе пахмурым...

2
Вы рашылі, што я не з паноў,
Бо дом мне рухомы належыць
 З вярблюджай шкуры...

3
І ўсё ж — я ў небе бываю, калі,
Як піраміда, душа ўвышыню
 Імкнецца з падножжа!

4
І ўсё ж — я *столькі маю зямлі,*
Колькі патрапіла мне пад ступню
 У падарожжы!..

### РОДНАЯ МОВА

«Спярша пярун, а ўжо пасля грымоты,
Вось тупат коней стэпавых чуцён;
Спачатку *дзеі!*
　　— а словы? думкі?..
　　　　— потым!..
Бацькоўскай мовы не дамо на скон!» —
Так Лірыку крычаў Ваяр суровы
І біў у шчыт, ажно гудзеў прастор.
А той:
...«Не меч, не шчыт — бароняць мову,
А — дасканалы твор!»

*КАЗІМІР ПШЭРВА-ТЭТМАЕР*
*(1865–1940)*

### НА ДЗЕНЬ АНЁЛА

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць згукі іх, як сны...

У цемрадзі гадзінай шарай
ідзе праз пусткі, праз імшары,
па топкіх багнах, па разлогах
і па закінутых дарогах
задумлівасць палёў — Журбота...

Ідзе і сыпле смутку мліва
на пушчы, скутыя дрымотай,
на водаў глыбежы й разлівы,
бы інь, што поўню аплятае...
Вядзе з сабою жаль з маркотай...
Вунь выйшла на пагост санлівы
і на магілу той сядае,
што смерць спаткала маладою:
сядзіць і ў свет глядзіць з нудою...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць згукі іх, як сны...

Па ціхіх водах цені ходзяць,
туман па выдмах карагодзіць,
а рэчка ціха плешча ў змроку
і ўсё далей адносіць хвалі...
Хтось скардзіцца ў ёй,
　　хтось заводзіць
плач несуцешны, поўны жалю...

А рэчка ўсё цячэ й дзесь гіне,
губляецца ў гарах, аблоках
і ўжо не вернецца з тых даляў,
куды так сумна адыходзіць,
і прападзе ў марскіх глыбінях,
і ўжо не вернецца з тых даляў...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць згукі іх, як сны...

Дымы ўзнімаюцца няспешна
над вёскай, крытаю саломай, —
снуюцца, цягнуцца ў бязмежжа,
завіснуць хвілю нерухома
і дзесьці гінуць у прасторы...
Мо даганяюць рэчак хвалі
і далятуць калісь да мора...
А змрок прасоўваецца ў далеч,
усё гусцейшы і цяжэйшы,
і ўсё шырэйшы і шырэйшы,
заліў даверху горы й пушчы,
заткаў усю зямлю мярэжай
і ў неба ўспёрся, невідушчы...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны...
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць згукі іх, як сны...

Ідзе душа ў самоце полем,
ідзе са злом сваім і болем,
ідзе па лесе і па збожжы
і злыбед, болю цягне ношу,
бадзяжны лёс свой праклінае,
кляне ў слязах свой кон страшлівы,
з вялікай скаргай і адчаем
ідзе наўпрост па соннай ніве,
ідзе, нібы закляты прывід,
а поруч вецер свішча й скача,
куды не зверне і не скрывіць,
паўсюль чакае шлях жабрачы,
нідзе не знойдзе ні супынку,
ані прытулку, ні спачынку...
Ідзе праз поле і ад мукі
над галавой ламае рукі...

На Дзень Анёла б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны...

*БАЛЯСЛАЎ ЛЕСЬМЯН*
*(1878—1937)*

## РАМАНС

Я пяю, бо пяю! Не магу я іначай!
Раз сышліся на бруку жабрак і жабрачка.

Пакахаліся раптам — такой камяніцы
Не было, каб не ведала той таямніцы...

Замігцелі агеньчыкі зорак вясёлых,
Селі поруч яны на прыступкі касцёла.

І яна яму ўважна ўсю ноч падавала
То пяшчоту, то вусны, то хлеба кавалак.

Так адно аднаго пад азораным небам
Частавалі яны то пяшчотай, то хлебам.

Так яны насычалі да самага рання
Голад першы, жабрацкі, і голад — кахання.

Дык ці ўцяміў, паэта, як жыць табе трэба?
Маеш голады два... ні дзяўчыны, ні хлеба.

## ГАД

Ішла з малаком у грудзёх цераз сад,
Ажно ля альхі падсцярог яе гад.

Заціснуў, абвіў з галавы і да ног,
І песціў, і лашчыў, і джаліў як мог.

Вучыў забывацца, знямоглую, сном
І гладзіць саскі прахалодным ілбом,

І ад асалоды, салодшай за скон,
Дрыжэць, і звівацца, і сыкаць, як ён.

— Пажады маёй ты ўжо зведала жар:
Пусці — каралеўскі прыймею я твар!

Табе я з дна мора дам скарбы на здзіў...
Стань яваю ява, а сон — прападзі!

— Не скідвай луску і свой твар не мяняй:
Усё, як і ёсць, застаецца няхай!

Люблю, калі джалам вядзеш ля брывоў,
Раўнаючы іх, калі ссеш з вуснаў кроў.

Люблю, калі ўешся ты ўздоўж маіх ног
І перыш ілбом аб улоння пароґ.

З абодвух саскоў маіх пі наўзамен!
Не трэба мне скарбаў, не прагну я змен.

Салодкая сліна вужакі на смак —
Будзь гадам і песці і гэтак, і так!

## ЖАЎНЕР

Гэй, вярнуўся жаўнер ды з ваеннай выправы,
Але надта змарнелы і надта кашчавы.

Кулі так яго збілі і знізу, і збоку,
Што не мог інакш клыпаць, як толькі з падскокам.

Стаў ён блазнам журботы сваёй і нядолі,
І смяяліся ўсе, як скакаў ён ад болю.

Весялілі ўсіх прысядкі скаргі ягонай,
І калены журбы, і пакут выдрыгоны.

Ён дацёгся сяк-так да сваёй роднай хаты:
«Прэч, скакун! Нам на полі патрэбны араты!»

Паскакаў ён да кума, ды той небараку
Не прыпомніў і кіем прагнаў, як сабаку.

Да калішняй каханкі пайшоў, а жанчына
Рассмяялася ўзгрудам, клубамі, плячыма!

«З гэткім дрыгалам ў ложку скакаць мне да смерці?
Цела ледзьве чвэрць меры, а скокаў — тры чвэрці!

За падскокам тваім не ўганюся я, мусіць!
Не засну ранкам вуснамі на тваім вусе!

Ты занадта скаклівы, браток, для ўдавіцы:
Дык ідзі сабе з Богам і не трэба сварыцца!»

Да распяцця на ростань пацёгся ён сумны:
«Хрысце, скрозь ты сасновы, а вельмі ж задумны!

Я не знаю, чые цябе рукі часалі,
Але, бачна, красу і сасну ашчаджалі.

І ў цябе пакалечаны рукі і ногі,
Пэўна скачаш, як я, чым далей ад дарогі?

Такі самы дзівак ты, і хоць з-пад аблокаў,
Але будзеш мне спраўным таварышам скокаў».

І драўляны Хрыстос, што паўстаў з-пад сякеры,
Тыя словы пачуў і сышоў да жаўнера.

Пэўна, клёпак таму ў галаве не ставала,
Хто так груба яго абчасаў і нядбала.

Калі ткнуўся ў траву ён нагамі — разгледзеў
Яго сябра, што левыя ногі абедзве.

«Дарма, што з сасны я, ды хадок я не марны:
Вечнасць пешкі прайду, хоць на выгляд — няздара.

Пойдзем мы неразлучна — адна ў нас дарога:
Штось людскога ў нас будзе і штосьці ад Бога.

Мы пакуту з табою падзелім па-свойску,
Бо адною рукою знявечаны жорстка.

Смешнасць нашу падзелім — і хто не стрывае
Смеху першы, той першы сябе пакахае.

Падапру цябе дрэвам, а ты мяне — целам:
І хай будзе, што будзе! Ідзі са мной смела!»

І, абняўшыся, рушылі ў далеч няспешна,
І скакалі наўзаем высока і смешна.

І няведама колькі скакалі кадрылю,
Бо ніякі гадзіннік не злічыць тых хвіляў.

Дні і ночы міналі, сплывалі паволі,
І мінала бязводдзе, бязлессе, бясполле.

І ўзнялася віхура ў цямрэчы бясконцай,
Дзе лякае адсутнасць усякага сонца.

Хто ж там з ночы на поўнач у буры й завеі
Гэтак чалавячэе і так багавее?

Гэта два небаракі, два лёзных калікі
Шкандыбаюць сяк-так у свет божы, вялікі.

Калі першы вясёлы — другі ў безжалобе,
І з іх кожны заўжды сам сабе даспадобы.

Так кульгалі яны ў той завеі памалу,
І ніхто не даведаўся, што ў іх кульгала.

І скакалі, як трэба, і так, як не трэба,
Аж падскочылі ўрэшце да самага неба!

## УРСУЛА КАХАНОЎСКАЯ

Калі я пасля смерці ўзышла на нябёсы,
Бог мяне прытуліў і пагладзіў па косах.

І сказаў: «Ты, Урсула, зусім як жывая...
Што зрабіць, каб ты гора не ведала ў раі?»

«Так зрабі, — прашаптала, — каб у паднябессі
Усё стала такім, бы ў маім Чарналессі!»

І замоўкла, і спуджана ўскінула вочы,
Баючыся ўгнявіць яго просьбай сірочай.

Усміхнуўся, кіўнуў — і вось з Божае ласкі
Дом паўстаў рыхт у рыхт такі самы, як наскі:

Стол, і посуд, і кветкі ў гаршчках, і фіранкі —
Дых зацяла ад радаснай неспадзяванкі!

«Чарналескае ўсё, што ні бачыш у хаце...
Пацярпі: хутка прыйдзе ўжо бацька і маці!

Ды і сам я, калі зоркі спаць пакладу,
Да цябе неаднойчы ў адведкі прыйду!»

І пайшоў... А я ўвішна, забыўшы знямогу,
Накрываю на стол, падмятаю падлогу,

І ружовую сукню сваю надзяваю,
І сон вечны ганю — і гляджу, і чакаю...

Ужо ранішні промень заззяў на шпалеры,
Калі крокі пачула і грукат у дзверы...

І бягу стрымгалоў! Б'е вятрыска ў званы!
Заміраю ўся... Не!.. Гэта — Бог, не яны!..

*ЛЕАПОЛЬД СТАФ*
*(1878–1957)*

## САМОТНАЯ ВІЛА

Я даўно прадчуваў гэты цень, што жальбою
Лёг на наша каханне. Згадай, як з табою
Мы ўздоўж мура ішлі, з-за якога свяціла
Сваёй беллю, у квецені тонучы, віла,
Апавітая пахам і цішай глыбокай.
На нябёсах ружовыя гаслі аблокі,
Змерк блакітны гусцеў, напаўняў нас журботай.
Сталі мы каля кратаў сцямнелых варотаў
І ў маўчанні занурылі нашы пагляды

У глыбокі паўзмрок таямнічага саду,
У якім закаханым прызначана прасці
У абдымках пяшчоты бясхмарнае шчасце.
Мы ўзіраліся ў сад, і здалося нам, быццам
Ён чакаў тых, хто прагнуў у цішы забыцца,
І быў спратам, якога нам так не ставала.
Браму пхнула міжволі рука і... апала.
На замку была брама. І ты пабляднела,
Бо, відаць, як і я, у той міг зразумела:
Той павалены помнік Гермеса за брамай,
Што яснеў у сутонні бялюткаю плямай
На зялёным ядвабе травы, як груд снегу, —
Быў пасланцам кахання і згоды, што ў бегу
Браму ў сад нам хацеў расчыніць, ды не здужаў,
Паваліўся ў траву, быццам сцятая ружа,
І пакінуў дваіх нас, тугой ахінутых,
Перад брамаю светлага шчасця — замкнутай.

## ПЧОЛЫ

Залатыя князёўны, увішныя пчолы,
Служкі верныя працы і мудрасці боскай,
Трункам Пяста гасцінным вы поіце вёску,
Здабываеце свечкі пабожным касцёлам.

Богам дадзена вам зведаць слодыч пялёсткаў
Пахкіх кветак і горкасць дурманлівых зёлак:
Людзі гэтак жа цешацца хвіляй вясёлай
І гаруюць, спавітыя скрухаю жорсткай.

О дэвоткі з вуллёў, мёдам поўніцца келіх —
Слодыч зёлак і слодыч жыцця ў ім бруіцца
І на клейкія вусны цячэ ў час вяселля.

А гаркота жыцця разам з горкасцю зелля
Воскам робіцца светлым, бы твар у чарніцы,
Мяккім воскам, з якога смерць лепіць грамніцы.

## ПАХВАЛА

Галава, званіца крышталёвых думак
У забрале валасоў
З яснага золата або чорнае сталі!
Шырокія нябёсы скляпеністага чала,
На якім вісіць арол брывоў!
Вочы, горныя паўлінавыя азёры,
У якіх купаецца голае боства сноў!
Нос, двухкрылае стырно нюху,
Сляпы, а чуйны да сфінксавага дыхання!
Вушы, завітыя лабірынты,
Дзе ніколі не заблудзіць німфа Рэха!

Вусны, двухлістая ружа,
Складзеная з трыццаці дзвюх жамчужынаў,
Якая вее водарам кахання,
Мёдам мудрасці
І перунамі навальніцы!
Барада, прыступка першая й апошняя
Да пурпуровай прычасці пацалунка!
Горла, крыніца смеху й спеву
У стромай цясніне смяротнага хрыпення!
Шыя, гнуткае, зграбнае сцябло,
На якім спачывае думная кветка галавы!
Плечы, што ўраўнаважваюць
На шалях рук
Радасць і смутак,
Лісце пальмы й мячы!
Грудзі, спарышы,
У якіх бруіцца
Вечнажывая вада дыхання!
Чэрава, безабаронны шчыт
Магутнага начыння й правадоў жыцця!
Клубы, стрункая ліра,
На якой грае песню кахання
Маладосць і пажада!
Сцёгны, касцельныя слупы,
Што нясуць рухомую святыню цела!
Калені, гнутыя спружыны скоку й бегу,
Малітоўны зэдлік гонару ў абліччы вялікасці!
Ступні, пяцівясловыя лодкі на плыні
І падмурак трывання, моцны, як прысяга!
Хвала табе, цела,
Каштоўнае начынне духу,
Неацэнная амфара,
Якая праз усе часы й стагоддзі
У зменлівай і неперарыўнай чарзе
Носіць з гонарам і пакораю
Пралітую на крыжы кроў
І віно кахання,
Душу Гектара, Платона
І Францыска з Асіза!

## МІТЫНГ

Ґусты натоўп, галовы і галовы,
Нібы галодны цмок тысячавухі.
Пляц, як заліты клеем папяровым,
Дзе пры адной адна прыліплі мухі.

Прамоўца на трыбуне штось тлумачыць,
І, кулаком махаючы, шпурляе
У іх маланкі слоў, і наастачу
«Ґура!» хрыпіць, нібы рыззё здзірае.

Як па загадзе чарадзея ўгору
Ляцяць грыбы капелюшоў, і глянцам
Блішчыць аголеных патыліц мора,
Нібы ікра ў расчыненай бляшанцы.

## ЗМЯРКАННЕ

Людзі з поля ідуць, брэх напоўніў мястэчка,
Між халупаў, як злодзеі, шастаюць цені,
Быццам шабля сталёвая, свеціцца рэчка,
І на сэрца з сутоннем кладзецца сумненне.

Тупацяць пасля працы валы цяжкім крокам,
Пруць авечкі гурмой, як лавіна трывогі,
Толькі дуб, напалову адсечаны змрокам,
Кронай вогненнай моцна шчэ верыць у Бога.

*МІКОЛА ЗЭРАЎ*
*(1890—1937)*

## PRO DOMO

Якая ж горкая, о Божа, гэта чаша,
І дзікі густ, і старасвецкі лак,
І мраяры без крыл, якімі так
Паэзія праславілася наша.

Што ні мастак — то флегма і нясмак,
Што ні паэт — то слёз і ўздыхаў каша...
О не! Пегасу неабходна паша,
Каб не захрас у твані, небарак.

Пластычнасць, яснасць формы, контур строгі
І логікі жалезнай каляя —
Вось дзе, паэзія, твае дарогі.

Леконт дэ Ліль, Жазэ Эрэдыя,
Парнаскіх зор нязгасныя сузор'і, —
Яны адны вядуць на верхагор'і!

## САМАВЫЗНАЧЭННІ

Я ведаю: мы ёсць бібліяфагі,
І мудрасць наша — шафа пыльных кніг.
Мы надта рэзьбім строфы слоў скупых,
Прыхільнікі мастацтва раўнавагі.

Ніхто не скажа нам: «Жрацы і магі!
Вы дзівы творыце ў радках сваіх...»
Убогая чуллівасць наша з тых,
Што не натоліць маладое прагі.

Што вытанчанае слова? Вабіць гук
Акторскіх рэплік і ўдаваных мук,
Слёз праліўных і істэрыі плыткай.

І прамаўляе крытык: «Скінь кашкет!
Вось светач наш, ён грэе й ззяе кідка,
Кахай і пакланяйся: то — паэт!»

**ЗВОЗКА ЗБОЖЖА**

Спачынку лепшага няма ды і не трэба!
Высокі летні дзень узняўся ў безмеж неба,
Прыбіўшы да зямлі атару белых хмар.
Паперу на стале пакарабачыў сквар,
Яна й сама на жоўтым сонцы жоўкне
І шолах ветрыка, што ні на міг не моўкне,
Сплывае з вершалін зялёных груш і ліп.
І ўраз пачуецца рытмічны роўны скрып,
Нібы разгойданы валовымі рагамі,
Ідзе запрудамі, гародамі, садамі
І залатым дажджом прымятага сцябла
Б'е па сухіх тынах паўсоннага сяла.

*ЯН БЖЭХВА*
*(1900—1966)*

**ПОМСТА**

Як пірат, як заваёўнік, ува ўсіх навідавоку,
Замест ветразя, цябе я разапну на цвёрдай рэі,
У аголенае цела ўп'юцца гострыя вяроўкі,
Твае вушы прасвідруе свіст прадонняў і завеі.

Валасы твае разветрыць мокры подых навальніцы,
Будзе віхар рваць і шарпаць грудзі, кволыя ад зморы,
Каб глядзелі ў змрок нязводна неабмыльныя вачніцы,
Каб вяла мяне на бітвы і рабункі цераз моры.

Як палотнішча на мачце, сонца скуру тваю спаліць,
Будуць енчыць твае вусны, спляжыць дождж твае прынады,
Рукі зробяцца шнурамі, сэрца стук — усплёскам хвалі,
Будзем разам Атлантыды адкрываць за даляглядам.

Хай грот-мачту, бы канаты, абвіваюць твае сцёгны,
Разамкнёныя калені хай лунаюць, бы штандары,
Паплывём у вір страшлівы, дзе скавычуць штормаў стогны,
Ў скавытанне, невяртанне, дзе трухлее дых карсара.

Ведаю, што ты — віхура, што нянавісць твайго цела
Мною ўзнятая праз буру, панясе мяне ў край смерці,
У якім — разгадка мора; паімчыш мяне злюцела
За найдальшыя бязмежжы да найбольшай крутаверці.

З караблямі ўсіх флатылій у твой гонар біцца буду,
За армадаю армаду патаплю й параскідаю,
Дасягне глыбінь трывога, мора ўспеніцца ад спуду,
Толькі ўжо пра нас з табою аніхто не прыгадае.

Абмінем мы ўсе фіёрды, выспы, сушы і ўзбярэжжы,
Ўсе ад Поўначы да Поўдня акіяны прамінем мы,
Буду бачыць, як вятрыска тваё цела трэпле й рэжа,
Буду слухаць, як галосіць у бяссіллі твая немач.

Нават там, за крэсам помсты, калі ўжо мая судзіна,
Натыркнуўшыся на скалы, рыфам днішча прасвідруе,
Ветразі паапускаю ўсе, апроч цябе адзінай,
І пайду на дно з табою, і да смерці не дарую.

*ЧЭСЛАЎ МІЛАШ*
*(1911—2004)*

## АБЛОКІ

Аблокі, страшныя мае аблокі,
як б'ецца сэрца, які жаль і смутак зямлі,
хмары, аблокі, белыя і бязмоўныя,
гляджу на вас на золку вачыма, поўнымі слёз,
і знаю, што ўва мне пыха, пажада,
жорсткасць і зерне пагарды
сплятаюць пасланне для мёртвага сну,
а найпрыгожшыя фарбы маёй хлусні
захінулі праўду. Тады апускаю вочы
і адчуваю віхор, які працінае мяне,
гарачы, сухі. О, якія ж вы страшныя,
вартавыя свету аблокі! Няхай я засну,
няхай агорне мяне літасцівая ноч.

## ЛЁС

Ці розняцца жолуд і дуб заінелы?
Ці розняцца дрэва і вугаль каменны?
А кропля і хваля на моры ўскіпелым?
Метал і пярсцёнак з яго неацэнны?

Чаму ж ты пытаеш пра верш мой калішні,
Выпытваеш даўніх каханак імёны?
Хай вершы дарогай ідуць, хто як выйшаў,
Хай тыя дзяўчаты дзяцей родзяць іншым,
Мне ж вугаль, і хваля, і дуб, і пярсцёнак.

*МІДЗЬЕНІ*
*(1911—1938)*

## ВОСЕНЬ МІНАЕ

На вулкі й твары восень скруху сцеле,
Канае сонца, вецер дзесь скуголіць,
Пакутуе душа ў знямоглым целе,
Трапеча звялае жыццё на голлі.

Апошні танец барваў сухазлотых
(Вар'яцкі лёт і сутаргі лістоты!),
Надзеі нашы, радасці й пяшчоты
Канаюць па чарзе ў адбымках слоты.

Вунь дуб, застыглы ў высілку тытана,
Крывёй сплывае ў бруях слёз нябесных,
«Жыць! Жыць хачу!» — галосіць апантана
І нікне ў стогне, грозным і балесным.

І гэты стогн ляціць па наваколлі,
Захраслым у імгле. І дрэвы голле
Дарэмна цягнуць у мальбе, бо знаюць:
Няма ратунку й хутка ўсе сканаюць.

На сэрцы смутак, а на вейках слёзы
У час, калі не грэе кроў у жылах,
А груд магілы свежай у нябёсы
Расце пад скогаты вятроў панылых.

На вулкі й твары восень скруху сцеле...
Дык плачце над усім, што не збылося,
Смуткуйце па лістах, што адшамрэлі, —
Над тленам іх, што гэтак красіць восень.

*ЗБІГНЕЎ ГЕРБЕРТ*
*(1924)*

## СТАРЫ ПРАМЕТЭЙ

Піша мемуары. Спрабуе ў іх высветліць
месца героя ў сістэме канчатковасці
існавання, узгодніць спрэчныя паняцці
побыту й лёсу.

Агонь весела палыхае у камінку, на кухні
кратаецца жонка —
экзальтаваная дзяўчына, якая не змагла
нарадзіць яму сына, але
цешыцца, што й гэтак увойдзе ў гісторыю.
Падрыхтоўка да вячэры,

на якую мусяць прыйсці мясцовы пробашч і
аптэкар, найбліжэйшы
цяпер прыяцель Праметэя.

Агонь палыхае ў камінку. На сцяне
чучала арла й пахвальны ліст тырана
Каўказу, якому дзякуючы вынаходству
Праметэя ўдалося спаліць узбунтаванае
места.

Праметэй ціха смяецца. Гэта цяпер
адзіны ягоны спосаб выказаць нязгоду
са светам.

*ТОМАС ВЕНЦЛАВА*
*(1937)*

## МУЗЕЙ У ХАБАРЦЕ

Спакон бязлюдны край. Глухі басальт.
Спрадвечных хваляў маятнік рухавы.
Дакладней, хоць тубыльцаў ёсць няшмат,
што ацалелі пасля трох аблаваў,
ды гэта неістотна. Вось іх спрат —
паўвыспа з прахам продкаў. Іх паставы

убогія прыкмеціўшы, паэт
заўважыць нехаця: «Люд занядбаны...»
(Яшчэ нядаўна тут ляжаў шкілет,
аднак яго спалілі — мо з пашаны,
а мо як абрыдлелы ўсім прадмет,
каб месца не займаў.) Але ж заганна,

калі пустуе месца. І наноў
зацягваюцца у прасторы дзюры.
Свет узнавіла жменька мастакоў,
спакуснікаў, абранцаў авантуры,
не надта вінаватых. А без слоў —
Гулаг брытанскі у мініятуры:

пазней у небыццё сышоў і ён...
Тут самы мірны кут на ўсёй планеце.
Усё мінула. І магнітафон,
здараецца, у хібах прызнаецца.
І з вечнасці паўстаўшы, аўтахтон
застрашыць нас з экрану марна пнецца.
Нахіленая голаў, нізкі лоб,
які не раняць церні. Сёння клопат
уладаў нават мёртвыя ўзахлёб,
напэўна, славілі б. І недахопаў
у яго мове, пэўна, менш было б.
Ды ўсё гэта, бадай што, сфера ўтопій.

Хіба што на сваім напрамку час
і турмы ўдасканальвае патроху.
Каля муроў акруглых вабіць нас
бляск ветразяў, казыча вецер бронхі,
а той, хто зведаў гарадскіх прыўкрас,
назад білет свой не вяртае Богу,

як і кампанія «Ансэт». Спакой.
Прылады племя зніклага. Кайданы
за шклом нябіткім з'едзены іржой.
Гісторыя, бы сцёрты грош мядзяны.
І антарктычнай поўняцца імглой
уступы гор і роўнядзь акіяну.

Сякера ў каранях. Валун. Для вас
я ўжо не брат, хоць і сусед па зале,
дзе часу вертыкаль рассекла час,
дзе здымкі й альфабэты жоўкнуць сталі,
дзе штось яшчэ крычыць разбіты сказ
і попел у вітрыне ў немым жалю.

Што значыць забыццё? Цурчыць ручай
і капаюць клапсідры. Лямпа сонна
гайдаецца, успыхвае адчай
з сусветам цесным побач ці з адхонам.
Пласты пяску, міргание майгача.
На ветры знакі. На вадзе пісьмёны.

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938—1985)*

* * *

Твой боль — як алкаголь агоній,
як вымерзлы дарэшты жаль.
Перадрукоўвайце праклёны
і перапісвайце скрыжаль.
Жыццё тваё, бы збан спусцелы,
і свет, і сам ты ў забыцці.
У цела ўласнае ўвайсці
ёсць шанец толькі ў звар'яцелых.
Дык сатаней сваёй тугой,
да скону сатаней, аж покуль
не ўчуеш тупат сваіх крокаў
над галавой сваёй сівой.

* * *

Як добра, што я смерці не баюся
і не пытаю, ці цяжкі мой хрост.
Што перад вамі, суддзі, не хілюся
у прадчуванні невядомых вёрст.
Што жыў, любіў і не набраўся бруду,
праклёну, каяння, нянавісці, маны.

Народзе мой, і ў смерці жыць я буду,
вярнуўшыся з далёкай стараны
нязлым абліччам, доляю гарэснай.
Як сын, схілю чало перад табой
і ў твае вочы пагляджу я чэсна,
і параднюся з роднаю зямлёй.

*ЛЕАНІДА ЛАРЫ*
*(1949)*

## ГАДЗЮКА

Аднойчы на базары спыніў мяне жабрак
З дзівоснаю гадзюкай, што сыкала на вуха:
«Смуткуеш ты, згадаўшы пра смерць сваю, аднак
"Яшчэ не заўтра" кажаш — і адступае скруха».

«Бяры за так! Не шкода аддаць мне гэткі цуд! —
Сказаў стары і раптам у роспачы заплакаў. —
Удзень аддам, а ўранні яна ўжо тут як тут —
Вось так я і гарую з праклятаю вужакай...

Няма ўжо моцы несці цяжкі гэты праклён!»
«Бяру! — сказаў я цвёрда. — Бяру й не пашкадую!
Я — малады, хоць вечна хай сыкае пра скон:
Яе ручной зраблю я, а не — дык увартую!»

І вось гадзюка стала маёй... І хутка смак
Жыцця я страціў цалкам, бо сык нястомны слухаў:
«Смуткуеш ты, згадаўшы пра смерць сваю, аднак
"Яшчэ не заўтра" кажаш — і адступае скруха».

А ноччу дзікім жахам яе сухі фальцэт
Мяне працяў, і з хаты я выбраўся без гуку,
Ды ўбачыў: мой набытак паўзе за мною ўслед...
І камень я намацаў, і кінуў у гадзюку.

І адпаўзла гадзюка, у вочы мне на міг
Зірнуўшы з нейкім жалем, і з нейкім недаўменнем.
І апусціў руку я, і раптам я спасціг,
Што ўкленчыўшы, прашу я ў гадзюкі прабачэння...

Зноў скардзіцца камусьці ў натоўпе той жабрак
На насланнё-гадзюку, што сыкае на вуха:
«Смуткуеш ты, згадаўшы пра смерць сваю, аднак
"Яшчэ не заўтра" кажаш — і адступае скруха».

## КЕНТАЎР

Кентаўр ужо даўно сачыў за мной...
Займеў ён звычку з-за муроў падглядваць,
як па пяску іду я басанож,

і скарпіёнаў кідаць мне пад ногі —
не, не са зла, ён не хацеў пакрыўдзіць,
ён проста сам не ведаў, што хацеў.
І я не крыўдавала на яго,
не адганяла і не парушала
ягоную адвечную самоту.
Я разумела: ён — кентаўр і жыць
ні між людзей, ні без людзей не можа.
А ціхі дом на ўскрайку цёмнай пушчы
з пляскатым камянём замест парога,
які стаяў далёка ад паселішч
над сіняй сажалкай, — яго, кентаўра,
нібы магніт, прыцягваў, зразумела.
Я вочы ў вочы з конечалавекам
не сустракалася ні разу. Толькі неяк
убачыла, як ён неасцярожна
у сажалцы плёскаўся пад поўняй.
Адчуўшы позірк мой, ён стрымгалоў,
раскідваючы пырскі, знік у змроку.
Назаўтра я на беразе вільготным
знайшла глыбокія сляды з вадою,
разгладзіла дрыготкаю рукою
і жоўтым жвірам іх пазасыпала —
і гэта ўсё, што я магла зрабіць...
Я ведала, што ён умее думаць,
бо ўсё мянялася з ягоным прыйсцем:
само паветра! І трава крычала
пра цяжар цела, што яе дратуе.
Магчыма, гэтак бы ўсё і прайшло,
як прамінае ўсё на гэтым свеце,
калі б не прага, палкая, сляпая,
што спела й разгаралася ўва мне:
убачыць зблізу дзіўны твар ягоны!
І вось, вар'яцкай ноччу, не стрывала
той прагі я і выйшла з дому ў цемрадзь,
каб адшукаць яго сярод травы...
Ён спаў на дзірване, аднак пад грывай,
пад дзікай, варанрой, калматай грывай,
дзіцячы твар, як малако, свяціўся...
Ці вам здаралася смяяцца нішкам
ад несвядомай радасці, ад шчасця,
страсаючы, як зжоўклы ліст з галіны,
сумненняў і журботаў даўніх рэштку?
Ён быў такі! Ніякая, напэўна,
моц іншая не здолела б змякчыць
пакуту, што скажала рысы твару
удзень, калі ён мэнчыўся сабою.
І я глядзела — ў чым мая віна,
што адарвацца не магла? — глядзела.
І ён, прачнуўшыся, зусім, як мы,
па-чалавечы паглядзеў мне ў вочы,
забыўшыся на цела, у такой

шалёнай радасці, што боль і сорам
мне скроні сціснулі, і я не смела
ні варухнуцца, ні ўздыхнуць: у страху,
што ўспомніць ён усё і — зразумее...
Дзесь у імгле цурчэў ручай, і ціха,
было так ціха... Толькі цёплы ветрык
ды нашы душы... І яны зліліся
паглядамі, і велічна заззялі,
і паімчалі разам цераз цемру,
як светачы два ў неўтаймоўным віхры.
...Ды дзень прыйшоў! І сонца, быццам Юда,
пацалавала промнем лоб кентаўра —
і ўбачыў ён сябе! У дзікім спудзе,
не верачы яшчэ, што капыты,
і цяжкі крыж, і поўсць яму належаць,
ускочыў і мо ўпершыню ўсвядоміў,
што сам з сабой зрабіць павінен ён...
Лавіла чуйным слыхам ■ ўвесь дзень
стук капытоў у нетрах цёмнай пушчы,
стук капытоў ля паляўнічай сцежкі —
і ў роспачы няўмольны стрэл чакала.

## ВАСІЛЬ САХАРЧУК

**(1953, в. Свадзьбічы Бярозаўскага р-на — 2003, Жабінка)**

Выпускнік філфака БДУ (1975), тры гады адпрацаваў настаўнікам на Любаншчыне, потым вярнуўся ў родную вобласць. Нядоўга панастаўнічаў у Бярозаўскім раёне, пераехаў у Жабінку, загадваў у раёнцы аддзелам сельскай гаспадаркі. Паміж рэпартажамі з калгасных палёў пісаў вершы і перакладаў балгарскую ды ўкраінскую паэзію. Уласных кніг пры жыцці паспеў выдаць дзве, перакладных — таксама дзве: выбранае Дз. Дэбелянава «Пад сурдзінку» і П. Яварава «Апалавы пярсцёнак» (невялікую частку вершаў для яе пераклаў патрыярх беларускай балгарыстыкі Н. Гілевіч). Калі В. Сахарчук перад сваім пяцідзесяцігоддзем самахоць пайшоў з жыцця, сябры знайшлі ў ягоным архіве шмат неапублікаваных твораў. У пасмяротную кнігу «Мой вечны бор» (2004) увайшлі пераклады з балгарскай, расейскай і ўкраінскай класікі; нечакана напаткаўся там і знакаміты «Крук» Э. По, які не трапіў у нашую анталогію толькі таму, што варыянт А. Мінкіна, па-мойму, ужо стаў класікай жанру.

*ПЕЁ ЯВАРАЎ*
*(1878—1914)*

### СМЕРЦЬ

Жахлівы прывід смерці! Ва ўзросце немаўляці,
калі я па-за ўлоннем агледзеўся наўкола
і ўбачыў свет, гняздзечка ў душы маёй звіў страх,
які не меў назову, — і гэта быў, магчыма,

страх смерці немінучай, які пранік мне ў грудзі
з малодзівам матулі. Пазней я зразумеў
трывогі чалавечай пачатак і сканчэнне
пад гэтым вечным небам; аднолькава прад ёю
трывожацца старыя, прымаючы свой лёс,
бялеюць маладыя сярод вясны шчаслівай
пяшчотнай маладосці.
Я ў сне нярэдка бачыў
той прывід сярод ночы: шкілетам апраметнай
у чорнай плашчаніцы ён плыў над небасхілам,
самую ноч, здаецца, накінуўшы на плечы
знямеламу сусвету; ён плыў над небасхілам
з бязлітаснай, магутнай, падобнай да маланкі
блішчастаю касой. Я бачыў гэты прывід:
ад холаду здранцвелы, абрысамі сутоння
абмаляваны ў небе, нячутна, безгалоса
махаў крыламі часу, — і прамільгнуўшы ценем
над сушаю і морам, панёсся ён наперад
шукаць слядоў жыццёвых.
Цяпер я разумею
пачатак і сканчэнне трывогі чалавечай
пад гэтым вечным небам, — бо крэпасці на ўзвышшах
спакон будуюць людзі, каб уцячы за сцены
ад гэтай страшнай здані; муры пабудаваны
з надзеяй у іх сховах без страху смерці вечна,
спакойна і шчасліва душу сваю хаваць.
І вось, каб мур узвесці, адзін людскія трупы,
бы цэглу, склаў гарою і з той гары глядзіць;
вар'ят, ён на падмогу прыйшоў да здані смерці,
шукаючы дарэмна ратунку ад яе.
Другі, каб смерці ўнікнуць, схавацца за сцяною,
над свечкай дабрадзеі пакорнае рыдае
і моліцца за брата, якога непазбежна
чакае ў змроку ночы бязлітасная здань.
І тысячы такіх жа з бясконцага натоўпу
калек і баязліўцаў па сцежках і дарогах
пустыні неабсяжнай; — і тысячы — аж да
праклятага вар'ята, што думае за грошы
купіць сабе бяссмерце; — і тысячы — аж да
праклятага нябогі, што з рук чужых у змроку
украў скарынку хлеба, каб лішні раз світанак
сярод жывых убачыць...
Гаротнік беспрытульны,
каб страх пераадолець, што мною завалодаў,
у змроку заблукаўшы, з грудзей я вырваў песню
няшчаснае самоты — мне рэха адказала
з далёкіх горных стромаў. Дарэмна без дарогі
шукаў яго па лесе; замест таго каб трапіць
да радасці на свята жыццёвага бязмежжа,
я глянуў смерці ў вочы: яна была святлом
світання веснавога, святлом, навек з'ядналым
з журботнаю імглою асенняга змяркання.







1. Хрысціна Лялько
2. Алесь Разанаў
3. Вольга Іпатава і Вера Рыч (Вялікая Брытанія). Менск, 1996 г.
4. Фелікс Баторын
5. Іван Чарота











1. Алег Мінкін
2. Алесь Жлутка
3. Зміцер Колас
4. Уладзімір Палупанаў
5. Ірына Багдановіч







1



2



3

1. Уладзімір Някляеў
2. Лявон Баршчэўскі
3. Людка Сільнова
4. Леанід Дранько-Майсюк
5. Галіна Дубянецкая



4



5



1



2



3

1. Алесь Бадак
2. Вікторыя Ляшук
3. Адам Глобус
4. На семінары перакладчыкаў (справа налева): Нугзар Каберыдзэ (Грузія), Уладзімір Сіўчыкаў, Ванкарэм Нікіфаровіч. Іслач, 1989 г.



4







1. Рыгор Сітніца
2. Юрась Пацюпа
3. Юрась Бушлякоў
4. Алесь Чобат
5. Віктар Шніп














1. Марына Абрагімовіч
2. Аксана Данільчык
3. Серж Мінскевіч
4. Міхась Скобла і Сяргей Шупа





1



2



3

1. Андрэй Гуцаў
2. Джэці
3. Віктар Жыбуль
4. Людміла Рублеўская
5. Ларыса Раманава



4



5


1


2


3

1. Сяргей Прылуцкі
2. Вальжына Морт
3. Андрэй Хадановіч
4. Максім Шчур
5. Марыя Мартысевіч


4


5

Яна была паглядам загадкава-бяздонным,
чые глыбіні раптам над намі адкрывае
высокі купал неба. Яна была вялікім
бязмоўем сярод часу, скаваўшы голас рэха
бязмежнага сусвету. Самотным летуценнем,
палоненым сабою, трывожна растварыўшы
свае абрысы-цені сярод глухіх вякоў.
І заадно з дыханнем штохвілі ў дзіўных чарах
плоць сноў яе ўзнікае ў хаосе паднябесным.
Штохвілі гэтаксама свет нейкі памірае
ў абдымках сноў чароўных. Як і пачатку — межаў
няма яе імкненню ў бясконцасці дарогі
без знакаў верставых...
        У забыцці палёту
я глянуў смерці ў вочы, — душы глухіх стагоддзяў,
звышдумкі векавое: у вочы смерці глянуў
цаною свайго страху, цаною свайго страху,
цаной жыцця зямнога. І зноў бягуць натоўпы
наперад роднай маці, і я бягу таксама —
упрочкі — і за ёю — дарогаю жыцця...

## *ДЗІМЧА ДЭБЕЛЯНАЎ*
*(1887—1916)*

* * *

За далёкім лесам сонца села,
дол імглісты ціша абняла:
змрок абпырскаў месяц спалатнелы
срэбранымі кроплямі святла!

Прытаміўся ветрык і ў начныя
сховы паляцеў на супакой —
шэпчуцца галінкі маладыя
ціха над магілаю маёй.

* * *

Помніш ты, помніш ты сцішаны двор,
сцішаны дом, белакветныя вішні?
Ах, не ўрывайцеся ў цесны затвор,
жальбы далёкія памяці лішняй.
Вязнем заключаны ў цёмны затвор,
жальбы далёкія памяці лішняй,
ганьба і кара — мой строгі дазор
дзён незваротна мінулых, калішніх.

Помніш ты, помніш ты сцішаны двор,
шэпты і смех, белакветныя вішні?
Ах, не будзіце анёлкавы хор
дзён незваротна мінулых, калішніх.
Вязнем заключаны ў цёмны затвор,
жальбы далёкія памяці лішняй,
сном, толькі сном быў той сцішаны двор,
сном былі, сном белакветныя вішні.

*АТАНАС ДАЛЧАЎ*
*(1904—1978)*

## КАМЕНЬ

Дрэвы, людзі ста́рацца з гадамі:
дні знікаюць у імгле начной;
ты ж нязменным застаешся, камень,
час не мае ўлады над табой.

У цябе няма ні жыл, ні нерваў,
ты згрызот не ведаеш спакон.
Ні сумленне, ані злосць, ні чэрві
не трывожаць твой халодны сон.

Да скончэння веку не спазнаеш
смагі, што прыносіць столькі бед:
не грашыш ніколі, не раджаеш
сам, нікім не роджаны на свет.

Ты — святы. Ці не таму калісьці,
у тумане вогненных вякоў,
людзі у каменныя аблічы
сталі ўвасабляць сваіх багоў?

Камень, я з іскрынкі залатое
ісціну здабыў праз тоўшчу мху:
толькі мёртвае навек святое,
а жывому нельга без граху.

*ЮРЫЙ ЛЕВІТАНСКІ*
*(1922—1996)*

## СТО СЯБРОЎ

Сто рублёў не збіраў, бо не ўмеў.
Сто сяброў я ніколі не меў.
Бач, чаго захацеў — сто сяброў!
Сто сяброў — сто музейных галоў.
Сто, як Біблія, мудрых тамоў.
Сто высокіх, пад неба, дамоў.
Сто азёр, сто дрымучых лясоў.
Кліч ста зорак з сівых туманоў:
скажаш слова адно, і яно
рэхам вернецца ў сто галасоў.
Не раўня вам Сакрат, сто сяброў —
вы мудрэй ад яго ў сто разоў.
Толькі як мне такое змагчы,
калі сто мяне рук — па плячы?
Сто спагад я шукаць не хачу,
сто надзей я хаваць не хачу.

...Ля вітрын, ля начных вітражоў
сто — са стрэльбамі — вартаўнікоў,
і стаіць вышай кражыстых стром
сто паверхаў самоты — мой дом.

*АНДРЭЙ ГЕРМАНАЎ*
*(1932—1981)*

## ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ

Твой працоўны дзень,
нібы васьмігадзінны адпачынак.

Доўгае і нуднае пасяджэнне,
адзін-два тэлефонныя званкі,
цяжарная папка, якая тыднямі чакае
акушэрскай дапамогі,
каб нарадзіць серыю машынапісных неданоскаў.

Званок а пятай.
Прыстойная мяжа
між двума адпачынкамі.
Вячэраеш з апетытам — паважна і сытна.
Абяссілены, задаволена адкідваешся ў крэсле, —
пераварваеш ежу.

Вочы выцягваюцца ў тонкія працяжнікі.

Твар становіцца круглы,
як службовая пячатка,
нібыта адразу забалелі
шэсцьдзесят чатыры зубы.

У руцэ —
бяссільны лебедзь, злоўлены за крылы, —
вісіць вячэрняя газета.

І перш чым дзёрзкія стрэлкі гадзінніка
перарэжуць нажніцамі
галаву дзевяткі —
каля гаснучай грубкі
ці на мякка пасланай кушэтцы
нечакана пасвістваеш носам.

Гэта пяшчотная позва да сну.

Правяраеш, ці добра зачынены дзверы,
замыкаеш веснічкі сэрца,
каб сумленне не грукала ў іх.
Дровамі корміш грубку,
каб ноччу верна служыла.

Тушыш святло, каб не абсмяяла,
калі захрапеш.

Дзевяць гадзін у цёмнай магіле сну.
Жыццё-быццё!

*ЗДРАЎКА КІСЁЎ*
*(1937)*

**ТРОХРАДКОЎІ**

*

Птушкі ляцяць у небе,
выбіваюць крыламі воблакі,
а з іх, замест пуху, падае дождж.

*

На пахаванні каваля
за жалобнай працэсіяй ішлі ўсе коні,
якіх ён падкоўваў.

*

Кветкі глядзяць з вазы,
як у ложку памірае чалавек,
і ім здаецца, што яны неўміручыя.

*

Камень выплакаў
усе свае слёзы,
таму ён такі халодны і цвёрды.

*

Зярняты ў засеку трывожацца:
каторыя з іх адправяць у млын,
каторыя пакінуць для сяўбы!..

*

Некаторыя сустракаюцца
з музыкай Баха,
калі іх праводзяць у апошні шлях.

*ВАСІЛЬ СТУС*
*(1938—1985)*

* * *

Спынілася начная хмара ды
чакае раніцы. А вечар не мінае —
бы навец, што магілу пакідае,
каб у сем раз паболела бяды.
Не зразумець, ці лета надышло,
ці толькі зачарпнула маладое

вады з патоку... Сэрца, што з табою
рабіцьму я? Ты гэтак даняло
мяне, што ну і ну! Ці гэта ноч
палярная, ці майскі снег аблoжны,
ці белы боль, ці даўні і трывожны
непрамінальны сон мой? А наўзбоч
прыліпла зорка, ці жар-птушка, ці
прасечана акно — каб Украіну
пабачыў я ў чвэрць вока, покуль згіну
на вечнай мерзлаце? Маўчы і па жыцці
не наракай на лёс. Начная хмара зу-
сім спынілася, навісла палярынай.
Сячэ акно ў шкле неба. І нізрыне
ці ноч, ці ранак — на маю слязу.

## УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

**(1953, Полацк)**

Бацька працаваў пракурорам, маці — гісторык. Перамаглі матчыны гены: У. Арлоў закончыў гістфак БДУ (1975) і стаў пісьменнікам пераважна гістарычнай тэмы. На час падрыхтоўкі анталогіі выдаў каля двух дзесяткаў кніг, сярод якіх і дзве паэтычныя — «Там, за дзвярыма» (1991) і «Фаўна сноў» (1995). Змешчаныя тут вершы балгарскай паэткі М. Івановай — ці не адзіны выступ пісьменніка ў якасці перакладчыка паэзіі.

*МІРЭЛА ІВАНОВА*
*(1962)*

### ШЭПТЫ

НАМАГАННЕ

Пагасіш адно вогнішча, потым другое,
шмат пагасіш агнёў,
каб напісаць на попеле
верш або нечае імя.

ВЫСПА ТАСОС
*(Першая паштоўка з Грэцыі)*

Вось — мора, кіпарысы і дамы,
сінеча, зеляніна, белата.

Раскоша барваў:
пурпурова-сіняй,
пунцова-белай,
вогненна-зялёнай.

І толькі твае вусны могуць
спякотаю напоўніць краявід.

## КАВАЛА
*(Другая паштоўка з Грэцыі)*

Ты станеш багацейшы, калі ўявіш
той горад — вечную спажыву воку:

дамы, якія ўплішчыліся ў скалы,
прасцяг і мора,
друзачкі народаў,
рэлігій іскры,
вулачак усмешкі,
стракатасць рынкаў,
крамкі антыквараў
з іх таямнічым пылам,
у духмяным змроку — тавернаў танец...

Той горад уявіўся мне тэрасай,
тэрасай з відам на маю свабоду.

## ПРАДЧУВАННЕ

Арэлі — пэндзлік з дзіцячых веек —
на небе малююць замкнёнае кола.

Астатняе, што ў мяне засталося:
слязіна ўтнула шчаку.
Астатняе:
мы расстаёмся.

## ЭЛЕМЕНТАРНАЯ ЧАСЦІЦА

Лунае над табою німб, лунае,
са строкатам здаволеным і з сытай дзюбай.
На запляваным доле цела астывае...

то ўпа дзе то дне е
то ўпадзе змрок то днее
тоўпадзезмрок тоднее

# МІКОЛА АЛЯХНОВІЧ

**(1953, в. Валішча Пінскага р-на)**

Выпускнік Берасцейскага педінстытута, дзе і працуе з 1974 г., апошнія дзесяць гадоў — загадчыкам кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі. Кандыдат філалогіі, два гады выкладаў у Будапешцкім універсітэце імя Лоранда Этвеша. Для венграў — галоўны беларускі мовазнаўца, прынамсі, артыкул пра беларускую мову для акадэмічнага даведніка «Мовы свету» (Будапешт, 1999) напісаны Аляхновічам. Дарэчы, да беларусістыкі ў Венгрыі традыцыйна паважлівае стаўленне: прыкладам, у Венгерскай Энцыклапедыі ажно 219 персаналій прысвечана беларускім пісьменнікам. Нашы энцыклапедысты ў параўнанні з венгерскімі выглядаюць не лепшым чынам. Аляхновіч ці не адзіны на сёння ў Беларусі пера-

кладчык (з арыгінала) венгерскай паэзіі, шкада будзе, калі не падрыхтуе пару-тройку вучняў. Здаецца, першым звярнуў ён увагу і на паэзію ўкраінца Б. І. Антоныча, які поліфаніяй і нястрымнай радасцю радка так падобны на нашага Я. Пушчу.

*ЭНДРЭ АДЗІ*
*(1877—1919)*

## КОРШАКАЎ АСЕННЯЕ ВЯСЕЛЛЕ

Мы адлятаем. Чакае нас Восень.
Крык развітальны пад неба выносяць
Коршакаў двух аслабелыя крылы.

Пара драпежнікаў пасярод Лета:
Крылы ўсутыч, сэрцы страсцю сагрэты —
Жарсці ідзе неспатольняй змаганне.

З Лета імкнём, даганяе трывога,
Нас сярод Восені спыніць знямога,
Нас, ап'янелых ад шчасця дарэшты.

Гэта — сустрэча і развітанне:
Прагна кахаем — ані шкадавання...
Коршакі два на апалай лістоце.

*АРПАД ТОТ*
*(1886—1928)*

## СВІТАНАК НА КРУЖНОЙ ДАРОЗЕ

Світае. Золь і бруд.
        Шкляных вачэй
Ад сну не разляпілі магазіны,
Адно што растрывожаны цячэ
Над брукам пыл, ды дворнікі яшчэ
Снуюнь у ім, бы кобальды ці джыны.

І раптам, разамкнуўшы сценаў стынь,
З усходу сонца вымкнула адразу.
У сотнях шыбін — сонечная плынь,
І ў пыле вуліцы, куды ні кінь,
Качаюцца зіхоткія алмазы.

Знямеў, як заварожаны, бульвар.
Акацыя святло з жывой крыніцы,
Хмялеючы, піла, нібы нектар,
І ўпершыню прыгожыў яе твар
Вясны дарунак — цуда-завушніцы.

Яшчэ святла не ўспрыняла зямля.
Адно звінелі жаўраначкі кветак,

Лілова гальштук адцвітаў здаля
У шкле вітрыны; потым, спакваля
Паплыў высокі гул званоў над светам.

Збіраў гудок заводскі талаку.
Трамвай звінеў, на плошчу браў кірунак.
Пачаўся дзень. Ніхто і ніадкуль
Не бачыць, як дзяўчыне на руку
Шле сонца залаты свой пацалунак.

*ЁЖАФ АТЫЛА*
*(1905—1937)*

## З ЧЫСТЫМ СЭРЦАМ

Ні айчыны, ні бацькоў,
Ні багоў, ні сваякоў,
Ні калыскі, ні радна,
Ні каханай, ні віна.

І не ем я трэці дзень.
Сам жыву, як дух, як цень.
Маю дваццаць год усіх,
Ды хачу прадаць я іх.

Не прымаецца цана —
Хай бярэ хоць сатана!
З чыстым сэрцам я тады
Нараблю ліхой бяды.

А як зловяць, за пятлёй —
Дол маёй зямлі святой.
А на сэрцы пакрысе
Кветка смерці прарасце.

*БАГДАН ІГАР АНТОНЫЧ*
*(1909—1937)*

## ХМЕЛЬ

Мая дзяўчына, хмель вясны!
Наўкол мяне ты апляціся!
Кукоць нам дзятлы з моху сны,
і ў ста гаях лапоча лісце.

Вясны вясельны шал імкне,
ноч кожная — як хмель-крыніца.
З тваіх далоняў шчасця мне
праз цэлы век піць — не напіцца.

### НА ШЛЯХУ

Аплецены вятрамі ранак
памкне, як цыганя, з вады
і на пяску крычыць ядрана,
абсмалены і малады.

Спявае дно рачулкі гнуткай,
хмялеюць хваліста вятры,
і дзень хавае месяц хутка,
як у кішэню грош стары.

Клююць ляшчыну спевам косы,
звініць, як медзь, шырокі шлях.
Ідзе, усмешлівы і босы,
хлапчына з сонцам на плячах.

## УЛАДЗІМІР ПАЛУПАНАЎ

**(1954, в. Корань Лагойскага р-на)**

Прафесійны перакладчык. Пасля заканчэння Менскага інстытута замежных моваў (1976) стажаваўся ў Францыі, год працаваў у Алжыры. Потым настаўнічаў на роднай Лагойшчыне, загадваў клубам у сваёй вёсцы. У 1980-м лёс закінуў У. Палупанава ажно на Мадагаскар, дзе ён спазнаваў культуру самабытнага малагасійскага народа, перакладаў тамтэйшыя фальклор і паэзію на беларускую мову. У 1997-м У. Палупанаў у рангу аташэ па справах культуры і прэсы беларускай амбасады ў Францыі папрасіў палітычнага прытулку ў французскіх уладаў і атрымаў яго. З тае пары жыве ў Парыжы; спрабаваў розныя віды заняткаў, кватараваў у мастака Міхася Наўмовіча. Валодае ангельскай, нямецкай і французскай мовамі, з апошняй пераклаў раманы «Габсэк» і «Бацька Гарыё» А. дэ Бальзака, творы Б. Клавэля, В. Гюго, А. Рэмбо, Г. Апалінэра... Змешчаныя тут вершы паэта Жан-Жазэфа Рабэарывелу перакладзеныя беспасярэдне з малагасійскай мовы, якую У. Палупанаў вывучаў падчас працы на Мадагаскары.

*ЖАН-ЖАЗЭФ РАБЭАРЫВЕЛУ*
*(1903—1937)*

### КАРАЛЕЎСКАЕ КАХАННЕ

Пад імхом ляжыць узгорак
у цяні самотных дрэў.
Таямніцу не паспеў
распавесці нам гісторык.

Зацікавіла мяне
каралеўскае каханне.
Хай легенда явай стане
ці прысніцца хоць у сне!

Бачу той далёкі час,
што схаваў усё ад нас.
Устрывожаныя, з дрэва

узляталі крумкачы
ад рыданняў уначы
фаварытаў каралевы...

## ВАЛІХА*

Аб'яднаем з табой, чалавеча, наш боль:
Тваё сэрца шукае кахання, —
Заспяваю табе, толькі я не з табой,
Я душой — у далёкай саванне.

Я калісьці была аксамітным сцяблом,
Залацістым і тонкім бамбукам.
Мне з сябрамі расці вельмі добра было,
І спявалі мне птушкі над вухам.

Толькі шчасцю майму надыходзіў канец:
Бліскавіцай сякера ўзляцела —
Загайдалася я, бы танюткі дубец,
Вострым болем азвалася цела.

Апранулі мяне ў сухажылле усю
І канцы абгарнулі ліянай —
Каралеве самотныя песні нясу,
Успамін аб далёкай саванне.

*ВЕРА РЫЧ*
*(1936)*

## РЭЦЭПТ ЦУДУ

Спачатку вазьмі краіну
(На карце няма вольнага месца, таму згадай тую,
Якой нібыта няма, якую зруйнавалі, абрабавалі).
Вазьмі гісторыю,
Якую выкладаюць як гісторыю іншых народаў,
Вазьмі гаворку, якую лічаць за дыялект,
Дадай сюды назву, якая забаронена і сцёрта з атласа,
Дадай люд, які доўга прымушалі
Забыць сваю гісторыю, імя і мову.

Рашчыні гэту апару і дай ёй падысці...

Затым вазьмі сцяг,
Колеры якога дужа простыя —
Колеры касці й крыві, хлеба й віна, вады й агню,
Колеры веры й любові.
Дадай яшчэ герб, якім пагарджалі, які забаранялі

* Валіха — малагасійскі музычны інструмент.

(Які, дарэчы, даводзіцца дзяліць з суседам!).
Налі туды поўную мерку слёз,
Што праліліся з нягод былых і новых:
Там тры бярозкі стаяць, дзе павінна стаяць чатыры,
Дзеці зачатыя пад зоркай Палын,
А таксама чарапы, гузікі й кулі Курапатаў.

Усё гэта трэба замясіць, кропля за кропляй,
У вечным посудзе часу...

Затым у прызначаны дзень
(Ты будзеш ведаць, дружа, калі ён настане!),
Як свет паверне твар у іншы бок,
Ты вельмі, вельмі пяшчотна
Пералі гэтую сумесь у падышоўшае цеста
І спячы яго ў чароўнай печы Кліо...

Тут нехта будзе заклікаць цябе быць абачлівым,
Пужаць надыходзячай сцюжай,
Нагадваць, што цяпло і святло
Табе давядзецца купляць у моцнага суседа,
Што твае заводы спыняцца,
А зробленае табой ніхто не будзе браць,
Бо свет усё часцей забывае пра ласку да бліжняга...

Не слухай гэтых аракулаў, дружа.
Пячы свой каравай!

Абгарні ручніком, упрыгож васількамі,
Затым пакліч сяброў
(Усе будуць тваімі сябрамі ў дзень гэты!)
І абвясці, што ты ідзеш
Заняць сваё месца за агульным святочным сталом.

## АЛЕСЬ ЖЛУТКА

**(1954, в. Заполле Клічаўскага р-на)**

Выпускнік аддзялення класічных моваў Львоўскага універсітэта імя І. Франка. Працаваў у Скарынаўскім цэнтры, цяпер — у акадэмічным Інстытуце гісторыі. Кандыдату філалогіі, спецыялісту па лацінамоўнай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва грэх было б не перакладаць. І я памятаю, якой вагі дадалі Гарацый і анакрэонтыкі ў перакладзе Жлуткі зборніку «Тутэйшыя» (1989). На вялікі жаль, Алесь — чалавек надзвычай дапытлівы і меднагалосую лаціну да «звонкага *дзе* і густога *чаго*» прывучае рэдка. Апошнім часам паглыбіўся ў гісторыю хрысціянства на Беларусі, займаецца анамастыкай. А антычная ды сярэднявечная паэзія паступова зацягваецца павутой забыцця: лацiністаў з паэтычным талентам у нас кот наплакаў.

## АНАКРЭОНТЫКІ
*(VI ст. да н. э.)*

* * *

Ты — шчаслівы, конік любы!
Бо на кронах дрэваў гонкіх,
Кропляў росных паспытаўшы,
Нібы цар, спяваеш гожа.
Бо тваё ўсё навакола:
Тое, што ў палёх ты бачыш,
Тое, што ў лясох буяе.
Ты — таварыш земляробам:
Аніколі ім не шкодзіш;
Ты — для ўсіх смяротных мілы,
Лета добры спавяшчальнік!
Падабаюць цябе Музы,
Падабае Феб таксама —
Даў табе ён голас зычны.
Не дратуе цябе старасць,
Мудры спеўца земнародны,
Беспакутны і бяскроўны,
Ты — амаль багам падобны!

* * *

Дала прырода рогі
Быкам, капыцце — коням,
Зайцам — імклівасць бегу,
Ільвам — ікласты пашчы,
Уменне плаваць — рыбе,
Лунаць у небе — птушкам,
Мужам — адвагу ў сэрцы.
Жанчыне ж не было ўжо
Што даць — красу дае ёй.
Замест шчытоў усякіх,
Замест усякіх дзідаў,
Бо ўсё краса змагае:
І полымя, і зброю!

* * *

Эрот калісь на ружы
Пчалу, што засынала,
Не згледзеў, і джыгнула
Яго за палец пчолка.
Заенчыў ён ад болю,
Як дуж ляціць да маці —
Чароўнай Кітэрэі.
Крычыць ёй: «Маці, гіну!
Канаю, паміраю!
Змяя мяне ўкусіла,
Маленькая з крыламі —
Завуць яе пчалою».

А маці: «Пчолкі джала
Калі цябе так мучыць,
То як трываюць людзі,
Што ты параніў, сынку?!»

* * *

Анакрэонт убачыў
Мяне, спявак тэоскі —
Так сніла я, — і клікаў...
Пабегла да яго я
І абняла ў запале.
Хоць ён стары, ды гожы,
І гожы, і пяшчотны,
І вусны з пахам вінным,
Трымціць ужо і весці
Дае сябе Эроту.
Ды вось — з чала здымае
І мне дае вянок ён:
Анакрэонта водар —
У ім! А я — няўцямна
Сабе на косы ўсклала
Яго: і мне ратунку
Няма ўжо ад Эрота!

## *КВІНТ ГАРАЦЫЙ ФЛАК*
*(65—8 гг. да н. э.)*

### ДА МЕЦЭНАТА

Дасюль нязнаным, моцным крылом сягну,
Пясняр двухлікі плыняў эфірных я.
Марнець не буду на зямлі ўжо,
Рушу, для зайздрасці недасяжны,

Пакіну горад. Не, не загіну я,
Нашчадак бедных, — ты, Мецэнаце мой,
Якога ў дом заўжды свой клічаш, —
Стыксава хваля мяне не спыніць!

Ўжо, ўжо галёнкі скурай шурпатаю
Ўзяліся, чую — птушкаю белаю я
Раблюся ўжо і пер'ем лёгкім
Крыюцца плечы мае і рукі.

Ікара слаўны болей Дэдалава
Баспора бераг гулкі і Сіртаў край
Гэтульскіх* згледжу я й дамчуся
Птушкай да гіпербарэйскіх стэпаў.

* Гэтульскія Сірты — дзве затокі на паўночным узбярэжжы Афрыкі.

І колх мяне і дак, які тоіць жах
Перад кагортай марсаў, і дальнія
Гелоны прымуць і спазнае
Ібэр* разумны, што п'е з Радану.

Хаўтур не будзе! Змоўкні, жалобны плач,
І стогн агідны, і галашэнняў зык!
Сціш енк, не трэба ўшанаванняў
Лішніх парожняй маёй грабніцы!

### ДА ЛІЦЫНІЯ МУРЭНЫ

Каб суладней жыць — не імкні, Ліцыній,
На марскую глыб! Унікай таксама
Узбярэжных скалаў, калі жахлівых
Бураў баішся.

Хто сярэдзіну залатую любіць,
Той не будзе жыць пад трухлявым дахам;
Мудра ўнікне ён і палацаў гожых,
Зайздрасці вартых.

Найніжэй — сасну, што вышэй ад іншых,
Вецер долу гне. Найвялікшыя гмахі
І ўпадуць цяжэй. Б'е часцей маланка
Ў горныя высі.

Стойкі ў чорны час, асцярожны ў шчасці —
Дух, які прывык да ваганняў лёсу.

Ў час Юпітэр нам пасылае зімы
Лютыя. Ён жа

Ў час іх гоніць прэч. Калі сёння горка,
Не заўжды так ёсць: Апалон не вечна
Лук нацягвае свой і кітарай часам
Музу ён будзіць.

Будзь жа цвёрдым ты ў гадзіну злую,
Мужна стрэнь яе, а калі шчаслівы
Вецер зноў падзьме — падбяры ты ветразь,
Поўны занадта!

*МІХАЛ КАРЫЦКІ*
*(1714—1781)*

### ДА АДНАГО ПАЭТА

I
Сіла — табе я -гізм пасылаю, найлепшы з паэтаў,
Сэнс калі хочаш яго ведаць, чытай да канца!

* Колхі, дакі, марсы, гелоны, ібэры — назвы народаў.

II

*Да каго прыхільны лёс,*
*да таго хінуцца і людзі.*
*Юстын, кн. V*

Бачыў я днямі, як ружа тарыйскаю барвай квітнела,
Золатам ззялі наўкол уладна пялёсткі яе.
Зараз жа шумны натоўп медасочных гіблейскіх крылатых*
Кветку абсеў, гудучы хорам салодкім сваім.
Толькі як сіла Барэя красу забірае ад ружаў,
Кветак апалых тады бачыць не хоча пчала.
Гэтак тады разважаю з сабой: пэўна, кветак аздобу
Любіць, не кветку саму, пчолаў рухлівы народ.

III
ПАРАЎНАННЕ ПЧОЛАЎ З МУЗАМІ

Ёсць і для пчолаў свой мёд і ёсць свой мёд у Каменаў,
Ды не чакае ніхто плёну ад кветкі гнілой!
Музы заўжды вастрыё дасціпнага розуму маюць,
Тоненькім джалам сваім спрытна ўцінае пчала.
Толькі як Феб у гуморы, прыходзяць песні да Музаў,
Сонца спрыяе калі — працу закончыць пчала.
Як сабіральніцы мёду са спевам заўсёды працуюць,
Так і для Музаў няма песні без працы жывой.
Музы, спяваючы гожа, з салодкім карыснае лучаць,
Пчолам карыснае ўсё трэба з салодкім з'яднаць.
Гэтыя й тыя паўсюль імкнуцца да горных вяршыняў:
Музам мілейшы Парнас, пчолы ж на Гіблє жывуць.
Кожная з іх сваё дрэва шануе — пчала і Камена,
Муза жадае сабе лаўру, а ліпы — пчала.
Можна і гэтак: сярод кастальскіх сёстраў цнатлівых
Месца пачэснае ўсцяж панна займае пчала.
Імя падобнае ў іх: замяні ты літару толькі,
*Музай* адразу ж стае тая, што *мухай* была.

IV
З гэтага ты зразумей, Паэце, куды нашы песні
Мкнуцца і мэты якой хочуць яны дасягнуць.
Гэткаю згодай калі з'ядналыя з пчоламі Музы,
Хай твая Муза тады стане руплівай пчалой.
З яснага ў гэтых радках, схаванае зведаць імкніся;
Толькі тады Апалон зробіцца твой мудрацом.

---

* Маецца на ўвазе — пчолаў.

*ФРАНЦІШАК КНЯЗЬНІН*
*(1750-я — 1807)*

## ЭЛЕГІЯ ДА ФРАНЦІШКА БАГАМОЛЬЦА

Музаў дарамі багаты, Францішак, чаму ты дазволіў
Выйсці такімі на свет вершам няўдалым маім?
Іх жа агонь спарадзіў амаль што юначы,
Не наталёны яшчэ чыстай парнаскай вадой.
Вершы такія не мілы ні хлопцам, ні гожым дзяўчатам,
Не даспадобы яны сталым мужам — далібог!
Толькі загадваеш ты нясхільных да песень багіняў
Клікаць і слухацца мне раіш тваіх пастаноў.
Што ж, паспрабую. Калі ж Каліёпа не дасць мне
Лаўры здабыць, не бяда! Досыць, што іх я жадаў.
Некалі, першаю толькі Парнаса любоўю крануты,
Думаў, што буду палаць, лірныя струны б'ючы:
Гэткая мара была. Я прагнуў прыгожае славы:
Зайздрасць благая тады шчэ не калола мяне.
Песні пяяў пра пагорак, дзе Віцьба раздвоенай плынню
З хвалямі хуткай Дзвіны воды злучае свае.
Німфы ж, уніз з берагоў пахіляючы стромых галовы,
Нешта салодкае мне паабяцалі тады.
Тая, прыгадваю я, асалода мне ўзрушыла сэрца:
Раптам на розум найшлі і спадзяванні, і шал.
Цешыўся ветламу знаку. Каго з нас чароўная мроя
Не адарве ад навук, перадусім — юнака?
Зразу ж зямное усё паблякла, бо сэрца маё ўжо
Музаў ліхія шляхі вабіць тады пачалі.
Я заблудзіўся цяпер! Дык нашто столькі дзён, столькі ночаў
Лепшае часткі жыцця страчаны мною былі?
Я палымнеў, летучы за вытворамі прывіднай мары,
Мроі няздзейсныя ўсцяж зводзілі з тропу мяне.
Потым, калі карабель Лаёлы разбіла віхура,
Трапіўшы ў скрушні за борт, дошку ў вадзе я схапіў.
Покуль шукаю прыстанку і ціхіх жыццёвых уцехаў,
Знікнуўшы ў хвалі, — ізноў з тоні вынырваю я
Цацкаю мора. Калісь Арыён дабрашчасны дэльфінаў
Лірай салодкай сваёй на дапамогу прывёў.
Я ж ненадзейна трымаў, і з рук яна выпала кволых,
Знікла амаль назаўжды ў сэрцы натхненне маім.
Хто б заблуканага вывеў і хто ахаваў бы ў дарозе,
Хто дапамогу пасланць змог бы надзейную мне?
Схову сабе Меаніды мае і спачыну шукаюць,
А не знайшоўшы таго, з сэрца знікаюць яны.
Што тут рабіць мне было? Не схацеўшы палаць пад прымусам,
Той аўзанійскі агонь згаснуў раптоўна ў душы.
Не дагадзіўшы як след паднябенням распешчаным ляшскім,
Я не прыпаў да душы ні чытачу, ні сабе.
Што ж, пагарджаны раз, мой талент болей не ўзнёсся:
Пэўна, не тая ўжо моц, розум ужо не такі!
Лепшы з айцоў, надарэмна ўзнаўляеш пакінуты клопат,

Ён, прызнаюся табе, мне не па сілах цяпер.
Пылам прыпалі даўно ад спеваў адвыклыя струны,
Добра правіца мая ўдарыць не здолее ў іх.
Тое, што склаў я, павінна было б яшчэ шліфавацца —
Пемзы не варта яно жорсткае, ведаю я!
Ты прымушаеш, аднак. Вазьмі ж, калі хочаш! Ды толькі
Боязна, каб не было сорамна мне і табе.
Ўсё ж аддаю іх табе, бо абодвух нас лучыць Айчына,
Дзе шчэ з даўнейшых часоў продкі аселі твае.
Бо Багамольцамі ўсцяж і цяпер ганарыцца і калісь
Цешыўся славаю іх Віцебск, вядомы здавён.
Мой жа прабацька калісь перабраўся сюды са Смаленска,
Стуль, дзе маскаль аддаваў вольныя шыі ў пятлю.
Некалі нашыя, кажуць, на гэтых змагаліся мурах,
Што Абуховіч аддаў ворагу з ганьбай для нас.
Двое сюды перайшло братоў, бо іх заклікала
Волі жаданне тады, ветлая ваша рука.
Вось жа чаму ты, айцец, уласныя межы бароніш
І суайчынніка ўсім хочаш свайго паказаць.
Толькі ж калі прачытае Куніхій, ці слаўны Замагна,
Альбо Дурыній, — краса Рыму, тады я прапаў!

## МІКОЛА МЯТЛІЦКІ

**(1954, в. Бабчын Хойніцкага р-на)**

Абмяжуюся дэфініцыяй з «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі»: «Аўтар вершаў пра гераічнае мінулае і сучаснае жыццё савецкага народа». Цытата 1986-га, чарнобыльскага года. Чарнобыль і стаў для Мятліцкага галоўнай тэмай, ён неаднаразова ездзіў на сваю малую радзіму, у зону, дзе напісаў кнігу «Палескі смутак», адзначаную Дзяржпрэміяй. Перакладаць пачаў з двух слаўных сыноў аварскага народа — Гамзата Цадасы і сына яго Расула. Потым пайшлі кубінцы, сербы, баснійцы, славакі...

*ПАЛЁ БОГУШ*
*(1921—1997)*

### СУТЫКНЕННЕ

Маё з'яўленне вітаць час выпаў,
гадзіны цікалі,
а я ім выкаў.

Мужчына, ўзброены
кішэннай шабляй, —
хто ты?
На бойку час выклікала д'яблам
мая істота.

Бегла дні
па мне
сякуць вачамі,

фехтуюць гадзіны
двума мячамі.

Час правіць баль
над крутаверцю,
гарэлку мне падае,
прыпраўленую смерцю.

*МАЦІЯ БЕЧКАВІЧ*
*(1939)*

**ДАРОГІ МАНЫ МНЕ...**

Дарогі маны мне сцелюць пад ногі,
Пхаюць у рот мне словы маны.
Дыханне маё хлусня сцінае,
Гудуць у вушах маны званы.

Усё, што маё, — мае прысмак ілжывы.
Усё, што маё, — дымная слепата.
Хлусню падтрымалі ілжывыя сведкі,
А праўда адною адна — сірата.

Як ману адабраць з таго, чым дыхаю.
Як не маніць тым, што пішу.
Калі маной набіваюць, як фаршам птушку,
Калі гніе ў галаве, якую нашу.

*АСВАЛЬДА НАВАРА*
*(1946)*

**ГІТАРА**

Я падняў яе ноччу над кручай
пад поўняю белаю.
У святле змоклая,
        бачыць балюча
было яе ззяблую, задубелую.

Яна быццам ракушка, у якой
душа поўная музыкі мора.
Вушы рукамі закрыў —
        супакой? —
грымотныя песні спявае прастора.

Мне ў босыя ногі біліся хвалі,
марскою пяшчотай цёпла віталі,
і музыкаю чаравала,
і зацішна млела сонная далеч,
і поўня плечы твае цалавала.

*ЛЮБІЦА МІЛЕЦІЧ*
*(1948)*

### СРЭБНАЯ ПТУШКА

Бачу зноў пальцы, сцятыя у паўсне,
Па скуры мерна цячэ жарства залатая...
Гняздуе сонца прамень на акне,
На месца, дзе свечка гарыць, воскам сцякае.

У промнях зіхотных таемна цячэ на камень.
Дзе зерне было, дрэва зноў паўстае,
Кару зямную наскрозь працінае раслкамі,
Вяртае святло і святліста лістотай пяе.

На карце мурожнай новага свету,
На фрэсцы выразнай, яснай, як сінява,
Птушка срэбная крылом калыша планету —
Уздрыгвае, звонячы, у буйных росах трава.

Пыл залаты змахвае птушка крыламі,
Зерне нясе некаму над магіламі!

## ВАЛЯНЦІНА АКОЛАВА

**(1954, в. Мазуршчына Салігорскага р-на)**

Пасля заканчэння філфака БДУ настаўнічала ў ваколіцах Полацка, потым працавала на тамтэйшых прадпрыемствах «Нафтабуд» і «Палімір». На пачатку 1980-х перабралася ў Менск, была рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», кансультавала ў газетах маладых паэтаў. Пераклала кнігу М. Цвятаевай «Дзве песні» (1994; з паралельнымі тэкстамі), якая выклікала неадназначную рэакцыю калегаў па цэху. З рэзкай крытыкай выступіў В. Сёмуха, які рэдка дазваляе сабе палеміку наконт вартасцяў таго ці іншага перакладу. А тут не змоўчаў... І ўсё ж удачы ёсць і ў «Дзвюх песнях».

*МАРЫНА ЦВЯТАЕВА*
*(1892—1941)*

* * *

*С. Э.*

Пісала я на грыфельных брусках,
На веерах з лістотай, ледзь жывою,
Каля ракі, ля мора — на пясках,
На лёдзе-шкле — пярсцёнкамі зімою, —

І на ствалінах векавых рабін...
Нарэшце — каб было для ўсіх вядома! —
Што ты: мой любы, любы і адзін! —
Пісала я вясёлкамі і громам.

Я так хацела, каб любога лёс
Квітнеў, як ружы ў веснавых далонях!
І як пасля — твар стараніўся слёз,
Тваё імя — адпульсавала ў скронях...

Яно ў руцэ — прадажненькім пісьмом
Заціснута і болем сэрца джаліць!
Не ў куплі! Знай! *Як дар* — пярсцёнак мой
Сябе ўратуе й на скрыжалях.

## СТАНІСЛАЎ СУДНІК

**(1954, в. Сейлавічы Нясвіжскага р-на)**

Прафесійны вайсковец, служыў на Урале і ў Казахстане. У 1994 г. у званні падпалкоўніка быў звольнены з Узброеных Сілаў за актыўны ўдзел у працы згуртавання вайскоўцаў, якое займалася беларусізацыяй той часткі савецкай арміі, што пасля белавежскага пагаднення апынулася на тэрыторыі Беларусі. Суднік (адзін і ў суаўтарстве) выдаў некалькі расейска-беларускіх вайсковых слоўнікаў. У адстаўцы заняўся краязнаўствам і мовазнаўствам (даследуе арыйскія карані беларускай мовы). Жыве ў Лідзе, дзе выдае часопіс «Лідскі летапісец» і газету Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны «Наша слова». Змешчаныя ў анталогіі творы Яна Чачота ўваходзяць у цыкл з 55 гістарычных баладаў, задуманы паэтам яшчэ ў філаматкія часы і заснаваны на гістарычных працах М. Стрыйкоўскага і Т. Нарбута. У 1823 г. Чачот пісаў свайму сябру А. Міцкевічу: «Думаю паспрабаваць пісаць пра Вітаўта, Альгерда, Кейстута і іншых. Пра іх можна болей гаварыць, чым пра жанчынаў, трэба паказваць усе іх дзеі. Пагляджу, як гэта мне ўдасца». Удалося не толькі Чачоту, але і ягоным перакладчыкам — К. Цвірку і С. Судніку, якія ўдаступнілі «Спевы пра даўніх ліцвінаў» для беларускага чытача.

*ЯН ЧАЧОТ*
*(1796—1847)*

### ДАВОЙНА Ў ЧАСЫ ЯГАЙЛЫ. 1384

На Яснай Горцы, дзе ўвесь люд з пакорай
Маліўся й рыхтаваўся на пакуты,
Сабраў Давойна луп: майно, і скорам,
І крыж драўляны, золатам акуты.

Вязе да Вільні з дарагім палонам,
Ідзе пры ім і прыгажуня-бранка —
Мяшаецца з слязамі пот салёны,
Была адзінаю дачкой Габданка.

І дзіва — калі хто кранаўся воза,
Яму адразу мову адымала,
Жахала ўсіх нязнаная пагроза.
Пачуўшы, задзівіўся сам Ягайла.

Габданка-панна мовіла да князя:
«У сне мне аб'явіўся ангел Божы,

Крыж, князю, нельга аддаваць знявазе,
Святыня у палоне быць не можа».

Давойна павярнуў каня і зранку
На Яснай Горцы крыж вярнуў народу.
Хрысціўся там і ў жонкі ўзяў Габданку,
І вёз яе дамоў, бы ўзнагароду.

## ЯГАЙЛА І ЯДВІГА. 1386

І чаго ж вы, дуб і явар,
Дужым голлем так спляліся?
Вас пярун стралой праніжа —
Разам грымнецеся з высяў!

Паваліць нялёгка долу
Небам між сабой з'яднаных.
І расці, і падаць разам
Радасна для закаханых.

І чаго Ягайла ў Кракаў
Паляцеў у бурцы чорнай?
Свеціць свету каралеўна
Там красой карпацкай горнай.

Разлучыць смерць можа сэрцы,
А вайна — знішчаць народы,
Ды з'яднаным ой няпроста
Нарабіць вялікай шкоды.

У Літве — быць веры новай!
Люд ліцвінскі злагаднее,
Калі Бог мілосны ў сэрцах
Зерне добрае пасее.

Не вярнуўся князь Ягайла
(Хоць і лез крыжак з інтрыгай),
Аб'яднаў з Літвою Польшчу,
Ажаніўся сам з Ядвігай.

Шлях паказвала Ядвіга
У ясноты хрысціянства.
І ў Літве пад сонцам веры
Развіднела ноч паганства.

Так адна для двух народаў
Стала доля і нядоля.
Іх сама любоў з'яднала —
Боская была тут воля.

## ЯЎГЕН БЯЛАСІН

**(1954, в. Грынявічы Свіслацкага р-на)**

Бацька перакладчыка калісьці вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, быў настаўнікам нямецкай мовы. Сын пайшоў па ягоным шляху — пасля заканчэння Менскага інстытута замежных моваў настаўнічаў у Мсціславе, Карэлічах, апрача нямецкай выкладаў ангельскую мову. З 1979 г. жыве ў Берасці, працаваў у тамтэйшым універсітэце. Цяпер выдае бюлетэнь «Pro Europa», у адным з выпускаў якога былі сабраныя ўсе беларускія пераклады славутай балады Гётэ «Erlkönig». Паралельна з паэзіяй перакладае псіхааналітыку Фройда, філасофскія працы Канта, драмы Шэкспіра і Дзюрэнмата. Яшчэ дзесяць гадоў таму пераклаў раман Ч. Дзікенса «Прыгоды Алівера Твіста», залеглы, на жаль, у глыбокай шуфлядзе, як шмат што з сусветнай класікі, збеларушанае нашымі перакладчыкамі, але не размножанае варштатам Скарыны.

*ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*
*(1749—1832)*

### ЛЯСНЫ ЦАР

Хто скача ўночы скрозь цемру і жах?
То бацька з сынам малым на руках.
Малога туліць да сэрца ён,
і рук бацькоўскіх надзейны схрон.

«Мой сыне, чаму ты хаваеш твар?»
«Не бачыш, тата, — лясны вунь цар!
Лясун з каронай хвастом трасе...»
«Сынок, то вецер туман нясе!»

«Мой тата, мой тата, а чуеш ці не,
што цар лясны абяцае мне?»
«Сынок, не бойся, дарэмны страх —
то вецер шэпча ў сухіх лістах».

«Гэй, мілы хлопча, хадзем са мной,
прыгожы табе падарую строй.
На беразе ціхай ракі — зірні —
я кветкі рассыпаў для нашай гульні».

«Мой тата, мой тата, ці бачыш ты
царовых дачок, дзе цямнеюць кусты?»
«Мой сыне, не бойся, лёгка ж пазнаць —
то вербы старыя, як здані, стаяць».

«Люблю цябе, вабная постаць твая!
Ахвотай не пойдзеш — дык вымушу я!»
«Мой тата, мой тата, ты бачыш ці не —
цар лесу балюча сціскае мяне!»

Дарасламу страшна. Ён шпорыць каня
ды туліць слабеючае хлапчаня.
І вось прыскакалі ў якісьці двор.
Ды плача бацька, бо сын памёр.

*ФРЫДРЫХ ШЫЛЕР*
*(1759–1805)*

**ПАЛЬЧАТКА**

Перад арэнай для бою
Побач са шляхтай сваёю
Кароль Францішак сядзеў.
Наўкол — барон пры бароне,
А ўкруг на высокім балконе
Вянок пекных дам зіхцеў.

Кароль паказаў рукою —
І, царскага поўны спакою,
Леў на арэну ступіў,
Некалькі крокаў зрабіў...
І, грываю страсянуўшы,
Шырака пазяхнуўшы,
Ён на зямлю лягае.

Вось зноўку кароль махае.
Тут адчыняецца спрытна
У клетцы заслонка другая;
Адтуль у скачку амбітны
Тыгр вылятае.
Як толькі льва ён прыкмеціў —
Рыканнем яго прывеціў,
Ударыў хвастом — даўгой
Жахлівай дугой.
Ільва абмінуўшы ўпрытык,
Тыгр, выставіўшы язык,
Кладзецца тут жа збоку
Навідавоку.

Яшчэ раз кароль махае —
І выкінуў схрон, адчынены ўміг,
Двух леапардаў маладых.
Імпэтна ад самае сцяны
На тыгра кінуліся яны.
А ён задзірае іх моцнай лапай,
Ды тут падымаецца леў
На ногі, і ўсё сціхае.
Адно патыхаюць злою,
Драпежна-гарачай крывёю
Тых кошак жудлівыя зяпы.

І раптам злятае ўніз
Пальчатка адной з маркіз
Да тых драпежных істот —
Якраз пасярод.

Кавалера Дэлоржа з насмешкай тады
Кунігунда бярэ ў іспыт:
«Пан рыцар, ці гэткая, як заўжды
Даводзілі Вы мне праз моўны спрыт,
Любоў Ваша моцная — мне цікава?
Вазьміце пальчатку там, будзьце ласкавы!»

І рыцар з трыбуны цвёрдай хадою
Сыходзіць спакойна
І годна, дастойна
Пальчатку бярэ недрыготкай рукою.

Глядзяць здзіўлёна, і з жахам таксама,
На гэта рыцары й дамы.
І кожны з балкона яго вітае,
Як ён пальчатку нясе назад,
А Кунігундзін пяшчотны пагляд
Блізкае шчасце яму абяцае...
Ды рыцар пальчатку шпурнуў ёй у твар:
«Падзякі не трэба мне — гэта мой дар!» —
І з тым яе пакідае.

## ІРЫНА БАГДАНОВІЧ

**(1956, Ліда)**

Пачынала вершаваць па-расейску, як і яе геніяльны цёзка па прозвішчы. Аднак ужо ў студэнцкія гады, падчас навучання на гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага універсітэта, перайшла на родную мову. Доўгі час працавала ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук, выдала дзве капітальныя літаратуразнаўчыя працы — «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001). Цяпер — выкладчыца кафедры гісторыі беларускай літаратуры філфака БДУ.
Аўтарка паэтычных зборнікаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004). Перакладае пераважна з польскай, яе перакладчыцкія прынцыпы — быць як мага бліжэй да першатвора, старацца перадаць не толькі дух, але, па магчымасці, і літару арыгінала. Перастварэнняў з падрадкоўніка не прызнае, што надзвычай рэдка назіраецца ў перакладчыцкім асяродку. Не будзе лішняй у нашай нататцы цытата з артыкула І. Багдановіч пра А. Міцкевіча, дзе паказана, як розныя перакладчыкі падступаліся да аднаго з ягоных санетаў: «"Niemnie, domowa rzeko moja!" — так непасрэдна выяўляў патрыятычнае пачуццё аўтар, выклікаючы сваім эпітэтам "domowa" асацыяцыі хатняй утульнасці і абароненасці — таго, што заўсёды даваў чалавеку Дом. Гэты надзычай ёмісты эпітэт выклікаў шматварыянтнасць у перакладах, бо эквівалентнага слова падабраць было немагчыма. Усё ж паэты імкнуліся пранікнуць у семантычную сакральную глыбіню міцкевічаўскага вобраза: "рэчка майго дому" (А. Стаповіч), "родны мой Нёман" (Ю. Гаўрук), "рака Айчыны" (А. Салавей), "рэчка мая радаводная" (Р. Барадулін), "родная рака" (П. Бітэль), "хатні мой Нёман" (В. Жуковіч)». Прыемна, што свой акадэмічны ўнёсак у міцкевічазнаўства Ірына «надтачыла» і добрымі перакладамі крымскіх санетаў «песняра Літвы».

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## БУРА

Ветразі здзёрты, мачты патрушчаны, лава
Стогне, шалее, помпаў злавесныя енкі,
Рэшткі стырна і гужоў, трывожныя зрэнкі,
Нікне надзея, сонца заходзіць крывава.

Віхар з трыумфам завыў, і з бездані ўзнятай
На горы ўспучаных водаў страшна, жахліва
Выступіў геній пагібелі, рушыў імкліва
Да карабля, як жаўнер да крэпасці ўзятай.

Хто паўмёртвы ляжыць і кляне тое ліха,
Хто ў абдымках сяброў суцяшэння шукае,
Нехта пацеры шэпча, каб смерці пазбыцца.

Падарожны адзін у кутку сядзеў ціха
І падумаў: шчаслівы, хто сілы не мае,
Хто знаходзіць уцеху ці ўмее маліцца.

## ПАД ВЕТРАЗЯМІ

Мацнее шум, снуюцца хвалі, як пачвары,
Матрос прывычна, шпарка ўскочыў на драбіны,
Завіс уверсе, нібы ў сетцы павуціны
Нябачнай, як павук, чакаючы ахвяры.

Дзьме! — дзьме! — і карабель зрываецца ў абшары,
Нырае ў пенны вір, прасуе хваляў спіны,
Узносіцца ўгару, як бы ўзляцець павінны
На крылах ветру ён, і рассякае хмары.

І дух мой там, на мачтах, рэе над прадоннем,
Напятым ветразем узбуджана ўяўленне,
Міжвольны крык у руху тым трапеча стужкай.

О воля! Лёгкасці, замілавання ўлонне!
На грудзі караблю я падаю, і ў пене
Імчымся! Ведаю, што значыць стацца птушкай.

*ЗОФ'Я МАНЬКОЎСКАЯ*
*(1847—1911)*

## ФЛЁКСЫ

І вось калі часіна флёксаў белых
Настане, і сажнуць калоссе жнеі,
У ціхі час асенні спалавелы
Хацеў бы ціха так забыцца ў сне я.

І як тых флёксаў белых пах мядовы,
Хацеў бы так пачуццямі разліцца
І зведаць негаротны шлях свой новы —
Як зжаты колас, хлебам адрадзіцца.

Усё зямлі аддаўшы, быццам зерне,
Убачыць небакрай у светлай дымцы,
Сысці туды, адкуль ніхто не верне
Спачылага ў жыццёвай пілігрымцы.

Сысці так лёгка, без нуды і болю,
З усмешкаю лагоднаю на твары,
Так, як жняя пяе маркотна ў полі
На сконе дня, калі гусцеюць хмары.

Хоць я ў жыцці амаль заўжды быў смутным,
Бо лёс шматкротна зычыў мне завеі,
О родная зямля! Не псальм пакутны
Табе спяю я, але гімн надзеі.

Твае пяскі я цалаваць гатовы,
Як рукі маці сын перад дарогай,
Тваёй зары бліщчастыя пакровы,
А не пяруны ўслаўлю перад Богам.

І ўсім жывым наказ такі пакіну:
З усім нягодным бой навязваць смела,
Бо блізка ўжо вялікая часіна:
Збавенне, ціша, водар флёксаў белых.

* * *

Ёсць зоркі ў небе, на якіх заўсёды
Мы можам позіркам з табой сустрэцца,
Хоць нас радзеляць час і перашкоды,
І смутак выесць вочы нам, здаецца.
Ды ёсць яшчэ нябачныя сцяжыны,
Што паяднаюць роднасныя душы,
Хаця б адзін і дасягнуў вяршыні,
Хаця б другі вяршыні не адужаў.

Адна любоў злучае нашы сэрцы,
Адзін прасцяг завабліваe мроі,
Але ў тузе, цярпенні, паняверцы,
Як светлы дух, анёл мой, будзь са мною!
Маіх грудзей брыльянтавым даспехам
Нябачным будзь, ахоўны мой таварыш,
І я паверу ўрэшце: ты кахаеш,
Хоць не мяне, дык песні маёй рэха.

*ЛЕАПОЛЬД СТАФ*
*(1878—1957)*

### ЧАР

У фалдах сукенкі згубіў свае вусны, і чары
Мяне захапілі, панеслі ў падманныя мары.

Раскоша імгнення... Хвіліна — і шчасце канае,
Хоць жар пацалункаў яшчэ твае плечы кранае...

Укрыта касою распушчанай, спіш яшчэ ранкам,
Хоць ранкам раздзеляцца лёсы шчаслівых каханкаў.

Між кветак грудзей тваіх снежных, пяшчотных на целе —
Там мой пацалунак гняздо сабе цёплае сцеле.

*МАРЫЯ ПАЎЛІКОЎСКА-ЯСНАЖЭЎСКА*
*(1891—1945)*

### НА ЦЁПЛЫМ НЯБЕСНЫМ ЛУЗЕ

На цёплым нябесным лузе
Пасвяцца белыя гусі,
Пасвіцца белы баранак,
Як толькі прачнецца ранак.
Той луг без слупоў, без межаў,
Нікому ён не належыць.
Ён для тых беленькіх гусак,
І для ўсіх белых баранкаў,
І для крылатых, спакусных
Радасных думак каханкаў.

### РУЖА

У сцішаным парку ні смеху, ні госця.
Ля ружы расцвіўшай стаю.
Яна — ўвасабленне сваёй прыгажосці —
Прыгажосць разглядае маю.

## ХРЫСЦІНА ЛЯЛЬКО

**(1956, в. Хадзюкі Лідскага р-на)**

Першай кнігай Х. Лялько «Дарога пад гару» захапляліся гэткія майстры прозы, як Янка Брыль і Ян Скрыган, прадказваючы добрую літаратурную будучыню дэбютантцы. На жаль, з цягам часу ад прозы яна адышла, ды і вершы друкавала ўсё радзей. Пакінуўшы працу ў часопісе «Беларусь», дзе дванаццаць гадоў вяла аддзел літаратуры, Хрысціна з 1996 г. рэдагуе адразу два каталіцкія часопісы — «Ave Maria» і «Наша вера», заснавальнікам якіх выступае Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Менску. Пераклала дзве

кнігі роздумаў Папы Рымскага Яна Паўла II — «Пераступіць парог надзеі» (1997) і «Дар і таямніца» (1998), энцыклікі «Fides et ratio», «Ecclesia de Eucharistia» ды інш. Вершаваныя пераклады (больш чым з двух дзесяткаў аўтараў) склалі цэлы раздзел у кнізе выбранага Х. Лялько «На далонях любові». Змешчаная тут нізка хрысціянскай паэзіі вымагае ад чытача суадпаведнага стану душы.

*ЯН ТВАРДОЎСКІ*
*(1915—2006)*

## РАЗАМ З ТАБОЮ

Крыж Твой ідзе разам з Табою
на досвітку
ў ясны дзень
у канцы лета калі пчол падглядаюць
пры акне ўпоцемку
калі зімародак чакае зімы
каб нарадзіцца
калі смутак шукае сяброўства
ў ліпені калі высяваюць кроп
і цвітуць агуркі
ад гэтай хвіліны — да яшчэ невядомай...
патэлефаную святым
і папрашу іх
каб крыж без Цябе не прыходзіў

## ПРА ФІРАНКІ Ў СТАЕНЦЫ

Калі б прыйшлі да Цябе тады
ў Святую Ноч
калі свяціла адна ясная зорка
тыя хто мяркуе што трэба ўсё мець каб не перастаць быць
тыя што баяцца ўбоства Тваіх народзін
можа хацелі б яны прыкрыць Цябе суконнаю коўдраю
павесіць фіранкі ў стаенцы
справіць святому Юзафу цёплыя рукавічкі з адным пальцам
правесці цэнтральнае ацяпленне
найбольш уплывовыя пісалі б уладам
наконт кватэры для Цябе з усімі выгодамі
каб не туляўся Ты па чужых кутах
недаверлівыя дашукваліся б у мулкім асле
траянскага поні з падазроным сумленнем
найбольш смелыя пачалі б пратэставаць спасылаючыся
на Дэкларацыю Правоў Чалавека і Грамадзяніна
і на ўсе дэкрэты аб свабодзе веравызнання
паэты ўпрыгожвалі б Бэтлеем лірычнымі выкрунтасамі
мастакі вэдзгалі б яго залатымі пэндзлямі
ці ў лепшым выпадку маліліся б на Цябе
як на малога мільянера
наўмысна пакладзенага на сене
а Ты тлумачыў бы расплюшчанымі вачыма

з азяблаю Мамаю каля шчочкі
што Ты сапраўды ёсць
а таму аддаеш усё

### ПРОСЬБА

Не пасыпайце цукрам рэлігіі
не выцірайце яе гумкаю
не прыбірайце ў ружовыя анучы
анёлаў што лётаюць па-над вайною
не адсылайце з трыумфам да дудкі каментара

не прыходжу я па суцяшэнне
як па цёплы булёнчык

хацеў я нарэшце абаперці сваю галаву
аб глухі камень веры

*КАРАЛЬ ВАЙТЫЛА*
*(1920–2005)*

### ЮДЭЙСКАЯ ПУСТЫНЯ

Гэтай зямлі цяжка сказаць «ты — прыгожая».
Бранзавеюць скалою навіслаю схілы,
пранікаюць у хмараў грамады.
Машыны рассякаюць паветра і дождж.
Марна шукаць тут хоць якой зяляніны.
Людзі адсюль адышліся далёка.
Тут жыць немагчыма.
Не прыводзіць дарога ў гэтыя месцы, але з іх уцякае.
Ты прыйшоў менавіта сюды.
Каб не казаць зямлі, што прыгожая.
Цябе не хвалявала месца. Ты ўсюды шукаеш людзей.
Каб шукаць іх усюды,
трэба было спыніцца на нейкім месцы.
Ты выбраў гэтае.
Уся зямля прыходзіць да гэтай Зямлі і праз яе
зямлёю становіцца, як становіцца тым, чым ёсць,
усё праз Таго, Каторы ёсць.

*ЯН ПАЛЫГА*
*(1930)*

### ЦЯРНЁВАЯ КАРОНА

Розныя на галовы ўскладалі кароны
І розная была іх вартасць
Але толькі адна — бясцэнная
Тая якую насіў Хрыстус
Карона цярнёвая.

*МАРЭК ТЫТКО*
*(1952)*

## ЛІТАНІЯ ДА БОГА-СВЯТЛА

Пераможца цемры
факел агністы
сонца справядлівасці
камета бэтлеему
святло крыжа змёртвыхпаўстання
зрэнка нябёсаў
Пане ў шатах святліста-белых
пераменены ў ззянне на гары табор
агонь ачышчэння
залатая й нязгасная свечка ў садзе свету
маяк марскі ў часе буры
струмень бляску
дом з ясноты
рака святла цудадзейнага
акіян зіхоткі
вяршыня ранняга сонца
любоў прамяністая
языкі агністыя ў дзень спаслання Духу
Божа святла

рассей цемру

*ЛЕШАК МАЧУЛЬСКІ*
*(1953)*

* * *

Божая любоў – як шум хваляў,
ніколі не знікае,
увесь час кліча
таемна й ціха...

а я – як бераг,
як камень,
як пясок,
як скала прыбярэжная...

пачуць, аддаць сябе, не адыходзіць...
давяраю Табе, Любоў,
хвалям Тваім, што б'юцца,
аб мой абрывісты бераг.

## ЛЮДКА СІЛЬНОВА

**(1957, Маладзечна)**

Першае месца працы — Маладзечанская мастацкая фабрыка, дзе паэтка вырабляла сувенірныя лялькі з ільну. Закончыла філфак БДУ, настаўнічала, была выхавацелькай у дзіцячым садку, тэхнікам-чарцёжнікам, цяпер — бібліятэкар галоўнай кніжніцы краіны. У 1980-я гг. захапілася эсперанта, удзельнічала ў шматлікіх міжнародных сустрэчах эсперантыстаў. Дарэчы, эсперанта было даволі папулярным у колішняй Заходняй Беларусі, ім цікавіўся М. Танк, заўзятым эсперантыстам быў паэт С. Новік-Пяюн, а Я. Маўр усе апісаныя ім экзатычныя краіны вывучыў з дапамогай міжнароднай мовы, вынайдзенай беластоцкім лекарам Л. Заменгофам. Л. Сільнова — аўтарка дзвюх паэтычных кніжак: «Ластаўка ляціць» і «Зеленавокія вої і іх прыгажуні». Перакладае з эсперанта і, радзей, з нямецкай мовы.

*АНТОН КОФМАН*
*(1865—1940)*

### ЭПІГРАМА

Што быў спектакль ягоны геніяльны,
Упэўнены Пятро, бо разважае:
«Не быў жа анікім ён асвістаны».
Але — хто свішча, калі пазяхае?

*УІЛЬЯМ ОЎЛД*
*(1924)*

### АДЗІН З НАС

Сядзіць пад лямпаю.
Чытае кнігі.
Разумнее.
І робіцца штодзённа больш шаўковым.
І па тры дні не голіць барады ён.
Дзесяцігоддзямі гарбаціць свае плечы
І вымушае здраджваць сваю жонку,
Штоpазу менш падобны да спружыны.
Пакуль дзівіцца ўжо не стане звычкай,
І, як малюск, ён з ракавіны кніжнай
Баяцьмецца паказваць галаў вонкі.
І што нічога не зрабіў ён — канстатуе,
І хлопчык колішні перад вачыма ўстане,
Чыіх задум гарачых не хапіла.
І зноўку —
        сядзіць пад лямпаю.
Чытае кнігі.
        Парахнее.

*ВОЛЬФГАНГ БЕХЛЕР*
*(1925)*

### ЧАКАННЕ

*Міхаэлю Кругеру*

Караблі выпраўляюцца ў мора без мяне.
На прычале я застаюся
у атачэнні чаек.

Расхінаюць крылы яны,
як вокны,
праз якія мне бачыцца мора
не гэтак, іначай.

І паволі распроствае неба
над прычалам
ветразь магутны.
Хутка пачатак вандроўкі
у вечаровым брызе
і для мяне.

*БАРБАРА МАРЫЯ КЛЁС*
*(1957)*

### ЗЯЛЁНАЯ МАГІЯ

Сонца выцягвае галовы
з зімовых каўняроў.
Твары пачынаюць рухацца.
З фрустрацыі аб'явіліся плады:
клубніцы селі за руль.
Вішні енчаць малака.
Маленькі асяродак яблычнага зярнятка
узломвае сваю бетонную абалонку.
І выпырскваюць грушы
свой салодкі сок безупынку...

## ЛЕАНІД ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**(1957, г. Давыд-Гарадок Столінскага р-на)**

З маладосці марыў пра Парыж, закончыў маскоўскі Літаратурны інстытут і, мабыць, нечакана для тамтэйшых прафесараў прызнаўся ў адным з вершаў: «Настаўнік мой — Верлен». Даўняя мара, на шчасце, спраўдзілася, і паэт у эсэ «Стомленасць Парыжам» маляўніча апісаў свае вандроўкі па парыжскіх вуліцах і пляцах, дзе да гэтай пары, прыходзячы з краіны ценяў, бавяць час Верлен, Рэмбо і Апалінэр. Перакладае Дранько-Майсюк няшмат, але ніколі не звяртаецца да выпадковых тэкстаў, робіць тое, што потым не сорамна ўключыць ва ўласную кнігу. І Апалінэр, і Цютчаў, і Тэнэсі Уільямс не пачуваюцца чужакамі ў яго кампазіцыйна прадуманых зборніках «Тут» (1990), «Акропаль» (1994), «Вершы. Каханне. Проза» (2003)

ды інш. Часам даволі вольна абыходзіцца з арыгіналам: так гусі, якія ляцелі «над містом» у вершы ўкраінскага паэта Я. Плужніка, пасля перакладу ляцелі ўжо «над Менскам». Калі працаваў у часопісе «Крыніца», натхнёна складаў для «замежнай» рубрыкі «Ён» жыццяпісы еўрапейскіх класікаў. А П. Верлена і К. І. Галчыньскага перастварыў проста незраўнана — нібы беларускую душу ім удыхнуў.

## *ФЁДАР ЦЮТЧАЎ*
*(1803—1873)*

* * *

Калі няма на тое боскай згоды,
Як ні пакутуе яна, —
Душа, на жаль, не выплача лагоды,
Ды выплача сябе да дна.

Душа, душа, ты шчырым парываннем
І кожнай тканкай сонечнай крыві
Ахвяравана чыстаму каханню,
Сам Бог цябе дабраславі!

Ён па-над сэрцам, па-над светам,
Ён цеплынёй сваёй імкне
Да кветкі кожнае пад небам гэтым,
Да жэмчугу на морскім дне.

* * *

За дзень яна спазнала небыццё,
І змрок яе ўжо ахінаў суцэльны.
Знадворку чуўся дождж — і на лісцё
Струмені весела ляцелі.

Прытомнасці раптоўная струна
Ёй слых кранула цьмянай адзінотай,
Захопленая, слухала яна
Усёй свядомасцю, усёй істотай...

Пасля, нібы на споведзі якой,
Прамовіла ашчадна, напаўсілы
(Я побач быў, хацеў памерці з ёй):
«Усё любіла я, мой мілы!»

Любіла ты, і пачуццю твайму
Што ў гэтым свеце роўнае?.. Нічога...
Знябожаны, пакуты ўсе прыму,
І сэрца не пакрыўдзіцца на Бога.

* * *

Мне даспадобы лютэранаў боствы,
Абрад спаважнай строгасцю кране.
Вучэнне храма зразумела мне,
Ягоных сцен, што блізкія да ўбоства.

Не бачыце? Вось, мроячы дарогу,
Вам Вера стрэлася ў апошні раз:
Яшчэ яна не здрадзіла парогу,
А дом яе ўжо апусцеў і згас, —

Яшчэ яна не здрадзіла парогу,
І дзверы незамкнёныя яшчэ...
Ды час ужо... Складайце модлы Богу,
Сляза малітвы стрымана цячэ.

*ПОЛЬ ВЕРЛЕН*
*(1844—1896)*

## МАРСКІ КРАЯВІД

Звонкі акіян
У дрыжанні хваль
Топіць поўні жаль
І вачэй туман.

Навальнічны глыж
Коле напалам
Неба вечны храм,
Як руды гладыш.

Хваляў злы ўскалых,
Канвульсіўны шал
Паўз вышыні скал —
Не адной, а ўсіх.

На высокі суд
Да саміх нябёс
Ураган узнёс
Пекла страшны цуд!

## ЗНЯМОГА

*Жоржу Куртэліну*

Я — сын імперыі перыяду скanання,
Як і пры варварах, так і без іх
Складаю акравершы з дзён сваіх,
Стыль залаты пазычыўшы ў змяркання.

Душа тужлівая не ведае адхлання,
Зноў бачыць кроў на ўсіх шляхах цяжкіх.
Павольна кветкамі навін такіх
Ці акравершамі ўпрыгожваць існаванне?

Не марыць, не жадаць пра смерць, пра цішыню!
Дапіта ўсё! Бацiл, твой смех падманны!
Дапіта, з'едзена! І словы ўсе сказаны!

Адзіны верш благі, што кіну да агню,
Адзіны раб ляны, што мне жадае гора,
Адзіны сум цяжкі, які сціскае горла.

*ГІЁМ АПАЛІНЭР*
*(1880—1918)*

## ЗМЯРКАННЕ

*Прысвячаецца*
*мадмуазель Мары Ларансэн*

Змярканнем жывяцца хімеры
Сукенка падае ў траву
Цыркачка хіліць галаву
Па-над стаўком блакітна-шэрым

Змяркання сонны шарлатан
Вандроўны ладзіць балаган
І зоркі ў небе да адной
Малочнай тушыць сівізной

З падмосткаў стомлены цыркач
Паклонам растлумачыў феям
І ўсім багемскім чарадзеям
Што ён як і яны глядач

А зоркай цешыцца паяц
Не чуючы ў цымбальным гаме
Што звоніць вісельнік нагамі
Да струнаў здолеўшы дастаць

Сляпы суцешвае дзіця
За ланню йдуць аленяняты
А карлік сумны і гарбаты
Зайздросціць росту цыркача.

*КАНСТАНТЫ ІЛЬДЭФАНС ГАЛЧЫНЬСКІ*
*(1905—1953)*

## ЗАРУЧЫНЫ ДЖОНА КІТСА
*Камедыя*

Даўняй Англіі дуб — залаты пад маланкамі грому.
Снег бялюткі наўкол: цішыня вечаровага дому.
Любасць — дуб залаты, навальніцы жывуць ва ўспаміне.
Джон падкідвае дроў, каб ярчэй палымнела ў каміне.
Як нябёсы, пакой прыадчыніцца, з'явіцца Фані,
сядзе побач, і Джон скрывіць губы ў тупым блазнаванні.
Джон, ты дурнем не будзь, будзь паважна-вясёлым на свяце
і на Фані не злуй, сёння ж з ёю заручышся, браце.
Будзе белы абрус, і, як свечкі, запаляцца віна,
дурань Джон, не сядзі — пацалункаў чакае дзяўчына.

Звонку ціхая ўся, а душа яе ў полымі тоне,
і вуголіны зор ахалоджвае веер далоняў.
Ах, камін-весялун, ты ўтвараеш сцэнічныя хвілі,
можа Ўільям стары грае нейкія там вадэвілі.
До ўжо, дзеці, гуляць, падыходзьце бліжэй да застолля,
дзе аж гнуцца сталы, а музыкаў здушыла сваволя,
што ні цётка (анёл!) — увіваецца па-над тартамі,
але што нам тарты, саладзей дакрананне губамі.
А калі сціхне ўсё, і раз'едзецца кожны дахаты, —
вусны Джона і Фані раздурэюцца, як звераняты;
пацалункавы сад яны ўтвораць, пачуццяў завею,
лепш чым гётаўскі сад, праз які Герман вёў Даратэю.
Разам Фані і Джон — гэта Неба ўдваіх з Акіянам;
Фані — дама, а Джон — верны рыцар са шпагай адданай.
Па камедыі ўжо. Не сумуйце, панове акцёры,
На паклон ідучы, заставайцеся ў добрым гуморы.
Праз імгненне пачуеце воплескаў пляскат бясконцы.
Днее... лёд на акне... голуб за шыбай... салодкае сонца.

## КАХАНАЯ

Бракуе грошай на машыну,
каханая.
Спяшаюцца ў машынах дурні,
а пешшу ўсё ж хадзіць культурней,
каханая.

Бракуе грошай і на Лондан,
каханая.
Што?! Лондан — радасць? Лондан — гора:
ў «Paris-Soir» чытаў я ўчора,
як атруціў маркіз спрасонку
сабачай макаронай жонку...
На чорта здаўся такі нам Лондан,
каханая.

Крамлёўская ікра, асётры,
вядома, не для нас таксама.
Навошта Крэмль — ёсць твае бёдры!
І ноч, і ўтулле сіняй коўдры,
віно, і пацалункаў многа,
і грошы на рахунку ў Бога.
Плюй на машыну, Крэмль і Лондан,
каханая.

## ЦЯЖКІ ВЕЧАР

Цемры смарагдавай ходзіць спалох,
ландышам пахне тваё паднябенне,
з ложы нябеснай глядзіць на нас Бог...
Цалуй жа, Наталля, мяне да зняменне.



Месяц, жывы бутафорнай імглой,
нібы акцёр, нам ласкава міргае.
Хочаш, на акарыне зайграю
пра боль наш вялікі ў Вільні малой.

## ШЫПШЫНА

Ідзі за водарам шыпшыны —
і ён навее асалоду,
нібы чароўнай флейты гук.
Ідзі праз лес, ідзі праз луг
і ўбачыш родную гасподу.

Усё стрывай дзеля шыпшыны
і сны блакітам ёй напоўні.
Яшчэ крыху — і ўсё бліжэй
тры вольхі. Бачыш. А вышэй —
змярканне, зоры, слёзы поўні.

Пяе дарога пра шыпшыну,
смяецца ў золаце туманным.
Шыпшына! Асвятляеш змрок.
Шыпшына! Чуеш ты мой крок?
Іду — твой вецер закаханы.

* * *

Ветахам быць у тваіх слядах,
ветрам у стужцы, у кварце тваёй малаком,
пахітосай у вуснах, сцежкай паміж васількоў,
альтанкай тваёю і кніжкай, якую чытаеш.

Прашыцца, як нітка, аблашчыць прасторай,
быць порамі года для каштоўных тваіх камянёў,
і агнём у каміне, і дахам, які ўратуе
ад дажджу.

## ГАДЗІННІК З ЛАНЦУЖКОМ

Пятро Калінскі-Дзівановіч
знайшоў гадзіннік з ланцужком,
ад шчасця дуба даць гатовы,
да жонкі рушыў ён трушком.
На ланцужку, нібы катрынка,
пяе каралавая свінка!

Вось і жытло на Кенпе Саскай:
кілімаў і статуяк шмат.
Прыбраная ў халат атласны,
чакае жонка акурат.
— О, чым ты ўзрушаны? — спытала.
— Знайшоў гадзіннік я з каралам!

І выцягнуў гадзіннік жвава
з імпэтным дрыгам уваччу...
— А хочаш, — варкатнуў ласкава, —
яго я зараз накручу.
Тут, бачыш, ключык адмысловы...
Пятро ажно глытае словы.

Круціў, нібыта слаўся лістам,
і нечакана ў цішыні
гадзіннік грымнуў урачыста:
«Боже, царя храни...»
Пятро здзівіўся ў неспадзеўцы,
сляза аж блiснула на вейцы!

Тым часам бой свой старадаўні
гадзіннік якасна ўзмацняў
і з ноты «Сильный и державный...»
на ўсе кватэры загучаў...
Прыйшла памешчыца старая:
— Мой Божа, музыка якая!

Прыйшоў Вундэрліх — жлукта шчыры,
і Дзідзё — вечны абібок,
і бабкі нейкія чатыры
з вязаннем — на клубку клубок...
Уся сышлася камяніца,
каб на гадзіннік падзівіцца.

І слёзы засцілалі вочы,
шчымелі пяты і нутро,
і плакалі ажно да ночы
Вундэрліх, Дзідзё і Пятро,
бамбізы, дзеці і бабулі:
— Часы якія прамінулі!..

## ВЕЧНЫЯ БЕЖАНЦЫ

Вечныя бежанцы. Скрозь у дарозе.
Інтэлігенты.
Гінем пад сонцам, найбольш на марозе,
о Пане свенты!

Кожны ідзе са сваім грамафонам
з краю да краю.
— Дзе ваша айчына? Дзе ваша радзіма? —
скрозь нас пытаюць.

А мы не знаем; слязу глытаем
пад штучнай пальмай;
эпісталярныя вершы складаем
на лаўцы вакзальнай.

*АНДРЭЙ БОНДАР*
*(1974)*

### ФЕДЭРЫКА ГАРСІЯ ЛОРКА

Андалузкі жывуць у абдымках з алькадамі ўладнымі;
Сыплюць меддзю гітары з вясёлых вандроўніцкіх буд...
Нават кулі жандараў здаюцца рамансна-баладнымі,
Уяўляюцца кулі яшчэ статуэткамі буд.

Што змянілася?! Тыя ж вандалы стаяць над вандоламі,
І багі па чарзе, нібы вязні, сыходзяць з нябёс...
Рота сівых славян (пераважна Мікіты з Міколамі)
Б'юць у бубны, на свой і чужы не зважаючы лёс.

Медалі і лампасы ўсё тыя ж, і хэнць пераможная,
І бяздумная радасць у воклічы: «Плі!..» — ці «Палі!..»
Андалузкі — а што заставалася німфам зняможаным?! —
На алтар перамогі цнатлівасць сваю прынеслі.

Ты прабачыў усё — абыякавасць, здрадныя допісы,
Бедным хлеба купіў, а багатым сухога віна...
Хай квітнеюць у сэрцы тваім анемоны і лотасы;
Хай вясельныя кветкі марскога кранаюцца дна.

## ЗМІЦЕР КОЛАС

**(1957, Менск)**

Закончыў французскі факультэт Інстытута замежных моваў (1979). Працаваў перакладчыкам у Сірыі і Алжыры, выкладаў у менскім Лінгвістычным універсітэце, два гады вёў там курс мастацкага перакладу. Загадваў выдавецтвам пры Беларускім гуманітарным ліцэі, дзе беларускамоўныя кнігі выходзілі нязвыкла вялікімі накладамі (прыкладам, «Чарадзейныя казкі» Ш. Пэро — 70 000 асобнікаў). З 1998 г. — галоўны рэдактар прыватнага выдавецтва «Энцыклапедыкс». Перакладае пераважна французскую прозу і філасофскую класіку: А. Камю, Ж. П. Сартр, Г. дэ Мапасан, Ж. Дарыда. Але сяды-тады звяртаецца і да праверанай стагоддзямі паэзіі.

*ЖААШЭН ДЗЮ БЭЛЕ*
*(1522–1560)*

* * *

О душы незямныя, хоць у пыле
Ляжыце вы пад полагам вякоў,
Дзівоснасць вамі створаных радкоў
Не дасць, каб славу вашую забылі.

Калі ж адсюль людское слова ў сіле
Пранікнуць у нябыт сырых скляпоў,
Няхай мой кліч палон зямных акоў
Прарве — і вас абудзіць у магіле.

Я, пад скляпеннем стоячы нябёс,
Хачу вярнуць назад і час, і лёс
І тройчы голасна вас клічу;

Я заклікаю вас натхніць мой дух
І даць майму пяру патрэбны рух,
Пакуль я вашу памяць узвялічу.

* * *

Што ў Рыме робіш ты, о пілігрым?
Шукаеш Рым? — Няма былога Рыма!
Адно муры старыя прад вачыма —
Вось тое, што цяпер завецца Рым.

Зірні: руін узлёт на месцы тым,
Зірні, як той, хто свет сваймі плячыма
Магутнымі скарыў, і сам, ранімы,
Скарыўся часу, абярнуўся ў дым.

Адзіны помнік Рыму — сам жа Рым.
Бо Рым быў Рымам зрынуты адным.
І толькі Тыбр упарта мкне да мора.

Даводзячы сусвету свой адказ:
Усё, што мкне, — не ведае пакоры,
А ўсё, што нерухома, — нішчыць час.

* * *

Ні злосць пажару, што так часта роў,
Ні пераможнае лязо булата,
Ні лютасць апантанага салдата,
Што гвалт чыніў табе, Рым, шмат разоў,

Ні злосць людская і ні злосць багоў,
Ні перад лёсам здрадлівым расплата,
Ні моц, што знішчыла ў табе ж багата,
Ні зайздрасць ненажэрных тых вякоў,

Ні ветру вынішчальныя парывы,
Ні хваляў Тыбра злосныя разлівы,
Што гэтулькі табе наканавалі бед,

Зняважыць гонар твой не дамагліся —
І нават рэшткі, што нам засталіся,
Сваёй чаруюць веліччу ўвесь свет.

*ФРАНСУА ВІЁН*
*(1431 — пасля 1463)*

## БАЛАДА ІСЦІН НААДВАРОТ

Б'юць лынды — як пустое бруха,
Чакаюць звады — ад сяброў,

Найлепшая яда — баўтуха,
Ліслівасць — шчырая любоў;
Ці ж варта ёсць без добрых сноў?
Раскажа хлус усё без зману,
Вар'ят — вось скарбнік мудрых слоў,
Разважны ж — толькі закаханы.
Пяшчотна любіць толькі шлюха,
Сумленны не аддасць даўгоў,
Спявае лепш за ўсіх рапуха,
Багаты любіць беднякоў.
Арэх лепш грызці без зубоў,
Злачынец варты ў нас пашаны,
Запальвае рахманасць кроў,
Разважны — толькі закаханы.
У спёку вые завіруха,
Спаць лепш за ўсё сярод клапоў,
Смяецца той, у каго скруха,
Каго б'е трасца — той здароў;
Парад чакаюць — ад аслоў,
Псуе нам шанцаванне планы;
Каб падтрымаць, крычаць: «Далоў!»
Разважны — толькі закаханы.
Вам ісціны патрэбны зноў?
Іх я паведаміць гатоў:
Ёсць грошы толькі ў жабракоў,
Нягоднік — рыцар без заганы,
Франт — той, хто ходзіць без штаноў,
Разважны — толькі закаханы.

*АНДРЭ ШЭНЬЕ*
*(1762—1794)*

* * *

Я ведаю, калі, у цень загнаны спёкай,
Схаваешся цішком каля скалы высокай,
Дык можаш там спаткаць Наяду, што ідзе
Сцяжынкай, каб свой стан абмыць там у вадзе.
Так доўга цікаваў за німфай я чароўнай,
Што на пярыне траў ляжала ў позе соннай,
Схіліўшы галаву на зграбны лакаток, —
І на чало ёй споўз чаротавы вянок.

## УЛАДЗІМІР СІЎЧЫКАЎ

**(1958, Жодзіна Смалявіцкага р-на)**

Закончыў Менскую мастацкую вучэльню і філфак БДУ. Падчас вучобы стажаваўся ў Тбілісі, дзе вывучыў грузінскую мову і прыахвоціўся да перакладаў. Прычым перакладаў не толькі з грузінскай на беларускую (раман «Закон вечнасці» Н. Думбадзэ), але і з беларускай на грузінскую (зборнік версэтаў А. Разанава «Горад-вандроўнік»; разам з Н. Каберыдзэ). Удзельнічаў у падрыхтоўцы двухтомавай «Анталогіі грузінскай паэзіі» (1989) — як перакладчык і

каментатар-біёграф. Працаваў мастаком-аздобнікам, рэдактарам у часопісе «Бярозка», у Беларускай асацыяцыі дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана, з 1994 г. — дырэктар выдавецтва «Радыёла-плюс». Аўтар кніг прозы «Гульня ў тастамент», «Лісты да брата» і зборніка хоку і танка «Высакосны год» (у якім крытыкі адшукалі непрыхаваныя кантамінацыі з Басё). Прыканцы 1980-х гг. вёў на Беларускім тэлебачанні аўтарскую праграму «Дыялогі маладых перакладчыкаў».

*ГУРАМ ПЕТРЫЯШВІЛІ*
*(1942)*

* * *

Так,
Мусібыць,
Да дрэў прыходзіць старасць:
Зашэрхнуў дуб,
Стаяў у апраметнай цемры
І больш не адчуваў,
Сядзяць,
        паснуўшы,
                на галінах птушкі
Ці назаўсёды адляцелі.

**ГУЛЬНЯ**

Даўно ўжо супыніўся
Дождж вясновы,
Але вішнёвыя дрэўцы-дуронікі
Прыхавалі кроплі,
Стаяць, нібыта са слязьмі,
Быццам і папраўдзе
Яны зазналі скруху.

* * *

Калі згадаеш
Леташнія цёплыя дажджы,
Калі падасца,
Што ўсе пакінулі цябе,
Счакай.
І ветрык прынясе
На твой балкон
Лісток айвы
З далёкага, дагледжанага саду.

* * *

Помню, што ў дзяцінстве адпусціў,
Змайстраваўшы на зямлі, у неба
Змея папяровага. Дагэтуль
Думаю: а мо яшчэ ён там?
Пашукаць не хочацца пад плотам.

*НУГЗАР КАБЕРЫДЗЭ*
*(1950)*

* * *

Пустэльная мясціна —
На пагорку ніцавокі храм,
А пры гасцінцы белая шыпшына,
Нібыта нявеста,
Што з-пад вянца ўцякла.

*ГІГІ СУЛАКАУРЫ*
*(1953)*

**ВЕЧАР НА МОРЫ**

Падобныя да тэатральнага бінокля
маленькія цёмна-шэрыя кажаны
на ліловым аксаміце небасхілу...
Яны нікому не замінаюць.
Гарачы вецер.
Белая сцежка
вядзе да вялізнай
бетоннай скрыні,
дзе тры старыя пальмы
нібыта струмені фантана.
Здалося, што ўсё жыццё
гляджу я на гэтыя дрэвы,
і толькі цяпер,
гэтым вечарам, зразумеў,
як узмацняе іх існаванне
спякоту.

*ПААТА НАЦВЛІШВІЛІ*
*(1952)*

**КОТ**

Пакой халаднаваты твой не скора
Забуду я...
Вісеў стары Манэ,
І жоўты цень Руанскага сабора
Гайдаўся, плыў па вохрыстай сцяне.

Ў бэзавыя шыбы ўранні грукаў,
Свавольнічаў гарэза-красавік.
Я да звычайных рэчаў, пахаў, гукаў,
Да цеплыні і ўтульнасці прывык.

Прывык я да твайго пакоя з жальбай,
І ён, мяркую, звыкнуўся са мной.
Зырчэе-цепліцца ўспамін, як мальва,
Што сціпла пунсавела за акном.

Пад люстраю з крыштальнай тканкі
Усталяваўся вакуум-спакой...
Прашу мне даравць адно, смуглянка:
Я помню не цябе, а твой пакой.

## СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

**(1958, в. Хадзявічы Слонімскага р-на)**

Закончыў Магілёўскую культасветвучэльню і філфак БДУ. Працаваў загадчыкам клуба ў Сынкавічах на Зэльвеншчыне, настаўнічаў у Глоўсевіцкай СШ на Слонімшчыне, чатыры гады адсочваў «надоі, адкормы, ураджаі» на старонках раёнкі «Слонімскі веснік». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара незалежнай «Газеты Слонімскай». Аўтар двух зборнікаў вершаў, некалькіх краязнаўчых кніжак. Перакладчыкам стаў па абавязку службы ў Слонімскім драматычным тэатры, для якога збеларусіў п'есы К. Гальдоні, А. Астроўскага, А. Хайта. Паўсюль умее знайсці лірыку, нават у аўтара ваяўнічага «Інтэрнацыянала» Э. Пацье.

*ЭЖЭН ПАЦЬЕ*
*(1816—1887)*

### ДУДАЧКА

Дзіўны мігператварэння!
Чалавек я ці прадмет?
За кароткае імгненне
Інструментам стаў паэт.
А дзе цела? Як забаўна:
Я — трысцінка, ды іду,
Стаў я дудкай на хаду...
Я — дудачка! Як слаўна!
Ду-ду!

У фальварках, ля заставы
Буду я склікаць народ.
Прывітанне, свята славы!
Будзь прыгожым ты штогод!
Пасвістаць я майстар спраўны,
Пэўны тон заўжды знайду.
Стаў я дудкай на хаду...
Я — дудачка! Як слаўна!
Ду! Ду!

О паэзія, сястрою
Мне заўсёды роднай будзь.
І мяне любой парою
Не зрачыся й не забудзь.
Буду пець, як і нядаўна,
Хоць на катаргу пайду!
Стаў я дудкай на хаду...
Я — дудачка! Як слаўна!
Ду! Ду!

Як спружына ажыўляе
Рух у целе завадным,
Так гармонія лунае
Над вандроўнікам зямным.
Разам з песняй лёгкаплаўнай
Пад каўпак начы іду,
Стаў я дудкай на хаду,
Я — дудачка... Як слаўна!
Ду! Ду!

У каго жыццё без волі,
Хто без шчасця доўга жыў,
Завітайце на мой покліч,
Каб апошні першым быў.
Махляра й п'янтоса — здаўна
Мне сяброў — я ў рай вяду.
Стаў я дудкай на хаду.
Я — дудачка! Як слаўна!
Ду! Ду!

*ФАЗІЛЬ Х'ЮСНЮ ДАГЛАРДЖА*
*(1914)*

### БОГ І Я

Ён у сваёй справе —
Цар,
Я ў сваёй справе —
Бог.

### ВЫКРАДАЛЬНІК СВЯТЛА

Я святло выкрадаю
У чорных
Начэй,
Калі пішу вершы.

### УСІМ ПРАЧНУЦЦА

Палова людзей на зямлі спіць,
Не дрэмле другая палова.
Ну, вядома, Богу не хочацца,
Каб усе мы разам прачнуліся.

## ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ

**(1958, Полацк)**

Выпускнік Менскага інстытута замежных моваў (1980). Выкладаў нямецкую мову ў роднай полацкай СШ № 10, у Наваполацкім політэхнічным інстытуце. У 1985 г. разам з С. Шупам стварыў у сталіцы клуб маладых перакладчыкаў «Бабілён», праз пяць гадоў быў абраны ў

Вярхоўны Савет, дзе ўваходзіў у фракцыю БНФ, што ініцыявала разгляд многіх гістарычных для Беларусі рашэнняў. З 1991 г. — намеснік дырэктара Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа, дзе выкладае замежную літаратуру. Цягам 1993—1995 гг. на старонках газеты «Наша слова» Л. Баршчэўскі вёў рубрыку «Шэдэўры замежнай паэзіі», якая істотна дапамагла ў складанні «Галасоў з-за небакраю». Пасля смерці В. Быкава ў 2003 г. два гады старшыняваў у Беларускім ПЭН-цэнтры. Баршчэўскі перакладае з нямецкай, ангельскай, французскай, італьянскай, польскай, іспанскай ды іншых моваў. Рыгор Барадулін неяк пажартаваў, што Лявон адчувае паэзію на ўсіх мовах. Калі гэта і перабольшанне, то невялікае, бо насамрэч ён бегла размаўляе на шасці мовах, паэзію перакладаў больш як з трыццаці, а прозу — больш як з дзесяці. У незвычайных здольнасцях Баршчэўскага-паліглота складальнік гэтай анталогіі меў магчымасць пераканацца на літаратурных сустрэчах у Горадні, Берасці, Магілёве, Віцебску, Полацку, Белаазёрску (быў аднойчы такі літаратурны дэсант): з вуснаў Лявона гучала ангельская, нямецкая, італьянская, французская, іспанская, шведская мовы — студэнты і школьнікі слухалі здзіўлена-прыгаломшаныя. Хіба што пры перакладзе з японскай Баршчэўскаму спатрэбілася дапамога вядомай расейскай японісткі В. Маркавай. Безліч перакладаў Лявона раскіданыя па перыёдыцы, асобнымі кнігамі выйшлі творы Б. Брэхта, Н. Ленаў, Ф. Петраркі, Ф. Кафкі і Г. Бёля. Лявон Баршчэўскі — рэдактар серыі «Biblioteka białoruska», якая выходзіць ва Уроцлаве (Польшча) у «Калегіуме Усходняй Еўропы». У серыі ўжо ўбачылі свет кнігі В. Быкава, Р. Барадуліна, А. Хадановіча і У. Арлова. Апошнім часам Лявон прыкладае нямала намаганняў, каб аднавіць выхад перакладнога альманаха «Далягляды», без якога айчынная літаратура адлучаная ад сусветнага літаратурнага працэсу. Баршчэўскі-перакладчык — незаменны памочнік Баршчэўскаму-педагогу: ільвіная доля тэкстаў для яго хрэстаматый па сусветнай літаратуры перакладзеная ім самім.

*САПФО*
*(VII—VI стст. да н. э.)*

## ГІМН АФРАДЫЦЕ

Прад табой чало хілю, Афрадыта,
Зеўсава дачка — што ў цянёты вабіш;
Неўміручая, я малю: ты смуткам
Сэрца не рві мне,

А сыдзі з вышыняў зноў, як калісьці:
Голас мой тады з далячынь ты чула
І бацькоўскае пакідала неба,
Як я прасіла.

Птушкі хіжыя калясніцу неслі
Залатую па-над зямлёю чорнай,
І раз-пораз лопат магутных крылаў
Чуўся ў паветры.

Прамяністую, я цябе пазнала —
Неўміруча-ўсмешліва і лагодна
Ты спытала, што ад цябе хачу я,
Што мяне цвеліць,

Хто агонь журботы ўва мне раздзьмухаў,
І каго багіня замоў любоўных
Мне прывесці ма́е, і хто зрабіў мне
Гэтак балюча?

Ты казала: не заўважае?.. — Ўбачыць!
Не бярэ дароў?.. — Сам з дарамі прыйдзе!
Не кахае?.. — Дык закахаецца моцна,
Хоць і міжволі...

Дык сыдзі ж і сёння з прыступак трона:
Не дазволь змарнець мне ў журбоце дзікай,
У нялёгкай гэтай страшэнна хвілі
Дапамажы мне!

*

Роўным богу мне падаецца ў шчасці
Чалавек, які, гэтак блізка-блізка
Седзячы з табой, твой пяшчотны голас
Слухае ўважна.

І цудоўны смех. У мяне пры гэтым
Перастала б сэрца адразу біцца.
Як цябе я ўбачу — больш не магу ўжо
Вымавіць слова.

Мой язык імгненна дранцвее, хваляй
Лёгкі жар пад скураю прабягае;
Вочы ўжо не бачаць. А вушы чуюць
Звон несціханы.

Пот з мяне гарачы цячэ, дрыжу я,
Ззелянела ўся — ужо нават болей
За траву. І маё жыццё нібыта
Скончыцца мусіць.

Ды цярпі, цярпі: ўжо далёка надта
Ўсё зайшло...

*

Поўню пекную атачаюць зоркі —
Твар, што зззяе, бы ў покрыва ўкруцілі,
Каб яна адна ўсяму свету поўнай
Славай свяціла.

*БЕРТРАН ДЭ БОРН*
*(каля 1140 — каля 1215)*

## ПЛАЧ

*На смерць Джэфры,*
*герцага Брэтонскага*

Час гэты поўны гора ды бяды,
А цяжкіх страт ніколі палічыць
На свеце гэтым немажліва, ды
Бяда найгоршая ў дзвярах стаіць —

То гібель маладога Караля.
І так душа па ім смыліць ва ўсіх,
Што дзень азмрочаны нібы прыціх
І цэлы свет запоўнены тугою.

Вунь ваяры смуткуюць ад бяды,
І сэрца барду слаўнаму баліць.
Цыркач смуткуе-тужыць малады,
А смерць усмешкай радаснай зіхціць —
Дагнаўшы маладога Караля,
Што так падданых шанаваў сваіх!
Ніколі больш не знаў пакут такіх
Наш век цяжкі, запоўнены тугою.

Дык цешся ўжо, віноўніца бяды —
Смерць ненаедная! А свету не забыць
Ахвяры гэткай слаўнай, бо заўжды
Вянок любові быў гатоў абвіць
Чало — у маладога Караля.
Ды лёс не смелых беражэ, а тых,
Хто ўмее быць за спінамі другіх,
Харобрым поўнячы душу тугою.

У век, дзе ліха шмат і шмат бяды,
Сышла любоў — і ўцеха ўслед ляціць,
І людзі круцяцца сюды-туды,
Каб неяк выжыць, хоць бы і схлусіць;
Няма ўжо маладога Караля:
Ён таямніцы мужнасці спасціг,
Ды на зямлі пакінуў нас адных —
У свеце, перапоўненым тугою.

Той, хто, збаўляючы нас ад бяды,
Сышоў з нябёс, каб смерцю адкупіць
Людзей грахі й на доўгія гады
Даць паратунак нам — надзею вечна жыць, —
Хай здыме з маладога Караля,
З яго сяброў цяжар грахоў любых,
Каб мець спакой ім вечны там, дзе ўздых
Больш не чуцён, напоўнены тугою!

*ПЭЙРЭ ВІДАЛЬ*
*(1183—1204)*

* * *

Поўнымі грудзьмі ўдыхаю
Правансальскі ветрык мілы,
Радасці прыток і сілы
Незвычайнай адчуваю.
Я хацеў бы зноў і зноў
Шмат прыгожых, добрых слоў
Чуць пра край свой родны.

З двух бакоў абсягі краю
Рона з Вэнсай затуліла,
З поўдня мора падступіла
І Дзюрэнс; я далятаю
Думкай да яго лугоў —
І надоўга знік-сышоў
Мой настрой маркотны.

Я і дня не пражываю,
Каб мяне не захапіла,
Каб душу не запаліла
Згадка пра Яе: ўсхваляю
Донну — і палае кроў:
Прыгажэйшую знайшоў
Хто б сярод смяротных?

Таямніцы не хаваю —
То Яна мяне натхніла,
Тыя песні акрыліла,
Што цяпер я вам спяваю.
Лепшых не знайсці дароў —
За яе пагляд, любоў —
Гэтым жыць я згодны!

*ФРАНЧЭСКА ПЕТРАРКА*
*(1304—1374)*

* * *

Высакародны дух, ты позірк ясны,
Сонцападобны поўніў хваляваннем
І словам даў жыццё, і нараканням,
Што не загінулі ў душы дачасна.

Мне мроіцца: ты, як агонь нязгасны,
Па мурагу ідзеш між красак раннем,
Пакінуўшы мяне маім літанням,
Не як жанчына — як анёл прыўкрасны.

Да Творцы ўжо вярнулася свайго ты,
Зямлі прыгожае аддаўшы цела, —
Так воля вышняя наканавала.

Ты адышла — й Кахання ды Пяшчоты
Няма на свеце: сонца пацьмянела,
І ўпершыню мне смерць салодкай стала.

* * *

Каб верыў я, што смерць мяне пазбавіць
Ад цяжкіх думак і пакут кахання,
Дык сам бы скончыў гэта існаванне:
Заўчасныя хаўтуры даў бы справіць.

Але баюся: скон мяне паставіць
На бок другі мяжы выпрабавання,
Да новых слёз і новага змагання,
І крок далей ні ад чаго не збавіць.

Страла павінна вылецець, мяркую,
Ад цецівы напятай, набрынялай
Крывёю іншай, і ў сваёй мальбе

Прашу Любоў дапамагчы, ды тую,
Што мяне ў бледны колер фарбавала,
А больш не хоча клікаць да сябе.

*ЁАН СЕКУНД*
*(1511—1536)*

## ПАЦАЛУНКІ

Што ты вусны гарачыя даеш мне? —
Не хачу цалавацца я з Нэерай,
Цвёрдакаменнай, цвярдзейшай за мармур!
Ці ты хочаш, пыхліўка, каб любіў я
Пацалункі, не распачаўшы бойкі,
Каб няспынна сцяблом паднятым пругкім
Працінаў у нас абаіх тунікі?
Каб марнеў я, зняможаны ў чаканні,
Кроў мая хвалявалася дарэмна?
Ты ўцякаеш? — Застанься! Дай мне вочы,
Дай жа вусны гарачыя мне зноўку:
Цалавацца з табой хачу, пяшчотнай,
Мяккаю, быццам пух лебядзіны!

*

Гэтак, як ружа з паўночнай шчодрай расой на дасвецці
Фарбай пунсовай сваёй свет залівае наўкол, —
Так пунсавеюць і вусны ў панны маёй раніцою:
Вільгаць на іх — ад маіх губ, што шалелі ўначы.
Тварык яе атачае вусны бялюткім вяночкам —
Нібы фіялку ўзяла ў белую панна руку.
Так кучаравая вішня ярка гарыць, расквітнеўшы,
Ў час, калі там, між галін, лета спаткае вясну.
Ах, я гаротны! Навошта, як толькі палка зліёмся
Мы ў пацалунку, заўжды мушу я з ложка ісці?
О прыгажуня! Пунцовасць вуснаў тваіх застанецца,
Аж пакуль я не прыйду ноччу бязмесячнай зноў.
Ну, а калі пацалункі іншы сарве з тваіх вуснаў —
Хай тады зблякнуць яны горш ад маіх бледных шчок!

*ДЖОН ДОН*
*(1572–1631)*

**ДЗЕНЬ ДОБРЫ**

Цікава, што рабілі мы з Табой,
Пакуль не пакахаліся? Ці нас
Каля грудзей трымалі, аж да той
Хвіліны, й мы жывіліся ўвесь час
Прыроды пекнатой? Ці мы ўдваіх
Не кашлялі ў пячорах? І штоміг
Адно краса Твая — у мроях у маіх.

«Дзень добры!» — павітаем душы зноў
Абуджаныя нашы; іх пагляд
Пудлівы вечна. Ну, а ў нас — любоў,
Што ўвесь сусвет скарала — так няшмат...
Хай будзе слаўны мараходаў чын —
Адкрыцці новых светаў ды краін,
Ды свет хай будзе ў нас з табой адзін.

Адбіліся ў вачах твар мой і Твой:
Праменяць шчырасць светлую адну...
Дзе лепшы свет — без Поўначы ліхой,
Без Захаду, што хіліцца да сну?
Каханне нашае з табой даўно
Злучылася, злілося у адно —
І не аслабне, не памрэ яно.

*ФРЫДРЫХ ГЁЛЬДЭРЛІН*
*(1770—1843)*

**ВЕЧАРОВАЯ ФАНТАЗІЯ**

Спакойна перад хацінай сваёю ў цяньку
Сядзіць араты; лагодна агонь дыміць.
Звон вечаровы гасцінна вандроўніку
Звоніць у вёсцы мірнай.

Баркасы вяртаюцца ў гавань сваю,
У гарадах далёкіх рух кірмашовы
Сціх, заклапочаны, жвавы; у ціхай альтанцы
На стале чакае добрых сяброў вячэра.

Куды ж я імкнуся? Смяротныя ўсе
Працай, заробкам жывуць; ім добра адпачываць
Пасля штодзённых высілкаў. Дык чаму ж стрэмка
Адно ў маім сэрцы засела?

У вечаровым небе буяе вясна;
Безліч ружаў цвіце, і свет залаты

Нібы спакойны зусім. О, вазьміце з сабою
Мяне, пурпуровыя аблокі!

Няхай у ветры й святле пакуты, любоў
Мае развеюцца. Ды ўжо ўцякае дзіва прэч,
Быццам спалохаўшыся маіх вар'яцкіх просьбаў.
Наўкол сцямнела; пад небам я зноў самотны —

Прыйдзі нарэшце, салодкі сум! Зашмат
Жадае сэрца; ды ўрэшце ты, летуценнае
Юнацтва, у нас адгарыш, адпалаеш —
Мірнаю, светлаю будзе старасць.

*ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ*
*(1749—1832)*

## СПАТКАННЕ І РОСТАНЬ

Быў сэрца кліч: хутчэй да коней!
І конь памчаў, нібы страла.
Зямлю ўкалыхвала сутонне,
І ноч да стромых гор паўзла.
Дуб узвышаўся, нібы волат;
Імгла тулілася ніжэй,
І цемра з хмызняку наўкола
Сачыла сотняю вачэй.

Там поўня ў мроіве свяціла
Ледзь-ледзь з-за чорных копаў хмар,
Вятры распасціралі крылы,
Злавесна авявалі твар;
Хоць ноч гайнёй пачвар глядзела,
Я ўзнёслы быў, ляцеў мой конь:
Як сэрца полымем гарэла!
Які па жылах цёк агонь!

І ўбачыў я цябе: пяшчота
З вачэй струменіла тваіх:
Была тваёй мая істота,
Быў для цябе мой кожны ўздых.
Вясны ружовы німб прыгожай
Аздобай твару быў твайго,
Я шчасця прагнуў — толькі, Божа!
Я ўсё ж... ці заслужыў яго?

А ўранні — ростань, як заўсёды,
І сэрца шчэміць мне ў грудзях:
Якая ў пацалунках слодыч!
І боль які ў тваіх вачах!
Пайшоў я — ў позірку адданым
Ты смутак не магла схаваць:
І ўсё ж, як слаўна быць каханым!
Багі! як слаўна ўсё ж — кахаць!

*НІКАЛАЎС ЛЕНАЎ*
*(1802—1850)*

## ВЯЧЭРНЯЕ ВЯРТАННЕ ДАХАТЫ

На карку валачэ бядняк
Дадому дроў вязанку,
Вясёла мчыць мужык-вазак
З пшаніцаю фурманку.

Малочны статак тупаціць
Праз поле ўздоўж сцяжыны,
І цалавацца хтось ляціць
Да любае дзяўчыны.

Ідзе, насвістваючы штось,
Дарогай егер хвацкі.
Яму чым пахваліцца ёсць:
Зайцы вісяць, як цацкі.

Паэт — зняможаны зусім,
Ды ў радасным настроі —
Кульгае ўпрочкі, а на ім
Дум неўміручых строі.

## ТУГА НЯБЁСАЎ

Па твары неба думка ўсцяж блукае:
Там — хмараў змрок, тужлівы і цяжкі.
Нібы вар'ят на ложку, пачынае
Хмызняк пад ветрам кідацца ў бакі.

Грымоты сумныя з нябёс грукочуць,
З-пад веяў блісне штось, і — зноўку ў цень...
Так вочы бліскаюць, як плакаць хочуць,
І з веяў дрогкі точыцца прамень.

Вунь прывіды праходзяць па балоце,
Імгла паўзе. Над стэпам — хоць бы гук...
І неба, задуменнае ў журботе,
Раптоўна выпускае сонца з рук.

*ГОТФРЫД КЕЛЕР*
*(1819—1890)*

* * *

Лопат крылаў сціх на ўсёй зямлі,
Снег сляпіў паўсюль, як вокам кінь.
Хмаркі зорак засціць не маглі,
Хвалі ў возеры скавала стынь.

Дрэва ў ім з глыбі расло, але
Потым ствол умёрз у лёд і сшэрх;
І русалка, ўзлезшы па ствале,
Праз зялёны лёд зірнула ўверх.

Я стаяў на абалонцы той:
Бездань зеўрала ў нагах. Як ёсць,
Я разгледзеў проста пад сабой
Белай той русалкі прыгажосць.

Мацала няўмольна-цвёрды дах
Роспачна яна — і ўжо нідзе
Не ўцячы мне ад вачэй тых. Ах,
З галавы красуня не ідзе!

*ЯРАСЛАЎ ВРХЛІЦКІ*
*(1853—1912)*

## СТРОФЫ

Калі ў глыбінях мора зоркі спяць
І неадзетыя жанчыны,
Як ліры, на каленях у мужчын дрыжаць,
Калі навокал па далінах
Разносіцца звон срэбны ручаёў,
Калі тужлівы пошчак салаўёў
З іх горлаў вырываецца няспынна —

Міргаюць znічкі, я стаю каля вады:
У думках — мроі-летуценні.
Я — кропка ў космасе — не ведаю, куды
Лячу і што мяне сустрэне.
Адно, што знаю я, — птушыны спеў,
Жанчын дрыжанне, водару вясны павеў,
І ўсё я абдымаю ў захапленні!

*ЭМІЛЬ ВЕРХАРН*
*(1855—1916)*

## ПАБОЖНАЕ

Ноч зімняя пацір да неба ўзносіць.

І ўзношу ў змроку сэрца я сваё начное,
О Госпадзе, ў бясконцыя Твае прасторы,
А ўсё-ткі ведаю: не здарыцца такое,
Каб само сэрца сцішылася ў горы.
Я знаю: маніш Ты — й майго не бачыш твару
І руху губ, і як укленчыў я маркотна...
Не спадзяюся на спагаду я — ды мару,
Адзін ва ўсім Сусвеце, гэтак вось самотна.

Дай веры маім трызненням-літанням:
Мне трэба выліць іх перад Тваім маўчаннем.

Ноч зімняя пацір да неба ўзносіць.

*ВЕРНЕР ХЕЙДЭНСТАМ*
*(1859—1940)*

## МЫ, ЛЮДЗІ...

Мы, з адной зямлі што павяліся,
З тых жа цудаў, — на жыццёвым мысе
Бачымся каротка між сабой.
Што ж, усім нам зачарсцвець? Самота
Будзе ў нас адна. Адна журбота
Зашуміць на могілках травой.

## АЦАЛЕЛЫ Ў КАРАБЛЕКРУШЭННІ

Пасля буры жахлівай
Ён грэе, з усмешкаю, рукі
Над вогнішчам, што хутка згарае, —
Адзін на самотнай шхеры.
Ужо ўранні на кволым плыце
Знойдзе ён паратунак ці смерць...

*УІЛЬЯМ БАТЛЕР ЕЙТС*
*(1865—1939)*

## ДРУГІ ПРЫХОД

Шырэйшыя ўжо робячы кругі,
Лаўца не чуе сокал паляўнічы.
Аслаблі повязі; няма і стрыжня;
Запанавала на зямлі бязладдзе;
Патокамі паўсюдна кроў сплывае —
І цноце ўжо не выбрацца з яе.
Сумленнасць нерашучая, а ліха
Дужэе ўсё, ідзе рашуча ў наступ.
Відаць, час Адкрыцця й Расплаты блізка —
Другі прыход чакаецца! З тых слоў
Мае ўяўленне вобраз, Дух Сусвету,
Стварае: недзе, у пясках пустэльні
Пачвара — ці то леў, ці чалавек
З пустым, бязлітасным, як сквар, паглядам —
Ідзе-брыдзе павольна, а навокал
Кружляюць птахаў узлаваных цені...
Зноў цёмна робіцца, ды мне вядома,
Што дваццаць апавітых сном стагоддзяў
Калыска ўскалыхала да кашмару;
І нейкі звер — наспеў ягоны час! —
У Бэтлеем ідзе, каб нарадзіцца...

*ГІЁМ АПАЛІНЭР*
*(1880–1918)*

## САЛАМЕЯ

Каб Ян святы яшчэ раз усміхнуўся пане
Лепш за анёлаў станчу танец агнявы
Чаму ж матуля у графініным убранні
Пры спадкаемцы трона ў гэткай скрусе Вы

Так моцна сэрца ад ягоных слоў дрыжала
Калі я сярод кмену танчыла ў садку
Яму лілеі я на стужцы вышывала
Што мела трапятацца на яго кійку

Каму ж на той кіёк што каля Іярдана
Квітнеў каму ж расшыю стужку я цяпер
О Ірадзе лілеі ўсе завялі рана
Калі яго выводзіў з дому твой жаўнер

Да дрэў раўнюткіх пойдзем Блазне грай вясёла
Не трэба плакаць Лепей за жазло
Вазьмі да танца да свайго вунь тую голаў
Матуля не чапай Астыла ўжо чало

Наперадзе ці ззаду пане з Вашай ласкі
Вы пойдзеце туды дзе выкапаем дол
Яму ўвесь кветкамі абсаджаны наўкол
І будзем там скакаць аж я згублю падвязкі
        Кароль капшук тытунёвы
        Інфанта ружанец новы
        Поп малітоўнік службовы

*ФЕРНАНДА ПЕСОА*
*(1888–1935)*

## ПАРТУГАЛЬСКАЕ МОРА

Не вычарпаць тваю, о мора, соль,
Як слёзы Партугаліі ды боль.
Плылі мы... Колькі маццярок рыдала,
А колькі ў хвалях іх сыноў прапала,
Згібела нарачоных у журбе,
Каб Ты нам родным стала — й мы Табе!

Ці без ахвяр абыдземся? Ды не,
Калі наш дух дашчэнту не здрабнеў!
Каб да другога берага дабрацца,
Цярпенне патрабуецца ды праца.
Хоць прорваў шмат у мора ёсць ды ўцёсаў,
Але ж адбіты ў ім блакіт нябёсаў.

*БЕРТАЛЬД БРЭХТ*
*(1898—1956)*

## ПРА ЛЮДЗЕЙ КАРТЭСА

На сёмы дзень быў невялікі вецер,
Паляны паяснелі, сонца выйшла...
І захацелася ім адпачыць. З павозак
Яны з гарэлкай бочкі паскідалі,
Быкоў адпрэглі, надвячоркам іх забілі.
Калі ж усім халаднавата стала,
Галля насеклі ў хмызняку балотным
І на палянцы вогнішча расклалі.
Глыталі потым смажанае мяса,
Гарэлкай запівалі і спявалі песні,
А ноч зялёная і свежая была.
Напіўшыся й напеўшыся да хрыпак,
Яны за поўнач каля вогнішча паснулі,
Зірнуўшы абыякава на зоркі.
Салодка спалі. Толькі ўранку хтосьці
Нібыта чуў бычынае рыканне...
Каля дванаццаці прачнуліся яны,
Зблажэлыя, з няўцямнымі вачыма.
Падняўшыся, яны здзіўлёна бачаць,
Што ў іх па-над галовамі спляценне
Галін магутных, нібы рукі, тоўстых,
Пакрытых дробнай і густой лістотай
І кветкамі з саладкаватым пахам.
І цяжка дыхаць ім пад тым скляпеннем,
І робіцца шчыльнейшае яно...
Тут капітан зароў: «Хапай сякеры!»
Ды іх няма: яны ўсе засталіся
На тым баку — там, дзе равуць быкі.
І людзі з бруднай лаянкай на вуснах
Да зарасніку кідаюцца ў жаху,
А зараснік шчыльней іх абступае.
І рвуць яны аслаблымі рукамі
Яго, а ён дрыжыць, нібыта
Ад подыху слабога вецярка...
Пасля гадзін нечалавечай працы
Яны ілбамі моўчкі прынікаюць
Спацелымі — да моцных тых галін,
Што ўсё растуць і памнажаюць роспач
Між імі. І ўжо надвячоркам познім,
Які дазвання цёмны — бо лістота
Цяпер святла зусім не прапускае —
У жаху людзі, нібы малпы ў клетцы,
Сядзяць з пустымі жыватамі і маўчаць.
...Уночы зараснік згусцеў, ды месяц
Яшчэ дапамагаў ім бачыць нешта,
І толькі раніцай праз той гушчар
Яны ўжо згледзець не маглі нічога

Навокал — да сваёй апошняй хвілі...
Удзень у лесе быццам спеў пачуўся
Прыглушаны, нібы перагуканне,
Ды потым сціхла ўсё. Больш не раўлі быкі.
Ізноў рыканне чулася нібыта
На золку, толькі недзе ўжо далёка...
Пасля прыйшлі гадзіны цішыні,
І, не спяшаючыся, лес пры ясным сонцы
Праз колькі тыдняў праглынуў лугі.

## ЛЕГЕНДА ПРА МЁРТВАГА САЛДАТА

Калі чацвёртай ваеннай вясной
Мір нешта настаць не мог,
Нямецкі салдат зрабіў вывад свой
І смерцю геройскай лёг.

Вайна ж не канчалася. Кайзер тут
Сур'ёзна пачаў шкадаваць,
Што вось — салдату прыйшоў капут,
А трэба ж далей ваяваць.

Калі ўжо лета ўзялося як след
І спаў салдат між тла,
Уночы неяк вайсковая мед-
камісія прыйшла.

Гурмою вайсковыя дактары
К магіле падышлі.
Салдата выкапалі яны
Асвенчаным шуфлем з зямлі.

Учынены зноў салдату таму
(Ці рэшткам яго) медагляд,
І пішуць «да службы прыдатны» яму,
І што дэзерцір быў салдат...

Яны забралі салдата з сабой,
А ўночы так слаўна было:
Хто быў без каскі, той бачыць мог
Зор бацькаўшчыны святло.

У цела струхлелае ўлілі
Пякучага шнапсу карцом...
З ім пад руку дзве сястры ішлі,
Жанчыны — амаль гальцом.

Паколькі ж смярдзеў гніллём салдат,
Пусцілі папа перад ім:
Кадзілам ён водзіць уперад і ўзад —
Смуроду не ўнюхаць праз дым...

Аркестр выбівае «бум-тарарах!» —
Бравурны марш, і салдат
Выкідвае ногі спрытна так
І роўна трымае зад.

І два санітары тупаюць тут,
Трымаючы моцна яго, —
Каб раптам ён не пляснуўся ў бруд.
То быў бы скандал, о-го-го!

Тры фарбы імперыі на саян
Нанесеныя былі,
Каб людзі (крый Божа!) ўбачыць гнілля
З-пад фарбаў тых не змаглі.

Там бюргер — крухмальны перад і фрак —
Таксама маршыраваў:
Ён добра свой абавязак, як
Сапраўдны немец, знаў.

Хоць ледзьве трымаўся салдат на нагах,
Ды гэты паход яго пёр
Па цёмнай шашы пад «бум-тарарах»,
Нібы сняжынку віхор.

Сабакі й каты ў захапленні крычаць,
Натхнёна пішчаць пацукі:
Ніхто французам не хоча стаць,
Бо гэта ж сорам такі!

Выходзілі ў вёсках жанчыны да іх
Амаль з кожнага двара,
Схіляліся дрэвы, месяц свяціў,
І ўсе раўлі: «Ур-ра!»

Зноў марш развітальны, «бум-тарарах»,
Сабакі, папы, жанкі...
А недзе ў сярэдзіне — мёртвы салдат,
Бы п'яны гібон які.

Калі салдата па вёсках вялі,
Ён ледзь віднеўся ў радах,
Бо ўсе навокал «ура!» раўлі
Пад гучны «бум-тарарах!».

Наўкол, атачыўшы салдата таго,
Спявалі, скакалі яны —
Салдата відаць яшчэ зверху было,
Ды там — толькі зоркі адны...

Не вечна ім ззяць. Вось прыходзіць час,
Фарбуецца неба зарой,
І зноўку завучаным крокам салдат
Ідзе паміраць, як герой.

*ХЭРЫТ АХТЭРБЕРХ*
*(1905—1962)*

## ГЛОБУС

Сеткаю — зоры ўверсе,
ўнізе — мерыдыяны.
І паралелі шчыльна
клеткамі перапляліся
ці павуціннем моцным.
Я не магу з тых ліній,
звязаных, быццам вузел
жылаў, ці струн, ці нерваў,
вырвацца, як з палону, —
выйсця шукаю з жахам...
І ад мяне раптоўна
ты пайшла Млечным Шляхам.

*ГЮНТЭР ГРАС*
*(1927)*

## АРФЕЙ

Я тады прылічваў сябе да публікі
і заняў быў месца ў семнаццатым радзе.
Так, трымаючы ў руках праграмку,
я нарэшце дачакаў антракту:

капельмайстра ўсяго я пакрэмзаў,
раялю ўрэзаў па пысе і выбіў флейце
вока; і бубны запоўніў свінцом — чым жа яшчэ?
Трэба было выстрыгчы валасы ў паловы ўсіх інструментаў.

Хто тады сарваў працяг майго прадстаўлення?
Білецёры адчулі сілу,
кідалі мне скрыпкі, пластроны кашуляў,
у чорна-белую, як ноты, лінейку.

Арфістка, хоць яна і жанчына,
над мною схілілася, у міласэрнай сукенцы.
Я так захапіўся ейнымі струнамі,
што паразумяваюся цяпер адно на мігі:

мілагучнасць, я не чую цябе, мне нельга
прасіць яе праграмкі.

*ТОМАС ЁСТА ТРАНСТРОМЕР*
*(1931)*

### ШТОРМ

Раптам дуб вандроўніку напаткаўся
Старажытны — як лось скамянелы ў кароне
Перад крэпасцю вераснёўскага мора
    Чорна-зялёнай.

Шторм паўночны. Пара, калі ў арабінаў
Гронкі вянуць. І той, хто не спіць уночы,
Чуе тупат сузор'яў у стойлах высока
    Па-над тым дрэвам.

### ВЕЧАР – РАНАК

Мачта поўні згніла, скамечаны ветразь.
Кірля п'яная прэч над вадой памкнула.
Ўвесь абвуглены ў моста язык. Змаглося
    Ў цемры кустоўе.

Прэч па сходах. Золак грукае ў браму
Мора б'ецца ў граніт. Сонца чутно паблізу.
Багі лета ў смузе, што вісіць над морам,
    Вобмацкам ходзяць.

## АДАМ ГЛОБУС

**(1958, Дзяржынск)**

Пісьменік, выдавец, мастак, сын празаіка Вячаслава Адамчыка. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1983), быў мастаком-рэстаўратарам і аздобнікам, працаваў у часопісе «Крыніца» падчас яго росквіту і ў часопісе «Бярозка» падчас яго заняпаду. Цяпер галоўны рэдактар уласнага выдавецтва, якое спецыялізуецца пераважна на расейскамоўнай літаратуры. Працуе ў розных жанрах, убачылі свет больш за дзесятак кніг паэзіі, прозы, кантамінацый. Паэту Глобусу, хоць нарадзіўся ён у Койданаве, блізкі урбаністычны пейзаж. Нашай літаратуры, што наскрозь прапахла «сенам на асфальце», быў патрэбен горад — з гарадскімі гукамі, галасамі і пахамі. І Глобус стаў ягоным летапісцам. Але пісаў не «ў змрочнай келлі перад вузенькім акном», як лірычны герой М. Багдановіча, а на стадыёне, на адзетых у камень набярэжных Свіслачы, у парках з атракцыёнамі і ў спальных мікраraёнах. А тым часам на гарадскім бруку вырасла новае пакаленне чытачоў урбаністычнай літаратуры, пакаленне, што палемізуе на інтэрнэт-форумах і энергічна-настойліва збеларушвае сусветнае сеціва... Перакладамі Глобус не захапляецца, перакладае рэдка. На жаль, паслядоўнікаў першага беларускага японазнаўцы І. Гашкевіча ў Беларусі няшмат, і японскую паэзію даводзіцца спасцігаць у расейскіх перакладах В. Маркавай, якая, дарэчы, нарадзілася ў Менску і з якой А. Глобус сустракаўся ў Маскве (і нават падараваў слоўнік І. Насовіча — каб «успаміналa» мову свайго дзяцінства). Таму кожная спроба перакладу японскіх паэтаў, хай сабе і па падрадкоўніку, заслугоўвае ўвагі (гэта што датычыць змешчанага ніжэй Сікі).

*МАСАОКА СІКІ*
*(1867—1902)*

## ХОКУ

Тупнула цяля —
Ляжыць расціснутая
Жоўтая жабка.

* * *

Якая спёка —
на пясчанай сцяжыне
матылёк засох.

* * *

Забіў камара —
кропля свежай крыві на
кнізе пра вайну.

*ВЕРА МАРКАВА*
*(1907—1995)*

* * *

Адны з нас былі кроквамі —
Надзейнымі бязмоўнымі бярвеннямі.
Другія —
Клапатлівыя шыбы —
Пырскалі сонцам,
Звінелі ад ветру.
Гэты быў павутою ў кутку,
Той, наадварот, венікам гаспадыні:
Каламутнае воблака пылу ўздымаў
Ды вядзьмарку насіў, калі загадаюць.
А я — я была... пячны комін.
Дом згарэў, а комін застаўся.

* * *

Бывайце, нетры,
Звяры, бывайце,
І трыснягом апераныя рэчкі,
І рыбіны, што ў панцыры героя!

Бывайце,
Капыты-малатабойцы
І некранутыя рукою
Смочкі маліны...

*ТАМАЗ БАДЗАГУА*
*(1958—1987)*

## ІМЖА

Я слухаю маўчанне цемры й ночы,
Як слухаюць — ці дыхае нябожчык.
Расплюшчваю спалоханыя вейкі...
Гучанне музыкі далёкай, боскай
Ахутвае, агортвае мяне... Імжа...
Стаіўшыся ў няўстойлівасці вадкай,
Пад коўдрай сноў хаваю галаву.
Нямеюць чорныя начныя крылы.
У шапаценні кропель адчуваю —
Як пацяжэла ў цемрадзі душа;
І халадэчы слізкай і смяротнай
Душа набрала, што шынель салдацкі.
Смерць сыплецца з бязмежных нетраў ночы,
Мелодыяй плыве ў маю істоту,
Як рабаўнік ідзе ў бязлюдны горад.
І гэтыя імгненні азначаюць,
Што засталася нейкая прастора —
Нябачная дыстанцыя да смерці...
У гэтыя здранцвелыя імгненні
Плыве мой цень-тапелец па калюгах,
Знікаючы, ўзнікаючы ў пакутах...
Бывай, імжа!
Ты гукамі тужлівасці прывабнай
Вяла мяне да павароту ў пекла,
Прымружвала санлівасцямі вейкі,
Змывала след са шляху існавання...
Была імжа.

## ЗВАРОТ ДА ГАМЛЕТА

Успамінаю — як, згубіўшы слёзы,
Сядзелі мы на дрэве спілаваным,
Паклаўшы рукі на кару сухую;
А потым нетаропкаю хадою
Па могілках, што ажылі, гулялі,
Нібыта па сталічным па гатэлі.
Хадзіў над намі срэбна-шэры вецер,
Іртуццю абліваючы магілы.
Я гаварыў табе: — Мой дружа, Гамлет,
Наш Бог мяне сюды прыйсці прымусіў,
Каб я сачыў нястомна за табою:
Глядзеў, што робіш, слухаў, што гаворыш...
Мае збалелыя, заплюшчаныя вочы,
Засыпаныя пылам і жарствою,
Не бачылі нікога і нічога,
Мае збалелыя, заплюшчаныя вочы,
Засыпаныя пылам і жарствою.
...І я заплакаў, бо зліліся нашы душы.

Твой погляд нарадзіўся ў чорнай цемры,
З хаосу выйшаў прамяністым ззяннем
І адчыніў майму імкненню дзверы.
Я тут стаяў і першы подых страсці
Падараваў маладзіку і ночы.
О Гамлет, гэта я ішоў па следзе
Тваёй слязы, ступаў, згубіўшы вочы,
Як да ахвяры падыходзіць воўк галодны.
Я зразумеў ад самага пачатку —
Той след слязы, што па шчацэ ляцела, —
Твой шлях, бо і мая свядомасць
Займела шнар недатыкальны ў сэрцы.

## РЫГОР СІТНІЦА

**(1958, в. Курыцічы Петрыкаўскага р-на)**

Мастак-графік, чый паэтычны дэбют хоць і адбыўся запознена (у 2001-м), але запомніўся добра скроенымі, выспеленымі радкамі. Атрымаўшы дыплом Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, з 1983 г. выкладае ў менскім Каледжы мастацтваў. Удзельнік шматлікіх выставаў у Беларусі і за мяжой, акадэмік Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва. Рыхтуе да выдання паэтычны зборнік. Пераклады Сітніцы з расейскіх класікаў не нагадваюць вывернутыя на ліхі бок габелены, наадварот, у іх адчуваецца магутная энергія першатвора.

*ІВАН БУНІН*
*(1870—1953)*

* * *

У птушкі ёсць кубло, у звера ёсць нара.
    Было так цяжка сэрцу маладому,
Калі сыходзіў я з бацькоўскага двара,
    Сказаць «даруй» дзяцінства дому!

У звера ёсць нара, у птушкі ёсць кубло.
    Як б'ецца сэрца змучана і часта,
Калі ізноў брыду ў наёмнае жытло
    Я са сваёй ужо падранай кайстрай.

*УЛАДЗІСЛАЎ ХАДАСЕВІЧ*
*(1886—1939)*

### СУТОННЕ

Снег паваліў. Усё сціхае, глохне.
Пануры цягнецца уздоўж завулка дом.
Вось чалавек ідзе. Мо ткнуць яго нажом —
Прытуліцца да плоту і не вохне.
Пасля спаўзе на дол — не чалавек ужо.
І ветру уздыханне снегавое,
І ледзве ўлоўны вечаровы дым —
Як вестуны дзівоснага спакою —
Кружляць і танчыць будуць па-над ім.

А людзі чорныя збягуцца мурашамі
З двароў і з вуліцаў і стануць паміж намі.
Распытваць будуць, — як, за што забіў, —
Не ўцяміць аніхто, як я яго любіў.

*УЛАДЗІМІР НАБОКАЎ*
*(1899—1977)*

**ДА РАДЗІМЫ**

Час начы, — каб думаць, і курыць,
і скрозь дым з табою гаварыць.

Ціша... Цемра шоргае, як мыш.
Я не сплю і недзе ты не спіш.

У грудзях намацваю я косць:
родны край, яна тваёю ёсць.

Твой абшар, што жывіць кроў маю,
вершамі табе я аддаю.

Даланя мая сярод начы
здолела агмень твой зберагчы.

Ступакоў сумуюць мазалі
па тваёй пранізлівай зямлі.

І ўсё цела — толькі вобраз твой,
а душа — як неба над Нявой.

Пакуру, і лягу, і засну,
і адчую зноў тваю вясну:

ганак дома, памятны дубок,
расчасаны граблямі пясок.

*АРСЕНІЙ ТАРКОЎСКІ*
*(1907—1989)*

* * *

Учора ад ранку чакаў я цябе...
Яны здагадаліся — ты не прыйшла.
Ты помніш, якая была цеплыня?
Бы ў свята, й выходзіў я без паліто.

А сёння прыйшла, і зрабілі для нас
Якісь асабліва засмучаны дзень,
І дождж, і задужа запознены час,
І кроплі сцякаюць з халодных галін.

Ні словам суняць, ані ўцерці рукой.

*ДАВІД САМОЙЛАЎ*
*(1920—1990)*

## ГРАКІ ПРЫЛЯЦЕЛІ

Стаялі яны ля карціны:
Саўрасаў. «Гракі прыляцелі».
Было ў ёй сваё, дарагое.
Сыходзіць ніяк не хацелі.

Узнікла патроху размова,
Раз выйшла на тое прычына.
— Саўрасаў. «Гракі прыляцелі» —
Харошая вельмі карціна.

Мужчына быў, пэўна, самотнік,
І чарку, відаць, не адрыне.
Яна — праставатая з твару,
Са шчасцем сваім не ў сябрыне.

Яе ён праводзіў дадому.
Быў вечар надзіва марозны.
Яна яго мо й запрасіла б,
Ды вэрхал у хаце і позна.

Ён сам напрасіўся на госці
Пазаўтра на кубак гарбаты.
— У нас з вамі ў густах мастацкіх
Агульнага дужа багата.

Свой кут дзеля сціплай бяседы
Два дні яна церла і мыла.
Пайшла на апошнія грошы
Ружовенькі торцік купіла.

І вось засталося прыбрацца
І тую паштоўку павесіць —
«Гракі прыляцелі». Гатова.
Сем, восем. І дзевяць. І дзесяць.

Сем, восем, і дзевяць, і дзесяць.
Чакала, журылася дужа
І колькі змахнула слязінаў
На торцік з ружоваю ружай.

Сябе яна не шкадавала,
Свой сум выпраўляючы з дому;
Падумала: «Бедненькі торцік,
Вось ты й не патрэбны нікому.

Напэўна, запіў. Ці забыўся...
Вядомая справа — мужчына».

А ўсё-ткі «Гракі прыляцелі» —
Харошая дужа карціна.

*АНДРЭЙ ВАЗНЯСЕНСКІ*
*(1933)*

**САГА**

Ты мяне на світанку пабудзіш,
правядзеш басанож і заплачаш.
Ты ніколі мяне не забудзеш.
Ты ніколі мяне не пабачыш.

Захінуўшы цябе ад прастуды,
захлынуся малітвай гарачай:
«Я ніколі цябе не забуду.
Я ніколі цябе не пабачу».

Гэту рэчку, дзе хвалі-маруды,
гэты горад, знаёмы да болю,
я ніколі ў жыцці не забуду
і не ўбачу цяпер аніколі.

Не міргаюць, слязяцца пад ветрам
вішні воч, набрынялыя плачам.
Што ж, вяртацца — благая прыкмета.
Я ніколі цябе не пабачу.

І калі на зямлі гэтай грэшнай
будзем зноўку мы з Божае волі,
мы з табой размінемся, канешне.
Я цябе не пабачу ніколі.

І такім яно будзе мізэрным,
наша неразуменне з табою,
перад будучым неразуменнем
двух жывых з нематой нежывою.

І ў знямелым, пустым наваколлі
бессэнсоўныя словы заблудзяць:
«Я ніколі цябе не забуду,
я цябе не пабачу ніколі».

* * *

Яшчэ хоць трохі дай пабыць мне так.
Запах тытунь, як патаемны знак;
Ад рамы цень — брэтэлькамі з плячэй,
Мне так хоць трохі дай пабыць яшчэ.
Дай мне хоць трохі так яшчэ пабыць, —
Не адыходзь памыцца ці папіць...
Як, Божа, твой дабраславёны край,
Яшчэ хоць трохі так пабыць мне дай.

## АЛЕСЬ ЧОБАТ

**(1959, Скідзель)**

Закончыў факультэт тэхналогіі арганічных рэчываў Беларускага тэхналагічнага інстытута (1981). Працаваў на Гарадзенскім заводзе аўтамагнітолаў, інжынерам на вытворчым аб'яднанні «Азот», займаўся палітыкай і журналістыкай, працаваў у Музеі Максіма Багдановіча ў Горадні. Аўтар паэтычных кніг «Год», «Новая Галілея», «Тутэйшая сага» ды інш. Выступае як публіцыст і эсэіст, у тым ліку на старонках польска-беларускага месячніка «Czasopis», што выходзіць у Беластоку. Любіць пісаць на «крэсавыя» тэмы, для перакладаў абірае таксама нешта *тое*, блізкае тэматычна. Напрыклад, паэзію народжанага на Віленшчыне Чэслава Мілаша, чыю вялікую падборку — 50 вершаў — апублікаваў у гадавіку «Annus Albaruthenicus — 2005». Выключэнне хіба — выбраная паэзія Караля Вайтылы (пазней Рымскага Папы Яна Паўла II), перакладзеная разам з Д. Бічэль.

*ЧЭСЛАЎ МІЛАШ*
*(1911–2004)*

### ТОЕ

Каб, нарэшце, здолеў сказаць, што сядзіць ува мне.
Каб мог выкрыкнуць: людзі, хлусіў вам,
Калі казаў, што такога ўва мне няма,
Бо ТОЕ ўва мне заўжды, днём і ноччу.
Хаця дзякуючы, таму
Умеў я апісваць вашыя месты, што так лёгка гарэлі,
Вашыя кароткія каханні і забавы, рассыпаныя ў порах,
Пярсцёнкі, люстра, брэтэлька спадае з пляча,
Сцэны ў спальнях, у падваротнях, на мардабоісках.

Пісанне было для мяне стратэгіяй абароны,
Замятаннем слядоў. Бо не можа падабацца такі, як я,
Хто цягнецца дасягнуць забароненага.

Клічу на дапамогу рэкі, у якіх купаўся,
Азёры з кладкай паміж чаротам, даліну,
У якой рэха песні паўтарае вечаровае святло,
І прызнаю, што мае экстатычныя пахвалы існаванню
Маглі быць толькі практыкаваннямі высокага стылю,
А пад сподам было ТОЕ, чаго назваць не насмелюся.

ТОЕ падобна да думак бяздомнага, што ідзе
праз марознае, чужое места.

Падобнае да імгнення, калі жыд у аблаве бачыць,
як набліжаюцца цяжкія каскі нямецкай жандармерыі.

ТОЕ — гэта калі сын караля выпраўляецца ў горад
і бачыць сапраўдны свет:
галоту, хваробы, старасць і смерць.

ТОЕ можа быць параўнана з нерухомым тварам таго,
хто зразумеў нарэшце, што пакінулі яго назаўжды.

Альбо са словамі лекара, што прысуд не падлягае адмене.

Бо ТОЕ — гэта ўсё роўна як наткнуцца на каменны мур
і зразумець, што мур не адступіць
ні перад малітвай, ні перад плачам.

## ПА ЎСІМ

Асыпаліся з мяне погляды, перакананні, вераванні,
ацэны, пастулаты, прынцыпы,
правілы, звычкі.

Ачомаўся голы на ўскрайку цывілізацыі,
падалася яна мне камічнай, незразумелай.

Скляпенні паезуіцкай Акадэміі,
дзе калісьці набраўся навукі,
не былі б задаволеныя мной.

Хоць яшчэ памятаю
некалькі лацінскіх сентэнцый.

Далей цякла рака скрозь бары і дубровы.

Стаяў у траве да грудзей, дыхаў дзікім пахам
жоўтых кветак.

І аблокі. Як заўжды над гэтай зямлёй,
аблокі. Адны аблокі.
Толькі аблокі.

## АСОБЫ

Быў ён адзіным паэтам свайго малога народа.
Бо да яго ніхто не ўмеў закаручку на паперы паставіць.

Запісваў ён закляцці шаманаў і аповесці пра пачатак:
Пра нейкіх людзей, што нараджаліся з кветак

І мелі крылы, і тыя крылы былі крыніцай святла.
А на небе не было аніякага святла ўвогуле.

Потым з'елі яны знойдзены корань, спазналі грэх
І страцілі свае крылы, і зрабілася цемра.
Але прасілі яны, і на просьбу тую зрабілі ім сонца і месяц.

Думаў ён: што ж перакласці на сваю мову?
Гамера? Біблію? Маркіза дэ Сада? Рыльке?

Альбо толькі скласці гімн свайго народа
Ды выдумаць штандар з выявай мядзведзя.

*ЮСІФ БРОДСКІ*
*(1940—1995)*

## ЛІТОЎСКІ ДЫВЕРТЫСМЕНТ
*Фрагменты*

*Томасу Венцлова*

### IV. ГЕРБ

Забіўшы цмока, святы Юры
імчыць без дзіды скрозь віхуры.
Ад алегорый — толькі меч
і конь пры ім. З іх дапамогай
паскуду чорнаю дарогай
з мяжы літоўскай гоніць прэч.

Каго ж, меч сціснуўшы ў далоні,
пасекчы прагне?! Сэнс Пагоні
за тарчай пыл дарожны скрыў.
Каго? Гяура? Злыдняў племя?
Сусвет?! Ну, калі так — не ў цемя
вялікі Вітаўт біты быў.

### V. AMIKUM-PHILOSOPHUM DE MELANHOLIA MANIA ET PLIKA POLONIKA*

Бяссонніца. Жанчыны частка. Шкло
рэптылій слізкіх, што паўзуць на сцюжу.
Шаленства дня праз мозг мой працякло
ў патыліцу — і там зрабіла лужу.
Ледзь варухніся — боль залье нутро.
Як быццам нехта ў ледзяную жыжу
макае сваё вострае пяро
і па складах выводзіць: «не-на-ві-джу!»...
Па пропісу, дзе толькі след крывы
закругліны і дзе жанчына ў крэмах,
як пальцы да вашывай галавы,
пускае ў вушы словы вечнай тэмы...
І ў поцемках ты голы і адзін —
як Задыяка знак сярод ільдзін.

### VI. PALANGEN

Толькі мора на неба глядзіць.
Толькі мору не страшна.
Чалавек з белай дзюны
на свет пазірае.
Адкідвае галаву
і пацягвае з пляшкі.

* Сябру-філосафу пра манію, меланхолію і польскі каўтун, альбо Трактат XVIII ст. з бібліятэкі універсітэта ў Вільні.

Як былы кароль,
які даў сябе выгнаць з краю.

Дом зрабаваны.
Атары і статкі пабралі.
Сына хавае пастух у цемрах пячоры.
А перад ім —
толькі край зямлі і салёныя хвалі.
Але ж веры замала,
каб перайсці гэта мора.

VII. DOMINIKANAJ

Пакінь смурод і грукат месца —
завулкам ціхім час ступаць
між дворыкаў, глухіх і цесных,
зайдзі ў касцёл, на лаўку сядзь
і там, ад пылу залатога
калі падступіць горлам плач,
ўдыхні святло ад Пана Бога
і ціха выдыхні: — Прабач...

## ВЕРШЫ ПРА ЗІМОВУЮ КАМПАНІЮ 1980 ГОДА

*Паўдзённай спёкаю ў даліне Дагестана...*
*М. Лермантаў*

I
Хуткасць кулі пры нізкай тэмпературы
залежыць ад тоўшчы мішэні, якую наскрозь прашые,
ад свайго імкнення сагрэцца ў мускулатуры
цела і ў хітрых спляценнях шыі.
Камяні, як другое войска, ляжаць павалкай,
цені ў суглінак ціснуцца міма ўласнае волі,
а неба сыплецца ў вочы, як пякучая вапна,
самалёт нябачны падобны да гнюснай молі,
і спружынай з распоратага трыбуха матраца
ўзнімаецца выбух — і гідлівая ў варонцы з лужай
не можа кроў, як малако на пліце, расцякацца
і камянее скарынкай, апаленай чорнай стружкай...

II
Пастух і Сейбіт з Поўначы гоніць статак
да Мора, на Поўдзень, распаўсюджвае холад.
Ясны марозны дзень у далінах Чучмэкістана.
Механічны слон задзірае хобат
перад чорнаю мышкай міны пад снегам,
горла рыгае снарадам, страхам і змерзлай,
адзінай думкай, пазычанай у Магамета:
каб гару праклятую зрушыць з месца!
Снег ляжыць на вяршынях. З нябеснага склада
шчодра сыплецца сухі паёк на прыбытак.

Горы не рухаюцца... І без усялякага блату
аддаюць сваю нерухомасць трупам забітых!

III
Сумныя, нудныя песні славяніна
ў Азіі вечарам. Мерзлая і гнілая
азызлая чалавечая свініна
ляжыць на падлозе караван-сарая.
Кізяк дыміць. Ад холаду ногі чорныя, як вуглі.
Смярдзіць анучамі, потам, забытай лазняй.
Сны аднолькавыя — як шынялі.
І больш казённых набояў, чым успамінаў уласных.
А ў роце — ад частых «ур-ра!» асадак...
Слава тым, на каго суседкі плявалі,
што рабілі аборты ў шасцідзесятых
і Айчыну ад сораму ратавалі!

IV
Што пачуеш ты ў гуле чмяля над вішняй?
А што ў гуле лятаючага апарата?

Жыць зрабілася нават цяжэй, чым выжыць...
Цяжэй, чым будаваць бліндаж з лазы вінаграду.
Цяжэй, чым з мараў — хмарачосаў ансамблі.
Свет разлятаецца, як ветрам падзьмула:
сем'і, прыватныя думкі, саклі...
Над руінамі чужога аула
ноч. Пад сябе спускае мазутам
нават жалеза, а месяц ад жаху,
што яго ўтопяць у боце разутым,
хаваецца ў хмару, як у чалму Алаха.

## АЛА КАНАПЕЛЬКА

**(1960, в. Небытаў Хойніцкага р-на)**

Закончыла Лоеўскую педвучэльню і філфак БДУ (1983). Працавала метадыстам у сталічным Доме літаратара, у рэдакцыі тыднёвіка «Беларускае тэлебачанне і радыё». Гады два была галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца»,ператворанага пасля яе сыходу ў малапатрэбны «Славянскі свет». Сярод арыгінальных паэтычных кніг А. Канапелькі — «Цвет алешыны» (1985) і «Летазлічэнне» (1999), сярод перакладных — арабскія казкі «Тысяча і адна ноч» (1998).

*МАГДА ІСАНАС*
*(1916—1944)*

### ГІМН СОНЦУ

Адна была я. Згадваю бяскрайні змрок,
Я цела ўтоптвала халоднае ў пясок.
А час ішоў, нібыта ў сне.
І Сонца — грозны бог — зірнула на мяне.

Я паднялася, з плеч упала мгла,
І я ўрачыста выдыхнуць змагла:
«Хвала табе,
Сонца!»

Услед зямныя нетры і палі,
Вясёлкі, зоры голасна вялі:
«Няма табе раўні сярод багоў!»
Хвала плыла з усіх бакоў...
Я, абяссілеўшы, свой скіравала зрок
Туды, дзе прахаладай веяў змрок.
І ўслед за мною розныя плады
Ад зыркага святла гарнуліся туды.

Сляпыя мы. Святая плоць і кроў,
Пражыўшы ноч, жадаюць ночы зноў.
О Сонца! Не глядзі, мы — прах зямны!
Мы прараслі з вялікае віны...
Так светлы гімн маленнем стаў,
Яго ў нябёсы кожны слаў.
...Даліны добрыя ў разлогах тумаоў,
Калі не стала ні малення і ні слоў,
Прымалі нас, люлялі, як маглі, —
І, невідушчыя, спявалі ў моры мглы.

*ГАНАД ЧАРКАЗЯН*
*(1946)*

## ГАРА СМЕРЦІ

Кажуць,
на гэтай гары
і цяпер па начах
свецяцца агеньчыкі;
кажуць,
на вяршыню гары
па крутых і панурых схілах
падымаліся ўцекачы,
ратаваліся ад нашэсцяў —
грэліся каля вогнішчаў сівернымі начамі...
Я неаднойчы ўзыходзіў на гэтую вяршыню
і шукаў сляды вогнішчаў,
але знаходзіў адны камяні
ды мох векавы...
Кажуць,
гэта воўчыя вочы
блішчаць па начах на вяршыні гары.
Магчыма, гэта праўда,
магчыма, усё іначай:
блукаюць начамі агеньчыкі —
то вочы ваўкалакаў,
здзічэлых заваёўнікаў,

якія жывуць да гэтага часу
на захопленай імі вяршыні,
а народ мой
спусціўся навечна ў даліну...

## ВІКТАР ШНІП

**(1960, в. Пугачы Валожынскага р-на)**

«На рыштаванні ўзняўся Шніп, а вершы просяць: вышыні б!» — гэтак эпіграмай Р. Барадуліна засведчаны цяслярскі перыяд у біяграфіі Шніпа (1978—1985). Цяслярыў паэт, не давучыўшыся ў Менскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, потым паехаў у Маскву на Літаратурныя курсы, дзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Л. Рублеўскай. Пасля вяртання працаваў у рэдакцыях «Беларусі», «Нашага слова», «ЛіМа». Цяпер — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар дзесяці паэтычных зборнікаў, сярод якіх «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках храма» (1994), «Чырвоны ліхтар» (2000). У ролі перакладчыка выступае рэдка, мэтанакіравана перакладаў хіба для анталогіі У. Мархеля «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай» (1998). Польскамоўныя паэты Беларусі ды нешматлікія творцы з былых савецкіх рэспублік — вось і ўвесь наробак Шніпа ў перакладным жанры. Змешчаныя ў анталогіі трохрадкоўі балгарына К. Раймундава зробленыя на пару з А. Пісьмянковым.

*ІНГВАРС ЯКАЙЦІС*
*(1949)*

### КАКТУС

Хто цябе у тлуме адшукае,
Сумная жанчына без дзяцей?
У кватэру цішыня глухая
Не адчыніць склыглівых дзвярэй.

Летам сонца заварожаць хмары,
І ў гаях пачнецца лістапад.
Пра дзяцей пачнеш ты ціха марыць.
Дзён мінулых не вярнуць назад.

І аб часе страчаным — штовосень —
Пульс уласны будзіць успамін,
І ніякі лекар тут не ў змозе
Шчасця даць хаця б на пяць хвілін.

Над вадою кладка, як калыска,
І крычыць дзіця. Губляеш сон.
Грэцца да агню падыдзеш блізка,
І патухне нечакана ён.

У пустой кватэры ты начуеш,
То не дом — кватэра у журбе.
Толькі, можа, кактус закрасуе,
Бы ў пустэльні, каб сагрэць цябе.

*АРКАДЗІЕ СУЧЭВЯНУ*
*(1952)*

## НАЧНЫ МАТЫЛЬ

Гэй, матыль, сваяк блакітных ліхтароў,
Ты пылок салодкі яшчэ носіш Богу,
І праз пекла, і праз рай твая дарога,
Дзе кастры палаюць у грудзях вятроў.

І табе лятаць усё цяжэй штолета
Побач зор, што век вартуюць цішыню...
Чысты, як святло, і цень зямны агню,
Ты сядзеў адзін на беразе сусвету.

Ды ўпрыгожылі цяжкім жалезам крылы —
Воскам веку гэтага, які не мёд.
Нават твой сур'ёзна ўзважылі палёт...

І цяпер жадаеш з усяе ты сілы
Бруд падняць у неба з людскае магілы
І затым у свечцы адпачыць хоць год.

## ВОСЕНЬСКІ ВІТРАЖ

Лістапад, нібыта сінтэз шэры...
Як бухгалтары, штодня вятры
Дастаюць, як з кашалька, з зары
Раніцы каштоўныя паперы.

І чарвяк у яблыку сягоння
Сонца стаў, нібыта віж, шукаць.
Тушыць свечку нейчая рука,
А ў мяне мяцеліца на скронях.

Грукае ў вакно хтось невясёлы,
І званы спалохана звіняць.
Каб сябе хутчэй заваскаваць,
Мёд у воск ператвараюць пчолы.

Адчуваю: снег ідзе у сёлы
Сумны і цяжкі, што не падняць.

*ГУНТАРС ГОДЫНЬШ*
*(1958)*

* * *

Яму ніколі нельга было казаць, што ў канцы.
Калі ўжо было позна і ўсе развіталіся,
ён заставаўся.
Калі выпадала ехаць у апошнім вагоне,
ён садзіўся за цягніком на рэйкі
і чакаў, калі цягнік пойдзе.

Яму ніколі нельга было казаць, што ў канцы.
Калі гаварылі пра другі бераг мора, смяяўся.
Калі паказвалі забітую птушку і гаварылі,
што яна забітая, ён
браў яе, і нёс на гару, і вучыў лятаць.
Яму ніколі нельга было казаць, што ў канцы.
Калі ў кніжцы, якую ён чытаў,
заставалася непрачытаная апошняя старонка,
ён пачынаў спачатку чытаць кніжку.
Калі доктар сказаў, што ён хутка памрэ, ён
ускрыкнуў і
нарадзіўся зноў.

* * *

ляціць дрэва ў маленькім
дробным зярнятку
яшчэ ў аблачыне пасееца

*КАЛІН РАЙМУНДАЎ*
*(1955)*

## ХОКУ

Ноччу галінка
паўтарыла мой голас —
надламілася

*

Калыхаюцца
дрэвы голыя ў начы —
зноў лес танцуе

*

Месяц — трэшчына
дзе галасы гняздзяцца
Рэха гулкае

*

Серабрысты піск
Вароты лістапада
не я зачыніў

*

Птушка кіпцюры
у рыбіну загнаўшы
знікае ў хвалях

*

Верасень з ветрам
Хвалі зацвілі белым
Восень сінее

*

А паэзія —
кашуля для вар'ятаў
Рука дыміцца

*

Нібы кажаны
на маім твары вісяць
аблокі ўначы

## ЮРАСЬ ЖАЛЕЗКА

**(1961, Менск)**

Выпускнік Лінгвістычнага універсітэта. Працуе перакладчыкам у Нацыянальнай Акадэміі навук. Пераклады з французскай друкаваў у гадавіку «Annus Albaruthenicus», які выдае ў Крынках на Беласточчыне С. Яновіч. Мусім спавясціць чытача: у арыгінале верша В. Гюго больш радкоў, чым атрымалася ў Жалезкі. Дарэчы, у іншым вядомым нам перакладзе верша «На барыкадзе» — С. Ліхадзіеўскага — колькасць радкоў гэткая самая, як у першатворы. І ўсё ж змяшчаем тут варыянт Жалезкі, які, на нашу думку, больш паэтычны. Што да скаротаў, то яны ў перакладчыцкай практыцы хоць нячаста, але здараюцца: прыкладам, А. Пушкін падкараціў вядомую баладу А. Міцкевіча «Ваявода» на дзве страфы.

*ВІКТОР ГЮГО*
*(1882—1885)*

### НА БАРЫКАДЗЕ

На барыкадзе, сярод камянёў,
Чырвань крыві зіхаціць ад агнёў
Сонца. Ды хлопчык, гадоў дванаццаць.
Ён побач з тымі прыйшоў змагацца,
Што тут палеглі. — І ты з імі разам?
— Так! — Нечакана цвёрдым адказам
Здзіўлены быў афіцэр. — Будзе так.
Памрэш разам з імі. Рыхтуйся. — На знак
Грымнулі стрэлы, і хлопец глядзеў
На тых, што пад мурам каналі, людзей,
Ягоных паплечнікаў. Раптам з пытаннем
Да афіцэра: — Дазвольце мне маме
Гэты гадзіннік занесці, — звярнуўся.
— Вырашыў збегчы. Глядзіце! — Вярнуся.
— Баіцца ўсё ж! Дзе ты жывеш? — Ля фантана,
Вунь там. Я вярнуся. — Адказ капітана
Быў гучны: — Выносся, паганец, хутчэй!
І хлопец пабег. — Мог прыдумаць хітрэй! —
І стогны ўміраючых раптам пакрыў
Жаўнерскага рогату выбух. Ён быў
Аднак непрацяглы. Вяртаўся бо той,
Што бледны йшоў, кроку аднак не спаволіў,
Ды, стаўшы ля муру, рашуча прамовіў:
— Я тут!

І ў сораме смерць адступіла,
І афіцэр скасаваў свой прысуд.

*ВОЛЬФГАНГ БОРХЕРТ*
*(1921—1947)*

* * *

Калі вайна скончылася,
Жаўнер прыйшоў дадому.
Але ў яго не было хлеба.
Калі ён убачыў чалавека,
У якога быў хлеб,
Ён яго забіў.
— Ты не можаш і не павінен
Забіваць людзей, —
Сказаў суддзя.
— Чаму не? —
Спытаў жаўнер.

## ЮРЫ КІСЯЛЕЎСКІ

**(1961, Горадня)**

Выпускнік Гарадзенскага медінстытута, дзе і працаваў на кафедры біяхіміі. Адзін з аўтараў зборніка «І надзея, і лёс, і ўспамін» (1988), якім запачаткавалася бібліятэчка часопіса «Маладосць». На жаль, больш падрабязныя звесткі пра паэта складальніку гэтай анталогіі не натрапіліся.

*ГАЙНРЫХ ГАЙНЭ*
*(1797—1856)*

### ВАЛТАСАР

Паўночны час даўно прабіў,
І ў цішы Вавілон спачыў.
Адзін палац шумеў, як днём,
І вокны ззялі там агнём.
Людзьмі кішэў яго абшар:
Там пір даваў цар Валтасар.
Баяры ў строях з серабра
Ўздымалі кубкі за цара,
Лісліва пелі з-за стала:
«Цару пашана і хвала!»
Знайшоў адвагу ў кубку цар,
Пачырванеў ягоны твар.
Каб моц сваю ўсім паказаць,
Пачаў ён бога праклінаць
І перад радаснай гурмой
Хваліўся дзёрзкасцю сваёй.
Паклікаў цар слугу свайго,
У храм Яговы шле яго.

І той прынёс да ног цара
Каштоўны посуд з алтара.
І цар блюзнерскаю рукой
Віном запоўніў посуд той.
Да дна ён кубак асушыў
І ўголас дзёрзка абвясціў:
«Ягова! Твой алтар ля ног!
Я ў Вавілоне цар і бог!»
Ледзь толькі скончыў свой праклён,
Спалох адчуў раптоўна ён.
Заціхлі смех і мітусня,
Настала ў зале цішыня.
О цуд! На белым тле сцяны
Руку заўважылі яны.
І на сцяне ад той рукі —
Агністых літараў радкі.
Аслупянеў цар Валтасар,
Дрыжаць калені, бледны твар.
Апанаваў баярства жах,
Глядзяць маўчком, жуда ў вачах.
Прызвалі магаў паглядзець —
Ды не, тых слоў не зразумець!
Калі ж змяніла ноч зара,
Рабы зарэзалі цара.

## *ЮЛЬЯН ТУВІМ*
*(1894—1953)*

* * *

Вас нельга адных пакінуць
Нават на паўгадзіны.
Што гэта? Хто паставіў? Да д'ябла штучкі свае!
Кажу вам: вышэй! направа! А гэта што, кпіны?
Адставіць кпіны ў маім атэлье!
Я вам!.. Дзе Дуглас? Ізноў сняданне?
Заўсёды і вечна сняданне.
Дуглас!!! Вось так. Бягом туды, дзе стаяў. Кажу, туды!!!
Цяпер паненка.
Ідуць... і шэпчуць... Цяпер замяшанне.
Цішэй. Цішэй! Ідзеш да адной з паненак, сюды.
А зараз — маланкай — раптоўна — кінжал!
І лямант. Удар. Блішчыць метал!
Натоўп, мітусня, штурханіна. І гром.
Выбух бомбы. І падае дом.

Білі! Увага. На цэнтр акурат.
Ну! Ну! Спазніўся. Быдла. Вяртай назад.
Ніхто
Нічога
Не разумее.

Дом разбіраем. Ствараем абшар.
Вуліца цягнецца быццам да мора.
Ферсен, увага! Жудасны месяца твар.
Цень навісае. Дуглас у кадры. Гора і змора.
А зараз у цемру ўплываюць чатыры срабрыстыя дамы.
І падае цень, як нож гільяціны! Вось так.
Не бомбу, а месяц мы кідаем! Разумееш? Не смейцеся, хамы!
Увага! Ачысціць пляцоўку. Білі, чакаеш на знак.
Маўчаць! «Сцэнарый, сцэнарый». Сцэнарый тут — я!
Жыццё — не для фільма, у ім я ману адчуваю.
Шукаю мастацкую праўду і свет — выпраўляю.
У гэтым справа мая!
Ствараем новую стужку!
Супер-гіпер-надархітвор!
Шэдэўр і ўзор!
Уключыце юпітэры!
Не трэба святла берагчы.
Знікла цемра. Мільярды, трыльярды свечак!
Цяпер я вас бачу, статысты і партачы,
Якія жыццё сапсавалі — цудоўную рэч — навечна!

Увага!
Мой новы сцэнарый
Будзе тым часам вельмі стары
І вельмі знаёмы,
Пан прадзюсэр ды іншыя ўладары
Могуць не турбавацца за грошы!
Мой фільм прынясе мільёны,
Як цалкам банальны сюжэт зрабіць не такім будзённым.
Пачынаем сёння.

Першая сцэна.
Адам і Ева.
Цень дрэва.
Жанчына не зводзіць з Адама вачэй.
Змей.
Гэта ўсё захаваем нязменна.
Гаворка. Яблык. Спакуса.
Імкненне насустрач.

Сцэна другая.
Поле ў цудоўнай вясновай акрасе.
Сонечны дзень. Авель старанна скацінку пасвіць.
Каін да брата свайго падыходзіць.
Спрэчка між імі, гарачыя словы,
Мовы няма аб міры і згодзе.
Каінаў твар —
Няўмольны, суровы.
Каін гатовы нанесці ўдар.
Ды раптам Авель уголас: «Братка!»
І тут — перамена. Нянавісць сціхае.
У новым фільме не адбываецца схватка.

Каін Авеля не забівае!!!
Каін цягне руку ў знак згоды.
Позірк ягоны празрысты
І чысты,
Бо ён зразумеў, што Авель — брат!
А вам зразумела гэта, статысты?

Трэцяя сцэна.
Каін з Авелем у кадры нязменна.
Разам богу прыносяць ахвяру.
Мараць.
Дуэт. Песня веры, любові, надзеі.
Спеў ляціць да нябёс і дужэе.
Стоп! Хто замінае? Які тэлефон?
А, пан прадзюсэр! Вітаю, паклон.
Што? Зразумеў. Пан не пацерпіць ніякага свінства.
Пану да сэрца сцэнарый забыты.
Пан патрабуе пакінуць злачынства.
Што? Не дачуў.
Бо іначай пан спыніць крэдыты!..

Ну, што ж... У гэтакім разе
Вернемся зноў да сцэнарнае фразы.
Як там было? На чым мы спынілі?
Жудасны месяца твар...
Цень навісае... Лямант... Удар...
Так ці не так? Ці аб тым гаварылі?
З вас той карысці на ломаны грош.
А! Здагадаўся!
Вось што забылі:
Бомба і нож!
Бомба і нож!
Бомба і нож!

## СЯРГЕЙ ШУПА

**(1961, Менск)**

Выпускнік ангельскага факультэта Менскага інстытута замежных моваў (1983). Працаваў у рэдакцыі перакладаў выдавецтва «Мастацкая літаратура», у Навуковым культурна-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, у адноўленай «Нашай Ніве» ў яе віленскі перыяд. У 1985-м разам з Л. Баршчэўскім стварыў у Менску перакладчыцкі клуб «Бабілён». Пэўны час жыў на вольным хлебе — перакладаў, рэдагаваў, карэктаваў і макетаваў кнігі, набіраў ноты і нават вырабляў кампутарныя шрыфты. З Вільні перабраўся ў Прагу, голас Шупы з 1997 г. можна пачуць на хвалях беларускай службы радыё «Свабода». Займаецца даследаваннем беларускіх перакладаў Бібліі — ад скарынаўскіх да самых найноўшых, гісторыяй станаўлення беларускай дзяржаўнасці — склаў і пракаментаваў «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі» (першыя дзве кнігі — па 900 старонак кожная — выйшлі ў 1998 г.). Пераклаў і своечасова выдаў кнігу В. Кіпеля «Беларусы ў ЗША» (1993). Змешчаны тут пераклад з Нобелеўскага лаўрэата ірландца Ш. Хіні на старонках «Нашай Нівы» быў падпісаны крыптанімам BKZ, што мела азначаць *Беларуска-кельцкі звяз*. У звяз уваходзіў яшчэ Я. Максімюк, які таксама прыклаў руку да збеларушвання ірландскай літаратуры — пераклаў «Уліс» Дж. Джойса.

*ШЭЙМАС ХІНІ*
*(1939)*

* * *

I
Звычайна ён піў сам з сабою,
Шурпатым вялікім пальцам
Паказваў на верхнюю паліцу,
Каб налілі яшчэ адзін ром
З чорнай парэчкай, — навошта
Без патрэбы падаваць голас —
Або на хаду замаўляў куфаль цёмнага,
Імітуючы жэстам, як дастаюць корак;
А калі зачынялі, выходзіў
У сваіх рыбацкіх ботах і кепцы
У непраглядную цемру дажджу,
Работнік без працы.
Пэўны ў сабе й хітраваты,
Няўклюдна тактоўны,
Рыбацкае пільнае вока
І чуйная спіна.

Ён ніяк не мог зразумець
Майго другога жыцця.
Часам, седзячы каля стойкі,
Заўзята шчыруючы з нажом
Над тытунёвым брыкетам,
У перапынку між чаркамі,
Ён заводзіў размову пра вершы.
Нам бывала добра ўдвох.
Баючыся падацца паблажлівым,
Я спрабаваў неўпрыкмет
Перавесці гаворку на вугроў,
Або на фурманскае рамяство,
Або на дзецюкоў з IPA.

Аднак мае хітрыкі
Ён адчуваў спінаю:
Яго разнесла ў шматкі
Нападпітку
Падчас каменданцкай гадзіны,
Праз тры ночы пасля таго, як забілі
Тых трынаццаць чалавек у Дэры.
СПЕЦНАЗ – БУЛЬБАШЫ 13:0 —
Было напісана на сценах
У тую сераду,
Калі ўсе затаілі дыханне.

II
То быў дзень халоднай
Золкай цішыні, узвеяных ветрам
Стыхара й сутаны:

Абсыпаныя дажджом і кветкамі
Труна за труною
Выплывалі з дзвярэй
Поўнай людзьмі катэдры,
Нібы кветкі па ціхай рацэ.
Супольнае пахаванне
Спавівала нас сваім палатном,
Абгортвала і стуляла.

Нішто не магло ніколі
Утрымаць яго ў хаце,
Як бы ні пагражалі ў тэлефоне,
Якія б чорныя сцягі ні вывешвалі.
Я бачу яго, як ён азірнуўся на выбух,
Раскаянне й страх, змяшаныя
На яшчэ пазнавальным твары.

«Вось ты, як лічыцца,
Адукаваны чалавек, — я чую,
Як ён пытаецца ў мяне. — А ну,
разгадай мне гэтую вар'яцкую загадку».

III
Я спазніўся на пахаванне,
Раніцой таго дня
Мяне ўзялі на ягонае судна,
Вінт вуркатаў, месячы ў бель
Леныя воды пад кілем,
Я каштаваў з ім свабоду.
Вось так адарвацца ад дна,
Плюнуць на ўлоў і ўсміхацца,
Намацаўшы рытм, які нясе цябе
Мілю за міляй,
У тваё патаемнае месца
Недзе там, далёка, за небакраем...

Прывід, што на світанку
Брыдзе праз дажджлівую цемрадзь,
Спытайся ў мяне зноў.

## ІВАН САВЕРЧАНКА

**(1962, в. Маліноўка Касцюковіцкага р-на)**

Выпускнік Магілёўскага педінстытута, з 1988 г. супрацоўнік Інстытута літаратуры Нацыянальнай Акадэміі навук. Доктар філалогіі (2000). Даследуе старажытную беларускую літаратуру, культурныя ўзаемадачыненні на тэрыторыі Беларусі ў эпоху Сярэднявечча. Аўтар кніг пра Льва Сапегу, Астафея Валовіча, Сымона Буднага, Язэпа Руцкага, а таксама грунтоўных даследаванняў «Старажытная паэзія Беларусі, XVI — першая палова XVII стагоддзя» і «Aurea mediocritas: Кніжна-пісьмовая культура. Адраджэнне і ранняе барока». Помнікі пісьменства не толькі вывучае, але і перакладае, напрыклад, са старапольскай мовы, што мы і фіксуем у нашай анталогіі.

*АНДРЭЙ РЫМША*
*(1550? — 1599?)*

## ДЗЕСЯЦІГАДОВАЯ АПОВЕСЦЬ ВАЕННЫХ СПРАЎ КРЫШТОФА РАДЗІВІЛА

*Фрагмент*

Зручнае месца абраўшы, абоз на начлег размясціўся,
Хутка загад паступіў: штурм распачаць на зары.
Толькі не месца спачынку і сну ля варожага стану —
Злыдні за валам не спяць, пільна ўзіраюцца ўніз,
Ратнікі — венгры, ліцвіны, палякі — стрыножылі коней,
Зброю з плячэй не знялі — воўчае вока наўкол!
Стомлены змрок надвячэрні напружана дыхае рухам,
Зрэдзьчас даносіцца гул: цягнуць гарматы да сцен,
Порах у торбах са скуры хаваюць у крытыя ямы,
Медныя ядры вязуць — будзе бязрадасны дзень!
Гетман Крыштоф Радзівіл, валадар ваяўнічы і хітры.
Раці да вежаў вядзе — пастку рыхтуе цішком.
Смелы дзесятак ліцвінаў, шточасна да рызыкі здатных,
Знікнуў у цёмную ноч: ворагаў план трэба знаць,
Высачыць — град дзе слабей і адкуль не чакаюць пагрозы,
Лік абаронцаў які, колькі на вежах гармат?
Усёй падрыхтоўкай кіруе магутны кароль Сяміградскі,
Воля адна у яго — ворага ў клетку узяць,
Высмаліць вочы паганыя, вынішчыць корань атрутны,
Шлях каб забыў на Літву, зграі навек заказаў.
Лукі Вялікія боскі праклён адчувалі,
Кары маўчком не зняслі, крыж не жадалі прымаць,
Тысячы жылаў напялі і дух на хвіліну не звёўшы,
Занач асілілі справ, што і за год не падняць.
Раці Вялікага Княства прыціхлі далёка за поўнач,
Трохі павекі звялі, пырхнула знічкаю ноч,
Дрэвы ачнуліся, зняўшы малочна-туманную коўдру,
Травы запелі расой, клічуць касьбу пачынаць.
Сонца-Гермес усхапілася з цемры злавеснай Аіда,
Барвай заліты прамень — сцяг над намётам узняў.
Бубны забілі, зайгралі у медныя трубы музыкі,
Рэха па лесе пайшло, звер усхапіўся, наўскач
Кінуўся прэч, як далей ад людскога вар'яцтва,
Ў дзікі забіўся гушчар, ежу забыўся шукаць.
Князь Радзівіл на узгорку стаіць перад сотнямі вояў,
Чырванню плашч зіхаціць, шпоры ледзь чутна звіняць.
Сытыя коні — гатовы панесціся ў сечу
Тулавам ворага збіць, кутую браму зламаць.
Лёс-валадар над усімі пазначыў свой выбар:
Прашчуры стрэнуць каго, хто атрымае вянец?!
Сеча крывавая скажа апошняе слова-прароцтва,
Кожнаму вызначыць шлях, лёсу ніхто не міне!

## ГАЛІНА ДУБЯНЕЦКАЯ

**(1962, Менск)**

У хатняй бібліятэцы Дубянецкіх (бацька перакладчыцы М. Дубянецкі быў дырэктарам «Мастацкай літаратуры», перакладчыкам і захопленым кніжнікам) — тысячы тамоў на дзесяці мовах. Сама Галіна ведае французскую і ангельскую (вывучала ў Інстытуце замежных моваў), іспанскую, польскую, украінскую — тры апошнія вывучыла самастойна. Багатая творчая натура, піша вершы і эсэ, супрацоўнічала з часопісам хрысціянскага сумоўя «Унія». Бёрнса пачала перакладаць яшчэ на пятым курсе, а пра беларускія пераклады верша Байрана «Схмурнеў мой дух» («My Sont is Dark») напісала цэлае адмысловае даследаванне. Пасля непрацяглай працы ў акадэмічным Інстытуце літаратуры, Скарынаўскім цэнтры і часопісе «Крыніца» Галіна прыняла адзіна правільнае рашэнне — жыць на вольным хлебе. Што і робіць гадоў ужо з дзесяць.

*РОБЕРТ БЁРНС*
*(1759—1796)*

### ТАБЕ

Калі завея зойме свет
    І згіне шлях, і згіне шлях,
Я над табой напну свой плед,
    Нібыта дах, нібыта дах.
Калі б нарынуў градабой
    Ліхіх падзей, ліхіх падзей,
Я б стаў між імі і табой
    За мур цвярдзей, за мур цвярдзей.

Калі б я, гнаны і кляты,
    Не меў кута, не меў жытла,
Я б зладзіў рай, адно каб ты
    Са мной была, са мной была.
А каб на царскі сеў пасад
    Па той дзяльбе, па той дзяльбе,
Сваю б карону і арнат
    Аддаў табе, аддаў табе.

### КРАСУНЯ З ЭКЛЕФЭХАНУ

— Браў мяне ты, браў мяне
    Ты, можа, без нічога?
Калаўрот вунь пры сцяне,
    А во, глядзі, начоўкі!
А што ў дзеда хаты дзве,
    А трэцяя — пуня?
А сама я ўжо табе —
    Дык, можа, не красуня?!

— Ай, досі языком пляскаць,
    Ай, досі гэнай звягі!

З чаго ж, хоць не любіў гуляць,
Падаўся я ў бадзягі?!
Пад вэрхал твой забыў спакой,
Закінуў гаспадарку...
Цягні шатан цябе з сабой —
Я б вынес яму чарку!

## ПЕСНЯ ПРА ГАННУ

Ва мне ўчарашні хмель не сціх —
Ды не з віна я п'яны:
Учора на грудзях маіх
Заснулі косы Ганны.
Габрэй галодны, што шалеў,
Дапаўшыся да манны, —
І ён той слодычы не меў,
Што я — ад вуснаў Ганны.

Усё загрэблі каралі —
Ад Інду да Саванны;
Ды што б яны ні набылі,
Не варта вабаў Ганны.
Нашто мне бляск імператрыц
Ці ўвесь гарэм султана?
Ні трошкі ім не замяніць
Пяшчотаў любай Ганны.

Хутчэй сыдзі, пыхлівы дзень!
Прэч, зыркая Дыяна!
Схавайце, зоркі, свой прамень,
Калі са мною Ганна!
Няхай не падымаюць вей
Сваціілы ў час кахання...
Пазыч пяро мне, салавей,
На вершаспевы Ганне!

P o s t s c r i p t u m

Царква ды суд няхай вярзуць,
Бы ўчынак мой заганны.
Няхай яны да д'ябла йдуць,
А я пайду да Ганны.
Яна — вачэй маіх святло,
Што мне наканавана.
Каб тры жыцці ў мяне было,
Цвіла б у кожным — Ганна.

*ДЖОРДЖ ГОРДАН БАЙРАН*
*(1788–1824)*

## СЛЯЗІНКА НА ПЯЛЁСТКАХ ВЕЙ

Слязінка на пялёстках вей
У чысціні сваёй
Была не болем, а, хутчэй,
Світальнаю расой.
Усмешка ўспыхнула — і ўраз
Нібыта дзень настаў:
З ёй побач бляск сапфіру згас —
Бы месяц той, растаў.

Як вечаровы небакрай
Апошніх промняў след
Захоўвае, калі наўскрай
Сутонне поўніць свет, —
Вось так і сэрца беражэ
Усмешкі гэтай блік:
Ён свеціць, свеціць мне яшчэ,
Хоць мілы тварык знік.

## КАЛІ РЫХТУЕ ІНШЫ СВЕТ

Калі рыхтуе іншы свет
Каханню гэтаму — працяг
І адлюструецца сусвет
У гэтых дарагіх вачах, —
Вядзі мяне, нязнаны шлях!
Збаўленнем будзь, смяротны час,
Калі растане марны страх
У вечнасці, што злучыць нас.
Так мусіць быць. Чаму ж дрыжым,
Адводзячы пагляд убок
Ад бездані, калі адзін —
Апошні — застаецца крок?
Калі наперадзе — не змрок,
А незгасальнае святло,
Што перанёсшы праз Парог,
Для сэрца сэрца зберагло?..

## КАЛІ Я АШУКАНЕЦ...

Калі я ашуканец, як лічыш ты, — што ж,
Я дарма з Галілеі ішоў басанож:
Адступіцца ад веры б хапіла ўсяго,
Каб ганебную пляму змыць з роду майго.
Калі ў свеце не ведае зло перамог,
Калі раб толькі грэшны — з табою твой бог!

Калі неба адрыне выгнаных зямлёй —
Ты жыві ў тваёй веры — памру я ў маёй.
Я згубіў за яе больш, як маеш ты даць:
Бачыць Той, што дазволіў табе шыкаваць;
Маё сэрца й надзея ў ягоных руках,
У тваіх жа — зняволены край ды мой прах.

**У СЭРЦЫ ЗМРОК**

У сэрцы змрок. Хутчэй, пясняр,
Пакуль не наваліўся жах,
Зайграй, здымі з душы цяжар —
Цяпер яна ў тваіх руках.
І, можа, ў змучаных грудзях
Надзеі рэштка ажыве;
І, можа, ў стомленых вачах
Сляза скранецца — і сплыве.
Няхай шалёны будзе спеў,
Ладоў вясёлых не чапай.
Я слёз хачу — ты зразумеў?
Пакуту выліць сэрцу дай.
Бо поўнае па самы край
Яно пакутай. Час ліхі:
Ці зараз выплесне адчай,
Ці разарвецца ад тугі.

*ІВАН ФРАНКО*
*(1856–1916)*

* * *

Як пачуеш той плач між начной цішыні
За вакном, дзе так зімна ды гразка,
Не будзіся ад сну, не праймайся ані,
Не ўзірайся ў той бок, мая краска!

То не ўбогі які, не прыблудны кульга,
Не галодны жабрак, мая зорка;
То самота мая, без патолі туга,
То любоў мая плача так горка.

**МАЁЙ НЕ МАЁЙ**

Паклон табе, асмужаная кветка,
Мая таемная з таемных мрояў,
Астатні мой паклон!
Хоць нам сустрэчы выпадалі рэдка,
Як часта мне ўспамін той сэрца кроіў,
А ўсё ж вітаны ён!

Калі мяне бліжэй ты не пусціла,
І мне ў крыві суцішыла й згасіла

Любоўны, дзікі шал, —
На ўвесь мой век самотны і бадзяжны
Ты мне ўпісала ў сэрца недасяжны
Жаночы ідэал.

І сёння, хоць між намі долы й горы,
Калі кладзецца цень каменнай зморы
На зрок мой і абшар,
Адно цябе душа мая шукае,
І да цябе ў знямозе прынікае,
І зрыньвае цяжар.

А часам, як у сне цябе пабачу,
Адразу й злосць, і ўсю гаркоту трачу
І прэч адкідваю, бы змеяў збой;
І штось душу нібы святое грэе,
Хоць не любоў, не вера, не надзея,
А чысты вобраз твой.

*ФЕДЭРЫКА ГАРСІЯ ЛОРКА*
*(1898—1936)*

### ПРЭЛЮДЫЯ

Таполі пойдуць ад нас,
але светлыня застанецца.

Таполі пойдуць ад нас,
а з намі пакінуць вецер.

А вецер затоіць дыханне,
прынікшы да сонных стрэхаў.

Але галасоў калыханне
плыве па яговых рэках.

Віры светлячкоў сусветавых —
паўсюль успаміны раяцца.

І сэрца — малое зернетка,
жарынка ў сцішаных пальцах.

## ВІКТОРЫЯ ЛЯШУК

**(1963, Магілёў)**

Закончыла філфак БДУ, настаўнічала ў менскіх школах, цяпер — супрацоўніца кафедры сучаснай беларускай мовы ў родным універсітэце. Абараніла кандыдацкую дысертацыю, некалькі гадоў выкладала родную мову ў Прэшаўскім універсітэце (Славакія). Вывучыла славацкую, перакладае не толькі паэзію, але і прозу.

*ЯН ЗАМБАР*
*(1947)*

### ЛУЖЫНА

Пасля дажджу
спынюся сярод елак
перад цяпер народжаным азерцам.

Глянь, шкляныя дзверы ў вечнасць,
навешаныя на дрэвавыя петлі.

У той вадзе, якую разаб'е і кропля,
плыткай, якую лёгка скаламуціць,
зеляніна больш ясная,
і якое глыбокае тое
высокае неба,
і якое празрыстае
і блізкае.

Вобраз
быццам пераўзышоў арыгінал.

Магу хіба захапляцца.

Увайсці ж у яе
смеюць толькі дзеці,
як яна, чыстыя.

*МІЛАН РЫХТЭР*
*(1948)*

### ТВАРЫ НА ФОТАЗДЫМКАХ СТОГАДОВАЙ ДАЎНІНЫ

Гладкія і памяркоўныя,
быццам пакліканыя ў наш свет
голасам праяўніка ў дзіцячым узросце цуду,
ласкай фіксажу, які не дазволіць,
каб твар счарнеў і вобраз адышоў.

Твары на стогадовых фотаздымках глядзяць у лінзу
фотаапарата, як у тэлескоп,
які сягае сусветнай цемрай
і знаходзіць блякла прадчуваныя прасветы,
дзе нараджаюцца агеньчыкі планет.

Твары на стогадовых фотаздымках не ведаем,
даём імёны ім прабабак,
заглядаючы ў вочы дачок,
выявы прыкладаем да адзінага адбітку бацькі
і хоць бы на хвіліну ажыўляем абрысы прадзеда,
смяротна зраненага ў прускую вайну.

Твары на стогадовых фотаздымках складаем
у пыльныя шкатулкі
з перакананнем,
што былі здаўна мы, да пана Дагера,
да захопу іядыдам срэбра рысаў асоб,
што пахаджаюць мурамі часу і сноў
і забіраюць нашы драпежна-раслінныя твары
як памятку горшых часоў.

*АНДРЫЯН ТУРАН*
*(1962)*

## ЧАС НАРЦЫСАЎ

I
Пытаешся, дзе я быў?
Тры дні і ночы?
Высока, там, дзе час дробіцца
на мучны чарвівы прах.
Хлеб пры дотыку распадаецца,
сшэрхлыя пальцы кволяць поціск,
цела падае
вальней за ваду,
і вусны ў жаху насцеж
ускрыкваюць.

II
Добра, што яшчэ не ведаеш.
Там, пад празрыстай вяршыняй,
ёсць цудоўны луг.
Прыгледзься да яго ўважлівей.
У вачах — татуіроўка, яго перакулены вобраз.
Ґаворыш: «Расце там яснотка,
мядунка, спарыш, асака,
сумнік, шалфей і мальва».
Не, не, дзяўчо.
Бачыш горкі выган палыну.
Зіхоткі луг палыновай акавіты,
які ўтаропіўся ў цябе,
нібы магічнае вока электрарадыё.
...але тыя белыя кветкі,
што вытыркаюцца з-пад хвой...
Гэта толькі расцяганыя зайцавы косці,
іх і крумкачы не хочуць,
і зусім яны не прыдатныя
для чарадзейных пацеркаў кахання.

## ЭДУАРД АКУЛІН

**(1963, в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р-на)**

Выпускнік філфака Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1984). Настаўнічаў у Рэчыцкім раёне, адкуль прыканцы 1980-х прыязджаў у Менск на пасяджэнні Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Пасля пераезду ў сталіцу дзесяць гадоў адпрацаваў у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Потым непрацяглы час загадваў аддзелам паэзіі часопіса «Полымя», цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Дзеяслоў». Вядомы як бард. Разам з В. Іпатавай і аўтарам гэтых радкоў пераклаў зборнік «Сучасная літоўская паэзія» (2002). Найлепшыя пераклады склалі раздзел «З чужога неба» ў кнізе «Непрычалены човен» (2003). Апошнім часам захапіўся перакладамі з украінскіх паэтаў.

*ПАЎЛО ФІЛІПОВІЧ*
*(1891—1937)*

### МАНАМАХ

Дзівіўся з вежы
На цёмны бор.
Там след мядзведжы
І воўчы хор.

Рыкаюць туры
Здалечыні,
А дуб пахмурны
Каўтае дні.

Глядзі і дзіду
Бяры хутчэй,
Рэй сакаліны
Пускай з плячэй.

З бычынай шыі,
Бы камень, крык.
Не Візантыя, —
Да стэпу звык.

З жалезнай скурай
І дух цвярдзей —
На рогі тура
Не пападзе.

О Манамаша!
Не навучай,
Што шчасце наша —
Пакора й рай.

У шызы попел
Адыдзе мніх,
А дзіда й сокал —
Заўжды ўдваіх!

Грыміць адвага
На ўсе вякі —
Той крык варага,
Той рух рукі!

*ЛІНА КАСТЭНКА*
*(1930)*

**ВАН-ГОГ**

Добрай раніцы, адзінота!
Холад холаду. Цішы ціш.
Як цыклоп аднавокі з лёту,
неба дзівіцца на Парыж.
Мая мука, ты ходзіш па лёзах!
Яшчэ ўчора я быў каралём.
А сягоння попел бялёсы
асядае на жоўты дом.
Змерлі барвы.
О рукі-хмары!
На мальбертах распяты свет.
Я — жалобны камень цвінтарны.
Кіпарысавы хвост камет.
Неба непагаддзю глухое.
Гнуцца пэндзлі, як чараты.
Чорным зрухам палеазою
паламаныя гор хрыбты.
Прамяніцца маё скляпенне.
Я пастух. Я сад стары пасу.
Кішэні дня
залаплены цярпеннем —
я ў іх да смерці кулакі нясу.
Самавіты — несамавіты —
Не Сезан — не Гаген — не Манэ —
але што ж мне рабіць, скажы ты,
як мяне багата ўва мне?!
Ён бажавольны, кажуць. Бажавольны!
Магчыма й так. Ён — гэта значыць я.
Божа — вольны...
Божа, я — вольны!
Дык дабранач, Свабода мая!

*МІКОЛА СОМ*
*(1935)*

* * *

Я дома. Раптам сярод ночы
Прыйду, як госць, ва ўласны сон.
Плыву не ў чоўне, а у ночвах
На хвалях залацістых дзён.

А маці мне крычыць пагрозліва:
«Утопішся — ой, буду біць!»
Шкада, цяплей не стане возера,
Калі ў ім сонца утапіць...

А сонца ужо бяжыць па выгане
А потым — зноў на глыбіню
(За тое, кажуць, з неба выгнана,
Што любіць грэшную зямлю).

Плыву. І залатымі вёсламі
Гайдаю ў сне світанак свой...
То хмуры — нібы неба восенню.
То светлы — нібы дзень вясной.

*МІКОЛА ВІНГРАНОЎСКІ*
*(1936–2004)*

* * *

Хадземце ў сад. Я пакажу вам сад,
Дзе на каленях яблынь дрэмле вецер.
А згорблены чумацкі небаспад
Высвечвае вясёлкавую квецень.

Я пакажу вам слівы на сучках,
Настроміліся, падаючы моўчкі.
Сціскае груша ў жоўтых кулачках
Крутога сонца смачныя жаўточкі.

Салодка спіць у полі пад снапом
Жняя ружовашчокая — заранка.
І шэпча ціша сонным языком
Сівому саду песню-калыханку.

То кажаны. То кажановы лад
Звініць журліва ў сонных струнах ночы...
Хадземце ў сад. Я пакажу вам сад,
Яго душы нявыспаныя вочы.

*ЁНАС ЗДАНІС*
*(1950)*

**КОСТКА**

Дзень вісіць, як белая кашуля
на вяроўцы пад зімовым дубам.

У пакоі, жанчынамі поўным,
на пытанні адны і тыя ж
        я стаміўся адказваць зноўку.
У святле, як сусвет скалелым,
        свецяць твары
                іх перад дрэвам.

Трызніш ты на няроднай мове,
а, прачнуўшыся, пішаш *брат мой*
на сцяне у сваім пакоі
аскабалкам засохлай косткі.

Прыручаю паглядам рэчы:
абмялела кахання рэчка —
зморшчын рэчышча ля вачэй,
перасохлі ад смагі вусны.

Тонкіх ліній крыштальны іней
зімніх літар, марозных слоў,
схаладзелых пад языком.

*ЛЮДВІГАС ЯКІМАВІЧУС*
*(1959)*

## ПАРОМНІК

I
Ляжу ў траве,
гляджу на птушку ў небе
і засынаю,
сніцца мне птушка ў небе
і прачынаюся —
птушка ў глыбокім небе.

II
Паромнік,
калі будзеш мяне перавозіць
на той бераг,
толькі аднаго баюся,
Паромнік, —
белых парцалянавых аблокаў у глыбокай цямрэчы,
ды птушкі баюся ў небе.
Калі паплывём,
завяжы мне вочы,
Паромнік.

*ІВАН МАЛКОВІЧ*
*(1961)*

## МУЗЫКА, ШТО ПАЙШЛА

Калі яна плялася ў косы —
чаму ты, скрыпка, знікла з воч?
І музыку пусціла босай
у спеўна-зваблівую ноч.

Ох, смыча, хіба ж ты не бачыў, —
на скронях снег, на сэрцы дождж, —

як музыка пайшла жабрачкай
у спеўна-зваблівую ноч?..

Вазьму з сабой зямлі акраец,
пайду ў сусвет сабе на страх, —
хай толькі вецер завывае
ў маіх расхрыстаных слядах...

Матуля, тата, як спытаюць,
куды ваш сын падаўся з воч, —
скажыце: музыку шукае,
што босая пайшла у ноч.

*РАМАН СКІБА*
*(1970)*

## ПЕСНЯ РЫБАКА

Рака высокая, стань мне вясёлай,
А як не можаш — сум гарні да дна.
Пакуль смалістым чарнабокім сомам,
Начуе ў плыні цень майго чаўна.
Слязяцца вочы —
        крыгам сняцца вёсны.
Спазнаецца ў глыбінях іхніх дно.
Табою п’яны,
        сохнуць мае вёслы —
Ты дыхаеш, як дыхае віно...
Рака мая, не кліч сястрою Лету.
Рака мая, імя маё вярні.
Каб я яго чароту промнем светлым
Накрэсліў, як вар’ят, на быстрыні.

## ДАРАВАННЕ КАІНА

Гырчаць аўчаркі, а дзень ідзе.
Няма ад казусаў запарукі —
Два лейтэнанты НКВД
Такому ж трэцяму круцяць рукі.
Сігнал трывогі на ўсе пасты.
Дратоў напругу здымае вецер.
Сто сорак трэцяга — адпусціў...
«Не вінаваты —
        Сто сорак трэці!»
Без кайданкоў прывялі у штаб.
Паўстала сонца — фінальным фонам.
У «Беламор» забівае драп
Цвярозавокі маёр Сафонаў:
На кашаль сыдзе — не ўцягне дым
І сфармулюе пытанне матам.
А той разгублена: «Я пры чым,
Хіба ж я сторож
        роднаму брату?..»

# АЛЯКСЕЙ МУСОРЫН

**(1963, г. Новасібірск, Расея)**

У прадмове да анталогіі «Краса і сіла» я не ўтрымаўся, каб не працытаваць хоку невядомага мне паліглота з Новасібірска, выкладчыка тамтэйшага універсітэта, які, ведаючы ангельскую, лацінскую, польскую, балгарскую, эсперанта, эстонскую і кітайскую мовы, нарэшце дабраўся да беларускай і пачаў пісаць на ёй вершы. Гэта здзіўляла, бо чалавек не меў аніякіх беларускіх каранёў, а ў Беларусі быў толькі аднойчы — у вясельным падарожжы. Прадстаўляючы вершы свайго новасібірскага сябра ў часопісе «Дзеяслоў», Аляксандр Фядута так прыгадваў тое падарожжа: «Ён захапляўся Беларуссю. Ён лавіў кайф. Яму падабалася. Ён штосьці ўвесьчасна гаварыў па-беларуску, у Горадні еў дранікі, прыгатаваныя маёй мамай, бегаў па касцёлах і патрабаваў, каб я запісаўся ў беларускія нацыяналісты. Гэты нумар у яго, праўда, не прайшоў, затое ён сам запісаўся ў Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, сябрам якой з'яўляецца да гэтай пары». Патроху ў складальніка гэтай анталогіі з Мусорыным завязалася перапіска, было прыемна атрымліваць лісты з Новасібірска, напісаныя па-беларуску. Натуральна, рыхтуючы «Галасы з-за небакраю», я звярнуўся да свайго завочнага знаёмца з просьбай перакласці што-небудзь экзатычнае. У адказ атрымаў пераствораныя з тыбецкай мовы вершы Рыгдзіна Цаньяна Джамцо (далай-ламы шостага). У нашай анталогіі прадстаўленыя творы каталіцкага кардынала, мусульманскага імама, праваслаўнага манаха... Нялішнімі будуць і вершы тыбецкага далай-ламы.

*РЫГДЗІН ЦАНЬЯН ДЖАМЦО*
*(1683—1706)*

* * *

Белая шэрань, пасланка паўночнага ветру,
Зноў пакрывае плады спелыя ў садзе маім.
Зноў, як і раней, яна разлучае
Пчолаў і кветкі...

* * *

Месца сустрэчы з каханай —
Пад сонцам паўдзённым гай.
Ведае пра спатканне
Гаю жыхар — папугай.
Мудрая птушка, малю:
Ты нас не выдавай.

* * *

З-за вяршыняў усходніх гор
Поўня белая паўстае.
Прыгажуні-дзяўчыны твар
У ёй бачаць вочы мае.

* * *

Калі валодаем каштоўным самацветам,
Мы пачасту зусім не цэнім гэта.
А страціць дыямент той давядзецца —
Заные і заб'ецца з жалю сэрца.

*УОЛТ УІТМАН*
*(1819—1892)*

* * *

Ва ўрачысты дзень царкоўнага свята,
Калі гукі званоў з раніцы раскалыхвалі празрыстае паветра,
Калі блакіт нябёс быў чыстым, нібы душа верніка пасля споведзі,
Калі сонца ззяла, нібы німб Божае славы,
Я адчуў, што я не адзін на зямлі,
Што тысячы тысяч людзей у розных краінах,
На сотнях моваў, вялікіх і малых,
У гарадах і вёсках, у храмах і кляштарах,
На хісткіх палубах караблёў і ў гарачых бязводных пустэльнях,
Праслаўляюць у гэтую хвіліну Божае імя.
Я адчуў, што мае нясмелыя малітвы
Зліваюцца з малітвамі мільёнаў маіх братоў і сясцёр
І што магутная рака нашых малітваў упадае ў неба.

## ІНЭСА КУР'ЯН

**(1964, Ліда)**

Выпускніца філфака БДУ (1986), выкладала там польскую, славенскую і старaславянскую мовы, а таксама тэорыю перакладу. Цяпер працуе ў аддзеле славянскага мовазнаўства Нацыянальнай Акадэміі навук. Некалькі разоў брала ўдзел у міжнародных семінарах перакладчыкаў у Варшаве — як слухачка і выкладчыца. Перакладала «Крымскія санеты» А. Міцкевіча; дарэчы, усім раю падступацца да іх папярэдне прачытаўшы эсэ І. Кур'ян «Невялікае роўнае вялікаму» — гэта своеасаблівы беларускі ключ да «Крымскіх санетаў» (між іншым, у эсэ Міцкевіч, вярнуўшыся ў 1826 г. з Крыму ў Маскву, размаўляе з А. Пушкіным па-беларуску). Прапанаваная ўвазе ласкавага чытача балада Ф. Прэшэрна перакладзеная супольна з С. Мінскевічам (дарэчы, у перакладзеных ім «Дзядах» А. Міцкевіча песня вязняў перастворaная спадарыняй Кур'ян, пра што, аднак, не сказана ні ў каментарах, ні ў прадмове). Мара перакладчыцы — падрыхтаваць новае беларускае выданне ўлюбёнага ёю Б. Лесьмяна. Думаецца, «Пану Блішчынскаму» А. Мінкіна сапраўды не зашкодзіла б годнае спадужніцтва.

*ФРАНЦЭ ПРЭШАРН*
*(1800—1849)*

### ПАДВОДНЫ КНЯЗЬ

Люблянкі спрадвек былі слаўны красою,
Але прыгажэйшай за ўсіх маладзіцаў
На свеце, якімі мог зрок наталіцца,
Уршуля была. Як у небе дзянніца
Між зорак квяцістых палае зырчэй —
Квітнела між іншых Уршуля ярчэй.

І колькі дзяўчатаў, і колькі кабетаў
Гаротныя слёзы тайком пралівала,
Калі іх каханкаў яна чаравала.

Ды чэснікаў знатных Уршулі замала,
Як відны юнак ці вядомы герой —
Ім ставіла пастку прывабы сваёй.

Умела яна абяцаць і адмовіць,
Магла быць прыветнай альбо ганарлівай,
Для юных — жаданай, для сталых — чуллівай,
Спазнала навуку манераў змысліўых,
Каб толькі мужоў ёй за нос павадзіць.
Адзін змог нарэшце яе пакарыць.

Па поўдні ў нядзелю, на плошчы пад ліпай,
Дзе скрыпкі й цымбалы пяюць палымяна,
На танцы сабралася моладзь Любляны —
Вясёлыя хлопцы і пекныя панны,
І там каралевай Уршуля была,
Сябе паказала, а танчыць не йшла.

Штораз кавалеры яе запрашаюць,
Яна ж адмаўляе, смяецца з хлапчынаў
І ў танец не йсці выдумляе прычыну.
А з вежы на восьмую звоняць гадзіну,
На схіле ўжо дзень, змрок кладзецца на дол...
Тут выйшла Уршуля — зірнула вакол.

І годным спазорам шукае танцора,
За светлым сталом юнака заўважае —
Такога асілка свет белы не знае —
У пару ахвотна з ім стане любая.
Паглядам бярэ яго дзеўка ў палон,
І чары Уршулі спаўна адчуў ён.

І сочыць яе, падыходзіць, ёй кажа:
— Патанчыць з такою ці маю я права?
Туды, дзе прымае Дунай воды Савы,
Світанкам пра пекнасць тваю прыйшла слава,
Прыўкрасная Уршка, і вось я з табой,
Прыўкрасная Уршка, патанчы са мной.

Сказаў гэтак і да зямлі пакланіўся,
Уршуля ўсміхаецца, шчокі ў румянцы:
— Мяне закружыць тут ніхто не меў шанцу —
А ты мне мілейшы, з табой буду ў танцы!
Вазьмі мяне ў рукі і не адпускай,
Пакуль яшчэ сонцам гарыць небакрай.

Так выйшлі яны на сярэдзіну плошчы,
Пяшчотна адно аднаго падхапілі,
Нібыта ў іх выраслі лёгкія крыллі,
І, як бесцялесныя, ў танцы кружылі,
Нябачна, як ступні кранaлі зямлі,
Нібы іх віхуры ў паветра ўзнялі.

Убачылі ўсе іх, застылі без руху,
І подзіў скаваў рукі нават музыкам —
Заціхша не зрушыць ні спевам, ні зыкам,
І тупнуў свавольна танцор чаравікам:
— Навошта нам скрыпка, цымбалы ці бас?
Хай іншыя струны зайграюць для нас!

Імгненна згусціліся чорныя хмары,
Пачулася злосных нябёс грукатанне,
Пачулася дзікіх вятроў скавытанне,
Пачулася водных віроў бушаванне.
Ад страху ўзняліся ва ўсіх валасы —
О, гора табе, каралева красы!

— Не бойся, — ён кажа. — Ступай жа імклівей, —
Не бойся маланак, грамоў вывяржэння,
Не бойся маіх буруноў і струменяў,
Не бойся мне любых віхураў кружэння,
Шпарчэй і шпарчэй — нас прыспешвае час,
Хутчэй і хутчэй — зачакаліся нас!

— Пастой хоць хвіліну, каханы мой княжа!
Дай мне адпачыць, прыпыні свае крокі!
— Да белай Турэччыны шлях наш далёкі,
Дзе льюцца ў Дунай быстрай Савы патокі,
Цябе зачакаліся хвалі мае,
Хутчэй жа за мной, часу нам не стае!

Красуню павёў князь таропка, шалёна.
Далей і далей яны разам кружлялі,
Над плыняй Любляніцы тройчы прыўсталі
І ў танцы спусціліся ў шумныя хвалі.
Пасля іх шукалі, але з той пары,
Дзе Уршка цяпер — знаюць толькі віры.

*БАЛЯСЛАЎ ЛЕСЬМЯН*
*(1877—1937)*

## БОЖА Ў НЕБЕ ЎСЁМАГУТНЫ...

Божа ў небе ўсёмагутны,
Божа на крыжы пакутны,
Дзе Ты быў, дзе Ты хаваўся,
Што са мною не спаткаўся?

Знаю — у маім бязладдзі
Даць мне сілы Ты ва ўладзе.
Мо з'яднаемся ў рабоце,
Мо разыдземся ў самоце.

Што ты чыніш у хвіліну,
Калі я душою гіну?
Мо шчаку крапіш слязою,
Мо на згубу йдзеш са мною?

## ШАВЕЦ

Серп месяца прысеў на комін
І ў цемры бы дымком віецца,
Ліхтар на дыбачках імкнецца
У змрок завулка нерухомы.
Шавец самотны, куляйнога,
За працай, вочы ўзняўшы ў цемрасць,
Прымерваў бот да ступняў Бога,
Імя якому — Невымернасць!

Нараджаецца плод
Баслаўлёных старанняў,
Спраўна шыецца бот
У начным срэбным ззянні!

Божа аблокаў, Божа росаў,
Вось Табе вынік працы рупнай,
Каб ног не раніў аб нябёсы,
Блакіт не мераў босай ступняй!
Хай духі над паводкай хмараў
Спяюць у зоркавым абходзе:
Дзе ёсць шавец, там пры нагодзе
Для Бога боты — шчырым дарам!

Нараджаецца плод
Баслаўлёных старанняў,
Спраўна шыецца бот
У начным срэбным ззянні!

Даруй мне, Божа, я дазвання
Прайду праз шэрую гароту,
Табе за мерку існавання
Аддзячу толькі парай ботаў.
Што ўзяць з шыцця — шыццё, не болей,
Дык будзем шыць, як давядзецца!
Што ўзяць з жыцця — жыццё, не болей,
Дык жыйма, колькі застанецца!

Нараджаецца плод
Баслаўлёных старанняў,
Спраўна шыецца бот
У начным срэбным ззянні!

*ЕЖЫ ФІЦОЎСКІ*
*(1924)*

### АДЛЁТ ПЛЕЧЫКАЎ

Губляючы пёркі і цені
па-за зямныя межы,
лятуць вешалкі, плечыкі,
паслужлівыя птушкі шафаў,
як дзюбы, крукі драцяныя
і крыламі б'юць здзервянелымі,
збіраючыся ў палёт.

Пад імі нафталінасфера,
Пыхценне зацёганай воўны,
Скаргі нашых залатаных дзюр,
І зашпіленасць да апошняга гузіка —

Хістаюцца плечыкі ў голай згубе,
І пойдуць, зусім без нічога,
Вертыкальнай дарогай птушак.

Пад імі няма апоры,
Куты абраслі рэхам,
Зірніце з рэштак прытулку,
Як плечыкі рэжуць паветра,
Зірніце, як мы аддаляемся —
Бо самі ідзем на дно.

*УРШУЛЯ КОЗЕЛ*
*(1931)*

### СПАЗІРАННЕ

Дрэва, правядзі мяне сваёю ракой,
Дзе зліваюцца крыніцы карэння,
Рэчышча гушкаецца ў паветры.
Гэй, рака, ты цячэш па дубах,
Строма,
Паток плешча рабацізною кары,
Посушшу ты паўтараеш засохлыя рэкі.

Рака, правядзі мяне ўздоўж свайго дрэва,
Дзе луской пены пакрыты ствол,
Што паката сплятаецца з глебай.
І галіна твая куды ўцякае?
Дрогкае лісце — рыбкі
Моўчкі
Растуць з глыбінь,
А карані заблукалі між скалаў,
Ты ж узнімаешся да акіяну.

Змерай патокам віры сукоў,
Куды ты імкнешся ў іржавых дуплах?
Да галінастай дэльты кроны
Лістоту рыб
Плынь паветра нясе ад вытоку,
Птушкі праз вусце ўздымаюцца ў неба,
Ты ёсць і лодка, і бераг,
Глыбіня, што палае ў вогнішчы.

Як зведаць крыватоκ дрыватоку,
Першым пырснула вецце ці пацяклі цені?
Зямля, правядзі мяне па тваіх жылах,
Пакуль не сальюся з табой праз драўлянае дно.

## *МАР'ЯНА САЎКА*
*(1973)*

* * *

Папуткамі даехаць да лясоў.
Хай горад скісне ў наздраватым цесце.
Пабегчы ад панурых галасоў,
туды, дзе мігацяць агні прадмесцяў,
дзе некранутая іскрыцца снегу бель,
а стракатня сарок — бы перастрэлка.
І марыцца рэмаркавы гатэль,
камін і трохі яблычнай гарэлкі.
І я мо засынаю, можа, сню:
мы — два будысты ў пошуках нірваны,
і перад намі — полымя агню,
і за вакном — сумёты, як барханы.

* * *

Снег пачынае ісці толькі ноччу. Пад зоркай.
Пуста ў кішэнях — ні курава, ні зярна.
Хто ў сенцы грэшных закіне калядныя зоркі?
Шчодры вам вечар. Яшчэ не мінула вайна.
Бог нарадзіўся. Змучана парадзіха.
Снежную роўнядзь мые золак крывёй.
Тварамі долу легчы, каб толькі ціха.
Шчодры вам вечар. Яшчэ не апошні набой.
Чуецца гоман. Льюцца гліняныя бомы.
Крочаць анёлы ў замяці да сяла.
Коцяцца, коцяцца яблыкі бокам чырвоным.
...Добры вам вечар... падаюць са стала.

## ІГАР БАБКОЎ

**(1964, Гомель)**

Першая і пакуль адзіная паэтычная кніга І. Бабкова «Solus Rex» выйшла ў 1992 г. накладам 300 асобнікаў і да гэтай пары засталася непрачытанай. Прынамсі, сур'ёзнай аналітычнай рэцэнзіі на яе мне на вочы не трапілася. Тагачаснай крытыцы кніга падалася занадта мудрагелістай, а магчыма, аказалася не па зубах, бо зубы тыя даўно і безнадзейна стачыў карыес сацрэалізму. Філосаф па адукацыі, Бабкоў кантэкстуальна выпадаў з тагачаснай беларускай літаратуры, як не патрапляў з ёй у нагу Я. Юхнавец на эміграцыі ды А. Разанаў на радзіме.У прадмове да № 1 выдаванага ім самім квартальніка «Фрагменты» Бабкоў гэтак апісаў наша беларускае сутонне канца II тысячагоддзя пасля Нараджэння Хрыстовага: «Вось ужо другое стагоддзе мы выбіраемся з Платонавай пячоры і паўсюль — адно цені і цені ценяў. Апошняе стагоддзе мы нават не прыгадваем пра святло... "Ноч — лепшы час, каб думаць пра святло", — калісьці запісаў Платон. Мы самі — фрагменты святла, калі мы адважваемся быць, думаць, будаваць, — напоўніцу, з глыбіні сваёй істоты». Відаць, памятаючы даўняе ex oriente lux, Бабкоў найперш усходнім класікам аддаў належнае на пачатку сваёй перакладчыцкай дзейнасці (гл., напрыклад, зборнік «Тутэйшыя», 1989). Дарэчы, кітайскі паэт Лі Бо, паводле легенды, патануў, намагаючыся зачарпнуць адбітак месяца ў вадзе. Таксама шукальнік святла.

*ЛІ БО*
*(701—762)*

### ЖАЛЬБА НА ЯШМАВЫХ ПРЫСТУПКАХ

На яшмавых прыступках
	нарадзілася белая раса
Доўгая ноч прамоклі
	шаўковыя чаравічкі
Апускаю затвор —
	празрыстае, крохкае шкло
У чыстым паветры
	бачу восеньскі месяц...

### НОЧЧУ, ПРЫЧАЛЬВАЮЧЫ Ў НЮ ЧЖУ, ЗГАДВАЮ СТАРЫЯ ЧАСЫ

У Ню Чжу на Заходняй рацэ ціхая ноч
Чыстае неба ніводнай аблачынкі няма
Падымаюся сузіраю з лодкі восеньскі месяц
Згадваю гаспадара Се але — марна!
Я таксама магу складаць радкі
І ўжо не вернеш
Светлаю раніцай распрастае скрыдлы ветразь
А з кранутых шэранню клёнаў
Лістота спадацьме павольна...

## ПРАВОДЖУ СЯБРА

За паўночным прадмесцем
        у блакіце — вяршыня гор
З усходу светлаю плынню
        цячэ паўз горад рака
Тут мы расстанемся
        Далей Вы пойдзеце адзін
Нібы Блукаючая трава
        праз тысячы лі дарогаў
Адзінокія хмары
        нібы думы плывуць у цішыні
Згасае дзень
        шчырасць даўніх сяброў
Махаючы рукою
        Вы адыходзілі далей і далей
Разлучаныя коні
        маркотна так заіржалі...

## УВОСЕНЬ УЗЫХОДЖУ НА ПАЎНОЧНУЮ ВЕЖУ СЕ ЦЯО[*] Ў ГОРАДЗЕ СЮАНЧЭН

Горад каля ракі
        ў чыстых восеньскіх фарбах
Горы... вечар ціхуткі
        ўсё гляджу навокал
Дзве празорыстых рэчкі
        з захаду і ўсходу
Горад апаясалі —
        і нібы вясёлкі масткі
Дым чалавечага жытла
        шэрань на дрэвах цытрыны
Дрыготкія фарбы восені
        кранулі стары платан
Ці згадае хто-небудзь
        узышоўшы на паўночную вежу
Пра гаспадара Се Цяо...
        Ці можа толькі вецер?!

## У ГАРЫ ЦІН ТХІН СЯДЖУ САМОТНА

Птушкі высока ляцяць
        удалечыні знікаюць
Сіроткія хмары
        па небе вольна плывуць
Вочы ў вочы глядзім
        глядзім бясконца
Гэта і ёсць —
        горы ЦІН ТХІН.

---

[*] Се Цяо (464—499 гг.) — паэт і генерал.

## ЮРАСЬ ПАЦЮПА

**(1965, Полацк)**

З сям'і ляснічага. Гадаваўся і закончыў школу на Гарадзеншчыне. Пасля службы ў войску вучыўся на філфаку Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, дзе быў адным са стваральнікаў верш-гурту «Дыяген». Потым жыў у Менску, працаваў у беларускім скансэне — Музеі народнай архітэктуры ў Строчыцах пад Менскам. Потым вярнуўся ў Горадню, стаў выкладаць у родным універсітэце, быў намеснікам галоўнага рэдактара ў цікавым часопісе «Свіцязь» (выйшла ўсяго некалькі нумароў). У паэзіі многа эксперыментуе з формай, захоплена мудрагеліць над рознымі *цэнтонамі* і *брахікаланамі*. На перакладчыцкай ніве зажынае шырока — ад Шэкспіра да салдата вермахта Освальда Бурхарта (ён жа ўкраінскі паэт Юры Клэн). Апошнім часам захапіўся паэзіяй І. Франка, сабраў і падрыхтаваў да выдання па-беларуску томік яго выбранай лірыкі.

*ІВАН ФРАНКО*
*(1856–1916)*

### ЦАР-БОГ

Упрошваў злога духа фараон:
«Прыйдзі, мне трэба рада й дапамога,
Каб мой народ мяне па самы скон
Лічыў за Бога».

Злы дух сказаў: «Пакуль што не пара.
Табе адкрыюць шлях твае ж учынкі,
Дзе будзе многа зла, але дабра
Ані драбінкі».

Стараўся шчыра фараон, лупіў
І мучыў люд, ажно зямля стагнала.
«Цяпер, — злы дух урэшце заявіў, —
Пара настала».

«Чаму цяпер?» — рэк фараон. «Пара,
Бо ў страху люд трымаць ужо нязмога,
Хіба што ўмовіцца яму цара
Лічыць за Бога.

Бо так тваё ярмо гняце і б'е,
Што ўжо не пратрымаешся на сіле,
Адно хутчэй намовім, каб цябе
Богам лічылі».

* * *

Так, ты адна мая праўдзівая любоў,
Якой не суджана ў жыцці мне наталіцца;
Сукрыты той парыў, які ўзбурае кроў,
Зыбае грудзі — і не мае змогі збыцца.

Ты той чароўны спеў, што ў час натхнёны сніцца,
Той, для якога слоў нідзе я не знайшоў,

Ты ўчынак той, які мяне б наперад вёў,
Каб вера цвёрдая і моцная правіца.

Як роспачны спадзеў, нязбытае каханне,
Нявыспеваны спеў, да бою парыванне,
Усё высокае, чым я душу кармлю,

Як той агонь, які і грэе й паглынае,
Як смерць, якая б'е і з мукаў вызваляе,
Во так, мая краса, і я цябе люблю.

*ЮРЫ КЛЭН*
*(1891—1947)*

## ЛОТ

I
Калі табе з'яўляцімуцца ў снох,
Вяшчуючы паруху, смерць і гора,
Анёлы страшныя, што рушаць зоры
І долю свету важаць на мячох,

Бяжы і скарбы кінь у гарадох,
Хай следам стогне вогненнае мора:
Садом жахлівы, клятая Гамора.
Цябе ж няхай вядзе у далеч Бог.

Не азірайся, бо, як колцы гада,
Дыхне табе у вочы тлумны дым
І скамянееш раптам саляным
с
л
у
п
о
м.

Завысачээш абеліскам здрады,
Ганебнаю паходняй назаўжды,
На смех нашчадкаў і на страх галды.

II
Не, зернейкі з садка душы самлелай,
Паклаўшы ў цёплую сваю далонь,
Ты пранясі праз буру і агонь,
Каб нехта зноў з іх вылюбіў лілеі.

Бо схілы зноў калісь лаза пакрые
І зноў паэтаву аздобіць скронь,
Зазелянее зноўку абалонь,
І хваля вёсен чорны накіп змые.

Праз палымяны грукат бліскавіц
Лаві ты чуйным слыхам гоман звонкі,
Што зносіць вецер з прывідных званіц.

Здалёку дні, бы вінаградá гронкі,
Да рук тваіх праз дым, праз чад і жар
Схіляюць важка свой п'янкі цяжар.

*РАМУАЛЬД РАСІНЬСКІ*
*(1961)*

* * *

наранку ішлі на вайну
сто мужоў
скакалі пяялі
махалі зброяй

увечары вярнуўся адзін
стары
двухсотгадовы
з мёртвымі вачыма

* * *

тут было возера і балацяная затока
поўная галасістых птушак

прыйшлі людзі
паставілі горад
храм
і паклалі гасцінец

тады прыйшлі іншыя
спалілі горад
засыпалі гасцінец

засталося возера
магільнік паўнюткі птушак

## ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

**(1965, Менск)**

Першая адукацыя — архітэктурная. Потым закончыла філфак БДУ (1994). Пачынала вершаваць па-расейску, друкавалася на старонках газеты «Знамя юности». Кансультавала ў «Народнай газеце», вяла аддзел крытыкі ў часопісе «Першацвет» (была галоўным рэдактарам некалькіх нумароў, спрабавала рэанімаваць патрэбнае літаратурнай моладзі выданне). У 1996–2003 гг. працавала ў «ЛіМе», дзе збірала пачаткоўцаў на пасяджэнні літаб'яднання «Літаратурны квартал». Цяпер — літаратурны аглядальнік газеты «Беларусь сегодня». Аўтарка паэтычных кніжак «Крокі па старых лесвіцах», «Замак месячнага сяйва», «Балаган» ды інш. Некалькі зборнікаў выдала ў Маладзечне сумесна з мужам В. Шніпам. Апошнім часам аддае перавагу прозе, піша гістарычныя раманы і драматычныя паэмы. Пераклад як жанр шануе, але звяртаецца да яго, на жаль, нячаста. А шкада. У двюхмоўным зборніку «Im Lichtertanz — У танцы ліхтароў», выдадзеным у 2004 г. Інстытутам Гётэ, пераклады Л. Рублеўскай прыкметныя сярод астатніх.

*ДЭСАНКА МАКСІМАВІЧ*
*(1898–1993)*

## РАЗМОВА МАНАХІНІ З БОГАМ

Божа, дабротаў пакінутых сэрца не прагне,
І летуценіць не ўмее пра шчасце зямное.
Ведаю — я ні над кім узвышацца не ў стане —
Добры і злодзей, багач і жабрак — нада мною.

Нават і хвілі спакойнай яшчэ не пражыла,
Каб пагадзіцца, што я заслужыла такую...
Золата зорнае шчасце маё аплаціла —
Зорку адзіную ўбачу — і я не сумую.

Боль спасылаеш — пакорліва толькі схілюся,
Кожны свой крок правяраю, баюся — зграшыла.
Кожнаму ў свеце Тваім я стварэнню дзіўлюся —
Нават у дробнасці дробнай — Вышэйшая Сіла...

Ты зажадаеш — і траплю злачынцам у крыўду,
І незаслужаны грэх выкупляць буду строга...
Люба пакутваць, калі мне пакуты дарыў Ты,
Люба мне ўсё, што даецца мне праведным Богам.

## ГОЛАС МАНАХІНІ

Прыемна маўчаць.
        Я — ніва, што дрэмле пад снегам,
Я — зерне, схаванае ў ёй, каб вясной абуджацца,
Віхуры шалёныя не адгукаюцца рэхам
У сховішчы гэтым, далёкім ад тлуму і жарсцяў.

Не ведаю, ці прамінаюць стагоддзі, ці хвілі.
Мяне аніхто не пытаецца — я не пытаю.
Так камню спакойна, што ціхія травы спавілі,
Так добра таму, хто пад каменем тым спачывае.

Цяпер я спакойна гляджу на падзеі і лёсы,
На ўсё, што калісьці было між людзямі і мною, —
І стол, за якім і смяялася мне, і пілося,
Пяшчотныя рукі... забытыя словы мілосці...

Цяпер я спагадна гляджу, як з далёкага раю,
Праз келлі вузенькую шыбу на жарсці людскія,
Якімі калісьці і я сваё сэрца карала,
Пакінула там, дзе жыла, назаўсёды якія...

Нікому расказваць я болей не маю нічога,
І тое, што б мне расказалі, мне чуць не належыць.
Я — ніва, якая захоўвае зернейка Бога,
І ветра не чуе, і шчасцю не ведае межаў.

*ЮРЫЙ КУЗНЯЦОЎ*
*(1941—2003)*

## МАРКІТАНТЫ

Ці то праўда, ці байка, але
Гэткі погалас ходзіць.
Лейтэнанты заўжды на чале,
Маркітанты ў абозе.

Маршыруе пяхота. Раўняць
І шыхты, і настроі!
А насустрач варожая раць
Праз даліны-узгор'і.

Вось сышліся пад небам яны
І разбілі два станы.
Тут і там запалалі агні,
Узышлі два туманы.

Лейтэнантам нашто мудраваць
Над ваеннаю картай.
Справа ясная — трэба паслаць
Віжаваць маркітанта.

— Вам, як воям, капейка цана.
Пастарайся, крапіўнік,
Паразнюхаць, дзе ёсць слабіна,
Што задумаў праціўнік?

І праціўнік не стаў развaжаць
Над ваеннаю картай.
Справа ясная — трэба паслаць
Віжаваць маркітанта.

Між сабой маркітанты вайны
Не вядуць аніколі.
І ад самай сівой даўніны
Людзі блізкага кола.

У нічыйных кустах сутыкнуў
Іх абодвух выпадак.
Кожны ведаў другому цану,
Згаварыліся ладам.

Разышліся ў цямрэчы яны,
Той і гэты крапіўнік,
Распытаўшы пра ўсе слабіны
І што робіць праціўнік.

А як ранкам паплыў па зямлі
Пошчак птушачак боскіх,

Тут адзін аднаго пасяклі
Геранчныя войскі.

А жывыя аплакалі кроў
Тых, хто ўмёр па-геройску,
Падзялілі сумленна дабро,
Разышліся па-свойску.

Бо жывыя ўлюбёнцы вайны
Не ваююць ніколі.
І ад самай сівой даўніны
Людзі блізкага кола.

*ВОЛЬФ БІРМАН*
*(1936)*

### КАЛІ ЯГО ЗВОЛЬНІЛІ

Калі яго звольнілі, ён завітаў у свой кабінет
Апошні раз, прыбраў усё са стала і з сейфа
І шнур апусціўся аслаблы ў скрынку з пячаткай
Калі ён зняў са сцяны Дзяржынскага й вазон
Былі пры гэтым ад грамадскага камітэту
Муляр і медсястра, закаханая пара
Сачылі кожны рух, цягалі ўжо непатрэбныя акты
Збянтэжана пасміхаліся. Дзяўчына ніякавата
Забрала ў яго рэвальвер, ключы і пячатку
Тут афіцэр усміхнуўся таксама, выдыхнуў спрактыкавана
Сіняватыя колцы дыму парачцы ў твар
Цыгарэта дрыжала ў пальцах між вялікім і спаказным
Ён сказаў: неўзабаве наш вернецца час
І ваша гадзіна праб'е, маладыя шчасліўцы

## АЛЕСЬ БАДАК

**(1966, в. Туркі Ляхавіцкага р-на)**

Як і многія аўтары гэтай анталогіі — выпускнік філфака БДУ (1990). Яшчэ студэнтам трапіў на ўсесаюзны паэтычны фестываль у Алма-Аце, але перакладаць пачаў не будучых акынаў, а — Шэкспіра. Пяцікурснікам ужо трымаў у руках першую кнігу «Будзень», прадмову да якой напісаў У. Някляеў — на той час рэдактар папулярнага моладзевага часопіса «Крыніца». А. Бадак працаваў у рэдакцыі «Бярозкі», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць». Выдаў некалькі дзіцячых кніг, на замову аднаго з прыватных выдаўцоў склаў буквар, які да гэтай пары застаецца ў рукапісе. Піша песні, тэксты якіх на роўных правах з астатнімі вершамі змяшчае ў сваіх зборніках («За ценем самотнага сонца», 1995; «Маланкавы посах», 2004). У апошнім знаходзім цэлы раздзел перакладаў: Шэкспір, Лермантаў, Блок, Бунін, Кастэнка. Пасля выхаду ў свет паэтычнай анталогіі «Краса і сіла» ў пух і прах раскрытыкаваў яе ў «ЛіМе», у выніку — атрымаў заданне скласці альтэрнатыўную анталогію для дзяржвыдавецтва. Добра было б, каб праект ажыццявіўся, — у Бадака добры паэтычны густ, ды і айчынную паэзію ён ведае як мала хто. Чым больш з'яўляецца розных анталогій, тым лепш для літаратуры і яе чытачоў.

*МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ*
*(1814—1841)*

* * *

Як дух і роспачы, і зла,
Маю душу ты абняла;
Чаму, скажы мне, назаўжды
Яе забраць не можаш ты?

Мая душа — твой вечны храм;
Як лік святы — твой воблік там;
Не ад нябёсаў — ад яго
Чакаць ратунку мне свайго.

*АЛЯКСАНДР БЛОК*
*(1880—1921)*

* * *

Колкі вецер гуляе з шыпшынаю,
Рэдкім снегам у вокны б'е.
Ты пайшла да чужога мужчыны. Я —
Прамаўчу. Я дарую табе.

Ты не знаеш, каму ты молішся
У палоне падманных слоў.
Аб шыпшыну халодную ўколешся,
Ідучы сярод ночы дамоў.

Але, верачы шчасцю нясмеламу,
Зноў з табой станаўлюся сляпым.
Ты ад вуснаў яго яшчэ хмельная.
Я змаўчу. Як не бачу зусім.

Што на сэрцы тваім туманіцца,
У цішы маёй стане ясней.
І, калі ён з табой расстанецца,
Ты прызнаешся толькі мне.

*ЛІНА КАСТЭНКА*
*(1930)*

* * *

Яшчэ акацыі салодка спалі
І травы не заплакалі расой.
Мы йшлі ўдваіх, і вішні асыпалі
Ружовы цвет на плечы нам з табой.

Стаяла ціша. Хваляю Дняпровай
Лунала чайка, выгнуўшы крыло.
А сонца, сонца, сонца — пурпуровым! —
Такім яшчэ ніколі не было.

А мы ішлі. Нас вішні асыпалі.
Яшчэ не раз там памяці хадзіць.
Акацыі салодка гэтак спалі...
Маўчалі мы, каб іх не разбудзіць.

*ТАМАРА КАЛАМІЕЦ*
*(1935)*

**ВЫШЫНЯ**

Для цябе сіло я не пляла —
Не аб гэткай марыла сустрэчы,
Бо сама я толькі што змагла
Вырвацца ў нябесную сінечу.
Радуюся хмельнай вышыні,
Цешуся шырокім далягдядам,
Хоць лячу з вясновай чысціні
У пару скупую лістапада.
Не цябе, а неба я люблю.
А калі й цябе, дык толькі ў небе.
А таму ў сіло і не лаўлю —
Мне нявольніка зусім не трэба.
...Прамільгнуць і гэтыя паўдня.
Счырванее далягляд на ветры.
Пад крылом спружыніць вышыня,
Як у песні, як у казцы светлай.

*КАНСТАНЦІН МАСКАЛЕЦ*
*(1963)*

**ЕВА**

на ветры басаногая стаіш
варушыць вецер валасы даўгія
навокал землі свецяцца чужыя
на вуснах ловіць верш нямая ціш
і ты не чуеш больш як у журбе
тваё імя каханы паўтарае
жыццё цяперашняе — сон без краю
ніхто не зможа разбудзіць цябе

## МАРЫНА АБРАГІМОВІЧ

**(1966, Менск)**

Балгарскай мовай авалодала на філфаку БДУ, які закончыла ў 1989 г. Прычым настолькі дасканала, што, папрактыкаваўшыся ў «Інтурысце» з балгарскімі турыстамі, выкладала яе ў Інстытуце кіравання і прадпрымальніцтва ды Інстытуце падрыхтоўкі навуковых кадраў. Цяпер — супрацоўніца Нацыянальнай Акадэміі навук, займаецца мовазнаўствам. Неаднаразова ўдзельнічала ў семінарах балгарыстаў у Сафіі ды Вялікай Тырнаве. Пераклады балгарскай паэзіі вось ужо гадоў пятнаццаць публікуе ў перыёдыцы.

*ПАВЕЛ МАЦЕЎ*
*(1924)*

* * *

Адчыні мне. Я нясу спакой.
Дзіўных прытчаў ведаю нямала.
Глянь мне толькі ў вочы, каб заззяла
для мяне святло душы тваёй.

Хай смуга прыгорне нас ізноў,
і надзея, што жыве заўсёды,
нам дазволіць вымераць без слоў
глыбіню выгнанніцы-пяшчоты.

У бязгуччы рухі хай кіпяць,
вымярэнні і абмежаванні.
Перажыўшы квецень і каханне,
птушкі позна ўвосені маўчаць.

*МАРКА ГАНЧАЎ*
*(1932)*

## ТОЙ САМАЙ ГРУПЫ КРОЎ

Той самай групы кроў мы з таткам двое
у жылах мелі — цалкам зразумела
без медыцынскіх доследаў. Як тое,
што на дваіх адну надзею мелі.

І кроў мая яму ўлілася ў жылы,
каб жыў яшчэ ён. Ды чыя ж віна,
што божымі кароўкамі кружыла
над травамі магільнымі яна.

Дагэтуль, што таксама зразумела,
за тое мне душа баліць яшчэ,
што кроў, якую б групу мы ні мелі,
наперад — так, назад жа — не цячэ...

*КОЛЁ СЕВАЎ*
*(1933—1991)*

## МЕСЯЦОВАЯ САНАТА

У гэту ноч з-пад пальцаў тваіх чуйных
пальецца месяцовая саната.
Я гэта сэрцам трапяткім адчую,
калі спадуць маёй самоты краты.
У гэту ноч над апярэннем клавіш
зноў затрапечуць пальцы твае лёгка,
ты праз акно ў прастору заўздыхаеш,
і пойдзеш ты па Млечным Шляху крохкім...

Іграй жа! Найпяшчотную санату
далёка ў моры буду чуць і помніць.
Яна — начное незямное свята,
яе пісалі месячныя промні.
Іграй, іграй, хоць я зусім не знаўца
музычных тонаў, нот і партытураў,
і калі нават узаўецца бура —
працягвай, не ламай танюткіх пальцаў,
бо клавішы марскіх салёных хваляў,
калі іх вецер выцінаў з налёту,
шалёныя акорды выбівалі
і з сэрца праганялі прэч пяшчоту.
Іграй, каб гукі месячнай санаты
былі са мною у любой далечы,
бо ёю шлях нязгасны правяла ты
ў маю душу навечна.

*НАДЗЯ КЕХЛІБАРАВА*
*(1933—1988)*

**ВЕЧНАСЦЬ**

Міне вясновы светлы неспакой,
і квецень летняя, усё міне,
і ліст, крануты восені рукой,
і з інею малюнак на акне.

Ці велічным палацам быў твой дом,
ці ў каляіне свой кавалак еў —
і ты адыдзеш з кволым цвыркуном
і згубішся між камянёў і дрэў.

Твая адвага не адхіліць смерць,
не мае сэнсу і жаночы страх.
Не можа свечка без канца гарэць.
Жалеза ператворыцца у прах.

А песня, у якой палын і мёд,
дзе і святло, і непраглядны змрок,
не змоўкне, будзе жыць за годам год,
у будучыню смела зробіць крок.

І слова гэтае ўзнясецца зноў,
такі закон спрадвеку існуе:
раз песня здабыла і плоць, і кроў —
няма ёй смерці, не забыць яе.

Ты будзеш пець? Калі душой — тады
душой дасі жыццё радкам сваім.
І... мо не знікне голас твой гады.
А як імя? Галоўнае не ў ім.

* * *

А ўначы сёння клён горка плакаў —
дыван перад домам кляновы.
Вецер болей не пахне ўжо дыняю, жоўтай, як мёд...
І я чую:
буслы над ракою сабраліся адмыслова —
абмяркоўваюць хуткі адлёт.

Адчуваю я:
полымя страцяць свае непрыкметна
песні тыя, што чэрвень са мною знайшоў.
І павянуць хвальбонкі спаднічак тых летніх,
што пашыты са звонкага смеху, з гульні матылькоў.

Бачу я:
хмары кідаюць попел у твар пры сустрэчы.
А нядаўна, насычаны сінню, іскрыўся абсяг.
Квецень горада — гонар яго — памірае зусім недарэчна
ў скарчанелых садах.

І крычу я:
чакайце! Заліў мой шырокі,
дай хоць кроплю я ззяння твайго захаваю, вятрам не аддам!..
Ды пускаюцца ў дзікія скокі
коні белыя там.

Перад снежнаю грываю, поўнаю пены,
у грудзях маіх здрадніцкі страх паўстае:
хіба радасць знікае вось гэтак імгненна?
Гэтак хутка няўжо пагубляла я скарбы свае?

І адгадваю:
снег замяце агароджы і хаты.
А ўва мне неадступная думка аб сонцы вялікім звініць...
Дрэву лепш: да яго, захмялеўшы ад радасці, бусел крылаты
прыляціць, і паўторацца летнія дні.

## МІХАСЬ СКОБЛА

**(1966, хутар Шыя паблізу м-ка Дзярэчын Зэльвенскага р-на)**

Колькі словаў для агульнага біяграфічнага рэестра: закончыў філфак БДУ, працаваў у часопісе «Роднае слова», у выдавецтве «Беларускі кнігазбор». Першая спроба перакладу да гэтай пары прыгадваецца мне з прыкрасцю. Перад здачай іспыту па нямецкай мове на філфаку БДУ я вырашыў падстрахавацца і за ноч, раз-пораз заглядаючы ў слоўнік, пераклаў славутую баладу Гётэ «Erlkönig» — «Лясны цар». На іспыце я прадказальна «плаваў» і схапіўся за падрыхтаваную «саломінку». Выцягнула. Але доўга жыў з адчуваннем такім, быццам нешта пазычыў у Гётэ, а аддаць не магу... Служыць у савецкім войску мне выпала ў Літве і ў Заходняй Украіне, прычым перад самым сконам імперыі. Два гады я адчуваў сябе акупантам і яшчэ ў казарме пачаў перакладаць украінскіх паэтаў, каб хоць такім чынам апраўдацца за бесцырымонны салдацкі бот на вальналюбнай зямлі Франка і Шаўчэнкі. Зразумела, што

комплекс віны пры перакладах не памагаты, патрэбныя яшчэ і пачуццё любові, і веданне мовы, і шмат чаго яшчэ. Перакладаў я на патрэбу ўласнай душы, хоць згодзен, што і ад шлюбаў па разліку нараджаюцца дзеці, як заўважыла Г. Ахматава, маючы на ўвазе пераклады дзеля заробку. З задавальненнем паўдзельнічаў у двух цікавых перакладчыцкіх праектах: «кнігазбораўскім» выданні А. Міцкевіча і «Анталогіі літоўскай паэзіі» (2002). «Песняра Літвы» рабіў з арыгінала, літоўцаў, на жаль, з падрадкоўнікам, дапамагала хіба агульная лексіка — каля 2000 словаў, зразумелых без слоўніка і ў Вільні, і ў Менску.

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

## ТРЫ БУДРЫСЫ

Ганарыцца сынамі, як і сам — ліцвінамі,
Будрыс: гожыя хлопцы з аблічча,
А бясстрашныя ў бойцы, а ўдалыя малойцы;
Да гасподы бацькоўскай іх кліча.

«Маю клопат я пільны — наказалі мне з Вільні,
Што ідуць ваяваць неўзабаве
Кейстут-князь — з крыжакамі, а Альгерд — з маскалямі,
А Скіргайла на ляхаў зуб мае.

Мелі поцяг здаўна вы да ваяцкае славы,
Як было ў нашым родзе адвеку.
Час прыйшоў сядлаць коні для вялікай пагоні,
Хай багі возьмуць вас у апеку.

Я наказ вам цяпер дам: ты ідзі за Альгердам,
Ён на Ноўгарад сілу абрыне.
Там запасы пушніны, срэбра, зброі, тканіны —
Добры мецьмеш набытак, мой сыне.

Ты ж за Кейстутам мужным бі мячом харалужным
Крыжакоў, каб адвадзіць нашэсці.
Там бурштыну — дасхочу, нібы зорак тых ноччу,
Дыяментаў — за раз не прывезці.

Ну а ты мне з-за Нёмна, б'ючы ляхаў нястомна,
Не забудзь падаць добрую вестку:
Хай там золатам ляхі вас засыплюць па пахі, —
Прывязі мне з-за Нёмна нявестку.

Бо прывабней, як ляшка, падшукаць жонку цяжка:
Як вярбіначкі — стан іх дзявочы,
Працавітыя вельмі, а вясёлыя, шэльмы,
Як дзве зорачкі, свецяцца вочы.

Маладым быў, згадаю, — з таго самага краю
Я прывёз сабе жонку-красуню.
Пражылі мы паўвека, надмагільнае века —
Па-над ёй, і ніхто не адсуне...»

Развітаўся з сынамі, як і сам — ліцвінамі,
Бацька й моўчкі вярнуўся ў гасподу.
Лета-восень мінае, Будрыс марна чакае —
Не вяртаюцца хлопцы з паходу.

Ясным сонечным ранкам вершнік стаў перад ганкам.
Затрымцела ў вакне занавеска:
«Што пад буркаю, сынку, прывёз бацьку пушнінку?»
«Бацька, не, гэта — ляшка-нявестка».

Ясным сонечным ранкам вершнік зноў перад ганкам,
А бадзёры — не ў знакі паездка.
«Што пад буркаю, сыну? Няўжо столькі бурштыну?»
«Бацька, не, гэта — ляшка-нявестка».

Ясным сонечным ранкам — трэці вершнік пад ганкам.
Сціхла дворня каля пералазу.
Будрыс больш не пытае, а радзіну склікае,
Каб гуляць тры вяселлі адразу.

## ВАЯВОДА

Затупіўшы ў бітвах зброю,
Цёмнай ночнаю парою
Ваявода нечакана завітаў дамоў.
Што ды як — пытае слугаў,
Ды адказу не даслухаў
І зайшоў да жонкі ў спальню без даўгіх прамоў.

Ціха ў спальні, пуста ў ложку.
Што было тут наапошку?
Ваявода — шаблю кінуў, сам упаў у гнеў.
Хіліць голаў долу дума.
Кліча гайдука Навума.
Той зайшоў, убачыў пана ды ледзь не самлеў.

«Ты чаму, паганы хаме,
Адвязаў сабак пры браме?
Пачакай жа, разбяруся і з табою, гад.
Падрыхтуй мне наўзгатоўку
Патранташ і дубальтоўку
І наўслед за мной нячутна пакіруйся ў сад».

Ваявода са слугою
Сцежкай роснай патайною
Моўчкі крадуцца між дрэваў, прыцішаюць крок.
Раптам бачаць з-за шыпшыны —
Пані і пры ёй мужчына,
Перад ёю кленчыць, месяц рассявае змрок.

Спахмурнелы пан са сховы
Чуе роспачныя словы:

«О каханая, цябе, павер, я не забыў.
Мроіў з вечара да рання —
З кім цяпер маё каханне?
Ваявода за дукаты жарсць тваю купіў.

Я ж кахаў цябе, бы кветку,
Ясны месяц быў за сведку.
Меркаваў, шчаслівай долі буду выбранец.
Не кахаў ён, ані сватаў —
Кінуў прыгаршчы дукатаў,
І пайшла ты паслухмяна з панам пад вянец.

Ён штоночы ласа будзе
Белыя пяшчоціць грудзі,
І ў пярынах будзе лётаць лебядзіны пух.
Давядуць мяне да згубы
Тыя рукі, тыя губы,
Што аднолькава ласкавымі былі для двух.

Ледзь скакаў мой конь стамлёны,
Уставаў я на страмёны,
Каб паспець сказаць табе апошняе "бывай",
Каб абняць апошнім разам
У альтанцы, што пад вязам,
І ад'ехаць назаўсёды у чужацкі край».

Пані ўсхліпнула й прапала,
У абдымкі пані ўпала:
«Мой каханы, мы яшчэ сустрэнемся з табой!»
А ля брамкі ля ўвахода
Ашалелы ваявода
Нарыхтоўваў смерцяносны для яе набой.

Гайдуку даў дубальтоўку:
«Як пацэліш, дам гатоўку», —
Гаманец пад поўняй бліснуў з-пад крыса.
Тут гайдук заенчыў ціха:
«Ці ж я стрэлю? Як на ліха,
Пэўна, порах падмачыла, пане мой, раса».

«Ах ты, хамскае выроддзе,
Мусіш стрэліць, плакаць годзе!
Як не стрэліш — падстаўляй пад кулю ўласны лоб.
Бачу, ты як быццам рады
З мае ганьбы, яе здрады?
Каб не здрада, то й адпомсты, хаме, не было б».

Грымнуў стрэл. Раптоўна, сходу
Пахіснула ваяводу,
Ён няўцямна азірнуўся, гоцнуўся ў траву.
Стрэльба панская дыміцца,
Куля, ведама, дурніца,
Што патрапіла знянацку пану ў галаву.

*ЛІНА КАСТЭНКА*
*(1930)*

* * *

Маё каханне! Я перад табою.
З маіх начэй і дзён маіх не згінь.
Вазьмі — але не ўслужлівай рабою,
не ашукай і крылы мне пакінь.

Крый Бог, каб свет, мой свет сышоўся клінам
і ты забыў, дзеля чаго жыву.
Перахапі над шляхам тапаліным
і падары мне сонца булаву!

Не дазваляй заблытацца ў драбніцах,
не размяняй на паланянкі ўздых,
бо косці перавернуцца ў труніцах
шляхотных, мужных прадзедаў маіх.

І іх дамоў прывозіў конь стамлёны,
і ў іх было каханне, бы ў мяне.
І іх хапалі жонкі за страмёны
і кленчылі ў згарчэлым палыне.

А там, а там... Адчайны клёкат бою,
і звон мячоў агучваў далячынь.
Маё каханне! Я перад табою.
З маіх начэй і дзён маіх не згінь.

*МІХАЛ ЧЭРНІК*
*(1943)*

**БЫШЫЧКІ**

Палабскую вёсачку
лес завязаў,
як вузельчык.

Званіца на плошчы
просіць заступніцтва ў неба.

Хаты сышліся на раду —
як развязаць
пятлю адзінай дарогі,
што пачынаецца й сканчаецца
тут.

*ЮЗАФ ШЫМАН*
*(1948)*

## З ВЕТРАМ

з ветрам цябе мілую
прагні майго палону
табе — маё алілуя
ты — вечны мой стод да скону

з ветрам мы пабрацімы
смага мяне даймае
птушкамі паляцім мы
за зашмаргу небакраю

з ветрам мы маем сілы
ноч перайначыць у ранак
і разняволіць крылы
між галінастых маланак

*ГІНТАРАС ПАТАЦКАС*
*(1951)*

## ЖЫЦЦЁ КАХАНКА

Сядзець у шафе, прытаіўшы дых, —
Такі ўжо лёс каханкаў маладых.
У вокны яны скачуць проста з неба!
Красуні усміхнецца кавалер
(Сур'ёзны адчуваецца намер),
І шэпт яе няўпэўнены: не трэба...

Каханак незвычайны мае нюх,
Сабакам тройчы аббяжыць наўкруг,
А знойдзе, што шукаў, і не спудлуе.
І сэрца задрыжыць і запяе,
І поўні дзве пад блузкай у яе
Ён месяцовым позіркам мілуе.

І тут не абысціся без прыгод.
Захочацца сарваць салодкі плод,
Ну, а пасля спакусы пойдуць гужам.
Граху аддацца з галавой, спаўна!
І будзе пагарджаць яе мана
Зацюканым і вартым жалю мужам.

Каханак адвітаецца, і ў ноч
Глядзецьмуць вугалькі жаночых воч,
Застыгнуць цені ў эратычных позах.
Падасць гарбатнік голас ручая,
За стол яна прысядзе, нічыя,
Хаваючы ад дамачадцаў позях.

Кахання прагне кожная з істот.
Прырода пазбаўляецца пустот,
І сметнік садам робіцца прыгожым.
Накрэслены закон: не чужалож!
Але і грэх, заманлівы, як грош,
Становіцца нарэшце семем Божым.

Каханак датрымае слова і
Нальe ў бакалы хмельнага аі.
І абыякава глядзецьмуць людзі:
Пагляд панылы, цяжкая ступа,
І — стане ля ганебнага слупа
Жыцця, што пройдзе ў жарсці і спагудзе.

*АНТАНАС А. ЁНІНАС*
*(1953)*

## СОНЦА НА ДАРОЗЕ

Дарога лес як дзідай пранізала
а сонца ў электрычныя драты
ублыталася на падмогу звала
цямнеў заход маўклівы і пусты

стаялі насцярожаныя дзічкі
даўно ўжо ім абрыд уласны гнеў
нібы мініятурныя каплічкі
з адхону лубін радасна сінеў

аблокі неба светла падвышалі
праехаў воз і не ўтрымаеш слёз
здавалася што конік стрыг вушамі
параненае сонца ў вёску вёз

## ЗАНЯДБАНАЯ МАГІЛА

Тут замаўкае самы гаваркі
як боханы — магільныя грудкі
крыжоў нашэсце мармур і граніт
і лаканічнасць надмагільных пліт

да мора прыпадае небасхіл
і ветрык вее як з астатніх сіл
упалі сосны свой дажыўшы век
і ты часовы ў свеце чалавек

пакутамі а дзе і праз падман
ты ўсё жыццё ствараеш свой раман
пачуцці рэчы спрахне ўсё як смецце

пакосіцца і рухне славы тын
ты жабраком зрабіўся перад тым
як апынуцца ў валадарстве смерці

*ІВАН МАЛКОВІЧ*
*(1961)*

**ЛУБОК**

Дзесьці ў ціхім бязлюдным закутку
на вуголлі намоклым, у смутку
анёлы два:

першы крылы другомуваскуе,
а другі сябра ў вочы цалуе —
чакаюць Раства.

Поруч з імі дзіцёнак прыгожы,
і ніхто здагадацца не можа:
хто каго пад ахову узяў? —

ці дзіцёнак іх, а ці іначай —
два анёлы дзіцёнка, што плача,
румза, ручкамі неба абняў.

Белакрылым анёлам дзе дзецца?
Што рабіць ім на чорнай зямельцы?
Вугаль біць сілаў ім не стае.

Кожны з іх мог бы крылы атрэсці,
немаўля на нябёсы аднесці,
ды Гасподзь не дае...

Дзесьці, дзе паскіданы ялінкі,
дзе з заморскіх пладоў шалупінкі,
дзе сняжынак сяйво,

два анёлы, пры іх — немаўлятка
ў кулачку заціскае калядку...
Прамінула Раство.

*АЛЕСЯ МАМЧЫЧ*
*(1981)*

* * *

Мы — як муміі пад аховай.
Гэта — гета — Украйналанд.
Груз самоты стопавярховай
Я трымаю, нібы атлант.

Наліпае туга, як гліна,
Maloross у азёрах-пенснэ!
Бы ў фальклоры, стану калінай —
Хоць на дудкі рэжце мяне.

* * *

На пагостах адзін толькі мох
Прачытаў надмагільныя руны.
Камянелі крыжы ля дарог,
А цяпер камянеюць трыбуны.
Хтосьці ўзлез на іх — ідалаваць,
За усё — адпаведная плата.
І світанкі з дакорам стаяць,
Як Хрыстос над сумленнем Пілата.

## АНДРЭЙ ГУЦАЎ

**(1967, в. Галавінцы Гомельскага р-на)**

Прадстаўнік рэдкага віду «падвойных перакладчыкаў» — перакладае з латышскай на беларускую і з беларускай на латышскую. Мову вывучыў у Латвійскім універсітэце: у 1998 г. латышы запрасілі да сябе па тры чалавекі з кожнай савецкай рэспублікі. Беларус зарэкамендаваў сябе нязгорш, бо пасля заканчэння заняткаў у СП Беларусі прыйшоў ліст ад старшыні Саюза пісьменнікаў Латвіі В. Аватыньша: «Мы ўдзячныя Вашай краіне, Вашай літаратуры за гэтага чалавека...». Пазней, у 1995-м, Андрэй ездзіў ва ўжо незалежную Латвію выкладаць у Рыжскай беларускай школе. Па вяртанні на радзіму доўга не мог падшукаць сабе працу, пакуль не ўладкаваўся ахоўнікам на нейкай базе пад Менскам. Пераклаў цэлую бібліятэчку сучаснай паэзіі (акрамя прадстаўленых у анталогіі — А. Чакса, І. Зіеданіса, Ю. Кронбергса, К. Скуеніекса), а таксама раман Г. Яноўскіса «У незваротнасць». На жаль, усё гэта ў кніжным выглядзе свету пакуль не ўбачыла. Рукапіс зборніка У. Бэрзіньша гадоў дзесяць беспаспяхова вандруе па розных выдавецтвах (тут прыгадваецца эпіграма Я. Купалы: «Не спяшыць кантора / кніжкі выдаваць, / хіба на тым свеце / будзем іх чытаць»). Больш пашанцавала Гуцаву-паэту: дзве ягоныя кнігі — «Адчужэнне» і «Шалёная ноч» — не размінуліся-такі з варштатам Скарыны.

*МАРЫС ЧАКЛАЙС*
*(1940)*

### АДЗІНОКІ ВЕЛАСІПЕДЫСТ

Адзінокі веласіпедыст цераз пасляапоўдзень
паўз скошаныя паплавы і копкі сена
адзінокі веласіпедыст
паўз дрэва адзінокае пасярод поля
на фоне
кустоўя і няскошанага вятроўніку
адзінокі веласіпедыст
сабака
убачыўшы веласіпедыста
давай брахаць
сабака значыць яшчэ болей адзінокі
не гаўкаў жа на копы сена
сабака значыць больш самотны
чым веласіпедыст

але яны мне ўсе прыносяць радасць
адзінокі веласіпедыст

сабака адзінокі
дрэва адзінокае

Значыць ты ёсць болей адзінокі?
кажа нейчы голас

Значыць гэты Нехта
ёсць найсамотнейшы
за ўсіх?

## НА СРЭБНА-ШЭРАЙ ВЕЖЫ

На срэбна-шэрай вежы
гадзіннік гадзіны лічыць.

Так шмат ужо? Калі?
Дзінг-донг-донга.

Роўна за пяць секунд да гонга —
шум, крылля ўзмахі.
Птахі.
Куды леціцё?

Страху гадзіннік працуе.

Мяняюцца поры, апраткі,
але штотыдня на вежы
стары званар
гадзіннік заводзіць.

Хто птахаў заводзіць?

## ПТУШКІ НАПРАДВЕСНІ

зранку
я думаю сёння толькі пра птушак
дзе
у якіх нябесных дуплах
да якіх нотных лініяў
прычапіліся

бунтуюцца
прадвесне
новы час
у жэстах
што не перакладаюцца

прадвесню
птушкі непатрэбныя

прадвесне птушкам
так

*УЛДЫС БЭРЗІНЬШ*
*(1944)*

**НЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА**

Цесля майструе галактыкі.
Калісьці даўным-даўно нешта было:
Адна маленькая планета,
І на той планеце вечар,
І домік у сонечных промнях,
І калі вакна сядзеў суседскі Яніс,
Штосьці думаў,
Выдумаў
І забыўся.
Цесля падганяе электрон да электрона,
Галактыку да галактыкі.
Ніяк.

* * *

Пасля дажджу,
калі зямля выносіць назад тое, што засталося рэштай
ад мяне,
калі нябёсы зарастаюць кропам,
пасля дажджу.

Пасля дажджу,
калі эстонец выходзіць на падворак, калі літовец
пятляе па лужах,
калі выпроствае спіну кветка і на горцы косці мае
ствараюцца і распускаюць пах, і падымаюцца,
пасля дажджу.

Пасля дажджу,
калі мора прыцякае так блізка,
калі зямля мне гаворыць — хлопча,
калі нябожчыкі дурнап'яняць са сцяблін і сустракаюцца
ў дыханні,
пасля дажджу.

*АМАНДА АЙЗПУРЫЕТЭ*
*(1956)*

* * *

Пакінь мне белы аркуш
у сваім дзённіку,
каб там было дзе мне ўпісацца,
як ценю на святле.

Калі ты больш не пішаш дзённіка,
пакінь мне вольнай шыбку
ў акне свайго пакоя.

Не пазірай у яе да хвілі,
як я прайдуся міма.

Калі ў цябе й акна няма ўжо,
пасунься трохі і пакінь мне
краёк адзін сваёй магілы,
каб мне было дзе ўкараніцца.
Мяне зямля ўжо не трымае.

*ЭГІЛС ЗІРНІС*
*(1956)*

* * *

прачнуліся мы ў старажытным замку
і да дзвярэй пайшлі мы каралеўны
ды караля дачка была дарослай
не верыла больш аніякім цудам
назвала нас зладзюгамі й віжамі
павесіць разам з вартай загадала
ад нашае прыгоды ў даўнім замку
не засталося нават недапалка

## МІФАЛОГІЯ

шукацьму я цябе
як вернецца рака
ставок кульнецца угору дном у высі
сарвецца хмара з ланцуга
ды прыйдзе змрок
яго ты больш баішся

сустрэну я цябе
як сядзе ноч наўкол
і скрушна зорка на плячы сатлее
мярцвяк змарнее незарыты ў дол
і з помсты сыч на дрэве ашалее

кахацьму я цябе
як дол адкрые дах
з падзем'я голас даляціць далёка
і расквітнее папараць ў руках
і рэха крокаў дасягне аблокаў

пакіну я цябе як вернецца рака
і скрушнай зоркай ноч на плячы сатлее
і расквітнее папараць ў руках
ды адцвіце
і раптам пастарэе

## *ГУНТАРС ГОДЫНЬШ*
*(1958)*

* * *

знік я ў пустыні з пяском апалёным
сведчыць наступнасці сведчыць плямёнам

глыбока пустыня нясе ў сабе воды
стрэнуць аазіс не будзе нагоды

будзе пясчаная бура і суха
гнецца змяя каб паэзію слухаць

вершы мае як па сэрцы бальсанам
знае змяя — я прадбачу дзе кланы

глянь што ў пустыні было б жыццяздольным
можна ў пустыні выказвацца вольна

## *КЛАЎС ЭЛБЕРГС*
*(1959—1987)*

* * *

калі мы сном абое станем
з якога будзяцца няспешна
я пакланюся і моўлю
з шырокай мужчынскай усмешкай

ну бачыш
як танна
дарагая
купіць квіткі можна Сюды

цяпер нашчадкі хай стараюцца
заробяць нам квіток Туды
ў жыццё назад

калі ж не будзем мы патрэбны
нашчадкам так ёсць што рабіць
хадзем блюзнерыцца курыць
і замагільны суп варыць

* * *

Столькі той і ёсць любові,
колькі, Даўгава, нясеш.
Шмат шырэйшых рэк на свеце —
берагоў не асягнеш.

Ширачэйшых — так, бясспрэчна,
а шчыльнейшае няма:
душы ходзяць па паверхні,
ўбіты меч стаіць старчма.

## СВЯТЛАНА ЯВАР

**(1968, Менск)**

Сапраўднае прозвішча — Сачанка; Святлана — дачка вядомага пісьменніка Барыса Сачанкі. Пасля заканчэння філфака БДУ (1990) працавала ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, цяпер — у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук. Даследуе мову М. Сяднёва, падрыхтавала да абароны кандыдацкую дысертацыю. Апрача вершаў сучаснага амерыканскага паэта М. Вудварта пераклала з польскай кнігу К. Барташэвіча «Гісторыя паўстання Касцюшкі».

*МАЙКЛ ВУДВАРТ*
*(1959)*

### ЛІСТ З ТЫБЕТУ

Атамы, з якіх складалася рака,
спыніліся.
Таму яна знерухомела.
Чарада дзікіх быкоў апынулася
ў ледзяной пастцы.
Хутка і жывёлы застылі.
Здавалася, што яны
Уночы і ўдзень
Плывуць па рацэ,
Якая — сама — не рухаецца.
Бычыныя раты расчыніліся,
Пачырванелі ноздры,
Ускінуліся вялізныя рогі,
Цяпер уся пастава жывёлін выказвала
безвыходны жах.
Іх скульптуры засталіся тут да вясны.

Праз месяц, узімку, у пошуках броду
З гары сыходзіў наш караван.
Ідучы следам за ўзмакрэлымі якамі,
Мы здзіўляліся: што такое гэтыя
Далёкія камяні, якія крочаць,
Хоць і зашыты ў белае шво ракі.
Над галовамі ў нас праляцеў арол...

Падчас таго, як мы цягнуліся
Паверсе пяцідзесяці звяроў,
ператвораных у ледзяшы,
Напалохаліся
Нават нашыя вярблюды,
Што супыніліся, паслухмяныя,
У маўчанні,
На мяжы паміж жыццём ды смерцю —
Аж раптам усе мы ўбачылі:
Быкі не могуць глядзець,
Ім даўно ўжо выдзеўблі вочы.

## ЛАРЫСА РАМАНАВА

**(1968, в. Покаць Чачэрскага р-на)**

У першай кнізе Л. Раманавай «Аддай асалоду Богу» (1997) сустракаліся вершы, напісаныя «на матыў» Рыльке. І не больш. Перакладамі, наколькі мне вядома, паэтка ніколі не захаплялася. І раптам атрымліваю з Веткі, дзе яна працуе ў музеі, ліст, а ў ім — нізка перакладаў з нямецкага паэта Паўля Цэлана. Сярод іх — і апублікаваная тут «псальма слічная». Я, натуральна, пацікавіўся, ці няма чаго-небудзь яшчэ? У адказ атрымаў Рыльке, Аксану Забужку і яшчэ сёе-тое, што потым было выдрукавана асобным раздзелам у новым зборніку Ларысы «Людзі і рыбы».

*РАЙНЭР МАРЫЯ РЫЛЬКЕ*
*(1875—1926)*

### МУЗЫКА

Музыка: дыханне статуй. Інакш:
цішыня абліччаў. Ты мова, дзе мовы
скончэнне. Ты час, што застыў вертыкальна на шляху
        прамінулых сэрцаў.
Пачуцці да каго? О, ты пачуццяў
пераўтварэнне ўва што? У звонкі ландшафт.
Ты падарожніца, музыка. Ты далей, чым сэрцы.
Глыбіннае наша,
тое, што нас пераўзыходзіць, імкнецца вонкі, —
расставанне святое:
так наша існасць заваладвае намі,
нібы спакусная далеч, нібы іншая
бачына паветра:
чыстая,
недасяжная,
незаселеная болей.

*ПАЎЛЬ ЦЭЛЯН*
*(1920—1970)*

### ПСАЛЬМА

Аніхто не замесіць нас зноў з зямелькі ды гліны,
Аніхто й справы не мецьме да нас, пылу,
Аніхто.

Усхваленне Табе, Аніхто.
Дзеля цябе
мы хочам квітнець, —
Табе насустрач.

Анічым былі мы, ёсць
і застанемся, квітнеючы,
анічым —
анічыйнаю Ружай.

Крэскаю, згібам душэўна-ясным,
нябёсна-пустынным пылком,
чырвонай каронай
і пурпурнага слова,
што ўзнеслася намі
па-над колкай сцяблінай.

*АКСАНА ЗАБУЖКА*
*(1960)*

* * *

— Няўжо яшчэ ёсць людзі,
якія чытаюць вершы? —
спытаў паэт.
— Бо ж вершы —
гэта толькі папяровыя сурвэткі,
што служаць мне для прамакання слёз.
Людзі, якія падбіраюць
мокрыя папяровыя сурвэткі, —
тыя самыя, што застаюцца з пацярпелым,
пакуль прыедзе «хуткая дапамога»,
тыя, што могуць падараваць кветкі
незнаёмай самотнай жанчыне —
і пайсці сабе, не назваўшы свайго імя,
тыя, хто заўжды мае час для заблукалых падарожных
і для старых людзей, —
няўжо яшчэ ёсць такія людзі? —
спытаў паэт.
— Бо я да іх не належу...

**ВЫЗНАЧЭННЕ ПАЭЗІІ**

Ведаю, што паміраць цяжка, —
Усім, хто любіць дасканалую музыку ўласнага цела,
Хто ўмее лёгка працягваць яго ў адтуліну страху,
Як у вушка іголкі,
Хто ўвесь век ім пратанчыў — так, што кожны рух
Плячэй, і лапатак, і сцёгнаў — свяціўся
Таямніцай далёкай сэнсу, быццам слова санскрыцкай мовы,
І мускулы пад скурай ігралі,
Бы рыбы ў начным стаўку, —
Дзякуй табе, Божа, што даў нам цела!..
Дык вось жа, калі паміраць буду, гукніце майстроў,
Каб разабралі дах нада мной
(Так паміраў мой прадзед, кажуць, вядзьмак).
І вось тады, калі праз абмяклае цела,
Нібы праз някрута звараны бялок,
Пералівацьмецца мая душа,
А цела тым часам пойдзе корчамі,
Бы коўдра, якую хоча скінуць хворы,
Бо яна яго душыць,
А душа будзе імкнуцца прарваць

Сціскание плоці, праклён гравітацыі, —
вось тады
З-пад белай столі звонкім ледзяным заркападам
Рыне Космас
І ў сваю галактычную трубу
Выцягне маю маладзенькую душу,
Закруціць, як аркуш паперы,
Ах, на свабоду — і:
— Стойце! — ускрыкне яна ў імгненне прарыву скрозь цела,
У імгненне на асляпляльным лязе
Паміж двума светамі, —
Стойце, вось тут спыніцеся,
Вось дзе яна, Паэзія,
Божа, нарэшце!..

Пальцы ў апошні раз кінуцца шукаць асадку —
Ужо астываючы, робячыся не маімі...

## СЕРЖ МІНСКЕВІЧ

**(1969, Менск)**

Па адукацыі — філолаг. Быў адным са стваральнікаў літаратурнага руху «Бум-Бам-Літ», уваходзіў у Таварыства вольных літаратараў. Працаваў у рэдакцыях газеты «Культура», часопіса «Першацвет», цяпер — у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Аўтар паэтычных зборнікаў «Праз галерэю», «Менскія санеты». Перакладае пераважна з польскай мовы — І. К. Галчыньскі, З. Герберт, А. Міцкевіч. «Крымскія санеты» апошняга ў перакладзе С. Мінскевіча выйшлі асобным выданнем — з падрабязным каментарам і разглядам гісторыі беларускага санетапісання. Да 200-годдзя «песняра Літвы» пераклаў і выдаў эпапею «Дзяды» — на два гады апярэдзіўшы К. Цвірку. Зрэшты, гэта неістотна: у абодвух перакладаў славутай паэмы «ў запасе вечнасць», як і ў яе несмяротнага аўтара... Крытыкуючы сваіх папярэднікаў-перакладчыкаў, С. Мінскевіч ганарыцца сваім — адзіным беларускім! — эквірытмічным перакладам славутага міцкевічаўскага верша «Exegi monumentu...».

*АДАМ МІЦКЕВІЧ*
*(1798—1855)*

### БАХЧЫСАРАЙ

Пустэча й велічнасць — то вотчына Гірэяў,
Раней пашы чалом тут падмяталі сходы,
Цяпер між тронаў, софаў ласкі і лагоды
Лятае саранча і скрозь віюцца змеі.

Павой між каляровых вокнаў зелянее,
Віецца ўверх, займае твор людскога роду,
І выракам: *руіна* — у імя прыроды —
Як знакам Балтазара, на мурах рунее.

Адзін фантан гарэму ўнікнуў разбурэння,
У келіх мармуровы слёзаў лье пярліны
І кліча скрозь прастору пусткі і знішчэння:

«Дзе ж вы, мілосць, магута, слава! Вы ж павінны
Былі трываць стагоддзі; кроплям жыць імгненне,
О, ганьба! Вы ўжо зніклі, а выток няспынны».

## МАГІЛЫ ГАРЭМУ

*Мірза да Пілігрыма*

З лазы кахання гронкі раннія сарваны
На стол Алаху, з мора ўцех і захапленняў
Пярлінкі ўсходу ўзяты ў юны час зіхцення
І ў труны-ракавіны ад святла схаваны.

Каменныя над імі паўстаюць турбаны,
Як бунчукі у войска доўгіх змрочных ценяў,
І крые ўжо заслона забыцця й збуцвення
Імёны, што гяурам калісь напісаны.

О ружы раю! блізка чысціні вытоку
Пад лісцем сораму дні вашы адквітнелі,
Навекі ўтоеныя ад няверных вока.

Крануў пагляд чужынца вашыя пасцелі,
Яму дазволіў я, — о, мне даруй, Прароку!
Ён з прышлых першы, у каго тут слёзы заблішчэлі.

## АЛУШТА ЎДЗЕНЬ

Ужо гара страсае з плеч імглы халаты,
Шумяць намазам раннім спелай нівы плёсы,
Лес хіліцца дадолу шоўкавым валоссем
І сыпле, як з ружанца, перлы і гранаты.

У кветках луг, і кветак пекных там багата:
Рой матылькоў сваволіць, — як вясёлкі косы,
Алмазным балдахінам ахінуў нябёсы;
А з далі саранча свой цягне шлейф крылаты.

Дзесь там скалу штурмуе хваля зіхаткая,
Адрынутая, зноўку кружыць, б'е, цярэбіць,
І ў ёй, бы ў зрэнках тыгра, лютасць палыхае —

Прарочыць шторм, што далягляды абязнебіць;
А ў глыбіні — ледзь воды мора калыхае,
Купаюцца там чоўны і вандроўны лебедзь.

## ЧАТЫРДАГ

*Мірза*

Дрыжаць, цалуючы твой полаг, мусульмане,
Ты ўзняўся мачтай Крыму, стромы Чатырдаху!
О мінарэце свету! О гор падзішаху!
Вышэй за скалы ўзняўся, скрыўшыся ў тумане.

Сядзіш ля брамы неба ў вечным вартаванні,
Як Габрыэль — ахоўнік пры эдэмскім гмаху.
Табе плашчом — лес цёмны, янычары страху —
Маланкі — ткуць узоры на тваім турбане.

То сквар нам дапякае, то дажджоў разводдзе,
То саранчы навала, то напад гяураў, —
А ты стаіш маўклівы, грозны і пануры

Між небам і Сусветам, — драгаман стагоддзяў, —
Пад ногі падаслаўшы люд, зямлю і буры...
І слухаеш, што кажа сам Гасподзь прыродзе.

## РАЗМОВА

Каханая, навошта нам размова?
Чаму, калі хачу табе адкрыцца,
Душа з душой не можа проста зліцца?
Завошта мне драбніць яе на словы —
Яны пакуль у сэрцы след пакінуць,
Абветрацца на вуснах і астынуць.

«Кахаю, ах! кахаю», — я стократна
Кажу адно — а ты ў расчараванні,
Бо сам сваё каханне ■ няздатны
Ні выказаць, ні выпяяць дазвання,
Бы ў летаргічным сне, не маю сілы
Даць знак жыцця і збавіцца магілы.

Стаміў я вусны ў слоўнай паняверцы,
Цяпер хачу з тваімі іх стапіць,
І толькі размаўляць трымценнем сэрца
І цалаваннем, і твой подых піць;
Так размаўляць гадзіны, дні і леты
Да скону́ свету і па сконе свету.

## EXEGI MONUMENTU AERE PERENNIUS

Помнік мой перажыць мае красу Пулаў,
Склеп Касцюшкі і гмах, што ў Вільні Пац узняў,
І не змогуць яго Вінтэрберг разбамбіць
І свіння аўстрыяк штукай нямецкай зрыць.
Ад Панарскіх вяршынь ды блізкіх Коўну вод
Славай перасягну Прыпяцкі мост і брод.
Навагародак і Менск рады чытаць верш мой,
Перапіша радкі моладзь сваёй парой,
І ў дачок ахмістрынь мой будзе ў ласцы твор.
З браку лепшых мяне нават чытацьме двор!
Але ж паўз царскі гнеў, турмы й ляскат дзвярэй
Возіць тайна ў Літву кнігі мае габрэй.

*ЗБІГНЕЎ ГЕРБЕРТ*
*(1924)*

### ПРА ПЕРАКЛАД ВЕРШАЎ

Як чмель нязграбны
сеў на кветку
прынікла хісткая цявіна
а ён сунецца праз пялёсткі
нібы скрозь слоўнікаў старонкі
да цэнтру мкне
дзе водар і салодкасць
хоць нос закладзены
й чуццё бракуе
аднак чмель мкне
аж б'е чалом
у жоўты песцік

і вось канец
пранікнуць цяжка
праз келіх кветкі
ў самы корань
а чмель выходзіць
ганарыцца
ўзахоп гудзе
што быў у цэнтры
а тым
хто веры не захочуць даць
пакажа нос
у жоўтым пыле

## ХРЫСЦІНА ГРАМАТОВІЧ

**(1969, в. Сапава на Беласточчыне)**

Выпускніца медыцынскага ліцэя, мелася стаць лекарам, але не паступіла ў Беластоцкую акадэмію. Выехала ў ЗША, дзе зарабляла на хлеб надзённы прыбіральшчыцай, нянькай, апякункаю ў доме для састарэлых. Набраўшыся пальшчызны ў польскім ліцэі, у Амерыцы пачала патроху амерыканізавацца, нават закончыла літаратурныя курсы пры Пенсільванскім універсітэце і пачала пісаць вершы па-ангельску. Да беларушчыны яе вярнуў выпадкова прачытаны «Уліс» Дж. Джойса ў перакладзе Я. Максімюка. Першыя публікацыі Граматовіч-перакладчыцы ў №№ 1—4 беластоцкага часопіса «Правінцыя» (Д. Томас, Г. Пасвятоўска, Э. Стахура) ашаламіў чытачоў — разняволенасцю тэмаў і вобразаў, культурай мовы, багатым лексічным запасам: вершы дыхалі, нібы кіслародныя кактэйлі. Наўрад ці можна дасягнуць такой моўнай дасканаласці, прачытаўшы аднаго «Уліса», тут, мабыць, Хрысціна трошкі хітруе. Праўда, была ў той публікацыі ў «Правінцыі» адна акалічнасць, што не магла не насцярожыць уважлівага чытача: Э. Стахура (памёр у 1979 г.) у паэме «Злучок над ісцілонам» са смакам апісваў беларускія рэаліі канца XX ст. Што ж, traduttore traditore (перакладчык — здраднік), як кажуць італьянцы... Цяпер Х. Граматовіч жыве ў Філадэльфіі, дзе працуе медсястрой у шпіталі.

*ДЫЛАН ТОМАС*
*(1914—1953)*

## КАБ З ГЛУЗДУ НЕ ПАЕХАЦЬ

Каб з глузду не паехаць, я сядаю пры адчыненым вакне,
Гляджу на неба, крэмзаю пра месяц ненавязлівы радок,
Сядаю пры адчыненым вакне ў адной кашулі
І сузіраю рух машын і святлафоры,
Маторы цягнуць, духавы аркестр складна грае,
Бо розум трэба зберагчы.

Я думаю пра смерць і сузіраю парк,
Дзе забаўляецца нявінная дзятва
І бабы на засмечанай траве
Глытаюць сонца дзённы пай.

Салодкія напевы з сотні траўнікаў прадмесця
Лашчаць вушы. Ангельскія касілкі косяць безупынку.

Я адзначаю пары, што ідуць пад ручку,
Сачу за іхнімі смяшкамі
І абяцанкамі-цацанкамі,
Я бачу, як каханні
Размахваюць рукамі і скрыўляюць твар.
Гляджу на іх з цікаўнасцю — пад іхнім смехам
Бруіць журба, прыцьмёная збянтэжанасць,
Што справы йдуць не ў лад.

Сядаю пры адчыненым вакне ў адной кашулі,
Сачу — Ягова із заходняй стараны —
За тым, што дзеецца, каб з глузду не паехаць.

*АНДЖЭЙ БУРСА*
*(1932—1957)*

## САД ЛУІЗЫ

У чэрвені найпрыгажэй цвіце Луізы сад
Ягоная няснасць забівае як тапор
Павешаны з вясёлкаю на ўяўны далягляд
Гарыць пад бляскам пурпуровых купалаў сабор
У чэрвені найпрыгажэй цвіце Луізы сад

Луіза у якой свабода грацыя і спрыт
Звянчае крэмень з воблакам ды з ружаю метал
Безабаронна убягае ў саду цёмны скрыт
Дзе толькі сэрца на кары вартуе ейны бег
Луіза у якой свабода грацыя і спрыт

Дубровы кавалькад і чуйны сарнаў мільгацень
Луізы смехагаму паўтараюць а яна
Рассыпле валасы марской зарой на пескавень
І з голым горлам кідаецца смеху у палон
Дубровы кавалькад і чуйны сарнаў мільгацень

Луіза ласкаю абдорыць толькі ваяроў
За ўпэўненасць кідка і за шалёны нерваў скрут
Ты пераможца змазаны густой крывёй звяроў
Нясі ёй пашчу льва і сэрца лебядзінае
Луіза ласкаю абдорыць толькі ваяроў

Луізінага саду тайнічную прастату
Альтанак лабірынтаў кветных градак гушчароў
Птушкарнікаў звярынцаў гонаў антылопаў гну
Уцяміць зможа толькі праведны й шляхетны дух
Луізінага саду тайнічную прастату

Ягоная няіснасць забівае як тапор
Сапраўднасцю смяротных пачакальняў для зямлі
Пракляты мроямі прыдуркаў і малых дзяцей
Абсмеяны смугой абсурду гіне неўрастэнік
Ягоная няіснасць забівае як тапор

*ГАЛІНА ПАСВЯТОЎСКА*
*(1935—1967)*

## ЛЮСТРА

ляжу як учадзелая ад прыгажосці свайго цела
я сёння ўбачыла сябе тваімі ўласнымі вачыма
адкрыла мяккі згіб пляча акругласць змораных грудзей
якія хочуць спаць і спакваля наперакор сабе спадаюць долу
і ног убачыла растуліну якая ахвяруецца бязмерна
аж па няісны ўскрай аддаць усю мяне і тое па-за мною
што б'ецца ў кожнай кропельцы дажджу ў кожным лісточку
я бачыла сябе нібыта праз шкляную шыбіну ў тваіх вачох
яны глядзелі на мяне я чула твае рукі
на цёплай і напятай скуры маіх сцёгнаў
слухмяная твайму загаду стаяла голая перад вялізным люстрам
а потым засланіла вочы каб не бачыць і не чуць
самотнасці табой расквечанага майго цела

* * *

Божа мой змілуйся нада мною
чаму ты стварыў мяне на непадабенства
цвёрдых камянёў

я поўнюся тваімі таямніцамі
ваду змяняю ў віно прагі
віно змяняю ў полымя крыві

Божа майго болю
вымасці аксамітным дыхам
пустое гняздо майго сэрца

лёгка — каб не пашкодзіць крылля
тхні ў мяне птушку
з голасам пасрэбраным чуллівасцю

* * *

ці свет крыху памрэ
калі я памру

гляджу гляджу
атулены лісіным каўнерам
ідзе свет

ніколі не думала
што я — валасок у ягоным футры
я заўсёды была тут
а ён — там

аднак жа
прыемна падумаць
што свет крыху памрэ
калі я памру

*РАФАЛ ВАЯЧАК*
*(1945—1971)*

## ГВАЛТ

Мне цела настрамляецца на кол
Праменне болю паліць мае тканкі
Якія коні ўпрэжаны між ног
Так цягнуць Добры поплаў прасцірадла

Ніколі шчэ не рос падобны крык
Праз столі у вакно глухое неба
Цяпер пачулі ўсе што сёння я
З Тваёй ласкавасці жанчынай стала

Паваленая назаўжды наўзнак
Хачу ляжаць У горле костка болю
Няхай не скончыцца ніколі гвалт

Няхай так станецца як кол мне мілы
Крыжом заякарыцца б ува мне
Я веру крык мой чуе камень неба

*АДАМ ЗАГАЕЎСКІ*
*(1945)*

## СХІЛ ЛЕТА

Прыгарадны цягнік імчаў цераз пустэчы з віламі
як штылет, які прагне толькі сэрца.
З рэпрадуктараў далятаў голас якогасьці з дыктатараў,
а вавёрка скакала з галіны на галіну,
уцякаючы ад майго позірку.
Схіл лета, цяжкія шышкі кедраў,
манашка ў тоўстым карычневым габіце
усміхаецца, як хтосьці, хто ўсё зразумеў.
Над алеістай паверхняй сажалкі лётаюць стракозы,
лодкі плывуць скосам і патанаюць у пурпуры соннага сонца,
гарачыня кранае кожную рэч і скуру, як мытнік.
Лістаноша дрэмле на лаўцы, са скуранай торбы
высыпаюцца ластаўкі лістоў, у траве распускаецца марозіва,
краты сыплюць курганчыкі на памятку смуглявым героям,
якіх ніхто не пазна́е. Цёмныя дрэвы стаяць
над намі, а між імі зялёнае полымя.
Надыходзіць верасень, вайна, смерць.

## ЭЛЕКТРЫЧНАЯ ЭЛЕГІЯ

Бывай, нямецкі радыёпрымач з зялёным вокам,
цяжкая скрыня, што складаецца — амаль —
з цела і душы (твае лямпы свяціліся
ружовым, ласосевым святлом, як глыбокае я
у Бергсона.)
Праз тоўстую тканіну, што прыкрывае
рэпрадуктар (маё вуха хілілася да цябе як да
братаў спавядальні) калісьці шаптаў Мусаліні,
крычаў Гітлер, нешта спакойна тлумачыў Сталін,
сіпеў Берут, без канца прамаўляў Гамулка.
Але цябе ніхто не папікне ў здрадзе, прымач,
не, адзіным тваім грэхам была абсалютная
паслухмянасць, чуллівая вернасць мегагерцам:
хто прыходзіў — быў выслуханы, хто перадаваў —
быў прыняты.
Я ж ведаю, што толькі
песні Шуберта давалі табе
найвышэйшае, смарагдавае задавальненне.
Вальсы Шапэна спрычынялі, што тваё электрычнае
сэрца біла далікатна і моцна, і матэрыя,
якая асланяла рэпрадуктар, падымалася як грудзі
закаханых дзяўчат у старасвецкіх раманах.

Іншая справа навіны — асабліва калі
перадавала іх Свабодная Еўропа або БіБіСі;
тваё зялёнае вока ставалася неспакойнае, зялёная

зрэнка расшыралася і курчылася, як быццам
пад уплывам пераменных дозаў атрапіну.

Жылі ў тваім нутры шалёныя чайкі, Макбет.
Начамі збіраліся ў тваіх пакоях
згубленыя сігналы. Мараходы прасілі помачы,
плакала маладая камета, з'ехаўшы з глузду.
Я спадарожнічаў тваёй старасці — абвясціў яе
сіпаты голас, абарваныя фразы, потым траскатня (кашаль),
урэшце слепата (марское вока згасла)
і глухая-глухая цішыня. Спі спакойна,
паслянямецкі радыёпрымач, сні пра Шумана
і не прачынайся, калі закукарэкае наступны певень-дыктатар.

## *ЕЖЫ ПЛЮТОВІЧ*
*(1947)*

* * *

Хопіць.
Ужо ніколі не пастаўлю ступняў на белы камень
за паваротам рэчкі Локніцы,
не прабягу травой па пояс
да ціхіх хат на хутары.
Я вырас. Не працягну рукі да матылька і з плачам не скажу,
што больш не буду гуляць
гэтай рэчкай, лугам, цэлым светам.

Я вырас.
Стаміўся адлётамі, цягнікамі, дарожнымі паказнікамі,
словамі на развітанне
дый на зачараванасць колерамі неба і зямлі,
смакам ветру, бегам аблоку.

Я вырас.
Прырода кранае мяне не больш
за агеньчык запалкі ў халодных сенях.
Калі згасне ў скразняку.

* * *

Мох сівы на камені. Холад. Не пайду адсюль.
З павевам ветру даляцеў чырвоны ліст.

Праспаць вялізарную восень, палунаць над светам.
Захінуць шыю крацястым шалікам, насунуць шапку на вочы.

Не глядзець у прыцьмёнае святло надвячорка.
Збіраецца на дождж. Збіраецца на смерць.

Павярні ключ у замку, пакладзі ключ пад камень.
Бязлюдны сад. Сцежка брыняе вадою. Амін.

## АКСАНА ДАНІЛЬЧЫК

**(1970, Менск)**

На філфаку БДУ вывучала балгарскую мову, паехала на семінар у Сафію, дзе пазнаёмілася з італьянцамі. І — плакала балгарыстыка, Аксану неадольна пацягнула ў бок Апенінскай паўвыспы. Італьянскую спасцігала спачатку самастойна, потым у Перуджыйскім універсітэце (Італія). Захапленне сталася прафесіяй — Аксана ўладкавалася на працу ў акадэмічны Інстытут літаратуры, дзе абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Канцэпцыя чалавека ў беларускай і італьянскай ваеннай прозе». Перакладала казкі Джані Радары, прозу Дзіна Буцаці і Ігнацыё Сілонэ. А вось багатая на імёны італьянская паэзія — пакуль што на перыферыі сур'ёзных зацікаўленняў маладой даследчыцы і перакладчыцы: паэтаў, змешчаных у анталогіі, Аксана перакладала не тое каб неахвотна, але — па настойлівай просьбе яе складальніка. Што ж, і за гэта дзякуй, хоць вялікую італьянскую паэзію немагчыма прадставіць шасцю аўтарамі (ды і двума дзесяткамі). Шкада, але беларускаму чытачу даводзіцца вось ужо тры дзесяцігоддзі аглядаць «іхнюю» паэзію з-пад «вежаўФерары» (гэтак называлася італьянская анталогія, якая ўбачыла свет у далёкім 1974 г.). Ці варта казаць, што ракурс даўно патрабуе абновы.

*ДЖАКАМА ЛЕАПАРДЗІ*
*(1798—1837)*

### БЯСКОНЦАСЦЬ

Заўжды быў мілы мне бязлюдны ўзгорак гэты
і агароджа, што без значнай часткі
далёкі небакрай пагляду пакідае.
Але калі сяджу і пазіраю, прасцяг
бязмежны па-за ёй і нетутэйшае
маўчанне, і найглыбейшы супакой
у думках бачацца; яшчэ крыху — і сэрца
спужалася б напэўна. І калі ветру
чую шапаценне між раслін, той
цішыні бясконцасць з гэтым гукам
я параўноўваю: і згадваецца вечнасць,
і мёртвыя часы, і час цяперашні,
жывы, і шум яго. Вось так у гэтай
неабсяжнасці мае знікаюць думкі:
і мне салодкае крушэнне ў гэтым моры.

*НІКОЛА ТАМАЗА*
*(1802—1874)*

### ШЧОДРАСЦЬ ВЫКУПЛЕННЯ

Ты, як імгненныя іскры, нябесныя зоры
рухам рукі сваёй можаш тушыць і запальваць нанова,
месцяцца, Госпадзе, тысячы светаў прасторных
толькі ў адзінай крыві тваёй кроплі барвовай.

Быццам бы жменю каштоўнага чыстага зерня,
тысячы вогненных сонцаў Ты у далонях трымаеш;

тысячы тысяч планетаў на небе Ты маеш —
кропля крыві тваёй — як Акіян невымерны.

Будучы лёс і мінулае цэлых сусветаў
кропляй крыві, што Марыя дала, паяднаны.
Гэтаю кропляй крыві, на пакуты адданай, —
творыш любоў у бясконцасці зімаў і летаў.

### ВЫШЫНІ

Дрэва нябеснае, дзе выспяваюць сусветы —
быццам плады на галінах яго жыццядайных,
мы сузіраем між рухаў бясконцых планетаў,
свецяцца сферы ў прасторах нябёсаў бяскрайніх;
там, па-за небам адным паўстаюць іншых светаў
межы, праз іх на арбітах сваіх пракаветных
сонцы міргаюць здалёк светлякамі, што кружаць
у цёмных хмызах, або пчоламі ў ружах.

*ДЖОЗУЭ КАРДУЧЫ*
*(1835—1907)*

### САН-МАРЦІНА

Туман па колкіх пагорках
салёнай імжой цярушыць,
і пад містралем скрушна
пеннае мора шуміць;

а па завулках прадмесця
ад выспявання вінаў
водар віруе дзіўны,
сэрца й душу весяліць.

Дровы палаюць, ледзь чутна
пожаг шыпіць духмяны:
з ціхім свістам на ганак
лоўчы ідзе сузіраць,

як сярод медных хмараў
птушкі чорнай гурмою,
быццам думкі-ізгоі,
у вечар зорны ляцяць.

*МІХАЙ ЭМІНЭСКУ*
*(1850—1889)*

### ЗОРКА

Ад зоркі, што ўзышла ізноў,
Нас шлях няблізкі аддзяляе.

Ляціць святло мільён гадоў,
Перш чым у свет людзей трапляе.

Хоць згасла зорка, можа быць,
У сініх далячынях,
Яе прамень цяпер блішчыць,
У нас перад вачыма.

Павольна мёртвай зоркі цень
Плыве над небасхілам,
Ёй, незаўважанай, мігцець
Не стала болей сілы.

Калі журба сваё крыло
Разхмарыць над палямі,
Кахання згаслага святло
Ляціць наўслед за намі.

*ДЖУЗЭПЭ УНГАРЭЦІ*
*(1888—1979)*

## САН-МАРЦІНА ДЭЛЬ КАРСА

Ад гэтых будынкаў
не засталося
нічога,
толькі рэшткі муроў

Ад многіх,
што слалі лісты мне,
таксама няшмат
засталося

Але ў сэрцы
над кожным — крыж

Сэрца маё —
самы пакутлівы край

*ЧЭЗАРЭ ПАВЭЗЭ*
*(1908—1950)*

* * *

Прыйдзе смерць і будзе мець твае вочы,
тая смерць, што з намі заўсёды
з ранку да вечара, бяссонная,
глухая бы даўні папрок
ці дрэнная звычка. Твае вочы
будуць словам пустым,
крыкам маўклівым, цішынёй.
Такімі іх бачыш кожную раніцу,
калі схіляешся над сваім адбіткам

у люстэрку. О дарагая надзея,
у гэты дзень зведаем і мы,
што ты — жыццё, і ты — нішто.

На кожнага смерць пазірае па-свойму.
Прыйдзе смерць і будзе мець твае вочы.
Адбудзецца, як развітанне са звычкай,
як назіраць у люстэрку
з'яўленне мёртвага твару,
як слухаць сцятыя вусны.
Сыдзем у вір нямыя.

## ПРАЙДУ ПА ПЛОШЧЫ ІСПАНІІ

Будуць нябёсы яснымі.
Адкрыюцца дарогі
на ўзгорак піній і камянёў.
Розгалас вуліц не зменіць
гэтага нерухомага паветра.
Кветкі, распырсканыя
колерамі ля фантанаў,
падміргнуць, быццам жанчыны
пасля ўцехі. Лесвіцы,
тэрасы, ластаўкі
заспяваюць у промнях сонца.
Адкрыецца й гэтая дарога,
і заспявае каменне,
сэрца заб'ецца, падскокваючы,
як вада ў фантанах, —
і такім будзе голас,
што ўзыдзе па тваёй лесвіцы.
Зведаюць вокны
пах камення і ранішняга
паветра. Адчыняцца дзверы.
Розгалас вуліц
стане розгаласам сэрца
у сарамлівым святле.

Будзеш ты — нерухомай і светлай.

## THE NIGHT YOU SLEPT (УНАЧЫ ТЫ СПАЛА)

Нават ноч да цябе падобная,
старажытная ноч, што нема
плача ў глыбінях сэрца,
і стомлена зоркі праходзяць.
Шчака дакранаецца да шчакі —
халодныя дрыжыкі, нехта
мучыцца і просіць цябе, самотны,
згублены ў табе, у тваёй узрушанасці.

Пакутуе ноч, задыхаецца ранак,
уздрыгвае беднае сэрца.
О твар закрыты, цёмная туга,
узрушанасць, што робіць сумнымі зоркі,
хтосьці, як ты, чакае світанку,
вывучае твой твар у цішы.
Ты, распасцертая ўладаю ночы,
як замкнёны мёртвы далягляд.
Уздрыгвае беднае сэрца,
далёкім днём ты была світанкам.

*ТАНІНА ГУЭРА*
*(1920)*

## КАШАЛЬ

Мой дом знаходзіцца так высока,
што чуецца кашаль Бога.

*АЛЬДА СЕВЯРЫНІ*
*(1926)*

## БЕЗ ШПАГІ

Ікона на пастаменце
усё кахаю ў табе

я даў табе свайго сына
каб выказаць сваё каханне

у венах тваіх і целе
калі ты размаўляла са светлякамі

я вытатуяваў на ілбе тваім матыля
што таньчыць басанож на кубе

я адкрыў табе сваю душу
не вымаючы шпагі з ножнаў

каб ты змагла адчуваць сябе
цалкам утульна

перад гэтай іконай
нашае каханне не мае болей прасторы

геаметрый гатовых стрымаць
лаву што нізрынаецца з вулкана

## АЛЕНА ЯКАЎЛЕВА

**(1971, в. Ігрушка Крупскага р-на)**

Таямніцы мастацкага перакладу спасцігала ў Літінстытуце ў Маскве. Там жа выйшла замуж за інжынера-праграміста і выехала з ім у Х'юстан (ЗША). Будзем спадзявацца — часова. Хочацца таксама верыць, што С. Плат нядоўга давядзецца сумаваць у адзіноце, і збеларушаных амерыканскіх паэтаў дзякуючы Алене неўзабаве пабольшае.

*СІЛЬВІЯ ПЛАТ*
*(1932—1963)*

### ЛЮСТРА

Я срэбнае і дакладнае.
У мяне няма наперад падрыхтаваных уяўленняў —
усё, што бачу, глытаю імгненна ў тым выглядзе,
у якім яно існуе, —
без туману кахання, без непрыязні.
Я не жорсткае, а толькі праўдзівае —
як чатырохмернае вока нябёсаў.
Большасць часу я абдумваю супрацьлеглую сцяну... —
яна ружовая, з крапінкамі —
я ўзіралася туды столькі, што цяпер мне здаецца,
што гэта — частка майго сэрца.
Але сцяна зіркае.
Твары і цемра раздзяляюць нас зноў і зноў.

Цяпер я возера...
Жанчына нахіляецца над ім,
выкарыстоўваючы мае багацці, каб разабрацца,
хто яна на самай справе.
Потым... адварочваецца да тых хлуслівых істот —
свечкі і поўні.
Я бачу яе спіну і аддана адлюстроўваю.
Яна ўзнагароджвае мяне слязамі і хваляваннем рук.
Я вельмі важнае для яе.
Яна адыходзіць, каб з'явіцца зноў.
Кожным ранкам яе твар замяняе цемру.
Ува мне яна — маленькая дзяўчынка.
Ува мне яна — старая жанчына,
што плыве ў кожны свой дзень, як страшная рыбіна.

## ЗМІЦЕР ДЗЯДЗЕНКА

**(1972, Орша)**

У маленстве тры гады пражыў у Манголіі, дзе працавалі бацькі. Пасля заканчэння філфака БДУ (1994) быў спецкарам шматтыражкі «Беларускі універсітэт», рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, супрацоўнікам тыднёвіка «Наша Ніва». У часопісе «Спадчына» выступае з краязнаўчымі артыкуламі, выдаў генеалагічнае даследаванне «Аршанская шляхта» (1996).

*ЮННА МОРЫЦ*
*(1937)*

## КАРАЛІ ГУЛЯЮЦЬ У ХОВАНКІ

Гульня з агнём. Двудушнасці задушша.
Дзяціннае шальмоўства каралёў!
Рыхтуецца — ура! — аблога сушы,
Аблога сушы з чорных караблёў,
А выгляд робіцца, што ўсё ўрачыста,
Парад, салют, цудоўны перабег,
І што кароль — забаўнік і няўрымста,
Вясёлы, таварыскі чалавек!

Скал зіхацяць выносістыя ўступы,
Атручанае музыкі зварот.
Яшчэ гуляюць кандыдаты ў трупы,
Не здраднік шчэ ніхто, не патрыёт.
Ды пах крыві, паветра мору злое,
Нібыта дым, паўзе ўжо з-за скалы...
Ды ясны лёс краіны, да якое
Ў любові сяння кляліся паслы.

Яшчэ лятуць да оперы карэты.
На спіне выраз сукні шчэ відаць.
Але ў сакрэтаў — голыя шкілеты,
І па краіне косткамі грымяць!
І дзве дзяўчыны з пёрамі на ўборах
Ад бабнікаў выпадкам вызнаюць,
Што ноччу ў штабе ладзіліся зборы
І што ў сабе ўрачыстасці нясуць!

І разабраўшыся ў двудушшы справы
І што крывёй ад рызыкі смярдзіць,
Яны бягуць з куплёных месцаў жвава
І хусткай віск імкнуцца ў глоткі ўбіць!
А дзве зямлі, два самадзержцы — квіты!
Над караблём бярэ даносчык верх.
І па палях, як чорныя тэрміты,
Паўзуць ужо калоны — знізу ўверх.

Пакуль выведнік папівае віны
І лічбы больш дакладна назаве,
Военачальнік гэта ўсё прыкіне,
Дыхтоўную расправу падбярэ!
Ён так складзе даручаныя косці,
Так пералічыць колькасць перамог,
Што *той* кароль задушыцца ад злосці —
Нязграба! Ёлуп! Дармаед! Не змог!

Дадумацца: пяхоту — і на ўступы!
Дадумацца: наперад выслаць флот!

Яшчэ гуляюць кандыдаты ў трупы.
Не здраднік шчэ ніхто, не патрыёт.
І ў ашуканстве шчэ кароль не блудзіць.
І ложак мерцвяка астыў наўрад.
А смерць растворам мажа ўсіх, хто будзе
Занесены ў калонку людскіх страт!

## ЖАННА НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ

**(1972, Менск)**

Закончыла філалагічны факультэт БДУ па дзвюх спецыяльнасцях: расейская і класічная філалогія. Працавала на кафедры гісторыі беларускай літаратуры, цяпер — дацэнт кафедры сучасных замежных моваў факультэта міжнародных адносінаў БДУ. Абараніла кандыдацкую дысертацыю па драматургіі «нясвіжскай Сапфо» — Францішкі Уршулі Радзівіл. Пераклала на беларускую мову больш за 30 помнікаў айчыннай літаратуры XI—XIX стст. — з царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай, а таксама паасобныя творы Катула і Авідзія. Асаблівую каштоўнасць для беларускага пісьменства маюць перакладзеныя Ж. Некрашэвіч-Кароткай з лацінскай Ян Вісліцкі, Мікола Гусоўскі, Ян Радван — бясспрэчныя класікі нашай старажытнай паэзіі. Апошні з названых — аўтар гераічнага эпасу «Радзівіліяда» (3470 радкоў), прысвечанага памяці віленскага ваяводы, гетмана Вялікага Княства Літоўскага, князя Мікалая Радзівіла (Рудога), асветніка-кальвініста і ўдзельніка некалькіх пераможных бітваў з Масковіяй. Не будзе лішняй у нашай анталогіі і ўпершыню выдадзеная ў 1516 г. у Кракаве паэма «Пруская вайна» Я. Вісліцкага, асабліва той фрагмент, дзе багі на Алімпе выбіраюць жонку для караля і вялікага князя Ягайлы — Соф'ю Гальшанскую.

*ЯН ВІСЛІЦКІ*
*(1480-я — 1520-я)*

### ПРУСКАЯ ВАЙНА

*Фрагмент*

Ззяючы паміж усіх сваім светлым абліччам, Юнона
Велічная да свайго Грамавержца звярнулася гэтак:
«Муж мой каханы і браце шаноўны, усе твае словы
Слухала я з захапленнем і, ў сэрцы разважыўшы ўдумна,
Стала прыхільнай і я да гонару слаўнага ўнука —
Вусны святыя твае ўжо шмат гаварылі пра тое.
Гэтаму хлопчыку я абяцаю шчаслівую ўладу,
Перасягне ён багаццем і золатам іншых манархаў. —
І, павярнуўшыся тут да Палады, сказала: — Багіня
Моцная, выйшла на свет ты з святога чэрапа мужа,
Дык паспрабуй з галавы яго мудрасць пазычыць, каб хлопчык
Талентам велічным мог перавысіць астатніх, — зрабі так!»

Марс ваяўнічы падняўся з вялізнаю дзідай — навокал
Бледныя фурыі з лютаю Смерцю стаяць у шарэнгу,
З імі й ваенная слава мячом патрасае крывавым, —
Рэха з грудзей грамавы яго голас панесла паўсюдна:
«Хлопца таго, пра якога прадвесці шчаслівыя чую,
Я пераможцам славутым у войнах зраблю назаўсёды,
Будзе у бітвах заўжды разбіваць ён імклівыя турмы,
Я навучу яго ратным законам крывавае сечы».

Тут і Кіпрыда, з высокіх грудзей выпускаючы стогны, —
Хто б апісаў яе вусны румяныя, белую шыю
І валасы залацістыя з водарам тонкім бальзаму! —
Светлы свой твар залівае слязьмі і ўздыхае глыбока:
«Гэтулькі часу злавалася я на дастойнага мужа —
Сёння ж я каюся ў гэтым гаротным учынку — і нават
Не растлумачу прычыны дастойныя гневу сляпога.
Словы, Юнона, твае і Юпітэра мне падказалі,
Каб я ўзвысіла мужа, які дасягае Алімпа
Родам высокім сваім і славай грыміць па ўсім свеце.
Прыкладам Бога і я прынясу яму добрыя весткі,
Зноўку зраблю маладым пры нашай спрыяльнай падтрымцы. —
Выцерла слёзы з вачэй і далей прадаўжае прамову:
— Ёсць у мяне чароўная німфа ў краіне русінаў,
Боская німфа — яна прыгажэйшая ў свеце дзяўчына.
Імем адметным — Соф'яй — яе суайчыннікі клічуць,
Перавышае яна гераіняў часоў старажытных
Славай сваёй прыгажосці, выключным сваім красамоўствам.
Дам яе ў жонкі яму, сама абвяшчу ім вяселле
І ашчаслівлю яго на ўвесь свет жаданым нашчадкам».

Мовіла так Аматунтка. Кіўнуўшы, магутны Юпітэр
Кліча свайго выхаванца Тэгейца і гэтак гаворыць:
«Хутка ідзі ў каралеўства паўночнае пад Валапасам
І да Сармацкай зямлі, да саміх каралеўскіх пакояў;
Там узвышаецца горад цудоўны славутага Крака,
Вісла бурлівым патокам навокал яго абцякае.
Знойдзеш старога ты там караля; абцяжараны векам,
Ён справядлівы закон прынёс для суровых палякаў —
Імем Ягайла завуць яго людзі на мове айчыннай,
Ты перадай яму наша рашэнне у словах наступных:
"Старац шаноўны! Найвышні ўладар залатога Алімпа
Бачыць у скрусе нягоды, якія ты ў старасці церпіш,
Горкія дні у бясплоддзі ліхім, без жаданых нашчадкаў
І ад нарады багоў дасылае падтрымку прыхільна:
Соф'ю ад нас атрымаеш, цудоўнага сэрца дзяўчыну,
Здатную вельмі да шлюбу, да роду твайго прадаўжэння,
Што пражывае ў прасторнай краіне магутных русінаў.
Двух каралёў народзіць яна з цудоўным аблiччам,
Памятным імем сваім прынясуць яны славу навечна
І абяссмерцяць Ягайлавы род на многа стагоддзяў,
Колькі яшчэ існаваць будуць землі і воды, і зоры"».
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хутка па розных шляхах паляцела звястоўная чутка,
Каб караля састарэлага шлюб абвясціць, і паўсюдна
Бедны народ распявае вясельныя песні, у вёсках
І па гасцінцах шматлюдных нявесту ўсхваляюць, якую
Наканаваннем шчаслівым прынёс каралю з Божай ласкі
Факеланосны Гімен да ягоных паўночных палацаў.
Б'юць у тымпаны наўкол, жабракі навіну абвяшчаюць,
Гукі кіфары і ліры разносяцца звонка навокал.
Людзі збіраюцца гуртам бясконцым, вялізным натоўпам.

Дзіўна ўпрыгожана золатам, ззяе каштоўным каменнем
Світа, што едзе з надзвычай прыгожай нявестай-русінкай.

Дзева цудоўная да залатога стальца падыходзіць,
Што чырванее квяцістым радном з пурпуровай тканіны.
Вось маладую дзяўчыну пяшчотна абняўшы, Ягайла
Моцнай дзясніцай уводзіць яе у палац каралеўскі,
Разам з пяшчотнаю жонкай і мноствам князёў знакамітых,
Світай у строях прывабных за стол урачысты сядае.
Водар ад страў уздымаецца, пеняцца ў кубках каштоўных
Віны масійскія — іх юнакі у цудоўным адзенні
Хутка нясуць, наліваючы ўсім, да сталоў хлебасольных.

Час наступае, аднак, каралю атрымаць асалоду
З любай дзяўчынай — да гэтага вабіць і месяц вільготны,
Што узыходзіць, акружаны покрывам цёмнае ночы.
Вось шчаслівы кароль па сканчэнні вясельнага піру
Цела сваё аддае ціхмянаму сну і спачынку,
З лёгкім душэўным уздымам мілуе пяшчотную жонку
Ноччу таемнай, якая дастойна была б больш узнёслых
Твораў; была б яна вартая вершаў паэта-андыйца,
Гэтаю ноччу кароль спарадзіў разам з любаю жонкай
Гонар навечна для роду свайго і дастойных нашчадкаў.
З дзевай цудоўнай стварыў ён дваіх каралёў знакамітых,
Подзвігам Марса па ўсім белым свеце праслаўленых гучна.

*ЯН РАДВАН*
*(? — пасля 1591)*

**РАДЗІВІЛІЯДА**
*Фрагмент*

Хтосьці з паэтаў апісвае сонца і месяца рухі,
Целаў нябесных выявы, таксама марскія прасторы,
Іншыя — першаасновы бязмежнага нашага свету;
Шляхам нялёгкім ідуць яны — толькі галінка алівы
Гонарам слаўных мужоў асвятляе прыхільна і годна.
Хтосьці раскажа, магчыма, пра Дэўкаліёнавы воды —
Памятку злоснага веку, а іншыя пармай Гігантаў
Славу здабудуць: раскажуць пра войны па волі нябёсаў;
Кадмаву ганьбу апішуць і дзеі пачварнага Марса,
Дом ненавісны Пелопа або пачастунак Тыеста,
Ці Вавілонскую вежу, ці Троі ліхія турботы —
Мноства дзівосаў старога, ссівелага свету.

Гэтыя сумныя байкі, што вабяць адных ганарліўцаў,
Добра вядомыя ўсім, заслугоўваюць кедра — не веры!
Песні ж мае — не хлусня, бо яны не з такой барадою:
Я апяваю цябе, Радзівіл, твае слаўныя дзеі,
Вартыя памяці і піэрыйскі вянок ускладаю.
Чутка пра подзвіг твой слаўны дайшла і да варварскіх межаў,
І да Еўропы, о перле траісты, аднак пачынаю

Я аздабляць сваім словам імя тваё, Старча вялікі,
Марса твайго, а таксама тваю пракаветную славу.
О Каліёпа з Эратай, да нас павярніцеся тварам,
Подзвіг ліцвінскага водцы вы услаўляйце шматгучна —
Подзвіг, што зззяе да неба: герой той і ў міры, і з Марсам
Родны свой край умацоўваў; успомніце пра навальніцу,
Што праз Улу, па Іванавых землях ляцела шырока.
Хай нават славу яго абкарналі ў дамовах лівонцы —
Можна лічыць, што ён сам зваяваў усю Скіфію цалкам.

Слаўце ж героя, багіні, а вы, грамадзяне, жадайце
Поспехаў мне. Гэты твор я Магутнай Літве прысвячаю.
Непераможны і велічны край, добра ў свеце вядомы, —
Гэта Літва, што шырока раскінула плодныя нівы,
Гэта народ, што надзвычай суровы у збройным паходзе,
З Марсавай мужнасцю ў сэрцы: успомнім выгнанне Лібона
Ці Палямонаву мудрасць згадаем, ягоныя планы...
Скуль жа ідзе радавод старадаўні ліцвінскі і скуль жа
Гэты бясстрашны народ, бо й на балтыйскіх узмежжах,
І на ўзбярэжжы Эўксінскім ён славіцца аж да Алімпа.
Гожых кампанскіх зямель, дзе дарункі ўладарнай Цэрэры
З Вакхам спрачаюцца смела, Панхаі ці Тэмпэ цудоўнай,
Плодных садоў Алкіноя і пестумскіх ружаў пяшчотных,
Розных духмяных раслін, руднікоў і крыніц мінералаў
Мудрая Маці-прырода зямлі той надаць не схацела.
Колькі ж тады і якіх ураджаяў даюць тут святыя Гаргары,
Каб той народ мог штодня здабываць сабе хлеб бестурботна?
Рэкі празрыстыя тут апярэзваюць гонкія дрэвы,
Што верхавінамі ціха кранаюцца зораў,
А каранямі да самых стыгійскіх сутонняў сягаюць.
Лось і алень тут жывуць, люты зубр знаходзіць прытулак
(Ён языком сваім шорсткім звычайна хапае здабычу,
Потым падкідвае лёгка ў паветра — вось гэткая сіла!),
Плямістаскурая рысь з паласатай пухнатаю пысай,
Лёгкая ў руху казуля і тур — велізарны, магутны.

Што гаварыць тут пра рэкі, азёры, якія і з морам
Могуць спрачацца? А рыбы? Тут нават тунца можна ўбачыць!
Я не хачу й светлы лён параўноўваць са срэбнай прасторай...
Мо палічыць мне дары блаславёнага сонца? Навошта?
Лепей скажу, што ў лясах нашых велічных — безліч багаццяў.
Дуб напаўняецца тут прамяністым, чысцюткім нектарам,
Пеніцца ў дуплах празрысты мядок, каб вясковаму люду
Сотаў духмяных прынесці, і аж па стваліне бруіцца;
Кубкі на княскім стале напаўняюцца пахкім напоем.
Як апісаць мне ўсе рэкі, што з розных крыніц выцякаюць?
Вось Барысфен, што магутна струменіцца з рокатам гучным,
Потым шумліва абрушвае хвалі ў бурлівую бездань,
Вільгаць пяшчотную зліўшы з вадою салёнага мора.
Вунь расцякаецца Дуна, што круціць вірамі імкліва,
Полацк і бераг круты амывае ў паважным цячэнні,
Потым нарэшце схлынае шырока ў Венедскае мора.

Ёсць у Літве і такая рака, што не надта саступіць
Рэкам старым іліёнскім: цячэ паміж ніваў багатых
Вілія чыстая. Вільна — яе называюць сястрою —
Лёгка бяжыць у шырокіх абдымках цудоўнага брата,
Хрона — ракі прыгажэйшай у свеце папросту не знойдзеш.
Многія німфы, дрыяды з вячыстых дуброваў хацелі б
Хрону каханкамі стаць, ды ён мае прывабную Свенту —
Чыстую, нібы бурштын, нават лепей; зямлёй самагіцкай
Свента цячэ і ўпадае ў цудоўнае рэчышча Хрона.

Ґэты вось край — для літоўцаў айчына, для мужных судзінаў
І для бясстрашных яцвягаў, для полаўцаў і для намадаў,
Прусаў яшчэ старажытных, адважных душою аланаў
І сваякоў іх гепідаў — народаў магутных і здольных.
З гэтай зямлі — Эрдзівіл і Трайдэн знакаміты паходзяць,
Слаўны Мінгайла, Скірмонт неадольны і непераможны,
Потым Рамонт і Міндоўг — валадар, што каронаю з Рыма
Быў увянчаны; і Віцень паважны, і шматпераможны
Бацька яго Гедымін, па загадзе якога ўзняліся
Вільні шматлюднай муры; а цяпер і сыноў яго ўспомнім,
Годных і мужных братоў Гедымінічаў смелых —
Кейстута разам з Альгердам. А потым дзяржава Ягайлы
Нават сарматам дала каралёў, і над гунам магутным
Панства сваё ўсталявала; для чэхаў, што з роду багемцаў
Многіх вядомых князёў нарадзіла. Цяпер Мікалая,
З іх аднаго, Радзівіла Вялікага, мы апяваем.
Самі адчуеце: мудрасць сваю атрымаў ён ад продкаў...

## ВОЛЬГА КАРАТКЕВІЧ

**(1972, Менск)**

Філолаг па адукацыі, выпускніца БДУ. З 1994 г. займаецца журналістыкай. Пачынала ў незалежнай тэлекампаніі «ФІТ», у праграме «Эканамікст» на БТ. Працавала на «Радыё 101.2», потым супрацоўнічала з беларускай рэдакцыяй радыё «Polonia». Цяпер — на радыё «Свабода», жыве ў Празе. Вершы піша па-беларуску, перакладае з ангельскай і польскай.

*АДАМ ЗАГАЕЎСКІ*
*(1945)*

### ЯК ВЫГЛЯДАЕ ЧАЛАВЕК ЯКІ МАЕ РАЦЫЮ

Як выглядае чалавек які мае рацыю
які гальштук гэты чалавек носіць
ці гаворыць адразу сказамі
ці носіць старую вопратку
ці выйшаў з мора крыві ці выйшаў
ён з забыцця ці на строі ягоным
засталіся сляды пякучае солі
з якой эпохі гэты чалавек
ці твар ягоны зямлістага колеру

ці плача ў сне і што яму сніцца
ці заўжды ўсё той самы пакой
з выбітым сэрцам сцяны ці гаворыць
сам з сабою ці арэндуе цела
старога чалавека і якім неспакоем
плаціць за гэтую клетку ці выгнаннік
ён з нейкага места ці гэта цікаўнасць
так гоніць яго ці аплачана гэта
хто адкажа за гэта адкуль тая пляма
на ягоным плашчы хто за спінай ягонай
ці б давёў ён таму што ўсё гэта залежыць
ад таго як на гэта глядзець
невядома як ёсць насамрэч
падумай ці зможаш пазнаць ты яго
калі ён пераходзіць вуліцу
згорблены пад цяжарам мозгу

## ФІЛОСАФУ

Перастаньце нас ашукваць філосафы
праца не радасць чалавек не галоўная мэта
праца крывавы пот Божа калі я ўжо дома
я хацела б паспаць але функцыя сну
трансмісійная
перадаць мяне наступнаму дню і сонца
манета фальшывая
раздзірае мне ранкам павекі зрослыя
як перад
нараджэннем мае рукі гэта два
гастарбайтары й нават
слёзы ўжо не мае жывуць грамадскім
жыццём
як прамоўцы з засохлымі вуснамі й сэрцам
якое
зраслося з мозгам
Праца не радасць хутчэй невылечны боль
хвароба адкрытага сумлення як новае
селішча
праз якое ў высокіх скураных ботах
праходзіць жыхар вецер

## НЕВЯЛІЧКАЯ ПЕСЕНЬКА ПРА ЦЭНЗУРУ

Ты, цэнзура, увогуле не такая й страшная
не казематы, не кроплі салёнай вады
што збягаюць па цёмных каменных сценах
ты не свіст бізуна, не крывавы праклён
толькі сонца ў фіранках ды з ясеню столік
весела свішча імбрык, водар дамовае кавы
гуляе ў пакоі і чутны высокі
потны голас сытай служанкі
якая трымае звычайныя скальпелі

### ВЕРШЫ ПРА ПОЛЬШЧУ

Я чытаю вершы пра Польшчу, напісаныя
замежнымі аўтарамі. Немцы й расейцы
маюць не толькі стрэльбы, але й
атрамант, пёры, крыху сэрца й багата
ўяўленняў, Польшча ў іхніх вершах
нагадвае нахабнага адзінарога,
які корміцца воўнаю габеленаў, яна
пекная, слабая й неразважная. Я не ведаю,
у чым аптычны падман, але й я, цвярозы чытач,
захапляюся казачным, безабаронным краем,
якім жывяцца чорныя арлы й галодныя
імператары, Трэці Райх і Трэці Рым.

### ЗДРАДА

Найбольшая радасць, як прадчуваю,
тоіцца ва ўрачыстым акце здрады,
толькі вернасць можа з ёй зраўнацца.
Здрадзіць жанчыне, сябру, ідэі,
убачыць новае святло ў вачох
старых ценяў. Але ж так мала
магчымасцяў: іншыя жанчыны, іншыя
ідэі, незычліўцы маіх
верных сяброў. Каб
патрапіць на цалкам іншую іншасць,
спыніцца ў краіне, якая не мае
назову, узяць жанчыну, якая
шчэ не нарадзілася, страціць памяць,
сустрэць
Бога другога, не нашага.

## ЮРАСЬ БУШЛЯКОЎ

**(1973, Менск)**

Закончыў філфак БДУ, дзе некалькі гадоў працаваў на кафедры сучаснай беларускай мовы. Абараніў кандыдацкую дысертацыю пра моўны пурызм як з'яву нармалізацыі мовы — на прыкладах моватворчае практыкі працаў Я. Станкевіча. Мае багаты досвед ў тэле- і радыёжурналістыцы — супрацоўнічаў з тэлекампаніяй «ФІТ», з «Радыё 101,2», з беларускай рэдакцыяй радыё «Polonia», з радыё «Рацыя», вёў аўтарскую праграму «Жывая мова» на радыё «Свабода», у пражскім бюро якога ўрэшце займеў сталую працу. Навярнуў да беларушчыны аднаго з найлепшых перакладчыкаў гэтай анталогіі А. Хадановіча, які пазней прыгадваў: «Мы пазнаёміліся з Юрасём у Любліне, працягнулі знаёмства ў Варшаве, дзе разам жылі, карыстаючыся з курсаў польскай культуры, стажаў, якія атрымлівалі ад польскіх фундацыяў падтрымкі навукі. У 1996 г. мы ўдвух месяц пражылі на кватэры ў Жалібожы — раёне Варшавы. Юрась прамаўляў да мяне беларускаю, я адказваў расейскаю. На мяне абрынулася вялізная колькасць словаў са слоўнікаў Станкевіча, Байкова-Некрашэвіча, Ластоўскага. Пра існаванне *такое* беларускае мовы я нават не падазраваў. І я гэта пасіўна ўсмоктваў». Бушлякоў паэзію перакладае з польскай і чэшскай, прозу — з ангельскай. У змешчанай тут нізцы вершы Ч. Мілаша перакладзеныя супольна з А. Хадановічам, вершы шведскага паэта К. Леандоэра — з А. Даль. Усё астатняе зроблена Ю. Бушляковым адзінаасобна.

## *ЯРАСЛАЎ САЙФЕРТ*
*(1901—1986)*

### ВІНО І ЧАС

*Віншаванне Карлу Томану*

Цячэ вада й мінаецца час, ці ж не так?
Ці ж чалавек паміраць не пачынае таго дня,
калі пабачыць свет?

Толькі спытайцеся ў льва белфорскага,
ці ён не памяняў бы вечнасці сваёй з пясчаніку
на адзін дзень,

калі ў жывое мяса мог бы ўгнаць кіпцюр
і піць кроў,
ажно пакуль з жуды не згасла б Этуаль.

Чаму з гаркотаю мае лічыць чалавек
дні ўласнага жыцця,
як кветкі ў гронцы?

Хіба краса не памірае на тварах свецкіх дам?
Цыліндр Бадлераў не носіцца ўжо, ці ж не так,
і ўжо стаў ён demode?

А быў жа люстэркам,
дасюль гараць у ім лямпы бульвараў,
аблічча пышнае, Парыж!

Нашыя ж вочы сустрэліся там
з усмешкамі жанчын, якія даўно памерлі,
мёртвыя цяпер.

Сёння хацеў бы я выпіць
за Тваё здароўе
з той пляшкі, з якой некалі піў Верлен,

мяняючы апошнюю манету.
Віно, яно, як паэзія, старое,
і наадварот.

* * *

Ноч, уласніца цемры,
вылівае з неба ў паспеху зоры,
ваду крывавую,
у якой прабіты быў Марат
стылетам бялявай красуні,
і пачынае аддзіраць ад людзей
іхныя уласныя цені,

бы кравец, які аддзірае рукавы,
прымяраючы пінжак.

Усё на гэтым свеце ўжо было,
няма нічога новага,
але ж бяда закаханым,
якія не змогуць у кожным цалунку
адкрыць новае краскі.

*ЧЭСЛАЎ МІЛАШ*
*(1911–2004)*

## НЕ БОЛЬШ

Калі-небудзь я мушу сказаць, як змяніў
Свой пагляд на паэзію, як так сталася,
Што сягоння лічуся адным з шмат якіх
Гандляроў і рамеснікаў японскага цэсарства,
Складальнікаў вершаў аб вішняў цвіценні,
Хрызантэмах і месячнай поўні.

Калі б мог куртызанак Венецыі
Апісаць, як прутком у падворку яны цвеляць паўліна,
І з тканіны шаўковай, з апаяскі парловай
Вылушчыць пруткія грудзі, чырвоную
Рысу на чэраве — след спражкі ад сукні,
Так, прынамсі, як бачылі шкіперы галіёнаў,
Таго ранку прыбылых з запасамі золата;
І калі б адначасна я іхныя бедныя косці
На магільніку, дзе ліжа браму драпежнае мора,
Залучыць мог у слове, мацнейшым за грэбень апошні,
Які сам у гніллі пад плітою чакае святла,

Не суміўся б тады. Што з матэрыі непадаткой
Пазбіраеш? Нічога, мо толькі красу.
А тады нам павінна хапіць кветак вішні,
Хрызантэмаў і месячнай поўні.

## CAMPO DI FIORI

У Рыме на Кампа дзі Ф'ёры
Місы маслін і лімонаў,
Брук вінам акраплёны
Ды пялёсткамі кветак.
Пладамі ружовымі мора
Гандлёўцы сталы засыпаюць,
Цяжар вінаградных гронак
Кладзецца на пух брусквічны.

Тут менавіта, на пляцы,
Спалілі Джардана Бруна.

Каты агонь распалілі
У коле цікаўнае чэрні.
А ледзьве полымя згасла,
Зноў стала поўна ў тавэрнах,
Місы маслін і лімонаў
Неслі гандлёўцы на продаж.

Я ўспомніў Кампа дзі Ф'ёры
Ў Варшаве ля каруселі
Ў вясновы пагодны вечар
Пры гуках эстрадных мелодый.
Залпы за мурам гета
Глушыліся танцавым рытмам,
У бясхмарнае неба
Высока ўзляталі пары.

З вогнішча вецер прыносіў
Чорных лятучых цмокаў —
Хапалі шматкі ў паветры
Гулякі на каруселі.
Ветрылі сукні дзяўчатам
Павевы з дамоў палалых,
Смяяліся весела гурмы
Ў час гожай варшаўскай нядзелі.

Мараль можа вычытаць нехта,
Што люд варшаўскі ці рымскі
За гандлем, забавай, каханнем
Не бачыць вогнішчаў смерці.
Іншы мараль заўважыць
Пра справаў людскіх мінанне,
Пра забыцця наступленне,
Перш як агонь дапалае.

Я ж думаў пра адзіноту
Асуджаных на загубу,
Аб тым, што калі Джардана
Ўступаў на памост да катаў,
У мове людской не здолеў
Знайсці ніводнага слова,
Каб развітацца з народам,
З тым людам, які застаўся.

Віна ўжо пабеглі выпіць,
Прадаць свае морскія зоркі.
Місы маслін і лімонаў
Неслі вясёлыя пары.
А ён быў ад іх далёкі,
Быццам мінулі стагоддзі,
Яны ж толькі мгненне чакалі
Яго адлёту ў пажары.

Тыя, самотныя, гінуць,
Пазабываныя светам,
Іх мова цяпер нам чужая,
Як мова даўняй планеты.
І ўсё гэта стане легендай,
Пройдуць гады, і за гэтым
На новым Кампа дзі Ф'ёры
Падыме бунт слова паэта.

## МАЯ ВЕРНАЯ МОВА

Мая верная мова,
служыў я табе,
штоночы стаўляў прад табою місачкі, поўныя колераў,
каб мела ты коніка з поля, бярозку й гіля,
захаваных у памяці мною.

Гэта доўжылася шмат гадоў.
Была бацькаўшчынаю маёй, бо другой не ставала.
І я думаў, што ты пасярэдніцай станеш таксама
паміж мной і людзьмі дабрыні,
хаця б іх было дваццаць ці дзесяць
або не нарадзіліся шчэ.

Прызнаюся цяпер у сумлевах сваіх.
Надараюцца моманты, што мне здаецца — жыццё змарнаваў.
Бо ты мова зняслаўленых,
неразумных, якія адзін аднаго ненавідзяць,
можа, больш нават як чужаніцаў,
ты даказнікаў мова,
ты мова вар'ятаў,
хварбітоў на нявіннасць сваю.

Але хто без цябе я?
Шкаляр недзе ў краі далёкім,
а success, ані страху, ані прыніжэнняў.
Так, ды хто без цябе я?
Філосаф такі, як і кожны.

Разумею, гэта, пэўна, маё выхаванне:
арэолу індывідуальнае славы пазбыты.
Грахаводніку з маралітэ
Вышні Збаўца дыван падсцілае чырвоны,
а тым часам магічны ліхтар
абразы чалавечых і боскіх пакутаў усё кідае на палатно.

Мая верная мова,
можа, я менавіта павінен цябе ратаваць.
Так і буду далей прад табою стаўляць місачкі, поўныя колераў
і найсветлых, і чыстых, як гэта магчыма,
бо ў няшчасці патрэбныя нейкія лад ці краса.

*ІВАН БЛАТНЫ*
*(1919—1990)*

## МІФ

У разлеглым парку замку дзе інтэрнаваны Гітлер
рэдкія ангельскія гаі прасейваюць цень
Праз імгу не відаць вакольнае вёскі

Рададэндраны шчэ не цвітуць
у чорным ружовым кустоўі ёсць яшчэ смерць

Некалькі нарцысаў на ўскрайку лесу які мы
лічылі мала не дзікай прыродай
сведчаць пра вынаходлівую тонкую працу садоўнікаў.

*ЗБІГНЕЎ ГЕРБЕРТ*
*(1924)*

## ТРЭБНІК

Госпадзе
я ведаю палічаныя дні мае
засталося іх няшмат
Адно каб мне яшчэ паспець сабраць пясок
якім прыкрыюць мой твар

не паспею ўжо
здаволіць пакрыўджаных
ані выбачыцца перад усімі
якім я ўчыніў быў зло
таму смутная мая душа

жыцце маё
павінна споўніць круг
закончыцца нядобра ўкладзеная саната
але цяпер я бачу дакладна
за момант перад кодай
сарваныя акорды
слалучаныя кепска колеры і словы
гул дысананс
галас хаосу

чаму
маё жыццё
не было што кругі на вадзе
абуджаным у неабсяжных нетрах
пачаткам які расце
збіраецца ў пласты ступені складкі
каб спакойна сканаць
ля тваіх неадтаемненых каленяў

## У МАЙСТРОЎНІ

Лёгкім крокам
пераходзіць
ад плямы да плямы
ад плёну да плёну

добры садоўнік
падпірае кветку палачкай
чалавека радасцю
сонца блакітам

пасля
папраўляе акуляры
ставіць гарбату
мармыча
гладзіць ката

Спадар Бог калі будаваў свет
моршчачы лоб
улічваў улічваў улічваў
затым свет дасканалы
і нельга ў ім жыць

затое
маляроў свет добры
добры
і поўны абмылаў

вока ходзіць сабе
ад плямы да плямы
ад плёну да плёну

вока мармыча
вока ўсміхаецца
вока згадвае

вока гаворыць можна вытрымаць
калі б толькі ўдалося ўвайсці
унутр
туды дзе быў гэты маляр
без крылаў
у пантофлях што спадаюць
без Вергілія
з катом у кішэні
фантазіяй дабрадушнаю
і нясведамаю рукой
якая папраўляе свет

*КРЫСТАФЭР ЛЕАНДОЭР*
*(1955)*

## СОНЕЧНЫЯ АСКЕПКІ

Я хацеў
вам усё аддаць, і не аднойчы, а раз-пораз.
Як хрыбет карабля
ўвесь час аддае вадзе блішчастыя перлы.
Як у нядзелю чаіцы на праменадзе
падносяць радасна аздобы для капелюшоў.
Памятныя дары.

# АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ

**(1973, Менск)**

Захацелася ўдакладніць біяграфію паэта, я звыкла пацягнуў з паліцы патрэбны том 18-томавай «Беларускай энцыклапедыі» і... сярод двух Хадановічаў Андрэя не знайшоў. Хоць на момант выхаду тома ён быў аўтарам трох кніг (адна з іх, «Лісты з-пад коўдры», нават выйшла па-ўкраінску ў Кіеве) і артыкулаў пра французскую літаратуру ў той жа энцыклапедыі. Айчынныя энцыклапедысты падазрона ставяцца да трыццацігадовых; пакуль не пасівееш, у іхнія рэестры ды каталогі не трапіш. Як пісаў з іншай нагоды вясёлы Вядзьмак Лысагорскі: «І будзь ты, Грышка, тройчы геній — не прычакаўшы, спусціш дух». А. Хадановіч закончыў расейскае аддзяленне філфака БДУ і застаўся выкладаць у alma mater французскую літаратуру XVII—XIX стст. Яшчэ студэнтам захапіўся французскімі сімвалістамі А. Рэмбо, С. Малармэ, Ш. Бадлерам (апошні стаўся тэмай кандыдацкай дысертацыі). Выявілася, што згаданых паэтаў амаль не існуе па-беларуску. Пасля больш уважлівага азнаямлення з беларускай літаратурай высветлілася, што «большасць твораў Байрана, Гайнэ альбо Міцкевіча па-беларуску гучаць горш ад Петруся Броўкі». І Хадановіч актыўна заняўся збеларушваннем заходнееўрапейкай класікі. Гэта быў напорны Drang nach Westen і энергічны Sturm und Drang адначасова — за некалькі гадоў па-беларуску загучалі Ш. Бадлер, С. Малармэ, Ф. Віён, А. Рэмбо, Ж. дэ Нэрваль, Э. Дыкенсан, Г. Апалінэр, У. Б. Ейтс, Э. Паўнд, У. Х. Одэн, Сэн-Жон Пэрс, а ў дадатак да іх Ч. Мілаш з Гарацыем. Што да апошняга, то ягоную оду «Да Мельпамены» да А. Хадановіча класічна пераклаў М. Багдановіч, і паляпшаць яе наўрад ці была пільная патрэба. Хутчэй, тут — здаровае жаданне паспаборнічаць з класікам (нават з двума, калі згадаць вядомае выслоўе пра перакладчыка, які ў прозе — раб, а ў паэзіі — спаборнік). Падобных спаборніцтваў беларускай літаратуры відавочна не хапае — успомнім, як доўга не адважваліся нашы перакладчыкі кінуць выклік Я. Купалу, які пераклаў «Трох Будрысаў» і «Ваяводу» А. Міцкевіча яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. Самае істотнае пра Хадановіча-перакладчыка сказаў Л. Баршчэўскі на старонках часопіса «Arche» (2002, № 3): «У яго перакладах ёсць самае галоўнае: бездакорны густ і здаровая самапавага да свайго паэтычнага чуцця. Ставячыся да класікі з пашанотаю, ён, разам з тым, "не ламае шапку" перад знакамітымі паэтамі, а давяраецца сваёй творчай інтуіцыі, якая амаль ніколі не падводзіць. Натуральна, можна спрачацца з тымі альбо іншымі інтэрпрэтацыямі класічных вобразаў, зробленымі Андрэем. Аднак пры гэтым нельга не заўважыць аднаго: Хадановіч падсвечвае кожную сваю перакладчыцкую працу ўласным паэтычным талентам і літаратуразнаўчай эрудыцыяй». Вялікаму караблю вялікае плаванне — вырашылі ў Беларускім калегіуме і даверылі Хадановічу тамтэйшую перакладчыцкую майстэрню. Яе выхаванцам знайшлося месца і ў «Галасах з-за небакраю». А чытачы тым часам зачакаліся анталогіі самога Хадановіча, падрыхтаванай да друку і анансаванай пад страхотлівым для астматыкаў назовам «Разам з пылам: Калекцыя перакладаў».

*ФРАНСУА ВІЁН*
*(паміж 1431 і 1432 — пасля 1463)*

## ЭПІТАФІЯ ВІЁНА

*Балада шыбенікаў*

Пачцівыя, спагадлівыя людзі,
Браты, што нас перажылі, нябог,
Хто да няшчасных літасцівым будзе,
З таго калісьці злітуецца Бог!
Вось мы ў пятлі ўпяцёх альбо ўшасцёх,
А цела — хорам, калісь дагляданы,
Дазвання зруйнаваны, пажыраны
І жменькай пылу зробіцца ў свой час.
Тут не дарэчы здзек і гумар танны:
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Няўжо з пагардаю ці ў перапудзе
Забудзеце аб ветраных братох?
Няхай нас пакарала Правасуддзе,
Ды хто з людзей спакусу перамог?
Пусцеце міласэрнасць на парог,
Каб справядлівы сын Марыі Панны
Нам дараваў правіны і заганы
І ўратаванне душаў нам прыпас.
Спакой памерлых варты вашай шаны,
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Мы парахнеем у брыдзе і брудзе
На ростанях усіх зямных дарог,
Нам зліва да касцей прамылі грудзі,
Птах выдзеўб нашы вочы, як гарох,
Бароды й бровы скуб, як толькі мог.
Нас не чакае супакой жаданы:
Туды-сюды вятрыска несціханы
Нас гойдае, астатнім напаказ.
Дык пашкадуйце, людзі, нашы раны,
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

Ісусе, Збаўца, ўсімі шанаваны,
Хай лёс пякельны, нам наканаваны,
Ахвяраў абміне на гэты раз!
Хто з нас смяецца, будзе пакараны!
Маліцеся Ўсявышняму за нас!

*ФРАНСУА МАЛЕРБ*
*(каля 1555 — 1628)*

## СПАДКАВАННЕ ПСАЛЬМУ CXLV

Хай душа да спакусаў зямных не паверне!
Іх вабноты — што хвалі на воднай паверхні,
    Якім вецер спачыць не дае.

Марны гонар адкінь, гэта гібельны трунак,
    Бог жыццё даў табе ў падарунак,
    Толькі Ён варты шаны тваё.

Каля тронаў манархаў, трываючы кпіны,
Мы ганебна згінаем калені і спіны,
    Каб узвысіцца ўсякай цаной.
Толькі тыя, на тронах, — звычайныя людзі:
    Кожны калісь нябожчыкам будзе,
    Апынецца сам-насам з труной.

Усясветную веліч, раздзьмутую пыху
Смерць пускае на глум, надышоўшы паціху:
    Мерцвякі й цішыня на вякі!..
Ці ты моцны ўладар, ці прыніжаны лёкай —
    У зямліцы ляжы й не галёкай,
    Покуль цела грызуць чарвякі!

Шанавальнікі міру, аматары бітваў,
Іх імёнаў і ў кнізе ніхто не вычытваў...
    Дзе іх скіпетры, дзе іх пасад?..
А каля ўладароў — бедакі, недалугі —
    Лягуць іхныя верныя слугі,
    І нікога не вернеш назад.

*ДЖОН ДОН*
*(1572–1631)*

## РАЗВІТАННЕ, ШТО ЗАБАРАНЯЕ СМУТАК

Як праведнік сваёй пары
    Шапне душы: «Ляці дадому!»,
І завагаюцца сябры:
    Жывы ці мёртвы — невядома,

Так мы, расстаўшыся без слёз,
    Мілосці не атруцім смуткам:
Ці ж аддамо супольны лёс
    На ганбаванне брудным чуткам?

Калі хістаецца зямля,
    Трасуцца з жаху малаверы,
Ды не палохае здаля
    Нябачны зрух нябёснай сферы.

Зямных любоўнікаў трасе
    Ад страху змарнаваць каханне,
Бо іх пачуцці пакрысе
    Разлука вынішчыць дазвання.

А мы з табой кахаем так,
    Што душы праз гады разлукі

Мацнейшыя за вуснаў смак
І прагныя любошчаў рукі.

Бо нашых душаў больш не дзве,
А — злітак золата адзіны,
Якога ўдар не разарве,
А толькі вытанчыць пласціну.

Як ножкі цыркуля, мы круг
З табою крэслім, дарагая;
І хоць адна на месцы, рух
Няўзнак ёй надае другая.

Адна ў сярэдзіне знарок,
Але схілілася ў чаканні,
Каб чуць тае, далёкай, крок
І выпрастацца на спатканні.

Будзь мне апораю ў хадзе,
Каб на кругах не схібіў квола,
І шлях зваротны прывядзе
Туды, дзе пачынаў я кола.

*ЖЭРАР ДЭ НЭРВАЛЬ*
*(1808—1855)*

## У АЛЕІ ЛЮКСЕМБУРГСКАГА САДУ

Яна прайшла, дзяўчына-птушка,
Раптоўная, нібы павеў.
Ёй краскі спавівала стужка,
Ёй вусны упрыгожыў спеў.

Ці не адзіная істота,
Што пакахаць мяне магла
І ў прыцемкі маёй самоты
Прынесці каліва святла!

Ды час старому заняпасці,
І сонца больш не ахіне!
Дзяўчына, водар, песня... Шчасце,
Што праляцела паўз мяне!

## EL DESDICHADO

Я змрочны, я ўдавец, я згустак паражні,
Я Аквітанскі прынц на зруйнаванай вежы,
Бо *зорка* любая пагасла ў вышыні,
А *сонца чорнае* — бы з вусцішнай вопраткі відзежы.

З магільнай цемрадзі ўратуй мяне, вярні
Спустошанай душы Італіі ўзбярэжжы,

Альтанку, што калісь мне аздабляла дні,
І вінаградны смак, і ружы водар свежы.

Я Феб? Альбо Амур? Я Лузіньян? Бірон?
У гроце маіх сноў гучаць сірэны спевы,
А чырвань на чале — след вуснаў каралевы.

Я двойчы пераплыў жахлівы Ахерон...
І ў лірнай вараЖбе ўваскрэслага Арфея
Святая скардзіцца і прамаўляе фея.

*ШАРЛЬ БАДЛЕР*
*(1821—1867)*

## ВАЛАСЫ

О локанаў каскад, што падае на спіну!
О пекнага руна найчараўнейшы пах!
Крануся іх красы, як водарнай хусціны, —
І прыцемны алькоў прасякнуць успаміны,
Схаваныя ў тваіх духмяных валасах!

І спёка Афрыкі, і ўсе аздобы Ўсходу,
Амаль забыты свет у новым харастве
Знячэўку паўстае, падняўшыся із споду.
Як людзі ў музыцы шукаюць асалоды,
Мой дух, нібы ў вадзе, у водары плыве.

Там у паўдзённы сквар мурыны і матросы
Між волатавых дрэў знаходзяць пэўны схоў.
Праз чорны акіян і морскія дзівосы
Вядуць мяне твае прываблівыя косы
Ў краіну ветразяў і мачт, і маракоў.

П'е водары душа і колеры, і гукі
З крыніцаў усяго, што будзе і было;
У залатой смузе без вонкавай прынукі
Вандроўны карабель нібыта цягне рукі,
Спрабуючы абняць спрадвечнае святло.

Нырэц у кудзеры, вандроўнік па каханцы,
Я так і не сягну дна гэтай глыбіні
І твой марудны рух пазнаю па гайданцы,
Лянота плённая, каб розумам выгнанца
Нарэшце зразумець: «Вось дом твой, адпачні!»

О пасмы, вы шацёр блакітнага сутоння,
Вы цягнеце да зор і вабіце далей!
Ледзь пухкіх павіткаў кануліся далоні,
Я зануруюся ў пахучае прадонне —
У мускус, у смалу й какосавы алей.

Сапфіры з перламі — ў карону чараўніцы!
Рубін і дыямент аздобяць галаву
Табе, аазіс мрой, дзе мне былое сніцца,
Між выдмаў забыцця — гаючая крыніца,
З якое п'ю віно ўспамінаў — і жыву!

* * *

Мой верш — табе! Калі майго натхнення плён
У будучых часах чытацьме хтось натхнёна,
Калі маё імя падыме на рамёны
І ў далеч панясе магутны аквілон;

Хай памяць пра цябе, нібыта перазвоны,
Чаруе чытача, бярэ яго ў палон —
Ля вершаў гордзівых, нібыта ля калон,
Братэрскіх ланцугоў яе трымаюць звёны!

Праклятая, каму ад пекла да нябёс
Адпавядаў адно мой неразумны лёс!
Як згублены з вачэй няпэўны след уночы,

Ты светлым позіркам з тупых смяротных кпіш,
Ты, стодзе велічны, анёле, чые вочы —
З агату, а чало — высакародны спіж!

## ТАНЕЦ СМЕРЦІ

Зграбнюткая хада, пальчаткі, вэлюм, кветкі,
Спакуслівы пагляд і таямнічы ўздых,
Багаты арсенал дасведчанай какеткі —
Усё як у людзей, усё як у жывых.

Хіба танчэйшы стан ты сустракаў на балі?
А каралеўскі строй дзівоснай шырыні?
Ці ж ножкі лепшыя калісьці абувалі
Ў малыя туфлікі? Не бачыў? Дык зірні!

Паўзверх худых ключыц, пастаўлены на варту
Цнатлівае красы, бруіцца лёгкі руш:
Ад жарсных позіркаў ці ад ліхога жарту
Прывабнасці схаваў, якіх, глядзі, не руш!

У глыбіні вачэй сутонне й паражнеча,
Вянок на чэрапе — ну чым не валасы! —
На крохкіх пазванках гайдаецца й трапеча.
О вытанчаны бляск магільнае красы!

Хтось іншы назаве брыдой цябе, магчыма:
Тым, хто багоміць плоць, не зразумець, чаму
Я на цябе гляджу прыязнымі вачыма,
Чым спадабалася так сэрцу ты майму!

Ці ты прыйшла сюды, каб сапсаваць ім свята
Усмешкаю з труны? Альбо спакусы зноў
У зман цябе ўвядуць, і кінешся зацята
Прыемнасці лавіць на шабасе лгуноў?

Ці спадзяешся ты, што ў оргіях вірлівых
Пагасіш пекла жар, запалены ў душы?
Што ў свечак полымі й скрыпічных пералівах
Свой здзеклівы кашмар забудзеш? Не смяшы!

О перагонны куб дурноты і пакуты,
Дзе дыстылюе боль самаахвярны кат!
Я чую, як сычыць, між рэбрамі закуты,
Ў сярэдзіне цябе узгадаваны гад!

Прывабнасці твае — не для мужчын тутэйшых,
Жахліваю красой іх цвеліш ты дарма:
Усё ідзе на глум, бо толькі наймацнейшых
Чаруе вусцішнасць, а тут такіх няма!

Адвечнаю жудой твае свідруюць вочы,
Тут цяжка не самлець, і кавалер любы
Ледзь-ледзь стрымае млосць, пабачыўшы жаночы
Какетлівы ашчэр на трыццаць два зубы.

А зрэшты, хто не браў нябожчыка ў абдымкі
І хто з жывых людзей не выкармак труны?
Хто пудры не ўжываў? А штучнае радзімкі?
Таксама і яна. Дык што, прыгажуны?

Царыца паталух, бязносая гітана,
Да скакуноў ідзі й скажы ім напрамкі:
«Нягледзячы на ўсе парфумы і румяны,
Вы ўжо адчулі смерць! Амаль што мерцвякі.

Ты, лысы Лавелас, юрлівы ашуканец,
Ты, Антыной сівы, сапсеefы пакрысе, —
Раз’юшаная Смерць вас зацягнула ў танец
І немавед куды нясе, нясе, нясе!

На Сены берагах і на спякотным Гангу
Смяротных чарада гарэзіць да пары,
Не бачыць, што бяда стаіць ужо на ганку
Й Анёльская труба ўжо зеўрыць угары.

Пацешны род людскі, з камедыяй нішчырай
Па ўсіх зямных краёх крыўляйся і скачы;
Глядачкай будзе Смерць, надушаная мірай,
Іронію сваю ў твой шал дадаючы!»

*СТЭФАН МАЛАРМЭ*
*(1842—1898)*

## ЗВАНАР

Калі прачнецца звон на кляштарнай званіцы,
Сягае вышыні й вяртаецца далоў
І, ўкленчыўшы, дзіця ў лавандзе й медуніцы
«Анёла Панскага» не забывае слоў —

Там, угары, дзе птах не можа ўгаманіцца,
Званар на камені і з лінамі званоў
Ледзь чуе іхні спеў і, нібы чужаніца,
Мармыча роспачна штось на лаціне зноў.

Ён — гэта я, на жаль! У цемрадзі раз-пораз
Я б'ю ўва ўсе званы, каб выславіць Святло,
Але не паляціць заганнае крыло —

І не пяе мой звон. Што ж, я заўсёдны поўраз
(Дай веры, Люцыфер!) перараблю ў пятлю
І з каменя свайго аднойчы саступлю!

## БЛАКІТ

Высмешлівы Блакіт, празрысты і бясконцы,
Красуе і гняце паэтаў дар слабы,
А тклівы ткач красы кляне свае красёнцы
Між выдмаў роспачы, нязмогі і журбы.

Ратуйся! Сціснутых павекаў цемру вызнай,
Каб скрухаю душу не свідравала сінь!
Бяжы! Але куды? Шмаццё, рыззё, старызну
Суворай цемрадзі на сорам дня накінь!

Тумане, загусцей, святло дарэшты знішчы
І шэраю смугой нябёсы зацягні:
Над бледнай вільгаццю асенняга гарышча
Зрабі дыхтоўны дах суцэльнай цішыні!

Каханая Нуда, з лецейскага ўзбярэжжа
Ляці, ды прыхапі трысцё, і твань, і глей:
Прагаліны сінцу, што птаства ў небе рэжа,
Замазкай багнавай, прашу цябе, заклей!

Каб жа шчэ коміны над кожнай камяніцай
Па сонцы попелам стралялі наўздагон!
Каб збыўся ў сопусе вандроўнае вязніцы
Ліхтарні жоўтае наканаваны скон!

Нябёсы — мёртвыя! Матэрыя, благаю,
Ад путаў памяці мяне аслабані!

Забыць свой Ідэал, забіць згрызотаў зграю
І спаць з людскім быдлём на дарагім даржні!

Я розум змарнаваў, і мазгаўё старое,
Як скрынка з-пад румян, нічый не спыніць крок:
Абрысы ўласных мрой я прыбіраў у строі,
Каб сёння пазяхаць у замагільны змрок...

Намарна! Зноў жыве нязможная сінеча:
Яна гудзе ў званах загубаю душы,
Бо столькі роспачы і столькі варажнечы
Нясе мне хваласпеў блакітнае імшы!

Спрадвечны трон ізноў застаўся непахісны.
Узброеная сінь вар'ятаў б'е наўскід.
Няма ратунку. Бунт — заганны й бескарысны.
Я *выкляты*. Блакіт! Блакіт! Блакіт! Блакіт!

*АРЦЮР РЭМБО*
*(1854–1891)*

## БАЛЬ ШЫБЕНІКАЎ

На шыбеніцы апантана
Ўсё танчаць, танчаць, вісячы,
Шкілеты з воінства Шатана,
Пякельныя паслугачы.

Вялебны Вельзевул валадаром на балі:
Крыўлякаў, што ў пятлі блюзнераць задарма,
Б'е туфляю па лбах, каб весялей скакалі
Пад акампанемент каляднага псальма.

І кожны ачмурэў, страсае ў танцы косці,
Аб грудзі б'е грудзьмі, бы грукае ў тамтам,
Прыпадачна хрыпіць у вычварнай мілосці,
Хоць колісь прыпадаў да вытанчаных дам.

Агромністы памост дае танцорам шанец —
Гоп! — весела скакаць без мяса і вантроб!
І ўжо не зразумець, ці гэта бой, ці танец!
Рве струны Вельзевул, вядомы філантроп!

Кашуляў скураных пазбыліся амаль што,
Абутак не псуе ім лёгкае ступы,
Не муляе даўно шляхетных шыяў гальштук,
А снег капелюшы напнуў на чарапы.

Крумкач, нібы султан, сядае на галовы.
Вісіць на барадзе шматок былой шчакі.
Здаецца, ваяром, расцятым да паловы,
Кардоннага мяча не выпусціць з рукі.

Ад гойсання ўваччу хістаюцца нябёсы,
Ліловыя лясы працяў ваўчыны сквіл,
Вісельня, як арган, скавыча шматгалоса
Й пякельнай чырванню палае небасхіл.

А ну, хутчэй скакаць, здыхляціна старая,
Што лашчыць неўпрыкмет ружанец пазванкоў,
Нібыта пацеркі манах перабірае:
Тут вам не манастыр, а кодла мерцвякоў!

Ах! вунь, сапселы ўшчэнт ад замагільных скокаў,
Вялізарны шкілет узняўся на дыбкі,
Узвіўся ў вышыню, шчасліва загалёкаў,
Ды раптам зноў адчуў пятлі прыгнёт цяжкі,

І з енкамі, што так падобныя да кпінаў,
Сціскаючы ў кулак нявыслаўлены жаль,
Як блазан, што на міг свой балаган пакінуў,
Пад музыку касцей вяртаецца на баль.

На шыбеніцы апантана
Ўсё танчаць, танчаць, вісячы,
Шкілеты з воінства Шатана,
Пякельныя паслугачы.

*УІЛЬЯМ БАТЛЕР ЕЙТС*
*(1865–1939)*

## ЗА ВЕРБАМІ, У САДЗЕ...

За вербамі, у садзе, я любую сустрэў.
Я слухаў яе словы ў лістоце ніцых дрэў:
«Кахайце, як травіца расце каля вады».
А я не даў ёй веры — быў надта малады.

Пасля стаялі поруч на беразе ракі
І адчуваў я поціск бялюткае рукі.
«Жывіце, як гадуе лістоту вербалоз».
А я быў неразумны і змарнаваў свой лёс.

## ЛЕДА І ЛЕБЕДЗЬ

Раптоўны націск крыл, што плешчуць вонках;
чужое сэрца б'ецца ля грудзей;
улонне лашчаць лапы ў перапонках
і дзюба песціць шыю ўсё люцей.

Ці ж адаб'юцца кволыя далоні
ад мужнасці ў аперанай красе?
Як сцёгнам, аслабелым у палоне,
не саступіць чужынцу пакрысе?

Прыйдучае ёй апладняе нетры:
тут гібель Агамемнана, дары
данайцаў і забойствы між руінаў...

Ці ж моц і веда ўладара паветра
ёй да тае адкрыліся пары,
як ён яе, насычаны, пакінуў?

*ГІЁМ АПАЛІНЭР*
*(1880—1918)*

## ПАЗНАЦВЕТЫ

Луг увосень атручаны хоць сакавіты
Труціць статкі патроху
Мурог ядавіты
Там цвіце нібы цені ля вашых вачэй
Пазнацвет толькі вочы красуюць ярчэй
Іх да красак ліловых падобныя промні
Гэтай восенню труцяць патроху жыццё мне
Выбягаюць са школы хлапцы-крыкуны
Паспяшаюць на луг пад гармонік губны
Каб ірваць пазнацветы з дзіцячым шаленствам
Што павек будуць вашых павек падабенствам
Трапяткіх як пялёсткі на золкім вятры

Пастуховая песня лунае ўгары
І брыдуць па красоўнай атруце чароды
Пакідаючы восеньскі луг назаўсёды

## ХВОРАЯ ВОСЕНЬ

Мая любая хворая восень памрэ
Калі віхар задзьме на двары
Калі снег упадзе на сады
Назаўжды

Бедная восень
Памры ў беліні і раскошы
Спелых пладоў і заснежаных ружаў
Высока ў нябёсах
Ястрабы кружаць
Зялёнавалосых русалак чакаюць з'яўлення
Наіўных малютак ніколі нікім не каханых

Трубяць алені
Удалечыні на палянах

Як мне даспадобы о восень усе твае спевы
Плады несабраныя вецер зрывае цішком
І плачуць няўцешныя дрэвы
Губляючы слёзы лісток за лістком

Лісцё
Пад нагамі канае
Цягнік
Разгон пачынае
Жыццё
Прамінае

## БЫВАЙ

Я зламіў гэты верас у полі
Наша восень памерла ў журбе
Нам ужо не сустрэцца ніколі
Водар часу верас у полі
Толькі знай я чакаю цябе

*ЭЗРА ПАЎНД*
*(1885–1972)*

## ВІЯНАДА НА КАЛЯДЫ

Калядамі (сярод дароў
І пастушыныя ў пашане!)
Ў палёх глухі ваўчыны роў —
Ядуць падліну на сняданне
Пад піва снежаньскіх вятроў.
А я ў святочным прадчуванні:
Каб чыстым быць, між брудароў
Я п'ю за леташнія здані.

Якая зорка трох цароў
Вяла ў пячору на спатканне?
Мяне вядзе сляпая кроў
І цень памерлага кахання,
Што ўвесну ажыве і зноў
Паабяцае і падмане,
Як гэтым разам. Будзь здароў,
Я п'ю за леташнія здані.

Планеты воляю багоў
Сышліся ў зорным акіяне.
Дзе ж смех сябровак і сяброў
Юр і шляхетнае трыванне,
Пагрозы вуснаў-ваяроў,
Тваіх вачэй выратаванне,
Мая загуба й пэўны схоў?..
Я п'ю за леташнія здані.

Прынц, змест маіх блюзнерскіх слоў
Не варты вашага пытання;
Яго віхор нясе далоў:
Я п'ю за леташнія здані.

*УІСТАН Х'Ю ОДЭН*
*(1907—1973)*

**ПАМЯЦІ У. Б. ЕЙТСА**
*(Памёр у студзені 1939 г.)*

I
Ён знік у зімовай сцюжы:
Замёрзлыя ручаі, апусцелыя аэрапорты,
Знявечаныя помнікі пад снегам.
Іртуць падала ў роце дня, што таксама канаў.
О, паводле ўсіх прыбораў,
Дзень ягонае смерці быў цёмным халодным днём.

Удалечыні ад ягонай хваробы
Ваўкі па-ранейшаму шнырылі ў хвойных гушчэчах,
Вясковыя рэчкі не спакушаліся модным гранітам,
Хаўтурныя словы
Хавалі ад смерці ягоныя вершы.

Але ж для яго гэты дзень стаўся апошнім,
Стаўся днём сядзелак і погаласак.
Прымесці ягонага цела паўсталі,
Пляцы ягонага розуму апусцелі,
Маўчанне апанавала ўскраіны,
Плынь пачуццяў аслабла.
Цяпер ён — гэта толькі ягоныя чытачы.

Параскіданы па тысячах местаў,
Цяпер ён аддадзены цалкам чужым прыхільнасцям,
Каб знайсці сваё шчасце ў тамтэйшых змрочных лясах
Ці быць пакараным па тамтэйшых законах сумлення.
Слова мёртвага
Вандруе ў вантробах жывых.

Але ў клопаце й грукаце Заўтра,
Калі брокеры зноў, бы звяры, завыюць на біржы,
А бядняк, як раней, будзе жыць у прывычных пакутах,
І кожны, замкнуты ў вязніцы самога сябе,
Будзе ўпэўнены, што ён вольны, —
Некалькі тысяч згадаюць пра гэты дзень
Як пра дзень незвычайны.
Так, паводле ўсіх прыбораў,
Дзень ягонае смерці быў цёмным халодным днём.

II
Ты быў такі ж, як мы; ўсё вытрываў твой дар:
Цялесны заняпад, кабеты-мецэнаткі.
Ты стаўся песняром Ірландыі-вар'яткі.
(Хранічна хворае, як сведчыць каляндар.)
Верш свету не змяніў да гэтае пары:
Цячэ далінай слоў, куды валадары

І ў думках ні нагой, на поўдзень, цераз вусціш
Самоты, і турбот, і засмучэнняў; вусце ж
Там, дзе надзея й смерць, дзе ў золкіх гарадах
Жыве паэзія — прамова й шлях.

III
Сустракай, магільны лёх:
Ўільям Ейтс у глебу лёг,
Не замкне сваіх радкоў
У ірландскі дарасхоў.

Час, няўмольны барацьбіт,
Зрыне мужнага ў нябыт,
Бо ў цялесным харастве
Несмяротнасць не жыве;

Ды багоміць Мовы храм
І найлепшым песнярам,
Хто пяе ў яе званох,
Час вянок кладзе да ног.

Час даруе пакрысе
Кіплінгу заганы ўсе,
Як за талент наўсуцэль
Абязвінены Кладэль...

Скавытанне воўчых зграй
Працінае кожны край,
Люты люд схавацца мкне
Ў варажнечы, бы ў труне.

Разумовай ганьбы вар
Бы апарыў кожны твар,
А спагаднасці ачаг
Больш не цепліцца ў вачах.

Дык зрабі, паэце, крок
У бяздонны ночны змрок,
Несучы хвалу красе
Ў гучным шчырым голасе.

Як садоўнік — працы плён,
Выгадоўвай верш-праклён
І, раз'юшаны, паўстань
На людскую неталань.

У пустэльню нашых душ
Жыццядайнай плыняй руш
І ў вязніцы роспачы
Вольных гонару вучы.

*ЮРЫ АНДРУХОВІЧ*
*(1960)*

## ІНДЫЯ

I
Індыя пачынаецца, калі табе сняцца сны
пра выправу на ўсход, сюжэтныя сны, яны —
нібы фільм, па якім ты блукаеш героем-зухам.
Проста чуеш трубу ці хвалі б'юць па ладдзі,
альбо голас табе шэпча: «Устань і йдзі!»,
але ты не пэўны, ці сэрцам пачуў, ці вухам.

Індыя — не паўвостраў. Хутчэй, мацярык, і ён
мяжуе проста з Нічым. Ні атлас, ні лексікон
не прызнаюць, што Ніл — апошні край свету ў цэлым
свеце. Што зоркі ў небе — проста начное шоў
у тэатры Бога. І, мабыць, час не прыйшоў —
мы па-ранейшаму плоскасць лічым сфераю. Целам.

Мы лічым сфераю тое, што ляжыць, нібы корж.
Але ты, пачуўшы загадна-рэзкае «марш!»,
меч дастаеш і рушыш на ўсход, каб памерці.
І ты збіраеш хеўру вясёлых і злых рубак,
і яны ў паходзе спяваюць прыблізна так,
як анёлы ў нябёсным херувімскім канцэрце.

Плоскасць — пустыняў і царстваў недасяжная блізь,
над якой густая атмасферная высь
на сем варожых нябёс — зарука маны і манны!
І толькі страціўшы коні, сяброў ды ўвесь абоз,
вінаградную ўпартасцю кручаных, бітых лоз
ты праб'ешся туды, дзе дарэчы слова «рахманы».

II
Марка Пола казаў няпраўду, калі
гаварыў, быццам мулы й аслы вялі
праз тыбеты цемрадзі, адылі
ўсё на ўсход яго — і так да Кітаю.
Шлях яго, найхутчэй, — гэта зман пятлі,
а відзежы ў дарозе — снамі былі.
Бо на ўсход папросту няма зямлі,
то бок Індыя — гэта крэс, гэта — тое, што з краю.

Пра якое «на ўсход» тут можна казаць, аб чым
тут размова, калі ёсць мур на мяжы з Нічым,
за якім для нас — невымоўнасць, няўцям, нішчым:
таго плоду не скаштаваць ні гурману, ні гурмам.
Што тут прашчы й прошчы, удары й дары —
тут пасуюць цары, ваяры, мысляры,
а таму гардыню сваю зміры —
гэты мур не з тых, якія бяруцца штурмам.

Гэты мур — найхімернейшы прывід, які
распыляе ўшчэнт неабсяжных Азій пяскі;
разбіваюцца ўсе караваны аб камень цяжкі,
бо над ім — толькі Бог: ажно душа затрымцела.
Толькі ты валацуга, і доляю бедака
ты вандруеш за плыняю, покуль цячэ рака,
покуль верыш, што на святло, нібыта з мяшка,
можна ўсё-такі выйсці. Цаною дурнога цела.

III

Увайшоўшы ў поўны птахаў гушчар,
уяві: прырода — майстроўня Бога,
па якой блукае твая знямога.
Можаш толькі ўпасці, схаваўшы твар.

Зяляніны мора прыйшло, як мор,
як патоп у пене, слізкі на дотык.
У раслінаў — гонар. Яны — наркотык.
У раслінаў — гучны пачварны хор.

«Зяляніна — што там! Яна — жытло
для рэптылій, цмокаў. І я ўбіраю
гэту гніль і слодыч — правобраз раю,
дзе не ўсё збылося і ўсюды зло».

Ты, што маеш меч ды нязломны дух,
што ўратуе цела, сячы, як Юры,
рассякай гадзюкаў, гарпій і фурый,
расцінай пітонаў, нібы рапух!

Бо калі ўгары — звар'яцелы Бог,
і вянцом тварэння стаў бестыярый,
дзе віруе рогат д'ябальскіх арый, —
мусіш падлай гэтай высцеліць мох!

Мусіш выйсці з цемрадзі ў барацьбе,
покуль Ясна Панна дае адвагі.
Ты, што срэбра бачыш у снох бадзягі,
дасягнеш яго. Ці яно цябе.

IV

Вядома, што рака сплывае ў нізаўё —
цішэй за слімака, як плаванне тваё,
калі твая рука за шост бярэ кап'ё.

Ты ўгледзішся ў раку — і ўбачыш там не глей,
не рыбіну луску, што льсніцца, як алей,
не перлы на пяску, не вывадак лілей.

А ўбачыш, як у сне, — ты сам у той рацэ:
самотнасць у чаўне з жардзінаю ў руцэ,
уласны твар на дне, і рана на шчацэ.

На беразе тых вод жыве хімерны люд:
пакручаны народ заняў раўніну тут.
Ты сам хацеў прыгод — зірні ж на тых паскуд!

Тут тысячы прынад і капыткі, бы ў коз,
каханне цераз зад, а ежа цераз нос,
тут не бывае «над», бо пушчы да нябёс.

Тут чэравы — як лёх, а кроў — нібыта ўзвар,
тут дух, як мова, ссох, а мова — бы ў татар,
тут шасцірукі бог і даўгарукі цар.

Хто вылепіў наспех вось гэтакіх чартоў?
Бо кожны — смех і грэх! — уласнік капытоў
і кожнаму для ўцех падставіць зад гатоў!

І ты плывеш туды, не кінуўшы багра,
дзе трубны роў жуды з-пад сэрца і рабра,
дзе райскія сады й пякельная дзіра.

V

Прысутнасць паўсюль у гушчэчы трытонаў, драконаў,
грыфонаў, піфонаў і тое, як выюць каты
у выглядзе духаў, з'яўленне камет і цыклонаў —
прыкмета, што дыхае пекла наўпоблізь. І ты
знаходзіш адтуліну гэтую й крочыш у морак,
і йдзеш над агнём. І хістаюцца крохка масты,
і хто яго ведае — чэрці й харты, і хвасты.
Хрысці сабе, знай, несупынна — сто сорак па сорак
разоў. Бо выправа стаецца ваеннай,
за похвы мяча і за локці хапае геена,
за крысce плашча, і за плечы, і чуеш: «Плаці!»
Гэй, вы, там на небе, аглухлі?
        Святыя ў жыцці
смяротных з'яўляюцца рэдка з вышыняў, ды ўчасна.
Анёлы лятуць, бы ўваскрэслыя асы — па тры,
а то і па пяць, і па сем, і палаюць нязгасна
іх крылы й мячы, і цябе вызваляюць з дзіры,
і сад для цябе ўжо разгортваюць па вертыкалі:
вышэйшыя дрэвы, бліжэйшыя птушкі й дары
усё саладзейшыя, важкія: хочаш — бяры!
Сцягі, туліпаны, тымпаны і кнігі ў паркалі,
паветра і мёд, і зусім невымоўная боскасць,
і ты — над зямною паверхняй, пакінуўшы плоскасць
ужо назаўжды, хоць крывёю сыдзі, хоць згары!
Табе застаецца спакойна свяціць угары.

*АЛЯКСАНДР ІРВАНЕЦ*
*(1961)*

## АЙНЭ КЛЯЙНЭ НАХТМУЗІК

На Доне й на Сяне
Прасцерлася ў ззянні,
Ад Тыгра з Еўфратам ляжыш аж да Осла й Баранавіч.
Ужо сонца нізенька,
Ужо вечар блізенька,
А я табе, нэнько, кажу па-сыноўску «дабранач...»
Ды перш як ты вочы свае, нібы брамы, да заўтра прычыніш,
Давай мы згадаем усіх,
Што не спяць гэтай ночы з прычыны альбо й без прычыны:
Твае касманаўты
На станцыі, званай «Трызуб», — і яна не сыходзіць з арбіты;
Твае кастаправы
Сціскаюць пашчэнкі, іх локці й калені пабіты;
Твае педэрасты
Дагэтуль законы прымаюць (альбо не прымаюць),
Альбо за халяву хаваюць, альбо за каўнер заліваюць;
Твае мільянеры
Дагэтуль здабытыя лічаць мільёны;
Твае афіцэры
Засвойваюць мову й муштруюць яшчэ не гатовыя ў бой батальёны;
Твае Раксаланы —
Руплівыя панны —
Йдуць замуж па пяць разоў нанач.
Святой і злачыннай, адзінай магчымай —
Дабранач, айчына, дабранач, айчына, дабранач...
Астатнія спяць. У лясах тваіх спяць звераняты.
Асёл лёг з баранам, а тыгр, нібы з братам, абняўся з еўфратам.
На водах тваіх мірна спяць караблі: ледаколы, і яхты,
Эсмінцы, і крэйсеры, і кананеркі, маторкі, чаўны, мінаносцы,
І танкеры, катамараны, і баржы, і траўлеры, і кітабоі, байдаркі,
Каноэ, галеры, і кліперы, і рудавозы, і баркі, і сейнеры, і трымараны,
І авіяносцы, і катэры, і галіёны, і джонкі, — асобна ж ад іх —
Каравелы й гандолы.
Спяць людзі ў будынках, і нават паэты — усе джоны доны твае,
Дон жуаны, гандоны, —
Яны нават спяць у якіхсьці альковах і нібы ў аковах —
У абдымках сваіх маргарыт, выпакутаваных, выпадковых.
Ты заўтра паэтаў у строі ўбярэш,
У святочныя шаты апранеш.
Устанеш на досвітку, з шатаў тых кроў, смаркачы адпярэш.
То дабранач, айчына, дабранач...
Я ўжо адплываю, але адчуваю, як у гарадох іхных родных
Да сну ўжо схіляюцца й двох пабрацімцаў маіх багароўных.
І легчы, убок адкладаючы з болем свае 3 (тры) пяры, нам пара,
І мы засынаем і не паспяваем табе пажадаць напаследак дабра... —
Ноч.

## АНДРЭЙ ДЫНЬКО
**(1974, Берасце)**

Закончыў перакладчыцкі факультэт Лінгвістычнага універсітэта (1996), дзе і выкладаў наступныя тры гады. Быў дырэктарам часопіса «Arche», з 2000 г. — галоўны рэдактар незалежнага тыднёвіка «Наша Ніва». Вольна валодае пяццю замежнымі мовамі — французскай, ангельскай, італьянскай, іспанскай і ўкраінскай. Перакладае пераважна прозу (Бальзак, Пірандэла, У. Эка, Ю. Андруховіч), навуковыя тэксты. Сярод апошніх варта згадаць перакладзены з французскай падручнік «Уводзіны ў параўнальнае літаратуразнаўства» (1996). Вершы ўкраінскай паэткі Н. Білацэрківец — адзіная спроба А. Дынька выступіць на полі паэтычнага перакладу. І, наколькі я магу меркаваць, удалая.

*НАТАЛКА БІЛАЦЭРКІВЕЦ*
*(1954)*

### ТРЫЦЦАЦІГАДОВЫЯ ПАЭТЫ

*Я памру ў Парыжы ў чацвер увечары.*
*Сэсар Вальеха*

Забываюцца лініі колеры пахі і гукі
зрок слабее слых гасне і простая радасць мінае
за сваёю душой прасціраеш аблічча і рукі
але недасягальна высока яна пралятае

застаецца вакзал на ягоным апошнім пероне
шэрым шумам расстанне брыняе клубіцца і зараз
размывае яно кволы шчыт дзвюх маленькіх далоняў
і агідным салодкім цяплом прапаўзае па твары
застаецца каханне ды лепш бы яго не было

аж да стомы наплакалася ў правінцыйнай пасцелі
зыркі грэблівы бэз спадылба зазіраў з-за вакна
гладка ехаў цягнік закаханыя млява глядзелі
як паліца пад целам тваім задыхаецца ў снах
так банальна вакзальна сціхала цішэла вясна

Мы памрэм не ў Парыжы
у поце слязах задушэнні
правінцыйнага ложку парэнча застудзіць руку
і нічый пацалунак нам не прынясе суцяшэння
і ніхто не падасць табе цёплы бакал каньяку
пад мастом Мірабо не праблісне смуга мараку

надта горка мы плакалі і абражалі прыроду
надта моцна кахалі каханкаў саромячы юр
надта вершы пісалі паэтаў зняважыўшы зроду
і памерці ў Парыжы мы іхняй не вымалім згоды
міралюбны
нам мост Мірабо шлях заступіць як мур

* * *

З кожным каханнем не шчасце, а зараз тым больш:
шчасце такое ж, як твару заціснуты боль,
жменяй прыкуты да вуснаў у прагным аскале.
Можа, і хочаш унікнуць апёку нажа —
толькі ахвярнай рахманаю птушкай душа
кроўю салодкаю жывіць малекулы сталі.

З кожным каханнем няшчасце, тым болей з маім:
нібы маленькі крэтын каля ложку стаіць,
гляне лагодна і просіць уцехі цнатлівай.
І праз агіду і жах бачу крыжык на ім,
і замярзаюць ваніты пры ясным святле,
што нізрынаецца долу нябеснаю злівай.

Скінь чаравікі, кашулю пакінь на пяску.
Скуру сваю растулі, як вужову луску.
Быццам пажадную, вузкую, слізкую похву —
вызваль таксама душу і аддай на пацеху.
І ў калатні храмасомаў, у гвалце тканін
будзе вас двое, але застанешся адзін.
З гэтага курчу каленяў і потнасці спін —
дзеці, як макі ў пяску, расцвітаюць паціху.

## НАТАЛЛЯ РУСЕЦКАЯ

**(1974, Ніжагародская вобл., Расея)**

Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Люблінскім універсітэце імя М. Складоўскай-Кюры. Жыве пачаргова то ў Менску, то ў Любліне, дзе выкладае муж, — даследчык старажытнай беларускай літаратуры С. Кавалёў. Фактычна працуе з мужам на адной дзялянцы — даследуе і перакладае помнікі беларускай польскамоўнай літаратуры (прыкладам, лісты Барбары Радзівіл да караля Жыгімонта Аўгуста, п'есы і паэзію Францішкі Уршулі Радзівіл — яе выбранае выйшла ў серыі «Беларускі кнігазбор» у 2003 г.). У адзінай пакуль паэтычнай кнізе Н. Русецкай «Два бяссонні» — цэлы раздзел перакладаў з сучаснай польскай паэзіі.

*МАРЫЯ ПАЎЛІКОЎСКА-ЯСНАЖЭЎСКА*
*(1891—1945)*

### СЛЯПАЯ

Сляпая я. Аслепленая маем.
Чую, як бэзу расцвілі кусты.
І вуснамі толькі пазнаю,
Што ты не ты...

### ЛІСЦЕ

Румянец лета знікае.
Ліст жоўты з ветрам імкне.
У клёнаў рукі апалі
І ў мяне...

*ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА*
*(1923)*

## МУЗЕЙ

Ёсць талеркі. Дзе ўзяць апетыту?
Ёсць пярсцёнкі. Знікла ўзаемнасць
больш як трыста гадоў таму.
Ёсць веер — дзе румянец?
Ёсць мячы — дзе гнеў?
І лютня не адгукнецца а шэрай гадзіне.
З-за браку вечнасці сабрана
дзесяць тысяч старых рэчаў.
Салодка спіць стары вазніца,
вусы даўгія звесіў ніца.
Металы, гліна, пёрка мніха
у часе трыумфуюць ціха.
Смяецца толькі шпілька ад весялушкі з Егіпту.
Без галавы жыве карона.
Далонь прайграла рукавіцы.
Бот над нагой святкуе перамогу.
Што я? Жыву: душа і цела.
Ў мяне з сукенкай барацьба.
Як жа ўпіраецца яна!
Як пераjжыць мяне б хацела!

*ГАЛІНА ПАСВЯТОЎСКА*
*(1935–1967)*

* * *

рассякаю памаранч болю
кармлю паловай болю твае вусны
галодныя так дзеляць хлеб
спрагнелыя — ваду

убогая я — маю толькі цела
вусны сцятыя тугою
рукі — лісты асеннія
прагнуць адлёту

рассякаю памаранч болю
справядліва напалам
горкім зернем кармлю твае вусны

* * *

заўсёды калі хачу жыць крычу
калі жыццё сыходзіць ад мяне
я прыціскаюся да яго
кажу — жыццё
не сыходзь яшчэ

ягоная цёплая рука ў маёй руцэ
мае вусны над ягоным вухам
шапчу

жыццё
быццам бы жыццё мой каханак
які хоча сысці —

вешаюся яму на шыю
крычу

я памру калі ты сыйдзеш

*ЕВА ЛІПСКА*
*(1945)*

## ФЛЕЙТЫ

Нам з табою не сустрэцца.
Расцвілі акацый флейты.
Нам з табою не сустрэцца.
Шпегі за табой сачылі.
На зямлі ты, я ў магіле.
Белы Дом паслужыць фонам
для цябе ці Крэмль Чырвоны.
Дэкарацыі на выбар.
Залатая ружа лому
скручаная лагарыфмам.
Сохнуць на шнурку пялюшкі.
Верш, напэўна, нарадзіў ты.
Ён глухі, сляпы. Пакуль што.
Пэўна, ты яго павесіш
на шнурку, каб вырас дужы
і магутны, нібы бура.
Толькі нам не дапаможа
ані матка Гільгамеша,
ні ражон вось гэты востры,
каб працяць ім лёс свой, долю.
Ані лёгкая сукенка
з барбарысавых пялёсткаў.
Ані снегу белы плёскат.
Ані слушная ідэя,
што прыйшла табе з нябёсаў.
Нам з табою не сустрэцца.
Расцвілі акацый флейты.
Мне цвіце ў магіле цемра.

## АЛЬГЕРД БАХАРЭВІЧ

**(1975, Менск)**

Вывучаў беларускую філалогію і культуру ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Працаваў настаўнікам, журналістам. Удзельнічаў у руху «Бум-Бам-Літ». Аўтар дзвюх кніг прозы, адна з іх, «Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў», была адзначаная прэміяй Таварыства вольных літаратараў «Гліняны Вялес». Перакладаў нямецкіх паэтаў для дзвюхмоўных зборнікаў «Лінія фронту — Frontlinie» (2003) і «Im Lichtertanz — У танцы ліхтароў» (2004).

*ХАНЦ МАГНУС ЭНЦЭНСБЕРГЕР*
*(1929)*

### СТАРАЯ ЕЎРОПА

У цёплым подыху хлеба з пякарні
тоўсты шаман з Гвінеі прадае
пад залатым абаранкам
падвескі для ключоў
у завулку Шэрых Братоў.
(Хто былі Шэрыя Браты?)

Маленькія жылістыя дылеры
у вялізных красоўках бурчліва
спрачаюцца паміж сабой
на мове, якой ніхто не разумее,
ля агароджы царквы Святога Духа.
(Хто быў Святы Дух?)

А потым старая баснійка
выцягвае сваю нягнуткую нагу
на пару хвілінаў, на лаўцы
у цёмна-зялёным ціхім двары
за цёмна-зялёным парталам
Дому Слана (пабудаваны ў 1639 г.).

### СЯДЗЯЧЫ СТРАЙК

Буда бярэ ногі ў руку.
Кур'ер прабягае міма.
Нерухомыя зоры кіпяць.
Прагрэс цялёпкаецца ў чаканні дазволу на старт.
Слімак збіваецца з тропу.
Ракета кульгае.
Вечнасць рыхтуецца выйсці на фінішную простую.

Я не рухаюся.

## ВАЙНА ЯК

Яна блішчыць як разбітая піўная бутэлька на сонцы
на аўтобусным прыпынку перад домам састарэлых

Яна шаргаціць як аркуш з тэкстам спічрайтэра
на мірнай канферэнцыі

Яна мігаціць як блакітнявы водбліск тэлевізара
на самнамбулічных тварах

Яна пахне як сталь сімулятараў у фітнес-цэнтры
як дыханне целаахоўніка ў аэрапорце

Яна трубіць як мова старшыні
Яна надзімаецца як фатва ў роце аяталы

Яна стракоча як відэагульня на дыскеце школьніка
Яна зззяе як чып у вылічальным цэнтры банка

Яна шырыцца як смех на заднім двары разніцы

Дыхае
шаргаціць
надзімаецца
пахне

як

*КАРЛА РАЙМЭРТ*
*(1972)*

## НОВЫ ГОД

Пра апошні дзень
я прамаўчу

Навошта мёртвых
засведчваць некралогамі

Снегапад
перад якім усе схіляюцца

Будзе гучны
і нікому не пакланіцца

## ДЖЭЦІ

**(1977, Кіеў)**

Дзявочае прозвішча — Вера Бурлак. Студэнткай расейскага аддзялення філфака БДУ (закончыла ў 2001-м) друкавалася ў альманаху «Скрыпторый». Кандыдат філалагічных навук. Выкладае літаратуру ў сталічным Юрыдычным каледжы і на філфаку БДУ. У 2003 г. менскае выдавецтва «Логвінаў» выдала паэтычную кнігу Джэці «За здаровы лад жыцця». Прапанаваныя тут пераклады з расейскага «обэриута» Д. Хармса, хутчэй, «вершы, напісаныя па матывах»: *Сякерская Таня* ў арыгінале называецца *Иван Топорышкин*, а гэтак блізкія нам зубры ды бабры ў Хармсавым «цырку», калі ўжо дарэшты прызнавацца, таксама не жылі.

*ДАНІІЛ ХАРМС*
*(1905—1942)*

### ТАНЬЧЫНА ПАЛЯВАННЕ

Пабегла на ловы Сякерская Таня,
з ёй такса пайшла — уцякла праз акно.
І Танька, як танк, утапілася ў твані,
а такса пайшла, як сякера, на дно.

Пабегла на ловы Сякерская Таня,
а такса за ёю, трамбуючы дно.
І Танька патаньчыла танкам па твані,
а такса сякерай пасекла акно.

Пабегла на ловы Сякерская Таня,
з ёй такса, у танку прасекшы акно.
І Танька сякерай лятала над тванню,
а таксу наўскос пераехала дно.

### ЦЫРК ПРЫНТЫНПРАМ

*Неверагодная імпрэза, новая праграма*

Сто зуброў,
Двесце бброў,
Чатырыста дваццаць
Вучоных камароў
Пакажуць сорак
Незвычайных
Нумароў.

Чатыры тысячы свінак
І чатыры тысячы сардзінак
    Адначасова
    Выскачаць
З чатырох скрынак.

Два індыкі
Спяюць калыханку.

Клоун Пятрусь
Паб'е клоуна Янку,
Клоун Янка
Паб'е клоуна Петруся.
Вучоны папугай
З'есць сушанага
Карася.

Чатыры львы
Паб'юцца з чатырма каровамі.
Выйдзе Іван Кузьміч
З пяццю галовамі.
Асілак Хахлоў
Засуне далонь у лядоўню.
Пагасяць лямпы,
Уключаць поўню.

Засвецяцца пад купалам
Электрычныя зоркі.
Вучоныя мышкі
Вырыюць залатыя норкі.

Грымне музыка
І цырк пахітнец-
ца... А на гэтым, сябры,
Імпрэзе
нашай
канец.

*ІОСІФ БРОДСКІ*
*(1940—1995)*

## УЦЁКІ Ў ЕГІПЕТ (ІІ)

У лёху (які-ніякі, а дах!
Вярнейшы за гмах а простых кутах!),
у лёху ўтульна траім было.
Саломаю, зрэб'ем пахла цяпло.
Агонь унутры быў, а звонку — змрок.
У змроку завея малола пясок.
І, згадваючы пра яе памол,
храплі знепакоена мул і вол.
Марыя шаптала, агонь гудзеў,
Язэп задуменна ў агонь глядзеў.
Дзіця, замалое для іншых спраў,
драмала і сніла, як вол араў.
Яшчэ адзін дзень прамінуў і знік,
забраўшы трывогі і страхі, зык
раз'ятранай ірадавай арды, —
і цэлым стагоддзем бліжэй гады.
Спакойна было ў тую ноч траім.

Праз дзверы ў прахон выпараўся дым,
каб іх не трывожыць, і толькі мул
у сне (або вол) сам сабе ўздыхнуў.
Глядзела зорка цераз парог.
Адзіным з траіх, хто напраўду мог
ведаць, што позірк той азначаў,
быў толькі Сын. Але ён маўчаў.

## КАЛЯДНАЯ ЗОРКА

Сцюдзёнай парою ў месцах, знаёмых, хутчэй, з парой
гарачаю, з роўнай паверхняю болей, чым з гарой,
Дзіця, што выбавіць свет, у пячоры на свет прыйшло;
мяло, як толькі зімою ў пустыні месці магло.
Было Яму ўсё завялікае: валы, іх дыханне; твар
і грудзі матулі; цары — Мельхіёр, Бальтазар, Каспар —
і іх падарункі, падцягнутыя да святла.
Ён быў усяго толькі кропкай. І зорка кропкай была.
Уважліва й неадрыўна, з-за рэдкіх аблок,
на яслі і немаўлятка, што ў іх ляжала, здалёк,
з глыбіняў Сусвету, з іншай мяжы быцця,
зорка глядзела ў пячору. Бацька глядзеў на Дзіця.

*АЛЯКСАНДР ІРВАНЕЦ*
*(1961)*

## ІНФІНІТЫЎ

У таўкатні mężczyzn і жэншчын,
у бойцы меншасцяў і Menschen,
між барановых мя ды бе
чаго *параіць* я табе?

Не ў Хахламе, не ў Аклагоме,
у тым дурдоме, тым садоме,
у тым бясчынні, тым баршчы
як мы каму *дапамагчы*?

Гарэлку піць і ліць ваніты,
у морду біць і быць пабітым,
На той вайне, у тым лайне
чым ты *абараніць* мяне?

Як мы, у гомане й Гаморы,
не ў тым гуморы, нібы ў моры,
трубы анёльскай *чуць* грамы?
Як *ратаваць* Ён бедных *мы*?

*ГАЛІНА ПЕТРАСАНЯК*
*(1969)*

### ЗВЯРЫ

Буйвалы й бараны, львы, дэльфіны, ягняты, гіены, —
усе звяр'ё, што ў дзікіх лясах і морах вандруе, —
позна ўвечары пакідае абжытыя сцены
і сыходзіць з фасадаў у горад, нібы ў залюстроўе.

Не заўважаеш нічога, хоць зрэдчасу след звярыны
у той ці іншай выяве соннага гораду бачыш
і ўгадваеш па-за спінай свайго адбітку ў вітрыне
бляск драпежных вачэй. А радыёперадачы

не перадаюць нічога пагрозлівага ўранку
(хіба што пра край далёкі, дзе здарыўся выбух).
І гараджане звыкла глядзяць на вуліцу праз фіранку,
і смецяры безуважна збіраюць памерлую рыбу.

Ад прагі разгледзець звяроў зблізку на твары болей
з'яўляецца зморшчын, на целе — шнараў, але шчасліва
жыве, хто не мае крыўды на тое, што дойлід
змясціў на фасадах зашмат зааморфных матываў.

## МАКСІМ ШЧУР

**(1977, Берасце)**

Вершы піша з дванаццаці гадоў, выдаў два зборнікі — «Спадарыня Адзінота» (Берасце, 1993) і «Амфітэатр» (Гданьск, 1999). Студэнтам Лінгвістычнага універсітэта ўдзельнічаў у арганізацыі «Чырвоны Жонд», напісаў вершаваную п'есу «Смерць тырана» (1997), якую менскія маладыя анархісты паставілі на ганку сталічнай кансерваторыі... Цяпер Максім працягвае вучобу на філасофскім факультэце Карлавага універсітэта і перакладае з іспанскай, ангельскай і чэшскай. Жыве ў Празе, адкуль ■ і атрымлівае даўжэзныя паэтычныя мэйлы. Чалавек, можна меркаваць, арыгінальны. Прынамсі, так перакладчыцкае рамяство яшчэ ніхто не трактаваў:

Перакладаць паэзію — што ўзяць сабе псеўданім
з ужо гатовых імёнаў: Шэкспір, Эспранседа, Уітман.
Над галавою велічна высвечваецца псеўданімб,
і муміі, быццам лялькі, таньчаць у танцах спрытных.
Паводле твайго паэта чытач пазнае цябе,
нібыта паводле маскі — новую роль актора.
Золата ператвараецца ў стыхійнай барацьбе
двух моваў і целаў у срэбра толькі праз факт паўтору.
Ці ты звар'яцееў, алхімік? Навошта табе яно?
«Кожны тэкст ужо існуе адвеку ў кожнай мове...»
Ды з часам заўжды даводзіцца разбаўляць віно
старое, мае перакладчыкі, геніевы братове.

М. Шчур дзеля публікацыі сваіх твораў замест варштата Скарыны актыўна выкарыстоўвае Інтэрнэт, ягоны сайт ганарова распачынаецца перакладамі з О. Уайльда, да паэзіі якога, калі не памыляюся, пасля спробаў М. Дуброўскага ў 1926 г. і В. Зуёнка ў 1990-я гг. ніхто не падступаўся. Агульнавядома, што пераклад парадняе народы. Калі з гэтага гледзішча пад-

ступіцца да змешчаных у падборцы вершаў Актавіа Паса, якога называлі сынам Мексікі, братам Лацінскай Амерыкі, пасынкам Іспаніі, прыёмным сынам Францыі, сямейным сябрам Японіі ды Індыі, пазашлюбным сынам Злучаных Штатаў Амерыкі, то можна нобелеўскаму лаўрэату прысвоіць яшчэ адзін тытул — прыкладам, унука Беларусі.

*ФРАНСІСКА ДЭ КЕВЭДА*
*(1580—1645)*

## НАКОНТ ЖАНОЧАГА ЎЗРОСТУ

З пятнаццаці да дваццаці — яшчэ падлетак,
У дваццаць пяць — дзяўчына, радасць воку,
У трыццаць год — кабета ў самым соку.
Шчаслівы той, хто з ёй наробіць дзетак.

У трыццаць пяць ужо не ўсцешыць гэтак,
Хоць з перцам-соллю пойдзе без папроку;
Адылі ў сорак год — пачне патроху
Збірацца ў кляштар да анахарэтак.

У сорак пяць — самотніца, праз меру
Бурчыць, гугніць і сварыцца з старымі.
У пяць дзесяткаў кідаецца ў веру,

Набожнай робіцца, як папа ў Рыме:
Чорт маладзіцу, бабцю ды мегеру,
Святую й ведзьму на ражон уздыме.

## МАДРЫГАЛ

Птушка найлепей чуецца ў паветры,
Рыба ў вадзе, а саламандра ў нетры
Агню, а чалавек, чый дух бязмежны, —
Зямлі належыць.
І толькі я цярплю ў паднебнай шыры,
Спазнаў з усіх стыхій усе чатыры:
Мне без паветра суджана памерці,
Не можа цела без зямное цвердзі,
А вочы — бы з вадою гладышы,
А полымя — у сэрцы і ў душы.

*ЭДВАРД ЛІР*
*(1812—1888)*

## З «КНІГІ БЯЗГЛУЗДУ»

Жыў аднойчы стары дзед у Будзе.
Ён паводзіў сябе, як аблуддзе.
І кавадлам сабе
Зарабіў па ілбе —
Больш сябе так паводзіць не будзе.

Быў адзін сляпы дзед у Абруццы,
Што не мог сам абуцца й разбуцца.
Кажуць: «Бачыш нагу?»
Ён: «Сказаць не магу», —
Браў сумнеў таго дзеда з Абруццы.

Жыў стары ля вулкана Везувія,
Вывучаў стары творы Вітрувія:
Том агонь знішчыў велькі,
І тады да бутэлькі
Пацягнула старога з Везувія.

Жыў стары чалавек у Берліне,
Ён танюткі быў, нібы вяргіня:
Быў аднойчы той дзед
Закатаны ў рулет
Ды запечаны кімсьці ў Берліне.

Жыў калісьці дзядок з места Грэтны,
Ён зваліўся ўглыб кратэра Этны;
Яму кажуць: «Пячэ?»
Ён крычыць: «Не яшчэ!» —
Той хлуслівы дзядок з места Грэтны.

Шмат сыноў меў дзядуля са Спарты
Ды дачку, з імі ладзіў ён жарты:
Слімакамі сілкуе,
За вагою цікуе —
Дзед у гэтым павагі быў варты.

Жыў аднойчы стары ў цёмным лесе
На адным малацэ й геркулесе,
Ды, каб той быў наедны,
Падкідаў туды, бедны,
Мышанятаў, спайманых у лесе.

*ЛЬЮІС КЭРАЛ*
*(1832—1989)*

### БАЦЬКА УІЛЬЯМ*

— Бацька Ўільям, напраўду, ты вельмі стары, —
так сказаў маладзён. — Дык навошта
цэлы дзень ты нагамі стаіш дагары,
адкажы мне, якім гэта коштам?

— У сваёй маладосці, — стары адказаў, —
я на думкі не траціў ні глузда
і цудоўную здольнасць стаяць я прыдбаў,
бо заўжды ў галаве маёй пуста.

* Верш перакладзены з удзелам Ю. Пацюпы.

— Ты стары чалавек, я пра гэта казаў,
да таго ж ты — уеўшыся, сыты,
але тут ля дзвярэй сальта мне паказаў —
і адкуль у цябе столькі спрыту?

— Як я быў малады, — сівізною затрос
мудры бацька, — я быў вельмі порсткі,
націраецца купіў мазі дзіўнае воз
я за шылінг. Ці даць табе трошкі?

— Ты стары, — кажа сын, — апроч тлушчу, усе
мусяць стравы давацца нялёгка,
ды з касцямі і дзюбай з'ядаеш гусей
ты зара́з, не змігнуўшы і вокам.

— З тваёй маткай, быў час, — той яму адказаў, —
я судзіцца не страчваў нагоды
і ў прамовах я сківіцам сілу прыдбаў —
тая сіла са мной назаўсёды.

— Ты стары чалавек, — зноўку хлопец сказаў, —
і твой зрок прытупіўся дарэшты,
ды на носе ты здольны трымаць ментуза —
адкуль спрытнасці столькі бярэш ты?

— Я ўжо тройчы табе, сыне мой, даў адказ, —
мовіў той. — Ці не будзе на сёння?
Не магу гэтак шмат гаварыць я за раз —
прэч адсюль, а то скіну са сходняў!

*ОСКАР УАЙЛЬД*
*(1854—1900)*

**HELAS!**

Трымцець ад кожнай жарсці, каб маёй
Душы зрабіцца ветраў гучнай лютняй, —
Ці дзеля гэтай долі шматпакутнай
Я здрадзіў розуму й кантролю над сабой?

Маё жыццё — папірусу сувой,
Пашкрэбаны нікчэмнасцю атрутнай,
Дзіцячай песенькай вядомай і нясутнай,
Што змест марнуе таямніцы ўсёй.

Быў час калісьці дадзены ўжо мне
Сягнуць вяршыняў, з вэрхалу жыцця
Здабыць акорд, што Боскі слых кране:

Хіба не вернецца той час ніколі? Не!
Я паспытаў ледзь мёду пачуцця —
І скарб душы павінен страціць я?

## URBIS SACRA AETERNA

Рым! Спіс падзей гісторыі тваёй
Даўжэзны: як рэспубліка, спачатку
Ты свету барбараў шпурнуў пальчатку,
І ён прызнаў цябе сталіцаю сваёй,

А потым Гот усё заліў крывёй,
І сёння над табою — сцяг варожы
(О, чалавекам зрынуты град Божы!)
Італіі лунае маладой.

Калісь арлы твае ўзыход віталі сонечны,
Перад табой схіляліся ільвы —
Той час быў велічнай мінуўшчыны этапам.

Адылі слава аджывае ў часе сённяшнім,
Калі паломнікі зноў кленчаць перад Папам —
І пастырам, і вязнем Божае Царквы.

## НАД МАГІЛАЙ ШЭЛІ

Як згаслыя паходні каля хворага,
Дрэвы пачэзлыя паўсталі над плітой,
Белай ад сонца, дзе пугач парой начной
Спіць; яшчарка, аздобленая дорага,

Шмыгае. Мак — бы келіх, п'е з каторага
Наглядчык змрочны пірамідьі той,
Сфінкс старадаўні, што ахоўвае спакой
Нябожчыка, нібы ў астрозе — ворага.

Салодка спаць у чэраве зямным,
Улонні матчыным смяротнага спачыну.
Ды лепш табе была б за дамавіну
Марская глыб, дзе хваляў спад і ўздым,

І дзе ў тумане б'юцца караблі
Аб скалы неспазнанае зямлі.

*АЛЬФОНСІНА СТОРНІ*
*(1892–1938)*

## ТЫ МЯНЕ ХОЧАШ – НОВАЙ

Ты мяне хочаш — новай,
Ты мяне хочаш — чыстай,
Перлінай альбо пенай,
Белай, нібы лілея,
Іншымі некранутай,
Вытанчана-духмянай,
З кветкаю нераскрытай.

Каб нават прамень месяцовы
Знянацку ў мяне не трапіў,
Каб нават цішком маргарытка
Мяне сястрой не назвала.
Ты мяне хочаш — цнотнай,
Ты мяне хочаш — белай,
Ты мяне хочаш — новай.
Ты, хто сваімі рукамі
Келіхі ўсе абмацаў,
Вусны змачыў у мёдзе,
Накаштаваўся соку.
Ты, хто на святах танчыў
У вінаградным лісці,
Ты, хто ледзь апрытомнеў
З безлічы вакханалій.
Ты, хто ў садах Падману,
Чырванню апрануты,
Сам сябе падпільноўваў,
Бег у абдымкі Смерці,
Ты, чые косці толькі
Дотыку не спазналі.
Мне ўсё яшчэ няўцямна,
З якога такога дзіва
Ты мяне хочаш — белай,
(Хай табе Бог даруе),
Ты мяне хочаш — цнотнай,
(Хай табе Бог даруе),
Ты мяне хочаш — чыстай!
Лепш уцякай кудысьці
Ў горы, у гушчы лесу,
Вусны свае ачысці
Ды пажыві ў пячорах,
Зноў дакраніся рукамі
Да чорнай зямлі вільготнай,
Выкармі сваё цела
Горкім зямным карэннем,
Горнай вады напіся,
Спі на расе халоднай,
Цела сваё ачысці
Водамі ды селітрай;
Слухай размовы птушак,
З досвіткам прачынайся.
Вось калі тваё цела
Цноту сваю адновіць
І ў тваёй грэшнай плоці
Зноўку душа ўваскрэсне,
Якая ў сілках альковаў
Заблыталася калісьці,
Можаш тады, чалавеча,
Зноў хацець мяне новай,
Зноў хацець мяне цнотнай,
Зноў хацець мяне чыстай.

### ШТО Б СКАЗАЛІ?

Што б сказалі ўсе тыя людзі без сэрца й цела,
Калі б апрануць аднойчы пеплум мне закарцела
Замест звычайнай сукенкі ды строіць пачаць гарэзу:
Пафарбаваць валоссе ў колеры срэбра й бэзу,
Вянок зрабіць сабе з кветак, язмінаў і міязотаў,
Пазбавіць сваё сумленне ягоных старых згрызотаў,
Спяваць на вуліцах места пад скрыпку і бубнаў пошчак,
Дэкламаваць уголас вершы свае на плошчах?
Ішлі б вы наўслед за мною, шпурлялі ў мяне каменьмі?
Спалілі б, нібы вядзьмарку, схавалі б у сутарэнні?
Склікáць пачалі б званамі на суд над душою грэшнай?

Па праўдзе, ад гэтых думак мне робіцца трохі смешна.

*ВІСЭНТЭ УІДОБРА*
*(1893—1948)*

### ВАДКАЕ ЛЮСТЭРКА

Маё люстэрка не спіць начамі,
Бруіць, бы ручай, калі ўсе паснулі.
Маё люстэрка сусвет умяшчае,
У ім — усе лебедзі патанулі.

Мур і люстэрка зялёнага става,
У ім аголеная пастава.

Па ціхіх хвалях пад самнамбулічным
Небам мае караблі адплываюць.

У грудзі паранены ружаю таямнічай,
Я ўскараскаўся на карму й пяю —
І салоўка сеў на руку маю.

*ФЕДЭРЫКА ГАРСІЯ ЛОРКА*
*(1898—1936)*

### СОН

Маё сэрца спіць ля сцюдзёнай крыніцы.

(Кроснамі яго затчы,
Павук начы.)

Нібы песенька, вада ў крыніцы бруіцца.

(Кроснамі яго затчы,
Павук начы.)

Маё сэрца адкрывае ёй свае таямніцы.

(Павук цішыні,
таямніцай яго агарні.)

Вада слухае й не можа не зажурыцца.

(Павук цішыні,
таямніцай яго агарні.)

Маё сэрца кідаецца ў хвалі крыніцы.

(Рукі белыя ў дальнім блакіце,
плынь яе запыніце!)

Вада зносіць яго ды ўся шчасцем іскрыцца.

(Рукі белыя ў дальнім блакіце,
плынь яе запыніце!)

*ВІСЭНТЭ АЛЕЙСАНДРЭ*
*(1898—1984)*

## МОРА

Хто сказаў, што мора ўздыхае,
Губамі далікатна кранаючы пляжы?
Паглядзіце, — загорнутае ў святло, яно рунее!
Асанна на вышынях, золата ў моры!
О ўзнёслае ўсеабдымнае святло,
Услаўляй жыватворную вечнасць мора!
У бяздонных вышынях
Трапяткое мора
Б'ецца, як сэрца неўміручага Бога!

## ПАСМЯРОТНЫ ПАЦАЛУНАК

Моўчкі дакранаюся вуснамі да вуснаў тваіх,
Удыхаю цябе, уяўляю жывой.
Жыццё, я здагадваюся, змяшчаецца ў пацалунку,
Што жыве сам па сабе. Ззяе, калі мы адсутныя.
Мы — ягоны цень. Таму што ён усё яшчэ ёсць целам,
Калі нас ужо няма.

*ХОРХЭ ЛУІС БОРХЕС*
*(1899—1986)*

## САБОР

Хвалі кленчаць
    цягліцы ветра
    вежы стромкія быццам крыкі
    сабор што павісае з дзянніцы

сабор — агромністы быццам стог
з каласамі малітваў
удалечы

Удалечы
мачты прашылі далягляды
і на наіўных пляжах
новыя хвалі спяваюць ютрань
Сабор — каменны самалёт
які імкнецца парваць тысячу канатаў
што трымаюць яго ў палоне
сабор, гучны, як воплескі
альбо пацалунак

## МАЕ КНІГІ

Мае кнігі (што не ведаюць аб маім існаванні)
Ёсць гэткай жа часткай мяне, як мой твар
З сівымі скронямі ды шэрымі вачыма,
Які я ў люстэрках выглядаю марна
І абмацваю запалаю далонню.
Не без пэўнае тут зразумелай прыкрасці
Я думаю, што ўсе істотныя словы,
Якімі выказаны я, знаходзяцца не на маіх старонках,
А на чужых, што пра мяне не маюць уяўлення.
Ды гэтак лепш. Памерлых галасы
Заўсёды будуць вымаўляць мяне.

*БАГУМІЛ ГРАБАЛ*
*(1914—1997)*

## ШПАЦЫР

Рука ў руцэ ўвесь час, мы
ішлі ў палі, за места;
нам ветрык блытаў пасмы,
я зваў цябе — нявеста,

хоць вуснам было не трэба,
сябе выказваць у слове.
Блакітам вабіла неба,
бы келіх у дарасхове...

Уночы, п'яныя зведаным,
вяртаемся шляхам затоеным.
— Што будзе, — пытаеш, — за гэта нам?
І шэптам: — Што будзе за тое нам?

## ШЧАСЦЕ

Ты плачаш, маленькая? Плач, хаця
валасы набрынялі пакутаю слёзнай,
гэта чыстыя слёзы, маё дзіця,
яны — знак душы прыгожай і ўзнёслай.

Усё, што вялікае, з іх цячэ,
і ты вырасцеш двойчы вялікай калісьці,
бо слязінка бяжыць па тваёй шчацэ
сарамліва, нібыта жучок па лісці.

## ЛІСТАПАД

З-за шумных куліс пералеска
з'яўляецца. З твару сплылі
пацёкамі колеры фрэскаў
часу тэмпернай цеплыні.
Скуголяць прыцемкі. Дол халодны.
Дождж і Славічкавы палотны
аздабляюць плямамі пляцы.
Гразнуць боты
і стынуць пальцы*.

*АКТАВІА ПАС*
*(1914—1998)*

## КРАНАЦЬ

Мае рукі
растульваюць заслоны тваёй істы
апранаюць цябе ў іншую аголенасць
скідаюць вэлюм з частак твайго цела
Мае рукі
іншае цела вынаходзяць з твайго цела

## З ЗАПЛЮШЧАНЫМІ ВАЧЫМА

З заплюшчанымі вачыма
асветленая з сярэдзіны
ты — быццам камень аслеплы

Штоночы цябе ару
з заплюшчанымі вачыма
ты — быццам камень сапраўдны

Мы пазбаўляемся межаў
калі між сабой спазнаемся
з заплюшчанымі вачыма

* Вершы Б. Грабала перакладзеныя М. Шчурам пры ўдзеле А. Хадановіча.

## ЗДОЛЬНАСЦЬ МОВЫ

У нейкім вершы чытаю:
здольнасць мовы ёсць чымсьці боскім.
Але багі мовы не маюць:
ствараючы, знішчаючы светы,
між тым як людзі гутараць,
яны без ніводнага слова
гуляюцца ў жахлівыя гульні.

Дух сыходзіць
і развязвае языкі,
але не гаворыць словамі:
ён размаўляе святлом. Мова,
увідочненая нейкім богам,
ёсць палымяным прароцтвам
і напаламным зломам
спаленых сугуччаў:
попелам без значэння.

Чалавечае слова
ёсць дзіцём смерці.
Мы гаворым таму, што мы
смяротныя: нашыя словы
ёсць не знакамі, а гадамі.
Сказаўшы прамоўленае ў гуках
названых намі імёнаў,
яны выказваюць час, гавораць:
мы — ягоныя імёны.
Здольнасць мовы ёсць нечым чалавечым.

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

## ВІКТАР ЖЫБУЛЬ

**(1978, Менск)**

Неяк яшчэ за савецкім часам у Кіеве я пачуў ад украінскіх сяброў радок-паліндром: «Серп і молот — то лом і прес». Як ні чытай з абодвух бакоў — атрымлівалася ганьбаванне камуністычнай сімволікі. Гэта было смела і вынаходліва адначасова. Не думаў я тады, што ў Беларусі падрастае паэт, які будзе пісаць цэлыя паліндромныя паэмы — «Кацёл клёцак», «Палігон ног і лап» ды інш. В. Жыбуль спачатку і ўвядоміўся як амаль адзіны на ўсю краіну паліндраміст; потым адзін за адным выдаў два таленавітыя зборнікі — «Прыкры крык» і «Дыяфрагма». Віктар закончыў філфак БДУ (2000) і абараніў кандыдацкую дысертацыю па авангарднай паэзіі 1920—1930-х гг. (П. Шукайла, В. Казлоўскі і інш.). Шкада, што перакладамі пакуль захапляецца не вельмі; ці не адзіная яго даніна гэтаму жанру — вершы сучаснага амерыканскага паэта-вандроўніка Кэры Шона Кіза, апублікаваныя ў часопісе «Першацвет» (2001, № 2).

*КЭРЫ ШОН КІЗ*
*(1946)*

## МІСІЯ ПАЗБАЎЛЕНАГА

Камусьці не трэба нічога,
акрамя ежы,
але нават без яе
можна абысціся.

Камусьці не трэба нічога,
акрамя сну.
Але нават ён
пужае кашмарамі.

Камусьці не трэба нічога,
акрамя святла,
але нават яно
згасае ўначы.

Камусьці не трэба нічога,
акрамя жадання,
але нават яго
забірае жанчына.

Мне не трэба нічога,
акрамя смерці,
але, на жаль, яна —
толькі чыйсьці подых.

## ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРАНКА

Зоркі згубілі сваю лістоту

Стронгавы круг вясёлкі
чырвоны месяц

У ценю скалы
ў крамянай плыні
зіхціць чарапаха
ў мілагучным шэпце
чароту

## ВІЛЬГАЦЬ

Какосавая шкарлупіна
выкінулася на крыгу
я пяю песні, якіх не памятаю

Хай слухае вецер

Змерзлыя валасы нацягнуліся
быццам струны арфы

Тры вокі плаваюць
недзе пад пальмаю
дождж утаптаў зеляніну ў пясок

Кожнае слова кахання
плоць і зараза

Нескарыстанае як вільгаць
на вуснах жанчыны

Цёплая плынь

Я запыніўся
малако маёй беласнежнай крыві
выдойвала трапічнае сонца

## ІНГА ГАРАВАЯ

**(1979, в. Вуглы Лагойскага р-на)**

Першыя пераклады Інгі паказала мне яе выкладчыца, дацэнт Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, аўтарка нашай анталогіі Алена Таболіч. Не скажу, каб у іх усё было бездакорна, але адначасова прысутнічала і нейкая лёгкасць, крылатасць радка; адным словам, імя юнай перакладчыцы я запомніў. Інга атрымала дыплом МДЛУ, цяпер вучыцца ў аспірантуры акадэмічнага Інстытута літаратуры. Пераклады ангельскай паэзіі ўжо гадоў пяць публікуе ў літаратурных перыёдыках, дайшла чарга і да анталогіі.

*АЛЬФРЭД ХАЎСМАН*
*(1859—1936)*

* * *

Святлеюць дрэвы, і лугі,
І неба, і сады,
Ды мне мілейшы край другі,
Што выглянуў з вады.

Азёры вымылі пакроў
Нябёсаў, траў і дрэў,
Такіх нідзе няма краёў.
О, я б туды хацеў!

Запала думка гэта мне,
Як паглядаў далоў,
Дзе бераг жоўты ўніз імкне,
І скочыць быў гатоў.

Але спыніў мяне сумнеў —
Ёсць тайна там свая:

Сюды дзівак з вады глядзеў
І быць хацеў, дзе я.

*УОЛТЭР ДЭ ЛЯ МАР*
*(1873—1956)*

**ГУЛЬНЯ Ў ХОВАНКІ**

— Пагуляем, — кажа Вецер
Дрэвам у барах;
— Пагуляем, — з-за аблокаў
Кажа Млечны Шлях;

— Пагуляем, — кажа Месяц
З-за вярбы рачной;
— Пагуляем, — каля бухты
Прашаптаў прыбой;

Пагуляць і я задумаў
Сам з сабою ў схоў
І сышоў з лятунку Явы
У лятунак Сноў.

## СЯРГЕЙ ПРЫЛУЦКІ

**(1980, Берасце)**

У адным з вершаў С. Прылуцкі марыць нарадзіцца на пачатку XX ст. на Новай зямлі і хоць раз на год наведвацца ў Рым альбо Вену. Але, як вядома, «месца і час не выбіраюць — у іх жывуць і паміраюць». Паэт нарадзіўся, вучыўся і жыве ў родным Берасці. Закончыў чыгуначны тэхнікум, і невядома, у якія далечы завяла б яго бясконцая каляіна чыгункі, калі б не гістфак Берасцейскага педуніверсітэта. Праўда, дыплом гісторыка адразу пасля атрымання ў 2004-м быў пакладзены ў шуфляду, а Сяргей апынуўся на заводзе «Газаапарат», дзе працуе кантралёрам. Перакладае з ангельскай і польскай моваў, якія засвоіў пераважна самавукам. І, што істотна, не «паляпшае» ў дваццаты раз Шэкспіра ці Міцкевіча, а збеларушвае паэтаў, да якіх у айчынных перакладчыкаў пакуль не даходзілі рукі, напрыклад нобелеўскага лаўрэата Дэрэка Уолката.

*ЛУІС МАКНІС*
*(1907—1963)*

**МАЛІТВА ПЕРАД НАРОДЗІНАМІ**

Я шчэ не народжаны. О, пачуй мяне.
Абы толькі нетапыр ці шчур, ці гарнастай, ці
касалапы вампір абмінулі мяне.

Я шчэ не народжаны, ахіні мяне.
Я баюся, што ра́са людзей можа за мурам высокім замураваць
мяне, моцнымі каламі скалоць мяне, мудрай ілжою запудрыць мяне,
на чорнай дыбе здубасіць мяне, у ваннах крывавых скупаць
мяне.

Я шчэ не народжаны; адшукай для мяне
ваду — каб лашчыла мяне, траву — каб расла для мяне, дрэвы —
каб мовілі да мяне, неба — каб спявала мне; белым святлом
у глыбінях свядомасці вядзі мяне.

Я шчэ не народжаны; даруй мне
Грахі, якіх мною наробіць свет, словы мае,
калі вымавяць мяне, думкі мае, калі памысляць мяне,
здраду маю, вынашаную здрайцамі па-за мною,
жыццё маё, калі перапыняць яго маёй жа
рукой, смерць маю, калі пражывуць мяне.

Я шчэ не народжаны; пакажыце мне,
каго я мушу сыграць і навучыце, што мушу сказаць, калі
старыя будуць павучаць мяне, чыноўнікі — запалохваць мяне,
горы — хмурыцца на мяне, каханкі — смяяцца з мяне, белыя
хвалі будуць клікаць мяне да вар'яцтва, і пустэльня цягнуцьме
мяне да пагібелі, і жабрак адмовіцца
ад майго падарунка, і дзеці мае праклянуць мяне.

Я шчэ не народжаны. О, пачуй мяне.
Няхай бы толькі чалавек, каторы — скаціна, ці той, хто ўважае
сябе Богам,
абмінулі мяне.

Я шчэ не народжаны. О, напоўні мяне
моцаю супраць тых, хто можа замарозіць маю
чалавечнасць, ператварыць мяне ў бяздушны аўтамат,
зрабіць мяне вінцікам у механізме, рэччу
аднабокай, рэччу супраць тых,
хто можа падзяліць маю цэласць, насіць
мяне, бы смерч, туды-сюды,
сюды-туды,
нібы ваду, затрыманую ў руках,
якія могуць выліць мяне.

Абы толькі не рабілі з мяне камень,
абы толькі не вылілі мяне.
Інакш забі мяне.

*ВІСЛАВА ШЫМБОРСКА*
*(1923)*

**МУЗЕЙ**

Ёсць талеркі, але няма апетыту.
Ёсць пярсцёнкі на заручыны, але няма ўзаемнасці
Як мінімум трыста гадоў.

Ёсць веер — дзе румянак?
Ёсць мячы — дзе гнеў?
І лютня ані брынкне а шарай гадзіне.

З-за недахопу вечнасці тут нагрувашчана
Дзесяць тысячаў старых рэчаў.
Заімшэлы рамізнік дрэмле салодка,
Звесіўшы вусы над кашуляй.

Металы, гліна, пёрка птаха
Ціхенька трыумфуюць у часе.
Хіхікае толькі шпілька аднекуль з Егіпта.

Карона ператрывала галаву.
Прайграла рукавіцы далонь.
Правы бот атрымаў перамогу над нагой.

Што да мяне, дык жыву, паверце.
Маё спаборніцтва з сукенкай цягнецца дагэтуль.
І якая ж яна ўпартая!
Як бы яна хацела мяне перажыць!

## ПЕРШЫ ФОТАЗДЫМАК ГІТЛЕРА

А што гэта за немаўлятка ў паўзунках?
Дык гэта ж Адольфік, сын пана й пані Гітлераў!
Можа, стане доктарам права?
Альбо будзе тэнарам у венскай оперы?
А чыя гэта ручка, чые вочка, вушка, носік?
Чый жывоцік, поўны малака? Яшчэ невядома —
друкара, службоўца, гандляра, ксяндза?
А куды гэтыя смешныя ножкі зойдуць, куды?
Да садка, школы, кабінета, да шлюбу
мо з дачкою бурмістра?

Дзіцятка, анёлік, сынулька...
Калі год назад з'яўляўся на свет,
не было недахопу ў знаках на небе й зямлі —
вясновае сонца, герань у вокнах,
на падворку круціць катрынку музыка,
шчаслівае прадказанне на ружовай паперцы,
тут жа перад родамі прарочы сон маці:
голуба ўбачыць у сне — радасная навіна,
злавіць яго — госць з'явіцца доўгачаканы.
Тук, тук, хто там? Гэта стукае сэрца Адольфіка.

Дунда, пялюшка, сліняўчык, бразготка,
хлопчык, хвала Богу, здаровы,
падобны да бацькоў, да коціка ў кошыку,
да дзетак з іншых радзінных альбомаў.
Ну, не будзем жа мы зараз плакаць —
пан фатограф пад чорнай раднінай зробіць пстрык.

Атэлье Клінгер, Грабэнштрасэ мястэчка Браўнаў,
а Браўнаў — гэта невялічкае, але вартае места.
Салідныя фірмы, пачцівыя суседзі,
смурод рашчыннага цеста і старога мыла.

Не чуваць скавыту сабак і крокаў лёсу.
Настаўнік гісторыі папраўляе каўнерык
і пазяхае над сшыткамі.

*ДЭРЭК УОЛКАТ*
*(1930)*

**ЗМЯЯ**

За гэтым порыстым чэрапам, халодным, бы зорка,
ніжэй перапончатых жылак дрэмле змяя.
Кварцавыя вочы ўспыхваюць на ўцяжэлай галоўцы.

Спакойная, нібы зло, увасобленая загана,
кіраваная самаспакушвальным шыпеннем,
істота без рук,
яна запаўзае на

шырокую расколіну з перакінутым мастком часу,
рымуючы ўсё дарэшты падвоеным языком:
выбрык, яблык, дыханне, і ты, падвойны дурань, — падыходзіш
да каралавага аракула, каб пачуць, як некалі выгукаліся
жарсць і мудрасць скурчаным болем Богам,
які адыходзіў, уджалены, прэч.

## ВАЛЬЖЫНА МОРТ

**(1981, Менск)**

Сапраўднае прозвішча — Мартынава. Што і казаць, псеўданім сабе ўзяла не самы жыццярадасны (mort у перакладзе з французскай — мёртвая). Студэнткай ангельскага факультэта Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта брала ўдзел у «трансавангардным» руху «Бум-Бам-Літ», пазней уваходзіла ў літсуполку «Schmerzwerk». Удзельнічала ў міжнародных паэтычных сустрэчах у ЗША, атрымала прэмію на фестывалі ў Славеніі «Віленіца — 2004». Адна з аўтараў нямецка-беларускай анталогіі «Лінія фронту» (2003). Выдала зборнік паэзіі, прозы і перакладаў «Я тоненькая як твае вейкі». Па апошніх звестках перабралася на сталае жыхарства ў ЗША.

*МІРОН БЕЛАШЭЎСКІ*
*(1922—1983)*

**КАРУСЕЛЬ З МАДОННАМІ**

Сядайце мадонны
 ...мадонны
ў рыдван шасціконны
 ...іконны
вісяць капыты над зямлёю
і коні ўжо спяць на пастоі
размаляваны рыдваны
ў трохкаляровай гаме

тры масці на конскім полі
ад морквы
ад дубу
ад столі
штуршок — і мадонны
ў рыдванах конных
бягуць на захад
круціць колы
грамафонны
запіс
такі запіс
і круцяцца фрызуры грыў
і сёдлаў лямбрэкіны
узор вітальны запаліў
квяцістыя тканіны
ў рыдване кожным tête-à-tête
па дзве святыя маці
і зноў і зноў адзін дуэт
мадонны без дзіцяці
белы конь
        з рыдванам
чорны конь
        з рыдванам
гнеды конь
        з рыдванам
нір-вана!
Ва ўсмешках Леанарда
ў паставах Рафаэля
сядзяць яны — пагарда
ў прадмесцях і нядзелях

ў рыдване кожным vis a vis
мадонна і мадонна
й няведама якая спіць
якая мчыць натхнёна
шасцёркаю конна
мадонна
шасцёркаю конна
мадонна
шасцёркаю конна
мадонна
кола
        замкнёна!
Спыняюць кружэлку
сваю каруселі
й пэры
        фе
                ерычна-шыкоўныя
мадонны прадмесцяў
мяняюць
повысі конныя

Сядайце, шаноўныя!..

*ЛЕАНАРД КОЭН*
*(1934)*

## КАХАНКІ

пасля пагрому
яны сустрэліся на пахаванні
і старгаваліся: ён —
вершы, яна — каханне

ён цалаваў яе за
крок ад распаленай печы
ёй выбілі залаты
зуб і агалілі плечы

і нават калі агонь
падняўся вышэй за вочы
ён усё яшчэ цалаваў
попел грудзей дзявочых

потым ён падлічыў
што іхні абмен без мэты
яго пакінуў з нічым
і рацыю меў у гэтым

*РАФАЛ ВАЯЧАК*
*(1945–1971)*

* * *

ёсць фігурка злепленая з хлеба
чорнага нібы тваё ўлонне
ёй імя тваё пакінуць трэба
каб ізноў быць мне ў яго палоне.

з мякішу зляпіў я стан знаёмы
кончыкам запалкі пуп пазначыў
выставіў яе на падваконне
за якім святло калісьці бачыў.

зараз сохне там і мне не пуста
слінай заляпіў рубец пад грудкай
так і сам на нейчых цёплых вуснах
чорнаю зямлёй рыпецьму хутка.

## ЖАНОЦКАСЦЬ

Быць мужчынам — значыць біць жанчыну.
Цалкам згодная й твар падстаўляю.

Пільна слухаю, як клянеш маю маці,
але крыўдаваць не бачу ніякай прычыны.

Ніколі не скажу табе слова супраць,
хоць мяне ты й лаеш увесь час са злосцю.

Для цябе распранаюся — ты смяешся.
Слушна — грудзі малыя, скура ды косці.

Сама смяюся й табе дазваляю.
Ці ёсць што агіднейшае за мае шнары?

Не пытаю, ці вернешся ты дадому.
Калі вяртаешся, дзе ты быў, не пытаю.

Дзівішся, калі кажу, што кахаю,
Бо кахаць цябе — быць дачасна ўдавою.

*ІВАН АНДРУСЯК*
*(1968)*

## РУЖА ДЛЯ ПІНАЧЭТА

я не дарос да размоваў пра плаху
соры азёры што праляцелі
пане дыктатару восень-дзяваха
добра душу адгрызае ад цела

кроплю дыктуе — родзяцца злівы
крону дыктуе — віецца барока
курва народ наш бязмежна шчаслівы
ў парнакапытнай торбе прарока

мабыць у нейкім цёмным правансе
кулю зляпіць нам могуць па трое
мы ж перанеслі стрэсы і трансы
ўсе мы паскуды ўсе мы героі

крочыць па свеце ў масцы казачай
можна хіба што праз забарону
пане дыктатару восень не плача
восень за пазухай мае карону

лузгае семя плодзіць бацылы
лаецца ямбам на хуткую сцюжу
я не прынёс табе славы і сілы
толькі маленькую жоўтую ружу

хай табе будзе горш перад ёю
гордых жанчын у зімовым палацы
вечнай ідэі вучыць прапіснае
разам з цяжкою мілоснаю працай

а калі холад ляжа на грудзі
ў нетрах законаў бы ў залежах гліны
знойдуцца коні знойдуцца людзі
толькі зляпіць іх ці хопіць нам сліны

## АРЦЁМ АРАШОНАК

**(1981, Віцебск)**

З перакладамі студэнта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта Арцёма Арашонка я пазнаёміўся на літаратурным конкурсе, прысвечаным 700-годдзю з дня нараджэння Петраркі, які праводзіўся Беларускім ПЭН-цэнтрам. Хоку аўстрыйскай паэткі Імы Бадэрсгоф і «Сідхартха» Германа Гесэ не вельмі каб упісваліся ў конкурсныя ўмовы, але зацікавілі сяброў журы. Арцём адгукнуўся, даслаў яшчэ японцаў і — трапіў у «Галасы з-за небакраю». Ён неаднойчы падарожнічаў па Нямеччыне, перакладае пераважна аўстрыйскіх і нямецкіх паэтаў і празаікаў (апрача згаданых — Эрыха Фрыда, Рэмарка, Бёля, Кафку). Змешчаныя ў падборцы варыяцыі чуваша Г. Айгі на фальклорныя тэмы народаў Паволжа перакладзеныя Арашонкам у суаўтарстве з магілёўцам Дз. Дзмітрыевым.

*ЯМАСАКІ САКАН*
*(1465—1533)*

* * *

Калі прыладзіць
Ручку да поўні, атрымаеш
Зіхоткі веер.

*АРАКІДА МАРЫТАКЕ*
*(1473—1549)*

* * *

Пажухлае лісце
Ляціць назад да галін?
Ах! Гэта матылькі!

*ЭНАМОТА КІКАКУ*
*(1661—1707)*

* * *

Палёўкі пішчаць.
Бялізна на вуліцы —
Шаты аблокаў.

*АНІЦУРА*
*(1661—1738)*

* * *

Ну і лівень!
Не ўсё паспелі схаваць людзі.
Нават галовы.

*МУЦУХІТА*
*(1852—1912)*

* * *

Пад поўняй штораз,
Калі адліву часіна,
Зззяе срэбрам пясок.

*ІМА БАДЭРСГОФ*
*(1895—1982)*

**ТРОХРАДКОЎІ**

ВЯСНА

У суквеццях цёрну
Спачывае трапяткі матылёк —
О, светлая хатка.

*

Белым бэзам
Зіхаціць крыніца — нават
У вадзе яе водар.

*

Святло месяца
На сонечным гадзінніку.
Які спрэчны час!

ЛЕТА

Якім упэўненым
Стаў ты ў ветразі,
Няўпэўнены вецер.

*

Два матылькі кружаць
Высока-высока ў блакіце:
Ці ёсць там нектар?

*

На гарадскім гадзінніку
Ластаўкі звілі гняздо...
Час пачакае.

*

На сажалцы ціхай
Кругі — там уздымае нячутна
Сваю галаву вужака.

ВОСЕНЬ

Вецер з мора,
Скажы, ці адчуваеш
Соль на вуснах?

*

Сустрэўся ястраб.
Сумныя вочы —
Сабраўся ляцець прэч.

ЗІМА

Возера не замярзае
Пад ударамі крылаў
Дзікіх качак.

*

Бура зблытала
Званы. Ці можна пачуць з гары
Хоць адзін?

*

Гняздо салоўкі
Шукала вясною — сёння
Знайшла на голым галлі.

*ГЕНАДЗЬ АЙГІ*
*(1934)*

**ПАКЛОН – СПЕВУ**
*Варыяцыі на тэмы народных спеваў Паволжа*

*...Скончыўшы, яны глядзелі на мяне,*
*захопленыя сваім спевам.*
*М. Гарын-Міхайлоўскі*

Ах, залацістыя мы ды пунсовыя!
Прыехаў пры святле ліста кляновага,
ад'язджаю
пры святле пшанічнага ржышча.

*

Матуля да гасцей мяне адпусціла
каб я гайдалася,
нібы ахвярны кацёл над вогнішчам
у спевах — перад вамі.

*

Ніхто, нічога, ні аб чым —
гэтак і праходзіць мой век.
Вада цячэ — ніхто не пытае:
«Як ты цячэш?»

*

Матуля, на прыполе тваім
сляды — ад падскоквання
дзіцячых ножак маіх.
Дай тварыкам дакрануся.

*

Шоргат бярозы — як шэпт «бывай»,
а над ёю
стрыж самотны —
нібы нажніцы ў руках каханай.

## НАТАЛЛЯ ЛАМЕКА

**(1981, Менск)**

З сям'і універсітэцкага выкладчыка-мовазнаўцы, які пазней перайшоў на дзяржаўную службу. У 2003 г. закончыла рамана-германскае аддзяленне філфака БДУ. Цяпер — аспірантка кафедры замежнай літаратуры, даследуе сярэднявечную і новую ангельскую паэзію (Дж. Мілтан, Дж. Джойс), пераклала некалькі частак мілтанаўскай эпічнай паэмы «Згублены рай», увогуле неабыякавая да старой ангельскай класікі.

*ДЖОН ДОН*
*(1572–1631)*

* * *

Не ганарыся, Смерць, калі цябе
Магутнай клічуць — то хлусні трызвон.
Той, хто патрапіў да цябе ў палон,
Не гіне, Смерць, не знішчыш і мяне.
Ці ж шчасце у спакоі, моцным сне,
Паплечніках, што твой вартуюць трон?
А цела знойдзе, калі прыйдзе сон,
Спачын і ціш, тлен душу абміне.
Рабыня лёсу, роспачных цароў,
Жывеш атрутай, немаччу, вайной,
Каханне й опіум сваёй парой
Часцей прыносяць мроі светлых сноў.
Імгненне і — у вечнасць адыдзеш,
Не будзе смерці больш, Смерць, ты памрэш.

*ДЖОН МІЛТАН*
*(1608–1674)*

**СТРАЧАНЫ РАЙ**
Кніга III
*Фрагмент*

Святло святое! Першынец Нябёс!
Хвала табе! Ці ж вольны я назваць
Цябе сугучна Госпаду? Пан Бог —

Святло недасягальнае адвеку —
Ўвасобіўся ў табе, першабыцця
Нерукатворнага струмень агністы!
Плынь незямная лёгкага эфіру,
Хто скажа, дзе выток твой? Шмат раней,
Чым Сонца, Неба, ты свяціла; Боскі
Пачуўшы Голас, узняло Сусвет
З глыбінь падводных, рызай ахінула,
У Бездані пустой адваяваўшы.
Пазбегнуць здолеў Стыкса я віры
І зноў цябе акрылены спазнаў
Пасля вандроўкі ў невыноснай цемры.
І адрадзіўся я праз чорны змрок,
На іншы, чым Арфей, спяваю лад
Пра скруху вечнай ночы і Хаос.
Кіруе Муза ў бездань позірк мой —
І зноў да вышыні; нялёгкі шлях,
Але яго адолеў я, агонь
Ад каганца вышэйшага адчуў.
Ды не запаліць ён вачэй маіх,
Якія золку гэтак марна прагнуць.
Згасіла іх вада, туман ахутаў
Да скону дзён збалелыя павекі.
Але ў краіну Муз я не спыню
Вандроўку, дзе вясной ад спеваў ззяюць
Бары, лясы, узгоркі ў промнях сонца.
Найпершае ж паломніцтва — ў Сіён,
Да ручаёў святых у моры красак;
У сне я бачу гэта царства, часам
Згадаю двух, з кім падзяліў свой лёс:
Сляпога Тамірыса, Меаніда, —
Ці здолею спазнаць такую ж славу?
Цірэсія, Фінея — невідушчых
Прарокаў прыгадаю. І, як птушка,
Што не спыняе дзіўны пераліў
Чароўных спеваў нават цёмнай ноччу,
Мой вольны дух тады апець імкнецца
Гармонію Сусвету. З цягам часу
Вяртаюцца сезоны, да мяне ж
Ніколі дзень не вернецца; не ўбачу
Крыніц вясновых, гожых летніх ружаў,
Жывёл у полі, чалавечы твар,
Бо хмара цемры, чарната пустая
Жыццё людзей схавалі ад мяне;
І Кніга, што Прыроды таямніцы
Ў сабе хавае, назаўжды закрыта,
Пісьмёны яе сцёрты, і ўваход
Ў храм Мудрасці я ўжо не адшукаю.
Дык прасвятлі ж душу, Святло Нябёс!
Рассей туман, каб змог убачыць я
І расказаць аб тым, чаго смяротны
Ні ўбачыць, ні спазнаць, на жаль, не здольны.

*ДЖЭЙМС ДЖОЙС*
*(1882–1941)*

* * *

Змярканне — пекны аметыст —
Сінее ўсё глыбей;
Пад зелянкавым ліхтаром —
Дрыготкі цень алей.

Раяля мяккі спеў плыве —
Празрысты гукаў строй;
Яна над клавіш жаўцізной
Схіляе позірк свой.

Вачэй таемнасць, песня рук,
Нясмеласць думак, слоў;
Праз сінь змяркання — аметыст
У россыпе агнёў.

*ГАНС АРП*
*(1887–1966)*

* * *

Ці ведае яшчэ нехта,
дзе вышыня і дзе бездань?
Ці ведае яшчэ нехта,
што цемень і што святло?
Меншае на зямлі летуценных.
Радзей чаргаванне дня і ночы.
Прылашчы фіялкавы полаг
пад балдахінам аблокаў.
Кіруйся за ўнутранай зоркай,
святых начэй першазернем
і спевам бязгучным іх мары.

## ВОЛЬГА ГАПЕЕВА

**(1982, Менск)**

Выпускніца ангельскага факультэта Лінгвістычнага універсітэта. Удзельніца літаратурнай суполкі «Schmerzwerk», дзе, па словах яе ідэйнага натхняльніка Ю. Барысевіча, сабраліся творцы, якія «менш зважаюць на класічныя традыцыі, не прыстасоўваюць свае творы да патрэбаў школьных падручнікаў, не назаляюць чытачам заклікамі любіць радзіму больш, чым танцы і футбол». Хочацца спадзявацца, што працытаваны маніфест — твор з серыі «выклікаю агонь на сябе», як і большасць ім падобных, а не кіраўніцтва да дзеяння. Вельмі ж сімпатычныя людзі сабраліся ў тым «Schmerzwerk'у». У бібліятэчцы суполкі Вольга выдала сваю першую кнігу «Рэканструкцыя неба» (2003).

*ДЫЛАН ТОМАС*
*(1914—1953)*

## ІХ ТВАРЫ ЗЗЯЛІ СВЯТЛОМ

Іх твары ззялі святлом
ад мігатлівага ліхтара і поўні,
што напаўняла пустыя пацалункі сэнсам,
ператварала выспу таннага кахання
ў краіну цудаў, а могілкі непадалёк —
у калодзеж цеплыні.
(Шкілеты абрасталі скурай.) Хвіліну
твары іх свяціліся. Спічасты дождж
вагаўся ў начным паветры,
пакуль не ссунулася поўня і не выцекла кроў.
Яна, у простай сукенцы, казала глупствы,
і ён адказваў нешта.
Святло з'явілася і знікла.
Яны ж і не падумалі пра гэта,
і зноўку крочаць самагубцы, цяпер саспелыя для смерці.

## ПЕСНЯ

Кахай мяне не як медсёстры
Сухотны подых мой і не як востры
Кіпарыс цнатлівую кахае гліну
Кахай мяне і твар адкрый

Кахай не як нябесныя паненкі
Ветру дотык не як марскія дзеўкі
Салёных палюбоўнікаў сваіх
Кахай мяне і твар адкрый

Кахай але не так як кірляў легіён
Марскую хвалю або — ён
Кудлаты голуб — дрэваў верхавіны
Кахай мяне і твар адкрый

Кахай мяне як крот сваю цямніцу
І як алень пужлівую тыгрыцу
Вусціш і нянавісць вось тваё каханне
Кахай мяне і твар адкрый

*ГЮНТЭР ГРАС*
*(1927)*

## ПА РАСКЛАДЗЕ

На ніжэйшым паверсе
маладая жанчына
кожныя паўгадзіны
лупцуе сваё дзіця.

Таму
гадзіннік свой я прадаў,
пра час дакладна даведваюся
па строгай руцэ,
што пада мной,
падлічаныя цыгарэты
побач;
час мой размеркаваны.

*ЯН К. ФАЛЬК*
*(1978)*

* * *

Зашпілены на ўсе гузікі вечар
збягае праз залю начную
проста ў нішто

Паспрабуйце яго затрымаць —
няўпэўненая рука
ледзь кранала яго

Змрок упарціцца
валадарыць

І на пальцах маіх
застаецца захад сонца
святла хопіць
на тысячу дзён

*УЛЯНА ВОЛЬФ*
*(1979)*

**ПЕРАКЛАДКА**

мой сябра: гэта
нашае калдобістае каханне
нашыя памежныя зносіны
выбоіны пад языкамі

шчыра за хлеб наш повшэдні дзенькуем
а зараз лашчы мяне
на гэтай штэмпельнай падушцы
неўзабаве мытня

мой сябра: а можа
правязем усё кантрабандай
смакавыя рэцэптэры
gazetu wyborczu і

манеткі манеткі
здагадаецца хто
пра напханы напоўніцу рот
у гадзіны пік

## МАРЫЯ МАРТЫСЕВІЧ

**(1982, Менск)**

Закончыла філфак БДУ (2004). Паралельна з універсітэтам навучалася ў Беларускім калегіуме (аддзяленне літаратуры і філасофіі). Тамсама наведвала перакладчыцкую майстэрню, якою ахвотна і плённа кіруе адзін з аўтараў гэтай анталогіі А. Хадановіч. У 2002—2003 гг. удзельнічала ў семінарах «Translatorium» Міжнароднай гуманітарнай школы ў Варшаве. Сталая аўтарка часопіса «Студэнцкая думка», адна з рэдактарак філасофска-культуралагічнага квартальніка «Паміж». Збіраючы «ззанебакрайныя галасы», складальнік звярнуўся па звесткі да перакладчыцы і неўзабаве атрымаў ад сп-ні Мартысевіч ліст, які варта працытаваць: «Пераклад для мяне — узаконены плагіят, магчымасць падпісаць упадабаныя думкі, вобразы сваім імем. Кожны адужаны верш адымае шмат сілаў — не пішу сваіх вершаў, але падазраю, што аўтары арыгінальных твораў не мучыліся так, як я». Перакладае Мартысевіч з ангельскай, польскай, украінскай, расейскай, чэшскай, прычым з пазнакай — «пакуль». Значыць, прыглядаецца і да іншых моваў? Спрыяй ёй Божа, нам так бракуе паліглотаў, асабліва таленавітых.

*БАЛЯСЛАЎ ЛЕСЬМЯН*
*(1877—1937)*

### ЖАБРАЦКАЯ БАЛАДА

Стукаў-грукаў дзядуля па зямлі дзеравякай —
Жабраком аднаногім быў стары небарака.

Йшоў каротка ці доўга — ды прыспеты быў стомай,
Стаў ён задам да лесу ля рачулкі над стромай.

Мутным вокам старэчым ён глядзеў счаравана
На вірлівую плыню — ой да-дана, да-дана!

З глыбіні вынырала дзеўчанё-вадзяніца —
І вадой яму ў бельмы, бараду й нагавіцы.

Аж скрывіўся дзядуля — а нячыстая сіла
Звонкім смехам смяшыла, горкім смуткам смуціла.

Ў дзеда ўперыла вочы — два зялёныя споды,
Абдымала за ногі — спакушала, няўрода!

Цалавала юрліва, цалавала аддана
Дрэва мыліцы сцертай — ой да-дана, да-дана!

Пырскаў смехам дзядуля ў карак здані схілёнай,
Ледзь не ўпрысядкі йшоў па травіцы зялёнай.

Таньчыў ён рукі ў бокі, гучна цмокалі губы —
Аж трапляў дзеравякай у жамчужныя зубы!

«Што ж ты песціш-цалуеш толькі зломак палена?
Што ж ты дзеда шануеш не вышэй ад калена?

Мусіць, ногі — парогі для чарцінага племя,
Ты, здыхліна рачная, ты, лядачае семя!

Што ж ты мёртвае дрэва спакушаеш упарта?
Ой да-дана, да-дана — смеху гэта ўсё варта!»

Валассём вадзяніца акруціла — і ў нюні:
«Ходзь са мною дзядочку, дзедзю, дзедку, дзядуню!

Я цябе сагравала б на каралавай печцы,
Я цябе харчавала б жвірам, лепшым у рэчцы.

У маім у палацы адпачнеш самавіта,
Маіх палкіх цалункаў будзеш піць акавіту!»

Так сказала — й за торбу за жабрачую цягне
Да віроў да бяздонных, да загубнае багны.

Не паспеў пажагнацца — хвалі дзеда глынулі,
Больш на белым на свеце пра яго ані чулі.

Забурлілі струмені — й зноўку сталася ціха,
Бараду, плеш і торбу знесла воднае ліха!

Толькі мыліца тая — сцерты зломак драўляны —
Не скарылася хвалям — ой да-дана, да-дана!

Усплыла ўжо нічыйнай — вольнаю ад галечы,
Уцякла ад калецтва і ад торбы старэчай!

Мыла мыліцу хваля і гайдала на плёсах,
Нібы трэску фрэгата, што пазбыўся матросаў!

Стала таньчыць вясёла на сваім люстраванні,
Да жыцця, да свабоды мкнула ў сонечным ззянні!

У рухавых падскоках закульгала праз хвалі
Ой да-дана, да-дана — ў тагасветныя далі!

*ІРЖЫ КОЛАРЖ*
*(1914)*

**ВЕЧАР**

Дыбяцца вокны
За вячэры ўсядаецца вечар
Лямпы цвітуць
І танчаць у голых сценах
Музыка мкне ўздоўж дамоў
Зорны дождж ападае на рэчку

Закаханая пара
Накупіўшы сардэлек
Чаргуе цалункі з жаваннем
І шыбуе на Карлаву плошчу
Феі звесіўшыся праз парэнчы
Плююць на воднае люстра
І лічаць пакуль даляціць

## СТАРЫ

ляжыць нібы зломак дрэва
невыразны ў зялёнай і вогкай
плесні пярыны
Толькі часам рука
нібы ранены птах
падляціць да скарэлых вуснаў
набярэ харкаты й
упадзе
Сцякае цяжкая сліна
«Маржэнка, згані з мяне мухі!»
Бак з бялізнай займае ўсю плітку
і копціць счарнелую столь
Ночвы пасярод хаты
на падлозе
дзіцё
клеіць слінаю голаў драўлянаму коніку

*СТАНІСЛАЎ ГРАХОВЯК*
*(1934—1976)*

## СВЯТЫ СЫМОН СЛУПНІК

Даў Бог яму слуп —
На кон.
Там быў яму дом
І скон.

А людзі хлапца катавалі на вісельні,
Пяньковай рукой яму горла заціснулі.
Даў Бог яму шлях —
На смерць.

Даў Бог яму слуп —
Трывай!
І Богу хвалу
Спявай!

А людзі ў праклёнах дзяўчо гвалтавалі
Ёй рукі апальвалі, косы ірвалі.
Даў Бог ёй красу —
На бруд.

Даў Бог яму слуп —
На кон.
Там быў яму дом
І скон.

А людзі за мною да збройнага чыну
Ідуць, а вакол пашчы зграі ваўчынай.
Даў Бог мне мой верш —
На бунт.

*ІОСІФ БРОДСКІ*
*(1940–1995)*

## 24 СНЕЖНЯ 1971 Г.

*V. S.*

У Раство, хоць не ўзносім хвалы,
ўсе мы трохі біблійныя магі:
дзеля каўнай бляшанкі халвы
у аблозе трымае прадмагі
плоймай скруткаў нагружаны люд —
кожны сам сабе цар і вярблюд.

Сумкі, скруткі, авоські, кулькі,
і гамонка не знае ўгамону;
водар елкі, гарэлкі, траскі,
мандарынаў, хурмы, цынамону;
ды шукаць паміж трактаў дарма
Бетлеемскі, і зоркі няма.

І нашэннікаў сціплых дароў
перапоўнены транспарт хістае
і выплёўвае ў зеўры двароў,
хоць вядома: пячора пустая —
ні жывёлы, ні ясляў, ні Той,
што ў кароне святла залатой.

Пустата. Ды ўспамін пра яе —
як святло, што ліецца знікуды.
Знаў бы Ірад: чым больш ён злуе,
тым няўхільней калядныя цуды.
Непарыўнасць сяўбы і жніва —
падставовая схема Раства.

Цуд бліжэе, і ўсюды жыве,
і яднае ў святое застолле
ўсе сталы. Не патрэба ў Растве
хай яшчэ, але добрая воля
ў чалавеках відаць праз грахі.
І не спяць ля агню пастухі.

Валіць снег. Аж расце да гаўбцоў.
Трубы-коміны трубяць дачасна.
Ірад п'е. Бабы туляць мальцоў.
Хто прыйсціме — нікому не ясна.
Мы не ведаем часу й прыкмет.
Ці ж паверыць у прыхадня свет?

Ды калі на дзвярным скавышы
яна выйдзе з туману густога,
у хусціне, нібы на імшы, —
і Дзіцяці, і Духу Святога
пазнаеш у сабе хараство.
Бачыш зорку і кажаш: Раство.

*ЯХІМ ТОПАЛ*
*(1962)*

**«ЗАРАЗ ХАДЗЕЦЕ З МІРАМ» —**

мовіў гэты ў сутане згары натоўпу
каляднага люду.
Я цяпер магу бачыць цябе кожнае ночы.
Словы «Свабода альбо смерць»
выдумаў я. Гэта сёстры.
Калі да мяне па сходах сышоў Дух Святы,
у мяне акурат была сутарга
ўнізе вантробаў.
Мяне рэальна прабіла
браце
жыццё.
Гэй — я кажу гэта
і жыццё маё альфабэт. Я адно
прадукую слоўную масу,
ужо толькі тое, што скажуць мне клеткі.
Адпрасаваны мозг.
Мая мафія.
Я казаў: «Свабода альбо Смерць».
Я хацеў і шукаў іх. Цяпер я ведаю: гэта сёстры.
Я сплю з імі. У адным доме. У маленькай такой
каморцы.

*ВІКТАР НЕБАРАК*
*(1961)*

**МАНАЛОГ НА ЗАКАНЧЭННЕ ЖЫЦЦЯ САБАЧАГА**

Цела нябожчыка знайшлі ў рове
пасярод падворка павешаным на
ланцугу й закапалі за гародам.

Джульбарс павесіўся — самагубца-пёс!
Душу Джульбарса пагоняць з нябёс.
Яму там скажуць: «Шыбенік, кыш!»
Яму там умажуць між рэбраў і між...

Джульбарс павесіўся позна ўначы.
Проста шоў начное — краты-гледачы,
і ўздыханні, і заляцанні,
і ўзвыванні, і ўзляганні,

Джульбарс павесіўся! Чуеце? — вы!
Што вы чытаеце? «Лісце травы»?
Маркес і Борхес? «І цзін», несумненна?
Джульбарс павесіўся! Вось перамена!

Ты завешся паэтам,
а ён — сабакам.
Цябе верш грызе,
а яго ланцуг.
Зробішся ты прафесійным пісакам,
а Джульбарс выбраў не мяса, а дух!

Колькі можна брахаць ля хаты?
Колькі можна чакаць зарплаты?
Колькі можна зады вашы дзерці?
Вечна?
Да смерці!
Што за прафесія шызафрэнічная —
ў коз і курэй быць за вартаўніка
і пасылаць іх да мясніка?

Нябёсы й зямлю асвятляе краса
Сузор'я Пса!

## МАРЫЯ КАЗЛОЎСКАЯ

**(1982, Менск)**

Адукацыя — філфак БДУ. Перакладае з ангельскай і польскай (Мілтан, Уайльд, Ружэвіч, Герберт), прычым вылучна для сябе, але на публікацыю ў «Галасах з-за небакраю» згадзілася без лішніх роспытаў.

*УІЛЬЯМ ШЭКСПІР*
*(1564–1616)*

### САНЕТ 29

Калі ў разладзе з лёсам і людзьмі
Самотна я аплакваю выгнанне,
Малюся небу марнымі слязьмі
І праклінаю долю-канаванне;

Калі я прагну кімсьці іншым стаць,
Багатым і надзеяй, і сябрамі,
І талентам чужым хачу заззяць,
Валодаць каб каштоўнымі дарамі, —

Сябе няслаўлю мараю такой,
Ды пра цябе раптоўна ўспамінаю —
І, як жаўрук над змрочнаю зямлёй,
Світанню гімн у небе я спяваю.

Тваё каханне, любая мая,
Я не змяню й на ўладу караля.

## САНЕТ 117

Мяне ты за няпомнасць упікай:
Забыўся я на аддарунак варты
І занядбаў майго кахання край,
Хоць знітаваны з ім любоснай вартай.

І з чужаніцамі я бавіў час,
Які табе напоўніцу належаў,
І даручаў я ветразь свой не раз
Вятрам, што дзьмулі прэч ад родных межаў.

Усе мае памылкі занатуй,
Дадай да іх і доказы сваволі,
Нянавісцю акрутнай не катуй,
Не забівай — і гневання даволі.

Мае злачынствы маюць апраўданне:
Я спраўдзіў сіламоц твайго кахання.

*ТАДЭВУШ РУЖЭВІЧ*
*(1921)*

## НІШТО Ў ПЛАШЧЫ ПРАСПЕРА

Калібан нявольнік
навучаны людской мове
чакае

з пысай у гнаі
з нагамі ў раі
абнюхвае чалавека
чакае

нішто падыходзіць
нішто ў плашчы чарадзейным

Праспера
нішто з вуліц і вуснаў
з амбона і вежаў
нішто з рэпрадуктараў
кажа яму
пра нішто

нішто родзіць нішто
нішто выхоўвае нішто
нішто на нішто чакае
нішто пагражае
нішто асуджае
нішто літуе

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ЗМІЦЕР ЗАНЕЎСКІ

**(1982, Горадня)**

Выпускнік перакладчыцкага факультэта Менскага лінгвістычнага універсітэта. Няглядзячы на малады век, ужо не памятае, ці «праз мовы прыахвоціўся да паэзіі, ці паэзія як першапачатковая моўная стыхія выклікала цікавасць да моваў». Перакладам заняўся сур'ёзна — практычна і тэарэтычна, па паэтычных перакладах абараніў магістэрскую дысертацыю. Са шведскай пачаў перакладаць яшчэ студэнтам, стажаваўся ў Швецыі і да гэтай пары захоўвае вернасць шведскай паэзіі, на жаль, гэтак мала вядомай у Беларусі. Жыве З. Занеўскі ў Менску, працуе перакладчыкам.

*ФІЛІП ЛАРКІН*
*(1922–1985)*

### ВАДА

Каб веру ізноў
мне шанец прапаноўваў
стварыць, я б успомніў ваду.

Наведванне храму
было б як пераапрананне
ў новую сухую адзежу.

Імша ўключала б у сябе
вобразы адданага
шчырага аблівання.

А на ўсходзе б я ўзняў
шклянку з вадою,
бы светлы сабор,
дзе бясконца сыходзяцца
промні.

*УРБАН ТОРНХАМН*
*(1930)*

## БЫ ЦЁПЛЫ РУМЯНАК ШЧАКІ

Адкінь усе гэтыя сімвалы!
Мы адчуваем тое, што нябачна нікому.
Мы бачым тое, што не адчувае ніхто.
З тваіх таямніц
нараджаюся я.
З маіх таямніц
нараджаешся ты.
Таямніца ў тым, што адзін аднаму
мы непарыўна належым.

Бы цёплы румянак шчакі
належыць заўсёды свайму твару.

*СТЫГ ЛАРСАН*
*(1955)*

## БАГІ

Два багі сустрэліся — і здзівіліся,
бо кожны лічыўся адзіным.
І вось
стала двое адзіных. Вось стала двое
багоў.
Што ім рабіць? Яны разважаюць.
«Я — дэман таксама», — кажа адзін
амаль самазадаволена.
«А я — толькі бог», — адказвае другі.
«Тады мы маглі б разысціся», — думаюць абодва.
(Не пайсці ў розныя бакі, не,
а проста адысці адзін ад аднаго.)
Першы — вельмі добры, у памкненнях
і памылках. Другі —
добры не менш,
але з дэманічнай усмешкаю,
быццам прапаленай тоўстай цыгарай.
Ім не разысціся,
яны побач заўсёды.
Часам яны размаўляюць, але часцей
проста думаюць,
маўкліва думаюць.

# ГЛЕБ ЛАБАДЗЕНКА

**(1986, Менск)**

Ад нараджэння сталічны жыхар, але радзімаю лічыць вёску Бабовішчы на Случчыне, дзе штогод летуе ў бабулі. Вучыўся ў Нацыянальным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа. Друкуецца як журналіст, паэт, празаік. У газеце «Голас Радзімы» вёў рубрыку «Дэбют», якая служыла творчай пляцоўкай і трыбунай для літаратараў-пачаткоўцаў. Самы малады сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў, лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» — за найлепшы дэбют. Выдаў першы зборнік «Pager-вершы». «Глеб ходзіць на апазіцыйныя мітынгі, піша пра іх у недзяржаўных газетах... Ён чытае вершы, заўважна прымружваючы вочы, быццам адгароджваючыся вейкамі ад свету, дзе дубінка ў руках амапаўца мацней за самую выкшталцоную рыфму», — пісаў пра Лабадзенку на старонках «Gazety wyborczej» А. Фядута. Перакладае Глеб з польскай, украінскай, расейскай. Камунікабельны і энергічны, якім і належыць быць беларускаму літаратару XXI ст.

*ІГАР РЫМАРУК*
*(1958)*

* * *

Так дыхаюць лясы — амаль што нелегальна,
там рэха дыхае ды свежай ільняной
кашуляй кожны рух і мускул аблягае, —
так аляня бяжыць нацешыцца вадой...
Паўкроку ад гурмы — і мы ў высокай браме,
нас кліча вышыня, і, пэўна, нездарма
агеньчык мігаціць у той ваконнай раме,
на стадыёне — ноч, другіх істот няма.
Ды з местам, што ніжэй, мы гутарым на роўных,
прагнозаў і пагроз я зноўку недачуў,
а чуў, як у равах наводдаль ад перонаў
пракашліваўся хісткі цень дажджу.
Ужо густы, як гук, ужо — ідзе залевай,
каб смочкі праявіць праз мокрыя шматкі,
прынесці сутнасць ню: і алфавіт, і дрэвы,
стварэнні не з рукі, тварэнні і вякі.
Ён змые ўсе радкі — ён не пакіне броду
і колішняму мне, што ў лесе слова пас...
Ён крыкне нам — глухім ад лета і свабоды:
напіцеся дажджу! напіцеся ў запас!..
Глядзяцца так лясы ў нямыя прорвы просек,
і на бар'ерах брамаў рэха рве настрой,
так — зноў, і зноў, і зноў — з пустэльных рук папросіць
малое аляня нацешыцца вадой.

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК

## ПАЭТЫ-ПЕРАКЛАДЧЫКІ

Л



М



Н



П



Р



С



Т



Ф



Х



Ц



Ч



Ш



Ю



Я

## ПАЭТЫ

Н



О



П

## Р



## С



## Т



## У

## ЗМЕСТ



---

* *Пазначаныя творы публікуюцца ў рэдакцыі складальніка.*

*Выдавецтва «Лімарыус» выказвае падзяку генеральнаму фундатару праекта*
сп. Уладзіміру Эдуардавічу Двоскіну.

*Складальнік удзячны за спрыянне пры падрыхтоўцы кнігі*
сп. Ганне Запартыцы,
сп. Еве Лявонавай,
сп. Аляксею Каўку,
сп. Міхасю Шавыркіну.

У кнізе выкарыстаныя фотаздымкі з фондаў Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, а таксама з прыватных збораў Сяргея Шапрана, Алега Гардзіенкі, Галіны Дубянецкай, Генадзя Жынкіна, Анатоля Каляды, Уладзіміра Крука, Сяргея Панізніка, Лідзіі Савік, Міхася Скоблы.

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГАЛАСЫ З-ЗА НЕБАКРАЮ**
Анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя

Складальнік **Скобла** Міхась Уладзіміравіч

Адказны за выпуск *М. У. Шыбко*
Мастацкае афармленне і макет *Г. І. Мацур*
Карэктар *М. М. Шавыркіна*

Падпісана ў друк 11.07.2008. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура Petersburg. Ум. друк. арк. 78,4. Ул.-выд. арк 60,1. Тыраж 1000 (1-ы завод 500) асобн. Заказ 1327.
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Лімарыус». Ліцэнзія ЛИ №02330/0056933 ад 30.04.2004.
220030, Мінск, вул. Стралковая, 14.
Надрукавана ў друкарні ТДА «НоваПрынт», 220047, г. Мінск, вул. Купрэвіча, 2.
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056647 ад 27.03.2004 г.

